АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МОВАЗНАЎСТВА ІМЯ ЯКУБА КОЛАСА

# СЛОЎНІК БЕЛАРУСКІХ ГАВОРАК ПАЎНОЧНА-ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ І ЯЕ ПАГРАНІЧЧА

У ПЯЦІ ТАМАХ

МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»

1984

АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МОВАЗНАЎСТВА ІМЯ ЯКУБА КОЛАСА

# СЛОЎНІК
# БЕЛАРУСКІХ ГАВОРАК ПАЎНОЧНА-ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ І ЯЕ ПАГРАНІЧЧА

ТОМ 4

П—С

МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»

1984

ББК 81.2 Бел-4
С48

Укладальнікі:
Ю. Ф. МАЦКЕВІЧ, А. І. ГРЫНАВЕЦКЕНЕ, Я. М. РАМАНОВІЧ,
А. І. ЧАБЯРУК, Ф. Д. КЛІМЧУК, В. Д. СТАРЫЧОНАК,
С. Г. ЛОБАЧ, П. А. МІХАЙЛАЎ, С. ГЛІНКА,
Я. ПЕТРУЧУК, Э. СМУЛКОВА, А. БАГРОЎСКА,
Т. ЯСІНСКА-СОХА, Я. ГЛУШКОЎСКА

Рэдакцыйная калегія:
Ю. Ф. МАЦКЕВІЧ, А. І. ГРЫНАВЕЦКЕНЕ, Я. М. РАМАНОВІЧ,
А. І. ЧАБЯРУК, Ф. Д. КЛІМЧУК

Рэдактар тома Ю. Ф. МАЦКЕВІЧ

**Слоўнік** беларускіх гаворак паўночна-заходняй
С 48 Беларусі і яе пагранічча: У 5-ці т. Т. 4. П—С / [Уклад. Ю. Ф. Мацкевіч, А. І. Грынавецкене, Я. М. Рамановіч і інш.; Рэд. Ю. Ф. Мацкевіч].— Мн.: Навука і тэхніка, 1984.— 616 с.

У пер.: 2 р. 70 к.

Дадзены том змяшчае каля васьмі тысяч слоў на літары П—С.

4602020000—115
С————————122—84
М316—84

ББК 81.2 Бел-4

## АД РЭДАКЦЫЙНАЙ КАЛЕГІІ

Ва ўкладанні чацвёртага тома ўдзельнічалі: П. А. Міхайлаў (плева—поясавацць), Ф. Д. Клімчук (пра — прястэ, с — сіяць), С. Г. Лобач (псавацца — пяяць), В. Д. Старычонак (літара Р), Я. М. Рамановіч (скаба — сошкі), А. І. Чабярук (спаваці — стрэшчаны), Ю. Ф. Мацкевіч (стубло—стурбавацць). А. І. Грынавецкене ўнесла паралелі з балтыйскіх і некаторых германскіх моў. Ю. Ф. Мацкевіч дапоўніла польскія адпаведнікі да беларускіх дыялектных слоў. Польскія ўкладальнікі распрацавалі словы, запісаныя на тэрыторыі ўсходняй ускраіны ПНР.

У дадзены том уключаны матэрыялы, якія дадаткова былі сабраны ў 1981—1982 гг.

## СПІС НАСЕЛЕНЫХ ПУНКТАЎ, МАТЭРЫЯЛЫ З ЯКІХ ПАСТУПІЛІ Ў 1982 г., ПРОЗВІШЧЫ ЗБІРАЛЬНІКАЎ

### БССР

*Астравецкі раён*

Завельцы — А. І. Чабярук

*Браслаўскі раён*

Замошша — С. Г. Лобач
Месянцы — С. Г. Лобач

*Ляхавіцкі раён*

Дарава — Ф. Д. Клімчук
Літва — Ф. Д. Клімчук

*Міёрскі раён*

Пераброддзе — Ю. Ф. Мацкевіч, А. І. Грынавецкене

*Мінскі раён*

Дружба — Я. М. Рамановіч
Падгаі — Я. М. Рамановіч
Слабада — Я. М. Рамановіч

### ЛітССР

*Шальчынінскі раён*

Дэгшні — Ю. Ф. Мацкевіч, А. І. Грынавецкене
Ёдупка — Ю. Ф. Мацкевіч, А. І. Грынавецкене
Кальнішкі — Ю. Ф. Мацкевіч, А. І. Грынавецкене
Каменка — Ю. Ф. Мацкевіч, А. І. Грынавецкене

# П

ПЛЕ́ВА, ПЛЯВА́, ПЛІВА́ *ж. анат.* 1. Дыяфрагма. Беразіно Докш. *Пляву гэту нацянеш.* Кураполле Паст. *Плява парвалася.* Рыбчына Віл. *Пляву прарэзаў — крой сышла.* Рудня Астравітая Чэрв. *Пліва калі скаб.* Саланое Віл. *Пліва лопнула.* Мярэцкія Глыб. 2. Мазгавая абалонка. *Прабіў плеву на галаве.* Рыбчына Віл. *Плява галаўная баліць.* Гемзы Шальч. *Плява ў чалавека, у скаціны.* Пацаўшчына Дзятл. *Плява ў чалавека.* Чычалі Швянч.; *параўн.* літ. *plėvẽ* 'тж'.

ПЛЕ́ВАЧКА *ж. памянш.* Тое ж, што і п е́ н к а. *Плевачка займецца на параным малаку.* Старыя Смільгіні Воран.

ПЛЕВА́ЧКА *ж.* Плявальніца. *Плевачку нагой падсунула.* Ухвала Круп.

ПЛЕ́ВЫ *мн.* 1. Мякіна. *Плевы адляталі пры паланні.* Жодзішкі Смарг. 2. Перапонкі на лапах у гусі. *Плевы ў гускі.* Лука Нараўк.

ПЛЕ́МНЫ *прым.* Племянны. *Племная авечка, бык племны.* Груздава Паст.

ПЛЕН *м.* Палон. *Прышоў іс пляну.* Быстрыца Астр. *С пляна прышоў — і задзержалі.* Альхоўцы Лях. *У плен папаўся.* Швэды Вільн. *Я ў плен папаў з боем.* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* руск. *плен* 'тж'.

ПЛЕ́НАЧКА *ж. памянш.* да п л е́ н к а 1. *Кіпічонае мълако, на ём пленачка дзелаіца.* Філіпаўцы Красл. *Пленачка бывая, як жырноя малако.* Рагулішкі Даўг.

ПЛЕ́НКА *ж.* 1. Тое ж, што і п е́ н к а. *Малако пакрыла пленкай, на параным малаку пленка, у губу вазьму.* Ёдлавічы Брасл. 2. *анат.* Тое ж, што і п л е́ в а 2. *Пленка лопнула ў галаве.* Ёдлавічы Брасл. 3. *анат.* Тое ж, што і п л е́ в а 1. *Пленкі ад лёгкіх у каровы.* Мішневічы Шум. 4. Тонкая плеўка на паверхні вады. *Пленкай зацягваіць стаячую ваду.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПЛЕ́НЫ *м.* Палонны. *Па хазяінах пленых разаслалі.* Швэды Вільн.

ПЛЕ́СІНЬ *ж.* Бросня. *Плесінь на гурках.* Мішневічы Шум.

ПЛЕ́СКАЦІСА *незак.* Плюхацца, пялёскацца (у вадзе). *Чэго ты тут плешчэсэ?* Смаляніца Пруж.

ПЛЕ′СНЕЦЬ, ПЛІЕ′СНІТІ *незак.* Пакрывацца плесняй. *Сена плесне, як зацячэ.* Кіралі Шчуч. *М'ясо доўго лежало і начало пліесніті.* Курашэва Чыж.

ПЛЕ′СНІ *мн.* 1. Цвіль. *Плесні паявіліся на капусця.* Старыя Трокі Трак. *Плесні на капусці.* Жодзішкі Смарг. *Плеснямі займецца.* Рыбчына Віл. *На агурцах салёных плесні нада сняць.* Рагулішкі Даўг. 2. Налёт на траве, зямлі і інш. *Шмат плесняў на жыці, трэба дажджоў, як змыя, то пойдзя расці.* Гемзы Шальч.

ПЛЕ′СНЯ, ПЛЕСНЯ′, ПЛІЕ′СНА *ж.* Тое ж, што і п л е́ с і н ь. *Плесня на капусці.* Лука Нараўк. *Плесня ў капусце.* Пацаўшчына Дзятл. *Плесня на хлебе, паплесні масла.* Вялікія Баяры Шчуч. *Плесня на салёных агурках, на капусця.* Мярэцкія Глыб. *Збяры плесню, заплеснялі гуркі.* Пасека Ст.-Дар. *Нада зняць плесню з капусты.* Азяраны Раг. *Сколькі ў нас плесні на ўгурках зрабілася, папрылілала, як смала!* Малыя Аўцюкі Калінк. *Плесня нападзе наверх, як малако доўга пастаіць.* Навасёлкі Свісл. *На хліеп пліесна напала.* Курашэва Чыж.

ПЛЕСНЯ′К *м. кулін.* Праснак. *Плеснякі пяклі, скрабалі дзежку, сыпалі мукі, лілі вады, і яны падымаліся, як на драждэжах кукачкі.* Кураполле Паст.

ПЛЕ′СЦІ *незак.* 1. Сплятаць некалькі частак у адну столку. *Буду плесці матус.* Лісна В.-Дзв. *Плялі ў вянок цыбулю.* Збляны Лід. 2. Вырабляць плеценыя рэчы. *Мой дзед плёў кошыкі.* Грыкені Вільн. *І лубачкі плялі с саломы.* Солы Смарг. *Кашы плялі.* Чуркі Ашм. *Лучыны вышчэплівалі і плялі рэшаты.* Завельцы Астр. 3. *перан.* Гаварыць у час сну. *Праз сон нешта плёў.* Магуны Паст. 4. *перан. экспр.* Пляткарыць. *Што ты пляцеш?* Завельцы Астр. *Чаго ты пляцеш?* Крынкі Крын. *І пляце яна плёткі.* Номікі Бабіц.

ПЛЕ′СЦІСЯ, ПЛЯСЦІ′СЯ *незак.* 1. Чапляцца, брацца. *Асака пляцецца за рукі.* Вецярэвічы Пух. *Грась пляцецца за ногу.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Назаляць. *Пляцецца і смокча кроў муха.* Рудня Астравітая Чэрв. 3. *перан.* Сніцца. *Сны нехарошыя плятуцца. Находзіцца, пляцецца адно за другое.* Рудня Астравітая Чэрв. ◇ *Плесціся ў хвасце* — адставаць. *Калі жняя адставала, казалі: «Пляцецца ў хвасце».* Груздава Паст.

ПЛЕТНІКІ′ *мн.* Адгароджанае месца на двары, дзе складалі сена, дровы і інш. *Галуза з лістамі ссечана з дрэва і пераплятаві тры палкі і называлі плетнікі. І дровы і пошар складалі.* Крэва Смарг.

ПЛЕТНЯ′ *ж.* Пляткарка. *Плетня плетэ.* Азарычы Пін.

ПЛЕТЭ′НЬ *м.* Пляцень. *Хворостом плетут плетянэ, яловцём.* Дзмітравічы Кам.

ПЛЕ′ЎКА, ПЛЁЎКА, ПЛІЕ′ВКА *ж.* 1. Тое ж, што і п е́ н-

к а. *Плеўка на малацэ.* Альхоўцы Лях. *Плеўка бывая, калі малако парыш у печы.* Дакудава Лід. *Паставіш малако ў печ— такая смашная плеўка! Плеўка велька.* Малахоўцы Бар. *Плеўка на параном малаце.* Дзяніскавічы Ганц. *Зняла з малака плеўку.* Баброўнікі Гарад. *Не люблю плеўкі з малака.* Пацаўшчына Дзятл. *Малако паднялося плеўкаю, згарэла.* Рудня Астравітая Чэрв. *Плёўка на малацэ.* Беняконі Воран. *Наша Нінка нэ любіт плієўкі.* Курашэва Чыж. 2. Бросня. *Зацвіла смятана, плёўка на малацэ, на смятане плеўка.* Кузьмічы Люб. 3. *анат.* Тое ж, што і п л ё в а 1. *Плеўка пад грудзямі.* Малахоўцы Бар. 4. Плеўка ў мясе. *Плеўка на мясе.* Дзяніскавічы Ганц., Дэгшні Шальч. *Крышыла на кілбасу, много плевак пааткідала.* Баброўнікі Гарад. 5. *анат.* Тое ж, што і п л ё в а 2. *Плеўка ў галаве.* Саланое Віл. 6. Плавальны пузыр у рыб. *У акуня пляскуна нету, плеўка ў яго — там дух сабіраяцца.* Быстрыца Астр.

ПЛЕ'ЎКІ *мн.* Высеўкі. *Плеўкі астаюцца ад грэцкай мукі.* Жодзішкі Смарг.

ПЛЕЎРЫТ *м. мед.* Плеўрыт. *У яго плеўрыт.* Саланое Віл.

ПЛЕХ *м.* 1. Лысіна. *Плех у мушчын бываіць.* Рагулішкі Даўг. 2. *перан.* Агрэх на засеяным полі. *Пляхе на поле, не паўсходзіла жыта.* Галубы Маст. *Пасеіў абы-як, пляхі адны.* Мярэцкія Глыб. *Пасеяў плехамі, што ты ўміраць думаеш?* Старыя Смільгіні Воран. 3. Выгрызены лапік травы на лузе. *Такія пляхі — карова выгрызіць аш да зямлі.* Малькуны Ігн.; *парайн.* ням. дыял. *fläk* 'лапіна, лапік'.

ПЛЕ'ЦЕНЫ, ПЛЕ'ЦЯНЫ *дзеепрым.* Сплецены. *Плецены комян: калы ставілі, пераплятали і глінай аблеплівалі.* Вецярэвічы Пух. *Каробка плецена з саломы.* Судэрва Вільн. *Кошыкі плецяныя купіла на базары.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПЛЕ'ЦЕНЬ, ПЛЯЦЕ'НЬ *м.* 1. Пляцень. *Плецень — с тонкіх прутоў плот.* Лука Нараўк. *Пляцень з лазы рабілі.* Груздава Паст. *Пляцень куталі з хлуду.* Азяраны Раг. *Пляцень з лешчыны заплятали, кругом аплятали пляцяною, рабілі плецены паркан.* Баброўнікі Гарад. 2. Вітка. *Плецень скручаны з лазы ці хмызу, бралі калкі плота перавіваць.* Глівін Барыс.

ПЛЕЦЁНКА *гл.* ПЛЯЦЁНКА

ПЛЕЦЬ I *ж.* Плеценая вяроўка. *Плець с пянькі рабілі тоўстую, на сук круціцца і падымая вуляй, дзеравяным колікам забівалі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Як сесці — плець ідзець па ляжойцы.* Ухвала Круп. *Плець плялі з пяці канацікаў — пяньковая вяроўка. Была длінная плець, зачэпіць за сука і лезе на дрэва.* Азяраны Раг.

ПЛЕЦЬ II *незак.* Палоць. *Тут нада плець лехі.* Малькуны Ігн. *Нада буракі плець.* Ліпнікі Вільн.; *парайн.* польск. *pleć* 'тж'.

ПЛЕЦЯЛЬНІ'К *м.* Плот з вітак. *Плецяльнік — плот, выпляганы з вітак. Ад поля выган адгароджаны плецяльнікам.* Жылі Іўеў.

ПЛЕЦЯ'НКА *гл.* ПЛЯЦЁНКА

ПЛЕ'ЦЯНЫ *гл.* ПЛЕ'ЦЕНЫ

ПЛЕЧО', ПЛЯЧО' *н.*, ПЛЕ'ЧЫ, ПЛЭ'ЧЫ *мн.* 1. *анат.* Частка тулава ад шыі да локця. *Узяў на плечо бальшую ношу саломы.* Кураполле Паст. *Аж да плечэй намачыўся.* Грыкені Вільн. *Халадно плечам нешта стала.* Вялікія Баяры Шчуч. *Дзіця несе за плечыма.* Стральцы Шальч. *За плечыма нясе торбу з ежай.* Вострава Маст. *На плечах носіць.* Старыя Смільгіні Воран. *Сумка на плечах вісіць.* Навасёлкі Свісл. *Нешто баліць у плечах.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Нясець на плечах яе.* Пасіене Лудз. *Баліць рука ў плячэ і сагана ў печ не магу падняць.* Кіралі Шчуч. *Перабіў сабе плячэ.* Дзяніскавічы Ганц. *З фермы не выхадзіла, усё на плячох, па калены гразь, памагала, нягож.* Юркава В.-Дзв. *За яё плячмі ляжаў.* Саланое Віл. *Так старався робыты, шо аж плэчы мокры сталы, хоты быры рубашку выкручуй.* Ушкавіца Кобр. *Всюды трэба свої плэчы пудставыты. Стыпан такый озійный чоловік, такы плэчы шырокы.* Сіманавічы Драг. ▽ *Впотілы моі плэчы, стоячы коло пэчы* [з песні]. *Куды йдэш? — Впырод гочыма, а взад плычыма. Мыслі пырыд гочыма, а смэрть за плычыма. Впала кышка с пэчы, вмочыла в капусту плэчы, а сваты ны відалы, капусту з'обідалы.* Сіманавічы Драг. 2. *анат.* Частка тулава каня вакол шыі. *Войлак у хамута, штоб не цёр конь плечы.* Мешкінева Лудз. 3. Пройма рукава. Мярэцкія Глыб. ◇ *Пліячо ў плячо рабіць* — працаваць дружна, зладжана. Граўжышкі Ашм.

ПЛЕШ *м.* 1. Тое ж, што і п л е х 2. Рудня Чэрв. *Нізіна вымакла, плеш там.* Пасіене Лудз. *Нічога нет на пляшу, я і касіць ня буду.* Валынцы В.-Дзв. *Пляшы на полі, не паўсходзіла жыта.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Пляшы на поле, жыта не паўсходзіла зусім.* Мішневічы Шум. 2. Верх страхі. *Плеш — верх страхі, высланы кастрыцай.* Масілавічы Сл. 3. Пясчаны насып пасярод ракі. *Плеш у рацэ.* Валынцы В.-Дзв.

ПЛЕ'ШАЧКА *ж. памянш.* 1. Тое ж, што і п л е ш 2. Вецярэвічы Пух. 2. Донца ў цыбуліне. *Вазьмі цыбулі, абмакні плешачку ў памыдленую ваду і пасадзі.* Вецярэвічы Пух. 3. Шапачка ў макаўцы. *Наверсе ў маку е плешачка.* Дзяніскавічы Ганц.

ПЛЕ'ШКА, ПЛІЕ'ШКА *ж.* 1. Плешка. Данілавічы Дзярж. *Трэбо гоздзі с плешкамі большымі.* Мсцібава Ваўк. 2. Калочак з закругленым верхам. *Плешка — палачка з булдаўкай.* Азяраны Раг. 3. *памянш.* да п л е х 1. *Плешкі есць, калі струпэ на галаве.* Кіралі Шчуч. 4. *перан.* Невялікі ўчастак чаго-н.

*Плiешка овса осталасе, за годiну сэрпамi дожнэм.* Курашэва Чыж.

ПЛЕ'ШЧЫЦЬ *незак.* Пляскаць у далонi. *Ладушкi плешчаць дзецi.* Дакудава Лiд.

ПЛЁВА'ЦЬ, ПЛЁВА'ТЫ *незак.* Пляваць. *Плёвай толькi ў вядро.* Лiсна В.-Дзв. *Не трэба плёваць.* Паляцкiшкi Воран. *Дзядзька плёвай, як тата купiў плух.* Ёдупка Шальч. *Ныхорошэ плёваты на пудлогу.* Ушкавiца Кобр. ∇ *Плюю ны на зэмню святую, а на твою мову дурную.* Сiманавiчы Драг. *Ны плюй в колодяз, бо прыйдыця напытыся.* Ушкавiца Кобр.

ПЛЁНКА *ж.* Абалонка асiнага гнязда. *Освы дзелаюць гняздо с сваёй плёнкi.* Дзёрнавiчы В.-Дзв.

ПЛЁНТАЦЬ *незак.* Блытаць. *Ужэ тая нiтка каротка, ужэ будзе плёнтаць цалы час.* Баброўнiкi Гарад.; *параўн.* польск. *plątać* 'тж'.

ПЛЁС *м.*, ПЛЁСА *ж.*, ПЛЁСЫ *мн.* 1. Затока. *Адзiн iдзе ад плёса, а другi — ад берага, як лавiлi рыбу.* Парэчча Гродз. *У плёс рыба заходзiць.* Беразiно Докш. *Плёса — дзе вада памалу цячэ.* Рудня Чэрв. 2. Самы глыбокi ўчастак возера, дзе ловяць рыбу. *Плёса — само возiра, дзе ходзяць з невадам, самая глыбейшая частка возiра.* Ахрэмаўцы Брасл. *Плёса дальшы, пасяротку азiра.* Янова Рас. 3. Ямiны з вадою на сенажацi. *Плёса ў сенакосе.* Пасека Ст.-Дар. 4. Пойма ракi. *Бярэзiна там шырокая i прамая — называюць плёсы.* Беразiно Докш. 5. Залiўны луг. *Заўтра будуць пожню дзялiць, каб далi плёсу, кап касiлкай скасiць, як у раве, то рукамi.* Дзёрнавiчы В.-Дзв.

ПЛЁСКАЦЦА *незак.* Тое ж, што i п л ё с к а ц i с а. *Мацi сказала хлопцам нiкуды нi iсцi, а яны плёскаюцца па вадзе.* Магуны Паст. *Дзецi плёскаюцца ў вадзе.* Ёдлавiчы Брасл.

ПЛЁСКI *прым.* Плоскi. *Чачавiца плёская.* Крэва Смарг. *Адна качалка круглая, другая з зубцамi, плёская.* Рудня Чэрв. *Занозы плёскiе дзве.* Вецярэвiчы Пух.

ПЛЁСКЛЕНЬКI *прым. памянш.* да п л ё с к i. *Авадзень ёсць, плёскленькi такi, смагла кусаiць.* Ракаўскiя Швянч.

ПЛЁСНУЦЬ *зак.* Стукнуць. *Даланёй як плёснiць!* Кураполле Паст.

ПЛЁСО I *н.* Тое ж, што i п л е х 2. *Плёсо — ак вымакне i нiма нi жыта на полi, дзе нiска, лахчына. Трава вымакая на балоце—i кажуць плёсо. Адно—плёсо, а багато—плёса. Адны плёса на ўчастку.* Дзянiскавiчы Ганц.

ПЛЁСО II *н. бат.* Разнавiднасць асакi. *Плёсо — зеле такоё, ложыцца на ваду. Плёсо мяхко, вужа аiра.* Малахоўцы Бар.

ПЛЁСЫ *гл.* ПЛЁС

ПЛЁТАЧКА *ж.* 1. *Памянш.* да п л ё т к а 4. *Махрач зроблян с канцоў* [кроснаў], *канцы папляцём у плётачкi.* Магуны Паст.

2. Сплецены шнурок. *Плётачкі прышываліся да запінка, завяжыць — і добра.* Саланое Віл.

ПЛЁТКА *ж.* 1. Тое ж, што і п л я ц ё н к а 1. *Плётка цыбулі, або маток цыбулі.* Лісна В.-Дзв. *Плётку цыбулі прадала ёй.* Рагулішкі Даўг. *Плётка цубулі пуды на два.* Мішневічы Шум. *Плёткі цыбулі напляла.* Жылі Іўеў. 2. Матузок у фартуху. *Плёткі завязаваць на завясь.* Рыбчына Віл. 3. Сплеценая каса ільну. *У плётку сплялі павесму з павесмай.* Мішневічы Шум. 4. Сплеценыя канцы асновы красён пасля датыкання. *Кросны, аснову с калкоў трэба сабраць у плётку.* Рыбчына Віл. *Плётка да красён — аснова. Снуём, аснаванае знімаем, робім плётку.* Кухты Віл. *Аснавалі, знялі — плётку такую зрабілі.* Цяпінцы Віл. 5. Бізун. *Плётка для верхавых коней.* Скрудалена Даўг. 6. *перан.* Чарада. *Дайней плёткамі вошы хадзілі.* Кураполле Паст.

ПЛЁТКІ *мн.* Плёткі. *Плёткі пляцець.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Баба плётак нарабіла.* Дзераўное Стаўб.

ПЛЕЎКА *гл.* ПЛЕ'ЎКА

ПЛЁХ-ПЛЁХ *выкл.* Вокліч, якім падзываюць курэй. *Плёх-плёх — так завуць курэй.* Стральцы Шальч.

ПЛЁХАЦЦА *незак.* Тое ж, што і п л ё с к а ц і с а. *І ўсё б плёхаўся ў вадзе.* Галубы Маст. *Плёхаецца ў вадзе цэлы дзень.* Вецярэвічы Пух.

ПЛЁХНУЦЬ *зак. экспр.* Кінуць. *Як плёхне вужа мне ў двор.* Азяраны Раг.

ПЛІ-ПЛІ *выкл.* Вокліч, якім падзываюць куранят. *Плі-плі, мае маленькія.* Асавец Віл.

ПЛІВА' *гл.* ПЛЕ'ВА

ПЛІЕ'ВКА *гл.* ПЛЕ'УКА

ПЛІЕ'СНА *гл.* ПЛЕ'СНЯ

ПЛІЕ'СНІТІ *гл.* ПЛЕ'СНЕЦЬ

ПЛІЕ'ХА *ж.* 1. Тое ж, што і п л е х 2. *Овэс пліехамі нэ посходів.* Курашэва Чыж. 2. Пляма. *На жовтуой кофті зэлёны пліехі осталі.* Курашэва Чыж.

ПЛІЕ'ШКА *гл.* ПЛЕ'ШКА

ПЛІМЕ'НІЦА *гл.* ПЛЯМЕ'НІЦА

ПЛІМЯ'НІЦА *гл.* ПЛЯМЕ'НІЦА

ПЛІ'НТА *ж.* Бізун, сплецены з рэменя. *Аконам едзіць верхам на кані і плінтай яго сцібануў.* Ахрэмаўцы Брасл.; *парайн.* ням. *Flinte* 'стрэльба'.

ПЛІНТАВА'ЦЬ *незак.* Высякаць (лес). *Плінтавалі лес учора.* Валынцы В.-Дзв.

ПЛІС *м.* Плісэ. *Вузенькі пліс, апшыты лентай. Юпкі былі іс плісамі. Пайс чорныя плісы прышывалі белыя канцікі.* Семежава Кап.

ПЛІСАВА'НЫ *прым.* Пашыты ў складкі. *Плісаваная спадніца ў мяне.* Альба Нясв.

ПЛІ′САЎКА *ж. заал.* Пліска. Рудня Астравітая Чэрв. *У плісаўкі хвосцік трасецца.* Ракаўскія Швянч.

ПЛІ′САЧКА *ж. памянш.-ласк.* да п л і с к а І. *Плісачка вядзецца ў крушні, каля кароў мушачкі ловіць і ўсё чык-чык.* Кіралі Шчуч.

ПЛІ′СІЦА *ж.* Тое ж, што і п л і с а ў к а. *Плісіца прыляцела — нада лён сеяць.* Мішневічы Шум.

ПЛІ′СКА І *ж.* Тое ж, што і п л і с а ў к а. Мярэцкія Глыб., Рыбчына Віл. *Пліска ў крушні вядзецца.* Кіралі Шчуч. *Пліска ў нас водзіцца.* Ёдлавічы Брасл. *Ёсць балотная пліска.* Саланое Віл. *Пліска сівенька, на полі, хвастом уверх-уніз.* Лука Нараўк. ▽ *Кажуць, што пліску жураўль на хвасце нясе ў вырай.* Глівін Барыс. ◇ *Пліска рэпку сеіць* — трэскаюцца ад ветру ногі. Ахрэмаўцы Брасл.

ПЛІ′СКА ІІ *ж.* Тое ж, што і п л і с. *Пліскі ўстаўлялі ў юбкі, у фартухі.* Ухвала Круп.; *параўн.* польск. *plisa* 'тж'.

ПЛІСКА′Ч, ПЛЯСКА′Ч *м.* Пляскач. *Дам табе пліскача, даланёй як плёсну!* Кураполле Паст. *Дам табе пляскача рукой!* Старыя Трокі Трак.

ПЛІ′СКІ, ПЛЫ′СКЫ *мн. бат.* Лісічкі. *Пліскі, рэшотнікі, заячы грыбы ў лесе.* Лука Нараўк. *С плысок суп вэльмы смачный.* Ушкавіца Кобр.

ПЛІ′СНІК *м. бат.* Плюшчай. *Пліснік на падсцілку, а сяродавік дзеці ядуць.* Глівін Барыс. *Пліснік не пахне, ліст у яго больш вузкі, чым у явера.* Ухвала Круп.

ПЛІ′СТАЎКА *ж. заал.* Тое ж, што і п л і с а ў к а. *Плістаўка — чорнагалоўка, па стрэсе лазіць.* Пацаўшчына Дзятл. *Плістаўка падобіе сінічкі.* Чарняўскія Лудз. *Плістаўка небальшэнькая.* Пасіене Лудз.

ПЛІ′СЫ *мн.* Фальбоны. *Унізе плісы прышыты.* Солы Смарг.

ПЛІТА′, ПЛЬІТА′ *ж.* 1. Кухонная пліта. *На пліты ілі на газі варылі.* Навікі Лудз. *Постав пытэльню на плыту, ныхай грііця, покуль я буду сало крышыты.* Ушкавіца Кобр. *Пліта на дошч дыміць; за дні два-тры кот явіцца дамоў — будзет дошч.* Рагулішкі Даўг. 2. Сціртa. *Снапы складалі ў пліту.* Азяраны Раг. 3. Зляжалы пласт сена. *Волкая сена ў пліты пашло.* Парэчча Гродз.

ПЛІ′ТКА *ж.* Кара. ◇ *Пліткай узяцца* — пакрыцца струпамі. *Пліткай узяўся і скарэўся каўтун.* Беразіно Докш.

ПЛІТКАВА′ТЫ *прым.* Плітачны. *Пліткаватымі каменямі выбрукавана плошча.* Мсцібава Ваўк.

ПЛІХНУ′ЦЬ *зак.* Пырснуць. *Пліхнуў вады халоннай.* Саланое Віл.

ПЛІШНІ′К, ПЛЫ′ШНЫК *м. бат.* Аер. *Плішнік ля ракі расце, ён двох сартоў: адзін пахне, а другі не.* Вецярэвічы Пух. *Я колысь дыку качку на болоті зловыв: у плышнык убылася і ны змогла ўтычы.* Ушкавіца Кобр.

ПЛІ'ШТВЫ *мн.* Налічнікі. *Пліштвы папрыбіваныя.* Старыя Трокі Трак.

ПЛОД *м.* Прыплод. *Плоду няма ат гэтай казы, старая ўжо.* Вялікія Баяры Шчуч.

ПЛО'ДНЫ *прым.* 1. Урадлівы. *Плодная капуста.* Быстрыца Астр. *Бульба плодная, як многа каля карня, каліва паднімііш — дваццаць—трыццаць штук.* Кураполле Паст. *Бульба харошая і нават плодная.* Гемзы Шальч. 2. Пладавіты. *Натта плодная кошка.* Рыбчына Віл.

ПЛО'ІЦЬ *незак.* Завіваць (валасы). Ахрэмаўцы Брасл.

ПЛО'ЙКІ *мн.* Прыстасаванне ў выглядзе ножніц для завівання валасоў. *Я робіў плойкі валасы плоіць.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПЛО'ЙМА, ПЛУ'ЙМА, ПЛЭ'ЙМА *ж.* 1. Вельмі многа. *Назбіралася дзяцей цэла плойма.* Дзяніскавічы Ганц. *Цэлая плуйма коней.* Ухвала Круп. *Плэйма — вэльмы мнэго.* Азарычы Пін. 2. *лаянк.* Гультай. *Ах ты плойма!* Альхоўцы Лях.

ПЛО'МБА *ж.* Пломба. *Пан пломбы налажыў на дзверы, ніхто ня мох зняць пломбы.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПЛО'МЯ *н.* Полымя. *Палаюць дрова — велькая пломя.* Старыя Смільгіні Воран. *Дровы разгарэліся — аш пломя.* Ёдлавічы Брасл. *Гараць дрова, аш пломя ў комін даець.* Малькуны Ігн. *Пломя ідзе бальшоя, як печ паліцца.* Жылі Іўеў. *Дало ў галаву якойсця пломя.* Старыя Трокі Трак.; *параўн.* польск. *płomień* 'тж'.

ПЛО'СКА *ж.* 1. Тое ж, што і п л а с к у х а́. Вострава Маст. *Плоска — добра трава.* Навасёлкі Свісл. 2. Асака. *Плоска на багнах расце.* Новікі Гродз.

ПЛО'СКІ *прым.* Некруты. *Плоска нітка раскудзеліцца.* Малахоўцы Бар.

ПЛО'СКО *прысл.* Някрута. *Крута і плоско спрадзеныя ніткі.* Лука Нараўк.

ПЛО'СКУНІ *гл.* ПЛАСКО'НІ

ПЛО'СЦІНЬКА *прысл. памянш.* Плоска. *У лоццы два носіка, а ў чоўне ззадзі плосцінька.* Дакудава Лід.

ПЛОТ, ПЛЫТ *м.* 1. Агароджа. Рыбчына Віл., Мярэцкія Глыб. *На плаце вісіць. Гародзіць чалавек плот.* Груздава Паст. *У хату з плота ўсё паўносіла. На плоця вісіць.* Лісна В.-Дзв. *Да плата прывязаў каня.* Ністанішкі Смарг. *Такі плот благі, дык яны* [куры] *пралязаюць.* Солы Смарг. *Можна паставіць плот парканам ці штанкетам.* Крэва Смарг. *Парканіны былі ядловыя і пераплятали плот з парканіны. Гародзяць плот.* Старыя Трокі Трак. *Гарбус плотам ідзе. Павешалі на плот кафтан, і ён не высах.* Гемзы Шальч. *Ідзі плот загарадзіць памажы.* Рудня Астравітая Чэрв. *Магу с плата зняць. Стаіць плыт.* Кураполле Паст. *Плыт городыты.* Дзмітравічы Кам. *Віццём з бярозы перавязавалі калкі — і так гарадзілі платы.*

Дзёрнавічы В.-Дзв. *Навеяла снегу на платэ.* Парэчча Гродз. 2. Плыт. *Плыты ганялі з Вільні да Коўна.* Грыкені Вільн. *Плыты гоняць па Віліі.* Завельцы Астр.

ПЛО'ТКА *ж. заал.* Тое ж, што і п л а т в а́. *Плотка бузой пахніць. Тут плотка ёсь.* Ахрэмаўцы Брасл., Чычалі Швянч., Істра Лудз. *У нас плотка ледавая водзіцца.* Ёдлавічы Брасл. *Стады хадзілі плоткі.* Гемзы Шальч. *Плотка тожа ш да кілі расце.* Збляны Лід.

ПЛО'ТНІК *м.* Цясляр. Мярэцкія Глыб., Рыбчына Віл., Рудня Астравітая Чэрв. *Усю жызь ён плотнік.* Ахрэмаўцы Брасл. *Плотнікам работала, козья хлеў робіла.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Плотнікі і пячкуры — усе ў адной брыгадзе.* Беразіно Докш.; *парайн.* руск. *плотник* 'тж'.

ПЛО'ТНІЦКІ *прым.* Цяслярскі. *Ён плотніцкую работу робіць.* Збляны Лід.

ПЛО'ТНЫ *прым.* Мажны. *Мой мужык плотны быў.* Ахрэмаўцы Брасл.; *парайн.* руск. *плотный* 'тж'.

ПЛОЎТ *м.* Прадаўгаватая дошка, якой закрываюць бакавы ўваход у калодачны вулей. *Плоўт у калодзі адкрываюць, як трэба паглядзець пшчол — мнейшы ўнізе, длукшы зверху.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *plaũtas* 'тж'.

ПЛО'ЎТЭС *м.* Тое ж, што і п л о ў т. *Плоўтэс у лежаку.* Старыя Смільгіні Воран.

ПЛО'ЎШАЧКІ *мн. памянш.* Адходы пры шатраванні збожжа. *Трэба ячмень абагнаць, і плоўшачкі астаюцца, як робяць велькія крупы.* Старыя Смільгіні Воран.; *гл.* п л о́ ў ш ы.

ПЛО'ЎШЫ *мн.* Тое ж, што і п л е́ ў к і. *Плоўшы ад грыкі, як прасеіш муку.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *plaũšos* 'тж'.

ПЛОХ *прым.* Хворы. *Ён плох, іна лётная дзевачка.* Валынцы В.-Дзв.

ПЛО'ХА *прысл.* Дрэнна. *Бес курыцы плоха гадаваць ціплят. Мы з людзямі няплоха жылі.* Валынцы В.-Дзв. *Плоха ей стала.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Плоха гараць дрова.* Кіралі Шчуч. *Плоха ядуць свіня.* Кемялішкі Астр. *Я плоха віжу.* Пасіене Лудз.; *парайн.* руск. *плохо* 'тж'.

ПЛО'ХІ, ПЛО'ХЫ, ПЛО'ХЫЙ *прым.* 1. Спакойны, сарамлівы. *Ціпер плохіх німа, хай хто нападзе — кажды дасць атпор.* Мсцібава Ваўк. *Нейкі плохі, як цяля, нічога гаварыць не можа. О, ён быў плохі такі!* Пацаўшчына Дзятл. *Ён плохі: неадважны, сарамяжлівы.* Малахоўцы Бар. 2. Дрэнны. *Чым ён плохі?* Саланое Віл. *Плохая дзела.* Быстрыца Астр. 3. Хваравіты. *Людзі плохія сталі.* Саланое Віл. *Чалавек саўсім плохі.* Альхоўцы Лях. *Да вона зусім плоха.* Дзмітравічы Кам. 4. Ручны (пра жывёлу). Радастаў Драг. *Наша свіня плоха, то пастухі на ей ездзят.* Вялікі Краснік Пруж. *Конь саўсім плохі.* Альхоўцы Лях. *То в мынэ добра корівка, плоха і йісьць усё*

*пудряд.* Ушкавіца Кобр. *Такое тылятко плохэ: оно я в хлів, ужэ воно до мынэ, коб я його лашчыла.* Сіманавічы Драг.

ПЛОЦЕ'НКО *н.* Клятчастая або паласатая даматканая тканіна. *Кедысь с плоценка сподніцу і кафтана ўшыюць.* Навадворцы Васільк.

ПЛО'ЦІКІ *мн. памянш.* да п л а т ы́. *Плоцікі ставілі ў раку і бучыкі ставілі. Паміж тых плоцікаў застаўляюць буч.* Старыя Смільгіні Воран.

ПЛО'ЦТВО *н.* Размнажэнне. *Плоцтво было.* Навасёлкі Свісл.

ПЛОЦЬ *ж.* Тое ж, што і п л а т в а́. *Плоць — белая, укусная рыба.* Стральцы Гродз. *Плоць у возеры водзіцца.* Шкаўна Лудз. *Плоць — белая рыба.* Мельнікі Лудз.

ПЛО'ШКА *ж.* Вялікая плоская лыжка, якой аграбалі рой пчол. *Плошкай у рэшата аграбаюць рой.* Старыя Трокі Трак.

ПЛО'ШЧА *ж.* Плошча. *Усю плошчу паралі.* Вецярэвічы Пух.

ПЛО'ШЧАДЗЬ, ПЛО'ШЧАДЬ *ж.* Тое ж, што і п л о́ ш ч а. *Там велькая плошчадзь — санажаць.* Гемзы Шальч. *Вэліку плошчадь картохэль засадів, як іх выкопаті? Забрав всё бэз плошчаді.* Курашэва Чыж. *Ны бійся, тут плошчадь вылыка, усім хватыть.* Ушкавіца Кобр.; *парайн.* руск. *площадь* 'тж'.

ПЛУГ, ПЛУХ *м.* Плуг. *Каля плуга стаю.* Мярэцкія Глыб. *Ты плуга хочыш?* Граўжышкі Ашм. *Німа ў міне плуга, пайду пазычу да каго.* Кіралі Шчуч. *Каня павёў с плугам.* Лісна В.-Дзв. *Ён прасіў плуга, а плуга нет.* Валынцы В.-Дзв. *Плуг дзяржы чыстым, ясным — будзіць харашо землю вярнуць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Я плугам араў, с сахою і мой бацька не араў.* Дзераўное Стаўб. *Раньшы пахалі сохамі, паявіліось плугі дзіравянные, патом жалезныя пашлі.* Істра Лудз. *Аралі сахой, патом плугамі началі.* Відаўцішкі Вільн. *Запрох у плух.* Рыбчына Віл. *Плух заржавеў.* Рудня Астравітая Чэрв. *Гэтой плуг добрый, хорошэ орэ, тілько шо но в ёму ручка одломана, то топіро ораты ны вэльмы справно ужэ.* Ушкавіца Кобр. ∇*Вовка в плуг, а вын в луг. Ой пойду я лугом, лугом, дэ мый мылый горэ плугом.* Сіманавічы Драг.

ПЛУГА'Р *м.* Араты. Азяраны Раг. *Плугаром работаў, на трактары сідзя.* Лісна В.-Дзв.

ПЛУГА'ТАР *м.* Тое ж, што і п л у г а́ р. *Шосты плугатар ідзе.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ПЛУЖО'К *м. памянш.* да п л у г. *Плушком ганялі бульбу.* Збляны Лід.

ПЛУ'ЙМА *гл.* ПЛО'ЙМА

ПЛУ'КАНЕ *н.* Лякарства для паласкання горла. *Дохтар даў плуканя ад ангіны.* Сапоцкіна Гродз.; *парайн.* польск. *płukanie* 'паласканне бялізны'.

ПЛУ'КАЦЬ *незак.* Паласкаць (бялізну). *На раку насілі*

*плукаць бялізну*. Каўняны Гродз.; *параўн*. польск. *płukać* 'тж'.

ПЛУ'ТА'ЦЦА *незак*. Блытацца. *Ніткі плу́таюцца*. Мачаск Бярэз. *Ніткі плута́юцца*. Мішневічы Шум. *Ніткі плу́таюцца*. Лука Нараўк.

ПЛУ'ТАЦЬ *незак. перан*. Маніць. *Штось ён плутае*. Пацаўшчына Дзятл.

ПЛУТУВА'ЦЬ *незак*. Пераплятаць плот лазой. *Плутувалі плот лазой*. Валынцы В.-Дзв.

ПЛУХ *гл*. ПЛУГ

ПЛУ'ЦА, ПЛУ'ЦІ, ПЛУ'ЦЫ, ПЛЮЦ, ПЛЮ'ЦЫ *мн. анат*. Лёгкае. *Плуца балят, чылі лёгкія*. Лука Нараўк. *Васпаленіе было плуцаў*. Старыя Смільгіні Воран. *Плуцы адбіў*. Старыя Трокі Трак. *Плуцы ў кабана*. Малькуны Ігн. *Грыпа пала на плуцы*. Магуны Паст. *Вантробы, ляхкія — гэта плуцы*. Солы Смарг. *На плюц балеюць людзі. Яму балелі плюцы. Ён хварэя на плюцы*. Магуны Паст. *Маць бальная, плюцы чаго-та балеюць. Ляжыць даўно, плюцы ў яе хворыя*. Старыя Трокі Трак. *На плюцы падаіць чяжолы воздух*. Ахрэмаўцы Брасл. *У плюцы вада найшла*. Паляцкішкі Воран. *У мяне плюцы былі здаровыя*. Кудзялянцы Шальч.; *параўн*. польск. *płuco* 'тж'.

ПЛУЦЕ'НАК *гл*. ПЛАЦЕ'НАК

ПЛУЦЕ'НКАВЫ *прым*. Тое ж, што і п л а ц е́ н а ч н ы. *Матузы плуценкавыя*. Глівін Барыс.

ПЛУЦІ'ЦЬ *незак*. 1. Звязваць у плыты бярвенні. *Нады было плуціць лес. Пойдзіць ганок плуціць*. Лісна В.-Дзв. *У Юхавічах плуцілі ганкі, у нас начавалі сплаўшчыкі, ці ганкоўшчыкі*. Валынцы В.-Дзв. 2. *перан*. Трызніць у непрытомнасці. *Ён плуціў, у яго была вялікая жара. На ціф хварэлі і плуцілі. Я, як хварэла, крэпка плуціла*. Ёдлавічы Брасл. 3. *перан*. Несці лухту. *Плуціць ён, дзелайіць, што ня следуйіць*. Лісна В.-Дзв.

ПЛУ'ЦЫ *гл*. ПЛУ'ЦА

ПЛУ'ШКА *ж*. Расколатае папалам палена. Ісерна Слуц.

ПЛУШКАВА'ЦЬ *незак*. Абганяць бульбу. *Ідзі плушкаваць картофлю*. Галоўні Воран. *Учора плушкавалі бульбу*. Навасёлкі Лід.

ПЛУ'ШКІ *мн*. Палавінкі гарбуза. *Панасіха калісь міскі рабіла с плушак, разрэжа гарбуза і налія есці — і дзеці ядуць, і яна есць*. Вецярэвічы Пух.

ПЛЫВА'К *м*. 1. Плавец. *Ён быў добры плывак*. Гемзы Шальч. 2. Пучок звязанага трыснягу, на якім вучацца плаваць. *Легджай рвуць і ў пукі вяжуць на плывакі*. Мсцібава Ваўк.

ПЛЫВА'ЦЬ *незак*. 1. Плаваць. *Па вадзе плывая жабурэня*. Навасёлкі Свісл. *Па вадзе плывая і ня тоніць*. Старыя Смільгіні Воран. *А кракадзіл плываў*. Паляцкішкі Воран. *Тро-*

*ха плывай, жыжму пераплывала.* Жылі Іўеў. *Хлопец плываць умея.* Мсцібава Ваўк. 2. Служыць на флоце. *Яго сын на мору плывае.* Паляцкішкі Воран.

ПЛЫВУ'К *гл.* ПЛАВУ'К

ПЛЫВУ'Н, ПЛАВУ'Н *м.* 1. Насычаны вадой пясок, які наплывае пры капанні ямы. *Плывун — мокрая зямля, пясок, які наплывае, як капаеш яму.* Старыя Смільгіні Воран. *Плывун наплывая і наплывая, як студню капаеш.* Мсцібава Ваўк. *Капай калодзісь— і плывун пашоў.* Дакудава Лід. *Плывун— мокрая зямля, якая заплывая ў час капання ямы.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Плывун — рыў дом, с адной стараны вадзяная зімля, с другой гліна.* Індра Красл. *Вы папалі на плывун — вады ня будзіць.* Ёдлавічы Брасл. *Плывун паўзець і паўзець, як калодзісь капалі.* Валынцы В.-Дзв. *Плавун — яму не выкапаць.* Бакшты Іўеў. 2. Тое ж, што і п л ы в а́ к 1. *Ён добры плавун, добра плавая.* Кіралі Шчуч. 3. *бат.* Трава, якая расце на вадзе. *Плывун расцець, дзе лужыны.* Саланое Віл.

ПЛЫВУНО'К *гл.* ПЛАВУНО'К

ПЛЫВУНЫ' *мн. бат.* Раска. Пасіене Лудз.

ПЛЫ'НУЦЬ *незак.* Працякаць. *Дзе луг, там рэчка плыня.* Солы Смарг.

ПЛЫ'СКЫ *гл.* ПЛІ'СКІ

ПЛЫСЦІ' *незак.* Плыць. *На спіне буду плысці.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ён ужэ можэ плысці.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПЛЫТ *гл.* ПЛОТ

ПЛЫТА' *гл.* ПЛІТА'

ПЛЫТАГО'НІЦЬ *незак.* Ганяць плыты. *Як плытагонілі, многа людзей рашчытувалі.* Азяраны Раг.

ПЛЫТІ'НКА, ПЛЫТЮ'НКА *ж.* Пляцёнка з сіту. *Нарвы сытняку, сплыты плытінку.* Сіманавічы Драг. *Сплів плытюнку с сытныку.* Відзібар Стол.

ПЛЫ'ТКА, ПЛЫ'ТКО *прысл.* Мелка. *Плытка, брот, можна перайсці.* Кіралі Шчуч. *Брадэ — перахот, плытка там.* Малахоўцы Бар. *Гэтыя капалкі ні к чорту, плытко беруць.* Масілавічы Сл. *Тут плытко, а там тоня.* Стары Свержань Стаўб. *Як было плытко, то высыхаў луг.* Вострава Маст. *Ны бійся, тут плытко, ны втопыся.* Ушкавіца Кобр.

ПЛЫ'ТКІ *прым.* 1. Мелкі. *Плыткі берах, можна перабрысці рэчку.* Бакшты Іўеў. *Ад **Геранён*** [назва вёскі] *рэчка плытка.* Жылі Іўеў. *Рыба на нэраст прыплывая на плыткае места.* Быстрыца Астр. *Плытко место з берагу рэчкі.* Альхоўцы Лях. *Роў плыткі.* Кнышэвічы Бабіц. 2. Плоскі (пра пасуду). *Талерка плытка.* Дакудава Лід. *Плыткая талерка не да яды, мяса на яе пакроіць можна.* Солы Смарг. *Плыткая талерка.* Старыя Трокі Трак. *Плытка талерка і глыбокія есць.* Кіралі Шчуч. *Талерка плыткая.* Тухавічы Лях. *Поўмісок плытка разбіла.* Калясное Міхал. 3. Пакаты. *Плыткая страха.* Дакудава Лід.,

Старыя Смільгіні Воран. *Стрэха плытка, на такой стрэсе салома гніла і працякала стрэха.* Мсцібава Ваўк. *Плыткі бераг можна перайсці, а як абрывісты — не перайдзеш. Плыткая страха скора гніе.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* польск. *płytki* 'мелкі, плоскі'.

ПЛЫ'ТКО *гл.* ПЛЫ'ТКА

ПЛЫ'ТНІК *м.* Плытагон. *Плытнікі плыты ганялі.* Бакшты Іўеў.

ПЛЫ'ТШЫ *прым. выш.* Мяльчэйшы. *Цюпы былі глыпшыя і плытшыя.* Мсцібава Ваўк. *Плытшы бэрог, там плытшэ.* Горск Бяроз.

ПЛЫТЮ'НКА *гл.* ПЛЫТІ'НКА

ПЛЫ'ЎНЫ *прым.* Тое ж, што і плы́ткі 3. *Плыўная крыша.* Палік Барыс.

ПЛЫЎСЦІ' *незак. перан.* Каласіцца. *Жыта плывець.* Чычалі Швянч.

ПЛЫ'ЦІЦЬ *незак.* Звязваць, пераплятаць плот лазой. *Плыцілі віткамі і круцяць ёлачкі, распараваяць іх, два прыжымнікі былі, перавяску дзелалі.* Кураполле Паст. *Плыцілі плыт лазой.* Валынцы В.-Дзв.

ПЛЫЦЬ *незак.* 1. Тое ж, што і плы́нуць. *Рака плывець чэраз нас.* Магуны Паст. 2. Плысці. *А той стол плыя, і ксёншка на стале.* Кудзялянцы Шальч. 3. Пагружацца. *Ногі мае плылі ў жоўты пясок.* Крэва Смарг. ▽ *Гадзінкі ідуць, як вада плыюць, ужо шэсь часоў, час, як вада плые.* Гемзы Шальч.

ПЛЫ'ШНЫК *гл.* ПЛІШНІ'К

ПЛЭ'ЙМА *гл.* ПЛО'ЙМА

ПЛЭМНЯ'ННЫК *гл.* ПЛЯМЕ'ННІК

ПЛЭЦЬ. У выразе: *Мушская плэць* — мужчынскі пол. *Мушской плэці не было, таму брралі прымакоў.* Паляцкішкі Воран.; *параўн.* польск. *płeć* 'тж'.

ПЛЭ'ЧЫ *гл.* ПЛЕЧО'

ПЛЮВА'ЦЬ *незак.* Пляваць. Вялікія Баяры Шчуч.

ПЛЮГА'ВЫ *прым. неадабр.* 1. Дрэнны. *Папамучылася бядняга, гаспадар быў плюгавы. Была плюгавая, абы-што гаварыла. Плюгавыя тут людзі жывуць.* Вецярэвічы Пух. 2. *перан.* Сыры (пра дровы). *Дрова плюгавыя, не гарaць.* Вецярэвічы Пух. 3. *перан.* Сапсаваны (пра кроў). *П'ёўка ўплязецца, дзе плюгавая кроў, і трудна адарваць.* Вецярэвічы Пух.

ПЛЮГА'ЎСТВА *зб. н.* Машкара. *Нашто гэта ўсякая плюгаўства?* Кураполле Паст.

ПЛЮГО'ЎКА *ж. абразл.* Шкодная жанчына. *Вот плюгоўка — урэдная баба.* Вецярэвічы Пух.

ПЛЮГО'ЦЬКА *ж.* Слата. *На дварэ плюгоцька — дош са снегам. Такая плюгоцька найшла, ні выйсці.* Саланое Віл.

ПЛЮ'ЖЫЦЬ *незак.* Ліць як з вядра. *Дош плюжа.* Солы Смарг.

ПЛЮ'КСЫ *мн.* Тое ж, што і п л у́ ц а. *Хварэя на плюксы.* Дакудава Лід.

ПЛЮ'НКА *ж.* Пастка. *Некаторы стаўляют плюнкі на зайці, але за тое карают.* Курашэва Чыж.

ПЛЮ'НУЦЬ, ПЛЮ'НУТЫ *зак.* Плюнуць. *Ён плюнуў у кулак і пашоў.* Ахрэмаўцы Брасл. *Я ёму в гычы плюну за такую ласку.* Сіманавічы Драг. *Я тыбэ плюну, так плюну, шо до смэрты будэш мынэ помытаты.* Ушкавіца Кобр. ◊ *Не плюнуць у руку* — не даць ніякай узнагароды. *Обедно, ніхто мне ў руку не плюнуў за гэто.* Хатынічы Ганц.

ПЛЮ'САЎКА *ж.* Жакетка з плюшу. *Сак — як цяпер плюсаўка.* Гайна Лаг.

ПЛЮ'СІКІ *мн.* Дранікі. *Другі рас пякуць плюсікі. Дралі картоплю, атцэджвалі і пяклі на скаварадзе плюсікі.* Вецярэвічы Пух.

ПЛЮ'СКА *ж. заал.* Клоп. *Плюскай смярдзіць у хаці.* Граўжышкі Ашм. *Задушыла плюску, багуном выганялі плюскаў. Плюскаў і блохаў было колісь.* Лайпушкі Ігн. *У Баніфацове як жылі, то гэтых плюсак было.* Снягяны Смарг. *У хатах плюскі, то ўсё багун насілі, кап плюскі здыхалі.* Міратычы Карэл. *Плюскі чырвоныя і смярдзяшчыя.* Каўняны Гродз. *Плюскі ў шчылінах сядзелі.* Мсцібава Ваўк. *Плюскі — чырвоныя блохі.* Тухавічы Лях. *Некалі плюскі і блохі былі.* Ёдупка Шальч.; *гл.* п л ю́ с к в а.

ПЛЮ'СКАЦЦА *незак.* Тое ж, што і п л е́ с к а ц і с а. *Плюскайся ў вадзе.* Жылі Іўеў. *Плюскаяцца ў вадзе.* Старыя Трокі Трак. *Плюскаюцца ў балоці гусі.* Вялікія Баяры Шчуч.

ПЛЮ'СКАЦЬ *незак.* 1. Плюхаць. *Рыба ідзе на нэраст на пляткія мяста і плюская.* Быстрыца Астр. 2. Моргаць. *Я Пецю плюскала, каб вёў, не адыходзіўся ад яга.* Беразіно Докш. *Плюскаю, на краваце ліжа, баюся, што прасплю.* Дзёрнавічы В.-Дзв. 3. Прыліпаць (пра мокрае адзенне). *Пазаберазе раса была такая, што плюскаюць, боўтаюцца порткі, а цяпер — як сляза раса.* Пацаўшчына Дзятл. 4. *перан.* Насычацца чым-н. *Каша ў цукру плюская.* Кіралі Шчуч.

ПЛЮ'СКВА *ж.* Тое ж, што і п л ю́ с к а. *Ад плюсквы ні схаваяся: на сярэдзіня хаты спіш, а яны са сталяваня ляцяць.* Магуны Паст. *Блашчыца і плюсква — тое ш, у нас нема іх.* Воўкуш Ліпск. *Плюсквы — блашчыцы такія былі.* Новікі Гродз.; *парайн.* польск. *pluskwa* 'тж'.

ПЛЮ'СКВЫ толькі *мн.* Лупіны з аўса. *Плюсквы — аўсяная шалушка.* Магуны Паст.; *парайн.* літ. *pliūskė* 'тж'.

ПЛЮСНА' *ж.* Ступня. *Вот забалела нага: уся плюсна.* Кіралі Шчуч.; *парайн.* літ. *plūsnis* 'які сплясканы'.

ПЛЮ'СНІК *ж. бат.* Падбел. *Плюснік расце на прыгарачках, на жвірочку, лісточак кругленькі, як капыточак, пат сподам беленькі.* Кіралі Шчуч.; *парайн.* літ. *pliūsnė* 'тж'.

ПЛЮСНЯ′ *ж. бат.* Касач. *Плюсня пахожа на аер.* Малахоўцы Бар.; *параўн.* літ. *pliūšė* 'трыснёг'.

ПЛЮСНЯ′Г *м.* Тое ж, што і п л ю с н я́. *Падсушыла плюснягу, буду плесці цыбулю.* Альба Нясв., Міратычы Карэл.

ПЛЮСЫ′ *мн. бат.* Радоўкі. *Плюсы — сівыя грыбы, крэпкія спаднізу, як сыравежкі, а кучачкамі растуць, як лісічкі.* Ухвала Круп. *Сівенькія плюсы, лахмаценькія, растуць, ідзе пападзецца, укусныя.* Вялікі Лес Круп. *Плюсы — грыбы зверху сінія, а паднізам белыя.* Азяраны Раг.

ПЛЮ′ТА *ж.* Тое ж, што і п л ю г о́ ц ь к а. *Плюта на дварэ такая, нікуды ісці не хочацца.* Пацаўшчына Дзятл. *Плюта ідзе нейкая.* Галубы Маст. *Такая плюта взялась, шо гочы заліплюе снігом. А шоб його плюта оплютала!* Сіманавічы Драг. *Трэтій дэнь на дворі такая плюта, шо й собаку з будкы ны выгнаты!* Ушкавіца Кобр.; *параўн.* польск. *pluta, plucha* 'тж'.

ПЛЮ′ТАЦЦА *незак.* Блытацца. *Плютаюцца ніткі.* Магуны Паст. *Плютаецца ніць.* Старыя Смільгіні Воран.

ПЛЮТО′ *н. абразл.* Дрэнны чалавек. *Як плюто, ты дрэнны. Прышло плюто ў хатку.* Вострава Маст.

ПЛЮ′ХАЦЦА *незак.* Тое ж, што і п л е́ с к а ц і с а. *Праганецця дзіця, бо яно плюхаецца ў вадзі, праганецця ад вадэ.* Кіралі Шчуч. *Плюхаюцца, боўтаюцца ў вадзе дзеці.* Пацаўшчына Дзятл.

ПЛЮ′ХАЦЬ *незак.* Плюхаць. *Плюхае вада.* Чычалі Швянч.

ПЛЮ′ХІ *прым.* Баязлівы. *У нас плюхая карова, усіх кароў баіцца, кажда карова стырсане рогам.* Навасёлкі Свісл.

ПЛЮ′ХЛЫ *прым.* Вялы. *Плюхлая клюква, не буду браць.* Мішневічы Шум.

ПЛЮХНУ′ЦЬ *незак.* Лінуць. *Плюхнула карасіны.* Жодзішкі Смарг. *Плюхні троху вады, то не будзе кіпець.* Мсціба́ва Ваўк.

ПЛЮЦ, ПЛЮ′ЦЫ *гл.* ПЛУ′ЦА

ПЛЮШ *м.* Плюш. *Плюш быў у таго, хто багаты.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПЛЮ′ШАВІК *м.* Тое ж, што і п л ю́ с а ў к а. *Надзела плюшавік і пашла.* Лісна В.-Дзв.

ПЛЮ′ШНІК *м.* Тое ж, што і п л ю с н я́. *Плюшнік, як аір, але не пахнець.* Беразіно Докш. *Плюшнік е, жоўтым цветам цвіце, конскі плюшнік.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Даўней і на плюшніку хлеб пяклі.* Кузьмічы Люб.

ПЛЮШНЯ′ I *ж.* Тое ж, што і п л ю с н я́. *З бакоў у бродзе расла плюшня. У лузе плюшня вельмі добра расце.* Дзяніскавічы Ганц.

ПЛЮШНЯ′ II *ж.* Тое ж, што і п л ю с н а́. *Выцяў плюшнею — нага сперадзі — ад калена да костачкі.* Дзяніскавічы Ганц.

ПЛЮШНЯ'Й *м. бат.* Рагоз. *Плюшняй—высокая трава, на ім растуць чорныя катэ.* Дзяніскавічы Ганц.

ПЛЮШЧА'Й, ПЛЮШЧЭ'Й *м.* Тое ж, што і плюсня́. *Плюшчай падобны да явару, касач і плюшчай падобны.* Рудня Астравітая Чэрв. *Плюшчай, ці коньскі плісінк, як явір, жоўты цвет, як адцвітае — шышка.* Глівін Барыс. *Плюшчай падобны на явір, ды явір пахучы, а плюшчай не.* Мачаск Бярэз. *Плюшчай расце па-за рэкамі.* Новікі Гродз. *Плюшчэй пры вазёрах расце, па грузкіх мястах. Плюшчэй расце пры мокрым, балотная трава.* Азяраны Раг.

ПЛЮ'ШЧЫЦЬ, ПЛЮ'ШЧЫТЫ *незак.* Заплюшчваць. *Дрэмля вон, бо вочы плюшчыць.* Міратычы Карэл. *Пора спаты лягаты, бач, як діты ужэ очы плюшчять.* Ушкавіца Кобр.

ПЛЮШЧЭ'Й *гл.* ПЛЮШЧА'Й

ПЛЯВА' *гл.* ПЛЕ'ВА

ПЛЯ'ВАЧКІ *мн.* Геркулес. *Плявачкі з аўса.* Кудзялянцы Шальч.

ПЛЯВУ'ЗГАЦЬ *незак. экспр.* Гаварыць няпраўду. *Німа чаго плявузгаць, што няўкусна і няўкусна.* Крэва Смарг. *Што яна плявузгая?* Вецярэвічы Пух. *Плявузгаць абы-што.* Мсціба-ва Ваўк. *Дакуль ты плявузгала?!* Кузьмічы Люб. *Плявузгаяш абы-што, ні плявузгай, гэта няпраўда.* Рудня Астравітая Чэрв. *На сяле плявузгаюць абы-што сабраўшыся бабы.* Груздава Паст.; *параўн.* блявýзгаць.

ПЛЯ'ГА I, ПЛЯ'ҐА *ж.* 1. Тое ж, што і плюгóцька. *Снех мокры падая, кажуць: «На дварэ пляга».* Стральцы Гродз. *Пляга — калі снех з дажджом.* Крынкі Крын. *Пляга — дошч, мокро.* Лука Нараўк. 2. Чорная пляма на целе. *Плягі на целе.* Старыя Трокі Трак. *Кап якія пляґі былі на целе ,то цело чорно. Як чарнякі—цело чорно, то кажуць: «Пляґі на целе».* Альхоўцы Лях. 3. Бяда, няшчасце. *Як вайна была, пала пляга на нарот.* Граўжышкі Ашм. *Новая пляга на людзей.* Старыя Смільгіні Воран. *Кап якія плягі былі, а то ж нічога.* Альхоўцы Лях. ▽ *Ніхай яе пляга возьме!* Старыя Смільгіні Воран. *Кап ты згарэў, німа на цібе якой плягі!* Жылі Іўеў. *Падзе на цябе пляґа і за гэта! Бадай на цябе якая пляґа надышла!* Гемзы Шальч. 4. *мед.* Макрота. *Дух займая, такі кашаль с плягай.* Бакшты Іўеў.; *параўн.* польск. *plaga* 'бяда, няшчасце', літ. *pliaugà* 'слата'.

ПЛЯ'ГА II *ж.* Бляшанка для адстойвання малака. *Пляга— што малако ў калодзесь апускаюць.* Альхоўцы Лях.

ПЛЯ'ЖЫЦЬ, ПЛЯ'ЖЫТЫ *незак. экспр.* 1. Разбіваць. *Хто будзя пляжыць корч?* Азяраны Раг. 2. Тое ж, што і плю́жыць. *Але ш і пляжыць дождж!* Беняконі Воран. *Цілюськый дэнь дошч пляжыть, дэсь чысто путхолеру залле нас.* Ушкавіца Кобр.

ПЛЯ'ЙМА *ж.* Пляма. *Ён не жылец: ліцо ўсё пайшло ў пляймы.* Мішневічы Шум.

ПЛЯ'ЙСТАР, ПЛЯ'СТАР *м.* 1. Штучныя соты. *Пляйстры тошчыя зноў застаўляіць хазяін у вулей.* Магуны Паст. *Плястрамі воск быў.* Старыя Трокі Трак. 2. Кавалак (мёду). *Пляйстрамі вымалі сцукраваны мёт.* Лапічы Асіп. *Плястар мёду прынёс.* Солы Смарг. *У мядніцу велькую нарэжа мёду плястар, еш.* Ністанішкі Смарг. 3. Васковая абалонка. *Запляйстрованы мёд, пакрываецца пляйстрам, як воскам.* Пацаўшчына Дзятл. 4. Слой мышачнай тканкі. *Пляйстрамі мяса на наге загнілося.* Перкі В.-Дзв.; *параўн.* польск. *plaster* 'соты'.

ПЛЯ'ЙСТРА *ж.* Тое ж, што і п л я́ й с т а р 1. *Пакінеш пляйстру воску — пчолы і пашлі рабіць.* Дакудава Лід.

ПЛЯ'ЙСТРЫ. ◇ *Пляйстрамі пайсці* — аддзяляцца слаямі. *Нага, як прыложыла кураслепам, апохла, пузары пашлі, да палавіны лыткі аблезла, паднялося такое мяса, пляйстрамі пайшло.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПЛЯН *м.* Бок, прастора. *Гумніча — гумны стаялі для малацьбы дабра і таго пляну, і гэтага.* Ухвала Круп.

ПЛЯМ *м.* Пляма. *Плям быў доўго, яґ удзяўбла на назе.* Рудня Чэрв.

ПЛЯ'МА *ж.*, ПЛЯ'МЫ *мн.* 1. Пляма. *Пляма на спадніцы асталася.* Солы Смарг. *Пляма на адзежы.* Старыя Смільгіні Воран. *Пляма велька, недзе замазаў у клушч, капнуў клушчам.* Кіралі Шчуч. *Пляма на сукенцы.* Старое Сяло Зэльв. *Плямы бяруцца ад малачаю.* Рудня Астравітая Чэрв. *Насадзіла плямаў на сукенцы.* Міратычы Карэл. *Плям насадзіў на пінжак.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Тое ж, што і п л я́ г а I, 2. *После чыра пляма осталас.* Дзяніскавічы Ганц. *У яе пайшлі плямы па целе.* Кузьмічы Люб. *Пляма робіцца, мусіць, скула будзіць.* Ахрэмаўцы Брасл. *У яго плямы чорныя на целі.* Кіралі Шчуч. *Плямы чорныя на целе.* Галубы Маст. *Усё цела ў плямах.* Рудня Астравітая Чэрв. ◇ *Біць у плямы* — пакрывацца плямамі. *Цела ў плямы стала біць.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПЛЯМЕ'НІЦА, ПЛЯМЕ'ННІЦА, ПЛЯМЯ'НІЦА, ПЛІМЕ'НІЦА, ПЛІМЯ'НІЦА *ж.* Пляменніца. *Мая адна пляменіца за хвельчара вучыцца.* Якшыцы Бярэз. *Тут пляменіца.* Малькуны Ігн. *Пляменніца мая прыехала.* Магуны Паст. *На вашай пляменніцы жаніўся, такі спраўненькі зробіўся.* Багушэвічы Бярэз. *Вот прышла да мяне сёня плямяніца, жыве далёка.* Кіралі Шчуч. *Пліменіца ягоная была тут.* Лісна В.-Дзв. *А ціпер пліменіца ў Дзержынску.* Масішкі Красл. *Трэба ў адведзены схадзіць да плімяніцы.* Малі Астр.

ПЛЯМЕ'ННІК, ПЛЯМЯ'НІК, ПЛЭМНЯ'ННЫК *м.* Пляменнік. *Мой пляменнік прывёў каня.* Дакудава Лід. *Мае пляменнік і пляменніца.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *У госці пляменнік*

*прыехаў*. Пасіене Лудз. *Мой плямянік прышоў*. Гемзы Шальч. *За Скрабава мае плямянікі жывуць*. Кіралі Шчуч. *Чорт думаў: «Дам я выдро золота, оно ны чыпайтэ ны мынэ, ны плэмнянныка»*. Сасноўка Пруж.

ПЛЯМЕ'ННІЦА *гл.* ПЛЯМЕ'НІЦА

ПЛЯМЁНКА *ж.* Тое ж, што і п л я м е́ н і ц а. *Плямёнка, я к табе прыехала паміраць*. Мішневічы Шум.

ПЛЯ'МІЗМА *ж.* Тое ж, што і п л я́ м а 1. *Сяцце дзе, ды будуць плямізмы, дык заб'юць*. Вецярэвічы Пух.

ПЛЯ'МІНА *ж.* Тое ж, што і п л я́ м а 1. Мярэцкія Глыб.

ПЛЯМІ'СТЫ *прым.* Плямісты. *У яе плямісты ціф быў; рукі бела-сінія былі, плямістыя*. Рагулішкі Даўг.

ПЛЯ'МКА *ж. памянш.* Зацямненне ў лёгкіх. *Нашлася плямка на плюцах*. Гемзы Шальч.

ПЛЯМО' *н.* Трэшчына ў торфе. *Плямо — сама сабой перарэзаная тарпа і дзірка ў тарпе*. Вострава Маст.

ПЛЯМО'К *м.* Сіняк. *Ідзеш, у скамейку дасіся і будзя плямок чорны*. Рудня Астравітая Чэрв.

ПЛЯМЯ' *н.* Гадоўля. *Пусціла ў плямя цялё*. Асавец Віл. *Пусцілі на плямя цяля*. Альхоўка Навагр.

ПЛЯМЯ'НІК *гл.* ПЛЯМЕ'ННІК

ПЛЯМЯ'НІЦА *гл.* ПЛЯМЕ'НІЦА

ПЛЯ'НСЫ *гл.* ПЛЯ'НЦЫ

ПЛЯНТАВА'ЦЬ *незак.* Выкарчоўваць. *Хадзіла плянтаваць кусты*. Рагулішкі Даўг.

ПЛЯ'НЦЫ, ПЛЯ'НСЫ *мн.* Расада. *Плянцаў, калі будзіць, усажу. Вазьму плянсаў буракоў*. Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. дыял. *plénsai* 'маладыя расліны, парасткі'<ням. *Pflanzen* 'тж'.

ПЛЯС *выкл.* Бац. ∇ *Дзвенаццаць лысых як нашчытаеце, мароз пляс — і адпадзе*. Гемзы Шальч.

ПЛЯ'СА *ж.* Кавалак. *Прынёс плясу мёду*. Парэчча Гродз.

ПЛЯСКАВА'ЦЬ *незак. экспр.* Гаварыць недарэчнае. *Як бруві белыя — нядобры чалавек, пляскуюць бабы*. Малькуны Ігн.

ПЛЯ'СКАВАЦЬ *незак. экспр.* Ткаць. *Я пляскую ад вясны да лета*. Рагулішкі Даўг.

ПЛЯСКА'НЫ *дзеепрым.* Пляскаты. *Добры кісель з плясканага аўса, цяпер завуць хлопам*. Ракаўскія Швянч.

ПЛЯ'СКАНЬКІ *прым. памянш.* да п л я с к а́ т ы. *Званец расце ў жытах, плясканькі*. Старыя Трокі Трак.

ПЛЯСКА'ТЫ *прым.* Пляскаты. *Пляскатыя палкі — крукі ў кроснах*. Вецярэвічы Пух.

ПЛЯСКА'ЦЦА *незак.* Тое ж, што і п л е́ с к а ц і с а. *Дзіця плешчацца ў вадзе*. Ухвала Круп. ∇ *Не куецца, дык плешчацца* — не ідзе на лад. Ухвала Круп.

ПЛЯ'СКА'ЦЬ *незак.* 1. Барабаніць, звінець. *Аш пля́ская міска, як дзеці ядуць*. Старыя Смільгіні Воран. *Як сядзім,*

*толькі лыжкі пляскаюць каля міскі.* Саланое Віл. 2. Тое ж, што і п л е́ с к а ц і с а. *Дзеці пляскаюць у вадзе.* Старыя Смільгіні Воран. 3. *экспр.* Касіць нізкую рэдкую траву. *Касой пляскаеш толькі, а травы мала.* Гемзы Шальч. 4. *перан.* Тое ж, што і п л я с к а в а́ ц ь. *Што ты пляшчаш языком!* Парэчча Гродз. *Нашто табе пляскаць языком?* Жылі Іўеў. *Перастань ты языком пляска́ць.* Вецярэвічы Пух.

ПЛЯСКА'Ч *гл.* ПЛІСКА'Ч

ПЛЯСКУ'Н *м. анат.* Тое ж, што і п л а в е́ л ь н і к. *У акуня пляскуна нету, плеўка ў яго, там дух сабіраяцца.* Быстрыца Астр. *Пляскун у рыбы.* Старыя Смільгіні Воран.

ПЛЯСКУ'ШКА *ж.* Пастка (на мышэй). *У нас была пляскушка для мышэй, так скасавалі.* Гемзы Шальч.

ПЛЯСНІ'ВЫ, ПЛЯСНЯ'ВЫ *прым.* 1. Плесневы. *Сена сплесніла, пляснівая сена.* Лісна В.-Дзв. *Пляснівы хлеп, нада курам пакрышыць.* Валынцы В.-Дзв. 2. Бела-руды (пра масць коней). *Пляснівы конь, у крапінкі, сівенькі.* Гайна Лаг. *Конь пляснівый, бела-рудой.* Рагулішкі Даўг. *Плясням конь — не сівы, не белы.* Чуркі Ашм.

ПЛЯ'СНУ'ЦЬ, ПЛЯ'СНУЦІ *зак.* 1. Ударыць. *Як пляслу табе даланём!* Лісна В.-Дзв. *Яна як пляснця на падлогу талерку!* Крэва Смарг. *Громам мяне пляснула.* Рагулішкі Даўг. 2. Тое ж, што і п л я с к а в а́ ц ь. *Нашто ты пляснула такое слова; другі рас пляснеш без толку.* Парэчча Гродз.

ПЛЯСНЯ'ВЫ *гл.* ПЛЯСНІ'ВЫ

ПЛЯ'СТАР *гл.* ПЛЯ'ЙСТАР

ПЛЯ'СТРАЧКА *ж. памянш.* да п л я́ й с т а р 3. *Плястрачка цененькая* [воску]. Крэва Смарг.

ПЛЯ'СТРЫ *мн.* Штучныя соты. *Восак здаём і плястры купляем — як палатно і ямачкі зроблены.* Парэчча Гродз.; *гл.* п л я́ й с т а р 1.

ПЛЯ'СТЫ *мн.* Тое ж, што і п л я́ с т р ы. *На рамах робяць плясты з воску.* Навасёлкі Свісл.

ПЛЯСТЭ'РЫК *м. памянш.* Скрылік. *Плястэрыкамі луку нарэжу і патсмажу.* Солы Смарг.; *парайн.* польск. *plasterek* 'тж'.

ПЛЯСЦІ' *незак.* 1. Плесці што-н. *Кашолкі ўмела плясці.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Трэба плясці лапці і кошык.* Міратычы Карэл. *Другі пляце абы плясці.* Солы Смарг. *Ён кошыкі пляце і лышкі робіць.* Альхоўка Навагр. *З лык плялі лапці.* Саланое Віл. 2. Віць (гняздо). *Птушка пляце гняздо.* Малахоўцы Бар. 3. *перан.* Тое ж, што і п л я с к а в а́ ц ь. *Што ты пляцеш, што прышло ў голаву?!* Старыя Смільгіні Воран. *Пачаў плясці абы-што. Што ты там пляцеш?* Ёдлавічы Брасл. ◊ *Плясці ні зіму, ні лета* — гаварыць недарэчнае. *Пляцець а пляцець ні зіму, ні лета.* Малькуны Ігн.

ПЛЯСЦІ'СЯ *гл.* ПЛЕ'СЦІСЯ

ПЛЯТКАВА'ЦЬ *незак.* Пляткарыць. *Пляткуя, ходзячы па сяле.* Граўжышкі Ашм.

ПЛЯТКА'Р *м.* Пляткар. *Былі пляткары.* Жылі Іўеў.

ПЛЯТКА'РКА *ж.* Пляткарка. *Пляткарка ты!* Старое Сяло Зэльв. *Пляткарка сплетнічыць.* Паляцкішкі Воран. *Пляткарка ходзіць па хатах і пляткуіць.* Ёдлавічы Брасл. *Пляткарка гэта баба: толькі па хатах ходзіць і плёткі пляце.* Гемзы Шальч. *Пляткарка на ўсю вёску.* Ністанішкі Смарг.

ПЛЯТНІ'К *м.* Пляцень. *Плятнік — плот аплятуць галлём.* Альхоўцы Лях.

ПЛЯТНЯ' *ж.* 1. Маток зблытаных нітак. *Цэлая плятня п展блытаных нітак.* Галубы Маст. 2. Сукупнасць, калонія (пра грыбы). *Свіні* [назва грыбоў] *плятнёй растуць.* Рагулішкі Даўг. 3. Тое ж, што і п л я т к а́ р к а. *Плятня прышла ў хату і напляла.* Кіралі Шчуч. 4. Сплецены з лазы гуж. *Плятнёю плот зроблены. Плятня — што звязуюць плыты.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПЛЯТУ'ЧЫ *дзеепрым.* Што чапляецца за што-н. *Асака плятучая вельмі.* Вецярэвічы Пух.

ПЛЯ'ЎСІ *мн.* Тое ж, што і п л я́ в а ч к і. *Пляўсі з аўса.* Кудзялянцы Шальч.; *парайн.* літ. *plaũšė* 'вотруб'е'.

ПЛЯЎЦЕ'ЦЬ *незак.* Ільсніцца. *Вот хароша крама* [матэрыя], *ажно пляўціць, нека цяшка.* Дзяніскавічы Ганц.; *гл.* *бляўцéць* 1.

ПЛЯХА' *м.* 1. Лысіна. Чычалі Швянч.; *парайн.* ням. дыял. *fläk* 'плошча'. 2. Агрэх. Чычалі Швянч.

ПЛЯХА'ТА *прысл.* Хлюпка. *Шыпшына цвыець пляхата, а ружа — поўна.* Магуны Паст.

ПЛЯ'ХАЦА *незак.* Плюхацца. *Воды ў міску постаўлю, дзіця пляхаеце.* Навадворцы Васільк.

ПЛЯЦ *м.* 1. Прысядзібны ўчастак. *Упіраецца пляц у пляцэ.* Новіны Нясв. *Пляц — самы малы ўчастак зямлі, у людзей было па паўвалочкі.* Ракаўскія Швянч. *Пасадзіла бульбу на пляцы.* Рыбчына Віл. *Быў пляц засажаны.* Гемзы Шальч. *Соткі завуць пляц.* Альхоўцы Лях. *Гэтага пляца нікому не дасць, сам яго і робіць, картошку садзіць.* Малышы Лід. *В Гайновці пляца купів.* Курашэва Чыж. 2. Зямельны ўчастак, заняты пад гаспадарчыя пабудовы. Мярэцкія Глыб. *На пляцы і хата, і агарот, і пабудовы.* Збляны Лід. 3. Сядзіба. *Радзіўся тут, на гэтым пляцы.* Збляны Лід.; *парайн.* польск. *plac* 'тж'.

ПЛЯЦА'К *м.* Рукзак. *Пляцак нясеш за плечамі.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* польск. *plecak* 'тж'.

ПЛЯЦЕ'НКА *ж.* Аснова красён. *Давай пляценку паторгаям.* Вецярэвічы Пух.

ПЛЯЦЕ'НЬ *гл.* ПЛЕ'ЦЕ'НЬ

ПЛЯЦЁНКА, ПЛЕЦЁНКА, ПЛЕЦЯ'НКА *ж.* 1. Пляцёнка (цыбулі). *Цыбулю вяжуць у пляцёнкі, у косы.* Ёдлавічы Брасл.

*Цыбулю плятуць у пляцёнкі і часнок таксама.* Дзяніскавічы Ганц. *У плецёнкі попляла цыбулю.* Хатынічы Ганц. *Плецянку цыбулі напляла.* Мачаск Бярэз. 2. Палукашак. *Пляцёнку стаўлялі на калёсы і сыпалі бульбу.* Рыбчына Віл. 3. Кросны, сплеценыя ў ланцужок. *Аснову кроснаў трэба сабраць у пляцёнку.* Граўжышкі Ашм. *Здымеш аснову з снавідла, такая пляцёнка длуга.* Грыкені Вільн. *Снуём на сноўніцы, сабіраем у пляцёнку.* Дзераўное Стаўб. *Трэш і датыкаеш, пасленне аткруціш, а потым папляцеш пляцёнкі.* Мачаск Бярэз. 4. Тасёмка. *Пляцёнкі былі.* Жылі Іўеў. *Гэтыя ніткі пляце ў пляцёнкі.* Гемзы Шальч. 5. Сплеценыя ў касу канцы асновы. *З канцоў палатна плялі пляцёнкі і да воркаў шнуркі.* Старыя Трокі Трак. *Паплятаюць у пляцёнкі.* Грыкені Вільн. 6. *перан.* Тое ж, што і п л я т к а́ р к а. *Добра пляцёнка і Аліна.* Вецярэвічы Пух.

ПЛЯЦЁНЫ *дзеепрым.* Плецены. *Пляцёныя з лазы кошыкі.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПЛЯ'ЦКАЦЬ *незак. экспр.* Чмякаць. *Што ты пляцкаіш, як свіння.* Валынцы В.-Дзв.

ПЛЯЦЯНІ'К *м.* Ез. *Пляцянікам рэку парагараджвалі, лазою, галём.* Вялікія Баяры Шчуч.

ПЛЯЦЯ'НКА I *гл.* ПЛЯЦЁНКА

ПЛЯЦЯ'НКА II *ж.* Пуня, сплеценая з лазы. *Пляцянка — пунька з дупцоў, пераплеценая дупцамі.* Рыбчына Віл.

ПЛЯЧА'К *м.* 1. *анат.* Плечавы сустаў. *Плечы баляць, баліць плячак.* Міратычы Карэл. 2. *крав.* Пройма рукава. *Плячак быў ладна прышыты.* Паляцкішкі Воран.

ПЛЯЧО' *гл.* ПЛЕЧО'

ПЛЯЧУ'К *м.* Тое ж, што і п л я ч а́ к 1. *Плячук пабіў.* Рудня Астравітая Чэрв. *Плячук павярнула і палучылась расцяжэнне.* Раўбічы Мін. *Угравала плячукі, а сярэдзіна баліць.* Альхоўцы Лях.

ПЛЯША'ВЫ *прым.* Пляшывы. *Лысы ён, пляшавы.* Старыя Трокі Трак.

ПЛЯ'ШКА *ж.* Бутэлька. *Пляшка і бутэлька — адно і тоя ш.* Дакудава Лід. *Бутэльку даўней пляшкай называлі.* Баброўнікі Гарад.

ПЛЯШКО' *н.* Патоўшчаная частка зуба ў драўляных граблях. *Зуп у граблях, зуп мае пляшко, забіваюць у галоўку да пляшка яго.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПЛЯШЫ'ВЫ *прым.* Тое ж, што і п л я ш а́ в ы. *Чалавек у балячках — пляшывы.* Дакудава Лід. *Пляшывы — нейкія лішаі на галаве.* Галоўні Воран. ∇ *Лысы, пляшывы — нарот паршывы.* Граўжышкі Ашм.

ПНЕ *мн.* Пні. Горск Бяроз.

ПНЕ'ЎЕ *зб. н.* 1. Адросткі пер'яў пасля лінькі ў птушак.

*У пнеўі ўсе ціпляты.* Лісна В.-Дзв. 2. Тое ж, што і п н е. *Пнеўя ды карэння поўно ў лесі.* Кузьмічы Люб.

ПНІ *мн.* Тое ж, што і п н е́ ў е 1. *Як вуткі абрастаюць, пні тырчаць. Пні ў мясі астаюцца, як ліняіць вутка.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПНІ'СКА *мн. павел.* да п н е. *Булі і пніска вэлікые.* Горск Бяроз. *От хорошы пніска повымывала вода над рыкою, поідь забыры, то хоч попотопыш у пычі.* Ушкавіца Кобр.

ПНЮ'ШКІ *мн. памянш.* да п н е́ ў е 1. *Яшчэ ў пнюшках ціпляты былі, пер'я ня выраслі, а яна іх парэзала.* Валынцы В.-Дзв.

ПО *гл.* ПА

ПОБА'ВЫТЫСЬ *зак.* Пагуляць. *Коб то побавылося так.* Дзмітравічы Кам. *Купы дытыны нову якую цацку, то мо хоч пару дён побавыця з ею.* Ушкавіца Кобр.

ПО'БАК *прысл.* Побач. *Побак са мной ляжала баба.* Гемзы Шальч.

ПОБАРАШКОВА'ТЫ *зак. экспр.* Пасваволіць. *Дієті побарашковалі собіе.* Курашэва Чыж.

ПО'БАЧ *прысл.* Па суседству. *Побач жыве. Побач загарэўся сарай.* Рудня Астравітая Чэрв. *Наша зімля была побач. Мы і яны сядзелі побач. Бывая, побач у адным канцы пройдзіць, а ў другім толькі папырскаіць* [дождж]. Саланое Віл. *Калы ўб'е побач.* Грыкені Вільн.

ПО'БАЧНІ *мн.* Бакавыя часткі воза. *На побачні наклаў у калёсах, на ручкі наклаў.* Азяраны Раг.

ПОБА'ЧЫТЫ *зак.* Паглядзець. *Пойду побачу.* Дзмітравічы Кам. *Побач, чы дошч шчэ ідэ. Пойду побачу, як Гандзя по хворобі чуецце.* Курашэва Чыж. *Пойды побач, якая на дворі погода, коб знаты, як одіватыся.* Ушкавіца Кобр.

ПОБІ'ДАТЭ *зак.* Паабедаць. *Добре побідав.* Дзмітравічы Кам.

ПОБІЕ'ЖЧЫ *гл.* ПАБЕ'ГЧЫ

ПОБО'ЛЬШ *прысл.* Больш. *Побольш маш хлеб маслом.* Смаляніца Пруж.

ПО'БОУКА *ж.* Прыказка. *Побоўка такая ў нас.* Азарычы Пін.

ПОБРА'ЦІ *зак.* Сабраць. *Побэрут сено.* Смаляніца Пруж.

ПОБРА'ЦЦА *гл.* ПАБРА'ЦЦА І

ПОБУО'ЛЬШАТІ *зак.* Пабольшаць. *По дошчові воды побуольшало.* Курашэва Чыж.

ПО'ВАНЬ *ж.* Разводдзе. *Повань паднялася — падымаецца рака, выліваецца з берагоў. Повань ужо спадаіць. Вады было сіня ат лесу да лесу, гэта звалі повань бальшая.* Саланое Віл.

ПО'ВАР *м.* Повар. *Болесь за повара ў бальніцы.* Груздава Паст. *Муш поварам, варыў ён.* Ністанішкі Смарг. *Добрый повар с тыбэ получыця.* Ушкавіца Кобр.

ПО'ВАТ *м.* Повад. *У абрыці поват, павадок.* Курaполле Паст. *Поват быў каровам сена насіць.* Вецярэвічы Пух. *Поват — што карову водзяць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Пры вуздэццы поват.* Крынкі Крын.

ПО'ВАЦЬ I *м.* і *ж.* Тое ж, што і п о́ в а н ь. *Так дошч быў, повацъ настаяшчая.* Быстрыца Астр. *Поваць шла і занесена слой пяску ў тую кудру. Самы той поваць, як распускаецца снех.* Старыя Смільгіні Воран.

ПО'ВАЦЬ II у знач. *прысл.* Многа. *Поваць лускі ад яйца.* Быстрыца Астр.

ПОВЕРНУ'ТЬ *зак.* Павярнуць (сена). *Нужно повернуть сена, надо грабіть сена.* Рагулішкі Даўг.

ПО'ВЕРХУ, ПО'ВЯРХУ *прысл.* 1. Зверху. *Нітка поверху ідзе.* Дакудава Лід. *Нітка поверху пашла.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *На клямры поверху шлі нахлесткі. Поверху ручак шлі градачкі.* Пасіене Лудз. *Повярху пасаліла сланіну.* Жылі Іўеў. *Абівалі лён прайнікам повярху.* Магуны Паст. 2. Звонку. *Поверху баліць нага.* Старыя Смільгіні Воран.

ПО'ВЕС, ПО'ВЯС *м.* 1. Пояс. *Повес тканы адзін толькі і застоўся ў мяне.* Галубы Маст. *Повес — найболяй гаворацъ.* Малахоўцы Бар. *Повяс тканы быў.* Міратычы Карэл. *Буду повяс ткаць.* Панямонь Навагр. *Аплюк ушый у повяс.* Дакудава Лід. *Повясам найлепяй завязаць.* Малахоўцы Бар. *Повясам падвяжы спадніцу.* Бакшты Іўеў. 2. Спавівіч. *Повясам дзіця спавівалі.* Дакудава Лід.

ПОВЕ'СІЦІ *гл.* ПАВЕ'СІЦЬ

ПО'ВІДНА, ПОВЫДНУ' *прысл.* Завідна. *Повідна засну, доўней ні спала, і сон ні змарыць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Буду повідна шукаць курыцу.* Азяраны Раг. *Зарэ поночы, ліпш повыдну зроблю.* Сіманавічы Драг.

ПОВІЕ'СМА *гл.* ПАВЕ'СМА

ПОВІЕ'СМО *гл.* ПАВЕ'СМА

ПО'ВІЗНІК, ПО'ВЯЗНІК *зб. м. буд.* Паплеціна. *Трэба повізніку прывясці і начысціць.* Саланое Віл. *Повязнік — чым прымацоўвалася салома на страсе.* Дакудава Лід.

ПО'ВІЗНІНА *ж.* Тое ж, што і п о́ в і з н і к. *Повізнінай увязаваюць салому на крышы.* Саланое Віл.

ПО'ВІН. ◊ *Повін стол, повін лес* — вельмі многа. *Бліноў повін стол накладзен.* Лоск Валож. *Брусніц повін лес.* Лісна В.-Дзв.

ПОВІ'ННОСТЬ *ж.* Абавязак. *Такая наша повінность.* Азарычы Пін.

ПО'ВІЦЬ *ж. бат.* Павітуха. *Скруціла повіць лён, спляла. Повіць найбольш па лёне расце.* Баброўнікі Гарад.

ПОВРО'ЗЫ *мн.* Завязкі ў фартуху. *Поврозы — гэта вяроўка з польскего.* Жодзішкі Смарг.; *парайн.* польск. *powróz* 'вяроўка, канат'.

ПОВТУО′РКА *ж.* Паўтарэнне. *Хлопэць кажэ, што з задач повтуоркі нэ было.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *powtórka* 'тж'.

ПОВУО′ЛЬНЫ *прым.* Марудлівы. *На повуольного коня трэба міеті біча.* Курашэва Чыж.

ПОВУСЕ′ЛЬВАЦЦА *зак.* Павысяляцца. *Хто повусельваўса на хуторэ, то завелі саткі.* Лахаўка Лун.

ПОВЫДНУ′ *гл.* ПО′ВІДНА

ПОВЫПО′ЛВАЦІ *гл.* ПАВЫПА′ЛАВАЦЬ

ПОВЫСЕ′КАЦЬ *зак.* Павыдзёўбваць. *Повысекае дзіркі і робіць пудпоры.* Хатынічы Ганц.

ПОВЫ′СМО *гл.* ПАВЕ′СМА

ПОВЫШЧЭ′БАЦЦА *зак. экспр.* Пажартаваць. *Дзе я повышчэбаюса з хлопцамі?* Хатынічы Ганц.

ПОВЭ′НДЭТЭ *зак.* Павэндзіць. Дзмітравічы Кам.

ПО′ВЯЗІНА *ж.* Тое ж, што і п о́ в і з н і к. *Тая повязіна, што салому прыціская. Повязіну прыкручваюць дупцамі да грабясціны.* Альхоўка Навагр.

ПО′ВЯЗНІК *гл.* ПО′ВІЗНІК

ПО′ВЯЗНЯ *ж.* Тое ж, што і п о́ в і з н і к. *Расцілалі салому на страсе, повязні круцілі з лазы і ўвязвалі салому повязняй.* Збляны Лід.

ПО′ВЯРХУ *гл.* ПО′ВЕРХУ

ПО′ВЯС *гл.* ПО′ВЕС

ПО′ВЯСКА *ж.* Тое ж, што і п о́ в і з н і к. *Повяскі ўвязваюць, як крыюць крышу.* Міратычы Карэл.

ПО′ГАЛАСКА, ПО′ГОЛОСКА, ПО′ГЛАСКА *ж.* Чутка, звестка. *Погаласка пашла, што будзя васэля.* Граўжышкі Ашм. *Погаласка пашла па вёсцы, што ён жэніцца.* Альхоўка Навагр. *Погаласка пашла.* Пасека Ст.-Дар. *У нас пусцілі погаласку: ад яшчару ўколы будуць даваць каровам.* Асавец Віл. *Погаласка чуць.* Рыбчына Віл. *Пусціла погаласку, а так гэто ці не?* Малахоўцы Бар. *Пусцілі гэту погаласку, што яна сякеру свянціла, каб яго зарубаць.* Кудзялянцы Шальч. *Погаласкі пусціла па вёсцы.* Дакудава Лід. *Погаласкі пайшлі па вёсцы.* Лука Нараўк. *Погаласкі чуваць, што вяселля будзя, чуткі ідуць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Ідзе поголоска такая.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Нехта ш пусціў гэту поґласку нялюцкую.* Магуны Паст. *Прышлі погаласкі аб ем.* Груздава Паст.; *парайн.* польск. *pogłoska* 'тж'.

ПО′ГАНЬ *м.* і *ж. лаянк.* Благі чалавек. Ахрэмаўцы Брасл. *Лядашта погань, ня слухая, я табе, погань ты!* Кіралі Шчуч. *Погань ты!* Рудня Астравітая Чэрв. *Ідзі ты, погань!* Мішневічы Шум. *С такім поганям сходзіцца, не слухае бацькоў.* Парэчча Гродз.

ПО′ГЖАБ *м.* Пахаванне. *Адбыўся погжаб, бутэлька гарэлкі і міса грыбоў.* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *pogrzeb* 'тж'.

ПО'ГЛАСКА *гл.* ПО'ГАЛАСКА

ПО'ГНІЛКІ *мн.* Гнілякі. *Вунь погнілкі ляжаць.* Вецярэвічы Пух.

ПОГНО'Й *м.* Угноеная зямля. Малыя Аўцюкі Калінк.

ПОГНУ'ТЫ *дзеепрым.* Сагнуты. *Погнуто вядро.* Калясное Міхал.

ПОГОВУ'РКА *ж.* Тое ж, што і п о́ г а л а с к а. *Поговурка по сялу пошла.* Хатынічы Ганц.

ПОГО'ДА *гл.* ПАГО'ДА

ПОГО'ДЛІВЫ *гл.* ПАГО'ДЛІВЫ

ПОГОДОВА'ТЫСЯ *зак.* Выгадавацца. *Погодоваліся курынята.* Дзмітравічы Кам.

ПО'ГОЛОСКА *гл.* ПО'ГАЛАСКА

ПО'ГРАБ I, ПО'ГРАП *м.* Склеп. *Бульбу ў пограб ссыпаюць.* Рудня Астравітая Чэрв. *У пограп бульбу сыпюць.* Асавец Віл. *Пограб для картофеля.* Альхоўка Навагр.

ПО'ГРАБ II, ПО'ГРАП *м.* Тое ж, што і п о́ г ж а б. *На пограп хадзілі.* Паляцкішкі Воран. *На пограбя быў.* Старыя Смільгіні Воран.

ПОГУ'ДЗІЦІ *гл.* ПАГУ'ДЗІЦЬ

ПОГУО'Н *м.* Статак; чарада. *В сэліе быдло погоном пасут. Коровы выпустілі в погуон. Діеті погоном біегают.* Курашэва Чыж.

ПОГУСЕНЕ'ЦЬ *зак.* Зрабіцца падобным на гусіную скуру (ад холаду). *Ад холаду погусенело цело.* Вострава Маст.

ПОД, ПОТ *м.* 1. Чарэнь. *Выгарай под, нада ўлажыць под.* Вялікія Баяры Шчуч. *Под — дзе драва лажылі.* Пасіене Лудз. *Под у печы.* Альба Нясв. *У печы пот.* Магуны Паст. *Мама астыванікі пякла на падзе.* Кураполле Паст. *На паду пікла хлеп.* Валынцы В.-Дзв. *На паду пяклі хлеб, на аеру, очэнь укусны на лістах кляновых.* Скрыпчына Лудз. *Хлеб на паду пяклі.* Беразіно Докш. *Паставіла на паду.* Мярэцкія Глыб. *Под у печы, хлеп спякла на паду.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *На паду хлеб пяклі.* Вялікі Лес Круп. *Атмятуць памялом у печы і па подзе саджалі лапуны.* Саланое Віл. *Пот у печы.* Гемзы Шальч. *Пот у печы выдзерся.* Ахрэмаўцы Брасл. *Тъякая лъпата — на пот хлеп содзюць.* Філіпаўцы Красл. *Пот у печы прарваўся ўжэ.* Масішкі Красл. *Пот выдраўся ў печы.* Багушэвічы Бярэз. *Хлеп на поце печаны мае смак, а ў блясе ён упарыцца.* Солы Смарг. *На поце стаіць.* Лісна В.-Дзв. 2. Стажар'е. *Под робяць для сена на балоці: пад сено, пад салому.* Любішчыцы Івац. *Пода роб'ят под стог.* Смаляніца Пруж. 3. Ніз вулея. *У вуляі пот знізу.* Малахоўцы Бар. *Под — ніз вулея.* Малыя Аўцюкі Калінк. 4. Драўляная скрынка ў жорнах. *У жарнах два камні і пот нападобія стала.* Лісна В.-Дзв. *Мука сыпіцца на пот і на поду ляжыць.* Валынцы В.-Дзв. *Пот у жорнах с*

*дошчак збіты.* Саланое Віл. *Пот — яшчык вакол жорнаў.* Дзяніскавічы Ганц.

ПО'ДАК *м.* Тое ж, што і п о д 3. Азяраны Раг.

ПО'ДАЛ *м.* 1. Прыпол. *А які подал абрызганы!* Солы Смарг. *Бяры хоць у подал плацця.* Мішневічы Шум. 2. Падол. *Подал падрубі.* Ухвала Круп. *Патшый подал.* Солы Смарг.

ПО'ДАЎНА *прысл.* Даволі даўно. *Подаўна прыехала.* Мярэцкія Глыб. *Подаўна было.* Рыбчына Віл. *Подаўна вырвала зуп.* Вецярэвічы Пух.

ПО'ДАЦЬ *ж. гіст.* Даніна. Рыбчына Віл. *Подаці памешчыку плацілі спраўна.* Беразіно Докш.

ПО'ДБЕГАМ *прысл.* Подбегам. *Яна подбегам ідзе.* Вецярэвічы Пух.

ПО'ДБІВА *ж.* Падшыўка. *Трэба прылажыць подбіву да спадніцы, а то спадніца ацёпкаецца.* Кіралі Шчуч. *Даўней подбіва называлі, а патшэўка — троха далікатней.* Парэчча Гродз.

ПО'ДБІЛКА *ж.* Тое ж, што і п о́ д б і в а. Пасека Ст.-Дар. *Подбілку падбіць трэба.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПО'ДБІЎКА, ПЫ'ДБЫВКА *ж.* 1. Тое ж, што і п о́ д б і в а. *На подбіўку трэба купіць чаго. Нада прышыць подбіўку.* Лісна В.-Дзв. *Трэба пыдбывку пудшыты.* Дзмітравічы Кам. 2. Падшыты ніз у адзенні. *Подбіўка ў спадніцы шырока і вузка.* Дзяніскавічы Ганц. *Подбіўка ў спадніцы адпаролася.* Азяраны Раг. *Подбіўку падбій, а то ходзіш немаведама як. Даўней казалі: падбіць подбіўку, а цяпер — загнуць.* Мачаск Бярэз.

ПО'ДВЕРАСАК *м. бат.* Разнавіднасць верасу. Навасёлкі Свісл.

ПО'ДВЕРЦЬ *ж.* Падгерац. *Подверць да дышля і да задняга крэсла прычэпліваецца, кап вос правільна ішоў.* Солы Смарг. *Подверць робіцца, каб воз не круціўся, закрапляецца за шворан і за дышаль.* Івашкаўцы Смарг.

ПОДВУО'ЙНЫ *гл.* ПАДВО'ЙНЫ

ПО'ДВЯЗКА, ПО'ДВЯСКА *ж.* Падвязка. *Бывала, выдзяруць які матуз і зробяць подвязку, падвяжуць панчоху і зробяць подвязкі.* Кіралі Шчуч. *Подвяска згубіласа.* Малахоўцы Бар. *Дзе мая подвяска?* Рудня Астравітая Чэрв.

ПО'ДГУР *м.* Тое ж, што і п о́ д в е р ц ь. *Шворан праходзіць на подгур і ўвязваецца, і вос ні выкруціцца.* Вялікія Баяры Шчуч.

ПО'ДДЗІВАЧКА *ж.* Сподняя спадніца. *Надзівалі падніс подлзівачку.* Янова Рас.

ПО'ДЗЕЛЕНЬКІ, ПО'ДЗЕЛЯНКІ, ПО'ДЗЯЛЕНКІ, ПО'ДЗЯЛЯНКІ *мн. бат.* Падзялёнкі. *Подзеленькі, зялёнкі растут восенню.* Лука Нараўк. *Подзелянкі пат сподам зялёненькіе.* Баброўнікі Гарад. *Подзелянкі сівыя зверху, пахожы на зеляніцы, толькі сівыя.* Пацаўшчына Дзятл. *Подзяленкі, зеляніцы*

*ўвосень бываюць.* Засецце Дзятл. *Усякія грыбэ ў леся: савячке, валуе, зялёнкі, подзялянкі.* Малахоўцы Бар.

ПОДЗІВІ'ЦІСА *гл.* ПАДЗІВІ'ЦЦА

ПОДЗІВІ'ЦЦА *гл.* ПАДЗІВІ'ЦЦА

ПО'ДЗІНА *ж.* Тое ж, што і под 2. *Подзіну кладуць пад ніс стога.* Малахоўцы Бар.

ПОДЗІ'НКА *ж.* Гліняны гаршчок без ручкі. *Подзінка без ручкі.* Малькуны Ігн.; *парайн.* літ. *puodỹnė* 'тж'.

ПО'ДЗЯЛЕНЬКІ *гл.* ПО'ДЗЕЛЕНЬКІ

ПО'ДЗЯЛЯНКІ *гл.* ПО'ДЗЕЛЕНЬКІ

ПОДІВІ'ТІСЕ *гл.* ПАДЗІВІ'ЦЦА

ПО'ДКІ *мн.* Прыстасаванне, на якім сушылі снапы. *На подкі жыто зложылі: стоўпы ўбівалі, поляна клалі і жыто доложыш* [у лесе, на полі]. Хатынічы Ганц.

ПО'ДКУР, ПО'ТКУР *м. пчал.* Падстаўка пад вулей. *Вулей на подкур стаўлялі. Палез на подкур.* Глівін Барыс. *Пчолы былі, подкур быў.* Ухвала Круп. *Поткур — плашчатка, загаратка, ахрана ад мядзведзяў.* Рагулішкі Даўг. *Поткур рабілі, каб мядзвець ні залес да пчол. Поткуры рабілі, кругом рэйкі доскамі абівалі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Поткур — гэта плашчатка, ляжала на шыпах, тарчалі штыры да метра даўжыні, ахрана ад мядзведзяў.* Азяраны Раг. *Поткур рабілі пад вулей.* Малыя Аўцюкі Калінк.; *парайн.* руск. *подкýра* 'тж' (Даль, III, 180—181).

ПО'ДЛАСЦЬ *ж.* Зло. *Вотка подласці дзелаіць: напіўся, бабу абабіл, пасварыўся, пашоў у лясок і павесіўся.* Малькуны Ігн.

ПО'ДЛІЎКА *ж. кулін.* Поліўка. Малыя Аўцюкі Калінк.

ПОДЛО'ГА *гл.* ПАДЛО'ГА

ПО'ДЛУГ, ПО'ДЛУХ *прыназ.* 1. Адпаведна, адносна. *Лыкі дралі і пасталы плялі подлух нагі. Еслі подлуг зімы, то не будзе лета.* Мсцібава Ваўк.; *парайн.* польск. *podług* 'тж'. 2. Для свайго ўзросту. *Подлуг лет яна і цяпер шустра.* Парэчча Гродз.; *парайн.* польск. *podług* 'адпаведна, згодна, паводле'.

ПО'ДЛЫ *прым.* 1. Ганебны. *Яна подлая людзіна. Яна ні с чым не мірыцца, подлы чалавек.* Магуны Паст. *Што б я ўмела такое подлоё здзелаць, я здзелала б яму.* Ухвала Круп. *Ужэ хлопец подлы, не варты мяне.* Баброўнікі Гарад. 2. Шкодны (пра дзіця). *О, неко подло дзіця, усё шкодзіць.* Малахоўцы Бар.

ПО'ДМАЗКА *ж.* Подмазка. *Скавараду подмазкаю мажця.* Пасека Ст.-Дар. *Подмазкай падмазуюць скраваду.* Азяраны Раг.

ПО'ДМЯТКА *ж.* Труха саломы, сена. *Подмятку сыплю свіням.* Быстрыца Астр.

ПО'ДНІК *м.* Ніжні камень у жорнах. *У жорнах поднік ёсць і верхнік.* Мачаск Бярэз.

ПОДО'Л *гл.* ПАДО'Л

ПОДОРО'ШШЭТЫ *зак.* Падаражэць. *Рабына по поўтора рубля кіля сухая. А можэ, і подорошшэ.* Брады Пруж.

ПОДОСЛА'ТЫ *зак.* Падаслаць. *Подосланы свэнюм трэба.* Дзмітравічы Кам. *Сходы потстылы корову с тылятом, а то хутко зусім потопляцця.* Ушкавіца Кобр.

ПО'ДРАСТАК *м.* Падлетак. Пасека Ст.-Дар.

ПО'ДРУБ, ПО'ДРУП *м.* і *ж.* 1. Першы вянок зруба. *Подруб нада змяніць.* Мішневічы Шум. *Подруп — першы вянок у зрубе.* Старыя Смільгіні Воран. *Подруп — ніжні вянок зруба.* Беразіно Докш. *Подруп у зрубе.* Быстрыца Астр. *На камені ложаць подруп — два вянькі подрубу.* Гемзы Шальч. *Подруп даецца, калі старую хату падымаяш.* Магуны Паст. *Самая первая ў зрубя — подруп.* Жодзішкі Смарг. *Палажыў подруп і тады ўжо гані.* Грыкені Вільн. 2. Драўляная аснова печы. *Подруб рабілі пад печ — каменя накладалі.* Рагулішкі Даўг.

ПО'ДРУБА *гл.* ПАДРУ'БА

ПО'ДСВЯТ *прысл.* На досвітку. *Вясною на подсвят едзям на рэчку ставіць вянцярэ.* Стральцы Гродз.

ПОДУМЭ'НЕ *н.* Думка. *Навэть на подумэне мніе нэ прышло, коп так зробіті.* Курашэва Чыж.

ПО'ДУШКА I *ж.* Падушка. *Вазьмі маю подушку, яна большая.* Стральцы Гродз. *Подушка велька.* Вялікія Баяры Шчуч. *Подушку прасушы.* Старое Сяло Зэльв. *Подушка ўпала на пудлогу, возьмы поднымы.* Ушкавіца Кобр. *Подушка мая велька — сыплем пер'я ў сыпку, наверх наўлечку і спаць ляглі.* Кіралі Шчуч. *Подушка хай сохне.* Старое Сяло Зэльв. *Пер'е на подушку драла.* Паляцкішкі Воран. *Буду подушкі рабіць.* Вострава Маст. *Яна подушкі ператрасала — грошы шукала.* Кудзялянцы Шальч. *Можна дзве подушкі палажыць. Пакупаям атовыя* [гатовыя] *подушкі.* Парэчча Гродз.

ПО'ДУШКА II *ж.* Вузгалаўе. Беняконі Воран. *На вось накладалася подушка.* Пацаўшчына Дзятл. *Подушка з ручкамі ў возе.* Старыя Смільгіні Воран.

ПО'ДУШЫ *прысл.* Вельмі прыемна. *Яму подушы, што я накрычала на Аню.* Міратычы Карэл.

ПОДЧЭРЫ'В'Е *н.* Падчарэўе. *Подчэрыв'е отпустэла, будэ свыння поросэтысь.* Дзмітравічы Кам.

ПОДЫВІ'ТЫСЬ *гл.* ПАДЗІВІ'ЦЦА

ПОДЫВЫ'ТЫСЬ *гл.* ПАДЗІВІ'ЦЦА

ПОДЭ'ТЫСЬ *зак.* Згубіцца. *Дэ моі очкі подэлісь?* Дзмітравічы Кам.

ПО'ЕЗД *м.* Цягнік. *Ездзілі ў Рыгу, як не было поездаў.* Швэды Вільн.

ПО'ЖАГ, ПО'ЖАХ *м.* 1. Палка для вымешвання жару ў печы. *Пожагам мяшалі ў агні: гарэў агонь і пяклі бульбу.*

Беразіно Докш. *Пожаг — эта палка для выметанія печкі.* Старыя Смільгіні Воран. *Пожах — калочак падгортваць вугле.* Вялікія Баяры Шчуч. 2. Дзяржанне. *Пожах да веніка хваёвага ўтыкалі.* Дакудава Лід. *Венік пячны на пожаху, пожах драўляны, з гарэшыны.* Кіралі Шчуч. *Венік насадзяць на пожах — кій такі.* Кудзялянцы Шальч. 3. Венік з хваёвых галінак. *Пожах — венік з хваёвых лапак, яны палучаюцца крывыя, добра месці ток у печы.* Мыто Лід.; *параўн.* літ. *pãžagas* 'качарэжнік', польск. *pożoch* 'тж'.

ПО'ЖАНЬКА *ж. памянш.* Сенажаць. *Рассцеліш палатно па пожанькі, зберыш у пласты.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПОЖАРЫ'ШЧЭ *гл.* ПАЖА'РЫ'ШЧА

ПО'ЖАХ *гл.* ПО'ЖАГ

ПОЖДА'ТЭ *гл.* ПАЖДА'ЦЬ

ПОЖДА'ЦІ *гл.* ПАЖДА'ЦЬ

ПО'ЖНЯ *ж.* 1. Іржышча. *Пожня — дзе жыта знялі, жытня, ячменна, аўсяна пожня.* Парэчча Гродз. *Пожня бывае жытня, пшанічна, грачышна, ячменна.* Вялікія Баяры Шчуч. *Як ты жнеш? — Адна пожня вышай, а другая ніжай.* Кіралі Шчуч. *Пожня жытня, як жыто жжалі, ячмень жжалі — ганялі на пожню скот.* Дзяніскавічы Ганц. *Пожня — як сожнут увэсь хлеб.* Смаляніца Пруж. *Пшанічная пожня.* Лука Нараўк. 2. Сенажаць. *Пожня сухая, мокрая пожня.* Мярэцкія Глыб. *Пожню ўжо скасілі, многа наложана копак, далі добрую лонку.* Ёдлавічы Брасл. *Пожня — дзе добрая сена.* Ахрэмаўцы Брасл. *Тут пожня суха.* Малькуны Ігн. *Разніцы нет, сена бывает з пожні і плахое і хароша.* Рагулішкі Даўг. *Пожня — мой участак сенакосу.* Саланое Віл. *Дарога гразная ў Залядзі — ні прайсці, нада пожняй ісці.* Кураполле Паст. *Пожня маленькая каля пахаты.* Янова Рас. *Касіў на пожні.* Мачаск Бярэз. *Ляснічава пожня далей трохі.* Ухвала Круп. *Берагавая пожня — на берагу ракі.* Азяраны Раг. *На пожнях у нас не паслі.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Сабяромся і праз гуліцу запяём: «Святы Яне, дзе ты быў?» — і танцы на пожнях да рання, касцёр гарыць, весела.* Скрыпчына Лудз. *На пожню сцелім лён.* Ахрэмаўцы Брасл. 3. Участак сенажаці, адведзены аднаму гаспадару. *Луг дзялілі на пожні, пожні аддзяляліся палічкамі.* Азяраны Раг. ∇ *Там пырнік, як пожня.* Рагулішкі Даўг.; *гл.* ДАБМ, карта № 271.

ПО'ЖЫЎ *ж.* Здабыча. *На пожыў туды вароны лятаюць.* Дакудава Лід. *Дзе садзяцца жоравы на пожыў, адзін пілнуе, як што — енчыць — і ўлятаюць тады ўсе.* Пацаўшчына Дзятл.

ПОЗА'ДКІ *гл.* ПАЗА'ДКІ

ПОЗБЫ'ТІСЕ *зак.* Пазбавіцца. *Чуць позбывсе старої коровы.* Курашэва Чыж.

ПО'ЗВА *ж.* Павестка, паведамленне. *Позву прыслалі ў*

*армію ісці.* Рудня Астравітая Чэрв. *Позву прынеслі ў суд, заўтра ехаць нада.* Ухвала Круп. *Позва была, што памёр.* Азяраны Раг.

ПОЗІ'НКІ *гл.* ПАЗЕ'МКІ

ПО'ЗНА, ПО'ЗНО *прысл.* 1. Позна (у межах сутак). *Прышла дамоў позна.* Мярэцкія Глыб. *Устала сёня позна, трэба было раней устаць.* Кіралі Шчуч. *Позна прыяжджая.* Стральцы Шальч. *Прышоў позна.* Рыбчына Віл. *Позна прыехаў, ажно ў поўнач.* Рудня Астравітая Чэрв. *Позно прышоў.* Дзяніскавічы Ганц. *Грыбы смажаць позна да яды.* Солы Смарг. *Заранніца рана сходзіць і позна заходзіць.* Дакудава Лід. 2. Пасля звычайнага, устаноўленага часу. *Позна пашоў, ужо былі буракі выкапаўшы.* Альхоўка Навагр.

ПО'ЗНЕЙ *прысл.* Пазней. *Грабяць сено ў валок і позней до капіцы.* Новы Двор Дубр.

ПО'ЗНІ *гл.* ПО'ЗНЫ

ПО'ЗНО *гл.* ПО'ЗНА

ПО'ЗНЫ, ПО'ЗНІ *прым.* Позні. *Ён позны, няранны.* Ракаўскія Швянч. *Позная восянь.* Солы Смарг. ∇ *Ранняя птушка зупкі калупаіць, а позняя птушка вочкі прадзіраіць.* Курапол-ле Паст.

ПО'ІСАВАЦЬ *гл.* ПО'ЙСАВАЦЬ

ПО'ІСКІ *мн.* Пошукі. *Пчолы ідуць на поіскі.* Бакшты Іўеў.; *парайн.* руск. *поиски* 'тж'.

ПО'ЙЛА, ПІ'ЙЛО, ПУ'ЙЛО, ПЫ'ЙЛО *н.* і *ж.* Пойла. Грыкені Вільн., Бенянконі Воран. *Цялюку шчэ німа пойла.* Жылі Іўеў. *Пойла занясу цяляці.* Пацаўшчына Дзятл. *А пойла засыпала для ціляці.* Кіралі Шчуч. *Пойла дала цяляці.* Галубы Маст. *Пойлу робім цялятам.* Старыя Трокі Трак. *Панясу пойлу цялёнку, пойла гарачая.* Ёдлавічы Брасл. *Пайду пойлу рабіць.* Быстрыца Астр. *Занысы пійло тылятовы.* Ушкавіца Кобр. *Пуйло выпыла карова.* Відзібар Стол. *Трэба пыйла коровы даты.* Сіманавічы Драг.

ПО'ЙМА *ж.* Разводдзе. *Пойма ё вясною на лузі, але Вострай не займая.* Азяраны Раг.

ПОЙНЯ'ЦІ, ПОЙНЯ'ТЫ *зак.* Злавіць. *Пойду курыцу пойму, ты нэ поймэш. Нэ пойняці муху на лету.* Смаляніца Пруж. *Пойняла курыцу.* Горск Бяроз. *Тры шчукі пойнялі.* Хатынічы Ганц. *Ны можу пойняты.* Сіманавічы Драг. *Гэтого півня трэба пойняты і голову ёму одрубаты.* Ушкавіца Кобр.

ПО'ЙСАВАЦЬ, ПО'ЯСАВАЦЬ, ПО'ІСАВАЦЬ *незак.* 1. Аддзяляць зерне ад асцюкоў (пра ячмень). *Ячмень с хвастамі нада пойсаваць.* Баложы Даўг. *Нада пойсаваць ячмень.* Рагулішкі Даўг. *Пойсаваць ячмень нада было, выпайсаваць цапамі.* Саланое Віл. *Ячмень пойсаваць трэба.* Жыдзевічы Іўеў. *Трэба пайці ячмень пойсаваць.* Каўняны Гродз. *Пойсаваць ячмень, як малаціць.* Быстрыца Астр. *Ячмень трэба пойсаваць:*

*цапамі б'еш, с асцюкоў выбіваяцца. Пойсаваць даўжэй, як малаціць.* Лісна В.-Дзв. *Пойсаваць — гэта кончыкі ячменя, вусікі адбіваць. Яго мусіш пойсаваць, арфа не адлучыць вусы.* Солы Смарг. *Пойсаваць ячмень, цапамі даюць, я сама пойсавала.* Валынцы В.-Дзв. *Пойсавалі ячмень.* Магуны Паст. *Пойсавалі ячмень, каласы, акоця вычышчалі.* Ракаўскія Швянч. *Пойсаваць сначала, а потым веяць.* Беразіно Докш. *Пойсаваюць цапамі асцюкі.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Поясаваць ячмень цапамі; салому вытрасуць, а ячмень б'юць, кап вусоў не было. Поясаваць — другі раз малаціць ячмень: салому вытрасуць, а ячмень поясаваюць, каб вусоў не было. Поясаваць цапамі ячмень.* Рыбчына Віл. *С саломы выганіш зярно, а тады па зярну ходзіш і цапамі б'еш — поясаваеш.* Лісна В.-Дзв. *Поісаваць нада ячмень.* Валынцы В.-Дзв. 2. *экспр.* Біць каго-н. *Пойсаваў палкай яго.* Дакудава Лід.; *гл.* п о́ й с а ц ь.

ПО'ЙСАЦЬ, ПЭ'ЙСАЦЬ *незак.* 1. Тое ж, што і п о́ й с а в а ц ь 1. *Ячмень трэба пойсаць цапамі.* Старыя Смільгіні Воран. *Нада ячмень пойсаць — біць цапом і нескалькі рас грабіма выграбаць, а венічкам змятаць.* Гемзы Шальч. *Акоця нада пойсаць цапамі.* Лайпушкі Ігн. *Ячмень пойсаць трэба, налазя асцюкоў поўная кашуля, як малоціш ячмень.* Івашкаўцы Смарг. *Пойсаць ячмень — асцюкі абіваць, як вымалаціць.* Бенякoні Воран. *Нада пойсаць: б'юць цапамі, і акота атваліваецца ад зярнятак.* Кураполле Паст. *Ячмень пойсаць — асцё гета адбіваць.* Жодзішкі Смарг. *Нада пойсаць ячмень с саломы.* Груздава Паст. *Пойсая цэпам і асцюкі адбівая.* Кудзялянцы Шальч. *Першы рас малоцюць ячмень, а другі рас пойсуюць, каб ні было асця.* Мярэцкія Глыб. *Цапамі даюць па ім, пойсаюць ячмень.* Вялікія Баяры Шчуч. *Ячмень пойсаюць.* Кіралі Шчуч. *Ячмень малоцюць, а тады пойсаюць.* Саланое Віл. *Хто цэпам малоціць і пойсаюць.* Крэва Смарг. *Пойсалі цапамі, кап асцюкі адляталі.* Старыя Трокі Трак. *Пойсалі ячмень.* Магуны Паст. *Ячмень пойсалі і цапамі, і машынай.* Ёдлавічы Брасл. *Ячмень пэйсаюць цапамі, пакуль асцюкі атваляцца, трэбо выпэйсаць.* Старыя Смільгіні Воран. 2. *экспр.* Тое ж, што і п о́ й с а в а ц ь 2. *Дайно бацька пойсаў цябе!* Жодзішкі Смарг.; *парайн.* літ. *paisýti* 'тж'.

ПО'ЙСЫ *мн.* Тое ж, што і п і с ё г і 1. *Пойсы на нявымытай рубашцы, як мылі без мыла, на бялы палосы грaзныі.* Валынцы В.-Дзв.; *парайн.* літ. *paĩšos* 'плямы сажы'.

ПОКАЗА'ЦІ *зак.* Паказаць. *Покажу, як будэ час.* Смалянiца Пруж.

ПО'КАСКА *ж.* Прыказка. *Покаска такая ест: «Пакуль клусты ссохня, худы здохня».* Новікі Гродз.

ПОКАСОВА'ТІ *зак.* Знішчыць. *Лес поссекалі, то каліну покасовалі.* Азарычы Пін.

ПО′КАСТ *м.* Пакост. *Покаст канчаяцца, краска густая, ні будзя, чым развесці.* Малахоўцы Бар.

ПО′КАТ *м.* Кола. *Покаты ўздзеты на вось.* Лісна В.-Дзв.

ПО′КАЦЬ *незак.* 1. Лопацца (пра пупышкі). *Пакуль ні сталі покаць пупышкі.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Перыць (бялізну). *Покаю пранікам, буду покаць, пашоўшы на рэчку.* Азяраны Раг.

ПОКЕ′ЛЬ *прысл.* Тое ж, што і п о́ к і. *Покель прыду.* Дзмітравічы Кам.

ПО′КІ *прысл.* Пакуль. *Ідзі скасі, покі ніхто не скасіўшы.* Паляцкішкі Воран. *Гадзіну перасячы — іна будзіць жыць, покі сонца зайдзіць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Покі выміла хату, вар закіпеў. Покі пойдзем палоць, пагаворым. Покі машына будзіць стаяць каля гарочыка, цэлы зёлкі будуць. Не пайду, покі сама не прыдзіць.* Ёдлавічы Брасл. *Хворы, то покі памрэш, будзеш мучыцца.* Канюкай Вільн.

ПОКІДА′НЕЦ *м.* Пакінуты мужчына. Азарычы Пін.

ПОКІНДА′ *ж.* Пакінутая жанчына. *С покіндою добры хлопэць нэ ожэніцце.* Курашэва Чыж.

ПОКІ′НУЦІ *зак.* Пакінуць. *Заўтрэ я вас покіну сплючы.* Смаляніца Пруж.

ПО′КЛАД, ПО′КЛАТ *м.* Яйка, якое кладуць ці пакідаюць у гняздзе, каб несліся куры. Багушэвічы Бярэз. *Поклад кідаць нада.* Ахрэмаўцы Брасл. *Поклад — яйцо оставленэ.* Дзмітравічы Кам. *Остав поклада, бо куры ны будуть ныстыся.* Ушкавіца Кобр. *Поклат палажыла, кап няслася ў гняздзе кура.* Ліпнікі Вільн.

ПОКЛІ′КАТЫ *зак.* Паклікаць. *Покліч тата.* Дзмітравічы Кам.

ПО′КЛУСКА *ж.* Палка, якую клалі на воз, каб расшырыць яго плошчу. Радастаў Драг.

ПОКЛЯ′КЛЫ *прым.* Пахілы. ▽ *На поклякле дзераво тай козы скачуць.* Хатынічы Ганц.

ПО′КНУЦЬ *зак.* Разбіць. *Я тоя яйцо покнула.* Азяраны Раг.

ПОКОЛОТІ′ТІ *зак.* Памяшаць. *Поколоті каву.* Азарычы Пін.

ПОКОЛО′ЦЦА, ПОКОЛО′ЦІСА *зак.* Патрэскацца, палопацца (пра цела, зямлю і інш.). *Покололіса п'яты.* Хатынічы Ганц. *На п'ядзь зэмля покололаса.* Смаляніца Пруж.

ПОКО′ПІСКО *н.* Поле пасля ўборкі клубняў агародніны. *Вішчаць* [сварацца] *за покопіско, шчоб гусі не сталі там.* Хатынічы Ганц.

ПОКО′РА *ж.* Пакорнасць. *Такі чоловіек ніколі по собіе покоры нэ покажэ.* Курашэва Чыж.

ПОКО′Т, ПОКУО′Т *м.* 1. Столь. *Як умыем покота—чысто. У сенях покот, на покоці лоб.* Смаляніца Пруж. 2. Гарышча.

*Зняла плаце с покота. Нэ было шчэ покоту* [на хаце]. Смаляніца Пруж. *Вэсною трэба на клуні наволочы покуот, коб дошч нэ протікав.* Курашэва Чыж.

ПОКРО'ВЕЦ *м.* Чахол. *Покровец кужэльны быў.* Солы Смарг.

ПОКРО'М *прысл.* Асобна. *Коровы і овэчкі разом нэ пасуцца, а покром.* Смаляніца Пруж.

ПОКРЫ'ВАЛО *н.* Пакрывала. *Скуоль ты маеш такое гожэ покрывало?* Курашэва Чыж.

ПОКРЫ'ЎКА *ж.* Века. *Кубёл с покрыўкою.* Смаляніца Пруж.

ПОКРЫШЫ'ТЫ *гл.* ПАКРЫШЫ'ЦЬ

ПОКУ'ДАЛЕ *н.* Попрадкі. *Ходзем на покудале!* Смаляніца Пруж.

ПОКУДІЕ'ЛЕ *н.* Тое ж, што і п о к у́ д а л е. *Колісь бабы і дівчынята ходілі на покудіеле ціелу зіму.* Курашэва Чыж.

ПОКУДІЕ'ЛЬНІЦА *ж.* Папрадуха. *На покудіелі ходілі по поратку до кажноўі покудіельніці.* Курашэва Чыж.

ПО'КУЙ *м.* 1. Пакой. *В покоёві попратала.* Курашэва Чыж. 2. Спакой. *Дайця покуй, я марна выглядаю, сохне ўжэ чалавек.* Новікі Гродз. *Вечны яму покуй!* Мсцібава Ваўк.; *параўн.* польск. *pokój* 'тж'.

ПО'КУ'ЛЬ *прысл.* Тое ж, што і п о́ к і. *По́куль яго палаваюць.* Гемзы Шальч. *По́куль поўбельвала — і трэба есці. По́куль яна жыве.* Дакудава Лід. *По́куль ні знаў.* Быстрыца Астр. *По́куль я ахаджуся.* Вялікія Баяры Шчуч. *Нарот по́куль пройдзе. По́куль чалавек жыве, трэба рухацца.* Мсцібава Ваўк. *По́куль жыў у вёсцы, ён нігды ні хварэў. Чакалі таты с кірмашу, по́куль ён прыедзіць.* Ністанішкі Смарг. *По́куль я ўдурбаю, мне цяшка атказаць.* Граўжышкі Ашм. *Пільнавалі, по́куль прышоў.* Альхоўка Навагр. *Поку́ль повытопляе пэчы.* Дзмітравічы Кам. *Жыву, поку́ль не памру.* Дзераўное Стаўб. *Поку́ль я занясу адзін мех, та ўжо пяць нарэзала* [сечкі]. Маскалі Шчуч. *По́куль карову купіла, дзіця памерла.* Кудзялянцы Шальч.

ПОКУО'С *гл.* ПАКО'С

ПОКУО'Т *гл.* ПОКО'Т

ПОКУ'ТАТІ *зак.* Накрыць (хату). *Покутаті хату.* Азарычы Пін.

ПОКУ'ТАЦІ *зак.* Памыць. *Покутаю плаце.* Смаляніца Пруж.

ПО'КУТЬТЕ *н.* Тое ж, што і п о́ к у ц ь. Азарычы Пін.

ПО'КУЦЬ *ж.* Покуць. *Покуць — дзе абразы віселі.* Стральцы Шальч., Дзяніскавічы Ганц. *У маёй покуці стаіць.* Вялікія Баяры Шчуч. *Раней казалі: «Сядай у покуць», а цяпер кажуць: «Сядай у кут».* Паляцкішкі Воран. *Покуць у хаця.* Граўжышкі Ашм. *«Гаспадара» ставілі ў покуць; як зажнуць, то тыдзень*

*стаіць*. Пацаўшчына Дзятл. *Покуць — дэ стол стоіт*. Смаляніца Пруж. ◇ *Ляжаць на покуці* — памерці (пра нябожчыка). *Я мацеру знала, як* [яна] *на покуці ляжала*. Кузьмічы Люб.

ПОКЫ'НУТЫ *зак*. Звольніцца. *Покынуў роботу*. Дзмітравічы Кам. *Такая хороша ў ёго робота була, так узяв жэ і покынув*. Ушкавіца Кобр.

ПОЛ I *м*. 1. Палаці. *Пол зробляны кала сцяны*. Ракаўскія Швянч. *Палок быў такі, як ногі прыстроены, пол называўся, парапкі там спалі*. Старыя Трокі Трак. *Печ адступлена, а там пол — і спалі. Койкі ні было, быў пол, лажыліся ў рат*. Малахоўцы Бар. *Пол рабіўса ад печы да сцяны, вышыні, як ложак*. Дзяніскавічы Ганц. *Рабілі палэ ў кутку ат покуця: козлікі поставе, досак накладзе і спяць на палу. Ужэ палоў нема, цяпер тапчанэ, лошка*. Баброўнікі Гарад. 2. Падлога. *Пол стаў трухнець, гнілью ўзяўся*. Саланое Віл. *Цяпер у кажнай хаце пол*. Паляцкішкі Воран. *Ні мый полу*. Азяраны Раг. *Пол рабілі з досак, з гліны*. Баброўнікі Гарад. *Палы вымыла ў трох комнатах*. Ахрэмаўцы Брасл. *Доўней палоў ня было, хаты былі на зямлі*. Вецярэвічы Пух. 3. Палок у лазні. *У лазні лён сушылі на палах*. Старыя Трокі Трак.

ПОЛ II *м*. Полымя. *Як печ паліцца, напроць полу пражыць*. Крэва Смарг.

ПО'ЛА *ж*. Пала. Дзяніскавічы Ганц.

ПО'ЛАГ I, ПО'ЛАХ *м*. Шырма, якой завешвалі ложак ці адгароджвалі спальню. *Даўней абвешавалі кравацъ і называлі полах, палатно шылі і на жардзінкі і апцягавалі*. Лісна В.-Дзв. *Я спала на лаві, а нявесткі — за полагам*. Валынцы В.-Дзв. *Палагі ткалі ў пасачкі, панавешваюць многа, каб мухі ні кусалі*. Лапічы Асіп.

ПО'ЛАГ II, ПО'ЛАХ *м*. Роды. *Яна посля полага захварэла*. Гемзы Шальч.; *парайн*. польск. *połog* 'тж'.

ПОЛА'ДІТІ *зак*. Адрамантаваць, палатаць. *Дай поладю тобе штаны*. Азарычы Пін.

ПОЛА'ДІТІСЕ *гл*. ПАЛА'ДЗІЦЦА

ПО'ЛАЗ, ПО'ЛАС *м*. Полаз. Чычалі Швянч. *Вырубілі ёлку, абцясалі яе харашэнька — і полас*. Пасіене Лудз. *У палозы ўбіваюцца па тры капылы*. Быстрыца Астр. *У палазы натыкана капылоў*. Мешкінева Лудз. *З корнем адкапвают і вырэзвают палазэ*. Лука Нараўк. ◇ *Ногі палазом* — пра крывыя ногі. *У яго ногі палазом*. Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПО'ЛАМ *м*. Тое ж, што і п о л II. *Паднябеня ў печы, дзе полам б'ець*. Жодзішкі Смарг. *Полам шугая ў комін, можыць сажа загарэцца*. Мярэцкія Глыб.

ПО'ЛАМЕНЬ *ж*. Тое ж, што і п о л II. *Поламень шугая ў печы*. Вецярэвічы Пух.

ПО'ЛАМЯ *н*. Тое ж, што і п о л II. *Дровы палаюць — по-*

*ламя вялікае, аш шыбая.* Гемзы Шальч. *Полам сапае.* Номікі Бабіц.

ПО'ЛАНЫ *дзеепрым.* Полаты. *Картопля ня полана.* Альхоўцы Лях.

ПО'ЛАНЬ I *ж.* Тоня. *Стон — кагда астановіцца рака, рыба са ўсёй полані ідзе ў кулдобы.* Беразіно Докш.

ПО'ЛАНЬ II *ж.* Тое ж, што і п о л II. *Пылаюць дровы, полань шугаіць бальшая. Полань с печы шыбаіць, палаюць дровы сухіі.* Валынцы В.-Дзв. *Полань пашла і на крышу — і хата згарэла.* Ахрэмаўцы Брасл. *Нада полані.* Саланое Віл. *Полань шугая ў чалесніке.* Рыбчына Віл. ∇ *А што гарыць без поланя? — зара, сонца.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПО'ЛАП *м.* Столь. *На бэлькі кладзецца полап.* Лука Нараўк.

ПО'ЛАС *гл.* ПО'ЛАЗ

ПО'ЛАТНЫ *мн.* Палотны. *Полатны ткуць.* Паляцкішкі Воран.

ПО'ЛАХ *гл.* ПО'ЛАГ I, ПО'ЛАГ II

ПО'ЛАЦЦЯ *н.* Праполка. *Полацця льну, як поліш, траву рвеш.* Лісна В.-Дзв.

ПО'ЛАЦЬ *м.* Тое ж, што і п о л ь ц ь. *Полаць сала.* Кураполле Паст.

ПОЛА'ЦЬ *незак.* Палаць. Хатынічы Ганц.

ПО'ЛАЧКА *ж. памянш.* 1. Пялёнка. *У полачку дзіця ўвярнеш.* Ракаўскія Швянч. *Хлопяц у полачках быў, калі мы ўцякалі ад немцаў.* Асавец Віл. *Кужэльныя былі полачкі.* Солы Смарг. 2. Невялікі кавалак матэрыі. *Полачкай пакрыіш капусту і дны мыяш. Сісолку рабілі так: хлеба нажуе, цукру туды, у полачку — ссе дзяцёнак.* Ракаўскія Швянч.

ПО'ЛЕ, ПО'ЛЁ *н.* 1. Ворная зямля. *Засеялі поле.* Малахоўцы Бар. *Ішоў полем.* Кемялішкі Астр. *Ад нас ўсе палі відацца.* Рагулішкі Даўг. *У палях па шэсцьдзесят сотак гароду. У палёх лён сеялі.* Лісна В.-Дзв. *Паехалі ў полё.* Дзераўное Стаўб. *На палёх ходзяць гусі.* Вялікія Баяры Шчуч. 2. Бязлесная мясцовасць. *За Ляхавічамі няма лесу, яны ў полі жывуць.* Альхоўцы Лях. 3. Даўжыня асновы ад пярэдняга да задняга навоя. *Поля ўткала ад аднаго навоя да другога.* Саланое Віл.

ПОЛЕВА'ЦЬ *незак. экспр.* Моцна крычаць. *Полюе Ксёнджыха.* Хатынічы Ганц.

ПОЛЕЖА'ЦІ *зак.* Паляжаць. *А то полежэ́тэ.* Смаляніца Пруж.

ПОЛЕ'ПШАТЫ *гл.* ПАЛЕ'ПШАЦЬ

ПОЛЕ'ТОК *гл.* ПАЛЕ'ТАК

ПО'ЛЕЦ, ПО'ЛІЦ, ПО'ЛЯЦ *м.* Тое ж, што і п о л ь ц ь. *Полец — чацвёртая частка сланіны.* Старыя Трокі Трак. *О, я, кажа, наклала польцаў чатыры чы пяць кавалкаў у дзежку.* Баброўнікі Гарад. *Поліц сланіны ні весілі.* Парэчча Гродз.

*Паршука закалоў, сланіну пакроіў на часці — і адзін кавалак называецца поліц.* Паляцкішкі Воран. *Поляц сала.* Галоўні Воран. *Адзін поляц сланіны і другі поляц сланіны, як разрэзаць па спіне.* Ліпнікі Вільн. *Цэльны поляц сала.* Гемзы Шальч. *Поляц сланіны.* Мсцібава Ваўк. *Кажуць у нас: поляц саланіны, поляц сала — велькі кусок, што ў яшчык кладуць.* Альхоўка Навагр.

ПО′ЛЁ *гл.* ПО′ЛЕ

ПО′ЛІВА *н.* Тое ж, што і п о́ л а ц ц я. *Пакуль поліва якоя, то можна зрабіць.* Вецярэвічы Пух.

ПОЛІЕ′ТОК *гл.* ПАЛЕ′ТАК

ПО′ЛІК *м.* Тое ж, што і п о л I, 3. *Полікі ест у лазні, лажацца там.* Парэчча Гродз.

ПОЛІ′ТОК *гл.* ПАЛЕ′ТАК

ПО′ЛІЎКА, ПО′ЛЯЎКА *ж.* 1. Кіслая рэдкая страва, падкалочаная мукой, з дабаўленнем розных прыпраў. *Ёсць спецыяльна вараць поліўку: грыбок паложаць, якой квасі ўложыш, мукі развядзеш. У поліўку грыпкі, рыпку, паткалоціш і ў печы варыш.* Солы Смарг. *У поліўку, калі вараць, грыбкоў укінуць, паварацць іх, тады кісляанькай рашчынкі.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Хлеп пячэш, бярэш рашчыну, заліваяш вадою з грыбамі, туды лісток цыбулі і варыш — гэта поліўка.* Жодзішкі Смарг. *У поліўку клалі грыбы, капусту, патквашывалі — посная яда.* Крэва Смарг. *Поліўка з кіслага расолу, з грыбамі, з рыбай.* Рыбчына Віл. *Поліўку варылі.* Альхоўцы Лях., Ахрэмаўцы Брасл. *Поліўка з грыбамі, а калі з рыбай.* Груздава Паст. *Поліўку заквашавалі рашчынай і варылі з рыбінкі і з грыбамі.* Мярэцкія Глыб. *І поліўку з грыбамі варылі. Поліўку варылі, рашчыны адлівалі, уложуць мяса, прамешаваеш і пракушаваеш, як смак.* Лісна В.-Дзв. *Поліўка — мукі ўчыніш у вадзіцу, ваду с косткай варыш, закісліш.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Поліўку з грыбам варылі і з мясам.* Янова Рас. *Поліўку паткалачвалі мукой, паткіслівалі, капусту свежую кісляцінай залівалі.* Навікі Лудз. *Поліўку рабілі так: аржаную муку заквасіць ці рашчынкі ат хлеба, вазьмі закіпяці і кіпяток і рашчынку туда.* Рагулішкі Даўг. *Поляўка: жытную муку рашчыняць, падквасяць кроў, як варатак закіпіць, уліваяць рашчынку, тады кроў.* Магуны Паст. *Разатрэць рэдзенькую, як заціркі, мукі жытняй праквасіш. І бес крыві поляўка, хлеба аткіняш, рашчыны. Скваcяць із жытной мукі, потым вараць поляўку с крывёй і без яе.* Ракаўскія Швянч. 2. Вадкая частка стравы. Солы Смарг. *Поліўка — рэткая часць супа.* Дакудава Лід. *Наліла мне капусты, гушчы і падлі поліўку, каб радзейшая была.* Гемзы Шальч.

ПО′ЛІЦ *гл.* ПО′ЛЕЦ

ПОЛІ′ЦА *ж.* Паліца (у сасе). *Поліца в сохе, зэмлю забра-*

*сывала.* Смаляніца Пруж. *Поліца ў сасе.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ПО'ЛІШКА *ж. экспр.* Папіхач. *Ён цяпер за полішку ей.* Саланое Віл.

ПОЛК *м. перан.* Вельмі многа. *Цалы полк узняўся галубоў.* Кіралі Шчуч.

ПО'ЛКА *ж.* 1. Полка (у спадніцы). *Пашыла спадніцу ў дзве полкі.* Кіралі Шчуч. *У дванаццаць полак спадніца, так шылі даўна.* Саланое Віл. *У тры полкі пляцянковую спанніцу шылі і называлі хвартух, яшчэ фальбону прышываюць.* Саланое Віл. *Пашыла спадніцу ў дзве полкі.* Міратычы Карэл. *Спадніцу шылі доўгую і шырокую ў чатэры полкі.* Кіралі Шчуч. *Спадніца ў чатыры-пяць полкаў была.* Гемзы Шальч. *Андарак шырокі, полкі шылі.* Ракаўскія Швянч. *Перэдняя полка ў юпцы.* Рагулішкі Даўг. 2. Пялёнка. *Полку падлажу, а то мокрая Дануся. Полкі рабілі, старое падзяруць на полкі.* Старыя Трокі Трак. *Дзіця ў полку ўкручвалі.* Дакудава Лід. *У полкі спавівалі, хустачку на галоўку спавілі, палажылі.* Кіралі Шчуч. *Ні купілі адзіяла, як цяпер, а закручвалі дзіцё ў полкі. Цэбар полкай накрыць можно.* Стральцы Гродз. *Полкі, што дзяцей пялянаюць.* Стральцы Шальч. *Я полкі прыгатую, шторас свежыя.* Лісна В.-Дзв. *Полкі дзіця спавіваць.* Гемзы Шальч. *Полкі дзіцячыя.* Альхоўка Навагр. *Дай полкі, трэба дзіця спавіць.* Рыбчына Віл. 3. Хустачка, у якой насілі ежу ў поле ці пачастункі, як ішлі ў госці. *З ванзэлкам на васэля ішлі: у полку ўвяжа бохан хлеба, пірох, гарэлку, кумпяк.* Старыя Трокі Трак. *Насіла яду ў полках.* Магуны Паст. 4. Посцілка, у якой носяць траву, сена. *Полка ш шкутамі траву насіць.* Вецярэвічы Пух. 5. Вялікі кавалак чаго-н. *Полкі сала ляжаць.* Валынцы В.-Дзв. 6. Кавалак даматканай тканіны. *З гэтай губіцы выходзіць адзін дыван: два метры адной полкі і два другой.* Малышы Лід. 7. Рыбацкая сетка. *Полка* [сетка] *грубая, многа грубая нітка, чым у сетцы, і ў невадзе тое самае. А ёсць полка — сетка такая, палавіна ў асаду ідзе, плавуке вешаюць і патапцэ кідаюць. Як неват, сецць бальшая.* Збляны Лід.

ПОЛКАЖУ'ШАК *м. памянш.* Кароткі кажушок. *Полкажушак насілі з гаўчыны.* Кіралі Шчуч.

ПО'ЛКІ *мн.* 1. Тое ж, што і пол I, 3. *Бывала, што і два, і тры разы лезу на полкі.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Тое ж, што і пол I, 1. *Полкі рабілі за печай.* Быстрыца Астр.

ПО'ЛНЫ *прым.* Поўны. *Полнага кіламетра нет.* Гемзы Шальч.

ПО'ЛО *выкл.* Выгук, якім падганяюць валоў. *Поло — погоняюць вола.* Хатынічы Ганц.

ПОЛО'ВА *гл.* ПАЛО'ВА II

ПОЛОВІ'К *м.* Палавік. *Таня, озьмі постэлі половіка.* Смаляніца Пруж.

ПО′ЛОМНЕ *н.* Тое ж, што і п о л II. *Поломне с челюстів ідэ, огонь у комын.* Дзмітравічы Кам.

ПОЛО′НЬ *ж.* Лапіна сярод поля, лесу. *Чого я буду на полоні?* Хатынічы Ганц.; *параўн.* укр. *полонина* 'тж'.

ПОЛО′СКА *ж.* Доўгі ўчастак зямлі. *Полоска зямлі.* Калясное Міхал.

ПОЛО′СЬЦЕ *н.* Праполка. *Ад полосьця рукі чорныя.* Навікі Лудз.

ПОЛО′ТЫ *гл.* ПАЛО′ЦЬ

ПОЛО′ТЭ *гл.* ПАЛО′ЦЬ

ПОЛСЦЬ *ж.* Тое ж, што і п о л ь ц ь. *Парэжаш сланіну на кускі і чацвертая часць называецца полсць.* Малькуны Ігн. *Полсць саланіны.* Мярэцкія Глыб. *Сала даўней вешалі, полсць сала вісіць.* Рыбчына Віл.

ПОЛТРЭЦЯ′ *ліч.* Два з палавінай. *Полтрэця пуда зерна купіла за пяць злотых.* Лайпушкі Ігн.

ПО′ЛУДЗЕНЬ, ПО′ЛУДЗЯНЬ, ПО′ЛУДЗЯН, ПОЛУ′ДЫНЬ *м.* 1. Поўдзень. *Полудзянь, скаціну гоняць.* Старыя Смільгіні Воран. 2. Абед. *Голат быў, зварыла на полудзень крупнік.* Паляцкішкі Воран. *Прышлі на полудзень.* Вецярэвічы Пух. *Трэба полудзень браць.* Азяраны Раг. *Полудзень з'елі.* Пасека Ст.-Дар. *Полудзян — палоднаць будзем.* Альхоўцы Лях. *Полудынь чы готовый?* Дзмітравічы Кам. *Як не пад'еў, кажуць: «Дзякуй за полудзень — ні сыт, ні голадзен».* Кураполле Паст.

ПОЛУ′ДНОВАТЬ *гл.* ПАЛУ′ДНАВАЦЬ

ПОЛУ′ДЫНЬ *гл.* ПО′ЛУДЗЕНЬ

ПОЛУО′ВНІК *м.* Засек для мякіны. *Як вымолотять збужэ, то полову носят до полуовніка.* Курашэва Чыж.

ПО′ЛЦЫЯ *ж.* Тое ж, што і п о л ь ц ь. *Полцыя сала вісіць.* Кураполле Паст. *Полцыя саланіны вісіць, аш пажаўцея.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Сала на полцыі рэзалі і падвешавалі ў страпе.* Валынцы В.-Дзв.

ПОЛЧВАРТА′ *ліч.* Тры з палавінай. *Полчварта пуда.* Лайпушкі Ігн.

ПО′ЛЫ толькі *мн.* Тое ж, што і п ó л к і 2. *На полах спалі раней.* Старыя Смільгіні Воран.

ПО′ЛЫМЯ, ПО′ЛЫМ'Я, ПО′ЛЫМЕ, ПО′ЛЫМ'Е, ПО′ЛЫМ'Ё *н.* і *ж.* Полымя. *Полымя вялікая.* Груздава Паст. *Проціў полымя ставя патэльню.* Солы Смарг. *Вельке полыме.* Вострава Маст. *Полым'я—як дровы гарацъ.* Бакшты Іўеў. *Вялікае полым'е, полым'ем гарыць.* Дзяніскавічы Ганц. *Ляціць полым'ё, гарыць без полым'я.* Альхоўцы Лях.

ПО′ЛЫНЬ *ж.* Верхавая вада. *Пашла полынь па льду.* Беразіно Докш.

ПО′ЛЫСК *м.* Бляск. *Гэты лак дае харошы полыск.* Солы Смарг.; *парайн.* польск. *połysk* 'тж'.

ПО′ЛЬЗА *ж.* Карысць. *Што сейчас за польза, што я вып'ю.* Гемзы Шальч. *Што мне за польза з цябе?!* Азяраны Раг. *Якая мне з цябе польза — нап'ешся ды б'ешся.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Німа з яго ніякай пользы.* Ёдлавічы Брасл. *Ён даець пользу бальшую. Дзелаюць дзве пользы: смала нацекёць, а патом высыхаіць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Як я служыў, то тры рублі і пяць капеек атшчытвалі ў пользу служашчых.* Мсцібава Ваўк.; *парайн.* руск. *польза* 'тж'.

ПО′ЛЬЗАВАЦЦА *незак.* Карыстацца. *Нада жыць, кап усім пользавацца.* Груздава Паст.

ПО′ЛЬЗАВАЦЬ *незак.* Выкарыстоўваць. *На яе не падумаіш, што іна здзелала, пользавала малако.* Валынцы В.-Дзв.

ПО′ЛЬКА *ж.* Полька (танец). *Танцавалі польку на васэлі.* Грыкені Вільн. *Хочыць табе польку сыграць.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПО′ЛЬНЫ *прым.* 1. Палявы. *Польны клоп зялёны.* Магуны Паст. *Польная блашчыца.* Новікі Гродз. *Конік польны так скача.* Мсцібава Ваўк. *Качка польная водзіцца: з яйка вылупілася і з гняздочка выкулілася.* Ёдлавічы Брасл. *Галубы польныя гнёзды робяць.* Грыкені Вільн. *Польна рута.* Жылі Іўеў. 2. Які жыве ў бязлеснай мясцовасці. *Тыя, што на полі жывуць,— польныя людзі.* Парэчча Гродз.

ПО′ЛЬСАВАЦЬ *незак.* Тое ж, што і п о́ й с а в а ц ь 1. *Польсуюць ячмень цапамі, як абмалоцяць, саломку здымуць, а яго тады польсуюць. Ячмень польсавалі, кап вусаў не было.* Альхоўка Навагр.; *гл.* п о́ й с а ц ь .

ПО′ЛЬЦІЯ *ж.* Тое ж, што і п о л ь ц ь. *Польція — кусок сала бальшы; прынясі васьмушку польціі.* Кураполле Паст.

ПОЛЬЦЬ, ПОЛЬЦ, ПЭЛЬТ *м.* і *ж.* Вялікі кавалак сала. *Польць сланіны.* Быстрыца Астр. *Польць сала.* Малькуны Ігн. *Вялікі польць сала.* Чычалі Швянч. *Польці сланіны паложаць у скрынкі і засыпяць солі. Зробяць дзве польці сланіны.* Старыя Смільгіні Воран. *Дайней пад дах вешалі польці. На чатыры і на шэсць польцяў рэзалі сала.* Ёдлавічы Брасл. *І чацвяртушка польца.* Кураполле Паст. *Пэльт сала.* Азарычы Пін.; *парайн.* польск. *polec* 'кавалак'.

ПОЛЭ′ТОК *м.* Тое ж, што і п о л ь ц ь. *Складалі ў корыто сало, мьясо; як вынялі длінны кусок, павесілі, обцёк — называлі полэток; з цэлого кормніка два куска.* Калясное Міхал.

ПО′ЛЯВА *н.* Тое ж, што і п о́ л а ц ц я. *Ні замяшала курам за гэтым палявам.* Ракаўскія Швянч.

ПО′ЛЯЎКА *гл.* ПО′ЛІЎКА

ПО′ЛЯЦ *гл.* ПО′ЛЕЦ

ПОЛЯШУКІ′ *мн. этн.* Палешукі. *Воны поляшукамі зовут нас.* Смаляніца Пруж.

ПОМАГА′ТЭРНІЦА *ж.* Памочніца. *Вона родзіласа і заболела, скоро ўмэрла, коб росла, помагатэрніца была б.* Смалянніца Пруж.

ПО′МАК *м.* Куль ільну, замочанага ў вадзе. *Некалькі звязаных кулёў лёну апусцяць у воду і прыцісцуць чым-небудзь, і яшчэ калке ўбівалі. Кажуць: «Гэто мой помак, а гэтой твой».* Стральцы Гродз. ∇ *Як помак* — тоўсты, непаваротлівы. *А што з яе, калі яна, як помак.* Пацаўшчына Дзятл.

ПО′МАСТ, ПОМО′СТ, ПОМУО′СТ *м.* Падлога. *Буда для сабакі, там помаст ёсць.* Лайпушкі Ігн. *Вода цечэ на помост.* Вялікі Краснік Пруж. *Тэпэр ужэ току в хаті ніхто нэ робіт, всэ ўкладают помуосты.* Курашэва Чыж.

ПО′МАЦ, ПО′МАЧ, ПО′МАШЧ *ж.* Дапамога. *Яна — у помац мне. Ні завуць мяне ў помац.* Магуны Паст. *Аніякай помацы ў нас няма.* Гемзы Шальч. *Пайду я ей у помач.* Лісна В.-Дзв. *Давалі помач.* Ахрэмаўцы Брасл. *С калкоза даюць помач.* Груздава Паст. *Каждая маці сваім дзецям помашч дае.* Вецярэвічы Пух. *Не было ніякай помашчы. Далі і мне помашч.* Альхоўка Навагр.; *парайн.* руск. *помощь,* польск. *pomoc* ’тж’.

ПОМЕ′РЦІ *зак.* Памерці. *Малодшая сястра померла.* Ліпнікі Вільн.

ПО′МІНКІ *гл.* ПАМІ′НКІ

ПО′МНІЦЬ, ПО′МЛІЦЬ, ПО′МЛЯЦЬ, ПО′ЎНІЦЬ *незак.* Памятаць. *Ня помню, як яна зваліласяе.* Саланое Віл. *Ня помню, ці я перш уплаціла.* Малькуны Ігн. *Яна ні помня, што ўчора ела.* Гемзы Шальч. *Не помню нічога, ці балела, ці не.* Кудзялянцы Шальч. *Ці ты ня помніш? Помніш, алі забылася?* Ахрэмаўцы Брасл. *Што ведая, усё помніць.* Паляцкішкі Воран. *Вот добра даў ёй, будзя помніць гот!* Кіралі Шчуч. *Добра помніць гэта.* Рудня Астравітая Чэрв. *Помлі, вядзі сябе харашо.* Дакудава Лід. *Я не помню, памяці німа.* Вострава Маст. *Я помлю яшчэ першую вайну. Гэты сон буду доўга помляць.* Альхоўка Навагр. *Ня поўню, як ехаў. Поўню, мама ўшывала пукалькі.* Лісна В.-Дзв. *Я не поўню, як там было. Як рабілі, тады і поўнілі.* Кураполле Паст. *Алі ён поўніць. Я поўню, гэта тата расказаваў.* Мярэцкія Глыб.

ПО′МНІЦЦА *незак.* Памятаецца. *Ані помніцца гэта.* Лісна В.-Дзв.

ПОМО′СТ *гл.* ПО′МАСТ

ПОМО′ШЧНІК *гл.* ПАМО′ЧНІК

ПО′МПА *ж.* Помпа. *Помпаю воду выпомповалі.* Курашэва Чыж.

ПОМПОВА′ТІ *гл.* ПАМПАВА′ЦЬ

ПО′МСЛІВЫ, ПО′МСТЛІВЫ *прым.* Помслівы. *Ні гавары яму нічога, ён помслівы.* Дакудава Лід. *Помслівы чалавек, ест такіх вечна, помсціцця; помсліва ідзе, як сабака, голаў спу-*

*сціўшы.* Кіралі Шчуч. *Ён не быў помслівы чалавек.* Дзяніскавічы Ганц. *Яна помстліва баба.* Міратычы Карэл.

ПО'МСТА *н.* Помста. *Якоя помста на нас меў.* Крэва Смарг.

ПО'МСТЛІВЫ *гл.* ПО'МСЛІВЫ

ПОМУО'СТ *гл.* ПО'МАСТ

ПОМУ'СТ *м.* Прыступкі перад парогам. *Помуст пырыд порогом.* Відзібар Стол.

ПО'МЫІ толькі *мн.* Памыі. *Помыі ад пасуды.* Старыя Смільгіні Воран.

ПОМЫЛО' *гл.* ПАМЯЛО'

ПОМЫ'ЛЯ толькі *мн.* Тое ж, што і п о́ м ы і. *Шмат помыляў тут назлівалі.* Альхоўка Навагр.

ПОМЫРТІ' *гл.* ПАМЕ'РЦІ

ПОМЫ'ЦІ *зак.* Памыць. *Трэба рукі помыці.* Смаляніца Пруж.

ПОМЫ'ШЧЫК *м.* Тое ж, што і п о м у́ с т. *Помышчык пырыд порогом. На помышчыку сіла.* Сіманавічы Драг.

ПОМЫШЯ'ТЭ *зак.* Прыгатаваць корм жывёле. *Пойду помышяю коровэ мішанкі.* Дзмітравічы Кам.

ПОМЭЛЬНІ'К *гл.* ПАМЯЛЬНІ'К

ПОМЭРТІ' *гл.* ПАМЕ'РЦІ

ПО'МЯР *м.* Вымярэнне зямлі. *На калёніі як пагналі — трэба было выплаціць за помяр.* Асава Воран.

ПОНАДЫМА'ТЭ *зак.* Панамятаць. *Понадымало гурбэ сныгу.* Дзмітравічы Кам.

ПО'НАЖ *гл.* ПАНА'Ж

ПОНАПА'ДВАЦЬ *зак.* З'явіцца. *Прышчайкі понападваць могуць.* Хатынічы Ганц.

ПОНАПРЭ'ГВАТІ *зак.* Моцна набіць. *Батько іх понапрэгвай.* Азарычы Пін.

ПО'НАЧЫ, ПО'НОЧЫ *прысл.* Апоўначы. *Што я з маслам зраблю поначы?* Мсцібава Ваўк. *Ночы, поначы хадзіла па хаці.* Крэва Смарг. *Поначы вазьму.* Малахоўцы Бар. *Поначы ў баню хадзіла.* Азяраны Раг. *Поначы пошла.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Учора трэба было покачаці хоч поночы, а я согоні.* Смаляніца Пруж. *Кыдай свою роботу, ужэ ж поночы.* Ушкавіца Кобр.

ПО'НАШ *гл.* ПАНА'Ж

ПО'НОЧЫ *гл.* ПО'НАЧЫ

ПО'НЦЫ *мн.* Рамка ў калодачным вулеі. *У борць понцы ўстаўлялі, і пчолы на іх рабілі вузу.* Парэчча Гродз.

ПОНЧО'ХА *гл.* ПАНЧО'ХА

ПОНЫ'Б'Е *н.* Неба. *Ясно поныб'е.* Дзмітравічы Кам.

ПОНЯ'ТІ, ПОНЯ'ТЫ *зак.* Злавіць. *Тэля поняў на полі ды ззеў воўк. Понялі ёго ў лесе.* Азарычы Пін. *Поняты куру.* Відзібар Стол.

ПО'НЯ'ЦЬ *гл.* ПАНЯ'ЦЬ

ПРАГАВАРЫ'ЦЬ *зак.* Звярнуцца да каго-н. *Як Фэлька да мяне прагаварыў, усё стала ясна.* Івашкаўцы Смарг.

ПРАГАВІ'ТА *прысл.* Прагна. *Прагавіта есь.* Рыбчына Віл.

ПРАГАВІ'ТЫ *прым.* 1. Прагны. *Прагавітая, ешчая карова. Прагавіты, лапшывы конь.* Рыбчына Віл. *Прагавіты чалавек.* Груздава Паст. 2. *перан.* Заўзяты. *Яна прагавітая была на работу.* Саланое Віл.

ПРАГАВО'РНЫ *прым.* Гаваркі. *Ён прагаворны чалавек.* Парэчча Гродз.

ПРАГАЙДА'ЦЬ *зак. экспр.* Марна растраціць. *Ой мей, але ўсё ўжо прагайдаў — прапіў, прагуляў.* Гемзы Шальч.

ПРАГА'Л *м.* Паляна ў лесе. *Прагал паміж лесу.* Пацаўшчына Дзятл.; *параўн.* літ. *próga, pragumà* 'тж'.

ПРАГА'ЛАК *м.* Тое ж, што і п р а г á л. *На прагалках апенькі растуць.* Азяраны Раг.

ПРАГА'ЛІНА, ПРОГА'ЛІНА *ж.* 1. Проталіна. *Дзе прагаліны — зямля аддаецца.* Кураполле Паст. 2. Тое ж, што і п р а г á л. *Прагаліна там, у лесе.* Лісна В.-Дзв. *Прагаліна ў лесе, дзе лес вырубалі.* Лука Нараўк. 3. Абсеў. *Прагаліну аставіў, не пасеяў.* Рыбчына Віл. 4. Лапіна на полі, дзе вымакла збожжа. *Жыто ціелымі прогалінамі нэ посходіло, бо вымокло.* Курашэва Чыж.

ПРАГАМАНІ'ЦЬ *зак.* Прагаварыць. *Колькі рас пасля сну ўночы прагамоніш, прадумоўваючы* [школьнае заданне], *устанеш і знаеш усё.* Дарава Лях.

ПРАГАНЯ'ЦЬ I *незак.* Праганяць. *Праганяў з возера іх.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПРАГАНЯ'ЦЬ II *незак. экспр.* Запіваць. *Праганяіць бульбачку гэтай вадой, што бульба зварылася, каб не перасядала ў горлі.* Кураполле Паст.

ПРАГА'ПІЦЬ *зак.* Тое ж, што і п р а в а р ó н і ц ь. *Кап не прагапіла я, быў бы сырок.* Дакудава Лід.; *параўн.* польск. *progapić* 'тж'.

ПРАГАРАВА'ЦЦА *зак.* Нагаравацца. *Гэткую жысь прагаравалася.* Солы Смарг.

ПРАГВЕ'НЬ *м.* Бервяно ці нізенькая сценка (з некалькіх бярвенняў), якая аддзяляе ток у гумне. *Прагвень у таку, жыта клалі ў канец, у другі канец — сена.* Рыбчына Віл.

ПРАГІ'БІВАЦЦА *незак.* Прагінацца. *Штоб балка не прагібівалася, шып заганяюць.* Скрудалена Даўг.

ПРАГІБНУ'ЦЦА *зак.* Прагнуцца. *Жэрдзь прагібнулася.* Скрудалена Даўг.

ПРАГЛАСІ'ЦЬ *зак.* Запрасіць. *Я яе прагласіла к сабе на футар.* Пасіене Лудз.; *параўн.* руск. *пригласить* 'тж'.

ПРАГЛАТА'ЦЬ *зак.* Праглынуць. *Каўцяк трэба праглатаць.* Малі Астр.

ПРАГЛЫНУ'ЦЬ, ПРАГЛЫТНУ'ЦЬ, ПРАГЛЫКНУ'ЦЬ

*зак.* Тое ж, што і п р а г л а т а́ ц ь. *Нада таблетку праглынуць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Чуць праглынула — так горла баліць.* Лоск Валож. *Шчупак хваціць рылам і праглытнець.* Малькуны Ігн. *Не магу праглыкнуць — натта баліць у горле.* Кіралі Шчуч. ∇ *Салодкі — могуць праглынуць, а горкі—праклянуць.* Саланое Віл.

ПРАГЛЯДА́ЦЬ *незак.* Падглядаць (пчол). *Як іх, пчол, праглядаць, так ні дай бох.* Крэва Смарг.

ПРАГНА́ЦЬ *зак.* 1. Выгнаць. *Буў да аднае пашоў удавы, дык яна прагнала.* Альхоўка Навагр. 2. Пагнаць. *Казу і тую ён ляніўся прагнаць у поле.* Саланое Віл. *Прагнаў с поля — неможна там пасвіць.* Стральцы Шальч. *Пражане карову па сцежцы.* Старое Сяло Зэльв.

ПРАГНЕ́НЕ, ПРАГНЕ́НЯ, ПРАГНЕ́НЯ, ПРАГНЕ́ННЯ *н.* Прагнасць. *Велькe прагнене меў да піця.* Вострава Маст. *С прагненям п'ець.* Кураполле Паст. *Ёй прагненя — хоча піць.* Кіралі Шчуч. *Было мне такое праґненя!* Руднікі Шальч. *Такое праґнення на грошы!* Груздава Паст.; *парайн.* польск. *pragnienie* 'тж'.

ПРАГНЁНЫ *прым.* Прагны. *Прагнёны, кап мог, усё забраў.* Солы Смарг.

ПРАГНО́ЙНЫ *дзеепрым.* Угноены. *Наша зямля зажырнаватая, прагнойная.* Кайшоўка Карэл.

ПРАГНО́ЦЯ *н. зневаж.* Хто прагны. *Ну й прагноця ты!* Чычалі Швянч.

ПРА́ГНУЦЬ, ПРА́ҐНУЦЬ *незак.* Моцна хацець. *Ён прагніць піць.* Кураполле Паст. *Ён прагня вады.* Лоск Валож. *Усё ш прагня пахмяліцца. Я не прагну на гэту вотку. Я не праґнула замуш выходзіць.* Малі Астр. *Ён праґніць выпіць, паесці, добра адзеня праґня мець.* Старыя Смільгіні Воран; *парайн.* польск. *pragnąc* 'тж'.

ПРАГНУ́ЧЫ, ПРА́ГНЮ́ЧЫ ў знач. *прым.* Вельмі прагны. *Прагнучы ты! Прагнючы ты, зладзюга!* Мярэцкія Глыб.

ПРА́ГНЫ *прым.* Тое ж, што і п р а г н ё н ы. *Карова прагная.* Быстрыца Астр. *Чым болій прагны, тым больш хочацца.* Крэва Смарг. *Ён прагны за багацям.* Альхоўка Навагр. *Прагны чалавек — яму трэба ўсяго многа.* Чычалі Швянч. *Прагны — кап яму толькі ўсё. Прагныя яны: робяць і робяць.* Ракаўскія Швянч.

ПРАГО́Н, ПРОГУО́Н *м.*, ПРАГО́НЫ *мн.* 1. Праход (для жывёлы). *Прагон нада зрабіць, кароў ганяць.* Магуны Паст. *Прагон — дарога, выгараджаная плотам.* Мярэцкія Глыб. *Ужо п надворак пусцілі на прагон, кап паехала.* Дакудава Лід. *На прагоня каровы стаялі.* Альхоўка Навагр. *Не далі прагону для кароў.* Кузьмічы Люб. 2. Равок для сцёку вады. *Зрабіў прагон на сток вады.* Навадворцы Васільк. *Прокопав прогоны, коб вода збіегла с пшэніці, бо вымокла п.* Курашэва

Чыж. 3. Пратаптаная сцежка. *Прагоны — сляды, дарошкі, вытаптаныя праз пасеў, траву.* Дакудава Лід.

ПРАГО'РКІ *прым. найвыш.* ◇ *Прагоркі п'яніца* — алкаголік. *Прагоркі п'яніца быў.* Малі Астр.

ПРАГО'ТНЫ *прым.* Тое ж, што і прагнёны. *Праготная карова, лапчывая такая.* Ходзішкі Смарг.

ПРАГРАБА'ЦЬ *незак.* Прыграбаць. ▽ *К гатоваму кастру можна праграбаць.* Лісна В.-Дзв.

ПРАГРАВА'ЦЬ *незак.* Прайграваць (у карты). *Праграець усе грошы.* Ністанішкі Смарг.

ПРАГУЛЯ'ЦЬ *зак. перан.* Растраціць грошы на розныя забавы. *Прапіў, прагуляў грошы.* Лісна В.-Дзв.

ПРАГУМЕ'НЯ *гл.* ПРЫГУМЕ'ННЕ

ПРАГЦІ' *незак.* Пражыць. *Буду прагці ячмень.* Азяраны Раг.

ПРАД, ПРАТ *прыназ.* з *тв.* Напярэдадні. *Прад вайной пабудавалі хату.* Беняконі Воран. *Прад абедам так сказаў.* Ністанішкі Смарг. *Прад дажджом садзілі.* Івашкаўцы Смарг. *Шукалі пр'ад тым, як я была.* Магуны Паст. *Прад нядзеляй пашоў папрасіў каня.* Руднікі Шальч. *Прад вечарам прышоў.* Гемзы Шальч. *Хату купіў прад смерцю мужа.* Старыя Трокі Трак. *Прад лазней галава будзе кружыцца.* Чычалі Швянч. *Цёпла, прад дажджом гудзяць пчолы. Пабаранаваць прад усходам.* Быстрыца Астр. *Пакалене прад намі — і дзяды, і прадзяды.* Швэды Вільн. *Прат калядамі білі свінню.* Чуркі Ашм. *Прат тым мы хадзілі ў лес.* Граўжышкі Ашм.

ПРАДАБЫВА'ЦЬ *незак.* Здабываць. *Нада было чалавеку прадабываць, кап пражыць.* Слабада Мін.

ПРАДАВА'ЦЬ, ПРАДАВА'ЦІ *незак.* Прадаваць. *Павёз прадаваць у горад.* Старыя Смільгіні Воран. *Панёс прадаваць яйкі.* Саланое Віл. *Буду прадаваць.* Альхоўка Навагр. *Панясу прадаваць масла.* Кіралі Шчуч. *Яна прадае хату.* Кудзялянцы Шальч. *Вымнеш лён, на базар — і прадаваеш.* Малькуны Ігн. *Трэба прадаваць. Прадаю. Ен прадаваў. Яны прадавалі.* Мярэцкія Глыб., Рыбчына Віл., Рудня Астравітая Чэрв. *Будзем жывёлу прадаваці. Жывёла прадаецца. Прадаю жывёлу.* Парэчча Гродз.

ПРАДАВА'ЧКА *ж.* Прадаўшчыца. *Прадавачка паказала тавар.* Малькуны Ігн.

ПРАДАДНЁМ *прысл.* Досвіткам. *Прададнём дошч пашоўшы.* Быстрыца Астр.

ПРАДА'Ж, ПРАДА'Ш *м.* Продаж. *Збіраюць масла на прадаш.* Ністанішкі Смарг., Рыбчына Віл., Мярэцкія Глыб. *Рабіну бяруць і ў прадаш прадаюць.* Магуны Паст.

ПРАДА'ЖА *ж.* Тое ж, што і прада́ж. *Гэта прадажа добрая.* Вузла Мядз.

ПРАДА'ЖАНЫ *дзеепрым.* Прададзены. *Тры дні, як дом прадажаны.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПРАДАЛБА'ЦЬ *зак.* Прабіць. *Трэба далатом прадалбаць дзюрку.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПРАДАЛГАВА'СТЫ *прым.* Прадаўгаваты. *Касцёр* [дровы, складзеныя ў доўгую граду] *прадалгавасты на двары злажыў.* Мішневічы-Шум.

ПРАДА'НЯ *н.* Тое ж, што і п р а д а́ ж. *Трэба падгатаваць паршука на праданя.* Кіралі Шчуч. *Не маю гуркоў да праданя.* Вялікія Баяры Шчуч.

ПРАДАЎГАВА'ТЫ *прым.* Тое ж, што і п р а д а л г а в а́ с т ы. *Лускаўка, лускавіца — лісця прадаўгаватыя, грубыя, на зіму варылі.* Васілевічы Гродз.

ПРАДА'ЎНА *прысл.* Вельмі даўно. *Гэта прадаўна бало, Марцюк тут быў.* Мярэцкія Глыб.

ПРАДАЎНЕ'ЙШЫ *прым. найвыш.* Вельмі даўні. *Гляк сцякляны даўнейшы і прадаўнейшы.* Магуны Паст.

ПРАДА'ЦЬ, ПРО'ДАЦЬ, ПРЫДА'ЦЬ 1. *зак.* Прадаць што-н. *Карову паследнію прадалі.* Гальшаны Ашм. *Каня, карову прадалі.* Жылі Іўеў. *Ведаюць, што я не прадала карову.* Солы Смарг. *Парасят прадалі, папрадалі.* Ністанішкі Смарг. *Прадалі і пасеклі лес.* Саланое Віл. *Яны прадалі хату.* Мярэцкія Глыб., Старое Сяло Зэльв., Рудня Астравітая Чэрв. *Яна купіла карову, цяпер яна яе прадала.* Крынкі Крын. *Адну карову прадалі. Прадаў хату. Прадоў хату.* Альхоўка Навагр. *Прадаць няма чаго. Мяса ні продасць ніхто.* Паляцкішкі Воран. *Прадоў хату. Трэба продаць хату.* Вялікія Баяры Шчуч. *Сено не продалі.* Мсцібава Ваўк. *Шчэ продаць гуркоў е, да гэтае пары не продалі.* Навасёлкі Свісл. *Вядзі карову продай! Лес продаў.* Альхоўцы Лях. *Яна хоча хату продаць. Мы ні продалі хату.* Вецярэвічы Пух. *Прыдасць пан дзілянку.* Мельнікі Лудз. 2. *незак.* Прадаваць. *Павязе яблыка продаць.* Жыдзевічы Іўеў. *Ні продая карову.* Кіралі Шчуч. *Пачом ты продаеш? Насіла продаць яйка.* Вялікія Баяры Шчуч. *Яйка нясе продаць да Гродна.* Каўняны Гродз. *Грыбэ продаць насілі.* Новікі Гродз. *Парасята павязе продаць. Ён продая мёт. Павезлі рыбу продаць.* Дакудава Лід., Альхоўка Навагр. *Перш збанэ на базары продалі, а цяпер — у магазінах.* Пацаўшчына Дзятл. *Будзяце продаць карову?* Міратычы Карэл. *Ён продаў карову.* Навасёлкі Свісл. *Павяла карову продаць.* Мсцібава Ваўк., Старое Сяло Зэльв. *Продаць сало буду.* Малахоўцы Бар. *Павезлі рыбу продаць. Павёс продаць малако. Ніхто ні продая.* Альхоўцы Лях. *Хату продаць. Продае хату.* Дзяніскавічы Ганц. *Хай продая карову.* Вецярэвічы Пух. 3. *зак. перан.* Выдаць каго-н. *Можа, і тата майго праз яго забілі, ён прадаў бацька майго.* Саланое Віл. *Ваны его не прадалі.* Ялова Пруж. *Яна яго не продала.* Міратычы Карэл.

ПРАДА'Ш *гл.* ПРАДА'Ж

ПРАДВЕ'ЧНЫ *прым.* Спрадвечны. *Гэта прадвечная наша слова.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПРА'ДЖАНЫ *гл.* ПРА'ЖАНЫ

ПРА'ДЗЕДЫ, ПРАДЗЯ'ДЫ *мн.* Прадзеды. *Тут жылі нашы дзеды і прадзеды.* Навікі Лудз. *Пакалене прад намі—і дзяды, і прадзяды.* Швэды Вільн.

ПРАДЗЕ'Л *м.* Прамежак паміж зубамі. *Прадзел у зубах.* Жылі Іўеў.

ПРА'ДЗЕНЫ *дзеепрым.* Спрадзены. *Воўна прадзеная.* Грыкені Вільн.

ПРАДЗЕ'РЖАЦЬ *зак.* Пратрымаць. *Хочаш прадзержаць кароў — трэба сена.* Дзераўное Стаўб. ∇ *Еслі полня і еслі сутка прадзержыць пагоду, то сем дней будзе пагода.* Вулька Гродз.

ПРАДЗЁРЦІ *зак.* ◇ *Прадзёрці вочы* — прачнуцца. *Не магла прадзёрці очы.* Граўжышкі Ашм.

ПРА'ДЗІВА *н.* 1. Прадзіва (працэс). *Надаела прадзіва.* Гальшаны Ашм. 2. Тое, што прадуць. *Ціпер, кап было прадзіва, дык ні пралі п, ужо разлянаваліся — пашоў гатовага ды купіў.* Альхоўка Навагр. *Па маім прадзівя сусетка пазнала спадніцу ўкрадзеную.* Кудзялянцы Шальч.

ПРАДЗІРА'ЦЬ *незак.* Рабіць надрэз кары. *Гоняць бярозавы сок, прадзіраюць пазы.* Малахоўцы Бар.

ПРАДЗЯ'ДЫ *гл.* ПРА'ДЗЕДЫ

ПРАДЗЯЛЬНІ'К, ПРАДЗЯННІ'К *м.* 1. Галоўны пастух. *Прадзяльнік — галоўны пастух, пасвіў адну стаду. Прадзяльнік калісь быў, ён выйдзя с трубою і гу-гу-гу, пры ім пяцьшэсць пастушкоў, ён старык, ён імі камандуя.* Паляцкішкі Воран. *Ён прадзяльнік — каровы пасвіў.* Стральцы Шальч. 2. Хто пасе жывёлу па чарзе. *Тэрас не найдзеш пастуха — прадзяннікі цяпер, цяпер усе патпасавічы.* Кудзялянцы Шальч.; *параўн.* літ. *pradienÿkas* 'тж'.

ПРАДЗЯРЖА'ЦЬ *зак.* Пракарміць. *Як ты сям'ю сваю прадзержыш?* Малі Астр.

ПРАДІЕ'ЛЬНІЦЯ *ж.* Папрадуха. *Бывало, насходяцце прадіельніці і ціелы вэчур на покудіелі прадут.* Курашэва Чыж.

ПРА'ДКА *ж.* Тое ж, што і п р а д і е́ л ь н і ц я. *Якая с цябе прадка, якая с цябе пралля!* Малыя Аўцюкі Калінк.

ПРАДЛІНАВА'ТЫ *прым.* Тое ж, што і п р а д а л г а в а́ с т ы. *Дзіляспёр, як келп: лычасты, прадлінаваты.* Дакудава Лід.; *параўн.* руск. *длинный* 'доўгі'.

ПРАДЛУГАВА'ТЫ *прым.* Тое ж, што і п р а д а л г а в а́ с т ы. *Прадлугаваты ў яго твар.* Гемзы Шальч.; *параўн.* польск. *dlugi* 'доўгі'.

ПРАДЛУ'ЖЫЦЬ *зак.* Прадоўжыць. *Калі прадлужа бох веку мне, то паеду да Масквы, да сына.* Граўжышкі Ашм.; *парайн.* польск. *przedłużyc* 'тж'.

ПРАДО'ННЕ *н.* Бездань. *Спіхнуў немец яе ў тое прадонне — і ўсё, няма чалавека.* Ухвала Круп.

ПРАДРАМА'ЦЬ *зак.* Задрамаць. *Легла і прадрамала троху.* Парэчча Гродз.

ПРАДРА'ЦЬ *зак. экспр.* Зрабіць адтуліну. *Нада было прадрацъ паталок.* Валынцы В.-Дзв.

ПРАДРУЖЫ'ЦЦА *зак.* Пасябраваць. *Была прадружыўшыся з бібліятэкарам, прадружылася з ім.* Ёдлавічы Брасл.

ПРАДСЯДА'ТАЛЬ, ПРАДСЯДА'ЦЯЛЬ, ПРАДСІДА'ЦЕЛЬ, ПРЭДСЕДА'ТАЛЬ, ПРАТСЯДА'ЦЯЛЬ *м.* Старшыня *Прадсядаталь Фёдар Іванавіч Чэрнікаў, можа, дваццаць пяць лет у нас. Быў прадсядаталям сельсавета.* Дзераўное Стаўб. *Два месяцы прадсядацялям калхоза быў. Быў за прадсядацяля.* Лоск Валож. *Яна рабіла ў калхозе, прадсідацель ухваліў.* Солы Смарг. *Два рокі, як вон прэдседаталь колхоза, руководзіт хорошо.* Смаляніца Пруж. *Паехаў пратсядацяль.* Граўжышкі Ашм.; *парайн.* руск. *председатель* 'тж'.

ПРАДУЛБА'ЦЦА *незак.* Прадоўбвацца. *Прадулбаяцца дзіркі.* Магуны Паст.

ПРАДУ'ХА, ПРО'ДУХА *ж.* 1. Душнік. *Прадуха — адтуліна ў фундаменце.* Мярэцкія Глыб. *Ні было прадухі ў падмурку.* Саланое Віл. *Нада зрабіць прадухі ў падмуроўцы.* Кіралі Шчуч. *Прадуха ёсь да воздуха ў курадымцы.* Кураполле Паст. *В копцёві продуху зробіў, коп картоплі нэ спарылісе.* Курашэва Чыж. *Продуха в подмурковэ.* Дзмітравічы Кам. 2. Прамежак паміж печчу і сцяной. *Продуха, продухі паміж печкай і сцяной.* Рудня Астравітая Чэрв. 3. Палонка. *Няма прадухі, рыба ідзе, дзе прадуха.* Бакшты Іўеў. *Зімовым врэменім прабівалі прадуху і бучу ставілі.* Вялікія Баяры Шчуч. *Упаў мяч у прадуху.* Малі Астр. *У пельках прадуху дзелаюць, прасякаюць лёд.* Азяраны Раг. *Прадуха прасечаная зімой на рацэ. Прадуху прасячэць і сядзіць. Прадуха была, як рыба задыхалася. У продуху ставілі каробачку. Уюны ў гразі; на ўюны прадуху прасек.* Рыбчына Віл.

ПРАДУ'ХЛІНА *ж.* Багністае месца. *Ня ідзі, а то прадухліны там — утонеш.* Мішневічы Шум.

ПРАД'Я'ВА *ж.* Прадказанне. *Не збылась яе прад'ява.* Вузла Мядз.

ПРАЕ'ЗДЗІЦЬ *зак.* 1. Многа паездзіць. *Свет праездзіў — многа чаго бачыў.* Ракаўскія Швянч. 2. Растраціць грошы на паездкі. *Пяцьдзесят рублёў праездзілі.* Кіралі Шчуч.

ПРАЕ'РАК *м.* Прарэх у адзенні. *У кашулі праерак.* Быстрыца Астр. *Ну і праерак у цябе — да самага пояса.* Ёдлавічы Брасл. *Праерак у спадніцы.* Завельцы Астр.

ПРАЕ′РКА *ж.* Тое ж, што і праерак. *Праерка ў штанах, у кашулі, у спадніцы і ў патштаніках.* Малькуны Ігн.

ПРАЕ′РХ, ПРАВЕ′РХ, ПРАЕ′Р, ПРАЕ′Х *м.* Тое ж, што і праерак. *Праерх быў у кашулі, трэба прарэзаць, як будзеш дзіцяці цыцкі даваць.* Кіралі Шчуч. *Праерх у кашулі.* Старыя Смільгіні Воран. *Праверх у кашулі вялікі.* Галубы Маст. *Праверх у сарачках. Зашпілі праверх!* Пацаўшчына Дзятл. *Праер у кашулі.* Дакудава Лід. *Праех у кашулі.* Пасека Ст.-Дар.

ПРАЕ′ХАЦЬ I *зак.* Праехаць. *Ледва фурай праедзеш, праціснешса праз падворкі.* Васілевічы Гродз.

ПРАЕ′ХАЦЬ II *гл.* ПРЫЕ′ХАЦЬ

ПРА′ЖА *ж.* Пража. *Напрадаецца пража.* Латыгаль Віл. *З пражы кросны ткуць.* Альхоўцы Лях.

ПРАЖАГНА′ЦЦА *зак. рэліг.* Перахрысціцца. *Мама пражаґналася і пашла. Мама спалохалася, пражаґналася.* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *przeżegnać się* 'тж'.

ПРА′ЖАНЫ, ПРА′ДЖАНЫ, ПРА′ЖАНЫЙ, ПРЯ′ЖЕНЫЙ, ПРЫ′ЖАНЫ, ПРЭ′ЖАНЫ *дзеепрым.* 1. Пражаны. *Пражаны гарох любілі.* Гемзы Шальч. *Трэба алей спражыць, цыбулькі дабаўлялі, з цыбуляй пражуць; пражаны алей — ён такі пахнючы.* Саланое Віл. *Пражаны гарох.* Багушэвічы Бярэз. *Пражаный горох на сквороді.* Сіманавічы Драг. *Гарох пряженый.* Мішневічы Шум. *Прыжаны гарох.* Ухвала Круп. *Боп прэжаны.* Рыбчына Віл. *Гарох, боп прэжаны, пражаны.* Рудня Астравітая Чэрв. *Боп ем прэжаны.* Бакшты Іўеў. *Прэжаны гарох.* Вецярэвічы Пух. 2. *перан.* Добра высушаны (пра лён). *Лён праджаны.* Ракаўскія Швянч.

ПРАЖА′РАСТЫ *прым.* Пражэрлівы. *Пражарастая карова.* Пасіене Лудз.

ПРА′ЖАЦЬ *гл.* ПРА′ЖЫЦЬ

ПРА′ЖКА, ПРА′ШКА *ж.* Спражка. *Пражка аж блішчыць на сонцы.* Беразіно Докш. *Прашка ў папрусцы.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПРАЖО′К *м.* Драўляны пруток. *Грыбы сушылі, на пражок наторкаем — і ў печ.* Лісна В.-Дзв.

ПРАЖО′РА, ПРОЖО′РА *м.* і *ж.* Абжора. *Пражора — сколька яго ні кармі, яго не ўкорміш.* Кіралі Шчуч. *Такая прожора гэтой бычок — ны скормыты ёго.* Сіманавічы Драг.

ПРАЖО′РЫСТЫ *прым.* Тое ж, што і пражарасты. *Пражорысты чалавек — ні наесца, яму ўсё мала.* Асавец Віл.

ПРАЖЫВА′НЯ *н.* Жыццё. *Такоя наша пражываня.* Навікі Гродз.

ПРАЖЫВА′ЦЦА *незак.* Абжывацца. *Сталі цяпер пражывацца.* Гальшаны Ашм.

ПРАЖЫВА′ЦЬ *незак.* Дажываць век. *Яна, бедная, пражывая.* Старыя Трокі Трак.

ПРАЖЫ'ЗНЕ *н.* Перажыванне. *Якое пражызне!* Гемзы Шальч.

ПРАЖЫ'ЛІНА *ж. буд.* Кладзь. *Пражыліна кладзецца ў гумне ўвярху, ляжыць на перакладзінах.* Івашкаўцы Смарг.

ПРАЖЫНА'ЦЬ *незак.* Зажынаць. *Ужэ жыта пражыная.* Быстрыца Астр.

ПРАЖЫ'РА *м., ж.* і *н.* Тое ж, што і п р а ж о́ р а. *Пражыры гэтыя.* Кіралі Шчуч.

ПРАЖЫ'РНЫ *прым.* Тое ж, што і п р а ж а́ р а с т ы. *Мая карова пражырная: усё пад'есць.* Малахоўцы Бар.

ПРАЖЫ'ТАК *м.* Пражыццё. *Нада ш было неяк зарабляць хоць на пражытак.* Оцкавічы Паст.

ПРА'ЖЫТІ *гл.* ПРА'ЖЫЦЬ

ПРАЖЫ'ТКІ *мн.* Перажыванні. *Якія пражыткі былі.* Быстрыца Астр.

ПРА'ЖЫТЫ *гл.* ПРА'ЖЫЦЬ

ПРАЖЫ'ТЫ *дзеепрым.* Пражыты. *Пражыты гот. Пражытая зіма.* Мярэцкія Глыб.

ПРАЖЫ'ЦЦА *зак.* Пражыць. *Пражылася жызня.* Дарава Лях. ∇ *Пражылося — як у ступі пратаўклося.* Бакшты Іўеў.

ПРА'ЖЫЦЬ, ПРЫ'ЖЫЦЬ, ПРЭ'ЖЫЦЬ, ПРА'ЖАЦЬ, ПРА'ЖЫТІ, ПРА'ЖЫТЫ *незак.* 1. Прэгчы, пражыць. *Пражыць арох* [гарох], *а боп атуе* [гатуе]. *Сяменя пражылі.* Быстрыца Астр. *Гарох пражылі, а боп варылі.* Солы Смарг. *Пражаць і гарох, і семачкі.* Чуркі Ашм. *Праглі гарох, боп.* Рыбчына Віл. *Гарох на скварадзе пражаць.* Дакудава Лід. *Нада боп, гарох пражыць; перш памочуць нанач, а тады пражуць.* Мярэцкія Глыб. *Семеня пражылі і таўклі.* Гемзы Шальч. *Прыжылі гарох.* Кіралі Шчуч. *Прыжаць гарох на сквароццы ў печы і прыжаць каласкі на 'гні.* Альхоўцы Лях. *Прыжуць жыто* [каласкі] *і пякуць жыто.* Дзяніскавічы Ганц. *Прэжыць гарох. Пражыць гарох. Прэгла гарох. Трэба гароху спрэжыць, спражыць. Гарох, боп пражылі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Пражалі гарох, боп; намочыш на скавыраду і лопаіць.* Навікі Лудз. *Пражалі боп.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Як скошаны горох высохнэ, то можна його пражыті.* Курашэва Чыж. *Пражытыму горох на сквороді.* Сіманавічы Драг. 2. Прагнуць. *Вады пражэ, хоць ты здохні.* Паляцкішкі Воран. *Пражыць міне к вадзе, сушыць у році.* Рудня Астравітая Чэрв. 3. Прыпякаць (пра сонца). *На дворыэ жэшко, бо сонце пуд обіет пражыт.* Курашэва Чыж.

ПРАЖЫ'ЦЬ *зак.* 1. Пражыць (жыццё, пэўны перыяд часу). *Век пражыве і нічога не панімая.* Старыя Смільгіні Воран. *Пражыеш і так.* Паляцкішкі Воран. *Я з ей шэсць лет пражыў.* Малі Астр. *Мы пражылі век — не біліся, не сварыліся.* Солы Смарг. *А што здзелаеш, пражывя столькі лет?!* Валынцы В.-Дзв. *Што гэта хаханькі, такія гады пражыць глы-*

*бокія?!* Цяпінцы Віл. *Я пражыла вялікі век.* Слабада Мін. *Яшчэ едзінасце дзён пражыла.* Гемзы Шальч. ∇ *Век пражыць — ня мех шшыць.* Вузла Мядз. *Пражыём і ў шалашы, абы мілы па душы. Адна на свеця век пражыла, як свіня па гнаю хвост працягнула.* Малі Астр. 2. Перажыць. *Ён многа чаго пражыў.* Гемзы Шальч. *Пражыла дужа войнаф.* Буйвіджай Вільн.

ПРАЖЭ′РГАЦЬ *зак.* Пераступіць. *Пражэргай — перайдзі, пераступі. Пражэргаць — пераступіць.* Грыкені Вільн.; *гл.* ж э́ р ґ а ц ь.

ПРАЗ, ПРАС, ПРОЗ *прыназ.* з *він.* 1. Праз пэўны час. *Я праз месяц паеду ў Паставы.* Дварчаны Паст. *Праз месяц прыедзя ў отпуск.* Вецярэвічы Пух. *Праз два дні буду пячы бліны. Прас тры дні пусціў дахаты.* Гемзы Шальч. *Мой сат цёнгля прас гот родзіць.* Дакудава Лід. *Насіў малако прас дзень.* Магуны Паст. 2. На працягу пэўнага часу. *Праз тры гады я хварэла. Праз чатыры гады ліла слёзы. Праз два месяцы была ў бальніцы. Праз два дні балела галава.* Паляцкішкі Воран. *Праз зіму куры зжорлі бульбу.* Малі Астр. *Я мачыла ніткі праз ноч.* Быстрыца Астр. *Праз восянь прала. Думала праз вечар. Праз лета хажу.* Магуны Паст. *Праз дошч сена ляжала.* Жылі Іўеў. *Нагледзілася праз зіму, праз лета.* Граўжышкі Ашм. *Сягоня праз ноч праенчыць. Усяго відзела праз век, усяго за свой век наглядзелася. Праз усю зіму ляжаў. Мы вірабейчыкаў праз зіму кармілі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Праз ноч будуць гаварыць. Праз зіму былі на кватэры восем чалавек.* Ёдлавічы Брасл. *Праз дзень нічога не ела. Праз ноч дзіця прывяла.* Лоск Валож. *Праз сем дзён ні ела.* Кіралі Шчуч. *Праз гэтыя гадэ. Праз тры месяцы ўнукі былі ў мяне.* Нізок Уздз. *Лямпа праз ноч паліцца.* Стральцы Шальч. *Праз дзень работаю.* Канюкай Вільн. *Сёння праз ноч не спаў.* Ракаўскія Швянч. *Што праз дзень робіць у горадзе?* Малькуны Ігн. *Вядро капусты стаіць праз лета. Праз зіму козы хадзілі па лесе.* Рагулішкі Даўг. *Ціпер харашо, а было атсідзець праз зіму на прасніцы.* Індра Красл. *Праз два дне выпалівала рожу, і нага стала здарова.* Сакаляны Сакол. *Па хазяінах служыла праз дзвенаццаць лет.* Старыя Трокі Трак. *Прас чатыры дні бручку палола.* Жылі Іўеў. *Прас тры ґаткі сядзеў.* Граўжышкі Ашм. *Іны рас прас тыдзянь не вязуць іх у горат.* Вострава Маст. *Прас пяць лет стаяў пры малацілках.* Гемзы Шальч.; *параўн.* польск. *bawić gdzieś przez miesiąc* ’гасціць дзе-н. на працягу месяца’. 3. У пэўны час. *Іці працепліць печ, а то баба замерзніць праз ноч. Набраў праз лета травы, і нам не трэба чаю. Прас сон нешта плёў.* Магуны Паст. *Гавора прас сон, спрасоння.* Рыбчына Віл., Гемзы Шальч. *А ён праз дзень выспіцца, а тады сядзіць у кіно. Сягоння ён сядзеў бы ўжо праз ноч.* Ракаўскія Швянч. 4. Дзе-н. *Праз клевяр каме-*

*ня многа.* Быстрыца Астр. 5. Цераз. *А бальніца праз вуліцу.* Кіралі Шчуч. *Айцец жыве праз дзве хаты.* Старыя Трокі Трак. *Жыве праз дарогу.* Грыкені Вільн. *Прахеня, ці Прося, на шлеху во тут жыве, праз тры хаты.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Клатку зрабілі праз рэчку. Перанёс праз вадзічку. Адзін шнур бяруць і прэ праз увесь шнур.* Солы Смарг. *Праз дзюру ўлес.* Жодзішкі Смарг. *Выпхну я яе праз дзверы.* Саланое Віл. *Пралезці праз дзірку ў плоце.* Беразіно Докш. *Праз акно хадзілі.* Пярэкі В.-Дзв. *Праз лес ехалі.* Дзераўное Стаўб., Талейкі Швянч. *Праз тры вёскі пройдзеш.* Барок Стаўб. *Ката занясуць за Неман — праз воду пераплывая.* Альхоўка Навагр. *Лезла котка праз дзверы.* Гемзы Шальч. *Праз доўгу гуліцу паехаў. Ехаў праз лес.* Сакаляны Сакол. *Праз дзюрку выляс.* Рыбчына Віл. *Праз дзюрку, праз вакно.* Мярэцкія Глыб. *Рэчка цячэ прас шэсць сёл.* Старое Сяло Зэльв. *Прас клатку прайдзіця.* Ністанішкі Смарг. *Пралесці плот, прас куст.* Ёдлавічы Брасл. *Адным вокам віджу, як прас туман.* Малі Астр. *Проз окно відно братова хата.* Смаляніца Пруж. 6. Пра каго-н., што-н. *Пісаў праз яе. Што гаворыш праз мяне?* Стральцы Гродз. *Я праз яго прызабыла.* Альхоўка Навагр. *Знаяця праз яго? Пытаецца праз яе.* Альхоўцы Лях. *Пытаюцца праз яго.* Тухавічы Лях. *Гаварылі праз яе. Забыла праз цукеркі.* Старое Сяло Зэльв. *Раскажы праз гіля.* Міратычы Карэл. *Толькі праз вотку гаварылі.* Нізок Уздз. *А гэта праз яга ідзе гутарка.* Рыбчына Віл. *Праз жызьню гаворыць. Праз німа што гаварыць. Праз вайну расказаць можна. Людзі гаварылі прас тую банку.* Вецярэвічы Пух. *Самы прас сябе выдумалі.* Быстрыца Астр. *Цяпер прас свякроўку расказаваюць.* Курамолле Паст. *Мы сталі гаварыць прас картоплі.* Навасёлкі Свісл. *А як сказаў мне прас курыво, у мяне яш нутро загарэласё — натто захацеласё курыць.* Кастровічы Зэльв. *Проз мэча росказвае, м'ячэм іграе. Станэ росказваці проз його, як його мучылі.* Смаляніца Пруж. 7. Пры дапамозе чаго-н. *Пераехала праз лотку.* Быстрыца Астр. *Паслухаяш праз радзія, якія піесы строяць.* Магуны Паст. *Праз ціліфон пытаіцца.* Гемзы Шальч. *Гаворыць праз ціліфон.* Дакудава Лід. 8. Праз каго-н. *Ездзілі дом ставіць — наказвалі праз дзяцей.* Магуны Паст. *Праз людзей казаў, прасіў прыехаць.* Лоск Валож. 9. Па якой-н. прычыне. *Гэта ўсё так праз яго адбудавана.* Дзераўное Стаўб. *Нам стыдна праз вас. Нага зломана праз гарэлку.* Гайна Лаг. *Ня веялі праз вецяр.* Ракаўскія Швянч. *Праз гарэлку прапаў чалавек. Прагарэў Валоцык прас бабу.* Лоск Валож. *Гэта прас цябе, ты пазваніў.* Нізок Уздз. *Ян ня ўжыў праз будоўлю, быў апухшы. Прас таго Валодзя ўмёр.* Альхоўцы Лях. 10. Больш як адзін раз. *Праз два разы ездзіла, хаця паглядзела горада. Можна сказаць: два разы ездзіла і праз два разы ездзіла.* Альхоўцы Лях. *Яе праз два разы білі — хай*

*на міне руку падымя.* Кіралі Шчуч. ◊ *Сам прас сябе* — самастойна. *Мой сын сам прас сябе вучыўся. Праз кулакі відзець* — быць вельмі скупым, прагным. *Калі спяць — праз кулакі відзяць.* Саланое Віл.

ПРАЗАГРЭ'Х *м. с.-г.* Спосаб арання (праз баразну). *Празагрэх — калі на баразну ўскідаіш зямлю.* Саланое Віл.

ПРАЗАНТАВА'ЦЬ *незак.* Абгаворваць. *Пасталі ды празантуюць адзін аднаго — як абгаворваюць, то так кажуць.* Альхоўцы Лях.; *параўн.* польск. *prezentować* 'рэкамендаваць, знаёміць'.

ПРАЗВА'ЦЬ *зак.* Даць мянушку. *І празве яна, як хоча.* Старыя Трокі Трак. *Хлопцы так яе празвалі.* Гемзы Шальч.

ПРАЗВЕ'ЎКІ *мн.* Мянушкі. *Ні нада празвеўкі пісаць.* Кіралі Шчуч.

ПРАЗВІ'СКА *гл.* ПРО'ЗВІСКА

ПРАЗВІСКАВА'ЦЬ, ПРАЗВЯСКАВА'ЦЬ, ПРОЗВІСКАВА'ЦЬ *незак.* Даваць мянушкі. *Аплаухі — так празвіскуюць у нас. У нас празвяскуюць так. Фігер — так прозвіскуюць Садоўскага.* Жылі Іўеў.

ПРАЗВІШЧА'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і п р а з в і с к а в а́ ц ь. *Гарбель ты! — гэта ўжо прозвішча, празвішчаіш, даеш празвіска.* Гемзы Шальч.

ПРАЗЕ'НТ, ПРАЗЭ'НТ *м.* Віднае месца. *Павесіць на празенці, навідавоку.* Міратычы Карэл. *Буду я насіцца на празэнт с курыцай.* Дзёрнавічы В.-Дзв.; *параўн.* польск. *prezent* 'падарунак'.

ПРАЗЕНТАВА'ЦЦА *незак.* Хваліцца. *Сваім целам празентуецца, паказвая.* Граўжышкі Ашм.; *параўн.* польск. *prezentować się* 'рэкамендавацъ, знаёміць'.

ПРА'ЗІ *мн.* Чуткі. *Ідуць празі — усеў касцёл.* Саланое Віл.

ПРАЗІМАВА'ЦЬ *зак.* Пратрымаць на працягу зімы. *Кап каро́йку празімаваў.* Альхоўка Навагр. *Каро́йку празімавала.* Альхоўцы Лях. *Празімаваў дзве каровы, то можа жыць.* Гемзы Шальч.

ПРА'ЗНІКАМ у знач. *прысл.* На свята. *Цяпер празнікам некалі хадзіць да іх.* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* руск. *праздник* 'свята'.

ПРА'ЗНІЧНАЯ *н.* Святочны пачастунак. *Пастуху празнічная давалі на тройцу.* Азяраны Раг.

ПРА'ЗНІЧНЫ *прым.* Святочны. *Бувала, празнічныі рубашкі шылі, манішку вышыюць.* Валынцы В.-Дзв.; *параўн.* руск. *праздничный* 'тж'.

ПРАЗРЫ'СТЫ *прым.* Зоркі. *Празрысты далёко відзіць.* Альхоўцы Лях.

ПРАЗРЭ'ТКІ толькі *мн. ткац.* Прыстасаванне для навівання пражы на вал красён. *Празрэткі — каб лягчэй навіваць.* Дзераўное Стаўб.

ПРАЗЫВА́ЦЦА *незак.* 1. Мець мянушку. *У нас празываюцца ўсяк.* Парэчча Гродз. *Чалавек той Пачупайла празываецца.* Малькуны Ігн. 2. Сварыцца. *Помніш, як празывалася з немцамі?* Ёдлавічы Брасл.

ПРАЗЫВА́ЦЬ, ПРЫЗЫВА́ЦЬ *незак.* Тое ж, што і п р а з в і с к а в а́ ц ь. *Празываюць яго Шпакам.* Гемзы Шальч. *Няможна хворага празываць.* Ракаўскія Швянч. *Іх празываюць Скабары.* Чапаеўскі В.-Дзв. *Як Стася празываяць?* Малі Астр. *Празываюць яго Вірлавокі.* Рагулішкі Даўг.; *парайн.* польск. *przezywać* 'тж'.

ПРАЗЫ́ВЫ *мн.* Мянушкі. *Па злосці празывы якія, а так не было.* Індра Красл.

ПРАЗЭ́НТ *гл.* ПРАЗЕ́НТ

ПРАЗЯВА́ЦЬ *зак.* Тое ж, што і п р а в а р о́ н і ц ь. *Хацеў купіць — і празяваў.* Старыя Смільгіні Воран.

ПРАЙГРА́ЦЬ *зак.* Прагуляць. *На карты прайграў часы.* Малі Астр.

ПРАЙДЗЁХА *ж.* і *м. экспр.* Хто пранырлівы. *Прайдзёха— хітрая баба.* Малі Астр.

ПРАЙДЗІСВЕ́Т *м.* і *ж.* Тое ж, што і п р а й д з ё х а. *Яна была такі прайдзісвет.* Перабродзе Міёр.

ПРА́ЙЛЯ *гл.* ПРА́ЛЛЯ І

ПРАЙМА́ЦЦЯ *незак.* Перажываць. *Толькі за ўсё праймайся, то і здохніш. Толькі праймайся, то ў хаці места ні будзя. Кап я гэта праймалася. Ці я буду праймацця.* Кіралі Шчуч.; *парайн.* польск. *przejmować się* 'тж'.

ПРА́ЙНІК *гл.* ПРА́НІК

ПРАЙСЦЁВЫ *прым.* Кароткачасовы. *Прайсцёвы дошч праходзя.* Гемзы Шальч. *Прайсцёвыя дажджы.* Быстрыца Астр.; *парайн.* польск. *przejściowy* 'часовы, дачасны'.

ПРАЙСЦІ́ *зак.* 1. Прайсці дзе-н. *Прайшоў праз лес.* Дварчаны Паст. *Прайшлі праз поле.* Кухты Віл. *Прайдзіця прас клатку.* Ністанішкі Смарг. *Праз тры вёскі пройдзем.* Барок Стаўб. *Там ні прайсці.* Пасіене Лудз. 2. Мінуць (пра час). *Ні прайшоў той дзень.* Саланое Віл. *Два дні свят прайшло.* Старое Сяло Зэльв. 3. Удзельнічаць ад пачатку да канца. *Чалавек вайну прайшоў.* Альхоўка Навагр. *Ён усю вайну прайшоў, ён знямохшыся.* Валынцы В.-Дзв. 4. Выпасці (пра дождж). *Як дошч пройдзя — чарвей аш чырвана.* Бакшты Іўеў. *Дош прайшоў. Нічога, калі прайдзіць дош.* Груздава Паст. *Дажджу не было больш месяца, а прайшоў, то толькі расу зробіць.* Дзераўное Стаўб. 5. Абмінуць. *Ляш, паспі, і ўся работа пройдзе, не трэба будзе рабіць.* Збляны Лід. *Ёй і так пройдзіць.* Ахрэмаўцы Брасл. 6. Уступіць што-н. каму-н. *Хай маё лучшэ пройдзіць.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПРАЙХО́ДЗІЦЬ *гл.* ПРАХО́ДЗІЦЬ

ПРАКАВЕ́ТНЫ, ПРАКУВЕ́ТНЫ *прым.* Спрадвечны. *Гэ-*

*та нашы пракаветныя слава з другога века.* Азяраны Раг. *Упадзіна была пракуветная, волы топіліся, а цяпер аруць і сеюць.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ПРАКАВЕ'ЧНЫ *прым.* Тое ж, што і п р а к а в ё т н ы. *Былі канцы там пракавечныя, касілі іх.* Мурава Бярэз.

ПРАКАЛАЦІ'ЦЬ *зак.* Памыць. *То ў гэтай вадзе пракалаці, яна мылкая.* Мыто Лід.

ПРАКАЛІ'ЦЦА *зак.* Добра высахнуць. *Сена пракаліцца на сонцы і будзіць харошае.* Кіралі Шчуч.

ПРАКАЛО'ЦЬ *зак.* Пракалоць. *Пракалоўшы нагу была, нагу пракалола.* Рагулішкі Даўг.

ПРАКАНА'ЦЦА *зак.* Пераканацца. *Я не праканалася, бо не знала, не бачыла.* Малькуны Ігн.; *парайн.* польск. *przekonać się* 'тж'.

ПРАКАРМІ'ЦЬ *зак.* Забяспечыць сродкамі на пражыццё. *Адзін муж не пракорміць — папробуй пракармі пяць душ.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПРАКАРЧО'ЎКА *ж.* Раскарчоўка. *Пракарчоўка ідзе. Часты лес, трэба пракарчоўку рабіць.* Збляны Лід.

ПРАКАЎЗНУ'ЦЦА *зак. экспр.* Пралезці. *Пракаўзнулася на двор: дзверы чуць-чуць аччынілі, у шчылку лезла.* Лапічы Асіп.

ПРАКАЎНУ'ЦЬ *зак.* Праглынуць. *Неможна пракаўнуць хлеба.* Кузьмічы Люб. *Пракаўнеш вады — ды пашла.* Кузьмічы Люб.

ПРАКАЧА'ЦЦА *зак. перан.* Пражыць нялёгкі перыяд часу. *Зіму мы ўжо пракачаліся з дзяцьмі ў лесе.* Саланое Віл.

ПРАКАШКА'ЦЬ *зак.* Разгрэбці. *Пракашкалі ямкі куры.* Быстрыца Астр.; *гл.* к о́ ш к а ц ц а.

ПРАКВІТАВА'ЦЦА *зак.* Тое ж, што і п р а к а ч а́ ц ц а. *Неяк праквітуюся, пражыву.* Вялікія Баяры Шчуч. *Як хто дзе ў труднай абстаноўцы жыве, находзіцца, то скажуць: «Як ён там праквітуецца?»* Азяраны Раг.; *гл.* к в і т а в а́ ц ц а.

ПРАКВО'ЛЬНЕЙ *прысл.* Вальней. *Праквольней будзе.* Кузьмічы Люб., Малыя Аўцюкі Калінк.

ПРАКІ'ДАВАНЫ *дзеепрым. кулін.* Запраўлены чым-н. *Капуста ні пракідаваная нічым, посная.* Ністанішкі Смарг. *Мы суп грыбамі пракідаваны елі.* Вялікае Сяло В.-Дзв.

ПРАКІ'ДАВАЦЬ *гл.* ПРАКІ'ДВАЦЬ II

ПРАКІДА'ЦЦА I *незак.* Трапляцца. *Палянкі пракідаліся там-сям.* Мачаск Бярэз.

ПРАКІДА'ЦЦА II *незак. кулін.* Запраўляць чым-н. *Пракідаліся алеям, маслам посным і елі кашу.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПРАКІДА'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і п р а к і д а́ ц ц а II. *Пракідалі кашу алеем.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПРАКІ'ДВАЦЬ I *незак.* Заплюшчваць. *Вочы сягоня ня пракідвала.* Магуны Паст.

ПРАКІ'ДВАЦЬ II, ПРАКІ'ДЫВАЦЬ, ПРАКІ'ДАВАЦЬ, ПРЫКІ'ДАВАЦЬ *незак.* Тое ж, што і п р а к і д а́ ц ц а II. *Не пракідвала кашу.* Магуны Паст. *Гэта ш прокіць была з грыбой, суп пракідываць.* Вялікае Сяло В.-Дзв. *Дайней камы пракідавалі калапнямі, сушылі і таўклі.* Лісна В.-Дзв. *Свіням малаком пракідаваюць. Гналі алей і пракідавалі яду. Таўклі камы, прыкідавалі малаком.* Валынцы В.-Дзв.

ПРАКІДНЫ' *прым.* Разбітны. *Яна пракідная.* Вецярэвічы Пух.

ПРАКІ'ДЫВАЦЬ *гл.* ПРАКІ'ДВАЦЬ II

ПРАКІ'НІНЫ, ПРАКІ'НЯНЫ *дзеепрым.* Тое ж, што і п р а к і д а в а н ы. *Ці, можа, гожая ела с салам, мясам пракініная.* Вялікае Сяло В.-Дзв. *Пракіняная яда — засквараная.* Магуны Паст.

ПРАКІ'НУТЫ, ПРАКІ'НУТЫЙ *дзеепрым.* Тое ж, што і п р а к і д а в а н ы. *Каша бульбяная салам пракінута — вот смашна.* Ракаўскія Швянч. *Пракінутый суп салам, маслам.* Рагулішкі Даўг.

ПРАКІ'НУЦЦА I *зак.* Прачнуцца. *Ён пракінуўся, а я суп бяліла.* Рагулішкі Даўг.

ПРАКІ'НУЦЦА II *зак.* Заправіць чым-н. *Зарэжу кабанчыка — усё пракінуцца будзіць чым.* Валынцы В.-Дзв.

ПРАКІ'НУЦЬ *зак.* Тое ж, што і п р а к і н у ц ц а II. *Трэба пракінуць капусту.* Быстрыца Астр. *Трэба пракінуць суп скваркамі. Суп пракінула панцаком.* Магуны Паст. *Шчавіль зварыць, смітанай пракініць і есь.* Валынцы В.-Дзв. *Зварыла бобу, мясам пракінула. Пракінуць, заваложыць — адно і тоя.* Лісна В.-Дзв. *Посным маслам пракініш салат з буракоў і капусты і ясі. Бліноў пракініш маслам ці смітанай.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Добра, як маіш чым пракінуць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Німа чым пракінуць кашу.* Ёдлавічы Брасл. *Дайней пракініць кісель алеям.* Рагулішкі Даўг.

ПРАКІ'НЯНЫ *гл.* ПРАКІ'НІНЫ

ПРАКІ'ШШЫ *прым.* Пракіслы. *Шчэ не будуць пракішшы ягады.* Парэчча Гродз.

ПРАКЛАДА'ЦЬ *незак.* Пракладваць. *Аглядалі, кудой шашу пракладаць.* Азяраны Раг.

ПРАКЛЁН *м.*, ПРАКЛЁНЫ *мн.* Праклён. *Што мне твой праклён, не баюся твайго праклёну.* Міратычы Карэл. *Пракляны да міне не прыстануць.* Старое Сяло Зэльв.

ПРАКЛІНА'ЦЦА *незак.* Праклінаць. *Праклінацца нялызя — такая мінута ест, што шкодзіць.* Кудзялянцы Шальч.

ПРАКЛІНА'ЦЬ, ПРАКЛЫНА'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і п р а к л і н а́ ц ц а. *Праклінала сваю долю.* Дзераўное Стаўб. *Праклынаюць яго, і я яго клыну.* Ністанішкі Смарг. *Баба праклынаіць усіх.* Груздава Паст. *Яна мяне праклынае.* Кухты Віл. *Праклынаць мяне будзе.* Талейкі Швянч.

ПРАКЛЮ'НІВАЦЦА *незак.* Узыходзіць. *Праклюніваецца зернета, як пасеяна.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПРАКЛЯПА'ЦЬ *зак. экспр.* Тое ж, што і п р а в а р ó н і ц ь. *Я дзве долі праклялала.* Лоск Валож.

ПРАКЛЯСЦІ' *зак.* Праклясці. *Пракляў яе.* Старое Сяло Зэльв. *Праклынуў яго.* Навасёлкі Свісл. ∇ *Салодкі — могуць праглынуць, а горкі — праклянуць.* Саланое Віл.

ПРАКЛЯ'ТЫ *прым.* Паганы. *Ён такі пракляты: лупя матку.* Малі Астр.

ПРАКО'С *м.* 1. Пракошаная паласа ў адзін узмах касы. *Іншы шырокі пракос бярэ — грэбень астаецца, не дацягне яе зрэзаць.* Пацаўшчына Дзятл. *Касец пракос гоніць.* Малахоўцы Бар. *Пракос адзін прагнаў.* Мачаск Бярэз., Гемзы Шальч. *Прайшоў адзін пракос.* Рудня Астравітая Чэрв., Скрыпчына Лудз. 2. Радок скошанай травы. *Пракосы адразу разбіваюць, тады зграбаюць у валкі.* Чуркі Ашм. *У пракосы пакошана, нада ісці разбіваць.* Кіралі Шчуч. *Назаўтра пракосы разбіваюць.* Альхоўка Навагр. *Пракос — як адзін радок скасіць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Пракос — радок сена.* Пярэкі В.-Дзв., Мярэцкія Глыб., Беняконі Воран., Відаўцішкі Вільн., Збляны Лід., Валеўка Навагр.

ПРАКО'ЎТАЦЬ *зак.* Тое ж, што і п р а к а ў н ý ц ь. *Пракоўтая хлеб дзіця, аш слёскі цякуць — забаліць у горле.* Кузьмічы Люб.

ПРАКО'ЎТНУЦЬ *зак.* Тое ж, што і п р а к а ў н ý ц ь. *Пракоўтнуў адзін рас. Не пракоўтне вады.* Вецярэвічы Пух.

ПРАКО'ША *ж.* Пакос. *Сюда на пракошу пусцяць скаціну.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПРАКО'ШЧЫЦЬ *зак.* Выграбці ямку. *Міргітун* [бакас] *пракошчыць ямку, няма гнязда, на балоце, на купіне робіць.* Пацаўшчына Дзятл.; *гл.* к ó ш к а ц ц а 1.

ПРАКРА'СЦІСЯ *зак.* Папасціся за сістэматычны крадзеж. *Пракраліся, і іх судзілі ў Браславе.* Ёдлавічы Брасл.

ПРАКРАЧЭ'ННЕ *н.* Пераход, перасячэнне (граніцы). *За пракрачэнне граніцы сядзеў.* Старыя Трокі Трак.; *параўн.* польск. *przekroczenie* 'тж'.

ПРАКРО'ІЦЬ *зак.* Нарэзаць. *Яблыкаў пракроіць нада каровя.* Гемзы Шальч.

ПРАКРО'ЙВАЦЬ *незак.* Наразаць. *Качаны, што ў сярэдзіне капусты, пракройвалі і елі.* Беняконі Воран.

ПРАКРУЦІ'ЦЬ *зак.* 1. Прасвідраваць. *Дзюрку пракруціш глыбока.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Параніць. *Даўней кудзелі пралі, то пракруціш паляц ніткай.* Вузла Мядз.

ПРАКРЫ'КНУЦЬ *зак.* Крыкнуць. *Я ўжэ пракрыкнула.* Гемзы Шальч.

ПРАКРЫ'ЦЬ *зак.* Прыадчыніць. *Пракрыла дзвера.* Пасека Ст.-Дар.

ПРАКУВЕ'ТНЫ *гл.* ПРАКАВЕ'ТНЫ

ПРАКУ'ДА *ж.* і *м. зневаж.* Хто надакучлівы. *Во такая пракуда — смешная такая і ўсё.* Шамялі Брасл. *Ідзі, пракуда!* Мішневічы Шум.

ПРАКУ'РСТАЦЬ *зак.* Пратапіць. *Пракурстала троху ў печы, слаба цепліла.* Курaполле Паст.; *гл.* к у́ р с т а ц ь.

ПРАКУСІ'ЦЬ *зак.* Укусіць. *Сабака пракусіў руку.* Рагулішкі Даўг.

ПРАКУ'ШЫВАЦЬ *незак.* Каштаваць. *Прамешываеш і пракушываеш — як смак.* Лісна В.-Дзв.; *параўн.* руск. *кушать* 'есці'.

ПРАЛА'ДЗІЦЦА *зак.* Панадзіцца. *Мая карова праладзілася хадзіць у шкоду.* Быстрыца Астр., Магуны Паст.

ПРАЛАЖЫ'ЦЬ *зак.* 1. Перакласці што-н. у іншае месца. *Недзя пралажыла ніткі, ні магу найсці.* Магуны Паст. 2. Перакласці чым-н. *Матуля спячэць бліноў, скваркамі праложыць.* Магуны Паст.

ПРАЛАЗІКАВА'ЦЬ *зак. экспр.* Змарнаваць час. *Паўтара часа пралазікавалі: гаварылі, сядзелі без работы.* Мсцібава Ваўк.

ПРАЛА'ЗІЦЬ *зак. экспр.* Прахадзіць. *Дзень пралажу ў тапках, як уступлюся ў іх зрана.* Пацаўшчына Дзятл.

ПРАЛАМІ'ЦЬ *зак.* Прабіць. *Цвёрды, не праламіць.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПРАЛЕ'ЖАЦЬ, ПРОЛЭ'ЖАТЫ *зак.* Праляжаць. *Пралежаў на баку.* Масілавічы Сл. *Пролэжав цілый чяс.* Сіманавічы Драг.

ПРАЛЕ'СКА *ж. бат.* Пралеска. *Пралескі зразу с-пат снегу растуць.* Кіралі Шчуч. *Пралеска расцвіла.* Рудня Астравітая Чэрв. *Адны завуць пралескі, маленькія, сініенькія, а другія — дрэмлюкі.* Завельцы Астр.

ПРАЛЁТНЫ *прым.* 1. Рухавы. *Твая карова пралётная: яе злавіць няможна, яна ўцікаіць.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Праліўны (дождж). *Пралётны дошч.* Навасёлкі Лід.

ПРАЛІВА'ЦЦА *незак.* Пераліваццa (пра колер). *Кветкі праліваюцца — як шмат і харошыя.* Жылі Іўеў.

ПРАЛІ'ВЕНЬ *м.* Лівень. *Пралівень учора быў.* Навасёлкі Мядз.

ПРАЛІ'Ў *м. мед.* Пераліванне. *Праліў крові дзелаўся.* Навікі Лудз.

ПРАЛІЎНЫ' *прым.* ◇ *Праліўны дошч* — тое ж, што і п р а л і в е н ь. *Праліўны дошч ідзе.* Кіралі Шчуч. *Праліўны дошч — вялікі дошч.* Ёдлавічы Брасл., Міратычы Карэл., Альхоўцы Лях.

ПРА'ЛІЦА *ж.* Прасніца. *Была праліца, у праліцу ўвяжыш кудзелю і прадзеш на калаўрот.* Лісна В.-Дзв.

ПРА'ЛКА *ж.* Тое ж, што і п р а́ л і ц а. *Прадут пралка-*

*мы, на пралках.* Горск Бяроз. *Прадут на пралках.* Дзмітравічы Кам.

ПРА'ЛЛЯ I, ПРА'ЛЬЯ, ПРА'ЙЛЯ *ж.* Папрадуха. *Ну і пралля з цябе — адно гора!* Беразіно Докш. *Пралля прадзе.* Мярэцкія Глыб., Пасека Ст.-Дар. *Якая з яе пралля!* Рудня Астравітая Чэрв., Малыя Аўцюкі Калінк. *Прала пралья.* Дзяніскавічы Ганц. *Ну і прайля ў цябе!* Ёдлавічы Брасл.

ПРА'ЛЛЯ II *ж.* Водмель, дзе мылі бялізну. *Атмель такі называлі пра́лля.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПРАЛО'МКА *ж.* Тое ж, што і п р а д у́ х а 3. *Не хадзі на Котру — у праломку ўляціш!* Стральцы Гродз. *Праломка — як прарубаюць лёт.* Новікі Гродз. *Праломкі прасякалі зімой. Пешняй прарубалі праломку і рыбу лавілі.* Парэчча Гродз. *Прасеклі праломку, і пачала паказвацца рыба.* Кіралі Шчуч. *Праломку прарубай на рацэ.* Вялікія Баяры Шчуч. *Праломку прасек рыбу лавіць.* Галубы Маст. *Праломку зімой прабіваюць.* Воўкуш Ліпск.

ПРАЛЫ'НДАЦЬ *зак. экспр.* Тое ж, што і п р а л а з і к а в а́ ц ь. *Пралындаў цэлы час.* Жылі Іўеў., Саланое Віл. *Німа на чым пасвіць, пралындаеш, час правядзеш.* Граўжышкі Ашм.; *гл.* л ы́ н д а ц ь.

ПРА'ЛЬНІК *гл.* ПРА'НІК 1

ПРА'ЛЬНІЦА *ж.* Папрадуха. *Пральніца прала.* Масілавічы Сл.

ПРА'ЛЬЯ *гл.* ПРА'ЛЛЯ I

ПРАЛЯЖА'ЦЬ *зак.* Атрымаць пролежні ад доўгага ляжання. *Крыш была праляжаўшы, праляжала крыш.* Кемялішкі Астр.

ПРАЛЯЗА'ЦЬ *незак.* Пралазіць. *Благі забор — куры пралязаюць.* Солы Смарг.

ПРАЛЯКА'ЦЬ *зак.* Спалохаць. *Мене сабака пралякаў.* Вялікі Краснік Пруж.; *параўн.* польск. *przelęknąć* 'тж'.

ПРАЛЯЦЕ'ЦЬ *зак. перан.* Прайсці (пра час). *Годы праляцелі.* Слабада Мін.

ПРА'МА, ПРА'МО *прысл.* 1. Не зварочваючы ўбок. *Ідзі прама, там сельсавет.* Беразіно Докш. *Дарога прамо ідзе.* Дзяніскавічы Ганц. *Пойдзем прама чэрас лес.* Ёдлавічы Брасл. 2. Непасрэдна. *Прама з вядра выпіў.* Ёдлавічы Брасл. 3. узмацняльная *часц.* Проста. *Скрыпачка прама пяець! Прама не той чалавек.* Саланое Віл. *Ну, асобый прама народ.* Чапаеўскі В.-Дзв.

ПРАМА'ЗВАЦЬ *незак.* Змазваць. *Бугры ў кароў, даўней ім прамазуюць хібы.* Азяраны Раг.

ПРАМА'КА *гл.* ПРЫМА'К

ПРАМАКА'ЦЬ *незак.* Прапускаць ваду. *Бурка троха суконная, ні так прамакая.* Слабада Мін.

ПРАМАНУ'ЦЦА *зак.* Тое ж, што і п р а л а́ д з і ц ц а. *Ця-*

*лё праманулася есці яйкі. Карова праманулася ў шкоду і ляціць. Прамануўся ён да гэтай бабы хадзіць,— і ходзя.* Гемзы Шальч.; *парайн.* літ. *prasimanýti* 'выдумаць'.

ПРАМАНУ'ЦЬ I *зак.* Тое ж, што і праладзіцца. *Гусь праманула несціся ў суседа.* Галубы Маст. *Цяля праманула есць яйкі, тылька дай яму.* Старыя Смільгіні Воран. *Праманулі піць мушчыны.* Старыя Трокі Трак.

ПРАМАНУ'ЦЬ II *зак.* Даць мянушку. *Яе праманулі Маскаліха.* Дакудава Лід. *Праманулі яго Ляўшаком.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *pramanýti* 'тж'.

ПРАМАНУ'ЦЬ III *зак.* Баднуць. *Праманула карова карову, а ці я вінавата.* Мсцібава Ваўк.; *парайн.* літ. *pramáuti* 'пракалоць'.

ПРАМАРНАВА'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і празікаваць. *Прамарнавалі ў падраччыка да часоў дзесяці й разышліся.* Строчыцы Мін.

ПРАМАРУ'ДЗІЦЬ *зак.* Тое ж, што і празікаваць. *Прамарудзілі там, доўга сядзелі.* Рагулішкі Даўг.

ПРАМАТА'ЦЬ, ПРОМОТА'ТІ *зак. экспр.* Растраціць. *Хату прадаў і праматаў грошы.* Ахрэмаўцы Брасл. *Мав такую господарку і як начав піті, то цієлу промотав. Туолезно грошы промотала і нічого нэ купіла.* Курашэва Чыж.

ПРАМАЧЫ'ЦЦА *зак. вет.* Памачыцца. *Еслі карова прамочыцца кроўю — даюць чыстацел піць.* Валынцы В.-Дзв.

ПРАМАЧЫ'ЦЬ *зак.* Вымачыць. *Прамачыў навылёт дождж, да цела.* Малыя Аўцюкі Калінк. ◇ *Зубы прамачыць* — крыху выпіць. *Дай мне хоць зубы прамачыць.* Паляцкішкі Воран.

ПРАМЕ'ЖАК *м.* Мяжа. *Яны хадзілі, твой прамежак абжыналі.* Гальшаны Ашм.

ПРАМЕ'Й *прысл.* Бліжэй. *Цераз двор хадзі пайдзем, і прамей будзя.* Азяраны Раг.

ПРАМЕ'ТЛА *ж. экспр.* Турбота, непакой. *Я не магу спаць, мяне праметла кідая, штурхая: ідзі — нада здзелаць.* Гемзы Шальч.

ПРАМЕ'ТНІК *м.* 1. Хуліган. *Праметнік быў такі, праступнік.* Саланое Віл. 2. Гарэзнік. *Ну і праметнік жа ты!* Рыбчына Віл.

ПРАМІ'НАК *м.* ◇ *Прамінку німа* — няма спакою. *Прамінку німа: ідуць і просяць да старой бабы.* Гемзы Шальч.

ПРАМІНУ'ЦЦА *зак.* Мінуць (пра час). *Гот прамінуўся.* Міратычы Карэл.

ПРАМІРАВА'ЦЬ *зак.* і *незак.* Прэміраваць. *Мяне некалькі рас праміравалі.* Якшыцы Бярэз.

ПРАМІ'ЦЬ *незак.* Выпрамляць. *Рэчку Дзітву прамілі, яна была выкрунтасамі.* Навасёлкі Лід.

ПРАМІ'Ш *прыназ.* з *род.* Паміж. *Сеў праміш цесця і цешчы.* Валынцы В.-Дзв.

ПРА'МО *гл.* ПРА'МА

ПРАМО'ДАЦЬ *зак. экспр.* Узяць за моду. *Як прамодалі, што ім пяку сухарыкі, просяць: «Спячы, бабуля, сухарыкаў».* Кураполле Паст.

ПРАМО'КНУЦЬ *зак.* Вымакнуць. *Мы прамоклі наскрось.* Гальшаны Ашм.

ПРАМО'НАЦЬ *зак.* Тое ж, што і п р а л а́ д з і ц ц а. *Прамонала карова залятацца ў жыта, у клевяр.* Малі Астр.

ПРАМО'ЧКА *ж. вет.* Цыстыт. *Ад кляшчоў у кароў прамочка бываіць.* Валынцы В.-Дзв.

ПРАМСАЮ'ЗНЫ *прым.* Прафсаюзны. *Прамсаюзныя грошы.* Саланое Віл.

ПРАМУ'ГА, ПРАМУ'ҐА, ПРАМУ'ДА, ПРАНУ'ДА *ж.* Прамежак паміж чым-н. *Прамуга паміж печкай і сцяной, там сушаць рукавіцы, анучы і дрова.* Вялікія Баяры Шчуч. *Прамуга паміж сцяной і печкай. За печай прамугі дзелалі, там пол.* Старыя Трокі Трак. *Прамугу зрабілі палажыць качалку, пранік, што качаць. Прамуґу зрабілі паміж сцяной і печкай. Прамуга — даражына міжду хатамы. Прамуга — вускі праход паміж хатамы.* Кіралі Шчуч. *Прамуга паміж будынкамі.* Кураполле Паст. *Прамуґа між печы і сцяной. Прамуґа здзелаўшыся такая ў лесе, там дрэваў німа. Ні шчыльна злажыла яблыкі — і такія прамуґі. У гратку не пасадзі — і прамуґа.* Гемзы Шальч. *Прамуга между сцяны і печкай, толькі каля печы прамуґа.* Руднікі Шальч. *Палажы рукавіцы ў прамуду. У прамуду кладуць і валік, і качалку.* Міратычы Карэл. *Прамуда ў нас бывая за печаю.* Альхоўцы Лях. *Я качалку, кружэчак палажу ў прамуду. Кругавую ад сцяны прамуда, каб не прыпіралася цэгла. Прамуда між сценкай і печкай, некалі ручайкі клалі ў прамуду, кап схлі; адно цяпер мыла накідаеш, кап высахло. Я качалкі, кружэчак залажу ў прамуду, а ў пячоркі паўпіхаю ганучы.* Дзяніскавічы Ганц. *Порткі мо дзесьці ў прануду засунуў. Прануда між печчу і сцяной.* Пацаўшчына Дзятл.; *параўн.* літ. *pramūgà* 'прамежак', польск. *framuga* 'ніша'.

ПРАМУ'ДРАЧКА *ж. памянш.-ласк.* Кемлівая дзяўчына. *Яе дачка была прамудрачка.* Кухты Віл.

ПРАМУ'ДРЫ *прым.* Кемлівы. *Яна была прамудрая дзефка.* Барок Стаўб.

ПРАМЫ' *прым.* Прамы. *Прамая дарога на Маладзечна.* Цяпінцы Віл.; *параўн.* руск. *прямой* 'тж'.

ПРАМЫВА'ЦЬ *незак.* Прамываць. *Будзем ісці, я вам пакажу крыніцу; там здарова вада — добра піць і вочы прамываць.* Солы Смарг.

ПРАМЫ'СЛАСЦЬ *ж.* Хатняя вытворчасць. *Была гэта пра-*

*мысласць такая: малолі ў жоранках, крупы таўклі ў ступах.* Кудзялянцы Шальч.

ПРАМЫШЛЁНЫ *прым.* Тое ж, што і п р а м ý д р ы. *Такая прамышлёная: знае, як і прадуць, і ткуць.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПРАМЯНІ'ЦЬ *зак.* Памяняць. *Прамянілі карову на каня.* Лісна В.-Дзв.

ПРАНДЗЭ'Й *прысл.* Хутчэй. *Дзежачку маеш пад рукой, то прандзэй узяць.* Быстрыца Астр. *Хацела, кап прандзэй смерць прышла.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* польск. *prędzej* 'тж'.

ПРАНІЗА'ЦЬ *зак.* 1. Пракалоць. *Карова ногу праніжа рогам.* Вецярэвічы Пух. 2. Прастрэліць. *Пуля пранізала яму грудзі.* Вецярэвічы Пух.

ПРА'НІК, ПРА'ННІК, ПРА'ЛЬНІК, ПРА'ЙНІК *м.* 1. Прылада для выбівання бялізны і абівання льну. *Пранікам білі бялізну — мылі так. Аснову збярэш і ў начоўку зальеш варам, паляжыць, а потым аптаўкаю пранікам.* Солы Смарг. *Дзе яна падзела праніка?* Новікі Гродз. *Абівалі пранікам лён.* Дзераўное Стаўб., Кудзялянцы Шальч., Грыкені Вільн. *Лён абівалі пранікам: пасцілку якую паложыш на дошчачку — і абівалі.* Латыгаль Віл. *Пранікам пярылі палатно.* Кухты Віл., Гальшаны Ашм. *Быў такі пранік, палатно пярылі.* Цяпінцы Віл. *Бяльё пранікам праніць.* Валынцы В.-Дзв. *Пранік — як мылі бялізну.* Альба Нясв. *Пранікам адбівалі палатно.* Канюкай Вільн. *Пранікам агурэчнік білі, і віхотка палучаецца.* Індра Красл. *Пяруць пранікам, аж бялее пуд пранікам.* Пасека Ст.-Дар. *Даўней гаварылі: «У русалкі пранік у руцэ».* Дарава Лях. *Яна пярыць праннікам палатно.* Асавец Віл. *Праннікам, як паласкалі, білі. Праннікамі лён абівалі. Пральнікамі абівалі лён.* Старыя Трокі Трак. *Адзення пралі прайнікам. Абівалі лён прайнікам повярху.* Магуны Паст. *Мой муж прайнік добра зробіць.* Кураполле Паст. *Быў прайнік такі.* Груздава Паст. *Прайнікамы адзежу пяруць. Што нядзелю лушчыш боп, то за час прайнікам абаб'еш.* Ахрэмаўцы Брасл. *Прайнікам бялізну пралі на рэчкі.* Ёдлавічы Брасл. *Палатно прайнікам пярыш.* Саланое Віл. *Палошчым адзеня і — прайнікам.* Лайпушкі Ігн. *Прайнікам болі выб'юць бяльё.* Рагулішкі Даўг. 2. Верхняя качалка. *Пранік — верхняя качалка. Качалка круглая, а пранік зубаваты.* Кіралі Шчуч.

ПРАНІКА'ЦЬ *незак.* Ныць (пра сэрца). *Доўга сэрца пранікала, як муж памёр.* Альхоўка Навагр.; *параўн.* польск. *przenikać* 'пранікаць, пранізваць'.

ПРА'НІЦЬ *незак.* Перыць (бялізну). *Іна бяльё пранікам праніць.* Валынцы В.-Дзв.

ПРА'ННІК I *гл.* ПРА'НІК

ПРА′ННІК II *м. заал.* Апалонік. *Праннікі плаваюць.* Ухвала Круп.

ПРАНУ′ДА *гл.* ПРАМУ′ГА

ПРАНЦ, ПРА′НЭЦЬ, ПРА′НЫЦ *м.* і *ж.*, ПРА′НЦЫ *мн. лаянк.* Брыдота. *От пранц, ны чоловік — трэба ж такую пакосць зробыты. А куды пошла гэтой пранэць* [пра карову]! Сіманавічы Драг. *Вже гатой праныц прышов.* Суботы Драг. ◊ *Пранцы іх ведаюць* — ніхто таго не ведае. *Хадзіў да Змітрачыхі любіцца; як ім там было, пранцы іх ведаюць.* Граўжышкі Ашм. *Ніхай (каб) іх пранцы* — каб на іх ліха! *Ніхай яе пранцы! Кемялішкі Астр. Каб цябе пранцы ўзялі!* Гарадзея Нясв. *На пранцы* — навошта. *На пранцы так многа ціплят.* Валынцы В.-Дзв.

ПРАНЦУ′З *зб. м.* Французы. *Галоднае кладбішча з таго часу, як пранцуз шоў.* Беразіно Докш.

ПРАНЯ′ЦЦА *зак.* Знервавацца. *Як я тады так пранялася, аш церкі па скуры ідуць.* Мсцібава Ваўк.

ПРАПА′ДАК *гл.* ПРЫПА′ДАК I

ПРАПАДА′ЦЬ, ПРО′ПАДАЦЬ *незак.* 1. Гінуць. *Усё прападае там. Нішто ня пропадала дарэмне.* Альхоўцы Лях. *Ніхай яно прападае! Ніхай прападае гэты смярдзюшчы!* Вялікія Баяры Шчуч. *У мяне не прападае ні яблычка, усё паядая кароўка.* Слабада Мін. ∇ *Чым дабру прападаць, дык лепш лопнуць!* Пацаўшчына Дзятл. 2. Пакутаваць, гараваць. *Ні рас яна прападала.* Засецце Дзятл. *Гэдак прападаеш, чалавек!* Альхоўцы Лях. *Калісьці адна баба мела шэсь сыноў і памерла, у хляве начавала, за імі прападала, галодна была і за дзён сем памёрла.* Альхоўка Навагр.

ПРАПА′ДАЧНЫ *гл.* ПРЫПА′ДАЧНЫ

ПРАПАДО′БІІ *прыназ. з род.* Накшталт. *Ён каля Дзвіны, прападобіі нагодак той цвяток.* Шамялі Брасл.; *параўн.* руск. *наподобие* 'тж'.

ПРАПА′ЖА *ж.* Шкода. *Табе робяць на прапажу — проці хаты абламалі дрэўкі.* Малькуны Ігн.

ПРАПА′ЛІ′С, ПРАПО′ЛІС, ПРО′ПУЛІС *м. пчал.* Прапаліс. *Прапаліс — пчаліны клей.* Рыбчына Віл., Мярэцкія Глыб., Тухавічы Лях. *Прапаліс купляюць для лёхкіх. Прапаліс — клей, вешчаство, якім пшчолы на зіму закрываюць велькія шчэлі для цеплаты.* Альхоўка Навагр. *Прапаліс — клей пчаліны, ад зубоў, ад жалудачных хвароб.* Рудня Астравітая Чэрв. *Крыты мёд прапалісам закрываюць. Прапалісам закрываюць чашачкі.* Азяраны Раг. *Праполіс завуць у нас і пчаліны клей завуць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Праполіс — пчаліны клей.* Бярнова Мін. *Пропуліс — пчаліны клей.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ПРАПАЛІ′ЦЬ *зак.* Пратапіць. *Нада печку прапаліць, хоць на кухні будзе цеплей.* Малышы Лід.

ПРАПАРО′ЦЬ *зак.* Пракалоць. *Як карова праб'е, прапора пляву, то вісіць гус.* Кіралі Шчуч. *Прапарола вока.* Слабада Мін.

ПРАПА′СВІЦЬ *зак. перан.* Недагледзець пасучы. *Троя качанят прапасвілі дзеці.* Навасёлкі Лід.

ПРАПАСЛЕ′ДНІ *прым.* Перадапошні. *Я прапаследня, у нас было дзесяць дзяцей.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПРАПА′СНЫ *прым.* 1. Які марна траціцца. *У нас малако прапаснае — з цыцкі ліецца на зямлю.* Навасёлкі Свісл. *Малако прапасная.* Альхоўка Навагр. 2. Няякасны. *Сено прапасно, якоя пыліць, карова не хоча есці.* Мсцібава Ваўк. 3. Прапашчы. *Дзеўчына прапасная.* Альхоўка Навагр. *Прапасная капуста без вады.* Мсцібава Ваўк.

ПРАПА′СЦІ І *зак.* 1. Знікнуць, згубіцца. *Прапаў, ня ведаем дзе.* Старыя Смільгіні Воран. *Прапалі каровы — давай іх шукаць.* Дарава Лях. ▽ *Мой прапоў — што ў зямлю ўпоў.* Кузьмічы Люб. *Прапаў мех — на роднага брата грэх.* Малі Астр. 2. Пацярпець няўдачу. *Мама крычыць: «Мы прападзем, ні трэба было купляць соль, не было дазволу».* Гальшаны Ашм. *Ня ведаючы, можам прапасці.* Паляцкішкі Воран. 3. Загінуць. *Прапаў адзін сын яе, засыпала зямлёй. У мяне з рацтва многа прапала ў вайну.* Слабада Мін. ▽ *Кап ты прапаў!* Старыя Трокі Трак. *Нех прападзе ён, п'яніца!* Ахрэмаўцы Брасл. *Яна прападзе, як рудая мыш!* Малі Астр. *Кап іх маці прапала!* Вецярэвічы Пух. *А прападзіця вы!* Рагулішкі Даўг. 4. Здохнуць. *Прапала карова.* Кураполле Паст. ▽ *Прапала кароўка — няхай прападая і вяроўка.* Малі Астр. 5. Панесці страты. *Наш труд прапоў.* Малыя Аўцюкі Калінк. 6. Змарнавацца, засохнуць. *Прапала дзерава.* Дружба Мін. 7. Страціць грашовую вартасць. *Людзі мелі золата, а мянялі на бумашкі, а бумашкі прапалі.* Дарава Лях.

ПРАПА′СЦІ ІІ *зак.* Шчыльна прыстаць. *Кап бярвяно прапала, драку дзеляяш такую шыроку, карандашом праводзіш і раўнуяш, тады мох.* Быстрыца Астр.

ПРАПІВА′ЦЬ *незак.* Растрачваць грошы на выпіўку. *Каб прапівоў, то не.* Валеўка Навагр.

ПРАПІЖЭ′НЬ *м.* Перагародка (у пакоі). *Трэба адбіць прапіжэнь. Гэта храпе, што за прапіжэням.* Гемзы Шальч.; *параўн.* польск. *przepierzenie* 'тж'.

ПРАПІ′ЦЬ *зак.* 1. Растраціць грошы на выпіўку. *Прапіў, прагуляў грошы.* Лоск Валож. 2. *перан. экспр.* Прымусова выдаць замуж. ▽ *Прапіла матка дочку на салоткім мядочку.* Малі Астр.

ПРАПЛА′КАЦЬ *зак.* Паплакаць некаторы час. *Праплакала вечар.* Дварчаны Паст. ◇ *Праплакаць вочы* — вельмі доўга плакаць. *Матка па дачцэ вочы праплакала — не знала, дзе падзелася.* Чыжуны Мін.

ПРАПЛІ'ЦА *ж.* Металічная планка ў адтуліне верхняга каменя жорнаў. *Прапліца ў жорнах прамалолася, нада нясці ў кузню.* Валынцы В.-Дзв.; *гл.* п а р п л і ц а.

ПРАПО'ЙСАВАЦЬ *зак.* Ачысціць ад асцюкоў. *Нада прапойсаваць, а то будзіць многа волаці.* Лісна В.-Дзв.; *парайн.* літ. *paisýti* 'абіваць асцюкі'.

ПРАПО'Л *м.* Тое ж, што і п р а п á л і с. *Прапол — заклеіваць рамкі.* Завельцы Астр.

ПРАПО'ЛІС *гл.* ПРАПА'ЛІ'С

ПРАПУСКА'ЦЬ *незак.* Праводзіць. *Пашла прапускаць яго на аўтобус.* Малі Астр. *Дачку прапускаіць.* Лайпушкі Ігн.

ПРАПУСЦІ'ЦЬ *зак.* 1. Працадзіць. *Лух прас чыстую шматачку прапусцяць.* Новікі Гродз. 2. Правесці. *Прапусціла да алтобуса.* Старыя Смільгіні Воран. *Можа, вас прапусціць?* Граўжышкі Ашм.

ПРАПЫТА'ЦЬ *зак.* Даведацца пра што-н. *Прапыталі пра гэта, што падарак даццэ купіла.* Саланое Віл.

ПРАПЯРЭ'НЯ, ПРАПЯРЭ'ННЯ *н.* Тое ж, што і п р а п і ж э́ н ь. *Прапярэня здзелаіць: там спальня, там кухня.* Стракішкі Трак. *Прапярэня было: перагарадзілі, разгарадзілі хату.* Малі Астр.

ПРАПЯЧЫ' *зак.* Спячы. ∇ *На Пятра баба свежага хлеба прапякла.* Малькуны Ігн.

ПРАРАБІ'ЦЬ *зак.* Папрацаваць. *Прарабіў на канюшні мужык мой.* Слабада Мін.

ПРАРАЗА'ЦЬ *незак.* Прарэзваць. *Праразаюць дзюркі для ґузіка.* Малі Астр.

ПРАРА'ЗІЦЦА *зак.* Жахнуцца. *Кожны рас праразішся, як паглядзіш, што гроб апускаюць так глыбока.* Солы Смарг.; *парайн.* польск. *przerazić się* 'тж'.

ПРАРАКАВА'ЦЬ *незак.* Прадракаць. *Гэта праракавала на войны.* Граўжышкі Ашм. *Сава праракуя на мярца і на дзіця.* Кіралі Шчуч. *Сава праракуя на дзіця.* Гемзы Шальч.

ПРАРАКО'ЎНЫ *прым.* Прарочы. *Зязюля — пракакоўна птушка.* Альхоўцы Лях.

ПРАРАСЦІ' *зак.* Пусціць парасткі. *Прарасла ўся бульба.* Старыя Трокі Трак.

ПРАРВА'ЦЦА, ПРАРВА'ЦА *зак.* 1. Абваліцца. *Пот у печы прарвайся.* Масішкі Красл. 2. Прарваць адтуліну. *У яго прарвайся бруд праз вушкі, чорны бруд, як дзёгаць.* Малі Астр. 3. Парвацца, лопнуць. *У прошлам гаду прарвалася сасуда ў мяне.* Слабада Мін.

ПРАРВА'ЦЬ *зак.* Прарэдзіць. *Нада буракі прарваць, а то густыі.* Валынцы В.-Дзв.

ПРАРО'СТ *м.* Праслойка мяса ў сале. *Сала с праростам: карміць-карміць, а потым схудзее — і прарост ест.* Альба Нясв.

ПРАРО'СТАЦЬ *незак.* Прарастаць. *Прароставоць агуркі і буракі.* Гемзы Шальч.

ПРАРО'ЧНЫ *прым.* Тое ж, што і п р а р а к о́ ў н ы. *Прарочная птушка — толькі сава.* Гемзы Шальч.

ПРАРО'ШЧАВАЦЬ *незак.* Прарошчваць. *Гуркі прарошчавалі і сеялі.* Мярэцкія Глыб., Рудня Астравітая Чэрв.

ПРАРО'ШШЫ *дзеепрым.* Прарослы. *Бульба прарошшая была.* Валынцы В.-Дзв.

ПРАРУ'БАВАЦЬ *незак.* Прасякаць (лёд). *Цэлу зіму коні пояць, ні прарубуюць, ні замярзае.* Жылі Іўеў.

ПРАРУБА'ЦЬ *зак.* Прасячы (лёд). *Проламкі прарубалі і шчупакі лавілі і вазілі.* Мсцібава Ваўк.

ПРАРУБІ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і п р а р у б а́ ц ь. *Трэба прарубіць палонку — рыбы зловім.* Малахоўцы Бар.

ПРАРЫВА'ЦЦА *незак.* Перарывацца. *Па лесе як ідзеш — [лес] не прарываецца.* Дзяніскавічы Ганц.

ПРАРЫВА'ЦЬ *незак.* Прарэджваць. *Нада буракі прарываць, а то густыя.* Груздава Паст.

ПРАРЭ'ЗАЦЬ *зак.* Перарэзаць. *Жылу прарэзаў.* Малі Астр.

ПРАРЭ'ЗЬ *ж.* Нарэзы ў мянташцы. *Яна з дзерава, нарэзана разьба, дробнага пясочку, звыру ў прарэзь, пацягнуў і далей касі.* Валеўка Навагр.

ПРАРЭ'Х *м.* Тое ж, што і п р а ё р а к. *Аш да пояса ў цябе прарэх.* Бакшты Іўеў. *Прарэх у кашулі.* Магуны Паст., Рагулішкі Даўг. *У краку прарэзан прарэх. Прарэх у спадніцы.* Саланое Віл. *Прарэх у сарочцы. Зашпілі прарэх, а то ўсё відаць.* Беразіно Докш. *Прарэх у кашулі, прарэшкі ў каўнерчыкаў.* Ракаўскія Швянч. *Прарэх у кашулі, у штанах.* Мярэцкія Глыб., Слабада Мін., Ёдлавічы Брасл., Альба Нясв., Пасека Ст.-Дар. *Прарэх у сароццы.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПРАС I *м.* Прас. *Прас зялезны быў.* Саланое Віл. *Быў прас, прасавалі.* Мярэцкія Глыб. *Быў прас, або жаляска, прасаваць.* Рыбчына Віл. *Прасам прасавалі.* Ёдлавічы Брасл.

ПРАС II *гл.* ПРАЗ

ПРАСАВА'ННЕ *н.* Дзеянне паводле знач. дзеяслова п р а с а в а́ ц ь. *Да прасавання абмываюць доску.* Старыя Трокі Трак.

ПРАСАВА'НЫ *дзеепрым.* Спрасаваны. *Нейкі торф — як прасаваная гразь, длуга грэя.* Малі Астр.

ПРАСАВА'ЦЬ *незак.* Гладзіць прасам. *Памыла, прасаваць нада.* Солы Смарг. *Прасавалі жаляскам, або прасам.* Рыбчына Віл. *Жаляскам прасавалі крамніну.* Кіралі Шчуч. *Прасам прасавалі.* Ёдлавічы Брасл. *Калі не лянуюся, то прасую.* Старыя Трокі Трак.

ПРАСАВЕ'НЬЕ, ПРАСАВЕ'ЛЬЕ, ПРАСЯВЕ'НЬЕ *зб. н.* Прасяная салома. *Прасавенье — прасяная салома. Салома ад*

*проса — гэто прасавелье. Прасявенье — салома ад проса.* Дзяніскавічы Ганц.

ПРА́САЛЬ *ж.* Расол. *Сцягняк у прасалі трымала; паляжыць доўга, чапляюць аборку і абветраваць. Нада, каб прасаль ісцякала; дно не шчыльна спускалася, і прасаль выцякала. Прасаль зліваю.* Вецярэвічы Пух.

ПРАСВАДАВА́ЦЬ, ПРАСВЯДАВА́ЦЬ *незак.* Раіць, угаворваць. *Прасвадавала ей не прадаваць. Я яе прасвадую. Трэба яго прасвадаваць. Прасвядуяш яму.* Граўжышкі Ашм. *Чалавек сам сабе прасвядуя, што будзя лепей за часам.* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *uświadamiać sobie coś* 'разумець; растлумачваць'.

ПРАСВЕРЛІ́ЦЬ *зак.* Тое ж, што і п р а к р у ц і́ ц ь 1. *Нада дырку прасверліць.* Пасіене Лудз.; *парайн.* руск. *просверлить* 'тж'.

ПРАСВЕ́ТНІК *м.* Тое ж, што і п р а й д з ё х а. *Прасветнік быў бацька: і чарта пройдзіць.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПРАСВІДРАВА́НЫ, ПРАСВІ́ДРАНЫ *дзеепрым.* Прасвідраваны. *Дзюра прасвідравана.* Грыкені Вільн. *Прасвідрана дырка.* Швэды Вільн.

ПРАСВІДРАВА́ЦЬ *зак.* Тое ж, што і п р а к р у ц і́ ц ь 1. *Бромцік рабілі з палачкі: палачку прасвідруя і прышываў да паясніцы штаноў.* Старыя Трокі Трак.

ПРАСВЯДАВА́ЦЬ *гл.* ПРАСВАДАВА́ЦЬ

ПРАСВЯ́ТЛАСЦЬ *ж. перан.* Радасць, шчасце ў жыцці. *Усё робіць і робіць, німа яму прасвятласці.* Мярэцкія Глыб.

ПРАСВЯТЛЕ́ННЕ I *н. мед.* Рэнтген. *Летась пад восянь была на прасвятленні.* Груздава Паст.

ПРАСВЯТЛЕ́ННЕ II *н.* Тое ж, што і п р а с в я́ т л а с ц ь. *Німа яму прасвятлення ніякага, усё робіць і робіць.* Мярэцкія Глыб.

ПРАСЕ́ДЗІЦЬ, ПРАСЕ́ДЗЯЦЬ *зак.* Праседзець. *Праседзіла тры дні.* Гальшаны Ашм. *Ночай ён ходзя, а я́ сколькі начэй праседзіла.* Лоск Валож. *Усю зіму праседзела ў хаці.* Слабада Мін.

ПРАСЕ́К *м.* Прасека. *Прасек у лесе. Ці прама ісці, ці прасекам?* Ухвала Круп.

ПРАСЕНАВА́ЦЬ *зак.* Пракарміць пэўны час сенам. *І каройку хаваеш, прасянуеш.* Чуркі Ашм.

ПРАСЕ́СЦЬ *ж. ткац.* 1. Верхняя ці ніжняя частка асновы красён, дзе праходзіць чаўнок. *Прасесць — часць зева, адна прасесць наверх выходзіць, а другая — падыспад. Як ступаяш на панажэ, то прасе́сць мяняецца: адна падыспад, другая наверх. Па абедзьві прасесці палучаюцца кветкі.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Палатно ад бёрда да пярэдняга навоя. *Начэш вускую паласу палатна, чаўнок больш ня йдзе, німа куды, кажаш: «Саткала прасесць», атпускаяш навоі, аткруціш і накру-*

*ціш на навоі палатно — гэто прасесць.* Стральцы Гродз. *Прасесць кароткая.* Магуны Паст. *Прасесць саткала.* Малахоўцы Бар. *Прасесць—палатно ад малога навоя да бёрда.* Азяраны Раг.

ПРАСЕ'Ў *м. с.-г.* Агрэх. *Прасевы палучаліся: вецер адгоніць, як рукой сееш.* Істра Лудз.

ПРАСЕ'ЯЦЬ *зак.* Прасеяць. *На рэшыта муку прасеіш.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПРАСІДЗЕ'ЦЬ *зак.* Пражыць на адным месцы некаторы час. *Дзе мы прасідзім, калі хаты німа?!* Саланое Віл.

ПРАСІКА'ЦЬ *незак.* ◊ *Прасікаць вогнік* — лячыць вогнік шляхам награвання. *Прасікалі вогнік — да барады прыстаўлялі крэмень, і йіскаркі падаюць на вогнік.* Ухвала Круп.

ПРАСІ'ЦЦА *незак.* Прасіць, прасіцца. *Прашуся: «Выпішы мяне з бальніцы!»* Плябанцы Ашм. *Прашуся, малюся, штоб ні вялі яго.* Саланое Віл. *Прасіся, прасіся — і я табе зараз заенчу.* Пацаўшчына Дзятл. *Мама гаварыла, што ўсялякая травачка просіцца, каб пасвенцілі.* Дзераўное Стаўб.

ПРАСІ'ЦЬ *незак.* 1. Тое ж, што і п р а с і ц ц а. *Я ні прашу, каб ты мне памагала плакаць.* Саланое Віл. *Прашу і вялю, і прыказываю.* Ахрэмаўцы Брасл. *Каждыы есці прося.* Гемзы Шальч. *Заходжу я ў хату, прашу: «Прадай малака!»* Гальшаны Ашм. ∇ *«Маіш, бабуля, яблычак, толькі прасі бога, каб я замуш вышла».— «Буду прасіць, маліцца, а ці выдзіш — не знаю».* Малі Астр. 2. Запрашаць. *Сын прося, кап я прыехаў.* Івашкаўцы Смарг. *Пірат свадзьбай на свадзьбу прасілі.* Індра Красл. 3. Назначаць цану. *Лішне просіць за тавар.* Номікі Бабіць.∇*Як просіць—арэць і косіць*—многа абяцае. Кіралі Шчуч. *Просечы даюць* — даюць, калі просяць. Ялова Пруж. *Я пана не выпэндзам, але проша вон.* Лоск Валож. *Дош ня ідзець тады, калі просяць, але — як косяць.* Вузла Мядз.

ПРАСКО'ЧЫЦЬ *зак.* Дачасна праехаць. *Бываюць мае ў полвасьмога дома, а аўтобусы праскочуць.* Чапаеўскі В.-Дзв.

ПРА'СЛА, ПРА'СЛО, ПРА'СМО *н.* 1. Частка агароджы ад слупка да слупка. *Прасла — ат слупка да слупка плот.* Крэва Смарг. *Прасла — частка плоту ад слупка да слупка.* Мярэцкія Глыб., Рыбчына Віл., Дакудава Лід., Рудня Астравітая Чэрв. *Прасла адно загарадзіў.* Беразіно Докш. *Вецер як даў— і прасла паламаў.* Вузла Мядз. *Цэла прасла плоту ўпала, трэба загарадзіць.* Кіралі Шчуч. *Прасла — частка плоту ад шула да шула.* Старыя Трокі Трак. *Прасла адно, другоя, трэцяя — загарода на даўжыню адной жардзіны.* Лісна. В.-Дзв. *Прасло — гэто плот ад слупка да слупка. Прасло плоту.* Малахоўцы Бар. *Прасло — плот ат калкоў да калкоў.* Дзяніскавічы Ганц. *Прасмо ў агароджы ад слупка да слупка.* Быстрыца Астр. 2. Плот. *Прасла загарадзіў.* Малькуны Ігн. *Нада прасла загарадзіць.* Глівін Барыс. 3. Жэрдка, якой закладаюць праход

у агароджы. *Прасла адымі і праець.* Крэва Смарг. 4. Частка застаронка. *Зрабіў гумно на тры-чатыры праслы. Велькая гумно — больш праслаў, а меншая — менш.* Кіралі Шчуч. *Складаеш у складзе прасла, а цяпер у тарпу складаеш.* Ракаўскія Швянч. 5. Некалькі жменяў зжатага збожжа. *Жном у прасла ячмень. Тры-чатыры прасла ляжаць, у адзін сноп вяжаш.* Вецярэвічы Пух. 6. Вузкі ўчастак зямлі. *Прасла — вускі ўчастак зямлі. Прасла адно пасадзілі.* Старыя Трокі Трак. 7. Паласа, якую займае камбайн за адзін раз. *Жнір бярэць праслачку і гоніць, прасла гоніць, напроці каласоў не будзіць, у той бок, куды жыта злёхшы.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПРАСЛА'ЦЬ I *зак.* Паслаць (пасцель). *Пасцель не прасцеле ніколі.* Кузьмічы Люб.

ПРАСЛА'ЦЬ II *гл.* ПРЫСЛА'ЦЬ

ПРА'СЛАЧКА *ж. памянш.* да п р á с л а 7. *Жнір бярэць праслачку і гоніць.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПРАСЛЕ'ДЗІЦЬ *зак.* Высачыць. *Праследзяць, дзе воўк.* Мсцібава Ваўк.

ПРА'СЛІЦА *ж.* Прасніца. *Пралі на калаўротку і на прасліцы.* Кухты, Цяпінцы Віл.

ПРА'СЛО *гл.* ПРА'СЛА

ПРАСЛУ'ХАЦЬ *зак.* Даведацца. *Я іду і ўсё праслухаю.* Саланое Віл.

ПРАСЛЯДАВА'ЦЬ *незак.* Асуджаць, забараняць. *Нельзя яблыкі чужыя абрываць — у нас праслядуюць.* Івашкаўцы Смарг.; *парайн.* руск. *преследовать,* польск. *prześladować* 'праследаваць'.

ПРАСМЕ'РДЦІ *зак.* Засмярдзець, сапсавацца. *Ягады буду варыць, бо прасмерднуць.* Парэчча Гродз.

ПРАСМІХА'ЦЬ *незак.* Насміхацца. *Ён з людзей можа прасміхаць.* Ракаўскія Швянч.

ПРА'СМО *гл.* ПРА'СЛА

ПРАСМЯ'РГЦІ *зак.* Тое ж, што і п р а с м é р д ц і. *Мясо прасмяргло.* Каўняны Гродз.

ПРАСНА'К, ПРАСНО'К, ПРАСНЫ'К, ПРАСНЯ'К *м. кулін.* Праснак. *Праснак з цеста на ўсю скавараду.* Беняконі Воран. *Праснок пшанічны спякла.* Ухвала Круп. *Праснок пяклі с прэснага цеста.* Рудня Астравітая Чэрв. *Маці спячэ праснок з аржаной мукі.* Слабада Мін. *Праснок спякла. Ляжаць прасныкі. Прасныкоў напякла.* Рудня Чэрв. *Як німа хлеба, то пяклі прасных перад полымям. Прасных пячэцца так: дзярэцца картошка, сыплецца мука, трэцца мак, сцелецца ліст, у печ садзілі, ламалі і ў мак кідалі.* Міратычы Карэл. *Каб зрабіць прасняк, трэба запарыць муку, патом квас з прасняка рабілі.* Баброўнікі Гарад. *Прасняці пяклі з мукі і бульбы.* Старыя Смільгіні Воран. *Пальцамі натыцкаяш дзюрак і пячэш прасняк.* Крэва Смарг. *У посця рабілі праснякі: заквасім муку,*

*старкуем бульбу, мукі замесім.* Магуны Паст. *Нашаруяш бульбы, ячмённую ці грэчневую муку перамяшаяш, на ліст капусны ляпнеш і ў печ — так і пяклі праснак.* Навасёлкі Лід. *Праснякі з ячнай мукі пяклі. Пёкся прасняк на кіслым малаку на патэльні.* Груздава Паст. *З прэснага цеста прасняк пякуць.* Кураполле Паст. *Пякуць прасняк і робяць квас; ён прэсны, яго не квасяць, прасняк салоткі.* Кіралі Шчуч. *Праснякі пяклі з прэснага цеста.* Мсцібава Ваўк. *Праснякі — грубыя бліны.* Гальшаны Ашм. *Праснякі пяклі зарас на скавараду.* Чуркі Ашм. *Прасняк спякла.* Рыбчына Віл., Вострава Маст., Навасёлкі Свісл., Альхоўцы Лях.

ПРА′СНАЧКА *ж. памянш.* да п р а́ с н і ц а. 1. *Так сяду на праснaчку і праду, як запомніш, то яна і праваліцца, як устанеш.* Баброўнікі Гарад.

ПРАСНАЧО′К *м. памянш.* да п р а с н а́ к. *Праснaчок пяклі с кіслага цеста.* Саланое Віл.

ПРА′СНІЦА *ж.* 1. Тое ж, што і п р а́ с л і ц а. *Былі прасніцы, пралі на іх.* Беняконі Воран. *У прасніцу ўвязаў, сеў і прадзі.* Старыя Смільгіні Воран. *Прасніцы былі, у колко становілася прасніца, садавіцца і прадзе.* Каўняны Гродз. *Кудзелю прывязвалі да прасніцы, вяровачкай увязвалася.* Кіралі Шчуч. *Пралі лён, прасніцы былі.* Латыгаль Віл. *Пралі на прасніцы.* Беразіно Докш., Чычалі Швянч. *Пралі на прасніцы, на верацёны, мая бабка, а мы на калаўротах пралі.* Дзераўное Стаўб. *Да прасніцы прывязвалі кудзелю.* Рагулішкі Даўг. *Із прасніцы на калаўрот пралі.* Індра Красл. *Кудзелю ўвязвают у прасніцу і прадут.* Лука Нараўк. ∇ *Не бойся тапароў, а бойся прасніц — не бойся дзевяроў, а бойся заловак.* Саланое Віл. 2. Дошчачка, прымацаваная да калаўрота, да якой прывязваецца кудзеля. *Прасніца ў калаўроце.* Баброўнікі Гарад.

ПРАСНО′К, ПРАСНЫ′К, ПРАСНЯ′К *гл.* ПРАСНА′К

ПРАСПА′ЦЦА *зак.* Пераначаваць. *Там велькі дом, і ты там праспісса ноч.* Вулька Гродз. *Ён там праспіцца ноч.* Сонічы Гродз.

ПРАСТАВА′ЦЬ *незак.* Ісці напрасткі. *Напрасткі ідзеш, прастуіш.* Жодзішкі Смарг. *Праставала дарогу, бо цяжка ісці, там балотня дарога.* Альхоўцы Лях. ∇ *Хто дарогу прастуіць, той у полі начуіць.* Мярэцкія Глыб.

ПРАСТА′ВІЦЦА *зак.* Прыкінуцца. ∇ *На капейку ўпіўся, а на рубель праставіўся.* Малі Астр.

ПРАСТАКІ′ША *ж.* Сыракваша. *Кіслая малако прастакішай звалі.* Рагулішкі Даўг.

ПРАСТАНЯ′ *ж.* Прасціна. *Восем прастаней.* Кіралі Шчуч.; *парайн.* руск. *простыня* 'тж'.

ПРАСТАПО′ЛЬ *м.* 1. Пясчаная глеба. *Прастаполь — пяскавая зямля.* Старальцы Гродз. 2. Няўгноеная глеба. *Прастаполь — дзе поле не выгнаена.* Мсцібава Ваўк.

ПРАСТАРЭ'ЛЫ *прым.* Састарэлы. *Прастарэлая баба.* Малі Астр.

ПРАСТА'ЦЦА I *незак.* 1. Выпроствацца. *Мама, прастайся, а то хіля ўперат.* Малі Астр. 2. Станавіцца ў зеніце (пра сонца). *Слонца прастаіцца — паўдня.* Гальшаны Ашм.

ПРАСТА'ЦЦА II *незак.* Стамляцца. *Верачка прастаецца.* Гемзы Шальч.

ПРАСТА'ЦЬ *зак.* Стаміцца. *Мне нада свайго паткармляваць, кап не прастаў.* Груздава Паст. *Прастала саўсім, чуць жывая.* Валынцы В.-Дзв. *Заработаўся, рукі баляць, прастаў.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПРАСТАЯ'ЦЦА *зак.* Перастаяцца (пра страву). *Ужо гэта прастаялася ежа. Кісель прастаяўся, абвадзянеў.* Кураполле Паст.

ПРАСТО'ЯЛЫ *прым.* Абрызглы (пра малако). *Прастоялэ малако, то ані кіслэ, ані прэснэ такое.* Баброўнікі Гарад.

ПРАСТРА'НСТВА *н.* Прастора. *Малоя праstранства між ду будынкаў.* Гемзы Шальч.; *параўн.* руск. *пространство* 'тж'.

ПРАСТРЭ'ГА *ж.* Перашкода. *Нехта маю курыцу хацеў забіць — прыбіў, але была нейкая прастрэга, не ўзяў, яна забілася ў куток пад дровы.* Солы Смарг.; *параўн.* польск. *przestroga* 'перасцярога'.

ПРАСТРЭ'ЛІЦЬ *зак.* Прастрэліць. *Ахоціўся і прастрэліў вока.* Саланое Віл. *Прастрэлілі лёхкі.* Сонічы Гродз.

ПРАСТУ'ДА *ж.* Прастуда. *Шэсць нядзель ляжала на прастуду.* Гальшаны Ашм. *Яны прызналі, што ў мяне прастуда.* Руднікі Шальч. *Ат прастуды ўмерла.* Дарава Лях.

ПРАСТУДЗІ'ЦЬ *зак.* Астудзіць. *Нада воду прастудзіць* Гемзы Шальч.

ПРАСТУ'ПНЫ *прым.* Гарэзлівы. *Праступно дзіця, адна бяда з ім.* Ухвала Круп.

ПРАСТЫ' *прым.* 1. Прамы. *Прастая ель.* Гемзы Шальч. 2. Просты (пра памол). *Ячмень і пшаніцу ашатруюць і меліць — прасты памол.* Солы Смарг. 3. Звычайны. *Я раз прасіла, кап іна мне халат прасты дастала.* Вялікае Сяло В.-Дзв. *Прастая гáдзіна паласаватая, да аднаго мэтра, як заб'еш — ня будзя крутаць.* Старыя Смільгіні Воран.

ПРАСТЫ'ГНУЦЬ, ПРОСТЫ'ГНУТІ *зак.* 1. Прастудзіцца. *Прастыгла я.* Старыя Трокі Трак. *Я нідзе не прастыгла.* Малі Астр. *Прастыглі дзеці, захварэлі, плачаць.* Руднікі Шальч. *Прастыгла і захварэла, у грудзях баліць.* Ёдлавічы Брасл. *Прастых, як з вечарынкі ішоў.* Ахрэмаўцы Брасл. *Як прастыгнеш, нарыў велькі палучаяцца.* Завельцы Астр. *Простыгла і от ліпового цвету поправілася.* Азарычы Пін. 2. Астыць. *Кіпяток прастых.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПРАСТЫ'ЦЬ, ПРОСТЫ'ЦІ *зак.* 1. Тое ж, што і п р а с т ы́г н у ц ь 1. *Ты прастыўшы, дзе ты прастыў?* Вялікія Баяры

Шчуч. *Прастыў, чхая стары.* Мсцібава Ваўк. *Зімой так не прастынеш, як вясной; вясной выскачыш, вецярком схваціла— і прастых.* Ахрэмаўцы Брасл. *Прастыніць і памрэць, бывала.* Буды В.-Дзв. *Прастыла на холадзе.* Рыбчына Віл., Рудня Астравітая Чэрв. *Што с тобою, ты ўчора простыла, вылешшы з болеі.* Смалянiца Пруж. 2. Тое ж, што і п р а с т ы́ г н у ц ь 2. *Прастыўшы бліны, ужо прастылі.* Ністанішкі Смарг.

ПРАСЦЕ́Й *прысл.* 1. Карацей. *На пушчу дарогу прасцей робяць.* Пацаўшчына Дзятл. 2. Папросту, па-народнаму. *Дзе картофля—картафлянішча, або прасцей — бульбовішча.* Солы Смарг.

ПРАСЦЕ́НАК *м.* Прамежак паміж вокнамі. *Прасценкі между акон.* Лісна В.-Дзв.

ПРА́СЦІ, ПРАСЦЬ, ПРАСЬ, ПРЯ́СТЭ *незак.* 1. Прасці (кудзелю). *Прасці — прала, ткаць — не ткала. Пралі пры газоўках.* Гальшаны Ашм. *Шыпка многа прала.* Солы Смарг. *Мая мама прадучы парэзала паляц ніткай, дык і костачкі павыхадзілі — так балеў.* Кураполле Паст. *Колка было, то пралі на колцы.* Васілевічы Гродз. *Я помню, пралі, ткалі. Прадзеш, прадзеш — вытчаш.* Буды В.-Дзв. *Прадуць лён калаўроткам.* Грыкені Вільн. *Вал тоўста пралі, што воўк не перагрызе.* Мсцібава Ваўк. *Надаядало мне, прадучы і ткучы, усё прала і ткала.* Дзяніскавічы Ганц. *А матка прадзець, памагаць ёй нада.* Пярэкі В.-Дзв. *Не прадзі так круто! Можно прасць плоско* [вольна]. Крынкі Крын. *Прасць ні нады, ткаць ні нады.* Вялікае Сяло В.-Дзв. *Трэба прасць.* Вострава Маст. *Лён прасць трэба.* Старыя Трокі Трак. *Я прась умею.* Лісна В.-Дзв. *Прась нада было— і прала.* Валынцы В.-Дзв. *Шчэ прястэ трэбо було.* Дзмітравічы Кам. 2. Віць (вяроўку). *Пралі вяроўкі на кручок і на прасніцу.* Дзяніскавічы Ганц.

ПРАСЦІ́ *зак.* Тое ж, што і п р а й с ц і 4. *Дошч прашоў.* Дакудава Лід.

ПРАСЦІКАВА́ЦЬ *незак.* Хадзіць напраскі. ∇ *Хто прасцікуе, той дома не начуе.* Кузьмічы Люб.

ПРАСЦІНА́ I, ПРАСЦІНЯ́ *ж.* Тое ж, што і п р а с т а н я́. *З да́чкі* [тканіна] *прасціна добрая.* Дакудава Лід. *Куплёная прасціня.* Ракаўскія Швянч.

ПРАСЦІНА́ II *ж.* Няўдобіца. *Прасціна — неўгноенае месца, на гэтай прасціне не будзя расці, грыка і тая марная.* Старыя Смільгіні Воран.

ПРАСЦІРА́ДЛА, ПРАСЦІРА́ДЛО, ПРАСЦІЯ́ДЛА *н.* 1. Тое ж, што і п р а с т а н я́. *Прасцірадла — гэта цяпер завуць простань, прастыня.* Мярэцкія Глыб. *Прасцірадла — гэта прасціна.* Крупіца Мін. *Прасцірадлы мае.* Парэчча Гродз. *Прасціядла чыстае заслала.* Галубы Маст. 2. Пакрывала. *Прасцірадла купіла.* Жодзішкі Смарг. *Посцілка падбочная — прасцірадла цяпер.* Магуны Паст. *Прасцірадлам трэба заслаць ці по-*

*сцілкай сваёй работы.* Гемзы Шальч. *Прасціradла цяпер стала, як помню, былі посцілкі.* Старыя Трокі Трак. *Прасціradло куплю — гэто капа.* Масілавічы Сл.; *парайн.* польск. *prześcieradło* 'тж'.

ПРАСЦІ'ЦЬ *зак.* Дараваць. *Тата, прасці мяне.* Саланое Віл. *Яму просцяць.* Міратычы Карэл.; *парайн.* руск. *простить* 'тж'.

ПРАСЦЬ *гл.* ПРА'СЦІ

ПРАСЦЮГА' *м.* і *ж. зневаж.* Хто неадукаваны. *Прасцюга ты!* Вялікія Баяры Шчуч.

ПРАСЦЯ'К *м.* 1. Хто просты. *Хтось такі прасцяк папросту гаварыў.* Буйвіджай Вільн. *Я ніколі ні хацела п быць начальнікам, найлепей — прасцяком.* Груздава Паст. *Мы прасцяке.* Парэчча Гродз. *Прасцяк такі: і пашуціць з намі, і пагаворыць. Прасцяк мой сусед, памірговны.* Мачаск Бярэз. 2. Непародзісты. *Сабака будзе ганяць зайцэ, а гэты сабака — прасцяк.* Вострава Маст. 3. Зрэбнае палатно. *Прасцяке ткалі з пакуля.* Парэчча Гродз.

ПРАСЬ *гл.* ПРА'СЦІ

ПРАСЯВЕ'НЬЕ *гл.* ПРАСАВЕ'НЬЕ

ПРАСЯГНУ'ЦЬ *гл.* ПРЫСЯГНУ'ЦЬ

ПРАСЯЛІ'СКО *н.* Прасянішча. *Прасяліско — дзе расло просо.* Дзяніскавічы Ганц.

ПРАСЯ'НІ'ЦА *ж. бат.* Брыца. *Прася́ніца расцець у гародзя, яна такая дрыгастая. Свінкі і цялухі ядуць прася́ніцу.* Саланое Віл. *Прасяніцы нарвала.* Рыбчына Віл.

ПРАСЯЧЫ' *зак.* Прасекчы. *Там лёд, што ні прасячэш, ні праломіш.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПРАТ *гл.* ПРАД

ПРАТА'ЛАК *м.*, ПРАТА'ЛКА *ж.* Праталіна. *Выйдзем на гэты праталак.* Галоўні Воран. *Як снех таіць, дзе зімля відацца, там праталка. Праталкі, праталачкі — снех таіць, там лужына.* Кураполле Паст. *Ужо па горках праталкі.* Кіралі Шчуч. *Па пагурках снех растаў, праталкі пашлі.* Рыбчына Віл. *Праталкі — як поля відна.* Валынцы В.-Дзв.

ПРАТА'ЛАЧАК *м.*, ПРАТА'ЛАЧКА *ж. памянш.* да п р а т а́ л а к. *Снех злес, і праталачкі па горачках.* Кіралі Шчуч. *Праталачкі, снех таіць.* Кураполле Паст. *Снех таіць — лапінкі зямлі і праталачкі.* Лісна В.-Дзв. *Дайней, як праталачкі, то босыя бегаюць дзеці.* Валынцы В.-Дзв.

ПРАТА'ЛІНА *ж.* 1. Тое ж, што і п р а т а́ л а к. *Праталіна — дзе снег растаяў.* Галоўні Воран., Жылі Іўеў. 2. Лапіна, дзе вымакла збожжа. *Вымакла жыта праталінамі.* Быстрыца Астр. 3. Паляна. *Пайдзём з лесу на праталіну.* Рыбчына Віл. *Там, у леся, праталіна.* Гемзы Шальч. *Праталіна ў леся, там не вырашшы нічога.* Ракаўскія Швянч. 4. Вузкі праход паміж

будынкамі. *Сутачкі — паміж будынкаў праталіны.* Завельцы Астр.

ПРАТА'ЛІНКА *ж. памянш.* 1. да п р а т а́ л і н а 1. *Дзе зімля, там праталінка.* Кураполле Паст. 2. да п р а т а́ л і н а 3. *У лесе праталінка такая, і ляжыць воўк.* Гемзы Шальч.

ПРАТА'ЛКА *гл.* ПРАТА'ЛАК

ПРАТАПЛЯ'ЦЬ *незак.* Працяпляць. *У восяці была печка, яе пратаплялі.* Магуны Паст.

ПРАТАЎЧЫ' *зак.* Заскварыць. *Пратаўкла гаршчок — запpавіла тлушчам.* Старыя Смільгіні Воран.

ПРА'ТАЦЦА *незак.* Хавацца. *У вадзе прачыцца рыба.* Гемзы Шальч.; *парайн.* руск. *прятаться* 'тж'.

ПРА'ТАЦЬ *незак.* 1. Прыбіраць. *Я буду пратаць хату — заўтра нядзеля.* Мярэцкія Глыб. *Трэба пратаць — а я ў хацяя пратала. Хату тую пратай.* Старыя Смільгіні Воран. *За катом пратаць трэба.* Магуны Паст. *Матка будзя пратаць за катамі.* Вялікія Баяры Шчуч. *Буду ў хаці пратаць.* Мсцібава Ваўк. *Не пратай пасцель, я сама запрачу.* Навасёлкі Свісл. *Трэба пратаць хату.* Малахоўцы Бар. *Буду пратаць, папратаю ў хаце.* Старыя Трокі Трак. 2. Упарадкоўваць. *Хадзілі почту пратаць.* Магуны Паст. *Я сама малако папрачу, а ты бярыся за бліны.* Мсцібава Ваўк. *Пашла тоя рыжышчо пратаць.* Міратычы Карэл. *Мо сена пратацьмуць, а мо ўжо спраталі?* Альхоўцы Лях. *На зіму трэба дрова пратаць.* Малахоўцы Бар. 3. Чысціць. *Калі мне на раніцы пратаць кішкі?!* Ністанішкі Смарг. *Трэба пратаць кішкі свіныя.* Гемзы Шальч. 4. Даглядаць. *Ніхто ні пратаў бацьку, сынавая пратала — абмывала, даглядала.* Жылі Іўеў. 5. Хаваць. *Вымыла сукенку і прач! Хто пратаў маю кнішку?* Мсцібава Ваўк. *Пратаць — хаваць штонебудзь.* Рыбчына Віл.; *парайн.* руск. *прятать* 'хаваць'.

ПРАТРА'ЦІЦЬ *зак.* Прапусціць. *Кап я не пратраціла аўтобус.* Вецярэвічы Пух.

ПРА'ТУВАЦЬ *незак.* Тое ж, што і п р а́ т а ц ь 1. *Трэба пратуваць хату.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ПРА'ТЫ *гл.* ПРАЦЬ

ПРА'ЎДА, ПРО'ЎДА, ПРА'ВДА *ж.* 1. Праўда. *Праўду кажаш.* Граўжышкі Ашм., Парэчча Гродз. *Шчырую праўду кажа.* Солы Смарг. *Вот скажы яму праўду — гэта яму не ў нос.* Кураполле Паст. *Ні любя праўды.* Лоск Валож. *Што аб праўдзе сказаць?* Дарава Лях. *Барджэй «проўда» — так скажуць у Сабакінцах.* Паляцкішкі Воран. *Ніпроўда ваша, хлопцы.* Кухты Віл. *Няпроўда, ён ваявоў.* Вецярэвічы Пух. ∇ *Праўду казаць ні грэх. Такая праўда, як на вербі грушкі растуць. У цябе праўда, як у рэшаце вада. Добра робіш — праўду кажаш. Хлеп еш — і праўду рэш. Чорт праўды ня любя — як хто гаворыць каму, а той станя бараніцца.* Малі Астр. *Праўда — на дне ў бутэльцэ і яшчэ ў маладой у сукен-*

*цэ. За праўду будзіш благі.* Кіралі Шчуч. *Праўду і вада можыць прынясці.* Ахрэмаўцы Брасл. *Хто праўду кажа, той так спаць ляжа.* Вецярэвічы Пух. *Хлеб, соль еш, а праўду рэш. Праўда, як аліва на вадзе, наверх выйдзіць. Каню хваста не вяжы, а бабі праўду не кажы.* Вузла Мядз. 2. *часц.* Няўжо. *Жэніцца наш сусет! — Праўда?!* Дварчаны Паст. 3. *у знач. выкл.* Сапраўды. *Проўда, зяць мамінтальна прышоў.* Дакудава Лід. *Проўда, гэта было так.* Сабакінцы Воран. ◇ *Праўда коле ў вочы* — не любіць праўды. *Праўда коля ў вочы. Праўда вочы коля.* Малі Астр. *Праўда сляпая* — хлусня. *Праўда сляпая — у яе выкалатыя вочы.* Кіралі Шчуч. *Правды гочы повыколювалы, вона слыпая.* Сіманавічы Драг.

ПРАЎДЗІ'ВІК *м. бат.* Баравік. *Сама лепшыя грыбэ — праўдзівіке.* Малахоўцы Бар. *Праўдзівікаў прынясу, харошых грыбоў назбіраю.* Баброўнікі Гарад.

ПРАЎДЗІ'ВЫ *прым.* Сапраўдны. *Праўдзівы барлеч* [чаравік] *на мягу* [на мяху]. Быстрыца Астр.; *парайн.* польск. *prawdziwy* 'тж'.

ПРАЎДЗІ'ВЫ ГРЫБ *м.* Тое ж, што і праўдзівік. *Праўдзівыя грыбэ — баравіке.* Кіралі Шчуч. *Праўдзівы грып. Праўдзівыя грыбы.* Альхоўцы Лях. *Нашла праўдзівага грыба. Баравікі — праўдзівыя грыбы.* Дзяніскавічы Ганц. *Харошых грыбоў назбірала, праўдзівых.* Баброўнікі Гарад.

ПРА'ЎДЗІЦЬ *незак.* Збывацца. *Як скажыць, так праўдзіць.* Магуны Паст. ▽ *Совы праўдзяць: совы крычаць на гора.* Азяраны Раг.

ПРАЎЗАКІ' *мн.* Завязкі ў фартуху. *Праўзакі ў фартусе.* Масілавічы Сл.

ПРАЎЛЕ'ННЕ *н.* Праўленне калгаса. *На горцы там праўленне, як ідзеш туды.* Вялікі Краснік Пруж.

ПРА'ЎНУК, ПРО'ЎНУК *м.* Праўнук. *Дараждалася праўнукаў.* Рыбчына Віл. *Чатыры проўнукі маю.* Слабада Мін.

ПРА'ЎНУЧАК, ПРА'ЎНУЧОК *м. памянш.* да праўнук. *Сястры дачкі дзеці — мне праўнучкі.* Кудзялянцы Шальч. *Праўнучок мой прыехаў.* Старыя Трокі Трак.

ПРАЎШНЯ'К, ПРУШНЯ'К *м. буд.* Вушак. *Праўшнякі — бакі ў дзверах.* Масілавічы Сл. *Прушняк у дзвярах.* Мсцібава Ваўк.

ПРАХ *м.* Прах. ▽ *Чалавек с праху паўстаў і ў прах абернецца.* Парэчча Гродз. ◇ *Пайсці прахам* — не даць карысці. *Як лёгка прышло, так прахам пашло.* Вузла Мядз. *У пух-прах* — ушчэнт. *Нявестка спіўшыся ў пух-прах.* Чапаеўскі В.-Дзв.

ПРАХАВА'ЦЬ *зак.* 1. Выгадаваць. *Вазьмець яго за пастушка, прахаваеш яго.* Новікі Гродз. 2. Пратрымаць (пра хатніх жывёлін). *Карову ні прахаваіш — жыць ні будзіш.* Саланое Віл.

ПРАХА'ДЖВАЦЬ *незак.* Прагульвацца. *Прыехалі і прахаджваюць па дзярэўні.* Нізок Уздз.

ПРАХАДЗІ'ЦЬ *незак.* і *зак.* 1. Прыходзіць. *Я прахажу, а там яе нет.* Пасіене Лудз. 2. Праваяваць. *Ён і вайну прахадзіў.* Вялікае Сяло В.-Дзв.

ПРАХАДЗЯ'ШЧЫ *дзеепрым.* Прахадны (пра рыб). *Судакі, вугры — рыба прахадзяшчая, бо Нёман у мора ўцякая.* Быстрыца Астр.

ПРАХАДНЫ' ДОШЧ *м.* Кароткачасовы дождж. *Прахадны дошч.* Жодзішкі Смарг. *Началіся прахадныя дажджы — ня высушыш сена.* Ёдлавічы Брасл.

ПРАХАЖА'К *м.* Прахожы. *Больш прахажакаў не прасі пісаць прашэння.* Кураполле Паст.

ПРАХАЖА'ЛЫ ДВОР *м. перан.* Прахадны двор. *Вядуць к нам усё, як прахажалы двор быў.* Чапаеўскі В.-Дзв.

ПРАХАЛАДА'ЦЦА *зак.* 1. Тое ж, што і п р а с т ы́ г н у ц ь. *Прахаладаўся ён, кашляя ноччы.* Асавец Віл. *Боль галавы хваціў: ішоў с танцаў, мо прахаладаўся.* Солы Смарг. *Прахаладаўся і захварэў.* Лоск Валож. 2. Прагуляцца. *Прайдзём прахаладацца.* Кіралі Шчуч.

ПРАХА'ТНІЦА *ж.* Хто без справы ходзіць па хатах. *Прахатніца — сплетніца, жанчына, якая ходзіць па хатах і разносіць сплетні.* Дзяніскавічы Ганц.; *гл.* п а с а л у́ х а.

ПРАХВАЦІ'ЦЦА *зак.* Прахапіцца. *Я прахвацілася, думаю: вечар.* Дакудава Лід.

ПРАХІ'ТРЫ *прым. найвыш.* Вельмі хітры. *Вох яна такая прахітрая.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПРАХЛЯ'БІСТЫ *прым.* Схуднелы, змарнелы. *Прахлябістая карова.* Бакшты Іўеў.

ПРАХЛЯ'ПАЦЬ *зак.* Тое ж, што і п р а в а р о́ н і ц ь. *Дзве долі прахляпала.* Лоск Валож.

ПРАХНЯ'ВЫ *прым.* Трухлявы. *Прахнявая бручка і рэцька прахнявая.* Саланое Віл.

ПРАХО'Д *м.* ◇ *Праходу німа* — няма спакою. *Праходу за імі* [дзецьмі] *німа.* Лісна В.-Дзв.

ПРАХО'ДАМІ у знач. *прысл.* З перапынкамі. *Дошч ідзе праходамі.* Магуны Паст.

ПРАХО'ДЗІЦЬ, ПРАЙХО'ДЗІЦЬ *незак.* 1. Праходзіць куды-н., дзе-н., праз што-н. *Праходзь, каханачка!* Гальшаны Ашм. *Прайхоць там, Коля!* Міратычы Карэл. *Ён прайходзіў там, за хатай.* Альхоўцы Лях. *Ёсь тунель, праходзіць ад касцёла з Вільна да касцёла ў Гродна.* Ахрэмаўцы Брасл. *Зявы рабіліся, каб чайначок праходзіў.* Кухты Віл. *У зявы праходзіў чайначок.* Цяпінцы Віл. 2. Мінаць (пра час). *Праходзіць год, а яго няма.* ◇ *Праходзіць міма вушэй* — не запамінаецца. *Міма вушэй праходзіць песня, калі я яе не любіла.* Пярэкі В.-Дзв.

ПРАХО'ДНЫ ДОШЧ *м.* Тое ж, што і п р а х а д н ы д о ш ч. *Праходны дошч — дошч с праходам: паліець і перастаніць.* Малькуны Ігн. *Праходны дошч — німа, німа, а тады як дась.* Завельцы Астр.

ПРА'ХТЫКА, ПРА'ХЦІКА *ж.* 1. Практыка. *На прахціку ў Дзятлава ходзіць кажын дзень.* Пацаўшчына Дзятл. 2. Вопыт. *У яго прахтыка вялікая.* Міратычы Карэл.

ПРАХЧЫ' *незак.* Пражыць. *Ці не будзеш прахчы гарох? Праглі гарох.* Рыбчына Віл.

ПРА'ЦА *ж.* 1. Работа. *Вот працы было.* Рудня Астравітая Чэрв. *Праца горы раўняіць.* Вузла Мядз. 2. Заробак. *За сваю працу купіла хату.* Гемзы Шальч.

ПРАЦАВА'ЦЬ, ПРАЦАВА'ЦІ, ПРАЦЁВА'ТЫ *незак.* 1. Працаваць. *Працавала на калошной фабрыцы.* Кемялішкі Астр. *Я жыву, працую ўсё жыццё.* Солы Смарг. *І сама працавала.* Саланое Віл. *Гэты працаваў на хазяйстве. Хто працаваў, той меў.* Кудзялянцы Шальч. *Я добра працую тут.* Літва Лях. *Як працавалі, так і жылі.* Грыкені Вільн. *Трэці рок працуют. Будут працаваці.* Ялова Пруж. ∇ *Працуй пільня — і тут Вільня.* Малі Астр. 2. Шчыра працаваць. *А як воны працёвалы — всю сылу клалы.* Сіманавічы Драг.

ПРАЦАВЕ'ЛЬ *м.* Хто працавіты. *Працавель — старатлівы чалавек.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПРАЦАВІ'ТЫ, ПРАЦЁВЫ'ТЫЙ *прым.* 1. Працавіты. *Мае ўсе дзеці працавітыя.* Солы Смарг. *Тата быў натта працавіты.* Гальшаны Ашм. *Дрэнна, што адзін працавіты, а другі гультай. Дрэнна, што абоя працавітыя.* Саланое Віл. *Такі працавіты, такі рабацяга.* Вострава Маст. *Працавіты добра робіць.* Альхоўка Навагр. *Працавіты чалавек.* Новікі Гродз., Міратычы Карэл., Навасёлкі Свісл. *Матка працавітая.* Валынцы В.-Дзв. *Мой працавіты чалавек быў.* Кудзялянцы Шальч. *Такый працёвытый чоловік.* Сіманавічы Драг. 2. Працаёмкі. *Працавіты гэты лён, добра, што цяпер людзі яго ні знаюць.* Завельцы Астр.

ПРАЦА'ПКАЦЬ *зак.* Паматычыць. *Кап яна буракі працапкаўшы, кап працапкала буракі, як трава стала расці, то буракі добрыя былі п.* Рагулішкі Даўг.

ПРАЦАЎНЫ' *прым.* Тое ж, што і п р а ц а в і т ы 1. *Працаўная была баба.* Вузла Мядз.

ПРАЦВЕРАЗІ'ЦЦА *зак.* Працверазець. *Працверазіся — і тады пагаворым.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПРАЦВІ'ЧЫЦЦА *зак.* Дазнацца. *Хай бы пайшоў працвічыўся.* Новіны Нясв.; *параўн. польск. ćwiczyć się* 'практыкавацца'.

ПРАЦЕ'КАЦЬ, ПРАЦЕ'КАВАЦЬ *гл.* ПРАЦЯКА'ЦЬ

ПРАЦЕ'ПЛІЦЬ *зак.* 1. Прапаліць у печы. *Іці працепліць печ, а то баба замерзніць праз ноч.* Магуны Паст. *Трэба пра-*

*цепліць печ.* Талейкі Швянч. 2. Ацяпліць (памяшканне). *Працепліць нада хату, абагрэць паненак.* Магуны Паст.

ПРАЦЁВА'ТЫ *гл.* ПРАЦАВА'ЦЬ

ПРАЦЁВЫ'ТЫЙ *гл.* ПРАЦАВІ'ТЫ

ПРА'ЦІ *гл.* ПРАЦЬ

ПРАЦІВЕ'НЬ *м.* Ток у гумне. *У таку два канцы — адзін канец і другі, а пасярэдзіне працівень, на праціўні малоцяць. Старану налажылі і на працівень, на праціўні нямношка, пусты працівень. Працівень — проці дзвярэй, а ў канцы яшчэ застаронак.* Рыбчына Віл. *Працівень — дзе малоцяць.* Курапалле Паст.

ПРАЦІКА'ЦЬ *гл.* ПРАЦЯКА'ЦЬ

ПРАЦІ'СНУЦЦА *зак.* Праехаць паміж чым-н. *Ледва фурай праціснешса праз падворкі.* Васілевічы Гродз.

ПРАЦІ'СНУЦЬ *гл.* ПРЫЦІ'СНУЦЬ

ПРАЦІ'ЎНА *прысл.* Брыдка. *Праціўна, што дужа смярдзіць чоснак.* Пярэкі В.-Дзв.; *параўн.* руск. *противно* 'тж'.

ПРАЦІ'ЎНЫ *прым.* Брыдкі. *Ён глядзеў на дзеўку і быў мне праціўны.* Саланое Віл. ∇ *Голы, босы і богу праціўны.* Малі Астр.

ПРА'ЦЦА *незак.* Мыць бялізну. *На клацца праліся.* Жодзішкі Смарг. *Едзім на возіра праца. Я пярусь і яны пяруцца.* Магуны Паст.

ПРАЦЫЦЫРАВА'ЦЬ *зак. перан. экспр.* Абгаварыць каго-н. *Бабы абгаворацъ, працыцыруяць адна другую.* Курапалле Паст.; *параўн.* руск. *цитировать* 'цытаваць'.

ПРАЦЬ, ПРА'ЦІ, ПРА'ТЫ *незак.* 1. Перыць. *Адзення пралі прайнікам.* Магуны Паст. *Палатно пяром, мочым і на сонца цягаём.* Рыбчына Віл. *Праць можна мяха якога; уперат парцяное перлі.* Любішчыцы Івац. *Мне нада было праць.* Буды В.-Дзв. *Пайду праць палатно. Я пяру, яна перыць, мы перым, яны перуць.* Ёдлавічы Брасл. *Пранікам праць.* Мішневічы Шум. *Нада было праць бельё, кастру выбіваць с неё.* Рагулішкі Даўг. *Плаце с прачэм пэрут.* Смаляніца Пруж. *Мочылы, пралы полотно.* Сіманавічы Драг. 2. Тое ж, што і п р á ц ц а. *Пролубу высякалі, бялізну бабы пралі.* Магуны Паст. *Прасячы пельку, будам плацце праць.* Пасека Ст.-Дар.

ПРАЦЭ'ДЖАВАЦЬ, ПРАЦЭ'ДЖВАЦЬ *незак.* Працэджваць. *Буду працэджаваць малако. Працэджаваю малако.* Рыбчына Віл. *Трэба працэджаваць малако. Працэджаваю малако. Працэджуваю малако.* Мярэцкія Глыб. *Мёд працэджвалі праз сіта, а воск ператаллялі.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПРАЦЯ'ГІВАЦЬ *незак.* Асядаць (пра хлеб). *Хлеб працягіваець трохі, не такі пухлы, але корка ўкусная, пахнець.* Вялікі Лес Круп.

ПРАЦЯ'ГУВАЦЬ *незак.* Мець акцэнт пэўнай мовы. *Працягуя з літоўскага.* Старыя Смільгіні Воран.

ПРАЦЯГУ'ШЧЫ *прым.* Зацяжны. *Працягушчы дошч.* Дакудава Лід.

ПРАЦЯ'ЖНЫ *прым.* Марудлівы. *Каторыя працяжныя ды ляныя, ды не ўмелі рабіць — нічога не мелі.* Кузьмічы Люб.

ПРАЦЯ'ЖЫНА *ж.* Прадаўгаватае ўзвышэнне сярод балота. *Працяжына там ёсць, нада абкасіць.* Мішневічы Шум.

ПРАЦЯКА'ЦЬ, ПРАЦІКА'ЦЬ, ПРАЦЕ'КАЦЬ, ПРАЦЕ'КАВАЦЬ, ПРОТЕ'КАТЫ *незак.* 1. Працякаць. *Працікаіць з рэчкі прудок* [ручаёк]. Кураполле Паст. *З берагу працекая ручай.* Альхоўцы Лях. *Працекуя, працекавая вада. Будзе вада працекаваць.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Прапускаць ваду. *Дахоўка працякала.* Гальшаны Ашм. *Працякая вядро.* Рыбчына Віл., Кіралі Шчуч. *Працікаіць вядро. Будзіць працікаць вядро.* Мярэцкія Глыб. *Вядро працекая.* Малахоўцы Бар. *Вядро працекае.* Пасека Ст.-Дар. *Працекае страха.* Дзяніскавічы Ганц. *Крыша нэ протекае.* Горск Бяроз. 3. *мед.* Гнаіцца. *Як гус працякая.* Засецце Дзятл. *Як гуз працекая.* Альхоўцы Лях.

ПРАЦЯНУ'ЦЬ *зак.* Прадзьмуць. *Падкаліцца яна — свежы вецярок працяніць.* Кіралі Шчуч.

ПРАЦЯРПЕ'ЦЬ *зак.* Перацярпець. *Працерпіць, жыва будзіць, не памрэць.* Кураполле Паст.

ПРАЧ I *м.* 1. Тое ж, што і п р а́ н і к 1. *Плаце с прачэм пэрут.* Смаляніца Пруж. *Прачом лён абівалі, дзеравяны прач. Прачом білі фасолю.* Лука Нараўк. *Колісь більё мылі і прачом над рыкою выбівалі.* Курашэва Чыж. *Лён поб'ют прачом і трут.* Горск Бяроз. *Лён в'яжут і б'ют прачом.* Дзмітравічы Кам. *Прачем пралы марату одэжу, як мылы. Прачем лён былы.* Сіманавічы Драг. 2. *заал. перан.* Апалонік. *Навысні в ямы тылько прачів плавало.* Сіманавічы Драг.

ПРАЧ II *м.* 1. Ліна з вітак. *Прачы — вяроўкі з дубцоў бярэзніку. Адзін прач. Трэба накруціць прачоў.* Саланое Віл. 2. Скрутак ільноваланна. *Чэшут лён і плетут у прачэ.* Дзмітравічы Кам.; *гл.* г у ж б а́.

ПРАЧАСА'ЦЬ *зак.* Пачасаць (пра лён). *На шчотку прачэшым і прадзём.* Завельцы Астр.

ПРАЧАХА'ЦЦА *гл.* ПРАЧЫХА'ЦЦА

ПРАЧА'ХНУЦЬ *зак.* Астыць. *Прачахла ежа.* Быстрыца Астр. *Нясі цялусцы пойла, а то прачахла.* Азяраны Раг.

ПРАЧА'ЦЦА *зак.* Прачнуцца. *Прачалася я і не заснула больш.* Вецярэвічы Пух. *Прачалася дзеўчына.* Азяраны Раг.

ПРАЧВА'РА, ПРОЧВА'РА *ж.* і *м.* 1. Жартаўнік. *Прачвара ён — як што скажа такое.* Новіны Нясв. *Ну й прочвара — трэба такое прыдуматы, такое вытворыты, так россмышыты компанію!* Сіманавічы Драг. 2. Гарэзнік. *Прочвара малая, сядь посыды!* Сіманавічы Драг. 3. Хто пранырлівы. *Добрая прачвара, відаць?!* Новіны Нясв.; *гл.* п а ч в а́ р а.

ПРА′ЧКА *ж.* Прачка. ∇ *Як вясна, то і качка прачка: пашалпоча, пашалпоча і бела ходзіць.* Кіралі Шчуч.

ПРАЧНУ′ЦЦА, ПРАЧНУ′ЦЦЯ *зак.* Тое ж, што і п р а- ч а́ ц ц а. *Прачнулася рана і не заснула.* Малькуны Ігн. *Я прачнулася рана, чуць дзень.* Вецярэвічы Пух. *Яна мажэ прачнуцца.* Азяраны Раг. *Вот я сёня заране прачнулася, часоў у пяць. Трэба будзе заране прачнуцця.* Кіралі Шчуч.

ПРАЧУВА′ЦЬ *незак.* 1. Чуць. *Людзі прачуваюць, як ён жыве, ці заможна, ці бедна.* Гемзы Шальч. *Я недзе прачувала такое слова.* Альхоўцы Лях. 2. Прадчуваць. *Я прачуваю бяду.* Вялікія Баяры Шчуч. *Я прачувала: куды іду, усё вâранне, крукаўе крамкаюць нада мной — што мне будзя за бяда.* Кіралі Шчуч.

ПРАЧУ′ХУВАЦЦА *незак.* Прачынацца. *Учора вячэры не варылі, не прачухувалася, як залезла на печ.* Парэчча Гродз.

ПРАЧХНУ′ЦЦА, ПРАЧУХНУ′ЦЦА *зак.* Тое ж, што і п р а ч а́ ц ц а. *Прачхнуўся і больш ня спаў.* Быстрыца Астр. *Я прачхнуўся ў чатыры часы.* Малі Астр. *Жутка, аднаму чалавеку астаўшыся, прачхнуцца. Прачхнуўся ноччу.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Ужо шарала, як я прачухнулаcа.* Парэчча Гродз.

ПРА′ЧЫК *м.* Тое ж, што і п р а ч І, 2. *Ліетом в лузі мнуого прачыкуов в водіе.* Курашэва Чыж.

ПРАЧЫНА′ЦЦА *незак.* Тое ж, што і п р а ч у́ х у в а ц- ц а. *Прас сон гаворыць, то я прачынаюся.* Малахоўцы Бар.

ПРАЧЫНІ′ЦЬ *зак.* Прыадчыніць. *Прачыні дзверы, хай дым сыдзя. Акно прачыніла.* Магуны Паст. *Прачыніў дзверы.* Старыя Смільгіні Воран.

ПРАЧЫ′СТАЯ, ПРАЧЫ′СТА, ПРЫЧЫ′СТА *ж.* Рэлігійнае свята, якое адзначаецца 8 верасня ст. ст. ∇ *Ішоў Пятрок — сарваў лісток, ішла Ілля — сарвала два, прачыстая — сарвала начыстая, ішоў пакроў — белым снегам пакрыў.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Пятрок — асіны святок, іспас — усяму час, прачыстая — ачысціць усё чыста.* Ванелевічы Кап. *Прышла прачыста, падмяла — і чысто.* Міратычы Карэл. *Як прачыста — на полі чыста.* Альхоўцы Лях. *Прычыста — сывба чыста, а косьба нычыста.* Сіманавічы Драг.

ПРАЧЫХА′ЦЦА, ПРАЧАХА′ЦЦА, ПРЫЧЫХА′ЦЦА *незак.* Тое ж, што і п р а ч у́ х у в а ц ц а. *Часто прачыхаласа — сабакі брахалі.* Стральцы Гродз. *Прачыхаецца ён — аш пальцы атмарозіў.* Гемзы Шальч. *Я рана прачыхалася,* Талейкі Швянч. *Гляджу — і я прачыхаюся.* Завельцы Астр. *Ужо яму нада прычыхацца. Час яму прачахацца ды за работу брацца.* Якубова Рас.

ПРА′ШКА *гл.* ПРА′ЖКА

ПРАШКАДЖА′ЦЬ *незак.* Перашкаджаць. *Сноўдаіць і сноўдаіць па хаці, прашкаджаіць спаць.* Ракаўскія Швянч.

ПРАШКО'ДА *ж.* Перашкода. *За страху прашкода была.* Старыя Трокі Трак.

ПРАШКО'ДЗІЦЬ *зак.* Перашкодзіць. *Я гавару, магу прашкодзіць вам.* Шамялі Брасл.

ПРА'ШЧАЦЦА *незак.* Хавацца. *Гадзіна прашчацца ад нас, прашчацца страшне.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* руск. *прятаться* 'тж'.

ПРА'ШЧУР *м.* Продак. *Дзядуля — прадзят і тады — прашчур.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

ПРАШЫ'БІСТЫЙ *прым.* Спрытны. *Прашыбістый мальчонок быў.* Мішневічы Шум.

ПРАЯ'ВА, ПРОЯ'ВА *ж.* 1. Бяда. *Можа праяву ўтварыць. Праява стала з ім, не праява — ды смерць.* Альхоўцы Лях. *Гэта ж праява лье і лье, і канца німа, што за пагода!* Дарава Лях. *На нейкую праяву шчуры кідаюцца на людзей.* Мсцібава Ваўк. *Шо за проява вплылась на нас, зашо мы такое горэ тырпымо.* Сіманавічы Драг. 2. *м.* і *ж. перан.* Тое ж, што і п р а ч в а́ р а 2. *Гэта малая проява й шэ ны спыть.* Сіманавічы Драг. 3. *м.* і *ж.* Хто назойлівы. *Што чапляесса да мяне, проява!* Хатынічы Ганц. 4. Прадвесце. *Была бура перад вайной, людзі казалі, што гэта праява.* Вузла Мядз.

ПРАЯСЛІ'ВЫ *прым.* Пражэрлівы. *Праяслівыя куры ядуць добра, багата.* Азяраны Раг.

ПРЕ'СНЫЙ *гл.* ПРЭ'СНЫ

ПРО *гл.* ПРА

ПРО'БА *ж.* Праверка на якасць. *Пробы нідзе не відаць.* Груздава Паст. *Лён мочуць і бяруць пробу, ці вымак.* Кураполле Паст. *Лён мочаны рассцілалі, і ляжыць да пробы; тады бралі на пробу: высушаць і труць, глядзяць, ці дось лежні яму.* Мсцібава Ваўк.

ПРО'БАВАЦЬ *незак.* 1. Правяраць на якасць. *Лён ляжыць, бяром пробаваць, ці вылежаўся.* Ліпнікі Вільн. 2. Спрабаваць. *На другі гот пробуй паступіць вучыцца.* Альхоўка Навагр. ◇ *Пробаваць шчасця* — шукаць шчасця. *Усе людзі пробавалі шчасця.* Дарава Лях.

ПРО'БАШ *м. рэліг.* Парафіяльны ксёндз. *Век не думала, што я с пробашам буду гаварыць. Пробаш пасвенціць.* Пасіене Лудз.; *парайн.* польск. *proboszcz* 'тж'.

ПРОБІЕ'Н *м.* Сцёк. *Водіе пробіен зробі, коб збіегла.* Курашэва Чыж.

ПРОБІРА'ТІ *незак. перан.* Лаяць. *Гапка пробірала Рыгора за тое, што напівсе вчора.* Курашэва Чыж.

ПРО'БКА, ПРО'ПКА *ж.* 1. Корак. *Нада зрабіць пропку с паперы.* Ёдлавічы Брасл. *Пропкай закрывалі бутылкі.* Індра Красл. *Пропкай затыкалі.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. *рыб.* Паплавок. *Дзёрнуў пробку; на паплавок — пробка.* Мішневічы Шум. ▽ *Дурны, як пропка.* Курашэва Чыж.

ПРО'ВАДЫ толькі *мн. абрад.* Провады (нябожчыка). *Провады — як хаваюць.* Альхоўцы Лях.

ПРО'ВАР, ПРО'РАЎ *м.* Бровар. *У провары гналі гарэлку, і спірт выходзіў.* Саланое Віл. *Даўней гарэлку гарцамі прадавалі, тут провар быў.* Ахрэмаўцы Брасл. *Провар быў, вотку гналі.* Валынцы В.-Дзв. *На провары, за памешчыцкай усадзьбай, праваране жылі.* Глівін Барыс. *Прораў — гэта дзе гарэлку гналі.* Лісна В.-Дзв.

ПРО'ВІСЬ *ж. рыб.* Рыбалоўная сетка. *Дастаў провісь для рыбака.* Лісна В.-Дзв.

ПРО'ГА *ж.* 1. Праход у агароджы. *Ідзі прас прогу; трэба засунуць прогу.* Ністанішкі Смарг. 2. Жэрдка, якой закрываюць праход у чым-н. *Прога — загаратка з дзвюх жэрдак.* Ністанішкі Смарг.; *параўн.* польск. *proga* 'перакладзіна' (СВ, V, 3—4), літ. *próga* 'праход у агароджы'.

ПРОГА'ЛІНА *гл.* ПРАГА'ЛІНА

ПРОГЛЫКНУ'ТІ *зак.* Праглынуць. *Нэ бэры, Саша, у рот гузіка, бо проглыкнэш.* Азарычы Пін.

ПРОГУ'ЛОК *м.* Палявая дарога. *До сёла можна дойті гостінцём або прогулком. В прогулкові мнуого болота.* Курашэва Чыж.; *параўн.* руск. *переулок* 'завулак'.

ПРОГУО'Н *гл.* ПРАГО'Н

ПРО'ДАЖ *ж.* Тое ж, што і п р а д а́ ж. *Дванаццаць літраў ідзе на продаж.* Валеўка Навагр.

ПРО'ДАНЫ *дзеепрым.* Прададзены. *Дзве ні проданы хаты стаяць, адну прадалі.* Альхоўка Навагр.

ПРО'ДАЦЬ *гл.* ПРАДА'ЦЬ

ПРО'ДУВАЦЬ *незак.* Тое ж, што і п р а д а́ ц ь 2. *Панесла продуваць яйкі.* Старыя Смільгіні Воран.

ПРО'ДУХ *м.* 1. Прадушына. *Шчукі пазадыхаліся — продуху не было.* Быстрыца Астр. *Трэба пусціць продух рыбі.* Саланое Віл. 2. Тое ж, што і п р а д у́ х а 2. *Продух між печчу і сцяной.* Рыбчына Віл.

ПРО'ДУХА *гл.* ПРАДУ'ХА

ПРОДУ'ХТЫ *мн.* Прадукты. *Продухты заготовіў.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ПРО'ЖАР *м.* і *ж. неадабр.* Пражора. *Гэты сабака прэ, як прожар.* Кіралі Шчуч.

ПРОЖО'РА *гл.* ПРАЖО'РА

ПРОЗ *гл.* ПРАЗ

ПРО'ЗВІСКА, ПРАЗВІ'СКА *н.* Мянушка. *Прозвіска такое — Дынды.* Дакудава Лід. *Адзін празваны Бязмен, Калтун, Бом — усякія прозвіска.* Старыя Трокі Трак. *«Гарбыль ты!» — гэта ўжо празвіска даеш.* Гемзы Шальч.; *параўн.* польск. *przezwisko* 'тж'.

ПРОЗВІСКАВА'ЦЬ *гл.* ПРАЗВІСКАВА'ЦЬ

ПРО′ЗВІШЧА *н.* Тое ж, што і п р о́ з в і с к а. *Па прозвішчах у нас не, а па фаміліі.* Дзераўное Стаўб.

ПРО′ЗДЗВЕРЫ *прысл.* Праз дзверы. *Проздзверы ўцякай!* Граўжышкі Ашм.

ПРОЗЁРА *ж.* Разора. *Прозёра, чы роспугі, помэж гратками.* Дзмітравічы Кам.

ПРОЙДУ′ХА *м.* і *ж.* Тое ж, што і п р а й д з ё х а. *Такая пройдуха всюды забіжыт.* Курашэва Чыж.

ПРО′КІДЗЬ, ПРО′КІЦЬ *ж.* Заправа, закраса. *Не пракідвала кашу — прокідзі нет.* Магуны Паст. *Німа ніякай прокідзі.* Кураполле Паст. *Німа прокідзі, німа чым пракінуць кашу.* Ёдлавічы Брасл. *Прокіць — гэта жыр. На прокіць, на сахар, на хлеп, соль мне хваціць пенсіі.* Валынцы В.-Дзв., Янова Рас. *Была прокіць. Не было прокідзі.* Рагулішкі Даўг. *Гэта ш прокіць была з грыбоў, суп пракідываць.* Вялікае Сяло В.-Дзв.

ПРО′КЛЯТЫ *дзеепрым.* Пракляты. *Проклята была.* Альхоўцы Лях.

ПРОКО′ЛВАЦІ *незак.* Праколваць. *Позаспільвано, булаўкамі проколвалі.* Смаляніца Пруж.

ПРОКУВЕ′КУ *прысл.* Спрадвеку. *Ат прокувеку называюць падушка на падаконнік.* Ухвала Круп.

ПРОКУ′ТАНЫ *дзеепрым.* Прапаласканы. *С хусткамі повесіла нэ вываранэ, только ў водзе прокутанэ.* Смаляніца Пруж.

ПРО′ЛАБА *гл.* ПРО′ЛУБА

ПРО′ЛАБКА, ПРО′ЛАПКА *гл.* ПРО′ЛУБКА

ПРО′ЛАМКА *гл.* ПРО′ЛУМКА

ПРО′ЛУБ, ПРО′ЛУП *м.* Палонка. *Пролуб прарублівайцца. Зімой пролуп прарубліваюць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Прабіваюць пролубы, рыба сама ідзе ў іх, мы чарпакамы яе ловім.* Ракаўскія Швянч.

ПРО′ЛУБА, ПРО′ЛАБА *ж.* Тое ж, што і п р о́ л у б. *Прабіваюць пролубу. Пролубы прабівалі, пака не было студні, і па ваду хадзілі.* Солы Смарг. *А там пролуба. Ідзі прарубі пролубу!* Граўжышкі Ашм. *Пролубы называецца, як лёт праб′юць.* Гальшаны Ашм. *Пролубу высякалі пешняй. Пролабу зрабіць, як замерзня.* Магуны Паст.

ПРО′ЛУБКА, ПРО′ЛУПКА, ПРО′ЛАБКА, ПРО′ЛАПКА *ж.* Тое ж, што і п р о́ д у х 1. *Пролубка на рэчцы.* Чычалі Швянч. *Зімой прасякуць на рацэ пролупку і рыбу ловяць.* Вузла Мядз. *Па азяркох прасякалі пролупкі.* Быстрыца Астр. *Пролупку прарубаў зімой і рыбу лавіў.* Руднікі Шальч. *Сякерай вырубуюць пролупку.* Жылі Іўеў. *Пролупкі прабівалі.* Крэва Смарг. *Пролупка, або прадуха. Схадзі прасячы пролупку. Вядзі каня да пролупкі.* Рыбчына Віл. *Можа, дзе ў пролупку ўляцеў? Прабіець лёт, пролупку зробіць.* Ёдлаві-

чы Брасл. *Пролупку прасякуць зімой на раке.* Валынцы В.-Дзв. *Называюць цюшка, а пролупка — рэдка.* Мярэцкія Глыб. *Прарубаў пролупку.* Гемзы Шальч. *Прасякаюць пролупку.* Мельнікі Лудз., Жодзішкі Смарг. *Пролапку прасякалі. Пролапку нады прасеч.* Лісна В.-Дзв. *У пролапцы паласкалі.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Пролапку прасякаюць зімой.* Янова Рас. *Пролапку прасячэць зімой — і палошчым адзеня.* Лайпушкі Ігн. *Пролапку прарубіў.* Пасіене Лудз. ▽ *Чаго ты круцісся, як шчэпка ў пролупца?!* Малі Астр. *У пролупку ўкінуў: некаторыі заклінаюць свае вешчы.* Валынцы В.-Дзв. *Жыце было такое тяшке — осталосе оно в пролупку головою.* Курашэва Чыж.

ПРО'ЛУМКА, ПРО'ЛАМКА *ж.* Тое ж, што і пр*о́*дух. 1. *Пролумка прасечана.* Рудня Чэрв. *Высячы проламку.* Бакшты Іўеў. *Зімою, кап закінуць, робяць проламкі, дзе пускаіцца нёват пад лёд, а потам прасякаяцца велькая проламка, дзе выцягваецца нёват.* Альхоўка Навагр. *Уваліўся ў проламку, чуць не ўтапіўся.* Мсцібава Ваўк. *Не ўляці с канькамі ў проламку!* Глівін Барыс.

ПРО'ЛУП *гл.* ПРО'ЛУБ

ПРО'ЛУПКА *гл.* ПРО'ЛУБКА

ПРОЛЫ'Й *м.* Тое ж, што і пралівень. *Пройшов пролый, можэ, с повгодыны йшов, а повны яругы воды.* Сіманавічы Драг.

ПРОЛЭ'ЖАТЫ *гл.* ПРАЛЕ'ЖАЦЬ

ПРОМ *м.* Паром. *Пром на рэццы.* Навасёлкі Свісл.

ПРО'МАХ *м.* Хто няўмелы, някемлівы. *Вуон нэ промах, нэ дасть собіе в кашу дмухаті.* Курашэва Чыж.

ПРОМАХНУ'ТІСЕ *зак.* Памыліцца. *Промахнувсе, бо нэ купів поросят, як былі таньшы, а тэпэр подорожалі, і трэба буольш заплатіті.* Курашэва Чыж.

ПРО'МЕНЬ *м.* Прамень. *Промень слонца.* Паляцкішкі Воран.; *парайн.* польск. *promień* 'тж'.

ПРО'МЗЛЫ *прым.* Тое ж, што і прастóялы. *Промзлае малако — і не кіслае, і не салоткае, ім бяліць нельзя.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Што ты даёш промзлае малако.* Філіпаўцы Красл.

ПРО'МІЦЦЮ *прысл.* Стрымгалоў. *А еслі аткрыла дзверы, дык я проміццю ў тую хату.* Чапаеўскі В.-Дзв.; *парайн.* руск. *опрометью* 'тж'.

ПРОМОТА'ТІ *гл.* ПРАМАТА'ЦЬ

ПРО'МЫЖ *прыназ.* з *тв.* Паміж. *Промыж хатыю і клунію.* Дзмітравічы Кам.

ПРО'ПАДАЦЬ *гл.* ПРАПАДА'ЦЬ

ПРО'ПАСЦЬ I *ж.* Бяздонне. *Там пропасць: жэрдку сунеш і не ашчупаеш дна.* Гемзы Шальч.

ПРО′ПАСЦЬ II *зак.* Прапасці. *Пропала карова. Аказуецца, яны пропалі.* Паляцкішкі Воран. *Пропала ўсё.* Альхоўка Навагр.

ПРО′ПКА *гл.* ПРО′БКА

ПРОПУДІ′ТІ *зак. экспр.* Выгнаць. *Пропуділі старую матэру з дому, бо была йім нэ потрыэбна.* Курашэва Чыж.

ПРО′ПУЛІС *гл.* ПРАПА′ЛІ′С

ПРО′РАЗКА, ПРО′РАСКА, ПРО′РЫСКА *ж.* Тое ж, што і праёрак. *Проразкі ў рубашцы дзелалі.* Азяраны Раг. *Прораска — дзірка для гузіка. Гузік засцягвалі — прораскі праразалі.* Рудня Чэрв. *Прорыскі на ґузыкы.* Сіманавічы Драг.

ПРО′РАЗЬ *ж.* Тое ж, што і парóст. *Смашная сала, кабанінка с прораззю.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПРО′РАК *м.* Знахар. *Прорак — знахар, варажбіт.* Вялікія Баяры Шчуч.; *параўн.* польск. *prorok* 'прадвеснік'.

ПРО′РАС *м.* Тое ж, што і праёрак. *Прорас у сарочца, даўней насілі сарочкі, цяпер у рубашца.* Вецярэвічы Пух.

ПРО′РАСКА *гл.* ПРО′РАЗКА

ПРО′РАСЛІ *мн.* Тое ж, што і парóст. *Сала с прораслямі.* Лапічы Асіп.

ПРО′РАСЦЬ *ж.* Тое ж, што і парóст. *Дай мне гэтага кавалак сала, што с прорасцяй.* Ністанішкі Смарг. *С прорасцяй: любовае і жырнае мішаецца.* Чуркі Ашм.

ПРО′РАЎ *гл.* ПРО′ВАР

ПРО′РБА *ж.* Невялікі паўвостраў. *Прорба акружана возярам, толькі ў адным месцы брот, а кругом возяра. Тры прорбы: Велька Пярэрва, або Ігнасёва Пярэрва, Байтнякова Пярэрва і Геткава Пярэрва.* Альхоўка Навагр.

ПРО′РВА I *ж.* 1. Пратока. *Прорва да Нёмана — ручаёк праверцца ад Нёмна ўбок, і гэты ручаёк называюць прорва, вада прабілася ў другоя месца, убок.* Вострава Маст. *Прорва каля рэчкі.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Невялікі астравок на багністым балоце. *А дзе прорва, там трава расце. Прорва ў балоце, мох дунецца, па мсе ідзі.* Дзяніскавічы Ганц.

ПРО′РВА II *ж. бат.* Трыпутнік. *Прорва — зелё; трэба нарваць прорвы, расце па сценках, прыкладаюць да скулы.* Альхоўцы Лях.

ПРО′РУБ, ПРО′РУП *м.* Тое ж, што і прóлуб. *Пешняй рубілі proруп. * Ахрэмаўцы Брасл. *На неват прорyп рабілі, на адно крыло і на другое.* Мыто Лід.; *параўн.* руск. *прорубь* 'тж'.

ПРОРУБА′ЦІ *зак.* Прасячы. *Прорубай лёд.* Смаляніца Пруж.

ПРО′РУБКА, ПРО′РУПКА *ж.* Тое ж, што і прóлуб. *Раньшы рэчка ні замярзала і ні трэба бало прорупку сячы.* Вязынка Маладз.

ПРО′РЫСКА *гл.* ПРО′РАЗКА

ПРО′СА *н.* і *ж.*, ПРО′СО *н. бат.* Проса. *Галаўня ў просаві, у пшаніцы.* Лука Нараўк. *Тэрас просы можна купіць. Сеялі просу.* Канюкай Вільн. *Просу сеялі, яе нада таўчы, кап чыстая. Проса ў капшукох.* Гемзы Шальч. *Просо сыяле.* Дзмітравічы Кам.

ПРО′СВІРА *ж. царк.* Просвіра. *Просвіру давалі, прычась давалі.* Лісна В.-Дзв.

ПРО′СЕРКА *ж. памяни.* Тое ж, што і п р о́ с в і р а. *Як прычашчаюць, даюць віно і просерку, вадой запіваюць.* Баброўнікі Гарад.

ПРО′СІЗЬ *гл.* ПРЫСЕ′СЦЬ

ПРО′СІКА *ж.* Прасека. *На просіке зацішна, ягады растуць.* Беразіно Докш.

ПРО′СЛІ *прыназ.* з *род.* Пасля. *Прослі вайны хату ставілі.* Альхоўка Навагр.

ПРОСКО′К *м. мед.* Грыжа. *Проскок у міне, не хочуць гэ робіць бэз роспіскі.* Хатынічы Ганц.

ПРОСМОКТА′ЦЬ *зак. перан. экспр.* Прапіць. *Просмокчэ рубэль — і хлеба нема за што купіць.* Хатынічы Ганц.

ПРО′СО *гл.* ПРО′СА

ПРО′СТА, ПРО′СТО *прысл.* 1. Напрасткі. *Даўней скажуць — ішла проста, а цяпер — напрамую ішла.* Мярэцкія Глыб. *Ідзі проста — і знайдзяш студзянку.* Кудзялянцы Шальч. *Просто іці — іці напрамкі.* Тухавічы Лях. 2. Някрута (пра ніткі). *Хто просто праў, то палатно харошае.* Дзяніскавічы Ганц. 3. У зеніце. *Калі слонцо над галавою, кажуць, што яно просто.* Стральцы Гродз. 4. Нескладана. *Чуйка проста пашыта.* Васілевічы Гродз. 5. Адразу. *Возьмеш у полку завяжыш попел, бо проста ў саган не так чыста.* Завельцы Астр. *Проста з моста — і ў ваду.* Гемзы Шальч.

ПРО′СТАНЬ *гл.* ПРО′СТЫНЬ

ПРО′СТАЦА *незак.* Слабець, станавіцца нягнуткім. *Пальцы простаюца ат сумкі.* Збляны Лід.

ПРО′СТАЦЬ *незак.* Выпростваць. *Плывуке дзержаць сетку, простаюць яе.* Збляны Лід.

ПРО′СТО *гл.* ПРО′СТА

ПРОСТОПО′ЛНЫ *прым.* Які вырас на няўгноеным полі. *Простополное жыто — дзе на пустом полі, дзе навоз не возіш.* Хатынічы Ганц.

ПРОСТУДЗІ′ЦІСА *зак.* Тое ж, што і п р а с т ы́ г н у ц ь 1. *Дзве бабі простудзілосо на болоці.* Смаляніца Пруж.

ПРО′СТЫ *прым.* 1. Прамы. *Там проста дарога.* Вялікія Баяры Шчуч. *Дрэва простая — німа сучкоў, роўная дрэва.* Кіралі Шчуч. *У куль салома простая.* Беняконі Воран. *Кап ношкі былі простыя, укутвала дзіця повясам.* Дакудава Лід. ∇ *Крывая дарога с простай смяецца.* Малькуны Ігн. 2. Не-

складаны. *Просту работу рабіў.* Збляны Лід. 3. *прым.* у знач. *наз.* Зроблены з ільняных нітак. *Панчохі рабілі з лёну, с простых нітак.* Кухты Віл. *Простыя ніткі з лёну.* Цяпінцы Віл. 4. Даматканы. *У простам хадзілі, ткалі плаценькі.* Бакшты Іўеў. *Трэба простую адзежу мыць і крамную адзежу трэба мыць. У простум хадзілі.* Саланое Віл. *Даўней кудзелю пралі, ткалі, усё простае было.* Вузла Мядз. *Даўней у простым хадзілі. Цадзілку дзелалі с простага; апстрыжэць, абрубіць— і цадзілка.* Рагулішкі Даўг. *Простыя дываны с трапак ткалі, ні падбівалі.* Старыя Трокі Трак. 5. Слабка ссуканы (пра ніткі). *Крута спрадзеныя ніткі — крутыя, а някрута — простыя.* Гайна Лаг. 6. Няспутаны (пра хатніх жывёлін). *Конь спутаны ці просты? Ідзі спутай каня, бо конь распутаны, просты конь.* Паляцкішкі Воран. 7. Несартавы. *Авес просты.* Дзяніскавічы Ганц. 8. Просты (пра ніт). *Ніт у вочко і ніт просты.* Альхоўцы Лях. 8. Дыялектны, нелітаратурны. *Наш язык просты.* Альхоўка Навагр.

ПРО'СТЫ ЎГО'Л *м. буд.* Вугал «у чашку». *Просты ўгол запілаваны, нямецкі ўгол — не.* Гальшаны Ашм.

ПРОСТЫ'ГНУТІ *гл.* ПРАСТЫ'ГНУЦЬ

ПРО'СТЫНЬ, ПРО'СТЫНА, ПРОСТЫНЯ', ПРО'СТАНЬ, ПРО'СЦІНЬ, ПРО'СЦІНА, ПРО'СЦІНЯ *ж.* Тое ж, што і п р а с т а н я́. *Простынь — цяпер, а даўней — дзяруга, і пат сподам і наверху дзяруга.* Кіралі Шчуч. *Яна па расе простынь цігала, ноччы цігала.* Валынцы В.-Дзв. *Простыні памыла.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Простыну паправіла.* Слабада Мін. *Простыне ў шкаповэ.* Дзмітравічы Кам. *Засцялі чыстую простань.* Ухвала Круп. *Просцінь, ці пасцілка.* Лайпушкі Ігн. *Трэ купіць просцінь.* Дзяніскавічы Ганц. *У просцінь закруціла татку — ціф быў. У мяне было дзве просціны і чумадан.* Гальшаны Ашм. *Просціна — па-руску, гэта прасцірадла.* Старыя Смільгіні Воран. *Просціна чыстая ў шафе ляжыць.* Пацаўшчына Дзятл. *Просціня была.* Хатынічы Ганц.

ПРОСТЫ'ЦІ *гл.* ПРАСТЫ'ЦЬ

ПРОСТЭ'ЦЬКІ *прым.* Неганарысты. *Вучоны чоловіек, але такі простэцькі: с кажным поговорыт, прывітаеце.* Курашэва Чыж.

ПРОСУШЭ'ТЭ *зак.* Прасушыць. *Трэба просушэтэ одэжу.* Дзмітравічы Кам.

ПРО'СЦЕНЬКІ *прым. памянш.* да п р о́ с т ы 1. *У куль ідзе салома такая просценькая.* Беняконі Воран.

ПРО'СЦІНА, ПРО'СЦІНЬ, ПРО'СЦІНЯ *гл.* ПРО'СТЫНЬ

ПРОСЫ'НКА *ж. памянш.* Зярнятка проса. *Найшлі дід і баба одну просынку ў дідовум чоботовэ.* Сасноўка Пруж.

ПРОСЯ'НКА *ж.* Прасяная салома. *Просянкі коровы нэ хочут йіесті.* Курашэва Чыж.

ПРОСЯ'НЭЧНЫ *прым.* Прасяны. *Просянэчна солома.* Дзмітравічы Кам.

ПРОСЯНЭ'ЧНЫСКО *н.* Тое ж, што і п р о с я́ н к а. *Просянэчныско — гэто просянэчна солома.* Дзмітравічы Кам.

ПРО'СЯСЦЬ, ПРО'СЯЦЬ *гл.* ПРЫСЕ'СЦЬ

ПРО'ТАР, ПРО'ТОР, ПРО'ТОРГ *м.* 1. Іголка без вушка. *Іголка без ушка — гэто будзя протар.* Альхоўцы Лях. *Голка без вушка — протар.* Дзяніскавічы Ганц. *Думала, шо гэто голка, аж то протор — гушка ныма.* Сіманавічы Драг. *У іголцы вушко одламалосо, да зробіўса проторг, ею нэ шытімэш. Проторг — іголка бэз вушка.* Азарычы Пін. 2. Вялікая іголка. *Протарам бацька хамут шыў.* Магуны Паст.

ПРОТЕ'КАТЫ *гл.* ПРАЦЯКА'ЦЬ

ПРО'ЎДА *гл.* ПРА'ЎДА

ПРО'ЎНУК *гл.* ПРА'ЎНУК

ПРО'ЎШАВАЦЬ *незак. плыт.* Змацоўваць у плыт. *Проўшавалі броўны, спраўшывалі — прабіваеш ёлку, задзіваеш у вухо і прывязываеш да жэрдзіны.* Лісна В.-Дзв.

ПРОХРОМІ'ТІ *зак.* Параніць, пракалоць. *Прохроміў ногу.* Азарычы Пін.

ПРО'ЦВІНА *ж.* Бляха. *На процвіне сушылі зярно, хлеб пяклі.* Мішневічы Шум.; *параўн.* руск. *противень* 'тж'.

ПРО'ЦІ, ПРО'ЦІЎ, ПРЭ'ЦІ, ПРЭ'ЦІЎ *прыназ.* з *род.* 1. Насупраць. *Проці нас стаяла машына.* Ахрэмаўцы Брасл. *Проці хаты.* Стральцы Гродз. *Проці дому наш загон.* Вострава Маст. *Гумно выгараджана, проці — пуня.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Проці гарода пуня ў хазяіна стаяла.* Пярэкі В.-Дзв. *Проці дзвярэй пчолы раяцца.* Чапаеўскі В.-Дзв. *Што тут надзьмухаеш проці ветру.* Груздава Паст. *Як хлеп пякуць, на патэльню блін такі с цеста — бонду, ставяць проціў полымя.* Солы Смарг. *Прыехаў, проціў дзвярэй стаў.* Ахрэмаўцы Брасл. *Проціў гэтага куста астанавіўса.* Сонічы Брасл. *Прэці каровы пашлі з унучкай.* Галубы Маст. *Прэці нас жыве сусет.* Малі Астр. *У нас прэці хаты балата.* Руднікі Шальч. *Прэціў агню стаць.* Жылі Іўеў. *Прэці магазіна стары чалавек жыве.* Навасёлкі Лід. 2. У прысутнасці каго-н. *«Ты мой гаршчок спаліла!»— проці сына* [нявестка] *надала.* Старыя Трокі Трак. 3. У параўнанні з кім-н., чым-н. *Я — мыш проці іх.* Саланое Віл. *Проці нашых нідзе луччых нет.* Чапаеўскі В.-Дзв. *Прэці леташняга нягодна дзелаюць.* Лісна В.-Дзв. 4. Насуперак каму-н. *Проці яе пальца не выстаў.* Мішневічы Шум. 5. Напярэдадні. *Тая нага проці ночы правалілася. Я старая, а ты яшчэ проці веку, табе жыць.* Вецярэвічы Пух. *Прэці нядзелі. Прэці самага цялення карова не ўставала.* Старыя Смільгіні Воран.

ПРО'ЦІВА, ПРО'ЦЬВА *ж.* Месца на беразе вадаёма, дзе

мылі бялізну. *Проціва, процьва — месца на рэцы, дзе мылі бяллё.* Нізок Уздз.

ПРОЦІПЕ'РСНІЦА, ПРОЦІПЕ'РСІЦА *ж. мед.* Вострае запаленне скуры. *Проціперсніца — пачці тоя, што і рожа, толькі яна сіняя.* Магуны Паст. *Проціперсіца — кубачкі сініі.* Кураполле Паст.

ПРО'ЦІЎ *гл.* ПРО'ЦІ

ПРО'ЦЬВА *гл.* ПРО'ЦІВА

ПРОЧ *прысл.* Прэч. *Еслі дзеніг у мяне многа, дык ат вас проч.* Чапаеўскі В.-Дзв. *Як узнаюць, што бабылка* [бедная] — *і сразу проч.* Буды В.-Дзв.; *парайн.* руск. *прочь* 'тж'.

ПРОЧВА'РА *гл.* ПРАЧВА'РА

ПРО'ЧКА *ж.* Тое ж, што і п р о́ ґ а 1. *Прочка не загарождана, а заложана жэрткай, драціной. Вядзі ў прочку. Залажы прочку.* Кураполле Паст.

ПРО'ЧКІ *мн.* У выразе: *Пайсці ў прочкі* — пакінуць на некаторы час сям'ю з прычыны неладоў. *Пашла яна ў прочкі.* Альхоўцы Лях.

ПРО'ШКІ *мн.* Парашкі. *Прошкі камфаровые п'ю.* Стральцы Шальч.; *парайн.* польск. *proszek* 'парашок'.

ПРОШЛУГО'ДНІ *прым.* Леташні. *Прошлугодняя бульба.* Плябанцы Ашм.; *парайн.* руск. *прошлогодний* 'тж'.

ПРО'ШЛЫ *прым.* Мінулы. *У прошлум году было не дай божа камароў.* Пацаўшчына Дзятл. *У прошлым гаду, можа, рыбін сем улезшы было. Прошлы год былі дзесятку дабавіўшы.* Чапаеўскі В.-Дзв.; *парайн.* руск. *прошлый* 'тж'.

ПРО'ШЧА *ж. царк.* Свянцоны хлеб. *У цэркві е прошча. Хлеп свянцоны называюць прошча.* Альхоўцы Лях.; *парайн.* укр. *проща* 'багамолле' (Грынч., 3, 492).

ПРО'ШЧВАЦЬ *незак.* Прарошчваць. *Буракі прошчваюць, яны пусцілі храсткі.* Саланое Віл.

ПРОЯ'ВА *гл.* ПРАЯ'ВА

ПРУ-ПРУ-ПРУ *выкл.* Падзыўныя для курэй. Крэва Смарг.

ПРУГ, ПРУХ *м.*, ПРУГІ', ПРУГЕ', ПРУІ' *мн.* 1. Край тканіны. *Пруг — па канцах палатна.* Васілевічы Гродз. *Пругі — краі палатна, адно заходзіт за другое.* Лука Нараўк. *У полотне ест пругі.* Горск Бяроз. *У палатне з бакоў называюцца пруге.* Баброўнікі Гарад. *Прух у палатне няроўны.* Вялікія Баяры Шчуч. *Прух у палатне.* Груздава Паст. *Па краю палатна прух. Прух такі, як фабрычны.* Солы Смарг. 2. Рубец на скуры. *Так збіў коня, што аж пругі од біча знаті.* Курашэва Чыж. 3. *ткац.* Прыстасаванне для нацягвання краёў палатна ў кроснах. *Пруг кладзецца на вытканам матэрыяле, каб не зацягаўса.* Баброўнікі Гарад. *Напні пругом полотно!* Курашэва Чыж. *Пругі — для расшырэння палатна ў час ткання. Пругі ўтыкаліся ў палатно, распіналі палатно.* Мярэцкія Глыб. *Пругі — кап не сцягвалася тканіна пры тканні.* Малы-

шы Лід. *Пругамі прыпружваюць палатно. Кап не раслабваліся пруге.* Вецярэвічы Пух. *Пруі — кап шырыць прасесць.* Стральцы Гродз.

ПРУ′ГКА *прысл.* Прутка. *Ацёсы надзяваюць, коб аглоблі пругка ішлі.* Лука Нараўк.

ПРУГЛО′ *н. с.-г.* Сошная расоха. *Пругло — осатка ў саху.* Саланое Віл.

ПРУ′ГМЕНЕ, ПРУГУМЕ′НЯ, ПРУГМЕ′НЁ *н.* Прыгуменне. *Солому с пругменя поносілі до клуні. Пругмене загруоп, коб нэ было сміетя, бо поліціянт прыдэ і штраф напішэ.* Курашэва Чыж. *Пругуменя — дзе стаіць гумно.* Тухавічы Лях. *Пругменё кала гумна.* Міратычы Карэл.

ПРУГМЕ′НЬ *м.* 1. Панадворак. *Пругмень — дзе загароджана, каб чысцей было.* Галубы Маст. *Пругмень кажуць, як велькі падворак. На пругмені стаіць гумно.* Вострава Маст. *Пругмень — што і падворак. Пругмень цяпер не называюць, бо яго німа, выпахалі. Пругмень быў велькі і з мураўцой. Калі пляц ні гараўсё, то быў пругмень, рос лопух, шчаўнік.* Міратычы Карэл. 2. Тое ж, што і п р у́ г м е н е. *Дзеля гумна пругмень.* Малахоўцы Бар. *На пругмені стаіць.* Нізок Уздз. *Пругмень каля гумна.* Семежава Кап., Ісерна Слуц., Мсцібава Ваўк.

ПРУД I, ПРУТ *м.* 1. Невялікі прыродны вадаём. *Места, дзе быў пруд, там упадзіна была пракуветняя, волы тапіліся, а цяпер аруць і сеюць.* Малыя Аўцюкі Калінк. 2. Сажалка. *Карп у прудах гадуецца.* Сапоцкіна Гродз. 3. Раўчак. *Прут працікаіць з рэчкі.* Кураполле Паст. 4. Яма ў вадаёме. *Пруд — дзе глэнбока.* Старыя Смільгіні Воран. 5. Вадзяны млын. *У пруд вязу малоць жыта, пшаніцу.* Ухвала Круп. *Пруд — млын, гаварылі раней.* Багушэвічы Бярэз. *Пойдзям малоць у прут.* Рудня Чэрв. *Прут — вадзяны млын.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПРУД II, ПРУТ *м.*, ПРУДЫ′ *мн.* Паз у драўляным посудзе. *Прут — рубчык, паз, куды ўстаўляецца дно.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Трэба дно ў пруды ўставіць, у прут.* Рыбчына Віл.

ПРУДА′НЫЯ *мн.* Удзельнікі вяселля, якія вязуць пасаг нявесты ў дом жаніха. *Пруданыя, як едуць, вязуць маладой куфар, дзяругі, андаракі, світы, катанкі, а дружкі вымаюць і вешаюць рушнікі, пасцілкі і абрусы, вымаюць ды сцелюць; трэба сталы заслаць маладой, трэба, кап наверху было. Пруданыя едуць, хочу пруданых паглядзець.* Вецярэвічы Пух.; параўн. укр. *придане, приданки* ’тж’ (Гринч., 3, 414).

ПРУ′ДЗЕНЬКІ *прым. памянш.* да п р у́ т к і 2. *Хлопчык маленькі, а стаіць на ношках — прудзенькі, як цвічок, стаіць.* Кіралі Шчуч.

ПРУ'ДЗІК *м. памянш.* да прудІ, 2. *У нас прудзік ёсь, зялёны жабы водзюцца.* Валынцы В.-Дзв.

ПРУДЗІ'СКА *н.* Тое ж, што і пруд І, 4. *Прудзіска — дзе глэбока.* Старыя Смільгіні Воран.

ПРУ'ДЗІЦЬ *незак.* 1. Праграваць адзенне пры высокай тэмпературы. *Дайней адзенне прудзілі — выпарвалі ўсё ў лазні.* Быстрыца Астр. *Было так: духу дадуць — прудзіць адзёжу.* Солы Смарг. *Прудзілі адзежу, як трэба папрудзіць, узліюць на печку вады, тады кідаюць адзежу і чыстую, і ношаную.* Саланое Віл. *Прудзяць лайно ў бані.* Беразіно Докш. *Ён санітарам быў, адзежу прудзіў.* Валынцы В.-Дзв. *Дайней прудзілі кашулі гарачай парай.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Прудзіць сарочку на гарачых каменнях.* Рудня Астравітая Чэрв. *Прудзілі плаццяː паддасі духу ды развесіш; і тоя папрудзіш, што адзяваць будзеш.* Азяраны Раг. 2. Апырскваць хімікатамі. *Пашла жукі прудзіць.* Жылі Іўеў.

ПРУ'ДЗІШЧА *н.* Тое ж, што і пруд 5. *Прудзішча — вадзяны млын.* Рудня Чэрв.

ПРУДО'К *м. памянш.* да пруд І, 3. *Працікаіць з рэчкі прудок.* Курополле Паст.

ПРУ'ЖАЦЬ *незак.* Смажыць. *Пружылі алей с цыбуляй.* Вузла Мядз.

ПРУЖМО' *н.* Кальцо ў пастронках. *Пружмо — кручок чапляць.* Магуны Паст.

ПРУЖО'К *м. памянш.* да пруг 1. *Пружок — тая нітка, прыкладаецца да асновы, а тчэш, то яна ў палатно. Пружок ішоў па канцах палатна.* Васілевічы Гродз. *Прушкі ў палатне.* Стральцы Гродз.

ПРУЖЫНОВА'ТІ *незак.* Культываваць. *Поле пуд овэс пружыновав.* Курашэва Чыж.

ПРУЖЫНУО'ВКА *ж. с.-г.* Культыватар. *У сусіеда пружынуовку позычыв.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *sprężynówka* 'тж'.

ПРУЗУ'К *м.* Раменьчык. *Прузук — раменьчык на цэпе. Да вужыка два прузуке. Прузук — з рэменя.* Старое Сяло Зэльв.

ПРУ'КІ-ПРУ'КІ *выкл.* Падзыўныя да каня. ▽ *Прукі-прукі — пакуль не ў аглоблі, а як у аглоблі, тады і паехаў.* Вузла Мядз.

ПРУМО'РАК *гл.* ПРЫМО'РАК

ПРУО'ЗВІСКО *н.* Мяншука. *У нас людзі знают по пруозвісках, нэ по фаміліях.* Курашэва Чыж.

ПРУС *м. заал.* Прусак. *Тараканы былі, прусы.* Солы Смарг.

ПРУСА'К *м.* Тое ж, што і прус. *Прусак чырвоны, чырванюткі, з вусамі, па сценках, дзе саган,— усюды падаюць.* Кіралі Шчуч. *Прусак такі гнеды.* Старыя Смільгіні Воран.

*Былі прусакі — шчысцілі ўсё.* Альхоўцы Лях. *На печы ў лучыні столькі прусакоў было.* Малышы Лід.

ПРУ'СЫ толькі *мн. геагр.* Прусія. *Забіралі ў Прусы, да Германіі.* Грыкені Вільн.

ПРУТ I *м.* 1. Дубец. *Бярэця прут ды прутом гэтага кавалера.* Паляцкішкі Воран. *Я вас прутам, пруточак вазьму.* Кураполле Паст. *Як вазьму прут і дам табе.* Кіралі Шчуч. 2. Вітка. *Плыцілі плыт яловымі прутамы.* Кураполле Паст. *Дайней латы прывязавалі прутам лазовым; нада насеч пруцця.* Янова Рас. *Крышы крылі саломай, завязавают прутам.* Рагулішкі Даўг. *Прывязана грэбястоўка прутам.* Скрудалена Даўг. *Салому завязавают прутам.* Крэвені Даўг. *Лазовым прутам круцюць і зуб'е ў баране прыкрэпляюць.* Пасіене Лудз. 3. Кавалак дроту. *Прут з дроту.* Кемялішкі Астр. 4. Патоўшчаны край касы. *Прут — верх у касе.* Парэчча Гродз. *Прут у касы. Біз прута каса ні будзіць упружная.* Істра Лудз. ▽*А гыля на сяло, каб яны прутом пасталі, гэтыя гусі.* Новіны Нясв.

ПРУТ II *гл.* ПРУД I

ПРУТ III гл. ПРУД II

ПРУ'ТКАСЦЬ *ж.* Пругкасць. *Не мая ён пруткасці ў нагах.* Старыя Смільгіні Воран.

ПРУ'ТКІ, ПРУ'ТКЫЙ *прым.* 1. Пругкі. *Пруткі дубец.* Жылі Іўеў. *Ніткі наваскованыя — пруткія. Нітка прутка.* *Дзяркач пруткі, як тайкач.* Кіралі Шчуч. *Маткамі білі, каб нітка пруткая была.* Стральцы Гродз. *Ліст на аеру пруткі.* Малахоўцы Бар. *Кожачка пруткая.* Альхоўцы Лях. *Палатно пруткае, як намочыш.* Дзяніскавічы Ганц. *У гірсы сцябло пруткае. Пруткі венік.* Вецярэвічы Пух. *Віша пруткая, яе не абложвае снех.* Кузьмічы Люб. 2. Дзябёлы, моцны. *Пруткі хлапец.* Жылі Іўеў. *Мой Коля пруткі, як дроцік.* Збляны Лід. *Пруткая дзіця, як хутко бярэцца хадзіць. Ёсць дзіця вялае, а есць пруткае — у пайгода бярэцца ўставаць.* Мсцібава Ваўк. *Пруткі чалавек.* Рудня Астравітая Чэрв. *Шэ малое дытына, а вжэ такое пруткэ, почті самое стойіть.* Сіманавічы Драг.

ПРУ'ТКО *прысл.* Тое ж, што і п р ý г к а. *Я прутко сучу.* Сакаляны Сакол.

ПРУТНЯ' *ж.* Рыбалоўная снасць. *Прутня пляцецца з лазы. У прутні, што рыбу лавіць, круглы абруч арехавый, пруцця прывязваюць, ставяць у быструю ваду, штоб чэраз прутню не ішла, а ýровень, застайляеш чашчой з колікамі.* Мішневічы Шум.

ПРУТО'К *м.*, ПРУТКІ', ПРУТКЕ' *мн.* 1. Пруток для вязання. *Панчохі рабілі пруткамі.* Кухты Віл. *Пруткі — рабіць шкарпеткі.* Лука Нараўк. *Прутке — вязаць рукавіцы.* Вялікія Баяры Шчуч. 2. Планка ў драўлянай баране. *Пруткі ў баране, між якімі замацоўваліся зуб'я бараны.* Альхоўцы Лях.

ПРУТО'ЧАК *м. памянш.* Кіёчак. *Будзям кідаць у нічальніцы, будзям кідаць у бёрда, тады завязваць ніткі да пруточка.* Солы Смарг. *У чайначок устаўляўся пруточак.* Кухты Віл. *На пруточках ніты надзеты.* Лоск Валож.

ПРУТЭ'СІЯ *ж. царк.* Іконы, якія насілі ў час царкоўнай працэсіі. *Насілі прутэсію, ахвяроўваліся, хадзілі да Острай Брамы. Прутэсію насілі аж у Вільню.* Саланое Віл.

ПРУХ *гл.* ПРУГ

ПРУХНІ'ЦА *ж.* Зморшчкі. *Адна прухніца ў смаршчках.* Парэчча Гродз.

ПРУХНО' *н.* Парахня. *Прухно з дзерава, як шышаль точыць. Шышаль натачыў прухна.* Жылі Іўеў. *Прухно сыплецца з дрэва прухнявага.* Сапоцкіна Гродз.; *парайн.* польск. *próchno* 'тж'.

ПРУХНЯ'ВЫ *прым.* Парахнявы. *Прухнявы дуп.* Сапоцкіна Гродз.

ПРУ'ЦІК *м.* Планачка ў бёрдзе. *У бердзе пруцікі ўверсе і ўнізе і такое трысцё.* Кухты Віл.

ПРУ'ЧАТІ *незак.* Падымаць што-н. цяжкае. *Як будэш тяшко пручаті, то можэш пудорватісе.* Курашэва Чыж.

ПРУ'ЦЬЯ *зб. н.* Пруцце. *Гарэшавая пруцья, нарэзала за статкам.* Дзяніскавічы Ганц.

ПРУШНЯ'К *гл.* ПРАЎШНЯ'К

ПРУ'ШЧЫНА *ж.* Прасціннае палатно. *С прушчыны простыні шыюць.* Вецярэвічы Пух.

ПРУШЫ'ЦЬ *незак.* Церушыць. *Цэлы дзень маленькі прушыць дошч.* Сапоцкіна Гродз.; *парайн.* польск. *prószyć* 'тж'.

ПРЫ *прыназ.* І. Выражае значэнне месцазнаходжання. 1. з *месн.* Каля. *Мы сядзімо пры шашэ. Мы кароў папасвалі пры шашэ. Пры крае вёскі пабудаваўшыся быў.* Альхоўка Навагр. *Мы жылі пры лесі. Пры плоце не стоіць садзіць высаткі. Як пры лесе жылі, то якую ягатку прынясеш.* Мсцібава Ваўк. *Ты прастых, калі мыўся пры карыце. Каструлі пры сабаку, ня есць.* Паляцкішкі Воран. *Снайдалі — кветкі такія, маленачкія, галовачкі пры зямлі.* Чычалі Швянч. *Сын пры костачкі кушаіць мяса.* Малькуны Ігн. 2. з *месн.* У прысутнасці каго-н. *Пры яго вачах людзей стралялі.* Завельцы Астр. 3. з *род.* На. *Віскла расце пры мокрых мястах.* Быстрыца Астр. *Яны* [буякі] *пры балоце растуць.* Гальшаны Ашм. *Разак пры вадзе расце, ногі рэжа.* Старыя Трокі Трак. *Турчакі болій пры ніскіх мейсцах.* Завельцы Астр. 4. з *месн.* У чым-н. *І прыполак пры сасе.* Грыкені Вільн. *Закрутка ёсь пры дзвярах.* Магуны Паст. *Стаёўка — чатыры ношкі, спот знізу, лавачка пры боку, кап сесці дзіцяці.* Солы Смарг. 5. з *тв.* 3, са, у. *Ці ты пры мне была? Пры ім стаяць. Пакідаяць пры мне двох. І яна пры ім сядзела.* Паляцкішкі Воран. *Жылі пры мачася.* Старыя Смільгіні Воран. *Пры мачасі раслі.* Бакшты

Іўеў. *Сын пры маццы жыў.* Малі Астр. *Жывець пры даццэ, як надаесь, едзіць у сяло. Пры мне жывець.* Груздава Паст. *Пры сыну жывець.* Саланое Віл. *Пры сыну жыву.* Парэчча Гродз. *Пры іх матка жыве.* Гемзы Шальч. *Пры сваём сыну буду жыць.* Лісна В.-Дзв. *Жыў пры сыну.* Валынцы В.-Дзв. *Пры іх была і матка. Ён яшчэ і пры гультаю.* Ахрэмаўцы Брасл. *Была п ты пры брату.* Дакудава Лід. *Бабачка, пры табе лягу.* Кіралі Шчуч. *Дзевачка была пры іх.* Вострава Маст. *Пры бацькох жыве, ды вадзяцца, дачка лядачая. Пры даццэ жыве. Жыў пры чужых бацькох.* Альхоўка Навагр. *Яна цяпер пры бацьку.* Барок Стаўб. *Можна пры сваіх людзях і быць.* Лоск Валож. *Чатырох сыноў жыве пры нас, сёнё чатырох робіць.* Дзяніскавічы Ганц. *Жыве пры дзеду.* Вецярэвічы Пух. *Лось быў пры каровах.* Грыкені Гродз. 6. з *месн.* У. *Бібліятэка пры школе.* Дзераўное Стаўб. *Даўней дзеці былі пры хаці, нікуды не аддаляліся, і работа была спраўная.* Ахрэмаўцы Брасл. *Валюш — такая масцярская пры мельніцы, пры вадзе, там сукно валілі.* Дакудава Лід. 7. з *він.* За. *У бацькі жыць не пры чым было.* Буды В.-Дзв. 8. з *тв.* 3. *Людзі пры сіле, маладыя.* Кухты Віл. 9. з *тв.* Пры. *Пры якой рабоце?* Паляцкішкі Воран. *Ён быў пры вайскох.* Старыя Смільгіні Воран. *Бацько служыў у войску пры гарудзіі.* Стральцы Гродз. *У ферма пры свінях быў.* Кемялішкі Астр. 10. з *тв.* З прымессю чаго-н. 3. *Землі лёхкія былі, пры пяску.* Сасноўка Смарг. *Ёсць зямля пры пяску.* Ракаўскія Швянч.

II. Часавае значэнне. 1. з *месн.* У час чаго-н. *Бапкі былі пры радах.* Слабада Мін. *Яе касіць толькі пры расе.* Завельцы Астр. *Я пры ім жаніўся* [калі быў жывы бацька]. Ахрэмаўцы Брасл. *Лявоніху пры балу танцуюць.* Грыкені Вільн. *Гэняк малянькі пры грудзях* [грудным] *астаўся.* Старыя Трокі Трак. *Пры агні вышываю.* Лоск Валож. 2. з *месн.* У мінулым, даўней. *Гэта пры Польшчы было.* Лоск Валож. *Пры Нікалаеві я была ў Росіі, маленькая, два года.* Смаляніца Пруж. ◇ *Пры маёй памяці* — у маю бытнасць. *Гэта было не пры маёй памяці.* Азяраны Раг. *Пры нашай памяці рагач быў.* Ракаўскія Швянч. *Дзень пры дні* — кожны дзень. *Дзень пры дні на работу іду.* Альхоўцы Лях. *Быць пры памяці* — не губляць свядомасці. *Саўсім ляжаў, але пры памяці.* Слабада Мін. *Пры сваёй старасці* — будучы вельмі старым. *Пры сваёй старасці мне цяшка было с сенам.* Слабада Мін.

ПРЫАБРЭ′ЦЬ *зак.* Набыць. *Нада прыабрэць к святу мукі белай.* Рыбчына Віл.; *параўн.* руск. *приобрести* 'тж'.

ПРЫАДАВА′ЦЬ *зак.* Падгадаваць. *То жывёлу прыадуем, здадзём.* Быстрыца Астр.

ПРЫБА′ВІЦЬ *зак.* Дабавіць. *Да буракоў лебяды можна прыбавіць.* Гальшаны Ашм.

ПРЫ′БАЛАТКІ *мн.* Балотцы. *Прыбалаткі — балотка, дзе меншыя кусты.* Старыя Смільгіні Воран.

ПРЫБАЛДЗЕ′ЦЬ *зак.* Ачмурэць. *Матка прыбалдзела вечарам, цёмна ішла і ўтамілася.* Гемзы Шальч.

ПРЫБАЛО′ТУХА, ПРЫ′БОЛОТУХА *ж. бат.* Каўпак кольчаты. *Прыбалотухі нараслі.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Набрала кошычок прыболотух.* Сіманавічы Драг.

ПРЫБА′ЛТЫВАЦЬ *незак.* Прыхлушваць. *Ён прыбалтывая — гаворыць шмат.* Гемзы Шальч.

ПРЫБА′ННІК *м.* Прылазнік. *У прыбаннік вышла і села.* Янова Рас.; *параўн.* руск. *предбанник* 'тж'.

ПРЫБАЎЛЯ′ЦЦА *незак.* Дабаўляцца. *Квашаніна — халадзец: вушкі, ношкі, якога любя (любовага) прыбаўляецца.* Солы Смарг.

ПРЫБЕ′ГЧЫ *зак.* Хутка прыйсці. *Як устаня ён, то тады прыбяжэце.* Вострава Маст.

ПРЫБЕ′РАЦЦА *зак.* Прыбрацца. *Прыберымся, дзеўкі, пекна.* Саланое Віл.

ПРЫБІВА′ЦЬ, ПРЫБЫВА′ТЫ *незак.* 1. Прыціскаць. *Набіліцамі прыбіваяць уток.* Лоск Валож. *Пускаеш чалнык, прыбіваеш.* Завельцы Астр. *За каждай ніткай лядкамі прыбіваеш і ніткі мяняеш.* Валеўка Навагр. 2. *с.-г.* Утрамбоўваць (зямлю). *Перад сяўбой прыбівалі, сеялі, а потым баранавалі.* Кіралі Шчуч. ◊ *Прыбіваць рукі* — заключаць здзелку. *Рукі прыбіваць: «Я столькі даю» — і стукаю рукой, а другі: «Столькі даю» — і стукае рукой.* Плябанцы Ашм. *Кубочкы налываюць, ручынькы прыбываюць.* Сіманавічы Драг.

ПРЫБІРА′ЦЦА, ПРЫБІРА′ЦА *незак.* 1. Прыгожа адзявацца. *Любіць ладне прыбірацца.* Паляцкішкі Воран. *Ня любіць прыбірацца, ляніцца.* Чапаеўскі В.-Дзв. *Мы прыбіраліся, ходзячы ў цэркаву. Ён прыбіраіца — касцюм купіў.* Саланое Віл. *І дакуль ты ўсё будзеш прыбірацца?* Валеўка Навагр. 2. Пераапранацца ў якое-н. адзенне. *Прыбіраюцца за цыганы.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* польск. *ubierać się* 'адзявацца, апранацца'.

ПРЫБІРА′ЦЬ, ПРЫБЯРА′ЦЬ *незак.* 1. Адзяваць. *Ад маласці бацькі прыбіраяць.* Кіралі Шчуч. *Ладне прыбіраюць.* Паляцкішкі Воран. 2. Наводзіць парадак. *Стол не прыбірала пасля абеду.* Кураполле Паст. *Прыбіраць буду. Прыбірай са стала.* Рыбчына Віл. *Я прыбіраю — мыю, мяту, бо нада падмясці.* Ёдлавічы Брасл. 3. Гатаваць (страву). *Я вам нічога не прыбірала, ешце, што ёсць.* Дакудава Лід.

ПРЫБІ′РЫШЧА *н.* Раскарчаваны ўчастак. *Паваляць лес, потым прыбяруць, называюць прыбірышча, сенакос там.* Пасека Ст.-Дар.

ПРЫБІ′ТЫ *дзеепрым.* Прымацаваны цвікамі. *Да калоткі дошка прыбіта.* Старыя Трокі Трак.

ПРЫБІ'ЦЦА *зак.* Пайсці ў прымы. *Да жанчыны прыбіўся.* Магуны Паст. ▽ *Ён прыбіўся да яе, як сляпы да плоту.* Малі Астр.

ПРЫБІ'ЦЬ *зак.* 1. Забіць. *Прыбілі яго — і памёр. Ён цябе прыб'е.* Кіралі Шчуч. 2. *с.-г.* Утрамбаваць (зямлю). *Прыбіць бараной трэба пасля першага гарання.* Івашкаўцы Смарг.

ПРЫБЛУ'ДА *ж.* і *м. зневаж.* Хто чужы, не тутэйшы. *Жыў там пару месяцаў прыблуда Касіба.* Іланцы Брасл.

ПРЫБЛУ'ДАК *м.* і *ж.* Тое ж, што і прыблу́да. *Прыблудак — той, хто прыехаў адкуль-небудзь і пасяліўся ў гэтай вёсцы.* Крупіца Мін.

ПРЫБЛУ'ДНЫ *прым.* у знач. *назоўніка зніж.* Прымак. *Прыблудны — гэта прымака, ён прыблудзіўся.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПРЫБО'І *мн.* Папярэчныя перакладзіны ў кроснах. *Прыбоі — поперэчные палкі, кліны забіваюцца, штоб не ўпалі кросны.* Лука Нараўк.

ПРЫБО'Й *м.* Прабой (у дзвярах). *Засувень на прыбоях.* Магуны Паст.

ПРЫ'БОЛОТУХА *гл.* ПРЫБАЛО'ТУХА

ПРЫБО'ЛЬШАЦЬ *зак.* Павялічыцца. *Як вада ў студні прыбольшае, то і ў студні жоўтая вада.* Завельцы Астр.

ПРЫБО'Р *м.,* ПРЫБО'РЫ *мн.* 1. Убранне. *Дачка скажа: «І мне прыбор, і табе прыбор».* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Прыбораў не было, як была маладая.* Багушэвічы Бярэз. 2. Вупраж. *Упраш — даўней скажуць, прыбор конскі — цяпер.* Рыбчына Віл.

ПРЫБРА'НЫ *дзеепрым.* Убраны. *Конь так прыбраны пацыганскі.* Старыя Смільгіні Воран.

ПРЫБРА'ЦЦА, ПРЫБРА'ЦЦЯ *зак.* Прыгожа апрануцца. *Я ні прыбраўшысь, ні прыбралася. Ён ідзець прыбраўшысь, прыбраўся ён.* Саланое Віл. *Маю ў што прыбрацца.* Парэчча Гродз. *Прыбралася, пярсцёнак надзела.* Валынцы В.-Дзв. *Унук хоча харашо прыбрацца.* Слабада Мін. *Ты гульма гуляеш, прыберысся і гуляеш.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *А прыбралась жа ты!* Вялікае Сяло В.-Дзв. *Прыдзе нядзелька — дае свае плаццп прыбрацца.* Вецярэвічы Пух. *І я хочу прыбрацця.* Кіралі Шчуч. ▽ *Прыбралася мама, як кот у сваты.* Кіралі Шчуч.

ПРЫБРА'ЦЬ *зак.* 1. Навесці парадак. *Яна добрая дзевачка — у хаця прыбрала ўсё.* Малі Астр. *Прыбяры ў хаця. Я ужо прыбрала. К якому святу прыбяру.* Рыбчына Віл. *У хаці трэба прыбраць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Нада ў хаце прыбраць.* Ёдлавічы Брасл. 2. Пераапрануць у каго-н. *На шчэдрынец чалавека прыбяруць у ваўка, казла.* Дарава Лях. 3. Упрыгожыць. *На шчэдрынец прыбяруць звязду.* Да-

рава Лях. 4. Падрыхтаваць. *Я вам прыбяру гарачай вады.* Дарава Лях. 5. Закончыць работу. *Прыбяру работу і пайду.* Лісна В.-Дзв.

ПРЫБУДО'ВАЧКА *ж. памянш.* да прыбудо́ўка. *Пры хаце прыбудовачка такая.* Гемзы Шальч. *У прыбудовачцы стаіць газ.* Пацаўшчына Дзятл.

ПРЫБУДО'ЎКА, ПРЫБУДУО'ВКА *ж.* Прыбудова. *Прыбудоўку нада было прыстройваць.* Солы Смарг. *Пастаў у прыбудоўку кошыка.* Малахоўцы Бар. *Прыбудоўка да гумна.* Чычалі Швянч. *З одного боку хаты ганок, з другого прыбудуовка.* Курашэва Чыж.

ПРЫБУТВЕ'ЦЬ *зак.* Прыбуцвець. *Прыбутвела дзецкая хоронгев.* Руднікі Шальч.; *парайн.* польск. *butwieć* 'тлець, гнісці'.

ПРЫБУ'ЦЦА *зак.* Абуцца. *Прыбуйся, ногі не пакалі.* Рагулішкі Даўг.

ПРЫБЫВА'ТЫ *гл.* ПРЫБІВА'ЦЬ

ПРЫБЫВА'ЦЬ *незак.* Павялічвацца ў аб'ёме (пра Месяц). *Прыбывая Месяц, скора поўня.* Мсцібава Ваўк., Міратычы Карэл.

ПРЫ'БЫЛЬ *м.* Прыбытак. *Мы даём прыбыль нейкі.* Малі Астр.; *парайн.* руск. *прибыль* 'тж'.

ПРЫБЫ'ТАК *м.* Тое ж, што і пры́быль. *Прыбытак ёсь у аспадарцы.* Граўжышкі Ашм. ▽ *От прыбытку голова не болiць.* Навадворцы Васільк.

ПРЫБЫ'ТНІК *м.* Маладыя парасткі хваёвых дрэў. *Прыбытнік п'юць, калі слабыя лёгкія ў каго. Прыбытнікам націраюць сяродак лежня, пчолы дужа любяць ёлку.* Валынцы В.-Дзв.

ПРЫБЫ'ТНІЧАК *м. памянш.* да прыбы́тнік. *Прыбытнічак — што пусціўшысі ў гэтым годзі.* Валынцы В.-Дзв.

ПРЫБЫ'ТНЫЯ ДНІ *мн.* Першая і другая фазы Месяца. *Нада прыбытнымы днямы кабана заразаць. Прыбытнымы днямы добра садзіць гарод.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПРЫ'БЫШ *м.* Перасяленец з іншай мясцовасці. *Ён тожа прыбыш, яе муж.* Дзераўное Стаўб.

ПРЫБЯЛІ'ЦЬ *зак.* Крыху забяліць. *Ні белы панцак, ні йіна люцка прыбяліла — малака капнула каплю.* Курасполле Паст.

ПРЫБЯРА'ЦЬ *гл.* ПРЫБІРА'ЦЬ

ПРЫВА'БА *ж. пчал.* Прынада. *Для прывабы пчол уляй шмаруюць мёдам.* Мсцібава Ваўк. *Прываба — пахучая трава ці мёт, які клалі ў вулей для прывабліванпя пчол.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

ПРЫВА'БАЧНІК *м.* Вулей для прываблівання пчол. *Прывабачнік ставілі для пчол.* Мыто Лід.

ПРЫВА'Л *м.* 1. Пагорак. *Мурожнае сена на прывалах*

*поля аранага.* Ёдлавічы Брасл. 2. Высокі бераг. *Прывал — высокі бераг. Сядзелі на прывалі. Каля дарогі прывал. Ня ідзі па берагу — скулісся с прывалу.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПРЫВА'ЛАК I *м.* Лава каля печы. *Прывалак — лава, якая кладзецца, прыдзелана на брусы, на канцы, якія выходзяць з драўлянай асновы печкі; служыла для лазання на печ.* Ахрэмаўцы Брасл. *Прывалак, ці зачынак,— адно і тое ж, ля печы гэта, як лаўка.* Мачаск Бярэз. *Прывалак — прымошчаная лаўка да печкі. Дошкі на прывалак станавіліся, як лезлі на печ.* Азяраны Раг.

ПРЫВА'ЛАК II *м.* 1. Тое ж, што і п р ы в á л 1. *Ідзём на прывалак сядзім — гэта бугрына якая, бугор.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Нізкае месца ў канцы загона. *Прывалак — сена жаць у канцы загона, няможна прывалак сараць, папорціць* Ёдлавічы Брасл. *Прывалак — зліў, куда вада сцікая з пахаці; на прывалку трава пальзіцільная.* Малькуны Ігн.

ПРЫВАЛАЧЫ' *зак. экспр.* Прыцягнуць. *Прывалок галіну.* Кнышэвічы Бабіц.

ПРЫВАЛІ'ЦЬ *зак.* Пакрыць. *У вадзе камянь мулікам прываліла.* Быстрыца Астр.

ПРЫВА'РАК, ПРЫВА'РОК, ПРАВА'РАК *м. кулін.* 1. Вадкая, пераважна прэсная страва, якая варыцца ў дадатак да асноўнай. *Мала зварыла, прыварваю прыварак, як сягоння, забеляны.* Магуны Паст. *Прыварак — страва: крупы, булён, панцак, зацірка.* Груздава Паст. *Паставіць варыць прыварак — картошкі, булёну, пастаўлю што-нібудзь прывару.* Міратычы Карэл. *Прыварак — тое, што варыцца да асноўнай яды.* Масілавічы Сл. *Мала вячэры, трэба прыварыць чаго-небудзь — гэта прыварак.* Малахоўцы Бар. *Прыварак — другая рэтка страва; каша — і нада прыварак: капусту, буракі, булён.* Ахрэмаўцы Брасл. *Прыварку паядуць, як утароя, калі мала яды.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Зварыла прыварак — дабаўка патравы.* Навікі Лудз. *Прыварак гатовіўся з абдзёркі ячменнай, пшанічнай.* Мішневічы Шум. *Боршч паставіла, а на другоя прыварак: кашу, суп, ладкі пячэш.* Азяраны Раг. *Прыварак — варанае што-небудзь. Ці ёсць у цябе прыварак які?* Рудня Астравітая Чэрв. *Усё пячэш і пячэш, прыварак які б зварыла.* Пасека Ст.-Дар. *Як выкіпіць гаршчок, даліваяш яга вадой гатаванай — прыварак гэта.* Беразіно Докш. 2. Мука, крупы, бабовыя. *Прыварак — мука з яравых культур, прыварак з грачыхі.* Жылі Іўеў. *Прыварак — мука ячменная, з грэчкі, гароху, толькі не жытняя.* Жодзішкі Смарг. *Намалоў прыварку. Прыварак — гэта ячменная мука.* Рыбчына Віл. *Праварак — ячменная мука. Няма праварку.* Мярэцкія Глыб. *Прыварак — куцця, гарох, крупы ўсякія.* Вострава Маст. *Няма чым шатравацьпрыварку. Бліны с прыварку. Прыварак — ячмень молаты.* Чуркі

Ашм. *Ячменная мука — прыварак.* Лісна В.-Дзв. *Прыварак — усё ўмесці: крупы, мука, фасоль, гарох. Ужэ прыварак выходзіць, трэбо старацца.* Мсцібава Ваўк. *Прыварак з ячменю рабілі: ячмень пашатруюць, а патом меляць.* Гемзы Шальч. *Пасоля, гарох, крупы — гэто прыварак.* Альхоўцы Лях. *Прыварак: крупэ, пансак, мука. Ён такі гаспадар, што жаднаго прыварку не мае, толькі адну бульбу.* Крынкі Крын. *Ячмень і грэчку мяшалі і малолі на бліны, гэту муку называлі прыварак.* Рудня Чэрв. *Прыварак — мука ячменная, мелецца ў млыне.* Солы Смарг. *Прыварку нэма, пойду куплю макароны, крупэ.* Азарычы Пін. 3. Агародніна. *Насадзіць гародніны варыць: буракі, цыбуля, часнок, пасоля, морка — гэта прыварві.* Альхоўка Навагр.

ПРЫВА'РАЧНА, ПРЫВАРЧА'НА МУКА' *ж. кулін.* Мука спецыяльнага гатунку. *Прыварачная мука — пшанічна, ячменна, грачана, часам мяшалі ўсё збожа і малолі, з яе зацірка, галаткі.* Міратычы Карэл. *Прыварчана мука была.* Вострава Маст.

ПРЫВА'РКАВАЯ, ПРАВАРКО'ВАЯ, ПРЫВАРКО'ВАЯ МУКА' *ж.* Тое ж, што і п р ы в а́ р а ч н а  м у к а́. *Прыварка- вая мука з абдзёртага ячменю, блінэ пяклі і зацірку варылі.* Кіралі Шчуч. *Прыварковай мукі ўсыпаў цяляці* [з ячменю і грэчкі]. Ухвала Круп. *Мука праварковая — ячная, бабовая, гарохавая, пшонная — з чаго варылі прыварак.* Груздава Паст. *Праварковая мука.* Рыбчына Віл. *Праварковая мука, прыварку нарабіў.* Мярэцкія Глыб. *Прыварковая мука — крома жытняй.* Ахрэмаўцы Брасл. *Прыварковая мука: усё сабіраюць і пытлююць — і на прыварак.* Старыя Трокі Трак. *Прыварковы — з мукі ячменнай і грэчневай.* Рудня Чэрв.

ПРЫВА'РОК *гл.* ПРЫВА'РАК

ПРЫВАРО'ШКА *ж.* Звычай, павер'е. ∇ *Прываропіка такая была: хто ў гародзі сеіць лён, той гаспадар вон! — бесхазяйственны чалавек. Прываропіка была такая: хто недасеў зрабіў, таму смерць.* Курапалле Паст.

ПРЫВАРЫ'ЦЬ *зак.* Паварыць некаторы час. *Прывару яшчэ траха.* Дакудава Лід.

ПРЫВА'ТНЕ *прысл.* у знач. *пабоч.* Уласна. *Ты ш, прыватне, парабі.* Крэва Смарг.

ПРЫВА'ТНЫ, ПРАВА'ТНЫ *прым.* Уласны. *Ён быў прыватны доктар.* Крэва Смарг., Магуны Паст. *Калі праватны будынак — дак хазяін, калі калхозны, то прытсядацель должан заплаціць.* Купчалі Брасл.; *параўн.* польск. *prywatny* 'тж'.

ПРЫВЕ'ДЖАНЫ *дзеепрым.* Прыведзены. *Карова выведжана і прыведжана.* Ракаўскія Швянч.

ПРЫВЕ'ЗЦІ, ПРЫВЕ'СЦІ, ПРЫВЯЗЦІ' *зак.* Прывезці. *Былі лівернай прывёшшы, прывезлі лівернай.* Паляцкішкі

Воран. *Прывязле сена.* Вялікія Баяры Шчуч. *Хлеп прывезлі.* Альхоўка Навагр. *У калхоз прывёшшы ўдабрэня, учора прывезлі.* Старыя Трокі Трак. *Прывезла цукру з крамы.* Стральцы Шальч. *Воўны Валя прывёшшы, і я прывязу. Учора прывёшшы хлеп, а хто прывёс?* Лісна В.-Дзв. *Прывёс паціфон. Прывёс мех жыта. Купіў і прывёс. Хлеп прывёс.* Саланое Віл. *Учора прывёс з галавэ мяса.* Парэчча Гродз. *Прыўёс іх дахаты.* Кузьмічы·Люб. *З Вілейкі доктара прывязлі.* Асавец Віл. *Прывязла крупы.* Малі Астр.

ПРЫВЕ́ЗЦІСЯ *зак.* Тое ж, што і прывéзці. *А мукі прывязліся?* Ёдлавічы Брасл.

ПРЫ́ВЕН *гл.* ПРЫ́ВЯН

ПРЫВЕ́С *м.* Прыбаўленне ў вазе. *Німала прывесу ў каровы, бо ён ня можыць, кап скаціна няеўшы была.* Груздава Паст.

ПРЫВЕ́СЦІ I, ПРЫВЯСЦІ́, ПРАВЯСЦІ́ *зак.* 1. Прывесці. *Прывялі яго да дзеўкі, ён ёй панаравіўся, яна яму панаравілася.* Дарава Лях. *Вы ні прывідзіце карову?* Жылі Іўеў. *Гнядую карову прывёў.* Сонічы Гродз. *Ні мох прывясці каня.* Сакаляны Сакол. 2. Запрасіць. *Дочка плахіх людзей ні прывідзець.* Ахрэмаўцы Брасл. 3. Узяць за жонку. *Ён прывёўшы дзеўку маладую, прывёў дзеўку.* Рагулішкі Даўг. 4. Нарадзіць. *Старая баба — і прывяла дзіця.* Дакудава Лід. *У той гот Ганна прывяла дзіця.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Прывяла дзіця Алена.* Збляны Лід. *Нюшка прывяла дзіця.* Стральцы Гродз. *Дзіця прывяла.* Рыбчына Віл. *Два гады свінню хаваем і не прывядзе парасёнка.* Паляцкішкі Воран. *Прывяла дванаццаць штук парасяткаў, і ўсе паршучке.* Кіралі Шчуч. *Наша карова цялушкі не прывядзе, усё быкі.* Альхоўка Навагр. *Мая карова цялушкі ні прывядзе.* Альхоўцы Лях. *Авечка, бывае, і чвора прывядзе ягнят.* Грыкені Вільн. *Праз ноч дзіця правяла.* Лоск Валож.

ПРЫВЕ́СЦІ II *гл.* ПРЫВЕ́ЗЦІ

ПРЫВЕ́СЦІСЯ *зак.* Тое ж, што і прывéсці I, 1. *Я прывёўся с кароўкай.* Магуны Паст. *Пятух прывёўся* [прывёў курэй], *кап кармілі.* Солы Смарг. *Прывялася яна з Міхалінай да нас.* Ёдлавічы Брасл.

ПРЫВЕ́Т *м.* Добрыя адносіны. ∇ *Не дораг абед, дораг прывет.* Кіралі Шчуч.

ПРЫВЕ́ТЛІВЫ *прым.* Добразычлівы. *Іван — прыветлівы чалавек.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПРЫВЕ́ЦІЦЦА *зак.* Прывітацца. *Пры сустрэчы паздароўкалася, прывецілася.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПРЫВІ́Д *м.* Знешні выгляд. *Гэта завісіць ад прывіду чалавека.* Малі Астр.

ПРЫВІ́ДЖВАЦЦА *незак.* Здавацца. ∇ *Да пеўня* [пакуль певень не запяе] *гэтыя страхі прывіджваліся.* Рыбчына Віл.

ПРЫВІ'ДЗІЦЦА *зак.* Уявіць. *Прывідзілась, што ўся маладзёш вучыцца,— паехаў паступаць.* Буды В.-Дзв.

ПРЫВІЗА'ЦЬ *гл.* ПРЫВЯЗА'ЦЬ

ПРЫВІНІ'ЦЦА *гл.* ПРАВІНІ'ЦЦА

ПРЫВІ'НЧАНЫ *дзеепрым.* Прышрубаваны. *Там жа пятля прывінчаная.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПРЫВІТА'ЦЦА *зак.* Тое ж, што і п р ы в е́ ц і ц ц а. *Прывіталіся мы.* Старыя Смільгіні Воран. *Прывітаўся ён з намі.* Гальшаны Ашм. *Прышоў і прывітаўся.* Малькуны Ігн.; *параўн.* польск. *przywitać się* 'тж'.

ПРЫВО'ДЗІЦЬ *незак.* Прыводзіць. *Прыводзілі мядзведзя вучонага.* Латыгаль Віл. *Прыводжу авечку на продаш.* Крынкі Крын.

ПРЫВО'ЗІЦЬ *незак.* Прывозіць. *Прывозіць у Ашмяну.* Гальшаны Ашм. *З Баранавіч прывозілі тавар.* Дзераўное Стаўб.

ПРЫВУ'ЧАВАЦЦА *незак.* Прывучвацца. *Яна прывучаваецца есці. Трэба прывучавацца.* Лоск Валож.

ПРЫВУЧА'ЦЬ *незак.* Прывучваць. *Цялё навязваюць або прывучаюць хадзіць з быдлам.* Альхоўка Навагр.

ПРЫВУ'ЧВАЦЬ *незак.* Тое ж, што і п р ы в у ч а́ ц ь. *Трэба прывучваць да работы.* Альхоўцы Лях.

ПРЫВЫКА'ЦЬ *незак.* Прызвычайвацца. *Сваіх дзяцей не маю, ды да чужых прывыкаю.* Малі Астр.

ПРЫВЫ'КНУЦЬ, ПРЫВЫ'КЦІ *зак.* Прызвычаіцца. *Курчаткі вывеліся, потым курыца кінула іх вадзіць, а яны прывыклі ў бутку хадзіць.* Івашкаўцы Смарг. *Я прывыкла, а ён прывыкці ня мох.* Рыбчына Віл. *Ні магла прывыкці к хлебу.* Саланое Віл. *Хто прывыкшы мець, хто прывык, той хоча мець.* Лісна В.-Дзв. *Як вышла* [замуж], *то прывыкла.* Ахрэмаўцы Брасл. *Прывыкла толькі цёпла есь.* Вострава Маст.

ПРЫВЫ'ЎКА *ж. мед.* Прышчэпка. *Дзяцём прывыўку дзелаіць.* Саланое Віл.; *параўн.* руск. *прививка* 'тж'.

ПРЫВЫ'ЧКА *ж.* Звычка. *А гэта прывычка благая.* Кудзялянцы Шальч. *Прывычку маіць выпіць.* Валынцы В.-Дзв. ∇ *А прывычка хужа няволі.* Малькуны Ігн.

ПРЫВЫ'ЧЛІВЫ *прым.* Які хутка прывыкае да каго-н. *Я натта прывычлівая — скора прывыкаю да людзей.* Малі Астр.

ПРЫВЯ'ЗАВАЦЬ *незак.* Прывязваць. *На ланцугох коні прывязаваюць.* Руднікі Шальч.

ПРЫВЯЗА'ЦЦА *зак. перан.* Надакучыць просьбамі. *Прывяжыцца дзетка і прося.* Гемзы Шальч.

ПРЫВЯЗА'ЦЬ, ПРЫВІЗА'ЦЬ *зак.* Прымацаваць завязваючы. *Ён быў прывязаўшы нітачку, прывязаў нітачку.* Ёдлавічы Брасл. *Калісьці матка да стала дзіця прывяжа і пойдзя рабіць.* Старыя Трокі Трак., Гемзы Шальч. *Былі пры-*

*візаўшы чалавека ў лесі, прывізалі яго, і камары выпілі кроў — памёр.* Валынцы В.-Дзв.

ПРЫВЯ'ЗВАЦЦА *незак.* Прымацоўваць завязваючы. *Да калаўротка прывязваецца кудзеля.* Грыкені Вільн.

ПРЫВЯ'ЗВАЦЬ *незак.* Тое ж, што і п р ы в я́ з а в а ц ь. *Лейцы прывязваюць за вобрацькі.* Чуркі Ашм.

ПРЫ'ВЯЗІНА *ж. буд.* Паплеціна. *Падганяя салому да прывязіны, як крыя страху.* Руднікі Шальч.

ПРЫ'ВЯЗКА, ПРЫ'ВЯСКА *ж.* 1. Прывязь у цэпе. *Прывяска ў цэпе с сурамяці.* Парэчча Гродз. *Прывяска — што прывязвалі біч да цапідла.* Альхоўка Навагр. *Прывяскі ў цэпе е.* Дзяніскавічы Ганц. 2. *буд.* Жэрдка, якой прыціскаюць салому на страсе. *Прывяскай прыжымаюць салому на страсе.* Жодзішкі Смарг. *Прывяскамі прывязвалася салома, калі крылі страху.* Крэва Смарг. *Прывяска — жэрдачка такая. Прывяскамі прывязваюць, калі крыяцца страха.* Гальшаны Ашм. *Прывяскі кладуць, калі ўкладваюць спіну страхі.* Малахоўцы Бар. *Як крылі страху, паверх саломы прывяскі клалі.* Вузла Мядз. *Прывязваем салому прывяскай, кап вецер не сарваў — высякаем простыя ольхі, асінавыя, яловыя, длінныя жэрткі.* Гемзы Шальч. *Стрэхі крылі саломай, а паверх клалі прывяскі, кап салома ня разляталася.* Ракаўскія Швянч. *Прывяскі — жэрткі паверх саломы.* Лайпушкі Ігн.

ПРЫВЯЗЦІ' *гл.* ПРЫВЕ'ЗЦІ

ПРЫВЯ'ЗЫВАЦЬ *незак.* Прывязваць. *Бярозкамі прывязываюць кроквы, штоб страха не выехала.* Старыя Смільгіні Воран. *Прывязываюць поўзямі на страсе.* Крынкі Крын.

ПРЫ'ВЯН, ПРЫ'ВЯНЬ, ПРЫ'ВЕН *м.* Сенцы. *Прывян — дзе хата, прывян і вараўня; мяшкі ставілі ў прыўне. Цяпер — сені, а па-старыннаму — прывян. Прывянь больш у хаці.* Кураполле Паст. *Дзверы ачыніла — і прывян.* Старыя Смільгіні Воран. *Ён у прывяні стаіць.* Саланое Віл. *Мяшкі становяць у прыўня: прывян, тады хата.* Кіралі Шчуч. *І вядро, і дзежачку паставіш у прывян, стаіць дзежачка ў прывяну, а цяпер — сенцы.* Малькуны Ігн. *Пусціла ў прывян катка. Кошка ў прыўні сядзіць.* Вузла Мядз. *Прывен — прыбудова к хаце, як сенцы.* Латыгаль Віл. ▽ *У прывяні на кукарэчыня раздзірач вісіць* [у сенцах на кру́ку ручнік вісіць]. Саланое Віл.; *параўн.* літ. *prvenē* 'тж'.

ПРЫВЯ'НУЦЬ *зак.* Крыху завянуць. *Трава прывяне, потым схне.* Альхоўцы Лях.

ПРЫВЯСЦІ' *гл.* ПРЫВЕ'СЦІ І

ПРЫ'ГАВАРАЗКА *ж.* Прымаўка. *Ёсць такія ба́бскія прыгаваразкі.* Пацаўшчына Дзятл.

ПРЫГАВО'Р *м.* Тое ж, што і п р ы́ г а в а р а з к а. *У нас гэтага прыгавору нет.* Ахрэмаўцы Брасл. *Такі прыгавор ёсць.* Рагулішкі Даўг. ▽ *Я помню, у маткі была шнуроўка,*

*на вяровачку зашнуроўвалася; быў прыгавор такі: «Прадай, бацька, кароўку і купі шнуроўку, бо людзі смяюцца, што сісёнкі трасуцца».* Валынцы В.-Дзв. *Прыгавор такі быў: «Не есце прыгаркі, бо жыватке будуць балець». Кап сціх дошч, прыгавор такі: «Дождзжык, дождзжык, секані!»* Дарава Лях. *Прыгавор водзіцца: «Хлеп — ні нівеста, з'есца, другі будзіць».* Масішкі Красл.

ПРЫГАВО'РКА *ж.* Тое ж, што і п р ы́ г а в а р а з к а. *Ест у нас прыгаворка такая.* Новікі Гродз. *А я дык прыгаворак ні знаю.* Пярэкі В.-Дзв. *А так прыгаворка з даўных часоў.* Міратычы Карэл.

ПРЫГА'ДАВАЦЬ *незак.* Гаварыць, лічыць. *Старыя людзі прыгадаваюць, што курыца прапіяла на нішчасця.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПРЫ'ГАЛАВАК *м.* Спінка ў ложку. *Прыгалавак у ложку, дзе подушка ляжыць.* Вялікія Баяры Шчуч. *Два прыгалаўкі ў лосцы. Лахман які павесяць на прыгалаўку — і вісіць.* Кіралі Шчуч.

ПРЫГАЛАВА'ШКА *ж.* Месца каля пярэдняй спінкі ложка. *Паставіць паціфон у прыгалавашку.* Шамялі Брасл.

ПРЫ'ГАЛАВАШКІ *мн.* Два палены, на якія кладуць дровы ў печы. *Прыгалавашкі кладом дзве, а зверху дрова на іх. Прыгалавашкі — прадоўжных дзве палкі, якія кладуць у печ.* Вецярэвічы Пух.

ПРЫГАЛО'ВЯЦ *м.* Тое ж, што і п р ы́ г а л а в а к. Жодзішкі Смарг.

ПРЫГАЛО'ЎНІК *м.* Вузгалаўе ў возе. *Прыгалоўнік — дзеравянны брусок, у каторы ручкі ўсуваюцца, а да ручак — драбіны і доскі. Таксама прыгалоўнікі і шворан, на шварні паварот.* Чычалі Швянч.

ПРЫГАНЯ'ЦЬ *незак.* Прыганяць. *Прыганяюць кароў у пяць часоў.* Кемялішкі Астр.

ПРЫГА'РАВАЦЬ *незак.* Прыгараць. *Прыгаравая бульба да катла. Прыгаравая каша.* Лоск Валож.

ПРЫ'ГАРАДЫ *мн.* Загарадкі. *Ішоў прыгарады строіць — у хлеве адгараджаваць катухі.* Вецярэвічы Пух.

ПРЫГА'РАК *м.* Прыгарка. *Прыгаркі ад бульбы.* Лука Нараўк.

ПРЫГАРА'ЦЬ *зак.* Дадаткова ўзараць. *Трошку прыгарэ.* Паляцкішкі Воран.

ПРЫГА'РАЧКА *ж. памянш.* да п р ы г а́ р а к. *Каша як паджарыцца, румяна робіцца, с прыгарачкай.* Мсцібава Ваўк.

ПРЫ'ГАРАШЧЫ *гл.* ПРЫ'ГАРШЧЫ

ПРЫГА'РКА *ж.* Тое ж, што і п р ы г а́ р а к. *Прыгарка на картофлі.* Рыбчына Віл. *Прыгарка на варанай картоплі зверху.* Альхоўцы Лях. *Мама, знімі прыгаркі мне, яны смашныя.*

Кіралі Шчуч. *Два саганы картофлю варылі, прыгаркі смашныя былі.* Мсцібава Ваўк. *Прыгаркі ў картофлі.* Пацаўшчына Дзятл. *Прыгаркі дзеці хватаюць.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Часам малако прыгарыць ці каша, то прыгаркі кажуць. У пячэ калісь варылі ў гаршкові, былі прыгаркі такіе с картохель.* Баброўнікі Гарад. *Прыгаркі смачныя.* Беразіно Докш., Рудня Астравітая Чэрв., Пасека Ст.-Дар.

ПРЫГАРНУ'ЦЬ *зак.* Даць прытулак. *Нада ш і мне прыгарнуць да сібе сірату.* Валынцы В.-Дзв.

ПРЫ'ГАРШЧЫ, ПРЫ'ГАРАШЧЫ, ПРЫ'ГАРШЫ, ПРЫ'ГО'РШЧЫ толькі *мн.* Прыгаршчы. *Ні адных прыгаршчаў мукі.* Рыбчына Віл. *Набраў у прыгаршчы вады.* Сакаляны Сакол. *Тры прыгаршчы жыта насыпаў.* Воўкуш Ліпск. *Каб грыбоў хоць прыгаршчы.* Ёдлавічы Брасл. *Прыгаршчы мукі ўсыпала.* Міратычы Карэл., Дзяніскавічы Ганц. *Прыгаршчы жыта змеля.* Вецярэвічы Пух. *Дзвемі рукамі ўзяў — прыгаршчы. Двоя прыгаршч. Колькі прыгаршчаў?* Рудня Астравітая Чэрв. *Тут і трох прыгаршчаў няма. Са прыгарашчы ўсыпаў мукі.* Альхоўцы Лях. *Кіпіць вада, прыгаршы мукі зварым і варым саладуху.* Дакудава Лід. *Пры́горшчы мукі.* Дзмітравічы Кам. *Ягат — хоць прыго́ршчамы грабі.* Кураполле Паст. *Дзержыць у прыго́ршчы.* Саланое Віл. *Прыго́ршчамі сыпала муку.* Асавец Віл. *Прыго́ршчы ягат. Колькі прыго́ршчаў мукі?* Мярэцкія Глыб. *Сабрала прыго́ршчаў троя ягат.* Лісна В.-Дзв.

ПРЫГАТАВІ'ЦЬ *зак.* Падрыхтаваць, прыгатаваць. *Я толькі прыгатую.* Лоск Валож. *Аляксюк дрэва прыгатавіў. Сам катлеты прыгатавіў. Прыгатавіў сабе вячэру.* Паляцкішкі Воран. *Свіням зеля нарваць і прыгатавіць.* Старыя Смільгіні Воран. *Ці яна прыгатавіла мне? Прыгатаві мне ворчак круп. Я крапіву прыгатавіла.* Малі Астр. *Прыгатавіў збожа да пасеву.* Старыя Трокі Трак.; *гл.* п р ы г а т о́ в і ц ь.

ПРЫГАТАЎЛЯ'ЦЬ *незак.* Падрыхтоўваць. *Нечага мне прыгатаўляць.* Пасіене Лудз.

ПРЫГАТО'ВІЦЬ *зак.* Тое ж, што і п р ы г а т а в і ц ь. *Прыгатовілі мы здаль для вас.* Гальшаны Ашм.; *параўн.* руск. *приготовить* 'тж'.

ПРЫГЛАША'ЦЬ *незак.* Запрашаць. *Сколька яго ні прыглашалі — не ідзець.* Кіралі Шчуч. *Ані я яго прыглашаю, ані я яго прасіць буду.* Малі Астр.; *параўн.* руск. *приглашать* 'тж'.

ПРЫГЛЕ'ДЗІЦЬ *зак.* 1. Дагледзець. *Дзеўка пашла ў Нёман, ніхто не прыгледзіў — і ўтапілася.* Дакудава Лід. *Не прыгледзь яго, то і не найдзеш. Я не прыгледзіла яго. Нада прыгледзіць.* Саланое Віл. *Ты прыглядзь хату.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Ператаміць (пра зрок). *Не глядзі — вочы прыгледзіш.* Кураполле Паст.

ПРЫГЛЁДВАЦІСА *гл.* ПРЫГЛЯ'ДУВАЦЦА

ПРЫГЛУХАВА'ТЫ *прым.* Глухаваты. *Міхась прыглухаваты, ня чуя, глухаваты.* Кіралі Шчуч.

ПРЫГЛЭ'НБІЦЬ *зак.* Забіць прыціснуўшы. *Я муху прыглэнбіла, прыціснула.* Малі Астр.; *парайн.* літ. *priglembyti*< польск. *przygnębić* 'тж'.

ПРЫГЛЯ'ДУВАЦЦА, ПРЫГЛЁДВАЦІСА *незак.* Прыглядацца. *Мы прыглядуемся.* Азяраны Раг. *Бусел прыглёдваецца і збірае вужэ.* Вялікі Краснік Пруж.

ПРЫГНА'ЦЦА *зак.* Прыгнаць жывёлу з поля. *Пастухе прыжануцца, павырываюць брушку.* Парэчча Гродз.

ПРЫГНА'ЦЬ, ПРЫГНА'ЦІ *зак.* 1. Прыгнаць. *Скора прыжануць каровы. Ён прыгноў каровы.* Парэчча Гродз. *Прыганю каровы — дзіця пілную.* Гальшаны Ашм. *Прыжэнь дахаты!* Вялікія Баяры Шчуч. *Прыжэнеце калхозны каровы!* Вострава Маст. *Зара прыжане ойца.* Старое Сяло Зэльв. *Прыжанеш парасята — пакормім.* Навасёлкі Свісл. *Каня прыгнаў, будзя шчэ араць.* Азяраны Раг. *Прыжэне тавар.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Свіне прыжэнут.* Ялова Пруж. 2. Даставіць машыну. *Ідзеця прыжэньця машыну!* Парэчча Гродз.

ПРЫГО'ЖЫ *прым.* Прыгожы. *Прыгожы хлопец.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПРЫГО'МНІК *м.* Тое ж, што і п р у́ г м е н е. *Прыгомнік каля гумна, трава расла. На прыгомніку сядзяць — каля хлява, за засайкамі.* Дзяніскавічы Ганц.

ПРЫГО'Н, ПРЫГУО'Н *м. гіст.* Прыгон, паншчына. *Пат прыгонам рабілі.* Граўжышкі Ашм. *Дзет быў ключнік, у прыгоні служыў, самым прыгонам жаніўся.* Курапалле Паст. *На прыгон хадзілі.* Мярэцкія Глыб. *Ганялі і на прыгон, усяго было.* Беразіно Докш. *Мая матка пры прыгону работала, есь мала давалі — і работалі.* Лісна В.-Дзв. *Ён прыгон помніць, усе ўспамінаіць, як ганялі на прыгон.* Ёдлавічы Брасл. *Атраблялі прыгон.* Глівін Барыс. *Муж паехаў у поле на прыгон.* Талейкі Швянч. *Дзядуля хадзіў у прыгон.* Ракаўскія Швянч. *Смалячкі жглі да прыгону.* Буды В.-Дзв. *Тут прыгон быў. Ацец у прыгоне быў тольки малышом.* Мельнікі Лудз. *Расказывалі, быў прыгон.* Навікі Лудз. *Хадзілі на прыгон, рабілі прыгон.* Рудня Астравітая Чэрв. ◇ *Оддаті овэчкі в прыгуон* — аддаць авечкі на пашу іншаму гаспадару. Курашэва Чыж.

ПРЫГО'РАК *м.* Узгорак. *С прыгорка катаемса саначкамі.* Парэчча Гродз. *На полі называюць прыгоркі, а на балоці — бугрэ.* Баброўнікі Гарад.; *парайн.* руск. *пригорок* 'тж'.

ПРЫГО'РАЧАК *м. памянш.* да п р ы г о́ р а к. *На прыгорачку стаялі.* Грыкені Вільн. *Маленькі прыгорачак.* Альхоўка Навагр.

ПРЫГО'РБІЦЦА *зак.* Крыху згорбіцца. *Прыгорбілася,*

*плохінька адзета; как у горадзе зіму пабудзіць, бялейшая зробіцца.* Навікі Лудз.

ПРЫГО'РВАТЫ *незак.* Заворваць. *Гнуой розбывалі, рострэсалі, і мушчына шов, прыгорвав ёго.* Горск Бяроз.

ПРЫ'ГО'РШЧЫ *гл.* ПРЫ'ГАРШЧЫ

ПРЫГО'ЎТАЦІСА *зак.* Супакоіцца. *Забыласа, прыгоўталаса там.* Смаляніца Пруж.

ПРЫГРАЖО'НЫ *дзеепрым.* Запужаны. *Ён не прыгражоны.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПРЫГРЭ'БАЧКА *ж. памянш.* Невялікі склеп. *Кап была ў мяне якая прыгрэбачка — гэта пограп.* Масілавічы Сл.

ПРЫГУМЕ'НІК *гл.* ПРЫГУМЕ'ННІК

ПРЫГУМЕ'НІЦА *ж.* Тое ж, што і п р у́ г м е н е. *Прыгуменіца каля гумна.* Альхоўцы Лях.

ПРЫГУМЕ'ННЕ, ПРЫГУМЕ'НЁ, ПРЫГУМЕ'ННЯ, ПРАГУМЕ'НЯ *н.* Тое ж, што і п р у г м е́ н е. *Прыгуменне ля гумна.* Пасека Ст.-Дар. *Прыгуменё, ці прыгуменіца, каля гумна, дзе сушылі сено.* Альхоўцы Лях. *Прыгуменя было каля гумна.* Вецярэвічы Пух. *Прагуменя там, дзе гумно.* Тухавічы Лях.

ПРЫГУМЕ'ННІК, ПРЫГУМЕ'НІК, ПРЫУМЕ'ЛЬНІК *м. буд.* Прыбудова да гумна. *Прыгуменнік — як навес.* Гальшаны Ашм. *Да гумна ставіўся прыгуменік.* Гемзы Шальч. *Прыумельнік — прыбудова да гумна.* Быстрыца Астр.

ПРЫГУМЕ'ННЯ *гл.* ПРЫГУМЕ'ННЕ

ПРЫГУМЁНКА *ж.* Тое ж, што і п р ы г у м е́ н н і к. *Асеці — мо гэта прыгумёнкі з трох сцен?* Жодзішкі Смарг.

ПРЫГУ'МКІ *мн.* Тое ж, што і п р ы г у м е́ н н і к. *Прыгумкі — прыстройкі пры гумне.* Магуны Паст.

ПРЫГУО'Н *гл.* ПРЫГО'Н

ПРЫГУ'РАК *м.* Тое ж, што і п р ы г о́ р а к. *Прыгурак — дзе дол.* Быстрыца Астр. *На прыгурку Марыя жывець.* Гальшаны Ашм. *Сухая зямля, а тут прыгурак.* Плябанцы Ашм. *Там прыгурак.* Малахоўцы Бар. *Там яма і прыгуркі.* Руднікі Шальч.

ПРЫГУ'РАЧАК, ПРЫГУ'РАЧАК *м. памянш.* да п р ы г у́ р а к. *Гладкі хвашчак на прыгурачках расце.* Кіралі Шчуч. *С прыгурачка пускаў уніз.* Быстрыца Астр. *Прыгурачак быў, і бяроза стаяла пры самай дарозя.* Гемзы Шальч.

ПРЫДАБРЫ'ЦЦА *зак.* Паддабрыцца. *Прыдобрыцца на заўтра — і жыве.* Гемзы Шальч.

ПРЫДАБЫ'ЦЬ *зак.* 1. Зарабіць. *Што рукамі прыдабудзям, тоя маям.* Слабада Мін. 2. *экспр.* Нарадзіць. *Мальчыка прыдабылі.* Альхоўцы Лях.

ПРЫДАВА'Ц *незак.* У выразе: *Прыдавац смерці* — паз-

баўляць жыццця. *Як хто сам сабе прыдаец смерці, то кажам спрындзіўся.* Парэчча Гродз.

ПРЫДАВА'ЦЦА *незак.* Прытварацца. *Харошыя людзі— нельзя прыдаваца.* Парэчча Гродз. *Як я захварэю, яна кажа: «Ты прыдаесся, не хочаш рабіць».* Кіралі Шчуч.

ПРЫДА'НКА *ж. абрад.* Дружка. *Прыданка на вяселлі.* Ністанішкі Смарг. *Прыданка — жанатая жанчына, якая ехала за маладой.* Вузла Мядз.

ПРЫ'ДАНЬ *ж.*, ПРЫ'ДАНО, ПРЫ'ДАННА, ПРЫ'ДАНАЯ *н. абрад.* Пасаг. *Прыдань давалі: палатна давалі, ручнікі, кублы былі, куфар.* Малькуны Ігн. *Прыдано даюць яе бацьке.* Малахоўцы Бар. *Прыданна далі, пасагу.* Ністанішкі Смарг. *Далі мне прыданая.* Гальшаны Ашм. *Прыданая складалі ў куфры.* Рагулішкі Даўг.; *парайн.* руск. *приданое* 'тж'.

ПРЫДА'НЫЯ *мн.*, ПРЫДА'НЭ *н. абрад.* 1. Удзельнікі вяселля, якія суправаджаюць маладую. *Як едуць у свадзьбу жанатыя, то гэта прыданыя.* Мярэцкія Глыб. *Маладыя бярэ маладую, едзя ў прыданыя.* Дакудава Лід. *Прыданыя з яе боку — маладой.* Вецярэвічы Пух. *Прыданыя прыедуць.* Пасека Ст.-Дар. *Як прыданэ прыйіедэ, то разны пісніе співают сміешны.* Курашэва Чыж. 2. Маладыя з бацькамі маладога ў гасцях у бацькоў маладой. *Прыданэ в іх.* Курашэва Чыж.

ПРЫДА'ТАК *м.*, ПРЫДА'ТКІ *мн.* 1. Даплата. *Як мяняеш любую жэч, як мая горшая, а яго лепшая, ён патрабуе прыдатку, прыдаці.* Гемзы Шальч. *Што дасі прыдатку? Прыдатак — гэта дадатак пры замене адно на другое.* Номікі Бабіц. 2. Дабавачная зямля да асноўнага надзелу. *Прыдатак — дадатак да граматнай* [спадчыннай] *зямлі, у другом месці дадатак давалі.* Дакудава Лід. *Прыдаткі — давалася зямля на прыдаткі, прыдаткамі сарвітут называлі.* Жылі Іўеў. *Прыдаткі — давалі ўчасткі зямлі.* Быстрыца Астр. *Прыдаткі — дзеляць зямлю, а патом промах, так вот даецца троху. Наша поле — былі шнуры і прыдаткі. А прыдаткі — дабавачнае поле.* Латыгаль Віл. *Прыдаткі — называлі зямлю, якую дадавалі да асноўнай зямлі, надзела.* Рыбчына Віл. 3. Кароткі загон. *Поле як кароткае, то называлі прыдаткі.* Вецярэвічы Пух. *Прыдатак — кароткі загон. Купілі зямлі: былі прадольныя, а там папярочныя прыдаткі, кароткія загоны.* Вязынка Маладз. *Прыдаткі — вузенькія кароткія палоскі: адна палоска ў адным месцы, другая — у другім.* Малахоўцы Бар.

ПРЫДА'ЦЦА *зак. безас.* Здацца. *Ёй прыдалося, што чорны сабака па ёй ежджая, можа, сук паляцеў ды стукнуў па галаве, ды па тэмю чэрці паехалі. А мне прыдалося, як полям хадзіла. Мне адзін рас прыдаўся маляц, ён казаў: «Як памру, то буду цябе праважаць» — і правёў.* Ёдлавічы Брасл. *Яму прыдалосё.* Мсцібава Ваўк.

ПРЫДА'ЦЬ *гл.* ПРАДА'ЦЬ

ПРЫДА'ЧА *ж.* Дадатак да чаго-н. ∇ *За неўдачу даюць прыдачу.* Мачаск Бярэз. *Хотів і хорошу дівку взяты, і шэ посаг добрый! О не, до вдачы ны будэ прыдачы!* Сіманавічы Драг.

ПРЫДВЕ'ЧНЫ *прым.* Стары. *Мала прыдвечных людзей.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПРЫДЗЕ'ЛАК *м.* Скрынка ў куфры. *Раньша былі куфры: пад векам прыдзелак для нітак, там іголкі, гузікі — усякая мелач.* Малахоўцы Бар.

ПРЫДЗЕ'ЛАЦЬ *зак.* Прымацаваць. *Кусочак дубіны аборачкай прыдзелалі.* Азяраны Раг.

ПРЫДЗЕ'РЖАВАЦЬ *незак.* Прыберагаць. *Як прыдзержаіш, усё думаіш: на дальнейшае — масла ці што лепшае з яды.* Курапалле Паст.

ПРЫДЗЕ'РЖЫЦЬ *зак.* Прытрымаць. *Я чуць устаць, а яны міне прыдзержылі.* Валынцы В.-Дзв.; *параўн.* руск. *придержать* 'тж'.

ПРЫДЗІРА'ЦЦА *незак.* Чапляцца. *Яна стала да яе прыдзірацца, а тая вадзіцца.* Малі Астр.

ПРЫДЗІ'РЛІВЫ *прым.* Прыдзірлівы. *Стася прыдзірлівая стала.* Малі Астр.

ПРЫДЗІ'СЯ у *знач. пабоч.* 1. Вось. *Вот хлапочыць, хлапаціцца, кап ёй ні папала; прыдзіся, і Зіна лётаіць, хлапочыць, кап мужака ні пасадзілі. Прыдзіся,* тры *віткі — чыслінка.* Мярэцкія Глыб. 2. Прыкладна. *Так, прыдзіся, гарцы тры-чатыры лезла ў лупку.* Мярэцкія Глыб.

ПРЫДЗІ'Ў *м.* Сурокі. *Прыдзіў — як здзівюць каго, то называюць прыдзіў, тады гадыня можа ўкусіць.* Саланое Віл.

ПРЫДЗЯ'ЛАЦЬ *незак.* Прымацоўваць. *Прыдзялалі калакольчыкі да дугі.* Азяраны Раг.

ПРЫДЗЯЦІ'НЕЦЬ *зак.* Здзяцінець. *Як стары, то прыдзяцінееш.* Гемзы Шальч.

ПРЫДМЕ'ТА *ж.* Прыкмета. *Буркаўкі ідуць па вадзе — апяць дошч пойдзіць — прыдмета такая.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПРЫДО'БА *ж.* Спрыяльныя ўмовы для гаспадаркі. *Прыдоба ўся каля хаты: крыніцка, рэчка, лес.* Пасека Ст.-Дар. *Прыдоба каля хаты.* Багушэвічы Бярэз.; гл. в ы́ г а д а.

ПРЫДО'БНЫ *прым.* Урадлівы. *Прыдобнае поле — харошае поле.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ПРЫДУ'МАЦЦА *зак.* 1. *безас.* Прыйсці на памяць. *Ёй прыдумалася ўсяго.* Ёдлавічы Брасл. *Я так кажу, як мне прыдумалася.* Дзёрнавічы В.-Дзв. 2. *асаб.* Перадумаць пра многае. *Ён прыдумаўся ўсяго.* Ёдлавічы Брасл. 3. *асаб.* Надумацца, вырашыць. *Вот я прыдумалася зрабіць так. Што прыдумацца есці?* Ёдлавічы Брасл.

ПРЫДУ'МАЦЬ *зак.* Успомніць. *Во як прыдумала і сказа-*

*ла.* Малі Астр. *Можна послі прыдумаць, як гэта звуць.* Мсцібава Ваўк. *Ні прыдумаю, дзе мая цадзілка.* Азяраны Раг. ∇ *Добрага не скажу, а дурнога прыдумаю.* Парэчча Гродз.

ПРЫДУМО'ЎВАЦЬ *незак.* Выдумляць. *Прыдумоўваюць, хто што можа.* Мсцібава Ваўк.

ПРЫДУ'РАК *м. экспр.* Прыбудова. *Прыдуркаў нарабілі. Прыдурак — гэта каморка.* Ёдлавічы Брасл.; *параўн.* літ. *priedurà* 'тж'.

ПРЫДУ'РАЧАК *м. памянш.* да п р ы д у́ р а к. *Прыдурачак — гэта каморка. Прыдурачкаў нарабілі.* Ёдлавічы Брасл.

ПРЫДУ'РВАЦЦА *незак.* Прыкідвацца. *Ты тут не прыдурвайся!* Кіралі Шчуч.

ПРЫДУСІ'ЦЬ *зак. пераң.* Прыціснуць (пра хваробу). *Ціфус прыдусіў.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* польск. *przydusić* 'тж'.

ПРЫДУ'ХА *ж.* Недахоп паветра. *Прыдуха пад ільдом — воздуху не хапае рыбе.* Азяраны Раг.

ПРЫДУ'ШНІ *прым.* Прытухлы. *Калодзеж капаў сусед, вада прыдушня, недобрая.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ПРЫДЫ'БАТІ *зак.* Спаткаць. *Я яшчэ ёго прыдыбаю і скажу — нэхай мніе грошы оддасть.* Курашэва Чыж.

ПРЫДЭ'БАЦЬ *зак. экспр.* Ледзь прыйсці. *Прыдэбаў дадому.* Дакудава Лід.

ПРЫЕ'ЗЖЫ, ПРЫЕ'ЖЖЫ, ПРЫЕ'ЖДЖЫ, ПРЫЕ'ГДЖЫ, ПРЫЕ'ЖЛЫ *прым.* Не мясцовы, перасяленец. *Яны прыезжыя. Гэта чалавек прыежжы — прыехаў з другой вёскі.* Кіралі Шчуч. *Прыежжы чалавек.* Калясное Міхал. *Той настаўнік прыежжы.* Падгаі Мін. *Ён быў прыежжы.* Ахрэмаўцы Брасл. *Яны прыежжыі.* Лісна В.-Дзв. *Чудакоў у нас многа прыежджых.* Чапаеўскі В.-Дзв. *Яна прыежджая.* Слабада Мін. *Ён прыежджы. Прыегджы чалавек.* Рыбчына Віл. *Ён не тутэйшы, а прыежлы.* Вецярэвічы Пух.

ПРЫЕ'ЗНЫ *прым.* Тое ж, што і п р ы е́ з ж ы. *У нас адналікі народ, прыезных нема тут.* Відаўцішкі Вільн. *Ён прыезны чалавек.* Завельцы Астр., Навасёлкі Лід., Дарава Лях. *Тут прыезныя людзі жывуць. Яна ў нашай вёсцы прыезна.* Парэчча Гродз. *Прыезныя — чужыя людзі.* Бакшты Іўеў. *Прыезныя людзі.* Жылі Іўеў.

ПРЫЕ'МНА *прысл.* Люба. *Хустачка выпрасавана наглянц — глянуць прыемна.* Солы Смарг.; *параўн.* польск. *przyjemnie* 'тж'.

ПРЫЕ'МЧЫВЫ *прым.* Ветлівы. *Мой зяць прыемчывы. Прыемчывы хлопец.* Міратычы Карэл.

ПРЫЕ'ХАЦЦА *зак.* Прыехаць. *Прыедзіцца дамоў позна.* Кураполле Паст.

ПРЫЕ'ХАЦЬ, ПРАЕ'ХАЦЬ, ПРЫІ'ХАТЫ *зак.* Тое ж, што і п р ы е́ х а ц ц а. *Прыехала дахаты. Прыехала па вайне*

*сюды.* Гальшаны Ашм. *Прыехалі на попел з бежанцаў.* Дарава Лях. *Жыў у нас літовец, пасля вайны прыехаў.* Літва Лях. *Няхай прыедзе, згадае.* Івашкаўцы Смарг. *Прыехаў да нас госць.* Паляцкішкі Воран. *Прыехалі, можэ, скуль?* Канюкай Вільн. *Прыехалі сваты, маці хацела выдаць за багатага, а я любіла беднага.* Малі Астр. *Прыедзе ў сваты — і выдаюць замуж.* Васілевічы Гродз. *Мы праехалі ноччу. Саседзі праехалі за намі.* Пасіене Лудз. *Прыіхале за дровамэ.* Дзмітравічы Кам. ∇ *Прыіхала Манічка с-пуд вынця, сыпала золотцэ з рукавця.* Сіманавічы Драг.

ПРЫ'ЕЦЕЛЬ *гл.* ПРЫ'ЯЦЕЛЬ

ПРЫЁМНЫ *прым.* Тое ж, што і п р ы ё м ч ы в ы. *Якая твая жонка прыёмная.* Кураполле Паст. *Прыёмны, добры хлопец.* Галубы Маст. *Заўсёды з людзьмі, прыёмны такі чалавек.* Беразіно Докш. *Швагерка прыёмная такая.* Пацаўшчына Дзятл.

ПРЫ'ЖАНЫ *гл.* ПРА'ЖАНЫ

ПРЫЖМУ'РЫЦЬ *зак.* Прыплюшчыць. *Прыжмурыў вока.* Лісна В.-Дзв.

ПРЫЖУ'ЧЫЦЬ *зак. перан. экспр.* Прыціснуць. *Як прыжучыў яго, то і прызнаўся. Як прыжучыла: няма кос — к Мірону пашла.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПРЫЖЫВА'ЦЦА *незак.* Абжывацца. *Як сталі людзі прыжывацца трохі, то сталі насіць крамныя штаны.* Чуркі Ашм.

ПРЫЖЫНА'ЦЬ *незак.* Зжынаць. *Прыжыналі пястачку* [жменьку] *жыта.* Ракаўскія Швянч.

ПРЫЖЫ'ЎШЫ *дзеепрым.* Які прыжыўся (пра расліны). *Яны былі прыжыўшыя.* Старыя Смільгіні Воран.

ПРЫ'ЖЫЦЬ *гл.* ПРА'ЖЫЦЬ

ПРЫЖЫ'ЦЬ *зак.* Прыжыцца (пра расліны). *Мая ўся капуста прыжыла харашо.* Рагулішкі Даўг.

ПРЫЖЭ'КНУЦЬ *зак.* Сказаць. *Прыжэкла яму, што яго не любіла. Я не магла яму так прыжэкнуць.* Малі Астр.; параўн. польск. *przyrzekać* 'абяцаць', руск. *речи* 'гаварыць, казаць' (Даль, IV, 99).

ПРЫЖЭ'КЧЫ *зак.* Тое ж, што і п р ы ж э́ к н у ц ь. *Я прыжэкла, што пайду замуш, але мама і слухаць не хацела. Хацела прыжэкчы.* Малі Астр.

ПРЫЖЭ'НІНА *ж. кулін.* Верашчака. *Прыжэніна — мяса ад рэбёр бярэцца, дабаўляецца сала, кладзецца ложка мукі з вадой і тушыцца.* Мішневічы Шум.

ПРЫЗАПА'СІЦЬ *зак.* Назапасіць. *Сколька ты вянкоў на зіму прызапасіла?* Тухавічы Лях.

ПРЫЗАСНУ'ЦІ *зак.* Заснуць на кароткі час. *Учора трохі прызаснулі.* Смаляніца Пруж.

ПРЫ'ЗБА, ПРЫ'ЗЬБА, ПРЫ'СЬБА, ПРЫ'ЗВА, ПРЫ'ЗЬ-

МА *ж.* Прызба. *Нада прызбу мяленням апсыпаць к зіме; даўней мяленням апсыпалі.* Кураполле Паст. *Прызба дзеля холаду, уцяпляюць так.* Гальшаны Ашм. *Прызба каля хаты.* Рыбчына Віл., Навасёлкі Свісл. *Нада прызбу апсыпаць.* Мярэцкія Глыб. *Прызба ля хаты; не было падмуровак — апсыпяць зямлёй. Сядзелі на прызбя.* Гемзы Шальч. *Аткапаюць прызбу, а то падрубы гніюць.* Багушэвічы Бярэз. *Сядзелі на прызбах, цяпер іх не робяць.* Магуны Паст. *Прызба кругом хаты.* Мыто Лід. *Прызбы засыпалі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Бабы сядзяць на прызьбе і плятуць байкі.* Мсцібава Ваўк. *Прызьба каля хаты.* Вялікія Баяры Шчуч., Малахоўцы Бар. *Па прызьбах садзіла цвяты.* Азяраны Раг. *Сыділы на прызьбы.* Сіманавічы Драг. *Гэты чалавек сеў на прысьбу і дачакаўся гаспадара.* Альшаніцы Івац. *Дзелалі прысьбу із кастрыцы, што ў лесе ападае.* Лука Нараўк. *Падмуроўку асыпаюць пяском і кажуць: «Асыпаў прызву».* Альхоўцы Лях. *Прызва ля хаты.* Вецярэвічы Пух. *Абсыпалі прызву, сыпалі песок, штоб цеплей зімой было.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Нада здзелаць прызьму, бо натта дуя пат падрубу. Пойдзім пасядзім на прызьму.* Кіралі Шчуч.

ПРЫЗБІРО́К *м.* Невялікі кошык для ягад. *У прызбірок я́гад набрала.* Пацаўшчына Дзятл.

ПРЫ́ЗВА *гл.* ПРЫ́ЗБА

ПРЫЗВА́ННЯ *н.* Тое ж, што і п р о́ з в і с к а. *На прымака скажуць піндуль — прызвання такоя.* Дакудава Лід.

ПРЫЗВА́ЦЬ *зак.* Даць мянушку. *Прызваў сябе «Капрал».* Быстрыца Астр.

ПРЫЗВО́ЛІЦЦА *зак.* Прызнацца. *Бывае, што прызволіцца, што мае* [яго] *дзіця, але замуж не бярэ, не жэніцца.* Малі Астр.; *параўн.* польск. *przyzwolić* 'дазволіць, згадзіцца'.

ПРЫ́ЗВЫ толькі *мн.* Служба ў арміі. *Прызвы адбыў ён і памёр.* Кіралі Шчуч.

ПРЫЗЕЛЕ́ННЫ *прым.* Няспелы. *Прызеленныя слівы.* Кіралі Шчуч.

ПРЫЗІ́МКІ *мн.* Вясеннія дні з замаразкамі. *Вясной бываюць прызімкі, надаядуць, пачнеш гарады садзіць, а тут снех ідзе.* Жылі Іўеў.

ПРЫЗІРА́ЦЦА *зак.* 1. Углядацца. *Прызіраюся на зоркі.* Галубы Маст. 2. Прыглядацца. *Калісь высце́лалі палатно, то адны на другіх прызіраліся, то потым کралі адны ў другіх тое палатно.* Баброўнікі Гарад.

ПРЫЗНАВА́ЦЬ *незак.* Пазнаваць. *Карова прызнае мяне.* Лісна В.-Дзв.

ПРЫ́ЗНА́НЫ *дзеепрым.* 1. Прызначаны. *Нам пры́знана — мы і вывезім.* Груздава Паст. 2. Устаноўлены (пра дыягназ). *Мне прызна́на дыхавіца.* Рагулішкі Даўг.

ПРЫЗНА́ЦЬ *зак.* 1. Устанавіць. *Урачы прызналі, што*

*здаровая сэрца.* Руднікі Шальч. *Камісія не прызнала здаровым.* Дарава Лях. 2. Пазнаць. *Прызнаў Юзэфу.* Рагулішкі Даўг.

ПРЫЗНА′ЧАНА *дзеепрым.* Наканавана. *Бывая так прызначана рабёнку.* Солы Смарг.

ПРЫЗНА′ЧЫЦЬ *зак.* Адпусціць (сродкі). *Яны нам на дажынкі прызначылі рублей і баранчыка.* Чуркі Ашм.

ПРЫЗО′Р *м.* Кампанія. *Як вып'я, то шукая прызору.* Граўжышкі Ашм.

ПРЫЗЫВА′ЦЬ I *незак.* 1. Прызываць (у армію). *Яга прызывалі ў армію.* Груздава Паст. 2. Прасіць. *Я нікога ні прызываю.* Старыя Трокі Трак.

ПРЫЗЫВА′ЦЬ II *гл.* ПРАЗЫВА′ЦЬ

ПРЫЗЫ′КАЦЬ *зак. экспр.* Прыбегчы (толькі пра кароў). *Каровы прызыкалі дамоў.* Мішневічы Шум.

ПРЫ′ЗЬБА, ПРЫ′ЗЬМА *гл.* ПРЫ′ЗБА

ПРЫІЖДЖЯ′ТЫ, ПРЫІШЧЯ′ТЫ *гл.* ПРЫЯЖДЖА′ЦЬ

ПРЫІ′ХАТЫ *гл.* ПРЫЕ′ХАЦЬ

ПРЫЙДА′К *м.* і *ж.* Тое ж, што і п р а й д з ё х а. *Прыйдак ты!* Якубова Рас.

ПРЫЙМА′ТЫ *гл.* ПРЫМА′ЦЬ

ПРЫЙСЦІ′, ПРЫСЦІ′, ПРЫЙСЦІ′ЦЬ, ПРЫТЫ′ *зак.* 1. Прыйсці. *Прышлі хлопцы. Пашоў у касцюме і прышоў у ім.* Гальшаны Ашм. *Калі яны прыдуць?* Старыя Смільгіні Воран. *Прыдзе Праксэта. Дзякуй богу, што яна не прыдзіць.* Саланое Віл. *Яны прыдуць да мяне.* Старое Сяло Зэльв. *Быў недалёка, але прыйціць не мог.* Гемзы Шальч. 2. Наступіць. *Гады прышлі — у школу пойдзе.* Гальшаны Ашм. ▽ *Прышла Ільяя — высплюся і я.* Вузла Мядз. 3. Выйсці замуж. *Ну вот, дапушчальна, прышла замуж.* Чуркі Ашм. ◇ *Прыйсці ў рукі* — дамагчыся чаго-н. без асаблівых намаганняў. *Нічога само не прыдзіць у рукі, нада самой усё рабіць.* Кураполле Паст. *Прыйсці ў хату* — прыйсці жыць да мужа пасля шлюбу. *Прышла ў хату — муш піў.* Чуркі Ашм. *Прысці па свіных каласох, у свінячы голас* — спазніцца. *Мы ўжо прышлі па свіных каласох — аўтобус пашоў.* Парэчча Гродз. *Прышлы в свынячый голос, як ужэ всі розыйшлысь, да й ныкого ны засталы.* Сіманавічы Драг.

ПРЫЙСЦІ′СЯ *зак. безас.* 1. Давесціся. *Не прышлося мне ў веселе гуляць, толькі — працаваць.* Кіралі Шчуч. *Прыдзецца ў веселе каму ехаць.* Васілевічы, Сонічы Гродз. *Усяго знаць не прыдзецца. Можа, прыдзіцца памерць.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. *перан.* Стаць блізкім каму-н. ▽ *Хто кім брыдзіцца, той таму прыдзіцца.* Завельцы Астр. ◇ *Прысці на памяць* — успомніць. *Мне прышло на памяць, як пан крычаў на служанку, кап яна добра рабіла, не сядзела.* Вузла Мядз.

ПРЫКАЗА′ЦЬ *зак.* 1. Загадаць. *Доктар прыказаў ані*

*мяса свіного ў рот.* Валеўка Навагр. 2. Ужыць трапны выраз. *І скажыць, і прыкажыць, ці быць, ці ня быць, ці жыць, ці ня жыць.* Саланое Віл. *Я люблю нешто смешное прыказаць.* Валеўка Навагр.

ПРЫ'КАЗКА *ж.* Прыказка. *Яна любіла прыказкі паслухаць. Як паўміраюць старыя людзі, не будуць знаць прыказкаў.* Валеўка Навагр.

ПРЫКА'ЗЫВАЦЬ *незак.* Настаўляць, загадваць. *Мне мама прыказывала.* Кіралі Шчуч.

ПРЫКА'ЗЫ *мн.* Настаўленні. *Як па вёсцы, то прыказы ёсць. Матка і бацька прыказвалі, прыказы гаварылі.* Гальшаны Ашм.

ПРЫ'КАЗЬ, ПРЫ'КАСЬ *ж.* Прымаўка. *Прыкась такая была і ёсь.* Груздава Паст. *Ёсць у нас прыкась такая.* Вузла Мядз.

ПРЫКАКО'ШЫЦЬ *зак. экспр.* Забіць. *Прыкакошылі яго.* Мсцібава Ваўк.

ПРЫ'КАЛАТКА *ж. кулін.* Мачанка. *Прыкалатка, ці мачанне,— тое ж самае ў нас.* Глівін Барыс. *Варылі прыкалатку: бульбу пакрышаць і ржаной мукой паткалочвалі.* Вузла Мядз.

ПРЫКАЛЕ'ЧАНЫ *дзеепрым.* Пакалечаны. *Ён некалі прыкалечаны: грудзі таўстыя.* Дакудава Лід.

ПРЫКАЛЕ'ЧЫЦЦА *зак.* Пакалечыцца. *Стукнуўся ў дрэва і прыкалечыўся.* Жодзішкі Смарг.

ПРЫКАПА'ЦЬ *зак.* Неглыбока закапаць. *Прыкапалі іх там.* Саланое Віл.

ПРЫКА'РАНЫ *дзеепрым.* Пакараны. *Гэта ш кара яму, хай сядзіць, як прыкараны.* Кураполле Паст.

ПРЫ'КАРАТКІ *прым.* Караткаваты. *Прыкараткая сукенка.* Ёдлавічы Брасл.

ПРЫКАРЭ'ЦЬ *зак. перан. экспр.* Прычапіцца. ∇*Прыкарэў да міне, як банны ліст да цела.* Малі Астр.

ПРЫ'КАСЬ *гл.* ПРЫ'КАЗЬ

ПРЫКА'ТВАЦЬ *незак.* Прыкачваць. *Прыкатуюць браўном, як лён сеюць.* Азяраны Раг.

ПРЫКАХНУ'ЦЬ *зак.* Задрамаць. *Валік троху прыкахнуў пасля агеньчыка.* Пацаўшчына Дзятл.; *парайн.* літ. *kapnóti* 'драмаць седзячы'.

ПРЫКАЦІ'ЦЦА *зак.* 1. Прыкаціцца. *Прыкаціўся мячык да мяне.* Дварчаны Паст. 2. *перан.* Настаць. *Выпіць валяр'янку, дык сон прыкоціцца.* Груздава Паст.

ПРЫКІ'ДАВАЦЦА *незак.* Прыставаць (пра хваробу). *Рожа прыкідаваецца.* Саланое Віл.

ПРЫКІ'ДАВАЦЬ *гл.* ПРАКІ'ДВАЦЬ II

ПРЫКІ'ДАНЫ *дзеепрым.* Прыпраўлены. *Посная страва*

*і прыкіданая страва. Крупы, прыкіданыя салам. Клёцкі забеленыя і прыкіданыя.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПРЫ'КІДЗЬ, ПРЫ'КІЦЬ *ж. мед.* Запаленне. *Прыкіць прыкідаецца, як разгняцеш крывавы мазоль.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПРЫКІ'ДКА, ПРЫКІ'ТКА *ж.* Тое ж, што і п р ы́ к і д з ь. *Ніякай прыкіткі нет.* Валынцы В.-Дзв.

ПРЫКІДНЫ' *прым.* Ветлівы. *Прыкідны чалавек.* Пасека Ст.-Дар.

ПРЫКІ'НАЦЬ *гл.* ПРЫКІ'НУЦЬ

ПРЫКІ'НУЦЦА *зак.* 1. Прытварыцца. *Ён прыкінуўся п'яным, лёг і захрыпеў.* Ахрэмаўцы Брасл. *Прыкінуўся памершым.* Ёдлавічы Брасл. *Прыкінулася дурной, алі ў бальніцу ўзялі і праверылі.* Пярэкі В.-Дзв. 2. Прыстаць (пра хваробу). *Прыкінулася скула.* Солы Смарг. *Вогнік прыкінуўся, можна ўгнявіць скулу.* Валынцы В.-Дзв. *Зімно, прыкінулася рана, і не гоіцца рука.* Гемзы Шальч. *Агонь прыкінуўся да скулы.* Малькуны Ігн. 3. Прыхінуцца. *Людзі да яго прыкінуліся.* Дарава Лях. 4. Прымераць. *Прыкіньця штаны, жалетку.* Ёдлавічы Брасл.

ПРЫКІ'НУЦЬ, ПРЫКІ'НАЦЬ *зак.* 1. Дабавіць. *Ну, к гэтаму яшчэ штоль прыкіну.* Ухвала Круп. 2. Надзець. *Што прыкінуць мне на олаву, штоб мухі не кусалі.* Старыя Смільгіні Воран. 3. Заправіць. *Бывала, зупу алеем прыкінуць і ядуць.* Лайпушкі Ігн. *Ці прыкінаць гаршчок?* Мярэцкія Глыб.

ПРЫКІПЕ'ЦЬ, ПРЫКЫПІ'ТЫ *зак. перан.* Доўга не ўставаць з аднаго месца. ∇ *Села баба і прыкіпела.* Мыто Лід. *На горі кумарі, а в долыны гусы, прыскакав-прыгуляв козак до Марусі; а в Марусі ґанкы, малёваны лавкы, як сів — прыкыпів, вычэраты ны схотів.* Сіманавічы Драг.

ПРЫ'КЛАД, ПРЫ'КЛАТ *м.* Надмагільны помнік. *Прыклат клалі, бы буткі, а патом на магілу клалі брус, называлі прыклат — плашчачок на чатыры канты, і кладуць удоўж магілы, і ставяць маленькага крыжыка. Прыкладоў ні ведаю, верх быў, дна не было.* Дзяніскавічы Ганц. *На магілу клалі прыклад, дліна, як гроп, чатырохкантовы, зверху акругляюць канцы і далатом выдоўбвалі крыжыка.* Дарава Лях.

ПРЫКЛА'ДАВАЦЬ ЦЯПЛО' *незак.* Раскладаць агонь. *Мы прыкладавалі цяпло.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПРЫКЛАДА'ЦЦА *незак.* Прыкладвацца. *Тая нітка прыкладаецца да асновы па краях.* Васілевічы Гродз.

ПРЫКЛАДА'ЦЬ *незак.* 1. Прыкладваць. *Зайчага сала прыкладаюць да нарываў.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Прыціскаць. *Сыр каменям прыкладаюць.* Вецярэвічы Пух. 3. *мед.* Ставіць (п'яўкі). *П'яўку прыкладаюць, як многа крыві.* Гемзы Шальч. 4. Раўнаваць. *Прыкладая таго і таго.* Рудня Астравітая Чэрв. 5. Упарадкоўваць (магілку). *Нада ісці прыкладаць магілкі;*

*дзірваном прыкладаюць з бакоў, толькі верх кідаюць. На радаўніцу нада прыкладаць.* Мярэцкія Глыб.

ПРЫКЛА'ДВАЦЬ I *незак.* Тое ж, што і прыкладáць 1. *Як навярэдзіш руку, прыкладвалі макрыцай і жабай.* Плябанцы Ашм.

ПРЫКЛА'ДВАЦЬ II *незак.* У выразе: *Прыкладваць чалавека* — устанаўліваць надмагільны помнік. Дарава Лях.; *гл.* пры́клад.

ПРЫКЛА'ДЗІНЫ I, ПРЫКЛА'ДЗЕНЫ толькі *мн.* Упарадкаванне (магілкі). *Прыкладзіны — гэта дзірван прыкладаюць з бакоў магілкі.* Мярэцкія Глыб. *Прыкладзены — на дзяды ідуць і магілы абладжваюць, хто крыж паставіць; пліты і крыжы ставяць.* Рыбчына Віл.

ПРЫКЛА'ДЗІНЫ II *мн.* Прырэзкі. *У нашай вёсцы было дваццаць пяць валок зямлі і да кожнай валокі былі прыкладзіны.* Саланое Віл.

ПРЫКЛА'ДНЫ *прым.* Тое ж, што і прыкідны́. *Мой сын прыкладны да людзей, мае падыход.* Солы Смарг.

ПРЫКЛА'СЦІ *зак.* Прыціснуць. *Шчэ сыра прыкласці каменем трэбо.* Мсцібава Ваўк. ◇ *Прыкласці галаву* — заснуць. *Ні спала я ноч, ні прыклала галавы.* Барок Стаўб.

ПРЫКЛЕ'ТНІК *м. буд.* Прыбудова да клеці, свірна. *Прыклетнік — як крыло ў свіран.* Магуны Паст. *Ля свірня прыбудова — прыклетнік звалі, і ўсё там было, травы навешана ўсякай. Прыклетнік з дошчак, такой даўжыні, як свірань.* Груздава Паст. *Вісіць у прыклетніку на круку хвастач.* Саланое Віл. *Прыклетнік быў каля клеці. Прыклетнік — мяшкі ставіць.* Лісна В.-Дзв. *Быў прыклетнік ля клеці.* Азяраны Раг.

ПРЫКЛІ'КАЦЬ *зак.* Даклікацца. *Яго век ні прыклічаш — пабех і пабех.* Стральцы Гродз.

ПРЫКЛЮ'ЧКА *ж.* Падстава для папрокаў. *Адна да аднэй прыключкі мая.* Гемзы Шальч.

ПРЫКЛЮЧЫ'ЦЦА *зак.* Тое ж, што і прыкінуцца 2. *Рак прыключыўся і памёрла.* Чапаеўскі В.-Дзв. *Прыключылася свярбучая жаўтуха.* Вузла Мядз.

ПРЫКЛЯ'НЧУВАЦЦА *незак.* Станавіцца на калена. *Прыклянчуюцца, як танцуюць лянсея.* Івашкаўцы Смарг.

ПРЫКО'МКАЦЬ *зак. экспр.* Пазабіваць. *Прыкомкаю мух венікам.* Ёдлавічы Брасл.

ПРЫКО'ЦАЦЬ *зак. экспр.* Забіць. *Прыкоцаў кабан свінку. Як б'юцца, ды адзін другога прыб'е, то кажуць: «Ён яго прыкоцаў».* Рыбчына Віл.; *параўн.* літ. *kúcas* 'дубіна, палена'.

ПРЫ'КРА *прысл.* 1. Непрыемна. *Яе прыкра слухаць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Цяпер я не завесіў вокны, дык прыкра.* Завельцы Астр. 2. Сумна. *Мне прыкра адной у хаця.* Солы Смарг.

ПРЫКРАПІ'ЦЬ *зак.* Прымацаваць. *Трэба прыкрапіць*

*адно да другога.* Мярэцкія Глыб.; *парайн.* руск. *прикрепить* 'тж'.

ПРЫКРАПЛЯ'ЦЬ *незак.* Прымацоўваць. *Прыкрапляюць адно да другога.* Рудня Астравітая Чэрв.; *парайн.* руск. *прикреплять* 'тж'.

ПРЫКРАСІ'ЦЦА *зак.* Паблякнуць. ∇ *Краса прыкрасіцца, а розум прыгадзіцца.* Мішневічы Шум.

ПРЫ'КРЫ I *прым.* 1. Надакучлівы. *Прыкры ты, такі надаядлівы.* Солы Смарг. 2. Агідны. *Рабакі ружаватыя, прыкрыя нешта.* Солы Смарг. 3. Непрыемны. *Прыкрая — не люблю яе.* Гемзы Шальч. *Прыкры ён мне, глядзець на яго ні магу.* Малахоўцы Бар. *Ты мне такі прыкры, так мне апрыкрый.* Рудня Астравітая Чэрв. 4. Нясмачны. *Прыкрая, нясмашная яда — ясі, а цябе нудзіць.* Рудня Астравітая Чэрв. 5. Нячысты (пра работу). *Хоць работа прыкрая, але я яе зрабій.* Гемзы Шальч.

ПРЫ'КРЫ II *прым.* Абрывісты. *Прыкры — стромы берах, як атсечаны.* Дакудава Лід.

ПРЫКРЫВА'ЦЦА *незак.* Накрывацца. *Ярмяком прыкрываішся.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПРЫКРЫ'ЦЦА *зак.* Быць закрытым для праезду. *Прыкрыласа дарога, другім аўтобусом з другей стороны доедзеш.* Хатынічы Ганц.

ПРЫ'КРЫЦЬ *незак.* Рабіць непрыемнасці. *Прыкраць дзеці адзін аднаму.* Граўжышкі Ашм.

ПРЫКРЭ'ПЛІВАЦЦА *незак.* Прымацоўвацца. *Прыкрэпліваліся спіцы.* Валеўка Навагр.

ПРЫКРЭ'ПЛІВАЦЬ, ПРЫКРЭ'ПЛЯВАЦЬ *незак.* Тое ж, што і п р ы к р а п л я́ ц ь. *Я прыкрэпліваю адно да другога.* Мярэцкія Глыб. *Трэба прыкрэпляваць. Прыкрэпляваяць адно да другога.* Рыбчына Віл.; *парайн.* руск. *прикреплять* 'тж'.

ПРЫКРЭПЛЯ'ЦЦА *незак.* Тое ж, што і п р ы к р э́ п л і в а ц ц а. *Да дышля прыкрэпляўся орчык.* Грыкені Вільн.; *парайн.* руск. *прикрепляться* 'тж'.

ПРЫКРЭПЛЯ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і п р ы к р а п л я́ ц ь. *Лата прыкрэпляе салому.* Рудня Астравітая Чэрв.; *парайн.* руск. *прикреплять* 'тж'.

ПРЫКУКО'БІЦЦА *зак.* Прыладзіцца. *Заяц прыкукобійся і сядзіць. Прыкукобійся і сядзіць цішком, апспакоійся, упярот гаварый ці рабій што. Я нашоў мейсца і прыкукобійся. Ён прыкукобійся і заснуў.* Гемзы Шальч.

ПРЫКУКО'ШЫЦЦА *зак.* Тое ж, што і п р ы к у к о́ б і ц ц а. *Прыкукошыйся ў гэны ўгалок і заснуў.* Гемзы Шальч.

ПРЫКУ'РВАЦЬ *незак. пчал.* Падкурваць. *Калі пчолы начынаюць ляцець, вадой — брысь, прыкурваіць, кап ім некуды было ляцець.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПРЫКЫПІ'ТЫ *гл.* ПРЫКІПЕ'ЦЬ

ПРЫЛАБУ'НІЦЦА *зак.* 1. Падладзіцца. *Прылабуніўся ён да хазяйкі.* Малі Астр. *Яна ўмела прылабуніцца да яго.* Гемзы Шальч. 2. Прывабіць. *Яна хацела прылабуніцца да сябе.* Саланое Віл. 3. Прылашчыцца. *Быў, быў злы, а тэраз прылабуніўся.* Гемзы Шальч.; *гл.* л а б у́ н і ц ь.

ПРЫЛАБУ'НІЦЬ *зак.* Прывабіць. *Прылабуніла сама да сябе чужога мужыка.* Кіралі Шчуч. *Лабуніла, лабуніла і не прылабуніла.* Саланое Віл. *Ён умеў яе прылабуніць да сябе.* Гемзы Шальч.; *гл.* л а б у́ н і ц ь.

ПРЫЛАГО'ДЗІЦЬ *зак.* Прылашчыць. *Прылагодзіла, так яго за руку цягне.* Галубы Маст.; *гл.* л а г о́ д н ы.

ПРЫЛА'ДЖВАЦЦА *незак.* Рыхтавацца. *Снуём і прыладжваемся ткаць, сабіраем у пляцёнку, парым, б'ём пранікамі ніткі, на варстаць ўём.* Дзераўное Стаўб.

ПРЫЛА'ДЗІЦЦА *зак.* Прыстасавацца. *Юзюк любіць прыладзіцца, можа, яму і добра будзіць.* Ёдлавічы Брасл.

ПРЫЛА'ЖВАЦЬ *незак.* Прыкладаць. *Ён прылажваў крываўнік.* Плябанцы Ашм.

ПРЫЛАЖЫ'ЦЦА *зак.* Набыць навык. *Не магла прылажыцца па-руску гаварыць.* Солы Смарг.

ПРЫЛАЖЫ'ЦЬ *зак.* 1. Прыціснуць. *Мачылі лён — жэрткамі, каменямі прыложыць.* Кіралі Шчуч. 2. Прыгнуць (пра расліны). *Як прылажыў вецер лён, так трава наверх.* Індра Красл. 3. Даць мянушку. *Кожнаму было прыложана імя, кожнаму імя прылажылі.* Саланое Віл. 4. Распаліць. *Прылажы цяпло!* Рудня Астравітая Чэрв. 5. *перан.* Прыраўнаваць. *Зара прыложыць Якубіха.* Альхоўка Навагр. ◇ *Хоць да раны прылажы* — пра пакорлівага чалавека. *Добры, хоць да раны прылажы.* Вузла Мядз. *Прылажыць рук* — прыкласці намаганні. *Каб вырасла ў гародзі, нада рук прылажыць.* Бакшты Іўеў.

ПРЫЛАСКА'ВІЦЬ *зак.* Тое ж, што і п р ы л а г о́ д з і ц ь. *Гарэлкай прыласкавіла.* Асавец Віл.

ПРЫЛАТА'ЦЬ *зак.* Залатаць. *Няўжо ш ты не магла прылатаць гэтай манаркі!* Кіралі Шчуч.

ПРЫЛА'ШЧЫЦЦА *зак.* Тое ж, што і п р ы л а б у́ н і ц ц а 1. *Глядзі, штоб не прылашчыўся!* Кіралі Шчуч.

ПРЫЛА'ШЧЫЦЬ *зак.* Тое ж, што і п р ы л а б у́ н і ц ц а 2. *Яна прылашчыць умея, прытуліцца.* Малі Астр.

ПРЫЛГА'НА *дзеепрым.* у знач. *вык.* Прыхлушана. *Дзе праўда, а дзе прылгана.* Лоск Валож.

ПРЫЛЕ'ГЧЫ, ПРЫЛЕ'ХЧЫ *зак.* Прылегчы. *Прылегла, як заяц, дзе ш я засну!* Ахрэмаўцы Брасл. *Я прылёгшы заснула, толькі прылегла.* Кухты Віл. *Німа як прылехчы.* Кіралі Шчуч.

ПРЫЛЕ'ПАК *м.* Патаўшчэнне на нітцы. *Прадзеш роўна, растузгваяш, а то наложыш кудзелю — і прылепак палучаяц-*

*ца. Прадзеш, асобянна войну, кусочак пападзецца — прылепак.* Старыя Трокі Трак.; *параўн.* літ. *prielipas, prilіepa* 'тж'.

ПРЫЛЕ'ПАЦЬ 1. *незак.* Прыклейваць. *Яна сама прылепая марку.* 2. *зак.* Прыкласці. *Прылепала нейку мась — баліць нага, сядзець не магу.* Стральцы Гродз.

ПРЫЛЕ'ПАШ *м.* Нараст на буханцы хлеба. *Прылепашы збоку спечанага хлеба вырастаюць.* Ракаўскія Швянч.; *параўн.* літ. *prielipas* 'тж'.

ПРЫЛЕ'ПЛІВАНЫ *дзеепрым.* Прыліплы. *Прылеплiваны мёд у сцен калоды.* Саланое Віл.

ПРЫЛЕ'ХЧЫ *гл.* ПРЫЛЕ'ГЧЫ

ПРЫЛЕ'ЦЕ'ЦЬ *гл.* ПРЫЛЯЦЕ'ЦЬ

ПРЫЛЕ'ЦІЦЦА *зак.* Падагрэцца. *Як вада прылеціцца, тады паліваць добра.* Саланое Віл.

ПРЫЛЕ'ЦІЦЬ *гл.* ПРЫЛЯЦЕ'ЦЬ

ПРЫЛЁПІСТЫ *прым.* Назойлівы. *Прылёпісты прылепіцца абы к каму.* Азяраны Раг.

ПРЫЛІ'ПНУЦЬ *зак.* 1. Прыліпнуць. *Кашуля прыліпла да плеч.* Навасёлкі Свісл. 2. Тое ж, што і п р ы к і н у ц ц а 2. *Прышоў немец, прынёс каросту — і да міне прыліпла.* Паляцкішкі Воран. *Прыліпнець хвароба.* Ахрэмаўцы Брасл. 3. *безас. перан.* Давесціся. *Мне не прыліпла быць агароднікам.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПРЫЛІЦЕ'ЦЬ *гл.* ПРЫЛЯЦЕ'ЦЬ

ПРЫЛУ'ДЗІЦЬ *зак.* Адбяліць. *Строшкі* [трошкі] *прылудзіла палатно.* Кураполле Паст.; *гл.* л у г II.

ПРЫЛУНЕ'ЎШЫ *дзеепрым.* Не зусім разумны. *Прылунеўшы чалавек — ненармальны, дурнаваты, лунь.* Мярэцкія Глыб.; *гл.* л у н ь II, 5.

ПРЫЛУНЕ'ЦЬ *зак.* Здурнець. *Прылунела баба — ня помня, ня відзя.* Лоск Валож.; *гл.* л у н ь II, 5.

ПРЫЛУ'ПКА *ж.* Тое ж, што і п р а д ў х а 3. *Прылупку прасячэць.* Рыбчына Віл.

ПРЫЛУЧЫ'ЦЦА *зак.* Далучыцца. *Прылучылася я к ім, к тым людзям.* Пярэкі В.-Дзв. *Я к тым прылучылася людзям і іду.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Прылучылася авечка к чужому стаду.* Лісна В.-Дзв. *Прылучылася курыца да чужых.* Валынцы В.-Дзв. *Нейчая чужая прылучылася карова.* Кураполле Паст. *Там прылучыліся і жылі.* Мішневічы Шум.

ПРЫЛЮ'ДНЫ, ПРЫЛЮ'ДНЫЙ *прым.* Спагадлівы. *Прылюдны ён да людзей.* Ракаўскія Швянч. *Баба прылюдна.* Дзяніскавічы Ганц. *Такі добры, ціхі, не скупы — так і называецца прылюдны.* Баброўнікі Гарад. *Такі прылюдны, дружбісты.* Калясное Міхал. *Прылюдна баба прыіхала. Прылюдный чоловік.* Дзмітравічы Кам.; *гл.* л ю д н ы.

ПРЫЛЯ'ПАЦЦА *зак. экспр.* Прычапіцца. *Прыляпаўся да мяне.* Малі Астр.

ПРЫЛЯПІ'ЦЦА *зак.* Тое ж, што і прыля́пацца. *Прыляпіўся да яе, ходзіць і ходзіць.* Валынцы В.-Дзв.

ПРЫЛЯТА'ЦЬ *незак.* 1. Прылятаць. *Птушкі будуць прылятаць. Птушкі прылятаюць.* Мярэцкія Глыб. *Прылятаяць птушкі.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. *перан.* Прыбягаць. *Сарна прылятае да возера.* Грыкені Вільн. *Прылятае кароўка з вяроўкаю.* Дзераўное Стаўб.

ПРЫЛЯЦЕ'ЦЬ, ПРЫЛІЦЕ'ЦЬ, ПРЫЛЕ'ЦЕЦЬ, ПРЫЛЕ'ЦІЦЬ *зак.* 1. Прыляцець. *Зязюля прыляцела і села на галіне.* Дварчаны Паст. *Сарока прылеціць, яйко ў дзюп і палеціць.* Кіралі Шчуч. *Прылеціла ластаўка.* Альхоўцы Лях. *Ён прылеціў.* Лісна В.-Дзв. 2. *перан.* Хутка прыйсці. *Я прыляту, а бабы ўжо папалоўшы.* Паляцкішкі Воран. *Калі ён прыляціць?* Старыя Трокі Трак. *Прыліцела дахаты.* Гальшаны Ашм. *Матка прылеціла.* Альхоўка Навагр. 3. *перан.* Прыехаць. *Яны прылецелі поездам унача.* Парэчча Гродз. 4. *перан.* Прыбегчы. *Прыляцеў шалёны воўк і перакусіў пераносіцу сабаку. Яна прыляціць, як на агонь.* Гемзы Шальч. 5. *перан.* Наступіць. *Прылеціць і лета.* Вялікія Баяры Шчуч.

ПРЫ'МАВІСКА *ж., н.* і *м.,* ПРЫ'МАВІСКО, ПРЫ'МОВІСКО *н.* 1. Прымаўка. *Прымавіска ў нас такая.* Старыя Трокі Трак. *Даўней прымавіска такая была.* Рагулішкі Даўг. *Такой прымавіскі я ні ведаю. Гэтыя прымавіскі справядлівыя.* Малі Астр. *Прымавіска сказала.* Жылі Іўеў. *Прымавіска такоя ў нас. Я табе скажу прымавіска.* Кіралі Шчуч., Парэчча Гродз. *Прымавіско такоя ест. Гэта ўсе даўнейшыя прымавіскі. Усё прымавіскі бываюць.* Гемзы Шальч. ∇*Прымавіска ёсць такі: «Так паможа, як гарбатага магіла параўняя».* Крэва Смарг. *Такая прымавіска ёсць: «Абяцанка — цацанка, а дурню — радасць». У нас ест прымавіска: «У цябе гэдакі парадак, як у Буцькавым кубле».* Солы Смарг. 2. Прывычка паўтараць пэўныя словы, словазлучэнні і г. д. *Такую маю прымавіску.* Жыдзевічы Іўеў. *Прымавіско — калі хто прыгаворвае адно слова за каждым словам.* Міратычы Карэл. *Ганна мае такое прымовіско: «Нэхай ёго хвороба!»* Курашэва Чыж.

ПРЫМА'К, ПРЫМА'КА, ПРАМА'КА *м.,* ПРЫМА'КІ', ПРЫМАКЕ', ПРЫМАКІЕ' *мн.* Муж, які жыве ў сям'і жонкі. *Быў прымак да нас прышоўшы з-за Забалаці.* Паляцкішкі Воран. *Прымака будуц брац.* Парэчча Гродз. *Яе сястра была ўзяўшы прымаку. Прымака прадаець яйкі, а яна бярэць с кошыка ягонага і кладзець сабе ў сумку.* Груздава Паст. *Прымака ў іх.* Гальшаны Ашм. *Прымака наўпрымы ідзе.* Солы Смарг. *Прымаку ўзяла.* Багушэвічы Бярэз., Рудня Чэрв. *У яе прымака.* Малькуны Ігн. *Прышоў прымака.* Чычалі Швянч. *У прымакі яго ўзяўшы.* Пасіене Лудз. *У яе ў вайну быў прамака, пленнага ўзіла.* Індра Красл. *Прамака ў яе быў.* Мярэцкія Глыб. ∇ *У прымакі — хлеп сабакі.* Ахрэмаўцы Брасл.

*Пра прымаку скажуць: «Лепей на лом, чым на дом».* Малькуны Ігн. ◇ *Пайсці ў прымакі, у прымаке, у прымакіе, на прымакі* — пасля вяселля пайсці жыць у сям'ю жонкі. *Пайшоў у прымакі.* Ракаўскія Швянч. *Прышоў у прымаке.* Номікі Бабіц. *Усе тры сынэ пашлі ў прымаке.* Сакаляны Сакол. *Пашоў у прымакіе.* Крынкі Крын. *Быў на прымакі пашоўшы.* Ахрэмаўцы Брасл. *Узяць у прымакі* — пасля вяселля ўзяць мужа ў сваю сям'ю. *О, гэтая Люба свайго мужыка ў прымакі ўзяла!* Бабро́ўнікі Гарад. *Жыць у прымакох* — пасля вяселля жыць у сям'і жонкі. *Жаніўся і жыве ў прымакох.* Стральцы Гродз.

ПРЫМА'КІ. У выразе: *Прымакі вам* — пажаданне добрага прыжывання раслін. *Як садзяць брушку флянсамі, адрываюць кончык карэньчыка, а як хто ў гэты час праходзіць каля гарода, то крычыць: «Прымакі вам!» — каб прымалася, прарастала.* Мсцібава Ваўк.

ПРЫМАНІ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і п р ы л а б у́ н і ц ь. *Я луччага хлопца прыманю.* Кудзялянцы Шальч. *Прыманілі каня і выхадзілі — быў абарваны ўвесь.* Рагулішкі Даўг.

ПРЫМА'НКА *ж. пчал.* Прынада. *Вуль для прыманкі ставілі: рой ідзе ў яго.* Старыя Трокі Трак.; *параўн.* руск. *приманка* 'тж'.

ПРЫМАНУ'ЦЦА *зак.* Прывыкнуць. *Валерка быў прымануўся на лошка лесць.* Жылі Іўеў.; *гл.* п р а м а н у́ ц ц а.

ПРЫМАНУ'ЦЬ *зак.* Прынадзіць. *Дзікі хадзілі к яго дому, к сараю іхняму хадзілі, ён іх прымануў.* Валеўка Навагр.

ПРЫ'МАРАЗКІ, ПРЫ'МАРАСКІ *мн.* Замаразкі. *Прымараскі выскачылі — і прыхваціла буракі.* Ёдлавічы Брасл. *Могуць прымараскі быць.* Мсцібава Ваўк.

ПРЫ'МАСТКА *ж.* Дошка, прыладжаная да печы ці да ложка. *Прымастку каля лошка рабілі або пры печы.* Бабро́ўнікі Гарад.

ПРЫ'МАСТКІ толькі *мн.* Седала. *Я тут прымасткі зрабіла для куранят.* Граўжышкі Ашм.

ПРЫМАЎЛЯ'ЦЬ *незак.* 1. Ужываць прымаўкі, прыказкі. ∇ *Старыя людзі прымаўляюць: «Не капай пат кім яму, бо сам увалішся!»* Кіралі Шчуч. 2. Галасіць. *Яна плакала, прымаўляла.* Кухты Віл. 3. Наймаць. *Прымаўлялі другіх пастухоў.* Валынцы В.-Дзв.

ПРЫМАЦО'ЎВАЦЦА *незак.* Прымацоўвацца. *Ляжаткі — драбіны прымацоўваюцца.* Мыто Лід.

ПРЫМАЦО'ЎВАЦЬ, ПРЫМОЦЁВУВАТЭ *незак.* Прымацоўваць. *Прымацоўваю ніткі да палатна.* Дзераўное Стаўб. *Як ты будыш прымоцёвуватэ?* Дзмітравічы Кам.

ПРЫМА'ЦЬ, ПРЫЙМА'ТЫ *незак.* 1. Прыбіраць адкуль-н. *Пара прымаць бульбоўнік.* Гемзы Шальч. *Прыймай с стола посудок!* Сіманавічы Драг. 2. Закупляць. *Тады ўсялякія прымалі каровы, і старыя.* Альхоўка Навагр. 3. Аказваць дапа-

могу пры родах. *Бапка прымала дзіцё.* Жылі Іўеў. *Бапка прымала дзіця ад радзіхі.* Старыя Трокі Трак.

ПРЫ′МАЧЫ, ПРЫ′МІЧЫ *мн.* ◇ *Ісці ў прымачы, у прымічы* — пасля вяселля ісці жыць у сям'ю жонкі. *У прымачы ішлі — зямелькі мала было.* Саланое Віл. *У прымічы прышоў.* Дакудава Лід., Каменка Стара Сакол.

ПРЫМА′ЧЫ *прым.* Прымацкі. ▽ *Прымачы — хлеп сабачы: яго і жонка, і цёшча пакарае, выганіць вон.* Кіралі Шчуч. *Прымачы — та хлеп сабачы.* Номікі Бабіц. *Кажуць: «Прымачы — хлеп жабрачы».* Баброўнікі Гарад.

ПРЫМГНУ′ЦЬ *зак.* Задрамаць. *Як печ выпалю, тады трохі прымгну.* Груздава Паст.; *парайн.* літ. *primìgti* 'тж'.

ПРЫ′МЕН, ПРЫ′МЯН *м.*, ПРЫ′МЕНЁ *н.* 1. Сенцы. *Прымен — гэто сені. Пастаў у прымян. З прымна мухі ляцяць у хату.* Вострава Маст. *Прымян — гэта сені.* Жыдзевічы Іўеў. *Прымян — прыдзелак к хаця, тут не жывуць; бывая прымян вялікі. Прымян бальшы, паміж хатаю і сцёпкаю, у адным будынку.* Стральцы Гродз. *У прымян вынясу грыбэ. У прымні буду ставіц малако.* Парэчча Гродз. 2. Свіран. *Сверан і прыменё — 'дно і тое ў вёсцы Лоцьве.* Альхоўцы Лях.; *парайн.* літ. *prieme͂nė* 'сенцы'.

ПРЫМЕ′РКА, ПРЫМІЕ′РКА *ж.* Прымерка (пра адзежу). *Можа, Ваньдзі да прымеркі зрабіўшы?* Малі Астр. *Пуйті до прыміеркі.* Курашэва Чыж.

ПРЫМЕ′РНА *прысл.* Прыкладна. *З гэтай губіцы выходзіць адзін дыван: два метры адной полкі і другой, прымерна чатыры сорак.* Малышы Лід.; *парайн.* руск. *примерно* 'тж'.

ПРЫМЕ′ЦІЦЬ *зак.* Прыкмеціць. *Яна яго прымеціла даўно.* Валеўка Навагр.; *парайн.* руск. *приметить* 'тж'.

ПРЫМІ′Ж, ПРЫМІ′Ш *прыназ.* з *род.* Паміж. *Дзянік прыміш хаты і хлявоў.* Валынцы В.-Дзв. ▽ *Прыміж дзвярэй паліц ні ткай.* Валынцы В.-Дзв.

ПРЫ′МІНА *ж. буд.* Тое ж, што і п р ы́ в я з к а 2. *Клалі прыміну на салому і прывязвалі дупцом. Прыміна — з граба і бярозы, адзін бок абчосвалі; адзін бок круглы, другі апчосаны, апчосаны — на салому, а круглы — паверх.* Дзяніскавічы Ганц.

ПРЫМІНТРЭ′ЖЫЦЬ *зак.* Перашкодзіць. *Трохі прымінтрэжыў ім.* Завельцы Астр.

ПРЫМІСЦІГАВА′ЦЦА *зак. экспр.* Прыладзіцца. *Цяля прымісцігавалася і сасець цыцку.* Старыя Смільгіні Воран.

ПРЫ′МІЧЫ *гл.* ПРЫ′МАЧЫ

ПРЫМІ′Ш *гл.* ПРЫМІ′Ж

ПРЫ′МКІ *мн.* Жэрдкі ў страсе. *Грэбяст первы, тады прымкі кладуцца і крыша крыецца.* Старыя Трокі Трак.

ПРЫМКНУ′ЦЦА *зак.* Узяцца шчыра (за работу). *Як*

*прымкнецца к рабоце сваей, то невядома, калі дамоў прыйдзець.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПРЫМКНУ'ЦЬ, ПРЫМКНУ'ТЫ *зак.* Замкнуць ненадоўга. *Можа, пайсці пазычыць замочык хату прымкнуць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Прымкнула хату на вэрхній замок дай пошла.* Сіманавічы Драг.

ПРЫ'МОВІСКО *гл.* ПРЫ'МАВІСКА

ПРЫМО'РАК, ПРУМО'РАК *м.* Прымурак. *Прыморак — гэта выступ вакол коміна. Пруморак — маленькі выступ у печы.* Міратычы Карэл.

ПРЫМО'ЎКА *ж.* Тое ж, што і п р ы́ г а в а р а з к а. *Прымоўка такая была.* Мярэцкія Глыб. *Прымоўка така: «Прыдзе Патроў дзень — половіна ліста ўпадзе, прыдзе Ян — упадзе два».* Хатынічы Ганц.

ПРЫМОЦЁВУВА'ТЭ *гл.* ПРЫМАЦО'ЎВАЦЬ

ПРЫМУ'РАЧАК *м. памянш.* да п р ы м о́ р а к. *Прымурачак для спічак.* Крэва Смарг.

ПРЫМУ'С *м.* Прымушэнне. *Пад прымусам рабілі.* Швэды Вільн. *Валерык пад прымусам вучыцца.* Ракаўскія Швянч.

ПРЫМУ'СІЦЬ *зак.* Прымусіць. *Ён прымусіў яе зрабіць так.* Кураполле Паст.

ПРЫМУСО'ВО *прысл.* Пад прымусам. *Прымусово ехаў туды.* Міратычы Карэл.

ПРЫМУСТЫКО'ЛІЦЦА *зак. экспр.* Прымасціцца. *Прышла і прымустыколілася тут.* Дакудава Лід.

ПРЫМУША'ЦЬ *незак.* Прымушаць. *Стаіць над шыяй і прымушая да работы: «Чаму вы мала робіця, зачаста курыця?» Яны прымушаюць чытаць.* Гемзы Шальч.

ПРЫ'МХІ *мн.* Забабоны. *Зязюля прарakoўная: на радосно дзело будзе каваць на зялёном дзераве, а на благое — на сухом дзераве, на хаце, на козлох — такія прымхі.* Альхоўцы Лях.

ПРЫ'МЫ *мн.* Тое ж, шо і п р ы́ м а ч ы. ◇ *Пайсці ў прымы* — пасля вяселля пайсці жыць у сям'ю жонкі. *Пашоў у прымы да яе.* Гемзы Шальч. *Дзевяры могуць у прымы пайсці і выйсці.* Саланое Віл. *Быць на прымах* — жыць у сям'і жонкі. *У нас палякі былі толькі на прымах.* Латыгаль Віл.

ПРЫМЫ'ЦЬ *зак.* Памыць з большага. *Пасуду троху прымыла.* Ёдлавічы Брасл.

ПРЫ'МЯН *гл.* ПРЫ'МЕН

ПРЫМЯНІ'ЦЬ *зак.* ◇ *Прымяніць рукі* — пабіць. *Ты будзіш брахаць, а мужык і рукі прыменіць, і ўдарыць, ты языком, а ён рукамі.* Кураполле Паст.

ПРЫМЯРКАВА'ЦЦА *зак.* Тое ж, што і п р ы м у с т ы к о́ л і ц ц а. *Лямпу пастаўлю, прымяркуюся каля лошка, каб было відаць.* Жылі Іўеў.

ПРЫМЯРКАВА'ЦЬ *зак.* Прыраўняць. *Укуснае свежае*

*малако, не прымяркуеш к гарадскому.* Пацаўшчына Дзятл. *Дзе ш ты прымяркуеш да куплянага?!* Навасёлкі Лід.

ПРЫНАГЛЯДА'ЦЬ *незак.* Прымушаць. *Калісьці не прынаглядалі хадзіць у школу, ніхто не прынаглядаў, хочаш — ідзі, хочаш — не.* Гемзы Шальч.

ПРЫНА'ДА *ж.* 1. Тое ж, што і п р ы м а́ н к а. *Прынадай крапілі вулей для прываблівання рою, настоем пахучых траў. Прынаду клалі ў яму, у ваўкаўню.* Саланое Віл. *Унадзіўся хадзіць, па-відзімаму, далі яму прынаду.* Альхоўцы Лях. *Якая ім тутака прынада, чаго гэтыя хлопцы сюды ходзяць?* Галубы Маст. ∇ *Напіўся і ляжыць, як прынада.* Малі Астр. 2. Ласунак. *Прынада дзецям.* Мсцібава Ваўк.

ПРЫНА'ДЗІЦЦА *зак.* Панадзіцца. *Прынадзілася сарока к курам і хватая кускі хлеба.* Вецярэвічы Пух.

ПРЫНАЛЕ'ЖАЦЬ *зак.* Належаць. *Каля вёскі жыў пан Гінцэвіч, вёска прыналежала да яго.* Суднікі Віл.; *параўн.* руск. *принадлежать* 'тж'.

ПРЫ'НДЗІЦЦА *незак. экспр.* Паміраць. *Як хто хоча, так ніхай і прындзіцца.* Парэчча Гродз.; *параўн.* літ. *pasispréndė* 'выцягнуцца'.

ПРЫНЕ'СЦІ, ПРЫНЯСЦІ', ПРЫНЭСЦІ', ПРЫНЫСТЫ' *зак.* Прынесці. *Прынёс у прыпале грыбоў.* Граўжышкі Ашм. *Трэба прынесці вады.* Лоск Валож. *Я віткі яму прынясу для кошыка.* Грыкені Вільн. *Ваду прынесі.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Прынязлі есці.* Кемялішкі Астр. *Кавал торту прынясла.* Малі Астр. *Качаноў прынясла.* Малахоўцы Бар. *Патом прынясеш ці мне прынясці? Бацян прынёс дзіця.* Дарава Лях. *Мама посылае прынэсці мэшка.* Смаляніца Пруж. *Прыныслы выдро воды, шэ трэба воды прынысты.* Сіманавічы Драг.

ПРЫНІМА'ЦЦА *незак.* Прыставаць (пра загар). *Да бальнога загар не прынімаіцца.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПРЫНІМА'ЦЬ *незак.* 1. Рабіць (укол). *Людзі зашчыкі прынімалі.* Старыя Трокі Трак. 2. Частаваць. ∇ *Чым маю, тым прынімаю.* Саланое Віл. 3. Прымаць у сям'ю. *Мужык пршоў, яна ні хацела прынімаць яго.* Слабада Мін.

ПРЫНО'СІЦЬ *незак.* Прыносіць. *Тады прыносім ставы і навівалі.* Кухты Віл.

ПРЫНО'СЫ *мн.* Падарункі. *Усе прыносы клалі ў каробачку, што насілі на вяселля, у хрэсьбіны.* Вецярэвічы Пух.

ПРЫНО'ШКІ *мн.* Планкі, якія злучаюць ніжнія часткі ножак стала. *Прыношкі ў стале — перакладзіны міжы ножак.* Магуны Паст.

ПРЫНУДЗІ'ЛАВЕЦ *м.* Хто працуе па прымусу. *Нарабіўся, як прынудзілавец.* Кураполле Паст.

ПРЫНЭСЦІ', ПРЫНЫСТЫ' *гл.* ПРЫНЕ'СЦІ

ПРЫНЮ'ШЧЫЦЦА *зак.* Сцішыцца. *Натта ён прыню-*

*шчыўся, яму нідобра зрабілася.* Кіралі Шчуч. *Прынюшчылася і сядзіць у кутку.* Вялікія Баяры Шчуч.

ПРЫНЯСЁНКА *ж. экспр.* Падчарка. *Я прынясёнка была: аставіў бацька ў жываце, а мама прынясла сюды. Яна прынясёнка: браў удаву з дзіцям.* Рыбчына Віл.

ПРЫНЯСЁНЫ *дзеепрым.* Прынесены. *Прынясёны жакет ляжыць.* Магуны Паст.

ПРЫНЯСЦІ′ *гл.* ПРЫНЕ′СЦІ

ПРЫНЯСЦІ′СЯ *зак.* Тое ж, што і п р ы н е́ с ц і. *Нада прынясціся бульбы.* Ёдлавічы Брасл.

ПРЫНЯ′ТЫ *дзеепрым.* Сабраны, звезены. *Трэба, кап сена было прынята.* Граўжышкі Ашм.

ПРЫНЯ′ЦЦА *зак.* 1. Прыжыцца (пра расліны). *Гарбузэ прыняліся, я аччэпліваю іх.* Вецярэвічы Пух. *Цвет прыміцца.* Азяраны Раг. 2. Атрымаць пашырэнне. *Польскі язык не прыняўся ў нас за дваццаць гадоў — усе гаварылі папросту.* Паляцкішкі Воран.

ПРЫНЯ′ЦЬ *зак.* 1. Прыбраць. *Прынялі печку: разабралі і вынеслі.* Гемзы Шальч. 2. Узяць да сябе жыць. *Ні прыняла яго, атправіла.* Груздава Паст. ∇ *Ні так латва атагнаць, як прыняць.* Малі Астр. 3. Залічыць на работу. *Добра, што прынялі яго на работу.* Альхоўка Навагр. 4. Даць прысягу. *Сын прысягу прыняў.* Жодзішкі Смарг. 5. Шмат перажыць. *Такога гора прыняла я.* Дакудава Лід.

ПРЫПА′ДАК І, ПРАПА′ДАК *м.*, ПРЫПА′ДКІ *мн. мед.* Эпілепсія. *У яе быў прыпадак. Лячыў ад прыпадку.* Ахрэмаўцы Брасл. *Прыпадак б'ець.* Мішневічы Шум. *Прыпадак кідае.* Лука Нараўк. *Прападак су пуду бываіць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Прападак вылечают.* Скрыпчына Лудз. *Кідаюць яго прыпадкі — гэта балезь такая.* Ухвала Круп.

ПРЫПА′ДАК ІІ *м.* Страта. ∇ *Бывая, што памрэ зайстросны, то ў хаця бывая ўшчэрбак, прыпадак — што-нібуць страціцца.* Кіралі Шчуч.

ПРЫПАДА′ЦЬ І *незак.* Апускацца. *Пігаўка да галавы прыпадая і крычыць: «Гдзе быў?»* Гемзы Шальч.

ПРЫПАДА′ЦЬ ІІ *незак. мед.* Прыставаць (пра хваробу). *Рана ня гоіцца, агонь прыпадая да раны.* Солы Смарг.

ПРЫПА′ДАЧНЫ, ПРАПА′ДАЧНЫ, ПРЫПА′ДАЧНЫЙ *прым. мед.* Хворы на эпілепсію. *Прыпадачны чалавек.* Пасека Ст.-Дар. *Мацi не знала, што тая дзеўка прыпадачная.* Ахрэмаўцы Брасл. *Прыпадачная жэншчына.* Рудня Астравітая Чэрв. *Яна була прыпадачная.* Кузьмічы Люб. *Прападачны — яго прапаткі збіваюць.* Валынцы В.-Дзв. *Прыпадачный чалавек.* Рагулішкі Даўг.

ПРЫПА′ДЗІСТЫ *прым.* Прыземісты. *Прыпадзістая дзерава.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПРЫПА′ДКІ *гл.* ПРЫПА′ДАК

ПРЫПАДКО'ВЫ, ПРЫПАТКО'ВЫ *прым.* Тое ж, што і п р ы п а́ д а ч н ы. *Нядобра стала — яна была прыпатковая, але радзілася крэпенька, добранькая.* Саланое Віл.

ПРЫПАДНІМА'ЦЦА *незак.* Адслойвацца (пра кару). *Як прыпаднімаецца гэта шлокшына ад гэтага прутка — дзярэцца.* Гемзы Шальч.

ПРЫПАДНІМА'ЦЬ *незак.* Прыўзнімаць. *Вінтом камінь прыпаднімаіш.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПРЫПАДНЯ'ЦЦА *зак.* 1. Прыўзняцца. *Я прыпадняўся на ёлку.* Сонічы Гродз. 2. Адслаіцца (пра кару). *Як прыпадніміцца шлокшына ад прутка — дзярэцца.* Гемзы Шальч.

ПРЫПАЗНІ'ЦЦА *зак.* Крыху затрымацца. *Ты прыпознісся трохі?* Беняконі Воран.

ПРЫ'ПА'Л *м.* Прыпол. *Набярэць у пры́пал яблыкаў.* Завельцы Астр. *Прынесла ў прыпа́ле грыбоў.* Граўжышкі Ашм.; *параўн.* літ. *pripālas* 'тж'.

ПРЫПАЛАСІ'СТЫ *прым.* Паласаты. *Уюн прыпаласісты.* Дакудава Лід.

ПРЫПАЛЁЎВАЦЬ *незак.* Прымацоўваць. *Толькі паследнюю лайку ў згоне прыпалёўваюць к берагу.* Вецярэвічы Пух.

ПРЫПАМАГА'ЦЬ *незак.* Дапамагаць. *Я мусіла прыпамагаць сыну.* Гемзы Шальч.

ПРЫПАМІНА'ЦЦА *незак. безас.* Прыпамінаць. *Прыпамінаюцца мне старыя словы.* Гемзы Шальч.

ПРЫПАМЯ'ТЫВАЦЬ *незак.* Тое ж, што і п р ы п а м і н а́ ц ц а. *Я прыпамятую тое.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПРЫ'ПАР *м.* 1. Гарачая пара ўборкі. *Прыпар настаў:* [трэба] *жыта жаць, касіць сена.* Валынцы В.-Дзв. *Настаў прыпар: жніва, сінакос.* Лісна В.-Дзв. 2. Прыпарніца. *У мяне столькі работы, такі прыпар, і сотак яшчэ не сеялі.* Чычалі Швянч. ◊ *Збіць прыпар* — парабіць амаль усю работу. *Я ўжо збіла свой прыпар, збіла работу.* Валынцы В.-Дзв.

ПРЫПА'РВАЦЦА *незак.* Парыцца. *Палатно мачылі, шматамі абкручвалі, у печ лажылі, яно прыпарваецца.* Васілевічы Гродз.

ПРЫПА'РВАЦЬ *незак.* Прыпарваць (пра надвор'е). *Прыпарвая, будзе дошч.* Альхоўцы Лях. *Прыпаруе, будзе дошч.* Паляцкішкі Воран.

ПРЫПА'РКА *ж.* Гарачае вільготнае надвор'е. *Прыпарка на гуркі добра.* Саланое Віл. *Сядзімо ў балоця — прыпарка стала, горача.* Альхоўка Навагр. *Прыпарка — на дошч.* Гайна Лаг.

ПРЫПА'РКАМ у знач. *прысл.* У час гарачага вільготнага надвор'я. *Як такім прыпаркам вецярок набяжыць, тучы, і глядзіш — гром грыміць, дошч.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПРЫ'ПАРНІЦА *ж.* Тое ж, што і п р ы́ п а р 1. *Пачалася*

*прыпарніца: жніво, касьба.* Ахрэмаўцы Брасл. *Прыпарніца — нада, кап і бяльё пасціраць, і ўсё зрабіць.* Індра Красл.

ПРЫПАРУЧЫ'ЦЬ *зак.* Даручыць. *Я мушу прыпаручыць свае куры, калі паеду. Як сын умёр, то іх да міне прыпаручылі.* Баброўнікі Гарад.

ПРЫПА'РЫЦЬ *зак.* Спарыць (малако). *Яна перагон прыпарыць, кавы ўсыпіць — і п'юць.* Рагулішкі Даўг.

ПРЫПА'САК *м.* Падпасак. *Пастар трубіць, а мы прыпаскі.* Ёдлавічы Брасл.

ПРЫПАСА'ЦЦА *зак.* Прызвычаіцца. *Прыпасаўся я да гэтага чалавека.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПРЫПАСА'ЦЬ *зак.* Падперазаць. *Прыпасаць матузамі, матузом.* Жылі Іўеў.

ПРЫПА'СВАЦЬ, ПРЫПА'СУВАТЫ *незак.* Дадаткова пасвіць на лепшай пашы. *Хазяйка ваша карову прыпасвая.* Крэва Смарг. *Я корову на заміжку прыпасував.* Сіманавічы Драг.

ПРЫПА'СЦІ *зак.* 1. Апасці. *Не ўдаецца хлеп — прыпадзець скарынка.* Саланое Віл. *Скура прыпадзе, і нарыў не выцякая.* Вецярэвічы Пух. 2. Набыць (хваробу). *Рэўмацізм прыпаў у Карпатах у вайну.* Ахрэмаўцы Брасл. ◇ *Прыпасці да апіціту* — спадабацца на смак. *Мне гэта булка прыпала да апіціту.* Груздава Паст.

ПРЫПА'СЫ *мн.* Запасы. *Усе прыпасы мае.* Швэды Вільн.

ПРЫПА'ТКАМІ *прысл.* Прыхваткамі. *Паробім, во, прыпаткамі.* Магуны Паст.

ПРЫПАТКО'ВЫ *гл.* ПРЫПАДКО'ВЫ

ПРЫПАЎЗЦІ', ПРЫПАЎСЦІ' *зак.* Прыпаўзці. ∇ *На звіставання німожна рабіць — прыпаўзе гадзіна.* Солы Смарг.

ПРЫ'ПАЧАК *гл.* ПРЫ'ПЕЧАК

ПРЫ'ПЕК, ПРЫ'ПЯК *м.* 1. Прыпечак. *Прыпек — чыгуны ставіць.* Мыто Лід. *На прыпеку пастаў чыгун.* Альба Нясв. *На прыпеку палажыла.* Беняконі Воран., Крэва Смарг., Дзяніскавічы Ганц., Баброўнікі Гарад. *Выгарні з печы жар на прыпяк.* Паляцкішкі Воран. *Прыпяк перад засланкай.* Кіралі Шчуч. *Агончык гарыць на прыпяку. На прыпяку пастаў.* Гемзы Шальч. 2. Прымурак. *Сядзеў на прыпяку і плечы грэў.* Гемзы Шальч. *У печы пелюсці, прыпяк, ток, паднябенё.* Малахоўцы Бар.

ПРЫПЕКА'НІКІ *мн. кулін.* Драпікі. *Прыпеканікі з картошкі запікеш, красівыя, укусныя.* Мішневічы Шум.

ПРЫПЕ'КАЦЬ *незак.* Прыпякаць. *Сонца так прыпекае.* Альхоўцы Лях.

ПРЫПЕ'РЦІ *зак. экспр.* 1. Прысунуць. *Стол у кут прыпром.* Паляцкішкі Воран. 2. Прыцiснуцца да чаго-н. *Прыперла адзін бок к плоту і абаранілася ат сабак.* Кіралі Шчуч. *Ма-*

*лоя галоўку прыпрэ і сядзіць ціха.* Слабада Мін. 3. Прынесці. *Кубак вады прыпры — будзя ўсім.* Малі Астр. *Камбінашку прыпрэ дамоў.* Збляны Лід.

ПРЫПЕ'ЎКА, ПРЫ'ПЫВКА *ж.* Частушка. *Я прыпеўкаў многа знаю.* Талейкі Швянч. *Вона світ тых прыпывок знала, і маты іі тожэ мныга прыпывок знала.* Сіманавічы Драг.

ПРЫ'ПЕЧАК, ПРЫ'ПІЧАК, ПРЫ'ПЯЧАК, ПРЫ'ПАЧАК, ПРЫ'ПЫЧОК *м.* Тое ж, што і п р ы́ п е к 1. *На прыпечку гаршчок стаіць.* Бенякoні Воран. *Прыпечак у печы, дзе жар выграбалі.* Пасіене Лудз. *Прыпечак у печы.* Старыя Трокі Трак., Чычалі Швянч., Баброўнікі Гарад., Пасека Ст.-Дар. *Неба ў печы, прыпечак, жар.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Прыпічак у печы.* Мярэцкія Глыб. *Паставіла на прыпячку.* Дзераўное Стаўб. *Дзе прыпячак, там ямка, туды жаратак зграбаюць.* Жодзішкі Смарг. *Пагрэўся кот на прыпячку.* Лоск Валож. *Прыпячак у печы.* Рыбчына Віл., Малькуны Ігн. *На прыпачак пастаў чыгун.* Беразіно Докш. *На прыпычку чыгуны стоят.* Дзмітравічы Кам. ▽ *Ці я ў мужа ні жыла, ці я не хазяйка? Тры дні ў печы паліла — на прыпячку жарка.* Кураполле Паст.

ПРЫПІВА'ЦЬ *незак.* Перад тым, як выпіць чарку, жадаць здароўя суседу, які будзе піць наступным. ▽ *Да цібе ні прыпіваю — ні кажы: «На здароўя!»* Малі Астр.

ПРЫПІЛЬНАВА'ЦЬ *зак.* Падпільнаваць. *Прыпільнаваў яе.* Міратычы Карэл.

ПРЫПІНА'ЦЬ *незак.* Папракаць. *Што ты мне прыпінаеш?* Гемзы Шальч.

ПРЫПІРА'ЦЦА *незак.* Прыціскацца да чаго-н. *Дайней да сцяны прыпіраліся, кап сярэдзіна не балела.* Дарава Лях.

ПРЫПІ'САНЫ *дзеепрым.* Прапісаны. *Я да яе прыпісана.* Пацаўшчына Дзятл.

ПРЫПІСА'ЦЬ *зак.* 1. *мед.* Прыпісаць (лякарства). *Прыпісалі піць каплі.* Кемялішкі Астр. 2. Напісаць. *Прыпісала мне пісьмо: «Прыедзь, жду».* Мішневічы Шум.

ПРЫ'ПІЧАК I *гл.* ПРЫ'ПЕЧАК

ПРЫ'ПІЧАК II *м.* Тоня. *У прыпічках рыба заходзіць.* Саланое Віл.

ПРЫПЛЕ'СКАЦЬ *незак.* Прытоптваць. *Курыца прыплескае кураня лапамі.* Дзяніскавічы Ганц.

ПРЫПЛЕ'СКВАЦЦА *незак.* Прыплескваццa. *Рэшта цеста ў дзешчы саскрэбваяцца, прыплескваяцца, кап кісля не сышла.* Дакудава Лід.

ПРЫПЛЕ'СНІЦЬ, ПРЫПЛЯСНЕ'ЦЬ *зак.* Крыху заплеснець. *Прыплесніла сена.* Кураполле Паст. *Прыпляснела капуста.* Быстрыца Астр.

ПРЫПЛО'Д *м. неадабр.* Пазашлюбнае дзіця. *Да не жэніўся — навязалі прыплода.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ПРЫПЛЮ'ШЧЫЦЬ *зак.* Тое ж, што і п р ы ж м у́ р ы ц ь. *Вочы прыплюшчыў.* Магуны Паст.

ПРЫПЛЯНТА'ЦЦА *зак. экспр.* Прыстаць. *Ён прыплянтаўся да другой.* Вецярэвічы Пух.

ПРЫПЛЯСКА'ЦЬ *зак.* Прытаптаць. *Кура прыплескае землю, усе, дзе што стрэла, усе прыплешча.* Дзяніскавічы Ганц.

ПРЫПЛЯСНЕ'ЦЬ *гл.* ПРЫПЛЕ'СНІЦЬ

ПРЫПНУ'ЦЬ *зак.* Завязаць (фартух). *Прыпнуць хвартух.* Тухавічы Лях. *Хвартуха прывязаць, прыпнуць.* Хатынічы Ганц.

ПРЫПО'ВЕДЗЬ *ж.* Тое ж, што і п р ы́ м а в і с к а 1. *Бала такая прыповедзь.* Старыя Трокі Трак.

ПРЫПО'Й *м.* Льдзіна, якая прыбілася да берага. *Прыпой — льдзіна, атарваўшаяся ад аднаго берагу і прыстаўшая да другога.* Валеўка Навагр.

ПРЫПО'Л *м.* 1. Тое ж, што і п р ы́ п а́ л. *Усып у прыпол.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. *перан.* Калені. *На прыпол вазьмі дзіця.* Жылі Іўеў. *На прыполі дзіця сідзела.* Рудня Астравітая Чэрв. *На прыпалé дзіця пасадзіш.* Саланое Віл. *У мацяры на прыпалé дзіця дурэя.* Рыбчына Віл.

ПРЫПО'ЛАК *м. с.-г.* Паліца ў сасе. *У сасе на канец рагача робяцца аглоблі, прыполак, дзве кацёлкі; рагач у дзіркі ставіцца. У сасе, у споднюм нарозі — прыполак.* Касцюкі Уздз. *І прыполак пры сасе.* Грыкені Вільн.

ПРЫПО'МНІЦЦА *зак.* Успомніць. *Прыпомніўся, як дзве цукерачкі прынёс.* Груздава Паст.

ПРЫПО'МНІЦЬ *зак.* Тое ж, што і п р ы п о́ м н і ц ц а. *Прыпомніла Яна — і яго паздраўляю.* Гальшаны Ашм. *Ты мне прыпомніш, кап ні забылася.* Рыбчына Віл. *Падажджы, я прыпомню.* Ахрэмаўцы Брасл. *Асталася ўдавой, як прыпомню — жаль бярэ.* Старыя Трокі Трак.

ПРЫПРА'ВА *ж. кулін.* Прыправа. *Дай кміну для прыправы.* Валынцы В.-Дзв. *Водзево — гэта кмін, тады ягоная прыправа такая пахучая.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Кмін — прыправа.* Валеўка Навагр. *Дабавім прыправы да мяса.* Завельцы Астр.

ПРЫПРА'ВІЦЬ *зак.* Прыгатаваць. *Пайду цыбульку прыпраўлю, з'ем.* Руднікі Шальч. *Трэба прыправіць агурчыкаў.* Гемзы Шальч.

ПРЫ'ПРАЖКА, ПРЫ'ПРАШКА *ж.* Прыпрэжка. *Конь у аглобнях, а другі — у прыпрашку.* Рыбчына Віл.

ПРЫПРА'ЖНЫ *прым.* Прыпражны. *Прыпражны конь.* Завельцы Астр.

ПРЫ'ПРАТ *м.* Спрат. *Прыпрат — для захавання пасуды ў шкафчыку. У каморцы ў мяне самы прыпрат. Тут мой прыпрат, тут я хаваю ўсё.* Альхоўка Навагр.

ПРЫПРА'ТАЦЬ *зак.* Прыбраць (у хаце). *Калі прыпрачаш у хаця?* Міратычы Карэл.

ПРЫПРУ'ЖВАЦЬ *незак.* Нацягваць палатно ў кроснах. *Пругамі прыпружваюць палатно.* Вецярэвічы Пух.

ПРЫПРЭ'ЎШЫ *дзеепрым.* Прыпрэлы. *З душком, прыпрэўшыя сялёткі.* Слабада Мін.

ПРЫПУО'Н *м.* Кол ці металічны стрыжань, да якога прывязваюць жывёлін. *Куонь прыпона вырвав і отп'явсе.* Курашэва Чыж.

ПРЫПУСКА'ЛЬНІК *м. ткац.* Прыстасаванне для ўмацавання кола задняга навоя ў кроснах. *Прыпускальнік — прыпускаць аснову.* Рыбчына Віл.

ПРЫПУСКА'ЦЬ *незак.* 1. Дапускаць. *Не прыпускала к сабе.* Быстрыца Астр. 2. Рэгуляваць. *Шрубачка ў калаўроця — прыпускаць вышэй і ніжэй.* Магуны Паст. 3. *буд.* Падганяць, прыладжваць. *Толя, мусіць, пашоў вокны прыпускаць. Прыпускаць — падганяць да меры, каб паставіць.* Крэва Смарг. *Бервяно прыпускае, сякерай зарублівае.* Грыкені Вільн.

ПРЫПУ'СНІК *м. буд.* Клін. *Клін, які ўбіваецца,— прыпуснік.* Мішневічы Шум.

ПРЫПУСТЫ'ТЫ *гл.* ПРЫПУСЦІ'ЦЬ II

ПРЫПУСЦІ'ЦЬ I *зак. буд.* Падагнаць, прыладзіць. *Угол зарубае, прыпусціць бервяно.* Грыкені Вільн.

ПРЫПУСЦІ'ЦЬ II, ПРЫПУСТЫ'ТЫ *зак.* Прыпусціць (пра карову). *Карова, як прыпусціць,— цурыць малако с сіські.* Кураполле Паст. *Ласуня ны схотіла тыпэр прыпустыты, ны оддала всёго молока, а Чубка прыпустыла.* Сіманавічы Драг.

ПРЫПУ'ЦІЦЬ *зак.* 1. Пакласці. *Як дзель* [дзе-небудзь] *іх прыпуціць, гэтыя сумкі вашы.* Ухвала Круп. 2. Закончыць пэўны від работы. *Прыпуцілі лён свой, цяпер сядзі і прадзі.* Азяраны Раг.; *параўн.* літ. *pripùcinti* 'закончыць', ням. *putzen* 'прыбіраць'.

ПРЫ'ПЫВКА *гл.* ПРЫПЕ'ЎКА

ПРЫПЫ'НІСКА *н.* Прыстанак. *Тут на кухні ўсё маё прыпыніска: і лаўкі, і стол, і міскі, і лошкі, і ўсе.* Кіралі Шчуч.

ПРЫПЫНІ'ЦЦА *зак.* Спыніцца на некаторы час. *Іду, усіх знаю, прыпынюся, пагавару.* Валеўка Навагр.

ПРЫ'ПЫЧОК *гл.* ПРЫ'ПЕЧАК

ПРЫПЯВА'ЦЬ *незак.* 1. Падпяваць. *Так красіва прыпявоў.* Аксакаўшчына Мін. 2. Спяваць. *Хазяева рашчынялі каравай, а я мясіла і прыпявала.* Чуркі Ашм.

ПРЫ'ПЯК *гл.* ПРЫ'ПЕК

ПРЫПЯРАЗА'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і прыпнуць. *Трэба фартух прыпяразаць.* Малі Астр. *Трэба накласці кашулю*

*чыстую, спаднічку і фартух прыпяразаць.* Гемзы Шальч. *Скарач прыпяражуць, як хлеп месяць.* Альхоўка Навагр.

ПРЫПЯ'ЦЦА *зак. экспр.* Размясціцца. *Недзе прыпяцца было.* Альхоўцы Лях.

ПРЫПЯ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і прыпнýць. *Дзе мой фартух — мне трэба прыпяць.* Кіралі Шчуч.

ПРЫ'ПЯЧАК *гл.* ПРЫ'ПЕЧАК

ПРЫ'ПЯШНІК *м.* Тое ж, што і пры́пек 1. *Паставіла на прыпяшніку.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПРЫРАБА'ТАВАЦЬ *незак.* Дадаткова зарабляць. *Прырабатавала к пенсіі ў інтарнаці.* Пярэкі В.-Дзв.

ПРЫРАБІ'ЦЬ *зак.* Зачараваць. *А мне дзед прырабіў нешта — і пачала галава балець.* Кузьмічы Люб.

ПРЫРАБЛЯ'ЦЬ *незак. перан.* Прымацоўваць. *У калоду вілачкі ставілі, пчолы прырабля́лі да іх воск.* Вузла Мядз.

ПРЫ'РАСКА *ж.* Прарэшак. *Прыраска для гузіка.* Мярэцкія Глыб.

ПРЫ'РАСТАК *м. бат.* Парастак. *Прырастак дало дзерава.* Малахоўцы Бар.

ПРЫРАСЦІ' *зак. перан.* ◇ *Прырасці да зямлі* — стаць нерухомым. *Я аш прырос да зямлі і не дыхаў.* Вялікія Баяры Шчуч.

ПРЫ'РАЎКАМІ, ПРЫРЫ'ЎКАМІ *прысл.* Тое ж, што і прыпáткамі. *Ён робіць прыраўкамі.* Мярэцкія Глыб. *Прырыўкамі нады было работаць.* Лісна В.-Дзв.

ПРЫРЖАВЕ'ЦЬ *зак.* Крыху паржавець. *Бляха прыржавела.* Крэва Смарг.

ПРЫРО'БЛЕНЫ *дзеепрым.* Прыбудаваны. *Потповець около клуні прыроблена.* Смаляніца Пруж.

ПРЫРО'ВАК *м.* Балоцісты бераг рова. *Прыровак, ці ўзровак,— забалочанае места каля рова.* Кураполле Паст.

ПРЫРО'ВАЧАК *м. памянш.* да прырóвак. *На прыровачак пасцілку, ахрап'я наложыць, а сама ў роў улезіць па шыю, зачэпіць, а патом нада вынесці ахрап'е з рава.* Кураполле Паст.

ПРЫРО'ДА *ж.* 1. Арганічная і неарганічная прырода. *Што прырода дала, то і добра, а штучная — усё дрэнна.* Солы Смарг. 2. Прыродная з'ява. *Ад прыроды пойдзя дош.* Слабада Мін. 3. Спадчынныя рысы чалавека. *Есць прырода такая: рабацене на твары.* Валеўка Навагр. *Іх прырода такая: і бацька яго лысы, і сын у трыццаць пяць гадоў аблысеў.* Вузла Мядз.

ПРЫРО'ДНАЯ ПЛЯ'МА *ж.* Радзімка. *Прыродная пляма — ёй нічога ня здзелаеш.* Малькуны Ігн.

ПРЫРО'ЎНІЦЬ *зак.* Параўнаць. *Ета не прыроўніш: што дзесяць, а што тры рублі сукенка.* Вецярэвічы Пух.

ПРЫРУ'БКІ *мн.* Сцены паміж вокнамі. *Прырубкі — сцяна между акон.* Азяраны Раг.

ПРЫРУЧЫ'ЦЬ I *зак.* Зрабіць ручным. *У нас адзін выдру прыручыў.* Вулька Гродз.

ПРЫРУЧЫ'ЦЬ II *зак.* Даручыць. *Мне прыручылі, то я буду мясці, загадалі, то я буду рабіць.* Кузьмічы Люб.

ПРЫРЫЗІ'НКА *ж.* Тое ж, што і п р а р о́ с т. *Сала з прырызінкай, люблю такое жаранае.* Мішневічы Шум.

ПРЫРЫ'ЎКАМІ *гл.* ПРЫ'РАЎКАМІ

ПРЫРЭ'З, ПРЫРЭ'С *м.* Прырэзка. *Прырэс — землю далі, гасударства; прырэс — дадатак.* Індра Красл.

ПРЫРЭ'ЗАЦЬ *зак.* Дабавіць. *Зямлі ім тады прырэзалі.* Кураполле Паст.

ПРЫС *м.* Багор. *Прыс — гэта бусак, жортка і надзяюць з жалеза; прысам дзерава атпіхаюць і атцягваюць бусаком.* Рыбчына Віл. *Прысам піхалі, атпіхаліся.* Вецярэвічы Пух.

ПРЫСА'ДА *ж.*, ПРЫСА'ДЫ, ПРЫСА'ДЗІ *мн.* Прысады. *Дарога с прысадай.* Рыбчына Віл., Рудня Астравітая Чэрв. *Некалі ўсе садзілі прысаду паўз дарох.* Вецярэвічы Пух. *Вішні, яблакі каля дому — кажуць прысада. На прысадзе як красіва!* Малахоўцы Бар. *Ля, такая прысада в іх коло хаты!* Спорава Бяроз. *Прысады ліповыя.* Галоўні Воран. *Вот харашо: прысадзі пасаджаны, ішоў ля прысадзяў.* Кіралі Шчуч. *Не было тут прысадзяў гэтых.* Дарава Лях.

ПРЫСА'ДЗІСТЫ *гл.* ПРЫСЯ'ДЗІСТЫ

ПРЫ'САК, ПРЫ'СОК *м.* 1. Гарачы попел. *Напяклі картопляў у прыску, гарачы прысак.* Альхоўцы Лях. *У прысак сыпалі картошку і пяклі.* Гемзы Шальч. *У прыску печэм бульбу.* Крынкі Крын. *Картоплі пяклі ў прыску.* Пасека Ст.-Дар. *На полі прысок напальвалі картоплі пэчы.* Азарычы Пін. 2. Пясчаны ўзгорак. *Прысак — высокая, пяшчанае месца, каля лесу ўзгорак.* Мачаск Бярэз. ▽ *Вітёр холодный, табы прысок сычэ.* Сіманавічы Драг.

ПРЫСАЛАДЗІ'ЦЬ *зак.* Падсаладзіць. *Прысалодзіш малако с калапень, мачаіш і ясі, гэта — лапуны. Сахарам прысалодзіш.* Саланое Віл.

ПРЫСАЛО'ДЖЫВАЦЬ *незак.* Падсалоджваць. *Квас прысалоджываям.* Крэва Смарг.

ПРЫСАЧЫ'ЦЬ *зак.* Прасачыць. *Трэба курыцу прысачыць, дзе яна нясецца.* Ліпнікі Вільн., Азяраны Раг. *Курыцу прысачыць, прыпільнаваць.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПРЫСВА'ТАЦЦА *зак.* Пасватацца. *Адзін прысватаўся і жаніўся.* Навадворшчына Мін.

ПРЫСВІРО'НАК *м.* Тое ж, што і п р ы к л е́ т н і к. *Пры свірне прыбудаваны прысвіронак.* Гемзы Шальч.

ПРЫСВІТА'ЦЬ *зак.* Развіднець. *Як толькі прысвітала, так ужо на поле.* Чуркі Ашм.

ПРЫСВО'ІЦЬ *зак.* Завалодаць чым-н. чужым. *Маю матыку прысвоіла.* Вецярэвічы Пух.

ПРЫ'СВЯТАК, ПРЭ'СВЯТОК *м.* Невялікае рэлігійнае свята. *Прысвятак — ні так вялікая свята.* Магуны Паст. *Свята — вялікая, а як прысвятак — можна рабіць.* Рыбчына Віл. *Сёня можна што рабіць, бо сёня прысвятак.* Кіралі Шчуч. *Прысвятак — гэта свята, якое не святкаваюць.* Вялікія Баяры Шчуч. *Малы прысвятак — малое свята: адны робяць, другія святкуюць.* Мсцібава Ваўк. *Звіжанё, вазнясенё — прысвяткі.* Альхоўцы Лях. *Прысвятак — невяліка свята, можна рабіць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Прэсвяток — нывэлэкэ свето.* Радастаў Драг.

ПРЫ'СВЯТО *н.* Тое ж, што і п р ы с в я т а к. *Прысвято — гэто малое свято.* Сіманавічы Драг., Відзібар Стол.

ПРЫСЕ'СЦІ *зак.* Сесці на кароткі час. *Як прысяду, ні магу ўстаць.* Груздава Паст. *У абет прысядзеш толькі, як з'ясі.* Чуркі Ашм.

ПРЫСЕ'СЦЬ, ПРО'СЯСЦЬ, ПРО'СЯЦЬ, ПРО'СІЗЬ *ж. ткац.* 1. Палатно, натканае за адзін прыём. *Просясць начэш — да берда.* Рыбчына Віл. *Просясць — даўжыня палатна, натканага да берда за адзін пропуск з навоя, а зявы між верхняй і ніжняй часткай асновы.* Рудня Астравітая Чэрв. *Наткала просяць — трэба пракручваць палатно на навойку, дзве просядзі наткала.* Вецярэвічы Пух. *Як кросны ткуць — наткала цэлу просізь.* Жылі Іўеў. 2. Палатно, складзенае ў выглядзе гармоніка. *Трэба злажыць палатно ў прысесць і замачыць.* Бакшты Іўеў. *Сабрала палатно ў прысесць і памачыла.* Жыдзевічы Іўеў. *Давай збяром палатно ў прысесці і ў цэбар намочым, кап вымакала.* Кіралі Шчуч.

ПРЫ'СКАЗКА, ПРЫ'СКАСКА *ж.* Тое ж, што і п р ы м а в і с к а. *Прысказка ёсць такая.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПРЫСКА'КАМ *прысл.* 1. Падскокваючы. *Бегла ў хату прыскакам.* Рагулішкі Даўг. 2. *перан.* Ахвотна. *У шасты клас ішла прыскакам.* Рагулішкі Даўг.

ПРЫСКВА'РЫЦЬ *зак. кулін.* Тое ж, што і п р а к í н у ц ц а II. *Трэба прысквкарыць булён.* Парэчча Гродз., Вецярэвічы Пух.

ПРЫСКІКА'ЦЬ *зак.* Прыскакаць. *У хату прыскікала жаба.* Мярэцкія Глыб.

ПРЫСКО'КАМ *прысл.* Тое ж, што і п р ы п á т к а м і. *Прыскокам зрабіла тую работу.* Ёдлавічы Брасл., Малькуны Ігн.

ПРЫСКО'ЛАК *м.* Гнуткая палка. *Вазьму добры прысколак і дам; гэта такі кіёчак, размахніся ім — і забаліць.* Кіралі Шчуч.

ПРЫСКРЫ'НАК *м.* Скрынка ў куфры. *У куфры пры боку прыскрынак для друбеза.* Вострава Маст. *У куфры ёсць*

*прыскрынак.* Кіралі Шчуч., Гайна Лаг., Збляны Лід. *Ляжыць у прыскрынку.* Баброўнікі Гарад. *Прыскрынак у скрыні.* Ракаўскія Швянч. *У скрыні яшчэ прыскрынкі.* Завельцы Астр.

ПРЫСЛА'НЫ *дзеепрым.* Накіраваны. *Ксёндз прысланы.* Масішкі Красл.

ПРЫ'СЛАНЬ *гл.* ПРЫСЛО'Н

ПРЫСЛА'ЦЬ, ПРАСЛА'ЦЬ *зак.* 1. Прыслаць. *Сын прышле грошы. Прышлюць мне грошы.* Кемялішкі Астр. *Ён праслаў нам дзенег.* Пасіене Лудз. *Прышлеце фатаграфію.* Збляны Лід. *Ступенкі да вас прыслалі мяне.* Грыкені Вільн. 2. Накіраваць. *На гэта месца прышлюць, у Крыславу прышлюць.* Масішкі Красл.

ПРЫСЛЕ'ДЗІЦЬ *зак.* Прасачыць. *Не прыследзілі, хто да яго хадзіў.* Рыбчына Віл.; *параўн.* руск. *проследить* 'тж'.

ПРЫСЛО'ВЕ, ПРЫСЛО'ВЯ *н.* Тое ж, што і п р ы́ м а в і с к а. *Прыслове было такое. Ест такое прыслова.* Мсцібава Ваўк.

ПРЫСЛО'ВІЦА *ж.* Тое ж, што і п р ы́ м а в і с к а. *Была прысловіца такая.* Паляцкішкі Воран.

ПРЫСЛО'Н, ПРЫСЛО'НЬ, ПРЫ'СЛАНЬ *ж.* Месца, якое добра асвятляецца сонцам. *Прыслон — дзе сонца свеціць. На прыслоні сядзелі, там цёпла, сонца грэіць.* Валынцы В.-Дзв. *Сяжу на прыслоні.* Рагулішкі Даўг. *На прыслоні сухо, дзерава сукавата ад ніза да верху. На прыслоня сонца. Тут добрая прыслонь — гэта месца, якое найбольш абаграваецца сонцам, паўднёвая частка. Яна расцець на краю леса, на прыслані.* Ахрэмаўцы Брасл. *Лён слалі на прыслань — лух такі.* Галубы Маст.

ПРЫСЛО'НІК *м.* Тое ж, што і п р ы с л о́ н. *На прыслонік сядзім, пасядзём.* Рагулішкі Даўг.

ПРЫСЛО'НЫ *мн.* Тое ж, што і п р ы с л о́ н. *У прыслонах рос арнік.* Валынцы В.-Дзв.

ПРЫСЛО'НЬ *гл.* ПРЫСЛО'Н

ПРЫСЛУХА'ЦЦА, ПРЫСЛУХА'ЦІСА *незак.* Прыслухоўвацца. *Я не прыслухаюся, не пытаю.* Парэчча Гродз. *Я не прыслухаюся, як пяюць.* Азяраны Раг. *А ты прыслухайся, можа, хлеп прывязуць.* Саланое Віл. *Я ні прыслухаюся, што там гаворáць.* Альхоўка Навагр. *Буду прыслухаціса, чы вон пойдэ.* Смаляніца Пруж.

ПРЫСЛУХО'ЎВАЦЦА *незак.* Тое ж, што і п р ы с л у х á ц ц а. *Ідзе ды прыслухоўваецца. Стаіць ды прыслухоўваецца.* Дзяніскавічы Ганц.

ПРЫСЛЮ'ЗНУЦЬ *зак.* Аслізнуць. *Мяса, бывая, прыслюзня троха.* Гемзы Шальч.

ПРЫСМА'КІ' *мн.* Ласункі. *Мне ні нада прысмакóў.* Слабада Мін. ∇ *Ласы на прысмáкі.* Каўняны Гродз.

ПРЫСМЯЯ'ЦЬ *зак.* Падсмяяцца. *Запяю ды прысмяю.* Валеўка Навагр.

ПРЫСНІ'ЦЦА *зак.* Сасніцца. *Прысніўся мне сон.* Старое Сяло Зэльв. ∇ *Як прысніцца рыба, то дзеўцы — жаніх, а хлопцу — дзеўка, як чорная карова, то — чарната, чырвоная карова — пажар, белая карова — добрэ будзе, чорны ці чырвоны конь — балесць, белы конь — смерць.* Дарава Лях.

ПРЫСНІ'ЦЬ *зак.* Сасніць. *Сон прысніла, што прышла пасылка, ды лёхка.* Старое Сяло Зэльв. *Я сон прысніла ўночы.* Кудзялянцы Шальч.

ПРЫСНУ'ЦЬ *зак.* Задрамаць. *Малая ноч летам, чуць прыснеш — і будзяць.* Вузла Мядз.

ПРЫСНЯ'К *м. кулін.* Тое ж, што і п р а с н á к. *Тэпэр ужэ мало хто пэчэ прыснякі і галушкі.* Курашэва Чыж.

ПРЫ'СОК *гл.* ПРЫ'САК

ПРЫСПАРА'ЦЬ *незак безас.* Падаспець у адзін час. *У нас прыспарала — то касіць сена, то жыта жаць.* Валеўка Навагр.

ПРЫСПАСАБЛЕ'НЕ *н.* Прыстасаванне. *Прыспасабленя былі.* Вялікія Баяры Шчуч.; *параўн.* руск. *приспособление* 'тж'.

ПРЫСПАСА'БЛІВАЦЦА *незак.* Прыстасоўвацца. *Людзі прыспасабліваліся: красілі карой, адзін другому падскажут.* Рагулішкі Даўг.; *параўн.* руск. *приспосабливаться* 'тж'.

ПРЫСПА'ЦЬ *зак.* Усыпіць. *Тата кажа: «Я іх* [дзяцей] *прысплю».* Саланое Віл.

ПРЫСПЕ'ЦЬ *зак.* 1. Паспець. *Паждаўшы, можно яблыкі есці, хай прыспеюць.* Стральцы Гродз. 2. *перан.* Дасягнуць сталага ўзросту. ∇ *Прыспела дзеўка замуш — хоць за вала, абы дома не была.* Малі Астр.

ПРЫСПІ'ЧЫЦЬ *зак.* Вельмі захацецца. *Дош ліець, а яны гарот поляць, так ім моцна прыспічыла.* Вузла Мядз.

ПРЫСТАВА'ЦЬ *незак.* 1. Здарыцца (пра няшчасце). *Бяда лёгка прыстаець.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Уздзейнічаць. *Мне не прыставалі ніякія ценжары.* Слабада Мін. ∇ *Да яго так прыстаюць словы, як гарох да сцяны.* Вузла Мядз. ◇ *Галава не прыстае да падушкі* — не спіцца. *Я дабілася да таго, што галава да падушкі не прыстаець.* Кураполле Паст.

ПРЫСТА'ВІЦЦА *зак.* Тое ж, што і п р ы к і н у ц ц а 1. ∇ *На капейку выпіў, а на дзесяць прыставіўся.* Солы Смарг.

ПРЫСТА'ВІЦЬ, ПРЫСТА'ВЫТЫ *зак.* 1. Прыбудаваць. *Прыбудовачку прыставілі ў прошлым году.* Пацаўшчына Дзятл. 2. Паставіць варыцца. *Супу прыстаўлю ў печ.* Пасека Ст.-Дар. *Затопыла і чыгунчык картоплюв приставыла.* Сіманавічы Драг.

ПРЫСТАКА'НІЦЦА *зак. экспр.* 1. Прыжыцца. *Як хто*

*прыстаканіцца, то і ехаць адсюль не хочуць.* Ухвала Круп. 2. Прыладзіцца. *Дайце я кала вас прыстаканюсь.* Мішневічы Шум. 3. Далучыцца. *Чаго ты прыстаканіўся?* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПРЫСТАНО'ВІЦЦА *зак.* Спыніцца на некаторы час. *Я тады прыстановілася і пастаяла.* Лоск Валож.

ПРЫ'СТАНЬ *ж.* 1. Прыстань. *Прыстань там, дзе к рацэ атвонны берах.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Прыстань — дзе астанаўліваецца згон, а згон прыстанаўліваецца, як круты паварот. На етуй прыстані пясок жоўты.* Вецярэвічы Пух. 2. Месца на беразе вадаёма, дзе мыюць бялізну. *Дзе мыюць, там прыстань.* Рыбчына Віл. 3. Прыстанак. *Тут самая прыстань для курэй.* Малькуны Ігн.

ПРЫ'СТАРАНАК, ПРЫ'СТОРОНОК *м.* 1. Сценка ў дватры бервяны, якая разгароджвае гумно. *Прыстаранак — загарожы, кап пры малацьбе жыто не ляцело ў стораны.* Малахоўцы Бар. *Прыстаранкі закладаліся ў сохі.* Мсцібава Ваўк. *У клуні по бокох обгороджэно прысторонкамі, шчоб жыто нэ скакало ў сторону, як молоціш.* Смаляніца Пруж. 2. Застаронак. *У гумне прыстаранкі, доскамі ці дзераўцом, аполкамі 'дгароджана, каб зярно не ляцело.* Альхоўцы Лях. *Загароджаны прыстаранкі дошкамі, дзе складалі снапы.* Дзяніскавічы Ганц. *У гумне прыстаранкі.* Міратычы Карэл. *У прысторонок одходы сыплюць.* Хатынічы Ганц.

ПРЫСТАРАНІ'ЦЦА *зак.* Знайсці прытулак. *Нашоў сабе прытулак, прыстараніўся.* Альхоўцы Лях.

ПРЫСТАРА'ЦЦА *зак. экспр.* Нарадзіць. *Яна прыстаралася дзіця.* Саланое Віл.

ПРЫСТАРЭ'ЛЫ *прым.* Састарэлы. *Я прыстарэлая: хачу — пайду, хачу — не на работу.* Малькуны Ігн.; *параўн.* руск. *престарелый* 'тж'.

ПРЫСТА'ЎЛЕНЫ *дзеепрым.* Прыбудаваны. *Маленечкі хлеў пры хаце прыстаўлены.* Альхоўка Навагр.

ПРЫСТАЎЛЯ'ЦЬ *незак.* Дастаўляць. *Каторы прыстаўляіць тавары, ён прылятаў сюды.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПРЫСТА'ЎШЫ *дзеепрым.* Стомлены. *Я ў хаці сяджу, сяджу — і прыстаўша.* Лайпушкі Ігн.

ПРЫСТА'ЦЬ *зак.* 1. экспр. Прычапіцца. *«Чаго ты прыстаў?» — скажа хто збоку.* Парэчча Гродз. *Як прыстаніць, то канца німа.* Ахрэмаўцы Брасл. *Цыганы як прыстануць!..* Саланое Віл. *Што ты прыстоў да жанчыны?!* Вецярэвічы Пух. 2. Тое ж, што і п р ы к і н у ц ц а 3. *Прыстаў у мяне каўтун да галавы.* Старыя Смільгіні Воран. *Рак прыстаў к ей — і памерла.* Дзёрнавічы В.-Дзв. 3. Прыйсці ў прымы. *Прыстаў к ей і жывець.* Янова Рас. 4. Стаміцца. *Мы гной капалі і чыста прысталі, што цяжка.* Едлавічы Брасл. *Ой, прыстала я!* Вялікае Сяло В.-Дзв. *Прыстала, рабіць не магу.* Старыя

Трокі Трак. *Чуць прышоў — так прыстаў.* Малькуны Ігн. *Конь прыстаў на дарозе.* Гемзы Шальч. *Ён учора рабіў, ажні прыстаў.* Дзяніскавічы Ганц.

ПРЫСТАЮ́ЧЫ *дзеепрым.* Заразны (пра хваробу). *Прыстаючая хвароба — яна прыстаець.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПРЫСТО́БАШНІК *м.* Частка стопкі перад уваходам. *У прыстобашніку нож аставіла.* Азяраны Раг.

ПРЫСТО́ЙНЫ *прым.* 1. Добра выхаваны. *Малады, прыстойны, красівы — харошы хлопяц.* Солы Смарг. *Прыстойны чалавек.* Валынцы В.-Дзв. 2. Прыгожы. *Прыстойны чалавек — фігурны і с твару красівы.* Малькуны Ігн.

ПРЫСТО́Л *м. царк.* Прастол. *На прыстолу іконы ляжаць, свечкі гараць, крэст стаіць.* Бабро́ўнікі Гарад.

ПРЫСТО́ПЧЫНІК *м.* Тое ж, што і п р ы с т о́ б а ш н і к. *У прыстопчыніку стаяла матыка.* Вецярэвічы Пух.

ПРЫ́СТОРОНОК *гл.* ПРЫ́СТАРАНАК

ПРЫСТО́ЧЫЦЬ *зак.* Надысці. *Жніво прысточыло, і сено не кончылі.* Хатынічы Ганц.

ПРЫСТРО́ІЦЦА *зак. экспр.* Выйсці замуж. *Ён быў на свеце, і яна прыстроілась з другім.* Саланое Віл.

ПРЫСТРО́ІЦЬ *зак.* 1. Выдаць замуж. *Лютку нада прыстроіць за́ добрага мальца.* Якубова Рас. 2. Тое ж, што і п р ы п р а́ в і ц ь. *Мелася цыбулькі прыстроіць, да забылася.* Малі Астр.

ПРЫСТРЫГАВА́ЦЬ *зак.* Прыфастрыгаваць. *Прыстрыґаваць полы да плячэй і тадэ шшываць.* Кіралі Шчуч.

ПРЫСТРЫ́Т *м.* Тое ж, што і п р ы д з і́ ў. *Хто-нібудзь падзівіцца і стане карові прыстрыт. Удзівілася на яго ды стаў прыстрыт.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ПРЫСТУ́КАЦЬ *зак. экспр.* Забіць. *Можа, яны яе прыстукалі?* Лісна В.-Дзв.

ПРЫ́СТУП I *м.* Момант узмацнення болю. *Пры прыступе я ўпатрэбіла адну таблетку.* Саланое Віл.

ПРЫ́СТУП II *м.* Запал, заўзятасць. *Да работы прыступ трэба мець — да кожнай работы ёсць усё, што трэба.* Граўжышкі Ашм.

ПРЫСТУПА́ЦЦА *незак.* Садзіцца за стол. *Ну, прыступайціся к сталу.* Чапаеўскі В.-Дзв.

ПРЫСТУПА́ЦЬ *незак.* Ступаць. *Я хажу, прыступаю, а ні магла прыступаць. Я ўжо прыступаю, магу хадзіць, у мяне нага пакалечана.* Саланое Віл. *Карова на нагу ні прыступая.* Жылі Іўеў.

ПРЫСТУПІ́ЦЬ I *зак.* Ступіць. *Ні магла прыступіць — нага балела.* Жылі Іўеў.

ПРЫСТУПІ́ЦЬ II *зак.* Уступіць. *Тая хазяйка прыступіць, аддасць спаніцу.* Дзяніскавічы Ганц.

ПРЫСТУ′ПКІ *мн.* Ступенькі. *Прыступкі былі, ён станіць і цмокніць у шчаку.* Валынцы В.-Дзв.

ПРЫСТЫ′ГНУЦЬ *зак.* Азябнуць. *Я прыстыгнула на холадзі.* Старыя Смільгіні Воран.

ПРЫСУКА′ЦЦА *зак. экспр.* Прычапіцца. *Адна дзеўка прысукалася да яго, да чуць не абругала.* Вецярэвічы Пух.; *парайн.* літ. *prisisùkti* 'тж'.

ПРЫСУТУ′ЛАВАТЫ *прым.* Сутулаваты. *Прысутулаваты быў.* Кіралі Шчуч.

ПРЫСУЧЫ′ЦЦА *зак. экспр.* Пасватацца. *Прысучыўся ўжо ён да яе.* Ахрэмаўцы Брасл.; гл. п р ы с у к á ц ц а.

ПРЫСЦІ′ *гл.* ПРЫЙСЦІ′

ПРЫСЦІ′БІСТЫ *прым. экспр.* Лянівы. *Яна баба прысцібістая, прысцібіста рабіла, падленівалася.* Валынцы В.-Дзв.

ПРЫСЦІ′СЯ *зак.* Давесціся. *Я ні была кумой, ні прышлося.* Слабада Мін. *Пасці замуж не прышлося.* Дарава Лях.

ПРЫСЫЛА′ЦЬ *незак.* Дастаўляць поштай. *Ён у Паругвай паехаў і прысылоў пісьма.* Літва Лях.

ПРЫСЫ′ПАЦЬ *зак.* Падсыпаць. *Солі прысыпіш.* Старыя Трокі Трак.

ПРЫСЫПІ′ЦЬ *зак.* Тое ж, што і п р ы с п á ц ь. *Я яго прысыпіла, заснуў унук.* Вострава Маст.

ПРЫСЫ′ПКА *ж.* Мякіна, якую дабаўлялі ў хлеб. *Дайней хто быў бедны, хлеб с прысыпкай еў.* Мсцібава Ваўк.

ПРЫ′СЬБА *гл.* ПРЫ′ЗБА

ПРЫСЯБРАВА′ЦЦА *зак. экспр.* Падсесці. *Што ты тут да мяне прысябраваўся так бліска, атсунься ш, ці не можыш ты сесці там далі?!* Гемзы Шальч.

ПРЫСЯ′ГА *ж.* Клятва. *Дайней дай прысягу ксяндзу — і да смерці.* Канюкай Вільн.

ПРЫСЯГА′ЦЬ *незак.* Даваць прысягу. *Маці стала прысягаць, маці яму прысягла.* Вецярэвічы Пух.

ПРЫСЯГНУ′ЦЬ, ПРАСЯГНУ′ЦЬ *зак.* Даць прысягу, паклясціся. *Ён прысягнуў.* Ахрэмаўцы Брасл. *Прасягнуў прад богам, што непраўда.* Ністанішкі Смарг.

ПРЫСЯ′ДАВАЦЬ *незак.* Садзіцца. *Прысядавайся там!* Рыбчына Віл.

ПРЫСЯ′ДЗІСТЫ, ПРЫСЯ′ДЗІСТЫЙ, ПРЫСА′ДЗІСТЫ *прым.* Каржакаваты, каранасты. *Сястра яго — прысядзістая баба.* Солы Смарг. *Прысядзістый чалавечак, грубянькій.* Ёдлавічы Брасл. *Прысадзісты чалавек, караністы.* Малі Астр.

ПРЫСЯ′ДУШКІ толькі *мн.* Прысяданне ў час танца. *Буду скакаць прысядушкі.* Номікі Бабіц. *Прысядушкі прысела баба.* Малькуны Ігн.

ПРЫ′ТАРКІ *мн.* Металічныя стрыжні, якія злучаюць у

сасе «лемяшніцу» з ручкамі. *Ад карца прытаркі ідуць к аглоблі.* Істра Лудз.

ПРЫТАРНАВА'ЦЦА *зак. плыт.* Прыстаць да берага. *Прытарнаваліся с плытом.* Дакудава Лід.

ПРЫТАРНАВА'ЦЬ *зак.* Прыгнаць да берага (пра плыт). *Прытарнаваў плыт да берага.* Дакудава Лід.

ПРЫ'ТАСКА *ж.* Церассядзёлак. *Прытаска прыдзержывая аглоблі.* Быстрыца Астр.

ПРЫТАЎЧЫ' I *зак. экспр.* Прыдушыць. *Качар прытоўк гусяня.* Кіралі Шчуч.

ПРЫТАЎЧЫ' II *зак.* Прыправіць, затлусціць. *Трэбо прытаўчы гаршка сланінаю ці мясам.* Навасёлкі Свісл.

ПРЫ'ТАЧАК *м.* Выселак. *Нашы хаты — як прытачак да сяла. Тут прытачкоў нарабілі.* Вецярэвічы Пух.

ПРЫ'ТАЧКАМ, ПРЫ'ТАЧКАМІ *прысл.* Тое ж, што і п р ы п á т к а м і. *Прытачкам зрабіў.* Рыбчына Віл. *Прытачкамі я зрабіла.* Альхоўцы Лях.

ПРЫТАЧЫ'ЦЬ *зак.* ◇ *Не прытачыць мызы* — не захацець есці. *Карова і мызы не прытачыла да яды, не хацела есці.* Альхоўцы Лях.

ПРЫТВО'Р *м. царк.* Прытвор. *Прытвор — як уваходзіцца ў цэркоў, такі будынак, там выходзіць бацюшка, бярэ дзіця — да ў воду.* Баброўнікі Гарад.

ПРЫТВУО'РОК *м.* Тое ж, што і п р ы т в ó р. *Жэбрушчы бабы і діды в прытвуоркові сідят.* Курашэва Чыж.

ПРЫТКНУ'ЦЦА *зак.* 1. Дакрануцца. *Прыткнуўся да гарачага.* Беняконі Воран. 2. *перан.* Распачаць што-н. рабіць і кінуць. *Прыткнешся зраню, пакапаіш і ня ідзеш.* Лісна В.-Дзв.

ПРЫ'ТНЫ *прым.* Тое ж, што і п р ы́ к р ы II. *Прытны бераг.* Валынцы В.-Дзв.

ПРЫТО'М *злуч.* Прытым. *Ён прытом начальнік, апшчэствіннік, а цыганій вазіў.* Чапаеўскі В.-Дзв.; *параўн.* руск. *притом* 'тж'.

ПРЫТО'ПТАЦЬ *незак.* Прытоптваць. *Ты не прытоптай!* Кузьмічы Люб.

ПРЫТО'РКНУЦЦА *зак.* Прыткнуцца. *Нідзе не прыторкнуцца ў аўтобуснай.* Юркава В.-Дзв.

ПРЫТРАПЯЧЫ'ЦЬ *зак.* Узбіць (падушку). *Прытрапячыця падушкі, каб высокія былі.* Мсцібава Ваўк.

ПРЫТРО'НЦІЦЬ *зак.* Прыгразіць. *Прытронціў брат, то не бегала.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* польск. *trącać* 'штурхаць, пхаць'.

ПРЫТУ'ГА *ж.* Цяжкае становішча. *Прышла прытуга другому — плоха, гора.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ПРЫТУЖЫ'ЦЬ *зак. ткац.* Нацягнуць аснову навоем.

*Прытужыць слапчэй ці тужэй навой с палатном. Прытужы навой с палатном.* Вострава Маст.

ПРЫТУКА'ЦЬ *незак.* Абгаворваць. *Прытукаць — гаварыць на каго. Яны яе прытукалі.* Лісна В.-Дзв.

ПРЫТУ'ЛАК *м.* 1. Права на забяспечанае пражыванне. *Цяпер добра жыць — усім ёсць прытулак: і старым, і малым.* Вузла Мядз. 2. Прыстанішча. *Німа ёй прытулку ў хаці.* Кіралі Шчуч. *Німа яму прытулку.* Дзяніскавічы Ганц.

ПРЫТУЛІ'ЦЦА, ПРЫТУЛІ'ЦЦЯ *зак.* 1. Прыхіліцца да каго-н., чаго-н. *Прытулілася дзіця да маткі.* Паляцкішкі Воран. *Нас на лубін немалочаны палажылі; леглі, прытуліліся — зуп зуба кліча.* Гальшаны Ашм. *Прытуліліся да маткі і сядзяць.* Старыя Трокі Трак. *Валя прытулілася да мяне і кажа нешта.* Вецярэвічы Пух. *Прытуліса да печкі, там цёпло.* Баброўнікі Гарад. *Прытуліцця да сцянэ пагрэць плечы, гарачая сцяна да слонца.* Кіралі Шчуч. 2. *перан.* Адчуць прыхільнасць да каго-н. *Прытуліўся да жонкі. Прытуліўся мужык да другой.* Кіралі Шчуч. *Бацька да яе не прытуліўся, не прылашчыў дзіця.* Ёдлавічы Брасл.

ПРЫТУЛІ'ЦЬ *зак.* 1. Прылашчыць. *Родная матка лепей прытуля.* Лоск Валож. *Прытуліла да сябе.* Навасёлкі Свісл., Альхоўка Навагр. 2. *перан.* Дадаць. *Да зарплаты прытуляць пенсію.* Кіралі Шчуч. ◇ *Прытуліць рукі* — зрабіць што-н. значнае; сашчапіць рукі [нябожчыку]. *Мушчына дзе рукі прытуліў, там і знак.* Малькуны Ігн. *Мацца* [матцы] *рукі прытуліла, абмыла.* Малі Астр. *Прытуліць косці* — быць пахаваным. *Памрэш — косці прытуліш.* Кудзялянцы Шальч.

ПРЫТУ'ЛЬВАЦЬ *незак.* Лашчыць, прыхінаць. *Прытульвая дзіця да сябе.* Міратычы Карэл.

ПРЫТУЛЬНЕ'ЙШЫ *прым. выш.* Ласкавейшы. *Яна прытульнейшая за Галю, лісавінькая, добрая дзевачка.* Малі Астр.

ПРЫТУ'ЛЯНЫ *прым. перан.* Забяспечаны. *Дзісяка і стары, і малы прытуляны, нарот папрытульваны.* Парэчча Гродз.

ПРЫТУЛЯ'ЦЦА *незак.* Шчыльна прыкладвацца. *Прытуляіцца палена да палена, што воздух не прахадзіў.* Старыя Смільгіні Воран.

ПРЫТУЛЯ'ЦЬ *незак.* Прыкладваць. *Прытуляю вуха да часоў і ня чую.* Парэчча Гродз.

ПРЫТУ'ПТАЦЬ *зак.* Затаптаць. *Ужэ прытупталі кураня!* Дзяніскавічы Ганц.

ПРЫТУХА'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і п р ы т у к á ц ь. *Яна стала прытухаць на яе.* Лісна В.-Дзв.

ПРЫТХЛІ'ЦЦА *зак.* Прытухнуць. *Прытхлілася дзяжа, кіслата смярдзючая, трэба цыбуляй церці.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПРЫ'ТЧА, ПРЫ'ЧЧА, ПРЫ'ЧА *ж.* і *н.* Хвароба, немач.

*Прытча баба леча, баляць ногі чалавеку.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Прычча — хвароба, ногі, суставы баляць, на ўсіх суставах ломіць.* Рыбчына Віл. *С іспугу прыча прычапілася.* Крэва Смарг. ◇ *Мерыць прычча* — лячыць хваробу. *Было прычча, і мерылі мне прычча. Прычча мерыць — як ногі баляць ад спужання, і тоя прычча прападзе.* Рыбчына Віл.

ПРЫТЫ′ *гл.* ПРЫЙСЦІ′

ПРЫТЫКА′ЦЦА *незак.* Дакранацца. *Прыткнуўся да гарачага. Не трэба прытыкацца.* Беняконі Воран. *Не нада прытыкацца да агню.* Гемзы Шальч. ◇ *Ногі да зямлі не прытыкаюцца* — пра хуткую хадзьбу. *Ідзець — ногі да зямлі не прытыкаюцца, як воздухам, нясець.* Кіралі Шчуч. *Як мой тата хадзіў, ногі да зямлі не прытыкаліся — воздух яго нясець.* Кураполле Паст.; *параўн.* літ. *prisitìkti* 'тж'.

ПРЫТЯГА′НКА *ж.* Невялікі воз (сена). *Прытяганка сена будэ, одін прывоз. Две прытяганкі.* Азарычы Пін. *Прытяганку сіна купыв — будэ корову дозымуваты.* Сіманавічы Драг.

ПРЫУМЕ′ЛЬНІК *гл.* ПРЫГУМЕ′ННІК

ПРЫ′ЎНЯ *ж.* Тое ж, што і п р ы́ м е н 1. *У прыўні стаяў кубял.* Бакшты Іўеў.

ПРЫ′ХА *ж.* Губа ў каня, каровы. *Прыха ў каня.* Малахоўцы Бар. *У каня прыха. Прыху парваў конь.* Альхоўцы Лях. *У коровы і коня прыха, а ў чоловека губа.* Азарычы Пін.

ПРЫХАВА′ЦЬ *зак.* Схаваць. *Я нажы прыхавала.* Крэва Смарг. *Прыхавала пярсцёнак і не знаходзя.* Малі Астр.

ПРЫХАДЖА′ЛЫ *прым.* Прышлы, нетутэйшы. *Прыхаджалыя каты жывуць у сараі.* Солы Смарг. *Прыхаджалыя карасі хітрыя.* Альхоўка Навагр.

ПРЫХАДЗІ′ЦЦА *незак.* 1. Даводзіцца каму-н. кім-н. *Брат жонкі — шваґер мне прыходзіцца.* Грыкені Вільн. 2. Перадавацца ў спадчыну. *Сем'і большыя былі, но старшэму сыну земля прыходзілась, а млаччым сплата — сплачывалі, а землі дачкам не было, только сыну.* Рагулішкі Даўг. 3. Быць вымушаным паступіць так, а не інакш. *Прыходзіцца, што ты абязан абмануць.* Ахрэмаўцы Брасл. ◇ *Не прыхадзіцца ў галаву* — не ўяўляць сабе. *Як тут выходзіць — мне ў голаву не прыходзіцца.* Старыя Смільгіні Воран.

ПРЫХАДЗІ′ЦЬ *незак.* Прыходзіць. *Прыхадзіў да нас.* Груздава Паст. *Як нада шыць, то прыходзіць да нас. Прыхадзіла яна.* Рагулішкі Даўг. *Дзяўчына па малако прыхадзіла.* Вузла Мядз.

ПРЫХАЖА′КІ *мн.* Прышлыя людзі. *Ятроўкі абедзві прыхажакі, могуць дружней жыць.* Кураполле Паст.

ПРЫ′ХАПКАМ *прысл.* Тое ж, што і п р ы п а́ т к а мі. *Прыхапкам робіць.* Граўжышкі Ашм. *Пры ей пару рас прыхапкам прыбягу памагу.* Малі Астр. *Я прыхапкам загарадзіў*

*плот. Я ўскочыў, прыхапкам зрабіў, пасядзеў і сказаў, што мне трэба ісці.* Гемзы Шальч.

ПРЫХАХУ′ЛІЦЬ *зак. экспр.* Забіць. *Яго нехта прыхахуліў — а чаго кот туды хадзіў.* Вецярэвічы Пух.; *параўн.* літ. *kùkis* 'удар'.

ПРЫХВА′РАВАЦЬ *незак.* Прыхворваць. *Яна ўсё прыхварала змалку.* Валынцы В.-Дзв.

ПРЫХВАРЭ′ЦЬ *зак.* Захварэць. *Прыхварэў моцна, няма на яго лакомых.* Пацаўшчына Дзятл.

ПРЫ′ХВАТКАМІ *прысл.* Тое ж, што і п р ы п а́ т к а м і. *Я вяжу прыхваткамі.* Палік Барыс. *Я прыхваткамі зраблю сваю работу.* Дзяніскавічы Ганц. *Прыхваткамі зрабіла.* Пасека Ст.-Дар. *Я прыхваткамі ткала.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Прыхваткамі ціелого свэтра зробіла.* Курашэва Чыж.

ПРЫХВАЦІ′ЦЬ *зак.* Прымарозіць. *Прымараскі выскачылі і прыхваціла буракі.* Ёдлавічы Брасл.

ПРЫХІ′Б *м.* Бяда. *Я думала — на мяне ніякага прыхібу ня будзя, як была здаровай.* Бакшты Іўеў.; *параўн.* літ. *prikybà* 'прыдзіра'.

ПРЫХІЛІ′ТІ, ПРЫХІЛІ′ТЭ *зак.* Прыхіліць. *Прыхілю іх до сэбэ.* Дзмітравічы Кам. ◇ *Прыхіліті голову* — знайсці прытулак. *На старые ліета нэ міела дэ головы прыхіліті.* Курашэва Чыж.

ПРЫХІЛІ′ТІСЕ *зак.* Прылашчыцца. *Дітя хочэ до батькуов прыхілітісе.* Курашэва Чыж.

ПРЫХІ′ЛЬНЫ *прым.* Добразычлівы. *Малотшая больш прыхільная, а старшая і не зайдзя.* Завельцы Астр.

ПРЫХІНА′ЦЦА *незак.* Дакранацца. *Глядзіш, каб ні прыхінацца к малочніку, а то тады рукі ці адзежа чорныя.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПРЫ′ХЛУП, ПРЫ′ХЛАП *м.* і *ж.* Пакатасць. *Прыхлуп, хату накрыў прыхлап'ю.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ПРЫХЛЯБНУ′ЦЬ, ПРЫХЛІБНУ′ЦЬ *зак.* Запіць чым-н. *Прыхлябнеш чым. Какоры прыхлібнеш чым.* Валынцы В.-Дзв.

ПРЫХО′Д *м. царк.* Прыход. *Некалі поп жыў с прыходу.* Альхоўцы Лях.

ПРЫХО′ДЖЫ, ПРЫХО′ЖЫ *прым.* 1. Нетутэйшы, прышлы. *Яна прыходжая да нас.* Груздава Паст. *Прыходжы чалавек.* Рыбчына Віл. *Яна тожа прыхожая, картошку пабірала.* Старыя Трокі Трак. 2. Запазычаны. *Дроджы — прыходжая слова.* Вострава Маст.

ПРЫХО′ДЗІЦЦА *незак.* 1. Тое ж, што і п р ы х а д з і́ ц ц а 1. *Хто вы такія? Кім прыходзіціся?* Паляцкішкі Воран. 2. Здабываць, зарабляць. *Дайней трудна гэты кусочак хлеба прыходзіўся.* Парэчча Гродз. *Знаіць, як прыходзяцца дзеньгі.* Буды В.-Дзв. ▽ *Нада жыць, як прыходзіцца.* Вузла Мядз. *Дарма прыходзіцца — марна расходзіцца.* Завельцы Астр.

3. Знаходзіцца ў цяжкіх умовах. *Ні ўсім так прыходзілася, як мне: малая была, а ўсё рабіла.* Слабада Мін. 4. Падыходзіць па размеру. *Нічога не прыходзіцца — мая нага большая, як у яе.* Мсцібава Ваўк.

ПРЫХО'ДЗІЦЬ, ПРИХО'ДЫТЭ *незак.* 1. З'яўляцца куды-н. *Прыходзіць бапка.* Слабада Мін. *На весну хай дзяўчата прыходзяць.* Васілевічы Гродз. *Прыходзіць Войтусь.* Паляцкішкі Воран. *Прыходзіў сын.* Кемялішкі Астр. *Антук прыходзіў.* Жылі Іўеў. *Прыходзіць, ухажывае. Прыходжу на Свентаянску вуліцу.* Гальшаны Ашм. *Яна прыходзіць глядзець бульбу.* Саланое Віл. *Прыходзя да нас. Да нас прыходзілі яго браты.* Старыя Трокі Трак. *Антук Марысін прыходзіў.* Навасёлкі Свісл. *Прыходзілі велькіе патсвінікі* [дзікія кабаны] *у бульбу.* Сакаляны Сакол. *Мая браціха прыходзіла.* Кузьмічы Люб. *Вона приходыла.* Дзмітравічы Кам. 2. Выходзіць замуж. *Я прыходжу сюды — замуж сюды выходжу.* Дзяніскавічы Ганц. 3. Надыходзіць. *Вісна прыходзіць, абратна хазяін прыяжджаіць і бярэ.* Гальшаны Ашм. *Прыходзіць свята.* Васілевічы Гродз.

ПРЫХО'ЖЫ *гл.* ПРЫХО'ДЖЫ

ПРЫЦВІ'ЦЬ *зак.* Заплеснець. *Прыцвіе хлеп, тады яго елі, кап грому ні баяцца, но гэта ўсё даўней.* Завельцы Астр.

ПРЫ'ЦЕМАК *м.* Паўзмрок. *Цямнея, ужо прыцемак.* Жылі Іўеў.

ПРЫЦЕ'РЦІ *зак.* ◇ *Прыцерці рогі* — уціхамірыць. *Мы рогі прытром у цібе.* Кудзялянцы Шальч.

ПРЫЦЁРТАЯ ДАРО'ГА *ж.* Уезджаная дарога. *Прыцёртая дарога — добра ехаць на санях.* Саланое Віл.

ПРЫЦІСКА'ЦЬ *незак.* 1. Прыціскаць. *Вантрабянкі ў місы складалі і прыціскалі.* Завельцы Астр. 2. *перан.* Настойліва патрабаваць. *Еслі б матка прыціскала яго, дык не дзелаў бы ён так.* Чапаеўскі В.-Дзв.

ПРЫЦІ'СНУЦЦА *зак.* 1. Прыгуліцца. *Мы прыцісуліся адзін да другога і ляжым у акопе.* Вузла Мядз. 2. *перан.* Шчыра ўзяцца за работу. *Прыціснулася да буракоў.* Ёдлавічы Брасл.

ПРЫЦІ'СНУЦЬ, ПРАЦІ'СНУЦЬ *зак.* 1. Прыціснуць. *Прыціснуў яго да сцяны.* Дварчаны Паст. *А мне абы прыціснуў чым-небудзь.* Малі Астр. *Сабака індыка прыціснець да зямлі.* Рагулішкі Даўг. *Прыціс каменем.* Дзяніскавічы Ганц. ▽ *Грыбоў у лесі многа — хоць жэрдзінай прыціснуць.* Малі Астр. 2. Прыдушыць. *Каршун падзець і прыціснець курыцу.* Лайпушкі Ігн. *Як муху праціснуць.* Кураполле Паст. 3. Зашчаміць. *Я той палец усё прыціснў — і баліць.* Старыя Смільгіні Воран. 4. *перан.* Моцна забалець. *Калі прыціснула зусім, тады пашла раджаць.* Завельцы Астр.

ПРЫЦУКА'ЦЦА *зак.* Тое ж, што і прысука́цца. *Чаго ты да міне прыцукаўся?!* Малі Астр.

ПРЫЦЭ'ПЛІВАЦЬ *незак.* Прымацоўваць. *Затыкальнік прыцэплівалі да пражы.* Навікі Лудз.

ПРЫЦЭ'ПШЧЫК *м.* Тое ж, што і прыс. *Прыцэпшчык — жардзіна с кручком.* Кураполле Паст.

ПРЫЦЮ'ЖЫЦЬ *зак. безас. перан.* Абмежаваць у чым-н. *Німа ніякай прокідзі — вот прыцюжыла.* Кураполле Паст.

ПРЫ'ЦЯГ *м.* Працяжнае вымаўленне. *Некаторыя гавораць з прыцягам.* Альхоўка Навагр.

ПРЫЦЯ'ГАВІЧ *м.* Вяроўка для ўціскання сена на возе. *Прыцягавічы — вяроўкі, вос прыціскаць.* Жодзішкі Смарг.

ПРЫЦЯГНУ'ЦЬ *зак.* Наблізіць што-н. да чаго-н. *У варстаце ест вазок, і шрубы трэба, кап прыцягнуць вазок.* Збляны Лід.

ПРЫЦЯГЦІ', ПРЫЦЯХЦІ' *зак.* Прыцягнуць. *Бервяно прыцёг.* Багушэвічы Бярэз. *Прыцёх яе сюды.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПРЫЦЯГЦІ'СЯ *зак. экспр.* Прывалачыся. *Чую — уночы прыцяглася.* Вецярэвічы Пух.

ПРЫ'ЦЯМНА *прысл.* Прыцемна. *Зімой з дому прыходзілася выходзіць яшчэ прыцямна, ды і дадому прыходзіў позна.* Журыхі Віл.

ПРЫЦЯМНЕ'ННЕ ЛЁХКІХ *н. мед.* Зацямненне ў лёгкіх. *Сталасё ў яго прыцямненне лёхкіх, бо цягаўсё, валяўсё.* Навіны Нясв.

ПРЫЦЯХЦІ' *гл.* ПРЫЦЯГЦІ'

ПРЫЦЯЦЮ'РЫЦЦА *зак. экспр.* 1. Натапырыцца. *Індычка прыцяцюрылася.* Ністанішкі Смарг. 2. *перан.* Памерці. *Старая прыцяцюрылася — была памёршы.* Ністанішкі Смарг.

ПРЫ'ЧА *гл.* ПРЫ'ТЧА

ПРЫЧА' *прыназ.* з *род.* Апрача. *Прыча булкі нічога не ела.* Азяраны Раг.

ПРЫЧАВІ'ТІ *зак.* Прыціснуць. *Хвоста коту прычавілі.* Азарычы Пін.

ПРЫЧАІ'ТІСЕ *зак.* Прытаіцца. *Куот прычаівсе, хочэ мыш злапаті.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *przyczaić się* 'тж'.

ПРЫЧАКА'ЦЬ *зак.* Дачакацца. *Тая ледво смерці прычакала.* Парэчча Гродз.

ПРЫЧАПІ'ЦЦА *зак.* 1. Прычапіцца. *Прычапілася нітка да рукава.* Дварчаны Паст. 2. Тое ж, што і прысука́цца. *Прычапіўся нівядома чаго.* Жылі Іўеў. *Ай, нагле прычапілася ўжэ.* Чуркі Ашм. *Воўк прычэпіцца да чалавека і ідзець радам.* Мярэцкія Глыб. *Прычапіўся ён да мяне.* Грыкені Вільн. ▽ *Прычапіўся да яе, як смала да цела.* Малі Астр. *Прычапілася, як смала к рукам, да сварыцца.* Вецярэвічы Пух.

ПРЫЧАПІ'ЦЬ *зак.* 1. Прымацаваць. *Зробя памяло, хто*

*вяроўку прычэпя, і чысцім комін.* Быстрыца Астр. 2. *перан.* Нямоцна прышыць. *Прычапі падол.* Солы Смарг.

ПРЫЧАСА'ЦЬ *зак. экспр.* Прыйсці. ∇ *Агнеша сем сёл абчэша і дамоў прычэша, і не вячэраўшы спаць кладзецца.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПРЫЧВА'РА *м.* і *ж.* Хто прытвараецца, прыкідваецца. *Гэты прычвара прычвараецца.* Рагулішкі Даўг. ∇*Кожная прычвара знайдзе сабе пару.* Рагулішкі Даўг.

ПРЫЧВАРА'ЦЦА *незак.* 1. Прыдурвацца. *Гэты прычвара прычвараецца.* Рагулішкі Даўг. 2. Прытварацца. *Кажыць — бальная, а іна, як конь, здаровая, толькі прычвараецца.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПРЫЧО'ЛАК *м. буд.* 1. Франтонная частка страхі. *Прычолак — частка крышы, а калі дошкамі забіта, то шчыт.* Міратычы Карэл. 2. Ніжняя частка франтона. *Як шчыт у хаці — знізу шчыта прычолак.* Малахоўцы Бар. 3. Вільчык. *Прычолак с канца ў хаце, нат шчытом.* Мыто Лід.

ПРЫЧУО'ПКА *ж.* Падстава для сваркі. *Шукае прычуопку, коп посварытісе.* Курашэва Чыж.

ПРЫ'ЧЧА *гл.* ПРЫ'ТЧА

ПРЫЧЫ'НА *ж.* 1. Прычына. *Нейкая прычына ё, што ён не прыехаў да етых пор.* Рудня Астравітая Чэрв. *Бяда бес прычыны не бывая.* Збляны Лід. *Я пайду, калі будзя прычына.* Быстрыца Астр. 2. Напасць. *Прычына напала на чалавека.* Ракаўскія Швянч. *Што за прычына гэтыя вароны: крычаць усю ноч, і бруду ад іх многа.* Крэва Смарг. *Такая прычына прышла — упала і нагу зламала.* Вузла Мядз. ∇ *На добрага — усе прычыны, а благога і чорт не бярэ.* Малі Астр.

ПРЫЧЫ'НАК *м. пчал.* Дошчачка, якой закрываюць адтуліну ў калодачным вулеі. *Для пчол калотка, у ёй е дупла, выражуць, забівалі дно, выдоўбавана дзірка збоку — тады прычынак, дзірка закрывалася прычынкам.* Альхоўцы Лях.

ПРЫЧЫНІ'ЦЬ *зак.* Зрабіць. *Мне дабра не прычыніла і тая Антоля.* Вецярэвічы Пух.

ПРЫ'ЧЫНКА *ж.* Тое ж, што і п р ы ч ы́ н а к. *Прычынкі — у калодах збоку. Прычынка — у калодзе.* Масілавічы Сл.

ПРЫЧЫХА'ЦЦА *гл.* ПРАЧЫХА'ЦЦА

ПРЫЧЭ'ПАНЫ *дзеепрым.* Прымацаваны. *Атоскі да аглоблі прычэпаны.* Кіралі Шчуч.

ПРЫЧЭ'ПЛЕНЫ *дзеепрым.* Тое, што і п р ы ч э́ п а н ы. *Сідзіць, медалі прычэпленыя.* Кіралі Шчуч.

ПРЫЧЭ'ПЛІВАЦЦА *незак.* Прымацоўвацца. *Рэмінь прычэплівaецца да цапілна — і палучаецца цэп.* Рыбчына Віл.

ПРЫЧЭ'ПНЫ *прым.* Назойлівы. *Як п'яны — ён прычэпны.* Ракаўскія Швянч.

ПРЫЧЭ'САВАЦЬ *незак.* Прычэсваць. *Буду прычэсаваць валасы. Прычэсую валасы.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПРЫЧЭ′САНЫ *дзеепрым.* Прычасаны. *Прычэсаны хлопец. Пашла, як русалка, валасы не прычэсаныя.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПРЫЧЭ′СЦІЯ *гл.* ПРЫШЭ′СЦЯ

ПРЫШАЛАМІ′ЦЬ *зак. экспр.* Пакараць. *За мужыка прышаламілі.* Альхоўцы Лях.

ПРЫШАТЫ′РЫЦЦА *зак. экспр.* Прыбрацца. *Ты ўжо прышатырылася?* Саланое Віл.

ПРЫШАТЫ′РЫЦЬ *зак. экспр.* Прыбраць. *Прышатырыла ты мяне.* Саланое Віл.

ПРЫ′ШВА *м.* 1. *буд.* Жэрдка ў паплёце. *Прышвы віткамі прывязваюць да лат.* Курараполле Паст. 2. Папярочная перакладзіна ў кроснах. *Прышва — нядвіжымая калода, не верціцца, упэрадзі, гдзе палатно ідзёт, утарая калода накручвала палатно.* Навікі Лудз.

ПРЫШПІЛІ′ЦЬ *зак.* Прымацаваць шпількай. *Шпілька — прышпіліць што-небудзь.* Солы Смарг.

ПРЫШЧ *м.* Гнайнік на скуры. *Такі прышч, такі бэмбаль ускочыў на руцэ.* Старыя Трокі Трак. *Павыскаквалі прышчы.* Лука Нараўк. *Ліцо ў прышчах.* Рудня Астравітая Чэрв. *Закусают комарэ, то будут прышчэ.* Смаляніца Пруж.

ПРЫ′ШЧА *ж.* Тое ж, што і п р ы ш ч. *Прышча наскочыла.* Быстрыца Астр. *Прышча выскачыла на ліцу балюшча.* Гемзы Шальч.

ПРЫШЧА′Й *м.* Тое ж, што і п р ы ш ч. *У яе прышчай ест на твары.* Вялікія Баяры Шчуч. *Прышчай ускочыў.* Лоск Валож. *Прышчай на руцэ.* Жылі Іўеў. *Нага выглядала чырвона, апухшы, с прышчаямі.* Сакаляны Сакол. *Прышчай наскочыў, ускочыў на руцэ. Натта мне прышчаёў на твары.* Кіралі Шчуч. *Выскачыў прышчай.* Навасёлкі Свісл. *Язык прышчаямі выкідая.* Вострава Маст.

ПРЫШЧА′ЙКА, ПРЫШЧЭ′ЙКА *ж.* Тое ж, што і п р ы ш ч. *Прышчайка на руцэ.* Вялікія Баяры Шчуч. *Прышчайка села на носі ці на губі. А мой жа ты хлопчык, якая прышчайка ў цябе.* Міратычы Карэл. *Выскачыла прышчэйка.* Навасёлкі Свісл.

ПРЫ′ШЧАНЫ *дзеепрым.* Высушаны. *Жыто прышчано, яго перапускаюць прас сушылку.* Міратычы Карэл.

ПРЫШЧА′ЎКА *ж.* Тое ж, што і п р ы ш ч. *Во прышчаўка якая! Прышчаўкі пасохлі, ужо ўзяліся струпамі.* Рыбчына Віл. *Выскочыла прышчаўка на морді.* Азарычы Пін. *Прышчаўкі понападвалі.* Хатынічы Ганц. *Прышчаўкі паўскакавалі.* Ухвала Круп.

ПРЫ′ШЧВА *ж.* Тое ж, што і п р ы ш ч. *Ускочыла прышчва.* Магуны Паст.

ПРЫ′ШЧЫК *м. памянш.* да п р ы ш ч. *Прышчык раскалу-*

*пала — і нарываець.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Увесь у прышчыках.* Пярэкі В.-Дзв.

ПРЫ'ШЧЫНКА *ж. памянш.* Прышчык. *Прышчынкі паўскакалі на руках, нагах.* Глівін Барыс. *Прышчынкі паўскаквалі.* Ухвала Круп. *Прышчынкі пашлі.* Мачаск Бярэз.

ПРЫШЧЫ'ЦА *ж. вет.* Яшчур. *Прышчыца ў ската бывае ў носе, на языку.* Лука Нараўк.

ПРЫ'ШЧЫЦЬ І *незак.* Пакрывацца прышчамі. *Рука прышчыць.* Номікі Бабіц.

ПРЫ'ШЧЫЦЬ ІІ *незак.* 1. Пра́жыць. *Прышчаць гарох, боп на скварадзе. Прышчаць жыто каласамі, пастухе накладуць агонь, нарвуць каласоў жыта ў пучок і прышчаць на 'гні.* Міратычы Карэл. *Прышчым семянё, гарох прышчылі.* Старое Сяло Зэльв. *Прышчыць — жарыць гарох на скаварадзе.* Багушэвічы Бярэз. 2. Скварыць. *Прышчыць сала.* Старое Сяло Зэльв. 3. Смажыць. *Яйцо прышчыць.* Мыто Лід.

ПРЫШЧЭ'ЙКА *гл* ПРЫШЧА'ЙКА

ПРЫШЧЭ'ПІЦЬ *зак. мед.* Прышчапіць (воспу). *Прышчэпіла оспу, не зоўрэдзіла.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ПРЫШЧЭ'ПЛІВАЦЬ *незак. мед.* Прышчэплівацъ (воспу). *Прышчэплівалі воспу, прышлі шчапіць воспу.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПРЫШЧЭ'ЦЬ *незак.* Пячы, балець. *Прышчыць паляц.* Вострава Маст.; *гл.* п і р ш ч э́ ц ь.

ПРЫШЫ'БНУЦЬ *зак. перан.* Прыгнесці. *Яе старасць прышыбла.* Кураполле Паст.

ПРЫШЫВА'ЛКА *ж.* Тое ж, што і п р ы́ ш в а 1. *Прышывалкі трымаюць салому на страсе, іх віткай з лазы прывязвалі.* Магуны Паст. *Прышывалкі — у страсе.* Мярэцкія Глыб.

ПРЫШЫВА'ЦЦА *незак.* Прымацоўвацца шыццём. *Фальбонка да спадніцы прышывалася.* Завельцы Астр.

ПРЫШЫКАВА'ЦЬ, ПРЫШЫХОВА'ТЫ *зак.* Падрыхтаваць. *Ні прышыкуя мне дроў.* Жылі Іўеў. *Прышыховав мыні дров в рупку.* Сіманавічы Драг.; *параўн.* польск. *szykować* 'рыхтаваць'.

ПРЫШЭ'РХНУЦЬ *зак.* Пакрыцца тонкім слоем ільду. *Прышэрхло: вецер дуе, і лёд чуць на калюжах варушыцца, чуць лёдам калюжы зацягнула.* Лука Нараўк.; *параўн.* літ. *šeŕkšnas* 'іней'.

ПРЫШЭ'СТВІЯ *н.* Здарэнне. *Было мне прышэствія такоя.* Груздава Паст.; *параўн.* руск. *происшествие* 'тж'.

ПРЫШЭ'СЦЯ *н.*, ПРЫЧЭ'СЦІЯ *ж.* Тое ж, што і п р ы ш э́ с т в і я. *І ціпер прышэсця было такоя.* Бакшты Іўеў. *Можа, ікая прычэсція ў вас была?* Пярэкі В.-Дзв.

ПРЫШЭ'ЎНІК *м.* Пінжак з даматканага сукна. *Прышэўнік шылі с сукна, як цяпер марынарка, надзявалі на поля касціь, каля хаты насіць.* Магуны Паст.

ПРЫЮ'Т *м. гіст.* У дарэвалюцыйнай Расіі дабрачынная ўстанова для выхавання беспрытульных дзяцей. *Цёця мэнэ здала ў прыют.* Смаляніца Пруж.; *парайн.* руск. *приют* 'прытулак'.

ПРЫЮЧЫ'ЦЦА *зак.* Знайсці прытулак. *Думалі, што я прыючуся.* Збляны Лід.; *парайн.* руск. *приютиться* 'тж'.

ПРЫЯГДЖА'ЦЬ *гл.* ПРЫЯЖДЖА'ЦЬ

ПРЫЯДА'ЦЦА *незак.* Страчваць смак да аднастайнай ежы. *Мне няма як ісці туды, даю ў пераменку сена і клевер, бо адно прыядаецца.* Малькуны Ігн.

ПРЫЯЖДЖА'ЛЫ *прым.* Прыезджы. *Ён прыяжджалы, нетутэйшы.* Гемзы Шальч. *Прыяжджалыя людзі.* Старыя Смільгіні Воран.

ПРЫЯЖДЖА'ЦЬ, ПРЫЯГДЖА'ЦЬ, ПРЫІЖДЖЯ'ТЫ, ПРЫІШЧЯ'ТЫ *незак.* 1. Прыязджаць. *Восені прыяжджаюць машыны.* Швэды Вільн. *Хазяін прыяжджаіць і бярэ мяне на службу к сабе.* Гальшаны Ашм. *Цэлы свет прыяжджаў да яе.* Малі Астр. *Зяць прыяжджаў.* Вецярэвічы Пух. *Прыяжджаюць вечарам, сватаюцца.* Васілевічы Гродз. *Прыяжджаііць увосені матка з бацькай.* Завельцы Астр. *Рускія былі ажне ў Клецку, а палякі немаведама дзе, але прыяжджалі то тыя, то другія.* Дарава Лях. *Сын з жонкай часта прыягджаюць да нас.* Вузла Мядз. *Цёнгле прыягджае на лета да нас.* Галубы Маст. *Ёсць каровы бегаюцца, дык прыягджае асямянатар. Прыягджала аттуль шэсць душ.* Пацаўшчына Дзятл. *Восем месяцаў не прыягджая дадому.* Альхоўка Навагр. *Да маладухі прыягджаюць госці.* Грыцавічы Свісл. *Прыіжджяють людэ додому. Сыновэць до мынэ прыішчяв.* Сіманавічы Драг. 2. Пераязджаць. *Прыяжджаў рэчку і процііў гэтага куста астанавіўся.* Сонічы Гродз.

ПРЫЯЖДЖО'НЫ *прым.* Тое ж, што і п р ы я ж д ж а́ л ы. *Гэта прыяжджоны чалавек, праўда, даўно прыехаў.* Ракаўскія Швянч.

ПРЫЯМНЕ'ЙШЫ *прым. выш.* Больш прыемны. *Тая нейкая прыямнейшая.* Пацаўшчына Дзятл.

ПРЫЯ'ТНЫ *прым.* Прыемны. *Бабулька, прыятнага вам сну!* Саланое Віл.; *парайн.* руск. *приятный* 'тж'.

ПРЫ'ЯЦЕЛЬ, ПРЫ'ЯЦЯЛЬ, ПРЫ'ЕЦЕЛЬ *м.* Сябар. *Будзе табе першы прыяцель.* Мсцібава Ваўк. *Мой прыяцель прыедзе. С прыяцелям прашчаецца.* Дзяніскавічы Ганц. *Мой прыяцяль.* Альхоўцы Лях., Вялікія Баяры Шчуч., Навасёлкі Свісл. *Прыецель мой.* Крынкі Крын.

ПРЫЯ'ЦЬ, ПРЫЯ'ТІ, ПРЫЯ'ТЫ *незак.* Спрыяць. *Хто будзя яму прыяць.* Груздава Паст. *Не будзя нявестка мне прыяць.* Азяраны Раг. *Банькі своім дзетям прыяют. Нэвіестка мніе нэ прые.* Курашэва Чыж. *Дыво, шо маты своім дітюм прыяе.* Сіманавічы Драг.; *парайн.* польск. *sprzyjać* 'тж'.

ПРЭ'ГЧЫ, ПРЭ'ХЧЫ, ПРЭ'ГЦІ *незак.* Пражыць. *Гарох прэгчы.* Пасека Ст.-Дар. *Гарох прэхчы.* Мачаск Бярэз. *Трэба прэгці на сквародзе гарох.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ПРЭДСЕДА'ТАЛЬ *гл.* ПРАДСЯДА'ТАЛЬ

ПРЭ'ЖАНЫ *гл.* ПРА'ЖАНЫ

ПРЭ'ЖЫЦЬ *гл.* ПРА'ЖЫЦЬ

ПРЭЗЕНТАВА'ЦЬ *незак. перан.* Выстаўляць напаказ. *Кажу: целам прэзентуе сваім, усё пааткрыта.* Крэва Смарг.; *парайн.* польск. *prezentować* 'рэкамендаваць, знаёміцца'.

ПРЭЙ *м. бат.* Пырнік. *Прэем зарасло.* Масілавічы Сл.; *гл.* п ы р э́ й.

ПРЭ'ЛЕСЦЬ *ж.*, ПРЭ'ЛЮС *м. перан.* Цуд. *Я і цыбулю туды, і часніку, кмін, перац — ну, прэлесць каўбасы былі!* Кіралі Шчуч. *Такая смакота, просто прэлюс!* Сіманавічы Драг.; *парайн.* руск. *прелесть* 'тж'.

ПРЭ'ЛІНА *ж.* Месца, якое не замярзае зімой. *Прэліна не замярзаіць, там крыніца.* Саланое Віл.

ПРЭ'МІЯ, ПРЭ'МЯ *ж.* Прэмія. *Яна прэмію палучыла.* Саланое Віл. *Як быта прэмю будуць даваць.* Ракаўскія Швянч.

ПРЭ'НДЖЭЙ, ПРЭ'НДЗЕЙ, ПРЭ'НДЗЭЙ, ПРЭ'НДЗАЙ *прысл.* Хутчэй. *Прэнджэй дай посцілку! Прэнджэй еш! Прэндзей еш!* Паляцкішкі Воран. *Бяжы прэндзэй, то дагоніш.* Старыя Смільгіні Воран. *Парасіць гуркі — прэндзей абыйдуць. Свежая ралья, трэба пачакаць, трава высыпя, траву прыб'ю, зярно абыдзя прэндзай.* Жылі Іўеў. *Ідзі прэндзай, бо кураня ў балоці!* Кіралі Шчуч. *Прэндзай ідзі!* Вялікія Баяры Шчуч. *Прэндзай стаўце снапэ!* Каўняны Гродз. *Яна прэндзай сходзя.* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *prędzej* 'тж'.

ПРЭ'НДЗЕНЬКУ *прысл. памянш.* Хуценька. *Прэндзеньку прыехала, бо трэба карову даіць, каб дзе якіх яблычкаў для яе.* Гемзы Шальч.; *гл.* п р э́ н д ж э й.

ПРЭ'НДКІ *гл.* ПРЭ'НТКІ

ПРЭ'НЗЛІ *мн.* Махры. *З прэнзлямі хустка.* Пацаўшчына Дзятл. *Прэнзлі ў хустцы.* Крупіца Мін.; *парайн.* польск. frędzli 'тж'.

ПРЭ'НКА, ПРЭ'НКО *гл.* ПРЭ'НТКА

ПРЭНТ *м.* Металічны прут. *Кап пахаджало, устаўляюць прэнт.* Малахоўцы Бар. *Атосы с прэнту, прэнцік нетолсты.* Чычалі Швянч. *Быў зялезны прэнт.* Альхоўцы Лях. *Прэнты, ці цяпер — завесы.* Гальшаны Ашм. *Прывязе прэнта чваракантовага з Вільні.* Гемзы Шальч. *Жалезны прэнт такі — гэта лом.* Завельцы Астр.; *парайн.* польск. *pręt* 'прут'.

ПРЭ'НТКА, ПРЭ'НТКО, ПРЭ'НКА, ПРЭ'НКО, ПРЭ'НЬКО *прысл.* Хутка. *Прэнтка памыла адзеня.* Старыя Смільгіні Воран. *Прэнтка ідзе.* Жылі Іўеў. *Я думала, што ён прэнтка прыдзе. Прэнтка будзяця ўдома.* Дакудава Лід. *Хлеп прэнтка чэрствяя, робіцца тугі. Я прэнтка гавару.* Кіралі Шчуч. *Я за-*

*снула прэнтка. Панчохі прэнтка дзяруцца. Прэнтка б'ецца масла. Так прэнтка падаіла.* Альхоўка Навагр. *Яны прэнтка гатовяць. Прэнтка засну.* Гемзы Шальч. *Прэнтка лыкні!* Кудзялянцы Шальч. *Сынавая прэнтка будзя радзіць. Так прэнтко зрабіў.* Паляцкішкі Воран. *Прэнтка прыду. Прэнтка ўпалівалася. Прэнтко круціцца.* Быстрыца Астр. *Валэ прэнтка ісці не могуць. Прэнтко вырвалі лён.* Новікі Гродз. *Яна прэнтко целіфанавала. Ідзі прэнтко!* Стральцы Гродз. *Прэнтко вырвала лён.* Міратычы Карэл. *Можа, памру прэнтко.* Канюкай Вільн. *Калісьці маладусе як дадуць бохан, калі ласка, нехай прэ; калі дагадаецца — прэнтко паложыць.* Грыкені Вільн. *Прэнка ты ходзіш. Прэнко натта пашоў.* Галубы Маст. *Я так прэнко іду.* Валеўка Навагр. *Чаго ты прэнько бегала?* Галубы Маст.; *гл.* п р э́ н д ж э й.

ПРЭ'НТКІ, ПРЭ'НДКІ, ПРЭ'НКІ *прым.* Хуткі, жвавы. *Ён прэнткі чалавек у рабоце.* Паляцкішкі Воран. *Прэнткі хлопяц.* Жыдзевічы Іўеў. *У рабоце ён прэнткі чалавек.* Парэчча Гродз. *Ён такі прэнткі, што не можа без работы быць.* Кіралі Шчуч. *Прэнткі ў рабоце ці хадзе, ідзе хутко.* Мсцібава Ваўк. *Яна прэнткая.* Граўжышкі Ашм. *Я была прэнтка працы.* Альхоўка Навагр. *Прэндкая, як маланка.* Пацаўшчына Дзятл. *Сын прэнкі такі.* Валеўка Навагр. ◇ *На прэнткую руку* — спехам. *На прэнткую руку выскачыш.* Быстрыца Астр. *Бралі з дзежкі цеста і пяклі бонду на прэнткую руку на скарарадзе ці на блясе.* Галубы Маст.; *парайн.* польск. *prędki* 'тж'.

ПРЭ'НТКО *гл.* ПРЭ'НТКА

ПРЭ'НЦІК *м. памянш. да* п р э н т. *Прэнцік у баране.* Галубы Маст. *Прэнцік у ніжнім камні.* Масілавічы Сл. *Устаўляецца прэнцік* [у плузе], *кап пахаджало.* Малахоўцы Бар. *Прэнцік нетолсты.* Чычалі Швянч.

ПРЭ'НЬКО *гл.* ПРЭ'НТКА

ПРЭ'ПОЛІС *м.* Прыступ. *Зачаў яму прэполіс рабіцця.* Малькуны Ігн.: *парайн.* літ. *priepuolis* 'тж'.

ПРЭ'СВЯТОК *гл.* ПРЫ'СВЯТАК

ПРЭ'СНА *ж. кулін.* Агульная назва прэснай стравы. *Даўней казалі: «Ці варыла прэсну?», а цяпер — «Суп». «Што будзем гатаваць?»— «Прэсну».* Парэчча Гродз. *Усё варылі, была кісла і прэсна.* Васілевічы Гродз.

ПРЭ'СНЫ, ПРЕ'СНЫЙ *прым.* 1. Някіслы. *Прэснага і кіслага наварыла саган.* Новікі Гродз. *Прэсны — як квасу мала.* Паляцкішкі Воран. *Прэсны хлеп.* Дзяніскавічы Ганц. *Прэсны корж пяклі. Пяклі каржы з прэснага цеста.* Азяраны Раг. *Хлеп пресный, ацеслеватый, ат коркі атстаець, як атпякецца.* Янова Рас. 2. Салодкі (пра малако). *Прэснэ малако.* Паляцкішкі Воран. *Абрышшы малако: ні кісла, ні прэсна.* Парэчча Гродз.

ПРЭСНЯ'К *м. кулін.* Тое ж, што і п р а с н а́ к. *Прэсняк пеклі на патэльні.* Лука Нараўк.

ПРЭСТАРЭ'ННЫ *прым. найвыш.* Вельмі стары. *Прэстарэнныя людзі даўнейшых знали многа славоў.* Ністанішкі Смарг.

ПРЭТ *прыназ.* з *тв.* Перад. *Горкая малако прэт цяленнем.* Быстрыца Астр.

ПРЭ'ТКІ *мн.* Продкі. *Прэткі паўміралі.* Рудня Астравітая Чэрв.; *параўн.* руск. *предки* 'тж'.

ПРЭ'ЎШНІ *мн.* Вушакі. Азарычы Пін.

ПРЭ'ХЧЫ *гл.* ПРЭ'ГЧЫ

ПРЭ'ЦІ, ПРЭ'ЦІЎ *гл.* ПРО'ЦІ

ПРЭЦЬ, ПРЭЦ *незак.* 1. Прэць. *Мне і самой прэюць на нагах пальцы.* Ахрэмаўцы Брасл. *У гумовых ботах окропня мокрыя ногі і прэюць.* Гемзы Шальч. *Прэют ногі ат дажджавой вады і ат жыжы, жыжа раз'едает ногі — і папрэлі пальцы.* Рагулішкі Даўг. *Между пальцаў прэе і баліц.* Парэчча Гродз. 2. Перагніваць. *Пааруць, тады цэлы гот прэя дзярно.* Завельцы Астр. 3. Адмакаць. *У вайну малолі гугаль на муку, сыпалі ў луг, мачылі бяльё, яно прэла, тады мылі.* Вузла Мядз.

ПРЭЧ 1. *выкл.* Прэч. *На плечы ўскінуў — і прэч.* Кураполле Паст. *Ідзі прэч!* Дзераўное Стаўб. 2. *прысл.* Усюды. *На полі прэч повно осёту.* Курашэва Чыж.

ПРЭ'ШЧА *ж.* Тое ж, што і п р ы ш ч. *Прэшча знаходзіцца на твары.* Малі Астр.

ПРЭ'ШЧЫ толькі *мн.* Прыгаршчы. *Прэшчы мукі ці жыта ўсып.* Вялікія Баяры Шчуч. *Стуліў дзве рукі — і прэшчы. Набрала прэшчы ягадаў. На вот прэшчы табе ягаткаў!* Кіралі Шчуч. *Узяла мукі прэшчы.* Навасёлкі Лід.

ПРЯДЁХА *ж.* Папрадуха. *Ты мне, прядёха, напряла тут!* Мішневічы Шум.

ПРЯЖЕ'ННЯ *н. кулін.* Мачанка. *Пряження — клалася кілбаса, рэбрачкі пасякеш, бліноў напякеш — і бліны макалі.* Янова Рас.

ПРЯ'ЖЕНЫЙ *гл.* ПРА'ЖАНЫ

ПРЯ'КНУЦЬ *зак. экспр.* Упасці. *Сабака мне пад ногі — і прякнуў.* Мішневічы Шум.

ПРЯ'СТЭ *гл.* ПРА'СЦІ

ПСАВА'ЦЦА *незак.* 1. Рабіцца непрыгодным для спажывання. *Мука псуецца, як паляжыць доўга.* Альхоўка Навагр. *Яблыкі псуюцца.* Гемзы Шальч. *Мяса без солі псуецца.* Рагулішкі Даўг. 2. Гінуць. *Усенька с почвы сплывая ў рэчку — і рыба псуеца.* Руднікі Шальч. 3. Пашкоджвацца. *У яго псуліся плюцы.* Магуны Паст.

ПСАВА'ЦЬ *незак.* 1. Рабіць непрыгодным для карыстання. *Іголка грубая, псуеш матэр'ял.* Солы Смарг. 2. Прыносіць

шкоду. *Вераб'і псуюць дабро.* Лісна В.-Дзв.; *парайн.* польск. *psuć* 'тж'.

ПСІК *выкл.* Выгук, якім адганяюць ката. *Псік, чаго ты вурчыш?* Дзёрнавічы В.-Дзв.; *парайн.* польск. *psik* 'тж'.

ПСІ'НА *ж.* Псіна (пра пах). *Псінай смярдзіць.* Ахрэмаўцы Брасл.; *парайн.* польск. *psina* 'тж'.

ПСТРА'НГА *ж. заал.* Страказа. *Пстранга лётала над рэчкай. У яе такія крылышкі доўгія, празрыстыя.* Чуркі Ашм.

ПСТРЫ'КАЦЬ *незак. экспр.* Скакаць. *Чаго ты пстрыкаеш, як блох?* Малі Астр.

ПСТРЫКТ *выкл.* у знач. *вык.* Пстрык. *Сабака пстрыкт і перапрыгнула.* Гемзы Шальч.; *парайн.* літ. *strykt* 'тж'.

ПСТРЫ'ЦА *ж.* Кола з паглыбленнем для шнура. *Упала, кажа, мая пстрыца, трэба яе прыкруціць.* Баброўнікі Гарад.; *парайн.* польск. *tryca* 'паглыбленне ў бэльцы для шнура' (СВ, VII, 135), **ням.** *Fritze* 'пад'ёмны дыск'.

ПСТРЫ'ЧКА *ж.* 1. Пстрычка. *На от табе пстрычку!* Номікі Бабіц. *Пстрычку в ухо дав.* Курашэва Чыж. ▽*Баба, як пстрычка, выляцела з хаты.* Саланое Віл.; *парайн.* польск. *pstryczek* 'тж'. 2. Легкадумная дзяўчынка. *Пайшла пстрычка, а ўрокі і ня думае вучыць.* Беразіно Докш.

ПСЫЧА'ТІ *незак.* Шыпець. *Мокры дрова в печые псычат.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *psyczeć* 'тж'.

ПТА'СІ *прым.* Птушыны. ◇ *Птасе малако* — поўны дастатак. *Толькі птасяга малака не было.* Солы Смарг.; *парайн.* польск. *ptasi* 'тж'.

ПТА'СТВА *зб. н.* Птушкі. *Птаства было, здэцца, зямля варушылася, як спявалі.* Пацаўшчына Дзятл. *Птаства напала, паела зерня.* Дакудава Лід. *Птаства перавялося, а некалі вельке было.* Вялікія Баяры Шчуч.; *парайн.* польск. *ptastwo, ptactwo* 'тж'.

ПТАШАНЯ' *н.* Птушанё. *Пташаня і пташачка е ў гняздзе.* Альхоўка Навагр.

ПТА'ШАЧКА *ж. памянш-ласк.* Хатняя птушка. *Мусі, і пташачкі дзержыце, і пташачкі ёсць?* Буйвіджай Вільн.

ПТАШ'Ё *зб. н.* Тое ж, што і п т а́ с т в а. *Пташ'ё ўсё пашло садавіцца.* Пацаўшчына Дзятл.

ПТА'ШКА *гл.* ПТУ'ШКА

ПТАШУ'К *м.* Тое ж, што і п т а ш а н я́. *Півутку нашла і два пташукі.* Руднікі Шальч.

ПТАШУЧО'К *м. памянш.-ласк.* да п т а ш у́ к. *Пташучкі маленькія высока ўздымаяцца.* Кудзялянцы Шальч.

ПТАШЫ'НЫ, ПТУШЫ'НЫ *прым.* Тое ж, што і п т а́ с і. *Еў пташыная мяса.* Старыя Смільгіні Воран. ◇ *Пташынае (птушынае) малако* — поўны дастатак. *Ім пташынага малака нестае.* Граўжышкі Ашм. *От жыве, тылько пташынаго ма-*

*лака брак.* Номікі Бабіц. *Яму толькі птушынага малака бракуя.* Малі Астр.

ПТУ'ХА *ж.* Птушка. *Птух на дзераве много.* Вялікі Краснік Пруж. *Птухі спэвают у лесі.* Смаляніца Пруж. *Гэто-то птуха!* Сіманавічы Драг.

ПТУ'ШАЧКА *ж. памянш.-ласк.* да п т у́ ш к а 1. ∇*Мы, як птушачкі, любіліся.* Саланое Віл.

ПТУ'ШКА, ПТА'ШКА *ж.* 1. Тое ж, што і п т у́ х а. *Птушка шэранькая, добра спявае.* Рыбчына Віл. *Птушкі вішні ўсе паклявалі.* Мярэцкія Глыб. *Птушкі пяюць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Што там за птушка такая?* Чычалі Швянч. *Птушкі змоўклі.* Багушэвічы Бярэз. *Клетка для птушок.* Горск Бяроз. *На звеставанне птушкі прылятаюць.* Солы Смарг. *Паляцела стада пташак.* Ёдлавічы Брасл. *Пташка нейкая ест — смяцюх.* Вялікія Баяры Шчуч. *Прыляцела такая харошанькая жоўценькая пташка.* Кіралі Шчуч. *Пташкі ляцяць.* Альхоўка Навагр. *Якая гэта пташка?* Жылі Іўеў. *Пташкі адляцелі.* Граўжышкі Ашм. *Вішняў не была, пташкі аб'ядалі, адна шалуга была.* Старыя Трокі Трак. *Пташкі ест у лесі.* Лайпушкі Ігн. *Пташкі спяваюць.* Гемзы Шальч. *Пташка маленькая, а есць многа.* Грыкені Вільн. *Вэсна будэ, бо некоторы пташкі прылетіелі, жаворонкі ўжэ співают.* Курашэва Чыж. ∇*Зязюлька — ня птушка, нявестка — ня дачушка. Дзе птушка ляціць, там пер'я кідаіць.* Кураполле Паст. 2. Хатняя птушка. *Птушкі трэба ўлавіць, спаць няхай ідуць.* Цяпінцы Віл. *Накарміў ты пташкі, а то будуць грады дзерці?* Старыя Смільгіні Воран. *Да суседзяў пазалятаалі нашы пташкі.* Дзяніскавічы Ганц.

ПТУШЫ'НЫ *гл.* ПТАШЫ'НЫ

ПТЯНЕ'Ц *м.* Тое ж, што і п т а ш а н я́. *Гняздо с птянцам упала.* Скрудалена Даўг.; *параўн.* руск. *птенец* 'тж'.

ПУБЛІКА'ЦЫЯ *ж.* Друк. *Давай пададзім у публікацыю.* Гальшаны Ашм.

ПУБУЎНЯ' *ж.* і *м. экспр.* Гультай. *Пубуўня ты, а не чалавек!* Мішневічы Шум.

ПУВАДА' *мн.* Павады. *Узяў каня за пувада.* Пасіене Лудз.; *параўн.* лат. *pavada* 'тж'.

ПУВА'К *м.* Павук. *Пувак павуціну пляцець.* Шкаўна Лудз.

ПУ'ГА *ж.* Пуга. *Пуга звіта з апянькі, паслей была раменная.* Мярэцкія Глыб. *Ён пугай ударыў.* Саланое Віл. *Пугу новую зрабіў.* Ядуці Глыб. *Пуга прымацавана да пужальна.* Кіралі Шчуч. *Пуга раменная і пугаўцэ дзераўлянэ.* Кузьмічы Люб. *Пугай паганяў каня.* Скрудалена Даўг. *Сырымітная пуга.* Рудня Астравітая Чэрв. ∇*Слабая пуга, але і бэз яе туга. Як пугай па вадзе, так ты мне памох.* Малі Астр.

ПУГА′ЙЛО *н.* Пугаўё. *Пугайло было і сырымітная пуга.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПУГАЛЯ′НКА *ж. кулін.* Страва, прыгатаваная з аўсянай мукі на кіслай рошчыне. *Пугалянка з аўсянай мукі на квасьным малаку рашчынена, а няквашана, на салёнай вадзе — талакно.* Лісна В.-Дзв.

ПУ′ГАНЫ *гл.* ПУ′ДЖАНЫ

ПУГАЎЁ *н.* Тое ж, што і пуга́йло. *На пугаўі пуга.* Валынцы В.-Дзв. *Пугаўё да пугі.* Граўжышкі Ашм. *Зрабіў пугаўё да пугі.* Груздава Паст.

ПУГАЎЦО′, ПУГАЎЦЭ′ *н.* Тое ж, што і пуга́йло. *Пугаўцо да пугі зрабіў.* Груздава Паст. *Пуга раменна, а пугаўцэ дзераўянэ.* Кузьмічы Люб.

ПУГА′Ч *м. заал.* Філін. *Пугач да савы пахож, очы выпуклыя.* Мсцібава Ваўк. *Пугач — ест такая пціца.* Сапоцкіна Гродз. *Пугач кажа «ку-у-у».* Малыя Аўцюкі Калінк.

ПУ′ГНУЦЬ *незак.* Пухнуць. *Ні пугня ад укусу так, як прывыкніш.* Мсцібава Ваўк.

ПУГУ′РАК *гл.* ПАГУ′РАК

ПУГУ′РАЧАК *гл.* ПАГУ′РАЧАК

ПУД I *м.* Спалох. *Ад пуду п'юць півонію, дзівун-кветка ў гародах расла, цвіціць званочкамі сірэнявымі. Ат пуду стаў біць прыпадак.* Ахрэмаўцы Брасл. *У дзіцяці плямы чорныя ат пуду.* Асавец Віл. *С таго пуду, у тым страху кінала. Ат пуду вады даў.* Саланое Віл. *Тубачнік вельмі памоцны ад пуду.* Рагулішкі Даўг. *С пуду ўсе балезні, с растройству.* Скрыпчына Лудз. *Памерла с пуду.* Пасека Ст.-Дар. *Ад пуду і захварэць можна.* Ухвала Круп.

ПУД II, ПУТ *м.* Пуд. *Два пуды жыта.* Гемзы Шальч. *На дзяцей па пуг хлеба давалі. У жытня жніво па пут хлеба давалі.* Чуркі Ашм. ◇ *Жыць з пуда* — жыць за кошт таго, што ўрадзіла ці зарабіў. *Жылі з пуда.* Малі Астр.

ПУДАВЫ′ *гл.* ПУДО′ВЫ

ПУДАНУ′ЦЬ *зак.* Застрашыць. *Бацька яго пуданець.* Едлавічы Брасл.

ПУДБАРО′ДДЗЕ *н.* Падбародак. *Пудбароддзе нарасло.* Лука Нараўк.

ПУДБІЕ′Л *гл.* ПАДБЕ′Л

ПУДБО′РЫЦА *ж.* Поле каля лесу. *На пудборыці кепска земля.* Курашэва Чыж.

ПУДБРУ′ШЭ *гл.* ПАДБРУ′ШША

ПУДВА′ЖЫТІ *зак.* Прыпадняць. *Колком можна вэлікого камэня пудважыті.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *podważyć* 'тж'.

ПУДВАЛІ′НА *гл.* ПАДВАЛІ′НА

ПУДВО′ЛІЦЯ *ж.* Ашыек. *У тлустого паршука пудволіця*

*аж віесіт. Іван Стэпануов так упассе, што аш пудволіця віесіт.* Курашэва Чыж.

ПУДВУ'ОРОК *гл.* ПАДВО'РАК

ПУДГА'РЛЕ *н.* Тое ж, што і пудво́ліця. *Пудгарле — сало кола шыі.* Лука Нараўк.; *парайн.* польск. *podgardle* 'пярэдняя частка шыі'.

ПУДГЛЯ'НУТІ *зак.* Падгледзець. *Старые пудглянулі, што молодые роб'ят.* Курашэва Чыж.

ПУДГОЛІ'ТІСЕ *зак.* Пагаліцца. *В нэдіелю пудголівсе і обрывсе.* Курашэва Чыж.

ПУДДА'ТІ *зак.* Паддаць на плечы што-н. *Пуддай мішок жыта, бо сам нэ дам рады ўзяті.* Курашэва Чыж.

ПУДДА'ТІСЕ *зак.* 1. Здацца (у палон). *Салдаты пуддалісе і пушлі в пліен.* Курашэва Чыж. 2. Падпарадкоўвацца. *Чоловіек жуонці нэ повінён пуддаватісе.* Курашэва Чыж.

ПУДДА'ШЕ *н.* Вышкі. *На пуддашы поклалі солому.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *poddasze* 'тж'.

ПУДДІВА'ТІ *незак.* Кпіць з каго-н. *Нэ люблю, як вуон кажного пуддіваe.* Курашэва Чыж.

ПУДДІЕ'ЛКА *ж.* Ашуканства. *С тоіею зэмлёю то была пуддіелка.* Курашэва Чыж.

ПУД'Е'СТІ *гл.* ПАД'Е'СЦІ

ПУ'ДЖАНЫ, ПУ'ГАНЫ *дзеепрым.* Напалоханы. *Яна пуджаная, яна баіцца.* Канюкай Вільн. ∇ *Пугана варона і куста баіцца.* Вецярэвічы Пух.

ПУДЖЫ'ЛЫ *гл.* ПАДЖЫ'ЛЫ

ПУДЗЕ'ЛАЧКА *ж. памянш.* Каробачка. *Пудзелачка на стале, там ніці, голка.* Мсцібава Ваўк.; *парайн.* польск. *pudełko* 'тж'.

ПУ'ДЗІК *м. памянш.* да пуд II. *Да вайны пудзік нісла і то было цяшка.* Саланое Віл.

ПУ'ДЗІЛА, ПУ'ДЗІЛО *н.* Пудзіла. *Ставілі пудзіла ў калапні.* Саланое Віл. *Пудзілы ставілі ў каноплях.* Лапічы Асіп. *На вераб'е пудзіло пастаўляла.* Дзяніскавічы Ганц. ∇ *Стаіш, як пудзіла. Выскачыў, як пудзіла, с калапень.* Кураполле Паст.

ПУ'ДЗІЦЦА *незак.* Палохацца. *Конь пудзіцца, дупка становіцца.* Кураполле Паст. *Пудзіцца пятух.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПУ'ДЗІЦЬ, ПУ'ДІТІ *незак.* Біць. *Мяне пудзяць, як прыхожу позна.* Старыя Трокі Трак. *Дэ ты коровы с такою злуостёю пудіш?* Курашэва Чыж.

ПУ'ДКІ *прым.* Палахлівы. *Курыца пудкая.* Малахоўцы Бар. *Пудкая кура.* Пасека Ст.-Дар.

ПУДКІДА'ЦЬ *незак.* Араць увосень. *Ежэлі барануецца поле для таго, коб бульбу садзіць, сперва пудкідают, на вес-*

*ну спружынуют і барануют, пашут і бульбу кідают.* Лука Нараўк.

ПУДЛІ'ВЫ *прым.* Тое ж, што і п у́ д к і. *Конь пудлівы.* Асавец Віл., Малахоўцы Бар. *Такая пудліва карова.* Альхоўцы Лях. *Пудлівы конь спудзіўся.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПУДЛІЕ'СКІ *мн.* Назва людзей, якія жывуць каля лесу. *Пудліескі іначэй говорат, як мы тута.* Курашэва Чыж.

ПУ'ДЛІЦА *ж. мед.* Крапіўніца. *Конскі шчавель ад пудліцы: пудліца нашлася, усе рукі высыпіць, сільна чэшыцца.* Валынцы В.-Дзв.

ПУДМЕ'ТАЦЬ *гл.* ПАДМЕ'ТАЦЬ

ПУДНЕБЕ'НЕ, ПУДНЯБЕ'ННЕ *гл.* ПАДНЯБЕ'ННЕ

ПУДНУО'ВКА *ж.* Падваліна. *Пут хату трэба пуднуовку даті.* Курашэва Чыж.

ПУДО'ВЫ, ПУДАВЫ' *прым.* Пудовы. *Быў кошык пудовы.* Старыя Смільгіні Воран. *Лупка пудавая была і карзінка пудавая.* Едлавічы Брасл.

ПУДРОШЧЫ'НОЧКА *ж. памянш.* Рошчына. *Тогды на туй запарцы нануч робым маленьку пудрошчыночку.* Казловічы Брэсц.

ПУДРЫВА'ТІСЕ *зак.* 1. Надрывацца. *Вуон до роботы нэ пудорвэцце.* Курашэва Чыж. 2. Падарвацца. *От тяшкоі роботы пудорвавсе куонь і здох.* Курашэва Чыж.

ПУДРЫ'ЦЦА *незак.* Узбіцца (пра падушку) *Падушка пудрыцца.* Саланое Віл.

ПУДСТУ'ОЛ *м.* Подсціл. *Вэсною нэ хватіло соломы на пудстуол, дошок, бляхі, коб нэ тэкла вода на стіены.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *podściółka* 'тж'.

ПУДСУБЭ'ТЭ *зак.* Дапамагчы. *Гнат мэні путсубэв, дай згрыблэ сіно.* Радастаў Драг.

ПУДСУ'ШВАЦЬ *незак.* Сушыць. *Пудсушвалі боп.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПУДЧЫНЯ'ТІСЕ *незак.* Падпарадкоўвацца. *То нэ чоловіек, што жуонкі пудчыняеццэ.* Курашэва Чыж.

ПУДШПА'РОК, ПУТШПА'РОК *м.* Падлетак. *Я путшпарком быв, як вона замуш выходіла.* Курашэва Чыж.

ПУДЭ'ЛАК *м.* Карабок. *Пудэлак сярчыкоў.* Жодзішкі Смарг.; *парайн.* польск. *pudełko* 'тж'.

ПУЖА'ДЛА *н.* Тое ж, што і п у́ д з і л а. *Пужадла — што вераб'ёў пужаюць.* Магуны Паст.

ПУЖА'ЙЛА *н.* Тое ж, што і п у́ д з і л а. *Пужайла ты!* ▽ *Надзелася, як пужайла.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПУЖА'ЛЬНА, ПУЖА'ЛЬНЕ, ПУЖА'ЛЬНЯ, ПУЖА'ЛНО *н.* Тое ж, што і п у г а́ й л о. *Пужальна — ручка ў пушкі.* Дакудава Лід. *Пужальна ад пугі. Да пужальня прычэплена пуга.* Вялікія Баяры Шчуч. *Пужальнё з елаўчыны вырэзваецца.* Альхоўцы Лях. *Пужальня да пугі.* Вострава Маст.

*Паламалася пужальня.* Кіралі Шчуч. *Пужальня рабілі з ядлаўцу.* Мсцібава Ваўк. *Пужално новае зрабіў.* Дзяніскавічы Ганц.

ПУЖА'ЦЦА *незак.* Палохацца. *Дзіця стала пужацца ўсяго.* Чычалі Швянч.

ПУЖА'ЦЬ *незак.* Палохаць. *Буду пужаць яго.* Талейкі Швянч.

ПУ'ЖКА, ПУ'ШКА *ж. памянш.* да пу́га. *Пушкай паганялі валоў.* Дакудава Лід. *Пушкай сцебануў па кані.* Альба Нясв.

ПУЖЛІ'ВЫ *прым.* Тое ж, што і пу́дкі. *Ды яго жарабёнак такі пужлівы.* Беразіно Докш. *Ну і конь пужлівы: кідаецца па старанах, ляціць, што няможна ўдзяржаць.* Едлавічы Брасл. *Пужлівае дзіця.* Ністанішкі Смарг. *Яна пужлівая.* Альхоўцы Лях. *Конь пужлівы.* Саланое, Рыбчына Віл., Мярэцкія Глыб., Дакудава Лід., Быстрыца Астр., Малькуны Ігн.

ПУ'ЖЛІС *м.* 1. Рыхлы качан капусты. *Капуста — пужліс, растрапаная ўся.* Старыя Смільгіні Воран. 2. *перан. экспр.* Ганарлівец. ∇ *Ён, як пужліс, ходзіць.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* літ. *pūžlỹs* 'тж'.

ПУ'ЖЫНА *ж.* Тое ж, што і пу́га. *Пужынай сцебануў каня.* Вялікія Баяры Шчуч.

ПУЖЫТНЕ'ЙШЫ *прым. выш.* Карысны. *Найбольш пужытнейшае пад лупінамі ў бульбы, там крухмал.* Солы Смарг.; *параўн.* польск. *pożyteczny* 'тж'.

ПУЗА'Н, ПУЗГА'Н *м. экспр.* Чалавек з вялікім жыватом. *Ох, і пузан ён.* Мачаск Бярэз. *Некрасівы ён і пузан да таго ж.* Мішневічы Шум. *Грубы ён, пузґан.* Магуны Паст.

ПУЗАЦЕ'ЦІ *незак.* Таўсцець. *Веліка расці, но не пузацей.* Ялова Пруж.

ПУ'ЗАЧКА *ж. памянш.* Ікраножная мышца. *Пузачка ў наге.* Валынцы В.-Дзв. *У мяне пузачкі тоўстыя на нагах.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПУ'ЗНЕ, ПУ'ЗНО *прысл.* Позна. *Слізікі варылі з грыбамі, аблівалі алеем. Пузне збадалі сок.* Мсцібава Ваўк. *Пузно будэ.* Дзмітравічы Кам.; *параўн.* польск. *późno* 'тж'.

ПУЗУ'Р *м.* Бурбалка. *Пузуры падымаюцца на лужах.* Лісна В.-Дзв.

ПУ'ЗЦА *н.* Тое ж, што і пу́зачка. *Усё пузца на назе дротам разадраў.* Ухвала Круп.

ПУЗЫ'Р *м. 1.* Пухір. *Пузыр вялікі ўзняўся на руцэ.* Мярэцкія Глыб. *Абварыла руку, і пузыр нацягнула.* Рагулішкі Даўг. *Пузыр апаў, лопнуў.* Рудня Астравітая Чэрв. *Пузыры палопаліся, прысыпала, каб не балелі.* Беразіно Докш. *Выцягала руку, пузырэ парабіліса і за тыдзень згаілаcа.* Дзяніскавічы Ганц. *Апарыла шчыкалаткі, засталіся*

*пузыры.* Малі Астр. 2. Тое ж, што і п у з ý р. *Пузыры на лужынах.* Беразіно Докш. 3. *анат.* Пузыр (мачавы і інш.) *Апарацыю рабілі на пузыр.* Саланое Віл. *Дай мне рыбны пузыр, я стрэльну.* Кураполле Паст. *Пузыр у рыб.* Беразіно Докш., Азяраны Раг. 4. Асінае гняздо. *Осы робюць пузыр і плодзюцца, яго к ранам прыкладаюць.* Валынцы В.-Дзв. 5. *мед.* Пухліна. *На вантробе нарос пузыр.* Кудзялянцы Шальч.

ПУЗЫРО'К *м. памянш.* 1. да п у з ы́ р 1. *Лопнуў пузырок, і рана нашлася.* Лайпушкі Ігн. 2. да п у з ы́ р 3. *Пузырок ёсць у рыб.* Малькуны Ігн.

ПУ'ЙЛО *гл.* ПО'ЙЛА

ПУК I *м.* 1. Сноп (ільну, канапель і інш.). *Пук лёну звязаны, бяром пук і абіваем.* Міратычы Карэл. *Пук, а хто сноп скажуць, бальшынство пук кажуць.* Тухавічы Лях. *Пук бобу стаіць.* Пацаўшчына Дзятл. *Звяжуць пук саломы.* Паляцкішкі Воран. *Боп вяжуць у пукі.* Едлавічы Брасл. *Пяньку ў пукі вязалі.* Рыбчына Віл. *Лён вязалі ў пукі, як палежаў, і падбіралі.* Дзяніскавічы Ганц. *Сцелям на балоця лён, ляжыць нядзель пяць, а патом вяжам у пуке.* Малахоўцы Бар. 2. Скрутак. *Пук табакі прынёс крышыць.* Кураполле Паст. *Нарэзаў пук лазы.* Мярэцкія Глыб. *Пук лучын, з хвоі робяць стаўбэ, падзяруць на лучыну яловай кары, адвозілі пуке ў Ліду.* Кіралі Шчуч. *Добры пук нарэжаш ракіты і нясеш.* Вецярэвічы Пух. *Панёс ільмаку пук.* Дзяніскавічы Ганц. *Лучыны пуке надзіралі, сырую дзерлі.* Малахоўцы Бар. *Пук лазы надзярэ і нясе. Лазу вязалі ў пуке.* Мсцібава Ваўк. *Лазу вяжаць у пукі.* Груздава Паст.

ПУК II *м.* 1. Патоўшчаная каласавая частка сцябла збожжавых культур. *Рож расцет да пука. С пука выходзіт колас. Када рож у пуку, ячмень сеяць нельзя.* Істра Лудз. 2. Сцябло цыбулі з суквеццем. *Цыбуля пашла ў пукі.* Едлавічы Брасл., Валынцы В.-Дзв., Індра Красл., Солы Смарг. *Цыбуля ваша квітніць, у пук пашла.* Малькуны Ігн. *У пукі пашоў лук.* Пасіене Лудз. *У пукі ідзе цыбуля, бо ў халоднае пасадзілі.* Гайна Лаг.

ПУКАВА'ТЫ *прым.* Пукаты. *У куфры века пукавата.* Дакудава Лід. *У буч колка ставіцца, кап пукаваты быў.* Быстрыца Астр.

ПУКАВА'ЦЬ *незак.* Распускацца (пра пупышкі). *Бяроскі пукуюць.* Старыя Смільгіні Воран.

ПУКАВЫ' *прым.* Які пайшоў у пукі (пра цыбулю). *Цыбуля ўся пукавая.* Валынцы В.-Дзв.

ПУ'КАЛЬКА *ж.* памянш. да п ý к л я. *Помню, мама ўшывала дзеравянныі пукалькі ў штаны.* Лісна В.-Дзв.

ПУКА'ТЫ *прым.* 1. Тое ж, што і п у к а в á т ы. *Пукато веко ў куфру.* Малахоўцы Бар. *Пукаты гальяк* [гляк] *быў з*

*адною ручкай.* Кіралі Шчуч. 2. *экспр.* Пузаты. *Пукатая карова ў нас была.* Валынцы В.-Дзв. *Як наесца, то пукатая карова.* Мярэцкія Глыб.

ПУКА'ЦЕНЬКІ *прым. памянш.* да п у к á т ы 1. *Бачонак пукаценькі.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПУ'КАЦЦА, ПУ'КАЦА *незак.* Тое ж, што і п у к а в á ц ь. *Пупышка ўжо пукаіцца.* Курaполле Паст. *Пукаяцца дрэва.* Старыя Трокі Трак. *Лес пукаеца.* Грыкені Вільн.

ПУ'КАЦЬ I *незак.* Тое ж, што і п у к а в á ц ь. *Сат пукаіць, расцвітае. Пукаіць дрэва, як толькі на ім пупушачкі, і яны распускаюцца.* Магуны Паст. *Лес пукая.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

ПУ'КАЦЬ II *незак.* Стукаць. *Пукаюць у акно.* Галубы Маст.; *парайн.* польск. *pukać* 'тж'.

ПУ'КАЦЬ III *незак.* Абіваць збожжавыя (цапамі). *Ячмень пукаюць.* Мішневічы Шум.

ПУ'КІ *злуч.* Пакуль. *Пукі адышоў, не мог нічога есці.* Галубы Маст.; *парайн.* польск. *póki* 'тж'.

ПУКІ' *мн.* Адросткі пер'яў у птушак пасля лінькі. *Пукі з курыцы, як ліняюць.* Ахрэмаўцы Брасл. *С курыцы пукі нельзя вычысціць.* Рагулішкі Даўг.

ПУКЛІ'ВЫ *гл.* ПЫКЛІ'ВЫ

ПУ'КЛЯ *ж.* Самаробны драўляны гузік. *Пуклі ўшый у кажух. Пуклі — пугавіцы сваёй работы.* Мішневічы Шум.

ПУКО'ЎКА *ж. бат.* Рагоз. *Кіюхі ля вады, пукоўкі.* Калясное Міхал.

ПУК-ПУК *выкл.* у знач. *дап.* Стук-стук. *Чуім: пук-пук у вакно.* Саланое Віл.

ПУКРЫВА'ЧКА *ж.* Накрыўка. *Былі пукрывачкі на гаршкі.* Солы Смарг.

ПУКЧА'ЦЬ, ПУКЧЭ'ЦЬ, ПУКТА'ЦЬ *незак.* 1. Брадзіць. *Цеста пукчыць, аш пузыры зверху, пышкаіць.* Валынцы В.-Дзв. *Як патходзіць, цеста пукчыць.* Лісна В.-Дзв., Курaполле Паст. *І хлеп пукчыць, бліны ўжэ пукчаць.* Старыя Трокі Трак. 2. *перан. экспр.* Бурчаць. *Ідзець і пукчыць нешта пад нос.* Лісна В.-Дзв. *Ідзець і пукчыць усю дарогу. Што ты пукчыш?* Валынцы В.-Дзв. *Валька пуктала, што ўсё стаіць, нічога не еш.* Якубова Рас.; *парайн.* літ. *pukšėti* 'тж'.

ПУЛ *м.* Пыл. *Пул шыецца ўсюды. Пул паднімаецца, як машыны ідуць.* Кузьмічы Люб.

ПУЛЕ'ЦЕЦЬ *гл.* ПАЛЕ'ЦЕЦЬ

ПУЛІ'ЦЬ *незак.* Імжыць. *Дошч пуліць.* Кузьмічы Люб.

ПУ'ЛКА *ж.* Паліца. *На пулках талеркі стаяць, шклянкі, можна і лышкі, відэльцы палажыць.* Альба Нясв.; *парайн.* польск. *półka* 'тж'.

ПУЛКАВА'ЦЦА *незак. пчал.* Збірацца вакол пчалінай

маткі. *Пулкуюцца пшчолы ў раі.* Гемзы Шальч.; *параўн.* літ. *pulkúotis* 'тж'.

ПУЛЬВЭ'РАК *м.* Безрукаўка. *Пульвэрак мужчынскі бэз рукавоў.* Кемялішкі Астр.

ПУ'ЛЬКНУЦЬ *зак. экспр.* Узлавацца. *Як што не так скажаш, то пулькне, такій недаткнёны.* Кіралі Шчуч.

ПУ'ЛЬНУЦЬ *зак. экспр.* Кінуць. *Я відзяла, як яна ў міня пульнула глінай.* Саланое Віл.

ПУЛЬ-ПУЛЬ-ПУЛЬ *выкл.* Падзыўныя для курэй. *Што, курка, вады хочаш? Пуль-пуль-пуль, ідзі пей!* Солы Смарг.

ПУЛЬС *м.* Пульс. *Пульс б'е на руцэ.* Кемялішкі Астр.

ПУЛЬСАВА'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і п у́ к а ц ь III. *Я сама пульсавала, ячмень цэпам б'юць па зернятах.* Сапоцкіна Гродз.; *параўн.* літ. *paisýti* 'тж'.

ПУЛЬСНО' *н. анат.* Плюсна. *Пульсно баліць.* Магуны Паст.

ПУ'ЛЬХНЕНЬКІ *прым. памянш.* да п у́ л ь х н ы 1. *Блінчыкі пульхненькія.* Мсцібава Ваўк.

ПУ'ЛЬХНЫ *прым.* 1. Пухкі. *Пульхны хлеп.* Крэва Смарг. *Пульхныя бліны.* Старыя Смільгіні Воран. *Пульхны хлеб — удачны, на дырачках, паднімаецца добра.* Бенякoні Воран. *Пульхны блін, смачны.* Быстрыца Астр. *Пульхны блін, з'еш.* Галубы Маст. *Пульхны хлеб з дырачкамі.* Чычалі Швянч. 2. Рыхлы. *Зусім ні пульхна поля.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* польск. *pulchny,* літ. *pulknùs* 'тж'.

ПУ'ЛЯ *ж.* Куля. *Пуля папала ў самае сэрца.* Рыбчына Віл. ◇ *Пуляй ляцець* — хутка бегчы. *Яна пуляй ляціць, аж вецер свішча.* Рыбчына Віл.

ПУЛЯ'ТЫ *прым. экспр.* Вірлавокі. *Ох і пуляты! Аш страшна на яга глядзець.* Беразіно Докш. *Як паставіць булы пулятыя, такі страшны робіцца.* Глівін Барыс.

ПУМА'К *м.* 1. Намоклае бервяно ў рэчцы. *Пумак з ракі цягалі.* Дзёрнавічы В.-Дзв. 2. Бервяно, якім прыцiскалі лён, каб не ўсплываў. *Пумакамі націскалі лён, кап не ўсплываў ён наверх.* Валынцы В.-Дзв.

ПУМА'ЛА *прысл.* Памалу. *Пумала каня гані.* Саланое Віл.

ПУМІДО'Р *м.* Памідор. *Пумідоры бувают у нас, лета халоднае.* Навікі Лудз.

ПУ'МПАРА *ж. экспр.* Хто бурклівы. *От пумпара якая — усё ёй не так.* Кураполле Паст.; *параўн.* літ. *pampãrius* 'тж'.

ПУ'МПАРЫЦЬ *незак. экспр.* Бурчаць. *Гэта будзіць сідзець і пумпарыць. Свякроўка пумпарыць: тое не так, а як якая разумная, возьміць і зробіць.* Кураполле Паст.

ПУМПУ'ЛЬ *м.* Камячок засохлага гною на поўсці жывёліны. *Пумпулі вісяць у каровы. Я ў сваей нядаўна абарвала пумпуль.* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. *pumpas* 'маленькі гуз'.

ПУМПУ'РА *ж.* Тое ж, што і п а р к л і ц а. *Пумпура ў жорнах.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *pumpùrė* 'тж'.

ПУМПУ'РЫНА *ж. бат.* Лотаць. *Самы першы цвет жоўты — пумпурына.* Ёдлавічы Брасл. *Пумпурына на сенажаці, жоўтыя цвяточкі.* Быстрыца Астр. *Пумпурына — балотны лопух.* Рагулішкі Даўг.; *парайн.* літ. *pumpurýnas* 'тж'.

ПУ'НДА *ж.* Невялікая рыбіна. *Пунда — адна рыбка. Пунды — небальшыя, грубенькія, пласкія рыбкі.* Руднікі Шальч.; *парайн.* літ. *pum̃dzis* 'джгір'.

ПУНДЭ'ЛЬ *м.* Старая мера ільну, роўная 12 кг. *У пундэлі вязалі, пундэль — трыццаць фунтаў.* Гальшаны Ашм.; *парайн.* літ. *pundẽlis* 'тж'<ням. дыял. *pundel.*

ПУНДЭ'ЛЯК, ПУНДЭ'ЛІК *м.* Тое ж, што і п у н д э́ л ь. *Пасля грэбня вяжуць у пундэлькі лён.* Саланое Віл. *Скрутка скруця, пундэлькі за хвасткі вяжа з аднаго боку і з другога. Пундэлькі лёну — дваццаць пяць жмень.* Гемзы Шальч. *Лён ачэсваюць і звіваюць у пундэляк.* Нізок Уздз. *Дзесяць кукал лёну саломай ці чым звяжуць — называлі пундэлік. Як добры лён, то заважыць пайпуда.* Мярэцкія Глыб.

ПУНДЭ'ЛЯЧАК *м. памянш.* да п у н д э́ л ь. *Кужалёк у пундэлячкі павяжам, хунтаў па пятнаццаць—дваццаць, пасярод вязалі, канчачкі закручавалі.* Саланое Віл.

ПУНІ'ШЧА *н. павел.* Пуня. *Ля пунішча сена клалі.* Мішневічы Шум.

ПУ'НКА *ж.* Тупы канец яйца. *Пунка яйца.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *pūnẽ* 'тж'.

ПУ'НКТ у знач. *прысл. пу́нктамі.* Час ад часу. *Пунктамі хмары ідуць.* Жыдзевічы Іўеў.; *парайн.* літ. *pùnktais* 'тж'.

ПУНПУЦІ' *мн.* Сукараткі. *Спрала ў пунпуці, няроўна спрала.* Мярэцкія Глыб.; *парайн.* літ. *pampuĩšs* 'вузел'.

ПУНТ *м.* 1. *экспр.* Прыступ. *Той пунт прайшоў — і яна добра гаворыць.* Бакшты Іўеў. 2. у знач. *прысл. пу́нтамі.* Прыступамі. *Яе пунтамі хватая, гаворыць добра, а потым бунтуецца.* Бакшты Іўеў. *Боль пунтамі прысгупая — забярэ і атпусціць.* Рыбчына Віл.; *парайн.* літ. *pùntas* (<*pùnktas*) 'тж'.

ПУНХІ'Р *м.* Тое ж, што і п у з ы́ р 3. *У наліма німа пунхіра.* Жодзішкі Смарг.; *парайн.* польск. *pęcherz* 'тж'.

ПУ'НЬКА *ж. памянш.* да п у́ н я. *Пунькі там стаялі.* Ухвала Круп. *Маленькая, як пунька, хатка.* Гемзы Шальч.

ПУ'НЯ *ж.* Пуня. *Сена, снапы клалі ў пуню.* Валынцы В.-Дзв. *Пуня — там бальшы ток, сена ў пуні.* Кураполле Паст. *У пуню вазілі снапы. Сена завязлі ў пуню, як ужо сцямнела.* Саланое Віл. *Сена клалі ў пуню.* Рыбчына Віл. *У пуне ставілі колы.* Старыя Смільгіні Воран. *Мы з Манькай і Анюта хадзілі спаць на сена ў гэту пуню.* Азаркі-Пудавінка Мядз. *Пуня — дзе складаюць карові кармэ.* Кіралі Шчуч.

*У пуню клалі сена.* Рагулішкі Даўг., Вецярэвічы Пух., Малькуны Ігн. *У пуню жыта звозяць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Прывезлі ў знакомае месца, завялі ў пуню і замкнулі.* Ачыжа Чэрв. *Пуня — туды клалі сена, салому, скот там не стаяў.* Азяраны Раг.; *параўн.* літ. *pūpіа̀* 'тж'; гл. ДАБМ, карта № 236.

ПУП *м. анат.* 1. Пупавіна. *Пуп вісіць у цяляці, вялікі пуп.* Альхоўцы Лях. 2. Страўнік у птушак. *Пуп у курыцы, у гусі.* Рыбчына Віл. *Пуп у куранят.* Кіралі Шчуч., Мярэцкія Глыб., Рудня Астравітая Чэрв. *Пуп у птушак.* Гемзы Шальч. ∇ *Вышэй пупа не патскочыш.* Малі Астр. *Ад заціркі паб'е пуп на дзіркі.* Навадворшчына Мін. *Цябе твой пуп цягніць і мяне мой пуп дзяржыць* — і аднаму, і другому хочацца жыць на радзіме. Саланое Віл. *На пупу цэўку сукала, міжды нох чаўнок пускала.* Граўжышкі Ашм. ◇ *Ключы на пупу* — ключы пры сабе. *У Матруны ключы на пупу вісяць.* Саланое Віл.

ПУПА'Р *гл.* ПАПА'Р

ПУ'ПАХІ, ПУ'ПЕХІ, ПУ'ПІХІ, ПУ'ПУХІ *мн.* Пупышкі. *Роза ўжэ ў пупахі закладаласа.* Смаляніца Пруж. *Пупехі — почкі бэрэзы.* Азарычы Пін. *Пупіхі — нерасцвіўшы бутон, яблыні ў пупіхах.* Альхоўцы Лях. *Пупіхі на дрэве.* Навасёлкі Свісл. *Скора дрэва будзе распускацца, бо ўжо пупухі ест.* Гемзы Шальч.

ПУ'ПІК *м.* Скураны гузік. *Пупік кожачкай апшыты.* Мішневічы Шум.

ПУ'ПІШАК *м.* Пупышка. *Пупішак на кветке ні распусціўса.* Дзяніскавічы Ганц.

ПУ'ПЛІЦА, ПУ'ПІРЫЦА *ж.* Тое ж, што і п а р к л і ц а. *Пупліца ў жарнах.* Мсцібава Ваўк. *Пупрыца ў жорнах ест.* Масілавічы Сл.

ПУПЛЫ' I *мн.* Тое ж, што і п у н п у ц і. *Ты палатна наткала з пуплами.* Беразіно Докш. *Калі прадзе і таўсцей нітка палучаяцца ў адным месцы, у другім кажуць: «Пуплы нара'біла».* Старыя Трокі Трак.; *параўн.* літ. *puplÿs* 'тж'.

ПУПЛЫ' II *мн. бат.* Гарлачыкі. *Пуплы — жоўтыя куўшынкі.* Рудня Астравітая Чэрв.; *параўн.* літ. *puplÿs* 'хто разадзьмуты'.

ПУПНЫ' *мн.* Тое ж, што і п у к і. *Пупны ў птушак, пер'е адрасло.* Крэва Смарг.

ПУПО'ВІНА *ж. анат.* Тое ж, што і п у п 1. *Дзіця радзілаcа, пуповіну адразаюць.* Стральцы Гродз., Альхоўцы Лях. *Пуповіну перарэзалі, перавязалі.* Саланое Віл. *Пуповіна адрэзана была.* Жыдзевічы Іўеў. *Пуповіна вісіць у цяляці, пака яна атасхне.* Дзяніскавічы Ганц.

ПУПОПЛА'КАЦЬ *зак.* Паплакаць. *Пупоплакаў ты по ёй, ой, божа, стыдзіса казаць, што жджэш.* Хатынічы Ганц.

ПУПРО' *н.* Тое ж, што і п у п 2. *Пупро ў курыцы, у гусі*

*і ў качкі, дзе камушкі.* Альхоўцы Лях. *Пупро ў курыцы.* Малахоўцы Бар.; *парайн.* літ. *kuprà* 'патаўшчэнне, жаўлак'.

ПУПУРО'К *м. памянш.* Тое ж, што і п у́ п а х і. *Навярху маленькі пупурок.* Валынцы В.-Дзв.; *парайн.* літ. *pùpuras* 'пупышка'.

ПУ'ПУХІ *гл.* ПУ'ПАХІ

ПУПУ'ШАНАК *м.* Тое ж, што і п у́ п і ш а к. *Былі вялікія пупушанкі на памідорах.* Вецярэвічы Пух.

ПУПУ'ШАЧКА *ж.* Тое ж, што і п у́ п і ш а к. *І пупушачкі распускаюцца.* Ракаўскія Швянч. *Завяжацца пупушачке на гурках і не расце — халадзішчэ такое.* Кузьмічы Люб. *Пупушачкі маленькія, няскора будзя цвіць.* Малі Астр.

ПУПУ'ШКА *гл.* ПУПЫ'ШКА

ПУПУШО'К I *м.* Тое ж, што і п у́ п і ш а к. *Яшчэ не расквітшы — пупушок, пупушкі на бярозе, півонія ў пупушках.* Гемзы Шальч.

ПУПУШО'К II *м.* Кончык пальца рукі. *Пупушок баліць.* Граўжышкі Ашм.

ПУПУШЫ' *гл.* ПУПЫШЫ' II

ПУПУ'ШЫК *м.* Тое ж, што і п у́ п і ш а к. *Пупушыкі скора будуць расцвітаць.* Вецярэвічы Пух.

ПУПУ'ШЫНКА *ж.* Тое ж, што і п у́ п і ш а к. *Пупушынкі не расцвілі.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПУПШЫЧКЕ' *мн.* Тое ж, што і п у́ п а х і. *У румянка жоўтыя пупшычке.* Пацаўшчына Дзятл.

ПУПШЭ' I *мн.* Тое ж, што і п у́ п а х і. *На бярозах пупшэ не параспукваліся. Пупшэ папукалі.* Пацаўшчына Дзятл.

ПУПШЭ' II *мн.* У выразе: *У пупшэ ткаць* — ткаць няроўна. *У пупшэ ткана наўмысне.* Пацаўшчына Дзятл.

ПУПЫ'ШАНАК *м.* Тое ж, што і п у п у ш о́ к II. *Пупышанак баліць, дзесьці пабіла.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПУПЫ'ШАЧКА *ж. памянш.* да п у п ы́ ш к а. *Пупышачка ёсь, будзіць расцвітаць, ужо пукаіцца.* Курaполле Паст.

ПУПЫ'ШКА, ПУПУ'ШКА *ж.* Тое ж, што і п у́ п і ш а к. *Пупышкі на дрэвах больш часці.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Яшчэ вось півонія ў пупышках.* Ёдлавічы Брасл. *Ужо пупышкі, а за ноч і расцвіцело.* Валынцы В.-Дзв. *Пупушкі пухаюць.* Быстрыца Астр. *Пупушкі ўжо ёсць на дрэвах.* Ракаўскія Швянч. *Цвяты ў пупушках.* Кузьмічы Люб.

ПУПЫШЫ' I *мн.* Тое ж, што і п у́ п а х і. *Гігель ранняй вясной у пупышах.* Крэвені Даўг.

ПУПЫШЫ' II, ПУПУШЫ' *мн. бат.* Адуванчыкі. *Пупышы ў маі цвітуць жоўтым цветам. Пупушы жоўценькія.* Скрудалена Даўг.

ПУПЭ'РЦІ *зак. экспр.* Хутка пабегчы. *Ак оводня, корова дзярэ хвост — і пупэрла.* Хатынічы Ганц.

ПУПЯРЭ'ЧКА *гл.* ПАПЯРО'ЧКА

ПУР *м.*, ПУ'РА *ж. устар.* 1. Мера, роўная тром пудам. *Пур — тры пуды.* Лісна В.-Дзв. *Адзін пур бульбы купіў. Пура бульбы — тры пуды.* Ёдлавічы Брасл. *Сеяў на шнур пур і выбіваў трынаццаць — пятнаццаць пуд ураджаю. Калі пасадзіць пару пур бульбы, хваціць і на лета, і на зіму, пура — тры пуды.* Ахрэмаўцы Брасл. *Бульбу мерылі пурамі — тры пуды.* Мярэцкія Глыб. 2. Пасудзіна, якая змяшчае тры пуды чаго-н. *Пура была, мералі зернеты не с каптарам, а палачкай падраўнуіць. Тры лупкі — пура, сколькі намалаціў — усё на пуры было, пура аўса, ячменю, жыта.* Валынцы В.-Дзв. *Пура — была такая мера, тры пуды.* Лісна В.-Дзв. *Пура — тры пуда, мера была зярна.* Мельнікі Лудз.; *парайн.* літ. *pũras* 'тж'.

ПУРЗО'ЛІЦЦА *незак. экспр.* 1. Неахвотна есці. *Парасяты не ядуць, а пурзоляцца.* Кураполле Паст. 2. Пэцкацца. *Не пурзолься ты там у гразі! Чаго ты там пурзолісся ў канаві — мыесся?* Ёдлавічы Брасл. 3. *перан. экспр.* Дурэць. *Не пурзолься, а пасядзі ціха!* Кураполле Паст.; *парайн.* літ. *burzlóti, purzlóti* 'тж'.

ПУ'РКАЦЬ *незак.* Пырскаць. *Пуркаюць вадой, спрыскваюць.* Дакудава Лід.

ПУРЛЯ'ЦЬ *незак. экспр.* Кідаць. *Што ты пурляеш кеты?* Пацаўшчына Дзятл.; *парайн.* літ. *purlióti* 'рваць, дзерці'.

ПУ'РХВАТКА *ж. бат.* Порхаўка. *Пурхватка пыл пускае.* Лука Нараўк.

ПУ'РХЛЫ, ПУ'РХНЫ *прым.* Тое ж, што і п у́ л ь х н ы 1. *Падойміца добра, усё ўпору, тады пурхлы хлеп, увесь у дзюрках.* Ракаўскія Швянч. *Пурхны хлеб, бліны.* Талейкі Швянч.; *парайн.* літ. *purknùs* 'тж'.

ПУ'РХНУЦЬ *незак.* Натапырваць. *Як хворыя ці на дошч, пурхнуць куры, пер'я ў іх падымаецца, яны надымаюцца.* Валынцы В.-Дзв.

ПУРХО'ЎКА I *ж.* Тое ж, што і п у́ р х в а т к а. *Пурхоўкі — грыбы з парахняй.* Янова Рас. *Пурхоўка дымам як абдасць!* Дзёрнавічы В.-Дзв.; *парайн.* польск. *purchawka* 'тж'.

ПУРХО'ЎКА II *гл.* ПУХО'ЎКА

ПУ'РЫНА *ж.* Тое ж, што і п у р. *Адна пурына зярна.* Ёдлавічы Брасл.

ПУРЫ'НЫ *мн. бат.* Чорныя парэчкі. *Нарвала пурын, пурыны спелые.* Азарычы Пін.

ПУРЫ'ЦЬ *незак.* Віхрыцца. *Пурга — пурыць снех сухі.* Быстрыца Астр.

ПУ'РЫЦЬ *зак. экспр.* Шыбануць. *Яго як пурыш, ён і рассыплецца, той посуд драўляны, бо перасохшы.* Азяраны Раг.

ПУРЭ'Й *гл.* ПЫ'РАЙ

ПУРЭ'ЧКІ *гл.* ПАРЭ'ЧКІ

ПУСА'ДКА *гл.* ПАСА'ДКА

ПУ'СЕРКІ *мн.* Перапынак у працы. *Спіць дзіця да пусеркаў. Ужо, бабы, пусеркі прапалі. Бабы папусяркуюць і зноў жнуць.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *pùsryčiai* 'прамежак часу да снядання'.

ПУСКА'ЦЬ, ПУСКА'ЦІ *незак.* 1. Дазваляць што-н. рабіць. *І на поле брат бацькоў нэ пускаў.* Смаляніца Пруж. *Я не пускаю нікога ў грады.* Малі Астр. 2. Выпускаць (дым). *Дым з рота пуская.* Лісна В.-Дзв. 3. *ткац.* Запускаць чаўнок у час ткання. *Калі ткалі, чайнок у горла* [зеў красён] *пускалі.* Старыя Трокі Трак. 4. *абрад.* Апускаць вянкі на ваду. *На Івана вянок в'юць і пускаюць на капанкі.* Вялікае Сяло В.-Дзв. *Вада плыве кругом нас, каляжанка кажа: «Давай пускаць вянкі».* Гальшаны Ашм.

ПУ'СПЕЧ *м.* Прымурак. *На пуспеч звычайна кладзецца дошка, і сушаць рукавіцы ці што іншае.* Быстрыца Астр.; *парайн.* літ *pùspečis* 'лаўка каля печы'.

ПУСТАДО'МАК *м.* і *ж.* Негаспадарлівы, нядбайны чалавек. *Пустадомак ты, нічога ні прыдбаяш, усё с хаты вынясеш.* Альба Нясв. *А ты, пустадомак, якая з цябе хадзяйка!* Вецярэвічы Пух.

ПУСТА'К *м.* Пустацелая цэгла. *Свіроначка паставілі с пустакоў.* Масілавічы Сл.; *парайн.* польск. *pustak* 'тж'.

ПУСТАЛЬГА' *м.* і *ж. экспр.* Хто легкадумны. *А што з цябе — пустальга ты!* Кіралі Шчуч. *Пустальга яна, ды й толькі!* Беразіно Докш. ◇ *Рабіць пустальгу* — выконваць марную, дарэмную работу. *Рабі пустальгу — с парожняга ў парожняе пералівай.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПУСТАПА'С *м.* Поле пасля ўборкі збожжавых культур. *Як восень, убрана збожа кругом — пустапас, можна пускаць свіня, гусі.* Вялікія Баяры Шчуч.

ПУСТАПО'ЛІЦА *ж.* Неўрадлівая глеба. *Пустаполіца там, дзе нічого не родзіць.* Міратычы Карэл. *Пустаполіца — ня хоча нічога расці.* Крэва Смарг.

ПУСТАПО'ЛЯ *н.* Тое ж, што і п у с т а п о́ л і ц а. *Пустаполя — там нічога не расце.* Старыя Смільгіні Воран.

ПУСТА'РНІК *гл.* ПУСТЫ'РНІК

ПУСТАЦВЕ'Т *м. бат.* Пустацвет. *Пустацвет у гуркох.* Дзяніскавічы Ганц. *Гуркі зацвілі, пустацвету многа.* Рагулішкі Даўг. ▽ *Лунная ноч — пустацвет бывае на вішнях.* Пацаўшчына Дзятл.

ПУ'СТАШ *ж.* Тое ж, што і п у с т а п о́ л і ц а. *Пусташ была, потым завёз гною, пасеяў.* Паляцкішкі Воран. *Латыгаль — между леса голае месца, пусташ, нічога не расло.* Латыгаль Віл.

ПУ'СТКА *ж.* Пустка. *Пустка — дзе пуставаў участак.* Альхоўцы Лях. *Былі пусткі, дзе пуставала зямля.* Вялікія Баяры Шчуч. *Былі дзве пусткі.* Жылі Іўеў. *Пустка — зямля,*

*якую не падзялілі, бо не было на яе хазяіна: было дванаццаць участкаў, а чалавек дзесяць, два ўчасткі аставаліся, гэта і называецца пустка, а як нашліся людзі і пасяліліся, казалі на іх: «Жывуць на пустцы».* Кураполле Паст.; *парайн.* польск. *pustka* 'тж'.

ПУ'СТКІ *мн.* Загоны. *Пусткі — кароткія палоскі, поўпалетка.* Лука Нараўк.

ПУСТУ'НЯ *гл.* ПУСТЫ'НЯ

ПУСТУ'Х *гл.* ПАСТУ'Х

ПУСТЫ' *прым.* 1. Нежылы. *Стаіць пустая хата.* Мсцібава Ваўк., Вялікія Баяры Шчуч. *Пустая хата, даўно ніхто не жыве.* Мярэцкія Глыб., Рыбчына Віл. *Хата пустая: дзет памёр, баба паехала, сын забраў.* Жодзішкі Смарг. *Пустая хата — няжылая хата.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Парожні. *Пустоё вядро стаіць.* Мсцібава Ваўк., Вялікія Баяры Шчуч. *Пустоя вядро, саган пусты, збан пусты.* Старыя Трокі Трак. 3. Неўрадлівы. *Пустоя поля, там нічога не расце.* Мярэцкія Глыб. *Пустоя поля, падзол, зямля пустая.* Рудня Астравітая Чэрв. *Пустоя поля, пустыня.* Азяраны Раг. 4. Незасеяны. *Я шоў пустым загонам.* Відаўцішкі Вільн. 5. Бясплодны. *Ігрушына пустая, не цвіцела, ігруш нетуці.* Валынцы В.-Дзв. *Калі званец расцець, то жыто лёхкае, пустое, ніская травіцка.* Дзёрнавічы В.-Дзв. 6. Нятлусты. *Мяса ні пустоя, жырно.* Дакудава Лід. 7. *перан.* Бессэнсоўны. *Гэта пустая гутарка.* Лісна В.-Дзв. ◇ *Пусты канец* — смерць. *Куры перат пустым канцом ядуць юргіню, боп.* Рыбчына Віл.

ПУСТЫ' ДЗЕНЬ *м.*, ПУСТЫ'Я ДНІ *мн.* Апошняя квадра месяца. *Пустым днём пасадзіла капусту — не будзя расці.* Малі Астр. *Німа вітаха — пустыя дні.* Бакшты Іўеў. *Чакай надальшы, пустымі днямі не садзі капусту.* Жыдзевічы Іўеў.

ПУСТЫ'НЬ *ж.* Тое ж, што і п у с т а п о́ л і ц а. *Пустынь там, дзяды анны растуць.* Мачаск Бярэз.

ПУСТЫ'НЯ, ПУСТУ'НЯ *ж.* 1. Тое ж, што і п у с т а п о́ л і ц а. *Пустыня — пустая зямля.* Рыбчына Віл. *На пустыні нічога не расцець.* Старыя Смільгіні Воран. *Адна пустыня, што там уродзіць?!* Рудня Астравітая Чэрв. *Пустуня, пустая зямля — сызма.* Мярэцкія Глыб. *Пустыня — пустоя поля.* Азяраны Раг. 2. Пустыр. *Пустыня — дзе некалі дом стаяў.* Старыя Трокі Трак. 3. *м.* і *ж. перан. экспр.* Ілгун. *Ах ты пустыня, брэшаш абы-што!* Кураполле Паст. *Такі ты пустыня: што скажаш, тое і збрэшаш.* Мярэцкія Глыб.

ПУСТЫ'Р *м.* Тое ж, што і п у́ с т к а. *Вышлі з лесу на пустыр, на поле, дзе няма кустоў.* Ёдлавічы Брасл.

ПУСТЫ'РНІК, ПУСТА'РНІК *м. бат.* Сардэчнік. *Пустырнік ад дванаццаці хвароб.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Пустырнік ат печаня п'юць.* Валынцы В.-Дзв. *Пустырнік у нас называюць глухая крапіва, ад нэрваў п'юць.* Солы Смарг. *Пустырнік*

*меленькім, як сінім, цвіце цветам, ад сэрца, нерваў п'юць.* Навікі Лудз. *Пустарнік ад нэрва.* Крэва Смарг.

ПУСТЬ *часц.* Няхай. *Пусть яна і водзіць, а я расцянуў вяроўку ад сценкі да сценкі і паймаў.* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* руск. *пусть* 'тж'.

ПУСТЭ'ЛЬНІК *м.* Самотнік. *Ён, як пустэльнік, ня жыець — скруткаў тлушчу маяць.* Малі Астр.; *параўн.* польск. *pustelnik* 'тж'.

ПУСТЭ'ЧА *ж.* Тое ж, што і п у с т а п о́ л і ц а. *Там пустэча была, цяпер пасеялі нешта.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПУСЦЕ'ЙШАЕ ЗЕ'РНЕ *н.* Няякаснае зерне. *Пусцейшае зерне далёка не адлятае.* Беняконі Воран.

ПУСЦІ'ЦЦА *зак.* 1. Пачаць расці. *Шчаўя пусцілася маладзенькая.* Асавец Віл. *Ячменіца пусцілася.* Кураполле Паст. *На выплывання жыта баравікі пусціліся.* Быстрыца Астр. 2. Пайсці. *Куды ты пусціўся?* Крэва Смарг. *Я пусціўся і іду.* Гемзы Шальч. ◇ *Пусціцца ў гаворку* — стаць гаваркім. *Я пусціўся ў гаворку — самі словы наплываюць.* Груздава Паст. *Пусціцца ў замуства* — выйсці замуж. *У замуства пусцілася старая баба.* Малі Астр.

ПУСЦІ'ЦЬ *зак.* 1. Дазволіць. *Яна пусціла тую дзеўку нанач. Добрая асоба іх у хату ня пусця.* Солы Смарг. *Мяне мама ня пусця на вечарынку, а хлопцы просяць, каб пусціла.* Малі Астр. *Пад вечар мяне аспадыня пусціць пагуляць. Я думала, пусціць у хату.* Гальшаны Ашм. *Выкапаны грады, няхай пусця да нас курэй.* Кемялішкі Астр. 2. Кінуць. *Пусціць палку па яблаках — і з лісцямы пасыпюцца яблакі.* Ахрэмаўцы Брасл. 3. Устанавіць пэўныя шляхі зносін. *Пусцілі туды поцёнг.* Грыкені Вільн. 4. Выпусціць. *З крахмальнага заводу пусцілі брыду.* Чуркі Ашм. 5. Прарасці. *Агуркі нейкія ж лыткі длінные пусцілі. Гэта ў цябе сліўнік пусціў атросткі.* Вялікае Сяло В.-Дзв. 6. Ачысціць. *На шатрак нада пусціць ячмень.* Солы Смарг. *Пусцілі лён на шчэткі.* Дзераўное Стаўб. 7. Пакінуць. *Пусцілі быка на племя.* Альхоўка Навагр. 8. *безас.* Растаяць. *Раптам пусціла вясной.* Чычалі Швянч. 9. *мед. безас.* Ісці (пра мачу). *На сырой зямлі паліжаў, яму не пусціла мачы.* Вецярэвічы Пух. ◇ *Пусціць нэраст* — нераставаць. *Угор нэраст пусціць.* Быстрыца Астр. *Пусціць храсткі* — прарасці. *Бульба ўжо пусціла храсткі.* Палік Барыс.

ПУСЦЯ'К *м.* Нежылое памяшканне. *Гэта хата пусцяк, у ёй не жыве ніхто.* Кіралі Шчуч.

ПУСЦЯНЯ'. ◇ *Малоць пусцяню* — гаварыць абы-што. *Што ты меліш бяс толку пусцяню такую?!* Лісна В.-Дзв.

ПУ'ТА *н.* і *ж.* 1. Пута. *Путамы путалі каровы, з лёну путы.* Ахрэмаўцы Брасл. *Парваў конь путу, мая пута парвалася.* Саланое Віл. *Пута — коні путаць.* Рагулішкі Даўг. *Конь*

*быў у пуце.* Барок Стаўб. *Канапель нада пасеяць на путы.* Магуны Паст. *Пута — каня перавязваць.* Чуркі Ашм. *Путаў бацька наўець.* Вялікае Сяло В.-Дзв. 2. Нізка. *Пута рыбы вісіць, хай сохніць.* Беразіно Докш.

ПУ'ТАЦЬ, ПУ'ТАТІ *незак.* Блытаць. *Ён начаў путаць, і нічога нельга было зразумець.* Саланое Віл. *Я начав говорыті, то судія хотіев мэнэ путаті.* Курашэва Чыж.

ПУТНЕ'Й *прысл.* Ясней. *Мо хто раскажа путней?* Азяраны Раг.

ПУ'ТНЫ *прым.* Талковы, разумны. *Путны чалавек, пуцём гаварыць.* Лісна В.-Дзв.

ПУ'ТРА *ж. кулін.* 1. Саладуха. *Старыя звалі раўґеню путрай.* Мярэцкія Глыб. *Кіславаценькая мая путра.* Валынцы В.-Дзв. *Нешта дабаўляіцца ў путру.* Лісна В.-Дзв. *Салодзіцца путра, у печ ставяць, як упарыцца, тады жоўценькая, тады разводзяць — і соладзі ёсь у ёй.* Груздава Паст. 2. Малочная страва, падкалочаная мукой. *Путра — суп, там малако і муку намішаюць у латышоў.* Ахрэмаўцы Брасл. *Слова «путра» чулі ў Латвіі. Путру ў Латвіі елі.* Рыбчына Віл. 3. Цура. *Во якая ў міне путра вышла: як хлеба накрышыш у ваду — і путра.* Валынцы В.-Дзв. 4. Нясмачная, няякасная страва. *Дрэнная яда, вот ты, хазяйка, путры наварыла, якой ніхто не хацеў есці. Зварыла нейкую путру.* Ёдлавічы Брасл. *Што ты путру нялюцкую зварыла, есці няможна.* Валынцы В.-Дзв. *Зварыла путру — і хлебай.* Лісна В.-Дзв.; *параўн.* літ. *putrà,* лат. *putra* 'страва з малака'.

ПУТРЫ'Ш *м.* Шворан. *Путрыш — жалезны шваранок.* Масілавічы Сл.

ПУ'ТЦА *н.* Прывязка, пры дапамозе якой біч прымацоўваецца да цапілна. *Путца скураная — біяк прывязваць.* Чуркі Ашм.; *гл.* ДАБМ, карта № 259.

ПУ'ЎЗІНЫ *мн.* Апоўзіны. *Як завяршаюць сташка, то кладуць пуўзіны.* Навасёлкі Свісл.

ПУХ I *м.* Пух. *З гусе мядніцу пуху надзярэш.* Кіралі Шчуч. *Пух от гусі.* Дзяніскавічы Ганц. ◇ *Пух-пухам* — вельмі мяккі. *Спякла хлеб — пух-пухам, хоць ты акно адчыні, то як дмухнеш, то паляціць.* Талейкі Швянч.

ПУХ II *выкл.* Бах. *Ляснік узяў ружо і ўгару пух!* Кудзялянцы Шальч.

ПУХ III *м.*, ПУХА' *ж.* Тупы канец яйка. *Як яйка мацуюць, то б'юць наском ці пухам.* Солы Смарг. *Пуха ў яйку.* Мярэцкія Глыб. *Пуха і нос у яйцы.* Лука Нараўк.

ПУХАВА'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і п у к а ц ь III. *Пухаваць трэба, каб вусы адбіліся ў ячменя.* Мачаск Бярэз.

ПУХАВЫ', ПУХО'ВЫ *прым.* Зроблены з пуху. *Ясічак зрабіла пухавы.* Жодзішкі Смарг. *Пуховыя падушкі робяць.* Кудзялянцы Шальч.

ПУ'ХАЛЬ *ж. мед.* Пухліна. *Як якая пухаль, прыкладаюць падбел, адцягвае боль, цімпературу.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПУХА'НЫ *прым.* Тое ж, што і п у́ л ь х н ы 1. *Пуханы хлеп у дзірачках.* Саланое Віл.

ПУХА'РКА *ж.* Тое ж, што і п у́ р х в а т к а. *Пухаркі не ядуць.* Рагулішкі Даўг.

ПУ'ХАЦЬ I, ПУ'ХКАЦЬ *незак.* 1. Тое ж, што і п у к ч а̀ ц ь 1. *Хлеп пачынае кісnуць, бо ўжо пухая.* Кіралі Шчуч. *Пад вечар рашчыніш, пухкая хлеп.* Дакудава Лід. *Пухкая цеста, як пракісня.* Каўняны Гродз. 2. Бурчаць. *Нешта ў жываце так пухая — ні здарава.* Кіралі Шчуч.

ПУ'ХАЦЬ II *незак.* 1. Лопацца. *Як нагой наступіш, порхаўка пухаіць.* Вялікі Лес Круп. 2. Тое ж, што і п у к а в а́ ц ь. *Пухаюць пупушкі на ліпе.* Быстрыца Астр.

ПУХАЧЫ' *мн. бат.* Лотаць. *Пухачы растуць на балоці, дзе мокра.* Ёдлавічы Брасл.

ПУХІ'Р, ПУХІЕ'Р, ПЫХІ'Р *м.* 1. Тое ж, што і п у з ы́ р 1. *Велькія пухіры, камары пакусалі.* Навасёлкі Свісл. *На руцэ не было пухіру.* Малі Астр. *Пухіер такі, як вадзяны, як выскочыць, то ён пэнкне, як сам пэнкне, то выцячэ — і ніема пухіера, загоіцца.* Баброўнікі Гарад. *У яе пыхір на скуры велькі.* Кураполле Паст. 2. Мазоль. *Намуляв пухіра.* Дзяніскавічы Ганц. 3. Тое ж, што і п у з у́ р. *Дошч лье як з вядра, аш пухіры на вадзе.* Жылі Іўеў.

ПУ'ХКАЦЬ *гл.* ПУ'ХАЦЬ I

ПУ'ХКІ *прым.* 1. Тое ж, што і п у́ л ь х н ы 1. *Хлеп пухкі, наздраваты. На саладусі хлеп пухкі. Пухкі хлеп ні чэрствая.* Дакудава Лід. 2. Пушысты. *Пухкі снех.* Гайна Лаг.

ПУХЛА'ТЫ *прым.* Пухлы. *Рука пухлатая, бабскія рукі ў яго.* Малі Астр.; *параўн.* літ. *puklùs* 'тж'.

ПУХЛІ'НА *ж.* Тое ж, што і п у́ х а л ь. *Пухліна паднялася.* Ёдлавічы Брасл. *Пухліна на руцэ.* Рыбчына Віл. *Апухла нага, пухліна стала на ёй.* Мярэцкія Глыб. *Нагой пашла пухліна.* Старыя Смільгіні Воран. *Вот напухла рука мне, аш пашла пухліна па руцэ. Ад зуба пашла пухліна.* Кіралі Шчуч. *Пухліна на назе.* Гемзы Шальч. *Тут пухліну былі п атагнаўшы.* Рагулішкі Даўг. *Пухліна з нагі адышла.* Кудзялянцы Шальч. *Пухліна, кажуць, рэзаць будуць.* Беразіно Докш.; *параўн.* польск. *puchlina* 'тж'.

ПУХЛІ'НКА *ж. памянш.* да п у х л і н а. *Як пароблю — апухніць рука, з начы пухлінкі нет.* Валынцы В.-Дзв.

ПУ'ХЛЫ *прым.* 1. Тое ж, што і п у́ л ь х н ы 1. *Алаткі пухлыя на дражджах. Пухлы хлеп, добра ўкіс.* Ахрэмаўцы Брасл. *Пухлы блін, пухлы хлеп. Пірох пухлы ўдайся.* Ёдлавічы Брасл. *Пухлых блінцоў спякла.* Пацаўшчына Дзятл. 2. Пухкі. *Нада падушку распушыць, кап была пухлая, падрыхліць,*

*падбіць падушку.* Ахрэмаўцы Брасл. *Пухлы снех ляжыць.* Дзёрнавічы В.-Дзв.; *параўн.* літ. *puklùs, puknùs* 'тж'.

ПУХЛЯ'ВЫ *прым.* Няякасны. *Лён пухлявы нейкі.* Мачаск Бярэз.

ПУХЛЯ'НЫ *прым.* Тое ж, што і п у́ л ь х н ы 2. *Зямля добрая, пухляная, можа корань зачапіць аручы.* Груздава Паст.

ПУХЛЯ'ЦІНА *ж.* 1. Тое ж, што і п у́ х а л ь. *Укусіць шэршань, пухляціна тры дні пабудзіць.* Мсцібава Ваўк. *Пухляціна адышла.* Номікі Бабіц. *Пухляціна — от як штось баліць, нага, як ударыш моцно ці звіхнеш, то яна напухне.* Баброўнікі Гарад. 2. Тое ж, што і п у х л і́ н а. *Пухляціна — хвароба такая, то ўжэ перат смерцю, буду ўміраць.* Баброўнікі Гарад.; *параўн.* польск. *puchlina* 'тж'.

ПУ'ХНУЦЬ I *незак.* Апухаць. *У вайну некаторыя пухлі з голаду.* Лісна В.-Дзв. *Зачала пухнуць рука.* Паляцкішкі Воран. *Пад вачыма пухне.* Саланое Віл. *Пачалі ногі пухнуць.* Канюкай Вільн.

ПУ'ХНУЦЬ II *зак.* Стрэліць. *Ляснік угару як пухнуў — яны ўцякаць сталі.* Кудзялянцы Шальч.

ПУ'ХНЫ *прым.* Тое ж, што і п у́ л ь х н ы 1. *Пухныя пончкі.* Каўняны Гродз.

ПУХО'ВЫ *гл.* ПУХАВЫ'

ПУХО'НЫ *прым.* Тое ж, што і п у́ л ь х н ы 1. *Пухоныя бліны з грэчкі.* Багушэвічы Бярэз.

ПУХО'ЎКА, ПУРХО'ЎКА *ж.* Тое ж, што і п у к о́ ў к а. *З пуховак падушкі рабілі, іх на балоце многа.* Беразіно Докш. *Пухоўкі на хамуціны бралі, яны высокія, ля рэк.* Мачаск Бярэз. *Пухоўкі на балоце растуць, шышкі карычнявата-чорныя.* Глівін Барыс. *Чорныя пухоўкі ля возера растуць.* Чарняўскія Лудз. *Пурхоўкі больш часці па мхах, дзе журавіны, дзе лахчына, дзе нічога-нічога нетуці.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПУХТОВА'ЦЬ *незак.* Валіць (пра дым). *Одсюль пухтуе — проводка гарыць.* Хатынічы Ганц.

ПУХЦЬ *выкл.* Бух. *Скаўроначак ляціць — і пухць на зямлю.* Кудзялянцы Шальч.; *параўн.* літ. *pũkt* 'тж'.

ПУХЧЭ'ЦЬ, ПУХЦЕ'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і п у к ч а́ ц ь 1. *Пухчыць цеста, патходзіць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Цеста, як падыходзіць, пухціць.* Вецярэвічы Пух.

ПУЦ *м.*, ПУ'ЦО *н.* 1. Сякера з доўгім тапарышчам. *Пуц — расколваць дзерава, вазьмі пуца, ім калолі часам. Пуцо — сякера такая, тапарышча ў яго доўгае.* Ісерна Слуц. 2. Тупая сякера. *Пуц — тупая сякера. А дзе мой пуц?* Пасека Ст.-Дар.; *параўн.* ням. *Putz* 'тж'.

ПУЦА'К, ПУЦУ'К *м.* Пацук. *Сівыя пуцакі бегаюць у хля-*

*ве.* Лісна В.-Дзв. *Пуцакі носяцца і катоў не баяцца.* Якубова Рас. *Пуцук пабег велькі.* Мярэцкія Глыб.

ПУЦАЛАВА'ЦЕНЬКІ *прым. памянш.* Пухленькі. *Пуцалаваценькі мой чалавек.* Малі Астр.; *параўн.* польск. *pucołowaty* 'тж'.

ПУЦА'ТЫ *прым. экспр.* Мардаты. *Такі пуцаты.* Номікі Бабіц. *Пуцата дзеўчынка.* Руднікі Шальч.

ПУ'ЦІКІ *мн.* Рагі. *Пуцікі цякуць па вокнах.* Ухвала Круп. *Мокрыя вокны — пуцікі цякуць па вокнах.* Мішневічы Шум.

ПУЦІ'НА *ж. бат.* Каліна. *Пуціна ў лесе расце па ніскіх мейсцах.* Альхоўка Навагр. *Пуціна есць у лесе, ягады чырвоныя, гаркаватыя.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* літ. *pùtinas* 'тж'.

ПУЦІ'НКА *ж. памянш.* да пуціна. *Пуцінка — ягада, цвет харошы.* Дакудава Лід.

ПУ'ЦКАЛА *ж.* і *м. экспр.* Мурза, бруднюха. *Ах ты, пуцкала, вымазалася ўся.* Пацаўшчына Дзятл.; *параўн.* літ. *púodkelė* 'ануча для гаршкоў'.

ПУ'ЦКІ I *мн.* Губы. ◇ *Надуць пуцкі* — пакрыўдзіцца. *Ён надуў пуцкі і сядзіць.* Якубова Рас.

ПУ'ЦКІ II *гл.* ПУЧКІ'

ПУЦНЯ' *ж.* Тое ж, што і пундэ́ль. *Лён мералі на пуцні.* Жылі Іўеў.

ПУ'ЦО *гл.* ПУЦ

ПУЦУ'К *гл.* ПУЦА'К

ПУ'ЦЫ *мн.* Шчокі. *На шчокі кажаць пуцы. Пуцы красненькія яшчэ.* Малі Астр.; *параўн.* польск. дыял. *puca* 'шчака'.

ПУЦЬ *м.* і *ж.*, ПУЦЯ' *ж.* 1. Шлях. *У далёкі пуць сабраўся ён.* Вялікія Баяры Шчуч. *Пайду ў пуць.* Малі Астр. *Я ўжо збіўшыся с пуці.* Лайпушкі Ігн. *Па сухой пуці можна прайсці.* Жылі Іўеў. *Ён пашоў у адну пуць са мной. Можа, другую пуць нашла?* Ахрэмаўцы Брасл. *Велька пуць, не дайду.* Вялікія Баяры Шчуч. *Пойдзем па аднэй пуці.* Магуны Паст. 2. Рэйкавы пуць. *Пуць — дзе поязд ходзіць, з рэяк.* Асавец Віл. *Ідзе чэрас пуця. Прас пуця на мосце праходзіць, над пуцёй.* Ністанішкі Смарг. *Ехаў пуцёю, добра пуць.* Дзяніскавічы Ганц. *На станцыі многа пуцей.* Асавец Віл. 3. Запасны пуць. *На запасной пуце стояў вагон.* Смаляніца Пруж. 4. *перан.* Памяць. *Яна маіць пуць, а бываіць, пуць ціраіць.* Кураполле Паст. *Пуць добры, но яна хворая.* Гемзы Шальч. *Гэта як пуць, то і пападзе якое слова.* Кіралі Шчуч. 5. Толк. *Непанятна, раскажы пуцём. Цяўкаіць ні к пуцю.* Лісна В.-Дзв. 6. *перан.* Жыццёвы шлях. *У каждага свой пуць у жыцці.* Кіралі Шчуч. ◇ *Пайсці сваім пуцём (пуцёй)* — пайсці сваім шляхам. *Пашлі жыць кажды сваім пуцём.* Ахрэмаўцы Брасл. *Пайду сваёй пуцёй.* Лісна В.-Дзв. *Пуць паставіць* — накіравацца. *Думаіць, куды пуць паставіць, куды кінуцца.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПУ'ЦЬКІ *гл.* ПУ'ЧКІ

ПУЦЬ-ПУЦЬ-ПУЦЬ *выкл.* Падзыўныя для курэй. *Як трэба сабраць і накарміць курэй, то іх завуць: пуць-пуць-пуць.* Чычалі Швянч.; *параўн.* літ. *put' put' put',* ням. *put, put!* 'тж'.

ПУЦЭ'НІЧКІ *мн. памянш.* Пучкі. *Пуцэнічкі візалі з бацвіння.* Курaполле Паст.

ПУЦЯВІ'ННАЯ ДАРО'ГА *ж.* Палявая дарога. *Едуць пуцявіннымі дарогамі між поля.* Мярэцкія Глыб.

ПУЧ'Е, ПУ'Ч'Я *гл.* ПУ'ЧЧЭ

ПУ'ЧКА *ж.* Тое ж, што і п у х III. *Пучка ў яйку і насок.* Малі Астр.

ПУЧКЕ' І *гл.* ПУЧКІ'

ПУЧКЕ' ІІ, ПУ'ЧКІ *мн. анат.* Скулы. *У яе пучке красныя, як ягады.* Малахоўцы Бар. *Пучкі шчок красныя.* Рыбчына Віл.

ПУ'ЧКІ, ПУ'ЦКІ, ПУ'ЦЬКІ *мн.* 1. Костачкі пальцаў рук. *Пучкі — костачкі ў руцэ.* Дакудава Лід. *Пучкі на пальцах баляць.* Навасёлкі Свісл. *Пучкамі пастукаў у вакно.* Жылі Іўеў. *Пучкі пабіў.* Лука Нараўк. *Пуцкі баляць.* Вялікія Баяры Шчуч. *Па пуцькі аднялі пальцы.* Пацаўшчына Дзятл. 2. Кончыкі пальцаў рук. *Пучкі нарвалі. Пучкі баляць.* Кіралі Шчуч. *Пучкі — кончыкі пальцаў.* Навасёлкі Свісл. *Пучкі пальцаў.* Альхоўцы Лях.

ПУЧКІ', ПУЧКЕ' *мн.* Тое ж, што і п у́ п а х і. *Яблынька ў пучкі складваяцца.* Старыя Трокі Трак. *Пучке на дрэве папукаліся.* Галубы Маст. *Пучке ўжо на дрэве скора будуць пукацца.* Кіралі Шчуч.

ПУЧО'К І *м. памянш.* 1. да п у к І,1. *Лён рвём рукамі, у пучкі вяжам. Каноплі вязалі ў пучкі.* Малахоўцы Бар. *Пучок ільну звязала.* Рыбчына Віл. *У пучок вязалі нескалькі жмень і мачылі.* Альхоўцы Лях. *Лён рвалі і слалі ў радочкі і звязвалі, як высахня, у пучкі вязалі.* Рагулішкі Даўг. *Паставілі лён пучкам, кучкам.* Пасіене Лудз. *У пучкі калапні павяжаш і мочыш, каменням прыціскаіш, трэба мачыць калапні.* Саланое Віл. *Ячмень жалі на жменькі і вязалі ў пучкі, пучок вяжацца бліжэй да каласоў, кап сох камель.* Лісна В.-Дзв. *Канаплі вязалі ў пучкі.* Ёдлавічы Брасл. *Фасолю ў пучкі вязалі.* Старыя Трокі Трак. 2. Тое ж, што і п у к І,2. *Пучок голья.* Горск Бяроз.

ПУЧО'К ІІ *м. памянш.* Верацяно пражы. *Пучок — напрадзена верацяно. Бяруць пучок і звіваюць на клубок.* Кіралі Шчуч.

ПУЧО'К ІІІ *м.* Драўляная дэталь у падсядзёлку. *Чэрассядзельнік зацягуецца цераз сядзёлку пучкоў. Пучкі — дзеравянныя дэталі ў сядзёлцы.* Азяраны Раг.

ПУ'ЧЧА І *зб. н.* Тое ж, што і п у к ІІ, 2. *Ягоная цыбуля пашла ў пучча, а наша — не. Шчавіль цвіціць, ядуць пучча.*

Валынцы В.-Дзв. *Як прыстыне лук, то пойдзе ў пучча.* Багушэвічы Бярэз.

ПУ́ЧЧА II *зб. н.* Тое ж, што і п у к I, 2. *Пучча табакі партызаны забралі, я ім дала.* Ухвала Круп. *За хатай вісіць столькі пучча табакі.* Палік Барыс.

ПУЧЧЫНЯ́ТЭ *зак.* Прасеяць. *Трэба жэто пуччынятэ рышытом.* Дзмітравічы Кам.

ПУ́ЧЧЭ, ПУЧ'Ё, ПУ́Ч'Я *зб. н.* Тое ж, што і п у́ п а х і. *Пуччэ е на дэрвовэ.* Дзмітравічы Кам. *На яблынях пуччэ вжэ е, цвытыстымуть сылно.* Сіманавічы Драг. *Пуч'ё на дрэвах.* Навасёлкі Свісл. *На дзвёх грушах пуч'я, як асыпана.* Мсцібава Ваўк. *Пуч'я распусціла, многа пуч'я.* Каўняны Гродз.

ПУЧЫ́НКІ *мн.* Тое ж, што і п у́ п а х і. *Пучынкі папукаліся.* Вялікія Баяры Шчуч. *Пучынкі на дрэве, на іх вывіваюцца лісточкі.* Мсцібава Ваўк.

ПУЧЭ́ЧОК *м. памянш.* 1. Пучок. *На загончыку сеялі мак, ды павяжуць у пучэчкі, ды на страху, каб ён даспяваў.* Дзяніскавічы Ганц. *Як дожынают, то выбэрают жмэню колосся і вяжут ёго в пучэчок, і светым разом з другым зеллям.* Горск Бяроз. 2. Букецік. *Пучэчок цвэтуоў.* Горск Бяроз.

ПУША́НЫ *прым.* 1. Тое ж, што і п у́ л ь х н ы 1. *Пушаныя бліны пяклі.* Саланое Віл. 2. Тое ж, што і п у́ л ь х н ы 2. *Зямля пушаная.* Рыбчына Віл.; *парабн.* літ. *pušnùs* 'тж'<бел. *пышны,* руск. *пышный.*

ПУ́ШАЧКА *ж. памянш.* 1. да п у́ ш к а I. *У пушачцы серчыкі.* Магуны Паст. *Пушачка сіранак.* Рагулішкі Даўг. 2. да п у́ ш к а II. *Меншай пушачкі няма.* Старыя Смільгіні Воран. *У пушацца ляжыць мой пярсцёнак.* Кудзялянцы Шальч. 3. Лубянка. *Былі пушачкі з лучынкі свайго вырабу.* Гемзы Шальч.

ПУ́ШКА I *ж.* Карабок. *Купіла пушку запалкаў.* Старыя Смільгіні Воран. *Пушку сярнічак купіў.* Мярэцкія Глыб. *Пушка спічак.* Старыя Трокі Трак. *Былі пушкі папрывазіўшы гузікаў.* Быстрыца Астр.

ПУ́ШКА II *ж.* Бляшанка. *Ат кансерваў пушка маленькая і ад гароху пушка.* Старыя Трокі Трак.; *параўн.* польск. *puszka* 'тж'.

ПУ́ШКА III *ж.* Тое ж, што і п у х III. *У яйку пушка і носік.* Жодзішкі Смарг. *Пушка ў яйку.* Малькуны Ігн. *Пушка і нос у яечке.* Пасіене Лудз. *Ня бі яйца з носа, у пушцы плёначка ўвагнуўшыся.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПУ́ШКА IV *ж.* Тое ж, што і п у́ ч к і 2. *Пазбівала пушкі, балящь.* Пасека Ст.-Дар. *Пушка — самы канец пальца.* Лапічы Асіп.

ПУ́ШКА V *ж. памянш.* Пуга. *Пушку з елаўчыны вырэзваюць. Пушка з вяройкі, верайчана, як секане, то і значны гэтыя вузлы.* Альхоўцы Лях.

ПУ'ШКІ *мн.* Тое ж, што і п у́ п а х і. *Сматры, як пачынаюць росці пушкі.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ПУШНЫ' *прым.* Тое ж, што і п у́ л ь х н ы 1. *Пушныя бліны.* Граўжышкі Ашм. *Хлеп на дзірачках, мяккі, добры, пушны.* Вецярэвічы Пух.

ПУШНЯ' *ж. с.-г.* Арфа. *Была пушня такая, каб пыл выганяць з зярна, як гэты пыл пойдзіць — ляціць далёка.* Кураполле Паст.

ПУШО'К *м. памянш.* да п у х III. *Пушок у яйка, альбо пятка.* Солы Смарг.

ПУШЧАВЫ' *прым.* Які расце ў пушчы. *Пушчавоя дзерава — грубоя.* Кудзялянцы Шальч.

ПУШЧА'Й *часц.* Няхай. *Крупачкі пушчай кіпяць.* Солы Смарг.; *парайн.* руск. *пусть, пускай* 'тж'.

ПУШЧАНЦЫ' *мн.* Жыхары пушчы. *Пушчанцы жывуць каля пушчы.* Мсцібава Ваўк.

ПУШЧА'ЦЬ I *незак.* 1. Браць кватарантаў. *Яна пушчаіць кваціранты, я ёй казаў не пушчаць.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Пускаць. *Не пушчай туды скот.* Лісна В.-Дзв. 3. Знішчаць. *Прусы ўзлезлі п на стол, ды іх ні пушчаюць.* Солы Смарг. 4. Пакідаць (на племя). *Пушчу на племя цяля.* Старое Сяло Зэльв. *А с цялём што будзіця рабіць, у племя будзіця пушчаць?* Груздава Паст. 5. Кідаць. *Палкамі на нас пушчалі.* Дакудава Лід. 6. Раставаць. *Вясной, як снег пушчае, такое балота.* Пацаўшчына Дзятл. ◇ *Пушчаць нораст* — нераставаць. *Рыба тожа пушчаіць нораст.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПУШЧА'ЦЬ II *незак.* Валіць (лес). *І лес пушчаў, і строіў сам.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПУШЧУБО'КАЦЦА *незак. экспр.* Плюхацца. *Пушчубокаесся ў рацэ, бо плаваць ня ўмееш.* Юркава В.-Дзв.

ПУШЧЭ'ЦЬ *незак.* Худзець. *Быў здаровы, а тады стаў пушчэць — і памёр.* Саланое Віл.

ПУ'ШЫЦЬ *незак.* Веяць. *Пушаць зярно, пыл выганяюць з зярна.* Кураполле Паст.

ПУШЭ'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і п у к ч а́ ц ь 1. *Зачне пушэць, калі ўстанаўліваюць кіслату хлебнай дзежкі.* Паляцкішкі Воран.

ПХА'ЦЦА *незак.* Штурхацца. *Дзеці сталі пхацца.* Жылі Іўеў.

ПХАЦЬ *незак.* Напіхваць. *Пхала, пхала траву.* Паляцкішкі Воран.

ПХНУ'ЦЦА *незак. экспр.* Насоўвацца. *Пхнецца хмара, зноў дошч будзя.* Кіралі Шчуч.

ПХНУЦЬ *зак.* Штурхануць. *Яна мяне пхнула.* Ністанішкі Смарг. *Пхнуў сына.* Міратычы Карэл. *Пхнуў міне.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПЦІ́ЦА *ж.* Птушка. *Пціцы над галавой лі́таюць.* Пасіене Лудз.; *парайн.* руск. *птица* 'тж'.

ПЦІ́ЧКА *ж. памянш.* да пціца. ▽*Відна пцічка па палёту.* Малі Астр.

ПЦІ́ЧНІК *м.* Птушнік. *На пцічніку работая.* Солы Смарг.; *парайн.* руск. *птичник* 'тж'.

ПЦЭ́НЬКЭ *мн.* Абцугі. *Пцэнькэ прыніс мні.* Радастаў Драг.; *парайн.* польск. *obcęgi* 'тж'.

ПЧАЛА́, ПШЧАЛА́, ПШЧО́ЛА *ж.* Пчала. *Пчолы залажылі чэр.* Валынцы В-Дзв. *Пчолы такія працавітыя.* Бакшты Іўеў. *Пчолы ў калодах.* Саланое Віл. *Пчала меданосная мет носіць, другая — пылок, ваду берыць.* Груздава Паст. *На пчалу не скажуць здохла, а — памёрла.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Я не рат быў пчаламі.* Мсцібава Ваўк. *А зімовы перыяд пчала жывець шэсць месяцаў.* Мярэцкія Глыб. *Пчолы-развеччыкі шукаюць места апрадзялённая, куда ляцець.* Альхоўка Навагр. *Пчалыма займаўся.* Дзяніскавічы Ганц. *Пчолы збіраюць нектар.* Рудня Астравітая Чэрв. *Пчолы збіраюць м'ёд.* Пасека Ст.-Дар. *Пшчала жыгае.* Дакудава Лід. *Пшчала адна ляціць.* Кіралі Шчуч. *Пшчала джгае.* Старыя Сільгіні Воран. *Маладая пшчала не ідзе на рабогу.* Гемзы Шальч. *Пшчала йдзе на цвяток.* Швэды Вільн. *Пшчала жыгадлам жыгае.* Старыя Трокі Трак. *Пшчала жыгайло ўпусціла.* Воўкуш Ліпск. *У пшчалы жыгадло.* Сакаляны Сакол. *У яго есць много пшчол.* Крынкі Крын. *За пшчалыма трэба добры ўхот.* Жылі Іўеў. *Пшчалы няможна забіваць.* Солы Смарг. *Было пшчалей дужа.* Паляцкішкі Воран. *Каўкаскія пшчолы з доўгімі пыскамі.* Ракаўскія Швянч. *Восак пшчолы робяць.* Парэчча Гродз. *У яго многа пшчол.* Крэва Смарг. *Пшчолы жыгаляць.* Івашкаўцы Смарг. *Вулёк павесіў на дрэва, на пшчолы.* Магуны Паст. *Улі для пшчол даўбілі, у ўлях пшчолы жылі.* Судэрва Вільн. *Пшчолы ў калодах вяліся.* Галоўні Воран. *На канюшыне маленькай пшчолаў столькі.* Швэды Вільн. ▽*Даў бох пшчол, а чорт сябру* — калі мёд дастаюць, сябар знойдзецца. Солы Смарг.

ПЧАЛАВО́Д, ПЧАЛАВО́Т, ПШЧАЛАВО́Д *м.* Пчаляр. *Мой дзед пчалавод сільны.* Азяраны Раг. *Ён пчалавот, яму ідуць харашо пчолы.* Кураполле Паст. *Пчалавот з яго плахі.* Валынцы В.-Дзв. *У пчалавода таго добрыя пчолы: мёду сколькі хочаш.* Навасёлкі Свісл. *Пчалавот пчолы разводзіць.* Альхоўка Навагр. *Схадзі да таго пчалавода, ён усё ведае пра пчол.* Саланое Віл. *Які з цябе пчалавот?* Старое Сяло Зэльв. *Пчалавот разводзіць і даглядае пчолы.* Кіралі Шчуч. *Пчалавот на ўсю вёску адзін.* Міратычы Карэл. *Пчалавот залазіць на дзерава і выдзяўбае дзірку, як вулей.* Ухвала Круп. *Пшчалавод ён добры.* Чычалі Швянч.; *парайн.* руск. *пчеловод* 'тж'.

ПЧАЛАВО́ДНАЕ СТО́ЙЛА *н. пчал.* Дрэва, у дупле яко-

га жывуць пчолы. *Такое дзерава называлі пчалаводнае стойла, дзе пчолы вяліся ў дуплах.* Азяраны Раг.

ПЧАЛАЎНІ'К *м.* Тое ж, што і п ч а л а в о́ д. *Пчалаўнік быў не стары, але добра разбіраўся ў пчолах.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПЧАЛІНА' *ж.* Тое ж, што і п ч а л а́. *Труцень за тры пчаліны з'есць.* Саланое Віл. *Пчаліна ўкусіла мяне.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Зругаю пчаліну, абізацільна пакусаіць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Увідзіла, што пчаліна паўзець.* Чапаеўскі В.-Дзв.

ПЧАЛІ'НЫ, ПШЧАЛІ'НЫ КІТ *м. пчал.* Пропаліс. *Пчаліны кіт, у другіх мястах — праполіс.* Малахоўцы Бар. *Ціпер ім лечуцца ад сухотаў — пшчаліным кітам.* Мсцібава Ваўк.; *параўн.* ням. *Kitt* 'замазка, кіт'.

ПЧАЛІ'НЫ, ПЧО'ЛІННЫ, ПШЧАЛІ'НЫ КЛЕЙ *м.* Тое ж, што і п ч а л і н ы к і т. *Пчаліны клей — ім лечуцца, у спірт укласці нада.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Пчаліны клей лячнічы.* Бакшты Іўеў. *Пчолінны клей дастаў.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Пшчаліны клей у мяне быў.* Старыя Смільгіні Воран.

ПЧАЛІ'НЫ, ПШЧАЛІ'НЫ ХЛЕБ *м. пчал.* 1. Пярга. *Пчаліны хлеп з верасу бяруць, многа мёду.* Альхоўка Навагр. *Пчаліны хлеп для пчолаў.* Саланое Віл. *Пчаліны хлеп ні к чаму мне.* Лісна В.-Дзв. *Пшчаліны хлеп пшчалам на падкормку.* Жылі Іўеў. 2. Пчалінае малачко. *Пчалінага хлеба ня відзяў — малачко як быццам такое.* Мярэцкія Глыб. *Пчаліны хлеп — малачко такое.* Бакшты Іўеў.

ПЧАЛІ'НЫ ХЛЯБЕ'Ц *м.* Тое ж, што і п ч а л і н ы х л е б 1. *Пчаліны хлябец даюць дзятве — пылок такі з цвятоў.* Рыбчына Віл.

ПЧАЛЬНА'Я ПРЫВА'ДА *ж. пчал.* Некалькі вулляў для прываблівання рою. *Пчальная прывада, каб пчолы сабірацъ.* Прэдэ Даўг.

ПЧАЛЬНІ'ЦА *ж. пчал.* Раёўня. *У пчальніцу трэба рой абірацъ.* Рыбчына Віл.

ПЧАЛЯ'НЫ *прым.* Пчаліны. *Домікі пчаляныя.* Старыя Трокі Трак.

ПЧАЛЯ'Р *м.* Тое ж, што і п ч а л а в о́ д. *Пчаляр быў добры.* Альхоўка Навагр. *Пчаляр пчолы разводзіць.* Ністанішкі Смарг.

ПЧО'ЛАЧКА *ж. памянш.-ласк.* да п ч а л а́. *Гудзе пчолачка.* Дзераўное Стаўб.

ПЧО'ЛІННЫ КЛЕЙ *гл.* ПЧАЛІ'НЫ КЛЕЙ

ПЧО'ЛКА *ж. памянш.* да п ч а л а́. *Пчолак шмат лётае.* Плябанцы Ашм.

ПЧО'ЛНЫ ХЛЕП *м.* Тое ж, што і п ч а л і н ы х л е б 1. *Пчолны хлеп жоўценькі.* Саланое Віл.

ПЧО′ЛЬНЫ *прым.* Тое ж, што і пчаля́ны. *Матка ў пчолаў — пчольная матка.* Горск Бяроз.

ПЧЭЛІ′НОЕ МОЛОКО′ *н.* Тое ж, што і пчаліны хлеб 2. *Пчэліное молоко соберите.* Прэдэ Даўг.

ПШАНІ′ЦА, ПШАНЭ′ЦЯ, ПШЭНІ′ЦА *ж.* Пшаніца. *Сеілі зімнюю і летнюю пшаніцу.* Навікі Лудз. *Пшанэця добра.* Дзмітравічы Кам. *Пшэніца ўрадзіла.* Відаўцішкі Вільн. *Пшэніцу сеялі.* Старыя Трокі Трак.

ПШАНІ′ЦКА *ж. памянш.* да пшаніца. *У таткі пшаніцка не ўсходзіць.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПШАНІ′ЧАШЧА *гл.* ПШАНІ′ЧЫШЧА

ПШАНІ′ЧНІСКА, ПШАНІ′ШНІСКО, ПШАНЭ′ЧНЫСКО, ПШЭНІ′ЧНІСКО *н.* Поле, з якога сабралі пшаніцу або на якім папярэдняй культурай была пшаніца. *Пшанічніска — пожня пшанічна, дзе пшаніцу забралі.* Кіралі Шчуч. *Пшанішніско паехаў гараць.* Міратычы Карэл. *Пшанэчныско — дэ росла пшанэця.* Дзмітравічы Кам. *Зоралі пшэнічніско і посіеялі жыто.* Курашэва Чыж.

ПШАНІ′ЧНЫ, ПШАНІ′ШНЫ, ПШАНЭ′ЧНЫЙ *прым.* 1. Які мае адносіны да пшаніцы. *Пшанічная салома.* Груздава Паст., Рудня Астравітая Чэрв. *Пшанічнае ржыска.* Відаўцішкі Вільн. *Пшанічна салома.* Дзяніскавічы Ганц. *Пшанэчна солома.* Дзмітравічы Кам. 2. Прыгатаваны з пшаніцы. *Пшанічная мука.* Рыбчына Віл. *Спякі з пшанічнай мукі бліны.* Мярэцкія Глыб. *Дзе ляжыць пшанішная мука?* Рудня Астравітая Чэрв.

ПШАНІ′ЧЫСКО *н.* Тое ж, што і пшанічніска. *Пшанічыско — дзе расла пшаніца.* Гемзы Шальч.

ПШАНІ′ЧЫШЧА, ПШАНІ′ЧАШЧА *н.* Тое ж, што і пшанічніска. *Пшанічышча — дзе расла пшаніца, пойдзе цяпер пад жыта.* Асавец Віл. *Куры хадзілі па пшанічашчы.* Валынцы В.-Дзв. *Пшанічашча зааралі.* Янова Рас.

ПШО′НІСКО *н.* Тое ж, што і пшанічніска. *Пшоніско — поле, дзе расла пшаніца.* Вострава Маст.

ПШО′НІШЧА *н.* Тое ж, што і пшанічніска. *Пшонішча — поле пасля пшаніцы.* Крэва Смарг. *Пшонішча — дзе пшаніца была.* Солы Смарг.

ПШО′ННЫ, ПШО′НЫ, ПШЭ′ННЫ, ПШЭ′НЫ *прым.* Тое ж, што і пшанічны 2. *Пшонныя пірагі ў малако крышылі.* Саланое Віл. *Прывёз свёкар мне трохі пшоннай мукі.* Беразіно Докш. *С пшоннай муке пяклі пірагe.* Кіралі Шчуч. *Пшонная мука даўно ў нас была.* Жодзішкі Смарг. *Паткалачу пшоннай мукою.* Дакудава Лід. *Пшонная мука прадаецца.* Груздава Паст. *Пшонна мука ў кадлубку.* Лука Нараўк. *Пшонай мукі даставалі на куцю.* Гемзы Шальч. *Пшэнная мука ў мяшку ляжыць.* Магуны Паст. *Пшэная мука на пірагі, булкі.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* польск. *pszenny* 'тж'.

ПШЧАЛА' *гл.* ПЧАЛА'

ПШЧАЛАВО'Д *гл.* ПЧАЛАВО'Д

ПШЧАЛІ'НЫ КІТ *гл.* ПЧАЛІ'НЫ КІТ

ПШЧАЛІ'НЫ КЛЕЙ *гл.* ПЧАЛІ'НЫ КЛЕЙ

ПШЧАЛІ'НЫ ХЛЕБ *гл.* ПЧАЛІ'НЫ ХЛЕБ

ПШЧАЛЯ'Р *м.* Тое ж, што і п ч а л а в о́ д. *Дзе жыве пшчаляр?* Магуны Паст. *Пшчаляроў многа ў нас.* Паляцкішкі Воран.

ПШЧО'ЛКА *ж. памянш.* Чмель. *Пшчолкі ў зямлі, у пузыры яны.* Старыя Трокі Трак.

ПШЧО'ЛЬНІК *м.* Тое ж, што і п ш ч а л і́ н ы к і т. *Спірытус піла с пшчольнікам.* Новікі Гродз.

ПШЫ'КАЎКА, ПШЫ'КАЛКА *ж.* 1. Тое ж, што і п у́ р х в а т к а. *Пшыкаўка — з яе як дым ідзе.* Івашкаўцы Смарг. 2. Гумавая спрынцоўка. *Пшыкаўкай набрала вады, круглыя гумавыя пшыкаўкі.* Гемзы Шальч.

ПШЭЖЫ'ВАЦЬ *незак.* Перажываць. *Не пшэжывай, а то будзеш хворы.* Новыя Мацалі Варэн.; *парайн.* польск. *przeżywać* 'тж'.

ПШЭНІ'ЦА *гл.* ПШАНІ'ЦА

ПШЭНІ'ЧАНКА *ж.* Пшанічная салома. *Быдло нэ хочэ пшэнічанкі есті.* Курашэва Чыж.

ПШЭНІ'ЧНІСКО *гл.* ПШАНІ'ЧНІСКА

ПШЭ'НІШЧЭ *н.* Тое ж, што і п ш а н і́ ч н і с к а. *Гусі на пшэнішчэ.* Саланое Віл.

ПШЭ'ННЫ, ПШЭ'НЫ *гл.* ПШО'ННЫ

ПШЭПЕЖЭ'НЯ *н.* Перагародка. *Давай гэта пшэпежэня рушыць.* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *przepierzenie* 'тж'.

ПШЭ'РВА *ж.* Перапынак. *Бэс пшэрвы дуя дошч.* Старыя Смільгіні Воран. *Мы ўжо наседзеліся, трэба пшэрву рабіць. Восем дней бэз пшэрвы баі шлі. Бэз ніякай пшэрвы сядзяць, гаворaць і гаворaць.* Дзяніскавічы Ганц. *Робэт бэз пшэрвы.* Дзмітравічы Кам. *Тады пшэрва была, усе вышлі на гуліцу.* Малі Астр.; *парайн.* польск. *przerwa* 'тж'.

ПШЭЦЁНК *м.* Скразняк. *Пшэцёнк тут.* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *przeciąg* 'тж'.

ПЫДБЫ'ВКА *гл.* ПО'ДБІЎКА

ПЫДВАРАДЗІ'ЦЬ *зак.* Падвярнуць. *Пыдварадзіў ногу, ходзіць неможна.* Хатынічы Ганц.

ПЫДВО'ДЗІЦЬ *незак.* Падпяваць. *Тыя поюць, а одна пыдводзіць.* Хатынічы Ганц.

ПЫДДЕ'ЎКА *ж.* Дзяўчына-падлетак. *Надя ўжэ пыддеўка, скоро будут хлопцы любіті.* Азарычы Пін.

ПЫДЛОЖЫ'ЦЬ *зак.* Падлажыць (падол). *Пыдложы спуніцу.* Хатынічы Ганц.

ПЫДНАРАДІ'ЦЦА *зак.* Прыбрацца. *Надо луччэ пыднарадіцца.* Азарычы Пін.

ПЫДПУ'ХНУЦЬ *зак.* Набрыняць. *Пыдпухла рука, жылы відаць.* Хатынічы Ганц.

ПЫДСТОРУ'НОК *м. устар.* Паліцэйскі ўчастак. *На пыдсторунок назганялі нас много.* Хатынічы Ганц.; *парайн.* польск. *posterunek* 'тж'.

ПЫДЫСЯ'Т *ліч.* Пяцьдзесят. ∇ *Пыдысят поросят под соломою спят* — кроквы. Дзмітравічы Кам..

ПЫ'ЖЫК *м. кулін.* Булачка. *Пяклі пыжыкі з макам.* Гемзы Шальч.

ПЫЖЭ' *мн.* Стрыжні птушыных пер'яў. *Пер'я як аскубуць, астаюцца пыжэ.* Міратычы Карэл.

ПЫ'ЙЛО *гл.* ПО'ЙЛА

ПЫЙСКАВА'ЦЦА *незак. пчал.* Разведваць (пра пчол). *Пыйскуіцца пчала.* Ухвала Круп.

ПЫ'КАЦЦА *незак. экспр.* Марудна рабіць. *Пыкаецца цэлымі днямі.* Кураполле Паст.

ПЫ'КАЦЬ *незак. экспр.* 1. Тое ж, што і п ы́ к а ц ц а. *Ікая з яе жнія; іна пыкаіць.* Лісна В.-Дзв. 2. Гаварыць неразборліва. *Пыкала, пыкала, а што — не разбярэш.* Лісна В.-Дзв.

ПЫ'КАЧ *м.* Заіка. *С пыкачом нэ договорышсе.* Курашэва Чыж.

ПЫКЛІ'ВА *прысл.* Марудна. *І прасці пыкліва: як воўну прасці, дзяржы абедзві рукі — і плечы забаляць, і карак забаліць.* Кураполле Паст.

ПЫКЛІ'ВЫ, ПУКЛІ'ВЫ *прым.* Марудны. *Пыклівая работа: капаесся памале, а нада шыпка рабіць. Гэта ш пыклівая работа, марудная — цэлымі днямі пісаць.* Кураполле Паст. *Пыклівая работа.* Магуны Паст. *Пыклівая работа, няскора робіць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Пуклівая работа ваша.* Янова Рас.

ПЫК-ПЫК *выкл.* у знач. *вык.* Тык-тык. *Я лісіцу была спаткаўшы, ідзець: пык-пык у зямлю, чаго-та шукаіць.* Валынцы В.-Дзв.

ПЫ'КТАРАЦЦА *незак.* Тыкаць (мордай). *Лісіца пыктаралася, чаго-та іскала, жукоў, можа?* Валынцы В.-Дзв.

ПЫЛ *м.* 1. Пыл. *Стольні пылу ляціць у хату, аш чхнеш, сідзя ў хаце.* Ёдлавічы Брасл. *Ідзеш — перат табою падымаецца пыл.* Навасёлкі Свісл. *Ідзе пыл, а я рашчыніла дзверы.* Гемзы Шальч. *Такі пыл падняўся!* Галоўні Воран. *А гарачыня, пыл!* Латыгаль Віл. *Наглыталася пылу.* Рудня Астравітая Чэрв. *Не падымай пылу!* Вецярэвічы Пух. 2. Дробныя валаконцы, якія падымаюцца ў паветра пры апрацоўцы ільну. *Пыл з валакна.* Грыкені Вільн. *Пыл ад льну сціская ў грудзях.* Азяраны Раг. ◇ *Пайсці пылам да дымам* — прапасці. *Нажывай, скваппы быў, а пашло пылам да дымам усё.* Малі Астр.

ПЫЛАНЯ' *гл.* ПЫЛЯНЯ'

ПЫЛЕНЯ'ТКІ *мн. перан.* Патрэсканая скура на нагах,

руках ад ветру, вады. *Ад расы, ветру на нагах пыленяткі.* Глівін Барыс.

ПЫЛІНА′ *ж.* Тое ж, што і п а л і н а́ 1. *Пыліна ў пальто ўся пырваныя.* Якубова Рас.

ПЫЛІНЯ′ЦЬ *незак.* Парушыць. *Пыліняя, слата ляціць.* Малі Астр.

ПЫЛІ′ЦЬ I *незак.* 1. Пыліць. *Сена, як макравае зложана, пыліць.* Мсцібава Ваўк. *Сена пыліць.* Старыя Трокі Трак. *Як валкаватае сена зложыш у торп, тады яно сільна пыліць.* Руднікі Шальч. 2. *бат.* Цвісці. *Пыліць лён.* Дзяніскавічы Ганц. *Браніцы* [у каноплях] *пыляць.* Вецярэвічы Пух. ∇ *Кусты пыляць ялаўцу — грэчку сеюць і купацця можна.* Пацаўшчына Дзятл.

ПЫЛІ′ЦЬ II *незак.* 1. Марасіць. *Але ж дошч пыліць, забірай адзеня, бо намочыцца.* Кіралі Шчуч. 2. Тое ж, што і п ы л і н я́ ц ь. *Снех пыліць — нямношка толькі прыкрыў зямлю.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПЫ′ЛКІ *прым.* Запальчывы. *Яна такая пылкая, а вот выйдзіць на двор, вецер вііннец — і яна хараша.* Саланое Віл.

ПЫЛО′К *м.* 1. *бат.* Пылок. *На соснах пылок ёсць.* Рагулішкі Даўг. 2. *пчал.* Ношка. *Пылок жоўты нясе пчала.* Пацаўшчына Дзятл. *А то нясець пчала пылок, ваду берыць.* Груздава Паст. *Пшчала пылок збірае лапкамі.* Солы Смарг.

ПЫ′ЛЬНУЦЬ *зак. экспр.* Ударыць. *Калі пыльнула дзягай, аш рубец быў.* Кураполле Паст.; *парайн.* літ. *pìlti* 'тж'.

ПЫЛЯНЯ′, ПЫЛАНЯ′ *н.* Кураня. *Пыляня есць крупы.* Багушэвічы Бярэз. *Пылянята пішчаць, есці хочуць.* Рудня Чэрв. *Воран пыланя ўхопіць.* Азяраны Раг.

ПЫЛЯНЯ′ТКА *н. памянш.-ласк.* да п ы л я н я́. *Пяцёра пылянятак кот з'еў.* Вецярэвічы Пух.

ПЫ′ПЕЦ *м.* Нарасць на языку ў курыцы. *Пыпец у курыцы.* Воўкуш Ліпск.

ПЫ′ПНІЦІ *незак. экспр.* Няўмела працці. *Пыпніт — то значы прадэ нэдобрэ, нэ ўмеючы.* Смаляніца Пруж.

ПЫ′ПСКАЦЬ *незак.* Курыць. *Я пыпскаю — і дым выходзіць.* Малькуны Ігн.

ПЫ′РАВІЦА *ж. бат.* Пырнік. *Загорвай, як трэба, дык пыравіца не завядзецца.* Дакудава Лід. *Пыравіца — трава харошая, але зводзіць усе расліны, бураком кепско, трэба яе зводзіць.* Міратычы Карэл.

ПЫ′РАЙ, ПУРЭ′Й, ПЫРЭ′Й *м.* Тое ж, што і п ы́ р а в і ц а. *У пыраю не расце нічога.* Вялікія Баяры Шчуч. *Вырвеш пырай, а ён ізноў вырасце.* Вострава Маст. *Астанецца крошку пурэя ў зямлі — і зноў ён цягнецца.* Пасека Ст.-Дар. *Пырэй расце ўсюды.* Старое Сяло Зэльв. *Пырэй сохня, ён яго трэ.* Малі Астр.

ПЫ'РАЎКА *ж.* Тое ж, што і п ы р а в і ц а. *Пыраўку цяжко рваць.* Альхоўцы Лях.

ПЫ'РКА *ж.* Кукіш. *Дай яму пырку.* Гемзы Шальч.

ПЫ'РКАЦЬ *незак.* Тое ж, што і п ы л і н я ц ь. *Пыркаюць сняжынкі, зямля ўся не пакрыта.* Ністанішкі Смарг.

ПЫ'РНІК *м.* Тое ж, што і п ы р а в і ц а. *Пырнік, дзе на гародзе ўвядзецца, нада с карэннем выдзіраць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Пырнік каровы і коні ядуць харашо.* Солы Смарг. *Пырнік — белыя корні, лячны, не знаю, ад чаго, трэба рваць раняй вясной.* Альхоўцы Лях. *Як ваявалі, збіралі пырнік і рэзалі на хлеп, карэньчыкі сушылі, пяклі ляпёшкі, і я так пяцера дзяцей карміла.* Ністанішкі Смарг. *Пырнікам усё зарасло.* Беразіно Докш. *Пырнік усюды, вырві яго паспрабуй.* Рыбчына Віл. *Пырніку да халеры, доўгія корні, не вырвеш, папарна трава — пырнік.* Кіралі Шчуч. *На градах у канцы каля поплава столькі пырніку!* Альба Нясв. *Пырнікам зарастае ўсё.* Відаўцішкі Вільн. *Пырніку карэння ні выцягнеш.* Багушэвічы Бярэз. *Пырнік на полі расце, корнякі белыя.* *Рудня* Астравітая Чэрв. *Пырнік ест.* Гемзы Шальч. *Расце пырнік.* Рагулішкі Даўг.

ПЫР-ПЫР *выкл.* Пырх. *Пыр-пыр — і запыркала над маёй галавой. Гэта птушка ўзляцела.* Гемзы Шальч.

ПЫ'РСКАЦЦА *незак. перан. экспр.* Задавацца. *Няма чаго пырскацца, без мяне куды яны!* Жодзішкі Смарг.

ПЫ'РСКАЦЬ *незак.* Тое ж, што і п ы л і ц ь II, 1. *Дошч пачаў пырскаць.* Ёдлавічы Брасл.

ПЫРСКЛІ'ВЫ *прым.* Гультаяваты. *Мая нявестка пырсклівая, ён усё робя, а яна толькі кура.* Солы Смарг.

ПЫ'РСНУЦЬ *зак.* Кінуцца. *Гадзіна скруціцца — і дугой да адрынкі пырсня.* Кудзялянцы Шальч.

ПЫ'РХАЦЬ I *незак.* Тое ж, што і п ы л і ц ь II, 1. *Пырхае дошч.* Граўжышкі Ашм.

ПЫ'РХАЦЬ II *незак.* Фыркаць. *Руіна ваўкоў бегла, конь пырхая — ледва ўляцеў.* Кудзялянцы Шальч. *Конь пырхая, смаркачы гоня, як хварэя на золзы.* Руднікі Шальч.

ПЫ'РШЧЫЦЬ *незак.* Тое ж, што і п ы л і ц ь II, 1. *Пыршчыць дожджык — ідзе дробны дожджык, пахрасцілася насення.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПЫРЫБЫРА'ТЫ *гл.* ПЕРАБІРА'ЦЬ

ПЫРЫЗВЭ' *мн. абрад.* Наведванне маладых бацькамі нявесты праз тыдзень пасля вяселля. *Скілько вас чоловік в пырызвэ поідэ?* Дзмітравічы Кам.

ПЫРЭ'Й *гл.* ПЫ'РАЙ

ПЫРЭЛЯКА'ТЭ *зак.* Напалохаць. *Пырэлякала чоловіка.* Дзмітравічы Кам.

ПЫ'САК *м.*, ПЫ'СКІ *мн.* 1. Морда. *Няможна біць па пыску.* Магуны Паст., Малькуны Ігн. *Пысак у каровы. Еслі*

*ўдарыш па пыску, то скіня цяля.* Гемзы Шальч. *Пыскі ў каровы, храпы ў каня.* Рыбчына Віл. *У каровы пыскі.* Старое Сяло Зэльв. 2. Дзюба. *У курэй пыскі, у буцяна во пысак: дзюбаюць пыскам і камянчык, і траву, і ячмень.* Ракаўскія Швянч.; *парайн.* польск. *pysk* 'морда, лыч, пашча'.

ПЫ'СІКІ *мн.* Асцюкі. *У ячменя ёсць пысікі — асцюкі.* Глівін Барыс.; *парайн.* літ. *paisaĩ* 'тж'.

ПЫ'СЫ *мн.* Тое ж, што і пы́сак 1. *Дай па пысах. Пысы ў каровы.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПЫ'ТАЛЬ, ПЫ'ТЭЛЬ *м.* Вальцавы млын. *Пыталь стаяў ля вальні, алей ціснулі ў пытлі.* Рудня Чэрв. *Змолоті на пытэль. На пытэль богатырые по пара мэтруов пшэніці мололі.* Курашэва Чыж. ◊ *Пытлю даць* — пакараць. *Далі пытлю гэтай бабе. Яна дала пытлю.* Малі Астр.; *парайн.* польск. *pytel* 'густое сіта'.

ПЫТА'ЦЦА, ПЫТА'ЦЦЯ, ПЫТА'ЦІСА *незак.* Пытацца. *Я ў цібе пытаюся. Будзіш пытацца, ці нагу заціскалі жгутам.* Валынцы В.-Дзв. *У бабах не пыталася.* Малькуны Ігн. *Не хацела пытацца, стыдалася.* Гальшаны Ашм. *Жорнаў пытаяцца.* Лоск Валож. *Хадзіла пытацца, ці прышлі грошы.* Лісна В.-Дзв. *Нейкая пыталася, ці прадаюць кабана.* Груздава Паст. *Сёння прыходзіў пытацця, ці пойдуць палоць бураке.* Пацаўшчына Дзятл. *Пытаўса ў пісьме, чы порэзала дрова.* Смаляніца Пруж. ◊ *Пытацца дарогі ў сляпога* — дарма пытацца. Малькуны Ігн.

ПЫТА'ЦЬ *незак.* 1. Тое ж, што і пыта́цца. *Не буду пытаць, што там было.* Груздава Паст. *А як у бальніцы ляжыць матка, пра гэта не пытаюць.* Саланое Віл. *У двух бабоў пытала.* Крынкі Крын. *Яна пытацьме, ці паедзеце вы ў горат.* Старое Сяло Зэльв. *Прышоў пытаць, ці пойдзеце да яго.* Міратычы Карэл. *Пытаюць, сколькі хлеба купіць. Дзеці ў мяне пыталі, а я ім патказала.* Вецярэвічы Пух. *Пра каровы пыталі?* Плябанцы Ашм. 2. Прасіць. *Трэба есці пытаць.* Старое Сяло Зэльв.; *парайн.* польск. *pytać* 'тж'.

ПЫ'ТКА *ж. перан.* Біч (сплецены з раменьчыкаў). *Пытка — пляцёная дубінка паганяць коней.* Ністанішкі Смарг.

ПЫТЛЁВА'ТІ *гл.* ПЫТЛЯВА'ЦЬ

ПЫТЛЁЎКА *ж.* Пытляваная мука. *І пытлёўка ў мяне есь.* Міцкавічы Смарг.

ПЫТЛЯВА'НЫ *прым.* Дробна змолаты і прасеяны. *Пытляваны хлеп ела.* Кухты Віл.

ПЫТЛЯВА'ЦЬ, ПЫТЛЁВА'ТІ *незак.* Дробна малоць і прасейваць. *Пшаніцу пытлявалі і пірагі пяклі, зацірку варылі. Гэта мука — першы сорт.* Кіралі Шчуч. *Пытлявалі муку пшанічную.* Гемзы Шальч. *Зав'уос пара мэтруов пшэніці пытлёваті; пожычыв тут пытлёвойі мукі.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *pytlować* 'тж'.

ПЫ′ТЭЛЬ *гл.* ПЫ′ТАЛЬ

ПЫ′ХАТІ *незак.* Апырскваць. *Ходів на поле пыхаті, бо стонкі мнуого.* Курашэва Чыж.

ПЫХІ′Р *гл.* ПУХІ′Р

ПЫ′ХНУТІ *зак.* Ударыць. *Пыхнув в голов.* Курашэва Чыж.

ПЫХЦЕ′ЦЬ *незак.* Курыць. *Што ты пыхціш, во распыхцеўся, дыму поўна.* Мсцібава Ваўк.

ПЫ′ЧКА *ж.* Пыса. *Бабры адно пычкі высоўваюць з вады.* Масілавічы Сл.

ПЫЧЭ′НЯ *ж.* Пячонка. *Закололі свыню, то пычэню зажарыла.* Дзмітравічы Кам.

ПЫЧЯ′ЙКА *гл.* ПІЧА′ЙКА

ПЫ′ШКА *ж.* 1. Пухлая круглая булачка. *З заквашанага цеста пяклі пышкі на скавaрадзе.* Лісна В.-Дзв. *Пышкі белыя елі.* Малыя Аўцюкі Калінк. 2. Печыва з мукі і бульбы. *Як пост, пышкі пяклі: напарым картофлі, дабавім мукі і пячымо.* Дакудава Лід. 3. *перан.* Перамёрзлая бульба. *Збіралі на полі пышкі, абскрэбалі і пяклі бліны.* Вецярэвічы Пух.

ПЫ′ШКАЛІЦЦА *незак. экспр.* Няўмела есці (пра маладых істот). *Бычок маладзенькі, пышкаліцца, ня ўмея есць.* Мсцібава Ваўк.

ПЫ′ШКАЦЬ *незак.* 1. Тое ж, што і п у к ч а́ ц ь 1. *Цеста пышкаіць, як патходзіць.* Кураполле Паст. 2. *перан.* Шумець. *Нешта пышкая ў вушах.* Кудзялянцы Шальч.; *параўн.* літ. *pyškėti* 'тж'.

ПЫ′ШНЫ *прым.* Тое ж, што і п у́ л ь х н ы 1. *Пышны хлеб пяклі, кусочак з'ясі — і сыты.* Кудзялянцы Шальч.; *параўн.* руск. *пышный* 'тж'.

ПЭ′ЙКА *гл.* ПА′ЙКА

ПЭ′ЙСАЦЬ *гл.* ПО′ЙСАЦЬ

ПЭ′ЙСЫ *мн. экспр.* Пэйсы. *Зачашы свае пэйсы.* Рагулішкі Даўг.; *параўн.* польск. *pejsy* 'тж'.

ПЭ′ЛІЦЬ *незак.* Паліць. *Немец пэліць хаты, уся вёска гарыць.* Галубы Маст.

ПЭ′ЛНЯ *ж.* Поўня. *Добра пара да пэлні.* Граўжышкі Ашм. *Да пэлні ідзе. Пат пэлню гарот трэба садзіць.* Жылі Іўеў. *Маладзічок дарасце да пэлні. Ужо пэлня.* Гемзы Шальч.; *параўн.* польск. *pełnia* 'тж'.

ПЭЛЬТ *гл.* ПОЛЬЦЬ

ПЭНД *м. бат.* Парастак. *Адраслі новыя пэнды парэчак.* Мсцібава Ваўк.; *параўн.* польск. *pęd* 'тж'.

ПЭ′НДЗАЛЬ, ПЭ′НДАЛЬ, ПЭ′НДЭЛЬ *м.* Пэндзаль. *Пэндзаль бяруць сцены бяліць.* Пацаўшчына Дзятл. *Пэндзаль зрабіць трэбо, скарэй пабялю.* Малахоўцы Бар. *Бялілі хату пэндзалям.* Кіралі Шчуч. *Трэба палку да пэндзаля ўставіць; стаіць на зямлі, за палку дзяржыцца і пэндзалям у*

*вапну мачая і беля сталявання.* Гемзы Шальч. *Пэндзаль новы ўзяў.* Навасёлкі Свісл. *Беляць сцены пэндлям. Для пабелкі хаты служыць пэндаль.* Вострава Маст. *Пэндлём белят сцены.* Лука Нараўк.; *парайн.* польск. *pędzel* 'тж'.

ПЭ'НДЗІЦЦА I *незак.* Неахвотна есці або зусім не есці. *Скаціна пэндзіцца, чалавек пэндзіцца, ня есць.* Вецярэвічы Пух.

ПЭ'НДЗІЦЦА II *незак.* Прытрымлівацца моды. *Мая дачка за модамі пэндзіцца.* Малі Астр.; *парайн.* польск. *pędzić za czymś, kimś* 'ганяцца за чым-н., кім-н.'

ПЭ'НКАЦЦА *незак.* Лопацца. *Пэнкаюцца пупіхі на дрэве.* Альхоўцы Лях. ◇ *Пэнкацца ат смеху* — знемагаць ад смеху. *Яны аш пэнкаюцца ат смеху.* Альхоўцы Лях.

ПЭ'НКАЦЬ *незак.* 1. Трэскацца. *Пэнкаюць ногі ад ветру.* Лука Нараўк. *Хлеп пэнкая.* Граўжышкі Ашм. *Глінiстая зямля пэнкая.* Малі Астр. 2. Лопацца. *Плява пэнкала ат цяшкай працы.* Крэва Смарг. *Крылачкі пэнкаюць з такога цяжару — і пчолка падаіць.* Быстрыца Астр.; *парайн.* польск. *pękać* 'тж'.

ПЭ'НКНУЦЬ, ПЭ'НКНУЦІ, ПЭ'НЬКНУТЫ, ПЭ'НЬКНУТЭ *зак.* 1. Трэснуць. *Пэнкла талерка.* Пацаўшчына Дзятл. *Пэнкнуў хлеп.* Дакудава Лід. *Як зямля трaслася, яна пэнкала.* Солы Смарг. *Пэнкла скура на костачцы. Пэнк ляк, алей загарэўся, і цэла вуліца згарэла ад пажару.* Мсцібава Ваўк. *Улілі вады гарачай — і пэнкнуў слоік.* Магуны Паст. *Шклянка пэнкне, купім другую.* Паляцкішкі Воран. *Пэнкнула пасуда.* Чычалі Швянч. *Пэнкнуло яблыка.* Номікі Бабіц. *Горчочок пэнкне на пліце.* Смаляніца Пруж. *Штэры яйцэ зварыла, однэ пэнкло.* Вялікі Краснік Пруж. *Слоік пэньнкнув.* Сіманавічы Драг. *Пэньнкнутэ можэ бутэлька.* Радастаў Драг. *Абруч пэнкнуў — бочка пацякла.* Вецярэвічы Пух. 2. Лопнуць. *Так вадэ абапіўся, аш магу пэнкнуць. Байдыр пэнкне — і будзе рука балець.* Кіралі Шчуч. *Жалудак пэнк у чалавека.* Навасёлкі Свісл. *А грып пэнк, як рыцына якая.* Старыя Трокі Трак. *Няхай крычыць, хоць пэнкне.* Вялікія Баяры Шчуч. ◇ *Пэнкнуць са смеху* — знемагчы ад смеху. *Мала са смеху не пэнкнула.* Вострава Маст.; *парайн.* польск. *pęknąć* 'тж'. 3. Парвацца. *Бывае, нітка пэнкне.* Солы Смарг. 4. *перан.* Разарвацца. *Як паглядзела — сэрца пэнкла.* Малі Астр.

ПЭ'НСІЯ, ПЕ'НСІЯ *ж.* Пенсія. *На пэнсію пойдзя.* Магуны Паст. *Ужо пашла на пэнсію.* Дакудава Лід. *Яму пэнсію даюць.* Рагулішкі Даўг. *Пэнсію прынясе пачтальён.* Старыя Трокі Трак. *Пэнсію па мне палучыць.* Снягяны, Солы Смарг. *Пэнсія старым — бальшая паддзержка.* Ністанішкі Смарг. *Кап мне пэнсію далі.* Новыя Мацалі Варэн. *Савецка ўласць дала пэнсіі старым.* Вострава Маст. *Чуць мая пэнсія не прапала.* Вецярэвічы Пух. *Пэнсію калхозную даюць.* Багушэвічы Бярэз. *Мы на пэнсіі.* Чуркі Ашм. *Я на пэнсію пашла.* Пля-

банцы Ашм. *Нада рабіць сем гадоў да пенсіі.* Юркава В.-Дзв. *Далі пенсіі сорак пяць рублёў на месяц, даюць лякарства.* Кіралі Шчуч., Альхоўка Навагр. *Слава богу, што далі старым пенсію.* Саланое Віл.; *параўн.* руск. *пенсия* 'тж'.

ПЭНЦА'К *гл.* ПАНЦА'К

ПЭ'ПЦІ *мн.* Вераўчаны самаробны абутак. *Пэпці рабілі з ніткаў дзецям зімой.* Старыя Трокі Трак.

ПЭРКА'ЛЬ *гл.* ПАРКА'ЛЬ

ПЭ'РЛА *ж.* Панцак. *Пэрла — парловыя крупы.* Мярэцкія Глыб.

ПЭРО'Д *прысл.* Раней. *Тэпэр кажут каблук, а пэрод казалі кэрок.* Азарычы Пін.

ПЭ'РТЫКІ *мн.* Калкі, на якія вешалі калыску ў полі. *Лук палатном абцягнуць, на пэртыкі вешаюць — і палучаецца калыска на полі.* Старыя Трокі Трак.

ПЭ'РФА *ж.* Тое ж, што і пчаліны хлеб 1. *Пэрфа кіславата-слаткаватая, пчолы кормяць маладое пакаленя.* Навасёлкі Свісл.

ПЭ'РХЕЛЬ *м. пчал.* Падзь. *Пэрхель на лісцях, он не очань абыкнавенны, многа вадзічкі мае.* Быстрыца Астр.

ПЭ'РЦІ *незак. экспр.* Дзьмуць. *С сошэ* [шашы] *прэ вецер, холодно.* Смаляніца Пруж.

ПЭРШ *гл.* ПЕРШ

ПЭРЭВ'Я'СЛО *гл.* ПЕРАВЕ'СЛА

ПЭРЭГО'РВАТЫ *незак.* Пераворваць. *Пэрэгорвают папар.* Горск Бяроз.

ПЭРЭГОРОДЫ'ТЫ *зак.* Перагарадзіць. *Пэрэгородылі хату.* Горск Бяроз.

ПЭРЭДПЭ'ЧОК *м.* Качарэжнік. *Пэрэдпэчок коло двэрэй.* Смаляніца Пруж.

ПЭ'РЭЖ *прысл.* Тое ж, што і пэрóд. *Я пэрэж побачыла.* Азарычы Пін.

ПЭРЭКАЗА'ЦІ *зак.* Расказаць. *Ну, ужэ ўсэ вам пэрэказала.* Смаляніца Пруж.

ПЭРЭКУСІ'ЦЬ, ПЭРЭКУСЭ'ТЭ *зак.* Перакусіць. *Пэрэкусіце шчоўліку.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Трошкі пэрэкусэв.* Дзмітравічы Кам.

ПЭРЭПЫ'ЛКА *ж. абрад.* Жменька нязжатых каласоў. *Як дожынают, колосов дэсять оставят, убырают, водою полівают і спэвают: «Вылетай, пэрэпылко, бо ў нас тылько дожалі жыто».* Дзмітравічы Кам.

ПЭРЭПЫТА'ЦІ *зак.* Дапытаць. *Ветэ мэнэ пэрэпыталі ўсэ.* Смаляніца Пруж.

ПЭРЭРЭ'ЗВАНЦЫ *мн.* Бульба, разрэзаная папалам, пасоленая і звараная ў мундзірах. Азарычы Пін.

ПЭРЭЧЫНО'К *м.* Пласт сена. *Валкі пэрэчыняют, і пэрэ-*

*чынкі по п'ять стягают вэроўкою, як у болоте, то нэсут на груд.* Горск Бяроз.

ПЭРЭЧЫНЯ'ТЫ *незак.* Пластаваць. *Валкі пэрэчыняют в пэрэчынкі.* Горск Бяроз.

ПЭСКОВА'ТЫ *прым.* Пясчаны. *На пэсковатом полі жоўты лубін сеют.* Смаляніца Пруж.

ПЭ'СНЯ *гл.* ПЕ'СНЯ

ПЭТА' *гл.* ПЯ'ТА'

ПЭ'ТЛІ *мн.* Жалезныя кольцы. *Збоку да аглабель прыбіваліся пэтлі под перот, а крукі — да палазоў, крукі ўкладаліся ў пэтлі і кіравалісь.* Чычалі Швянч. *Пэтлі зроблены ў калёсаў.* Малькуны Ігн.

ПЭ'ТЛІЧАК *м. памянш.* Прарэшак. *Трэба пэтлічка зрабіць.* Ёдлавічы Брасл.

ПЭ'ТЛЯЧКА *ж. памянш.* Пятля, за якую вешаюць адзежу. *Пэтлячка — вешаць кажух.* Быстрыца Астр.

ПЭ'ТРАХІ *мн. перан.* Шматкі. *Як дзынуў ён, то паляцелі пэтрахі з яе адзежыны.* Новіны Нясв.

ПЭ'ТЭ *незак.* Піць. *Зачяв пэтэ і всё пропэв.* Дзмітравічы Кам.

ПЭТЭ'ЛЬНЯ *гл.* ПАТЭ'ЛЬНЯ

ПЭ'ЎНА, ПЭ'ЎНО, ПЭ'ЎНЯ 1. *прысл.* Несумненна. *Каб пэўна знаць, што паедзем, то я б збіралася.* Малахоўцы Бар. *Пэўна што прыдзя.* Гемзы Шальч. *Пэўна ш напіўшыса быў і патпаліў хату і сам уляцеў у хату.* Граўжышкі Ашм. *«Парасяты дорагі былі?» — «Пэўня дорагі».* Саланое Віл.; *параўн.* польск. *pewno, pewna* 'тж'. 2. *пабоч.* Напэўна. *Пэўна, слухаць стала мяне маркотна?* Оцкавічы Паст. *Пэўно, не прыдзе дахаты.* Дзяніскавічы Ганц. *Пэўня, не дадуць.* Груздава Паст. *Пэўня, быў выпіўшы, без воткі дракі не бываіць. Ены каровы, пэўня, пасуць.* Гемзы Шальч. *Пэўня, тэмпература ў цябе.* Солы Смарг.; *параўн.* польск. *pewnie, pewno* 'тж'.

ПЭ'ЎНЫ *прым.* Упэўнены. *Я быў пэўны, што ты не дажнеш.* Паляцкішкі Воран.

ПЭ'ЎХНУЦЬ *зак.* Лопнуць. *Порхаўка пэўхне, як на яе наступіш.* Галубы Маст.

ПЭ'ЦКАЛЬ *м. экспр.* Хто неахайны. *Пэцкаль ты!* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* польск. *peckiel* 'тж'.

ПЭЧЫ' *гл.* ПЯЧЫ'

ПЭШКО'М *гл.* ПЯШКО'М

ПЯДА' *ж.* Ступня. *Пядою наступіла на шышку.* Чычалі Швянч.; *параўн.* літ. *pėdà* 'тж'.

ПЯ'ДЗЯ *ж.* Пядзя. *Сало на пядзю.* Малахоўцы Бар. *І сланіна на пядзю бывая.* Кудзялянцы Шальч. *Тры пядзі — аршын. Сланіна грубая — на пядзю.* Гемзы Шальч. *На пядзю атступі.* Сакаляны Сакол.

ПЯІ'ЧКА *ж.* Настаўніца спеваў. *Пяічка ў іх захварэла.* Малахоўцы Бар.

ПЯ'КАР *м.* Пекар. *Пякар той, хто пячэ хлеб.* Любішчыцы Івац.

ПЯКЕ'ЛЬНІК *м. экспр.* Хто выконвае цяжкую работу. *Сын, як пякельнік, работаіць, цяшка робіць.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПЯКЕ'ЛЬНІЦА *ж. экспр.* Жанчына, якая выконвае цяжкую работу. *Гэная баба робіць, што пякельніца.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПЯКЕ'ЛЬНЫ АГО'НЬ. У выразе: *Пякельным агнём* — страшэнным агнём. *Як жа ж загарыцца пякельным агнём!* Вялікія Нястанавічы Лаг.

ПЯКЛАВА'ЦЬ *незак. экспр.* Гараваць. *Так яна пяклуіць.* Саланое Віл.

ПЯКНЕ'ЙШЫ *прым. выш.* Прыгажэйшы. *Пякнейшую бабу з усіх азяў.* Саланое Віл.; *параўн.* польск. *piękny* 'прыгожы'.

ПЯ'КНУЦЬ *зак. экспр.* Упасці. *Пякнула яна з печы. Пякня далоў гадзюка.* Азяраны Раг.

ПЯКО'ЛАК *м.* 1. Прымурак. *Матка сядзіць на пяколку.* Груздава Паст. *Пяколак каля печы.* Малькуны Ігн. *Каля печы пяколак быў, лесь на печ.* Рагулішкі Даўг. *Пяколак — выступ у печы, даволі шырокі, дзе ставілі ногі, як сядзелі на печы.* Снягяны Смарг. *Зробіць муляр печ, а збоку на адну цэглу ніжэй — пяколак.* Солы Смарг. *Пяколак каля печы.* Малі Астр. 2. Ніша збоку прыпечка, куды зграбаюць вуголле. *Пяколак— выемка, куды зграбаюць жар з печы.* Гайна Лаг. 3. Прыпечак. *Пастаў на пяколак гаршчок.* Старыя Трокі Трак.

ПЯКО'ТА I *ж.* Спёка. *У пякоту добра і пакупацца.* Беразіно Докш. *Вот сягання пякота.* Рыбчына Віл. *Пякота бальшая на дварэ.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Пякота — жарышча, натта жара.* Гемзы Шальч. *Пякота такая, ня вутрываць.* Кузьмічы Люб.

ПЯКО'ТА II *ж.* Пякотка. *Пякота пячэ, соду ат яе п'юць.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПЯКО'ТКА *ж.* Тое ж, што і п я к о́ т а II. *Пякотка пячэць,* Ахрэмаўцы Брасл. *Пякотка пячэ, нудзя.* Рыбчына Віл. *Пякотка пячэць, цяпер скажуць жога.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Пякотка ўсё нутро выела.* Беразіно Докш. *Пякотка пячэць.* Магуны Паст. *Пякотка, зґаґа — гэта адно і тоя ж.* Лайпушкі Ігн. *Пякотка пячэць, адрыгаецца.* Малькуны Ігн. *Пякотка пячэ.* Альба Нясв. ∇*Міне стала пячы: нада сесці і глядзецца ў зеркала і мовіць: «Ехала пякотка на сівай кабыле, кабыла ўпала, і пякотка прапала».* Ёдлавічы Брасл.

ПЯКО'ТНЫ *прым.* Спякотны. *Пякотны дзень, жарышча.* Гемзы Шальч.

ПЯКУ'ШЧЫ *прым.* 1. Пякучы. *Курача слёпята натта пякушчая, хай троху ў руках пабудзе, і рукі ґоркія.* Пацаўшчына

Дзятл. 2. Вельмі моцны (пра мароз). *Пякушчыя марозы былі.* Сакаляны Сакол.

ПЯКЦІ′ *незак.* 1. Пячы. *Лапату бралі, хлеб на яе клалі — і ў печ. Так пяклі хлеп.* Быстрыца Астр. *Пякуць кішку: труць кашу, круп кладуць.* Вострава Маст. 2. Скварыць. *Сало пяклі.* Старое Сяло Зэльв. 3. Кусаць. *Клапы пякуць. Пчолы куслівыя, як жара, натта пякуць.* Рыбчына Віл.

ПЯ′ЛА *н.* Аснова рыбалоўнай снасці. *Зробяць пяла з прутоў і нацягня палатно, сетку з нітак.* Вецярэвічы Пух.

ПЯЛЕГАВА′ЦЬ *незак.* Песціць. *Ня будзя пялегаваць дачку. Пялегуя, кап яна паела, блінчыкі выпеквае.* Вецярэвічы Пух.; *парайн.* польск. *pielęgnować* ′даглядаць′.

ПЯЛЕ′КА *ж.* Пясчаная, неўрадлівая зямля. *Як пялека вільготна, то расце, еслі сухая, то слаба расце.* Пацаўшчына Дзятл.; *парайн.* літ. *pelė́kas* ′шэры′.

ПЯЛЕКАВА′ТЫ, ПЕЛЯКАВА′ТЫ *прым.* Пясчаны. *Пялекавата зямля — пясчана, расце на ёй што-небудзь, як вільготна яна.* Пацаўшчына Дзятл. *Пелякаватая зямля.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПЯЛЕ′СКАЦЦА *гл.* ПЯЛЁСКАЦЦА

ПЯЛЕ′ЧЫНА *ж.* Тое ж, што і пялёка. *Есць пялечына, што вецер круця, што аж лес не расце.* Пацаўшчына Дзятл.

ПЯЛЁНКА *ж.* Пялёнка. *У пялёнку паложаць дзіця, а тады поясам укруцяць, паясэ ткалі.* Вецярэвічы Пух.

ПЯЛЁСКАЦЦА, ПЯЛЕ′СКАЦЦА *незак.* Плюхацца. *Пялёскаяцца ў вадзе.* Старыя Трокі Трак. *Гусі пялешчуцца.* Чуркі Ашм.

ПЯЛЁТА *ж.* Тое ж, што і пялёка. *Пялёта — дзе пясок і трава не расла, толькі шчэтнічак сіненькі расце кусцікамі маленькімі. Пялёта — пясок мякенькі. Пялёта — гэто пясок.* Малахоўцы Бар.

ПЯЛЁТКА *ж.* Берэт. *Пялётка — белая шапачка. У пялётку ўбралася і пашла.* Кураполле Паст.

ПЯЛІНА′ *ж.* Палова. *Пяліна, як змалацілі, асталася.* Мельнікі Лудз.; *парайн.* літ. *pelaĩ* ′тж′.

ПЯЛУ′Н, ПЯЛЫ′Н, ПЯЛЮ′Н *м. бат.* Палын. *Пялун ад жывата п′юць, ён горкі.* Жылі Іўеў. *Пялун горкі, яго ўсюды многа.* Быстрыца Астр. *Пялуну насушыла.* Старыя Трокі Трак. *Пялуну поўна, расце, дзе папала.* Магуны Паст. *Пялун гарчэйшы за грэн* [хрэн]. Сакаляны Сакол. *Нада піць пялун, а то бруха баліць.* Малі Астр. *Пялын вып′еш і хутка есці захочаш.* Старыя Смільгіні Воран. *Пялюн горкі, ён на полі расце і ў гарадах, лякарства з яго робяць.* Малькуны Ігн. *Пялюн горкі, п′юць яго ад жывата.* Кудзялянцы Шальч.; *парайн.* польск. *piołun* ′тж′.

ПЯ′ЛЫ *мн.* Косці тазасцегнавога сустава. *Такая ўжэ ху-*

*дзенная, адны рэбры і пялы тырчаць.* Вялікія Аўцюкі Калінк.; *парайн.* літ. *pjaũlai* 'тж'.

ПЯ'ЛЬКА *ж.* Тарфянік. *Ідзі далей, дзе пялька.* Чычалі Швянч.; *парайн.* літ. *pélkė* 'тж'.

ПЯЛЮ'СТКА *ж.* Качан (капусты). *Пялюстку капусты скрышыў.* Тухавічы Лях.

ПЯЛЮ'ШКА I *ж.* Тое ж, што і пялёнка. *Пялюшка — дзіця спавіваць. Былі пояс і пялюшка.* Вострава Маст. *На пялюшкі ішло тонкаё, дралі староё.* Малахоўцы Бар. *Памый пялюшкі!* Масілавічы Сл. *Пялюшкі сохнуць, дзіця мокро.* Номікі Бабіц.; *парайн.* польск. *pielucha, pieluszka* 'тж'.

ПЯЛЮ'ШКА II *ж.* 1. Сорт гароху. *Пялюшка — гарох, сеілі для коней.* Дакудава Лід. *Пялюшку сеялі, такі чорны гарох, малолі для свіней.* Кіралі Шчуч. *Пялюшку сеялі для коні, яна ўраджайная, свіням добра. Пялюшка — гарох такі чорны, малолі свіням.* Гемзы Шальч. 2. Зялёная маса — сумесь гароху, аўса, вікі і інш. *Пялюшка — назялёна скошаны корм: можа быць гарох, смесь — віка, ячмень, авёс.* Магуны Паст. *Пялюшку сеюць і каровам даюць.* Каўняны Гродз. *Пялюшку касілі летам зялёную, давалі коням — гэта гарох такі, трохі аўса.* Альба Нясв. *Пялюшка — гарох с аўсом, смесь такая, сеялі яе.* Старыя Трокі Трак.

ПЯЛЯНА' *гл.* ПЕЛЕНА'

ПЯЛЯНА'ЦЬ *незак.* Спавіваць. *Полкі — што дзяцей пялянаць.* Стракішкі Трак.

П'ЯН *м.*, П'ЯНА' *ж.* Ап'яненне. *Яму п'ян прашоў.* Крэва Смарг. *Мой чалавек у п'яне благі.* Лісна В.-Дзв.

ПЯНЕ'ЎЯ *зб. н.* Пянеўе (у птушак). *Пянеўя ў птушак, у курэй, як ліняюць.* Рыбчына Віл.

П'Я'НІЦА I *м.* і *ж.* П'яніца. *П'яніца то ён п'яніца, а дынатура ён не п'ець.* Ахрэмаўцы Брасл. *Баба як баба, ды п'яніца.* Паляцкішкі Воран. *І раней было п'яніц.* Івашкаўцы Смарг. *Усюды ест п'яніцаў.* Руднікі Шальч. *П'яніц і калісь на службе не дзяржалі, пражэнуць вон.* Мсцібава Ваўк. *Прагоркі п'яніца быў.* Малі Астр.

П'Я'НІЦА II *ж. бат.* Галаўня. *П'яніца ў ячмені, у пшаніцы, у два радочкі п'яніца.* Рыбчына Віл.

П'ЯНІ'ЦЫ *мн. бат.* Буякі. *П'яніцы — ягады, як воткі нап'ecся, пакуль збярэш.* Гальшаны Ашм. *Адны п'яніцы раслі ў тым лесе.* Мішневічы Шум. *П'яніцы растуць, ягаднік бальшы.* Новікі Гродз. *П'яніцы па балотах растуць.* Солы Смарг. *П'яніцы збіраяш, ад багуна ўчадзяш.* Быстрыца Астр. *П'яніцы сіненькія, бальшыя, ат іх п'яны будзіш.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Нясла два вядры п'яніцаў.* Магуны Паст. *П'яніцы большыя за чарніцы.* Лайпушкі Ігн. *П'яніцы растуць, багун расцець.* Малькуны Ігн. *П'яніцы — ягады чорныя такія, чарніцы тэж чорныя.* Грыкені Вільн. *П'яніцы збіралі.* Галоўні Воран. *П'яні-*

*цы растуць у багнах, балотах.* Кудзялянцы Шальч. *П'яніцы ядуць, але ад багуна ап'янееш.* Малі Астр.

П'Я'НКА *ж.* 1. Гулянка, дзе п'юць спіртныя напіткі. *Цэлая згуба ета п'янка.* Вецярэвічы Пух. *Пашоў туды, а там п'янка, тады ажыдай яго.* Рагулішкі Даўг. *Учора на п'янцы былі.* Малі Астр. 2. Тое ж, што і п'ян. *Яму п'янка прайшла.* Гемзы Шальч.

П'Я'НЫ' 1 *прым.* П'яны. *Я цвярозы весялейшы, чым п'яны́.* Латыгаль Віл. *П'яны́ быў і пашоў спаць.* Стракішкі Трак. *Вечна п'яны́, нічога не бачыць перад сабой.* Вязынка Маладз. *Прышоў такі п'яны́.* Магуны Паст. *А ён не п'яны́.* Граўжышкі Ашм. *Хай ён п'яны́, але буць чалавекам, ня лесь біцца. П'яны́ я ні быў. Сцвярджаюць, што тыя людзі п'яны́я былі і самы пад аўтобус лезлі.* Крэва Смарг. ▽ *Гэта не п'я́ны, калі двух вядуць, а трэці ногі перастаўляя. Як п'я́н, то і капітан, а як праспіцца, то і свіні баіцца.* Малі Астр. *Што з п'я́ным, што з дурным.* Кураполле Паст. 2. у знач. *назоўніка.* Хто моцна выпіўшы. *Але трэба знаць, як піраняць п'я́нага, як і цвярозага.* Саланое Віл. *П'яно́га біць няма толку.* Солы Смарг. *П'яно́му ніпачом.* Лісна В.-Дзв. *Ідзе п'яны́.* Граўжышкі Ашм. *П'яны́ п'яно́га б'е.* Бакшты Іўеў. *Да п'яно́га падышоў кум.* Гемзы Шальч. *Яна ляжала, не была п'я́ная.* Малі Астр. *Цяпер як п'я́ны, то благі.* Гальшаны Ашм. ▽ *П'я́нага чорт носіць. П'я́нага чорт не бярэць.* Кураполле Паст.

ПЯНЬКА' *ж.* Канаплянае валакно. *У мяне пянькі німа на пугі, яму трэба пук пянькі. Мачылі калапні, а як вымакня — пянька.* Саланое Віл. *Аборы з пянькі да лапцей.* Рыбчына Віл. *Каноплі як абаб'еш, называлі пянька, мачылі пяньку.* Азяраны Раг.

ПЯНЬКО'ВЫ *прым.* Зроблены з пянькі. *Лейцы пяньковыя або раменныя.* Рыбчына Віл. *З пяці канацікаў плялі плець пяньковую.* Азяраны Раг.

П'ЯНЮ'ГА *м.* і *ж. павел.* да п'я́ніца I. *Здаровы п'янюга!* Ахрэмаўцы Брасл. *П'янюга ты!* Вялікія Баяры Шчуч., Дзмітравічы Кам.

П'ЯНЮГА' *ж.* Тое ж, што і п'я́ніца II. *У пшаніцы ёсь п'янюга і ва 'ўсе ёсь п'янюга, п'янюга бярэ за мазге, зярнётка маленечке, на ём вусік, як валасок цёмны, як варфуюць, дык адлетуя.* Бакшты Іўеў.

П'ЯНЮ'ЖКА *м.* і *ж. зневаж.* Тое ж, што і п'я́ніца I. *Ён, п'янюшка, распійся, то цяпер сторажам, хоць граматны.* Дзераўное Стаўб.

П'ЯНЮ'ЖЫНА *м.* і *ж.* Тое ж, што і п'янюга. *Ах ты, п'янюжына!* Вялікія Баяры Шчуч.

П'ЯНЮ'СЕНЬКІ *прым. памянш.* да п'я́ны 1. *П'янюсенькі ляжыць, не ўстае.* Малі Астр.

ПЯРАБО'Й *м. бат.* Зверабой. *Пярабой у вотку кладуць і п'юць ад парушэння.* Саланое Віл.

ПЯРАВІ'ЦЁ *зб. н.* Віткі, якімі прымацоўваюць жэрдкі. *На пяравіцё кладуць жэрткі, і пяравіцём перавіваюць гэтыя жэрткі плоту.* Малахоўцы Бар.

ПЯРАГРЭ'ЦЦА *зак.* Перагрэцца. *Конь пярагрэўся.* Быстрыца Астр.

ПЯРАДЗЕ'НЬ *м.* Вяроўка для ўціскання воза. *Пярадзень наперадзі воза.* Быстрыца Астр.

ПЯРАДНЯ', ПЯРЭ'ДНЯ *ж.* Падоўжаны разрэз у кашулі. *Пярадня ў кашулі.* Рыбчына Віл. *У кашулі пярэдня.* Саланое Віл.

ПЯРАДО'К *гл.* ПЕРАДО'К

ПЯРАДРА'ЧЫЦЬ *зак.* Зрабіць паз у бервяне. *Калі бервяно адно і другоя пярадрачыш, потым раўнуяш, тады мох.* Быстрыца Астр.

ПЯРАЗЫ'ЎКІ *мн.* Тое ж, што і пырызвэ. *Матка і бацька едуць у пяразыўкі, карову вядуць.* Ракаўскія Швянч.

ПЯРАІ' *мн.* Валакно, сплеценае ў выглядзе касы. *Кудзелю як пачэшаш, вяжам у пяраі, як касу пляцём.* Быстрыца Астр.

ПЯРАЙСЦІ' *зак.* Скончыцца (пра дождж). *Дошч ні пярэйдзя.* Быстрыца Астр.

ПЯ'РА'НЫ *дзеепрым.* Памыты. *Пастаў, ніхай стаіць, пака ні пярана* [бялізна]. Малі Астр.

ПЯРАПЛЯТА'ЦЬ *незак.* Пераплятаць. *Парканіны былі ядловыя, і пяраплятали плот з парканіны.* Старыя Трокі Трак.

ПЯРВЕ'Й, ПЕ'РВЕ *прысл.* Раней. *Пярвей яны тут жылі. Пярвей накш гаварылі. Пярвей сушылі грыбы, а цяпер марынуюць. Сын пярвей паехаўшы, а дачка потым.* Лісна В.-Дзв. *Пярвей не агледзеўся.* Граўжышкі Ашм. *Пярвей была платна школа.* Чуркі Ашм. *Перве ўмела гаварыць, цяпер маўчыць.* Крэва Смарг.

ПЯРВЁСНІКІ *мн. бат.* Падснежнікі. *Цвітуць пярвёснікі.* Магуны Паст.; *параўн.* польск. *pierwiosnek* 'першацвет; прымула'.

ПЯРВУ'ШЧЫ *прым.* 1. Перадавы. *Ён пярвушчы ў калхозя.* Саланое Віл. 2. Лепшы. *Яна пярвушча хазяйка.* Магуны Паст.

ПЯРГА' *гл.* ПЕРГА'

ПЯРКА'ЛЬ *гл.* ПАРКА'ЛЬ

ПЯРЛО'ЎКА, ПАРЛО'ЎКА *ж.* Ячныя крупы. *Малыя цыпляты пярлоўку не праглынуць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Наварыла кашы з парлоўкі.* Багушэвічы Бярэз.

ПЯРО' *н.*, ПЯРА' *ж.* Пер'е. *Птушка як вылінаіць, пярамі не абросшая.* Чычалі Швянч. *Пяру выврвалі с хваста пітуху самую красівую. Пяру апскубаіць, пярой водзіць.* Рагулішкі Даўг.

ПЯРО'СТЫ *гл.* ПЯРЭ'СТЫ

ПЯРО′ЧКА *ж.* Папярочка. *Пярочкі ў варстату скрапляюць сошкі.* Вецярэвічы Пух.

ПЯРСІ′СТЫ *прым.* Які з вялікімі шырокімі грудзямі. *Пярсісты конь сільны.* Вялікія Баяры Шчуч.

ПЯРСЦЕ′НІК, ПЯРСЦЁНІК, ПЯРСЦЁННІК *м.* Пярсцёнак. *Пярсценік згубіла — нядобрая прыкмета. Пярсцёнік насіла.* Паляцкішкі Воран. *Пярсцённік цяпер ува ўсіх маладых на пальцы.* Малахоўцы Бар.

ПЯРСЦЁНАК *м.* Тое ж, што і пярсцёнік. *Пярсцёнак з вочкам, баз вочка шлюбны пярсцёнак.* Вялікія Баяры Шчуч. *Пярсцёнак узлажыла на паляц.* Дзесятнікі Валож. *Пярсцёнак — на правай руцэ абручальны.* Солы Смарг.

ПЯРУ′Н *м.* Гром. *Ударыў пярун у вярхушку.* Ахрэмаўцы Брасл. *Яе забіла пяруном. Ну і пярун паліў!* Едлавічы Брасл. *Пярун даў, загарэлася хата.* Ністанішкі Смарг. *У ліпу пярун біў.* Граўжышкі Ашм. *Пярун удэрыў.* Каменка Стара Сакол. *Пярун збівая дрэва.* Руднікі Шальч. ∇ *Якая злая, як пярун!* Малі Астр. *Каб яе пярун, гэту хваробу!* Канюкай Вільн. *Кап цябе пярун забіў!* Кураполле Паст. ◇ *Як пяруном спаліць* — пачырванець ад сораму. *Як пяруном спаліла яе — чырвоная зрабілася, як сказалі праўду ў вочы.* Малі Астр.

ПЯ′РХАЦЬ *гл.* ПЕ′РХАЦЬ

ПЯРХО′ЦЦЯ *зб. н.* Тое ж, што і пе́рхаць. *Пярхоцця с каровы.* Пасіене Лудз.

ПЯРША′К *м. пчал.* Першы рой. *Пяршак паляцеў.* Дакудава Лід.

ПЯРША′ЧКА, ПЯРША′ТКА *ж.* Першацёлка. *Мая карова пяршачка, с першым цялюком.* Магуны Паст. *Як першы раз цялілася — пяршачка.* Вялікія Баяры Шчуч. *Мая карова пяршачка, першы рас цялілася.* Быстрыца Астр., Рудня Астравітая Чэрв. *Пяршачка кароўка.* Багушэвічы Бярэз. *Мая карова пяршатка.* Малахоўцы Бар.

ПЯРШЧЫ′ЦЬ, ПЯРШЫ′ЦЬ *незак.* 1. Пячы, свярбець. *Улезяш у крапіву — пяршыць цела, скура.* Магуны Паст. *Сталі пальцы пяршыць — у гной усунула — і баліць, і свярбіць.* Едлавічы Брасл. 2. Пра адчуванне раздражнення (козыту) у горле. *Аш у горля пяршыць.* Малі Астр.; *параўн.* літ. *perštėti, peršėti* ’тж’.

ПЯРШЫНА′ *гл.* ПЕРШЫ′НА

ПЯРЫ′НА I *ж.* Плаўнік (у рыб). *Ліпень — красівая рыба, пярына па цэлым хрыпце.* Быстрыца Астр.

ПЯРЫ′НА II *ж.* 1. Пуховая коўдра. *У пярыну пёры насыпаюцца.* Грыкені Вільн. 2. Птушынае пяро. *Пярына тут тырчала ў капялюшы.* Магуны Паст.

ПЯРЫ′НАЧКА *ж. памянш.* Адно сцябло цыбулі. *Адну пярыначку цыбулі з’ела.* Кухты Віл.

ПЯРЫ′НКА *ж. памянш.* Тое ж, што і п я р ы́ н а ч к а. *Пярынкі луку бальшыя.* Пасіене Лудз.

ПЯ′РЫЦЬ *незак.* 1. Перыць (бялізну). *Палатно зложаш і пярыш.* Кураполле Паст. *Яна пярыць праннікам палатно.* Асавец Віл. *Пярыць пранікам адзежу.* Крэва Смарг. *Пяру палатно, пяруць пранікам.* Солы Смарг. *Пярыць бялізну пранікам, палатно пярыла.* Жылі Іўеў. *Пярылі пранікамі палатно, адзежу паласкалі, с пранікам пойдзя, выпярыць ручнікі.* Бакшты Іўеў. *На рэчцы паласкалі, пранікам пярылі.* Рыбчына Віл. *За Варанова пярацъ.* Паляцкішкі Воран. *Бялізну пярыць пранік.* Кіралі Шчуч. *Пярыць даўней казалі, цяпер — біць.* Мярэцкія Глыб. *Пранік пярыць.* Навасёлкі Свісл. *Пранікам пярылі шкуццяя.* Ухвала Круп. *Пранікамі абапал стаяць і пяруць.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Буду пярыць бялізну пранікам.* Гемзы Шальч. *Плётку да красён пярылі.* Цяпінцы Віл. *Сабрала палатно мокрая — і пяра.* Малі Астр. *Пярылі палатно пранікамі.* Гальшаны Ашм. *Плётку да красён адбівалі мокрую, пярым гэту плётку і сушылі.* Кухты Віл. 2. Біць. *Ана пярыла і пярыла гэтых мух па сценах у хаце.* Кураполле Паст.; *параўн.* польск. *prać* 'тж'.

ПЯРЭ′БІРАК *м.* Пласт сена. *Сена ў пярэбіркі пярабіралі. Грабём, патом валок, патом пярэбіркі — і ў копы.* Малахоўцы Бар. *Насіў сено пярэбіркамі. Пярэбірак — пласт, наперабіраў сена ці пластуй на копу сена. Пярэбірак выгнуць, дык воз не раскідваецца.* Альхоўцы Лях. *Пярэбірак сена.* Вецярэвічы Пух. *Трэба пярэбірка перабіраць. Прыдам, на насілкі кладом пярэбіркамі і кладом у копу і носім пат стох і кідаем у стох.* Дзяніскавічы Ганц.

ПЯРЭ′БІРАНКА *ж.* Тое ж, што і п я р э́ б і р а к. Рудня Астравітая Чэрв.

ПЯРЭ′БЯРНЯ *ж.* Ахапак (дроў). *Пярэбярня дроў.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПЯРЭ′ВАЛАМ *прысл.* Ісці з перапынкамі. *Пярэвалам дож: то ідзе, то сунімаяцца.* Азяраны Раг.

ПЯРЭ′ВАРКІ *мн.* Асадак лугу. *Пярэваркі — мокры попел, выкарыстаны на луг, які асядае на дно, як робяць луг.* Дзяніскавічы Ганц.

ПЯРЭ′ВІСЛА *н.* Вераўчаная ручка ў вядры. *Пярэвісла ў вядры парвалася.* Беразіно Докш.

ПЯРЭ′ВІТКІ *мн.* Тое ж, што і п я р а в і́ ц ё. *Пярэвіткамі звязваюць калэ.* Вецярэвічы Пух.

ПЯРЭ′ВІЎКІ *мн.* Тое ж, што і п я р а в і́ ц ё. *Пярэвіўкі секлі з тонкага бярэзніку на плот.* Дзяніскавічы Ганц.

ПЯРЭ′ВІЦА *ж.* Тое ж, што і п я р а в і́ ц ё. *Пярэвіцу лазовую ці бярозавую робяць перавіваць калочкі, на пярэвіцу жэрткі — і палучаецца плот.* Альхоўцы Лях.

ПЯРЭ′ВЯСЛА, ПЯРЭ′ВЯСЛО *н.* Перавясла. *Пярэвясла—*

*сноп, што вяжуць.* Паляцкішкі Воран. *Пярэвяслам звязвалі снапы.* Лука Нараўк. *Снапы звязваюць пярэвяслам.* Кшынэвічы Бабіц. *Пярэвясло скруціла слабо.* Воўкуш Ліпск. *Гэто пярэвясло?! Сноп разваліўса.* Крынкі Крын.

ПЯРЭ′ГАДАМ *прысл.* Тое ж, што і п я р э́ в а л а м. *Пярэгадам ідзе дож.* Пасека Ст.-Дар.

ПЯРЭ′ГІБІНА *ж.* Згіб (нагі). *У пярэгібіне нага баліць.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПЯРЭ′ГЛЯДЫ *мн. абрад.* Агледзіны. *Паехалі на пярэгляды: панаравіцца — плацяць жаніху.* Дакудава Лід. *Паехалі на пярэгляды глядзець, якая там маладая.* Кіралі Шчуч.

ПЯРЭ′ДНІ *прым.* 1. Які знаходзіцца спераду. *Кумпяк у свінні задні, а пярэдня — лапатка.* Солы Смарг. 2. Сартавы (пра зерне). *Пярэдняя жыта — адборнае, сартавое жыта, далёка адлятае, як веяць.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПЯРЭ′ДНІЦА I *ж.* Тое ж, што і п я р а д з е́ н ь. *Пярэдніцу закідаюць сена ўвязваць.* Дакудава Лід. *Пярэдніца ў возе — вяроўка ўвязваць воз.* Міратычы Карэл. *Пярэдніца — вяроўка да воза.* Навасёлкі Свісл. *Пярэдніца загіналаса навакол галоўкі — вяроўка ў возе.* Дзяніскавічы Ганц.

ПЯРЭ′ДНІЦА II *ж.* Перад (спадніцы). *Узяла пярэдніцаю пацёрла, як дзіця зракуць.* Старое Сяло Зэльв.

ПЯРЭ′ДНЯ I *ж.* Тое ж, што і п я р а д з е́ н ь. *Трэба пярэдню налажыць, накладаная пярэдня.* Саланое Віл.

ПЯРЭ′ДНЯ II *гл.* ПЕРАДНЯ′

ПЯРЭ′ЖНІ *прым.* Пярэдні. *Пярэжнія ногі як падніміць, яны ўсе пераз галаву каціліся.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Шворан чэраз падушку пярэжнюю і чэраз вось пярэжнюю.* Мешкінева Лудз. *Падушка пярэжняя і задняя.* Скрудалена Даўг. *Полка пярэжняя.* Мярэцкія Глыб. *На трэці год конь кідаіць пярэжнія зубы.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПЯРЭ′ЗАЎКІ *мн.* Тое ж, што і п ы р ы з в э́. *Малады заве яе бацькоў у пярэзаўкі.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

ПЯРЭ′ЗВІНЫ *мн.* Тое ж, што і п ы р ы з в э́. *А церас месяц пасля свадзьбы зноў збіраецца радня — гэта пярэзвіны называюцца.* Глебкавічы Мін.

ПЯРЭ′ЗІМАК *м.* Пярэзімак. *Пярэзімак — такрошняе цяля.* Пацаўшчына Дзятл. *Цялятка — пярэзімак.* Дакудава Лід. *Пярэзімак у мяне ёсць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Пярэзімак — другую зіму зімуя.* Чуркі Ашм. *Пярэзімка, быка зарэзалі.* Старое Сяло Зэльв.

ПЯРЭ′ЗІМКА *ж.* Тое ж, што і п я р э́ з і м а к. *Цяля як перазімуя, кажуць пярэзімка.* Вялікія Баяры Шчуч. *Пярэзімка — перазімавала цяля.* Лука Нараўк. *Пярэзімка — цёлка ўжо цельная.* Гемзы Шальч. *Як пярэзімка не папалявала, яе на зіму пакідаюць.* Чуркі Ашм.

ПЯРЭ'КЛЯЦЬ *ж.* Прыклецце. *На пярэкляці, каля свірна.* Крэва Смарг.

ПЯРЭ'КРАСТ *прысл.* Накрыж. *Пярэкраст ставілі ў галаве калоды, каб пчолы адцягалі воск.* Мсцібава Ваўк.

ПЯРЭ'КРУТКІ *мн.* 1. Тое ж, што і п я р а в і ц ё. *Пярэкруткі ў плоці.* Кураполле Паст. 2. Сукараткі. *Крутыя ніткі, адны пярэкруткі.* Мярэцкія Глыб.

ПЯРЭ'МЯШКА *ж.* Перашкода. *Пярэмяшка часта бывая.* Бакшты Іўеў.

ПЯРЭ'НДЖА *ж.* Поручні. *Пярэнджа ля клаткі.* Рудня Астравітая Чэрв.; *парайн.* польск. *poręcz* 'тж'.

ПЯРЭНІМА'ЦЬ *незак.* Пераймаць. *Я буду пярэнімаць каровы, а ты ідзі.* Асавец Віл.

ПЯРЭ'ПАЛАХ *м.*, ПЯРЭ'ПАЛАХІ *мн.* Спалох. *Пералёт ад пярэпалаху.* Старыя Смільгіні Воран. *З пярэпалаху не гаворыць.* Быстрыца Астр. *Ат пярэпалаху сем тыдняў ляжала.* Солы Смарг. *С пярэпалаху так стала, галава баліць.* Крэва Смарг. *Ад пярэпалаху дзіця крычыць.* Малахоўцы Бар. *Пярэпалах сільны — і будзя балець.* Альхоўцы Лях. *Пярэпалах у хлопчыка.* Міратычы Карэл. *Гэту траву п'юць ад пярэпалаху.* Навіны Нясв. *Пярэпалах лечаць бабкі.* Пасека Ст.-Дар. *Гэта трава ад пярэпалахаў добра памагая.* Бакшты Іўеў. *С пярэпалахаў захварэў, спалохаўся натта вайной, без памяці.* Кіралі Шчуч. *Ей с пярэпалахаў зрабілася.* Вялікія Баяры Шчуч. ◊ *Пярэпалахі выліваць* — лячыць ад спалоху. *Як адбывая месяц, выліваюць пярэпалахі.* Альхоўцы Лях. *Даўней пярэпалахі вылівалі, воску ўжараюць і гаварылі: «Выліваем пярэпалахі кацячыя, сабачыя, чалавечыя... які ў яго быў пярэпалах».* Старое Сяло Зэльв.

ПЯРЭ'ПЛАТ *м.*, ПЯРЭ'ПЛАТЫ *мн.* Азярод. *Пярэплат зарэдзіць.* Беразіно Докш. *Пярэплат рабілі, бульбоўнік сушылі.* Солы Смарг. *Пярэплаты зярэдзім.* Асавец Віл. *У некаторых былі пярэплаты: дзве ўкапвалі жэрткі і некалькі папярэчных і ставілі на іх снапы кала гумна.* Жодзішкі Смарг. *Зароды, ці пярэплаты. Снапы с поля вазілі, randзілі.* Палік Барыс. *Пярэплаты — тоўстыя дліниыя жэрдзі, снапы торкалі ў іх і сушылі, даўней гаварылі: «Зярэдзіць нада снапы, гарох у пярэплаты, комлік к сонцу, а каласы ў сярэдзіну».* Груздава Паст. *Гарох злажыць у пярэплат, бульбоўнік сушылі.* Магуны Паст. *Былі пярэплаты, траву сушылі.* Малі Астр.

ПЯРЭ'ПЯЧКА *ж.* Перапечка. *Дзеці, я вам спякла пярэпячку з хлебнага цеста, перад агнём на скаварадзе пячэцца.* Кіралі Шчуч.

ПЯРЭ'РВА *ж.* 1. Тое ж, што і п ш э́ р в а. *Зрабілі пярэрву і пашлі на абет.* Жылі Іўеў. *Аддыхаем, пярэрва!* Семежава Кап. *Пярэрва — гэта калі што робіш, потым аставіў гэто.* Малахоўцы Бар. *Буваюць пярэрвы ў рабоце, як кросна ткуць, я*

*чатыры нядзелі ткала.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Атпачыньма троху, зробім пярэрву, палавіну зрабілі.* Кіралі Шчуч. *Пярэрва — як гадзіну пярэрвімся.* Чуркі Ашм. 2. Перапынак у стажы работы. *Перш рабіў штатным, мяне знялі з гэтае работы, зрабілі пярэрву, не хватая трудаднёў.* Жылі Іўеў. *Дванаццаць гадоў адна баба рабіла ў саўхозі і пакінула, у яе пярэрва стажу.* Кіралі Шчуч. 3. Мясная праслойка ў сале. *Пярэрва ў сале ёсць.* Бакшты Іўеў. 4. Прамежак. *Пярэрва — гарадзіў плот з аднаго канца, а пасярэдзіня пярэрву пакінуў — жэрткаў не хапіла. Хата ат хаты далёка, а пасярэдзіне пярэрва.* Жылі Іўеў. *Вёска пастаўлена, а пасярэдзіні німа дамоў— і называецца пярэрва.* Кіралі Шчуч. 5. у знач. *прысл. пярэ́рвамі.* На пэўнай адлегласці. *Пярэрвамі хаты стаяць.* Малыя Аўцюкі Калінк. 6. *м.* і *ж. перан.* Хто працавіты. *На такога чалавека, які дужа стараецца, гавораць пярэрва. На мяне свякроў гаварыла пярэрва. У яе муж быў такі працавіты. Яна сказала: «Во, адна пярэрва ні здохла, другая паявілася».* Ісерна Слуц.

ПЯРЭ́РВАЧКА *ж. памянш.* да п я р э́ р в а 1. *Ест пярэрвачка ў рабоце.* Жылі Іўеў.

ПЯРЭ́СВЯТАМ *прысл.* На досвітку. *Ён прыехаў пярэсвятам.* Стральцы Гродз.

ПЯРЭ́СЛА *н.* Тое ж, што і п я р э́ в я с л а. *Сноп вяжуць, скруці пярэсла.* Альхоўка Навагр.

ПЯРЭ́СТЫ, ПЯРО́СТЫ, ПАРЭ́СТЫ *прым.* 1. Рабы. *Пярэстая, у плямы карова. Пярэстыя коні ў цыганоў былі.* Пацаўшчына Дзятл. *Карова пярэстая: бальшыя плямы.* Дакудава Лід., Альхоўцы Лях. *Конь пярэсты: красны і белы.* Дзяніскавічы Ганц. *Наша цёлка пяростая — бела з чорным.* Новіны Нясв. *Парэ — так называюць парэстого вола.* Хатынічы Ганц. 2. Брудны. *Калісьці была пярэста пасцель ад блох, а ціпер дзе тыя блохі дзеліся.* Мсцібава Ваўк.

ПЯРЭ́ТАЧКА *ж.* Папярочка. *Часткі студні: баба, вага, коварат, пярэтачка — папярочная палка, на якой трымаецца вага.* Альхоўка Навагр.

ПЯРЭ́ЧКА *ж.* 1. Папярочны загон. *Трэба пярэчку ўзараць.* Саланое Віл. *Адары пярэчку.* Рыбчына Віл. *Упоперак пярэчкі былі.* Ёдлавічы Брасл. 2. Аглабіна. *Верхняя і ніжняя пярэчкі, нада закрыпаць канцы рэдзель вяровачкамі.* Ёдлавічы Брасл.

ПЯРЭ́ЧЫЦЬ *незак.* Забараняць. *Стаў курыць, мы не пярэчылі яму.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПЯСКАВЫ́, ПЯСКО́ВЫ *прым.* Пясчаны. *Пяскавая зямля, курганістая.* Стральцы Гродз. *Зямля пяскавая: як пагода — высмаліць, выпаліць.* Ракаўскія Швянч. *Тут пясковая возіра.* Малькуны Ігн.

ПЯСКІ́ *мн.* Пясчаная глеба. *У нас ест пяскі, жвіры ест.* Відаўцішкі Вільн.

ПЯСО'К *м.* Пясок. *У сыботу пасыпіш у хаце пяском.* Латыгаль Віл.

ПЯСО'ЧНЫ *прым.* Тое ж, што і пяскавы́. *Пясочная места, пясок — ні праехаць.* Мярэцкія Глыб.

ПЯ'СТА *ж.* Утулка. *Пяста ў коле.* Судэрва Вільн. *Пясты былі драўляныя.* Грыкені Вільн. *Пяста і калотка — тое самае.* Старыя Трокі Трак. *У пясту спіцы нагнаныя.* Кудзялянцы Шальч. *У пясту кола ўбіваюцца шпрыхі.* Руднікі Шальч.; *параўн.* польск. *piasta* 'тж'.

ПЯСТАТА' *ж.* Спешчанасць. *Пётр — от была пястата мне!* Саланое Віл.

ПЯ'СТАЧКА *ж. памянш.* да пя́стка. *Прыжыналі пястачку, ставілі ў куце, называлі гаспадар.* Ракаўскія Швянч. *Салому пястачкамі вяжат і крыют крышу.* Скрудалена Даўг.

ПЯ'СТКА *ж.* Жменя. *Лён рвалі ў пястку; нарвём, сколько ўлезет у пястку.* Крэвені Даўг.

ПЯСТУ'Н *м.* 1. Пястун. *Дачкін сын — пястун.* Саланое Віл. *Ён пястун, матка песціць яго.* Альхоўцы Лях. *Во пястун!* Солы Смарг. 2. Важак (пра ваўка). *Пястун маладых ваўчанят вучыць.* Саланое Віл. *Пястун — воўк, ён можа аставацца ў логаве з новым вывадкам, з ваўчанятамі.* Жодзішкі Смарг. *Пястун дзяцей даглядаіць, як ваўчыца на дабычу ідзець.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПЯСТУ'ХА *ж.* Пястуха. *Яна пястуха была ў мацяры.* Саланое Віл.

ПЯСЦІ'ЦЦА *незак.* Песціцца. *Пясціцца дзіця.* Рыбчына Віл. *Мне была за кім пясціцца — Пётр быў.* Саланое Віл.; *параўн.* польск. *pieścić się* 'тж'.

ПЯСЦІ'ЦЬ *незак.* Песціць. *Хоць адно дзіця, а ўсё роўна не трэба пясціць.* Магуны Паст.; *параўн.* польск. *pieścić* 'тж'.

ПЯСЭ'ЧНІК *м.* Папярочнае бервяно ў зрубе хаты над столлю. *Папярэчно браўно над столлю называлі пясэчнік, іх два папярочныя.* Альхоўцы Лях.

ПЯ'ТА', П'ЯТА', ПЭТА', П'ЯДА' *ж.* 1. *анат.* Пята. *Пята́ баліць.* Рыбчына Віл. *На пя́ці мазоль. Пя́таю стукнуў.* Сакаляны Сакол. *Нэкрасіво ідэ, разом п'яты.* Смаляніца Пруж. *Шчо болет пэта?* Дзмітравічы Кам. *Ек грыбла сіно, то п'яду пробэла. На п'ядi такая шкура твэрда.* Радастаў Драг. 2. Задняя частка касы. *Пята́ ў касе.* Пасіене Лудз.

ПЯ'ТКА I *ж.* Тое ж, што і пята́ 2. *Пятка ў касы.* Істра Лудз.

ПЯ'ТКА II *ж.* Тое ж, што і пух III. *Пяткай не стукайся, а носам.* Беразіно Докш. *Пушок у яйка, альбо пятка. Пятка шырэйшая, а насок шылаваты.* Солы Смарг. *Хто пяткай стукаецца?* Мачаск Бярэз. *Пяткай не стукаюцца.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПЯ'ТКА III *ж.* Задні капыт (у каровы). *У каровы баляць*

*пяткі — заднія капыцікі*. Альхоўцы Лях. *Пятка — маленькі капыцік*. Дакудава Лід.

ПЯ′ТКА IV *ж.* Пяцёрка. *Я на пятку экзамен здала*. Чычалі Швянч. *Я пяць клас польскіх кончыла. Толькі пяткі, чацвёркі былі*. Быстрыца Астр.

ПЯТЛЕ′ЙКА *ж.* Вешалка. *На пятлейку вешалі кажуха, паўшупка*. Малахоўцы Бар.

ПЯТЛЁВЫ *прым.* Тое ж, што і пытлявáны. *Пятлёвы хлеп елі*. Паляцкішкі Воран.

ПЯТЛІ′ЦА *ж.* Гафтачка. *Кручок, пятліцу нады ўшыць*. Лісна В.-Дзв.

ПЯТЛЯ′ *ж.* Прарэшак (у кашулі). *Нада прарэзаць пятлю*. Рагулішкі Даўг.

ПЯТНА′СЦЯ, ПЯТНА′СЦЕ, ПЯТНА′СТУ *ліч.* Пятнаццаць. *Пятнасця кіль ці адзінасця*. Жодзішкі Смарг. *Я мела пятнасця гадоў і пашла служыць*. Старыя Трокі Трак. *За пятнасця пяць часоў*. Кемялішкі Астр. *Пятнасця выведіся і дагледзелі да аднюткага*. Гемзы Шальч. *Пятнасце капеек заплаціла*. Канюкай Вільн. *Пятнасту кіль тут не будзіць*. Жодзішкі Смарг.; *параўн.* польск. *piętnaście* 'тж'.

ПЯТНА′ЦЦАТКА *ж.* Манета вартасцю ў 15 капеек. *Пятнаццатка чуць не згубілася*. Багушэвічы Бярэз. *Пятнаццатка закацілася недзé*. Нізок Уздз.

ПЯ′ТНАШКА *н.* Сіняк. *Яго дзеці пабілі, чорныя пятнашкі на ём*. Кіралі Шчуч.

ПЯТНІКІ′ *мн.* Прыстасаванне для навешвання дзвярэй без завесаў. *Дзверы на пятніках, без завес пятнікі*. Ахрэмаўцы Брасл. *Дзверы былі на пятнікох у гумне і ў прыгуменніку. Стаіць укопаная калотка, кап не рухалася, у ёй выдоўбаваюць дзюрку, стаўпец уходзіць у дзюрку, а ўвярху дубовай віткай абоймем стаўпец*. Гемзы Шальч. *Дзверы на пятнікох, без завес, к шулу чапляліся, колічак устаўляецца ў праём шула і душкамі прымацоўваецца колічак да шула*. Рудня Астравітая Чэрв.; *параўн.* літ. *petnỹkai* 'тж'.

ПЯ′ТНІЦА *ж.* 1. Пятніца. *Я была ў пятніцу зварыўшы*. Ахрэмаўцы Брасл. 2. у знач. *прысл. пя́тніцаю*. У пятніцу. *Пятніцаю можна ехаць*. Вялікія Баяры Шчуч. ∇*У яе на дзень сем пятніц* — пра таго, хто часта мяняе рашэнні. Малі Астр.

ПЯТНО′ *н.* 1. Пляма. *Петнамі папляміла плацё*. Малахоўцы Бар. *Пятны былі сінія: камары апкусалі*. Старыя Смільгіні Воран. 2. Радзімка. *Яна расцець, і пятно расцець*. Саланое Віл.

ПЯТНЯ′К *м.* Тое ж, што і пятнó 1. *Сядзіць пятняк*. Альхоўцы Лях.

ПЯТРА′-ПА′ЎЛА *ж. заал.* Божая кароўка. ∇ *Пятра-Паўла, скажы праўду: чы дош, чы пагода?* Ахрэмаўцы Брасл.

ПЯТРО′ *н.* 1. Рэлігійнае свята, якое адзначаецца 29 чэр-

веня ст. ст. *Пятро бывае летам.* Ухвала Круп. 2. у знач. *прысл.* *Пятро́м.* На Пятра. *Мы абоя Пятром радзіліся.* Кураполле Паст. *Пятром пост быў. Пятром граў чатыры дні вяселля.* Саланое Віл. ▽ *Чакай Пятра — сагрэесся.* Малі Астр.

ПЯТРО'К *м. памянш.* да П я т р о́ 1. △ *Прышоў Пятрок — атпаў лісток, прышла Ілля — атпала два, прышоў спас — увесь шась.* Рыбчына Віл. *Пятрок — асіны святок; іспас — усяму час, прачыстая — ачысціць усё чыстае.* Ванелевічы Кап.

ПЯТРО'ЎКА *ж.* Тое ж, што і П я т р о́ 1. *У пятроўку авадні, сляпні — пакуль мінецца жара.* Валынцы В.-Дзв.

ПЯТРУ'К-ПЯТРУ'К *м.* Тое ж, што і П я т р а́-П а́ ў л а. ▽ *Пятрук-Пятрук, дзе мой дзяцюк?* Чычалі Швянч.

ПЯТРУ'ШКА I *ж. бат.* Пятрушка. *Пятрушка ад мачавога пузыра.* Солы Смарг.

ПЯТРУ'ШКА II *ж.* Тое ж, што і П я т р а́-П а́ ў л а. *Божую кароўку называюць пятрушка.* Магуны Паст.

ПЯТУ'Х I *м.* Певень. *Толькі вышаў за дзверы, наш пятух як сунуўся праз плот і паляцеў.* Ахрэмаўцы Брасл. *Спяваюць пятухе, уставай!* Пацаўшчына Дзятл. *Пятухі будуць піяць.* Кемялішкі Астр. *Пятух пяець.* Саланое Віл. *Даўней часоў не было, пятух будзіў, заспявая — і ўстаём, дзет ішоў на работу. Пятух налупіў курыцу ў голаў.* Кіралі Шчуч. *Чарадзей гадаваў да дзевяці гадоў пятуха. Без пятуха куры блукаюцца.* Кудзялянцы Шальч. ◇ *Первыя пятухі* — калі вельмі рана заспявае певень. *Первыя пятухі — рано, другія — папожжа, трэція пятухі — пад дзень.* Кіралі Шчуч.

ПЯТУ'Х II *м.* Расколіна. *Ударыш кукай — і пятух становіцца на лёдзе, лёт цвятком стаіць, трашчына, удараеш яшчэ рас, дырка дзелаецца і васцямі колюць.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПЯТУ'Х III *м. кулін.* Цура. *Пятуха зрабілі — хлеб і салоджана вада.* Старыя Смільгіні Воран.

ПЯТУ'ХА *ж.* Пятая частка зямельнага надзелу. *Пятуха зямлі была ў нас.* Вецярэвічы Пух.

ПЯТУХІ' I *мн. абрад.* Самаробныя цукеркі ў выглядзе пеўня, якія дарылі ў час адведзін. ◇ *Пятухі ставілі; баба станя і спявая: «Ку-ка-рэ-ку!»* Жылі Іўеў.

ПЯТУХІ' II *мн. перан.* Тое ж, што і п ы л е н я́ т к і. *Пашчапаліся ногі ад ветра, аж пятухі.* Старыя Смільгіні Воран. ◇ *Пятухі спяваюць* — трэскаецца скура на нагах ад ветру, вады. *Папэнкалі ногі — пятухі спяваюць.* Гемзы Шальч.

ПЯТУ'ШАЧКА *ж. памянш.* да п я т у́ х а. *Пятушачка зямлі была ў яе.* Вецярэвічы Пух.

ПЯТУШКІ' I *мн.* Тое ж, што і п ы л е н я́ т к і. ◇ *Пятушкі спяваюць* — трэскаецца скура на нагах ад ветру, вады. *Пятушкі спяваюць на нагах, як вясной хто ходзя босы.* Гемзы Шальч.

ПЯТУШКІ' II *мн. бат.* Медуніца. *Пятушкі ў нас растуць, ці мядуніца.* Альхоўка Навагр.

ПЯ'ТЫ *ліч.* У выразе: *На пятым месяцы* [быць, знаходзіцца] — на пятым месяцы цяжарнасці. *На пятым месяцы яна.* Навасёлкі Свісл.

ПЯТЭ'ЛЬНЯ *гл.* ПАТЭ'ЛЬНЯ

П'Я'ЎКА *ж. заал.* П'яўка. *П'яўка як уп'ецца ў нагу! Калі запалення, ставяць п'яўкі.* Солы Смарг. *П'яўкі ставяць, у каго даўлення.* Жодзішкі Смарг. *П'яўка скуру раскусіць, іх пускаюць, кап яны кроў сысалі, яна нап'ецца, як бочка, а тады яе выкачваюць, тую кроў.* Кіралі Шчуч. *П'яўкі ўпіваюцца ў нагу.* Дакудава Лід. *П'яўкі палезныя, іх прадаюць у аптэках.* Магуны Паст. *П'яўка прысмакталася да нагі.* Беразіно Докш. *Раньшэ п'яўкам лячылі.* Малькуны Ігн. *П'яўка кроў смокча.* Рыбчына Віл., Мярэцкія Глыб. *П'яўка была ўпіўшыся ў паляц.* Рагулішкі Даўг. *П'яўка ў доміку не сядзіт, п'яўку ўпускалі ў рот, п'ёт многа крыві.* Шкаўна Лудз.

ПЯХАТО'Ю *прысл.* Пешшу. *Людзі ішлі многа кіламетраў пяхатою.* Ракаўскія Швянч.

ПЯХАЎЁ *н.* Ручка. *Няглаткае пяхаўё.* Бакшты Іўеў.

ПЯХТО'М *прысл.* Тое ж, што і п я х а т о́ ю. *Даўней у Шчуціна, у Васілішкі, Жалудак хадзілі пяхтом.* Кіралі Шчуч.

ПЯЦЁРКА *ж.* Пяць рублёў. *Падарыць пяцёркай — мала на вяселі.* Вецярэвічы Пух.

П'ЯЦЁРО *ліч.* Пяцера. *Свіння с п'яцёрма поросятамі.* Смаляніца Пруж.

ПЯЦІЦАЛЁВЫ *прым.* Пяціцалёвы. *Пяціцалёвы цвек.* Гемзы Шальч.

ПЯ'ЦЦА *незак.* Тужыцца. *Сямнасьця дней ня ела і ўся пялася, пялася.* Крэва Смарг.

ПЯЦЬ I *ліч.* Пяць. *Пяці альбо шасці чалавек паехалі.* Жодзішкі Смарг. *Іх пяцёх асталося.* Навасёлкі Свісл. *Сабралася чалавек пяцёх, трох уцяклі, двух забралі.* Жыдзевічы Іўеў. *Было пяцёх сёстраў у хаці.* Бакшты Іўеў. *Іх пяцёх асталосо ад маткі.* Вострава Маст. *Пашла с пяцьмі рублямі.* Ністанішкі Смарг. *Іх пяці было.* Саланое Віл. *Нас было дзяўчат пяці.* Стракішкі Трак. *Пяці дзяцей: чатырох хлопцаў і яна.* Гемзы Шальч. *Пяціх мужчын расстралялі немцы.* Ёдлавічы Брасл. *Пяціх вырасціла, а вырадзіла шасціх.* Рагулішкі Даўг. *Пяціх васпітала, чэцвіра ўмерла.* Навікі Лудз. *З пяцьма хлопцамі ехаў.* ∇ *Пяцёх будуць пітуха рэзаць* — пра гультаяватых людзей. Старыя Смільгіні Воран.

ПЯЦЬ II *ж.* Тое ж, што і п э́ р х е л ь. *Пяць асядая на лістах, салоткая пяць.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПЯ'ЦЯРКА *ліч.* Пяцёра. *Ё маленькіх пяцярка вутачак.* Багушэвічы Бярэз.

ПЯЧА'ЙКА *ж.* Пякотка. *Пячайка так пячэ, што не вытрымаць.* Пацаўшчына Дзятл. *Капусты як із'ем, пячэ пячайка.* Міратычы Карэл. *Пячайка пячэ, пяката.* Альхоўцы Лях. *Пячайка*

*пячэ, дай соды выпіць.* Навасёлкі Свісл. *Пячэ пад грудзьмі пячайка.* Крэва Смарг. *Пячайка пячэ, сліну гоня.* Малі Астр. *Пячайка пячэ.* Лука Нараўк.

ПЯЧАНЁЎКА *ж.* Ліверная каўбаса. *Пячанёўку рабілі з пячонкі: адварым, пакрышым яе ў апалушачках — цяперака лівярная.* Дакудава Лід.

ПЯЧА'РЫ *мн.* Пячоры. *Быў пахаваны Гедыміна брат, там былі пячары.* Старыя Трокі Трак.

ПЯЧА'ТАВАНЫ *дзеепрым. пчал.* Запячатаны. *Пячатаваны мёд.* Глівін Барыс.

ПЯЧКУ'Р *м.* Пячнік. *Дзед добры пячкур — на ўсе рукі майстар.* Беразіно Докш. *Пячкур майстраваў тыдзень печ, а дым тамацька, уверсе, праходзіць. Знайшоў-такі пячкура, зробіць ужо хутка печ.* Ухвала Круп.; *параўн.* літ. *pečkurỹs* 'качагар'.

ПЯЧНІ'К *м.* Тое ж, што і п я ч к у́ р. *Наймалі печніка печ рабіць.* Мярэцкія Глыб. *Які з яго пячнік!* Рыбчына Віл. *Пячнік робіць печы з цэглы.* Кіралі Шчуч. *Ён добры пячнік.* Гемзы Шальч. *Пячніка пакармі!* Рудня Астравітая Чэрв.

ПЯЧО'НІКІ *мн.* Печаная бульба. *Сяння будзем есці пячонікі: мяшай, а то згараць.* Любішчыцы Івац.

ПЯЧО'НКА *ж. анат.* Печань. *Прыду на пячонку; як смаляць кабана, смажаць пячонку.* Гемзы Шальч.

ПЯЧО'НКІ *мн.* Тое ж, што і п я ч о́ н к а. *Вантрабянкі рабілі так: выбярыць нутры, зварыць і пасякая вантробкі: сэрца, пячонкі — і ў кішкі, і ў печ.* Старыя Трокі Трак.

ПЯЧО'НЫ *дзеепрым.* Печаны. *Пячоная бульба смачная.* Мярэцкія Глыб.

ПЯЧО'РА I *ж.* Нара. *Пячоры мышыныя.* Лапічы Асіп.

ПЯЧО'РА II, ПЯЧУ'РА *ж.* Пячурка. *Пячора — туды кідаюць сушыць што-небудзь.* Альхоўцы Лях. *Сахар ляжыць у пячуры сухім.* Лісна В.-Дзв.

ПЯЧО'РКА *гл.* ПЯЧУ'РКА

ПЯЧУ'К *м.* Печ. *Капляны* [кафляны] *пячук.* Чычалі Швянч.

ПЯЧУ'Р *м.* Тое ж, што і п я ч к у́ р. *Пячур печы робіць.* Навасёлкі Свісл.

ПЯЧУ'РА *гл.* ПЯЧО'РА II

ПЯЧУ'РАЧКА *ж. памянш.* да п я ч у́ р к а 1. *У печы пячурачка ест.* Вялікія Баяры Шчуч. *Пячурачка ў печы.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ПЯЧУ'РКА, ПЯЧО'РКА *ж.* 1. Тое ж, што і п я ч о́ р а II. *Пячурка ў печы, а каля печы пяколак.* Валынцы В.-Дзв. *У пячурку спічкі паложаць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Рукавіцы ў пячурку лажылі.* Ёдлавічы Брасл. *Пакладзі рукавіцы сушыць.* Беразіно Докш. *Пячурка збоку ў печы.* Жодзішкі Смарг. *Былі пячуркі, там клалі сушыць што-якоя.* Кіралі Шчуч. *Пячурка*

*ў печы, палажы рукавіцы ў пячурку.* Саланое Віл. *Пячурка ў печы.* Мярэцкія Глыб., Рудня Астравітая Чэрв., Вялікі Лес Круп. *Пячуркі рабіліся збоку печы.* Магуны Паст. *Калісьці рукавіцы сушылі ў пячурцы.* Кудзялянцы Шальч. *Мокрыя рукавіцы палажы ў пячурку.* Гемзы Шальч. *Пячорка ў печы, палажы рукавіцы ў пячорку, хай схнуць.* Альхоўцы Лях. *Пячорка збоку печы, тут сушаць рукавіцы, анучы.* Малахоўцы Бар. *А ў пячоркі паўпіхаем анучы, кап схлі.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Тое ж, што і п я к о́ л а к 2. *У пячурку вуглі і попял згортваюць.* Солы Смарг. *Рабілі пячуркі ў печы: распаляць смалякі, і бабы сядуць кала печы і прадуць, дым у комін ішоў, і святло давала на хату.* Рыбчына Віл. *Жар заграбалі ў пячорку.* Рудня Астравітая Чэрв. *У печы рабіліся дзюркі — пячуркі для рукавіц.* Гальшаны Ашм. *Палажы мыдла ў пячурку.* Малі Астр.

ПЯЧЫ′, ПЭЧЫ′ *незак.* 1. Скварыць. *Сала пякуць.* Жылі Іўеў. *Пячы сала, есці хочацца.* Рыбчына Віл. *Сало трэбо пячы, а як суп, то трэбо засквырыць.* Міратычы Карэл. *Вазьмеця і пячэця.* Альхоўка Навагр. *Трэба пячы сала.* Малахоўцы Бар. *Сала пячом.* Тухавічы Лях. *Пячы сала, напякла сала для яды.* Рудня Астравітая Чэрв. *Буду сала пячы, скварак напёк.* Вецярэвічы Пух. 2. Пячы. *Пікла баба бліны, а кот схапіў падмаску.* Лісна В.-Дзв. *Яечню пякець і цыбулю ложыць.* Малькуны Ігн. *Стала яйкі пячы.* Саланое Віл. *С хлеба пяклі каравай.* Гальшаны Ашм. *З ароху пяклі бонды, грычаныя бонды пяклі.* Руднікі Шальч. *Ветэ ейца нэ пэчымэтэ.* Смаляніца Пруж. 3. Смажыць. *Пяклі рыбу.* Пацаўшчына Дзятл. 4. *перан.* Моцна маросіць. *Пёк, пёк мароз зіму.* Дзераўное Стаўб. 5. Моцна прыпякаць. *Пячэ слоньца.* Кіралі Шчуч. *Слонца пячэ.* Дзераўное Стаўб. 6. *мед.* Адчуваць пякотку. *Зага пячэ.* Гемзы Шальч. *Сала з'ем — пячайка пячэ.* Пацаўшчына Дзятл. *Пыката так пячэ — не вытрымаць.* Альхоўцы Лях.

ПЯЧЫ′СЯ *незак.* 1. Пячыся. *Яна* [крапіва] *пячэцца.* Плябанцы Ашм. 2. Загараць. *Ляжала і дзень на жарэ пяклася.* Альхоўка Навагр.

ПЯЧЭ′ННЕ, ПЯЧЭ′НЯ *н.* 1. Печыва. *Даюць уселякае пячэнне.* Івашкаўцы Смарг. 2. Пячэнне. *Можа, пячэня будзіш есці?* Ахрэмаўцы Брасл. *Пячэня ў магазіне.* Вялікія Баяры Шчуч.; *параўн.* руск. *печенье* 'тж'.

ПЯЧЭ′РА *ж.* Нара. *Німа іх — баброў пячэр — у рацэ, хаткі дзелаюць, багата было баброў.* Азяраны Раг.

ПЯШКО′М, ПЭШКО′М, ПАШКО′М *прысл.* Пехатой. *На трэці дзень прышла дамой пяшком.* Старыя Смільгіні Воран. *Пяшком восем кілометраў у касцёл хадзілі.* Скрыпчына Лудз. *Трэба ісці пяшком.* Рудня Астравітая Чэрв. *Ты ровэром чы пэшком?* Горск Бяроз. *Пашком пайшоў.* Ухвала Круп.; *параўн.* руск. *пешком* 'тж'.

ПЯШНЯ′ *ж.* Пешня. *Пяшнёй прабіваюць лёт.* Магуны

Паст. *Рыбак пяшню з сабой бярэ — лёт рубая.* Жодзішкі Смарг. *Пяшня — робяць вуллі, долата доўгая на палца, метр даўжыні.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПЯШЧА'ВЫ *прым.* Пясчаны. *Зямля тут пяшчавая.* Парэчча Гродз.

ПЯШЧА'НКА *ж.* Пясчаная глеба. *Пяшчанка — зямля пяшчаная.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПЯШЧУГА' *ж. павел.* Пясчаная глеба. *Пяшчуга, нічога не вырасце, адзін віхар.* Дакудава Лід. *Пяшчуга — дзе мало зямлі, адзін пясок ды жвірок.* Міратычы Карэл. *Пяшчуга — пяскі, зямля пяшчаная.* Вострава Маст. *Пяшчуга — на ёй нічога не расце, трава ня можа заняцца.* Альхоўка Навагр. *Якія там соткі, адна пяшчуга!* Навасёлкі Свісл. *Там адна пяшчуга.* Альхоўцы Лях. *Такая пяшчуга, нічога не расце, толькі пясок перасыпаецца.* Жылі Іўеў. *Пяшчуга якая.* Жыдзевічы Іўеў. *Пяшчуга — пяшчаная зямля, пясок.* Тухавічы Лях. *Пяшчуга — ну што там будзе на той пяшчузе, нічого не расце, што ж будзе на пяску?* Дзяніскавічы Ганц.

ПЯШЧЫ'НА *ж.* Тое ж, што і пяшча́нка. *Пяшчына — дзе пясок, на ей не расцець нічого.* Саланое Віл.

ПЯШЧЫ'СТЫ, ПЯШЫ'СТЫ *прым.* Тое ж, што і пяшча́вы. *Пяшчыстая зямля тут.* Граўжышкі Ашм., Жылі Іўеў. *Пяшыстая гара.* Старыя Трокі Трак.

ПЯЮ'ЛЛЯ *ж.* Спявачка. *Што за пяюлля была!* Саланое Віл.

ПЯЯ'ЦЬ *незак.* Спяваць. *Дзяўчыны сталі пяяць семь загадак.* Ахрэмаўцы Брасл. *Цяпер жыць стала добра, пяяць смутнае не хочацца. Песні пяялі.* Солы Смарг. *Пяе ходзячы.* Дзераўное Стаўб. *Дзеўкі вышлі на вуліцу Юр'я пяяць.* Ністанішкі Смарг. *Мы ідзём і пяем.* Груздава Паст. *Нада пяяць — і пяяла.* Рагулішкі Даўг. *Папрадухі сабіраліся на вечарушкі і песні пяялі. Збіраюцца дзеўкі і хлопцы і пяялі песні.* Ракаўскія Швянч. *Люблю пяяць песні.* Талейкі Швянч.

# Р

РА'БА *прысл.* Нячыста. *Даўней раба чысцілі бульбу, нарабяць бульбы, каб больш дранкі было і менш адходу.* Лісна В.-Дзв.

РАБАВА'ЦЬ *незак.* Грабіць. *Натто рабавалі немцы.* Быстрыца Астр. *Там падумалі, што Мікоду рабуюць.* Рагулішкі Даўг.

РАБА'К І, РОБА'К *м.* 1. Чарвяк. *На рабака лавіў рыбу.*

Чуркі Ашм. *Рабак у зямлі.* Сакаляны Сакол. *Мяса пасоляць— ня будзя рабак есці.* Малі Астр. *Рабакі апсталі капусту.* Старыя Смільгіні Воран. *Грыб рабакі паеўшы.* Беняконі Воран. *Рабакі ружоватыя, прыкрыя нешта.* Солы Смарг. *Рабакі ў цыбулі завяліся.* Солы Смарг. *Ліетом міаса неможна трымаці, бо робакі нападают. На капусту робакі напалі.* Курашэва Чыж. ▽ *Рабакі ідуць — павотка будзя.* Бакшты Іўеў. 2. Гліст. *Нічога не хоча есці, у яе рабакі.* Гальшаны Ашм. *Рабакі е ў кіндзюку.* Альхоўцы Лях. *Рабакі ў яе, худая.* Солы Смарг. *Піжму давалі, як рабакі ў дзяцей.* Малі Астр. *Рабакі гоніць, замучылі яны дзіця.* Малахоўцы Бар. *Авечкі кашляюць, то ў іх рабаке, чэрві ў кішках.* Бяброўнікі Гарад.; *параўн.* польск. *robak* 'тж'.

РАБА'К II *м.* Спадніца з порту. *Парцяныя спадніцы рабакі звалі.* Кудзялянцы Шальч.

РАБАРБА'Р *м. бат.* Рэвень. *Расце ў мяне рабарбар, больш ні ў кога яго няма.* Жодзішкі Смарг. *З рабарбару кампоты, кісель вараць, лісце шырокае ў яго.* Пасіене Лудз.; *параўн.* польск. *rabarbar* 'тж'.

РАБАЦЕ'ННЕ, РАБАЦІ'ННЕ, РАБАЦЕ'НЕ, РАБАЦЕ'НЯ, РАБАЦЕ'НЁ *зб. н.* Вяснушкі. *Рабаценне ў яго на твары.* Лука Нараўк. *Рабацінне — вяснушкі такія.* Рыбчына Віл. *Непрыгожая яго дзеўка — рабацінне на твары.* Беразіно Докш. *Рабацене на твары ў хлопчыка і ў сястры яго.* Валеўка Навагр. *Рабаценя на твары.* Кіралі Шчуч. *Рабаценя — рабы твар у дзеўкі.* Дзяніскавічы Ганц. *У яе рабаценя на твары.* Кемялішкі Астр. *Ластаўкі такія ест, ад іх рабаценя на твары.* Парэчча Гродз. *Рабаценя ў яе, кажуць, якая рабая яна.* Баброўнікі Гарад. *Рабаценё на твары.* Галубы Маст. *Рабаценё много, рабоё ліцо.* Міратычы Карэл. *Увесь твар у рабацені.* Старое Сяло Зэльв.

РАБАЦІНА' *ж.* Тое ж, што і р а б а ц е́ н н е. *Рабаціна на твары.* Старыя Смільгіні Воран.

РАБАЦІ'ННЕ *гл.* РАБАЦЕ'ННЕ

РАБАЦЦЁ I *н.* Тое ж, што і р а б а ц е́ н н е. *Як вясна, усё ліцо становіцца рабое, рабаццё.* Ахрэмаўцы Брасл. *Рабаццё на твары.* Ністанішкі Смарг. *Ён рабы, рабаццё на твары.* Магуны Паст., Малі Астр. *Вясной хлопяц рабы, рабаццё нападая.* Асавец Віл. *Рабаццё на ліцу.* Гемзы Шальч. ▽ *Птушкі пораш, затоя і рабаццё.* Солы Смарг.

РАБАЦЦЁ II *н. ткац.* Паласатая тканіна хатняга вырабу. *Наткала рабацця — маргені.* Малькуны Ігн.

РАБАЦЯ'ГА *м.* і *ж.* Хто працавіты. *Яна рабацяга, работа гарыць у яе руках.* Кудзялянцы Шальч.

РАБАЦЯ'ТЫ *прым.* Вяснушкаваты. *Дзеўка была рабацятая.* Ёдлавічы Брасл. *Я рабацятая была.* Рагулішкі Даўг.

РАБАЧЛІ'ВЫ, РОБАЧЛІ'ВЫ *прым.* Чарвівы. *Рабачлівых*

*грыбоў не кідайце.* Граўжышкі Ашм. *Рабачлівы грыб.* Паляцкішкі Воран. *Робачліва яблыко.* Воўкуш Ліпск.

РАБАЧО'К *м. памянш.* да р а б а́ к І, 1. *На кручок чэпім рабачка.* Быстрыца Астр. *На рабачка лаўлю.* Магуны Паст. *Есць вадзяныя рабачкі — ашыткі.* Чуркі Ашм. *Такія рабачкі находзяць у вулі.* Старыя Трокі Трак. *Рабачкі такія ест, дзе альховыя кусты.* Гемзы Шальч. *Мураўё рабачке разныя сабіраюць.* Малахоўцы Бар.

РАБЕ'ЛЬКІ *прым.* Рабенькі. *Рабая — рабелька карова, чорна з белым.* Парэчча Гродз.

РАБЕ'НЬКІ *прым.* Паласаты. *Кот рабенькі, небальшы.* Валеўка Навагр. *Рабенькія гадзюкі ўцякаюць ад чалавека.* Вецярэвічы Пух.

РАБЁНАК *м.* Дзіця. *Рабёнак нейчы плакаў.* Груздава Паст. *Я свайго рабёнка ні аддам на чужыя рукі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Укручаны як ніпапала гэты рабёнак.* Індра Красл.

РАБІ'ЗНА *ж.* 1. Рабая тканіна хатняга вырабу. *Пашыла спадніцу з рабізны, бабулька выткала рабізновыя сукенкі.* Ёдлавічы Брасл. *Рабізну ткалі ў клетачкі і палосачку.* Ахрэмаўцы Брасл. *Рабізны выткала і пашыла спадніцу.* Кураполле Паст. *Рабізну ткалі, юпкі шылі.* Валынцы В.-Дзв. *Рабізну ткалі на плацця.* Рагулішкі Даўг. 2. Спадніца з рабой тканіны. *Прыбралася ў рабізну.* Валынцы В.-Дзв.

РАБІ'ЗНАВЫ *прым.* Рабы. *Рабізнавае палатно.* Ахрэмаўцы Брасл.

РАБІ'ЗНАЧКА *ж. памянш.* да р а б і з н а 1. *Рабізначкі выткуць, спадніцы пашыюць.* Мярэцкія Глыб. *Рабізначку ткалі ў палоскі і клеткі.* Рагулішкі Даўг.

РАБІ'НА *ж. бат.* Рабіна. *Рабіна расце пры плоце.* Старыя Смільгіні Воран. *Рабіна ў нас добра расце.* Мярэцкія Глыб. *Гэты рок на рабіну ўражайны.* ∇ *Як многа рабіны — дажджлівая восень.* Гемзы Шальч. *Рабіна вялікая не расце.* Грыкені Вільн. *Кала дарогаў многа рабіны.* Чычалі Швянч.

РАБІ'НКА *ж. бат.* Спірэя. *Рабінка ў балоце расцець.* Валынцы В.-Дзв. *Рабінка каля кустоўя, як косіш. Якая там трава — адна рабінка.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

РАБІ'ННЕ *зб. н.* Тое ж, што і р а б а ц е́ н н е. *Рабінне ластаўчынае на ліцэ.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

РАБІ'ННІК *зб. м.* 1. Малады зараснік рабіны. *Рабіннік непраходны.* Галоўні Воран. 2. *бат.* Тое ж, што і р а б і́ н к а. *Рабіннік — трава такая.* Малі Астр. *Зрання ўстаўшы, ён там работаіць, косіць рабіннік.* Рагулішкі Даўг.

РАБІНО'ВЫ *прым.* Аранжавы. *У світэру нітка рабіновая.* Ёдлавічы Брасл.

РАБІРО'Й *м.* Руберойд. *Рабіроем крыта крыша.* Мішнёвічы Шум.

РАБІРО'ЙД *м.* Тое ж, што і р а б і р о́ й. *Летняя кухня пакрыта рабіройтам.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

РАБІ'ЦЦА *незак.* 1. Утварацца, выраблядца з чаго-н. *Цёрлі калапні і рабілася малако.* Латыгаль Віл. *Луг рабілі так: сыпіцца попел і робіцца сліская вада.* Канюкай Вільн. 2. Апрацоўвацца. *Кагда-то зямля рабілася, а цяпер ляжыць нягораная.* Збляны Лід. 3. Адбывацца (пра падзеі). *Не помню, у каторым гаду гэта рабілася.* Вузла Мядз.

РАБІ'ЦЬ, РОБІ'ЦЬ, РАБІ'ЦІ, РОБІ'ЦІ *незак.* 1. Працаваць. *Робя ён у калхозя.* Рыбчына Віл. *Ён рабіў старастам.* Вецярэвічы Пух. *Яна ў Забрэззя сястрой робя.* Лісна В.-Дзв. *Ніхто не прыдзя, ніхто не зробя, мусіш рабіць сам.* Старыя Смільгіні Воран. *Ён робіць на заводзе ў Мінску.* Альхоўка Навагр. *Ён шафёрам робіць.* Груздава Паст. *Дачка робіць у калхозі.* Кемялішкі Астр. *Яна робіць кранаўшчыцаю.* Кіралі Шчуч. *Ён нідзе не робя, папівае водку.* Малі Астр. *Што гэта за парадак: адны святкуюць, а другія робяць?!* Солы Смарг. *Не хачу жыць, каб не робіла, як робіш, то нікога не баісся.* Ёдлавічы Брасл. *Яны ў Вялейцы робяць, добрыя грошы палучаюць.* Вузла Мядз. *На сплаве роблю.* Палік Барыс. *А гэты робіў, як дурачок.* Лісна В.-Дзв. *Ты ня робіў сягоння.* Ністанішкі Смарг. *А дзе робіць?* Малыя Аўцюкі Калінк. *Пойду бульву копаці, а вона, шчо хочэтэ, тое робіт.* Смаляніца Пруж. *А хто будзець робіць?* Пасіене Лудз. *Ён сам робя ў кузні.* Старыя Трокі Трак. ∇ *Ты робіш, як мокрае гарыць.* Малі Астр. 2. Апрацоўваць. *Сваю зямлю рабілі.* Вецярэвічы Пух., Вялікія Баяры Шчуч. *Калісь зямлю разам рабілі.* Малькуны Ігн. *Дадзём каня зямлю рабіць.* Кураполле Паст. *Мае бацькі зямлю рабілі.* Галубы Маст. *Мы зямлю рабілі, касілі, жалі.* Малі Астр. *Гэтага пляца нікому не дасць, сам яго і робіць.* Малышы Лід. 3. У выразе: *Прыгон* [паншчыну] *рабіць* — адбываць прымусовую павіннасць. *Тры дні дома, а тры пану прыгон рабілі.* Саланое Віл. *Паншчыну рабілі.* Жодзішкі Смарг. 4. Нарыхтоўваць сена. *Рабіць сена трэба.* Рудня Чэрв. *У нас людзі сена рабілі і пераяжджалі раку на чоўне.* Вецярэвічы Пух. *Людзі сено робяць.* Альхоўка Навагр. *Паехалі сено рабіць.* Дзяніскавічы Ганц. *На Гузняве балота, там сена робяць.* Альхоўцы Лях. 5. Выраблядь. *Мой тата быў сталяр, рабіў сталы, мэблі.* Солы Смарг. *Туфлі купавалі і рабілі на заказ.* Васілевічы Гродз. *І вёдры рабілі з дзерава.* Валынцы В.-Дзв. *Тэпці з ніткаў рабілі, а шкарпэткі — з воўны.* Старыя Трокі Трак. 6. Будаваць. *Плотнік хаты рабіў, пячнік—печы.* Збляны Лід. *Ён хаты рабіў.* Вялікія Аўцюкі Калінк., Малахоўцы Бар. *Кукушка ня робіць гнязда.* Жодзішкі Смарг. *Будуць тут школу робіць.* Буйвіджай Вільн. 7. Апрацоўваць кудзелю. *Кудзельку робім на стале, патом у прасніцу і прадзём.* Магуны Паст. *Кудзелю рабілі раней.* Стральцы Гродз. *Як кудзелі робіш, шчотку файную нада мець.* Старыя Трокі

Трак. 8. Вырабляць прадукты харчавання. *Рабілі пансак.* Солы Смарг. *Алей рабілі з канаплі.* Саланое Віл. *Рабіць кілбасу.* Грыкені Вільн. *Алей рабілі з семеня.* Канюкай Вільн. *Вы робіце добрэ масло.* Крынкі Крын. 9. Брадзіць. *Брага робіць.* Малахоўцы Бар. 10. Спраўляць. *Маці рабіла вяселле.* Вецярэвічы Пух. *Рабілі васэлля.* Магуны Паст. *Дайней харошыя свацьбы рабілі.* Ракаўскія Швянч. *Дзе вяліка хата, рабілі дзянюшкі і вечарушкі.* Старыя Трокі Трак. *Крысціны рабілі.* Гемзы Шальч. *Мне адзежы не робяць, а дачку ўбіраюць.* Гальшаны Ашм. ◇ *Рабіць сварку* — сварыцца. *А што маеш цёнгле сварку рабіць.* Парэчча Гродз. *Рабіць, як родзійшы хлеб* — добра працаваць. *Рабіць, як родзійшы хлеб — гэта ад душы рабіць, бес каварства.* Саланое Віл. *Рабіць лад* — дамаўляцца. *Як засватаюць дзейку, прыходзіць яго матка, хросная матка, маладуха, дагаваруюцца, калі рабіць вяселле — то робяць лад.* Рудня Чэрв.

РАБЛЁНЫ *дзеепрым.* Вязаны. *Хусткі раблёныя.* Магуны Паст.

РАБО'ТА, РОБО'ТА *ж.* Работа. *Работы ў нас па вушы.* Кіралі Шчуч. *На работу паехала.* Кемялішкі Астр., Груздава Паст. *А што ты ні знаеш, што дома работы ёсць?* Саланое Віл. *Колькі работы ў хаце!* Ністанішкі Смарг. *Ні ў хазяйстве гэта работа.* Кураполле Паст. *Бапская работа ні за работу ідзець.* Валынцы В.-Дзв. *Работы ёсць каля хаты.* Ахрэмаўцы Брасл. *Раніцай работы поўна.* Вузла Мядз. *У мяне работы поўна хата.* Малі Астр. *Як работы многа, паспі трохі, аддахні.* Збляны Лід. *Як слонко ўстане, тагдэ ідуць на работу.* Васілевічы Гродз. *Старым бабам німа работы, апроч ісці на буракі.* Кузьмічы Люб. *Было работы над лёнам: бяруць, труць, трэплюць, дзяруць, прадуць.* Вецярэвічы Пух. *Работа чалавека ні паніжыць.* Малькуны Ігн. *Устаня і пойдзе на работу.* Стральцы Шальч. *Цяпер старыя сядзяць без работы.* Руднікі Шальч. *Батько на роботэ.* Дзмітравічы Кам. ▽ *Работы языком не заменіш. Якая работа, такая капота.* Вузла Мядз. *Работа — ні воўк, у лес не ўцячэ. Гультай за работу, а мазоль за рукі. Ай, абы ахвота, будзя работа!* Малі Астр.

РАБО'ТАЦЬ *незак.* Працаваць. *У сваёй вёсцы трудна работаць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Мой бацька на пуці работаў.* Парэчча Гродз. *У ферме пры свіннях работаў.* Кемялішкі Астр. *У калхозі работаім і сваё хазяйства глядзець трэба.* Яніна В.-Дзв. *Магазін ня будзя работаць.* Лісна В.-Дзв. *Дайней я работала, што чорны вол.* Малі Астр. *Еслі не работаіш, то хлеб дарма не даюць.* Солы Смарг. *Кім ён работая?* Альхоўцы Лях. *Урачом работаіць.* Стральцы Шальч. *Он хворы, не можэ работаць.* Новыя Мацалі Варэн. *На ферме работаў.* Руднікі Шальч. *Сынова ў магазіне работаіць.* Рагулішкі Даўг.

РАБО'ТКА *ж.* Работа. *Яна ўсю работку робіла: і касіла, і пасціла.* Ёдлавічы Брасл.

РАБО'ТНІК *м.* 1. *устар.* Парабак. *Папа работал за работніка ў іменіі.* Пасіене Лудз. 2. Рабочы. *Майстры з работнікамі залажылі залог.* Грыкені Вільн.

РАБО'ТНІЦА *ж.* 1. *устар.* Парабчанка. *Жэня служыла за работніцу.* Валынцы В.-Дзв. 2. Працаўніца. *Мая матка работніца бальшая была.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

РАБО'ЧЫ I *прым.* 1. Які прыстасаваны да пэўнага віду работы. *Сані лічуцца рабочыя, а санкі — выхадныя.* Судэрва Вільн. 2. Працалюбівы. *Дзяўчына рабочая.* Магуны Паст.

РАБО'ЧЫ II *м.* Тое ж, што і р а б о́ т н і к 1. *Пашоў да гэтага пана за рабочага.* Ахрэмаўцы Брасл.

РАБРО' *н.*, РЭ'БРЫ, РО'БРА *мн.* 1. *анат.* Рабро. Гальша́ны Ашм. *Карова худая, кругом рэбры тарчаць.* Ёдлавічы Брасл. *Рэбры ў коней, каровы.* Лука Нараўк. *Робра рэдкія, карова малочная.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Спінка ў ложку. *Ударыўся аб рабро ложка.* Ёдлавічы Брасл. 3. Частка каркаса кошыка. *Рэбры ў кошыку яловыя.* Малахоўцы Бар. 4. *рыб.* Абруч у бучы. *Жак — замысловая снасць, да пяці-шасці абручыкаў, рэбраў такіх.* Азяраны Раг.

РАБРЫ'НА *ж.* 1. Тое ж, што і р а б р о́ 1. *Рабрына ў свінні, а ў маленькіх парасят рэбрушкі.* Рудня Чэрв. *Баліць між рабрынаў.* Старое Сяло Зэльв. 2. Тое ж, што і р а б р о́ 2. *Рабрына ў краваці, спінка.* Магуны Паст.

РАБУ'НАК *м.* Грабеж. *Немцы нарабілі рабунку.* Саланое Віл.

РА'БЧЫК *м. заал.* Рабчык. *Рабчык падобіе кнігаўкі.* Істра Лудз.

РА'БЫ' *прым.* 1. Пярэсты (пра масць жывёлы). *Карова рабáя: чорна з белым ці красна з белым.* Дакудава Лід. *Гналі з Германіі рабы́ скот.* Гальшаны Ашм. *Разнай поўсці бывая карова: рабáя, сівая.* Магуны Паст. *Рабáя карова з латамі белымі і чырвонымі.* Быстрыца Астр. *Рáбая карова — адзін бок чорны, другі белы.* Рудня Чэрв. *Рабы́ сабака.* Галубы Маст. *Рабáя наша карова.* Кіралі Шчуч. *Карова рабáя, стракатая.* Ёдлавічы Брасл. *Рабáя карова, дзе яна есь?* Валынцы В.-Дзв. *Рабы́я коні лятонцыя, коні былі з Сібіры.* Гемзы Шальч. ∇ *Была кабыла лыса і жарабе рабóе — з'еў воўк абое.* Паляцкішкі Воран. 2. Пашкоджаны воспай, з рабаціннем. *Васпаваты, рáбы чалавек.* Рудня Чэрв. *Рабы́ чалавек — як многа рабацця.* Лісна В.-Дзв. *Рабы́ чалавек ад воспы.* Лука Нараўк. 3. Паласаты. *Рабáя посцілка асталася.* Солы Смарг. *Плаценачка ткалі рабóя.* Гальшаны Ашм. 4. Пашкоджаны. *Тры вядры рáбай бульбы.* Лісна В.-Дзв. *Бульба рабáя.* Номікі Бабіц. *Рабы́я буракі на кіслю добра, а буракі-рэпка доўга стаяць не могуць.*

Вузла Мядз. ∇ *Як сена рабое, будзем жыць абое.* Беразіно Докш.

РАБЭ'ЙЗА *ж.* 1. Паласатая хустка. *Хустка велькая, тоўстая, як рабэйза, радэ велькія.* Галубы Маст. 2. *м* і *ж. перан. зневаж.* Хто вяснушкаваты. *Рабэйза ты!— увесь у плямах.* Пацаўшчына Дзятл.

РАБЭ'РКА *ж. памянш.* да р а б р о́ 1. *У свінні рабэркі.* Солы Смарг.

РАБЯ'ТЫ, РЫБЯ'ТЫ, РІБЯ'ТА, РОБЯ'ТЫ *мн.* Дзеці. *Маньчыны рабяты бегаюць па вуліцы.* Груздава Паст. *Двое рабят у іх.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Рабят малых німа.* Гемзы Шальч. *Не цёрлі ніколі мак, у бульбу сыпалі, рыбяты папросюць.* Індра Красл. *Рібят многа было.* Солы Смарг. *Этых робят с печкі далой.* Пасіене Лудз.

РАБЯ'ЦІЦЦА *незак.* Дзяцініцца. *Старушка рабяціцца.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

РАВАКО'П *м.* Хто капае равы, канавы. *Равакоп канаву капаў.* Кураполле Паст. *Равакоп — хто капаў канавы, яны згодзяцца і канаву выкапаюць.* Мярэцкія Глыб.

РАВЕ'СНІК, РОВЭ'СНЫК *м.* Аднагодак. *Ён мой равеснік.* Грыкені Вільн. *Гэта мае равеснікі.* Пацаўшчына Дзятл. *Яны равеснікі.* Міратычы Карэл. *Маі равеснікі ўсе паўміралі.* Саланое Віл. *Мой ровэсnык.* Дзмітравічы Кам.

РАВЕ'СНІЦА *ж.* Аднагодка. *Яна з маім старшым равесніца.* Альхоўка Навагр. *Сусецкія дзевачкі равесніцы.* Кіралі Шчуч. *Яны вучыліся разам, равесніцы.* Дакудава Лід.

РАВЕ'ЦЬ *незак.* 1. Раўці. *Карова стала равець.* Саланое Віл. *Равуць каровы.* Дзёрнавічы В.-Дзв. 2. *перан. экспр.* Крычаць. *Каця нешта раўла, стоячы з бабамі. Гэта яна гавора гэтак, крычыць, раве.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

РАВІ'СТЫ *прым.* Стромы. *Равістая страха.* Саланое Віл.

РАГАВЕ'НЬ *м. зневаж.* Хто вельмі крыклівы. *Рагавень ты! Рагавень кажуць на таго, хто крэпка крычыць.* Азяраны Раг.

РАГАВІ'К *м.* 1. Вільчык. *Рагавік на хаце, зверху крышы.* Рыбчына Віл. *Рагавікі — месца стыку страхі. Яны ідуць па абоіх старанах страхі.* Старыя Смільгіні Воран. 2. Сноп саломы, прызначаны для крыцця вільчыка. *Звяжуць тры снапы саломы і кажуць рагавік, бо на рагу крышы.* Баброўнікі Гарад. 3. Спосаб пакрыцця страхі «ў вугал». *Укрыта страха на рагавік.* Саланое Віл. 4. Асноўная частка сахі. *Зачэпіць рагавіком за яблыню.* Гемзы Шальч. 5. Стан плуга. *Рагавік — да яго прыкрапляецца весь плух. Лямеш, паліца, дышаль прыкрапляюцца к рагавіку.* Дзяніскавічы Ганц. 6. Печыва спецыяльнай формы. *Рагавікі, барану пяклі на сарачыну.* Дакудава Лід.

РАГА'ЗЫ *мн.* 1. Пацёкі поту. *Пот раґазамі сцякае.* Рыбчына Віл. 2. Пацёкі на запацелых вокнах. *Раґазы цякуць.* Жо-

дзішкі Смарг. *Вокны запацелі, цякуць раѓазамі.* Вузла Мядз.; *гл.* р а́ г і.

РАГА'ЙДЫ *мн.* Тое ж, што і р а ѓ а́ з ы 2. *Цякуць раѓайды па акне.* Ністанішкі Смарг.

РАГА'ЛЫ *мн.* 1. Тое ж, што і р а ѓ а́ з ы 1. *Раѓалы на твары.* Саланое Віл. 2. Тое ж, што і р а ѓ а з ы 2. *Раѓалы пацяклі па вакне, шыбіне.* Саланое Віл.

РАГАНІ'ЗМА *ж.* Арганізм. *Сваю раганізму я знаю.* Саланое Віл.

РАГАТА'ЦЬ *незак.* 1. Моцна смяяцца. *Рагочуць дзеці.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Я рагачу і падымаю булку.* Кіралі Шчуч. *Рагатала так, што толькі хата звінела.* Малі Астр. 2. Гагатаць. *Гусі рагочуць.* Якубова Рас.

РАГА'ТКА I *ж.* 1. Рагаціна. *На рагатку вуду прычэпваюць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. 2. Сетка для лоўлі рыбы. *І сетка ест рагатка рыбу лавіць.* Бяброўнікі Гарад.

РАГА'ТКА II *ж. заал.* Колюшка. *Налапаў рагаток, рагатка малая, вострая.* Бяброўнікі Гарад.

РАГАТУ'ХА *ж.* Хто многа смяецца. *Яна смеецса і смеецса, рагатуха.* Крынкі Крын.

РАГА'ТЫ *прым.* 1. Сукаваты. *Хварасту рагатага пазбірала.* Бяброўнікі Гарад. 2. Расахаты. *Дзерава можа быць рагатае.* Бяброўнікі Гарад.

РАГАТЫ'ЎКА *ж.* Канфедэратка. *Рагатыўкі насілі, на штыры канты, з рагамі і казырок быў.* Васілевічы Гродз.; *параўн.* польск. *rogatywka* 'тж'.

РАГАЦЕ'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і р а г а т а́ ц ь 1. *Чаго ён рагаціць?* Навасёлкі Свісл.

РАГА'ЦІ'НА *ж.* 1. Неабцярэблены сук. *Рага́ціна — сук неабцярэблены.* Рудня Чэрв. 2. Сукаватая палка. *Падыму з зямлі гэту рага́ціну і дам табе добра.* Кіралі Шчуч. 3. Расахатае дрэва. *Стаіць такое сухое дзерава, рагаціна.* Бяброўнікі Гарад.

РАГАЦЮ'ЛЬКА *ж. памянш.* да р а г а́ т к а I, 1. *Давіць воск рагацюлька была дзеравянная, на штыры рагацюлька.* Мішневічы Шум.

РАГА'Ч *м.* 1. Тое ж, што і р а г а в і́ к 4. *Рагач — дышаль у сасе, рагач па-дайнейшаму.* Альхоўцы Лях. *Рагач — два нарашкі і гаруць.* Старыя Смільгіні Воран. *На галоблі накладалася скрыпка, галоблі да скрыпкі, а скрыпка да рагача.* Грыкені Вільн. *Рагач у сасе даўжэйшы.* Жылі Іўеў. *У сасе два рагачы, паліца, прыполак, патсошнік і вяроўкі.* Гемзы Шальч. *Прабівалася дырка ў рагачу, устаўляецца плаха такая і два пальцы.* Кайшоўка Карэл. *Патпалак у каваля робіцца, у ім кручок, рагач.* Касцюкі Уздз. ∇ *Прышоў багач, кідай рагач, бяры сявеньку і сей паленку.* Мсцібава Ваўк., Малахоўцы Бар. *На багача кідай рагача, бяры сівеньку і сей памаленьку.* Веця-

рэвічы Пух. 2. Дзяркач. *Венік змёўся, астаўся рагач.* Малькуны Ігн.

РАГА'ЧКІ *мн. памянш.* да р а г а́ ч 1. *На сасе былі рагачкі ўзагнаны.* Малькуны Ігн.

РАГАЧО'К *м. ткац.* Дэталь калаўрота ў выглядзе двухзубай вілкі з жалезным шпянём, на які надзяецца шпулька. *У рагачку вілачка, жалеска і зубы; пералажыла нітку на другі зубок рагачка.* Кураполле Паст.

РАГАЧЫ' *мн.* Звязаныя разам тры драўляныя калкі, на якія ставілі калыску. *Рагачы — што калыску ставіці.* Васілевічы Гродз.

РАГЕ'НТ *м. мед.* Рэнтген. *На рагент пашла.* Вецярэвічы Пух.

РАГЕ'НЯ *ж. кулін.* Каша з бобу і бульбы. *Раґеню дзелалі з бабовымі камякамі. Раґеня — як січас пірэ.* Яніна В.-Дзв.; *параўн.* літ. *raugiẽnė* 'саладуха'.

РА'ГІ, РА'ҐІ *мн.* 1. Тое ж, што і р а ґ а з ы 1. *Рагі пацяклі па ліцу.* Рудня Чэрв. *Рагі на твары.* Глівін Барыс. *Пот рагамі сцікае.* Беразіно Докш. *Спацеў, аш раґі пацяклі.* Кузьмічы Люб. *Раґі на твары.* Дакудава Лід. *Раґі пацяклі па твару.* Масілавічы Сл. *Жнеш, і раґі цякуць па мордзя.* Крэва Смарг. *З ліца раґі ідуць.* Парэчча Гродз. *На твары раґі цякуць.* Бакшты Іўеў. *Раґі былі на ліцэ.* Альхоўцы Лях. *Моцна спацеў, аж раґі пацяклі.* Гемзы Шальч. *Я спацеў, дык пот раґамі пацёк.* Кіралі Шчуч. *Раґамі пот цячэ.* Ахрэмаўцы Брасл. *Пацёк пот раґамі.* Дакудава Лід. *Раґамі пот сцякае.* Пацаўшчына Дзятл. *Пот цячэ раґамі.* Солы Смарг., Магуны Паст. *Раґамі ліецца пот.* Малі Астр. 2. Тое ж, што і р а ґ а́ з ы 2. *Рагі на вокнах.* Глівін Барыс., Беразіно Докш. *Раньшэ рагі на вокнах цяклі.* Валеўка Навагр. *Вокны папацелі і рагі пацяклі.* Кіралі Шчуч. *Раґі па вокнах пацяклі.* Крэва Смарг. *Раґі пацяклі па вокнах, будзе цёпла.* Масілавічы Сл. *Пацеюць вокна і цякуць раґі.* Магуны Паст. *Раґі на вокнах цякуць.* Пацаўшчына Дзятл. *Акно напатнеўшы, пацяклі раґі.* Альхоўцы Лях. *Раґі пацяклі па шыбах.* Дзяніскавічы Ганц., Вялікія Баяры Шчуч. *Раґі на акне.* Руднікі Шальч. *Раґі на вокнах пацяклі.* Стракішкі Трак. 3. Пацёкі на дзвярах пасля іх афарбавання. *Раґі пацяклі па дзвярах, палосы ўсялякія, як красяць.* Беняконі Воран. 4. Брудныя плямы. *Раґі на бялізне, як без мыла мылі.* Вялікія Баяры Шчуч. *Бялізна нячыста памыта, на ей ест раґі.* Гемзы Шальч.; *параўн.* літ. *rãgės* 'пацёкі'.

РАГО'ЖА I *ж. бат.* Рагоз. *Рагожа расце ў лужку ў глыбокім, на ёй катакі чорныя.* Дзяніскавічы Ганц.

РАГО'ЖА II *ж.* Грубая посцілка. *Накрылі грубай рагожай.* Талейкі Швянч.

РАГО'ЖКА *ж.* Мачалка з лубяных палосак. *Вазьмі рагожку дзярушчую.* Крэва Смарг.

РАГО'ЙШ, РАГО'ЙШ, РАГО'ЙЖ *м. кулін.* Скавароднік. *Рагойш з хлебнага цеста пяклі, ён збоку сядзіць, такі нізенькі.* Новікі Гродз. *Раґойшы пяклі: мукі, канюшыны галоўкі дабавяць, у печы пяклі, баханкі маленькія.* Старыя Трокі Трак. *Раґойш пяклі з грачанай мукі, на малацэ квасным.* Кудзялянцы Шальч. *Раґойжы пяклі.* Руднікі Шальч.; *параўн.* літ. *ragaĩšis* 'тж'.

РАГО'ЙШЫЛА *м* і *ж. абразл.* Няўдаліца. *Раґойшыла ты!* Граўжышкі Ашм.; *параўн.* літ. *rãgas* 'рог'.

РАГУ'ЛЬКА *ж.* Карова з вялікімі рагамі. *Рагулька — карова, у яе вялікія рогі.* Кудзялянцы Шальч.

РАГУ'ЛЬКІ I толькі *мн.* Наморднік з цвікамі (для маладых цялят). *Рагулькі надзяюць цялятам, каб не ссалі кароў. Як цялёнак ужо ладны, прылабуніцца ссаць, а рагулькі не даюць ссаць.* Азяраны Раг.

РАГУ'ЛЬКІ II *мн. бат.* Рагулькі. *Рагулькі — сінія кветкі па жыці растуць, ат колаці збіраюць.* Жылі Іўеў.

РА'ҐУЦІ *мн.* 1. Дзве жэрдкі, змацаваныя папярочнай планкай, якія кладуцца на сані. *Раґуці накладаюць на сані, каб лепей было ехаць.* Ністанішкі Смарг. 2. Шырокія сані. *На раґуцях зімой ездзім, а летам — калёсамі.* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. дыял. *rãgutės* 'сані'.

РА'ҐУЦЬКІ *мн. памянш.* да р а́ ґ у ц і 2. *Раґуцькі — сані такія.* Малькуны Ігн.

РАД *м.* 1. Рад. *Два рады займалі мае дзеці, як кіно глядзелі.* Ухвала Круп. *Шэсць радоў зубоў у шчукі.* Валеўка Навагр. 2. Пракос. *Як скасіў сена, то гэта рад.* Дзяніскавічы Ганц.

РА'ДА *ж.* Парада. *Бацька хазяйство вядзець, але без рады ён нічога не рабіў бы.* Быстрыца Астр. *Самі з сябе без рады нічога не дзелалі.* Руднікі Шальч. ◇ *Даць рады* — параіць. *І людзі не далі рады.* Саланое Віл. *Ляжыць гола, ні дам рады.* Галубы Маст. *Плач, галасі, а рады не дасі.* Вузла Мядз. *Дакторка рады не дась.* Кіралі Шчуч. *Я бы даў ім рады.* Гемзы Шальч. *Рады німа* — немагчыма справіцца з кім-н., чым-н. *Куры бульбу лупяць — рады німа.* Вузла Мядз. *Як мухіналяцяць, то рады німа.* Чапаеўскі В.-Дзв.

РАДАБО'ДЗІНА, РАДАБО'ЦІНА *ж.* Рэдкае, няякасна вытканае палатно. *Наткала нейкай радабодзіны.* Дакудава Лід. *Радабоціна — палатно.* Дзяніскавічы Ганц.

РАДАБО'ЗЗЯ *н.* Тое ж, што і р а д а б о́ д з і н а. *Радабоззя на воркі ткуць рэдзінькія.* Солы Смарг. *Адно радабоззя ў гардзінах.* Азяраны Раг.

РА'ДАВАЦЦА *незак.* Радавацца. *Гэты абяшчая, а ён радуецца.* Солы Смарг. ∇ *Не радуйся чужой бядзе, бо свая прыдзе.* Вузла Мядз.

РАДАВО'Я *н.* Пачаскі. *З радавога ччом палаценца.* Малахоўцы Бар.

РА'ДАСЬ, РА'ДАСЦЬ *ж.* Радасць. *Радась бацькам: сын прыехаў.* Асавец Віл. *Радась у мяне: сын прышоў з войска.* Ністанішкі Смарг. *Даўней анучкі белыя, лапці новыя — во радасць!* Латыгаль Віл.

РАДЖА'ЦЬ *незак.* Нараджаць. *Па дванаццаць, па васімнаццаць дзяцей раджалі.* Старыя Смільгіні Воран. *Я ні разу ў бальніцы не была, кромі як дзяцей раджала.* Малі Астр.

РАДЗЕ'ЙШЫ *прым. выш.* Больш рэдкі. *Адна шчэтка гусцейшая, другая радзейшая.* Дзераўное Стаўб. ∇ *Чым гось радзейшы, тым даражэйшы.* Вузла Мядз.

РА'ДЗІ, РА'ДІ *прыназ.* з *род.* 1. З прычыны. *Усе гавораць, што бульбу не будуць садзіць радзі жукоў.* Бакшты Іўеў. 2. Дзеля. *Раді его поехав до места.* Курашэва Чыж.

РА'ДЗІВО, РА'ДЗІВА, РА'ДІВО *н.* Радыё. *Мой брат радзіст быў. У хаце пад падлогай устанавіў радзіво.* Дарасіно Слуц. *Я коўдрай накрыюся і слухаю радзіво.* Дзераўное Стаўб. *У радзіва так хораша піяюць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Яе добра слухаць у радзіва.* Саланое Віл. *Забыла сваго радзіва закрыць.* Баброўнікі Гарад. *Послухай, што в радіві говорат. Тэпэр радівуов много в сэле.* Курашэва Чыж.

РАДЗІВО'ЛА *ж.* Радыёла. *Ён радзіволы пачыняець.* Старыя Смільгіні Воран.

РАДЗІКУЛІ'Т, РАДУКУЛІ'Т *м. мед.* Радыкуліт. *Дзядоўнік ад радзікуліту.* Юркава В.-Дзв. *Яму радзікуліт сільны.* Ністанішкі Смарг. *Радукуліт меня мэнчыў.* Гемзы Шальч.

РАДЗІКУ'ЛЬ *м.* Жаночая сумка. *Радзікуль — гето торба такая, з якою ходзяць дзяўчата.* Баброўнікі Гарад.; *парайн.* франц. *ridicule* 'тж'.

РАДЗІ'МАЯ ЗАМЕ'ТКА *ж.* Радзімка. *У яго радзімая заметка на правай руцэ.* Ракаўскія Швянч.

РАДЗІ'МІЦА *ж.* Тое ж, што і радзімая заметка. *Радзіміца бывает на руках, па целе.* Рагулішкі Даўг.

РАДЗІ'МКА *ж.* Тое ж, што і радзімая заметка. *Радзімкі на руках.* Валеўка Навагр.

РАДЗІ'МЫ ЗНА'К *м.* Тое ж, што і радзімая заметка. *У нас такія пятны радзімы знак завуць.* Вузла Мядз. *У многіх ест радзімы знак, а ў каго наверху — той шчаслівы чалавек.* Кіралі Шчуч. *Радзімы знак усюды: на плячох, на жываце.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Радзімы знак на плечах.* Лука Нараўк. *Знак радзімы ў мяне.* Дзяніскавічы Ганц. *Усё ліцо ў радзімых знакох.* Малі Астр.

РАДЗІ'НА *ж.* 1. *зб.* Радня, сваякі. *Сабралася цэлая радзіна, калі ўсе родныя з'ехаліся.* Ёдлавічы Брасл. *Уся мая радзіна.* Саланое Віл. *Яна ніхарошай радзіны.* Кудзялянцы Шальч. 2. Сям'я. *Была вялікая радзіна.* Старыя Трокі Трак.; *парайн.* польск. *rodzina* 'сям'я'.

РАДЗІ'НЫ толькі *мн. абрад.* Святкаванне нараджэння дзі-

цяці. *Дайней прыдуць бабы ў атведзіны і спраўляюць радзіны.* Кіралі Шчуч. ◊ *Піць радзіны* — святкаваць радзіны. *Радзіны пілі.* Дакудава Лід. *Яна радзіла — будзем вечарам радзіны піць.* Збляны Лід.

РАДЗІ'НЫ ЗНАК *м.* Тое ж, што і р а д з і́ м а я з а м е́ т к а. *Радзіны знак у яе.* Жылі Іўеў.

РАДЗІ'ХА *ж.* Парадзіха. *Радзіха — катора родзя дзіця.* Солы Смарг. *Радзіха нарадзіла дзяцёнка — у атведзіны ідуць.* Ракаўскія Швянч. *Радзіха з малым.* Грыкені Вільн. *У радзіхі бапка прымала дзіця.* Крэва Смарг. *Бапка прымала дзіця ад радзіхі.* Старыя Трокі Трак. *Ужо радзіху пашлі глядзець.* Магуны Паст.

РАДЗІ'ЦЕЛІ толькі *мн.* Бацькі. *Як мае радзіцелі ўвідзелі, што ногі рассечаны, то памлелі.* Кемялішкі Астр. *Твае радзіцелі здаровыя?* Буйвіджай Вільн.; *параўн.* руск. *родители* 'тж'.

РА'ДЗІЦЦА *незак.* Раіцца. *Цяпер з бацькамі не радзяцца, ідуць так замуш.* Ракаўскія Швянч. *Пашлі радзіцца, што рабіць.* Кудзялянцы Шальч.

РАДЗІ'ЦЦА *зак.* 1. Нарадзіцца. *Дайна ніхто не знай, хто калі радзіўся, а цяпер дні нараджэння спраўляюць кожны год.* Вузла Мядз. *Дзе ты радзіўся?* Латыгаль Віл. *Какім я радзіўся, такім і ўмру.* Ахрэмаўцы Брасл. *А бывае немы і сляпы радзіцца.* Парэчча Гродз. ∇ *Ні радзіся краснай, а радзіся шчаснай.* Солы Смарг. *Што ў лесі родзіцца, тое дома згодзіцца.* Кураполле Паст. *Калека не родзіцца, а робіцца.* Вузла Мядз. 2. З'явіцца. *Як родзіцца маладзік, так рошкі ўверх.* Магуны Паст.

РА'ДЗІЦЬ *незак.* 1. Раіць. *Мне ні радзяць яе браць.* Альхоўка Навагр. *Яна мне радзіла.* Граўжышкі Ашм. 2. Спраўляць. *Ён зарабляў і радзіў радзіны.* Мсцібава Ваўк.

РАДЗІ'ЦЬ I, РОДЗІ'ЦІ, РОДЫ'ТЫ *зак.* і *незак.* 1. Нарадзіць. *Восім хлопцаў радзіла.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Старшого сына радзіла тры дне.* Валеўка Навагр. *Тоўстая баба, скора родзіць ужо.* Збляны Лід. *Калі ў посце жэншчына радзіла, не давалі ей есці жырнае, толькі посная.* Навасёлкі Свісл. 2. Урадзіць. *Жыта як родзіла, у арудзі сыпалі.* Саланое Віл. *Тыя гады цыбуля добра радзіла.* Лісна В.-Дзв. *Як сталі лубін сеяці, жыто стало родзіці.* Смаляніца Пруж. *На новыне жыто ростэ добрэ, родыт.* Горск Бяроз. 3. Весціся. *Дзядуню пшчолы радзілі, яны яго не кусалі.* Солы Смарг.

РАДЗІ'ЦЬ II *незак.* Прарэджваць. *Лес радзяць чэрас сасоначку, адну пакідаюць, дзве зразаюць.* Ністанішкі Смарг. *Нада радзіць кусты.* Ахрэмаўцы Брасл.

РА'ДЗІЯ *н.* Тое ж, што і р а́ д з і в о. *Паслухаяш праз радзія, якія піесы строяць.* Магуны Паст.

РАДЗЬ *ж.* Столка. *У дзве радзі злажыў сукно.* Беразіно Докш. *Марля ў дзве радзі.* Палік Барыс.

РАДЗЬКО'ЎНІК *зб. м.* Націна рэдзькі. *Радзькоўніку нада наламаць і нарэзаць ахрап'я.* Кураполле Паст.

РАДЗЮ'ГА *ж.* Дзяруга. *Радзюга з грубых нітак.* Валеўка Навагр.

РАДЗЮ'ШКА, РАДЗЮ'ЖКА *ж.* 1. Тое ж, што і р а д з ю г а. Крэва Смарг. *Вазьмі радзюшку насіць зелле.* Галубы Маст. *Радзюшку пакуль вымаяш.* Навасёлкі Свісл. *Рой абярэш у рэшато і радзюшкай накінеш.* Мсцібава Ваўк. *На ложку радзюшке выткала ў шэсць нічальніц.* Бброўнікі Гарад. *Радзюшкі пудбівалі пакуллем.* Лука Нараўк. *Зельё радзюжкай насілі.* Старое Сяло Зэльв. 2. Гунька. *Падай радзюшку каня накрыць.* Баброўнікі Гарад.

РА'ДІ *гл.* РА'ДЗІ

РА'ДІВО *гл.* РА'ДЗІВО

РАДНЕ'Й *прысл.* Раней. *Радней вышаў.* Міратычы Карэл.

РАДНЕ'ЙШЫ *прым. выш.* Больш родны. *Як бяднейшая нявестка, то толькі раднейшых дарыла.* Вузла Мядз.

РА'ДНІ *прым.* Ранні. *Радня бульба.* Альхоўка Навагр.

РАДНІ'НА *ж.* Грубае даматканае палатно. *Радніна з групшага лёну, с камлёў. З раднін рэдка шылі посцілкі, мыцьбыло цяжка.* Магуны Паст.

РАДНІНО'ВЫ *прым.* Зроблены з грубага палатна. *Посцілка радніновая.* Магуны Паст.

РАДНО' *н.* 1. Атрэп'е. *Як трапаеш — атходзіць радно.* Рудня Чэрв. 2. Тое ж, што і р а д а б о́ д з і н а. *Таўстоя рэдкая палатно называецца радно.* Рудня Чэрв. 3. Тканіна з рыззя. *Калісь з кавалкаў палатна ткалі радно, ходнікі, з рознага калёру шматкоў.* Баброўнікі Гарад. 4. Посцілка. *Накрываліся радном.* Васілевічы Гродз., Мсцібава Ваўк. *Колісь накрываліся нэ одіялом, але радном.* Курашэва Чыж.

РАДНЫ' *прым.* Родны. *Два радных браты былі.* Ахрэмаўцы Брасл.

РАДНЯ', РАННЯ', РО'ДНЯ *ж.* Тое ж, што і р а д з і н а 1. *У нас мала радні.* Ёдлавічы Брасл. *Дзе якая радня — усюды яна абойдзіць.* Груздава Паст. *Як многа радні — велькі род.* Альхоўка Навагр. *Жаднай радні нет.* Стральцы Шальч. *Многа было радні на вэсэлі.* Старыя Трокі Трак. *У радні з ім добра жыць.* Малі Астр. *Акрома радні, у нас нікога на свадзьбі нет.* Буды В.-Дзв. *Да ранні прыстаніць.* Саланое Віл. *У мэнэ родне нэма.* Смаляніца Пруж. ∇*А якая тут ужо радня: пень гарэў, чорт задніцу ня грэў, а як бліжэйшая радня — чорт задніцу пагрэў.* Груздава Паст.

РАДНЯКІ' *мн.* Тое ж, што і р а д з і н а 1. *Мае раднякі там жывуць.* Старыя Трокі Трак.

РАДНЯ'НЫ *прым.* Тое ж, што і р а д н і н о́ в ы. *Пан красівого мушчыну одэне ў радняну світку і жэніў, катора плохая дейка.* Азарычы Пін.

РАДО'ВАЧКІ *мн. памянш.* да р а д о́ ў к а II. *Радовачкі сівенькія добра саліць.* Завельцы Астр.

РАДО'К *м. памянш.* да р а д 1. *Радкоў чатыры ці пяць.* Дзяніскавічы Ганц.

РАДО'М *прысл.* Побач. *Радом ставяць.* Дакудава Лід.

РАДО'ЎКА I, РАТО'ЎКА *ж.* 1. Чарга пасвіць кароў. *А ўжо радоўка ідзець.* Дуброўкі Брасл. *Радоўку атпасалі.* Рудня Чэрв. *Скора прыдзя радоўка да нас.* Багушэвічы Бярэз. *Як радоўку адбыць?* Беразіно Докш. *Радоўка ідзе, трэба гнаць у поле.* Альхоўка Навагр. *Дзве радоўкі атпасуць, бо двоя пасуць.* Збляны Лід. *Ратоўкі атпасваю кароў.* Пацаўшчына Дзятл. 2. Чарговае ўтрыманне нанятага пастуха жыхарамі вёскі. *Пастух па радоўцы ідзе.* Рудня Чэрв. *Пастыр хадзіў па радоўца.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Кармілі пастуха па радоўцы.* Ёдлавічы Брасл.

РАДО'ЎКА II *ж. бат.* Радоўка (грыб). *Радоўкі растуць радамі.* Солы Смарг. *Радоўкі збіралі, клалі ў цэбар і вадой налівалі, яны кіслі без солі.* Вузла Мядз. *Радоўкі недзе пад восень бяром.* Мачаск Бярэз.

РАДРО'М *м.* Аэрадром. *А самалётаў дык шмат ляцела, і пушкі стралялі, адзін самалёт дык збілі, упаў прама на радром.* Багушэвічы Бярэз. *На радроме самалёты.* Рудня Астравітая Чэрв.

РАДСТВО' *н.* Тое ж, што і р а д н я́. *Радство папрыязджала к нам усё.* Валеўка Навагр.

РА'ДУГА, РА'ДУХА *ж.* Вясёлка. *Радуга на небе.* Старое Сяло Зэльв. *Радуха і тэнча — тое ж самае.* Галубы Маст.

РАДУКУЛІ'Т гл. РАДЗІКУЛІ'Т

РА'ДУХНА *ж.* Парада. *Пайду к маццы на радухну.* Якубова Рас.

РА'ДУШКАМ *прысл.* Побач. *Я жыла радушкам з імі.* Вецярэвічы Пух.

РАДУ'ШКІ, РУДУ'ШКІ *мн. бат.* Лісічкі. *Радушкі — то грыбы.* Галоўні Воран. *Рудушкі не бываюць чарвівыя.* Жылі Іўеў. *Рудушкі і лісічкі — адно і тое.* Быстрыца Астр.; *парайн.* літ. *ruduškà* 'лісічка'.

РАДЧА'НЫ *дзеепрым.* Прарэджаны. *У Высканніцы высокі лес, радчаны.* Беразіно Докш.

РАДЧУ'ХА *ж. ткац.* Дапушчаная памылка пры ўвядзенні асновы красён у бёрда. *Раз я вырэзвала кросна, бо накідала радчуху, і трэ нанава накідаць, каб добро было.* Дзяніскавічы Ганц.

РАДЧЭ'Й *прысл.* Свабадней. *Сталі разбудоўвацца, на футары павыходзілі, радчэй стала ў вёсцы.* Васілевічы Гродз.

РА'ДЫ *прым.* у знач. *вык.* Які задаволены. *Людзі страдалі, галадалі, рады былі перапечку з'есці.* Рыбчына Віл. *Я рада, што сабрала ягад, усё ш дзень не прайшоў дарма.*

Лісна В.-Дзв. *Як немцы стаялі, гора было, людзі не рады былі дню.* Кузьмічы Люб. *Я гэтым рада, што сама магу пісаць.* Кураполле Паст. *Баляць ногі, як прайду, дык рада, каб дзе сесці.* Груздава Паст. *Дзеці радыя хлебам.* Старыя Трокі Трак. ◊ *Чым багаты, тым і рады.* Лісна В.-Дзв.

РАДЫ′ I толькі *мн.* Гадавыя кругі на рагах у каровы. *Сколькі цялят, столькі радоў.* Крэва Смарг. *Рады на рагах у каровы, сколькі радоў, столькі цялят.* Мельнікі Лудз.

РАДЫ′ II толькі *мн.* Роды. *З радоў матка памёрла.* Валынцы В.-Дзв. *Патугі пры радах бяруць.* Рудня Астравітая Чэрв.

РАДЫ′СА *ж.* Радыска. *Радыса як абышла, так і стаіць.* Крэва Смарг.

РАДЭ′ЙКА *ж. памянш.* да р á д з і в о. *Ходзіць ён з радэйкай.* Жылі Іўеў.

РАЕ′ЛЬНІК *м.* Прыстасаванне для лоўлі пчалінага рою. *У раельнік збіраюць рой.* Масілавічы Сл.

РАЕ′ЎНІЦА *ж.* Тое ж, што і р а е́ л ь н і к. *Раней называлі раеўніца, а цяпер — лупка.* Граўжышкі Ашм. *Рой збіралі ў раеўніцу.* Груздава Паст.

РАЁК *м. абрад.* 1. Дажыначная песня. *Раёк пiялі, як дажыналі жыта.* Янова Рас. *Я піяла райкі, ідуць з райком. Ішоў раёк дарогаю, нашоў двары цысовыя, а уліцы мяцёныя, зайшоў раёк у наш дварок.* Ахрэмаўцы Брасл. *Раёк спявалі, як жыта дажыналі, бабы ішлі і хараша спявалі.* Ёдлавічы Брасл. 2. Пучок нязжатага жыта на полі, убраны кветкамі. *Збіраем каласкоў, звязваем з цвятамі раёк і пяём: «Рада, рада баба, што лета даждала, што жыта пажала».* Індра Красл.

РАЁЎКА *ж.* Тое ж, што і р а е́ л ь н і к. *З карыны ліпавай рабілі раёўку.* Саланое Віл.

РАЁЎНІК *м.* Тое ж, што і р а е́ л ь н і к. Мярэцкія Глыб.

РАЁЎНЯ *ж.* Тое ж, што і р а е́ л ь н і к. *У раёўню садзілі пчол.* Лісна В.-Дзв., Мярэцкія Глыб.

РАЁШКІ. У выразе: *У раёшкі* — поўна, даверху. *У раёшкі набрала вядро, брусніц натта многа.* Лісна В.-Дзв.

РАЖАДА′ *ж.* Апельсінавы напітак. *Ражада — сітро такое.* Старыя Трокі Трак.; *параўн.* польск. *oranżada* 'тж'.

РАЖА′НЕЦ *гл.* РУЖА′НЕЦ

РАЖАСТВО′, РАЖДЖАСТВО′ *н. рэліг.* Каляды. *Ражаство зімой.* Опса Брасл. *Куцця посная перат ражаством.* Індра Красл. *На ражаство спяваюць калядныя песні.* Бяброўнікі Гарад. *Ражджаство перад Новым годам.* Ухвала Круп.; *параўн.* руск. *рождество* 'тж'.

РА′ЖАЧКА, РЯ′ЖЕЧКА *ж. памянш.* Невялікая дзежачка. *Даўней была ражачка на раўгенню.* Кураполле Паст. *Ражачча з клёпкаў была, блінцэ рашчыняць.* Кіралі Шчуч. *Ражачка была з ручкай.* Навасёлкі Лід. *Ражачкі ў нас звалі, дзе сала*

*таплёнае.* Індра Красл. *Былі дзірывянныя чысценькія ряжечкі і крышачкі падзеланыя.* Мішневічы Шум.

РАЖГЕ'РЫЦЬ *зак. экспр.* Расставіць. *Ногі ражгерыць і стаіць.* Валынцы В.-Дзв.

РАЖДЖАСТВО' *гл.* РАЖАСТВО'

РАЖДЖЭ'ННЕ, РАЖДЖЕ'НЕ *н.* Дзень нараджэння. *На ягоным ражджэнні больш часці піялі песні, як з радзіва.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Як быў дзень яго ражджэння, унука адпусцілі да бабулі.* Скрыпчына Лудз. *Да яго раждженя ўсё расло.* Ахрэмаўцы Брасл.

РА'ЖКА, РА'ШКА, РЯ'ШКА *ж.* Цэбар. *Ражка з клёпак.* Беразіно Докш. *У рашку сабіралі малако.* Лісна В.-Дзв. *Калі карова доіцца, збіраюць малако ў рашку.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Рашка з двума вушкамі.* Старыя Трокі Трак. *Рашка нізенькая, шырокая і круглая.* Судэрва Вільн. *Ряшка меншая за шайку.* Янова Рас.

РАЖО'К *м. бат.* Спарыння. *Ражкі ў жытнім коласе.* Ухвала Круп.

РАЖО'Н *м.* 1. Вострая палка. Альхоўцы Лях. *Прабіў нагу на ражон.* Жылі Іўеў. *Ражон — кавалак, палка острая.* Паляцкішкі Воран. *Ражон — калочак гостры.* Груздава Паст. *Ражон — вострая палачка, сала пяклі.* Старыя Трокі Трак. 2. Кол. *Калубель, а на полі тры ражнэ, акруцяць дзярушкаю, дзіця добра спіць.* Міратычы Карэл. 3. Дзяржанне. *Качарга на ражне, і бывае ражон без жалеза.* Масілавічы Сл. 4. Стрэмка. *Ражон пад пазногаць загнаў.* Магуны Паст. *Ражон загнала ў паліц.* Курополле Паст. *Ражон загнаў у паляц.* Быстрыца Астр. *Ражон загнаў.* Солы Смарг. *Ражон улезіць у палец, у падэшву, трэба будзя выбраць ражон, а то будзя нарываць.* Малькуны Ігн. *Ражон загоніш, ня выцінішся, так ён нарываіць.* Ракаўскія Швянч. 5. Стрыжань пяра птушкі. *Ражнэ пер'я ў печку кідалі.* Парэчча Гродз. *Ражон ад пер'я.* Кіралі Шчуч. 6. Шост. *На ражон павесілі кілбасы.* Мсцібава Ваўк. 7. Сцябло. *Усе лісты абсыпаліся, адны ражны стаялі на картоплі.* Вецярэвічы Пух. *Ражон цыбулі, ражны цыбулі абдзёртыя.* Паляцкішкі Воран. *Жукоў было многа, пааб'ядалі ўсе лісты, толькі ражны асталіся.* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. *rãžas* 'сухі прут, сцябло'. ◇ *Лезці на ражон* — рабіць што-н. рызыкоўнае. *Не лесь на ражон, еслі апасна, то не сунься.* Малі Астр. *Не лезь на ражон.* Ёдлавічы Брасл.

РАЖО'НЧЫК, РАЖЭ'НЧЫК *м.* 1. *памянш.* да р а ж о́ н 1. *Вазьмі ражончык з веніка.* Альхоўцы Лях. 2. *памянш.* да р а ж о́ н 4. *Ражончык загнаў ад саломы ці ад дзерава.* Граўжышкі Ашм. 3. *памянш.* да р а ж о́ н 5. *Ражэнчык ад пяра.* Малі Астр.

РАЖО'ЧАК *м. памянш.* Рог (хусткі). *На ўсе плечы загортвай, на роўныя ражочкі хустку.* Пацаўшчына Дзятл.

РАЗ I *прысл.* Аднойчы. *Раз тры карпы злавіў.* Солы Смарг. *Я раз была купіўшая.* Ахрэмаўцы Брасл. *Аднаго разу, я помню, прыехаў сват.* Саланое Віл. *Я раз сабе так падумала.* Васілевічы Гродз.

РАЗ II, РАС у знач. *ліч.* Раз. *Даўней у год рас хлеб белы елі. Яна была два рас замуш вышла.* Івашкаўцы Смарг. *Аднаму валакну нада сто рас пакланіцца: лён рвуць, сцелюць, мнуць, трэплюць, прадуць, ткуць.* Валынцы В.-Дзв. *Я рас ехала санямі.* Бабро ўнікі Гарад. ◇ *Раз-параз* — зноў і зноў. *Паля і паля пярун, раз-параз страляе.* Солы Смарг. *На раз аблізаць* — малы. *Якая ваша нявестка? Ат, няма чым хваліцца, на раз аблізаць.* Раўбічы Мін.

РАЗ III, РАС *злуч.* Калі. *Раз табе ў модзі яна, то бяры яе.* Вузла Мядз. ∇ *Рас ня можаш піць, то не трэба табе жыць.* Груздава Паст.

РАЗАБРА'ЦЦА *зак.* 1. Высветліць. *Дзякуй, разберымся патом.* Ахрэмаўцы Брасл. *Хто там разберыцца?!* Саланое Віл. 2. Распрануцца. *Разбяромся ў лазні і мыемся.* Старыя Смільгіні Воран. ∇ *З ім разбяруся, як повар з бульбай.* Малі Астр.

РАЗАБРА'ЦЬ *зак.* 1. Разбурыць. *Нідаўна дачка разабрала той дом.* Пацаўшчына Дзятл. *Іван разабраў кафлі.* Валеўка Навагр. 2. Разблытаць. *Круцялі разберым.* Магуны Паст. 3. Раскупіць. *Ці разберуць хлеб у магазіне?* Лісна В.-Дзв., Груздава Паст. 4. Высветліць. *Разбераш ты сам і ка мне не вяжыся.* Валынцы В.-Дзв. *Яго матка маёй маткі свякроў была, вот і разбярыця вы.* Граўжышкі Ашм.

РАЗАГНА'ЦЬ *зак.* Прагнаць. *Усіх разагнаў.* Гальшаны Ашм.

РАЗАДЗЕ'ТЫ *дзеепрым.* Добра апрануты. *Раньшэ памешчыцкая дачка так не разадзетая была.* Паплавы Бярэз.

РАЗАДМУ'ЦЦА *зак.* Апухнуць. *Ад казлоў, як натрэш, разадмецца нага.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

РАЗАДРА'ЦЬ *зак.* 1. Параніць. *Як раздзерэш нагу ці руку, крываўнік прылажы — і ня будзя ісці кроў.* Малі Астр. 2 *с.-г.* Узараць цаліну. *Разадралі сенакос — і поле стала.* Лапічы Асіп.

РАЗАЗНА'ЦЦА *зак.* Пазнаёміцца, даверыцца. *Разазнаўся ён з тымі суседамі, давай вараваць і да тых насіць.* Новікі Гродз.

РАЗАЙСЦІ'СЯ *зак.* Растапіцца. *Масла разайшлося.* Асавец Віл.

РАЗА'К I *м. бат.* 1. Разак. *Разак — рачная трава, падобная да альясу.* Рудня Астравітая Чэрв. *Разак — трава на возеры.* Паляцкішкі Воран. *Разак — трава ў возеры, калючая, зупкі ёсць.* Дакудава Лід. *Разак пры вадзе расце, ногі рэжа.*

Старыя Трокі Трак. *Разакі растуць каля вады, як альвас.* Кураполле Паст. 2. Асака. *Разак — асака буйная.* Жылі Іўеў. *У лузе разак расце.* Дзяніскавічы Ганц. *Як шарпанеш рукой, так разак і парэжа.* Глівін Барыс. *Разак, як асака.* Беразіно Докш. *Разак быў — сена дзікае, можна рукі парэзаць.* Пацаўшчына Дзятл.

РАЗА'К II *м.* 1. Прыстасаванне для рэзання сечкі. *Разак— чым сечку рэзалі.* Галубы Маст. *Разак — рэзаць сечку.* Жылі Іўеў. 2. Нож у сячкарні. *У сечкарні ўстаўлялі разака і резалі сечку.* Баброўнікі Гарад. 3. Палазок у плузе. *Разак да плуга.* Ахрэмаўцы Брасл. *Разак — штобы не снашываўся плуг.* Пасіене Лудз. 4. Козлы. *На разаках рэжуць дровы.* Міратычы Карэл.

РАЗА'К III *м.* Моцны вецер. *Разак — сільны вецер, разак рэжа.* Азяраны Раг.

РАЗА'ЛЯ *ж. кулін.* Страва, прыгатаваная з тоўчанай бульбы і цыбулі. *Да картоплі разатром цыбулю, ульем вадэ, солі і ямо — называецца разаля.* Кіралі Шчуч.

РА'ЗАМ, РА'ЗО'М *прысл.* 1. Сумесна. *Будзем жыць разам.* Паляцкішкі Воран. *Мы разам з ей свіні пасцілі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Разам полім буракі.* Малькуны Ігн. *Як началася вайна, жывём разам чатыры сястры.* Ністанішкі Смарг. *Во гэта ўсё разам — клямка.* Збляны Лід. *Жывэ разо́м з родом.* Смаляніца Пруж. *Усе разо́м пашлі.* Крынкі Крын. 2. Аднначасова. *Як усе работы разам збяруцца — гарача пара.* Збляны Лід. 3. Разам. *Нэкрасіво ідэ, ра́зом пйаты.* Смаляніца Пруж.

РАЗАПНУ'ЦЦА *зак.* Расцягнуцца. *Скура на венах разапнецца.* Быстрыца Астр.

РАЗАРВА'ЦЦА *зак.* Парвацца. *Як шалелі мы, вухо разарвалася, у вухе завушніца была.* Валеўка Навагр.

РАЗАРВА'ЦЬ *зак.* Парваць. *Разарваў я ўсе мяшкі.* Урбаны Брасл. ▽ *Усё табе мала, каб цябе разарвала!* Малі Астр. ◇*Разарваць мыслі* — развеяцца. *Хаджу, спяваю, каб развеяцца ад мыслей, разарваць сваі мыслі.* Солы Смарг.

РАЗАСЛА'ЦЬ *зак.* 1. Разаслаць. *Пранікам выпраць палатно і разаслаць на лонку нада.* Грыкені Вільн. *Расцялю адзёжу.* Пдябанцы Ашм. *Куль саломы рассцеліць і гэдак спіць.* Пацаўшчына Дзятл. 2. Размеркаваць. *Па хазяінах пленых разаслалі.* Швэды Вільн.

РАЗБАДЗЯ'ЦЦА *зак. экспр.* Разбэсціцца. *Разбадзяўся — і яго жонка прагнала.* Валынцы В.-Дзв.

РАЗБАЗУ'ЛІЦЦА *зак.* 1. Раздурэцца. *Разбазуліліся дзеці.* Стральцы Гродз. 2. Панадзіцца, звыкнуць. *Разбазулілася наша карова, у картофлю лезе, трэба даць ей акладны.* Мсцібава Ваўк.

РАЗБАЗУ'ЛІЦЬ, РАЗБЯЗУ'ЛІЦЬ *зак.* Разбалаваць. *Раз-*

*базулілі дзяцей, лезе да цябе, вочы дзярэ, робіць, што хоча.* Мсцібава Ваўк. *Разбязуляў хлапец ды бегае па хаці.* Азяраны Раг.; *гл.* бязўляць.

РАЗБАЗЫРЭ'ЦЬ *зак.* Раздурыць. *А цяпер свінней людзі разбазырэлі, і скот разбазырэў — і ўсё не так, ня ў лат, ня есць.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

РАЗБАЛТА'ЦЬ *зак.* 1. Расхістаць. *Кол разбалталі.* Ёдлавічы Брасл. *Трэба слуп разбалтаць і тады выцягнуць з зямлі.* Гемзы Шальч. 2. Размяшаць. *Мукі жытняй разбалтай.* Быстрыца Астр.

РАЗБАРАНАВА'ЦЬ *зак.* Разраўняць, раздрабніць. *Трудна разбаранаваць гэтыя брылы.* Гемзы Шальч.

РАЗБЕ'РЫЦЬ *зак.* Адрозніць. *Не разберыш мухамор ад валуя.* Пасіене Лудз.

РАЗБІВА'НКА *ж. кулін.* Амлет. *Разбіванка — яешніца з мучыцкай, разбіваная.* Навікі Лудз.

РАЗБІВА'ЦЬ, РОЗБІВА'ЦІ, РОЗБЫВА'ТЫ, РОЗБЫВА'ТЭ *незак.* Растрасаць. *Трэба разбіваць пакосы.* Лісна В.-Дзв. *Пакосы разбіваць нада.* Груздава Паст. *Трошкі сена разбівала.* Багушэвічы Бярэз. *Яна будзе сено тое разбіваць.* Валеўка Навагр. *Сена разбіваюць, патом варочаюць, у кучу кладуць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Сена разбіваюць, а патом варушаць.* Малахоўцы Бар. *Трэба гной разбіваць.* Кіралі Шчуч., Беразіно Докш., Збляны Лід. *Навоз разбіваць.* Мішневічы Шум. *Віламі разбівалі гной.* Галубы Маст. *Возят гной, бабы ёго розбывалі.* Горск Бяроз. *Гный розбываімо.* Дзмітравічы Кам.

РАЗБІРА'ЦЬ *незак.* 1. Разбіраць (тушу). *Свіню закалолі, тады разбіраюць: ногі на квашаніну, кішкі наліваюць, кумпякі соляць.* Старыя Трокі Трак. *Разбірай барана.* Пацаўшчына Дзятл. *Трэбо разбіраць свінню.* Баброўнікі Гарад. 2. Разбураць. *Хату ўзяліся разбіраць.* Кіралі Шчуч. 3. Слаць пасцель. *Разбірай ложка ды кладавіся.* Мсцібава Ваўк.

РАЗБІТНЫ' *прым.* Лоўкі. *Не разбітны чалавек, вяплаваты.* Малі Астр.

РАЗБІ'ЦЦА *зак.* Забіцца насмерць. *Зваліўся з крышы і разбіўся.* Малі Астр.

РАЗБІ'ЦЬ *зак.* 1. Растрэсці. *Навозу кучу трэба разбіць.* Кіралі Шчуч. *Гной вывезлі, разбілі і садзім картошку.* Малышы Лід. *Разбіць нада пракосаў пяць.* Рагулішкі Даўг. 2. Размяшаць, разбаўтаць. *Не разбіў жоўткоў.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Разаб'еш яйко, разам жаўток і бялок, на патэльню — і жарыш грыбок.* Солы Смарг. *Крахмал разбівалі на вадзе.* Валынцы В.-Дзв. *Разбівалі крахмал і бліны пяклі.* Вялікае Сяло В.-Дзв. 3. Раздзяліць. *Разбіў быў хутар на троі гоняў.* Мсцібава Ваўк. 4. *перан. экспр.* Наесці (пра жывот). *Жывот разбіў такі, што вецер дуне — не паляціш.* Пацаўшчына Дзятл.

РАЗБЛЁНТАЦЬ *зак.* Разблытаць. *Асыпаўся пачынак, не разблёнтаю.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* польск. *rozplątać* 'тж'.

РАЗБЛІ'ЗНІЦЦА *зак.* Расплакацца. *Што ты разблізніўся?* Дакудава Лід.

РАЗБО'ЎТАЦЬ *зак.* Раскалаціць. *Разбоўтала бліноў і хутка іх папякла.* Пацаўшчына Дзятл.

РАЗБРУ'ІЦЬ *зак.* Непамерна павялічыцца. *Разбруе жывот.* Быстрыца Астр.

РАЗБРЫ'ЗГАЦЦА *зак.* Раскруціцца. *Разбрызґалася завязка да ворка на ўжґуры.* Гемзы Шальч.

РАЗБРЫНЯ'ЦЬ *зак.* Патаўсцець. *Разбрыняла дзіця.* Рудня Чэрв.

РАЗБУЗО'ЛІЦЬ, РАЗБУРЗО'ЛІЦЬ *зак.* Размясіць. *Дажджы разбузолілі грась.* Магуны Паст. *У хаце каля печы разбурзоліла свіную яду.* Ёдлавічы Брасл.

РАЗБУЗУРЭ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і р а з б а з ы р э́ ц ь. *Карова разбузурэла, лазіць у шкоду, памаўзлівая стала.* Ліс- на В.-Дзв.

РАЗБУ'ЦЦА *зак.* Разуцца. *Разбуўся бацька.* Тухавічы Лях.

РАЗБЭ'ЙДАЦЦА *зак.* Тое ж, што і р а з б а д з я́ ц ц а. *Менша была лепша, гэта яна ціпер разбэйдалася.* Кіралі Шчуч.

РАЗБЭ'СЦІЦЦА *зак.* Тое ж, што і р а з б а д з я́ ц ц а. *Дзеўка зусім разбэсцілася.* Гальшаны Ашм. *Ён без бацькоў рос, разбэсціўся.* Руднікі Шальч.

РАЗБЯЗУ'ЛІЦЬ *гл.* РАЗБАЗУ'ЛІЦЬ

РАЗВАДЗЕ'НЬ *м.* Хто скасаваў шлюб. *Развадзень эты прычапіўся да мяне.* Мішневічы Шум.

РАЗВАДЗІ'ЦЦА *незак.* Размнажацца. *Гэтыя кветкі не разводзяцца цяпер, а як у нас былі, то добра раслі.* Гальшаны Ашм.

РАЗВАДНЫ' *прым.* 1. Які скасаваў шлюб. *Ён разводны.* Крэва Смарг. *І ён развадны, і яна развадная.* Кіралі Шчуч. 2. Развадны (ключ). *Развадны ключ ёсць, якую мне нада шрубу, такую аткручу гэтым ключом.* Гемзы Шальч.

РАЗВА'ЖЫЦЬ I *зак.* Паважыць (на вагах). *Я разважыла ім муку пароўну.* Ракаўскія Швянч.

РАЗВА'ЖЫЦЬ II *зак.* Памеркаваць. *Разважыў чалавек і зрабіў так.* Рудня Чэрв. *Хай ба разважыў ды ўспакоіўся.* Вецярэвічы Пух.

РАЗВА'ЛІНКІ толькі *мн.* Розвальні. Альба Нясв. *Як куды ехаць, то клалі аглабіцы і называлі сані разваліпкамі. У разваліпкі ставяць кашы.* Альхоўцы Лях. *Развалінкі — шырокія сані.* Старыя Смільгіні Воран.

РАЗВА'ЛІНЫ толькі *мн.* 1. Тое ж, што і р а з в а́ л і н к і. *Запрагай разваліны, паедзем па салому.* Кіралі Шчуч. 2. Вы-

язныя сані. *У нас называліся разваліны, калі ўкладваўся кош у сані і ехалі ў дарогу.* Дзяніскавічы Ганц. 3. Драбіны ў выязных санях. *Разваліны — драбінкі з балясткаў.* Кіралі Шчуч. 4. Воз, на якім перавозяць збожжа. *Ужо возяць у нас на развалінах.* Баброўнікі Гарад.

РАЗВАЛІ'ЦЦА *зак.* Разбурыцца. *Печ разваліласа.* Збляны Лід.

РАЗВА'ЛКІ толькі *мн.* Тое ж, што і р а з в а́ л і н ы 2. *Развалкі без нічога — ехаць на базар, да касцёла.* Беняконі Воран.

РАЗВА'ЛЫ толькі *мн.* Тое ж, што і р а з в а́ л і н к і. *Рамы накладалі на развалы.* Мярэцкія Глыб.

РАЗВА'ЛЬНІ *гл.* РО'ЗВАЛЬНІ

РАЗВАРАЧА'ЦЬ *зак.* 1. Паварочаць (пра сена). *Ідзём разварачайма сена.* Граўжышкі Ашм. 2. Раскідаць. *Разварачаў усё.* Паляцкішкі Воран. 3. Адхінуць (валасы). *Разварачаў валасы, а там, што маку, перхаці!* Граўжышкі Ашм.

РАЗВАРКІ' *прым.* Разварысты. *Паспешка разваркая дужа.* Крэва Смарг.

РАЗВАСАЛЕ'ЦЬ *зак.* Павесялець. *Увідзіў, што яна стаіць ля хаты, і мая душа развасалела.* Малі Астр.

РАЗВАСАЛІ'ЦЦА *зак.* Развесяліцца. *Не развасаліцца мне, адна я, не пабядуіш.* Старыя Смільгіні Воран.

РАЗВАХТАВА'ЦЦА *зак.* Разгайдацца. *Калі развахтуецца ў калысцы, аж вецер падымаецца.* Рыбчына Віл.

РАЗВЕ'ДАЦЬ *зак.* Даведацца. *Матка разведала пра гэта ўсё чыста.* Дакудава Лід.

РАЗВЕ'ДЖАНЫ *дзеепрым.* Разведзены. *Верна была разведжана вада.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

РАЗВЕ'ДКА *ж.* Пчаліная разведка. *У пчалах ёсць разведка, яны паляцяць у лес.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Пчолы паляцелі на разведку.* Мсцібава Ваўк.

РАЗВЕ'СЦІ, РАЗВЯСЦІ' *зак.* 1. Разбавіць чым-н. вадкім. *Творах развядзець смітанай, пасля палножыць масла.* Рагулішкі Даўг. *Бульбяную кашу развіла малаком.* Кураполле Паст. *Развядзеш ржаную муку і паставіш, каб упарылася.* Вузла Мядз. 2. Раскласці (пра агонь). *Развялі на полі агонь.* Дзяніскавічы Ганц. 3. Пачаць размову. *Мы і разгавор развясці можам.* Валынцы В.-Дзв. 4. Пазнаёміцца. *Бабам знаёмства нядоўга развясці, часта і ў нас зберуцца і сядзяць.* Ахрэмаўцы Брасл. 5. Пацешыць. *От яе бабы развядуць!* Кураполле Паст. 6. Скасаваць шлюб. *Каб яна хацеўшы, іх бы развялі.* Малі Астр. ∇ *Чужую бяду рукой развяду, а сваю — і ума не далажу.* Ахрэмаўцы Брасл.

РАЗВЕ'СЦІСЯ I *зак.* Разрэдзіцца. *Салонае развядзецца варачы.* Вецярэвічы Пух.

РАЗВЕ'СЦІСЯ II *зак.* Скасаваць шлюб. *Развёўся сын з жонкай.* Рудня Чэрв.

РАЗВЕСЯЛЯ'ЦЬ *незак.* Весяліць. *Я іх развесяляю.* Цяпінцы Віл.

РАЗВІДЛА'СТЫ *прым.* Вілаваты. *Развідласта дрэва.* Вецярэвічы Пух.

РАЗВІ'ДНІВАЦЬ, РОЗВІ'ДНЮВАТІ *незак. безас.* Світаць. *Уставайце, ужо развідніваe.* Баброўнікі Гарад. *Прочнувсе, то шче нэ розвіднювало.* Курашэва Чыж.

РАЗВІДНЯ'ЦЬ *зак. безас.* Развіднець. *Ужэ развідняла, а я ні сплю.* Малахоўцы Бар. *У чатыры часы пачынае летам развідняць.* Кузьмічы Люб. *Як толькі прыехалі, то развідняла.* Азяраны Раг.

РАЗВІДРЭ'ЦЬ *зак.* Распусціць, разбэсціць. *Развідрэлі людзей.* Кураполле Паст.

РАЗВІ'ЛАЎКА *ж.* Скрыжаванне дарог. *У развілаўцэ дарога нізкая.* Гемзы Шальч.

РАЗВІ'ЛКА *ж.* Тое ж, што і р а з в і л а ў к а. Мярэцкія Глыб. *Развілка — дзе дарогі разыходзяцца.* Кіралі Шчуч.

РАЗВІНЕ'НТЫ *прым.* Развіты. *Ён развіненты чалавек.* Кудзялянцы Шальч.; *параўн.* польск. *rozwinięty* 'тж'.

РАЗВІНІ'ЧЫЦЦА *зак.* Тое ж, што і р а з б а д з я́ ц ц а. *Развінічыўся послі, стаў драгаваць* [не слухаць], *я яго недалюблівала.* Валынцы В.-Дзв.

РАЗВІ'СІСТЫ *прым.* Развесісты. *Перад вакном у нас бяроза развісістая стаіць.* Глівін Барыс.

РАЗВІ'Т *м.* Развіццё. *Німа ніякага развіту.* Саланое Віл.

РАЗВІ'ТАВАЦЦА *незак.* Развітвацца. *Развітавалася з імі.* Паляцкішкі Воран. *Яна развітаваецца ўжо.* Ністанішкі Смарг. *Яна зараз ужо пойдзе, развітаваецца.* Лісна В.-Дзв.

РАЗВІТА'ЦЦА *зак.* Развітацца. *Ён развітаўся са сваімі і паехаў.* Солы Смарг.

РАЗВІТО'Й *прым.* Удалы. *Чэм багаты луневаты, лучшэ бедны развітой.* Саланое Віл.

РАЗВІТУ'ШКА, РОЗВІТУ'ШКА *ж. ткац.* Прыстасаванне для размотвання нітак. *Развітушка такая: знізу і зверху рыштаванні, клубок у руках круціцца і размотваецца.* Дакудава Лід. *Развітушкі — што развіваюць маткі.* Міратычы Карэл. *Развітушкі былі, штоб ніткі разматываць.* Мсцібава Ваўк. *На развітушкі матаюць ніткі.* Крынкі Крын. *З развітушак развіваецца маток.* Баброўнікі Гарад. *Розвітушкой розвіают моткі на клупкі.* Курашэва Чыж.

РАЗВІ'Х *м. мед.* Расцяжэнне звязак. *Развіх рукі бываіць; як жнеш, макрыцай нада націраць.* Саланое Віл.

РАЗВІ'ЦЦА *зак.* 1. Натрудзіць. *Развілася рука, успухла ў костацны.* Гайна Лаг. *Развілася рука, жаць не магу.* Магуны Паст. *Жыта жну, ярыну жну, развілася рука.* Малькуны

Ігн. 2. Узнікнуць. *У мяне язва развілася.* Вузла Мядз. 3. Пасталець. *Яна тут развілася, палепшала.* Валеўка Навагр.

РАЗВІ'ЦЬ *зак.* ◇ *Развіць размову* — разгаварыцца. *Развіла ты з гэтымі людзьмі размову.* Ёдлавічы Брасл.

РАЗВО'Д *м.* Калёсы, прыстасаваныя для перавозкі бярвення. *Развод — доўгія калёсы.* Саланое Віл.

РАЗВО'ДДЗЕ, РАЗВО'ДДЗЯ, РАЗВО'ДЗЯ *н.* Паводка. *Разводдзе такое — ні праехаць, ні прайсці.* Беразіно Докш. *Еслі лёт астаўся на берагах, будзе разводдзе.* Мішневічы Шум. *Разводдзе — калі рака разліваецца.* Пасіене Лудз. *Як вёску вадой залівала ў разводдзя, мышы на памёлы хаваліся, зайцы па вадзе плывуць.* Кураполле Паст. *Разводдзя вялікая.* Мярэцкія Глыб. *Было разводзя — разліваецца Дзітва.* Навасёлкі Лід.

РАЗВО'ДЗІ *мн.* Тое ж, што і р а з в о́ д д з е. *Вялікія разводзі, бо многа снегу было.* Ёдлавічы Брасл.

РАЗВО'ДЗІЦЬ I *незак.* Разбаўляць. *Талакно разводзілі вадой — гэта мілта.* Магуны Паст. *Мукі, картошкі бяру, разводжу малаком.* Малышы Лід. *Зацірка разводзіцца вадой, дабавіш, развядзеш папалам з малаком — і елі сабе.* Рудня Чэрв. *Свінням буду разводзіць.* Малахоўцы Бар.

РАЗВО'ДЗІЦЬ II *незак. ткац.* Выпраўляць памылку, дапушчаную пры снаванні красён. *Як паложыш перамот, яго трэба разводзіць.* Лісна В.-Дзв. *Я перамотку ўмею разводзіць.* Малахоўцы Бар.

РАЗВО'ДЗІЦЬ III *незак.* 1. Вырошчваць, гадаваць. *Разводзілі ў ставах рыбу.* Альхоўка Навагр. 2. Пладзіць. *Старая матка разводзіць трутнёў.* Груздава Паст.

РАЗВО'ДЗІЦЬ IV *незак.* Прыводзіць у добры настрой. *Сам сябе разводзіш і весяліш.* Малькуны Ігн.

РАЗВО'ДКА I *ж.* Жанчына, якая скасавала шлюб. *Яна разводка — разышліся з мужам.* Солы Смарг. *У міне дачка разводка.* Баброўнікі Гарад.; *параўн.* польск. *rozwódka* 'тж'.

РАЗВО'ДКА II *ж.* Трайня (у возе). *Разводка ў возе пры задніх калёсах.* Парэчча Гродз.

РАЗВО'ДНІК *м.* Мужчына, які скасаваў шлюб. *Ён хлопяц ці разводнік?* Стральцы Гродз. *Падрушка ішла замуж за разводніка.* Малахоўцы Бар. *У нашай вёсцы разводнікаў мала.* Пацаўшчына Дзятл. *Разводнікаў многа цяпер.* Масілавічы Сл. *Праклятыя разводнікі гетыя, што разводзяцца.* Баброўнікі Гарад.; *параўн.* польск. *rozwodnik* 'тж'.

РАЗВО'ДНІЦА I *ж.* Тое ж, што і р а з в о́ д к а I. *Разводніца — што разышлася.* Быстрыца Астр.

РАЗВО'ДНІЦА II *ж.* Разводдзе. *Як вясна прыдзе — разводніца такая, не прайсці.* Галубы Маст.

РАЗВО'ЙКАЦЦА *зак.* Расстагнацца. *Старая развойкаецца ў канец, а дале ўстане і пойдзе.* Кузьмічы Люб.

РАЗВО'РА *ж.* Тое ж, што і р а з в о́ д к а II. *Развора ў карах, ідзе праз увесь воз.* Грыкені Вільн.

РАЗВО'РКА, РОЗВО'РКА, РОЗВУО'РКА *ж.* Тое ж, што і р а з в о́ д к а II. *Разворка ў возе.* Мсцібава Ваўк. *Розворка злучае перад і зад воза.* Калясное Міхал. *Розвуорка сломаласе, і ехаті нэможна.* Курашэва Чыж.

РАЗВО'ЧЧЫК *м.* Тое ж, што і р а з в о́ д н і к. *Як мужык жонку кідае, то называецца развоччык.* Баброўнікі Гарад.

РАЗВУРЧА'ЦЦА *зак.* Пачаць празмерна муркаць. *Развурчаўся кот.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

РАЗВЯДЗЕ'НІЦ *м.* Тое ж, што і р а з в о́ д н і к. *Развядзенца ўзяла да сябе.* Лісна В.-Дзв.

РАЗВЯДРЭ'ЦЬ *зак. перан.* Разбэсціцца. *Людзі развядрэлі, лодарнічаюць.* Кураполле Паст.

РАЗВЯРНУ'ЦЬ *зак.* 1. Раскідаць (пра сена). *Работы хватала, развярні стацюкі* [стажкі], *перасушы іх.* Старыя Смільгіні Воран. 2. Разбурыць. *Развярнулі дом.* Кудзялянцы Шальч.

РАЗВЯСЦІ' *гл.* РАЗВЕ'СЦІ

РАЗГАВА'РЫВАЦЬ *незак.* Размаўляць. *Бацькі з намі не разгаварываюць.* Саланое Віл. *Нячыста па-беларуску разгаварываюць.* Буды В.-Дзв. *Яны разгаварываюць па-літоўску.* Ёдлавічы Брасл.; *параўн.* руск. *разговаривать* 'тж'.

РАЗГАВО'Р *м.* 1. Размова. *Разгавор пра ровар зайшоў.* Груздава Паст. *Які мне з табой разгавор?!* Ёдлавічы Брасл. *Мне не панравіўся яга разгавор.* Саланое Віл. *Гэта ў нас такі разгавор.* Парэчча Гродз. 2. Чуткі. *У вёсцы пашоў разгавор, што ў іх будзе вяселле.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* руск. *разговор* 'тж'.

РАЗГАДАВА'НЫ *дзеепрым.* Адгадаваны, раскормлены. *У бацькі бруха разгадаваная, ходзіць з брухам.* Ахрэмаўцы Брасл.

РАЗГАЙДАМА'ШЫЦЬ *зак. экспр.* Растраціць. *Разгайдамашыў грошы.* Крэва Смарг.

РАЗГАЛАСІ'ЦЦА *зак.* Расплакацца. *Матку ўжалілі, як разгалосіцца гэта матка!* Малі Астр.

РАЗГАНУ'ЦЬ *зак.* Разгадаць. *Потым разганула той сон.* Альхоўцы Лях.

РАЗГАРДЗІ'ЦЦА *зак.* Разбалецца. *Разгардзілася рана.* Саланое Віл.

РАЗГАРНЕ'ННЯ *н.* Свабода дзеяння. *Німа яму разгарнення.* Альхоўцы Лях.

РАЗГАРНУ'ЦЦА *зак.* У поўнай меры праявіць свае сілы. *Не магу разгарнуцца, мне так нудна.* Вецярэвічы Пух.

РАЗГА'РЫВАЦЦА *незак.* Разгарацца. *Глядзі, каб жар ні разгарываўся, бо будзя чат.* Бакшты Іўеў.

РАЗГА'ТЫ *прым.* Тое ж, што і р а з в і д л а́ с т ы. *Разгатае дзерава.* Тухавічы Лях., Малахоўцы Бар.

РАЗГАЎЛЯ'ЦЦА *незак. царк.* Есці першы раз скаромнае пасля посту. *Назаўтра утрам прыходзяць з цэрквы і разгаўляюцца.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Дайней разгаўляліся свянцоным.* Кураполле Паст.

РАЗГА'ЦІНА *ж.* Разгалістае дрэва. *Разгаціна — дрэва, многа лапаў-пасынкаў.* Альхоўцы Лях.

РАЗГАЧЫ' *мн.* Галлё. *Наламала разгачоў у печ і ўсё знеслі.* Жылі Іўеў.

РАЗГА'ЧЫКІ *мн.* Адросткі (пра пер'е). *Моль паела пёры, толькі разгачыкі асталіся.* Жылі Іўеў.

РАЗГВЭ'НДЗІЦЦА *зак. экспр.* Расхваляваццa. *Мая мама разгвэндалася, расплакалася.* Раўбічы Мін.

РАЗГІБА'НКА *ж.* Від лодкі. *Разгібанку рабілі з досак.* Рудня Астравітая Чэрв.

РАЗГІЛЬДЗЯ'Й *м. экспр.* Хто нядбайны. *Будзеш разгільдзяй які, і табе будзе дрэнна.* Старыя Смільгіні Воран.

РАЗГІ'НЫ *гл.* РЭ'ЗГІНЫ

РАЗГІРА'ЧЫЦЦА *зак.* Шырока расставіць ногі. *Разгірачыўся і стаіць.* Мсцібава Ваўк.

РАЗГІРЭ'КА *м.* і *ж. зневаж.* Раскірэка. *Ах ты, разгірэка, як ты стаіш!* Мсцібава Ваўк.

РАЗГЛЯ'БЛЫ *прым.* Разлезлы. *Разгляблы труп асталі з рэчкі.* Мсцібава Ваўк.; *параўн.* літ. *glebùs* 'тж'.

РАЗГО'ЕНЫ *дзеепрым.* Раскіданы. *Як капа сена ці куча раскіданы, рассунуты, то гэта называецца разгоена.* Рудня Астравітая Чэрв.

РАЗГО'ЙШЫЦЬ *зак.* Тое ж, што і р а з г а й д а м а́ ш ы ц ь. *Разгойшыла ўсё і німа нічога.* Пацаўшчына Дзятл. *Разгойшыў усе грошы.* Кузьмічы Люб. *Няма ладу ў яе, колькі грошай яна разгойшыла.* Дзяніскавічы Ганц.; *параўн.* літ. *iš-gaišìnti* 'тж'.

РАЗГО'Н *м.* Размах. *Ніякага разгону тут німа, цесна тут мне.* Ёдлавічы Брасл. *Німа яму тут разгону, прастору.* Мярэцкія Глыб.

РАЗГО'НЫ *мн.* Барозны. *Трэба абагнаць жыта і парабіць разгоны, кап не стаяла вада ў канцах і жыта не вымакла.* Кіралі Шчуч.

РАЗГРАБЦІ' *зак.* Разгрэбці. *Разграблі куры грады.* Кузьмічы Люб.

РАЗГУДЗЕ'ЦЦА *зак. перан. экспр.* Раскрычацца. *Чаго ты разгудзеўся, чым недавольны?* Вузла Мядз.

РАЗГУКА'ЦЦА *зак.* Разгаварыцца. *Разгукаешся з людзьмі.* Беразіно Докш.

РАЗГУЛЬТАВА'ЦЦА *зак.* Разленавацца. *Што з гэтага, што яна разгультаіцца.* Саланое Віл.

РАЗГУЛЯ'ЦЦА *зак.* Разгуляцца. *Квас варылі, алаткі пяклі, хлопцы гарэлку прыносілі, але не танцавалі і музыкі не было, бо ў пиліпаўку хто гуляў, казалі: «Во разгуляліся, як ваўкі ў піліпаўку».* Рудня Астравітая Чэрв. *Разгуляўся мой конь.* Барок Стаўб.

РАЗГУ'РЗАЦЦА *зак. экспр.* Ачуняць, прачнуцца. *Разгурзаўся чалавек, сон прайшоў, яго пабудзілі.* Жыдзевічы Іўеў.

РАЗГУСЦЕ'ЦЬ *зак.* Загусцець. *Разжыдзела каша, а мая разгусцела.* Валынцы В.-Дзв.

РАЗГЭ'ЙДАЦЦА *зак.* Разгайдацца. *Як разгэйдалася, чуць не перакулілася на гайданцы.* Кіралі Шчуч.

РАЗДАВІ'ЦЬ *зак.* Расціснуць. *Наступіў нагой і раздавіў бульбіну.* Чычалі Швянч.

РАЗДАЎНЕ'ЙША *прысл.* Даўней. *Гэта было раздаўнейша так.* Чуркі Ашм.

РАЗДАЎНЁШНЫ *прым.* Даўні. *Гэта раздаўнёшная песня.* Чычалі Швянч.

РАЗДА'ЦЬ *зак.* Параздаваць. *Раздаў усё дочкам.* Швэды Вільн.

РАЗДВАІ'ЦЦА *зак.* Расшчапіцца папалам. *Як жэрнула сярпом, раздваілася костка.* Гемзы Шальч.

РАЗДВО'ЙЧАНЫ *прым.* Раздвоены. *Колас раздвойчаны, такі, як рэшатка.* Беняконі Воран.

РАЗДЖАНІ'ХА *м.* Тое ж, што і р а з в о́ д н і к. *А калі прыяжджаў разджаніха, то яго пасаветавалі мне.* Мішневічы Шум.

РАЗДЗЕВА'ЦЦА, РАЗДЗЯВА'ЦЦА *незак.* Распранацца. *Раздзееца ён на гэтым таку.* Гемзы Шальч. *Ён раздзяваецца, вешае пальто.* Паляцкішкі Воран. *Прыйшоў у хату і раздзяецца.* Дзяніскавічы Ганц.

РАЗДЗЕЛІ'ЦІСА *зак.* Раздзяліцца. *Ваны раздзеліліса, сталі жыць асобна.* Гемзы Шальч.

РАЗДЗЕ'ЦЦА *зак.* Распрануцца. *Як раздзеўся мыцца, усё цела чорнае.* Гальшаны Ашм. *Кавалер прыгласіў дзеўку на танец, яна адмовіла, то ён зрабіў так, што яна раздзелася, стаяла голая.* Малі Астр.

РАЗДЗІМА'ЦЬ *незак.* Распаляць. *Раздзімалі вуглі.* Рыбчына Віл.

РАЗДЗЯВА'ЦЦА *гл.* РАЗДЗЕВА'ЦЦА

РАЗДЗЯЛІ'ЦЬ *зак.* Падзяліць. *Было пяцёх ці шасцёх сыноў, зямлю раздзялілі на пяцёх.* Альхоўка Навагр. *Давай соль раздзелім.* Гальшаны Ашм.

РАЗДЗЯЛЯ'ЦЦА *незак.* Аддзяляцца. *У лазні сені раздзяляюцца.* Солы Смарг.

РАЗДЛУБА'ЦЬ *зак. экспр.* Зразумець. *Раздлубала старая, што да чаго.* Граўжышкі Ашм.

РАЗДО′БРЫЦЦА *зак.* Падабрэць. *Як раздобрыцца, то яна і работу зробя.* Малі Астр.

РАЗДО′Р *м.* Драўляныя вілы. *Раздорам гной можна раскідаць.* Глівін Барыс.

РАЗДРАЖНІ′ЦЦА *зак.* Раздражніцца. *Курыца раздражнілася петухом, крычыць.* Мярэцкія Глыб.

РАЗДРАЖНІ′ЦЬ *зак.* Выклікаць раздражненне. *Раздражніў рану.* Міратычы Карэл.

РАЗДРАЖЫ′ЦЬ *зак.* Тое ж, што і р а з д р а ж н і ц ь. *Раздражыў рану, не сплю начамі.* Беразіно Докш., Мачаск Бярэз.

РАЗДРАЧЫ′ЦЬ *зак.* Раздражніць. *Можа, хто сабаку раздрачыў?* Новікі Гродз.

РАЗДРУ′СНУЦЬ *зак.* Набрыняць. *Нашлі яго ў лесі вясной, як увесь раздрус у вадзе.* Лісна В.-Дзв.

РАЗДРЫГВЕ′ЦЦА *зак.* Спарахнець. *Грып стары раздрыгвеўся, у ім чэрві круцяцца.* Бакшты Іўеў.

РАЗДУ′МАЦЦА *зак.* Падумаць. *Як раздумаясся, ня можаш спаць.* Ракаўскія Швянч.

РАЗДУ′МАЦЬ *зак.* Тое ж, што р а з д у́ м а ц ц а. *Раздумаю, раздумаю, што рабіць.* Вялікае Сяло В.-Дзв.

РАЗДУ′МЛЮВАЦЬ *незак.* Думаць, меркаваць. *Яна раздумлюя, як быць.* Паляцкішкі Воран.

РАЗДУ′РБАЦЦА *зак. экспр.* Тое ж, што і р а з ґ у́ р з а ц ц а. *Раздурбаўся і не засну.* Граўжышкі Ашм.

РАЗДУ′РДАЦЦА *зак. экспр.* Тое ж, што і р а з ґ у́ р з а ц ц а. *Пойдзім у ягады зрання, як толькі раздурдаемся.* Солы Смарг.

РАЗДУ′РДАЦЬ *зак. экспр.* Разбудзіць тармосячы. *Раздурдай ты яго!* Солы Смарг.

РАЗДУ′РНІЦА *ж.* Пястуха. *Яна адна ў мацяры, раздурніца.* Кузьмічы Люб.

РАЗДУРЭ′ЦЦА *зак.* Раздурэцца. *Раздурэўся рабёнак, распусціўся.* Лісна В.-Дзв.

РАЗДУРЭ′ЦЬ *зак.* Набыць пэўную звычку (у адносінах да яды). *Скаціна раздурэла і ў шкоду лазе.* Мачаск Бярэз. *Цялушка раздурэла і пойла не п'е.* Кіралі Шчуч., Парэчча Гродз.

РАЗДУСІ′ЦЬ *зак.* Тое ж, што і р а з д а в і ц ь. *Раздусіла курыца яйцо.* Старыя Трокі Трак.

РАЗДУ′ЦЬ *зак. безас. экспр.* Расперці. *Нагу так раздуе, ні магу хадзіць.* Быстрыца Астр.

РАЗДЫХТАВА′ЦЦА *зак. экспр.* Разгаварыцца. *Раздыхталіся і будуць сядзець.* Ёдлавічы Брасл.

РАЗЕ′ВА, РАЗЁВА, РАЗЗЕ′ВА, РАЗЗЁВА, РОЗЗЯ′ВА *м.* і *ж. экспр.* Хто рассеяны, няўважлівы. *Разева ты!* Саланое Віл. *Алі ш, кажуць, і разёва, ня маглі цішэй сказаць, як ра-*

*зёвы слухалі.* Кіралі Шчуч. *Раззева якая ты!* Дакудава Лід. *Вун пашла раззёва.* Пацаўшчына Дзятл. *Такі роззява ніц доброго нэ зробіт.* Курашэва Чыж. ∇ *Калі двоя скажуць у адно слова, то прыдзе шчэ адна разёва.* Мсцібава Ваўк.

РАЗ'Е'ЖДЖАНЫ *дзеепрым.* Раз'езджаны. *З гэтага берагу лесу раз'ежджана дарога.* Ракаўскія Швянч.

РАЗ'Е'ХАЦЦА *зак. перан.* 1. Растаўсцець. *Была танейшая, а цяпер на пенсіі, раз'ехалася.* Дзёрнавічы В.-Дзв. 2. Расхварэцца. *Ты ўжо раз'ехаўся, як благія порткі: то там, то там баліць.* Малі Астр.

РАЗЕ'Ц *м.* Рэжучы інструмент для апрацоўкі дрэва, металу. *Есць такі разец, ім выразалі пазы.* Чуркі Ашм. *Разцом выраблялі лышкі, апалонік.* Дакудава Лід.

РАЗЁВА *гл.* РАЗЕ'ВА

РАЗЁПА *м.* і *ж. экспр.* Тое ж, што і р а з ё в а. *Разёпа гэта, а не дзеўка.* Азяраны Раг. *Разёпа пашоў.* Лапічы Асіп.

РАЗ'ЁЎЗАЦЬ *зак. экспр.* Папэцкаць. *Не памыла, а толькі раз'ёўзала падлогу.* Пацаўшчына Дзятл.

РАЗЖАРДЗІ'ЦЦА *зак.* Тое ж, што і р а з г а р д з і ц ц а. *Разжардзілася рана.* Старыя Смільгіні Воран.

РАЗЖА'РЫЦЬ *зак.* Падсмажыць. *Сала, цыбулі разжараш.* Лісна В.-Дзв.

РАЗЖАРЭ'ЦЦА, РАЗЖУРЭ'ЦЦА *зак.* Распаліцца. *Разжарэўся прас.* Мсцібава Ваўк. *Нешта жар разжурэўся.* Гемзы Шальч.

РАЗЖЫДЗЕ'ЦЬ *зак.* Зрабіцца рэдкім. *Разжыдзела каша, а мая разгусцела.* Валынцы В.-Дзв.

РАЗЖЫ'ЦЦА *зак.* Разбагацець. *Разжыліся людзі, багата жывуць.* Дзераўное Стаўб. *Яны троха разжыліся, паставілі ім дом.* Рагулішкі Даўг.

РАЗЗЕ'ВА, РАЗЗЁВА *гл.* РАЗЕ'ВА

РАЗЗНАКО'МІЦЦА *зак.* Пазнаёміцца. *Раззнакомілася з усімі.* Рудня Чэрв.

РАЗЗУ'РЗАЦЦА *зак. экспр.* Разгаварыцца. *Як раззурзаліся, то не сціхнуць.* Кураполле Паст.; *гл.* з ў р з а 1.

РАЗЗЯ'ВІЦЬ *гл.* РАЗЯ'ВІЦЬ

РАЗІ'НАВЫ *прым.* Рызінавы. *Боты разінавыя, мяхкія.* Вузла Мядз.

РАЗІ'НКІ *гл.* РАЗЫ'НКІ

РАЗІ'НУЦЦА *зак.* Шырока раскрыцца (пра пашчу). *Ляпа разінулася.* Плябанцы Ашм.

РАЗІ'НУЦЬ *зак.* Раскрыць (пашчу). *Разінуў пась воўк.* Мішневічы Шум. *Чаго рот разінуў?* Навасёлкі Лід.

РА'ЗІЦЬ *зак.* Паразіць (аб хваробе). ∇ *Бадай це разіць гаручка!* Груздава Паст.

РАЗЛА'ЖЫСТЫ, РАЗЛО'ЖЫСТЫ *прым.* Разгалісты.

*Разлажысты дуб.* Магуны Паст. *Разложыстае, карчавае дзерава.* Пацаўшчына Дзятл.

РАЗЛАЖЫ′ЦЬ *зак.* Раскласці (пра агонь). *Разлажылі агонь у лесі.* Рыбчына Віл. *Пастухі разлажылі агонь.* Вялікія Баяры Шчуч. *Агонь разложыш на полі.* Рыбчына Віл.

РАЗЛАЙДА′ЧЫЦЦА *зак.* Разленавацца. *Мой натто разлайдачыўся.* Ванелевічы Кап.

РАЗЛЕ′ЯЦЦА *гл.* РАЗЛІ′ЦЦА

РАЗЛЁПА *м.* і *ж. экспр.* Хто́ нязграбны. *А божа, разлёпа такая!* Малі Астр.

РАЗЛЁПУШКА *ж. памянш.* да р а з л ё п а. *Ён очань быў красівы, а яна разлёпушка такая.* Малі Астр.

РАЗЛІВА′ЦЦА *незак.* Распаўсюджвацца. *Вогнік разліваецца па барадзе.* Ухвала Круп.

РАЗЛІ′Ў *м.* Тое ж, што і р а з в о́ д д з е. *Разліў вялікі, як снегу многа.* Палік Барыс. *Разліў быў бальшы, вада разліла-ся на лугі.* Ахрэмаўцы Брасл.

РАЗЛІ′ЦЦА, РАЗЛЕ′ЯЦЦА *зак.* Расцячыся. *Вада разальецца кругом.* Навасёлкі Лід. *Рэчка разліецца — не праедзеш.* Солы Смарг. *Вада вялікая, разлеялася па лугах.* Багушэвічы Бярэз.

РАЗЛІ′ЦЬ *зак.* 1. Праліць. *Яна разліла воду.* Вялікія Баяры Шчуч., Дзяніскавічы Ганц. 2. Выліць. *Па гурках разліла два вядры вады.* Саланое Віл.

РАЗЛО′ЖЫСТЫ *гл.* РАЗЛА′ЖЫСТЫ

РАЗЛУ′КА *ж.* Расставанне. *У разлуцы жыць самотна, адзінока.* Бакшты Іўеў.; *парайн.* руск. *разлука* 'тж'.

РАЗЛУЧА′ЦЦА I *незак.* 1. Падзяляцца на часткі. *Дарогу вядуць, дзярэўня будзя разлучацца.* Быстрыца Астр. 2. Адстойвацца (пра малако). *Ні разлучаіцца малако, верху німа.* Асавец Віл. *У некаторых кароў не разлучаяцца смятана.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

РАЗЛУЧА′ЦЦА II *незак.* Разыходзіцца. *Яны б'юцца, дзяруцца, кажны дзень разлучаюцца.* Солы Смарг.

РАЗЛУЧА′ЦЬ *незак.* Падзяляць на часткі. *Два цапкі, кап ніткі ні блуталіся, па парацца разлучаям.* Дакудава Лід.

РАЗЛУ′ЧНІК *м.* Тое ж, што і р а з в о́ д н і к. Рудня Чэрв.

РАЗЛУ′ЧНІЦА *ж.* Тое ж, што і р а з в о́ д к а I. *Разлучніца — што жыве без мужыка.* Рудня Астравітая Чэрв.

РАЗЛУ′ЧНЫ *дзеепрым.* Разведзены. *Разлучная пара, не падышлі.* Солы Смарг.

РАЗЛУЧЫ′ЦЦА *зак.* 1. Расстацца. *Мы разлучыліся ў вайну.* Солы Смарг. 2. Скасаваць шлюб. *Разлучыліся муж з жонкаю, праз Маню разышліся.* Вецярэвічы Пух.

РАЗЛУ′ШЧВАЦІ *незак.* Вылузваць. *Гараб'е разлушчвалі стручке.* Гемзы Шальч.

РАЗЛЫГА'ЦЬ *зак.* Развязаць. *Разлыгаць лапці.* Семежава Кап.; *гл.* з л ы г á ц ь 1.

РАЗЛЯГА'ЦЦА *незак.* Распаўсюджвацца. *Зязюлькі куюць, аж разлягаецца кругом.* Пацаўшчына Дзятл.

РАЗЛЯЛЕ'ЦЦА *зак.* Разбалецца. *Нага разлялелася.* Дакудава Лід.

РАЗМАІ'ТЫ, РОЗМАІ'ТЫ *прым.* Розны, разнастайны. *Размаітыя на палях грыбы растуць.* Быстрыца Астр. *У лесе размаітыя грыбэ.* Збляны Лід. *Таблеткі размаітыя ляжаць.* Рудніκі Шальч. *Размаітых мух многа.* Старыя Трокі Трак. *Размаітых назваў было гэтых шнуроў.* Канюкай Вільн. *Пагода бывае размаіта.* Грыкені Вільн. *Размаітэ гора пеpажылі, трудна жызня была, голат быў.* Малькуны Ігн. *Раней у размаітые калёры паласкалі.* Баброўнікі Гарад. *Узоры розмаітыя.* Судэрва Вільн.; *парайн.* польск. *rozmaity* 'тж'.

РАЗМАІ'ЦЕ *прысл.* Па-рознаму. *Размаіце называюць, але больш сякерай.* Быстрыца Астр. *Шнуры размаіце называлі: Дубака, Тасемкі, Шкаплеркі, Лонкі.* Канюкай Вільн.; *парайн.* польск. *rozmaicie* 'тж'.

РАЗМАКА'ЦЬ *незак.* Разбухаць. *Кадушка размакая, наліта вадой.* Вялікія Баяры Шчуч.

РАЗМАНДЫ'КВАЦЬ *незак. экспр.* Пляткарыць. *Сабрала дванаццаць баб і размандыквае.* Валеўка Навагр.

РАЗМАНІ'ЦЬ *зак.* Раздражніць. *Гадзюку размані, то на кароў будзе кідацца.* Кузьмічы Люб.

РАЗМАРМЫТА'ЦЦА *зак. экспр.* Разбубніцца. ∇ *Размармытайся, як кот.* Старыя Трокі Трак.

РАЗМАТАВІ'ДЛА, РОЗМОТОВІ'ДЛА *н.* Тое ж, што і р а з в і т ý ш к а. *На разматавідла размотваюць ніткі.* Магуны Паст. *Разматавідлам звіваюць ніткі папрадзеныя.* Глівін Барыс. *Розмотовідлам разматываюць пражу на клубок ілі палачку.* Опса Брасл.

РАЗМА'ТАВІЧ *м.* Тое ж, што і р а з в і т ý ш к а. *Разматавіч — каб маткі разматаваць, матаць на вітушкі.* Рыбчына Віл.

РАЗМАТА'ЦЬ *зак.* Разматаць. *Трэба разматаць клубочкі маленькі.* Паляцкішкі Воран.

РАЗМА'ТВАЦЦА *незак.* Размотвацца. *Развітушка круціць, а клубок у руках разматваяцца.* Дакудава Лід.

РАЗМА'ТВАЦЬ, РАЗМА'ТУВАЦЬ, РАЗМО'ТВАЦЬ, РАЗМО'ТАВАЦЬ *незак.* Размотваць. *На развітушкі маткі разматваюць.* Дакудава Лід. *На разматкі ніткі разматуя.* Быстрыца Астр. *Размотваюць ніткі на разматавідлах.* Магуны Паст. *Маткі размотаваюць.* Кемялішкі Астр.

РАЗМА'ТКА *ж.* Тое ж, што і р а з в і т ý ш к а. *Разматка, як матошка, толькі большая.* Стральцы Гродз.

РАЗМАТЛО'ШЫЦЬ *зак. экспр.* Разабраць свіную тушу. *Разматлошылі япрука.* Ванелевічы Кап.

РАЗМАХНУ'ЦЦА *зак.* Разгарнуцца. *Ёй тут не размахнуцца, нічога не зробіць.* Кіралі Шчуч.

РАЗМЕ'Р *м.* Размер (пра абутак). *Купі мне боты, але не с такім размерам.* Вялікія Баяры Шчуч.

РАЗМІНАВА'ЦЦА *зак.* Размінуцца. *Калі паехаць заўтра, то можна размінавацца.* Вецярэвічы Пух.

РАЗМІНА'ЦЦА *незак.* Разыходзіцца ў розныя бакі. *Там дарогі размінаюцца, там ростанькі.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

РАЗМІША'ЦЬ *зак.* Размяшаць. *Талакно нада размішаць.* Мішневічы Шум.

РАЗМНО'ЖЫЦЦА *зак.* Павялічыцца. *Цяпер скаціны размножылася.* Альхоўка Навагр.

РАЗМО'ВА *ж.* Размова. *Завяла з ёю размову.* Талейкі Швянч.

РАЗМО'КНУЦЬ *зак.* Размякнуць. *Цэгла размокла пад дажджом.* Грыкені Вільн.

РАЗМО'ЛЬНЫ *дзеепрым.* Які буйна змолаты. *Размольны хлеб быў дужа смашны.* Баброўнікі Гарад.

РАЗМО'ТАВАЦЬ, РАЗМО'ТВАЦЬ *гл.* РАЗМА'ТВАЦЬ

РАЗМО'ТКІ *мн.* Тое ж, што і р а з в і т ў ш к а. *На размоткі разматуя ніткі, крыжакі робяцца.* Быстрыца Астр.

РАЗМОТОВІ'ДЛА *гл.* РАЗМАТАВІ'ДЛА

РАЗМУЦІ'ЦЬ *зак.* Размяшаць. *Калапню размуціць — і ядуць.* Лісна В.-Дзв. *Размуціла бліноў і спякла.* Вецярэвічы Пух. *Размучу попел і палью яблыны.* Пасека Ст.-Дар.

РАЗМЯКА'ЦЬ *незак.* Разбухаць. *Памачу хлеб у ваду — лепей размякаіць.* Вузла Мядз.

РАЗМЯНІ'ЦЬ *зак.* Размяняць. *Размяніць грошы трэба.* Старыя Трокі Трак.

РАЗМЯТА'ЦЬ *незак.* Расчышчаць (пра снег). *Ён размятаў снех.* Ахрэмаўцы Брасл.

РАЗМЯША'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і р а з м у ц і ц ь. *Трэба муку размяшаць у вадзе, як расчыняем хлеб.* Малькуны Ігн.

РА'ЗНА, РА'ЗЬНЯ *прысл.* Па-рознаму. *Разна людзі нажыліся.* Ахрэмаўцы Брасл. *Выглядам разьня, але ўсё роўна плот.* Старыя Трокі Трак.

РАЗНА'ДА *ж.* Ласунак. *Сланечнік — гэта разнада дзецям.* Вялікія Баяры Шчуч.

РАЗНА'ДЗІЦЦА *зак.* 1. Панадзіцца. *Разнадзілася хадзіць туда.* Пацаўшчына Дзятл. *Разнадзілася карова ў буракі, у ячмень.* Кіралі Шчуч. 2. Рассмакавацца. *Разнадзіліся дзеці гэтымі семечкамі, выпісвай і выпісвай іх.* Вецярэвічы Пух. *Разнадзіліся дзеці ў яблыках, ідуць і ідуць.* Кіралі Шчуч.

РАЗНА'ДЗІЦЬ *зак.* Разахвоціць. *Разнадзіў скаціну, няма рады.* Галубы Маст.

РАЗНА'ДЖАНЫ *дзеепрым.* Разласаваны. *Разнаджаны ён усякімі прысмакамі.* Дакудава Лід.

РАЗНАРВОВА'ЦЬ *зак.* Разнерваваць. *Разнарвовай мяне.* Старыя Трокі Трак.

РАЗНАСІ'ЦЦА *зак. экспр.* Разбегацца. *Як разнасіўся конь, не маглі злавіць.* Малькуны Ігн.

РАЗНАСІ'ЦЬ *незак.* Разносіць. *Цяпер пачтальён разнося пісьмы, газеты.* Гемзы Шальч.

РАЗНАТРО'ЎЯ *зб. н.* Разнатраўе. *У нас разнатроўя расло.* Вецярэвічы Пух.

РА'ЗНЕ *прысл.* Па-рознаму. *Разне гаварылі.* Руднікі Шальч.

РАЗНЕРВАВА'ЦЦА *зак.* Расхвалявацца. *Як разнервуюся, то не засну.* Кіралі Шчуч.

РАЗНЕ'СЦІ *зак.* Выкінуць з воза на поўным хаду. *Конь яе бацьку разнёс, разбіў галаву.* Крэва Смарг.

РАЗНІ'К *м.* Хто забівае жывёлу. *Разнікі былі ў Тургелях, калолі парсюка.* Гемзы Шальч.

РАЗНІМА'ЦЬ *незак.* Пячы. *Як удражніш руку, то яна разнімае скуру і чырвона робіцца.* Дакудава Лід.

РА'ЗНІЦА *ж.* Розніца. *Бальшой свет і ўсюды разніца.* Ахрэмаўцы Брасл. *Якая разніца — адзін год!* Урбаны Брасл.; *парайн.* руск. *разница* 'тж'.

РАЗНІ'ЦА І *ж.* 1. Бойня. *Разніца — дзе рэжуць караве.* Старое Сяло Зэльв. 2. Сячкарня. *Разніца — рэсь рэзаць, у ёй тры нажы.* Ахрэмаўцы Брасл.

РАЗНІ'ЦА ІІ *ж. экспр.* Усячына. *Гэта ж можна ўсялякую разніцу пісаць.* Пацаўшчына Дзятл.

РА'ЗНЫ *прым.* Розны. *Разных траваў мая.* Плябанцы Ашм. *Разныя людзі ёсь.* Лісна В.-Дзв. *Каля рэчкі букашкі разныя, куры іх ядуць.* Вузла Мядз.

РАЗНЭ'РВІЦЦА *зак.* Тое ж, што і р а з н е р в а в а́ ц ц а. *Разнэрвілася я.* Старыя Трокі Трак.

РАЗНЭ'РВІЦЬ *зак.* Разнерваваць. *Разнэрвіў мяне.* Старыя Трокі Трак.

РАЗНЯ'ЦЬ *зак.* Расставіць. *Разняў ногі і стаіць.* Лісна В.-Дзв. ◇ *Вачэй ні разняць* — безліч, процьма. *А камароў — вачэй ні разняць!* Дзёрнавічы В.-Дзв.

РАЗО'ВЫ *прым.* Тое ж, што і р а з м о́ л ь н ы. *Разовы хлеб. Груба мука, малоць на размол, малоць адзін раз — разова мука.* Номікі Бабіц.

РА'ЗО'М *гл.* РА'ЗАМ

РАЗО'РА, РОЗО'РА, РУЗО'РА *ж.* 1. Разора. *Паміж баразной разора.* Галубы Маст., Вецярэвічы Пух. *Разоры выгорвалі, каб вада сцякала.* Парэчча Гродз. *Разора паміж градамі.* Збляны Лід. *У разору вады набегла.* Лука Нараўк. *Налыло в розорі.* Сіманавічы Драг., Брады Пруж. *Рузурі*

*пойны вуды.* Радастаў Драг. *Разоры пабіваем матыкаю без зубой.* Кіралі Шчуч. 2. у знач. *прысл. у разбру.* Спосаб арання, калі пачынаюць яго з краю нівы. *Аралі ў разору і ў склат аралі; калі пачынаюць пасярот — гэта ў склат, а калі с краю — у разору.* Груздава Паст.

РАЗО'РАНЫ *дзеепрым.* Узараны. *Разорана дзве баразны.* Чуркі Ашм.

РАЗО'РАТЫ *дзеепрым.* Тое ж, што і р а з о́ р а н ы. *Разората баразна.* Чуркі Ашм.

РАЗО'РКА, РОЗО'РКА *ж.* Тое ж, што і р а з о́ р а 1. *У сераду абрабіла разорку.* Пацаўшчына Дзятл. *Разорка паміж градкамі.* Чычалі Швянч. *На градках робйат розоркі.* Горск Бяроз.

РАЗО'ЎКА *ж.* Мука грубага памолу. *Разойка — непетляваная мука.* Жылі Іўеў.

РАЗРАБЛЯ'ЦЦА *незак.* Раскручвацца, расслабляцца. *Калапні вязалі ў жменькі, калаплінай закруціш, каб не разраблялася.* Саланое Віл.

РАЗРАБЛЯ'ЦЬ *незак.* Разводзіць. *Разраблялі краску на алеі і красілі.* Мсцібава Ваўк.

РАЗРАБО'ТАЦЬ *зак.* Апрацаваць. *Пожні разработалі.* Ухвала Круп.

РАЗРА'ДКА *ж.* Частка выплаты падатку, доўгу. *Мы плацілі па дзве разраткі.* Валынцы В.-Дзв.

РАЗРАЖА'ЦЦА *незак.* Запаляцца, чырванець. *Разражаецца каля раны.* Старыя Смільгіні Воран.

РАЗРАЗА'ЦЬ *незак.* Рэзаць на кавалкі. *Разразаюць шаршавіны і бройны на бераг выцягваюць.* Лісна В.-Дзв.

РАЗРА'НІЦЦА *зак.* Тое ж, што і р а з г а р д з і ц ц а. *Рана разранілася, зачырванела кругом.* Ёдлавічы Брасл. *Разранілася нага.* Малі Астр.

РАЗРАСТАВА'ЦЦА *незак.* Прарастаць. *Разраставаецця зярно.* Дзяніскавічы Ганц.

РАЗРАТО'ЎВАЦЬ *незак.* Выратоўваць. *І я хадзіла карову разратоўваць.* Рыбчына Віл.

РАЗРАШЫ'ЦЬ, РАЗРО'ШЫЦЬ, РАЗРЫШЫ'ЦЬ *зак.* Дазволіць. *Не разрашылі будавацца тут.* Швэды Вільн. *Ім не разрошаць будавацца, німа свабоднага места.* Рудня Астравітая Чэрв. *Мне ні разрышылі паступаць у вучылішча.* Дзёрнавічы В.-Дзв.; *парайн.* руск. *разрешить* 'тж'.

РАЗРУБА'ЦЬ *зак.* Рассячы. *Разрубала косць нажом.* Паляцкішкі Воран.

РАЗРУ'ХАЦЦА *зак.* Расшавяліцца. *Папробую я капаць, можа, разрухаюся, а то заляжаўся саўсім.* Ахрэмаўцы Брасл. *Баляць ногі, пакуль разрухаюся.* Малі Астр.

РАЗРУ'ХАЦЬ *зак.* 1. Расхістаць. *Зуп разрухаўся саўсем.*

Магуны Паст. 2. Разбурыць. *Разрухалі жорны, а такія харошыя былі.* Старыя Смільгіні Воран.

РАЗРУ'ШЫЦЦА *зак.* Тое ж, што і р а з р у́ х а ц ц а. *Покуль устану, разрушуся.* Бакшты Іўеў.

РАЗРЫВА'НЫ *дзеепрым.* Прарэджаны. *Буракі не разрываны, густа пасаджаны.* Кузьмічы Люб.

РАЗРЫ'Ў *м.* Перапынак у працы. *Харашо, як разрыў ёсць, другая якая-небудзь лёгкая работа пасля цяжкай.* Пацаўшчына Дзятл.

РАЗРЫ'ЎКА *ж.* Занятак. *Дачка напішыць, другая забяжыць — усё ёсь разрыўка.* Ахрэмаўцы Брасл. *Як прыедуць, так трошкі кажацца разрыўка.* Баброўнікі Гарад.; *параўн.* польск. *rozrywka* 'забава, пацеха'.

РАЗРЫШЫ'ЦЬ *гл.* РАЗРАШЫ'ЦЬ

РАЗРЭ'ЗІНА *ж.* Прамежак паміж пёрамі хваста (пра ластаўку). *У ластаўкі разрэзіна, дзе хвост.* Валеўка Навагр.

РАЗУВА'ЛКІ толькі *мн.* Прыстасаванне для зняцця абутку з ног. *Разувалкі — дошчачка такая выразаная, у вілачкі ўстаўляеш нагу і цягнеш бот.* Магуны Паст.

РАЗУВА'НЁ *н.* Дзеянне паводле значэння дзеяслова р а з у в а́ ц ь. *Гето разуванё надаело.* Альхоўцы Лях.

РАЗУВА'ЦЬ *незак.* Знімаць абутак. *Трэба боты разуваць з яго.* Дзяніскавічы Ганц.

РА'ЗУМ *гл.* РО'ЗУМ

РАЗУМНЕ'ЙШЫ *прым. выш.* Больш разумны. *Ён разумнейшы за яе намнога, але ш правіць яна.* Ахрэмаўцы Брасл. ▽ *Адной серадой пазнейшы — ужо разумнейшы.* Паляцкішкі Воран.

РАЗУ'МНЫ *прым.* Надзелены розумам. *Ён разумны чалавек.* Кемялішкі Астр. *Ён нядужа разумны.* Пасіене Лудз. ▽ *Лучшэ з разумным пацераць, чым з дурнем знайсці.* Навадворшчына Мін. *Луччы з разумным страціць, чым з дурнем знайсці.* Малі Астр.

РАЗУ'ХА *ж. бат.* Асака. *Асака такая разухай завецца.* Мярэцкія Глыб. *Разуха — трава няешчая, расце, дзе пожня плахая.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

РАЗУ'ЦЦА *зак.* Разуцца. *Да касцёлу ішлі босыя, разуяшся, а потым абуваяшся.* Старыя Трокі Трак.

РАЗУ'ЦЬ *зак.* Зняць абутак. *Разуць боты трэба.* Рудня Астравітая Чэрв.

РАЗУ'ЧЫ *прым.* Калючы (пра траву). *Трава разучая.* Азяраны Раг.

РАЗУ'ШКА *ж.* Тое ж, што і р а з у́ х а. *Круглец там, адна разушка расце.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

РАЗЫГА'ТЫ *прым.* Галінасты. *Гэтыя краскі разыгатыя, кусцікам растуць.* Рудня Астравітая Чэрв.

РАЗЫ'НКІ, РАЗІ'НКІ *мн.* 1. Сушаныя ягады вінаграду.

*Хлеп пяклі пшанішны і жытні із разінкамі.* Кукарава Бярэз.; *парайн.* польск. *rodzynki* 'тж'. 2. Ягады на кусце. *Кожны год ядроныя разынкі.* Дакудава Лід.

РАЗЫСКА'ЦЬ *зак.* Адшукаць. *Пайду разышчу, дзе мая качаня.* Вецярэвічы Пух.

РАЗЫСЦІ'СЯ *зак.* 1. Тое ж, што і р а з л у ч ы́ ц ц а 2. *Мала яны жылі, разышліся.* Солы Смарг. *Я разышлася ў маладым веку.* Вузла Мядз. *Як няплоха жылі, алі ш разышліся.* Буды В.-Дзв. *Паехаў з дому, распіўся, разышоўся з жонкай.* Гальшаны Ашм. *От разыдземся з табою, за каго выйдзеш?* Валеўка Навагр. 2. Зрушыцца з месца. *Разышоўся камень сподні ў жорнах.* Старыя Трокі Трак. 3. Скончыцца. *Танцы разышліся, і я пашла з ім.* Малі Астр. 4. Распагодзіцца. *То ня велькі дошч, але можа разысціся.* Збляны Лід.

РА'ЗЬВІ *прысл.* Няўжо. *С такімі рукамі разьві можна есь.* Чапаеўскі В.-Дзв.; *парайн.* руск. *разве* 'тж'.

РА'ЗЬНЯ *гл.* РА'ЗНА

РАЗ'ЮРЫ'ЦЦА *зак.* 1. *экспр.* Разгуляцца. *Раз'юрылася баба і на другую вёску паляцела да мушчын.* Жылі Іўеў. 2. Раз'юшыцца. *Раз'юрыўся чалавек, раззлаваўся.* Граўжышкі Ашм.

РАЗЯ'ВІЦА, РАЗЯ'ВІЦЦА *зак.* 1. Раскрыць рот. *Ён як разявіўся, і зляцелі зяўны.* Кудзялянцы Шальч. *Ня магу разявіца ад іх.* Старыя Трокі Трак. 2. *экспр.* Крычаць. *Разявілася і крычыць на ўсё горла.* Кіралі Шчуч. 3. *перан.* Раскрыцца. *На панажы станіш — разявяцца зявы.* Баложы Даўг.

РАЗЯ'ВІЦЬ, РАЗЗЯ'ВІЦЬ, РОЗЗЯ'ВІЦЬ *зак.* 1. Тое ж, што і р а з я́ в і ц а 1. *Як разяўлю рот, ат перцу гарыць.* Солы Смарг. *Разявіў рот, а ён за губы.* Альхоўцы Лях. *Што ты стаіш і рот раззявіў.* Саланое Віл. *Пташеня роззявіло рот, бо есті хочэ.* Курашэва Чыж. 2. Тое ж, што і р а з я́ в і ц а 2. *Разявіў рот, як халяву.* Галубы Маст. *Чаго разявіў рот?* Груздава Паст. *Ужо разявіла свае лупы.* Кіралі Шчуч. 3. *перан.* Адчыніць. *Акно разявіла на ўсю ноч. Печ разявіла і не закрыла.* Кіралі Шчуч.

РАЗЯВЯ'КА *м.* і *ж. экспр.* Разява. *Ён, як наш разявяка, будзіць мовіць усякія словы.* Ёдлавічы Брасл.

РАЗ'Я'ДРЫЦЦА, РАЗ'Я'ТРЫЦЦА *зак.* 1. Развярэдзіцца, разбалецца. *Раз'ядрылася скула.* Рудня Астравітая Чэрв. *Рана раз'ятрылася і ні гоіцца, наверна, вагнік упаў.* Кіралі Шчуч. 2. Разрасціся. *Раз'ядрыўся ячмень.* Рудня Чэрв.

РАЗ'ЯРЫ'ЦЦА *зак.* Тое ж, што і р а з'ю р ы́ ц ц а 1. *Раз'ярыўся хлопец, рашчырванеўся каля дзевак.* Кураполле Паст.

РАЗ'Я'СНІВАЦЦА *незак.* Праясняцца. *Трошкі раз'яснівaецца, можа, выпагадзіцца.* Пацаўшчына Дзятл.

РАЗЯ'УЛЕНЫ *дзеепрым.* Адчынены. *Вазьмі заслонку і закрый печ, бо разяўлена печ.* Кіралі Шчуч.

РАЗЯЎЛЯ'ЦЦА *незак.* Тое ж, што і р а з я́ в і ц а 1. *Блёкатам зубы лечаць: разяўляцца і глытаць пар.* Плябанцы Ашм.

РАЗЯЎЛЯ'ЦЬ *незак.* Раскрываць рот. *Кабанчык рота не разяўляў.* Кузьмічы Люб. *Пашчэмкі ў свіне, што разяўляе горла.* Кіралі Шчуч. ▽ *На чужы каравай рот не разяўляй.* Вузла Мядз.

РА'ІЦЬ *незак.* Радзіць. *Хто што раіць, усё п'ю.* Рагулішкі Даўг. ▽ *Хто раіць, той у небі не бываіць, а хто гўдзіць, той ня будзіць.* Кураполле Паст.

РАЙ I *м.* 1. *абрад.* Тое ж, што і р а ё к 1. *Раі пелі: «Раю, раю, ні хадзі каля краю, а хадзі ка мне ў хату».* Рыбчына Віл. 2. Тое ж, што і р а ё к 2. *Добрую жменю жыта нізжатага кініш і ніточкай звяжаш, красак наторкаіш у гэты рай і калочак пасярэдзіне прывяжаш, а пад ім паполіш, каб жыта налета было частая, хлеба і солі ўкапаеш.* Мярэцкія Глыб.

РАЙ II *м. рэліг.* Рай. ▽ *Харашо жывеш, як у раі.* Рудня Астравітая Чэрв.

РАЙДА'К *м.* і *ж. экспр.* Балбатун. *Баба рэйдая ўсё, байкі рэйдая. Райдакі — на такіх гаворуць.* Навасёлкі Лід.

РАЙДО'ЛІЦЬ *незак. экспр.* Гаварыць недарэчнае. *Райдоліць абы-што.* Вялікія Баяры Шчуч.

РАЙДУНЫ' *мн. этн.* Назва жыхароў суседніх вёсак, якія гавораць інакш. *У нас гаворацць тут, а райдуны — тутачкі. Райдуны па-райдунску гавораць.* Крупіца Мін.

РАЙЛЯ' *гл.* РАЛЛЯ'

РАЙНІ'К, РО'ЙНІК *м. пчал.* Тое ж, што і р а е́ л ь н і к. *Райнік фінерны з ліпы, дно падаш'ецъ.* Шкаўна Лудз. *Рой аграбаюць у ройнік.* Рыбчына Віл.

РАЙНІ'ЦА *ж.* Тое ж, што і р а й н і́ к. *Райніца была рой аграбаць.* Дакудава Лід. *Райніца для рою.* Рыбчына Віл.; Мярэцкія Глыб. *У райніцу зграбаюць рой.* Жодзішкі Смарг. *Райніца — каробачка, рой аграбалі.* Азяраны Раг. *Рой сабраў у райніцу.* Опса Брасл. *Райніцы былі, і ў сіта аграбалі рой пчаліны, як няма райніцы.* Пацаўшчына Дзятл. *Райніца там стаіць.* Граўжышкі Ашм. *У райніцу пчол сабіралі.* Старыя Смільгіні Воран.

РАЙСТАВЫ' *прым.* Які мае адносіны да р о й с т. *Балота бывая райставоя і нерайставоя. Дзераво райставоя мала вырастая.* Старыя Смільгіні Воран. *Райставыя бярозы маленькія.* Малькуны Ігн. *Райставыя журавіны цвёрдыя.* Гемзы Шальч.; *параўн.* літ. *raĩstas* 'балота'.

РА'ЙСТВА *н.* 1. Вельмі добрыя адносіны да каго-н. *Райства было з ім жыць, ніколі не павадзіліся, ні паспорылі.* Саланое Віл. 2. Тое ж, што і р а й II. ▽ *Жывеш, як у райстве.* Рыбчына Віл. ◇ *Райства нябесная* — нябесны рай. *Кап на тым*

*свеце райства нябеснае было, а то згніеш — і ўсё тут.* Вецярэвічы Пух.

РАЙСТО′К *м. памянш.* да р о й с т 1. *Там райсток, мы заедзем і насмаргаям лістоў багуна.* Руднікі Шальч.

РАЙСТО′ПЫ, РАСТО′ПЫ *мн.* Калготкі. Старыя Трокі Трак. *Часам кум куме райстопы купляе.* Баброўнікі Гарад. *Купіла дзецям райстопы.* Вялікія Баяры Шчуч.; *параўн.* польск. *rajstopy* 'тж'.

РАК I *м. заал.* Рак. *Рак ґнібне і дзярэ разам.* Старыя Смільгіні Воран. *У гэтым беразе пад карчамі ракі водзяцца.* Вузла Мядз. *Ракі лезуць жабу есці.* Збляны Лід. *Зваліся ракі, прапалі, а да таго многа было ракаў.* Вецярэвічы Пух. *Ракі лавілі на жабу.* Саланое Віл. *Было ракаў многа, мусіць, атравілі.* Магуны Паст. *Ракаў лавілі рукамі на возеры.* Грыкені Вільн. *Ракаў мала па рэках.* Мельнікі Лудз. ∇ *Няма лепшага смаку, як у пячоным раку.* Вузла Мядз.

РАК II *м. мед.* Хвароба. *Рак прыстаў, гот пахварэў і памёр.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Муж хворы, рак яму лёхкіх.* Паляцкішкі Воран. *Хварэіць на рака.* Груздава Паст. *Ад рака няма дохтара.* Мсцібава Ваўк.

РАКА′, РЭ′КА *ж.* Рака. *На рацэ дзелалі мост.* Ністанішкі Смарґ. *Рака Вілья ў Вільні.* Швэды Вільн. *Палес хлопец у рэку.* Навасёлкі Свісл. *Чэрас рэку трэба ехаць.* Вецярэвічы Пух. *Рэка лёдам занялася.* Гальшаны Ашм. ◇ *Ракой ляцець*— ліцца няспынным патокам. *У нас ракой вада ляціць.* Кухты Віл.

РАКАВА′ЦІНА *ж.* Прамежак паміж капытоў у жывёлін. *Ракавацiна між капытоў у каровы.* Дзяніскавічы Ганц.

РА′КАВІНА *ж.* 1. Тое ж, што і р а к а в а́ ц і н а. *Міжы капытоў у каровы ракавіна.* Дакудава Лід. *Ракавіна між капытоў.* Вялікія Баяры Шчуч., Пасіене Лудз. *Ракавінаміжды капытоў.* Рудня Чэрв. *У каровы ракавіна, а ў гусей плеўка.* Міратычы Карэл. *У назе ракавіна ў каровы.* Чуркі Ашм. *Шышка пападая, кальшок у ракавіну.* Гемзы Шальч. *У жывёлы пасярэдзіні нагі ракавіна.* Баброўнікі Гарад. 2. Край капыта. *Заламалася ракавіна ў каровы, трэба абрэзаць ракавіну.* Мсцібава Ваўк. *У ракавіну конь гвоздзь загнаў, ці што?* Беразіно Докш. *Босы конь — няма ракавіны калянай.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

РАКАЛО′ЎНЯ *ж.* Прыстасаванне для лоўлі ракаў. *Ракалоўня, як карзіна, унутры ложат паджараную лягушку ілі тухлую рыбу, і ракі залазят.* Пасіене Лудз.

РА′КАМ, РА′КОМ *прысл.* 1. На карачках. *Поўзаў ракам.* Ахрэмаўцы Брасл. *Дзіця ракам лазіць.* Номікі Бабіц. *Яны ракам кустамі паўзлі.* Рагулішкі Даўг. *Цяпер машынамі жнуць, а то трэба было рукамі перамерань усё поле, пяць вёрст пасеяць ды іці ракам.* Баброўнікі Гарад. *Ракам лазылі.* Дзяні-

скавічы Ганц. 2. Стаяць, абапёршыся на стол. *Як пастаю трохі ракам, мне добра становіцца.* Гемзы Шальч.

РАКА'ЦЬ *незак.* Рыкаць. *Ракаюць каровы, у поле хочуць.* Мачаск Бярэз.

РА'КАЧАМ *прысл.* Ракам. *Я п ракачам лезла, кап яна ўстала.* Дакудава Лід.

РАКЕ'ТА *ж.* Конусападобнае прыстасаванне з жэрдак для дасушвання кармавых траў. *На ракету нада разлажыць салядэру.* Жылі Іўеў.

РАКІ' *мн.* Прыстасаванне ў лодцы для ўмацавання вясла. *Ракі называюцца, куды кладзецца апачына.* Бакшты Іўеў.

РАКІ'ТА, РОКІ'ТА *ж. бат.* Ракіта. *Ракіта красна.* Альхоўцы Лях. *Яна ракіту круціла.* Бакшты Іўеў. *Німа ракіт, асушылі балота.* Пасека Ст.-Дар. *Нарезав рокіты і ўплёв кошыка.* Курашэва Чыж.

РАКІ'ТНІК *зб. м. бат.* Зараснік ракіты. *Адзін ракітнік там расце.* Рудня Астравітая Чэрв.

РАКІ'ЦІНА *ж. бат.* 1. Лазіна. *Звычайна рэжуць ракіціну на кашэль.* Пасека Ст.-Дар. *Як вазьму ракіціну, ты ў мяне палучыш!* Бакшты Іўеў. 2. Від бярозы з вельмі цвёрдай драўнінай. *Ракіціна — бяроза, іна не шчапаецца.* Лісна В.-Дзв.

РА'КОМ *гл.* РА'КАМ

РАКО'ЎНІЦА *ж.* Тое ж, што і р а к а л о́ ў н я. *Ракоўніца ціпа карзіны.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

РАКЯЦЕ'НЬ *м.* Калатоўка. *Ракяцень і калатоўка — адно і тоя ш, ім у супя бульбу раскалачвалі.* Магуны Паст.; *парайн.* літ. *reketỹs* 'тж'.

РА'ЛА, РА'ЛО *н.* 1. Вілападобны ствол дрэва. *Рала ў дзераве.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Калкі для падвешвання калыскі ў полі. *Калыску і рала бралі на поле, як ішлі жаць.* Малыя Аўцюкі Калінк. 3. Раздвоены ўверсе слуп у студні з жураўлём. *У сахі слуп із раламі, між якіх кладзецца вагавіло ваду даставаць.* Дзяніскавічы Ганц. *Корбу паставяць на ралі. На рало клалі вагу.* Альхоўцы Лях. 4. Тое ж, што і р а́ к а в і н а 1. *Між капыцікаў у каровы рало.* Альхоўцы Лях. ◊ *По рала* — да самага тулава. *Угразнеш по рала.* Азарычы Пін.

РАЛА'ЧЫКІ *мн.* Вілкі ў рагатцы. Азарычы Пін.

РАЛЕ'ЙНАЯ ЖАБА *ж.* Рапуха. *Рапуха — ралейная жаба.* Асавец Віл.

РАЛЕ'ЙНЫ *прым.* Галоўны ў парнай запрэжцы (пра вала). *Па баразне ідзе ралейны вол.* Ісерна Слуц. *Ралейны вол прызначаны для арання.* Мярэцкія Глыб. *Ралейны вол хадзіў ралёю.* Дакудава Лід. *Ралейны вол усягда становіцца с правае стараны, ідзе па разоркі.* Масілавічы Сл. *Ралейны вол хадзіў па разоры.* Тухавічы Лях. *Ралейны вол, на якім пахалі.* Старыя Трокі Трак.

РА'ЛІСТЫ *прым.* Тое ж, што і р а з в і д л а́ с т ы. *Ралі-*

*ста ліпа.* Семежава Кап. *Хвоя і ліпа раліста.* Альхоўка Навагр. *Ралістае дзераво — як расходзіцца на дзве ралі.* Кузьмічы Люб. *Ралісты дуб.* Дзяніскавічы Ганц.

РАЛІ′ЦА *ж. памянш.* да р а л л я́. *На раняй раліцы вырасціць жыта і пшаніца.* Вузла Мядз.

РАЛЛЯ′, РАЙЛЯ′ *ж.* Ворыва. *Загаранэ поле — ралля ўжэ.* Солы Смарг. *Ралля вясною.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Па раллі ісці плоха.* Рудня Астравітая Чэрв. *Каровы на раллю не ідуць. Пара ўжо на гэтай райлі жыта сеяць.* Гемзы Шальч. *Райлёй бег.* Быстрыца Астр.

РАЛЛЯВЫ′ *прым.* Тое ж, што і р а л ё й н ы. *Раллявы вол, каторы ідзе ад раллі.* Пасека Ст.-Дар.

РАЛОВА′ТЫ *прым.* Тое ж, што і р а з в і д л а́ с т ы. *Груша раловатая ростэ.* Азарачы Пін.

РА′ЛЦА *н. памянш.* да р а́ л а 1. *Дзве ралцы на грушкі асталосо.* Семежава Кап.

РА′ЛЬЯ *зб. н.* Тоўстыя разгалістыя сукі. *У ліпы ралья.* Семежава Кап.

РАЛЮ′Х *м.* Шырокі загон узаранай зямлі. *Два довгі ралюхі просом засеяв.* Курашэва Чыж.

РАЛЯНЫ′ *прым.* Земляны. *Раляныя чэрві белыя, а галовы жоўтыя, вароны лётаюць і хватаюць гэтых чарвей.* Кіралі Шчуч.

РА′МА, РЯ′МА *ж.* 1. Аконная рама. *Рама да вакна дарабляецца і ўстаўляецца.* Збляны Лід. *Рама ў акне е.* Дзяніскавічы Ганц. *Нада рамы збіваць.* Валынцы В.-Дзв. 2. Перакладзіна ў баране. *Барана на тры-чатыры рамы есць, у баране есць бакавыя рамы.* Пасіене Лудз. 3. Тое ж, што і р а к е́ т а. *Такоя сена добра ў рамы злажыць, яно высахаіць.* Валынцы В.-Дзв. 4. Рама ў ложку. *Адні рямы ў краваці, а матраса нет.* Мішневічы Шум. 5. Прамавугольнік з планак для розных мэт. *Рама для вывязвання.* Паляцкішкі Воран.

РАМАВІ′К *м.* Рамачны вулей. *Вуль, ілі рамавік,— адно тое. Рамкі ў рамавіку есць, патом сцекло і сетка.* Опса Брасл.

РАМА′ТУЗ, РАМА′ТУС, РАМА′ТЫЗ *м. мед.* Рэўматызм. *Ад раматузу бадзяга з жырам ці воткай харашо.* Плябанцы Ашм. *Раматус рукі і ногі круціць.* Галубы Маст. *Лякарства дала ад раматуса.* Малі Астр. *Хварэю на раматус, круціць косці.* Солы Смарг. *Раматус даўней замаўлялі.* Кіралі Шчуч. *Раматус у мяне, апохлі калені.* Магуны Паст. *Яна была ў раматусі.* Альхоўка Навагр. *Як ніпагода, то так і пальцы круціць, ад раматузу німа лекаў.* Баброўнікі Гарад. *Як раматыз — ногі ломіць.* Лука Нараўк.

РАМАТЫ′ЗМА, РАМАЦІ′ЗМА, РАМАЦІ′ЗНА *ж.* Тое ж, што і р а м а́ т у з. *Ад раматызму няма як хадзіць.* Быстрыца Астр. *Лятучая рамацізма ў мяне.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Папрыкорчувала рамацізма пальцы, сталі кукарэкамі.* Саланое Віл.

*Дзет замаўляў рамацізну.* Дакудава Лід. *Рамацізна ў нагах.* Рудня Астравітая Чэрв. *Рамацізна ўпаўшы ёй у рукі.* Кіралі Шчуч. *Рамацізна руку ломя.* Рыбчына Віл.

РАМАЦІ'ЗМ *м.* Тое ж, што і р а м а́ т у з. *Сказаў доктар, што рамацізм у мяне.* Альхоўка Навагр. *У каго рамацізм, мурашкі добра са спіртам.* Навасёлкі Лід. *Рамацізм гадзюгай лечаць, націрают.* Рагулішкі Даўг.

РАМА'ШКА *ж. бат.* 1. Рамонак. *У нас рамашка, што малаком абліта.* Кіралі Шчуч. 2. Настой рамонка. *Рамашкі ад усяго п'юць.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

РАМЕ'ННЫ *прым.* Скураны. *Тепер до черевік дают гумовы пудошвы, не раменны. Раменного біча купів.* Курашэва Чыж.

РАМЕ'НЬ *гл.* РЭ'МЕНЬ

РАМЁНКІ *мн.* Апорныя планкі, на якія накладаецца вітушка ў матавіле. *Рамёнкі — плечкі ў вітушкі.* Магуны Паст.; *парайн.* р а м я н о́ 1.

РА'МКА *ж.* 1. *пчал.* Рамка. *Рамка ў вуллі.* Міратычы Карэл. *Рамка ў вуллі для пчол.* Судэрва Вільн. 2. Ручка ў прыладзе, якой абразалі галоўкі ільну. *Былі такія нажы лён абразаць, ухо прыбіваецца да рамкі, кручкаватых дзесяць нажоў там.* Ахрэмаўцы Брасл.

РАМКО'ВІК *м.* Тое ж, што і р а м а в і́ к. *Рамковікі з дасок, домікі пчаліныя.* Беразіно Докш.

РАМО'НАК, РЫМО'НАК *м.* Тое ж, што і р а м а́ ш к а 1. *Рамонак старыя людзі называюць, цяпер—рамашкай.* Альхоўка Навагр. *Белы рымонак — кветка.* Малыя Аўцюкі Калінк.

РАМО'НЬКА *ж.* Тое ж, што і р а м а́ ш к а 1. *Рамонькі растуць на полі.* Кураполле Паст.

РАМУЛІ' *мн. бат.* Рамонак лугавы. *Бальшыя рамулі ад хвароб, як лякарства.* Малькуны Ігн. *Рамулі п'юць ад балезней.* Чычалі Швянч.; *парайн.* літ. *ramũliai* 'тж'.

РАМУ'ЛЛЕ *зб. н.* Старыя рэчы, прадметы. *На горе назбіралосе того рамулля.* Курашэва Чыж.

РАМУЛЬКІ' *мн. бат.* Рамонкі. *Рамулькі ў жыця растуць.* Малькуны Ігн. *Рамулькі пальныя меньшыя, іх прымаюць у аптэкі.* Ракаўскія Швянч.

РАМУ'НКІ *мн. бат.* Тое ж, што і р а м у л ь к і́. Кураполле Паст.

РАМЧУ'К *м.* 1. Тое ж, што і р а́ м а 2. *У баране рамчукі, зачэпіш імі за дрэва.* Гемзы Шальч. 2. Чатырохгранны брусок. *Выразаюць палачкі на рамы — гэта рамчукі.* Гайна Лаг.

РАМШТУ'К *м.* Тое ж, што і р а м ч у́ к 2. *Без рамштука раму не зробіш.* Ахрэмаўцы Брасл. *Рамштукі ідуць на папярэчкі ў акне.* Быстрыца Астр. *Для агароткі рамштукі ідуць.* Малі Астр.

РАМШТУЧО'К *м. памянш.* да р а м ш т у́ к. *Рамштучок з*

*дрэва, як лінейка, прыбіваецца каля берагоў на столі і на падлозе.* Малі Астр.

РАМЯНО′ *н.* 1. *анат.* Плячо. *Рамяно баліць.* Паляцкішкі Воран. *За рамяно мяне трос.* Жылі Іўеў. *Рамёна баляць.* Быстрыца Астр. 2. Частка адзежыны, што надзяецца на плячо. *Разарваў рамяно ў кашулі.* Вялікія Баяры Шчуч.

РАМЯСЛО′ *н.* Рамяство. *Даўней усе рамясло было ў яўрэяў.* Мсцібава Ваўк.; *параўн.* руск. *ремесло* 'тж'.

РАМЯСНІ′К *м.* Рамеснік. ∇ *Бондар і каляснік даўно не рамяснік.* Вецярэвічы Пух.

РА′НА І *ж.* Рана. *Рана длуга не зажывала.* Малі Астр. *Зажыла рана.* Рудня Астравітая Чэрв. *Да раны прыкладаў усё.* Ахрэмаўцы Брасл. *Раны ні сыходзяць.* Азяраны Раг. *Раны нашліся.* Гемзы Шальч.

РА′НА ІІ *прысл.* 1. Раніцай. *Рана ўстаеш і едзіш ватагай, чалавек па восем — дзесяць у лес.* Вузла Мядз. *Меўся ўстаць рана, але запазніўся, заспаўся.* Гемзы Шальч. ∇ *Не кайся, рана ўстаўшы, а малады — ажаніўшыся.* Вузла Мядз. *Хто рана ўстае, той песяньку пяе, а хто спіць да сонца, таму ў машонца.* Вецярэвічы Пух. 2. Дачасна. *Яна пасадзіла бульбу рана.* Кемялішкі Астр. *Шчэ рана садзіць бульбу.* Альхоўка Навагр. *Яна рана ўмерла.* Старыя Трокі Трак.

РАНАВА′ТА *прысл.* Крыху рана. *Ранавата пыляняткі выпускаць, халодны вецяр.* Рудня Астравітая Чэрв.

РА′НАК *м.* Раніца. *Які тут ранак!* Вялікія Баяры Шчуч. *Прынясу дроў на ранак паліць пліту.* Азяраны Раг. *Калі на ранку доеная, то яна не раве.* Дакудава Лід. *На ранку малаком забеліць.* Беняконі Воран. *Ранак да абеда.* Галубы Маст. *На ранку ўстанеш.* Вялікія Баяры Шчуч. *На ранку паеду.* Старыя Трокі Трак. *Ён прышоў на ранку.* Крынкі Крын. ∇ *Мінулася Ільля і Ганкі, то настануць халодныя ранкі.* Ялова Пруж.; *параўн.* польск. *ranek* 'тж'.

РА′НАНЬКА *прысл.* Рана. *Рананька карову дой.* Альхоўка Навагр.

РАНДЭ′ЛЬКА *ж.* Каструля з доўгай ручкай. *Рандэлька з ручкай, вялікая ручка ў ёй.* Індра Красл.

РАНДЭ′ЛЯК, РАНДЭ′ЛЕК, РОНДЭ′ЛІК, РОНДЭ′ЛЯК, РОНДЭ′ЛЕК *м.* Тое ж, што і р а н д э́ л ь к а. *Цяпер каструля, некалі гаварылі рандэляк.* Дакудава Лід. *Рандэляк быў закапаны поўны грошы.* Кузьмічы Люб. *Рандэляк медны.* Мсцібава Ваўк. *Рандэляк з ручкай.* Масілавічы Сл. *Спачатку разбіваюць яйка і ў рандэльку боўтаюць іх з мукой, малаком—і пякуць такую яешню.* Галубы Маст. *Рандэляк з ручкай, маліраваны.* Альхоўцы Лях. *У гетых рандэлкох малако кіпяцілі, бапкі пяклі.* Баброўнікі Гарад. *У нас была ліміневая міска, рандэлек зваўся.* Індра Красл. *Былі рондэлькі медзянэ.* Кемялішкі Астр. *Рондэлькі ў іх ёсць, гатавалі для дзяцей.*

Старыя Трокі Трак. *Рондэляк з ручкай.* Солы Смарг. *Рондэлек медны.* Лука Нараўк.; *параўн.* польск. *rondel* 'тж'.

РАНДЭ'ЛЯЧАК *м. памянш.* да р а н д э́ л я к. *Уліла малака ў рандэлячак.* Паляцкішкі Воран.

РАНЕ'Й *прысл.* Даўней. *Раней на выправы па пяць рублей дарылі.* Збляны Лід. *Тараканы раней у хаця вяліся.* Навасёлкі Свісл. *Раней гарэла, ні ў тым гаду.* Солы Смарг.

РАНЕ'ЙШЫ *прысл.* Больш ранні. *Жыта пасеялі ранейшае.* Быстрыца Астр.

РА'НІ *гл.* РА'ННІ

РА'НІЦА *ж.* 1. Тое ж, што і р а́ н а к. *Раніца вяліка ўжэ.* Альхоўцы Лях. *Спала да раніцы.* Лоск Валож. *На раніцу я ні сплю, а патом і да дзвінаццаці ахотна спаць.* Саланое Віл. *На раніцы быў дошч.* Солы Смарг. *Карову на раніцу даіла.* Малахоўцы Бар. *Выхажу я на раніцы.* Гемзы Шальч. 2. у знач. *прысл.* р а́ н і ц а й. Ранкам. *Раніцай работы поўна.* Вузла Мядз. *Ні хачу раніцай есь.* Валынцы В.-Дзв. *Я раніцай падаю і выганю ў поле.* Лісна В.-Дзв. *Раніцай час дош ідзе, а ўвесь дзень пагода.* Латыгаль Віл. *Раніцай прышоў да нас.* Талейкі Швянч. ∇ *Раніцай росна, а ў паўдзён млосна, а ўвечары камары кусаюць.* Валынцы В.-Дзв.

РАНІ'ЦЦА *незак.* Рана што-н. рабіць. *Не раніся печку паліць.* Саланое Віл.

РА'НІЦЬ *зак.* Параніць. *У руку мяне раніла.* Гемзы Шальч.

РАНІ'ЦЬ *зак.* Не ў тэрмін нарадзіць. *Раніла дзіця, што з ёй ёсць?* Граўжышкі Ашм. ◇ *Душу раніць*—клапаціцца, любіць. *Мы дружна жылі, адзін за другім душу ранілі.* Вузла Мядз.

РАНІЧКО'Й *прысл.* Раніцай. *Касіў сын ранічкой.* Валеўка Навагр.

РА'НІШНІ *прым.* Ранішні. *Ранішні ўдой.* Плябанцы Ашм. *Еш ранішняе малако.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

РА'ННІ, РА'НІ *прым.* Ранні. *Раня картофля.* Вецярэвічы Пух. *Спешка—раня картофля.* Дзяніскавічы Ганц. *Раня година була, як все вышлі в поле.* Курашэва Чыж. ∇ *Ранняя птушка зупкі харошыць, а позняя вочкі трэ.* Вецярэвічы Пух. *Раняя пташка носік працірая, а позняя — вочы.* Старое Сяло Зэльв. *Ранняя не ўродзіць, але насенне не зводзіць.* Рудня Астравітая Чэрв.

РА'ННІК *м. бат.* Трыпутнік ланцэталісты. *У ранніку вялікае лісцё.* Груздава Паст.

РА'ННЯ, РА'НЯ *н.* Тое ж, што і р а́ н а к. *Чуць ранння прыдзе, устану і за работу.* Рудня Астравітая Чэрв. *Рання большоя, а ты спіш.* Азяраны Раг. *На раня паехалі.* Малахоўцы Бар.

РАННЯ' *гл.* РАДНЯ'

РА'НО *прысл.* Тое ж, што і р á н а II, 1. *Рано і ўвечары праз два дня выпалівала рожу, і нага стала здарова.* Сакаляны Сакол.

РАНТ *м.* Вузкая палоска скуры па краях абутку. *Рант у туфлях.* Пацаўшчына Дзятл.; *параўн.* польск. *rant* 'тж'.

РАНТКАВА'ЦЬ *незак.* Сустракацца. *Вы маладыя, то яшчэ трэба ранткаваць.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *randka* 'спатканне'.

РАНЦЯ'К *м.* Тое ж, што і р у б é ц 1. *Ранцякі—шрамы на рагах.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* літ. *rėñčiai* 'тж'.

РАНЦЯКІ' *мн.* Трэшчыны (на нагах). *Ранцякі на нагах пашчапаліся, аш пятухі на нагах.* Старыя Смільгіні Воран.; *гл.* р а н ц я́ к.

РА'НЬША, РА'НЬШЫ, РА'НЬШЭ *прысл.* Тое ж, што і р а н é й. *Раньша сямейкі бальшыя былі, у мяне дык семера рабят.* Яніна В.-Дзв. *Раньша быкамі аралі.* Вузла Мядз. *Раньша быў кляштар.* Гальшаны Ашм. *Раньшы, як маладыя былі, вісялей было, пяём песні, качэлі віселі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Раньшы і пастароннія былі на свадзьбі.* Буды В.-Дзв. *Раньшы пахалі сохамі.* Істра Лудз. *Раньшэ іх не было, гэтых жукоў.* Кемялішкі Астр.; *параўн.* руск. *раньше* 'тж'.

РАНЮ'СЕНЬКО, РАНЮ'СЕНЬКА *прысл.* Вельмі рана. *Паехаў у Масты ранюсенько.* Вострава Маст. *Устала яна ранюсенька.* Кухты Віл.

РАНЮ'ТКА, РАНЮ'ЦКА *прысл.* Тое ж, што і р а н ю́ с е н ь к о. *На Яна ўстае чуць шэра, ранютка, бярэ ўздэчку і цягае па расе, прынясе дахаты і павесіць, і з уздэчкі цячэ малако.* Гемзы Шальч. *Яна ранютка ўжо ідзе.* Граўжышкі Ашм. *Ранюцка была.* Кураполле Паст.; *параўн.* польск. *raniutko* 'тж'.

РА'НЯ *гл.* РА'ННЯ

РА'ПА, РО'ПА *ж.* Гнойная вадкасць. *Рапа пацякла ў памёршага.* Вялікія Аўцюкі Калінк. *Ропа з умяршага выходзіць.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* польск. *ropa* 'тж'.

РАПА'К *м. бат.* Лопух. *Калісь ціснулі алей з рапаку.* Ятвезь Ваўк.

РАПАРА'ЦЫЯ, РАПАРА'ЦІЯ *ж.* Аперацыя. *Дачцэ рапарацыю прадлагалі.* Дакудава Лід. *На рапарацію лажылі.* Старыя Смільгіні Воран.

РАПЕ'Й *м. бат.* Тое ж, што і р а п á к. *У нас рапей расце.* Вялікія Баяры Шчуч. *Шышкі ад рапея п'юць ад нэрваў, а як лісцем галаву абложыш, добра выцягуе пал.* Старыя Смільгіні Воран.

РАПЕ'НЬ *м.* Тое ж, што і р а п á к. *Рапень прошлы гот заказвалі, збіралі карэнні яго.* Кіралі Шчуч.

РА'ПЛЫ *мн.* Клюшні рака. *Рак ґнембіць раплам.* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. *rẽplės* 'тж'.

РАПО́ЎНІК зб. м. бат. Лісце лопуху. *Рапоўнік вешалі і сушылі, варылі націну.* Саланое Віл.

РАПС м. Сорт бручкі. *Рапс — гэта сорт кузікі.* Кузьмічы Люб.

РА́ПТАМ прысл. Знянацку. *Раптам задзержыў машыну.* Груздава Паст. *Едзя ён на раніцу, была слізата, ні мох раптам стаць і перакуліў машыну.* Крэва Смарг. *Раптам секануў дошч.* Малі Астр. *Раптам жывот забаліць.* Вялікія Баяры Шчуч. *Ён раптам памёр.* Вецярэвічы Пух. *Раптам матка памёршы.* Рагулішкі Даўг. *Раптам памёрла дачка, яна плакала, убівалася.* Валынцы В.-Дзв. *Натта плоха, як чалавек раптам уміpae.* Дзераўное Стаўб. *Але ш раптам табе паттарнула вуды.* Кіралі Шчуч.; *парайн.* польск. *raptem* 'тж'.

РАПТА́ЦЬ, РАПТА́ЦІ незак. Наракаць. *Рэпча ён на міне.* Рудня Астравітая Чэрв. *Ён усё репче, што ногі баляць, што баба плахая.* Баброўнікі Гарад.; *парайн.* руск. *роптать* 'тж'.

РАПТО́ВО прысл. Тое ж, што і р а́ п т а м. *Конь раптово потонув, і я упав з воза.* Курашэва Чыж. *Раптово яго схопіла.* Азарычы Пін.

РАПТО́ВЫ прым. 1. Раптоўны. *Раптовы дош.* Ністанішкі Смарг. 2. Запальчывы. *Яе сынава злая, раптовая.* Стральцы Шальч.; *парайн.* польск. *raptowny* 'тж'.

РАПТО́ЎНА прысл. 1. Тое ж, што і р а́ п т а м. *Раптоўна чалавек памёр.* Лісна В.-Дзв. *Раптоўна памёрла ў нас баба.* Валынцы В.-Дзв., Кіралі Шчуч. *А долга чалавеку, як муха, кажуць бабы, так раптоўна памярла.* Малькуны Ігн. *Раптоўна памёр.* Груздава Паст. 2. Імгненна. *Раптоўна падасінавік сінеіць, як возьміш у руку.* Лісна В.-Дзв.; *парайн.* польск. *raptownie* 'тж'.

РАПТУ́Х, РЭ́ПТУХ м. Вераўчаны мех. *Раптух — мех вераўчаны.* Рыбчына Віл. *Бывала, на базар прыедзе, к аглабле прывяжа рэптух, конь паскубуя і есь.* Азяраны Раг.

РАПТЭ́Я прысл. Тое ж, што і р а́ п т а м. *Я раптэя сабралася.* Рудня Астравітая Чэрв.

РАПУ́ХА, РАПУ́ГА, РЫПУ́ГА, РАПО́ХА ж. 1. Палявая, земляная жаба. *Напужала рапуха, прабегла па руцэ.* Беразіно Докш. *Рапуха вялікая, яна млечная, садзяць у малако яе.* Магуны Паст. *Рапуха па зямлі поўзая.* Жодзішкі Смарг. *Калі ў гародзе рапуха вядзецца, гэта харошы гарот.* Кіралі Шчуч. *Зялёна рапуха велька, тоўста.* Вялікія Баяры Шчуч. *Рапуха страшная.* Навасёлкі Свісл. *Рапуха — здаровая жаба.* Збляны Лід. *Рапуха тоўстая.* Дакудава Лід. *Рапуха мякка, тоўстая, як подушка.* Пацаўшчына Дзятл. *Рапуха ўрэдная, картошку порціць, буракі паідаіць на лехах.* Валынцы В.-Дзв. *Рапуха пузатая — ета палявая жаба.* Багушэвічы Бярэз. *Рапуха скача ў хаце.* Міратычы Карэл. *Рапуха жывець у гародзі.* Рагулішкі Даўг. *Рапухі ў парозі вяліся.* Глівін Барыс.

*Рапухі — жабы ўрэдныя.* Ахрэмаўцы Брасл. *Рапуга поўзае.* Старыя Смільгіні Воран. *Рапуга поўзае каля хатаў, карову ссе.* Быстрыца Астр. *Рапуга на полі чорная, страшная.* Чуркі Ашм. *Рапуга ў агародзі водзіцца, можа і ў хаці быць.* Кузьмічы Люб. *Рапуга, бываіць, і ў хату заберыцца, карову ссець.* Ракаўскія Швянч. *Рапуга палезла пад падмуроўку.* Гемзы Шальч. *На снапе рапуга сядзела.* Старыя Трокі Трак. *Рапугі ў будынках бываюць.* Кураполле Паст. *Як карова ляжыць, рыпуга падпаўзае і ссе малако.* Кудзялянцы Шальч. *Рыпуга карову высасая.* Малі Астр. *Рапоха — земляная жаба.* Мсцібава Ваўк. 2. *перан. абразл.* Неахайная жанчына. *Рапуха ты ралейная!* Рыбчына Віл. *Рапухі брыткія, сядзяць і брэшуць.* Рагулішкі Даўг.

РАПЭ́ТА *ж. кулін. экспр.* Страва з сумесі агародніны і круп. *Наварыла рапэты, там усякая ўсячына.* Дакудава Лід.

РАС *гл.* РАЗ II, III

РАСА́ I *ж.* 1. Раса. *Як ёсць раса — добрая пагода.* Солы Смарг. *Часта пападаіць вангор, як па расе ідзеш.* Груздава Паст. *Расой добра ліцо ўмываць.* Ухвала Круп. *Угорычы па расе ходзяць у гарох.* Рагулішкі Даўг. 2. Вільгаць на шыбах. *Падвойнае акно ўставяць, і расы на іх няма.* Баброўнікі Гарад.

РАСА́ II *ж. бат.* Раска. *Раса — трава ў вадзе, абычна дзе стаіць вада.* Альхоўка Навагр. *Раса—трава ў рэчцы, як аборы.* Саланое Віл.

РАСА́ III *ж.* Цвіценне, красаванне. *Расуе жыта, пускае расочкі — гэта раса.* Беняконі Воран.

РАСАВА́ЛЬНІКІ, РЫСАВА́ЛЬНІКІ *мн. бат.* Першыя баравікі, якія з'яўляюцца ў час красавання жыта. *Расавальнікі — баравікі, растуць, калі жыта расуя.* Дакудава Лід. *Выплывальнікі зараз будуць, а потым рысавальнікі да канца месяца.* Пацаўшчына Дзятл.

РАСАВА́ННІКІ *мн.* Тое ж, што і р а с а в а́ л ь н і к і. *Расаваннікі—грыбы белыя, як жыта расуе.* Пацаўшчына Дзятл.

РАСАВА́ЦЬ, РУСУВА́ЦЬ, РЫСАВА́ЦЬ *незак.* 1. Красаваць. *У гэтым годзе жыта рана расуе.* Старыя Смільгіні Воран. *Расуе жыта, што раса, калмаценька.* Пацаўшчына Дзятл. *Выплывая, а посля расуе жыта.* Дакудава Лід. *Жыта расуе.* Тухавічы Лях., Лука Нараўк., Малахоўцы Бар. *Як жыто расуе, то натто мухі кусаюцца.* Баброўнікі Гарад. *Ужо будзе жыта расаваць.* Кіралі Шчуч. *Расавала жыта.* Беняконі Воран. *Ужо русуе жыта.* Груздава Паст. *Рысуе жыта, а потым налівае і спее.* Галубы Маст. 2. Цвісці. *Вярба расуе, на ёй чарвячке, коцікі такія.* Кіралі Шчуч.

РАСА́ДА *ж.* Расада. *Расада капусты, памідор.* Солы

Смарг. *Сёння расады накупляла.* Чапаеўскі В.-Дзв. *Шурык дзве капе купіў расады.* Пацаўшчына Дзятл.

РАСА'ДНІК *м.* 1. Месца, дзе вырошчваюць расаду. *Расаднік — дзе расаду садзім.* Кіралі Шчуч. *Высадкі ў расадніку.* Азяраны Раг. *Куры раскапалі чыста расаднік.* Едлавічы Брасл. *На расадніку расаду сеюць.* Баброўнікі Гарад. 2. Кветнік. *Расаднік даўней называлі цвятнік.* Рудня Астравітая Чэрв.

РАСА'К *м.* Рысак. *Расак — харошы конь.* Пасіене Лудз.

РАСАКІ'ЛЯ *ж. бат.* Гусялапка востравугольная. *Расакіля — трава такая, гусіная лапка.* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. *rasakilà* 'тж'.

РАСАЛЕ'НІК *м. кулін.* Страва з квашаных буракоў. *Расаленік з бурачка чырвонага.* Грыкені Вільн.

РАСАЛЕ'НЯ, РОСАЛЕ'НЯ *ж.* Тое ж, што і р а с а л е́ н і к. *Дзелалі расаленю — квасілі буракі.* Старыя Трокі Трак. *Росаленю варылі — боршч такі.* Стракішкі Трак.; *параўн.* літ. *rasaliẽnė* 'тж'.

РАСАХА'ТЫ, РАССАХА'ТЫ *прым.* 1. Расахаты. *Расахатая дрэва, сукі бальшыя.* Солы Смарг. *Расахатая хвоя, карамзатая.* Рудня Астравітая Чэрв. *Расахатае дрэва.* Рыбчына Віл. *У расахатым дрэве многа сукоў.* Чычалі Швянч. *Рассахатая дзерава.* Магуны Паст. 2. *перан.* Раскудлачаны. *Віджу — галава расахатая, валасы дубака.* Малі Астр.

РАСАХЕ'Т *м.* Азярод. *Як лета мокрае, ставілі расахет.* Граўжышкі Ашм.

РАСАХЕ'ТА *ж.* Тое ж, што і р а с а х е́ т. *Злажыў віку ў расахету.* Граўжышкі Ашм.

РАСВІТА'ЦЬ *зак.* Развіднецца. *Чуць расвіло, я пашла за грыбамі.* Малыя Аўцюкі Калінк.

РАСЕ'ЦЬ *незак.* Намакаць ад расы. *Сена расеіць, ужо раса пацягнула.* Кураполле Паст.

РАСІ'ЧКА *ж. бат.* Расянка. *Расічка ад дыхавіцы, на бары расце. Расічка пітаецца мухамі і аваднямі.* Солы Смарг.

РА'СКА, РЯ'СКА *ж.* Тое ж, што і р а с а́ II. *Раска на вадзе.* Беразіно Докш. *У расцы лісцікі драбнюсенькія.* Глівін Барыс. *Ряска на вадзе, як бы зацвіла вада.* Чарняўскія Лудз.

РАСКА'З *м.* Паведамленне. *Па расказам, тут была Літва.* Ністанішкі Смарг.

РАСКА'ЗАВАЦЬ, РАСКА'ЗВАЦЬ, РАСКА'ЗУВАЦЬ, РОЗКА'ЗУВАТІ *незак.* Расказваць. *Ён давай расказаваць.* Альхоўка Навагр. *Расказавая басню.* Лоск Валож. *Расказуя, як яе гэты хлопяц любіць.* Гальшаны Ашм. *Расказуя яму свёкар.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Як яна расказуе, то ўсё запісвалі.* Паляцкішкі Воран. *Нэ будэш мніе тутака розказуваті, што я маю робіті.* Курашэва Чыж.

РАСКАЗА'ЦЬ *зак.* Расказаць. *Раскажа харашэй, чым чы-*

*тае.* Солы Смарг. *Вот тое, што я вам расказала.* Канюкай Вільн.

РАСКАЛАВА'ТЫ *прым.* Разбэшчаны. *Раскалаваты хлапец.* Жылі Іўеў.

РАСКАЛАЦІ'ЦЬ *зак.* Раскалаціць. *Раскалацілі муку.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Раскалачу муку ў вадзе.* Азяраны Раг. *Раскалоцім бліноў, папячэм і ў смятану мачаць будзем.* Пацаўшчына Дзятл.

РАСКАЛА'ЧВАЦЦА *незак.* Раскалочвацца. *Раскалачваецца мука і ставіцца ў печ.* Чуркі Ашм.

РАСКАЛА'ЧЫВАЦЬ *незак.* Раскалочваць. *Поліўку варылі: раскалачываем мукі, заліваем, а грыбы варацца с кісьлёй.* Вузла Мядз.

РАСКАЛБАТА'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і р а с к а л а ц і ц ь. *Раскалбатаям мукі і вымазваям дзешку, калі дзешка была запарана.* Руднікі Шальч.

РАСКАЛБАЦІ'ЦЬ, РАСКАЛБО'ЦІЦЬ *зак.* Тое ж, што і р а с к а л а ц і ц ь. *Раскалбаці яйко, патсып мукі!* Жылі Іўеў. *Троха кваснага малака с патсмятаны раскалбаціла і булкі зарашчыніла.* Бакшты Іўеў. *Трэба раскалбаціць муку ў зімной вадзе, усуваць у печ, накрыць, каб упарылася.* Івашкаўцы Смарг. *Яёк раскалбоцяць у місцы і пякуць яешню.* Дакудава Лід.

РАСКАЛІ'ЦЬ *зак.* Распаліць. *Раскаліў жалеза ў кузні, а печ накальваюць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Раскалілі жалеза.* Малыя Аўцюкі Калінк.

РАСКАЛО'ЧАВАЦЬ *незак.* Расхістваць. *Раскалочаваць зуб, каб хутчэй выпаў, бо той вырастае, а гэты мяшае.* Бабро'унікі Гарад.

РАСКА'ЛТАВАЦЬ *незак.* Тое ж, што і р а с к а л á ч ы в а ц ь. *Раскалтаваюць муку і ў печ становяць.* Старыя Смільгіні Воран.

РАСКАЛТУНА'ЦЦА *зак.* Раскалмаціцца. *Раскалтуналася дзеўка, непрычосаная.* Едлавічы Брасл.

РАСКАЛЫХА'ЦЦА *зак.* Пачаць моцна калыхацца. *Раскалыхалася жыта.* Чычалі Швянч.

РАСКАЛЯСІ'ЦЦА *зак.* Разгалінавацца. *Клён раскалясіўся, галін многа.* Вецярэвічы Пух.

РАСКАПІ'ЦЬ *зак.* Расшчапіць. *Ён раскепя любое палена.* Рыбчына Віл.

РАСКАРА'КА, РАСКІРЭ'КА, РАСКІРЯ'КА *м.* і *ж. зневаж.* Раскірэка. *Нейка раскарака ідзе.* Кемялішкі Астр. *Раскарака ты, раскарачыў ногі.* Пацаўшчына Дзятл. *Раскірэка пашоў, раскірэчыўшы ногі.* Кураполле Паст. ∇ *Няўдалы, як раскірэка, ідзе, ногі раскідаючы.* Малі Астр. *Раскірякай завуць чалавека, як ногі крывыя.* Рагулішкі Даўг.

РАСКАРАНІ'ЦЦА *зак. экспр.* Абзавесціся сям'ёй, даць

патомства. ∇ *Кап ты не разжылася і не раскаранілася.* Вецярэвічы Пух.

РАСКАРА′ЧЫЦЬ, РАСКІРЭ′ЧЫЦЬ *зак.* Шырока расставіць ногі. *Раскарачыў ногі, раскарака ты!* Пацаўшчына Дзятл. *Раскарачы ногі і сядзі, як дурная.* Кемялішкі Астр. *Раскірэчыла ногі.* Мсцібава Ваўк.

РАСКАРКАЛІ′ЦЦА *зак.* Разрасціся. *Раскаркаліліся вішні, многа пусцілі атожылкаў.* Лісна В.-Дзв.; *гл.* к а р к а л і ц ц а.

РАСКА′РКАЦЦА *зак. перан. экспр.* Разгаварыцца. *Раскаркалася, як курыца.* Ёдлавічы Брасл.

РАСКАТУ′РХАЦЬ *зак.* Разбудзіць. *Раскатурхай яго, а то спозніцца на аўтобус.* Міратычы Карэл. *Раскатурхаў бы і яго.* Малахоўцы Бар.

РАСКА′ЧАВАЦЬ *незак.* Разгортваць. *Раскачаваюць трупкі і шыюць бялье, усячыну.* Лісна В.-Дзв.

РАСКАШАВА′ЦЦА *незак.* Жыць у раскошы. Рудня Чэрв.

РАСКАША′ЦЦА *незак.* Тое ж, што і р а с к а ш а в á ц ц а. *Раскашаюцца людзі цяпер.* Нізок Уздз.

РАСКВА′РЫЦЬ, РАССКВА′РЫЦЬ *зак.* Насквapыць. *Скваркаў расквару, мукі, малака ўлію — добрая яда.* Солы Смарг. *Рассквapыць трэба сала.* Чуркі Ашм., Мярэцкія Глыб.

РАСКІВА′ЦЬ *зак.* Расхістаць. *Расківаць калок трэба, а тады ўжо вырваць.* Рудня Астравітая Чэрв.

РАСКІДА′ЦЦА *незак.* Разбурацца. *Е дошчычкі, кап чыны не раскідаліся.* Альхоўцы Лях.

РАСКІ′ДА′ЦЬ, РОСКІДА′ЦЬ *зак.* і *незак.* 1. Раскідаць, раскідваць. *Раскідала сена.* Галубы Маст. *Раскідáлі той стажок.* Вецярэвічы Пух. *Ходземце роскідаць гной.* Малыя Аўцюкі Калінк. 2. Разбураць. *Пашлі раскідáць хату.* Вецярэвічы Пух. 3. Разганяць. *Як возьме мачыху, то ўсіх дзяцей раскідая.* Жылі Іўеў.

РАСКІ′ДВАЦЦА *незак.* Лопацца (пра бурбалкі на вадзе). *Буркаўке паказваюцца і раскідваюцца, будзя велькі дош.* Парэчча Гродз.

РАСКІДЛЕ′ЖЫЦЦА *зак.* Разварыцца. *Не люблю есці, як раскідлежыцца макарон на цюпку.* Лісна В.-Дзв.

РАСКІДНЫ′ *прым.* 1. Які ўзараны ўроскідку. *Раскідная баразна пры вораве ўроскідку.* Азяраны Раг. 2. Скупы. *У радні з ім добра жыць, ён не раскідны.* Малі Астр.

РАСКІ′НУЦЦА *зак.* Пакрыцца балячкамі. *Ат трох год захварэла, ношка раскінулася.* Малькуны Ігн.

РАСКІРЭ′КА, РАСКІРЯ′КА *гл.* РАСКАРА′КА

РАСКІРЭ′ЧЫЦЦА *зак.* Шырока расставіць ногі. *Ён раскірэчыцца і стаіць.* Курaполле Паст.

РАСКІРЭ′ЧЫЦЬ *гл.* РАСКАРА′ЧЫЦЬ

РАСКІСЯЛІ′ЦЬ *зак.* Разрэдзіць. *Раскісяліла яду.* Лісна В.-Дзв.

РАСКЛА'Д *м.* Графік. *Расклад язды.* Гемзы Шальч.

РАСКЛАДА'ННЕ *н.* Адвароты ў адзенні. *Жакет з раскладаннем.* Вецярэвічы Пух.

РАСКЛАДА'ЦЬ *незак.* 1. Распальваць (агонь). *Агонь раскладаюць, каб цяплей было.* Альхоўка Навагр. *Раскладаюць агонь на полі.* Дзяніскавічы Ганц. *Агнішчы раскладаюць осінню.* Істра Лудз. 2. Разгортваць (палатно). *Траслі, раскладалі валакно і скручвалі кудзелю.* Грыкені Вільн.

РАСКЛА'СЦІ *зак.* Распаліць (агонь). *Расклоў я гэта агню.* Вялікія Баяры Шчуч.

РАСКЛЕ'ЙДАНЫ *дзеепрым.* Расхінуты. *Ідзе расклейданы, незашпіляны.* Дакудава Лід.; *параўн.* літ. *skleĩsti* 'распасціраць'.

РАСКЛЯСТА'ЦЦА *зак.* Расхінуцца. *Ідзець рашпіліўшыся, расклястаўся.* Ёдлавічы Брасл.

РАСКО'ПАВАЦЬ *незак.* Разрываць. *Трэба раскопаваць зямлю.* Лісна В.-Дзв.

РАСКО'РШКАЦЬ *зак.* Раскапаць. *Раскоршкалі загон куры чыста, трэба нанава рабіць.* Кіралі Шчуч.

РАСКО'СВАЦЦА *незак.* Разварочвацца ў бакі з-пад колаў. *Грась раскосваяцца.* Малахоўцы Бар.

РАСКО'СЫ *мн.* Вілаватыя апорныя слупы, на якіх трымаюцца бэлькі ў гумне. Глівін Барыс.

РАСКО'ЎЗАНЫ *дзеепрым.* Слізкі. *Шаша раскоўзана.* Вецярэвічы Пух.

РАСКО'ША, РОСКО'ША *ж.* Роскаш. *У раскошы жыве, гора не перажаыла.* Малі Астр. *Раскоша да дабра не даводзіць.* Вузла Мядз. *Ні з раскошы вышаў.* Навасёлкі Свісл. *Казу дзяржыць з вялікай раскошы.* Асавец Віл. *З роскошы пашла замуж.* Перавознікі Астр. *Цяпер усім раскоша, а дайней панчошкі зроблены, суконачкай патшыты — і ходзіць дзіцё па палу.* Вузла Мядз. *У раскошы тэрас жывуць.* Руднікі Шальч.

РАСКО'ШКАВАЦЬ *незак.* Разграбаць. *Раскошкаваюць куры грады.* Старыя Трокі Трак.

РАСКО'ШКАЦЬ *зак.* 1. Разгрэбці. *Глядзі, а то раскошкаюць куры грады.* Галубы Маст. *Лапамі раскошкаюць куры грады.* Вялікія Баяры Шчуч. 2. Разбурыць. *Раскошкаў пчолы ў зямлі, раскапаў.* Галубы Маст.; *гл.* к о ш к а ц ь, к о ш к а ц ц а.

РАСКО'ШНА, РАСКО'ШНЕ *прысл.* 1. Багата. *Не жывець ён раскошна.* Буды В.-Дзв. *Яна раскошне жыла.* Лісна В.-Дзв. 2. Павольна. *Раскошна ходзіш, а ўправіш усё скора.* Мсцібава Ваўк.

РАСКО'ШНЫ *прым.* Прасторны. *У нас раскошнае гумно было.* Вецярэвічы Пух.

РАСКРА'ТАЦЦА *зак.* Разварушыцца, расчухацца. *Так*

*замарыйся, што чуць раскратайся.* Ёдлавічы Брасл. *Як устаю, сярэдзіна баліць, не магу раскратацца.* Вузла Мядз.

РАСКРАТА'ЦЦА *зак.* Параскідацца. *Раскраталіся мае рэчы.* Чычалі Швянч.

РАСКРА'ХАВАЦЦА *незак.* Крактаць (пра жаб). *Ох яны раскрахаваюцца, галовы павытаркваюць і крычаць.* Азяраны Раг.

РАСКРО'ІЦЬ *зак.* 1. Пакроіць. *Раскроілі палатно.* Грыкені Вільн. 2. Парэзаць на часткі. *Палажылі парсюка на зыдаль, каб раскроіць.* Новыя Мацалі Варэн.

РАСКРЫПА'ЦЦА *зак.* Выблытацца. *Ні магу раскрыпацца з адзежы.* Саланое Віл.; *параўн.* літ. *išsi-krypuóti* 'тж'.

РАСКРЫСТА'ЦЦА *зак.* Тое ж, што і р а с к л я с т á ц ц а. *Чаго ты раскрыстайся, ажны пелькі відаць?* Саланое Віл.

РАСКРЫ'ТЫ *дзеепрым.* Адчынены. *Дзверы былі раскрытыя.* Ахрэмаўцы Брасл.

РАСКРЫ'ЦЬ *зак.* Расшпіліць. *Што ты раскрый сваю кятурку?* Гемзы Шальч.

РАСКРЫЧА'ЦЦА *зак.* Узняць моцны крык. *Натта раскрычалася ты.* Лоск Валож.

РАСКРЭ'СТАНЫ *дзеепрым.* Расхрыстаны. *Раскрэстана ходзіць.* Старое Сяло Зэльв.

РАСКУДЗЕ'ЛІЦЦА *зак.* Раскалмаціцца. *Плоска нітка раскудзеліцца.* Малахоўцы Бар.

РАСКУДЛА'НЫ *дзеепрым.* Раскудлачаны. *Якая ты раскудлана!* Номікі Бабіц.

РАСКУ'ДЛАЦЦА *зак.* Раскудлаціцца. *Валасы прычашы, раскудлайся.* Солы Смарг.

РАСКУЛА'ЧЫЦЬ *зак. перан.* Адабраць што-н. *Мы яго раскулачылі зараз.* Ялова Пруж.

РАСКУ'РСТАЦЦА *зак.* Тое ж, што і р а с ч у х а ц ц а. *Пака ён раскурстайся, то і час прайшоў.* Раўбічы Мін.

РАСКУ'РСТАЦЬ, РАСКУ'РШТАЦЬ, РАСКУ'СТРАЦЬ *зак.* Тое ж, што і р а с к а т ý р х а ц ь. *Пакуль раскурстаю дзяцей, мужыка, і самой часу мала, сама апаздываю.* Раўбічы Мін. *Я цябе раскурштаю, што і ўначэ будзеш рабіць.* Лука Нараўк. *Троха раскустралі яго, а то пабялеў увесь.* Слабада Смал.; *гл.* к ý р с т а ц ц а, к ý р с т а ц ь.

РАСКУРЫ'ЦЦА *зак.* Пачаць многа курыць. *Кап не распійся і не раскурыйся, добра жый бы.* Кураполле Паст.

РАСКУЦІНЯ'ЦЬ *зак.* Паказытаць. *Ён добра яё раскуціняў.* Гемзы Шальч.; *параўн.* літ. *kutinė̃ti* 'тж'.

РАСКЭ'ЎЗАЦЬ *зак.* Размазаць. *Раскэўзала грась па хаце.* Мачаск Бярэз.

РАСКЯРЭ'ТАЦЦА *зак.* Тое ж, што і р а с к і р э́ ч ы ц ц а. *Яна раскярэталася, сядзіць раскярэтаўшыся.* Чычалі Швянч.

*Сяць добра, а то раскярэтайся.* Ракаўскія Швянч.; *параўн.* літ. *išsi-kerėti* 'тж'.

РАСЛЯ'ВЫ *прым.* Рослы. *Есь такое харошае раслявае дзераво.* Баброўнікі Гарад.

РАСНО' *гл.* РО'СНА

РАСО'Л *м.* 1. Расол. *Чатыры кумпякі ляжаць у расолі.* Кіралі Шчуч. *Даўней агурковы расол елі з паронкамі.* Азяраны Раг. 2. Бурачны настой. *Расол ад буракоў і цяпер робяць, бурачкі і бацьвіння складалі ў бочачкі на зіму.* Едлавічы Брасл. *Цяпер віно, а то бурачковы расол пілі.* Гальшаны Ашм. *Расол з буракоў, поліўку квасілі расолам.* Груздава Паст. 3. Лёк. *Расол с сіляццоў.* Рыбчына Віл. *Варылі селятцовы расол.* Гальшаны Ашм. *Расол з сялёдак куплялі і елі з картофляй.* Пацаўшчына Дзятл. *Расол ад сялёдкі.* Рагулішкі Даўг. 4. Расольнік. *Расол варылі.* Старыя Смільгіні Воран. *Будзям варыць расол: гуркоў, крупаў, картофлі і мяса кідалі.* Кіралі Шчуч. *Рабілі расол і елі.* Руднікі Шальч.

РАСО'ХА *ж.* 1. Раздвоены ствол дрэва. *Расоха з раздваеннем.* Малыя Аўцюкі Калінк. 2. Апорны слуп з развілінай. *Расоха была ў гумне, ставілася ад балічкі да балічкі.* Кузьмічы Люб.

РАСО'ЧКА *ж.* Пылок злакавых. *Расце жыта, пускае расочкі.* Беняконі Воран.

РАСПАГА'ДЖАВАЦЦА *незак.* Распагоджвацца. *Ужо распагаджаваецца.* Ністанішкі Смарг.

РАСПАГО'ДЗІЦЦА *зак.* Распагодзіцца. *Хоць ба распагодзілася, надаеў дошч.* Валынцы В.-Дзв. *А вот распагодзілася.* Альхоўка Навагр. *Можа, распагодзіцца, паспіцё трохі, не бяжыце.* Саланое Віл.

РАСПА'КУЛЯЦЬ *зак.* Раскалмаціць. *Трэба нітку распакуляць і ў шчацінку круціць.* Жылі Іўеў.

РАСПА'ЛА *ж.* Распалка. *Нясі шчапулькоў на распалу.* Солы Смарг.

РАСПАЛІ'ЦЬ *зак.* Падпаліць (дровы). *Макляк прынесла, у печ паклала — і ніяк не распаліш яго.* Навасёлкі Лід. *Ідзём распалім агонь, бо халадно натта.* Кіралі Шчуч. *Трудна грубыя дровы распаліць.* Гемзы Шальч.

РАСПА'ЛКА *ж.* Тое ж, што і р а с п а́ л а. *Корч рассякуць на распалку.* Вузла Мядз.

РАСПА'ЛЬВАЦЬ *незак.* Падпальваць (дровы). *У печы распальвай!* Галубы Маст.

РАСПАРА'ДАК *м.* ◇ *Весці распарадак* — весці гаспадарку ў сям'і. *Яна распарадак вядзе, а сама дурніла такая.* Малі Астр.

РАСПАРАДЖА'ЦЦА, РАСПАРАЖА'ЦЦА *незак.* 1. Распараджацца. *Не можа чужымі грашмі распаражацца.* Гемзы

Шальч. 2. Упарадкоўвацца. *Пайду распараджацца — даіць каровы.* Альхоўцы Лях.

РАСПА'РВАЦЦА *незак.* Разбухаць, упарвацца. *Халоднай вадой раскалачваецца мука і ставіцца ў печ, распарваецца, салоткая робіцца, аш чырвоная.* Чуркі Ашм.

РАСПАРО'ЦЬ *зак.* Разбурыць. *Расparолі гэту хату, бярвёны павязлі.* Талейкі Швянч.

РАСПАРЦІРА'СТЫ *прым.* Раскідзісты. *Снытка расце ў лесу, тонкая, высокая, распарцірастая.* Ухвала Круп.

РАСПАРЦЭЛЯВА'ЦЬ *зак.* Падзяліць на порцыі. *Я на тры парасяты малако распарцэлявала, а вечарам ізноў падаю.* Крэва Смарг.; *параўн.* польск. *parcela* 'частка'.

РАСПАРЭ'Х *м.* Прарэх (у кашулі). *Распарэх у рубашцы на грудзях.* Дзяніскавічы Ганц.

РАСПАСО'РЫЦЬ *зак. экспр.* Растраціць. *Распасорыў усе грошы.* Вецярэвічы Пух.

РАСПАСЦЕ'РЦІ *зак.* 1. Тое ж, што і р а с к а р á ч ы ц ь. *Распасцерла ногі, сядзіць раскірэчыўшы.* Рудня Астравітая Чэрв. *Распастры ношкі.* Альхоўка Навагр. 2. Раскрыць (парасон). *Распасцерла парасольку.* Пацаўшчына Дзятл.

РАСПАСЦЕ'РЦІСЯ *зак.* Раздзьмуцца. *Але ш ты разявіўся, аш ноздры распасцерліся.* Кіралі Шчуч.

РАСПАТРЭ'ШЫЦЬ *зак. экспр.* Раздавіць. *Машына ішла, на дарозе гадзюкоў распатрэшыла.* Жодзішкі Смарг.

РАСПАШО'РЫЦЬ *зак. экспр.* 1. Разваліць. *Ён распашорыў брыгаду, яго знялі.* Рыбчына Віл. 2. Тое ж, што і р а с п а с ó р ы ц ь. *Распашорыла грошы, а што мела — прапіла.* Малі Астр.

РАСПАШЭ'НДЗІЦЬ *зак. экспр.* Тое ж, што і р а с п а с ó р ы ц ь. *Муку распашэндзіла і грошы распашэндзіла.* Кураполле Паст.

РАСПЕ'РЦІ *зак.* 1. Апухнуць. *Натры казламі нагу, яе разапрэць, заразная гэта трава.* Дзёрнавічы В.-Дзв. ▽ *Кап цябе распёрла — насыпала сахару і ні есы!* Кіралі Шчуч. 2. Развесці ў бакі рукі. *Рукі расперты ў бакі. Распёрла рукі.* Старыя Смільгіні Воран.

РАСПЕ'ШЧАНЫ *дзеепрым.* Капрызны. *Распешчаны хлопчык у цябе.* Ракаўскія Швянч.

РАСПЁР *м. рыб.* Жэрах. *Распёр — гэта рыба, нападобія язя.* Лісна В.-Дзв. *Распёр ганяіць рыбу.* Валынцы В.-Дзв.

РАСПІВА'ЦЦА *незак.* Пачынаць многа піць спіртных напіткаў. *Стары распіваецца ў карчме.* Кухты Віл.

РАСПІ'ЦЦА *зак.* да р а с п і в á ц ц а. *Ацец распіўся.* Гальшаны Ашм. *Ён распіўся, а цяпер сторажам.* Дзераўное Стаўб. *Яго хлопцы распіліся.* Ракаўскія Швянч.

РАСПЛА'ВІЦЬ *зак.* Растапіць. *Расплавяць воск, зробяць кнот і ліюць у форму.* Граўжышкі Ашм.

РАСПЛА'КАВАЦЦА *незак.* Пачынаць многа плакаць. *Ён дужа любіў бацьку, чуць што, то расплакаваўся.* Ракаўскія Швянч.

РАСПЛА'ТАЦЦА *зак.* Разарвацца. *Спадніца ў дзеўкі расплаталася.* Крэва Смарг.

РАСПЛАТА'ЦЬ *зак.* 1. Разарваць. *Парсюк расплатаў хустку.* Бакшты Іўеў. 2. Задушыць. *Ваўкі сабаку расплатаюць і з'ядуць.* Саланое Віл. *Котка расплатая пацука, прынясе, скуру знімя і з'есць.* Гемзы Шальч.

РАСПЛА'ЧЫВАЦЦА *незак.* Разлічвацца. *Будзем расплачывацца ўгалькамі.* Гемзы Шальч.

РАСПЛІКНУ'ЦЦА *зак.* Расшпіліцца. *Кажух раслікнуўся.* Асавец Віл.; *параўн.* літ. *plikinė́ti* 'хадзіць расхрыстаным'.

РАСПЛО'ДА *ж. пчал.* Чарва. *Расплоду кормяць ні адным мёдам, а і сіропам.* Опса Брасл.

РАСПЛУ'ТАВАЦЬ *незак.* Разблытваць. *Паблутаю ўсе ніткі, пакручу, а цяпер прыходзіцца расплутаваць.* Солы Смарг.

РАСПО'НКІ *мн. ткац.* Дошчачкі, якія закладаюцца ў аснову красён. *Распонкі — дзве зложаныя дошчачкі, распінают палатно, коб не зацягало ў бердо.* Лука Нараўк.

РАСПО'РАК, РОЗПО'РЭК *м.* Тое ж, што і р а с п а р э́ х. *Распорак у кашулі.* Жодзішкі Смарг., Гемзы Шальч., Старыя Трокі Трак. *Распорак абрубліваўся.* Солы Смарг. *У кашулі распорак.* Старыя Смільгіні Воран. *Розпорэк у штанах, кашулі.* Грыкені Вільн.

РАСПО'РАНЫ *дзеепрым.* Разбураны. *Распораная хата, распаролі гэту хату.* Талейкі Швянч.

РАСПО'РКА, РО'СПУРКА *ж.* Тое ж, што і р а с п а р э́ х. *У бакешы распоркі такія, фалды.* Грыкені Вільн. *Роспурка ў штанах.* Дзяніскавічы Ганц.

РАСПОРЭ'Х, РАСПРАРЭ'Х *м.* Тое ж, што і р а с п а р э́ х. *Распорэх у кашулі.* Вялікія Аўцюкі Калінк. *Распрарэх у рубасцы на грудзях.* Дзяніскавічы Ганц.

РАСПО'ХНУЦЦА *зак.* Расхрыстацца. *Мая грудзіна распохнецца.* Быстрыца Астр.

РАСПО'ХНУЦЬ *зак.* Распухнуць. *Распохла ліцо.* Мішневічы Шум.

РАСПРАДА'ЦЬ *зак.* Прадаць паступова ўсё. *Распрадала блюскі свае.* Кемялішкі Астр.

РАСПРА'НЕНЫ *дзеепрым.* Раскрыты. *Спіць ён распранены.* Альхоўка Навагр.

РАСПРАРЭ'Х *гл.* РАСПОРЭ'Х

РАСПРАСАВА'ЦЬ *зак.* Папрасаваць. *Без вады сухое не распрасуеш.* Малі Астр.

РАСПРАСЦЕ'РЦІСЯ *зак.* Натапырыцца. *Распрасцерыц-*

*ца індычка і сядзіць, а яны* [індзюкі] *такія велькія і лезуць аж у сярэдзіну.* Кіралі Шчуч.

РАСПРА'СЦІ *зак.* Парэзаць ніткай у час прадзення. *Распрадзець пальцы нітка да жывога.* Гемзы Шальч.

РАСПРА'ТАВАЦЬ *незак.* Распранаць. *Ні распратавала куфайку.* Лоск Валож.

РАСПРА'ТАЦЦА, РОСПРА'ТАЦЦА *зак.* Распрануцца. *Ён памалу распратаецца.* Альхоўцы Лях. *Трэба роспратацца.* Смаляніца Пруж.

РАСПРАТА'ЦЬ, РОСПРАТА'ЦІ *зак.* Распрануць. *Распратала яго.* Альхоўцы Лях. *Нэ трэба його роспратаці.* Смаляніца Пруж.

РАСПРАЎЛЯ'ЦЬ *незак.* Расказваць. *Мая бабуля мнё распраўляла, што гадыня ў кожным хляве жывець.* Саланое Віл.

РАСПРА'ЧЫЦЬ *зак.* Раскідаць. *Нагнала вельку гурбу снегу, як мы яе распрачам.* Кіралі Шчуч.

РАСПРА'ШЫВАЦЬ *незак.* Распытваць. *Распрашывай, ці ўсе жывы-здаровы дома.* Лісна В.-Дзв.; *параўн.* руск. *расспрашивать* 'тж'.

РАСПУКА'ЦЦА *незак.* Распускацца (пра пупышкі). *Дрэва толькі распукаіцца, ліcткоў няма, толькі пупушачкі.* Магуны Паст. *Скора сасна распукаяцца.* Старыя Трокі Трак.

РАСПУ'КВАЦЦА *незак.* Тое ж, што і р а с п у к а́ ц ц а. *Півоны распукваюцца.* Дакудава Лід. *Лес распукваецца.* Галубы Маст.

РАСПУ'КНУ'ЦЦА *зак.* Распусціцца. *Распу́кнуўся цвет, а гэты яшчэ ў пупышках.* Кузьмічы Люб. *Алешына ўперат распукну́лася, чым бярэзіна.* Багушэвічы Бярэз. *Хрушчы паяўляюцца, як распукне́цца лес.* Азяраны Раг.

РАСПУРЗО'ЛІЦЬ *зак. экспр.* Тое ж, што і р а з б у з о́ л і ц ь. *Распурзоліла яду і не ела.* Малі Астр.

РАСПУСКА'ЦЦА, РОСПУСКА'ЦЦА, РУСПУСКА'ЦЦА *незак.* Тое ж, што і р а с п у к а́ ц ц а. *Дрэвы ўжо распускаюцца.* Барок Стаўб. *Лісты распускаюцца.* Чычалі Швянч. *Ліс роспускаіцца.* Відзібар Стол. *Руспускаецця ліс.* Радастаў Драг.

РАСПУСКА'ЦЬ *незак.* 1. Растрачваць. *Я свае грошы распускала.* Дзераўное Стаўб. 2. Растрасаць (сена). *Пашлі копкі распускаць, бо сена сыраватае.* Паляцкішкі Воран. *Давай копы распускаць.* Дарава Лях.

РАСПУ'СНІК *м.* Хто распусны. *Распуснік — балаўны такі чалавек.* Індра Красл.

РАСПУ'СНЫ, РОСПУ'СНЫ *прым.* Свавольны, непаслухмяны. *Меншы хлопец распусны.* Магуны Паст. *Ён крэпка распусны, п'е.* Ёдлавічы Брасл. *Малая распусная была.* Рагулішкі Даўг. *Хлопцы распусныя, што хочуць, тое і робяць.* Вецярэвічы Пух. *Дзеці распусныя.* Быстрыца Астр. *Хлопцэ роспус-*

*ны.* Дзмітравічы Кам. *У нас роспуснэ дзеці.* Смаляніца Пруж.

РАСПУ'СТА I *ж.* 1. Свавольства, раздуранасць. *Многа распусты ў дзяцей.* Саланое Віл. 2. Распусны спосаб жыцця. *У распусту пашла.* Ністанішкі Смарг. *Распусты менш было калісьці.* Малькуны Ігн.

РАСПУ'СТА II *ж.* Тое ж, што і р а з в о́ д д з е. *У распусту многа патапілася людзей.* Вузла Мядз.

РАСПУ'СТВА *ж.* Тое ж, што і р а с п у́ с т а I, 2. *Ён пусціўся ў распуству, стаў гуляць.* Солы Смар.

РАСПУСЦІ'ЦЦА *зак.* 1. Тое ж, што і р а с п у́ к н у́ ц ц а. *Іва распусцілася.* Лісна В.-Дзв. *Бяроза ўпярот распусцілася, то будзя сухоя лета.* Кудзялянцы Шальч. 2. Расплесціся (пра валасы). *Распусцілася валасамі.* Мачаск Бярэз.

РАСПУСЦІ'ЦЬ *зак.* 1. Растапіць. *Сала распусціла.* Магуны Паст. *Маргарын распусцілі на скаварадзе.* Індра Красл. 2. Распусціць (пра лісце). *Бяроза распусціла лісты.* Гемзы Шальч. 3. Растрэсці (пра сена). *Распусціла копу — хай сохне.* Валеўка Навагр. 4. Растраціць. *Распусціла ўсе грошы да капеечкі.* Кіралі Шчуч. *Распусціў многа грошы.* Рыбчына Віл. 5. Разбалаваць. *Распусціла дзіця, разбалавала.* Альхоўцы Лях.

РАСПУ'СЦЯ *н.* Тое ж, што і р а с п у́ с т а II. *Самая распусця вясной.* Азяраны Раг.

РАСПУХЛІ'ЦЬ *зак.* Узбіць. *Распухліш кужаль і свёртываеш у кудзеліну, і прядзёш на калаўроце.* Пасіене Лудз.

РАСПУ'ХНУЦЬ *зак.* Апухнуць. *Распухла нага, як калодка.* Вецярэвічы Пух. *Распухлі ногі, муш вёўшы і садзіў у аўтобус.* Руднікі Шальч.

РАСПУ'ЦІСТЫ *прым.* Плоскі, шырокі. *У вужа галава кацінае, распуцістая.* Азяраны Раг.

РАСПУШЧА'ЦЬ *незак.* 1. Рассцілаць. *Лён рвалі, распушчалі, падбіралі.* Стральцы Гродз. 2. Растрасаць. *Стала копку распушчаць.* Жыдзевічы Іўеў. 3. Распускаць на канікулы. *Распушчалі дзяцей у канцы мая.* Перавознікі Астр.

РАСПУШЧО'НЫ *дзеепрым.* Тое ж, што і р а с п у́ с н ы. *Дзеці распушчоныя.* Рыбчына Віл.

РАССАХА'ТКІ *мн.* Тое ж, што і р а с а х е́ т. *Рассахаткі — для сушкі канюшыны.* Гемзы Шальч.

РАССАХА'ТЫ *гл.* РАСАХА'ТЫ

РАССЕ'ЯНЫ *прым.* Рассеяны. *Такі драхлы дзяцька, рассеяны, не такі і развіты, захварэў, нізамог.* Пацаўшчына Дзятл.

РАССКВА'РЫЦЬ *гл.* РАСКВА'РЫЦЬ

РАССМАТРЭ'ЦЦА *зак.* Разгледзецца. *Рассматрэлася, што граніца каля ракі.* Саланое Віл.; *парайн.* руск. *рассмотреть* 'тж'.

РАССУВА'ЦЬ *незак.* Расчышчаць, разраўноўваць. *Цяпер дарогу рассуваюць трахтарам.* Ахрэмаўцы Брасл.

РАССУ'ДНЫ *прым.* Дасведчаны. *Мама была рассудная, яна знала ўсялякія зёлачкі.* Солы Смарг.

РАССЦЯ'ГНУТЫ *дзеепрым.* Расшпілены. *Рассцягнуты ідзе, расхлёстаўся.* Пацаўшчына Дзятл.

РАССЫ'ПАЦЦА *зак.* Разваліцца, паламацца. *Дно трэба ўставіць, бо цэбар рассыплецца.* Кіралі Шчуч. *Карыта рассыпалася, трэба правіць карыта.* Гемзы Шальч.

РАССЫПКІ' *прым.* Сопкі. *Бульба рассыпкая.* Дакудава Лід. *Рассыпкая бульба добра разварваецца.* Бакшты Іўеў.

РАССЯЧЫ' *зак.* Рассекчы. *Корч рассякуць на распалку.* Вузла Мядз.

РАСТАВА'ЦЬ *незак.* Раставаць. *Грат за два часы не раставаў.* Ёдлавічы Брасл.

РАСТАГА'НІЦЬ *зак. экспр.* Распрадаць. *А яна ўсё растаганіла без яго.* Мішневічы Шум.

РАСТА'ЙНЫЯ ДАРО'ГІ толькі *мн.* Дарогі, што разыходзяцца ў розныя бакі. *Растайных дарог нямнога.* Номікі Бабіц.

РАСТАЛКАВА'ЦЬ *зак.* Растлумачыць. *Кто не панімаюць, ім трэба расталкаваць.* Саланое Віл.

РАСТАЛМА'ЧЫЦЬ *зак.* Тое ж, што і р а с т а л к а в а́ ц ь. *Ніхто не расталмачыць, як я.* Валынцы В.-Дзв.; *параўн.* польск. *tłumaczyć* 'тлумачыць'.

РАСТА'НЕ *н.* У выразе: *Нет растаня* — вельмі прыемна. *У прошлым гаду на аселіцы было многа салаўёў, як выдзіш, то растаня нет, не хочацца ўхадзіць.* Ахрэмаўцы Брасл.

РАСТАНЬКІ' *гл.* РО'СТАНЬКІ

РАСТАПАРА'ЦЦА *незак.* Растапырвацца. *Каб лён не растапараўся, яго націскаюць.* Ахрэмаўцы Брасл.

РАСТАПЛЕ'ЦЬ *зак.* Растаць. *Як растаплеіць снег, то многа вады, разводдзе.* Малькуны Ігн.

РАСТАПЛЯ'ЦЬ *незак.* 1. Скварыць. *Здор растаплялі.* Новыя Мацалі Варэн. 2. Распальваць (печ). *Буду растапляць печ.* Лоск Валож.

РАСТАПУ'РВАЦЦА *незак. перан.* Разыходзіцца. *Чаго ты так растапурваешся, пенсію зарабіла і сядзі?!* Кузьмічы Люб.

РАСТАПУ'РЫЦЬ *зак.* Растапырыць. *Не можа растапурыць пальцы.* Кузьмічы Люб. *Растапурыш яжгура, ён такі калючычык.* Лісна В.-Дзв.

РАСТАПША' *м.* і *ж. экспр.* Хто няўмелы, нязграбны. *Растапша ты! Не мог удзяржаць талерку, пабіў.* Саланое Віл.

РАСТАПЫ'РАЦЦА *зак.* Распусціцца (пра пупышкі). *Памполашчы растапыраюцца ў мокрум месцы.* Малі Астр.

РАСТАПЫ'РЫЦЬ *зак.* Распяць. *Ён забітую варону растапырыў, каб баяліся яе другія вароны.* Паляцкішкі Воран.

РАСТАРМАХА'НЫ *дзеепрым.* Раскудлачаны. *Растармаханы ўвесь, гразны ён.* Галоўні Воран.

РАСТАРПАСАВА'ЦЬ *зак.* Расхістаць. *Растарпасавалі ўсе стаўбы.* Ісерна Слуцк.

РАСТАРО'ПА *ж.* Слата. *Гэтакай растаропай прадасі.* Магуны Паст.

РАСТАРО'ПІЦА *ж.* Тое ж, што і р а с т а р о́ п а. *Растаропіца вясной і восенню, як снег і вада.* Малыя Аўцюкі Калінк.

РАСТА'ЦЬ *зак.* 1. Растаць (пра снег). *Растоў снег, разводніца цяпер.* Галубы Маст. *Снех растаў.* Альхоўцы Лях. 2. Растварыцца. *Цукар не растаў у вадзе.* Навасёлкі Свісл.

РАСТВАРА'ЦЬ *незак.* Рашчыняць. *Раствараюць хлеп у дзежцы.* Валынцы В.-Дзв.

РАСТВАРЫ'ЦЬ *зак.* 1. Рашчыніць. *Кісель рашчыніла ці растварыла, нада заўтра варыць.* Валынцы В.-Дзв. 2. Замяшаць. *Трэба растварыць парасятам.* Навасёлкі Свісл. 3. Разбавіць. *Хай халодным растворыць.* Навасёлкі Свісл.

РАСТКІ' *мн.* Карэнні. *Як вырвеш цыбулю, то расткі ў ёй, расткі ў зямлі.* Збляны Лід.

РАСТО'К, РОСТО'К *м.* Сцябло расліны ў самым пачатку яго развіцця з семя. *Буракі пакляіліся і пусцілі расткі.* Мярэцкія Глыб. *Картоплі пусцілі росткі.* Малыя Аўцюкі Калінк.

РАСТО'КА *ж.* Адліга. *Уже сягоння растока, не будзе зімы.* Баброўнікі Гарад.

РАСТО'ПА *ж.* Тое ж, што і р а с п а́ л а. *Насячы дрэвак на растопу печы.* Азяраны Раг.

РАСТО'ПКА *ж.* Тое ж, што і р а с п а́ л а. *Нада нарубаць растопкі.* Ёдлавічы Брасл.

РАСТО'ПЫ *гл.* РАЙСТО'ПЫ

РАСТО'ЧАК *м. памянш.* да р а с т о́ к. *Расточкі пусціла бульба.* Солы Смарг.

РАСТРА'ВІЦЬ *зак.* Развярэдзіць. *Я растравіла рожу лікарствам.* Валынцы В.-Дзв.

РАСТРА'ГА *ж.* Перашкода. *Там растрагі ня будзе.* Альхоўцы Лях.; *гл.* з а с т р а́ г а.

РАСТРАПА'ЙЛА *м.* і *ж. экспр.* Хто неахайны. *Растрапайла ты, чаго не прычэшасся?* Малі Астр.

РАСТРАПА'НЫ *дзеепрым.* Патрапаны (пра лён). *Лён растрапаны возюць — гэта апцяшкі.* Ахрэмаўцы Брасл.

РАСТРАПА'ЦЬ *зак.* Пакусаць, параніць. *У малых свіней сцінаюць кла, бо язык растрэпле.* Лука Нараўк.

РАСТРАСА'ЦЬ, РАСТРЭ'САЦЬ *незак.* Тое ж, што і р а с к і́ д а́ ц ь 1. *Растрасаюць кучу сена, сушаць і складаюць у пуню.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Растрасаць гной.* Рыбчына Віл. *Даўней гной рукамі растрасалі.* Гемзы Шальч. *Гной растрэсаюць.* Вецярэвічы Пух. *Растрэсала зелё.* Альхоўцы Лях.

РАСТРАСЦІ′ *зак.* да р а с т р а с á ц ь. *Трэба гной растрасці.* Саланое Віл. *Нада ісці растрасці гной.* Ёдлавічы Брасл. *Гной трэба развясці, злажыць у кучкі па полю і растрасці.* Ліпнікі Вільн. *Гной растрасла.* Руднікі Шальч.

РАСТРАСЦІ′СЯ *зак. перан.* Стаміцца ад трасучай язды. *Дарога лядачая, пакуль ехалі, растрасліся.* Кіралі Шчуч.

РАСТРОЙСТВА *н.* Перажыванне. *Растройства вялікая.* Груздава Паст.

РАСТРУ′ХАНЫ *дзеепрым.* Тое ж, што і р а с т а р м а х á н ы. *Валасы раструханы яго.* Мсцібава Ваўк.

РАСТРУ′ХАР *м.* Кастратар. *Раструхар выкладаў паршукě.* Кіралі Шчуч.

РАСТРЫБУШЫ′ЦЬ *зак.* Распатрашыць. *Я пры табе яго растрыбушу.* Ахрэмаўцы Брасл.

РАСТРЫ′ГНУЦЬ *зак.* Разрэзаць. *Растрыгла настольнікі на ручнікі.* Магуны Паст.

РАСТРЫГЧЫ′ *зак.* Тое ж, што і р а с т р ы́ г н у ц ь. *Пінжак растрыжом ззаду.* Ёдлавічы Брасл.

РАСТРЭ′ЛЬВАЦЬ *незак. экспр.* Паўтараць адно і тое ж. *Што ты трэліш, растрэльваеш адно і тое?* Пацаўшчына Дзятл.

РАСТРЭ′САЦЬ *гл.* РАСТРАСА′ЦЬ

РАСТРЭ′ШАНЫ *дзеепрым.* Растрэсены. *Навос растрэшаны.* Валынцы В.-Дзв.

РАСТУ′ЗГВАЦЬ *незак.* Расскубаць. *Нада прасці роўна, кудзелю растузгваць.* Старыя Трокі Трак.

РАСТЫ′ *мн.* Расткі. *Пашла бульба ў расты, нада расты абрываць.* Ёдлавічы Брасл. *Буракі расты далёка папускаўшы.* Замошша Брасл.

РАСХАДЗІ′ЦЦА, РАСХО′ДЗІЦЦА *незак.* 1. Разыходзіцца ў розныя бакі. *Дык мы хто куды расхадзіліся.* Буды В.-Дзв. *Пасярод Дзвіны расходзюцца параходы.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Рассоўвацца. *Ён так робіць, штоб не расхадзілася сцяна.* Старыя Смільгіні Воран. *Связь дзелалі, штоб градачкі не расходзілісь.* Пасіене Лудз.

РАСХАЛЯ′СТАЦЦА *зак.* Расхрыстацца. *Расхалясталася і пашла на вуліцу.* Пацаўшчына Дзятл.

РАСХВАРЭ′ЦЦА *зак.* Прахварэць доўгі час. *Перамёрзніць у кузні і ўжо расхварэіцца.* Ахрэмаўцы Брасл.

РАСХІНУ′ЦЬ *зак.* 1. Адхінуць. *Расхінулі ляшчыну — там арэхаў!* Жодзішкі Смарг. 2. Распасцерці. *Пасцілку расхінула і рубашкі нада туды ўзяць.* Палік Барыс.

РАСХЛЕБЯСТА′ЦЦА *зак. экспр.* Расхістацца. *Ручка ў машыні расхлебясталася. Ножніцы расхлебясталіся.* Засецце Дзятл.; *параўн.* літ. *išsi-klebetúoti* 'тж'.

РАСХЛЕ′ЙДАЦЦА *зак. экспр.* Тое ж, што і р а с х а л я́ с т а ц ц а. *Расхлейдаўся і ідзе.* Пацаўшчына Дзятл.; *параўн.* літ. *išsi-skleĩsti* 'тж'.

РАСХЛЁПАЦЬ *зак.* Распляскаць. *Маленькій кусочак цеста расхлёпаеш і пікеш на скавародзе.* Мішневічы Шум.

РАСХЛІ′СТАЦЦА *зак.* Тое ж, што і р а с х а л я́ с т а ц ц а. *Ідзе і расхлістався сабе.* Галубы Маст.

РАСХЛЯ′ПАЦЦА *зак.* Тое ж, што і р а с х л е б я с т а́ ц ц а. *Расхляпалася чарано ў малатку.* Гемзы Шальч.

РАСХО′Д *м.* Скрыжаванне дарог. *На расход дарог трэба несці і кінуць у гразь.* Вецярэвічы Пух.

РАСХО′ДЗІЦЦА *гл.* РАСХАДЗІ′ЦЦА

РАСХО′ДКА *ж.* Расход. *На расходку аставіла бульбы троху.* Валынцы В.-Дзв.

РАСХО′ДНІК *м. бат.* 1. Расходнік. *Расходнік жоўтым цветам цвіце.* Бакшты Іўеў. *Расходнік — такая трава.* Старыя Смільгіні Воран. *Расходнік, як крапіва, сініўкім цветам цвіце.* Валынцы В.-Дзв. 2. Настой расходніка. *Расходнік п'юць ад ламаты касцей і даюць карові, як мочыцца кроўю.* Дзяніскавічы Ганц.

РАСХО′ДНЫ *прым.* Неэканомны. *Мой дзядзька скупы, ды і я не расходны.* Крэва Смарг.

РАСХО′ДНЫЯ ДАРО′ГІ *мн.* Тое ж, што і р а с т а́ й н ы я д а р о́ г і. *Расходных дарог нямнога ў нас.* Лапічы Асіп.

РАСХРЫ′СТАНЫ, РОЗХРЫ′СТАНЫ *дзеепрым.* Расшпілены. *Куфайка расхрыстана.* Лісна В.-Дзв. *Марынарка ў яго расхрыстана.* Малі Астр. *На дворыэ так зімно, а вуон розхрыстаны ходит.* Курашэва Чыж.

РАСХРЫ′СЦІЦЦА *зак.* Тое ж, што і р а с х а л я́ с т а ц ц а. *Холадна, а ты расхрысціўся.* Стральцы Гродз.

РАСХУ′РКАЦЦА *зак.* Размуркацца. *Вот расхуркаўся кот.* Рудня Астравітая Чэрв.

РАСЦВІ′ЦЦА *зак.* Расцвісці. *Як расцвіюцца бяссмертнікі.* Магуны Паст.

РАСЦВІ′ЦЬ *зак.* Развярэдзіць. *Рану расцвіў.* Лоск Валож.

РАСЦЕРАБІ′ЦЬ *зак.* 1. Расчысціць, прарэдзіць. *Лес расцерабілі.* Пярэкі В.-Дзв. 2. Разадраць. *Я ўзіла і расцерабіла прышчык.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

РАСЦЕ′РАНЫ, РАСЦЯРА′НЫ, РОСТЕ′РАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Разгублены. *Расцераны чалавек.* Галубы Маст. 2. Псіхічна хворы. *Расцераны чалавек, як непаўнавумны.* Пацаўшчына Дзятл. *Быў расцяраны чалавек, дурны блут увалійся.* Альхоўцы Лях. *Ростераный, крохы ныповноумный.* Сіманавічы Драг.

РАСЦЕ′РЦІ *зак.* Раструшчыць. *На гару палезла, ды стала на люстра і расцёрла нагамі.* Гальшаны Ашм.

РАСЦІ′, РЭ′СЦІ *незак.* 1. Расці. *Па полю ґуґоль расцець, а ў лесе — хвошч.* Вузла Мядз. *Яжына расце ў лесе.* Васілевічы Гродз. *Ёлка тут не расце.* Малькуны Ігн. *Картофля па-*

*чала добра расці.* Кіралі Шчуч. *Шчупакі круглыя,длінныя растуць.* Гальшаны Ашм. *Як будуць есці, то й будуць расці парасяты.* Вузла Мядз. *Ні рэслі агуркі, а потым сталі рэсць.* Альхоўка Навагр. 2. Сталець. *Як я расла, дзве вайны было.* Дзяніскавічы Ганц. *Дзеці будуць расці самі.* Мярэцкія Глыб. 3. Падыходзіць (пра цеста). *Хлеб замесіш, парушыцца, расце і садзіцца ў печ.* Стральцы Шальч. ◇ *Расці ў горле* — пра адсутнасць апетыту. *Як захварэла, то што ні ем, а ў мяне ў горле расце, ем біз ніякага смаку.* Малі Астр.

РАСЦІЛА́ЦЦА *незак.* Рассцілацца (пра туман). *Туман расцілаяцца.* Барок Стаўб.

РАСЦІЛА́ЦЬ, РОСТІЛА́ТЫ *незак.* Слаць (пра лён). *Расцілалі лён, каб падлежаў.* Васілевічы Гродз. *Лён вымают, тягают з воды і вэзут коноплі ростылаты на поплав.* Горск Бяроз.

РАСЦІРА́НЫ *дзеепрым.* Расцёрты. *Творах быў расціраны.* Магуны Паст.

РАСЦІ́ЦЦА *незак.* 1. Гадавацца. *Я сама расцілася.* Беняконі Воран. *Расцілася без бацькоў.* Старыя Трокі Трак. 2. Тое ж, што і р а с ц í 1. *Сасна росціцца да васьмідзесяці лет.* Істра Лудз.

РАСЦІ́ЦЬ, РО́СЦІЦЬ *незак.* 1. Гадаваць, выхоўваць. *Без мужа расціла дзевачку.* Старыя Трокі Трак. *Сасет расціў касулю.* Вулька Гродз. 2. Вырошчваць. *Росцім насеня ў малаку і мохам прыкрываям.* Быстрыца Астр. *Цэлую зіму росцяць агуркі ў цяпліцах.* Вецярэвічы Пух. *Расцілі табак у нашай меснасці.* Малькуны Ігн.

РАСЦЫПАРА́СТЫ *прым.* Раскідзісты. *Гэта расцыпарастая трава.* Рудня Астравітая Чэрв.

РАСЦЭ́НЬКА *ж.* Расцэнка. *Расцэнькі не было на тавар.* Жыдзевічы Іўеў. *Расцэнькі няма, не прадаюць таму тавар.* Вялікія Баяры Шчуч.

РАСЦЮ́ПІЦЬ *зак. экспр.* Раскалаціць. *Лёхка лышкай выбіваць, каб цеста не расцюпіць.* Крэва Смарг.

РАСЦЯГА́ЦЬ *зак.* Тое ж, што і р а с п л а т á ц ь 2. *Бяжыць мой чалавек і кажа: «Чорт яго бяры з етым возам, добра, што цябе не расцягала ета машына».* Вецярэвічы Пух.

РАСЦЯГА́ШЧА ЛО́ШКО *н.* Раскладны ложак. *Пераплю я і на расцягашчым лошку.* Стральцы Гродз.

РАСЦЯ́ГВАЦЬ *незак.* Рассцілаць. *На стол расцягвалі кудзелю.* Гальшаны Ашм.

РАСЦЯГНУ́ЦЦА *зак. экспр.* Паваліцца. *Лена бавілася, хлясь — і расцягнулася на уліцы.* Малі Астр. ▽ *Калі котка на зямлі расцягнецца, то будзіць цёпла.* Вузла Мядз.

РАСЦЯЛІ́ЦЦА *зак.* Ацяліцца. *Карова не расцялілася, сытая дужа была.* Гемзы Шальч.

РАСЦЯ'ПАЦЦА *зак. экспр.* Расплакацца. *Чаго ты расцяпалася?* Крэва Смарг.

РАСЦЯРА'НЫ *гл.* РАСЦЕ'РАНЫ

РАСЦЯРО'Б, РАСЦЯРЁБ *м.* 1. Ляда. *Расцяроб — дзе выпілілі лес.* Быстрыца Астр. *Дзе пні пакарчавалі, там расцяроб.* Дзёрнавічы В.-Дзв. 2. Зараснік. *Расцяроб — то кусты, зараслі.* Ухвала Круп. *Расцярёб — крушыннік, лаза, вроде балота.* Мішневічы Шум.

РАСЦЯРУШЫ'ЦЦА *зак.* Разгубіцца. *Яна расцярушылася саўсём.* Малі Астр.

РАСЦЯРЭ'БЛІВАЦЬ *незак.* Прарэджваць. *Людзі расцярэблівалі лес.* Барок Стаўб.

РАСЧА'ВІЦЦА *зак.* Разбіцца. *Расчавілася пасуда.* Старыя Трокі Трак.

РАСЧУБУНЯ'ЦЦА *зак. экспр.* Разысціся. *Як расчубунялася, то ўжо лапачу абы-што.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

РАСЧУ'ХАЦЦА, РАШЧУ'ХАЦЦА *зак.* Пазбавіцца стану санлівасці. *Расчухайся, памыйся, можа, ня будзеш хацець спаць.* Бакшты Іўеў. *Ніяк рашчухацца ня можыць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Хай троху рашчухаецца, можа, не будзе потым маўчаць, а то ж, як нема.* Пацаўшчына Дзятл.

РАСЧУ'ХУВАЦЦА *незак.* да р а с ч ý х а ц ц а. *Уставай ды расчухувайся, пойдзэм на гарод.* Азяраны Раг.

РАСЧЫ'НЕТЫ *дзеепрым.* Адчынены. *Дзверы расчынеты.* Мачаск Бярэз.

РАСЧЫНЯ'ЦЬ, РАШЧЫНЯ'ЦЬ, РОШЧЫНЯ'ТЭ, РОШЧЫНЯ'ЦІ *незак.* Рашчыняць. *Буду расчыняць пірох.* Вялікія Баяры Шчуч. *Баба рашчыняе хлеб.* Гемзы Шальч. *Одна булка хлеба асталася, трэ хлеп рашчыняць.* Дзяніскавічы Ганц. *Перш рашчыняем хлеп, потым месім, а як патходзіць, пячэцца хлеб.* Паляцкішкі Воран. *Рашчыняюць хлеп у дзяжэ.* Солы Смарг. *Рашчынялі хлеб, мясілі.* Старыя Трокі Трак. *Свой хлеб рашчыняем.* Чуркі Ашм. *У дзешчы хлеб рашчынялі.* Лоск Валож., Лука Нараўк. *Рошчыняют хліб у дыщцэ.* Дзмітравічы Кам. *Трэбо хлеб рошчыняці ў дэжэ.* Смаляніца Пруж.

РАСЧЭ'ПЛІВАЦЬ *незак.* Сячы (дровы). *Тупіцай расчэплівающь калотку, лучыну.* Магуны Паст. *Буду рашчэплівацъ дровы.* Мярэцкія Глыб.

РАСШАБУНЯ'ЦЦА *зак. экспр.* Разбушавацца. *Расшабуняўся ён і шабуняіць.* Лісна В.-Дзв.

РАСШАТА'ЦЬ, РАШШАТА'ЦЬ *зак.* Расхістаць. *Расшатаў зуб, кроў ідзець.* Беразіно Докш. *Слуп трэба рашшатаць.* Саланое Віл.

РАСШО'РЫЦЬ *зак.* Разбурыць. *Нада расшорыць хату, бо ўжо старая саўсем.* Рыбчына Віл.; *параўн.* літ. *šorà* 'шум,

хваляванне, бегатня', *šorúoti* 'бегаць, хутка што-н. рабіць, спяшацца'.

РАСШУ'РХАЦЦА *зак.* Тое ж, што і р а с ч ý х а ц ц а. *Расшурхайся скарэй, а то скажуць: «Сонны, не дала табе выспацца».* Рудня Астравітая Чэрв.

РАСШЫ'КАЦЬ *зак. экспр.* Растраціць. *Было многа грошай, а дзе цяпер яны, расшыкаў усё, што прапіў, а што раздаў.* Стральцы Гродз.

РАСШЫ'ЦЬ, РАШШЫ'ЦЬ *зак.* Вышыць. *Расшывалі раней скацеркі, кашулі.* Перавознікі Астр. *Кашулі кужэльныя трэба рашшыць.* Быстрыца Астр.

РАСШЭ'ЎКА, РАШШЭ'ЎКА, РО'ШАЎКА *ж.* Вышыўка. *Расшэўка ў рубашцы.* Альба Нясв. *Рашшэўка ў абрусе.* Солы Смарг. *Рошаўка ўжывалася ў абрусе, вышыта кругом было дзеля красы, ды і воку люба глянуць было.* Мярэцкія Глыб.

РА'ТА *ж.* 1. Чарга. *Прышла рата ў поля гнаць.* Рыбчына Віл. *Рата ў суботу, трэба пасціць кароў.* Пацаўшчына Дзятл. *Па раці кармілі пастуха, мая рата праз тры нядзелі.* Бакшты Іўеў. 2. у знач. *прысл.* р á т а ю. Па чарзе. *Ратаю ў нас усё: і каровы гонім, і авечак.* Пацаўшчына Дзятл. 3. Частка. *Адну рату выплаціў.* Альхоўцы Лях. *Раскладалі на раты і выплачавалі.* Жылі Іўеў. *На тры раты раскладалі падаткі.* Бакшты Іўеў. *Разлажылі на дзве раты.* Рыбчына Віл. *Ратамі плацілі падаткі, а хто зараз плаціў.* Ахрэмаўцы Брасл. *Позычку розложылі на рату.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *rata* 'рата, растэрміноўка'.

РАТАВА'ЦЦА *незак.* Берагчыся. *Пакуль жыве чалавек, ратуецца.* Новікі Гродз.

РАТАВА'ЦЬ *незак.* Выратоўваць, дапамагаць. *Прышоў і кажа: «Ратуй, шалею, зубы баляць».* Вузла Мядз. *Яна ратавала мяне.* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *ratować* 'тж'.

РАТАЗЕ'Й *м. экспр.* Разявака. *Ратазей — калі рот разняўшы дзяржыць.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

РАТА'Й *м.* Араты. *Ратай сея.* Масілавічы Сл. *Ратай — чалавек, які гарэ.* Галубы Маст. *Ратай — хто гарэ.* Парэчча Гродз. *Ратай і гарэць поле.* Кемялішкі Астр. *Ратай пашоў араць.* Калясное Міхал. *Пашоў ратай горацi.* Баброўнікі Гарад. *Трэба мне наняць ратая.* Старое Сяло Зэльв. *Сын фельчара не хацеў учыцца, ратаём быў, а потым каіўся, што не ўчыўся.* Мсцібава Ваўк.; *парайн.* польск. *rataj* 'тж'.

РАТА'ТУС *м.* Смак. *Ніякага ратаатусу німа ў смаршках.* Вялікія Нястанавічы Лаг.; *парайн.* польск. *raptus* 'запальчывы, нястрыманы чалавек'.

РАТКА'ВЫ *прым.* Рэдкі. *Гэты матэрыял раткавы.* Івашкаўцы Смарг. *Раткавы лес, адны бярозы.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

РАТО'К *м. памянш.* Рот. ∇ *На чужой раток ні накіняш замок.* Малі Астр.

РАТО'НДА *ж. перан.* Тоўстая жанчына. *Ратонда ты, таўстая!* Ішчальняны Шчуч.

РАТО'ЎКА *гл.* РАДО'ЎКА І

РАТУ'НАК, РЯТУ'НАК *м.* Дапамога, ратаванне. *Крычаў ратунку, як бы рэзалі.* Ухвала Круп. *Крычыш ты мне ратунку.* Вялікае Сяло В.-Дзв. *Рятункі — малец крычыць.* Мішневічы Шум. *Рятунку крычыць.* Янова Рас.; *параўн.* польск. *ratunek* 'тж'.

РАТЭ'ЛЬНЫ *прым.* Спагадлівы, чулы. *Ратэльны чалавек, да яго сходзяць усе людзі. Мой тата ратэльны быў.* Ністанішкі Смарг.

РАЎГЕ'ЛЯ *м. і ж. экспр.* Хто балбатлівы. *Раўгеля ніяк не ўспакоіцца, балбоча сабе і балбоча.* Старыя Трокі Трак.; *параўн.* літ. *ráugalas* 'плакса'.

РАЎГЕ'НЬКА *ж. памянш.* да р а ў г е́ н я. *Раўгеньку як зробіш свежэнькую, так яна, як піва, бушуіць.* Кураполле Паст.

РАЎГЕ'НЯ, РАЎГЕ'НЯ *ж.* Саладуха. *Раўгеня і путра салодзіцца ў гаршку.* Груздава Паст. *Саладуху ўпараць, яна ўкісня, і як укісня — гэта раўгеня.* Магуны Паст. *Раўгеню дзелалі так: забоўтаюць мукі аржаной на летняй вадзіцкі, лошкай памешваюць; кап троху пасаладзілася, падварваюць, пакіпяцяць харашо, апстудзюць, выліюць у дзешку, скарынку хлеба.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Раўгеню рабілі.* Рагулішкі Даўг. *Раўгеня робіцца з жытняй мукі, запарваюць і заквашваюць яе.* Ракаўскія Швянч. *У гаршчок жытняй мукі сыпіш, вадой заліваеш, мяшаеш, салодзіш, патом парыш у печы, яна заквашваецца і можна есці — гэта раўгеня.* Солы Смарг. *Як саладуха спарыцца, яе ў дзешку выліваюць, яна закісаіць і палучаіцца раўгеня.* Валынцы В.-Дзв. *Раўгеня і саладуха завецца. Саладуха прыпараная, а раўгеня заквашаная.* Едлавічы Брасл. *Раўгеню з мукі дзелалі.* Граўжышкі Ашм. *Раўгеня — яда такая са ржаной мукі, заварваецца, заквашваецца і п'юць.* Опса Брасл. *Раўгеня са ржаной мукі; саладуху дзелаюць, а тады заквасюць.* Лісна В.-Дзв. *Кажны дзень раўгеню ставіш.* Малькуны Ігн. *Раўгеню елі часта.* Быстрыца Астр.; *параўн.* літ. *raugiẽnė* 'тж'.

РАЎДО'НІКІ *мн.* Падасінавікі. *Раўдонікі — смашныя грыбы, галоўкі чырвоныя.* Кудзялянцы Шальч.; *параўн.* літ. *raudónikai* 'тж'.

РАЎКА'ТЫ *прым.* Васпаваты. *У раўкатага чалавека шнары есь, можа, хварэў на оспу.* Гемзы Шальч.; *параўн.* літ. *raukaĩ* 'маршчыны, складкі', *raukúotas* 'маршчыністы'.

РАЎНА' *гл.* РАЎНЯ'

РАЎНАВА'ЦЬ *незак.* 1. Раўняць. *Саломай крылі страху,*

*страхоўкай раўнавалі салому.* Гальшаны Ашм. *Лапатай раўнуяш салому, калі крыяш страху.* Магуны Паст. *Раскідаюць жджвір, раўнуюць летні лагер.* Пацаўшчына Дзятл. 2. Параўноўваць. *Жызні не раўнаваць цяпер і раньшэ.* Дзераўное Стаўб. 3. Раўняцца. *Ты не раўнуй да маладзяжы.* Лісна В.-Дзв.

РАЎНІ'ВЫ *прым.* Схільны да рэўнасці. *Я дужа раўнівая.* Саланое Віл.

РАЎНІ'НА' *ж.* Роўнае месца. *Раўніна — дзе роўненька, хоць каціся.* Рыбчына Віл. *У нас раўніна, поля роўнае.* Бакшты Іўеў. *Якая раўніна́ хароша!* Мсцібава Ваўк.

РАЎНІ'ЦЬ *незак.* Баранаваць пасля першага ворыва. *Раўніць трэба картоплю.* Рудня Астравітая Чэрв.

РАЎНУ'ЦЬ *зак.* 1. Зараўці. *Як раўне карова, так напужала!* Пацаўшчына Дзятл. 2. *перан.* Моцна загаварыць. *Радзіво як загаварыла, як раўнула.* Дарасіно Слуц.

РАЎНЯ', РАЎНА', РО'ЎНЯ *ж.* Хто роўны з кім-н. па якіх-н. прыкметах. *Яна вашаму не раўня, яна велька.* Кіралі Шчуч. *Ён аплутаў не па сваей раўні.* Гемзы Шальч. *Хоць бы на раўню сваю паглядзеў, няма чаго крахтаць.* Новіны Нясв. *Кап яна гаварыла с кім па сваёй роўні, а то з дзецьмі.* Кузьмічы Люб. ∇ *Бедны багатаму не раўня.* Малі Астр.

РАЎНЯ'ЦЦА *незак.* Быць роўным (па працягласці). *Дзень з ночай раўняецца.* Альхоўка Навагр.; *гл.* р о́ ў н і ц ц а.

РАЎНЯ'ЦЬ *незак.* Параўноўваць. *Цябе не раўняць, Серафіма, з ей.* Кураполле Паст.

РАЎПА'ТЫ *прым.* Тое ж, што і р а ў к а́ т ы. *Раўпатая бліндзя, як у кароcця. Раўпаты чалавек бывая.* Старыя Трокі Трак. *Раўпата ліцо.* Малькуны Ігн.; *парайн.* літ. *raupúotas* 'тж'.

РАЎПЫ' *мн.* Струпы. *Чорныя раўпы былі ў яго.* Малькуны Ігн.; *парайн.* літ. *raupaĩ* 'воспа'.

РАЎСЦІ', РАЎЦІ' *незак.* Раўці. *Карова стала раўсці.* Ёдлавічы Брасл., Мярэцкія Глыб. *На пашу карова раве.* Баброўнікі Гарад. *Карова будзя раўці.* Міратычы Карэл. *Карова пачала раўці.* Рудня Астравітая Чэрв. *Каровы равуць.* Вецярэвічы Пух. *Равуць каровы, як есці хочуць.* Чуркі Ашм.

РАЎЧАІ'НКА *ж. памянш.* Невялікі ручай. *Там такая раўчаінка, і вада бяжыць.* Кіралі Шчуч.

РАЎЧА'К, РАЎЧУ'К, РАЎЧО'К, РО'ЎЧАК *м.* 1. Тое ж, што і р а ў ч а і́ н к а. *Вада бяжыць праз раўчак і бульбоча.* Кіралі Шчуч. *Раўчак граскі, глыбокі, так не пераедзіш.* Старыя Смільгіні Воран. *Там працякаў раўчак.* Жылі Іўеў. *Раўчак бяжыць.* Азяраны Раг. *Снег растае, і раўчакі пацяклі.* Альхоўка Навагр. *Вада бяжыць па раўчаку.* Дзяніскавічы Ганц. *Раўчок ест, сцякае ў рэчку.* Навасёлкі Лід. *Поцеклі роўчакі мурзатыя, грязныя.* Малыя Аўцюкі Калінк. 2. Равок. *Раўчакі*

*здзелаем, каб вада сцякала.* Старыя Смільгіні Воран. *Капалі раўчакі лапатамі за тры злоты ў дзень.* Гемзы Шальч. 3. Паз. *Для ашалёўкі хаты ў досках вырэзваюць раўчакі.* Стральцы Гродз. 4. Шрам. *Астайся толькі раўчук на губе.* Крэва Смарг.

РАЎЧАЧКІ′ *мн. памянш.* Равочкі. *Раўчачкі падзелалі.* Беняконі Воран.

РАЎЧАЧО′К *м. памянш.* да р а ў ч а́ к 3. *У чалнаку дзюрачка ёсць і раўчачок — шчоленка такая.* Малі Астр.

РАХАВА′ЦЦА *незак.* 1. Раіцца. *Мушчыны прыйдуць, рахуюцца, дзе авёс сеяць, дзе грэчка лепш парасце.* Вецярэвічы Пух. 2. Разлічвацца. *Я с табой буду рахавацца.* Ракаўскія Швянч.

РАХАВА′ЦЬ *незак.* Лічыць. *Я яму даю дзеньгі, а ён рахуе.* Гемзы Шальч. *Мы рахуем, што выходзіць па восем рублёў на дзень.* Паляцкішкі Воран.; *параўн.* польск. *rachować* 'тж'.

РАХАТА′ЦЬ *незак.* Квакаць. *Жабы рахочуць.* Кемялішкі Астр.

РАХМА′НЫ, РОХМА′НЫЙ *прым.* Ручны (пра птушак і жывёлін). *Рахмана курычка.* Кіралі Шчуч. *Рахманая кура.* Альба Нясв., Рудня Астравітая Чэрв., Багушэвічы Бярэз., Міратычы Карэл. *Курыца рахмана, не баіцца.* Малахоўцы Бар. *Вот рахманы коцік, каля рук трэцца.* Альхоўка Навагр. *Рахмана карова.* Альхоўцы Лях. *Рахмана свіння.* Вялікія Баяры Шчуч. *Порося рохманы.* Дзяніскавічы Ганц.

РАХТА′ЦЬ *незак. экспр.* Смяяцца. *Ён сунёўся да рахтоў, рахтоў. Рахталі бабы.* Вецярэвічы Пух. *Дзеўкі рэхчуць.* Кемялішкі Астр.

РАХУ′НАК *м.* Падлік прыходаў і расходаў. *Усім рахункі рашаў.* Быстрыца Астр.

РАЦЬ *незак.* Араць. *Пашоў на поле рацьь.* Малыя Аўцюкі Калінк.

РАЦЭ′ПЫ *мн.* Клеткі. *У рацэпы ткалі дзяружкі, у чатыры ніткі.* Дзяніскавічы Ганц.

РАЧА′ЛЬНІК *м.* Затока каля рэчкі. *Па рачальніках бабоўнік расцець.* Саланое Віл.

РАЧАНЕ′Ц *м.* 1. Вялікае свята. *Калісь казалі, што рачанец — гэта свято, якое святкуецца праз рок. Булкі пяклі на рачанец.* Мсцібава Ваўк. *Яду пакідалі на рачанец, каб на рачанцы было што з'есці.* Рыбчына Віл. 2. Тэрмін. *Адбыла свой рачанец, ужо вышла на работу.* Вецярэвічы Пух. *Як свіння пагуляя, срок ей прыдзя парасіцца, кажуць: «Рачанцы патходжуюць ёй».* Азяраны Раг.; *параўн.* польск. *raczyć* 'мець ласку; частаваць', *raczba* 'частаванне' (СВ, V, 460).

РАЧКАВА′ЦЬ *незак.* Нахіліўшыся выконваць якую-н. работу. *Рві тут і там рачкуй з імі.* Багушэвічы Бярэз.

РАЧНІ′К *м.* Хто ловіць ракаў. *Рачнікі як прыедуць, многа ракаў лавілі.* Істра Лудз.

РАЧНІ′ЦА, РОЧНІ′ЦА *ж.* 1. Гадавіна з дня смерці. *На мужа сястры рачніцу прыязджалі.* Быстрыца Астр. *Была рочніца з пачосткай.* Жылі Іўеў. *Рочніца — як памрэ чалавек, праз год.* Старыя Трокі Трак. 2. Прамежак часу ў адзін год. *Ужо рачніца, як ён прыехаўшы.* Чычалі Швянч.; *параўн.* польск. *rocznica* 'тж'.

РАЧНЫ′ *прым.* Рачны. *Рачны асот цягалі свінням на корм.* Вецярэвічы Пух. *Рачноя сена — што каля ракі косяць.* Рудня Астравітая Чэрв.

РАЧНЯ′К, РОЧНЯ′К *м.* Жывёла ва ўзросце аднаго года. *Рачняк — маладое цяля аднаго року.* Лука Нараўк. *Рачняку майму год.* Мсцібава Ваўк. *Куонь рочняк, а такі велізарны.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *roczniak* 'аднагадовы'.

РАЧО′Н *прым.* Рады, задаволены. *Ты рачон, што ў Берліне быў.* Старое Сяло Зэльв. *Ён рачон быў куску хлеба.* Міратычы Карэл.

РАЧУ′ШКА *ж.* Невялікая рэчка. *Істра — такая вузенькая рачушка.* Істра Лудз.

РАЧЧУ′ХА *ж.* Памылка, дапушчаная пры ўвядзенні асновы ў бёрда. *Раччуха—калі ў бёрдзе прапускаецца адна трасцінка.* Дзяніскавічы Ганц.

РАЧЫКО′ВІСКА *ж.* 1. Грачаная салома. *Рачыковіска добра на корм жывёле.* Вялікія Баяры Шчуч. 2. Грачанішча. *На рачыковіска пагналі пасвіць.* Вялікія Баяры Шчуч.

РАЧЫ′ШЧА *н.* Старое рэчышча. *Рачышча зарастае травой. У рачышчы мачылі пяньку.* Рудня Астравітая Чэрв.

РАШАТКО′ *н. памянш.* да р э́ ш а т а 1. *На рашатко пераліў, малако асобня, ашакі асобне.* Рагулішкі Даўг.

РАШАТНЯ′ *ж.* Рэшата. *Пазыч рашатню патсеіць збожа.* Бакшты Іўеў.

РАШАТО′ *гл.* РЭ′ШАТА

РАШАЦЕ′НЬ *м.* Стаўпец. *Рашацень у граблях паламаўся.* Рыбчына Віл.

РАШАЦІ′ЦЦА *незак.* Насцілацца латамі. *Рашаціўся дом, ставілі кроклы, нада закоты прышыць.* Лісна В.-Дзв.

РАШВА′БІЦЬ *зак.* Раздзерці. *Рашвабіла карова рогам.* Міратычы Карэл.

РАШВО′РКА *ж.* Тое ж, што і р а з в о́ р а. *Узадзі воза трайніла, рашворка ідзе праз увесь воз.* Пацаўшчына Дзятл.; *гл.* р а з в о́ р к а.

РА′ШКА *гл.* РА′ЖКА

РАШКЕ′ПЛІВАЦЬ *незак.* Расшчэплівацць. *Рашкеплівая тапаром дровы.* Рыбчына Віл.

РАШО′ТКА I, РЯШО′ТКА *ж.* 1. Тое ж, што і р а ш а ц е́ н ь. *Рашотка — дзе зубы сідзяць.* Саланое Віл. *Грабавіла зажымаюць клінам у рашотцы.* Кураполле Паст. *Зубы ў рашотку насаджаны.* Беразіно Докш. 2. Рашотка (у печы). *Пад*

*рашоткай попел.* Паляцкішкі Воран. 3. Грэбень для часання. *У драчкі рашотка, дзе пятнаццаць — дваццаць гваздоў, лён абдзіраць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. 4. Зазубень. *Атоса зачэпліваецца за ряшотку.* Скрудалена Даўг.

РАШО'ТКА II *ж. бат.* Казляк. *Рашоткі — грыбы такія, пад восень бываюць.* Пацаўшчына Дзятл.

РАШО'ТНІК, РАШЭ'ТНІК, РЭШО'ТНІК *м.* Тое ж, што і р а ш о́ т к а II. *У рашотніках рашато знізу.* Дакудава Лід. *Рашэтнікі грубшыя, як сураешкі.* Васілевічы Гродз. *Рэшотнікі, бабы, краснюкі — такія грыбы ў нас.* Лука Нараўк.

РАШПІЛІ'ЦА *зак.* Расшпіліцца. *Рашпілілася рубашка.* Чычалі Шванч.

РА'ШПІЛЬ *м.* Рашпіль. *Рашпіль з крупнай насечкай, адзін бок плоскі, другі круглы.* Гемзы Шальч.

РАШЧА'ВІЦЬ, РОШЧА'ВЫТЫ *зак.* 1. Расціснуць. *Наступыла на яблыко да рошчавыла.* Сіманавічы Драг., Відзібар Стол. 2. *перан. экспр.* Выпіць. *Мусілі пачаставацца, рашчавілі бутылку першака.* Гемзы Шальч.

РАШЧАКЕ'РАНЫ *дзеепрым.* 1. Адчынены. *А калі прышла, то бачу — дзверы рашчакераны.* Мярэцкія Глыб.

РАШЧАКЕ'РЫЦЬ *зак.* Шырока расставіць. *Што ты ногі рашчакерыла?* Мярэцкія Глыб.

РАШЧАЛУКА'ЦЦА *зак.* Вылупіцца (пра куранят). *Ні рашчалукаецца і замірзае пісклятка, а як усё добра, то само вышчалукнецца.* Рыбчына Віл.

РАШЧАМІ'ЦЬ *зак.* Расшчапіць (рукі). *Як сашчамлю, рашчаміць рук не магу.* Руднікі Шальч.

РАШЧАПІ'ЦЬ *зак.* 1. Раскалоць. *Дошкі рашчэпляць папалам і штанкет.* Кемялішкі Астр. 2. Расчыніць. *Акно рашчапіла.* Збляны Лід.

РАШЧА'САВАЦЦА *незак.* Расчэсвацца. *Валасы добра рашчасаваюцца, чыста вымыла.* Валынцы В.-Дзв.

РАШЧО'Т *м.* Выгода. *Німа рашчоту нанімаць, слабая картошка.* Бaброўнікі Гарад. ◇ *Не ісці ў рашчот* — не ўлічвацца. *Нішто не ідзець у рашчот.* Ухвала Круп.

РАШЧО'ТНЫ *прым.* Эканомны. *Яна рашчотна баба.* Юркава В.-Дзв.

РАШЧУ'ХАЦЦА *гл.* РАСЧУ'ХАЦЦА

РАШЧЫКЕ'РЫЦЦА *зак.* Тое ж, што і р а ш ч а к е́ р ы ц ь. *Рашчыкерыцца і стаіць.* Курапалле Паст.

РАШЧЫ'НА, РО'ШЧЫНА *ж.* Рошчына. *Рашчыну пакідалі на хлеп.* Чуркі Ашм. *Рашчына ў дзежцы.* Беразіно Докш. *Хлеп пячэш, бярэш рашчыну, заліваяш ваду з сухімі грыбамі, лісток цыбулі і варыш — гэта поліўка.* Жодзішкі Смарг. *Рашчына аставалася, закваска, кап хлеб заквасіць.* Солы Смарг. *Улей у дзежку ваду, кубкі два, зоўтра зварым юшку з рашчыны.* Мачаск Бярэз. *Рашчыну атнімаеш, як учыняеш.*

Дзёрнавічы В.-Дзв. *Як жур варылі, закіслялі рашчынай.* Кудзялянцы Шальч. *Адбяры рошчыны на жур.* Парэчча Гродз. *Варылі саладуху з рошчыны, пасля хлеба дадуць, разводзяць вадой і ядуць с картопляю.* Дзяніскавічы Ганц.

РАШЧЫ'НАЧКА *ж. памянш. кулін.* Кіслая вадкая страва, падкалочаная мукой. *Рашчыначку варылі, любіла я яе есці, дужа смашная. Мяснога дык не магу дужа есці, а жыткае люблю, вот рашчыначку і ем часта.* Опса Брасл.

РАШЧЫНІ'ЦЬ І, РОШЧЫНІ'ЦЬ *зак.* 1. Рашчыніць. *Рашчыніць трэба хлеп, затым мясіць яго, а як падойдзе, садзіць у печ.* Альхоўцы Лях. *Трэба рашчыніць хлеп на цёплай вадзе.* Рыбчына Віл. *Маці рашчыніць бліны на кісьлі і пячэць.* Вузла Мядз. *Нада хлеп рашчыніць.* Груздава Паст., Малькуны Ігн. *Я рошчыніла хлеб, замесіла.* Грыкені Вільн. 2. Закалаціць. *Кісель рашчыніла, заўтра буду варыць.* Кураполле Паст. *Кісель варацъ з хлоп'я, рашчыняць у цёплай вадзе, працэдзяць і вараць.* Вузла Мядз.

РАШЧЫНІ'ЦЬ ІІ *зак.* Расчыніць, адчыніць. *Рашчыніў вароты, куры ш павылятаюць, зачыні!* Латыгаль Віл.

РАШЧЫ'НКА *ж. памянш.* Тое ж, што і р а ш ч ы́ н а. *Рашчынкі астаецца, у слоік кладзём.* Масішкі Красл. *Рашчынкай залівалі мяса і варылі.* Пярэкі В.-Дзв.

РАШЧЫНО'ВАЧКА *ж. памянш.* да р а ш ч ы н о́ ў к а. *Рашчыновачкі былі для бліноў.* Магуны Паст.

РАШЧЫНО'ЎКА *ж.* Невялікая дзежка. *Рашчыноўка — дзяжурка такая, дзе бліны рашчыняют.* Кураполле Паст. *Рашчыноўка — дзежачка для бліноў.* Ахрэмаўцы Брасл.

РАШЧЫНЯ'ЦЬ *гл.* РАСЧЫНЯ'ЦЬ

РАШЧЭ'ПАНЫ *дзеепрым.* Расшчэплены. *Былі светляке рашчэпаныя для лучыны раней.* Малахоўцы Бар. *Бервяно рашчэпана напалам.* Жылі Іўеў.

РАШШАЛО'ПА *м.* і *ж. экспр.* Разява. *Я не рашшалопа якая.* Азяраны Раг.

РАШШАТА'ЦЬ *гл.* РАСШАТА'ЦЬ

РАШШЫ'ЦЬ *гл.* РАСШЫ'ЦЬ

РАШШЭ'ЙБАНЫ *дзеепрым.* Разбураны. *Стаіць мурочак рашшэйбаны.* Кураполле Паст.

РАШШЭ'ЙБАЦЦА *зак.* Рассохнуцца. *Рашшэйбалася пасачка* [дзежачка], *абручы зваліваюцца.* Кураполле Паст.

РАШШЭ'ЎКА *гл.* РАСШЭ'ЎКА

РАШЫ'ЦЦА *зак.* Адважыцца. *Раз рашыўся, то і жывець.* Саланое Віл.

РАШЫ'ЦЬ *зак.* Вырашыць, надумаць. *Рашыў ехаць да Асьвея.* Лісна В.-Дзв.

РАШЭ'ТНІК *гл.* РАШО'ТНІК

РАШЭ'ЦІНА *ж.* Вертыкальная планка ў азяродзе. *Рашэціны дзве, што на дзіркак і жэртках укладаюць.* Вецярэвічы

Пух. *У рашэціны затыкалі жорткі.* Кузьмічы Люб. *У рашэцінах падзёўбаны дзіркі навылят.* Дзяніскавічы Ганц.

РВА́ЛКА *ж.* Сельскагаспадарчая машына, якой рвуць лён. *Адна рвалка на пяць вёсак.* Альхоўка Навагр.

РВА́ЛЬНЯ *ж.* Жанчына, якая рве лён. *Рвальні раней рвалі лён.* Старыя Смільгіні Воран.

РВА́ЛЬШЧЫЦА *ж.* Тое ж, што і р в а́ л ь н я. *Пашлі рвальшчыцы лён рваць.* Гемзы Шальч.

РВА́НЫ *дзеепрым.* Абарваны. *Такі рваны, такі неакуратны яе муж.* Ахрэмаўцы Брасл.

РВА́ЦЦА *незак.* 1. Разрывацца. *Рвецца нітка, як дрэнна ссучана.* Опса Брасл. *Укруцень не ламаецца, а рвецца.* Вузла Мядз. ∇ *Дзе коратка, там і рвецца.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. *перан.* Прагна імкнуцца куды-н. *Я думаю, чаго гэта чаляднікі рвуцца ў магазін, а там давалі гасцінцы.* Рагулішкі Даўг.

РВАЦЬ I, РВА́ЦІ *незак.* 1. Убіраць, вырываючы з карэннем (лён, каноплі і інш.). *Я ўсе гады лён рвала.* Плябанцы Ашм. *Лён рвалі рукамі.* Малахоўцы Бар. *Любы лён спачатку рвалі, потым ужо абівалі даўбешкай.* Канюкай Вільн. *Лён рвалі.* Дзераўное Стаўб., Латыгаль Віл., Крэвені Даўг., Кемялішкі Астр. *Як сямена даспявае, ідзём рваць лён.* Старыя Трокі Трак. *Рвалі ґрыку.* Стракішкі Трак. *Будзем лён рвації.* Васілевічы Гродз. 2. Збіраць. *Арэхі рвуць, як шышкамі растуць.* Ёдлавічы Брасл. *Ягады воўчыя мы не рвём.* Васілевічы Гродз. *Надзя пашла слівы рвації.* Смаляніца Пруж. 3. Шкуматаць. *Свіня мех рвець.* Саланое Віл. 4. Тузаць. *Дзеці мяне рвуць, за юпку цягнуць.* Гальшаны Ашм. ◇ *Валасы рваць* — вельмі перажываць. *Так плакала, аш валасы рвала.* Саланое Віл. *Пільнавалі мяне, бо валасы на сабе рвала, стольки перажыла.* Гальшаны Ашм.

РВАЦЬ II *незак.* 1. *безас.* Ванітаваць. *Мяне рваць хоча, так дрэнна.* Малі Астр. *Ён піць ня будзіць — рвець яго.* Валынцы В.-Дзв. *Як зачало яго рваць!* Старыя Смільгіні Воран. 2. *перан.* Біць (пра кашаль). *Быў коклюш, так стане рваць кашэль, рве і рве.* Крынкі Крын.

РДЗА *ж.* Маланка без грому. *Рдзой выпаліла, рдза — маланка без грома.* Рагулішкі Даўг.; *параўн.* польск. *rdza* 'іржа'.

РЕ́ЕЧКА *гл.* РЭ́ЕЧКА

РЕЗЬ *гл.* РЭЗЬ I

РЕТІ́ВЫЙ *прым.* Жвавы. *Жеребцы ніліхчаныя ретівые все.* Рагулішкі Даўг.; *параўн.* руск. *ретивый* 'тж'.

РЕ́ШТА *гл.* РЭ́ШТА

РЖА *ж.* 1. Іржа. *Ржа на зялезе.* Асавец Віл. 2. Балотная вада чырвона-бурага колеру. *Ржа на балоце.* Глівін Барыс. 3. Галаўня. *Ячмень ржой пабіла, многа галаўні.* Мішневічы Шум.

РЖА'ЎКА *ж.* Тое ж, што і р ж а 2. *Намочыш маткі ў ржаўку і пакрасяш адзення.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

РЖЫ'СКА, РЗЫ'СКА, РЖЫ'ШЧА, РЖЫ'ШЧО *н.* Іржышча. *На ржыску пасуць кароў.* Жылі Іўеў. *Ржыска гаруць.* Ліпнікі Вільн. *Жытняе ржыска, пшанічнае ржыска.* Відаўцішкі Вільн. *Рзыска жытняе.* Старыя Трокі Трак. *Ржышча пшаніцы.* Саланое Віл. *Ржышчо — дзе пажалі, убралі пасевы.* Альхоўцы Лях.; *парайн.* польск. *rżysko* 'тж'.

РЗНЕ'НЬЦЯ *гл.* РЭЗНЕ'НЦЯ

РІБЯ'ТА *гл.* РАБЯ'ТЫ

РОБА'К *гл.* РАБА'К І

РОБАЧЛІ'ВЫ *гл.* РАБАЧЛІ'ВЫ

РОБІ'ЦІ, РОБІ'ЦЬ *гл.* РАБІ'ЦЬ

РО'БЛЕНЫ, РО'БЛЯНЫ *дзеепрым.* Самаробны. *Роблены свэтар.* Грыкені Вільн. *Груца — свае, у хаце робляныя крупы.* Солы Смарг.

РОБО'ТА *гл.* РАБО'ТА

РО'БРА *гл.* РАБРО'

РОБЯ'ТЫ *гл.* РАБЯ'ТЫ

РО'ВАЛ *м.* Веласіпед. *Ровал купіў і раз'яжджае.* Беразіно Докш.

РО'ВАР, РО'ВОР *м.* Тое ж, што і р о́ в а л. *Прадайце мне ровар.* Груздава Паст. *Пастаў ровар ды ідзі есці.* Пацаўшчына Дзятл. *Не мог ровар купіць.* Дзераўное Стаўб. *Калісьці на дзярэўню адзін ровар быў.* Мсцібава Ваўк. *Мой сапсаваўся ровар, стаіць.* Ёдлавічы Брасл. *Пасадзя Люсю на ровар і паедзя.* Кемялішкі Астр. *Цяпер маладыя ні скажуць ровар, толькі — валасапет.* Вязынка Маладз. *Дзіця адно на ровар сядзе.* Старое Сяло Зэльв. *Дзет цёгаў, цёгаў ровара і паламаў.* Навасёлкі Свісл. *Даўней ровара не відзілі, а цяпер машыну, матацыкл кажды мае.* Малышы Лід. *На ровары паехала.* Гальшаны Ашм. *Наша паштальёнка на ровары ездзіць.* Опса Брасл. *У нас усе егдзяць на ровары.* Стральцы Гродз. *На ровары паехаў да магазіна.* Збляны Лід. *Ён ездзя на ровары.* Гемзы Шальч. *Паехаў на ровару.* Малькуны Ігн. *Барэце свае равара.* Вялікі Краснік Пруж. *Мала раварой ест.* Навасёлкі Свісл. *Называюць роварамі, а раньшэ — веласіпет.* Масілавічы Сл. *Ехала роворам.* Дзяніскавічы Ганц. ∇ *Ровар п'яных не любіць.* Паляцкішкі Воран.; *парайн.* польск. *rower* 'тж'.

РОВЭ'СНЫК *гл.* РАВЕ'СНІК

РОГ І *м.* 1. Рог. *Карова збіла рог, а бык рага не сарве, у яго рогі закамлевастыя.* Гемзы Шальч. *Карова рагом прабіла.* Малі Астр. *У каровы шнары на рагах.* Грыкені Вільн. 2. Пасудзіна для піцця ў выглядзе рога. *Выпіў два рагі, дык*

*дамоў не дашоў.* Ухвала Круп. ∇ *Дай свіне рогі, яна свет збадзе.* Бакшты Іўеў. *Хлеб рогі мая—калі чалавек добра жывець, ён тады пышыць, не знае, кім ён есць.* Малі Астр.

РОГ II, РОХ *м.* Вугал воза. *Кладзі сена на рох, выкладаць рог воза.* Рудня Астравітая Чэрв. *Зацягнуў рох воза.* Збляны Лід.

РОГ III *м.* Рог у шапцы. *Рагатыўкі насілі на штыры канты з рагамі.* Васілевічы Гродз.

РО'ГАТ *м.* Гучны смех. *З рогату падарваліся бабы.* Вецярэвічы Пух.

РОГОТЫ'ТЭ *незак.* Гучна смяяцца. *Роготыле, аш конале.* Дзмітравічы Кам.

РОД I, РОТ *м.* 1. Рад пакаленняў, якія паходзяць ад аднаго продка. *Яна с харошага роду вышла.* Вецярэвічы Пух. *Яго рот паганы.* Міратычы Карэл. 2. Сваякі, сям'я. *Баба перагаворвала наш род.* Галубы Маст. *Не хоча ў мой род ісці.* Міратычы Карэл. *З яго роду хлопца ўзялі, хацелі за шаўца вучыць.* Альхоўка Навагр. *Пошла до родоў, жывэ ў родоў разом.* Смаляніца Пруж. 3. у знач. *прысл. ро́дам.* Быць ураджэнцам якой-н. мясцовасці. *Ён быў родам з Ліды.* Малышы Лід. *Ён родам з Пад'язаўя.* Альхоўцы Лях. *Скуль яна родам?* Малі Астр.

РОД II *м.* Роды. *Як панашавала саломы, дык задзержыўся род, кроў задзержывалася, і матка не ачысцілася пасля родаў.* Саланое Віл.

РОДДО'М *м.* Радзільны дом. *А цяпер добра ў роддоме, там дагледзяць, і прыдзе дамоў з дзіцям.* Парэчча Гродз.

РОДЕ'ЛЬНІЦЯ *ж.* Парадзіха. *Бабы до родельніці в одветкі ідут.* Курашэва Чыж.

РО'ДЗІЛКАВЫ ХЛЕБ *м.* Хлеб без дабаўлення мякіны. *Багацейшыя раней елі родзілкавы хлеб, а бяднейшыя — з мякінай.* Вузла Мядз.

РО'ДЗІНА *ж.* 1. Радзіма, бацькаўшчына. *І каждага чалавека родзіна цягніць.* Чапаеўскі В.-Дзв. 2. Тое ж, што і р а д з і н а 2. *Зашлі тры родзіны.* Паляцкішкі Воран. *Уся родзіна сабралася да нас.* Саланое Віл. *Родзіна ее велька: дзевяць чалавек.* Баброўнікі Гарад.

РОДЗІ'ЦІ *гл.* РАДЗІ'ЦЬ I

РО'ДЗІЦЦА *незак.* Даваць добры ўраджай. *Родзіцца добра жыта.* Саланое Віл.

РО'ДНЕНЬКІ *прым.* Дарагі, блізкі сэрцу. *«Родненькі, міленькі,— казала яна,— не вытрымаю тут, забяры мяне».* Старыя Смільгіні Воран.

РО'ДНЫ *прым.* Які знаходзіцца ў кроўнай роднасці па прамой лініі. *Дачка родная ў хату не пашла.* Лісна В.-Дзв. *У яе цёткі роднай не было дзяцей.* Лоск Валож. *У мяне сястра родная пры даццэ.* Навасёлкі Лід. *Ніводнага роднага ў*

*мяне.* Чычалі Швянч. *Бацькі роднага не глядзелі.* Малі Астр. ∇ *Родная матка б'ючы не заб'ець, а няродная гладзячы згладзіць.* Кураполле Паст.

РОДНЯ′ *гл.* РАДНЯ′

РОДОВО′СЦЬ *ж.* Тое ж, што і р о д І, 1. *Двое сёстраў былі ў родовосці.* Валеўка Навагр.

РО′ДСТВА *н.* Радня. *Усё родства са свечкай запаленай стаіць, як хто родны памрэ.* Ахрэмаўцы Брасл.

РО′ДЫ *мн.* Тое ж, што і р о д ІІ. *Натто былі роды цяжкія.* Валеўка Навагр.

РОДЫ′ТЫ *гл.* РАДЗІ′ЦЬ І

РОЖ *ж.* Жыта. *Аржаная мука з рожы.* Лісна В.-Дзв. *Рож сеялі.* Мельнікі Лудз.; *параўн.* руск. *рожь* 'тж'.

РО′ЖА І *ж.* 1. *мед.* Рожа (інфекцыйнае запаленне скуры). *Рожа бываіць дванаццаць сартоў.* Ёдлавічы Брасл. *Ён, у гэтым ня быўшы, захварэў, рожа случылася ат іспугу.* Рыбчына Віл. *Рожа, еслі опухаль.* Валеўка Навагр. *Жаб'ю ікру ад рожы прыкладаць добра.* Азяраны Раг. *Рожа часом на назе, на руцэ.* Лука Нараўк. *Рожу нікможна мачыць, удразніш.* Солы Смарг. *Рожа с пуду бывает, как спуґаецца.* Рагулішкі Даўг. *У нас рожу замаўляюць.* Вузла Мядз. *Рожа ня любя вады.* Малі Астр. *Пече рожа, уся шчака спухла.* Баброўнікі Гарад. 2. *вет.* Хвароба ў свіней. *Рожу свіння падхваціла недзе.* Беразіно Докш. *Рожа ў свіней бываіць.* Мельнікі Лудз. *Рожа ў свіней.* Дзёрнавічы В.-Дзв., Рудня Астравітая Чэрв.

РО′ЖА ІІ *ж. абразл.* Морда. *П'яная ты рожа!* Баброўнікі Гарад.

РО′ЖАВІК *м. бат.* Падбел. *Рожавік ад рожы.* Рыбчына Віл.

РО′ЖГА гл. РО′ЗГА

РО′ЖКІ *мн. бат.* Спарыння. *Багата рожкаў у жыце, мусіць, ядраная жыта.* Вялікія Аўцюкі Калінк.

РО′ЗА *ж.* Ружа. *Роза цвіціць белая.* Істра Лудз. *Гэтая роза ўсю зіму красавалася.* Дзераўное Стаўб.

РО′ЗАВЫ *прым.* Ружовы. *Розава і бела сукенка.* Старое Сяло Зэльв.

РО′ЗАЧКА *ж.* 1. *памянш. да* р о́ з г а. *Розачка — такі дубчык.* Галоўні Воран. 2. *мн. ткац.* Звязаныя дошчачкі, якія раздзяляюць чыны ў аснове красён. *Чыны — па дзве палачкі, калі крыжуюцца, а розачкі — дзве палачкі, што дзержаць чыны.* Ракаўскія Швянч.

РОЗБА′ЛОВАЦІ *зак.* Распесціць. *Маці розбаловала дзіця.* Смаляніца Пруж.

РОЗБІВА′ЦІ, РОЗБЫВА′ТЫ, РОЗБЫВА′ТЭ *гл.* РАЗБІВА′ЦЬ

РОЗВА′ЛЬВАЦІ *незак.* Разбураць. *Тое хаты нэ розвальвалі.* Смаляніца Пруж.

РО′ЗВАЛЬНІ, РАЗВА′ЛЬНІ толькі *мн.* Шырокія сані. *Розвальні — сані, там і сядзэня, і спінка.* Ахрэмаўцы Брасл. *Нічога не выпадзе з розвальняў. Укінуўся ў розвальні і паехаў.* Ёдлавічы Брасл. *Развальні — сані з рамамі.* Валынцы В.-Дзв.

РОЗВІ′ДНЮВАТІ *гл.* РАЗВІ′ДНІВАЦЬ

РО′ЗВІНЫ толькі *мн.* Рэзгіны. *Сагінаюцца арэхавыя дугі, вероўкамі пераплятаюцца — гэта розвіны.* Мішневічы Шум.

РОЗВІТА′ТІ *незак.* Размотваць маток на клубкі. *Позычыла розвітушка і начала розвітаті.* Курашэва Чыж.

РОЗВІТУ′ШКА *гл.* РАЗВІТУ′ШКА

РОЗВО′РКА, РОЗВУО′РКА *гл.* РАЗВО′РКА

РО′ЗГА, РО′ЗҐА, РО′ЖГА, РО′СКА *ж.* Дубец. *Нарэзаць розак, кары настрагаць с крушыны і запарваць.* Плябанцы Ашм. *Вазьму розґу і буду лупіць цябе.* Кіралі Шчуч. *Матка пад маціцу падторкніць розґу і розґай сцібала.* Рагулішкі Даўг. *Біў розґаю.* Крынкі Крын. *Рожґай пабіла мяне.* Рагулішкі Даўг. *Роску вазьмі і чысці кішкі.* Дзяніскавічы Ганц. *Вазьму роску ды роскай цябе.* Кузьмічы Люб. *Роска — катора на веніку.* Рудня Чэрв.

РО′ЗГАРЫ толькі *мн. рэліг.* Свята, якое адзначаецца ў наступны пасля тройцы тыдзень. *Розгары — свята ў пятроўку. На розгары мама часта садзіла агурке.* Вецярэвічы Пух.

РО′ЗГЛЯДКІ толькі *мн. абрад.* Агледзіны. *По розглядках робят лады.* Курашэва Чыж.

РО′ЗГЛЯДЫ *мн.* Агляд чаго-н. *Ездзіла ў розгляды, выбіралі месца, куды пераехаць, дзе паставіць хату.* Вецярэвічы Пух.

РОЗДЗЕ′ТЫ *дзеепрым.* Распрануты. *Нэ іды роздзета.* Смаляніца Пруж.

РОЗЗЯ′ВА *гл.* РАЗЕ′ВА

РОЗЗЯ′ВІЦЬ *гл.* РАЗЯ′ВІЦЬ

РОЗКА′ЗУВАТІ *гл.* РАСКА′ЗАВАЦЬ

РОЗМАІ′ТЫ *гл.* РАЗМАІ′ТЫ

РОЗМОТОВІ′ДЛА *гл.* РАЗМАТАВІ′ДЛА

РОЗОБРА′ТЫСЯ *зак.* Распрануцца. *Тое було зымою, розобрався, побіг до клуні.* Дзмітравічы Кам.

РОЗОЙТЫ′СЯ *зак.* Скасаваць шлюб. *С чоловіком розошлася.* Дзмітравічы Кам.

РОЗО′РА *гл.* РАЗО′РА

РОЗО′РКА *гл.* РАЗО′РКА

РОЗПО′РЭК *гл.* РАСПО′РАК

РО′ЗУМ, РА′ЗУМ *м.* Разумовыя здольнасці чалавека. *Розум пры мне, усё помню.* Кіралі Шчуч. *Ніхэй вам розум у галоўку.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Розум яго ненармальны.* Гемзы Шальч. *Ён толькі сідзіць да пішыць, розумам робіць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ён разумны крэпка, але ад разума саўсім*

*адурнеіць.* Старыя Смільгіні Воран. ▽ *Кап той розум, што па парэ прыходзя, то не зрабіў бы так.* Малі Астр. *Красата прыглядзіцца, а розум прыгадзіцца.* Кураполле Паст. *Кап задні розум ды наўперат. Сам малады, а розум, як у старога. У дурную галаву розуму не ўставіш.* Вузла Мядз. *Што галава, то розум.* Перавознікі Астр.

РОЗХРЫ'СТАНЫ *гл.* РАСХРЫ'СТАНЫ

РОЗ'ЯСНЫ'ТЫ *зак.* Растлумачыць. *Нэ могу роз'ясныты.* Горск Бяроз.; *парайн.* руск. *разъяснить* 'тж'.

РОЗ'Я'ШВАЦІСА *незак.* Распагоджвацца. *Можэ, будэ і погода, роз'яшваецца.* Смаляніца Пруж.

РОІ'ТЫСЬ *незак. безас.* Здавацца. *Шось мны роіцьця.* Дзмітравічы Кам.

РО'ІЦІ *незак.* Лятаць роем. *Коб нэ роілі мухі, усэнько закрытэ.* Смаляніца Пруж.

РО'ІЦЦА *незак.* Раіцца (пра пчол). *Пшчолы роюцца, то раенне пчол.* Опса Брасл. *Як рояцца пчолы, нада вадой крапіць іх.* Мсцібава Ваўк.

РОЙ I *м.* 1. Сям'я пчол, якая вылецела з вулля. *Рой звіўся, пчолы сядзелі шапкай.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Ляціць ягоны пліміннік і крычыць: «Нясі мне венік і вады спырснуць рой!»* Груздава Паст. *Як рой вылятаў, пчолы бяруць мёду і вашчыны на тры дне.* Альхоўцы Лях. *Некаторыя раі ўцякаюць у лес, падымаюцца высока ўгару, находзяць дупле, там пасяляюцца і жывуць.* Альхоўка Навагр. *Рае пазбіраю і асаджу.* Галубы Маст. *Было ў мяне восем раёў, любіў каля іх хадзіць.* Гемзы Шальч. 2. Вялікая колькасць насякомых, якія лётаюць у паветры. *Некалі рой мух у хаце, мухаў налезла.* Альхоўцы Лях. *Цэлае рае мух.* Навасёлкі Свісл. *Раі мух шумяць.* Гемзы Шальч. 3. *перан.* Вялікая колькасць каго-н. *Цэлы рой дзяцей.* Азяраны Раг. *Рой ваўкоў.* Быстрыца Астр. *Цэлы рой ваўкоў.* Вялікія Баяры Шчуч. 4. у знач. *прысл. ро́ям.* У вялікай колькасці. *Роям круцяцца пшчолы.* Вузла Мядз. *Ка мне дзеці роям ляцяць.* Вецярэвічы Пух. ◇ *Рой-роям* — вельмі многа. *У гэта врэмя, у гэты час мух было рой-роям.* Груздава Паст.

РОЙ II *м. вет.* Запаленне малочнай залозы. *Рой у каровы бывая, як чырвоная малако ідзе з ґаранцосці.* Руднікі Шальч.

РО'ЙНІК *гл.* РАЙНІ'К

РОЙСТ *м.* 1. Зараслае балота, звычайна ў лесе. *Ройст — балота такоя.* Солы Смарг. *Ройст вялікі, там багун расце, брусніцы, журавіны.* Малі Астр. *У ройсце розная асака, трава шорсткая, кусты.* Беняконі Воран. *Ройст — кусты, балата, заросшыя лозамі.* Паляцкішкі Воран. *Бывая глыбокі і неглыбокі ройст.* Старыя Смільгіні Воран. *У ройсце гадзюкі былі.* Гемзы Шальч. *Каля ройсту няягкая трава.* Перавознікі Астр. *Ройстам назвалі балота, дзе альшэўнік.* Быстрыца Астр.

*У ройсце трава багун.* Чычалі Швянч. *Грыбоў на ройсце нет.* Малькуны Ігн. *На Мацэлях райсты, там кусты, балата, разна трава, дзерава.* Старыя Трокі Трак. 2. Зараснік. *Зараснікі такія ў лесі — ройст.* Галоўні Воран. *У ройсце гады ёсць.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *raĩstas* 'тж'.

РО́ЙСТА *н.* і *ж.* 1. Тое ж, што і р о́ й с т 1. *У ройсты па мох ездзілі, там ройста велькае.* Гемзы Шальч. *Залезла ў ройста, што чуць вылезла.* Грыкені Вільн. *У ройсця багна — не прайсці, балота, дзе жабы водзяцца, у ройсця асака, аер расце.* Івашкаўцы Смарг. *Журавіны растуць на купінах на ройстах.* Парэчча Гродз. 2. Нізкае, вільготнае месца ў лесе. *Ройста такая — ольхі былі, зямля там чорная, там нізка.* Грыкені Вільн. *Ройста — такое нізкае места.* Відаўцішкі Вільн. *Ройста — мокрае месца.* Малі Астр. *Як сухі гот, то ройста высыхае.* Солы Смарг. 3. Невялікі вадаём. *Яміна, вырыта ля лесу, карпаў хацелі разводзіць — гэта ройста.* Галубы Маст. 4. *перан.* Беспарадак. *Ройста зрабіў у хаце.* Жылі Іўеў.; *парайн.* літ. *raĩstas* 'тж'.

РО́ЙСТАЧКА *ж. памянш.* да р о́ й с т а 3. *У нас ёсь ройстачка, вясной у ёй жабы вядуцца, жабурынне плавае, а як жарка, то і высыхне.* Солы Смарг.

РО́ЙСТРА *ж.* Тое ж, што і р о й с т 1. *Ройстра — балота, кусты ў лесе.* Дакудава Лід.

РО́ЙСЦВІНА *ж.* Тое ж, што і р о й с т 1. *Ройсцвіна — па махах, па балотах гушчыня.* Жодзішкі Смарг.

РОК I, РУО́К, РЫК *м.* Год. *Ад зімы да зімы называецца рок.* Вострава Маст. *Дзейчуку рок будзя вясною.* Галубы Маст. *Адзін рок там пражыў.* Сонічы Гродз. *Гэты рок няма грыбоў.* Пацаўшчына Дзятл. *Як медавы рок, то мёду многа было.* Мсцібава Ваўк. *Рочна свята рас у рок бывае.* Быстрыца Астр. *Гэтага року снегу навалііла румада.* Парэчча Гродз. *Рок жыў на хутарох.* Беняконі Воран. *У гэтым року кепска збожа.* Грыкені Вільн. *Хату крыў у гэтым року.* Паляцкішкі Воран. *Паршучка як заколяць, то на цэлы рок.* Васілевічы Гродз. *На другі рок пакінулі яго.* Жылі Іўеў. *Ужэ хлопцові трэці рок пашоў.* Вялікі Краснік Пруж. *Чакаў, чакаў рок — німа, чакаў другі — німа.* Баброўнікі Гарад. *Людзям рок з роком жывэцца легчэй.* Смаляніца Пруж. *Тыя рокі было многа чарніц.* Навасёлкі Свісл. *За два року дочка куончыт школу.* Курашэва Чыж. *Яна памярла ракоў два.* Стральцы Гродз. *У шаснаццатым року памёр.* Грыкені Вільн. *У гэтым року прыедзе.* Каменка Стара Сакол. *У гэтым року засталася ялаўка.* Старыя Трокі Трак. *Рок я параблю на бураках, то к осені спадніца не трымаецца.* Мсцібава Ваўк. *Пэршы руок сеяла на дэрно.* Горск Бяроз. *Прошлый рык.* Дзмітравічы Кам. *Літюшный рык.* Сіманавічы Драг.; *парайн.* польск. *rok* 'тж'.

РОК II *м. кулін.* 1. Пахлёбка з цёртага канаплянага семя. *З цёртых канапель рок варылі.* Мачаск Бярэз. 2. Расол. *Елі бульбу с рокам.* Лісна В.-Дзв.

РОКІ'ТА *гл.* РАКІ'ТА

РО'ЛЬКА *ж.* Рулон (паперы). *Пара ролек паперы купіла.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *rolka* 'ролік'.

РО'ЛЬНІК *м.* Араты. *Рольнік на сваёй зямлі арайў.* Быстрыца Астр. *Рольнік арайў і сеяў.* Малахоўцы Бар. *Рольнік зямлю гарайў.* Навасёлкі Лід. *Калісьці артай казалі, а цяпер — рольнік.* Руднікі Шальч. *Бувала, называлі рольнікам артая.* Малькуны Ігн.; *парайн.* польск. *rolnik* 'тж'.

РОМ *гл.* РУМ

РОМО'Н *м. бат.* Рамонак. *Ромон смэрдзячы, а румянок пахнушчы, справедлівы.* Азарычы Пін.

РОМОНІ'ХА *ж. бат.* Рамонак. *Добры — то ромонок, а дзіка — ромоніха.* Баброўнікі Гарад.

РОН *м.* Мякіна. *Рон — мякіна мелкая, вотрыны — крупныя каласы.* Мішневічы Шум.

РО'НДАЛЬ, РО'НДЭЛЬ, РО'НДЗЕЛЬ, РО'НДЗЯЛЬ *м.* Каструля. *Рондаль медзяны.* Быстрыца Астр. *Рондаль з ручкай, медны.* Навасёлкі Лід. *Рондаль — што і цяпераиінія каструлі.* Магуны Паст. *Рондэль большы, а рандэлік меншы.* Кемялішкі Астр. *Рондзель — любая каструля.* Навасёлкі Свісл. *Рондзяль стаяў на лаве.* Перавознікі Астр.; *парайн.* польск. *rondel* 'тж'.

РО'НДЗІЦЬ *незак.* Камандаваць. ◇ *Дзе баба рондзі, там хата блондзі.* Кураполле Паст.; *парайн.* польск. *rządzić* 'тж'.

РОНДЭ'ЛЕК *гл.* РАНДЭ'ЛЯК

РОНДЭ'ЛІК, РОНДЭ'ЛЯК *гл.* РАНДЭ'ЛЯК

РО'ПА *гл.* РА'ПА

РОСАЛЕ'НЯ *гл.* РАСАЛЕ'НЯ

РО'СІ толькі *мн. рэліг.* Першая прачыстая. *Росі — свята на другі дзень прачыстай, цыбулю выбіраюць, лён свецяць.* Вецярэвічы Пух.

РО'СКА *гл.* РО'ЗГА

РО'СКАШ *ж.* 1. Тое ж, што і р а с к о́ ш а. *З роскашы разбэсцілася.* Гальшаны Ашм. *Дайней мецъ сукенку, спадніцу, касцюм — гэта роскаш была.* Вузла Мядз. *Ціпер роскаш — лепшай не можа быць!* Мсцібава Ваўк., Рыбчына Віл. 2. Свабода, воля. *Як агароды пасадзюць, іхная* [курыная] *роскаш прападзець — курэй запруць у хлеў.* Ахрэмаўцы Брасл.

РО'СКВАСЬ *ж.* Разводдзе. *Росквась была на дарозе, не праехаць.* Галубы Маст.

РОСКІДА'ЦЬ *гл.* РАСКІ'ДА'ЦЬ

РО'СКІДКА, РО'СКІТКА *ж.* 1. Поле, узаранае ўроскід. *Лаву раз усклат, а другі рас у роскідку гаруць.* Гемзы Шальч.

*Аруць у роскітку.* Відаўцішкі Вільн. 2. Баразна. *Загоны шырокія, штобы не было роскідкаў многа.* Відаўцішкі Вільн.

РОСКЛАДУ'ШКА *ж.* Лёгкі раскладны ложак. *У нас е роскладушка.* Дзмітравічы Кам.

РОСКО'ША *гл.* РАСКО'ША

РОСКУ'ШВАЦІ *незак.* Жаваць, есці. *Нэ могу хлеба роскушваці, зубы болят.* Смаляніца Пруж.

РО'СЛІК *м.* Расток. *Апцірала рослікі ў бульбы.* Дакудава Лід.

РО'СЛЫ *прым.* Высокага росту. *Ён вялікі, такі рослы быў.* Кураполле Паст. *Рослы, гожы мушчына.* Курашэва Чыж. *Рослы быў хлопяц.* Кудзялянцы Шальч. *Рослы і складны чалавек.* Гемзы Шальч. *Усе яе дзеці красівыя, рослыя былі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Рослы хлопчык, у бацьку пашоў.* Новікі Гродз.

РО'СЛЯ *ж.* Рост. *Картосцы росля, як дожч ідзе.* Дзяніскавічы Ганц. *Ні парасла картопля, німа рослі.* Пасека Ст.-Дар. *Німа ніякай рослі, зімна.* Малькуны Ігн.

РО'СНА, РО'СНО, РАСНО' *прысл.* Росна. *На дварэ росна.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Зрання росна.* Мярэцкія Глыб. *Яшчэ німа як ісці жаць, раса яшчэ стаіць, росна.* Гемзы Шальч. *На полі яшчэ росно.* Міратычы Карэл. *Сягоні росно було.* Стары Свержань Стаўб. *Ды расно абрыхалася, хацела падбелу нарваць.* Пацаўшчына Дзятл. *Расно будзя.* Альхоўка Навагр. *Расно сегодня.* Масілавічы Сл.

РО'СНЫ *прым.* Росны. *Росна раніца.* Міратычы Карэл. *Вялікая раса, росная раніца.* Рыбчына Віл.

РО'СПАЧ *ж.* Адчай. *Меў вельку роспач і з роспачы захварэў.* Мсцібава Ваўк.; *парайн.* польск. *rozpacz* 'тж'.

РОСПРАНУ'ЦІСА *зак.* Распрануцца. *Нашто роспранулаcа, сёгоні холодно.* Смаляніца Пруж.

РОСПРАТА'ЦІ *гл.* РАСПРАТА'ЦЬ

РОСПРА'ТАЦЦА *гл.* РАСПРА'ТАЦЦА

РО'СПУГА *ж.* Разора. *Роспуга памэж гряткамі.* Дзмітравічы Кам.

РО'СПУРКА *гл.* РАСПО'РКА

РОСПУСКА'ЦЦА *гл.* РАСПУСКА'ЦЦА

РОСПУ'СНЫ *гл.* РАСПУ'СНЫ

РОССВІ'Т *м.* Світанне. *Шчэ до россвіта далеко.* Дзмітравічы Кам.

РОСТ, РОШЧ *м.* 1. Тое ж, што і р о с л я. *Гэты рок німа росту на бульбу.* Гемзы Шальч. *Сцюдзіна, німа росту агуркам, буракам.* Саланое Віл. *Німа росту на гуркі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Як выцяняіцца бурак, росту няма.* Жодзішкі Смарг. *Ні выспілі высадкі сёлета, рошчу не было.* Бакшты Іўеў. 2. Вышыня (пра чалавека). *Малога росту, яе шкадуюць.* Альхоўка Навагр. *Матка росту нявелькага.* Стральцы Шальч.

РО′СТАНІ толькі *мн.* Скрыжаванне дарог. *На ростанях дарогі ў бакі ідуць.* Палік Барыс.

РО′СТАНЬКА *ж.* Тое ж, што і р о́ с т а н і. *Ростанька — гэта перакрэстак.* Лісна В.-Дзв.

РО′СТАНЬКІ, РО′СТЫНЬКІ, РО′СТАНКІ, РАСТАНЬКІ′ толькі *мн. памянш.* да р о́ с т а н і. *Ростанькі — дзе дарогі размінаюцца.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *На Івана Купала ідуць на ростанькі і варожаць.* Багушэвічы Бярэз. *Ростанькі за лесам.* Рудня Астравітая Чэрв. *У ростаньках сустрэліся.* Рыбчына Віл. *Як дойдзіш да ростынькаў — павярні ўправа.* Гайна Лаг. *Ростанкі — дзе расходзяцца дарогі.* Пасека Ст.-Дар. *Дайшоў да растанькоў, а далей куды?* Мачаск Бярэз. *Яго бачыла на растаньках.* Азяраны Раг.

РОСТЕ′РАНЫЙ *гл.* РАСЦЕ′РАНЫ

РОСТІЛА′ТЫ *гл.* РАСЦІЛА′ЦЬ

РОСТО′К *гл.* РАСТО′К

РО′СУХА *ж.* Расахатае дрэва. Радастаў Драг.

РО′СЦВЕННІК *м.* Сваяк. *Усе росцвеннікі нясуць вянке.* Пацаўшчына Дзятл.; *параўн.* руск. *родственник* 'тж'.

РО′СЦІК *м.* Тое ж, што і р о́ с л і к. *Росцік у сілах прарасці.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *За ўсё лучшы ўсходзяць агуркі; як памочыш іх, то яны росцік пусцяць.* Пярэкі В.-Дзв. *Росцікі ў агуркоў.* Індра Красл.

РО′СЦІЦЬ *гл.* РАСЦІ′ЦЬ

РОСЧО′ВМАТЫСЬ *зак.* Расчухацца. *Покы встала, да покы росчовмалась, то вжэ й сонцэ зыйшло.* Сіманавічы Драг.

РОТ *м. анат.* Рот. *Да роту паднесла.* Лоск Валож. *У році нарыў.* Старое Сяло Зэльв. ▽*У зімы вялікі рот, ён усё перажрот.* Кураполле Паст. *Са рта слова выпусці, то ў рот яго ўжо не вазьмёш.* Ахрэмаўцы Брасл. *На чужы рот не павесіш варот. На чужы каравай рот не разяўляй.* Вузла Мядз. ◇ *Ад роту даць* — аддаць апошняе. *Паміркуецца з паследнім, ад роту дась.* Ухвала Круп. *З роту выдраць* — забраць апошняе. *Яны б з роту выдралі, удушылі п цябе.* Кудзялянцы Шальч.

РОЎ *м.* 1. Канава. *Роў кепско пералазіць.* Пацаўшчына Дзятл. *Лес, кустэ, балота — равэ капаюць.* Збляны Лід. *Роў — сподняя канава, прарытая вадой.* Рыбчына Віл. *Там равы накапалі.* Гальшаны Ашм. *Равы панакапаныя.* Грыкені Вільн. *У равах не было вады.* Лісна В.-Дзв. 2. *перан.* Трэшчына. *У равы пяты пашчапаліся.* Магуны Паст. *Равы на нагах.* Малькуны Ігн. 3. у знач. *прысл. ро́вам, раву́мі.* Моцным струменем. *Пан увечар яго пазваў к сабе і даў яму гэтулькі плётак, што з яго кроў лілася ровам.* Мішневічы Шум. *Вада цячэ равамі.* Альхоўка Навагр.

РО′ЎГАЦЬ *незак. экспр.* Моцна плакаць. *Чаго ты роўгаіш?* Ністанішкі Смарг.; *параўн.* літ. *raudóti* 'тж'.

РО′ЎНА *прысл.* На адным узроўні. *Роўна з платамі було*

*снегу.* Парэчча Гродз. *Вада роўна з купінамі.* Рудня Чэрв. *Роўна каленей, шыі вады.* Ахрэмаўцы Брасл.

РО'ЎНІЦЦА *незак.* Раўняцца. *Ну і роўніся вот з імі!* Пасека Ст.-Дар.; *гл.* р а ў н я́ ц ц а.

РО'ЎНЫ *прым.* 1. Аднолькавы. *Усе людзі на свеце роўныя.* Солы Смарг. *І скот, і чалавек няроўныя — адзін такі, другі такі.* Ахрэмаўцы Брасл. ▽*Роўны роўнага нашоў, абоя рабоя.* Вузла Мядз. 2. Які прыблізна адпавядае чаму-н. па велічыні. *Яны ўсе роўныя, роўныя з дрэвам, а сонца не бачаць.* Саланое Віл. *Дош як прайшоў, то чуць не роўны берагоў канал быў.* Латыгаль Віл.

РО'ЎНЯ *гл.* РАЎНЯ'

РО'ЎЧАК *гл.* РАЎЧА'К

РОХ *гл.* РОГ II

РО'ХАЦЬ, РЮ'ХАЦЬ *незак.* Рохкаць. *Рохаіць свіння.* Саланое Віл., Галубы Маст. *Свіння рюхаіць.* Янова Рас., Мішневічы Шум.

РО'ХКАЦЬ *незак.* Тое ж, што і р о́ х а ц ь. *Рохкае свіня.* Вялікія Баяры Шчуч., Дакудава Лід., Галоўні Воран.

РОХМА'НЫЙ *гл.* РАХМА'НЫ

РО'ХНУЦЦА *зак. экспр.* Зваліцца. *Рохнулася з печы і пабіла плечы.* Новіны Нясв.

РО'ХНУЦЬ *зак. экспр.* Буркнуць. *Ён прыдзя, ні рохня, ні прывітаецца.* Малі Астр. *Свіня і тая рохніць, як ідзеш, а другі ідзець і не рохніць сабе, не паздароваіцца.* Вузла Мядз.

РО'ЧНІК *м.* Аднагодак. *Ягоный рочнік сёлета служыць.* Ністанішкі Смарг. *Яго рочнік пашоўшы служыць.* Галубы Маст. *Дайно ў зямлі яго рочнікі.* Гемзы Шальч.; *параўн.* польск. *rocznik* 'штогодні кантынгент прызыўнікоў'.

РО'ЧНІЦА *гл.* РАЧНІ'ЦА

РО'ЧНЫ *прым.* Гадавы. *Рочна свята рас у рок.* Быстрыца Астр. *Рочная свята ў нас кажуць, як бывая раз у год.* Ёдлавічы Брасл. *Рочных святаў многа.* Гемзы Шальч.; *параўн.* польск. *roczny* 'тж'.

РОЧНЯ'К *гл.* РАЧНЯ'К

РО'ШАЎКА *гл.* РАСШЭ'ЎКА

РОШЧ *гл.* РОСТ

РОШЧА'ВЫТЫ *гл.* РАШЧА'ВІЦЬ

РО'ШЧАНЫ *дзеепрым.* Прарошчаны. *Радзіска рошчаная недзе ё.* Азяраны Раг.

РО'ШЧЫНА *гл.* РАШЧЫ'НА

РОШЧЫНІ'ЦЬ *гл.* РАШЧЫНІ'ЦЬ I

РОШЧЫНЯ'ТЭ, РОШЧЫНЯ'ЦІ *гл.* РАСЧЫНЯ'ЦЬ

РОШЧЭ'ПАЦЬ *незак.* Калоць (дровы). *Чому не рошчэпуеш дрова?* Вялікія Аўцюкі Калінк.

РУБ *м.* 1. Бераг. *З руба палошчацца палатно, платья, на рубе неглыбока.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Край якога-н. прад-

мета. *Руб акна.* Тухавічы Лях. *На руб пастаў, ды перасячэш доску.* Вецярэвічы Пух.

РУ'БАЛЬ *гл.* РУБЕ'ЛЬ I

РУБА'НАК *м.* 1. Рубанак. *Рубанкам спускаюць дошку, ім выгабляяш роўна.* Збляны Лід. 2. Верхняя плоская качалка. *Трэба націснуць рубанкам, будзя ручнік гладзянькі.* Малахоўцы Бар.

РУБА'НЫ *дзеепрым.* Паранены. *Ён рубаны і коляны, дзве вайны прайшоў.* Руднікі Шальч.

РУБА'ХА *ж.* Кашуля. *Насілі рубаху.* Лісна В.-Дзв. ▽*Свая рубаха бліжэй к целу.* Вузла Мядз.

РУБА'ЦЬ, РУБА'ТЫ *незак.* 1. Сячы, калоць. *Дрэвы, як сталёвыя, як рубаіш, то тапор атскаківыіць.* Руднікі Шальч. *Рубаць трэба дровы.* Ёдлавічы Брасл. *Дровы рубаюць сякерай.* Парэчча Гродз. *Малады лес вырас, яго не рубаюць на дровы.* Вялікія Баяры Шчуч. *Сякерай дрова рубаюць.* Жодзішкі Смарг. *У садзе рубала старыя дрэвы.* Жылі Іўеў. *Дзялянкі атвадзілі і лес рубалі.* Быстрыца Астр. *Дровы рубают на колоде.* Горск Бяроз. 2. Раздрабляць. *Лёд рубая.* Жодзішкі Смарг. *Пайду траву рубаць і свіням даваць.* Ліпнікі Вільн. 3. *перан. экспр.* Есці. *Бацька, ідзі рубаць бульбу!* Гемзы Шальч.

РУБА'ШКА *ж.* 1. Тое ж, што і р у б á х а. *Даўней ткалі рубашкі, перабіраныя рукавы і манжэты былі.* Валынцы В.-Дзв. *Абцяры яму рубашку.* Саланое Віл. *Рубашкі цяпер усе такія шыяць, як жэняцца.* Малі Астр. *Раньшэ ў адной рубашке не было жарка.* Ахрэмаўцы Брасл. *З палатна шылі рубашкі, іх яшчэ вышывалі.* Навікі Лудз. 2. Блузка. *Мне дачка рубашку пашыла, яна партніха. Рубашка — гэта папростаму, а па-польску — блузка.* Солы Смарг. *Бабуля як ішла ў цэркву, нясла звязаную рубашку і спадніцу, адзявала, як блізка падышла ўжо да царквы.* Вузла Мядз. *Рубашка — это кофта.* Альхоўцы Лях. *Рубашку пашыла і нашу.* Стральцы Шальч.

РУБЕ'ЛЬ I, РУ'БАЛЬ, РУБЭ'ЛЬ *м.* Рубель. *Усяго меў рубель.* Новыя Мацалі Варэн. *Рубля згубіш, і то жалка.* Ёдлавічы Брасл. *За тры рублі боты былі раней.* Латыгаль Віл. *Сорак пяць рублей пэнсіі.* Гальшаны Ашм. *Рубэль астаўшыся ў кашалёчку.* Паляцкішкі Воран. ▽*На капейку ўпіўся, а на рубель праставіўся.* Малі Астр.

РУБЕ'ЛЬ II, РУБЭ'ЛЬ *м.* Жэрдка, якой уціскаюць сена на возе. *На вэліку хвуру кладут рубля і прывязуют вэровкою.* Курашэва Чыж. *Рублём уцягуют сено, жыто, як звозят.* Смаляніца Пруж. *Прытягаю хуру рублём.* Дзмітравічы Кам. *Рубэль — што сено прыціскаюць.* Калясное Міхал.; *гл.* ДАБМ, карта № 289.

РУБЕ'Ц *м.* 1. Гадавое кальцо на розе ў каровы. *Як ацяліў-*

*шыся карова, сразу рубец паяўляецца.* Вялікае Сяло В.-Дзв. *На рагах у каровы рубцэ.* Малахоўцы Бар. *Па рубцах узнаюць, колькі гадоў карове.* Беразіно Докш. *Рубцы на рагах каровы.* Быстрыца Астр. *На рагах рупце такія есь, першы кавалак рога — то тры лет карові, а далей, што рок — то рубец.* Баброўнікі Гарад. 2. Шрам. *У мяне на далоні рубец ад сярпа хваціўся.* Ністанішкі Смарг. *Уродзе рубец харашо не зажыты.* Гемзы Шальч. *Рубец после рога астаўся.* Пасіене Лудз. 3. *крав.* Шво. *Рубец — як зарубляем посцілку.* Паляцкішкі Воран. *Рубец захілены, трэба зарубіць рубец.* Старыя Смільгіні Воран. *Рубец там, дзе падложана, ніс рубашкі, трэба рубец зарубіць у портках.* Альхоўка Навагр. 4. Спінка ў ложку. *Як здзяешся, то адзежу павесь на рубец ложка.* Рудня Чэрв.

РУБІ'НА *ж.* Адзежына. Ісерна Слуц. *Адну рубіну згубіла і ні знаю, што.* Пасека Ст.-Дар.

РУБІ'НАЧКА *ж. памянш.* да р у б і н а. *Пасля вайны ні адной рубіначкі ні асталося, пераменухі не было.* Пасека Ст.-Дар.

РУБІ'НКА' *ж.* ◇ *Змокнуць да рубінкі* — прамокнуць да ніткі. *Смокла да рубінкі.* Ністанішкі Смарг. *Змок да рубінкі.* Магуны Паст.

РУБІ'ЦЬ I *незак.* 1. Тое ж, што і р у б а́ ц ь 1. *Мы рубілі лес і вазілі к раке.* Лісна В.-Дзв. *Плотнікі хату рубяць.* Вузла Мядз. *Пойдзім рубіць дом.* Ністанішкі Смарг. *Сякерамі рубілі сцяну ў хаце.* Ракаўскія Швянч.; *параўн.* руск. *рубить* 'тж'.

РУБІ'ЦЬ II *незак.* Падшываць (адзенне). *Шоў машына рубіла.* Палік Барыс.

РУБЛЁК *м. памянш.* да р у б е́ л ь I. *У аднаго рублёк, у другога мелач.* Чапаеўскі В.-Дзв.

РУБЧА'СТЫ *прым.* Зубчасты. *Круглая і рубчастая качалка.* Малыя Аўцюкі Калінк.

РУБЧА'СЦЯНЬКІ *прым. памянш.* да р у б ч а́ с т ы. *Чарка рубчасцянька.* Малахоўцы Бар.

РУ'БЧЫК *м. памянш.* да р у б е́ ц 1. *На рагах у каровы рубчыкі.* Лоск Валож.

РУБЧЫ'НА *ж. крав.* Рубец (у адзенні). *Ішлі ў дошч, а як прышлі дамоў, то рубчыны німа сухой.* Азяраны Раг.

РУБЧЫ'НКА *ж. кулін.* Сальцісон. *Зварыла рубчынкі.* Рудня Астравітая Чэрв.

РУ'БШЧЫК *м.* Мяснік. *У мясным магазіне рубшчыкам робіць.* Беняконі Воран.

РУБЭ'ЛЬ *гл.* РУБЕ'ЛЬ I, II

РУГА'НЬЕ *н.* Лаянка. *Руганье адно на старых.* Дзяніскавічы Ганц.; *параўн.* руск. *ругань* 'тж'.

РУГА'ЦЦА *незак.* Сварыцца. *Я з мужыком не ругалася.*

Парэчча Гродз. *У сваёй хаце ўсе ругаюцца.* Ёдлавічы Брасл.; *парайн.* руск. *ругаться* 'тж'.

РУГА'ЦЬ *незак.* Лаяць. *Яга ругаяць людзі.* Груздава Паст.; *парайн.* руск. *ругать* 'тж'.

РУДА' *ж.* 1. Тое ж, што і р ж а 1. *На балоце гразь такая, руда звалі; ніткі ў ёй ачэрняцца, як з краскі.* Пасека Ст.-Дар. *Руда на балоце. Руду варацъ умесьці с мучарнікам і чэрняць палатно.* Магуны Паст. *Рудой ваду зацягнула, гэтай рудой красяць ніткі.* Солы Смарг. *Бралі руду балотнюю каля крыніцаў і фарбавалі розныя вешчы.* Старыя Смільгіні Воран. *Як рудой падфарбуеш, то рудым станавілася адзенне.* Пацаўшчына Дзятл. *Матке суровыя запхнеш у руду на дзён с чатыры, выпалашчыш і ччэш.* Кіралі Шчуч. *Руды наберацъ і хварбавалі.* Кураполле Паст. *Руда на болоце, чырвона вода.* Смаляніца Пруж. *Есць у балоце вада, руда такая, як іржа.* Баброўнікі Гарад. *Руда — брудная вада.* Крынкі Крын. *Руда ў балоця.* Старыя Трокі Трак. 2. Руда. *Жэлезо вытопляют з руды.* Курашэва Чыж.

РУДАВА'ТЫ *прым.* Рыжаваты. *Рудаваты хлопец.* Малькуны Ігн.

РУДА'ЎКА *ж.* Тое ж, што і р ж а 1. *Рудаўка — рудая вада на балоце.* Гайна Лаг. *Рудаўка на балоці, ёй красілі раней адзежу.* Рыбчына Віл.

РУДА'ЎКІ *мн.* Рудыя мурашкі. *Рудаўкі — маленькія мурашачкі, рудыя.* Лука Нараўк.

РУДДЗЁ *н.* Багністае месца. *Руддзё там — топкае месца, гускі растуць.* Мачаск Бярэз.

РУДЗЕ'ННЯ *н.* Вяснушкі. *У яе рудзення на твары.* Вялікія Аўцюкі Калінк.

РУ'ДЗЕНЬКІ *прым. памянш.* да р у́ д ы́. *Маёвыя жукі рудзенькія.* Салапое Віл. *Казляк паверху рудзенькі.* Грыкені Вільн. *Ласачкі былі белыя і рудзенькія.* Чычалі Швянч.

РУДЗІ'ЗНА *ж.* 1. Рудое адценне. *Рудзізнай зацягнула газэту ад сонца.* Рудня Чэрв. 2. Тое ж, што і р ж а 3. *Агрэсту было многа, але рудзізна пакрыла.* Старыя Трокі Трак.

РУ'ДЗІК *м. бат.* Шчаўе (лугавое). *Рудзік кіслы, як шчаўе.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

РУДО'ВІНА *ж.* Тое ж, што і р у д а́ 1. *У рудовіну апускаюць і фарбуюць.* Солы Смарг. *Рудовіна бывая пры балоце, такая руда.* Альхоўка Навагр.

РУДУ'ШКІ *гл.* РАДУ'ШКІ

РУ'ДЫ', РУДЫ'Й *прым.* Рыжа-карычневы. *Навес ру́ды ад дажджу.* Мсцібава Ваўк. *Дзік руды́.* Кіралі Шчуч. *Руды́ кужаль.* Крынкі Крын. *Клоп руды́.* Солы Смарг. *У ліса ру́ды хвост, як памяло.* Малі Астр. *Рудо́е палатно на мяхе ткалі.* Міратычы Карэл. *У мяне цело рудо́е.* Малахоўцы Бар. *Рудо́га купіла мацерыялу.* Рыбчына Віл. *Бяльё насцірала рудо́га.*

Беняконі Воран. *Бізаўкі рудыя.* Рагулішкі Даўг. *Рудое палатно, ні выбіліла.* Чычалі Швянч. *Ніткі очэнь рудыя.* Опса Брасл. *Рудыя і чорныя свінні бываюць.* Гемзы Шальч.

РУ'ЖА I *ж. бат.* 1. Тое ж, што і р о́ з а. *Стала ружа распускацца.* Саланое Віл. *Ружа як зацвіце, плоту не відаць.* Гемзы Шальч. *Каравай наверх убіралі ружамі, пятушкамі.* Гальшаны Ашм. 2. Лілія. *Ружа бела і жоўта расце на рэчцы.* Кудзялянцы Шальч.

РУ'ЖА II *ж.* Тое ж, што і р о́ ж а I, 1. *Патпадае ружа, нада замаўляць, яна доктара не хоча.* Кіралі Шчуч. *Ружа на твары.* Новіны Нясв. *Бывае з вады ружа.* Рудня Астравітая Чэрв. *Ад ружы шэпты памагаюць.* Альхоўцы Лях.

РУЖАВА'ТЫ *прым.* Тое ж, што і р у д а в а́ т ы. *Рабакі ружаватыя, прыкрыя натта.* Солы Смарг.

РУЖАВА'ЦЦА *незак.* Фарбавацца ў ружовы колер. *Дзеўкі буракамі ружаваліся.* Старыя Трокі Трак.

РУЖА'НЕЦ, РАЖА'НЕЦ *м. царк.* 1. Ружанец. *У мяне ружанца нет, астаўшыся на печы.* Лайпушкі Ігн.; *параўн.* польск. *rozaniec* 'тж'. 2. *рэліг.* Свята, якое адзначаюць у першы тыдзень кастрычніка. *Ражанец — свята, первая нядзеля ў акцябрэ.* Валынцы В.-Дзв. ∇*Вот урадзіўся — ні да танца, ні да ражанца, ні да чаго неспасобны.* Малі Астр.

РУ'ЖАЧКА *ж. памянш.* да р у́ ж а I, 1. *Матка выткала дыван на памяць: там ружачкі, лісточкі.* Навасёлкі Лід.

РУЖ'Ё *н.* Ружжо. *Паміняймо руж'ё.* Паляцкішкі Воран.

РУЖО'ВЫ *прым.* Ружовы. *Ружовы твар у яго.* Рыбчына Віл. *Ружовыя шчокі.* Мярэцкія Глыб. *Ніці ружовы, сукенка ружова.* Кіралі Шчуч. *Ружовыя ніткі.* Рудня Астравітая Чэрв.; *параўн.* польск. *różowy* 'тж'.

РУЖО'ЎКА I *ж.* Тое ж, што і р о́ ж а I, 1. *Яна была на ружоўку захварэўшы, але доктар вылечыў.* Паляцкішкі Воран.

РУЖО'ЎКА II *ж.* Сорт скараспелай бульбы. *Ружоўка рана паспявае.* Старыя Трокі Трак. *Усе пакапаўшы, а мая ружоўка не скапана.* Гемзы Шальч.

РУЗМАІ'ТАСЦЬ *ж.* Розная дробязь (пра рэчы). *Рузмаітасці папакупляла.* Крэва Смарг.; *параўн.* польск. *rozmaitość* 'разнастайнасць'.

РУ'ЗНІНА *ж.* Тое ж, што і р у з м а і т а с ц ь. *Там рузніна ўсякая.* Асавец Віл.; *параўн.* польск. *różny* 'розны'.

РУЗО'РА *гл.* РАЗО'РА

РУІ'НА *ж.* Зграя ваўкоў у перыяд цечкі. *Руіна ваўкоў.* Магуны Паст., Вялікія Баяры Шчуч., Галубы Маст. *Напаткаў на руіну ваўкоў.* Старыя Смільгіні Воран. *Руіна — то васэля гуляюць ваўкі.* Магуны Паст. *Ходзіць цэлая руіна ваўкоў у лесі.* Кіралі Шчуч. *Збіраюцца ваўкі ў руіны і ідуць.* Жылі Іўеў. *Як грамніцы, то руіны ваўкоў ходзяць, ваўкоў трыццаць ішло.* Кудзялянцы Шальч. *Ваўчыца водзіць ваўкоў у руіну,*

*як карагоды, ходзяць ваўкі.* Гемзы Шальч.; *параўн.* польск. *ruja* 'цечка'.

РУІ'ЦЦА, РУІ'ЦЦЯ *незак.* Знаходзіцца ў стане цечкі. *Сука руіцца, лятая за сабакамі, ваўке руюцца.* Парэчча Гродз. *Паміж грамніцамі ваўке руюцца.* Кіралі Шчуч.

РУ'ЙКА *ж.* Тое ж, што і **р у і н а**. *Руйка — стада ваўкоў у час цечкі.* Мярэцкія Глыб. *Вот руйка сабак леціт.* Рагулішкі Даўг.

РУКА' *ж. анат.* Рука. *Успухла рука.* Рудня Астравітая Чэрв. *З левай рукі рабіў, бо быў ляўша.* Вулька Гродз. *На руцэ прышчай.* Вялікія Баяры Шчуч. *У рукі горача.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Рукамі рвалі, абівалі лён, пранікамі лупілі.* Яніна В.-Дзв. *У жытняе жніво рукі былі, як куракі, панапыхаўшы.* Вузла Мядз. *Прыляцеў ён і замахаў рукамі.* Лайпушкі Ігн. *Ён у руках крапчэйшы.* Чуркі Ашм. *Жыта падбіралі рукамі, а касілі касамі.* Васілевічы Гродз. ▽*Рукамі рабі, а не толькі горлам бяры.* Малі Астр. *Шчо оддасы рукамы, то ны выходыш ногамы.* Сіманавічы Драг. *Аддай рукамі, хадзі нагамі.* Вузла Мядз. *Нет на свеце хуччай скукі, як незанятыі рукі.* Валынцы В.-Дзв. *Вачам усё страшна, а рукі ўсё зробяць.* Ёдлавічы Брасл. *Рукамі чужымі толькі жар грабаць, а рабіць нада сваімі.* Кудзялянцы Шальч. ◇ *Абы з рук* — абы-як. *Робя абы з рук, абы колейку адбыць.* Малі Астр. *Апусціць рукі* — страціць сілы. *Шаг ступіць да ваўка — я рукі апусціў са страху.* Вулька Гродз. *Даць у рукі* — даць хабар. *У рукі далі, дык стала ўсё добра.* Жылі Іўеў. *З голымі рукамі* — без падарункаў. *На госці прышла з голымі рукамі.* Малі Астр. *На быстру рўку* — паспешліва, хутка. *На быстру руку прыпякла праснака.* Беняконі Воран. *Не з рукі* — нязручна. *Проста не з рукі геты замуж быў.* Баброўнікі Гарад. *Падлажыць рукі* — дапамагчы. *Як хворы, то ніхто рук не падложыць.* Дзяніскавічы Ганц. *Рука па далоню* — выгадна. *А нам і рука па далоню.* Збляны Лід. *Рука руку мые* — аб адносінах людзей, калі яны пакрываюць дрэнныя ўчынкі адзін другога. *Рука руку мыіць, я яму зрабіў добра і ён мне зробіць добра.* Саланое Віл. *Рука руку мыя, штоб абея былі белы.* Азяраны Раг. *Рука руку мыя, каб абодві чыстыя былі.* Малі Астр. *Рукі змываць* — наведваць пасля родаў. *Пойдзім рукі змываць да яе.* Бакшты Іўеў. *Рукой атняць* — знікнуць бясследна. *Яна папіла год — і як рукой зняло.* Ахрэмаўцы Брасл. *У адну рўку* — быць заадно з кім-н. *Абадва ў адну руку ідуць.* Ракаўскія Швянч. *Узяць у рукі* — рабіць якую-н. работу. *Ён не ўзяў у рукі ні касы, ні плуга, ні бараны.* Вузла Мядз. *У руках каго-н.* — у распараджэнні каго-н. *Даўней у свікрыных руках было і сала, і малако, і хлеп, а нявестка нічым не распараджалася.* Вузла Мядз. *У руку* — тое, што лёгка дастаецца каму-н. *Усё ідзець у руку.* Мярэцкія Глыб. *Яму*

*ўсё ў руку, а ня з рук.* Кураполле Паст. *Не ў рукі, а ўсё з рук — то карова прапала, то парася.* Кудзялянцы Шальч.

РУКАВА'ТКА, РУКАВЯ'ТКА, РУКАВЯ'ДКА, РУКАЯ'ТКА, РУКУВЯ'ТКА *ж.* 1. Кассё. *Рукаватка ў касе.* Парэчча Гродз. *У касе рукаватка.* Галубы Маст., Сакаляны Сакол., Воўкуш Ліпск. *Касаўё дрэнна, нада рукавятку новую ставіць.* Ёдлавічы Брасл.; *гл.* ДАБМ, карта № 260. 2. *ткац.* Ручайка. *Рукавятка — верацяно напрадзеных нітак.* Мярэцкія Глыб. *Як сатрэцца жменя ільну — рукавядка.* Беразіно Докш. *Рукаяткі і тры разам называлісь ручэйкамі.* Мярэцкія Глыб. *Напрала рукувятку, нада тачыць на пачынак.* Лісна В.-Дзв.

РУКАВІ'ЦЫ, РУКАВЭ'ЦІ, РЭНКАВІ'ЦЫ *мн.* Рукавіцы. *Рукавіцы можна вязаць кручком.* Кіралі Шчуч. *У печы былі пячуркі на рукавіцы.* Гальшаны Ашм. *Забыўся рукавіц, вярнуўся назад.* Вузла Мядз. *Положэ рукавэці.* Дзмітравічы Кам. *Тры рэнкавіцы ўзяўшы?* Новыя Мацалі Варэн.; *парайн.* польск. *rękawicy* 'тж'; *гл.* ДАБМ, карта № 333.

РУКАВО' *н.* Рукаў. Магуны Паст., Крэва Смарг. *За рукаво ўзяў.* Паляцкішкі Воран. *Цягне за рукаво.* Альхоўцы Лях. *За рукаво дзяржыць мяне, не хоча атпускаць.* Старыя Смільгіні Воран. *Рукаво прышыла.* Жодзішкі Смарг. *Кліны ў рукаво ўстаўляюцца.* Быстрыца Астр. *Рукаво шырока.* Вялікія Баяры Шчуч. *Ляціць баба — і кроў ллеца ў рукаво.* Валеўка Навагр. *Рукаво закасаць нада.* Грыкені Вільн. *Рукаво падралася.* Гемзы Шальч. *З гэтага кавалка рукаво будзя.* Малі Астр. *Рукаво боўтаецца.* Солы Смарг.

РУКАДЗЕ'ЛЛЕ *н.* Шыццё, вязанне. *Пасучы каровы, я займалася рукадзеллем.* Мсцібава Ваўк.; *парайн.* руск. *рукоделие* 'тж'.

РУКАДЗЕ'ЛЬНЫ *прым.* Самаробны. *Посцілка рукадзельная.* Магуны Паст.

РУКА'ТКА *ж.* Тое ж, што і р у к а в а́ т к а 1. *Сена касілі ручнымі косамі, косы прыкрапляліся да дзеравяннай палкі — называлі касьё, а да касья — рукатку, за каторую правай рукой дзержыцца касец.* Альхоўка Навагр.

РУКА'ТЫ *прым.* Умелы. *Мой зяць старацельны чалавек, рукаты.* Саланое Віл.

РУКА'Ў *м.* Тое ж, што і р у к а в о́. *Рукаў парваўся, трэба залатаць.* Рудня Чэрв. *Нада сашыць рукаў.* Рагулішкі Даўг. *Пацуке ад'елі рукаў па катора месца.* Парэчча Гродз. *Сардак без рукавоў.* Васілевічы Гродз. *Рукавы вускія, рукавы простыя.* Лоск Валож.

РУКАЎКО' *н. памянш.* да р у к а́ ў. *Рукаўко трэба ўшыць.* Старыя Трокі Трак.

РУКА'ЎНЫ *прым.* Які мае адносіны да рукава. *Рукаўная палатно, толькі рукаво палучылася.* Кураполле Паст.

РУ'КАЦЬ, РУКЦЬ *ж. бат.* Драсён. *Рукаць — трава такая*

*горкая.* Граўжышкі Ашм. *Рукць — горкая трава.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *rūgtis* 'тж'.

РУКАЯ'ТКА *гл.* РУКАВА'ТКА

РУКО'ЎКА *ж.* Рукавіца. *Рукоўка парвалася, нада зацыравіць.* Мачаск Бярэз.

РУКУВЯ'ТКА *гл.* РУКАВА'ТКА

РУЛІ' толькі *мн. кулін.* 1. Страва, прыгатаваная з накрышанага ў малако ці ваду хлеба. *Рулі робяць так: хлеб бяруць, вады, солі і поснага масла лошку.* Ухвала Круп. *Рулі — гэта салёная вада, і хлеп крышылі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Рулі рабілі з алею, вады і хлеба.* Мачаск Бярэз. *Крышылі хлеб, бралі ваду, цыбулю, падлівалі яшчэ алею — і палучалася яда рулі.* Груздава Паст. *Наясіся гэтых рулей.* Саланое Віл. *Постам рулі робяць.* Рагулішкі Даўг. *Рулі на памінках, на дзяды елі.* Азяраны Раг. ▽ *Рулі хлеба булку здулі.* Глівін Барыс. *Рулі булачку з столу здулі.* Ухвала Круп. *Рулі хлеба булачку здулі і другую пачалі.* Лапічы Асіп. 2. Цвёрдыя кавалачкі бульбы ў кашы. *Плоха стаўклі камы — рулі е.* Азяраны Раг. 3. Бульба, якая празімавала на полі. *Гнілая картошка на полі — рулі.* Беразіно Докш.

РУ'ЛЬБА *ж.* Тоўстая трэска. *Рульбу адбілі ад бярвення.* Гемзы Шальч.; *парайн.* літ. *liùrba* 'тж'.

РУЛЬБАВА'ЦЬ *незак.* Шчапаць, рэзаць на кавалкі. *Дрэва як грубое, нада рульбаваць.* Гемзы Шальч.

РУЛЬБІНА' *ж.* Тое ж, што і р у́ л ь б а. *Рульбіну нада адбіць.* Гемзы Шальч.

РУМ, РОМ *м.* 1. Месца на беразе ракі, адкуль сплаўляюць лес. *З руму бралі лес і атпраўлялі да Пагосту.* Саланое Віл. *Рум — дзе лес ляжыць для сплаву.* Лісна В.-Дзв. *Рум — бераг ракі, адтуль сплаўлялі лес.* Багушэвічы Бярэз. *На рум лес вывозяць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Рум — бераг ракі, дзе вяжуць плыты.* Вецярэвічы Пух. *На рум мы егдзілі лес траляваць на сплаў.* Крэва Смарг. *На ром бабы лес вазілі.* Семежава Кап. 2. Бярвенні, дровы, складзеныя ў штабель. *Рум — як зложана многа дзерава, у лесі ці на станцыі рум бэлек.* Опса Брасл. *Рум — лес, у кучу нацяганы.* Дакудава Лід. *Рум балак высокі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Зложыны цэлы рум баляк.* Кураполле Паст. *Рум — гэта лесасклат, рубілі лес і вазілі к раке.* Лісна В.-Дзв. *Рум — лес каля ракі накладзены.* Валынцы В.-Дзв. *Рум — дзе вяліка куча дзерава зрэзанага.* Ісерна Слуц. *Рум — еслі навозім дзерава, нада скатаць у рум, штоб ляжало па аднаму.* Малахоўцы Бар. *Рум дроў налажылі.* Ёдлавічы Брасл. *Дровы пілуюць і ў рум складаюць.* Рагулішкі Даўг. 3. Вялікая па плошчы прастора. *Рум — мейсца вялікая, ці зал бальшы, ці амшэрына.* Жодзішкі Смарг. 4. Агульная страха жылога будынка і гаспадарчых пабудоў. *Стаіць хата, а ў канцы хаты хлеў; ставілі будынкі пад адзін рум — хлеў, ха-*

*та і стрэхі як бы злучаюцца.* Рыбчына Віл. *Рум — калі будаваліся пад адзін дах.* Мярэцкія Глыб. *Рум — увесь будынак пад адною страхою.* Кіралі Шчуч. *Як доўга пабудова, то кажуць доўгі рум.* Вялікія Баяры Шчуч. *Купіў цэлы рум.* Старыя Смільгіні Воран. *Бальшой рум, калі ўмесця многа будынкаў разам.* Альхоўцы Лях. *Рум — постройка, што под одноею крышою.* Смаляніца Пруж. *Рум — дом, сарай пад адной страхою, гэта цэлы рум хазяйства.* Руднікі Шальч. *Рум будынкаў.* Старыя Трокі Трак. 5. Зруб. *Вырубілі рум, але німа крокваў, ні гатовы.* Гемзы Шальч. *Рум — незакончаны будынак, ён без страхі.* Жылі Іўеў. *Рум — сруб хаты.* Смаляніца Пруж. 6. Прычэп для рассейвання ўгнаенняў. *Рум — прыцэп, у які засыпаюць удабрэнне.* Чуркі Ашм.; *парайн.* польск. *rum* 'свабодная дарога, праход, свабоднае месца'.

РУМАВА'ЦЬ РУМУВА'ЦЬ *незак.* Складаць у штабель. *Нада дровы румаваць.* Ёдлавічы Брасл. *Балкі нада румуваць, а то рассыпана па ўсім лесе.* Ахрэмаўцы Брасл.

РУМА'ДА *гл.* ГРАМАДА'

РУ'МАЧКА *ж. памянш.* да р у́ м к а. *Мне была дайшы румачку сусетка.* Валынцы В.-Дзв.

РУ'МКА *ж.* Чарка. *Румкай вотку п'юць і віно.* Пасіене Лудз.; *парайн.* руск. *рюмка* 'тж'.

РУ'МНО *прысл.* Роўна. *Петя всем детям румно цукеркув дав.* Курашэва Чыж.

РУМНЯ'ЦІ *незак.* Раўняць. *Румняй солому, то снуоп будэ руомны.* Курашэва Чыж.

РУМО'К *м. памянш.* да р у м 2. *Няхай балькі зложыць у румок на бульбі.* Ёдлавічы Брасл.

РУМУВА'ЦЬ *гл.* РУМАВА'ЦЬ

РУМЯ'НА *ж.* Тое ж, што і р а м а́ ш к а 1. *Румяна дзікая.* Рудня Астравітая Чэрв.

РУМЯ'НАК, РУМЯ'НОК *м.* Тое ж, што і р а м а́ ш к а 1. *Румянак польны.* Жылі Іўеў. *Румянак вельмі добра, як жывот хопіць.* Пацаўшчына Дзятл. *У румянку жоўтыя пупшычке, як жалудак не работае, то п'юць, замываюць балячку.* Засецце Дзятл. *Румянкаў шмат на санажаці.* Плябанцы Ашм. *Румянок яблыкамі пахне.* Кузьмічы Люб. *Румянкаў яна насеяўшы.* Малі Астр. *Румянкаў многа.* Дакудава Лід.

РУМЯ'НАЧКА *м. памянш.* да р у м я́ н а к. *Румяначак ад жывата п'юць.* Валеўка Навагр.

РУМЯ'НКА *ж.* Тое ж, што і р а м а́ ш к а 1. *Румянкі ў аптэку прымаюць.* Быстрыца Астр.

РУМЯ'НЫ *прым.* 1. Румяны (пра твар). *Яна румяная баба.* Баброўнікі Гарад. 2. Які мае залаціста-карычневае адценне (пра печаныя вырабы). *Хлеп павінен быць румяны.* Баброўнікі Гарад.

РУ'НА, РУНО' *н.* 1. Колькасць воўны, настрыжанай з ад-

ной авечкі. *Руна воўны можа заважыць кілаграм.* Груздава Паст. *Адно руна с аднаго ягнюка.* Саланое Віл. *Руна воўны са дной авцы.* Рагулішкі Даўг. *Руно воўны с аднае авечкі, малое руно, велька руно.* Альхоўка Навагр. *Руно воўны з авечкі.* Жылі Іўеў. *Як руно харошае, то мо два-тры хунты.* Дзяніскавічы Ганц. *С адной авечкі натта велька руно.* Кіралі Шчуч.; *парайн.* руск. *руно,* польск. *runo* 'тж'. 2. Скрутак воўны. *Дораць маладую, і воўну кладуць руна.* Мярэцкія Глыб.

РУ'НАЦЬ, РУ'НУЦЬ *зак.* Рухнуць. *Рунаў дом наш, стаяў, стаяў і рунаў, разваліўся.* Мсцібава Ваўк. *Тая званіца рунула.* Грыкені Вільн.

РУНЕ'ЦЬ *незак.* Цвісці. *Ліпа рунея.* Пасека Ст.-Дар.

РУ'НІЯ *ж.* Рунь. *Рунія восенню.* Рыбчына Віл. *Вот зруніць жыта, нада пусціць кароў на рунію.* Кураполле Паст.

РУ'НКА *ж. памянш.* да р у́ н а 2. *Рунка — скрутак воўны.* Данілавічы Дзярж. *Воўну ў рунцы скруцяць. Рунка воўны.* Мярэцкія Глыб.

РУ'НКЛІ *мн.* Цукровыя буракі. *Рунклі — буракі белыя для скату.* Старыя Трокі Трак.; *парайн.* літ. *runkliai* 'тж'.

РУНО' *гл.* РУ'НА

РУ'НУЦЬ *гл.* РУ'НАЦЬ

РУНЬ *ж.* Тое ж, што і р у́ н і я. *Рунь такая парасце, як пагода добрая стаіць.* Парэчча Гродз. *Увосінь рунь.* Кемяліш-кі Астр. *Рунь — зялёнае поле, восенню зазеленіт крэпка.* Лука Нараўк. *Добрая рунь у мяне.* Відаўцішкі Вільн.

РУО'К *гл.* РОК

РУ'ПАЦЬ *ж.* Тое ж, што і р а п у́ х а 1. *Рупаць брухатая, каравая, кароў сасёт.* Шкаўна Лудз.; *парайн.* лат. *rupucis* 'тж'.

РУ'ПЕСЦЬ *ж.* Руплівасць. *От меня рупесць бярэ.* Гемзы Шальч., Малькуны Ігн. *Бо то рупесці требо на ўсё.* Баброўнікі Гарад.; *парайн.* літ. *rūpestis* 'тж'.

РУ'ПІ'СЛІВЫ, РУ'ПІСЛЯВЫ, РУПЕ'СЛІВЫ, РУ'ПЯСЛІВЫ *прым.* Руплівы. *Ні натто рупіслівы сын, што ў салдатах, і не піша маццы.* Альхоўка Навагр. *Ру́післіва чалавек, аб усім забоціцца.* Пацаўшчына Дзятл. *Яна старанная такая, рупіслівa.* Баброўнікі Гарад. *Рупіслявы чалавек — заботлівы.* Мсцібава Ваўк. *Рупеслівы чалавек.* Крынкі Крын. *Рупяслівага чалавека рупіць работа.* Каўняны Гродз. *Вот ён рупяслівы — не ўснець.* Гемзы Шальч.

РУ'ПІЦЦА, РУ'ПІЦСА *незак.* 1. Непакоіцца. *Я руплюся, што з ім сталася.* Парэчча Гродз. *Мне рупіцца, не засну, думаю, як ён там адзін.* Кудзялянцы Шальч. *Хай не сядзіць, хай рупіцца, я ж парасятам даваць не буду.* Малі Астр. *Рупіцца аб сям'і, аб маці.* Пацаўшчына Дзятл. *Я руплюся, каб ён не захварэў.* Малькуны Ігн. *Руплівы спаць ня будзя, ён рупіцца.* Быстрыца Астр. *Рупіцца яна, як там дзеці.* Чычалі Швянч. *Руплюся аб усім.* Руднікі Шальч. *Рупіцса пра ўсё.*

Крынкі Крын. 2. *безас.* Хацецца. *Рупілася яму снядання.* Асавец Віл.; *параўн.* літ. *rūpintis, rūpėti* 'тж'.

РУ'ПІЦЬ *безас. незак.* Турбавацъ, хваляваць. *Нічога ня рупіць чалавеку, сядзіць і тчэць.* Малышы Лід. *Як пашыла, стала лёгка на душы, што не рупіць.* Малі Астр. *Яму ўсё рупіць, ён мала спіць.* Кіралі Шчуч. *З малада мне хата рупіць.* Кураполле Паст. *Мне рупіць печ паліць і есці зварыць.* Вялікія Баяры Шчуч. *Мне рупіць карову падаіць.* Мсцібава Ваўк. *Рупіць мне ісці дахаты.* Якубова Рас. *Пака зойдзяш і ні будзя табе рупіць.* Альхоўка Навагр. *Як была адна, то нічога не рупіла.* Лоск Валож. *Не рупіць яму нічога, ён здаровы.* Ахрэмаўцы Брасл. *Мне рупіла, як гэта печ падпаліць.* Старыя Смільгіні Воран. *Як рупя, то ня ўснеш.* Гемзы Шальч. *Ня рупіць дома работа яму.* Рагулішкі Даўг. *Міне рупіць, як Олюсь.* Ёдлавічы Брасл. *Дзеці рупяць.* Магуны Паст.; *параўн.* літ. *rūpėti* 'тж'.

РУПЛІ'ВЫ, РУПЛЫ'ВЫЙ *прым.* Дбайны. *Руплівы, хазяйственны чалавек, ён усё думая, яму ўсё рупіць.* Кіралі Шчуч. *Руплівы чалавек рупіцца зрабіць усё.* Вецярэвічы Пух. *Руплівы спаць ня будзя, ён рупіцца.* Быстрыца Астр. *У руплівага чалавека ўсё ў доме ёсць.* Галубы Маст. *Руплівы чалавек — заботлівы, яму рупіць работа.* Лісна В.-Дзв. *Руплівы чалавек без работы не можа пасядзець.* Гемзы Шальч. *Руплівы чалавек да работы.* Руднікі Шальч. *Руплывый чоловік.* Сіманавічы Драг.; *параўн.* літ. *rūpnùs* 'тж'.

РУ'ПНЫ, РУ'ПНЫЙ *прым.* 1. Тое ж, што і р у п л і в ы. *Рупны чалавек раней устаніць.* Кураполле Паст. *Ён чалавек рупны, а нярупны — гультай.* Ахрэмаўцы Брасл. *Мне рупіць работа, і бацька мой рупны.* Валынцы В.-Дзв. *Ён рупный чалавек, заботлівый.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Такій рупный чалавек.* Рагулішкі Даўг. 2. Ашчадны. *Каб ты быў рупны, даходны, то меў бы сваё, быў бы з грашыма.* Малі Астр.; *параўн.* літ. *rūpnùs* 'тж'.

РУ'ПЧЫК *м. памянш.* да р у б е́ ц 1. *Рупчыкаў многа — карова старая.* Глівін Барыс.

РУ'ПЯСНЫ *прым.* Тое ж, што і р у п л і в ы. *Вот ён рупясны, аб усім рупіцца.* Парэчча Гродз. *Рупясны чалавек — добры хазяін.* Дзяніскавічы Ганц.

РУ'РКА *ж.* Трубка. *Па рурцы вода плыве.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *rurka* 'тж'.

РУ'СІК *м.* Упрыгожанне, аздоба. *Русік — адзелка была ў плацці забраная.* Ухвала Круп.

РУСІ'ЦЬ *незак.* Гаварыць па-руску. *Каця адмалу ў горадзе жывець, русіць.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

РУСПУСКА'ЦЦА *гл.* РАСПУСКА'ЦЦА

РУСУВА'ЦЬ *гл.* РАСАВА'ЦЬ

РУ'СЫ *прым.* Русы. *Дзеўка русого волоса, спраўна.* Валеўка Навагр.

РУСЫ'НАК *гл.* РЫСУ'НАК

РУ'ТА *ж. бат.* Рута. *Рута палявая і гародная.* Быстрыца Астр. *Рута зялёная расла за сеньмі.* Барок Стаўб. *Рута па гародах расцець.* Кураполле Паст. *Рута есць агародная і палявая, рута па картосцы можа расці.* Міратычы Карэл. *Пасадзілі пад акном руту.* Дзераўное Стаўб.

РУХ I *м.* 1. Перамяшчэнне ў прасторы. *Як холадна, нікому руху німа: ні птушкам, ні жывёле.* Мсцібава Ваўк. *Бэз руху не магу жыць.* Гемзы Шальч. 2. Рухавасць. *Чалавек павінен рух які мець.* Малі Астр. *Такой пагодай німа жаднаго руху, адно спаць хочацца.* Мсцібава Ваўк. *Жонка рух маіць, нада абет зрабіць.* Малькуны Ігн. 3. Шум. *Жонка рух чула.* Альхоўка Навагр. *Мне не спіцца, чую какой-та рух.* Ахрэмаўцы Брасл. *Рух такі паднялі, а магла п і змайчаць.* Ёдлавічы Брасл. *Ходзіць баба, руху нарабляіць.* Мярэцкія Глыб. *Я як бы чула нейкі рух, а то ж парабак наш укінуўся ў студню.* Лайпушкі Ігн.; *параўн.* польск. *ruch* 'тж'.

РУХ II *выкл.* у знач. *вык.* Піхнуць нагой. *Ён патходзіць да мяне, а я нагой рух.* Крэва Смарг.

РУХА'ВЫ *прым.* 1. Жвавы. *Дачка такая рухавая.* Ністанішкі Смарг. *Трэбо рухавай быць, а яна сядзіць і сядзіць.* Мсцібава Ваўк. *Яна рухавая такая, спрытная.* Солы Смарг. *Як рухавы чалавек, то ён цякавы да работы.* Баброўнікі Гарад. 2. Рашучы. *Рухавая такая, свайго даб'ецца ні так, так так.* Дакудава Лід.

РУ'ХАНЫ *дзеепрым.* Узараны. ∇ *Ня руханая зямелька дожджыку ня трэбуіць.* Кураполле Паст.

РУ'ХАЦЦА *незак.* 1. Рухацца. *Сядзіця, не рухайцеся.* Крэва Смарг. *Па гадах я яшчэ рухаюся.* Магуны Паст. *Лісу забіў, але яна яшчэ рухалася.* Лайпушкі Ігн. *Рухаецца, як муха па смале.* Старыя Трокі Трак. *Як не рухаесся, то не баліць.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Паўзці. *Рабакі рухаюцца пасля дажджу.* Гемзы Шальч. *Рухаецца нехта за спіной, можа, які жучок.* Стральцы Шальч. 3. Калаціцца. *Так стралялі, што рухалася зямля.* Быстрыца Астр. 4. Хістацца (пра зуб). *Зуп рухаіцца.* Солы Смарг., Магуны Паст. *Зуп рухаецца, як языком калышаш, то ён возьме і вырвецца.* Гемзы Шальч.

РУ'ХАЦЬ I *незак.* 1. Чапаць. *Ня рухай ты яго, не датыкайся!* Ёдлавічы Брасл. *Сабака ня рухаў індыкоў.* Рагулішкі Даўг. *Чакаліха ругалася, каб не рухалі гэту кнігу.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ня рухай калыску!* Старыя Трокі Трак. *Як іх* [дзікоў] *ня рухалі, то і яны ня рухалі.* Магуны Паст. *Вы міне не рухайця.* Рагулішкі Даўг. *Мяшкоў ня рухая мыш.* Руднікі Шальч. 2. Шавяліць. *Скрыдламі чуць рухая.* Солы Смарг. 3. Варочаць (пра сена). *Як сена рухаеш, то яно лепей сохне.*

Ністанішкі Смарг. 4. Разбураць. *Яня, рухаймо печку і зробім новую, ня будзя курэць.* Старыя Смільгіні Воран.

РУ'ХАЦЬ II *незак.* Рохкаць. *Рухаюць парасяты.* Глівін Барыс.

РУХЛІ'ВЫ *прым.* Тое ж, што і р у х á в ы 1. *Гэта чалавек рухлівы, ад яго нічога не ўцячэ.* Кіралі Шчуч.; *парайн.* польск. *ruchliwy* 'тж'.

РУ'ХЛЫ *гл.* РЫ'ХЛЫ

РУ'ХНУЦЦА *зак.* Крануцца з месца. *Рухнуўся з месца воз.* Магуны Паст.

РУ'ХНУЦЬ *зак.* 1. Пабегчы. *Каровы ўсе рухнулі ў патраву.* Гемзы Шальч. 2. Пачаць расці. *Жыта троху рухнула, але марозы не даюць росту.* Ахрэмаўцы Браcл.

РУ'ЦНЯ *ж.* Жменя ільнянога валакна. *Каноплі маленькімі пучкамі вяжуцца, а льён — у руцні.* Мішневічы Шум.

РУ'ЦЬВІНА *ж.* Яма ў балоце. *Руцьвіна на балоце.* Лапічы Асіп.

РУЦЭ'ШКІ *мн.* Невялікія снапы ільну. *Руцэшкі — маленькія снапочкі лёну, уручную іх абівалі.* Мішневічы Шум.

РУЧАВІ'НА *ж.* Невялікі ручай. *Дайшла да адной ручавіны, не прайшла, пашла да другой.* Магуны Паст.

РУЧА'Й I, РУЧЭ'Й *м.* 1. Ручай. *Ручай цячэ праз балота і луг.* Старое Сяло Зэльв. *Ручае — дзе бяжыць вада.* Дзяніскавічы Ганц. *Калючка — рыба такая, яна па ручае.* Быстрыца Астр. *Ручэй ідзёт лесам.* Навасады Вільн. 2. у знач. *прысл. ручаём.* Моцным струменем. *Ручаём пацікла кроў з рукі.* Валынцы В.-Дзв.

РУЧА'Й II м. Адтуліна ў жорнах, куды засыпаюць зерне. *У ручай сыпалі зярно.* Пацаўшчына Дзятл. *У ручай жыта сыплюць і мелюць.* Кіралі Шчуч. *Ручай — гэта дзюра, куды сыпалі жыта.* Старыя Смільгіні Воран. *У жорнах ручай — зерне сыпляць.* Навасёлкі Лід. *Ручай у жарнах.* Дакудава Лід. *Зярно мелюць і сыплюць у ручай.* Галубы Маст. *Ручай у жорнах.* Кудзялянцы Шальч.

РУЧА'ЙКА, РУЧЭ'ЙКА *ж.* 1. Верацяно напрадзенай пражы. *Ручайка — малое верацяно пражы.* Вострава Маст. *А калі напрадуць верацяно — гэта ручайка.* Альхоўка Навагр. *Малое было верацяно, толькі ручайку напрала.* Лоск Валож. *Ручайку напрадзеш, на пачынак уеш.* Навасёлкі Свісл. *Ручайка — адно верацяно.* Збляны Лід. *Напрадзем дзве-тры ручайкі.* Мачаск Бярэз. *Пойна верацяно — ручайка.* Малахоўцы Бар. *Ручайкі клалі ў прамуду, каб схлі.* Дзяніскавічы Ганц. *Як я была прэнтка, то хутка напраду ручайку.* Альхоўцы Лях. *Ручэйка — адно верацяно пражы.* Груздава Паст. 2. Жменя ільну, якая бярэцца за адзін раз для трапання. *Ручайка — жменя, якая бярэцца для трапання.* Рудня Астравітая Чэрв. *Павесьма — шэсць ручэек.* Вязынка Маладз. *Ручэйка — за*

*адзін раз для трапання.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Ручэйка — як у жменю ўзяць.* Рудня Чэрв. *У руках ручэйку дзяржыш, а траплом трэпліш.* Гайна Лаг. *Лён мялі і вязалі па дзесяць жмень, называлі ручэйкай.* Вузла Мядз.

РУЧА'ЙНІК *м.* Пасудзіна ў выглядзе двух гаршкоў, злучаных адной ручкай. *Ручайнік — два гаршчочкі з гліны з ручкай, яны спаяны друг з другам.* Мішневічы Шум.

РУ'ЧАНКА *ж. памянш.* да р у к á. *У ручанцы прынясе кусочак хлеба.* Старыя Трокі Трак.

РУЧА'ЯЧКА *ж. памянш.* да р у ч á й к а 1. *Пачынак большы, а ручаячка маленькая.* Навасёлкі Свісл.

РУ'ЧКА *ж.* 1. *памянш.* да р у к á. *Правую ручку і ножку адняло, не далі і рады.* Кузьмічы Люб. *Вот ручкі ў маёй нявесткі — усё зробіць!* Саланое Віл. 2. Брус у вузгалаўі воза, да якога прымацоўваецца драбіна. *Да ручак прыкрапляюцца драбіны.* Жодзішкі Смарг. *Драбіны дзяржаць ручкі.* Быстрыца Астр. *На ручкі драбіны накладаюцца.* Галубы Маст. *У возі ручке.* Баброўнікі Гарад. *Ручкамі закладаюць драбіны.* Чуркі Ашм. *Ручкі ў падушку удалбывают.* Скрудалена Даўг. *Ручкі ўбіваліся ў падушку.* Пасіене Лудз. *До дробіны ішлі ручкі.* Судэрва Вільн. *Ручкі заганяюцца ў падушкі ў пярэднім крэсле.* Гемзы Шальч. 3. Ручка, дзяржанне. *Ручкі ў сасе, аглобні крапяцца да ручак.* Вузла Мядз. *Ручка ў плузе.* Істра Лудз. *Ручкі доўгіе і поліца ў сосе.* Смаляніца Пруж. *У кошыку паламалася ручка.* Ёдлавічы Брасл. *Ручка ў кошыку, за што дзержыш.* Жодзішкі Смарг. *Сталбункі з ручкай і без ручкі.* Навікі Лудз. *Ручка ў чапялы.* Жодзішкі Смарг. *Качарга на дзіравянай ручкі.* Солы Смарг. 4. Прыстасаванне ў кроснах для падвешвання нітоў. *Нічальніцы вісяць на ручках.* Малышы Лід. *У краснах ёсь ручкі падвешаваць ніты.* Вузла Мядз. *Ручкі ў кроснах, а ў ручцы кацёлачка.* Дзяніскавічы Ганц. *На ручках вісяць нічэльніцы.* Баброўнікі Гарад. 5. Тое ж, што і р у ч á й к а 2. *Адну ручку бяруць ільну і трэплюць.* Навасёлкі Лід. *Ручка лёну, канапель, а па дванаццаць ручак атрэпаных — павесма.* Галубы Маст. *Ручка — дзве жмені трапанага лёну звязвая.* Збляны Лід. *Бяру адну ручку і чашу.* Кіралі Шчуч. *У павясьме дваццаць — сорак ручак.* Вялікія Баяры Шчуч. 6. Ручка (пісьмовая прылада). *Ня можа ручкай пісаць.* Стральцы Шальч. ∇ *Своя ручка не гаручка, рука для сябе не жалеіць ці паесці, ці купіць што.* Вузла Мядз.

РУ'ЧНІК I *м.* Дзіця, якога носяць на руках. *Ён ручнік вялікі, нада лёпікаў даваць, каб атвучыць.* Валынцы В.-Двз.

РУ'ЧНІК II *м.* Збан ці гаршчок з ручкай (вушкам). *Ручнік з ручкай.* Навікі Лудз.

РУЧНІ'К, РУШНІ'К *м.* Ручнік. *Добры ручнік, як таркай выдзірая.* Граўжышкі Ашм. *Ручніком уціраліся.* Жодзішкі

Смарг. *Твар выціралі ручніком.* Солы Смарг. *Ручнікі тоўстыя.* Саланое Віл. *Ручнікі раней былі тканыя, самі іх ткалі.* Груздава Паст. *Ручнікі ткалі тоняінькія.* Дакудава Лід. *Другія пакулы на ручнікі.* Гемзы Шальч. *З канцоў выпляталі рушнікі.* Кухты Віл. *Рушнікі ўсе павышавалі.* Беразіно Докш. *Рушнікі ткалі на дошчачку, ткалі пяцёрны, у пяць нічальніц, васьмёрны.* Малышы Лід. *Рушнікі на абрас.* Старыя Смільгіні Воран.

РУЧНЫ′ *прым.* 1. Рахманы, спакойны. *Ручны коцік, усё каля рук круціцца.* Альхоўка Навагр. 2. Які прыводзіцца ў дзеянне рукамі. *Было ручное матавіла маткі матаць.* Кіралі Шчуч.

РУЧЧАВІ′НА *ж.* Невялікі ручай. Мярэцкія Глыб.

РУЧЧО′ *н.* 1. Тое ж, што і р у ч а́ й І, 1. Дзёрнавічы В.-Дзв. 2. Месца каля ручая. *Руччо — ля ручая, навязаў цялушку ў руччы.* Кураполле Паст. *У руччу нажала ахрап'я.* Валынцы В.-Дзв.

РУЧЫ′ЦЬ *незак. безас.* Весціся, даваць прыплод. *Даўней лажылі на афяру яйкі, масла, каб быдла ручыла. Не ручыць ей куры.* Ёдлавічы Брасл.

РУЧЭ′Й *гл.* РУЧА′Й І

РУЧЭ′ЙКА *гл.* РУЧА′ЙКА

РУ′ШАНЬЯ, РУ′ШЭННЯ *н.* Пачатак трэцяй фазы Месяца. *Поўны месяц, а сягоне вырушыць, пасля рушанья сходнія дні.* Дзяніскавічы Ганц. *Рушэння — гэта збытак Месяца.* Рудня Астравітая Чэрв.

РУ′ШАЦЦА І *незак.* 1. Рухацца, ісці. *А як стаў рушацца фронт, народнікі з'явіліся, такія банды.* Дзёрнавічы В.-Дзв. 2. Кішэць. *Рушацца чарвякі ў грыбах.* Бакшты Іўеў. *Гніжаць рабакі, рушацца.* Кудзялянцы Шальч.

РУ′ШАЦЦА ІІ *незак. астр.* Памяншацца ў аб'ёме, убываць (пра трэцюю фазу Месяца). *Рушаецца с поўната, на сход будзя ісці.* Азяраны Раг.

РУ′ШЫЦЦА *незак.* 1. Павольна ісці. *Вол памаленьку рушыцца.* Швэды Вільн. 2. Шавяліцца. *У каня вушы рушацца.* Дакудава Лід. 3. Рухацца. *Як крот рыя, то рушыцца зямля.* Кудзялянцы Шальч.

РУ′ШЫЦЬ І *незак.* і *зак.* 1. Чапаць. *Не руш мяне!* Гальшаны Ашм., Петкуны Брасл. *Не трэба рушыць, што ляжыць.* Кудзялянцы Шальч. *Ня руш яго!* Солы Смарг. *Таго не руш лепш, а то хужэй будзя.* Галубы Маст. *Не руш, гэта мне назначэная.* Ахрэмаўцы Брасл. *Кот ляжыць і гэтага ката ня рушыць.* Паляцкішкі Воран. *Не рушыла я, бог, не рушыла.* Старыя Смільгіні Воран. *Карэнняў не рушылі.* Беняконі Воран. ∇ *Ні руш нічога і ні бойся нікога.* Солы Смарг. *Рушыла п цябе!* Саланое Віл. 2. Шавяліць (губамі). *Гавора, а вродзя і не руша губамі.* Крэва Смарг. 3. *безас.* Цягнуць. *Мяне і не*

*рушыла да Мэлі.* Малі Астр. 4. Зрабіцца цяжкапраходнай ад раставання снегу (пра дарогу). *Рушыла ўжэ дарога.* Солы Смарг.

РУ'ШЫЦЬ II *зак.* і *незак.* Тое ж, што і р у́ ш а ц ц а II. *С поўня Месяц рушыць, начынае адбываць.* Малахоўцы Бар. *Рушыць Месяц ужо.* Семежава Кап. *Ужэ стало рушыць с поўна.* Кузьмічы Люб. *У тую нядзелю рушыла.* Вецярэвічы Пух. *Шчытай, што ўжо рушыла, можа дож пайці.* Азяраны Раг. ∇ *Як рушыць, дык і пацярушыць.* Азяраны Раг.

РУ'ШЭННЯ *гл.* РУ'ШАНЬЯ

РУЯ' *ж.* 1. Тое ж, што і р у і́ н а. *Руя бяжыць, ваўкоў, ваўке руюцца.* Парэчча Гродз. *Воўча руя, ваўкі руюць.* Кузьмічы Люб. *Стада ваўкоў — гэта воўча руя.* Пасека Ст.-Дар. *Руя ваўкоў перад грамніцамі.* Мсцібава Ваўк. *Цэлая руя ваўкоў перат калядамі, як зачнуць вуяць, аш страшна.* Малькуны Ігн.; *парайн.* польск. *ruja* 'цечка'. 2. у знач. *прысл. руёю.* Зграяй. *Ваўке цалаю руёю ходзяць у пілілаўку.* Вялікія Баяры Шчуч.

РЫ'БА *ж. заал.* Рыба. *Ён добры рыбаловец, рыбу добра ловіць.* Старое Сяло Зэльв. *Рыбы было многа раней.* Ахрэмаўцы Брасл. *Рыбу лапаюць.* Парэчча Гродз. ∇ *Які з цябе чалавек — ні рыба ні мяса.* *Прылабуніўся да яе, хоча дзве рыбы за хвост улавіць.* Малі Астр.

РЫБА'К I *м.* Рыбалоў. *Не ўдалося нашаму рыбаку сёння на рыбу, нішмат налапаў.* Гемзы Шальч. *Рыбаке ставілі венцярэ.* Вецярэвічы Пух.

РЫБА'К II *м.* Тое ж, што і р а б а́ к I, 1. *Ляшчы бяруцца добра на рыбакоў чырвоных.* Быстрыца Астр.

РЫБАЛО'ВЕЦ *м.* Тое ж, што і р ы б а́ к I. Старое Сяло Зэльв. *Ён рыбаловец добры.* Номікі Бабіц.

РЫ'БІНА *ж.* Рыбіна. *Рыбіну злавіў бальшую.* Опса Брасл. ∇ *Біцца як рыбіна аб лёд* — гараваць, жыць у бядзе. *Іна б'ецца як рыбіна аб лёд.* Чапаеўскі В.-Дзв.

РЫ'БІНЫ *прым.* Рыбны. *Рыбіныя катлеты.* Гемзы Шальч. *Рыбіны расол елі з бульбай.* Ёдлавічы Брасл.

РЫБІ'ТВА *ж. заал.* Чайка. *У нас рыбітвай завуць, а дзе — чайкай.* Ахрэмаўцы Брасл.; *парайн.* польск. *rybitwa* 'тж'.

РЫ'БНЫ *прым.* Тое ж, што і р ы́ б і н ы. *Рыбную поліўку варылі.* Рагулішкі Даўг.

РЫБЯ'ТЫ *гл.* РАБЯ'ТЫ

РЫГАВА'ННЯ, РЭГАВА'ННЕ *н. крав.* Матэрыял, якім пакрываецца вата пры пашыве ватняга адзення. *Рыгавання трэба даць, старызны, каб вату наверх не выцягвала.* Жылі Іўеў. *Рыгавання пад вату кладуць.* Лоск Валож. *Рэгаванне даюць, як шыюць з марлі коўдру.* Гемзы Шальч.

РЫГА'ЦЬ, РЫГА'ЦІ *незак.* Ванітаваць. *Яны тут пілі і рыгалі.* Малі Астр. *Напіўся і рыгая пад хатай.* Рудня Астра-

вітая Чэрв. *Як паеў смаршкоў, то рыгаць верне.* Кіралі Шчуч. *Наеўся дзікіх вішань і рыгаяш.* Гемзы Шальч. *Пачала рыгаці, ужо хвора была.* Парэчча Гродз.

РЫ'ГІ толькі *мн.* Ваніты. *Ён рыгамі задушыўся, манарка была ўся ў рыгах.* Кіралі Шчуч.

РЫГО'ЎКА *ж.* Тое ж, што і рыгава́нн я. *Рыгоўку кладуць пад вату, марлю.* Лоск Валож. *Рыгоўка машынкай перашывалася.* Завельцы Астр.

РЫ'ДЗЕЛЬ, РЫ'ДЗІЛЬ, РЫ'ДЗЯЛЬ *м.* 1. Драўляная лапата, акантаваная металам. *Рыдзель — то лапата, абітая жалезам.* Масілавічы Сл. *Рыдлёўка, а па-стараму рыдзель.* Рыбчына Віл. *Рыдзель падай мне!* Мішневічы Шум. *Рыдзіль быў дзеравяны, можа, у каго і цяпер валяецца.* Ахрэмаўцы Брасл. *Рыдзяль на дровах у сараі ляжыць.* Беразіно Докш. 2. *перан.* Хто здаровы, крэпкі. *Крэпкі такі чалавек — рыдзіль.* Саланое Віл. ▽ *Ён цяпер стаў здаровы, як рыдзіль, а то худы, як корч, не еў нічога.* Ахрэмаўцы Брасл.

РЫДЛЁВАЧКА *ж. памянш.* да рыдлёўка. *У нас добра рыдлёвачка.* Міратычы Карэл.

РЫДЛЁЎКА, РЫДЛЯ'ЎКА, РЫЛЛЁЎКА *ж.* Лапата. *Рыдлёўка жалезная.* Жодзішкі Смарг. *Рыдлёўкай капаем зямлю.* Дакудава Лід. *Гарот капаюць рыдлёўкамі.* Вострава Маст. *Вазьмі рыдлёўку, накапай бульбы!* Ліпнікі Вільн. *Рыдлёўкай зямлю капают.* Лука Нараўк. *Лапата, ці рыдляўка,— адно і тое.* Вялікія Баяры Шчуч. *Рыдляўкай капаюць зямлю.* Пацаўшчына Дзятл. *Гарот капаюць рыдляўкай.* Кіралі Шчуч. *Рыллёўкай выскрабла хату.* Рудня Астравітая Чэрв.

РЫДЛЁЎНІК *м.* Дзяржанне ў лапаце. *Нада зрабіць рыдлёўнік.* Кураполле Паст.

РЫДЛЯВА'ЦЬ *незак.* Счышчаць бруд з паверхні чаго-н. *Рыдляваць грась у сенях.* Мярэцкія Глыб.

РЫЖКІ' *гл.* РЫ'ЖЫК

РЫЖО'ВІНА *ж.* Праслойка мяса ў сале. *Сала з рыжовінай смашна.* Пасека Ст.-Дар.

РЫЖО'К *гл.* РЫ'ЖЫК

РЫЖО'ТА *м.* і *ж. экспр.* Хто рыжы, рыжавалосы. *Чом вуон з такой рыжотой ожэнівсе?* Курашэва Чыж.

РЫЖУ'ХА *ж. бат.* Рыжак. *На лузе рыжуху выкосів.* Курашэва Чыж.

РЫ'ЖЫ *прым.* 1. Чырвона-жоўты (пра колер). *Рыжы чалавек урэдны.* Старыя Смільгіні Воран. *Наша карова рыжая.* Асавец Віл. *У рыжых кароў добрая малако.* Кудзялянцы Шальч. *Рыжая карова.* Быстрыца Астр. ▽ *Рыжы, як ліс.* Навасёлкі Свісл. 2. Руды. *Але ш балота заржавела, аш рыжа, дзе-нібудзь лужок зробіцца рыжым.* Кіралі Шчуч. 3. З праслойкамі мяса (пра сала). *Як кабан не сальны, то рыжаё мя-*

*са.* Пасека Ст.-Дар. *Рыжае мяса — худое мяса.* Рудня Астравітая Чэрв.

РЫ'ЖЫК, РЫЖО'К *м.,* РЫЖКІ', РЫШКІ', РЫШКЕ', РЫ'ЖЫКІ *мн. бат.* Рыжык. *Рыжык чырвоніньkі, смела бярыця.* Асавец Віл. *Рыжок — крэпянькій грыб.* Рудня Астравітая Чэрв. *Рыжкі ўсмажыла са смятанай.* Лука Нараўк. *Рышкі — добрыя грыбы.* Дзяніскавічы Ганц. *Рышке там растуць, ды і тыя чарвівыя.* Вецярэвічы Пух. *Рыжыкі — смашныя грыбэ.* Кіралі Шчуч. *Рыжыкі ўкусныя варэны.* Ахрэмаўцы Брасл. *Мала саўсем рыжыкаў.* Вялікі Лес Круп. *Рыжыкі — такія грыбы.* Галоўні Воран., Чычалі Швянч. *Як рыжыкі пераломіш, то яны рыжанькія.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Рыжыкі сабіраем.* Рагулішкі Даўг. *Рыжыкі добра саліць.* Лайпушкі Ігн.

РЫЖЫ'ШЧО *н.* Іржышча. *Рыжышчо аўсяно, ячменно.* Міратычы Карэл.

РЫЗА'К *м.* Адзін з нажоў сячкарні. *Купів нового рызака.* Курашэва Чыж.

РЫЗЕ'ЎКА, РЫЗЗЕ'ЎКА, РЫЗО'ЎКА *ж.* Посцілка, вытканая з рыззя. *Рызёўкі ткалі, трапкамі патыкалі.* Саланое Віл. *Рыззёўкай калісьці накрываліся.* Беразіно Докш. *З рызовак шылі коўдры, накрываліся імі.* Рыбчына Віл.

РЫЗЗЁ *зб. н.* Старое, падранае адзенне. *Рыззё збірая анучнік.* Рудня Астравітая Чэрв. *Назбірала рыззя.* Пасека Ст.-Дар. *Рыззё бярэць рызнік.* Магуны Паст. *Рызавікі ткалі з рыззя, рыззём патыкалі.* Вузла Мядз. *Начапала на сябе рыззя.* Мішневічы Шум. *Рыззя назбіраў.* Мярэцкія Глыб.

РЫЗЗЯВІ'К *м.* Тое ж, што і р ы з ё ў к а. *Рыззявікі ткалі з рыззя.* Мярэцкія Глыб.

РЫЗМА'Н *м.* 1. Ласкут. *Бывае, якога рызмана адарве, зробіць панчохі падвязваць.* Гемзы Шальч. 2. Тое ж, што і р ы з ё ў к а. *Рызманы ткалі з трапак.* Старыя Смільгіні Воран.

РЫ'ЗНІК *м.* Анучнік. *Рыззё бярэць рызнік.* Магуны Паст. *Рызнік іголку, кубачак, кусочак мыдла дась.* Канюкай Вільн. *Цяпер дык добрае адзенне могуць рызніку аддаць, а даўней адзін раз спраўляў бацька пальто, нада было яго берагчы.* Вузла Мядз. *Рызніка чакалі, яму скідалі рыззя, лахманы.* Ракаўскія Швянч. *Пэрэд войной пара рызнікуов в Нарві було.* Курашэва Чыж.

РЫЗНЯКЕ' *мн.* Адзенне. *Рызняке папрадала, іх было многа.* Вецярэвічы Пух.

РЫЗО'ЎКА *гл.* РЫЗЕЎКА

РЫ'ЗЫ *мн.* Тое ж, што і р ы з з ё. *Рызы збірая, за рызы муку дадуць.* Жодзішкі Смарг. *Шматы, рызы цыган збіраў.* Грыкені Вільн. *З рызаў дыван ткаўся.* Ністанішкі Смарг. *У рызах ходзіць.* Шумск Вільн. ◇ *Парваць на рызы (у ры-*

*зы)* — парваць на кавалкі. *Парвала ўсё на рызы.* Солы Смарг. *Парваў сабака штаны ў рызы.* Ёдлавічы Брасл.

РЫ'ЗЫКА *ж.* 1. Рызыка. *Во што робіць рызыка — прасек дзірку.* Вецярэвічы Пух. 2. Небяспека. *Рызыку патстроіў чалавеку.* Альхоўцы Лях.; *парайн.* польск. *ryzyko* 'тж'.

РЫЗЫКАВА'ЦЦА *незак. перан.* Фанабэрыцца. *Яна ідзе і рызыкуецца, круціць задам.* Вецярэвічы Пух.

РЫЗЫКАВА'ЦЬ *незак.* Адважвацца на што-н. *Багаты рызыкуя, бо ў яго хватая, ён мае ўсё, бедны не рызыкуе, бо не мае за што рызыкаваць.* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *ryzykować* 'тж'.

РЫЗЫКО'ЎНА *прысл.* Смела, нахабна. *Ён з ей вадзіўся, яна рызыкоўна вядзе сябе.* Малі Астр.

РЫЗЯ'ТНІЦА *ж.* Тое ж, што і р ы з ё ў к а. *Накраваліся рызятніцай і спалі на рызятніцы.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

РЫ'ЙКА *ж.* 1. Лыч. *Рыйкаю рыя зямлю.* Вялікія Баяры Шчуч. 2. Верхняя або ніжняя частка лыча. *Дзве рыйке ў свіне, верхня і сподня рыйка.* Кіралі Шчуч.; *парайн.* польск. *ryj* 'лыч', *ryjek* 'лычык, хабаток'.

РЫК I *гл.* РОК I

РЫК II *м.* Тоўсты брус. *Рык — брус таўшчынёй дваццаць сем цаляў.* Мсцібава Ваўк.

РЫКА'ЦЬ, РЫКА'ТЫ *незак.* Рыкаць, раўці. *Каровы рыкаюць.* Кіралі Шчуч., Саланое Віл. *Нешта нашы каровы пачалі рыкаць.* Беразіно Докш. *Каровы равуць і рыкаюць.* Дакудава Лід., Быстрыца Астр. *Корова рыкае.* Горск Бяроз. *Як пападзе карова з адной банды ў другую, то дужа рыкае.* Валеўка Навагр. *Карова рыкае.* Сакаляны Сакол., Воўкуш Ліпск.

РЫ'ЛА *н.* 1. Лыч. *Рылам свінні капаюць зямлю.* Пасіене Лудз. 2. *перан.* Твар чалавека. *По рылу ёму плясь!* Азарычы Пін. 3. Пашча ў рыбы. *Рыла ў шчупака, рыла, як шуфля.* Малькуны Ігн. 4. Вузкі ўваход у рыбалоўную снасць. *У нерасце шэсць прутоў, а пасярэдзіне рыла, рыба пападзе ў рыла, а назад не выйдзе.* Вецярэвічы Пух. ◇ *Глядзець у рыла* — пачаць часта выпіваць. *Стаў глядзець у рыла — пачаў піць гарэлку.* Ухвала Круп.

РЫЛЛЕЎКА *гл.* РЫДЛЕЎКА

РЫ'ЛЬЦА *н. памянш.* да р ы л а 4. *Каропкі плялі круглыя і рыльца круглае, туда лазілі ўюны.* Кузьмічы Люб.

РЫ'МАР *м.* Майстар, які вырабляе вупраж. *Рымар шыў упраж.* Мсцібава Ваўк. *Рымар шые для коней упраж.* Жылі Іўеў. *Рымар хамуты шыў.* Солы Смарг. *Рымар скуры выробляў.* Дакудава Лід.; *парайн.* польск. *rymarz* 'тж'.

РЫ'МЗАЦЬ, РЭ'МЗАЦЬ *незак. экспр.* Плакаць. *Яна рымзая і рымзая, на слёзы лёхкая.* Вецярэвічы Пух. *Бабо, чого ты рэмжаш?* Хатынічы Ганц.

РЫМО'НАК гл. РАМО'НАК

РЫ'НА ж. 1. Вадасцёкавая канава. *Выкапана рына, паў сцяну сцякае с хлява жыжа.* Кіралі Шчуч. *У бойні рыны пароблены кроў спускаць.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Вадасцёкавая труба. *Вада па рыне ляціць у адно мейсца.* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *rynna* 'тж'<ням. *Rinne* 'жолаб'.

РЫ'НАК I м. Базар. *У Ашмяне многа было свіней, кароў на рынку.* Малі Астр.; *парайн.* польск. *rynek* 'тж'.

РЫ'НАК II м. Сярэдняя свабодная частка пакоя. *Рынак троху памыю, а пад кравацямі ня буду.* Семежава Кап.

РЫ'НАЦЦА гл. РЫ'НУЦЦА

РЫ'НДА ж. *абразл.* Хто неахайны. ∇*Пашла, як рында.* Лісна В.-Дзв.; *парайн.* літ. *rindà* 'непаваротлівы чалавек', ням. *Rind* 'бык, вол'.

РЫНДО'СЯ ж. Тое ж, што і р ы́ н д а. *Рындося ходзіць непрычэсаная, неакуратная, гразная такая.* Рагулішкі Даўг.

РЫ'НКА ж. 1. Скаварада на ножках з доўгай ручкай. *Рынка — скаваротка на трох ножках, глыбакаватая і з ручкай.* Мсцібава Ваўк. *Стаўлялі на жар рынку і смажылі сало.* Бабро́унікі Гарад. 2. Драўляная міска. *Рынка — міска дзеравяная, так казалі даўней.* Азяраны Раг.; *парайн.* польск. *rynka* 'тыгель'.

РЫ'НУЦЦА, РЫ'НАЦЦА *зак. экспр.* Легчы ў ложак адпачыць пасля цяжкай работы. *Рынулася, нямножка паляжала.* Рыбчына Віл. *Рыналася і ляжала.* Кураполле Паст.

РЫПЕ'ЦЬ *незак.* Скрыпець. *Дзверы рыпяць.* Номікі Бабіц.

РЫ'ПНУЦЬ *зак.* Скрыпнуць. *Дзверы рыпнулі.* Курашэва Чыж.

РЫПУ'ГА гл. РАПУ'ХА

РЫСАВА'ЛЬНІКІ гл. РАСАВА'ЛЬНІКІ

РЫСАВА'ЦЬ гл. РАСАВА'ЦЬ

РЫСО'К м. Тое ж, што і р у б е́ ц 1. *На рагах рыске, што год — то рысок.* Пацаўшчына Дзятл.; *парайн.* польск. *rys* 'лінія', *rysa* 'драпіна, расколіна, трэшчына'.

РЫСО'РЫ, РЭЙСО'РЫ *мн.* Рысоры. *Лінейка — лёхкая павозка, зыбаецца на рысорах.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Брычка была на рэйсорах.* Кіралі Шчуч.

РЫСУ'НАК, РУСЫ'НАК м. Малюнак. *Рысункі такія бальшыя на плацці.* Опса Брасл. *Кніжка з русынкамі.* Вялікія Аўцюкі Калінк.

РЫ'СЫ *мн.* Насечка на чым-н. *Нарэжа рысаў на лапатачцы, жвірам замажа — і мянтошка.* Івашкаўцы Смарг.; *парайн.* польск. *rysa* 'расколіна, трэшчына'.

РЫ'СЬКІ *мн.* Ніткі, якія вісяць унізе падола старога адзення. *Пачане рубец гэты драцца, а патом і рыські вісяць.* Азяраны Раг.

РЫТАВІ'НА ж. Калдобіна. *Дарога пойдзіць у лес, разбі-*

*тая калясьмі, то не ўець у рытавіну!* Кураполле Паст.

РЫТА'ЎЯ *зб. н.* Калдобіны. *Лідакі пазамірзаюць на рытаўях, глядзі, каб каня не раздзерці.* Кураполле Паст.

РЫТО'Н *м. устар.* Ратонда. *Шылі рытоны ў зборку.* Старыя Смільгіні Воран.

РЫТО'НДА *ж.* Тое ж, што і р ы т о́ н. *Рытонда—як рукавы ґуфраваныя і манкеты. Рытонды да калена.* Старыя Трокі Трак. *Рытонды доўгія.* Лайпушкі Ігн.

РЫ'ХЛЫ, РУ'ХЛЫ *прым.* Рассыпісты. *Снег быў рыхлы. чуць прышлі.* Ёдлавічы Брасл. *Пахатная зямля рухлая.* Рыбчына Віл.

РЫХТ *прысл.* Тое ж, што і р ы́ х т ы к. *Бацькава дзіцятка рыхт бацька.* Кураполле Паст.

РЫХТАВА'ЦЦА *незак.* 1. Рыхтавацца. *Трэба к вяселю рыхтавацца.* Саланое Віл. *Іван до вэселя рыхтуецца.* Курашэва Чыж. 2. Збірацца. *Рыхтуецца яшчэ палучыць машыну.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

РЫ'ХТЫ *прым.* Такі ж, падобны. *Сын рыхты, як бацько.* Альхоўцы Лях.

РЫ'ХТЫК, РЫ'ХТІК, РЫ'ХЦІК *прысл.* Якраз, дакладна. *Рыхтык прыпушчана бервяно.* Гемзы Шальч. *Мякенька палатно з сваей работы, рыхтык куплена.* Баброўнікі Гарад. *Сын рыхтік до батька подобны.* Курашэва Чыж. *Тры сыны рыхцік, як бацька.* Быстрыца Астр.; *параўн. ням. richtig* 'тж'.

РЫ'ХЧЫЦЦА, РЫ'ШЧЫЦЦА *незак.* Знаходзіцца ў стане цечкі. *Ваўчыца рыхчыцца.* Рудня Астравітая Чэрв. *Сучка з сабакам рышчыцца.* Рыбчына Віл.

РЫ'ЦЦА *незак.* Рыць (пра жывёлін). *Свінні ў нас рыюцца, парылі ўвесь агарот.* Ёдлавічы Брасл. *Не рыецца крот, дзе канопля расце.* Валеўка Навагр.

РЫЦЫ'НА *ж. мед.* Алей з насення клешчавіны. *Я рыцыну цэлы месяц піла.* Гемзы Шальч. ∇ *А грып пэнк—і пацёк, як рыцына якая.* Старыя Трокі Трак.; *параўн.* польск. *rycyna* 'тж'.

РЫЦЬ *незак.* 1. Рыць (рылам). *Крот рое зямлю.* Вулька Гродз. *Свіня зямлю рыяць.* Магуны Паст., Дакудава Лід. *У лыч трэба дрот усадзіць, ня будзя рыць зямлю.* Кемялішкі Астр. *Крот рыець зямлю.* Груздава Паст., Грыкені Вільн. 2. Падмываць (бераг). *Рыя Неман берах.* Дакудава Лід. ◇ *Рыць пад чалавека* — прыдзірацца да каго-н. *Урэдны чалавек натта, рые пад чалавека.* Кемялішкі Астр.

РЫЧА'Г *м.* Рычаг. *Была такая вінда, а ў ёй два рычага.* Валеўка Навагр.

РЫЧА'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і р ы к а́ ц ь. *Рычат каровы.* Лука Нараўк.; *параўн.* руск. *рычать* 'тж'.

РЫШ *м.* Рыс. *Рыш гатуем, а я дык не люблю гэтага*

*рышу, мне лепей бульбіну з'есці.* Новікі Гродз.; *парайн.* польск. *ryż* 'тж'.

РЫШКЕ', РЫШКІ' *гл.* РЫ'ЖЫК

РЫШТ *м.* Тое ж, што і р ы́ н а 1. *Рышт пракапваюць проці баразны чераз прыровак для спускання вады с пахаты.* Курaполле Паст.

РЫШТАВА'ННЕ, РЫШТАВА'НЕ *н.* Рыштаванне. *У развітушцы знізу і зверху рыштаванні.* Дакудава Лід. *Рыштаванне зрабіў.* Збляны Лід. *У рыштавання зверху жалезныя рэйкі.* Магуны Паст.; *парайн.* польск. *rysztowanie* 'тж'.

РЫШТО'К *м.* 1. Тое ж, што і р ы́ н а 1. *Зрабі рышток спускаць ваду!* Крэва Смарг. *Пракапай рышток, няхай збяжыць вада!* Кіралі Шчуч. *Нада пракапаць рышток.* Гемзы Шальч. 2. Паток. *Такі дошч паліў, што рыштокі пацяклі.* Чычалі Швянч. 3. Затока. *Келбукі — сама грубкая рыба, па маленькіх рыштоках водзіцца.* Старыя Трокі Трак. 4. Сцежка. *Рышток абычна ля плота.* Дакудава Лід. 5. Паз (у столі). *Рыштокі пад бэлькамі на сталяванні.* Руднікі Шальч. 6. у знач. *прысл.* (*рыштко́м, рышто́кам, рыштако́м, рышто́камі.* Цурком. *Рыштком вада пашла ў канаву.* Гемзы Шальч. *Рыштокам пацёк кроў.* Старыя Смільгіні Воран. *Цячэ рыштаком крынічная вада.* Стральцы Шальч. *Вада ідзе рыштокамі.* Старыя Трокі Трак. *Кроў рыштокамі лілася.* Масілавічы Сл.; *парайн.* польск. *rynsztor* (<*Rynsztok*<ням. *Rinnstock*) 'вадасцёкавая канава' (СВ, V, 795, 797).

РЫШТО'КА *ж.* Тое ж, што і р ы ш т о́ к 3. *Уваліўся ў рыштоку, вымазаўся ў грась.* Рудня Астравітая Чэрв.

РЫ'ШЧЫЦЦА *гл.* РЫ'ХЧЫЦЦА

РЭ'БРЫ *гл.* РАБРО'

РЭВІДАВА'ЦЬ *незак. мед.* Анатаміраваць. *Доктар, каторы рэвідаваў, казаў, што ў жалутку воткі не было.* Крэва Смарг.; *парайн.* польск. *rewidować* 'аглядаць, абшукваць, рабіць праўку, папраўляць'.

РЭГАВА'ННЕ *гл.* РЫГАВА'ННЯ

РЭГА'ЛЫ *мн.* Калёсы для перавозкі снапоў і сена. *Былі шырокія драбіны і высокія, з дышлям, сена, салому, снапы на іх вазілі, зваліся яны рэгалы.* Урбаны Брасл.; *парайн.* польск. *regał* 'стэлаж'.

РЭГЕ'НТ *м.* Рэнтген. *Мяне паслалі на рэгент.* Саланое Віл.

РЭГЕРО'Й *м.* Руберойд. *Рэгероем пакрыў крышу.* Галубы Маст.

РЭ'ДАЛЬ *м.* Тое ж, што і р э ґ а́ л ы. *Ужо на нашай памяці на рэдалі вазілі сена, вазы панакладвалі вялікія.* Казлы Міёр. *На рэдалі сена вазілі, дровы — на дронґах.* Ахрэмаўцы Брасл.; *парайн.* літ. *rẽdele*, ням. *Reddel* 'тж'.

РЭ'ДЗҐІНІ *гл.* РЭ'ЗҐІНЫ

РЭДЗО′ВЫ *прым.* Ржаны. *Чорны хлеб называлі рэдзовы.* Солы Смарг.

РЭДЗЬ, РЭЦЬ *ж. рыб.* Рыбалоўная сетка з рэдкага палатна. *У трыгубіцы з бакоў сетка была, рэдзь такая.* Чуркі Ашм. *Рэдзь на каблук нацягваецца.* Беразіно Докш. *Рэць — такая сетка, рэткія вочкі ў ей.* Руднікі Шальч.

РЭ′ДЗЬКА, РЭ′ЦЬКА *ж. бат.* Рэдзька. *Горкая рэдзька, а я люблю есці яе.* Стральцы Шальч. ∇*Горка рэцька, а ядуць, дрэнна замужам, а ідуць.* Малі Астр.

РЭ′ДЗЯНЬКІ *прым.* 1. Тое ж, што і р э д к і 1. *Жур рэдзянькі, кісель густы.* Гальшаны Ашм. 2. Тое ж, што і р э д к і 3. *Радабоззя на воркі ткуць рэдзянькая.* Солы Смарг.

РЭ′ДКАСЦЬ *ж.* у знач. *прысл.* Зрэдку. *Хаджу ў рэдкасці да яе, адна, як колік, жыве.* Рудня Астравітая Чэрв.

РЭ′ДКІ *прым.* 1. Негусты. *Мне рэдкую кашу на талерку шлоп!* Збляны Лід. *Рэдка часць супа.* Дакудава Лід. *Глытаць магу толькі рэдкае, не магу ківаць галавой.* Пацаўшчына Дзятл. 2. Звараны ўсмятку. *Не люблю рэдкага яйка.* Малі Астр. 3. *ткац.* Рэдкі (пра палатно). *Рэдкае палатно.* Кіралі Шчуч., Мярэцкія Глыб. 4. Няшчыльны. *Рэдкі дзеравяны грэбень.* Гальшаны Ашм.

РЭ′ЕЧКА, РЕ′ЕЧКА *ж. памянш.* Лёстка ў возе. *Рэечка ў драбіне, адна тоўстая, астальныя тонкія.* Дэмене Даўг. *Реечкі вставляюцца в гряткі.* Скрудалена Даўг.

РЭ′ЗАНКА *ж.* Бульба, разрэзаная папалам. *Рэзанкі трэба наварыць, а то варым з лупінамі.* Галубы Маст.

РЭ′ЗАС *м.* Загон. *Рэзас — валока зямлі.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* літ. *rėžis* ’тж’.

РЭ′ЗАЦЦА *незак.* 1. Нападаць. *Лётачкі небальшыя, а восы лезуць да гэтых пчол, рэжуцца.* Быстрыца Астр. *Дзікі-секачы пачалі рэзацца.* Малі Астр. 2. Сварыцца. *Усё жыццё рэзалася з ім.* Саланое Віл.

РЭ′ЗАЦЬ, РЭ′ЗАЦІ *незак.* 1. Пілаваць. *Мы хадзілі дровы рэзаць.* Валынцы В.-Дзв. *Трэ дровы рэзаць.* Дзяніскавічы Ганц. *С кім ён будзіць рэзаць дровы?* Лоск Валож. *Пашлі дровы рэзаць.* Малахоўцы Бар. *Рэжым дровы пілой. Браўно рэжам на доскі.* Збляны Лід. 2. Рэзаць. *Рэш хлеб на вячэру!* Валынцы В.-Дзв. *Качалі, рэзалі цесто, як пяклі галушачкі.* Васілевічы Гродз. *На дэнцы рэжуць усё.* Солы Смарг. *Мёд нажамі рэжыць.* Саланое Віл. *Лядом сечку рэзалі.* Смаляніца Пруж. *На сячкарні рэжам сечку карове.* Малышы Лід. 3. Жаць. *Яна рэзаць траву пашла.* Ахрэмаўцы Брасл. *Разам з тымі жанкамі рэзалі жыто.* Валеўка Навагр. 4. Дзяліць. *Рэзалі сенакос, дзялілі.* Масілавічы Сл. 5. Забіваць. *Разнік рэзаў скот.* Валынцы В.-Дзв. *Трэба рэзаць свайго паршука.* Збляны Лід. *Рэжма курыцу!* Паляцкішкі Воран. 6. *безас.* Адчуваць вострую боль. *Нешта ў воку рэжа.* Вялікія Баяры

Шчуч. 7. *экспр.* Ісці напрасткі. *Рэш напрамік!* Гальшаны Ашм.

РЭ'ЗГІНЫ, РЭ'ЗЬГІНЫ, РЭ'ЗГІНІ, РЭ'ЗЬГІНІ, РЭ'ДЗГІНІ, РАЗГІ'НЫ толькі *мн.* 1. Рэзгіны. *Рэзґіны — два каблуке з арэшыны і вяроўка пераплетуе, як сетка рэдкая.* Валеўка Навагр. *Рэзґіны рабілі самі, такія душкі сагнёныя і закрэпана шнурамі.* Саланое Віл. *Рэзґіны з вяровак рабілі.* Дзяніскавічы Ганц. *Рэзґіні былі плеценыя.* Малі Астр. *Рэзьґінамі носяць сена.* Жодзішкі Смарг. *Рэзьґіны былі для сена.* Вецярэвічы Пух. *Пат хлевам у нас вісяць рэзьґіны.* Слабада Смал. *Рэзьґінамі трасянку насілі каровам.* Івашкаўцы Смарг. *Рэзьґіны і мы мелі, з лукоў зроблены.* Кудзялянцы Шальч. *Рэзьґіны — што сена насіць да гумна.* Пацаўшчына Дзятл. *Сена па балотах выносяць рэзґінамі.* Руднікі Шальч. *Рэзґіні — што сена насіць.* Старыя Смільгіні Воран. *Рэзґіні вісяць пад сцяной.* Кураполле Паст. *З вяровак павітыя рэзґіні — што сена і салому насіць.* Кіралі Шчуч. *Рэзґіні маглі рабіць і з рэменя.* Кемялішкі Астр. *Насілі корм у рэзґінях — два лукі пераплятаюцца.* Солы Смарг. *У рэзьґінях носяць корм каровам.* Беняконі Воран. *Рэзґінямі каровам трасянку неслі.* Малькуны Ігн. *Рэзґінямі носят салому і сена.* Рагулішкі Даўг. *У рэзґінях сена каровам насілі.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Рэзьґіні — каб сена насіць.* Груздава Паст. *Рэзьґіні — што сена носяць.* Кураполле Паст. *Дайней сена насілі рэзьґінямі.* Лісна В.-Дзв. *Два лукі, сагнутыя ў дугу, пераплятаюцца сеткай з шнюрка, то гэта і е рэдзґіні.* Мсцібава Ваўк. *Разґіны — штоб сена насіць, штоб ляхчэй было.* Старыя Трокі Трак.; *гл.* ДАБМ, карта № 254. 2. Воз з шырокімі драбінамі для перавозкі сена, саломы і інш. *Рэзґіны — фургон такі, на ім сена, салому вазілі, ён доўгі і з лесніцамі па баках.* Петкуны Брасл.; *параўн.* літ. *rẽzginės* 'рэзгіны'; *гл.* ДАБМ, карта № 254.

РЭ'ЗКА I, РЭ'СКА *ж.* 1. Сечка. *Рэзка — то сечка такая.* Пасека Ст.-Дар. *Рэзку запарвалі і давалі карове.* Беразіно Докш. *Нарэзалі рэскі на цэлы дзень.* Ёдлавічы Брасл. 2. Сячкарня. *Памалу рэска рэжа.* Старыя Смільгіні Воран.

РЭ'ЗКА II, РЭ'СКА *ж.* Прут. *Кішкі трэбо очыстіті рэзкою. Рэску з веніка загнэм і чысцім.* Азарычы Пін.

РЭ'ЗКА III, РЭ'СКА *ж.* 1. Палоска. *Рэзка аўса, жыта, ячменю.* Азяраны Раг. *Па адной рэзкі поля было.* Ухвала Круп. *Рэскі зямлі — гэта паласкі зямлі, як жылі аднаасобна.* Мсцібава Ваўк. *Рэска там і там, рэскі поля былі.* 2. Загон. *Вузкія натта рэзкі лугу.* Азяраны Раг. *Адну рэску скасілі.* Кузьмічы Люб. *Рэска сенакосу.* Бакшты Іўеў.

РЭ'ЗКІ *прым.* 1. Калючы. *Асака — рэзкая трава.* Старыя Смільгіні Воран. 2. Вельмі кіслы. *Рэзкае малако.* Малыя Аўцюкі Калінк.

РЭЗНЕ'НЦЯ, РЗНЕ'НЬЦЯ *н.* Рэзкі боль. *Рэзненця было*

*ў жываце.* Старыя Смільгіні Воран. *Рзеньця мяне схваціла.* Рудніӏкі Шальч. *Рзеньця мне было ў жываце, натта жывот балеў.* Кудзялянцы Шальч.; *параўн.* польск. *rznięcie* 'тж'.

РЭ'ЗНУЦЦА *зак. экспр.* Моцна ўдарыцца. *Так сільна рэзнулася баба, упала.* Дзяніскавічы Ганц.

РЭ'ЗЫ *мн.* Тое ж, што і р э́ з к а III, 2. *Рэзы — палосы, сенакосы на рэзох.* Малыя Аўцюкі Калінк.

РЭЗЬ I, РЭСЬ, РЕЗЬ *ж.* Тое ж, што і р э́ з к а I, 1. *Сасечана салома ў рэзь.* Ахрэмаўцы Брасл. *Рэсь, як сечка.* Мярэцкія Глыб. *Нареш резі.* Мішневічы Шум.

РЭЗЬ II *ж.* Тое ж, што і р э д з ь. *Як бальшыя вочы ў сетцы, то рэзь, рэдкая сетка.* Глівін Барыс. *Рэсь между сеткі — тры вялікія вокі — рыба вялікая ўвойдзе, а не выйдзя.* Збляны Лід. *Астальные сеткі былі з рэззю.* Істра Лудз. *Рэзі — вочы такія, прыкрапляюцца з двух бакоў сеткі.* Альхоўка Навагр.

РЭЗЬ III *ж.* Рэзкі боль. *Кажэца, у лужыну лягу — такая рэзь у мяне.* Саланое Віл.

РЭ'ЗЬВА *ж.* Рэдкая тканіна. ∇*Як рэзьва, твае кросны — плахія, рэдкія.* Альхоўцы Лях.

РЭ'ЗЬВІНЫ толькі *мн.* Тое ж, што і р э́ з ґ і н ы 1. *Рэзьвіны з двух дуг, яны аборачкамі пераплятаюцца.* Азяраны Раг.; *параўн.* руск. *резвины* 'тж'.

РЭЗЬ'ҐІНІ, РЭ'ЗЬҐІНЫ *гл.* РЭ'ЗҐІНЫ

РЭ'ЗЬҐІНЬКІ толькі *мн. памянш.* да р э́ з ґ і н ы 1. *Толькі адны рэзьґінькі ўскінула.* Кураполле Паст.

РЭ'ЗЬНІК *м. бат.* Тое ж, што і р а з а́ к I, 1. *Рэзьнік добра свінні елі, на крыніцы расце.* Рудня Чэрв. *Рэзьнік на льяс падобны.* Рудня Астравітая Чэрв.

РЭ'ЗЬНІКІ *мн.* Дробна нарэзаная бульба. *Рэзьнікі любяць парасяты. Рэзьнікі трэба зварыць свінне.* Мсцібава Ваўк.

РЭ'ЗЯ *ж. бат.* Тое ж, што і р а з а́ к I, 1. *Рэзя — рачная трава.* Рудня Астравітая Чэрв.

РЭ'Й *м.* Прыстасаванне з слупоў і жэрдак для дасушвання збажыны і траў. *Жыта абівалі, жалі сярпамі, вязалі ў снапы, сушылі жыта ў рэі.* Пасіене Лудз.; *параўн.* лат. *rija*>літ. *rejà* 'тж'.

РЭ'ЙДА *м.* і *ж. зневаж.* Гультай. *Пашла рэйда, рэйдая ні туда ні сюда.* Кіралі Шчуч.

РЭ'ЙДАЦЬ *незак. экспр.* 1. Гаварыць недарэчнае. *Баба рэйдая, усё байкі рэйдая.* Навасёлкі Лід. *Рэйдая абы-што, будзя рэйдаць цэлую гадзіну.* Граўжышкі Ашм. *Рэйдае, сам не ведае што.* Галубы Маст., Вялікія Баяры Шчуч. *Што ты рэйдаеш, што ні папала, пляцеш абы-што.* Кіралі Шчуч. 2. Хадзіць без справы. *Рэйдаяш і рэйдаяш па вуліцы, не пасядзіш на месцы.* Старыя Смільгіні Воран.

РЭ'ЙДЗІЦЬ *незак.* 1. Тое ж, што і р э́ й д а ц ь 1. *Што ты рэйдзіш усё?!* Збляны Лід. *Рэйдзіць яна цэлы час.* Альхоўцы Лях. 2. Тое ж, што і р э́ й д а ц ь 2. *Ты рэйдзіш і рэйдзіш па вуліцы, не пасядзіш на месце.* Старыя Смільгіні Воран.

РЭ'ЙДЫ толькі *мн.* Плёткі. *На вёску пойдзе рэйды таныць, а ў горадзе ў дом не ўвойдзе ніхто цэлы дзень.* Навасёлкі Лід.

РЭЙСО'РЫ *гл.* РЫСО'РЫ

РЭ'КА *гл.* РАКА'

РЭ'КНУЦЬ *зак. экспр.* Сказаць, папрасіць. *Кап я рэкнула: «Хлопцы, прывязіце навозу!», то яны п мне і прывезлі.* Вецярэвічы Пух.; *парайн.* польск. *rzec* 'сказаць', літ. *rìkti* 'закрычаць'.

РЭКРА'ЦЫЯ *ж. перан. іран.* Важны ўчынак. *Рэкрацыя такая! — окна здзелаў з акяніцамі.* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *rekreacja* 'перапынак, адпачынак'.

РЭ'МАНТ *м.* Рамонт. *Шмат рэманту трэба на хату.* Снягяны Смарг.

РЭ'МЕНЬ, РЭ'МЯНЬ, РАМЕ'НЬ *м.* Рэмень. *Рамні былі, з іх што хочаш можна было здзелаць.* Пасіене Лудз. *Рэмянь куплёны, падвязуя рэмянем ці поясам, бывала, зімою кажух ці штаны.* Рудня Чэрв. *Рамень — выробленая скура.* Дзяніскавічы Ганц. *Дзяга з раменю.* Крынкі Крын. *Купіў кусок рамэню, будэ на хамут.* Курашэва Чыж.

РЭ'МЗАЦЬ *гл.* РЫ'МЗАЦЬ

РЭ'МЯНЧЫК *м. памянш.* да р э́ м е н ь. *У хадаках рэмянчык затужаў нагу.* Крэва Смарг.

РЭНГЕ'НТ *м.* Рэнтген. *На рэнгент направілі яе.* Саланое Віл.

РЭ'НГІ толькі *мн. кулін.* Поліўка з рыбы. *Ячгуры напосна гатовілі і рэнгі звалі.* Рагулішкі Даўг.; *парайн.* лат. *renģe* 'салака'.

РЭНКАВІ'ЦЫ *гл.* РУКАВІ'ЦЫ

РЭ'НТА *ж.* Рэнта, зямельны надзел. *Рэнты трохі меў.* Баброўнікі Гарад.; *парайн.* польск. *renta* 'тж'.

РЭ'ПА *ж.* 1. *бат.* Рэпа. *Рэпа падобна кручкі.* Паляцкішкі Воран. *Рэпа, як кручка, кругленькая.* Навасёлкі Свісл. *Сеялі рэпу.* Беняконі Воран. 2. *перан.* Трэшчыны. *Як лыткі паскепяцца ад северу, то кажаць, што на нагах рэпа.* Вузла Мядз. *Вясной бывая рэпа на нагах.* Мярэцкія Глыб. ◇ *Рэпу сеяць* — пра брудныя, патрэсканыя ногі. *На нагах баба рэпу пасеяла.* Кіралі Шчуч. *Рэпу грызці* — выразна гаварыць. *Гавора, што рэпу грызе, выразна, атчотна так.* Малі Астр.

РЭПАВЕ'НЯ *зб. н.* Тое ж, што і р э́ п н і к 1. *Наламаў рэпавеня.* Старыя Смільгіні Воран.

РЭПАРАВА'ЦЬ *незак.* Рамантаваць. *Колы рэпараваў.* Паляцкішкі Воран.; *парайн.* польск. *reperować* 'тж'.

РЭПАРА'ЦЫЯ *ж.* Аперацыя. *Рэпарацыя ёй была, ніхай*

*возьміць спраўкі.* Ёдлавічы Брасл. *Рэпарацыю рабілі на жалудку.* Парэчча Гродз.; *параўн.* польск. *reperacja* 'рамонт, папраўка'.

РЭ'ПАЎКА *ж.* Трэшчына. *На пятах рэпаўкі сталі.* Кемялішкі Астр.

РЭ'ПКА I *ж. памянш.* да р э́ п а 1. Беняконі Воран., Ністанішкі Смарг. ◊ *Пасеяць рэпку* — пра брудныя, патрэсканыя ногі. *Ужо пасеяла рэпку на нагах.* Магуны Паст.

РЭ'ПКА II *ж. анат.* Надкаленная косць. *Нага пад рэпкай зламалася.* Крэва Смарг. *Рэпка на каленях — костачка.* Галубы Маст. *У калені рэпка.* Солы Смарг. *Рэпка ў калені, што варушыцца.* Дзяніскавічы Ганц. *Як зачне балець з рэпак у кунпякох, то ісці неможна.* Малі Астр. *Рэпка на калені.* Воўкуш Ліпск. *Рэпку выбіў з калена.* Номікі Бабіц.

РЭ'ПКА III *ж. анат.* Макаўка (у жывёлін). *Хвастом зачэпіцца і атарве хвост па самую рэпку.* Парэчча Гродз.

РЭ'ПКА IV *ж.* 1. Скрутак (пра лыка). *Скручвалі лазу ў рэпкі.* Саланое Віл. *Рэпка — лыка, скручаная, як клубочак.* Лапічы Асіп. *Палоскі лыка вярцелі рэпкай, як клубок.* Азяраны Раг. 2. Драўлянае кольца, якім замацоўваюць шпульку на рагатцы ў калаўроце. *Рэпка — колца, ім закручваюць шпулю на вілачках.* Вецярэвічы Пух.

РЭ'ПНІК *м.* 1. *бат.* Лопух. *На рэпніку шышкі растуць.* Гемзы Шальч. 2. *кулін.* Страва, прыгатаваная з бульбы, морквы, бручкі, забеленая малаком. *Даўно я не варыла рэпнік.* Стральцы Гродз.

РЭ'ПТУХ *гл.* РАПТУ'Х

РЭ'СКА *гл.* РЭ'ЗКА I, II, III

РЭ'СКВАСЬ *ж.* Раз'езджаная гразь на дарозе. *Якая рэсквась, не пройдзеш і не праедзеш!* Малахоўцы Бар.

РЭ'СЛІК *м.* Расток. *У арбузоў добрые рэслікі.* Стары Свержань Стаўб.

РЭ'СЦІ *гл.* РАСЦІ'

РЭСЬ *гл.* РЭЗЬ I

РЭ'ТЧАС *прысл.* Рэдка. *На рэтчасу ўжываюць.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

РЭ'ЎГІШЫ *мн.* Тое ж, што і р а ґ а́ з ы 2. *Акно запацела, аш рэўгішы пацяклі.* Навасёлкі Свісл.; *гл.* р а́ ґ і.

РЭ'ЎДА *м., ж.* і *н.* Хто плаксівы (пра дзіця). *Во дзе рэўда, раве і раве.* Міратычы Карэл.; *параўн.* літ. *raudà* 'тж'.

РЭЎМАТЫ'ЗМ, РЭЎМАЦІ'ЗМ *м. мед.* Рэўматызм. *Добра багун піць ад рэўматызму па сталовай лысцы дзесяць дней.* Руднікі Шальч. *Ад рэўмацізму націраюць спіртам з чыснаком.* Мсцібава Ваўк.

РЭ'ХА *н.* і *ж.* Водгалас. *Рэха адзываецца; як ціха ў лясу, то рэха падаецца, а як вецір, то рэху не пачуіш.* Лісна В.-Дзв. *Рэха адбіваяць, тады чуваць.* Солы Смарг. *Рэха пашла па лесу.*

Рудня Астравітая Чэрв. *Я гукнуў, то адгукнулася, рэха пашла.* Гемзы Шальч.

РЭ'ХВА *ж.* 1. Жалезны абруч, які надзяецца на драўляную калодку кола. *Рэхва ў коле, набіваецца на калотку.* Мсцібава Ваўк. *Рэхва ў возе.* Жылі Іўеў. *Круглая жалеза наганялася на калотку — гэта рэхва.* Гальшаны Ашм. *На калотку надзяваліся рэхвы із жалеза.* Альхоўка Навагр. *Чатыры рэхвы пры спіцах і на калотках.* Альхоўцы Лях. *Рэхвы на колах залезныя.* Валеўка Навагр. 2. Шайба, якая закручваецца на канцы восі. *Рэхва адзяецца на вось; закруціць рэхву нада, каб не спадала.* Саланое Віл. 3. Кольца, якім змацоўваюць часткі ў прыладах працы. *Рэхва набіваецца на косу.* Вецярэвічы Пух. *На пяту і клін касы наганяецца рэхва.* Парэчча Гродз. *На пяту касы накладаяцца рэхва і замацоўваецца дзеравянным кліночкам.* Альхоўка Навагр. *Рэхва ў касе.* Крынкі Крын. *Граблішча доўгае разрэзваецца пілкай. Рэхву нагнялі кругленьку, штоб разрэз не расхадзіўся далей.* Пацаўшчына Дзятл. 4. Зазубень. *Рэхва на глаблю надзяецца.* Гемзы Шальч.; *парайн.* ням. *Reifen* 'абруч, шына, кольца'.

РЭ'ХВАЧКА *ж. памянш.* да р э́ х в а 3. *Рэхвачка такая жалезная ў касы.* Чуркі Ашм.

РЭЦЬ *гл.* РЭДЗЬ

РЭ'ЦЬКА *гл.* РЭ'ДЗЬКА

РЭЦЭ'П *м.* Рэцэпт. *Я выкінула маі рэцэпы.* Саланое Віл.

РЭ'ЧЧАКІ толькі *мн.* Рэдкая тканіна. *Як хто тчэць рэччакі на мяхі, як хто — на што іншае.* Кураполле Паст.

РЭ'ЧЧЫКІ *мн. кулін.* Рэдкі суп. *Рэччыкі варылі — рэдзенькі такі суп.* Стары Свержань Стаўб.

РЭ'ЧЫ *мн.* Пажыткі. *Рэчы яму не паддавала.* Лоск Валож.∇ *Німа лепшай рэчы, як на сваей печы.* Жылі Іўеў.; *парайн.* польск. *rzecz* 'прадмет'.

РЭ'ШАТА І, РЭ'ШАТО, РАШАТО' *н.* Рэшата. *Сіта мяльчэйшая, рэшата буйнейшая.* Солы Смарг. *Рэшата плялі з вузенькіх лыкаў.* Кіралі Шчуч. *Пшчол збіралі ў рэшата, а нанач пусцям у вулей.* Вузла Мядз. *З палоса лыка рабілі рэшата густое і рэдкае.* Рудня Астравітая Чэрв. *Рэшата рэдка і частая.* Малыя Аўцюкі Калінк. *На рэшата муку прасеіш.* Пярэкі В.-Дзв. *Высяўкі праз рэшата не праходзяць.* Чуркі Ашм. *Як высеіш муку, на рэшаце астаюцца áшыкі.* Гемзы Шальч. *Папараць таўклі ў ступе, сеялі на рэшаце і пяклі балабушкі.* Гальшаны Ашм. *Рэшато і сіто е.* Альхоўцы Лях. *Архуюць і патсяваюць на рашато.* Кузьмічы Люб. *Рабілі рашато з лыка ліпы.* Стральцы Гродз. ∇ *У цябе праўда, як у рэшаце вада.* Малі Астр. *Праўда ў цібе, як у рэшаце вада.* Вузла Мядз.

РЭ'ШАТА II *астр.* Сітцо. *Рэшата бывая вісока пасярэдзіне неба.* Лайпушкі Ігн.

РЭ'ШАТНІК *м.* Хто вырабляе рашоты. *Рэшатнік сітніку не таварыш.* Паляцкішкі Воран.

РЭ'ШНІК *м.* Арэшнік. *На рэшніку растуць арэхі.* Малыя Аўцюкі Калінк.

РЭШО'ТНІК *гл.* РАШО'ТНІК

РЭ'ШТА, РЕ'ШТА *ж.* 1. Астача. *Нешта аднеслі, але рэшта асталася.* Жылі Іўеў. *Жаруць, паруць, а рэшту хлеба кладуць у сумку.* Крэва Смарг. *Рэшта сала.* Мярэцкія Глыб. *Рэшта цеста саскрабаецца, прыплескваяцца, кап кісля ні сышла.* Дакудава Лід. *Рэшту я аддала.* Малахоўцы Бар. *Рэшта ў яго асталася.* Рыбчына Віл. 2. Здача. *Я дала пяць рублёў, яшчэ далі рубель рэшты.* Кіралі Шчуч. *Асталася рэшта, што б яшчэ можна купіць?* Солы Смарг. *Заплаціў, а рэшту аддай мне.* Тухавічы Лях. *Дана рэшта.* Вялікія Баяры Шчуч. 3. Хто застаецца жыць у старой хаце. *Хто пярэйдзе ў нову хату, а рэшта там будзе жыць.* Парэчча Гродз.; *парайн.* польск. *reszta* 'лішак, астача'.

РЭ'ШТКА *ж.* памянш. да р э́ ш т а 1. *Рэштку круп вазьмі сабе.* Беразіно Докш. *Я была ў Рызе, так былі рэшткі гэтага матэрыялу, я ўзяла на пададзеяльнік.* Солы Смарг.

РЭ'ШЧЫК *м.* Разец. *Рэшчыкам выдлубаюць, выскрабаюць начоўкі.* Ліпнікі Вільн.

РЮ'ХАЦЬ *гл.* РО'ХАЦЬ

РЯ'ЖЕЧКА *гл.* РА'ЖАЧКА

РЯ'МА *гл.* РА'МА

РЯ'СКА *гл.* РА'СКА

РЯТУ'НАК *гл.* РАТУ'НАК

РЯ'ШКА *гл.* РА'ЖКА

РЯШО'ТКА *гл.* РАШО'ТКА I

# С

С, СА, СО *прыназ.* І з *род.* 1. Пры абазначэнні зыходнага пункта, адкуль пачынаецца дзеянне. З. *Ішла с шчаўя і ўпала.* Кіралі Шчуч. *С пляна прышоў, задзержалі.* Альхоўцы Лях. *Са Свіра быў прыехаўшы.* Кемялішкі Астр. *С той стараны.* Васілевічы Гродз. *Хлеп со Свія* [Асвеі] *прывозюць.* Лісна В.-Дзв. 2. Пры ўказанні на прадмет, адкуль што-н. бярэцца. З. *Са свірэпкі найбольш пшчолы мёду бяруць.* Опса Брасл. *Усё трэба было с пуда купіць.* Васілевічы Гродз. 3. Пры абазначэнні матэрыялу, з якога зроблен прадмет. З. *Ангерка с сукна. Сардаке — с сукна, хто с шарачкі шыў. С кужалю пальто. С саломы ўмеў сплесці капялюш.* Васілевічы Гродз.

*Віткі ў баране круцілі са саломы.* Ёдлавічы Брасл. 4. Пры ўказанні на прычынныя адносіны. З, са. *Шапка паднімаецца са страху. Рукі апусціў са страху.* Вулька Гродз. 5. Пры ўказанні на агульнасць ва ўзросце. З. *Са 'днаго года.* Альхоўцы Лях. 6. Указвае на неадпаведнасць па велічыні. З. *Са штаноў вырасла саўсём.* Ахрэмаўцы Брасл.

II з *тв.* 1. Пры ўказанні на блізкасць прадметаў. Каля. *Сцяна са сцяной была бліска.* Васілевічы Гродз. 2. Указвае на адносіны паміж асобамі. З. *Са жонкаю жыў.* Рагулішкі Даўг. *Мужык са жонкай жылі. Не жыве са жонкай.* Ёдлавічы Брасл. 3. Пры ўказанні на запаўненне кім-н., чым-н. З. *Тры павозкі с сеном, с людзьмі і с коньмі пашлі ў это озеро.* Вулька Гродз. 4. Пры ўказанні на сумяшчэнне чаго-н. з чым-н. З. *Фасолю с панцаком гатавалі.* Васілевічы Гродз.; *гл.* з, з.э.

САABРАЖА'ЦЬ *незак.* Разумець, кеміць. *Ведама ж, ні саабражала.* Чапаеўскі В.-Дзв.; *параўн.* руск. *соображать* 'тж'.

СААБРАЗІ'ЦЦА *зак.* Сабрацца што-н. зрабіць. *Як мне саабразіцца бліноў напячы?* Ёдлавічы Брасл.; *параўн.* руск. *сообразить* 'прыдумаць'.

СААРХАВА'ЦЬ *зак.* Правеяць арфай. *Як саархуеш, то зярно далей ляціць, а драбяза, шчынкі — бліжэй; бярэш мятлу і зганяеш.* Мачаск Бярэз.

САБА'КА, САБА'КО *м.* 1. Сабака. *Сідзіць сабака злева.* Вулька Гродз. *Сабака навязаны.* Грыкені Вільн. *Сабаку ёсць мейсца ў будзе.* Солы Смарг. *Хазяін памёр, сабака выя на магілцы.* Малі Астр. *Аксення была прывёўшая сабаку. Я сабака не люблю. Воўк, як бальшы сабака.* Ахрэмаўцы Брасл. *А яны хітрыя, сабакі.* Цяпінцы Віл. *Дам есці сабацы.* Парэчча Гродз. *Сабацы есці дала, казе.* Валеўка Навагр. *Сабакаў я не люблю, залатога сабаку я не ўзяла бы. Быў гончы сабака.* Дзераўное Стаўб. *Два сабака воўчай пароды.* Навікі Лудз. *Сабако бяжыць.* Альхоўцы Лях. ▽ *Воўк сабакі не баіцца, але звягі не любіць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Хата вялікая, хоць сабак ганяй. Яна на яго, што на сабаку, гоня. «Дзе твой бацька, муж?» — «Пашоў сабакам сена касіць».* Малі Астр. *Гонару больш, як у сабакі блох.* Пацаўшчына Дзятл. *Калі сабака траву есць — гэта на дошч. Дайней казалі: «Боп цвіціць, сабака ліняіць — і багатыр хлеба ні маіць».* Вузла Мядз. *Ён злосны, як сабака, с суседзямі.* Парэчча Гродз. *Сабака заслужыў у чалавека кавалак хлеба, кармлення. Сабака ў бога хлеб выпрасіў: як мясілі хлеп, давалі кусок цеста сабаку, вымякчыць і дае.* Старыя Смільгіні Воран. 2. *перан.* Заціскачка. *Вася, прынясі сабакі са дна, у кошыку, і прышпілі порткі свае.* Кіралі Шчуч.

САБА′КА ВІЛЬЧА′К *м.* Аўчарка. *Сабака вільчак воўчай пароды.* Гемзы Шальч.

САБАКА′РНЯ *ж.* Псярня. *Сабакарня была ў пана.* Багушэвічы Бярэз.

САБА′ЧАЯ, САБА′ЧЧАЯ, САБА′ЧЧА МЯ′ТА, САБА′ЧА М'Я′ТА, СОБА′ЧЧА МНЯ′ТА *ж. бат.* Мята вадзяная і палявая. *Сабачая мята каля рэчкі расце высокая.* Быстрыца Астр. *У пупшовай мяты ліст кругляньки, у сабачай мяты вострынькі.* Слабада Мін. *Сабаччая мята красным, сірэневым цвіціць.* Мішневічы Шум. *Смярдзючая гэта сабачча мята.* Беразіно Докш. *Сабача м'ята каля куста нарасла.* Пасека Ст.-Дар. *Там одна собачча мнята коло плота, ныц быльш ны ростэ.* Сіманавічы Драг.

САБА′ЧКА I *м. памянш.* да с а б а́ к а 1. *Які сабачка пабег!* Дварчаны Паст.

САБА′ЧКА II *м.* 1. *ткац.* Дэталь у ніце красён. *Сабачка ў нітах е, сабачкі — за што чапляліса панажы.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Калодачка ў верхнім камені жорнаў, у якую ўстаўляецца млён. *У сабачку ўстаўляецца млён.* Жодзішкі Смарг. 3. *цясл.* Шнур. *Сабачкай атцягуюць, доску намячаюць, як рэзаць.* Збляны Лід. 4. Тое ж, што і с а б а́ к а 2. *Сабачкамі прышпілілі порткі.* Кіралі Шчуч.

САБА′ЧКІ I *мн. бат.* Чарада. *Сабачкі калюшчыя, па-апцечнаму чарада, дзе якія болькі, высыпка.* Чуркі Ашм.

САБА′ЧКІ II толькі *мн.* Невялікія санкі. *Сабачкі — такія саначкі, як доўгае бервяно вязуць, то канец — на сабачкі.* Чычалі Швянч.

САБАЧУ′К *м.* Сабачанё. *Які сабачук!* Старыя Трокі Трак. *Сабачук прыбех.* Старыя Смільгіні Воран. *Сабачук туліцца да людзей. Ён сабачукі меў.* Кудзялянцы Шальч. ▽ *Бегаюць яны, як сабачукі.* Кудзялянцы Шальч.

САБАЧУКІ′ толькі *мн.* Тое ж, што і с а б а́ ч к і II. *Сабачукі — малыя санкі, да вялікіх прымацоўваліся.* Быстрыца Астр.

САБА′ЧЧАЯ МЯ′ТА гл. САБА′ЧАЯ МЯ′ТА

САБА′ЧЫ, САБА′ЧЧЫ *прым.* Сабачы. *Сабачая лапа.* Дварчаны Паст. *Курыца выседзіла байстручкі ў сабачай бутцы.* Сасноўка Смарг. *У мяшэчак паклала сабачча, авечча, кароўе і конскай поўсці і прывязала пад грудзьмі.* Саланое Віл. ▽ *Сабачыя вочы дыму не баяцца — еслі я ўкрала, мне будуць гаварыць, а я буду апраўдвацца.* Малі Астр. ◇ *Сабачая доля* — цяжкія ўмовы жыцця. *Сабачай доляй мы жылі.* Старыя Трокі Трак. *Сабачыя дарошкі* — вузкія дарожкі. *Да Юрацішак дарога, ад Юрацішак сабачыя дарошкі мы называем.* Гальшаны Ашм.

САБА′ЧЫ БАРАВІ′К *м. бат.* Воўчы грыб. *Сабачы баравік — падобны да баравіка, але горкі.* Галоўні Воран.

САБА′ЧЫ ЗУП *м.* Рана ад укусу сабакі. *Сабачы зуп угаіць цяшка.* Рагулішкі Даўг.

САБА′ЧЫ РАМО′НАК *м. бат.* Палявы рамонак. Кіралі Шчуч.

САБА′ЧЫ РУМЯ′НАК *м.* Тое ж, што і с а б а́ ч ы р а м о́ н а к. *Сабачы румянак мы называям.* Плябанцы Ашм. *Сабачы румянак не пахня.* Малі Астр.

САБА′ЧЫЯ ГРЫБЫ′ *мн. бат.* Неядомыя грыбы. *Сабачыя грыбы не ядуць.* Галоўні Воран. *Сабачыя грыбы не ядуць — гэта паганкі, падобныя да лісічкаў, і горкія баравікі не ядуць.* Ёдлавічы Брасл.

САБАЧЭ′ЎНІК *м. бат.* Тое ж, што і с а б а́ ч а я м я́ т а. *Сабачэўнік такі смярдзючы.* Мачаск Бярэз.

САБГА′КАЦЬ *зак.* Зжаваць. *Карова сабгакала нучу і з'ела.* Малыя Аўцюкі Калінк.

САБЕ′ *займ.* 1. у знач. *прысл.* Паасобку, асобна. *Мама сабе плача, я — сабе.* Гальшаны Ашм. *Я рас сабе так падумала.* Васілевічы Гродз. *А як так: вадзічка сабе, картошка сабе — што за суп!* Ахрэмаўцы Брасл. 2. у знач. мадальнай *часц.* Паводле свайго меркавання, рашэння. *Вязіце сабе. Можаце ехаць сабе дадому. Вы сабе сядзіце, але вы не ўсядзіце ў нас.* Ахрэмаўцы Брасл. 3. у знач. *прысл. саббю.* Саматугам. *У вайну сабою аралі, цягалі плух шасцёх.* Вецярэвічы Пух.

САБІ′ДЗЕЦЬ *зак.* Пакрыўдзіць. *Прыйшоў рассказаць, хто сабідзеў.* Мішневічы Шум.; *параўн.* руск. *обидеть* 'тж'.

САБІ′ЖАН *дзеепрым.* Пакрыўджаны. *Ён не сабіжан очэнь.* Мішневічы Шум.; *параўн.* руск. *обижен* 'тж'.

САБІЗДРА′Л *м. зневаж.* Хто легкадумны. *Ён сабіздрал такі, як вецер, не аддалі за яго.* Гемзы Шальч.

САБІРА′ЦЦА, СУБІРА′ЦЦА *незак.* 1. Збірацца разам. *На вічарынкі сабіраліся дзеўкі, хлопцы і гулялі.* Саланое Віл. *Будзем сабірацца.* Мярэцкія Глыб. *Субіраюцца ў хаце.* Нізок Уздз. *Мужыкі сабіраюцца утрам шпіняць, шпінінг закідваюць.* Чапаеўскі В.-Дзв. 2. Рыхтавацца. *Субіраліся ў Мінск.* Саланое Віл. 3. Хмарыцца. *Сабіраецца дождж, а не збярэцца.* Дзераўное Стаўб.

САБІРА′ЦЬ, СУБІРА′ЦЬ *незак.* 1. Збіраць. *Буду сабіраць, бо рассыпала арэхі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Сядзім і сабіраем з зямлі.* Ухвала Круп. *Не хадзіла сабіраць ягады.* Кураполле Паст. *Мы грыбы сабіраем, сушым і солім.* Рагулішкі Даўг. *У нас дзядзеўнік сабіралі і варылі халаднік.* Вузла Мядз. *А хто будзіць травы сабіраць?* Саланое Віл. *Траву сабіралі, гулялі.* Вялікае Сяло В.-Дзв. *Пчала сабірае мёт, пылок.* Рыбчына Віл. 2. Склікаць. *Хадзіў субіраць людзей на сабраня.* Вязынка Маладз. 3. Убіраць. *Як станyць сабіраць гарадэ, то дошч пойдзя.* Вялікія Баяры Шчуч. *Он*

*усегда сухое сено сабірай.* Вулька Гродз. 4. Жывіцца. *Мураўё рабачке разныя сабіраюць.* Малахоўцы Бар. 5. Запасіць. *Даўней сабіралі дзеньгі і зямлю куплялі.* Вузла Мядз. *Людзі былі зборлівыя, сабіралі грошы.* Дарава Лях., Вузла Мядз. 6. Плесці, здымаючы са снавальнага станка. *Снуём на сноўніцы, сабіраем у пляцёнку.* Дзераўное Стаўб. 7. Складаць. *У рэцца мачылі палатно, перым пранікам і зноў аткідаям у ваду, потым зноў сабіраям — трэба добрых дзве нядзелі бяліць.* Падгаі Мін.

САБЛЮДА'ЦЬ *незак. перан.* Захоўваць. *Карова не саблюдая чыстату.* Мсцібава Ваўк.; *парайн.* руск. *соблюдать* 'тж'.

САБО'Р *м.* Куча. *Сабор камення на полі.* Мішневічы Шум.

САБО'ТА *гл.* СЫБО'ТА

САБРА'ННЕ, САБРА'ННЯ, САБРА'НЕ, САБРА'ННЁ *н.* Сход. *Сабралі сабранне.* Дарава Лях. *Пазаўчора вечарам было сабрання.* Ністанішкі Смарг. *Было сабрання, і рашыло мяне паслаць у Маскву.* Лісна В.-Дзв. *Як было сабране, то прадсядаталь гаварый.* Дзераўное Стаўб. *Вялікаё сабраннё было, ён ведай ці ня ведай і арай.* Альхоўцы Лях.; *парайн.* руск. *собрание* 'тж'.

САБРА'НЫ *дзеепрым.* Напоўнены. *Сабрана малако ў вымя.* Старыя Смільгіні Воран.

САБРА'ЦЦА, СУБРА'ЦЦА *зак.* 1. Сысціся, сабрацца разам. *Сабраліся свае параіцца.* Стральцы Гродз. *Зберымся ў хату і гукаям.* Вузла Мядз. *Ваўкі зберацца па штук дванаццаць і ходзяць калядніцай.* Вузла Мядз. *Як збéруцца, то лаюцца.* Чычалі Швянч. *Усе сабраліся Лабачэ.* Ністанішкі Смарг. *Сабяруцца хлопцы і дзеўкі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Сабраліся, глядзелі, як пакрый страху.* Гальшаны Ашм. *Саберацца двое і па-літоўску гаворыць* [гаворацъ]. Ёдлавічы Брасл. *Даўней у яго хату сабéруцца людзі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Пастухі субяруцца, як пасуць кароў.* Саланое Віл. *Сабéруцца заўтра ў канторы. Дзеўкі збéруцца і пяюць сеўшы. Збéруцца благія людзі — гэта банда.* Магуны Паст. *Сабéруцца ўсе дзеці, вядро мёду, двух боравай раздзелім.* Малькуны Ігн. ∇ *Сабраліся ўмесці Ванька, Пецька ды Калупай з братам. Сабраліся Цюха і Мацюха, і Калупай з братам.* Азяраны Раг. 2. Сутыкнуцца. *Як двух збéруцца і адну дзевачку любяць, то паб'юцца.* Чычалі Швянч. 3. Падрыхтавацца (у дарогу, на работу і інш.). *Мы сабраліся ад'яжджаць.* Гальшаны Ашм. *Я зараз сабяруся, а калі ён саберацца? Яны саберуцца, і можна ісці на машыну.* Мярэцкія Глыб. *Сабралася к ёй праведаць.* Пасіене Лудз. *Саброўся на работу ісці.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Ён не сабярэцца да работы.* Рудня Астравітая Чэрв. *Я сабралася і па-*

*шла.* Валынцы В.-Дзв. 4. Пайсці (пра дождж). *Можа, дошч сабярэцца.* Рудня Астравітая Чэрв. ◇ *Усё сабралася* — накапілася, дало вынік. *Яму ўсё сабралася, захварэў, ляжаў у бальніцы.* Лісна В.-Дзв.

САБРА'ЦЬ, СУБРА'ЦЬ *зак.* 1. Сабраць, скласці. *Я сабяру ўсё, што трэба. Яны сабе́руць.* Саланое Віл. *Трэба сабраць. Я збяру, сабяру. Ён сабярэ. Яны сабяруць. Мы сабралі. Я сабяру цыбулю, а ты сабярэш буракі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Сабрала палатно мокрая — і пяры.* Малі Астр. *Субралі з зямлі.* Ухвала Круп. 2. Назбіраць. *Сабрала грыбоў, дзе гарэлае балота.* Валынцы В.-Дзв. 3. Зняць. *Снуем, аснову збярэм і ў начоўку зальем варам.* Солы Смарг. 4. Згрэбці (у раёўню). *Рой ляцеў, рукамі сабраў.* Сасноўка Смарг. 5. Зняць зверху. *Смітанку зверху зберым.* Валынцы В.-Дзв. 6. Склікаць. *Сабралі сабранне.* Дарава Лях. *Даўней талаку зберацць і мнуць лён.* Кураполле Паст. 7. Знайсці (пра час). *Ні сабрала часу і не пайшла ў магазін.* Ахрэмаўцы Брасл.

САВА' *ж. заал.* 1. Сава. *Сава дзярэ мышы.* Мсцібава Ваўк. *У савы галава, як у кошкі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Сава касматая, сядзіць, галаву ўцягнуўшы.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *У савы кіпці, як у арла, а галава, як у кошкі.* Істра Лудз. *Сава — хішчны звер, дажа курыцу схваціць са двара.* Чарняўскія Лудз. *Сава шмат галасоў мая, як закурняўкая, як кот, прыляціць у сат і рыхтык, як дзіця: куга-куга! О, сава Марысці варожа на дзіця. Бывала, совы ў гумно лезуць, мужык вяроўкі расцягня і зловя саву. У дуплях совы вядуцца.* Гемзы Шальч. *Вынішчыліса совы.* Каўняны Гродз. *І совы ў нас ест.* Грыкені Вільн. ∇ *Сава дні не паела — у бога дней многа — на ўсе работы хопіць часу.* Груздава Паст. *Ці пнём ап саву, ці саву ап пень — усё роўна саве больна.* Валынцы В.-Дзв. *І сава свае дзеці хваля.* Малі Астр., Ёдлавічы Брасл. *Совы ўсё вяшчуюць — і смерць, і радзіны. Гаварылі пра смерць — я сказала: «Каб была такая сава ды на смерць паходжа, як укінула б, вы ўсе пайцякалі б, хто просіць смерці».* Вузла Мядз. 2. Драпежная птушка. *Сава — на ўсіх пціц гаворaць.* Мішневічы Шум.

САВАНУ'ЦЬ *зак. экспр.* Штурхнуць. *Савануў нагой.* Рудня Чэрв.

САВА'ЦЦА *незак.* Заляцацца. *Да Барысіхі саваўся — ня палучылася.* Магуны Паст.

САВЕСЦІ'ЦЦА *незак.* Саромецца. *Савесцілася і на вуліцу выйсці.* Мачаск Бярэз.; *парайн.* руск. *совеститься* 'тж'.

САВЕ'Т *м.*, САВЕ'ТЫ *мн.* 1. Савецкая ўлада. *Як Савет зайшоў, прапаў тыфус.* Паляцкішкі Воран. *Увайшлі, дзякуй богу, Саветы.* Гальшаны Ашм. *Пака Саветы прышлі, быў пан Ягмінь.* Чуркі Ашм. 2. Савецкія людзі. *Мой брат казоў, што гэтыя саветы — анельскія людзі.* Васілевічы Гродз.

САВЕ'ТАВАЦЬ *незак.* Раіць. *Саветуюць міне.* Дзёрнавічы В.-Дзв.; *параўн.* руск. *советовать* 'тж'.

САВЕ'ТНА *прысл.* У згодзе. *Сама лучшэ жыць саветна, і ні будзіць сору.* Ахрэмаўцы Брасл.

САВЕ'ТЫ *гл.* САВЕ'Т

САВІЗДРА'Л *м.* Хвалько. *Савіздрал нічога ня стоіць. Савіздрал — гэта хвалюн.* Ністанішкі Смарг.

САВО'К *м.* Шуфлік. *Веялка, як савок.* Солы Смарг.

САВО'ЧАК *м. памянш.* да с а в ó к. *Мама-пакойніца скапаіць абмалочанае ў адну кучу і веіць — савочкам швыраіць.* Кураполле Паст.

САВЯ'К *м.*, САВЯКІ', САВЯКЕ' *мн. бат.* Падасінавік. *Савяк — падбярознічак белы з чырвонай галоўкай.* Кіралі Шчуч. *У савяку чырвоная галоўка.* Збляны Лід. *Савякі растуць велькія. Савяк вырас.* Старое Сяло Зэльв. *Савякі — такія грыбы.* Вялікія Баяры Шчуч., Альхоўцы Лях. *Савякоў набрала, лісіц і маслякоў.* Пацаўшчына Дзятл. *Савяке, паддубнікі ест у лесе.* Васілевічы Гродз. *Савяке растуць.* Каўняны Гродз. *Савяке ня горшыя праўдзівікаў.* Малахоўцы Бар.

САГА'Н, САҐА'Н *м.* 1. Чыгун. *Саґан з чыгуны* [ж. р.]. *Буракі кісленькія, у саґан укінеш, зварыш.* Быстрыца Астр. *Саґан з жалеза. Саґан выцягні з печы.* Дакудава Лід. *Саґан — жалезны гаршчок.* Жодзішкі Смарг. *Саґан залезны.* Магуны Паст. *Кацёл саґан звалі, варылі есці ў саґанох.* Вузла Мядз. *Саґан бальшы, бульбу варым свінням.* Вязынка Маладз. *Саґан з вадой выцягнула.* Сакаўшчына Валож. *Саґан, як пабіты, ужо не звініць, а бражджыць.* Завельцы Астр. *Саґан зварыла худога мяса.* Старыя Смільгіні Воран. *Падсунь да саґана. Былі саґаны магазыновыя, пабяляныя. Гатуяць есць у саґанах.* Старыя Трокі Трак. *Саґанá ня мый, ён чысты.* Стральцы Шальч. *Саґан — гэта чыгун.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Трэба варыць у большым саґане.* Мсцібава Ваўк. *Вун стаіць саґан, бульбу свінням варым. Саґаны з печы трэба выцягваць.* Солы Смарг. *Пусты саґан. У саґанох бульбу варылі.* Вялікія Баяры Шчуч. *Саґаны чыгунныя і пабеляныя.* Кемялішкі Астр. *Бульбу ў саґанах варылі.* Беняконі Воран., Крэва Смарг., Грыкені Вільн. *Мае саґаны чорныя.* Едупка Шальч. *Саган — кацёл вялікі. У печы саган стаіць.* Паляцкішкі Воран. *Даўней мая матка саганы цягаіць з печы, усю работу правіць і жорны меліць.* Кураполле Паст. *Рупіць сáганэ ў печ засоўваць.* Галубы Маст. *Саґаны былі занятыя. Саган трэба нясці пасушыць на двор.* Ністанішкі Смарг. *Там і печ разарвала, і саганы.* Сасноўка Смарг. 2. Саган. *Саган пабеляны з ушыма, чугун без ушоў.* Номікі Бабіц. *Саган чыґунны і паляваны з двама вушкамі.* Масілавічы Сл.

САГА'НКА *ж.* Цыганка. *Саганка прыходзіла, казала: «Дай пагадаю».* Альхоўцы Лях.

САГАНО'К *м. памянш.* да с а ґ а́ н 1. *Была асабіста прыставіўшы саганок вады.* Гемзы Шальч.

САГА'НЧЫК *м. памянш.* да с а ґ а́ н 1. *У гэты саґанчык атцэдзіця.* Дакудава Лід. *Не падыму саґанчыка, сіл не маю падняць.* Новікі Гродз.

САГБА'ЦЬ *зак.* Сагнуць. *Сагбалі вядро.* Груздава Паст.

САГІНА'ЦЦА *незак.* Згінацца. *Не нада ні сагінацца, нічога.* Саланое Віл.

САГЛА'СІЕ, САГЛА'СІЯ, САГЛА'СЕ *н.* Згода. *Ён спрашуя мяне сагласія.* Малі Астр. *Жывуць у сагласі.* Дакудава Лід. ◇ *Па сагласіі* — у згодзе. *Па сагласіі жывем умесце.* Валеўка Навагр.; *параўн.* руск. *согласие* 'тж'.

САГЛАСІ'ЦЦА *зак.* Згадзіцца. *Хлопяц не хацеў сагласіцца з бацькам.* Паляцкішкі Воран.; *параўн.* руск. *согласиться* 'тж'.

САГЛА'СНЫ *прым.* Згодны. *Тут дык я ўжо сагласна.* Чапаеўскі В.-Дзв.; *параўн.* руск. *согласный* 'тж'.

САГМА'ТАЦЬ *зак.* Тое ж, што і с а б г а́ к а ц ь. *Цёлка стружку тую сагматала і з'ела.* Азяраны Раг.

САГНА'ЦЬ *зак.* 1. Спудзіць. *Згані сароку з гэтага чыстакола!* Саланое Віл. 2. Змесці. *Як абмалоцяць пасат, трэба сагнаць мяцёлкай каласкі.* Саланое Віл.

САГНЁНЫ *дзеепрым.* Сагнуты. *Дрот сагнёны.* Ністанішкі Смарг. *Рамка сагнёна. Крук сагнёны і пры баране.* Дакудава Лід. *Сагнёная палка.* Тухавічы Лях. *Рэзгіны — два лучкі сагнёныя.* Семежава Кап.

САГНІ'ЦЬ *зак.* Згнісці. *Сагніў памост.* Рудня Астравітая Чэрв. *Сагніе рыба.* Кузьмічы Люб. *Сагніюць пат курыцай байтуны.* Багушэвічы Бярэз. ▽ *Хай яна сагніе!* Багушэвічы Бярэз.

САГНУ'ЦЦА *зак.* 1. Нагнуцца. *Сагнуўся браць за ягадзіну — і ўкусіла змяя.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Згорбіцца. *Дзег сагнуўся, стары стаў.* Ванелевічы Кап.

САД, САТ *м.* 1. Сад. *Мы сада пільнавалі.* Лоск Валож. *Усе па садзя ішлі.* Вузла Мядз. 2. у знач. *прысл. са́дам.* Праз сад. *Пашоў садам да хлява.* Бакшты Іўеў. ▽ *Што ей, жывець, як сат на пагодзі.* Кураполле Паст.

САДАВІ'НА', САДО'ВІНА, САДОВЫНА' *ж.* 1. Садавіна. *Ягады праз год, як тая садавіна.* Кузьмічы Люб. *Леташні гот садавіны было много.* Альхоўцы Лях. *Садовіна паспела.* Вялікія Баяры Шчуч. *Вжэ садовына поспіла.* Сіманавічы Драг. 2. Садовыя дрэвы. *Садавіна ё ў нас.* Рудня Астравітая Чэрв. *Садавіны няма.* Вецярэвічы Пух. *Вырубалы всю садовыну.* Сіманавічы Драг.

САДАВІ'ЦЦА, СЕДАВІ'ЦЦА, СЕДАВІ'ЦЦЯ, САДОВІ'-

ТІСЕ, САДОВЫ'ТЫСЬ *незак.* 1. Сядаць. *Ужо ён садавіцца. Садавіса есці, астыня ўсё!* Стральцы Гродз. *Садавісь сюды!* Бакшты Іўеў. *За стол садавяцца маладыя.* Новікі Гродз. *Садавяцца на лаві.* Мсцібава Ваўк. *Накладем вос, седавімося і едзем дахаты.* Кіралі Шчуч. *Садовыся на лавку!* Ляжыткавічы Драг. *Ны садовыся на столок, бо в ёму ношка поломана.* Ушкавіца Кобр. 2. Садзіцца (пра птушак). *Курка садовіцце на сіедалі, на гніздіе.* Курашэва Чыж. *Індычка седавіцца.* Кіралі Шчуч. *Індзюк не ідзе садавіцца, пакуль качкі не сядуць.* Мсцібава Ваўк. *Жаваранкі садавяцца пазней, сарокі найранейшыя.* Пацаўшчына Дзятл. 3. Звівацца (пра пчол). *Дзе пчолы пачалі седавіцця на голаў, так проста баба пат куст.* Кіралі Шчуч.

САДАВІ'ЦЬ, САДОВІ'ТІ, САДОВЫ'ТЫ *незак.* 1. Дапамагаць сесці. *Садаўлю каля подушкі.* Навасёлкі Свісл. *Тут садаві Жанку!* Стральцы Гродз. *Садові хлопця сюда!* Курашэва Чыж. *Садовы хлопця сюды!* Ляжыткавічы Драг. 2. Прапанаваць сесці. *Гості трэба садовіті за стуол, нэхай нэ стоят.* Курашэва Чыж. 3. Сеяць, садзіць (пра насенне). *Ні садавіла гуркоў.* Навасёлкі Свісл.

САДАВЫ', СУДАВЫ' *прым.* Садовы. *Садавая яблына зрасла.* Дзяніскавічы Ганц. *Лясавую ябланю вукапаюць, пасадзяць у вагародзе, шчэпяць — і тагды садавая.* Пасека Ст.-Дар. *Судавы мак расцець у гароччыку.* Груздава Паст.

САДАНУ'ЦЬ *зак. перан. экспр.* Раптоўна выпасці ў вялікай колькасці (пра ападкі). *Грат садануў, хоць грабі лапатай.* Скрыпчына Лудз.

СА'ДЖА *гл.* СА'ЖА

СА'ДЖАЛКА *гл.* СА'ЖАЛКА

СА'ДЖАНЫ *дзеепрым.* Саджаны. *У Стэпы шчэ не саджана.* Вецярэвічы Пух.

СА'ДЖАЎКА *гл.* СА'ЖАЛКА

САДЖА'ЦЬ, САЖА'ЦЬ, САДЖА'ТІ, САДЖЯ'ТЫ *незак.* 1. Садзіць, сеяць. *Усе мае картохлю саджаюць.* Слабада Мін. *Саджалі капусту, кап велькая расла — за галаву браліся.* Дарава Лях. *Саджаям картоплю талакою. Помочыла зерня, зерняты, добрая пора саджаць.* Малыя Аўцюкі Калінк. 2. Тое ж, што і с а д а в і ц ь 1. *Я яго гадавала, на печ саджала.* Вузла Мядз. 3. Ставіць у печ. *Рыбу гэтак сушылі: як і хлеб, сажалі ў печ.* Пераброддзе Міёр. 4. Засоўваць, усоўваць. *Саджятыму руку в окэнычко, попрэбую одомкнуты рукою.* Сіманавічы Драг. *Нэ можна саджаті пальця в жэшку воду, бо опэчэссе.* Курашэва Чыж. ◇ *Саджаті язык* — умешвацца не ў свае справы. *Нэ трэба языка саджаті, дэ не трэба. Мусіла языка всадіті і тэпэр наробіла собіе біды.* Курашэва Чыж.

СА'ДЖОВКА *гл.* СА'ЖАЛКА

САДЖО'НКІ, САДЖО'НЬКІ *гл.* САДЗО'НКІ

САДЖО'НЫ *дзеепрым.* Не раскалочаны (пра яйка). *Саджоныя яечкі — цалкам спечаныя яечкі.* Масілавічы Сл. *Яйцо саджоно. Саджоныя яйца — калі пячэш з вочкамі.* Малахоўцы Бар.

САДЖЭ'НІЦА *ж.* Жанчына, якая садзіць бульбу. *Саджэніцы бульбу садзяць.* Мярэцкія Глыб.

САДЖЭ'ННЯ *гл.* САДЗЭ'НЯ

САДЖЯ'ТЫ *гл.* САДЖА'ЦЬ

САДЗЕ'ЛЬНІЦА, САДЗЭ'ЛЬНІЦА *ж.* Тое ж, што і с а д ж э́ н і ц а. *Садзельніцы садзяць картоплю. Трэба ісці па садзельніцы.* Кіралі Шчуч. *Садзэльніца садзіць бульбу.* Ёдлавічы Брасл.

САДЗІ'БА *ж.* Сядзіба. *Яна захацела на сваю садзібу.* Парэчча Гродз.; *парайн.* літ. *sodýba* 'тж'.

СА'ДЗІК *м. рыб.* Садок. *Садзік — сетка, якая апускаецца з рыбай у раку, кап не псавалася злоўленая рыба.* Дакудава Лід.

САДЗІ'ЛКА *ж.* Цадзілка. *Нада памыць садзілку.* Ёдлавічы Брасл.

САДЗІ'ЦЦА *незак.* 1. Тое ж, што і с а д а в і́ ц ц а 1. *Садзіса на лаўку. Прышоў, то садзіса.* Тухавічы Лях. *Мы садзіліась за стол.* Дзераўное Стаўб. *Ня буду садзіцца на крэсла.* Ёдлавічы Брасл. *Буду садзіцца.* Рыбчына Віл. *У нядзелю садзёмся ўсе разам, абычай такі быў.* Ахрэмаўцы Брасл. *Карову як даю, на зэдлік саджуся.* Дэгшні Шальч. *Садзіцца на лаву.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Ставіць у печ для выпечкі. *Хлеп замесіш, парушыцца, расце і садзіцца ў печ.* Стральцы Шальч. 3. Высаджвацца (пра гародніну). *Усё садзіцца, што варыць: буракі, капуста, морфа.* Солы Смарг. 4. *перан.* Навальвацца (пра непрыемнасці, бяду). *Тут ужо ўсё на нас садзілася.* Саланое Віл. ◇ *Садзіцца на любы цвет* — быць незалежным, вольным. *Садзіся, пціца, на любы цвет — я сама сабою распараджаюся.* Малі Астр.

САДЗІ'ЦЬ, САДЗІ'ЦІ, САДЫ'ТЫ *незак.* 1. Тое ж, што і с а д а в і́ ц ь 2. *Як мы садзілісь за стол, то мы дзедзю на куце садзілі.* Дзераўное Стаўб. 2. Тое ж, што і с а д а в і́ ц ь 3. *Бурачкі садзім.* Чуркі Ашм. *Фасоль я позна садзіла.* Завельцы Астр. *Пяць ганей садзілі бульбы. У загоны садзілі, не ў барозны.* Гальшаны Ашм. *Садзіць бульбу.* Рыбчына Віл. *Валя, ты ўходжвайся ды бяры цяпку і брушку садзі.* Збляны Лід. *Сам картошку садзіць.* Малышы Лід. *Прыяжджай, соткі садзілі, садзіць памагай.* Навасёлкі Лід. *Бульбу садзілі.* Мярэцкія Глыб. *Будзім бульбу садзіць.* Ёдлавічы Брасл. *Картофлі садзяць.* Старыя Трокі Трак. *Трэба садзіць бульбу.* Ліпнікі Вільн. *Садзяць бульбу.* Крынкі Крын. *Тата тытун садзіў.* Солы Смарг. *У гародзе садзят капусту, буракі — усэ*

*огародне.* Смаляніца Пруж. *Пошов бульбу садыты.* Горск Бяроз. 3. Тое ж, што і с а д ж а́ ц ь 3. *Калі садзяць хлеп, кідаюць загнет.* Жодзішкі Смарг. *Садзяць хлеп на лапату і ў печ садзяць.* Старыя Трокі Трак. *На ліст капусні садзілі ў печы і пяклі сухарэ. Трэба на ліст капусні садзіці.* Васілевічы Гродз. 4. Садзіць хатніх птушак на яйкі. *Садзяць то куры, то качкі, то гусі.* Лоск Валож. 5. Адкладваць (яйкі). *Яна садзіць гніды каню на нагах.* Ахрэмаўцы Брасл. 6. Апускаць у што-н. *Палатно ў краску садзяць — хварбуюць.* Падгаі Мін.

САДЗО′НКІ, САДЗО′НЬКІ, САДЗУО′НКІ, САДЖО′НКІ, САДЖО′НЬКІ *мн.* 1. Пасадкі маладога лесу. *Садзонкі так за год падраслі.* Галубы Маст. *Садзонкі — пасаткі маладога лесу.* Быстрыца Астр. *Садзонкі пасаджаны маладыя. Быдла не разрашаюць пасвіць у садзонках.* Мсцібава Ваўк. *Бліско ля садзонак лісы былі.* Альхоўцы Лях. *Садзонкі—дзе новы лес пасаджаны.* Ёдлавічы Брасл. *Садзонкі — пасаджаны лес.* Жылі Іўеў., Быстрыца Астр., Галубы Маст., Старыя Трокі Трак. *Садзонькі — дзе лес саджаны.* Вялікія Баяры Шчуч. *Саджонкі — саджоны лес, дзе маліны ёсць.* Мярэцкія Глыб. *У саджонькі ўлезла.* Старыя Смільгані Воран. 2. Саджанцы. *Прынёс садзонкаў, трэба пасадзіць, будзя сат хорошы.* Жылі Іўеў. *Садзонкі — гэта маладыя сат.* Дакудава Лід. *Садзонкі — шчэпы яблык.* Навасёлкі Лід. *Колісь з бору прынюос пара садзуонок акацііі, тэпэр ужэ якіе вэлікі вырослі.* Курашэва Чыж. 3. Расада. *Садзонкі — гэта пасадзіў памідоры, бурачкі з аднаго места вырваў і перасадзіў.* Дакудава Лід.

СА′ДЗЬБА *ж.* Месца, дзе садзіцца рой пчол. *Пчолы пускаюць рэй — будзя садзьба пчол.* Малыя Аўцюкі Калінк.

САДЗЭ′ЛЬНІК *м.* Хто садзіць бульбу. *Садзэльнікі садзяць бульбу. Многа было садзэльнікаў.* Гемзы Шальч.

САДЗЭ′ЛЬНІЦА *гл.* САДЗЕ′ЛЬНІЦА

САДЗЭ′НЯ, САДЖЭ′ННЯ, САДІЕ′НЕ *н.* Дзеянне паводле значэння дзеяслова с а д з і́ ц ь. *Такое там садзэня.* Мсцібава Ваўк. *Якое тваё садзэня, тут нічога не абыдзя, як ты садзіш ні па-люцку.* Кіралі Шчуч. *Якое тваё саджэння, абы-як садзіш.* Мярэцкія Глыб. *Вэсною садіене і сіеяне займае мнуого часу.* Курашэва Чыж.

САДЗЯРЖА′ЦЬ *незак.* Утрымліваць. *Я, як вяроўка, круцілася: нада было дзіцё і бацьку хворага садзяржаць.* Малі Астр.; *параўн.* рус. *содержать* 'тж'.

СА′ДЗЯЎКА *гл.* СА′ЖАЛКА

СА′ДЛА, СА′ДЛО *н.* 1. Сала. *Садла з карку.* Новыя Мацалі Варэн. 2. Здор. *Садла — нутраноя, а сланіна — верхняя.* Старыя Смільгіні Воран. *Нутраноя садла скручвалі, а потым ім бліны шмаравалі.* Кудзялянцы Шальч. *Садла ад*

*кішок.* Старыя Трокі Трак., Дэгшні Шальч. *Ныркі ў садле.* Старыя Трокі Трак. *Нутроная садло.* Быстрыца Астр.

САДЛІЖА'ЦЬ *зак.* Зрабіцца вільготным. *Еслі адліга, садліжая, снех мокры ідзе — во хляпаніца!* Малахоўцы Бар.; *гл.* адле́га.

СА'ДЛО *гл.* СА'ДЛА

СА'ДНІК *м.* Асаднік. *Там былі саднікі.* Літва Лях.

САДО'ВІНА *гл.* САДАВІ'НА'

САДОВІ'ТІ *гл.* САДАВІ'ЦЬ

САДОВІ'ТІСЕ *гл.* САДАВІ'ЦЦА

САДОВЫНА' *гл.* САДАВІ'НА'

САДОВЫ'ТЫ *гл.* САДАВІ'ЦЬ

САДОВЫ'ТЫСЬ *гл.* САДАВІ'ЦЦА

САДО'К І *м.* Тое ж, што і сад 1. *Садок був, можэ, с повгыктара, там і яблёні всякы сорты, і грушкы, слывкы, чырэшні, вышні.* Сіманавічы Драг. *Гэтта садок був аж до сэла.* Азарычы Пін.

САДО'К ІІ *м.* Тое ж, што і са́дзік. *В сатку рыбу жывую дзержат.* Прэдэ Даўг.

САДРА'ЦЬ *зак.* 1. Узараць (аблогу, цаліну і інш.). *Поплаў садралі на поле. Выган на полё садралі. Высыпалі дарогу былі, а цяпер німа, садралі дарогу на поле.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Павырываць (пра валасы). *Былі велькія валасы, я іх садрала чэшучы.* Альхоўка Навагр.

САДЫ'ТЫ *гл.* САДЗІ'ЦЬ

СА'ЖА, СА'ДЖА *ж.* 1. Сажа, копаць. *Сажы шмат у коміня, трэба выціраць.* Міратычы Карэл. *Вымазала яго ў сажу.* Валеўка Навагр. *Ап каструлю рукі ў сажу задзелала.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Усе штаны ў сажы задзелаўшы.* Вялікае Сяло В.-Дзв. *У сажы даўна фарбавалі: набіралі сажы ў салявы мяшок, у ваду намочыць, машкі клалі ў сажу — карычневыя былі.* Вузла Мядз. *Трэба вжэ сажу с комына вытрясаты.* Сіманавічы Драг. *А-я-я, што саджы насыпалася!* Альхоўка Навагр. *Саджа в комыновэ.* Дзмітравічы Кам. ∇ *Свая сажа нікога не страша.* Вялікія Баяры Шчуч. 2. *бат.* Галаўня. *У пшаніцы сажы ёсць.* Жылі Іўеў. *Не зарадзіў ячмень — с сажай.* Старыя Смільгіні Воран. *У пшаніцы сажа чорная, у просе тожа.* Беразіно Докш. *Многа сажы ў пшаніцы.* Міратычы Карэл. *Сажа ў ячмені і просе.* Тухавічы Лях. *Сажа ў ячмені — у пшаніцы мука цёмная.* Рагулішкі Даўг. *У ячмені сажа.* Дзяніскавічы Ганц. *Сажа ў ячменю і пшаніцы.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Сажа ў пшаніцы.* Рудня Астравітая Чэрв., Глівін Барыс.

СА'ЖАЛКА, СА'ЖОЛКА, СА'ЖАЎКА, СА'ДЖАЛКА, СА'ДЖАЎКА, СА'ДЖОВКА, СА'ДЗЯЎКА *ж.* Сажалка. *Сажалку выкапваюць на рыбу.* Быстрыца Астр. *Сажалку выкапалі.* Паляцкішкі Воран., Солы Смарг. *Дайней казалі:*

*«Вязіця ў гэту сажалку памачыця калапні».* Вузла Мядз. *Лён мачылі ў сажалцы, дзе вада мяхкая.* Стральцы Гродз. *Сажалка каля поля.* Альба Нясв. *У сажалцы лён мачылі.* Чычалі Швянч. *Сажалка — дзе мачылі лён.* Рагулішкі Даўг. *Рыбы называюцца бондачка, па сажалках яны бываюць, па стаючай вадзе.* Солы Смарг. *Сажалкі выкапаныя, круглыя, а ставок прадаўгаваты, дліненькі. У сажалках даўней мачылі лён.* Ёдлавічы Брасл. *Торп капалі, а сажалкі астаюцца.* Ракаўскія Швянч. *Сажалкі капаюць, а цяпер зараслі.* Малькуны Ігн. *Пожэнэм коровы до сажолкы да напоімо.* Сіманавічы Драг. *Сажаўка ў нас.* Новікі Гродз. *Там нідалёка сажаўка была.* Міратычы Карэл. *Сажаўкі выкопваць.* Пацаўшчына Дзятл. *Саджалка е ў нас.* Навасёлкі Свісл. *Саджаўку выкапалі. Тут саджаўка была.* Альхоўцы Лях. *Саджаўка е ў нас.* Старое Сяло Зэльв. *Дытэ плавают в саджовцэ.* Дзмітравічы Кам. *Вагаяцца садзяўка.* Жылі Іўеў.

САЖА'ЛЬНІЦА *ж.* Тое ж, што і с а д ж э́ н і ц а. *Сажальніца садзіць картофлю.* Вострава Маст.

СА'ЖАНЬ *м. устар.* Мера даўжыні, роўная 2,13 м. *Сажань асовых дроў колісь стоіла чатыры рублі, а бярозавых — пяць рублёў.* Мсцібава Ваўк.

СА'ЖАЎКА *гл.* СА'ЖАЛКА

САЖАЎЦЕ'ЦЬ *зак.* Пажаўцець. *Лісточкі сажаўцеюць і на зямлю спадніць.* Малькуны Ігн. *Сажаўцела сала, ёлкая, нясмачная сала.* Ёдлавічы Брасл.

САЖА'ЦЬ I *гл.* САДЖА'ЦЬ

САЖА'ЦЬ II *зак.* Зжаць. *Сажалі адну постаць і жалі далей. Ці можна крапіву сажаць каля плоту?* Солы Смарг. *Прышла і сажала ячмень.* Мярэцкія Глыб. *Чуць сноп сажала. Жыта сажалі, і дажынкі спраўлялі.* Ахрэмаўцы Брасл.

САЖЖЫ'ЦЬ *гл.* САЖЫ'ЦЬ

САЖНЫ' *прым.* Пашкоджаны галаўнёй. *Сажная пшаніца — чорная.* Гемзы Шальч.

СА'ЖОЛКА *гл.* СА'ЖАЛКА

САЖРА'ЦЬ *зак. груб.* З'есці. *Па ночы дзеці абрываюць ягады: мякчэйшую сажрэ, а цвярдую выкіня.* Слабада Мін.

САЖЫ'ЦЬ, САЖЖЫ'ЦЬ *зак.* 1. Пражыць. *Век сажыла.* Магуны Паст. *Не сажыла доўга.* Рагулішкі Даўг. *Сажжыла век.* Рыбчына Віл. 2. Ужыцца. *Ён з ёй не сажыў.* Ахрэмаўцы Брасл.

САЗА'Н *м. заал.* Сазан. *Усякая рыба: і плотка, і краснапёрка, а вот сазанаў не стала тут.* Вялікае Сяло В.-Дзв. *Сазан — чорна рыба, хішчны сазан.* Валеўка Навагр. *Сазан пахож на карпа, сладкі, пах, як у парніковага агурца.* Месянцы Брасл.

САЗВЯРЭ'ЦЬ *зак. экспр.* Азвярэць. *Ён сазвярэў саўсім.* Валеўка Навагр.

САЗНА'НЯ *н.* Прытомнасць. *Я бэз сазнаня была.* Рудніќі Шальч.; *парайн.* руск. *сознание* 'тж'.

САІ'ЦЬ *незак.* 1. Карміць грудзьмі. *Яна грудзьмі не саіла дзіця.* Паляцкішкі Воран. *Некалі як родзіць, то тры дні ні соіць дзіця. Як соіш дзіця і апсоіш, трэба даць папіць настою моху. Тры гады, пяць гадоў дзіця саілі.* Бакшты Іўеў. *Будзя дзіцё саіць.* Жылі Іўеў. *Саіла дзіця.* Быстрыца Астр., Магуны Паст. *Вазьму саіць дзіця.* Граўжышкі Ашм. *Цыцку давацьі саіць упатрабляюць. Соіць дзіця.* Збляны Лід. *Пайду дзіця саіць. Як дзеці саіла, я сама малако піла, дзеці былі поўненькія.* Солы Смарг. *Яна ш дзіця ні саіла.* Крэва Смарг. *Шчэ, можа, і саіла дзіця?* Сасноўка Смарг. *Яна саіць яго. Некалі толькі саілі дзіця.* Дакудава Лід. *Тры гады саіла.* Лоск Валож. *Я сваго сына тры гадэ саіла, усё шкадавала.* Каўняны Гродз. *Матка дзіця соіць, грудноя дзіця.* Альхоўка Навагр. *Трэба дзіця саіць.* Кіралі Шчуч. *Я старшога сына саіла да двух гадоў.* Галубы Маст. *Гэту саіла і зацяжарыла другім.* Гемзы Шальч. *Яна не соіць дзеткі.* Кудзялянцы Шальч. *Саіць дзіця нада.* Завельцы Астр. *Яна яе не саіла.* Старыя Трокі Трак. *Дзяцей саілі сіськой.* Ракаўскія Швянч. *Матка дзіцёнка соіць. Перастала саіць, адлучыла ад грудзей.* Лайпушкі Ігн. 2. Карміць з вымені. *Яны цялят саілі пат каровай.* Паляцкішкі Воран. *Карова цялё соіць, як адніміш, то тыдзянь раве.* Кіралі Шчуч. *Цялё карову ссе, пассе тры-чатыры тыдні, а карова цяля саіць. Карова цяля атсаіла, соіць цяля карова.* Альхоўка Навагр. *Карова цяля саіць.* Альхоўцы Лях. *Я пры карові не саю цялюка, адразу адлучаю.* Малькуны Ігн. 3. Карміць з соскі. *Сысолкай і Люсю саіла.* Крэва Смарг. *Соіць дзеці, соску ссе.* Старыя Смільгіні Воран.

СА'ЙКА *ж.* Перапечка з ільнянога семя. *Малолі семя льнавое і дзелалі сайкі — ляпёшкі, как с талакна.* Навікі Лудз.

САЙСЦІ'СЯ *зак.* Сустрэцца. *Яны як сойдуцца, то не нагаворацца.* Груздава Паст. ∇ *Гара з гарой не сойдзіцца, а чалавек з чалавекам сойдзіцца.* Кураполле Паст.

САЙЦІ' *зак.* Сысці. *Вы паедзіця аш у Лісна, у канец, а я сайду за Сар'яй.* Буды В.-Дзв. *Вот нага баліць — не магу сайці з места.* Ёдлавічы Брасл. ◇ *Сайці крывёй* — страціць многа крыві. *Крывёй сашлі.* Паляцкішкі Воран. *Сайці с поўнё* — наступіць трэцяй фазе Месяца. *С поўнё сашло.* Малахоўцы Бар.

САЙЧА'С *гл.* СІЧА'С

САК I *м.* Сак (жаночае адзенне). *Сакі куплялі чорныя, як пальто, былі суконныя, шавётавыя — радзей, доўгія-доўгія.* Глівін Барыс. *Помню, як надзеніць сак аш па калена, кап ноччы спаткаўся, дак, пэўне п, спудзіўся.* Лаўцы Глыб. *Сак такі быў. Сакі да стану насілі.* Малькуны Ігн.

САК II *м. рыб.* Сак. *Саком лавілі рыбу, сак гэты із канапляных нітак, надзеты на круглы велькі каблук, каторы прымацованы да трохматровай палкі, і пасля высякаецца яшчэ адна палка метры тры высакосці на канцэ з булавою. Гэты сак топіцца ў ваду дзе-небудзь пад дуба ці пад карча, дзе хаваецца рыба, а другою палкаю порацъ, каб гэтая рыба ўцякала ў сак.* Альхоўка Навагр. *Сакам ловяць удваём, а дзет — трэці рыбак — у канцы. У саку палазы сходзяцца.* Мярэцкія Глыб. *Сак круглы, робіцца вузей, рыба ўлезя і ня выйдзя.* Солы Смарг. *Сакам лавілі рыбу: шастом заганяяць у сак, лук звярху ў саку, як дуга.* Івашкаўцы Смарг. *Сак рабіўся з сеткі і душка, а тады палка даўгая.* Вузла Мядз. *Нада здзелаць сак, у ім дуга, палка і сетка.* Лісна В.-Дзв.

САКАВІ'ТЫ *прым.* Сакавіты. *Сакавітая трава вашкая, як нясеш.* Малыя Аўцюкі Калінк.

САКАВЫ' *прым.* Тое ж, што і с а к а в і т ы. *Сакавая трава.* Рыбчына Віл.

САКАТА'ЦЬ, СОКОТА'ЦІ *незак.* 1. Сакатаць (пра курыцу, пеўня). *Сакоча курыца, яна гнязда шукае, кап сесці.* Кіралі Шчуч. *Куры сакочаць.* Рыбчына Віл. *Куры сакочуць.* Чуркі Ашм., Мярэцкія Глыб. *Як сакочыць курыца, цыпляты ня бягуць, знаюць, што ні матка.* Пярэкі В.-Дзв. *Куры сакочуць.* Рудня Астравітая Чэрв., Лука Нараўк. *Мо певень так сакатоў?* Пацаўшчына Дзятл. 2. Стракатаць (пра сароку). *Сакочыць сарока.* Пярэкі В.-Дзв. ▽ *Сакочаць сарокі — новыя весці.* Дзёрнавічы В.-Дзв. 3. *перан.* Многа, хутка гаварыць. *Баба сакочыць і сакочыць.* Кіралі Шчуч. *Сокотаці — быстро говорыці, по-дурному, нэ в толк.* Смаляніца Пруж.

САКАТУ'ХА *ж. перан. экспр.* Балбатуха. *Баба сакоча і сакоча, такая ўжо сакатуха.* Кіралі Шчуч. *Ты тэж добрая сакатуха.* Гемзы Шальч.; *парайн.* літ. *sakóti* 'сказаць'.

САКАЎНЫ' *прым.* Тое ж, што і с а к а в і т ы. *Сакаўныя карэньчыкі, іх із жырам патаўчы і прылажыць.* Альхоўцы Лях.

САКВІСТА'ТАР *м. гіст.* Судовы выканаўца. *Пры Польшчы як прыедзеш з арміі дамой і невядома дзе дзеў гільзу, то прыедзе саквістатар—і ўплаці за гільзу.* Замошша Брасл.; *парайн.* польск. *sekwestrator* 'тж'.

САКО'Л *м. заал.* Сокал. *Сакол — такая птушка ест.* Талейкі Швянч.

САКО'ЛАЧКА *ж. памянш.* Майка. *Выскачыў у аднэй саколацца.* Лысавічы Мін.

САКРАКІ' *мн.* Ледзяшы. *Сакракі палкамі пазбіваюць.* Кузьмічы Люб.

САКРАТА'РКА *ж.* Жанчына-сакратар. *За сакратарку рабіла.* Старыя Смільгіні Воран.

СА'ЛА I *н.* і *ж.*, СА'ЛО *н.* 1. Тое ж, што і с а́ д л а 1. *Сала*

*на чатыры пальцы.* Жылі Іўеў. *Сала крышаць.* Лоск Валож. *Ён салам таргаваў.* Вялікія Баяры Шчуч. *У гэтум году некія жылкі ў салу ест.* Пацаўшчына Дзятл. *Кублы на сала.* Судэрва Вільн. *Тлустоя мяса, адна сала.* Малькуны Ігн. ∇ *Кажуць: «Кажух—ні вата, сала — ні гарбата».* Вузла Мядз. *Сала мокрая — будзіць дошч.* Рагулішкі Даўг. *Коб я був паном, то йів бы сало с салом, салом постылався б, салом надывався б.* Сіманавічы Драг. 2. Тое ж, што і с а́ д л а 2. *Брушное сала — гэта здор. Сала ат кішак.* Солы Смарг. *А с кішок сала.* Снягяны Смарг. *Сала здзіралі з сярэдзіны, ад кішок.* Завельцы Астр. *Бахан сала сшывалі.* Жодзішкі Смарг. *Сала зашывалі — гэта бонда.* Чуркі Ашм. *Сланіна ў свіні зверху, сала — унутраная.* Магуны Паст. *Сала — унутры, сланіна — зверху.* Ракаўскія Швянч. *Сало — нутрэнное, перэтапліваецца.* Крынкі Крын.

СА′ЛА II *н.* Рычаг. *Сала — цяжолае браўно, ім штось прыкрапляют, прымацоўвают, прыдаўлівают.* Лука Нараўк.

САЛА′ *ж.* 1. Водмель, востраў. *Камяністая сала на рэчцы.* Бакшты Іўеў. *Як ганялі плыты — узгоня на салу. Дзяржы* [плыт], *кап на салу ні папаў. Сала, ці сыпяль, вада кругом абойдзе, а там лаза нарасцець, суха, пяску нагоніць, зыбіцца сухоя месца на рацэ. Сала, солка — астрава, лаза расцець, солка вышэйшая. Сала; солка — остраў сярод ракі, зарошы кустамі.* Рыбчына Віл. *Сала — гэта востраў.* Чычалі Швянч. 2. Узвышанае месца сярод балота. *Сала — сенакос сярот балота павышай.* Дакудава Лід.; *параўн.* літ. *salà* 'востраў'.

САЛАВЕ′Й *м. заал.* Салавей. *Так салавей пяець над Дрысай!* Дзёрнавічы В.-Дзв. *З шасці пяе салавей стары.* Валеўка Навагр. *Салавей так пекна запяе.* Грыкені Вільн. *Салаўі спяваюць у галешніку.* Пацаўшчына Дзятл. ∇ *Дурнога салаўя — дурная песня.* Малі Астр.

САЛАВЕ′ЙЧЫК *м. памянш.* да с а л а в е́ й. *Салавейчык ладна спявая, сеўшы пат плотам.* Кудзялянцы Шальч.

САЛА′ГА *м.* і *ж. зніж.* Хто фанабэрысты. *Салага — называюць так таго, хто хоча паказаць сябе інтэлігентам, адукаваным і мондрым, а на самай справе, ён не ест такім, якім паказвае.* Мсцібава Ваўк.

САЛАДАВА′Я РАЎГЕ′НЯ *ж. кулін.* Саладуха. *Жыта памочыць, солат пасушаць на печы, змеляць, кагда мелiш — слаткая мука, і дзелаецца з гэтага саладавая раўгеня.* Пераброддзе Міёр.

САЛАДЖА′ЦЬ, САЛАЖА′ЦЬ, САЛАДЗЕ′ЦЬ *незак.* Саладзець. *У мiліраваным вiдрэ саладжаіць цеста. Лію крушкі паўтары вады, заварваю — і салажаіць.* Масішкі Красл. *Саладуха саладжая.* Міратычы Карэл. *Саладуха саладзея.* Старыя Смільгіні Воран.

САЛАДЗЕ́ЙШЫ *прым. выш.* Саладзейшы. *Гэны яблык саладзейшы.* Ёдлавічы Брасл. *Саладзейшы кампот.* Гемзы Шальч. *Гэты мёд саладзейшы.* Мярэцкія Глыб., Рыбчына Віл., Рудня Астравітая Чэрв.

САЛАДЗІ́ЦЦА *незак.* Тое ж, што і с а л а д ж а́ ц ь. *У гаршку лепей салодзіцца.* Кіралі Шчуч.

САЛАДКА́ВЫ, САЛАТКА́ВЫ *прым.* Саладкаваты. *Як у дзешцы пяклі свой хлеп, салаткавая кісля была.* Вузла Мядз. *Раўґеня салаткавая, а потым закісніць.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

САЛАДНАВА́ТЫ *прым.* Саленаваты. *Суп саладнаваты.* Мсцібава Ваўк.

САЛАДО́ВЫ *прым.* Соладавы. *Солат расцілі, сушылі і саладовую муку робілі.* Ахрэмаўцы Брасл.

САЛАДУ́ХА, СОЛОДУ́ХА *ж. кулін.* 1. Тое ж, што і с а л а д а́ в а я р а ў ґ е́ н я. *Саладуха — жыта сушылі і малолі, разводзілі вадой і станавілі на прыпяку, і памешвалі, кап яна саладжала, ставілі ў печ, выпарыцца, і тады ў дзежаццы разводзілі, яна паткісая і елі з бульбай — натта смачна.* Сола Смарг. *Муку закалоцім, лёду паложым (лёт асалоджвае) і на прыпечак паставім — і саладуха.* Гальшаны Ашм. *Саладуху выліваеш у ваду — і квас.* Чуркі Ашм. *Саладуха салодзіцца, яе у печ ставяць, мяшаяць, выбіваяць, як упарыцца, тады разводзяць і кісніць, яна ш смашная і солодзі ёсць у ёй.* Груздава Паст. *Саладуху ў гаршку лепі саладзіць, а тады ў дзешку, закісніць — і раўґеня.* Кураполле Паст. *Саладуху рабілі: муку раскалачаваюць у вадзе, яно салодзіцца, ставяць у печ, накрываюць, закіпіць, у дзежку выльюць, яно падкісне — і смашная саладуха.* Рыбчына Віл. *Саладуху зробім у лёгкім духу, салодзім, а тады парыцца, а тады ў дзяжы развядзем. Яна паткісніць трохі — і з бульбай ясі. Саладуху на квас рабілі.* Саланое Віл. *Аржаная мука ў катле разбалтаецца, ставяць у печ — і саладуха палучаецца.* Валынцы В.-Дзв. *Саладуху робілі, яна салоткая.* Ахрэмаўцы Брасл. *Саладуха саладзея, заліваюць у дзежку, апкісня — і гатова.* Старыя Смільгіні Воран., Бакшты Іўеў. *Саладуха — гэта квас, што робіцца з цеста і салодзіцца.* Быстрыца Астр. *Саладуха — вараная і заквашаная з цеста яда.* Крэва Смарг. *Саладуху запарвалі з жытняй мукі.* Навасёлкі Лід. *Жыта заросціцца, мелюць, учыняюць і на прыпяку стаіць, тады прыкісня — і саладуха.* Вялікія Баяры Шчуч. *Саладуху гатавалі з мукі жытняй; ліюць у дзешку, паткісня — і елі с картофляй.* Каўняны Гродз. *Саладуху рабілі: трэба ўсыпаць муке, закваснe, сахарыны дабавіць.* Новікі Гродз. *Кіпіць вада, прыгаршы мукі заварым, варым да таго, пакуль салотка станя, тады саладуха здараво і ўкісне. На саладусі хлеп пухкі.* Дакудава Лід. *Саладуху рабілі так: жытнюю муку сеялі на*

*сітка, у летняй вадзе разбоўтвалі, у чугун — і ў печ; яна засалодзіцца, кіпяцяць воду, разводзяць, квасяць і ядуць.* Пацаўшчына Дзятл. *Саладуха: грэецца вада і жытня мука разбіваецца, і ставіцца ў печ, саладжае, а потым хлеба ложаць, каб салаткавата-кіслая была.* Мсцібава Ваўк. *Саладуха варыцца, як зацірка, саладжая, стаіць на прыпяку, а потым падліваецца халодная вада і прыварваецца, укісая — і ясі з картошкай. Даўней саладуха і кіслуха.* Міратычы Карэл. *Зрабі саладухі!* Альхоўцы Лях. *Саладуху рабілі.* Альба Нясв., Руднікі Шальч. *Саладуха: спяку хлеп, мукі жытняй у кацёл і раблю саладуху, яе ў дзяжу, дабаўляеш вады, яна кісня на печы, як укісня — очэнь смашная, дабаўляецца сахару, елі с картошкай ці кашай.* Гемзы Шальч. *Саладуха: сырамольная мука асалодзіцца, пярот брыняя, а патом перат печкай, у дзешку ліюць, кісніць.* Старыя Трокі Трак. *Саладуха аж бурліць.* Навікі Лудз. *Саладуху варылі, кулагу, квасілі, елі с картошкай, с хлебам.* Рудня Астравітая Чэрв. *Саладуха бываіць у жыткім вёдзе.* Мішневічы Шум. *Гарачай вадой разводзяць муку, толькі кап ні кіпела, яна ўсаладжая, яшчэ больш дабаўляюць вады, у печ ставяць, уварыцца ў духу, кап агню ні было, патом у дзяжу, астыня, туды сахарыны — аб'ядзеня саладуха с картошкай.* Слабада Мін. *Солодуха: муку жытню заколачвают, вона солодуе і варат.* Смаляніца Пруж. 2. Страва, прыгатаваная з тоўчанай бульбы і грачанай мукі. *Саладуху рабілі: картоплі стаўчэш, працадзіў праз рэшата, усыпаў грачышнай мукі, закісне — і ямо с картофляю.* Кіралі Шчуч. ◇ *Нарабіць квасу і саладухі* — зрабіць што-н. недазволенае. *Ну і нарабіў ты квасу і саладухі!* Ёдупка Шальч.

САЛАДУ'ХІ *мн. заал.* Рудыя мурашкі. *Сеў на самыя саладухі, налезлі ў рукавы і так ссеклі!* Гемзы Шальч.

САЛАДУ'ШКА *ж. памянш.* да с а л а д у́ х а 1. *Саладушку рабілі: закалбаціць муку ў зімной вадзе, усувалі ў печ, накрывалі, каб упарылася, разводзілі зімной вадой, выливалі ў хлебныя дзежы, прыкісалі—і саладушка, елі з бульбай.* Івашкаўцы Смарг. *Саладушку рабілі на квасок. Саладушка з бульбай смашная, ці раўгеня, яна свежынькая і ўкісніць.* Саланое Віл. *Трэба саладушку падрабіць.* Альхоўка Навагр.

САЛАДЧЭ'ЙШЫ, САЛАТЧЭ'ЙШЫ *прым. выш.* Саладзейшы. *Мёт салатчэйшы за цукер.* Кіралі Шчуч.

САЛАДЭ'РА *ж. бат.* Сырадэля. *Далі саладэры пасеіць.* Асавец Віл.

САЛАЖА'ЦЬ *гл.* САЛАДЖА'ЦЬ

САЛАМАРЭ'ЗКА *ж.* Сячкарня. *Ё саламарэзкі, а то было, што касой рэзалі сечку.* Азяраны Раг.

САЛАМІ'НКА *ж. памянш.* Саломінка. *Затрос око. Ці муха, ці саламінка?* Быстрыца Астр. *Няма ані саламінкі.* Чычалі Швянч.

САЛАМЯ'НКА *ж.* Тое ж, што і п р ы в я з к а 2. *Саламянкі паверх саломы прывязувалі лазой.* Азяраны Раг.

САЛАМЯ'НЫ, САЛАМЯ'ННЫ, САЛО'МЯНЫ, СОЛО'МНЯНЫЙ *прым.* Саламяны. *Саламяная страха.* Саланое Віл. *Лядача саламяна страха.* Збляны Лід. *Былі стрэхі саламяныя.* Навасёлкі Лід., Магуны Паст. *Дах саламяны быў і ґантовы.* Ахрэмаўцы Брасл. *Пляце чалавек саламяны плот.* Жылі Іўеў. *Раньшэ саламяныя крышы былі, саломай крылі дамы, сараі.* Крэвені Даўг. *Саламянныя лупкі плялі.* Завельцы Астр. *У яго яшчэ саломяная страха, а цяпер саломянай страхі і не ўвідзіш.* Гемзы Шальч. *Соломняна стріха на клуні.* Сіманавічы Драг. ∇ *Муш саламяны, а дзеці залатыя.* Малі Астр. *Дзеці залатыя, а мужык саламяны, а не памяняць.* Кіралі Шчуч. *Лепяй з мужам саламяным, чым з сынам залатым.* Кудзялянцы Шальч. *Мір саламяны лучшы, як сут залаты.* Ёдупка Шальч. *І ты тут, і я тут, а хто ж в нас удома, а хто нашы порубае соломняны дрова?* Сіманавічы Драг.

САЛА'НАЧКА *ж. памянш.* да с а л а́ н к а. *Саланачку свёкар мой зрабіў.* Вузла Мядз.

САЛАНДЗІ'ЦЬ *незак.* ◇ *Саландзіць языком* — гаварыць недарэчнае. *Не саландзі языком.* Альхоўка Навагр.

САЛАНЕ'ЧНІК, САЛАНЕ'ШНІК *м.* Сланечнік. *Саланечнікі растуць.* Палік Барыс. *Саланечнікаў поўна ў агародзі.* Глівін Барыс. *Саланечнік расце. Саланешнік вырас.* Рыбчына Віл.

САЛАНІ'НА *ж.* Тое ж, што і с а́ л а І, 1. *Саланіну рэзалі на кавалкі. Слаістая саланіна бывая.* Рыбчына Віл. *Саланіна бывая слаямі. Цяпер саланіну складаюць у яшчык.* Саланое Віл. *Хунты чатыры саланіны давалі.* Латыгаль Віл. *Зверху ў свінні саланіна.* Асавец Віл. *Саланіна са скуркай, а сала ўнутранае.* Сапоцкіна Гродз. *Саланіну вешалі.* Старыя Трокі Трак. *Кумпякі, лапатку і саланіну лепшую вешалі.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

САЛАНІ'НКА *ж. памянш.* да с а л а н і н а. ∇ *Як есць саланінка, то і свінка — гаспадынька.* Вузла Мядз.

САЛА'НКА *ж.* Сальніца. *Саланка даўней называлі, а цяпер — сальнічка.* Рыбчына Віл.

САЛАПА'ЦЬ *незак.* 1. Высоўваць (язык). *Салапаю языком, а асцюк усё далей і далей у рот залазя.* Азяраны Раг. 2. *перан. экспр.* Балбатаць. *А ні салапай ты языкам!* Груздава Паст. 3. *перан.* Палаць (пра агонь). *Салапае соламянь. Дровы загарэлі і салапаюць.* Рудня Астравітая Чэрв.

САЛАПІ'ХА *ж. экспр.* Хто часта высоўвае язык. *Салапі-*

*ха ты! Чаго ты язык вы̆салапіла?* Кіралі Шчуч.; *гл.* с а л а п а́ ц ь.

САЛАПЯ'КА, СОЛОП'Я'КА *м.* і *ж. экспр.* Тое ж, што і с а л а п і х а. *Салапяка — гэта салапяты чалавек.* Альхоўцы Лях. *Такый вжэ солоп'яка — завшы язык навэрху.* Сіманавічы Драг.

САЛАПЯ'ТЫ *прым.* Які часта высоўвае язык. *Салапяты чалавек.* Альхоўцы Лях.

САЛА'ТА *ж. бат.* Салата. *Баба, тут добра салата.* Паляцкішкі Воран. *Салата, як купіна, кучарава.* Пацаўшчына Дзятл. *Редіска, салата, укроп расцець.* Пасіене Лудз.

САЛА'ТКА *ж. памянш.* да с а л а́ т а. *Салатку прынясеце без луку.* Валеўка Навагр.

САЛАТКА'ВЫ *гл.* САЛАДКА'ВЫ

САЛАТЧЭ'ЙШЫ *гл.* САЛАДЧЭ'ЙШЫ

САЛГА'ЦЬ *зак.* Схлусіць. *Ён ні дась салгаць.* Лісна В.-Дзв.; *параўн.* руск. *солгать* 'тж'.

САЛДА'Т, СОЛДА'Т *м.*, САЛДА'ТЫ *мн.* 1. Салдат. *З нашае хаты раніла салдата.* Літва Лях. *У нас салдат стаяла два баке. У хаце спалі салдаты. Вылазяць са сваіх схронаў салдаты. Забракавала салдатам хлеба.* Дарава Лях. *Там, дэ тыі дьві гольшыны росло вынёслы бы на такым скыпчыку, то, росказувалы, в тую войну солдат був забытый.* Сіманавічы Драг. ∇ *Солдат, любы мынэ, куды хоч, выды мынэ.* Сіманавічы Драг. 2. У выразе: *У салдаты* — на ваенную службу. *Дайна націралі ногі казламі* [люцікам], *каб у салдаты не бралі.* Вузла Мядз.

САЛДА'ТКА *ж.* Жонка салдата. *Салдаткі самі ўсё рабілі.* Ёдлавічы Брасл.

САЛДАТНЯ' *зб. ж. экспр.* Салдаты. *У нас салдатня была.* Ахрэмаўцы Брасл.

САЛДА'ЦКІ *прым.* Салдацкі. ∇ *Хлеп, соль і вада — салдацкая яда.* Малі Астр.

САЛЕ'НКА, САЛЁНКА, САЛО'НКА *ж.* Тое ж, што і с а л а́ н к а. *Саленка на соль.* Лісна В.-Дзв. *Салёнкі дзераваянныі былі, як даёнкі.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Салонка, салёнка — соль трымаць.* Ёдлавічы Брасл.

САЛЕ'ТРА *ж. хім.* Салетра. *Перац дабаўляю, часнок, салетру сыплюць.* Чуркі Ашм.

САЛЁНІКІ, САЛО'НІКІ *мн. кулін.* Адвараная ачышчаная бульба. *Салёнікі варыць будзеце?* Стары Свержань Стаўб. *Салёнікі вару.* Масілавічы Сл. *Картопля чысціцца і варыцца — гэто салонікі.* Любішчыцы Івац.

САЛЁНКІ *мн.* Тое ж, што і с а л ё н і к і. *Салёнкі зварыць ім абодвум.* Старое Сяло Зэльв.

САЛІ'ННЫ *прым.* Мажны. *Такая грубая, салінная жанчына.* Валеўка Навагр.; *параўн.* руск. *солидный* 'тж'.

САЛІ́СТКА *ж.* Спявачка. *Двёх нас есць салісткаў.* Валеўка Навагр.

САЛІ́СТЫ I *прым.* Сальны. *Саліста свіня — сальная.* Дакудава Лід.

САЛІ́СТЫ II *прым.* Які вызначаецца мноствам астраўкоў. *Солы на рацэ, салістая рака, каляністая.* Бакшты Іўеў.; *параўн.* літ. *salà* 'востраў'.

САЛІ́ТРА *ж.* Тое ж, што і с а л е́ т р а. *Нада патсыпаць салітру вакрух.* Пераброддзе Міёр.; *параўн.* руск. *селитра* 'тж'.

САЛІТРАВА́ЦЬ, САЛЯТРАВА́ЦЬ *незак.* Угнойваць салетрай. *Кручку яшчэ рана салітраваць.* Багдзюлі Шальч. *На рака забалеў і разная балесць, бо ўсё салятруюць.* Малькуны Ігн.

САЛІ́ЦЬ, СОЛІ́ЦІ *незак.* Саліць. *Соляць сланіну.* Кудзялянцы Шальч. *Апенькі соляць.* Гальшаны Ашм. *А мы масло вашэ нэ солімо, трэбо посоліці.* Смаляніца Пруж.

САЛКО́З, САЛКО́С *гл.* САЎХО́З

СА́ЛО *гл.* СА́ЛА I

САЛО́ДЖАНЫ *дзеепрым.* Пасалоджаны. *Клёцкі і мак салоджаны елі на куцю.* Малі Астр.

САЛО́ДЖАЦЬ *незак.* 1. Рабіць саладжавым. *Саладуху салоджаюць, ставяць у жаратак у печ, там упарыцца, тады кісня, як укісня — гэта раўґеня.* Магуны Паст. 2. Тое ж, што і с а л а д ж а́ ц ь. *Запараная мука салоджая.* Солы Смарг. *Муку кіпятком запарваюць, яна салоджая, цераз ноч яна закісня — і кулага, з пячонымі картоплямі елі.* Кузьмічы Люб.

САЛО́ДЗЕНЬКІ *прым. памянш.* да с а л о́ д к і. *На склонах ягаткі хуценько спеюць, салодзенькія.* Мсцібава Ваўк.

САЛО́ДКА, САЛО́ТКА, СОЛО́ДКО́ *прысл.* Соладка. *Кіпіць вада, прыгаршы мукі заварым і варым саладуху, пакуль салотка станя.* Дакудава Лід. *Што салотка, то і смачна.* Старыя Трокі Трак. *Всып цюкру, будэ соло́дко.* Дзмітравічы Кам. *З мэдом будэ солодко́.* Сіманавічы Драг.

САЛО́ДКІ, САЛО́ТКІ *прым.* Салодкі. *Салоткі гарох.* Стральцы Гродз. *Салоткі яблык.* Ёдлавічы Брасл. *Салоткая раса.* Груздава Паст. *Мілту сырую рабілі: вады ўльеш, мяшаеш, гусцея, і камкі такія ляпілі, ні салоткія, ні горкія.* Гальшаны Ашм. *Я малако салоткае ня п'ю.* Чапаеўскі В.-Дзв. ▽ *Калі салоткі — могуць праглынуць, а горкі — праклянуць.* Саланое Віл.

САЛО́ДНЕНЬКІ *прым. памянш.* да с а л о́ д н ы. *Салодненька каўбаса.* Вострава Маст.

САЛО́ДНЫ *прым.* Салёны. *Салодны кумпяк.* Вялікія Баяры Шчуч. *Як карова цельная, малако салоднае і горкая.*

Мсцібава Ваўк. *Салодна зупа. Салодны суп.* Мсцібава Ваўк. *Салодна скварка. Салодна паляндвіца.* Альхоўцы Лях.

САЛО'ДШЫ *прым. выш.* Саладзейшы. *Кляновы сок салодшы, як бярозавы.* Пацаўшчына Дзятл.

САЛО'МА *ж.* Салома. *Латы па саломе; лата прыкрэпляе салому.* Грыкені Вільн. *Каробка плецена з саломы.* Судэрва Вільн. *Салома ў лошку дубам стаіць. Слалі салому ў ложак, куль саломы пасцеляць.* Вузла Мядз. *Хто с саломы ўмеў сплесці капалюш.* Васілевічы Гродз. *Саломы прывёз.* Чычалі Швянч. *І лубачкі плялі с саломы.* Солы Смарг. *Салома ржаная. Ржаную салому бралі на патсцёл.* Дзяніскавічы Ганц.

САЛО'МАСТЫ *прым.* У якім многа саломы. *Саломасты гной.* Номікі Бабіц.

САЛО'МЕНІК *м.* Сяннік. *Саломенік, а цяпер матрасы.* Пасека Ст.-Дар.

САЛО'МІНКА *ж. памянш.* Саломінка. ▽ *У чужым глазу і саломінка відаць, а ў сваім і браўна ня відзіш.* Вузла Мядз.

САЛО'МШЧЫК *м. царк.* Псаломшчык. *Саломшчык — гэто дзячок.* Стральцы Гродз.

САЛО'МЯНЫ *гл.* САЛАМЯ'НЫ

САЛО'НІКІ *гл.* САЛЁНІКІ

САЛО'НІЦЫ *мн.* Тое ж, што і с а л ё н і к і. *Салоніцы варыла.* Лоск Валож.

САЛО'НКА *гл.* САЛЕ'НКА

САЛО'НЫ, САЛО'ННЫ, СОЛО'НЫЙ *прым.* Салёны. *Салонага ні ела.* Жыдзевічы Іўеў. *Мяса салонага не ўложыш.* Крэва Смарг. *Трэба трыбух памачыць у салонай вадзе і тады мяса напіхаць.* Малі Астр. *Бавая ў каровы малако салона і горка, піць німожна.* Дакудава Лід. *Салонна капуста. Салоны хлеп. Мясо салонае.* Вострава Маст. *Ні мачыла, салоная сялёдка.* Асавец Віл. *Салоны боршч. Трэба бульбы салонай зварыць.* Лоск Валож. *Салоно сала.* Пацаўшчына Дзятл. *Салоны крупнік, парасаліла.* Старыя Трокі Трак., Дзяніскавічы Ганц. *Салоная шчаўя. Масла салоная.* Вецярэвічы Пух. *Жур салонны. Там салонная вада.* Кіралі Шчуч. *Солона рэба.* Дзмітравічы Кам.

САЛО'ТКА *гл.* САЛО'ДКА

САЛО'ТКІ *гл.* САЛО'ДКІ

САЛО'ШЧЫ *прым. выш.* Саладзейшы. *Салочшы за мэд.* Ялова Пруж.

САЛТАСО'Н, САЛТІСО'Н, САЛЬСАСО'Н, САЛЬСЕСО'Н *м. кулін.* Страўнік, начынены вантробамі. *Салтасон — пячонка, ляхкоя, сэрцо, сланіна ў трыбух, сляпую кішку напіхаюць.* Навасёлкі Свісл. *Салтісона порізала на закуску.* Сіманавічы Драг. *Сальсасон зрабілі.* Старыя Смільгіні Воран. *Яна як здзелая сальсесон з печані, лёгкіх, сэрца, касы — ох, як укусна!* Гемзы Шальч.

САЛУЧЫ'ЦІСЕ *зак. экспр.* Уціснуцца. *Дэ ты тут салучыссе, і так тіесно.* Курашэва Чыж.

САЛХО'З, САЛХО'С *гл.* САЎХО'З

СА'ЛЦА *н. памянш.* да с а́ л а I, 1. *І салца ёсць у міне, і здор.* Вецярэвічы Пух.

САЛЫПНУ'ЦЬ *зак.* Успыхнуць (пра полымя). *Салыпнулі дровы і згарэлі.* Рудня Астравітая Чэрв.; *гл.* с а л а п а́ ц ь.

СА'ЛЬКА *ж. буд.* 1. Пакойчык пад дахам. *Салька — пакойчык на гары. Людзі жывуць на сальках. Можна было зрабіць сальку на гары. На хаці салькі. Салька — комнатка на хаці, па вёсках раней не дзелалі.* Жылі Іўеў. *Салька — дзе мяса вешаюць на гарэ. Салька калочкамі абабіта, кап каты не дасталі, дзверцы з палачак здзеланы.* Граўжышкі Ашм. 2. Падстрэшак. *Салькі — перад франктонам: пат страпілы ставілі прагон, ставяцца сталапкі, не прагібнуліся, адзін рад шчапой, гонтамі прагналі.* Скрудалена Даўг.

СА'ЛЬНІК *м.* Кубел для захоўвання сала. *Сальнік прынясі, сала можна складаць, пасаліла яга.* Беразіно Докш.

СА'ЛЬНІ'ЦА *ж.* 1. Тое ж, што і с а́ л ь н і к. *Не хачу я ў са́льніцы гуркі мачыць, няхай яна будзе чыстая для сала.* Мішневічы Шум. *Сало солім, у сальніцы веко, яна кругла.* Мсцібава Ваўк. *Драўняная сальніца была.* Старыя Трокі Трак. *Сальніца на сала.* Быстрыца Астр., Гемзы Шальч., Рудня Астравітая Чэрв. 2. Тое ж, што і с а л а́ н к а. *Сальніца дзераўяная на соль.* Лука Нараўк.

САЛЬНІ'ЧКА, САЛЬНІ'ЦКА *ж.* Тое ж, што і с а л а́ н к а. *Саланка даўней называлі, а сальнічка — цяпер.* Рыбчына Віл. *Для солі сальнічка была.* Солы Смарг. *Сальнічка на соль.* Дакудава Лід. *Калісь бачыла я сальнічку дзеравяную, круглая такая, мусіць, роблена.* Баброўнікі Гарад. *Са́льнічка — дзе соль трымалі.* Гемзы Шальч. *Сальніцка для солі.* Індра Красл.

САЛЬСАСО'Н, САЛЬСЕСО'Н *гл.* САЛТАСО'Н

САЛЭ'НЬДЗІЦЬ *незак. экспр.* Многа, несупынна гаварыць. *Прышоў і салэньдзіць. Мы салэньдзім, седзячы ўдзвёх. Прасалэньдзілі з Генам, ужо пайду, досы салэньдзіць, бо мы гаварым пустыя слава.* Бакшты Іўеў.

СА'ЛЯ *ж.* Зала. *Балота носіця нагамі па ўсёй салі.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* польск. *sala* 'тж'.

САЛЯВІ'К *м.* Мех з-пад солі. *У вас капаецца картошку ў салявікіе.* Баброўнікі Гарод.

САЛЯВЫ' *прым.* Салявы. *Сажу збіралі ў салявы мех і маткі фарбавалі.* Вузла Мядз.

САЛЯДО'РШЫ *гл.* СЕЛЯДО'РШЫ

САЛЯДЫНО'ВЫ *прым.* Светла-зялёны (пра колер). *Хустку салядынову купіла.* Мсцібава Ваўк. *Салядыновыя лісточкі.* Кіралі Шчуч.

САЛЯДЭ′РА *ж. бат.* Сырадэля. *Салядэру, канюшыну сеялі на корм.* Дзераўное Стаўб. *Палавіна вёскі салядэру пасееўшы велькі кусок.* Альхоўка Навагр. *Салядэра добра на корм.* Малахоўцы Бар.

САЛЯДЭ′РАК, САЛЯТЭ′РАК *м.* Сподак. *Салядэрак — сподак. Салятэрак — мама называла сподак, блюдца.* Кураполле Паст.

САЛЯ′НАЧКА *ж. памянш.* да с а л я́ н к а. *У салыначкі соль.* Індра Красл.

САЛЯ′НКА *ж.* Тое ж, што і с а л а́ н к а. *У салянца соль.* Магуны Паст. *У салянцы соль, на стале яна.* Навасёлкі Лід. *Салянка для солі.* Мярэцкія Глыб., Малахоўцы Бар., Жодзішкі Смарг., Калясное Міхал. *Салянкі былі для солі.* Стральцы Гродз. *У салянку соль сыпалі.* Беразіно Докш. *Салянкі драўляныя былі.* Завельцы Астр. *У салянцы соль.* Мсцібава Ваўк. *У міне і ціпер дзеравянная салянка вісіць с соллю.* Лапічы Асіп. *Салянка на той старане вісіць.* Навікі Лудз.

САЛЯ′РКА *ж. тэх.* Салярвае масла. *Салярку возіць, запраўляе трактара.* Пацаўшчына Дзятл.

САЛЯТРАВА′ЦЬ *гл.* САЛІТРАВА′ЦЬ

САЛЯТЭ′РАК *гл.* САЛЯДЭ′РАК

САЛЯ′ЎЧЫК *м.* Тое ж, што і с а л я в і́ к. *У саляўчыку раней была соль.* Жодзішкі Смарг.

САМ *м.*, САМА′ *ж.*, САМО′ *н.*, СА′МІ, СА′МЫ(Э), СА′МЫЯ (ЭЯ) *мн. займ.* 1. Абазначае таго (тых), хто дзейнічае без удзелу іншых. *Я сам на гэту хату вазіў лес.* Грыкені Вільн. *Ты ўсё сам на сабе клянеш.* Канюкай Вільн. *Пуўмісок сам побівсе. Хвороба сама пройшла.* Курашэва Чыж. *Я сама мушу зрабіць.* Малі Астр. *Я трэцяму сама буду шыць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Нада ўсё самой, адымі рукамі.* Кіралі Шчуч. *Самы радзіліся.* Малі Астр. *Самы ляглі спаць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Самы пасвілі жывіну.* Каўняны Гродз. *Мы самы зробім.* Старое Сяло Зэльв. *Самы пячом, самы зрабілі.* Альхоўцы Лях. *Самыя зробім бэз цябе. Мы самі слухалі.* Паляцкішкі Воран. *Самыя шылі коўдры, гаці, кліны ўстаўлялі ў гаці.* Кудзялянцы Шальч. *Самэя пралі і ткалі.* Старыя Трокі Трак. 2. Пры адмоўі ўказвае на немагчымасць ажыццяўлення дзеяння. *Сама рыба ў хату не лезіць. Нічога само не прыдзецъ у рукі. Ня могуць самі ўкараць дзеці.* Кіралі Шчуч. 3. Указвае на тоесныя адносіны: таксама, як і іншыя. *Кашулі мы самыя насілі кужэльныя.* Быстрыца Астр. *У нас самых ток у сенях.* Альхоўцы Лях. 4. Указвае на самотны стан, адзіноцтва. *Сам адзін жыве.* Старыя Смільгіні Воран. *Буцце самы, а я пайду.* Мсцібава Ваўк. *Ціела сім'я вымерла, а вуон маленькі сам оставсе.* Курашэва Чыж. *Я сама старая.* Дзераўное Стаўб. ∇ *Сам не гам і другому не дам; хай прападзець, а не дась.* Вуз-

ла Мядз. *Сама на сябе паглядзі і людзей не судзі.* Кураполле Паст. ◇ *Сам сабой, сама сабой, сама па сабе (собе), самі (самы) сабой* — адзін, адна, асобна, паасобку. *Ён сам сабой жыве.* Малі Астр. *Сама по собе жыла так.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Я ехала сама сабой, ты мне непатрэбны.* Малі Астр. *Бацькі самі па сабе жылі. Дайней у яго хату саберуцца: старыя самы сабой, а маладыя самы сабой цэлую ноч сідзяць.* Ахрэмаўцы Брасл. *У мяліцы тры дошчачкі, а паверсе вярхнік, ён сам па сабе.* Дзераўное Стаўб. *Самі сабой* — адзін з адным. *Калісьці два салдаты прышлі і ўзяліся страляцца самі сабой.* Чапаеўскі В.-Дзв. *Сам собіе вінён* — толькі сам вінаваты. *Сам собіе вінён — і церпіт з-за гэтого.* Курашэва Чыж. *Сам (сама) с сябе (праз сібе)* — самастойна, без дапамогі. *Сам с сябе навучыўся рабіць печы.* Збляны Лід. *Сама праз сібе пісаць і чытаць выўчылася.* Руднікі Шальч. *Сама па сабою* — без дадатковых захадаў. *Як рыбу ў гарачую духоўку — яна высахня сама па сабою.* Замошша Брасл. *Сам сабе* — для сябе. *Сам сабе кожды сеяў лён.* Васілевічы Гродз. *Сабе пан* — незалежна ад іншых. *Я жыву сабе пан, пакуль не памру.* Дзераўное Стаўб. *Ён сам сабе хазяін.* Малыя Аўцюкі Калінк.

САМАВА'Р, СУМУВА'Р *м.* Самавар. *Былі далі самавар сярэбраны.* Дзераўное Стаўб. *Сумувар распалі!* Ухвала Круп.

САМАВО'ЛЬНІК *м.* Свавольнік. *Самавольнік ты, шалун.* Рудня Астравітая Чэрв.

САМАДЗЕ'Л *м.*, САМАДЗЕ'ЛЬ *ж.* Даматканае сукно, палатно. *Самадзел — сама ткала. Самадзел — і посцілкі, і ручнікі, дываны.* Солы Смарг. *Самадзел — самі ткалі сукно.* Грыкені Вільн. *Была надзета сваей самадзелі жакетка.* Саланое Віл.

САМАДЗЕ'ЛАК *м.* Тое ж, што і с а м а д з ё л. *Самадзелак — з адной воўны ткалі.* Швэды Вільн.

САМАДЗЕ'ЛЬНЫ *прым.* 1. Самаробны. *Сані с палазоў былі самадзельныя, гнутыя палазы.* Альхоўка Навагр. *Самадзельная прасніца, самадзельны калаўрот.* Слабада Мін. 2. Даматканы. *Самадзельныя пялёнкі не дапускаюць вогніка.* Індра Красл. *У мяне самадзельныя ёсць ручнікі.* Вузла Мядз.

САМАДЗЕ'ЛЬСКІ *прым.* Тое ж, што і с а м а д з ё л ь н ы 2. *На льняном самадзельскум люблю спаць.* Пацаўшчына Дзятл.

САМАДЗЯЛКО'ВЫ, САМАДЗЯЛО'ВЫ *прым.* 1. Тое ж, што і с а м а д з ё л ь н ы 1. *Ё ў мяне самадзялковы дымар.* Рудня Чэрв. *Самадзяловыя макароны я вару.* Кіралі Шчуч. 2. Тое ж, што і с а м а д з ё л ь н ы 2. *Самадзялковая пачасная посцілачка.* Мярэцкія Глыб. *Самадзялковую спадніцу, сукенку насіла.* Лоск Валож. *Самадзялковыя ручнікі.* Лапі-

чы Асіп. *У яе ашчэ просціны ёсць самадзяловыя.* Пацаўшчына Дзятл. *Самадзяловы дыван у восем нічальніц — колдра такая, патыканая сукном.* Навасёлкі Свісл.

САМАДЗЯЛО'ЎЁ *зб. н.* Самаробныя рэчы. *Дзяравяны ложак — самадзялоўё ўсё.* Малахоўцы Бар.

САМАДУ'Р *м.* Самадур. *Які самадур, яго выправілі, не хацелі, кап ён гэту дзеўку браў.* Завельцы Астр.

САМАЗЯЛЁНКА *ж. бат.* Парушэнец. *Самазялёнка ад парушэння. Самазялёнка — корні ад жывата.* Саланое Віл. *Самазялёнка — ад падыму, ад жывата, як у грушы лісточкі, не цвіце.* Бакшты Іўеў.

САМАЙЛУ'К, САМАЛУ'К *м.* 1. Аснова драўлянай бараны. *Самайлук — аснова бараны: тоненькі дубок і гнуць да зямлі. Трэба самайлук на барану сагнуць. Самайлук панёс на барану.* Азяраны Раг. 2. *перан.* Хто няўмелы. *Што ты за самайлук?! Самайлук, ці самалук,— хто не ўмее нічога рабіць, няўмека.* Вецярэвічы Пух.

САМАКІ'ША *ж.* Сыракваша. *Самакішу аттапі! Самакішы ўлей, з бульбай смашна есць! Як аттопіш самакішу, палучыцца густыш.* Мачаск Бярэз.

САМАЛАРЭ'СКА *ж.* Тое ж, што і с а л а м а р э́ з к а. *Самаларэску купялі рэзаць салому.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

САМАЛЁТ *м.* Самалёт. *Нямецкія самалёты як наляцелі, людзі лятуць па кустох.* Вузла Мядз.

САМАЛЁТНЫ *прым.* Які мае дачыненне да самалёта. *Самалётная плашчатка.* Ахрэмаўцы Брасл.

САМАЛЁТЧЫК *м.* Лётчык. *Самалётчыкі ў нас стаялі, поля пасыпалі.* Палік Барыс.

САМАЛУ'К *гл.* САМАЙЛУ'К

САМАЛЮ'БЕЦ *м.* і *ж.* Сябелюбец. *Самалюбец такі, не падступішся да яго.* Валеўка Навагр.

САМАЛЮ'БНІК *м.* і *ж.* Тое ж, што і с а м а л ю́ б е ц. *Самалюбнікі — такія людзі.* Старыя Трокі Трак.

САМАНІ'ЦА *ж.*, СА'МАНЫ *мн. бат.* Мох. *Саманіца там расцець. Грыбы па саманах растуць.* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. *sãmanos* 'тж'.

САМАПА'Ш *прысл.* Самапасам. *Карова ходзіць самапаш.* Жылі Іўеў.

САМАПРА'ДКА, САМАПРА'ТКА, САНАПРА'ТКА *ж.* Калаўрот. *На самапратку пралі.* Малахоўцы Бар. *Санапратка — прасці.* Рудня Астравітая Чэрв.

САМАПРА'ЎЦАМ *прысл.* Самаўпраўна. *Яна самапраўцам пойдзе на вяселя.* Парэчча Гродз.

САМАПРА'ХА *ж.* Тое ж, што і с а м а п р а́ д к а. Пасека Ст.-Дар.

САМАРА'ДНЫ *прым.* Самастойны. *Ты самарадная, сама сабе раду даеш.* Кураполле Паст.

САМАРО'ДНЫ *прым.* Прыродны, натуральны. *Самародныя, кучарявыя валасы.* Мішневічы Шум. *Канава самародная да возера працякала.* Месянцы Брасл.

САМАРО'СЛЫ *прым.* Самародны. *Самарослыя палазэ, іх капалі.* Кіралі Шчуч.

САМАРУ'ЧКАЙ у знач. *прысл.* Уручную. *Самаручкай некалі ткалі.* Вецярэвічы Пух.

САМАРЭ'ЗКА *ж.* Саламарэзка. *Самарэзка — салому рэзаць.* Валеўка Навагр.

САМАСА'ДКІ, САМАСА'ТКІ *мн.* Кураняты, якія вывеліся без квактухі. *У мяне кураняты самасаткі.* Багушэвічы Бярэз.

САМАСЕ'Й *м.* Самасей. *Як самасей, так і ёсць самасей, такі мак, сеіцца сам.* Завельцы Астр.

САМАСЕ'ЙКА *ж.* Тое ж, што і с а м а с е́ й. *Самасейка гэты табак.* Мярэцкія Глыб. *Табака была самасейка.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Самасейку-макоўнік выраваю вон.* Пасіене Лудз.

САМАСЕ'ЙКІ *мн.* Тое ж, што і с а м а с а́ д к і. *Мае кураняты самасейкі.* Пасека Ст.-Дар.

САМАСЕ'Ў *м.* Тое ж, што і с а м а с е́ й. *Самасеў-мак — што сам сабой сеіцца.* Лука Нараўк.

САМАСТРЭ'Л *м. пал.* Самастрэл. *На самастрэл папаў звер.* Сонічы Гродз.

САМАТКА'ЛЬНЫ *прым.* Тое ж, што і с а м а д з е́ л ь н ы 2. *Давалі* [ў пасаг] *падушкаў, дзяругаў саматкальных.* Чуркі Ашм. *Саматкальная бяллё ў залу клалі — і на крыніцу, штоб залу прянікам адбіць.* Навікі Лудз.

САМАТКА'НІК *м.* Спадніца з даматканага палатна. Рудня Астравітая Чэрв.

САМАТКА'НКА *ж.* Тое ж, што і с а м а т к а́ н і к. *Еслі са льна шылі — саматканка, а з воўны — андрак.* Ухвала Круп.

САМАТКА'НЫ *прым.* Тое ж, што і с а м а д з е́ л ь н ы 2. *Саматканая пасцілёнка, паслала і села.* Груздава Паст.

САМАТУ'ГАМ *прысл.* Без дапамогі цяглавай сілы. *Саматугам цягая саху. Саматугам дровы цігала з-за рэчкі.* Саланое Віл. *Саматугам ганяюць, плужок такі ёсць.* Мярэцкія Глыб. *Пасля вайны саматугам вазілі жыто с поля.* Міратычы Карэл.

САМАУ'ЧКА *ж.* і *м.* Самавук. *У нас самавучка поп, раней у кузні рабіў.* Збляны Лід. *Я самаучка. Мы в школу не хадзілі, мы самаучкі.* Рагулішкі Даўг.

САМАХО'Д, САМАХО'Т, САМОХО'Д *м.* Легкавы аўтамабіль. *Самаходам цяперака ездзям.* Малькуны Ігн. *Пара чоловіек в нашуом сэліе самоходы собіе покуплялі.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *samochód* 'тж'.

САМГНУ'ЦЬ *гл.* САМКНУ'ЦЬ

САМЕ'Ц *м.* Самец. *Самец і саміца.* Сапоцкіна Гродз. *Са-*

*мец і самка*. Кіралі Шчуч. *Цецярук самец — чорны, хвост, пер'е кручком*. Замошша Брасл.

САМІ'ЦА *ж*. 1. Самка. *Саміца лася — ласіха*. Дакудава Лід. *Самец і саміца быле ў якіх жывін*. Сапоцкіна Гродз. *Труска — саміца труса*. Чуркі Ашм. *Саміца зайца*. Семежава Кап. 2. Галоўны корань у дрэве. *Саміца — галоўны корань у хвоі, яблыні*. Парэчча Гродз.

СА'МКА *ж*. Тое ж, што і с а м і ц а 1. *Гэта самец, а гэта самка*. Кіралі Шчуч. *Гэта ліса — самка*. Мярэцкія Глыб., Рудня Астравітая Чэрв. *Самка цецярука серанькая, быта пёрушка жоўтыя*. Замошша Брасл.

САМКНУ'ЦЬ, САМГНУ'ЦЬ *зак*. Сплюшчыць, заплюшчыць. *Які мой сон быў — самкнула трошкі вочы*. Вузла Мядз. *Ні самгнула і ачыма*. Дзяніскавічы Ганц.; *параўн*. руск. *сомкнуть* 'тж'.

САМНАЖА'ЦЬ *незак*. Павялічваць. Дакудава Лід.

САМНУ'ЦЦА *зак*. Памяцца. *Трэба біць, покуль не самнецца салома*. Вецярэвічы Пух.

СА'МО *часц*. Сама. *Цяпер само сон*. Навасёлкі Свісл. *Само тыпэр трэба згрыбсты сіно, бо взавтра хлопці поідуть і ны будэ кому поможты*. Сіманавічы Драг.

САМОДІЕ'ЛКА *ж*. Даматканае палатно. *Пэрэд войною готовоі матэрыі мало куплялі, почті всё шылі с самодіелкі*. Курашэва Чыж.

САМОЛЮБІ'ВЫ *прым*. Самалюбны. *Такі самолюбівы, оно сам сэбэ любіт*. Курашэва Чыж.

САМОЛЮБІ'ВЭЦЬ *м*. і *ж*. Тое ж, што і с а м а л ю́ б е ц. *Брытко быті самолюбівцём*. Курашэва Чыж.

САМОСЕ'І *мн*. Каласы, якія трапілі ў камель снапа. *Хозяйка пагано жала, колькі самасееў у гузырах*. Малыя Аўцюкі Калінк.

САМО'ТНЫ *прым*. Адзінокі. *Самотны чалавек*. Калясное Міхал.

САМОТУ'ШКІ толькі *мн*. Невялікія санкі. *Самотушкамі поіехав до міеста*. Курашэва Чыж.

САМОХО'Д *гл*. САМАХО'Д

САМТУ'К *м*. *заал*. Апалонік. *Самтукі пераменяюцца на жабу*. Старыя Смільгіні Воран.; *параўн*. літ. *samtùkas* 'тж'.

САМУ'ТКІ *займ*. Самы. *Аўтобус падходзіў пад самутку хату*. Валеўка Навагр.

САМУ'ТКО *прысл*. Асобна. *Усе па дзвёх ці па трох жнуць, а яны адным-адны жнуць. Гэдак самутко, як і на сваё ходзяць*. Тупічаны Ваўк.

САМЧУ'К *м*. Тое ж, што і с а м е́ ц. *Рыба ідзе на нэраст на плыткія мяста, самчукі-малачакі праганяюць адзін другога*. Быстрыца Астр.

СА'МЫ *займ*. 1. Указвае на крайнюю ступень чаго-н.

(якасці, месцазнаходжання, часу). *Абчасаў сама групша бервяно.* Гальшаны Ашм. *Келбукі — сама грубкая рыба.* Старыя Трокі Трак. *Ведравік — само меншэ барылка.* Судэрва Вільн. *Самае поўнае* [пра поўню]. Беразіно Докш. *Парцізанства ў нас было самае.* Беразіно Докш. *У скурэ самы жыр, самы смак. Перад самым днём заснула.* Ахрэмаўцы Брасл. *Азярко Ставак каля самай Судэрве.* Грыкені Вільн. *Самым вечарам ён кажа: «Троха злягчэла».* Гемзы Шальч. 2. Найбольш характэрны для пэўнага часу. *Цяпер сама поўня.* Навасёлкі Лід. 3. Найбольш падыходзячы. *А тут ёй самая хатка.* Ахрэмаўцы Брасл. ◇ *Той самы, такі самы* — вельмі падобны ці ідэнтычны. *І ў маткі адно і тое самае.* Кіралі Шчуч. *Застаранка — тая сама загаратка.* Гальшаны Ашм. *Вэрнувсе на тое самэ міесце. Ходів, ходів і на тое самэ міесце прышов. Купів другого коня, почті такі самы, як той, што продав.* Курашэва Чыж.

САНАЖА́ТКА *ж. памянш.* да санажáць. *На канцы была санажатка, называецца аселіца.* Солы Смарг. *Мая санажатка.* Магуны Паст.

САНАЖА́ЦЬ, СЕНАЖА́ЦЬ *ж.* Сенажаць. *Санажаць — выган, дзе пасуць і косяць.* Паляцкішкі Воран. *Ванжоўнік на санажацях. У Гальшанах саўсім німа санажаці. Бялілі* [палатно] *па санажацях.* Гальшаны Ашм. *Па санажаці разныя цвяточкі.* Плябанцы Ашм. *Пойдзям санажаць касіць. Чысцяць санажаць ад кустоў.* Жодзішкі Смарг. *Былі на санажаці. Па санажацях сена сушаць.* Солы Смарг. *На санажаць пашоў.* Стральцы Гродз. *Прошлы гот санажаць уся залягла на балоце.* Навасёлкі Лід. *Лён слалі на полі, санажацях.* Дакудава Лід. *Санажаць пашлі касіць.* Кіралі Шчуч. *Уперат санажаць у нас была.* Вялікія Баяры Шчуч. *У нас на санажаці была вада, і мачылі каноплі, а лён мы не мачылі. Сенажаць у нас, а лугі пры Велы.* Завельцы Астр. *Каб мне санажаць як скасіць.* Дэгшні Шальч. *Збіраяш шчаўя на панскай санажаці і баісся пана.* Слабада Мін. *Сухая санажаць. Конь ходзя на санажаці.* Рыбчына Віл. *Санажаць ні высыхая, там вада стаіць.* Быстрыца Астр. *Санажаць — дзе косяць.* Лоск Валож. *Санажаць зеляна. Згроп санажаць. Санажаць — лашчына і грут — санажаць, на грудзі, у лашчыні.* Альхоўка Навагр. *Слядамы дзеляць санажаць на дзялкі.* Ракаўскія Швянч. *Санажаць между палёў.* Дзяніскавічы Ганц. *Санажаць разаралі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Адвёў дзялянку ў леся пиліць ці на санажаці дзялянку касіць.* Магуны Паст. *Сенажаць пакасілі.* Галоўні Воран. *Едзя ў сенажаць.* Жылі Іўеў. *Сенажаць, уборка хлеба.* Буды В.-Дзв.

САНАКО́С *гл.* СЕНАКО́С

САНАПРА́ТКА *гл.* САМАПРА́ДКА

САНАПРЯ́ЛКА *ж.* Тое ж, што і самапрáдка. *Сана-*

*прялка пішчыць, грыміць, а ліжак — ня чутна, што круціш.* Мішневічы Шум.

САʹНАЧКІ, САʹНЯЧКІ толькі *мн. памянш.* да с а́ н к і І. *Саначкі малые.* Судэрва Вільн. *На саначках ехаў.* Навасёлкі Свісл. *С прыгорка катаемса саначкамі.* Парэчча Гродз. *Таловыя санячкі зробяць.* Альхоўцы Лях.

САНДАʹЛІКІ *мн. памянш.* да с а н д а́ л ы́. *Дзяцём купялі сандалікі.* Завельцы Астр.

САНДАʹЛЫʹ, САНДАЛЭʹ, САНДАʹЛІ *мн.* Сандалі. *Абуй ношкі, санда́лы там стаяць.* Навасёлкі Лід. *Санда́лы купіла.* Стральцы Шальч. *Дзе мае санда́лы?* Гемзы Шальч. *Люблю санда́лы — як у пастолях.* Хатынічы Ганц. *В сандала́х на місто ходыла.* Сіманавічы Драг. *Уступлюся ў сандалэ.* Вялікія Баяры Шчуч. ◇ *Адкінуць сандалі* — памерці. *Яна чуць сандалі не адкінула.* Валеўка Навагр.

САʹНІ толькі *мн.* Сані. *Сані лічуцца рабочыя, а санкі — выхадныя. Санкі большыя за сані.* Судэрва Вільн. *Сані вялікія.* Чычалі Швянч. *Гокты ў санях, перад у санях.* Малі Астр. *У санях палазы, зовяцца два палаза.* Скрудалена Даўг.

САНІТАʹР *м.* Ветэрынар. *Трэба ісці да санітара, нешта карова захварэла.* Гемзы Шальч.

САʹНКІ І, САʹНЬКІ толькі *мн.* Тое ж, што і с а́ н і. *Спінкі такія ў санках выгіністыя. Санкі былі на два лошадзі.* Васілевічы Гродз. *Сані лічуцца рабочыя, а санкі — выхадныя. Санкі — выхадныя, такія пакрашаныя. Санкі ўжо аджываюць.* Судэрва Вільн. *Санкі маленькія.* Чычалі Швянч. *Дрова на санькох павёс.* Альхоўцы Лях. *Санькі робяць.* Руднікі Шальч. *Шэсь мехаў картошак санькамі прывезлі.* Малыя Аўцюкі Калінк.

САʹНКІ ІІ, САʹНЬКІ толькі *мн. анат.* Ніжняя сківіца. *Гузак у мяне пад санкамі. Санкаў уклала варыць.* Ракаўскія Швянч. *Выбіў табе санкі.* Саланое Віл. *Санкі, ці пашчэнкі.* Мярэцкія Глыб. *Санкі вывіхнуў.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Яму ж санкі выбілі. Санькі скруціла.* Бакшты Іўеў. *Санькі — у чалавека.* Рыбчына Віл. *Шчэляпі — у свінні, санькі — у чалавека.* Асавец Віл.

САʹННАЯ *ж.* у знач. *назоўніка.* Снежная дарога. *Тогды санная, як дужо сніегу і можна санкамі ездіті. Сніег е — санная добра, пропав сніег — і санноі нэма.* Курашэва Чыж.

САʹННАЯ ДАРОʹГА *ж.* Тое ж, што і с а́ н н а я. *Дарога санная, як нападае снег.* Баброўнікі Гарад.

САНЮʹГА, САНЮʹКА, СОННЮʹГА *ж.* і *м.* Хто любіць многа спаць. *Санюга якая, яшчэ спіць! Санюка якая!* Мiратычы Карэл. *Гэтой соннюга й шэ спыть.* Сіманавічы Драг.

САʹНЯЧКІ *гл.* САʹНАЧКІ

САП І *м.* 1. Багна. *Сап — бальшы, здуха на балоця.* Мі-

ратычы Карэл. 2. Нізкае месца. *Тут кепська зэмля, сап самы, ніц нэ ростэ.* Курашэва Чыж.

САП II *м. вет.* Сап (конская хвароба). *Сап — страшная хвароба: як захварэе конь і доктар збадае, што сап, то выведуць на поля і страляюць.* Гемзы Шальч.

САПАЛА′ЦЬ *зак.* Апалаць. *Сапалаць — падсеіць на паланачках. Пайдзём натаўчом куцці, сапалаям.* Тухавічы Лях.

СА′ПАЛКА *ж. экспр.* Нос. *Дастаў па сапалцы.* Сакаляны Сакол.

САПА′ЛЬНАЯ ГО′РЛА *н. анат.* Дыхальнае горла. Быстрыца Астр.

САПА′НЯ *н. мед.* 1. Дыхавіца. *Ён сапаня меў.* Руднікі Шальч. 2. Дыханне. *Сапаня плахоя ў мяне.* Руднікі Шальч. *Сапаня брак, духу брак — падуфала.* Быстрыца Астр.; *парайн.* польск. *sapanie* 'сапеннė'.

САПА′ЦЬ *незак.* Тое ж, што і с а л а п а́ ц ь 3. *Уставай, дровы пачынаюць сапаць!* Стральцы Гродз. *Поламя сапае.* Номікі Бабіц.

САПЕ′ЦЬ *незак.* Са́пці. *Сталі сапець. Я саплю. Ён сапіць. Яны сапяць, сапуць.* Ёдлавічы Брасл.

САПІ′ЦЦА *зак.* Спіцца. *Каб не сапіліся болей, хай не п'юць.* Пацаўшчына Дзятл.

САПКІ′ *прым.* Сопкі. *Сапкая бульба.* Гемзы Шальч.

САПЛІ′, СОПЛЕ′ *мн.* 1. Соплі. *Саплі вісяць з носу.* Ракаўскія Швянч. *Што ты распусціў сваё саплі?!* Лісна В.-Дзв. *Сопле тэкут з носа.* Азарычы Пін. 2. Ледзяшы. *Саплі замерзлі. Адламіўся сапель.* Малькуны Ігн. *Саплі с крышы вісяць доўгія, як палкі.* Ракаўскія Швянч. *Саплі намёрзшы.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

САПЛЮ′К *м. заал.* Ёрш. *Саплюкі колкія, стадамі ходзяць, выцягнеш — увесь у вазграх.* Азяраны Раг.

САПЛЯКІ′, САПЛЯКЕ′ *мн.* 1. Тое ж, што і с а п л і́ 1. *Сапляк цячэ з носу. Сапляке цякуць.* Парэчча Гродз. ∇ *Сырыя яйка, як сапляке.* Парэчча Гродз. 2. Тое ж, што і с а п л і́ 2. *Дзеці смокчуць сапляк.* Гемзы Шальч. *Сапляк вісіць. Саплякі да долу вісяць.* Дзяніскавічы Ганц. *Звісаюць саплякі са стрэхаў.* Навасёлкі Лід. *Саплякі вісяць.* Навасёлкі Свісл. *Адліга, саплякі вісяць пры стрэхах, ячмень трэба такім годам сеяць, будзя ўмалотны.* Старыя Смільгіні Воран. *Саплякі са стрэх вісяць.* Ёдупка Шальч. *Саплякі звісаюць, дзеці іх любяць.* Жодзішкі Смарг. *Саплякі вісяць, намерзла.* Асавец Віл. *Марозу німа, саплякі замерзнуць на стрэсе. Саплякі — лёд, які звісае са стрэх.* Пасека Ст.-Дар. *Сапляке вісяць.* Стральцы Гродз. *Звісаюць с стрэхі сапляке. Сапляк вісіць.* Вялікія Баяры Шчуч. *Сапляке са стрэх звісаюць.* Пацаўшчына Дзятл. *Сапляке вісяць пасля адлегі.* Малахоўцы Бар.

САПНУ′ЦЬ *зак.* 1. Дыхнуць. *А ні сапнуць, а ні дахнуць*

*ні магу.* Быстрыца Астр. 2. *перан.* Задрамаць. *Пайду сапну троха.* Жылі Іўеў.

САПО'ЖНІК *м.* Шавец. *Франук быў харошы сапожнік. Ён быў сапожнікам.* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* руск. *сапожник* 'тж'.

САПО'ЖНІЧАЦЬ *незак.* Займацца шавецтвам. *Сапожнічаў зімой, а летам работаў на полі.* Петкуны Брасл.; *параўн.* руск. *сапожничать* 'тж'.

САПО'РАК *м.* Нагар у курэцкай люльцы. *Навялося сапорку, нада люльку пачысціць.* Старыя Трокі Трак.

САПРЫТНУ' *прысл.* Спрытна. *Ні варочай, бяры сапрытну.* Стральцы Гродз.

САПРЭ'ЦЬ *зак.* Згнісці. *Сапрэла сена.* Кураполле Паст.

САПСАВА'ЦЬ *зак.* Сапсаваць. *Похва зламаласа, акуляры можна сапсаваць.* Номікі Бабіц. *Сапсаваў агарод.* Кіралі Шчуч.

САПСУ'ЦЦА *зак.* Сапсавацца. *Сапсулася піла, як доскі рэзалі.* Малі Астр.

САПСУ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і с а п с а в а́ ц ь. *Не так пашыла дзве кашулі — сапсула.* Малі Астр.; *параўн.* польск. *zepsuć* 'тж'.

САПУТЭ'РНЯ *ж. экспр.* Мажная жанчына. Вялікія Нястанавічы Лаг.

САПУ'ЦІЦЬ *зак. экспр.* Запомніць. *Я ні сапучу, ні.* Буды В.-Дзв.

САПХНЁНЫ *дзеепрым.* Напханы. *Мяса ў клундзюк сапхнёна.* Малі Астр.

САПХО'З *м.* Саўгас. Паляцкішкі Воран.

САПЦІ', СОПТЫ' *незак.* 1. Тое ж, што і с а п е́ ц ь. *Той конь сапе.* Кухты Віл. *Сапуць тыя коні.* Барок Стаўб. *Стаў у нос сапці і сапе.* Кіралі Шчуч. *Стаў сапці. Я саплю. Ён сапіць. Мы сапём. Вы сапіце і яны сапуць.* Мярэцкія Глыб. *Стаў сапці. Я сапу і ён сапе.* Рыбчына Віл., Рудня Астравітая Чэрв. *Такі гарачы, аж сопэ.* Горск Бяроз. ∇ *Сапе, як гусь.* Лоск Валож. *Сапе, як мех кавальскі.* Мсцібава Ваўк. 2. Дыхаць. *Як удыхая і выдыхая—то сапе.* Вялікія Баяры Шчуч. *Я сапла дух ад сябе.* Гемзы Шальч. *Дулькі забіваюць дух, німа як сапці.* Мсцібава Ваўк. *Сапе цяжка.* Паляцкішкі Воран. *Чалавек сапе.* Номікі Бабіц. *Яна лёхка сапе, лёганько-лёганько, ужо паправілася.* Вецярэвічы Пух.

САРАВА'ТКА *гл.* СЫ'РАВА'ТКА

САРАВА'ТЫ *гл.* СЫРАВА'ТЫ

САРАДО'Й *гл.* СЫРАДО'Й

САРА'Й, САРЭ'Й *м.* Хлеў. *Сараі падзеланы на стаўбах.* Лісна В.-Дзв. *У сарэй шумку* [салому] *сабрала.* Малыя Аўцюкі Калінк.; *параўн.* руск. *сарай* 'тж'.

САРАКАВІКЕ' толькі *мн.* Рэлігійнае свята, якое адзна-

чаецца 9 сакавіка ст.ст. *Саракавіке — пад вялікадня, калі мароз, то сорак марозаў, як водліга, то не будзя марозаў.* Кіралі Шчуч.

САРАКАВІ'НЫ толькі *мн.* Памінальны абрад па нябожчыку праз сорак дзён пасля яго смерці. *Саракавіны спраўлялі па бацьку, сорак дзён пасля смерці.* Вострава Маст. *Саракавіны послі шасці нядзель.* Міратычы Карэл. *Яго пярун чуць не забіў, і аглушыла яго, як ехалі на саракавіны.* Кіралі Шчуч.

САРАКАНО'ГА *ж. заал.* Сараканожка. *Сараканога — сорак ног у яе.* Пасека Ст.-Дар.

САРАКАНО'ЖКА, САРАКАНО'ШКА *ж.* Тое ж, што і с а р а к а н о́ г а. Мярэцкія Глыб., Рыбчына Віл., Рудня Астравітая Чэрв.

САРАКВА'ША *гл.* СЫРАКВА'ША

САРАКІ' толькі *мн.* Тое ж, што і с а р а к а в і к е́. *Саракі — не свята, расаду сеют.* Лука Нараўк. *На саракі сорак вырай прылятаіць.* Глыбокае Віц. вобл. *Дзесятага марца саракі — гэта с цёплых старон прылятае сорак птушак.* Завельцы Астр. ∇ *На саракі пагоне снех да ракі.* Рыбчына Віл.

САРАКО'ЎКА *ж. устар.* Манета вартасцю ў дваццаць капеек. *Саракоўка — дваццаць капеек.* Вецярэвічы Пух., Семежава Кап. *Саракоўка — дваццаць капеёк.* Тухавічы Лях.

САРАМА'ЗЛІВЫ *прым.* Сарамлівы. *Сарамазлівы ён.* Номікі Бабіц.

САРАМАТА' *ж.* Патаемныя часткі цела. *Чалавек стаіць голы, відна ўся сарамата.* Малыя Аўцюкі Калінк.

САРАМА'ЦІЦЬ *незак.* Сароміць. *Мама, не сарамаці нас.* Вецярэвічы Пух.

САРАМЯ'ЖЛІВЫ, САРАМЯ'ЗЛІВЫ *прым.* Тое ж, што і с а р а м а́ з л і в ы. *Ён плохі: няадважны, сарамяжлівы.* Малахоўцы Бар. *Сарамязлівы хлапец.* Альхоўцы Лях.

САРАМЯ'ЖЫ *прым.* Тое ж, што і с а р а м а́ з л і в ы. Пасека Ст.-Дар.

САРАПО'НЯ *ж.* Тое ж, што і с а м а к і́ ш а. *Сарапоня — як малако пракісніць. Сарапоні наліла.* Кураполле Паст. *Сарапоні ні давала.* Валынцы В.-Дзв.; *параўн.* літ. *pienas* 'малако'.

САРАФА'Н *м.* Сарафан. *Сарафаны без рукавоў.* Ахрэмаўцы Брасл. *Сарафан з брунцікам* [хлясцікам]. Завельцы Астр.

САРАЧНЯ', САРАШНЯ' *ж. устар.* Сорак штук чаго-н. *Як лён церлі — сорак павесьмяняў натрэ, то кажа: «Я сарачню нацерла»; павесьмянё — дзве жмені, як абняць.* Старое Сяло Зэльв. *Сарачня — сорак снапоў.* Ністанішкі Смарг. *Сарашню змалацілі — сорак снапоў, два пасады.* Вецярэвічы Пух.

САРАЧЫ'НЫ толькі *мн.* Тое ж, што і с а р а к а в і́ н ы.

*Сарачыны па пакойніку спраўляюць.* Рудня Чэрв. *Сарачыны робяць — пакойніка памінаюць, як сорак дзён пройдзя.* Багушэвічы Бярэз.

САРАШНЯ′ *гл.* САРАЧНЯ′

САРВА′ЦЦА *зак.* 1. Падрацца. *І гэта кішэнь сарвалася, і гэта сарвалася.* Солы Смарг. 2. *перан.* Не вытрымаць націску. *У Мікалаеўскую вайну ў нас фронт стаяў, то ў Дараве як немцы не сарвуцца, то аўстрыйцы, а рускія наступаюць.* Дарава Лях.

САРВА′ЦЬ *зак.* 1. Сарваць. *Вы баравічок сарвіцё — і ў сумачку.* Кудзялянцы Шальч. *Мы сарвалі памідоры.* Кураполле Паст. ▽ *Пятрок — сарвець лісток.* Завельцы Астр. 2. *перан.* Паралізаваць. *Сударага сарвала нагу.* Магуны Паст. ◇ *По́ўната сарва́ць* — пра пачатак убывання Месяца. *Поўната ўжо сарваў.* Рагулішкі Даўг.

САРВІТУ′Т, СОРВІТУ′Т, СЕРВІТУ′Т, СУРВІТУ′Т *м. устар.* 1. Зямля, купленая сялянамі для агульнага карыстання. *Панская зімля, яна не гадзілася пану, яе куплялі на пазбішча і называлі сарвітут.* Кураполле Паст. *Сарвітут — гэта адмераная дзялянка. Ганіця скаціну на сарвітут.* Рыбчына Віл. *Сарвітут — паша для кароў, неўмерная зімля, у надзел не ўшчытаны. У нас Кульша звалася сарвітутам, абшча для ўсіх, а пасля падзялілі, падзелалі пярэчкі і пахаць сталі.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Паша на панскіх угоддзях. *Сарвітут — лес грабскі быў. Сорвітут — лес, выдзелены ад пана, ганілі кароў па лесі і пасвілі там па сорвітуці.* Альхоўцы Лях. *Сервітут раздзельны або нераздзельны. Лес быў княжы, а палянкі люцкіе, сельскіе — гэто неразведзены сервітут.* Дзяніскавічы Ганц. *Сурвітуты былі за паншчынай, надзялялі мужыкоў, санажаць давалі. Сурвітут — лес, атрыманы ад памешчыка на пэўных умовах.* Жылі Іўеў. *У каго мала зямлі, давалі дзялкі на сурвітуце. Сурвітут — зямля панская, на ёй можна толькі пасціць, а лес пан прадаваў. Пан Татарскі прадаў сурвітут. Перат прыходам Саветаў пан дзяліў сурвітут, сабе выбраў лепшае.* Крэва Смарг.; *параўн.* польск. *serwitut* 'тж'.

САРВЭ′ТА *гл.* СУРВЭ′ТА

САРГАНІЗАВА′ЦЬ *зак.* Арганізаваць; стварыць. *После вайны сарганізавалі калхос.* Быстрыца Астр. *Анюта сарганізавала ўсіх.* Валеўка Навагр. *Сарганізавалі ў калхозі магазінчык.* Малахоўцы Бар.

САРДА′К *м.* Безрукаўка. *Сардак бэз рукавоў, хто с сукна, хто с шарачкі шыў. Сардаке шылі.* Васілевічы Гродз. *Сардак насіла — без рукавоў ватнік.* Каўняны Гродз. *Сардак — безрукаўка на ваце.* Вострава Маст. *Сардак — кажушок без рукавоў.* Мсцібава Ваўк.

САРДЗІ′СТЫ *прым.* Які мае тоўсты асяродак. *Нека сар-*

*дзіста морква, многа белага.* Навасёлкі Лід.; *парайн.* літ. *šerdìs* 'асяродак'.

САРДУ'ШКА *ж.* Храпка. *У сярэдзіне сардушка — качан.* Старыя Трокі Трак.; *парайн.* літ. *šerdìs* 'тж'.

САРДЭ'ЧНІК, СЯРДЗЕ'ЧНІК *м. бат.* Сардэчнік. *Сардэчнік расце на балоце — яны беленькія, ладныя, на цененькай ножаццы, калаватыя* [цвёрдыя] *кветкі, ад сэрца п'юць.* Гемзы Шальч. *У сардэчніка белая кветка, лісточак, як сэрца.* Солы Смарг. *Сардэчнік ад сэрца.* Альхоўка Навагр. *Сардэчнік — такія сініénькія, ён невялічкі.* Завельцы Астр. *У балоці сардэчнік расцець, беленькі, на 'дным сучку.* Рагулішкі Даўг. *Сярдзечнік беленькім цвіціць, ад сэрца.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

СА'РНА *ж. заал.* Сарна. *Сарна прылятае да возера.* Грыкені Вільн.; *парайн.* польск. *sarna* 'тж'.

САРО'КА I *ж. заал.* Сарока. *Сарока крычыць.* Рыбчына Віл. *Сарока шчабечыць.* Валынцы В.-Дзв. *Сарока паляцела.* Грыкені Вільн., Чычалі Швянч., Рудня Астравітая Чэрв. *Курэй ня пусціла, а сарокі паляцелі.* Граўжышкі Ашм. ∇ *Сяджу, як сарока на калу. Сарока весці прынісла — госці будуць.* Валынцы В.-Дзв. *Сарока чыркае — будзе дошч.* Сасноўка Смарг. *Сарока крычыць — госці будуць ці гось будзя. Стройся гаспадыня — сарока прыляцела, крычыць.* Вузла Мядз.

САРО'КА II *ж.* Стужка. *Сароку зацягвалі старыя ў сарочку — вузенькая рабенькая лентачка.* Вецярэвічы Пух.

САРО'МІЦЦА, САРО'МАЦІСА *незак.* Саромецца. *Яны саромяцца сказаці.* Крынкі Крын. *Ваны саромаюцца.* Вялікі Краснік Пруж.

САРОО'МЛІВЫ *прым.* Сарамлівы. *Сароомлівы чалавек.* Малыя Аўцюкі Калінк.

САРО'ЧКА, СОРО'ЧКА *ж.* Кашуля. *Перш звалі сарочка, а цяпер — кашуля.* Лоск Валож. *Сарочка, або кашуля.* Альхоўцы Лях. *Сарочку пашыюць с каўняром.* Саланое Віл. *Па калены сарочку насілі. Сарочкі із гесткамі насілі, у гестках заборы.* Вецярэвічы Пух. *Кароўку мама лячыла сама: брала сваю сарочку і падалом сцірала карову.* Слабада Мін. *Яна хадзіла ў сароцці белай на благавешча.* Збляны Лід. *Сарочкі шылі с каўнерыкамі на рукавох.* Кузьмічы Люб. *А бабы шылі сарочкі і пат пахамі давалі цвіклі.* Міратычы Карэл. *Мушчынам шылі сарочкі.* Рудня Чэрв. *Сарочкі мыла.* Мачаск Бярэз. *Выварваюць сарачкі.* Навасёлкі Свісл. *Сарачкі чорные.* Вялікі Краснік Пруж. *Сарачке ткалі.* Парэчча Гродз. *Некалі сарачке мылі, рабілі лух.* Малышы Лід. *Сарачке павывешвала.* Пацаўшчына Дзятл. *Сарачке атжымала.* Алекшыцы Бераст. *Сорочку бацькеві пошыла. Сорочка ніжня і сорочка бабська.* Смаляніца Пруж. *Трэба покачятэ сорочкі.* Дзмітравічы Кам. ∇ *Сарочка называласа, бо сорак работ*

*было каля яе.* Васілевічы Гродз. *Тоды сыроті ныділя, як сорочка біла. Задумав я жыныться ў гэту ныділю: зложыв чоботы на рыпах і сорочку білу. А в тых богачок по сім сорочок.* Сіманавічы Драг.

САРТАВА́ЦЬ *незак.* Сартаваць. *Сартуюць тавары.* Вецярэвічы Пух.

САРЦА́К *м.* Асяродак у бульбе. *Як абрэжыж картофлю тоўстымі лупінамі, то будзя адзін сарцак.* Кіралі Шчуч.

САРЦІРАВА́ЦЬ *незак.* Тое ж, што і с а р т а в а́ ц ь. *Мы сарціравалі кулькі, кап роўны быў.* Буды В.-Дзв.; *параўн.* руск. *сортировать* 'тж'.

САРЦОВІ́НА *ж.* Стрыжань дрэва. Галоўні Воран.; *параўн.* руск. *сердцевина* 'тж'.

САРЦО́ВЫ I *прым.* Хворы на сэрца. *Баба сарцовая — хворая на сэрца.* Кураполле Паст. *Сарцовы — з хворым сэрцам.* Ракаўскія Швянч.

САРЦО́ВЫ II *прым.* Шчыльны (пра драўніну). *Сарцовая, смалістая ёлка, як старалес дзе ёсь.* Кураполле Паст.

САРЫНА́ *ж.* Парушынка. *Сарыной засорыла вока.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

САРЫ́НКА *ж. памянш.* да с а р ы н а́. *Сарынка ўпадзець у вока.* Валынцы В.-Дзв.; *параўн.* руск. *соринка* 'тж'.

САРЭ́Й *гл.* САРА́Й

САРЭ́НА *ж. міф.* Сірэна. *Сарэны ў мору, спяваюць харашо.* Жылі Іўеў.

САСАДЗІ́ЦЬ *зак.* Ссадзіць. *Бабуля была безуладная, хворая, гаварыла: «Сасадзі ты мяне с печы!»* Ахрэмаўцы Брасл.

САСА́НКІ, САСА́НЬКІ *мн. бат.* Медуніца. *Сасанкі сінія, растуць на дзірванах.* Старыя Трокі Трак. *Сасанькі зацвітаюць найраней, вясной, сінім цветам.* Гемзы Шальч.

САСА́ЦЬ *незак.* Ссаць. *Гавораць, што ласіца сасе кароў.* Валеўка Навагр.; *параўн.* руск. *сосать* 'тж'.

САСВА́ТАЦЦА *зак.* Дамовіцца стаць мужам і жонкай. *Мы сасваталісі, а послі ўжо дагаварыліся, калі вяселля.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

САСВЯЖЫ́ЦЦА *зак.* Астыць пасля забою (пра жывёлін). *Сасвяжылася свіння, дайшла, можна смаліць.* Вялікія Баяры Шчуч.

САСЕ́Д, САСЕ́ДЗЬ, *гл.* СУСЕ́Д

САСЕ́ДКА, САСЕ́ТКА *ж.* Суседка. *Саседка прышла, памагла.* Дварчаны Паст. *Сасетка не такая была здольная.* Гальшаны Ашм.

САСЕ́КЧЫ *зак.* Насячы. *Сасекла бульбы, буду парасятам даваць.* Кураполле Паст.

САСІВЕ́ЦЬ *зак.* Пасівець. *Валасы сасівелі ў мяне.* Ахрэмаўцы Брасл.

САСІ'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і саіць 1. *Я захварэла, дык мама сасіла свайго і майго. Мая мама сосіць і носіць — частыя дзеці былі.* Саланое Віл. *Дзіця сасіла сіськой.* Мярэцкія Глыб. *Сасіла дзіця.* Мішневічы Шум.

САСКВА'РЫЦЬ *зак.* Наскварыць. *Трэба сала саскварыць.* Саланое Віл.

САСКЛЮТАВА'ЦЬ *зак.* Абчасаць склюдам. *Ён саклютуя многа бярвяноў.* Гемзы Шальч.; *параўн.* літ. *skliū̃tas* 'склюд'.

САСКРАБА'ЦЬ *незак.* Саскрэбваць. *Нажам саскрабаюць. Лапатай саскрабаіць.* Саланое Віл.

САСКРЭ'БВАЦЦА *незак.* Саскрабацца. *Рэшта саскрэбваяцца, прыплескваяцца, кап кісля ні сышла.* Дакудава Лід.

САСКУЧА'ЦЬ *зак.* Засумаваць. *У Рыге два разы была з'ехаўшы, саскучала па сыну.* Скрыпчына Лудз.; *параўн.* руск. *соскучиться* 'тж'.

САСЛІ'НІЦЬ *зак.* Заслініць. *Цялушка саслініць спадніцу маю, сусло зробіць.* Кураполле Паст.

САСМА'ГНУЦЬ, САСМЯ'ГНУЦЬ *зак.* 1. Сасмагнуць. *Жара, сасмагніць у роцця, а жаць трэба.* Жодзішкі Смарг. *Губы сасмяглі.* Лоск Валож. 2. *перан.* Знясілець. *Курыца сасмягла, седзячы на яйках.* Саланое Віл.

САСМА'ЖЫЦЬ *зак.* Зварыць. *Я сасмажыла брусніцы.* Валынцы В.-Дзв.

САСМО'РГАЦЬ *зак.* Нашморгаць. *Лісця з бацвіння сасморгаіць і варацьь.* Пераброддзе Міёр.

САСМО'РГВАЦЦА *незак.* Аблазіць (пра скуру). *Сасморгваяцца з гадзюкой скура.* Жодзішкі Смарг.

САСМЯ'ГЛЫ *дзеепрым.* Сасмаглы. *Так сасмях, смага, піць хацеў, вусны сасмяглыя. Сасмяглыя губы.* Саланое Віл.

САСНА', СО'СНА *ж.* *бат.* Сасна. *Сасна каля дарогі.* Рыбчына Віл., Чычалі Швянч. *Сасна, бяроза расцець.* Навікі, Мельнікі Лудз. *Тут расцець сасна, біроза, осіна, ель.* Істра Лудз. *Сосна стрыжняватая, смаляватая.* Рыбчына Віл. *Сосна там, за горкай.* Галоўні Воран., Грыкені Вільн., Мярэцкія Глыб. *У сосне ўнутры сэрца.* Солы Смарг. *Сосна натта смаляная, як запаліць — дыму многа.* Гемзы Шальч. *Дзе сосна, то баравы лес. Ежэлі дупля есць, сосна крывая, дуплятая.* Старыя Трокі Трак. *Сосны шумяць.* Рагулішкі Даўг. *Маю гэктар зямлі — і адна сасна.* Ахрэмаўцы Брасл. ∇ *Паляцела, упала, зрэзаная, як сосна, чуць ачуняла.* Старыя Трокі Трак.

САСНІ'К *зб. м.* Сасоннік. *На Лысай гары болей пясок, бярэзнік цяпер расцець, саснік малады вырас.* Ухвала Круп.

САСНІ'НА *ж.* Адно дрэва сасны. *Сасніна расце тут.* Навікі Гродз.

САСНІНА' *зб. ж.* 1. Сасна. *Усякае дрэва па лесе: яліна, альшына, сасніна, драп* [граб], *ляшчына.* Васілевічы Гродз.

2. Галінкі сасны. *З саснійы памялцэ робяць.* Новікі Гродз.

САСНІ'ЦА *зак.* Прысніцца. *Што мне ноччу сасніца?* Чычалі Швянч.

САСНІ'ЦЬ *зак.* Прысніць. *Я сасніла Жоржыка — ён памёр, і кажа ён: «Мне зімна, дай адзежу, аб адзежу квіт дадзём на тры рублі».* Крэва Смарг. *Сасніла я сон — і мяне выпусцілі.* Гальшаны Ашм. *Я снсній сон.* Талейкі Швянч. ∇ *Як сасніш жабу — то на смерць. Як сасніш крыш — то плоха.* Малі Астр.

САСНО'ВЫ *прым.* Сасновы. *Сасновыя калючкі.* Мярэцкія Глыб.

САСНУ'ЛЬКІ *мн. бат. памянш.* Сон. *Саснулькі — невялікія краскі, філатавы, на стаўбунках.* Быстрыца Астр.

САСНЭ' *мн.* Адросткі пер'яў у птушак пасля лінькі. *Саснэ трэба нажэм выдзіраць; з іх потым растуць пёры.* Каўняны Гродз.

САСНЯ'К, САСНЯ'Г *м.* Тое ж, што і с а с н і к. *У сасняк зайшлі.* Галоўні Воран., Чычалі Швянч. *Смаржкі растуць, дзе саснягі.* Крэва Смарг.

САСО'К *м. анат.* Сасок. *Б'ецца карова, сасок баліць.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

САСО'ННІК, САСО'НІК *зб. м.* 1. Тое ж, што і с а с н і к. *Сасоннік за полем.* Мярэцкія Глыб., Рыбчына Віл. *Вышаў с сасоніка.* Пляшанцы Ашм. *Каля дарогі сасонік.* Чычалі Швянч. 2. Тое ж, што і с а с н і н á 2. *Ні ялэніц, сасонік возьмеш і памяло дзелаіш.* Масішкі Красл.

САСО'НЧЫЦЦА *зак.* Сцячы. *Зліваіш слоікі — сасончыцца ўся сываратка.* Рагулішкі Даўг.; *парайн.* польск. *sączyć się* 'тж'.

САСО'ХНУЦЬ *зак.* Ссохнуць. *Сасох часнак — сухата велькая.* Солы Смарг. *Хлеп сасох. Яблына сасохла.* Ёдлавічы Брасл. *Сасохла трава.* Кудзялянцы Шальч. *Цыбуля ат салітры сасохніць.* Пераброддзе Міёр.

САСПАКО'ІЦЦА *зак.* Супакоіцца. *Драмуль прышоў, і я саспакоілася; дзяцька, зламі яшчэ аднаго драмуля.* Граўжышкі Ашм.

САСПЕ'ЦЬ *зак.* Паспець. *Я саспею есці. Не саспела — аўтобус пашоў.* Ёдлавічы Брасл.; *парайн.* літ. *suspėti* 'тж'.

САСТАЛЯРАВА'ЦЬ *зак.* Зрабіць сталярны выраб. *Мой мужык усё мох састаляраваць. Мы не далі нікому састаляраваць.* Саланое Віл.

САСТАНАВІ'ЦЦА *зак.* Адстаяцца. *Смятана ў банца зверху, як малако, састановіцца.* Асавец Віл. *Жбанкі былі, малако састановіцца, скісня, усё было ў жбаночках, нацэдзіш цэлы, патом зліеш, дацэджваяш і кісня.* Рыбчына Віл.

САСТАРЭ'ЦЬ *зак.* Састарэцца. *Яна састарэла.* Магуны Паст. *Састарэла мая карова.* Валынцы В.-Дзв. *Састарэлі бя-*

*розы.* Ахрэмаўцы Брасл. *Лебяда састарэла — цвярдаватая трава.* Рудня Астравітая Чэрв.

САСТАЎЛЯ'ЦЬ *незак.* Складаць. *Што ей састаўляіць дзелаць іменіны?!* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* руск. *составлять* 'складаць'.

САСТРЫГА'ЦЬ *незак.* Кроіць. *Састрыгаюць рукаў так.* Рагулішкі Даўг.

САСТРЫ'Н *прым.* Сястрын. *Узяў ён састрыну дачку за хазяйку.* Саланое Віл.

САСТУ'КАЦЬ *зак. перан.* Папляскаць па чым-н. *Трупку кужалю састукаеш качалкай, калодачкай.* Рагулішкі Даўг.

САСТУПІ'ЦЬ *зак.* Уступіць. *Такі быў, што і старому, і малому саступіць.* Крэва Смарг. *Я адзін раз з мядзведзем спаткаўся: і як ён мне саступіў?* Камена Лаг.

САСУВА'ЦЬ *незак.* Сцягваць адкуль-н. *Буду яго сасуваць адсюль.* Чычалі Швянч.

САСУ'Д *м.*, САСУ'ДА *ж. анат.* Крывяносны сасуд. *Звужаюцца сасуды — і галава баліць.* Валеўка Навагр. *У прошлам гаду прарвалася сасуда ў мяне.* Слабада Мін.

САСУ'ДКА, САСУ'ТКА *ж. памянш.* да с а с у́ д. *Сасудка лопнула ў сэрцы.* Пярэкі В.-Дзв. *Сасутка лопнула ў лобе — і памёр.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

САСУ'ЛЬКІ *мн.* Ледзяшы. *Сонца засвяціла і павесіліся сасулькі.* Ёдлавічы Брасл. *Сасулькі звісаюць са стрэх.* Пасіене Лудз. *Дзеці збіваюць палкамі сасулькі і ўжэ смокчуць.* Баброўнікі Гарад.; *параўн.* руск. *сосульки* 'тж'.

САСУНО'К *м. памянш.* Сысунок. *Сасунок парасюк.* Саланое Віл.

САСУ'НУЦЬ *зак.* Уставіць куды-н. *На лапатку рыбу паложыш і ў печы сасуніш, як хлеп.* Перабродддзе Міёр.

САСУ'ЧЫВАЦЬ *незак.* Ссукваць. *Сасучываюць дзве ніткі, а трэцяй павіваюць.* Ахрэмаўцы Брасл.

САСХНУ'ЦЬ *зак.* 1. Тое ж, што і с а с о́ х н у ц ь. *Палосься ільмаку сасхне.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Схуднець. *Яна сасхла на ражон.* Вецярэвічы Пух.

САСЫ'ПАЦЬ *зак.* Дачасна апарасіцца. *Свіня сасыпала парасятак.* Быстрыца Астр.

САСЯЧЫ' *зак.* 1. Ссячы. *Сасячы ты яе, гэту яблыну!* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Ператачыць. *Як мышы сена сасякуць, то патрухі многа.* Ракаўскія Швянч.

САТ *гл.* САД

САТА' *ж.* Сыта. ▽ *Ні палівайця мяне расою, а палівайця мяне сатою!* Якубова Рас.

САТАНА' *ж.* і *м. міф.* Д'ябал. ▽*Муж і жана — адна сатана: днём б'юцца, дзяруцца, а ноччу разам кладуцца.* Кіралі Шчуч., Вузла Мядз. *Як добра жыць — то сатана ў хату.* Вецярэвічы Пух.

САТАНІ'ЦЬ *незак.* Шкодзіць. *Тут людзі сатанілі, яму, а там ня будуць сатаніць.* Лоск Валож.

САТА'ЧЫТІСЕ *незак.* Ціснуцца. *Чого тутака сатачышсе, і так міесця нэма.* Курашэва Чыж.

САТВАРА'ЦЬ *незак.* Вырабляць. *Так сатваралі, што палучаўся ўзор.* Слабада Мін.

САТВАРЫ'ЦЦА *зак.* Стварыцца. *Я пытаю, як сатварылася ўсё: чалавек, карова, камар,— яны з мяне смяюцца.* Слабада Мін.

САТВАРЫ'ЦЬ *зак.* 1. Стварыць. *Хто гэта так сатварыў: чалавек жыве, а потым заверну́ць у зямлю?* Слабада Мін. 2. Нарадзіць. *У нас двое дзевак дзяцей сатварылі. Яны трое дзяцей сатварылі.* Слабада Мін.

САТЛЕ'ЦЬ *зак.* 1. Спарахнець. *Сатлела адзежа. Калі не прасушыш — можыць сатлець.* Лісна В.-Дзв. 2. *перан.* Змарнець. *Я б горай за ім сатлела, каб не было сына.* Вузла Мядз.

САТЫ' *мн. пчал.* Соты. *Саты забіты піргой.* Лісна В.-Дзв.

САТЫ'Й *прым.* Укормлены. *Сатый парсюк.* Лісна В.-Дзв.; *параўн.* літ. *sotùs* 'тж'.

САЎГАНУ'ЦЬ, СОВГЫНУ'ТЫ, СОВГНУ'ТЫ *зак. экспр.* Штурхнуць, ударыць. *Можа, саўгане яму чым.* Малі Астр. *Совгынув його коліном. Совгнула мынэ локтем.* Сіманавічы Драг.

САЎГА'С *м.* Саўгас. *Быў калгас, а цяпер стаў саўгас.* Рудня Астравітая Чэрв.

САЎКО'З, САЎКО'С *гл.* САЎХО'З

САЎСЕ'НЯ *ж. кулін.* Тоўчаная бульба з цыбуляй. *Саўсеня: бульбу таўкуць з вадой, сырую цыбулю туды, алей — і ядуць с саладухай або бурачкамі.* Жодзішкі Смарг.; *параўн.* літ. *sausiẽnė* 'тж'.

САЎСЁМ, САЎСЕ'М, САЎСІ'М *прысл.* Зусім. *Два дзярэўні і саўсём начай гаворац.* Быстрыца Астр. *Саўсём змачыла порткі.* Кемялішкі Астр. *Хазяйка саўсём бальная.* Замошша Брасл. *Саўсём не ідуць у хлеў.* Малі Астр. *Саўсём німа света.* Вузла Мядз. *Саўсём яе спаліражавала. Саўсём свіня ня хоча есці.* Жодзішкі Смарг. *Саўсём бляхай бутэлькі заткнуць.* Солы Смарг. *Саўсём не магу хадзіць.* Ністанішкі Смарг. *Літва саўсём бліска. Яна мне саўсём чужая. Сціснула ў грудзях саўсём.* Магуны Паст. *Хто ня жыўшы — ня помніць саўсём.* Груздава Паст. *Нам саўсём іначай жыць, як жылі нашы бацькі.* Дзягілі Мядз. *Саўсём гэту дарогу скасуюць.* Рыбчына Віл. *Баба простая саўсём.* Саланое Віл. *Саўсём памалу ідзець. Саўсём адзінокія мы.* Асавец Віл. *Саўсём жарабёнак хворы. Саўсём я хворая. Пан капаў — шчэпку кінуў — возера зарасло саўсём.* Беразіно Докш. *Спалілі саўсём.* Ахрэмаўцы Брасл. *Саўсём адбілася ад рук.* Лісна В.-Дзв. *Пасцілкі старэнькія саўсём, сасціраныя.* Навікі Лудз. *Я памыю пол, ляжу, у мяне*

*дыханне саўсем другое.* Валеўка Навагр. *Я аслепшы саўсем.* Пасіене Лудз. *Саўсім жыцця не было: пад матрац схаваеш што — выцягніць.* Юркава В.-Дзв. *Саўсім ніякія мы.* Буды В.-Дзв. *Ніпуцёвы зяць саўсім.* Чапаеўскі В.-Дзв. *Знаеце, яны саўсім іначай гавораць. Я бачыла вужа паласатага, саўсім інакшае.* Баброўнікі Гарад. *Саўсім згалеў той пан, збяднеў.* Дарава Лях.

САЎХО́З, САЎХО́С, САЎКО́З, САЎКО́С, САЛХО́З, САЛХО́С, САЛКО́З, САЛКО́С *м.* Тое ж, што і саўга́с. *У іх саўхос ці калхос?* Рудня Астравітая Чэрв. *У саўкозе рабіў.* Крэва Смарг. *У саўкозе раней дзеняжная аплата.* Дакудава Лід. *У нас калхос, саўкос даляй.* Стральцы Гродз. *У саўкозя рабочым далі надбаўку.* Вязынка Маладз. *У саўкозя робіць.* Ракаўскія Швянч. *Салхос там арганізавалі.* Граўжышкі Ашм. *Салхос арганізавалі. Там арганізавалі салкос.* Вострава Маст.

САЎХО́ЗНІКІ *мн.* Рабочыя саўгаса. *У нас саўхоз, мы саўхознікі.* Швэды Вільн.

САХА́, СОХА́ *ж.* 1. *с.-г.* Саха. *Саха — яшчэ я гараў сахой, самы рабілі, палена вырубіў, нагнаў нарогі, паліца і гары.* Паляцкішкі Воран. *Былі сохі з дзерава, аралі імі.* Старыя Смільгіні Воран. *Сохамі гэтымі гаралі. Саха дзеравяная, плуга не было і так гаралі такой сахой.* Васілевічы Гродз. *Саха была, што валамі гаралі.* Парэчча Гродз. *Яна ап саху гавораць.* Малі Астр. *Сохамі аралі — нарогі два ўбіваліся на сашнік.* Саланое Віл. *Сохамі гаралі. У сасе былі галоблі. І прыполак пры сасе. Я сахой араў. Я ў рукі не браў саху.* Грыкені Вільн. *Аралі сахой. Галоблі ў сасе.* Відаўцішкі Вільн. *Саха была дзеравяная, два нарогі, а ўперад паліца — гэта адвал. Цяпер плух, а даўней саха.* Малькуны Ігн. *Сахой гаралі: дзяравяная паліца, адзін нарох залезны.* Міратычы Карэл. *Я плугам араў; а сахою і мой бацька не араў.* Дзераўное Стаўб. *Раньшы пахалі сохамі.* Істра Лудз. *Казалі, што сохамі оралі.* Смаляніца Пруж. 2. Акучнік. *Тапер сохамі картофель атарываюць.* Істра Лудз. ∇*Гаралі ў сохі, то хлеп быў неплохі, як пачалі гараць у плугі — будзя хлеп тугі.* Ёдупка Шальч. 3. *буд.* Апорны слуп у гумне. *Як гумно стаіць, там тожа сохі ставілі ў сярэдзіне, паверх даўжнік, к даўжніку крокввы, латы і дах.* Паляцкішкі Воран. *Чатыры пары сок* [сох], *па два астаронкі.* Старыя Смільгіні Воран. *Саха ў гумне, на саху кладзя кладуць.* Жодзішкі Смарг. *У гумне сохі стаялі.* Івашкаўцы Смарг. *Ставяцца чатыры сахі, па канцах швэляў ставяцца сохі.* Гемзы Шальч. *Сохі — слупы пад бэльку. У большых адрынах былі сохі, на іх мацавалі.* Старыя Трокі Трак. *У гумне саха.* Дзяніскавічы Ганц. *Дзве або чатыры сахі ў гумне, сохі вілаватыя.* Вялікія Баяры Шчуч. *У гумне было чатыры сахе, на іх шапкі накладаліся.* Мсцібава Ваўк. 4. Слуп

у калодзежным жураўлі. *Каля калодзеся саха.* Дзяніскавічы Ганц. 5. *плыт.* Прылада для затрымання плыта. *Саха — гэта кол бальшы, ён араў — задзержываў ганок, плавужнік выскачыць, заарэць сахой і астановіць ганок.* Валынцы В.-Дзв.

САХАВІ'ЛЫ, СОХОВІ'ЛЫ *мн.* 1. Палка з раздвоенымі канцамі. *Сахавіламі папіхалі хохлю — і неват плыве.* Вецярэвічы Пух. 2. Вілы. *Соховілы — гной выкідаті, сено на воз кладут.* Азарычы Пін.

СА'ХАР *м.* Цукар. *Купіла мех сахару.* Парэчча Гродз. *Сахару, муся, многа ложыш, што яна салоткая.* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* рус. *сахар* 'тж'.

СА'ХАРНІЦА *ж.* 1. Цукарніца. *Насыпала сахару ў сахарніцу.* Валеўка Навагр. 2. *мед.* Цукровы дыябет. *У яго балезнь сахарніца.* Валеўка Навагр.; *параўн.* рус. *сахарница* 'цукарніца'.

САХАРЫ'НА *ж.* Сахарын. *Сахарына прадаецца.* Номікі Бабіц. *Сахарынай вады засалодзіш і с хлебам ясі, бывала.* Слабада Мін. *У войну сахарыныю солодылы.* Сіманавічы Драг.

САХІРЫ' толькі *мн.* Конусападобнае прыстасаванне з жэрдак для сушкі травы, бульбоўніку і інш. *Ёсць сахіры, на іх сушаць картафлянішча.* Жодзішкі Смарг.

САХМІСТРА'ТАР *м.* Адміністратар. *Сахмістратарам яе брат быў.* Курапалле Паст., Кіралі Шчуч.

САХО'Р м., САХАРЭ' *мн.* Тое ж, што і с а х а в і л ы 2. *Нюра за сахор і падае на вос. Сахор — падаваць сено ці іржышчо.* Міратычы Карэл. *Сахор здзелаў, што картоплі ўбіраць.* Новіны Нясв. *Сахор — кідаць навоз, на тры-чатыры зубэ.* Валеўка Навагр. *Сахор — гной накідаць, залезныя вілы, чатыры рагі. Сахор — на чатыры рагі, вілкі — на два рагі.* Дзяніскавічы Ганц. *Сахор — два рашке дзеравяныя, на іх жалеза набіта.* Вецярэвічы Пух. *Сахор жалезны — гной накідаць.* Пасека Ст.-Дар. *Сахарэ былі — гэто вілы дзеравянныя.* Парэчча Гродз. *Былі дзеравяные сахарэ.* Дзяніскавічы Ганц. *Сахарэ стаяць каля воза. Сахарамі гной трасуць.* Номікі Бабіц. *Сахарэ — жалезныя вілы на тры-чатыры зуба.* Лука Нараўк. *Зрабі ў лапатку ці ў сахор чаранок.* Альхоўцы Лях.

САХО'ЦЦЮ *прысл.* Ахвотна, з задавальненнем. *Сахоццю ўзяла Восіпа.* Саланое Віл.

САХРО'НЕНЫ *дзеепрым.* Захаваны. *Здароўя сахронена.* Ёдупка Шальч.; *параўн.* рус. *сохраненный* 'тж'.

САЦВІСЦІ' *зак.* Заплеснець. *Хлеп сацвіў.* Пасека Ст.-Дар.

САЦЬ *незак.* Ссаць. *Мышка сала матку, а сабака задусіў матку, а Валерык плакаў, што мышка засталася.* Ёдлавічы Брасл.

САЧАВІ'ЦА, САЧЫВІ'ЦА, САЧЭВІ'ЦА, САЧАВЫ'ЦЯ *ж.*

*бат*. Сачыўка. *Сачавіцу сеяў бацька, ды смачна варана, маленькія стручэчкі*. Дзяніскавічы Ганц. *Сачывіца была, некалі сеялі, яна смяшна, лепш еласё*. Міратычы Карэл. *Сачывіцу сеялі*. Альхоўцы Лях. *Сачэвіца была ў калхозі*. Хатынічы Ганц. *Шэ сачавыцю колысь сіялы*. Сіманавічы Драг.

САʼЧАК, САʼЧЫК, САЧОʼК *м. памянш*. да с а к I. *Сачак шылі з шараку суконнага, у талю шылі, і кішэнькі дзве*. Кіралі Шчуч. *Сачак с сукна, с патклаткай, бабскі*. Галубы Маст. *Сачак у мяне быў. Сачкі насілі тканыя і куплёныя*. Стральцы Шальч. *Сачак насілі*. Гемзы Шальч. *Сачак — шыты, роблены — свэтар*. Грыкені Вільн. *Сачкі свае работы шылі. Сачак адзела*. Мсцібава Ваўк. *Сачак кароткі, з крамнага, з шарачку. Злажы новы сачак, у горад жа едзеш!* Пацаўшчына Дзятл. *Сачак накладаяцца на сукенку. Нажутка — як сачык, накладаяцца на сукенку*. Стральцы Гродз. *Сачык суконны, кароткі*. Дакудава Лід. *«У чым ты адзеўшыся?»—«Я ў сачыку»*. Лоск Валож. *Сачык кароткі, у хвалды зложаны — жакетка*. Ракаўскія Швянч. *Сачок з рукавамі і пасачак*. Гальшаны Ашм. *Сачок пашыяш з зрэбіны*. Чуркі Ашм.

САЧАʼЦЬ *незак*. Прасочвацца. *Там сачая крынічка маленькая*. Мсцібава Ваўк.

САЧНЫʼ, СОЧНЫʼЙ *прым*. Сакавіты. *Бураке, бручка — сачныя карма*. Вострава Маст. *Сачныя грушы*. Семежава Кап. *Там такая сочная трава*. Сіманавічы Драг.

САЧОʼК I *гл*. САʼЧАК

САЧОʼК II *м. памянш*. Рыбалоўная снасць у выглядзе сеткі, нацягнутай на абруч. *Рыба ідзе ў прадуху, бяры сачок і лаві за ноч*. Валеўка Навагр. *Сачок з нітак робяць: ён, як тарэлка, палка і абруч, за абруч чапляецца сетка*. Кузьмічы Люб. *Сачок застаўляюць, як забіваюць ес, калкоў нагоняць і лазой пераплятуць. Сачок — дзве душкі, пяць скабак і горла, ловяць зімой, пролупку прасякаюць*. Кураполле Паст. *Сачком рыбу лавілі; абруч зроблены адзін, да абруча сетка прышываецца, і палка, адзін ловіць*. Рыбчына Віл. *Сачок дзелаюць з дугі, палкі і сеткі*. Лісна В.-Дзв.

САЧОʼЎКА *гл*. САЧЫʼЎКА

САЧЫВІʼЦА *гл*. САЧАВІʼЦА

САʼЧЫК *гл*. САʼЧАК

САЧЫʼСТЫ *прым*. Сакавіты. *Маладая трава сачыстая*. Быстрыца Астр.

САЧЫʼЎКА, САЧОʼЎКА, САЧЭʼЎКА *ж*. Тое ж, што і с а ч а в і ц а. *Сачыўка дробнянькая, плоская*. Быстрыца Астр. *Даўней сачыўку сеялі і кашу варылі*. Солы Смарг. *Сачыўка расла*. Груздава Паст. *Сын сачыўку ўкраў, да ён яе не ісользаваў, і ў яго ўкралі*. Кураполле Паст. *Сачыўку пасеялі*. Магуны Паст., Відаўцішкі Вільн. *Сачыўку па плахіх палях сеялі*. Старыя Трокі Трак. *Сачыўка называлі, але не знаю, як яна*

*выглядаіць.* Малькуны Ігн. *Сачыўка ета, як гарошак, толькі плоскінькая. Мой старык служыў пры цары, так салдатаў карміл кашай с сачыўкі.* Лапічы Асіп. *Сачоўку сеялі.* Дакудава Лід. *Сачоўку сеялі і да яды варылі.* Мсцібава Ваўк. *Сачоўка — плоскінькія зярнятка, па два зярнятка ў стручку, жоўценькія, рассыпкія, падобна да гароху смак, толькі меншыя ад гароху.* Альхоўка Навагр. *Сачэўка была, яна смашна, нізенька расце, але ядроная, лісточкі драбнюткі, як палавінка гароху, як раковыя жаронца.* Кіралі Шчуч. *Даўно сачэўку не садзяць.* Галубы Маст. *Сачэўку сеялі.* Вострава Маст., Стральцы Гродз. *Сачэўкі наварaць, гароху, булёну. Сачэўку з бульбаю гатавалі.* Васілевічы Гродз. *Сачэўка смашная.* Каўняны Гродз. *Сачэўку прысыпаям і гатуем.* Новікі Гродз. *Варат сачэўку.* Лука Нараўк. *Сачэўка — названня было.* Рудня Астравітая Чэрв. ∇*Жыла баба з унучкай, пасеілі сачыўку, прышоў час жаць, нада ш сабіраць сачыўку; баба кажыць: «Мне не нада сачыўка, скора памру, есці ня буду». А ўнучка сказала: «І мне не нада, я замуш пайду». Ну, у канцэ баба ні памёрла, унучка замуш ня вышла, а сачыўка зазімавала.* Груздава Паст. *А сачыўку ня будзім жаць — унучка замуш зайдзіць, а сучка здохніць.* Кураполле Паст.

САЧЫ́ЦЦА *незак.* Прасочвацца. *Не сочыцца кроў.* Рудня Астравітая Чэрв.

САЧЫ́ЦЬ I *незак.* 1. Пільнаваць. *Ляснік сочыць, што ён будзя рабіць.* Кудзялянцы Шальч. *Кот нешто сочыць.* Вострава Маст. *Я сачу, дзе курыца нясецца.* Солы Смарг. *Сачыць трэба, кап курыца ні неслася, дзе захоча.* Старыя Трокі Трак. *Нада сачыць курыцу, дзе сядзе.* Мсцібава Ваўк. 2. Шчупаць (пра курыцу). *Сачыць курыцу — мацаць курыцу, правяраць, ці ёсць у яе яйцо.* Гайна Лаг. 3. Шукаць. *Сачыў істопку, пасачыў і не нашоў.* Валынцы В.-Дзв. *Быта што сочыць, а ён: «Нічога не сачу».* Янова Рас.

САЧЫ́ЦЬ II *незак.* Быць падобным на каго-н. *Яна мяне ня сочыць, не падобна да мяне. Кап цябе сачыла — красівая была п.* Саланое Віл. *Гэта дачка яе ня сочыць, яна даўгаліцая, а тая кругленькая. Маліц мяне сочыць — якрас я. Я бацьку сачыла — была падобна да яго. Сочыць бацьку — падобны да бацькі, сочыць матку — падобны да маткі, сочыць дзяцьку — падобны да дзяцькі.* Мярэцкія Глыб.

САЧЭВІ́ЦА *гл.* САЧАВІ́ЦА

САЧЭ́НЬ, САШЭ́НЬ *м. кулін.* Праснак. *Сачэнь пресны пякеш з мукі ячнай ці пшанічнай. Сачэнь — маленькі піражок з кіслага цеста.* Янова Рас. *Сачэнь на ўсю скавародку пякуць.* Грыгаравічы Леп. *Раздзяляець сачэнь і гаворыць: «Вот вам з выдачак* [сто грамаў], *большы ні прасі». Цёртымі канаплямі сачні прыпякалі. Семенныя сачні, з аднога семені. Сашэнь — маленькій: кусочак цеста расхлёпаеш і пікеш на*

*скавародзе.* Мішневічы Шум. ∇*Хачу — скачу, хачу — не, бутылачка ў кішэне і сачэнь за пазахай, канаплямі намазаны.* Валынцы В.-Дзв.

САЧЭ'ЎКА *гл.* САЧЫ'ЎКА

САЧ'Ю' *прысл.* У выразе: *Сач'ю гаварыць* — паводле павер'яў, загаворваць ад сурокаў. *Сач'ю гаворыць — загаварвае з глазу.* Семежава Кап.

САША', СОША' *ж.* Шаша. *У леся на сашы і скрозь была засатка з вінтоўкамі.* Скрыль Пух. *Ідэ сошэю. На сошэ стоялі.* Смаляніца Пруж.

САШЛЁПАЦЬ *зак. экспр.* Зайсці. *Ноччу сашлёпаіць к ухажорке.* Мішневічы Шум.

САШМАРАВА'ЦЬ *зак. экспр.* Сцерці, знасіць. *Вот сашмаравала ўсю шчотку па падлозі мыючы. Сашмаравала падмёткі.* Альхоўцы Лях.; *парайн.* польск. *smarować* 'мазаць, намазваць'.

САШНІ' *мн. кулін.* Печыва з бульбы з дабаўленнем малака і яек. *Сашні з картошкі, яічка, малака, наверьх намажаш яічкам і запікеш у печы.* Мішневічы Шум.

САШНІ'К *м.* Сашнік. *А раньшэ была дзераўяна барана і дзераўяны плуг, адзін сашнік быў жалезны.* Вялікі Быкаў Слуц.

САШПІЛІ'ЦЬ *зак.* Зашпіліць. *Шпількі — сашпіліць штоякое.* Ракаўскія Швянч.

САШПЭ'ЦІЦЬ *зак. экспр.* Разгрэбці, папсаваць. *Куры сашпэцілі мне гарот.* Саланое Віл. *Сашпэціць курыца пожню.* Валынцы В.-Дзв.; *парайн.* польск. *szpecić* 'псаваць выгляд, брыдзіць'.

САШУКА'ЦЬ *зак.* Знайсці, адшукаць. *Яго ні сашукалі.* Рагулішкі Даўг.

САШЧАВІ'К *м. бат.* Падбярозавік. *Збіралі сашчавікі, укусныя яны.* Асавец Віл.

САШЧАВІЧО'К *м. памянш.* да с а ш ч а в і к. *Назбірала сашчавічкоў.* Асавец Віл.

САШЧАМІ'ЦЬ *зак.* Сціснуць. *Як сашчамлю пальцы, рашчаміць рук не магу.* Руднікі Шальч.

САШЧАПІ'ЦЦА *зак.* Стуліцца, пераплесціся. *Дуб да бярозы пахіліліся і сашчапіліся.* Кухты Віл.

САШЧЫ'ЦЬ *зак.* Шчымець (пра боль). *Сашчэла боль.* Жодзішкі Смарг.

САШЫ'ЛА *н.* Тое ж, што і с а х а в і л ы 2. *Сашылам загацюць.* Лісна В.-Дзв.

САШЫ'ЦЬ *зак.* 1. Пашыць. *Я сашыла сама плацця.* Стральцы Гродз. *Сашый ты мне йірмяк!* Кураполле Паст. *Сашыю мяшочкі на ручкі, кап не царапаўся.* Індра Красл. *Я вам сашыю кантар, давайця толькі патпінку.* Малі Астр. *Са стар'я*

*сашыла юбку.* Мішневічы Шум. 2. Сшыць адно з другім. *Нада сашыць, будзіць ёмка.* Ёдлавічы Брасл.

САШЭ′НЬ *гл.* САЧЭ′НЬ

САЯ′Н *м.* 1. Паўсукно. *Ткалі саяны: аснова — кужаль ці бумага, а патыкалася воўнай прядзенай.* Мішневічы Шум. 2. Андарак. *Прыіжджалі до нас скуольсь якіесь мушчыны і старые саяны куплялі. Тэпэр саянуов почті ніхто нэ носіт, можэ, пара старых бабуов в ціелуй околіці.* Курашэва Чыж.

СБІ′ЦЬ *зак.* Збіць. ∇*Не давярай ваўку, пакуль яго з ног не саб'еш.* Кіралі Шчуч.

СБУТВЕ′ЦЬ *зак.* Збуцвець. *Сбутвела дзерава, такоя трухлявая.* Быстрыца Астр.; *параўн.* польск. *zbutwieć* 'тж'.

СБЯЛІЗАВА′ЦЬ *зак.* Паралізаваць. *Сбялізавала яго, дзеці с поля прынеслі.* Палік Барыс.

СВАБО′ДА *ж.* Адсутнасць абмежаванняў у чым-н. *Ласа карова разбяжыцца і пашла па свабодзі.* Мсцібава Ваўк.

СВАБО′ДНЫ *прым.* Вольны. *Яны свабодныя абоя.* Кіралі Шчуч. *Каміндант сказаў: «Можаце быць свабодныя!»* Перабродзе Міёр.; *параўн.* руск. *свободный* 'тж'.

СВАВО′ЛІТІ *незак.* Сваволіць. *Малы котік с клубочком сваволіт. Собака нэ хотіев вас вкусіті, вуон оно так сваволіт.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *swawolić* 'тж'.

СВА′ГА *ж.* Паля. *Былі свагі, на свагах мост строіўся.* Валынцы В.-Дзв.

СВАДЗЁБНЫ *прым.* Вясельны. *Свадзёбныя песні нявесту нахваляюць, то хулюць, бываіць.* Пелічава Лудз. *І свадзёбныя песні співаюць.* Вялікае Сяло В.-Дзв. *Свадзёбныя песні пелі.* Буды В.-Дзв.; *параўн.* руск. *свадебный* 'тж'.

СВА′ДЗЬБА *ж.* Вяселле. *Прыехалі ў свадзьбу, какоркі прывязлі.* Курапалле Паст. *Ні я дзе быў у свадзьбя.* Ністанішкі Смарг. *Кажуць людзі, што свадзьба будзіць.* Саланое Віл. *Свадзьба пачынаецца ад музыкі, дзе музыка, там і свадзьба.* Дзераўное Стаўб. *Мая свадзьба была ў двацаць фтарым гаду.* Масішкі Красл. *У маладой два дні свадзьба ідзе.* Валеўка Навагр. *Там у іх начынаецца свадзьба, нашы ў свадзьбу паехалі. Былі мы ў свадзьбя, як яны жаніліся.* Вузла Мядз. ∇*На свадзьбя воткі было па калоткі* [вельмі многа]. Малі Астр.; *параўн.* руск. *свадьба* 'тж'; *гл.* ДАБМ, карта № 338.

СВА′ДЗЬБА ВАЎЧЫ′НАЯ *ж.* Перыяд цечкі ў ваўкоў. *Свадзьба ваўчыная: маладыя ваўкі і кумпанія, большы к Новаму году, адзін аднаго сазывают.* Чарняўскія Лудз.

СВАЖЫ′ЦЬ *незак.* Струменіць. *Сважыць струйка ўверх. У вакно сважыць вада струёй уверх.* Мярэцкія Глыб.; *параўн.* руск. *скважина* 'шчыліна'.

СВАЕ′ *займ.* 1. Кроўныя. *Свае — крэўная радня, сваяке—*

*то чужэйшыя*. Стральцы Гродз. 2. Блізкія. *Людзі не свае.* Гемзы Шальч.

СВАЗНЯ'К *м.* Скразняк. *Свазняк цягня.* Дзяніскавічы Ганц.; *парайн.* руск. *сквозняк* 'тж'.

СВАЙСТВО' *н.* Сваяцтва. ∇*Ай, свайство там такое: пень гарэў, а ён рукі грэў!* Саланое Віл.

СВА'НЬКА, СВА'НКА *ж. абрад.* 1. Сваццця. *На вяселя едуць дружына, сват і сванька, маладьі і маладая.* Дакудава Лід. *Як сванька прыіедэ, то трэба будэ пув бутля взяті.* Курашэва Чыж. *Сванка — замужная жанчына, прыездна, маладьі вязе.* Вялікія Баяры Шчуч. 2. Дружка. *У маладога дружбант і сванькі, а ў маладой — дружкі. На веселі две сванькі і две дружкі. У маладога сванька і маршалак. Сванькі пяклі караваі з мукі.* Васілевічы Гродз. *Сванька — у маладога, браты — у маладой.* Стральцы Гродз. *Кума ішла замуш, ды за сваньку я была.* Збляны Лід. *А сванька бяжыць, каб палажыць ручнік на месца.* Валеўка Навагр. *Як Олексіей будэ жэнітісе, то я сванькою буду.* Курашэва Чыж. *Две сванкі едуць з маладым.* Каўняны Гродз.

СВАР *м.* Сварка. *Прас бой, прас свар забрала хату.* Кураполле Паст. *Калі хто боляй намерыў — тады свар. Без ніякага свару, калі сказалі так, так далжно быць.* Вецярэвічы Пух.

СВА'РБА' *ж.* Тое ж, што і с в а р. *У іх кажды дзень сва́рба. Выгаварыў усё адзін другому: і гавары, і ўрэднага не рабі, і канец сва́рбі.* Кіралі Шчуч. *Як нягодна ў хаце жывуць — от сва́рба ідзе.* Галубы Маст. *Бывае і сва́рба ў хаце.* Пацаўшчына Дзятл. *У іх сварба́, сварацца.* Старыя Смільгіні Воран. *Скажы, то будзя сварба́.* Вялікія Баяры Шчуч.

СВА'РКА *ж.* Тое ж, што і с в а р. *Такая сварка, ні разбярэш нічога.* Дакудава Лід. *Будзя сварка. Я вып'ю — яна* [жонка] *падніміць сварку.* Збляны Лід. *Скажы Петру, дык сварка будзіць.* Саланое Віл. *Сварка — будуць сварыцца, звадзіцца.* Рыбчына Віл. *Так і сварка гэта — слова за слова, і да бога даходзіць.* Кураполле Паст. *А што маяш цёнгля сварку рабіц?* Парэчча Гродз. *Пашла сварка, як пачалі сварыцца.* Валынцы В.-Дзв. *Калі не ідзі — у іх усё сварка.* Кузьмічы Люб. ∇*Сварка — у хаці папрайка. Сварка — не грыбы, у лес не нада ісці, яна ў хаці пад лаўкай ляжыць.* Саланое Віл. *Сварка ў іх, аж падлога дрыжыць.* Беразіно Докш. *Чым якая сварка, то лепш песні.* Вузла Мядз. *Добрая сварка — дому папрайка.* Ахрэмаўцы Брасл., Валынцы В.-Дзв.

СВАРЛІ'ВЫ *прым.* Сварлівы. *Сварлівая ты баба!* Рыбчына Віл. *Сварліва баба!* Міратычы Карэл. *Яна сварлівая.* Гемзы Шальч.

СВАРЫ'ЦЦА, СВАРЫ'ЦЦЯ, СВАРЫ'ЦІСА, СВАРЫ'-

ТЫСЬ *незак.* 1. Сварыцца. *Яны сварацца, ругаюцца.* Кураполле Паст. *Будуць сварыцца.* Рыбчына Віл. *Сварыліся дайней.* Лісна В.-Дзв. *Што ты сварысся праз акно!* Руднікі Шальч. *Ні нада сварыцця — калі ш не абайдзесся ніяк, кап ні пасварыцця! Не ўцерпіш! Чаго сварыцця?!— сказаў і ідзі. Сварыліся цэлы дзень, і спакою німа. Мы з ёй не сварыліся.* Кіралі Шчуч. *Будут сварыціса. Не сварацца, не крычат.* Ялова Пруж. *За шчо ветэ сварытэса? Нэ сварэтэса!* Смаляніца Пруж. *Ны трэба було йім сварытысь.* Сіманавічы Драг. ∇*З зяцям сварыся — і за парох дзяржыся, с сынам сварыся — і на печ дзярыся.* Кіралі Шчуч. *«Чаму мужык сварыцца?»—«Што ў гаршку не варыцца».* Старыя Смільгіні Воран. 2. *перан.* Выказваць гукамі незадавальненне адзін адным (пра насякомых). *Сварыцца маткі пчаліныя ў лежні: адна — ту-ту-ту* [старэйшая таўсцейшым голасам], *а другая — цыў-цыў-цыў* [танчэйшым голасам]. Валынцы В.-Дзв.

СВАТ *м.*, СВАТЫ′ *мн.* І. *абрад.* Хто сватае каго-н., удзельнічае ў сватанні. *Мой чалавек быў за свата.* Кудзялянцы Шальч. *Адзін паехаў у сваты да дзеўкі.* Збляны Лід. *У сваты прыяжджалі бацька хрышчоны ці дзяцька.* Вузла Мядз. *У мяне сваты былі — гэта гонар. Ні магла адбараніцца ад сватоў. Двацацера ці болей сватоў было.* Саланое Віл. *Сватаві даецца падарак.* Каўняны Гродз. *На вяселі сват, маршалак.* Васілевічы Гродз. *Як сват прыедзе, то на кут вешалі рушнікі.* Завельцы Астр. *Многае залежыць ад свата і свацей.* Валеўка Навагр. *Прыходзіць малады, ложаць музыкантам грошы, і сват кладзе, заказваюць, што іграць.* Збляны Лід. 2. *абрад.* На вяселлі родзіч з боку маладой у адносінах да родзічаў маладога і наадварот. ∇*Ой, сват, сваточок подарыв платочок, я за гэтой платочок поцылую разочок.* Сіманавічы Драг. 3. Бацька нявесткі ці зяця. *Сват мой не вымагаў пасагу.* Малі Астр. *Сват накуплёў зямлі ў памешчыка.* Літва Лях. 4. Мянушка таго, хто часта бываў за свата. *Яго прызывалі «сват» — і да смерці астаўся «сватам».* Малі Астр.

СВАТАВА′ЦЬ *незак.* Сватаць. *Сватавалі і багатыя, і надзетыя.* Саланое Віл.

СВА′ТАЦЦА *незак.* 1. Сватацца. *Сватаўся хлопец, але, мусіць, не пара.* Чуркі Ашм. *Бываіць, што сватаіцца, сватаіцца — і адкажыць.* Буды В.-Дзв. 2. Тое ж, што і с в а т а в а́ ц ь. *Прыяжджаюць вечарам, сватаюцца.* Васілевічы Гродз.

СВА′ТАЦЬ *незак.* Тое ж, што і с в а т а в а́ ц ь. *Сватаюць яму дзеўку.* Васілевічы Гродз.

СВАТО′ЎСТВА *н.* Сватанне. *Да сватоўства гета песня.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

СВА′ТЫНЯ *ж.* Тое ж, што і с в а́ н ь к а 2. *Маладая брала сватыню.* Васілевічы Гродз.

СВА′ХА *ж.* 1. Маці мужа ў адносінах да маці ці бацькі

жонкі, або маці жонкі ў адносінах да маці ці бацькі мужа. *Маці майго мужыка і мая маці — гэто свахі.* Малахоўцы Бар. *Да мене прышлі сват с свахаю.* Крынкі Крын. *Свасі шэсдзесят сем гадоў.* Парэчча Гродз. *Моя сваха прыіхала.* Дзмітравічы Кам. 2. *абрад.* На вяселлі родзічка з боку маладой у адносінах да родзічаў маладога і наадварот. *Прыіхалі свахі до нас.* Дзмітравічы Кам. *Гэта сваха зусім молодынька, шэ дытына.* Сіманавічы Драг. 3. *абрад.* Свацця. *Была такая сваха, усё сватала.* Дварчаны Паст.

СВАЦЕ'Я *ж.* Тое ж, што і с в а́ х а 1. *Свацея садзіцца ў самым перадзе.* Новіны Нясв.

СВА'ЦІЙКА *ж. памянш.-ласк.* да с в а́ ц ц я 1. *Дзякуй, сваційка, дужа нявестачка добрая.* Саланое Віл.

СВА'ЦЦЯ, СВА'ЦЬЯ, СВА'ЦЯ *ж.* 1. Тое ж, што і с в а́ х а 1. *Свацця агуркі мне дала.* Вялікае Сяло В.-Дзв. *Сваццю чорт прыгнаў.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Яна мая свацця. Сваццi мае прыдуць.* Мярэцкія Глыб., Рудня Астравітая Чэрв. *Сваццья, давай папяём.* Саланое Віл. *Сваця са сваццяй не ўжывуцца: адна будзіць за дачку, а другая за сына цягнуць.* Вузла Мядз. *Яна мне сваця, а ён сват, нічога німа сказаць на сваіх — добрыя.* Кіралі Шчуч. *Сваця і сват.* Малькуны Ігн. *Прышла сваця да мяне. Дзве сваці ў мяне.* Рыбчына Віл. *Сваці саберацца і пагаворaць пра сваіх дзяцей.* Ёдлавічы Брасл. 2. Тое ж, што і с в а́ н ь к а 1. *Сваццi — старэйшыя жанчыны, якія ехалі за маладым.* Вузла Мядз.

СВА'ШКА *ж.* Тое ж, што і с в а́ н ь к а 2. *Маладыя дзяўчаты, якія ехалі за маладым,— свашкі.* Вузла Мядз.

СВА'Я *ж.* Тое ж, што і с в а́ г а. *Мост на сваях стаіць, мураваныя і дзеравяныя маціцы ложацца.* Ахрэмаўцы Брасл.; *парайн.* руск. *свая* 'тж'.

СВАЯ' *ж. займ.* у знач. *назоўніка.* Сваячка. *Яга свая рабіла ў канторы.* Груздава Паст.

СВАЯВО'ЛЬНІЦА *ж.* Свавольніца. *Сваявольніцы папрывыкалі па сваёй волі жыць.* Кіралі Шчуч.

СВАЯ'К, СВОЯ'К *м.* 1. Сваяк. *Нашы сваякі былі ў яе.* Груздава Паст. *Майго свата сваякі ў Адэсі.* Чапаеўскі В.-Дзв. *Сваякі — нікрэўная радня.* Вялікія Нястанавічы Лаг. 2. Муж жончынай сястры. *Мужыкі родных сэсцёр — своякe.* Смалянiца Пруж. *Своякі — мужыкі сэстэр.* Азарычы Пін. *Своякa прывів.* Дзмітравічы Кам. *Мыхалко з Лукашем булы своякы, йіхы жонкі — рідны сёстры.* Сіманавічы Драг.

СВАЯ'ЛАК *м.* Тое ж, што і с в а я́ к 1. *Дык ён жа сваялак мой, брат стрэчны. А сваялак са стога як гальдыхнецца на зямлю!* Дубашы Валож.

СВАЯСТВО' *н.* Сваяцкасць. *Вядома ж, сваяство: быў швагегам колісь.* Новіны Нясв.

СВАЯ'ЧКА, СВОЯ'ЧКА *ж.* Тое ж, што і с в а я́. *Яна сва-*

*ячка мая.* Лоск Валож. *Сэстрыному мужыкеві я своячка.* Смаляніца Пруж.

СВЕ'ДАР, СВЭ'ДАР, СВЭ'ТАР, СВЭ'ТЭР *м.* Світэр. *Вазьму сведар.* Альхоўка Навагр. *Свэдар мне купілі.* Вузла Мядз. *Свэдар знімі!* Пацаўшчына Дзятл. *Вязаная жакетка, ці свэтар.* Быстрыца Астр. *Фарбавалі свэтар.* Завельцы Астр. *Маю свэтар лепшы.* Дэгшні Шальч. *Свэтар зрабіла. Свэтар быў на гузіках.* Магуны Паст. *Пайдзі, любенька, там свэтар вісіць, прынясі!* Валеўка Навагр. *Свэтар зробіць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Роблены свэтар.* Грыкені Вільн. *Жуонка на спіцях свэтра мніе зробіла.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *sweter* 'тж'.

СВЕ'ДКА, СВЕ'ТКА *м.* і *ж.* 1. *юрыд.* Сведка. *Ён за светку быў на судзе.* Рыбчына Віл. *У светкі мяне паставілі, я стыдалася.* Валынцы В.-Дзв. *Ён светка. Я ў светках быў.* Рудня Астравітая Чэрв. *І луна светкай бываіць.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. *абрад.* Сведка на вяселлі. *Замарала сваю апенію: ні вэлянта ні было, ні светкі.* Дакудава Лід.

СВЕ'ЖАЕ, СВЕ'ЖАЯ, СВЕ'ЖА МАЛАКО' *н.* Сырадой. *Свежае малако — як падоіць карову.* Каўняны Гродз., Рыбчына Віл. *Свежае малако — толькі выдаіла.* Бенякoні Воран. *Раніцай свежая малако не п'ю.* Ахрэмаўцы Брасл. *Свежая малако.* Мярэцкія Глыб. *Папеця свежага малака, яшчэ цёпленька.* Дакудава Лід.

СВЕЖАНІ'НА, СВЕЖЭНІ'НА *ж.* 1. Свежына. *Свежаніна — парсюка закалоць, зрабіць свежаніну і пазваць сусет.* Жылі Іўеў. *Свежаніну елі.* Дакудава Лід. *Закалолі кабана — свежаніну елі. Свежаніну ядуць — пад лыжачкаю баліць.* Кіралі Шчуч. *Закалола кабана і занясла свежаніны, а хто і мне прынясе свежаніны. Свежаніны занясу суседам.* Парэчча Гродз. *Ці ў яе свежаніны няма?* Валеўка Навагр. *Свежаніны прынясла сусетка.* Новікі Гродз. *Свежэніны занесла сястрэ.* Мсцібава Ваўк. 2. Частаванне свежынай. *На свежаніне выпілі.* Валеўка Навагр.

СВЕ'ЖАНЬКІ *прым. памянш.* да с в е́ ж ы 1. *Кропчыку свежанькага з гароду ўкіну.* Солы Смарг.

СВЕ'ЖЫ, СВІ'ЖЫЙ *прым.* 1. Свежы. *Свежы хлеп мякі.* Кіралі Шчуч. *Свіжый хліб зарэ пэканый.* Дзмітравічы Кам. *Свежая вада ў вядрэ.* Валынцы В.-Дзв. *Няльзя свежага малака напіцца?* Валеўка Навагр. 2. Нетутэйшы. *Свежы чалавек — як прыдзе.* Лоск Валож. *Свежыя людзі панаяжджаўшы.* Індра Красл. *У нас дакторка свежая.* Кураполле Паст. 3. Адметны. *Што чалавек, то свежая гаворка.* Граўжышкі Ашм.

СВЕЖЫНА', СВЯЖЫНА', СВІЖЫНА' *ж.* 1. Тое ж, што і с в е ж а н í н а 1. *Свежына — свежае мяса. Скверты, свежыны прынесла.* Малькуны Ігн. *Свежыну елі.* Малыя Аўцюкі

Калінк. *Свежына заўтра будзе.* Чычалі Швянч. *Свяжына — свежае мяса любой жывёлы: ці кабана, ці курыцы.* Солы Смарг. *Свяжына: атразаям кавалкі мяса, кавалак салца ці сланіны і атразаям пячонкі, і даем саседу. Нада даць свяжыны.* Гемзы Шальч. *Свяжына — як заб'юць кабана. Свяжыны дала.* Рудня Астравітая Чэрв. *Трэба суседу свяжыны падаць.* Азяраны Раг. *Свінню як коляць, то запрашаюць: прыхоць да мяне на свіжыну!* Рыбчына Віл. *Свіжына — свежая мяса.* Мярэцкія Глыб. *Нада даць свіжыны.* Ахрэмаўцы Брасл. ∇*Свежына — у рот, здароўя — у жывот.* Кіралі Шчуч. 2. Тое ж, што і с в е ж а н і н а 2. *Вечар свяжыны спраўляюць, на свежыну завуць.* Бакшты Іўеў. 3. *перан.* Поле, якое толькі што ўзаралі. *Свежына — толькі што ўспаханая поля.* Дакудава Лід. ∇*Свая жонка надаеўшы, а сусетка — свяжына.* Малі Астр.

СВЕЖЭНІ'НА *гл.* СВЕЖАНІ'НА

СВЕ'КАР, СВЕ'КЕР *гл.* СВЁКАР

СВЕКОЦІ'ЦЦА *незак.* Праглядвацца. *Лён распрасцерла, кап свекоцілосо балото.* Баброўнікі Гарад.

СВЕКРО'Ў *гл.* СВЯКРО'Ў

СВЕКРУ'ХА *гл.* СВЯКРУ'ХА

СВЕКРЭВІ'ХА *ж.* Маці мужа. *Яна ідзе да свекрэвіхі, як трэба кудзелю прасці, ткаць і вучыцца.* Пацаўшчына Дзятл.

СВЕНТАЯ'Н *гл.* СВЕНТЫЯ'Н

СВЕНТАЯ'НКА, СВЕНТАЯ'НЬКА, СВЕНТЫЯ'НКА, СВЕНТЫЯ'ЛКА, СВЕТАЯ'НКА *ж.* 1. *бат.* Зверабой. *Свентаянька расце ў нас.* Шамялі Брасл. *Свентыялку рвуць.* Мярэцкія Глыб. 2. Настой зверабою. *Свентаянку п'юць.* Лісна В.-Дзв., Ёдлавічы Брасл. *Свентыянку п'юць.* Рагулішкі Даўг. *Светаянку п'юць ад галавы.* Ахрэмаўцы Брасл.

СВЕНТАЯ'НСКА, СВЕНТАЯ'НСЬКА, СВЕНТАЯ'НСКАЯ, СВЕНТАЯ'НСКАЕ, СВЕНТЫЯ'НСКАЯ, СВЕНТЫЯ'НСКА, СВЕНЦІЯ'НСКА, СВЕНЦІЯ'НСКАЕ, СВЕНЦІЯ'НСКАЯ, СВЕНЦІЯ'ЛЬСКАЯ, СВЕТАЯ'НСКАЯ, СЕНЦІЯ'НСКОЕ ЗЕ'ЛЬЯ (ЗЕ'ЛЬЕЧКА, ЗЕ'ЛЕ) *н.* 1. Тое ж, што і с в е н т а я́ н к а 1. *Свентаянска зеля.* Каўняны Гродз. *Свентаянскае зеле — зверабой.* Парэчча Гродз. *Свентыянская зеля — жоўты галоўкі.* Солы Смарг. *Свентыянска зеля.* Вялікія Баяры Шчуч. *Свенціянскае зелье памоцна.* Чуркі Ашм. *Свенціяльская зелья — зверабой.* Крэва Смарг. *Светаянская зеля.* Гемзы Шальч. *Сенціянское зеле заліць гарачай вадой, яно ад вантробы.* Баброўнікі Гарад. 2. Тое ж, што і с в е н т а я́ н к а 2. *Свентаянська зелья ат печані п'юць.* Граўжышкі Ашм. *Свентаянскае зельях ад усяго памоцна.* Солы Смарг. *Свенціянска зельях — яно памоцна ад усяго: ад жывата, ад печані.* Кіралі Шчуч. *Свенціянская зельечка добро на чай.* Альхоўка Навагр.

СВЕНТАЯ'НСКІЯ *мн.* Тое ж, што і с в е н т а я́ н к а 1. *Я заварываю свентаянскія, кмін заварываю.* Ракаўскія Швянч.

СВЕНТАЯ'НЬСКАЯ НОЧ *ж. рэліг.* Ноч напярэдадні свята Івана Купалы. Груздава Паст.

СВЕНТЫЯ'ЛКА, СВЕНТЫЯ'НКА *гл.* СВЕНТАЯ'НКА

СВЕНТЫЯ'Н, СВЕНТАЯ'Н, СВЕНЦІЯ'Н *м.* Тое ж, што і с в е н т а я́ н к а 1, 2. *Свентыян ад усякіх балезняў.* Бакшты Іўеў. *Свентыян, як галава баліць, то п'юць.* Рагулішкі Даўг. *Свентаян расце каля поля.* Галубы Маст. *Свенціян ат печані, нэрваў, жоўценькія невялікія кветачкі ў яго.* Галубы Маст. *Свенціян ад жалудка.* Пацаўшчына Дзятл. *Свенціян для ўсяго: для жывата, для ўсіх хвароп.* Малахоўцы Бар. *Свенціян — добрае лякарства.* Рыбчына Віл.

СВЕНЦА'ЦЬ *гл.* СВЯНЦА'ЦЬ

СВЕНЦІЯ'ДЛО *н.* Тое ж, што і с в е н т а я́ н к а 1. Навасёлкі Свісл.

СВЕНЦІЯ'НСКАЕ ЗЕ'ЛЬЕ *гл.* СВЕНТАЯ'НСКА ЗЕ'ЛЬЯ

СВЕНЦІЯ'НСКАЯ ЛЯКА'РСТВА *н.* Тое ж, што і с в е н т а я́ н к а 2. Лапічы Асіп.

СВЕНЧА'К *м.* Сектар кола. *Частка кола з некалькімі спіцамі — свенчак.* Глівін Барыс.

СВЕ'РАН *гл.* СВІ'РАН

СВЕРБ, СВЕРП, СВЁРП *м. мед.* Сверб. *Сверб такі, нямо́жна трываць.* Магуны Паст. *І такі ў малога сверп з'явіўся, калі прастудзіўся той.* Дубашы Валож. *Свербу няма і пошасці няма.* Кудзялянцы Шальч. *Такі сверп стаў ад лякарства, што ня вытрываць.* Солы Смарг. *Кароста послі вайны была, сверп, аш ташніць, так свярбіць.* Кураполле Паст. *Сверп напаў на свінню, сверп ёй, хвост апусціўшы, ходзіць — ідзі на які ражон падзяры, то ня будзя свярбець.* Кіралі Шчуч. *Свёрп нападая на свіней.* Вострава Маст.

СВЕРБЕ'ЦЬ *гл.* СВЯРБЕ'ЦЬ

СВЕРДЗЁЛАК, СВЯРДЗЁЛАК, СВЭРДЁЛОК *м.* Свярдзёлак. *Свердзёлкам пакручаны былі дыры.* Лука Нараўк. *Свярдзёлкам дзюркі круціць, а дрэль — большую дзюрку і дзе цвёрда.* Ёдлавічы Брасл. *Свярдзёлкам наганяе зубэ ў граблях.* Пацаўшчына Дзятл. *Свярдзёлак — круціць дзіркі.* Дзяніскавічы Ганц. *Свэрдёлком вэртят дыркі в дэрэві.* Курашэва Чыж.

СВЕРСЦЬ *ж.* Калодзежны журавель. *У студні сверсць.* Кемялішкі Астр.; *парайн.* літ. *svirtis* 'тж'.

СВЕ'РШЧЫК *м. заал.* Цвыркун. Чычалі Швянч.

СВЕ'РЫЦЬ *незак.* Адцягваць. *Ідзець з вялікай куксай* [валасоў] *на галаве, а кукса сверыць галаву назад.* Беразіно Докш.; *парайн.* літ. *sverti* 'тж'.

СВЕС *м.* Застрэшак. *Свес пад крышай, за дом спускаецца.* Скрудалена Даўг.

СВЕТ, СВІТ *м.* 1. Зямля, Сусвет. *Усякія людзі ёсць на свеця.* Збляны Лід. *Па свеці ходзіць. Бальшой жа свет, і ўсюды разніца.* Ахрэмаўцы Брасл. *Няма такога ў свеце.* Кухты Віл. *Мы інцерасуемся і светам: гдзе войны, хто праў, хто не праў.* Месянцы Брасл. *Свет вялікі.* Альхоўка Навагр. ∇*Свет ні біз добрых людзей. Німа на свеця дабра.* Вузла Мядз. *На свеце ружне се плеце.* Граўжышкі Ашм. *Бох не глядзіць — свет мяняіць.* Вузла Мядз. *Світ вылікый, а місця мало.* Сіманавічы Драг. 2. Далёкі край. *Адна недзя ў свеця.* Магуны Паст. *Паехала ў свет, мяне кінула.* Дакудава Лід. *Адзін сын у свеця.* Вузла Мядз. *Я пашоў у свет.* Лісна В.-Дзв. *Я ў хаця больш відзела, як ты на свеця.* Малі Астр. *Ён быў на свеце, і яна прыстроілась з другім.* Саланое Віл. *Яна бадзялася па свету.* Старыя Трокі Трак. *Была са свету нявестка.* Рудня Астравітая Чэрв. *Дэсь у світ поіхав.* Сіманавічы Драг. 3. Сонечнае святло. ∇*У акне свет, а за акном большы.* Солы Смарг. *Каб табе свет не свяціў!* Саланое Віл. 4. Электрычнае святло. *Свету няма і лямпы ў мяне няма.* Малахоўцы Бар. *Другі дзень німа света.* Вузла Мядз. *Свет нада патушыць.* Гемзы Шальч. *Светам свяціла і не нашла — як вадой разлілася качулка.* Валынцы В.-Дзв. *Ён тут пры свеце электрыкам.* Завельцы Астр. *Свет быў ня ўведжаны.* Ёдлавічы Брасл. 5. Світанне. *Сядзелі позна, а каторыі перат светам дамоў расхадзіліся.* Валынцы В.-Дзв. *Сядзеў да свету.* Лоск Валож. ∇ *Глядзіць мужык: ужо свет, а каня прапоў і слет.* Валодзькі Маладз. 6. Зрок. *Чалавек быў пры нагах, пры свеце чалавек* [бачыў]. Парэчча Гродз. 7. Чалавечае грамадства, аб'яднанае пэўнымі адносінамі. *Вэдлуг ціперэшняга света яна добрая.* Кіралі Шчуч. *Іншы свет пашоў.* Старыя Трокі Трак. *Цяперашняга свету моладзяш старых уважае.* Дакудава Лід. 8. Нармальнае чалавечае жыццё. *Яна свету не відзя за работай.* Гемзы Шальч. 9. у знач. *прысл. цяпе́рашнім све́там.* Цяпер. *Цяперашнім светам бацькоў шануюць.* Вецярэвічы Пух. 10. Вельмі многа. *Работы свет.* Кузьмічы Люб. *Зарэ в лісы світ гэтых ягыд.* Сіманавічы Драг. ◊ *Блізкі свет* — вялікая адлегласць. *Бліскі свет прайшоў напрасна.* Рудня Астравітая Чэрв. *Блізак свет хадзіць кожан дзень.* Міратычы Карэл. *За бліскі свет нада хадзіць* Мярэцкія Глыб. *За світ* — вельмі далёка. *Якый гэтой дэнь, а за світ пышком сходыла, аж за Дорогычэнь. Іван за світ їіздыв в зарібкы, аж на Камчатку.* Сіманавічы Драг. *З-за свету* — з далёкіх месц. *Людзі з-за свету сюды ездзяць, лечацца.* Валеўка Навагр. *З усёго світа* — пра чалавека, які шмат разоў мяняў сваё месцажыхарства. *«Скыль йійі мужык?» — «А дэсь з усёго світа: вжэ дэ вын тылько ны жыв!»*

Сіманавічы Драг. *Увесь свет* — вельмі многія. *Увесь свет малоў — такая выгарацъ была.* Чуркі Ашм. *Дэсь увэсь світ зыйшоўся на тыі похороны. Світ ны бачыв* — пра нешта надзвычайнае. *Шэ такого світ ны бачыв, на такое шэ й сонцэ ны свытыло.* Сіманавічы Драг. *Свет боскі* — сонечнае святло. *Іду, гэта, рас у школу, а такая ш завея, што свету боскага не відаць было.* Журыхі Віл. *Гэты свет* — зямное жыццё. *Мы на гэтым свецi госцi.* Кураполле Паст. *Гэты свет, як макоў цвет.* Хатынічы Ганц. *Той свет* — у рэлігійна-містычных уяўленнях замагільнае жыццё. *Што панясеш на той свет? Я на той свет грошы не панясу. Калі хто ўмірая і гэтага свету шкадуя, то ў гаспадарцы не вядзецца, усё гіня; не нада жалецъ гэтага свету.* Кудзялянцы Шальч. *Кап яму злежанння на том свеця ня было!* Вецярэвічы Пух. *Свет такі ёсць, туды ніхто ня сходзіць, ні даведаіцца — той свет.* Валынцы В.-Дзв. *Я на той свет не забяру — колькі мне трэба жыць.* Дарава Лях. *Жонка даўно на тым свеце.* Саланое Віл. *Ён брата роднага на той свет сагнаў.* Пераброддзе Міёр. *Останэцьця сребро-злото, дорогыйі шяты, якбы можна всэ с собою на той світ забраты.* Сіманавічы Драг. *Бяды свет* — добра, нядрэнна. *Кап паляжала капейка — бяды свет.* Лоск Валож. *Чуць свет* — вельмі рана. *Устала чуць свет. На свет брацца* — пачынаць світаць. *Чуць-чуць на свет бярэцца.* Навасёлкі Лід. *Светам біты* — дасведчаны. *Людзі светам бітыя, знаючыя.* Валынцы В.-Дзв. *Свет відзіць* — быць відушчым. *Нічога ш не хацеў, кап свет відзіў.* Гальшаны Ашм. *Свет пераварачваць* — рабіць карэнныя змены ў жыцці. *Свет пераварачваіць.* Граўжышкі Ашм. *Ні свету божага* — абсалютна нічога. *Я ні свету божага не знаю пра гэта.* Пераброддзе Міёр. *Свет завязаць* — стварыць цяжкія ўмовы жыцця. *Меў жаніцца, але нікому свет не завязаў; каб жаніўся, свет завязаў бы.* Дэгшні Шальч. *Свет на клін сышоў* — няма ніякага выйсця. *Свет на клін сышоў — ня можа падабраць жаніха дзеўка.* Пераброддзе Міёр. *Свет прахадзіць* — шмат пабачыць, многа ведаць. *Ён свет прахадзіў — многа чаго відзіў.* Малі Астр., Ахрэмаўцы Брасл.

СВЕТАВІ'Т *м. міф.* Паводле павер'яў, звышнатуральная сіла, якая ўвасабляе Сонца. Вострава Маст.

СВЕ'ТАЦЬ *незак.* Свяціць (пра святло). *Дзёр лучыну, лучына светая.* Жылі Іўеў.

СВЕ'ТАЧ, СВЕ'ТАШ, СВЯ'ТАШ, СВЕ'ТУШ *м.* 1. Лучнік. *Лучыну ўстаўлялі ў светач.* Гальшаны Ашм. *Светач — у ім палка і зубок, лучыну ўтаркнеш. Светач стаяў сярот хаты, лучыну запаліш, утаркнеш і прадзеш.* Саланое Віл. *Быў светач, вісяшчы быў і стаяшчы, у яго лучыну ўтыкалі.* Рыбчына Віл. *Быў светач-калодачка, у яе ўбіта жалеза, і лучыну ўтыкаеш.* Крэва Смарг. *Светач — калодачка, паставіць на зям-*

*лю і туды лучыну ўставіць.* Ракаўскія Швянч. *Светач — куды ўтыкалі лучыну.* Глівін Барыс. *Светач асвячаў дайней. У светаш устаўлялі лучыну.* Быстрыца Астр. *Светач быў — лучыну ўтыкалі — бляшка прыплюшчана. У светаш затыкаіцца.* Гемзы Шальч. *Дайней светаш быў, лучынай свяцілі.* Парабролдзе Міёр., Каменка Шальч. *У сценах былі светашы пароблены, так свяцілі.* Завельцы Астр. *Светаш стаяў на зямлі.* Магуны Паст. *Светаш у нас — калодачка такая, калочак, які тэркаеш у шчэлку.* Беразіно Докш. *Быў стаячы светаш, а вісячага не было. Былі світашы, торкаюць лучыну ў светаш — і лучына гарыць. Стаяў светаш, адзін рабёнак стаяў і апціраў акуркі, кап гарэла гэта лучына.* Мярэцкія Глыб. *Светаш на калодачцы сярот хаты стаіць, апціраюць вугалля.* Валынцы В.-Дзв. *У калодачку палку ўб'еш, лучынку ўторнеш — і гарыць светаш. Прадзеш, а светаш кудзельніцу запаліць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Пры светашу пралі.* Пярэкі В.-Дзв. *Лучыну ў светаш утыкалі.* Ухвала Круп. *Светашы былі, лучынку ўшчамлялі, лучынка свяціла. Святаш стаяў на палкі на зямлі, падлогі не было, зратка ў пана была падлога.* Ёдлавічы Брасл. *Святаш быў, лучыну ўпраўлялі і палілі.* Кудзялянцы Шальч. *Светаш стаял, куда нужна, его перанасілі. Лучынай свяцілісь пасля первай вайны; был светаш: у калотку палка, жэсцянка согнута, лучыну засуваеш у чашку ілі чарапок, углі сыпюцца. Лучынку зашчэмюць у светуш.* Рагулішкі Даўг. *Лучыны ў светаш торкалі. У светуш лучыну торкалі.* Ахрэмаўцы Брасл. ▽ *Вымазаўся, як светач.* Дубашы Валож. 2. Газоўка. *Светач — жалезная лампачка, з жэсці, на рылца надзенуць лісцік сырой картошынкі, трапачку замест фіціля.* Слабада Мін.

СВЕТАЯ'НКА *гл.* СВЕНТАЯ'НКА

СВЕТАЯ'НСКАЯ ЗЕ'ЛЯ *гл.* СВЕНТАЯ'НСКА ЗЕ'ЛЬЯ

СВЕ'ТКА *гл.* СВЕ'ДКА

СВЕ'ТЛА, СВЕ'ТЛО *прысл.* Відно. *Светла, ужо відаць.* Грыкені Вільн. *Ужо светла, світаець.* Чычалі Швянч. *Светла стала.* Рудня Астравітая Чэрв. *Светло як!* Стральцы Гродз.

СВЕ'ТЛЫ, СВІ'ТЛЫ *прым.* 1. Светлы. *На ольсе светлая кара. Ляшчына — тэж кара светлая.* Грыкені Вільн. *Дзеці світлыя, а яна цямнейшая.* Пацаўшчына Дзятл. 2. Празрысты. *Еслі светлая яйко, то байтун.* Малі Астр.

СВЕТЛЯЧО'К *м. заал.* Светлячок. *Светлячке свецяцца.* Валеўка Навагр.

СВЕТОВІ'Т *м.* Тое ж, што і с в е т а в і т. *Световіт — бог Слонца і самы глаўны.* Вялікія Баяры Шчуч.

СВЕТО'К *гл.* СВЯТО'К I

СВЕТ-ПАТО'П *м.* У выразе: *Ад света-патопа* — здаўна, спрадвеку. *Ад света-патопа Дзёрнавічы завуць, яшчэ пры пану так звалі.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

СВЕ'ТРЫЧАК *м. памянш.* да с в е́ д а р. *Свой светрычак аддала, асталася, як стой.* Валеўка Навагр.

СВЕ'ТУШ *гл.* СВЕ'ТАЧ

СВЕЦІ'ЦЦА *гл.* СВЯЦІ'ЦЦА I, II

СВЕЦІ'ЦЬ *незак.* Свяціць. *Сонцэ свеціць.* Васілевічы Гродз. *Зоркі свецяць.* Стральцы Гродз.

СВЕЧА'К *м.* Тое ж, што і с в е́ т а ч 1. *Мо сто гот, як былі свечакі.* Альхоўцы Лях.

СВЕ'ЧАЧКА *ж. памянш.* да с в е́ ч к а II. *Алеям запраўлялі, свечачкі абы былі на капусця. Свечачкі бегаюць па капусця.* Саланое Віл.

СВЕ'ЧКА I *ж.* Свечка. *Дайця нам свечку, калі маеце.* Стральцы Шальч. *На грамніцы свечкі свіцаць егдзяць.* Вузла Мядз. ▽ *Каб бульбу выбрала — свечку паставіла п.* Лісна В.-Дзв. *Ні богу свечка, ні чорту качарга — гаворацць так, як благі муж.* Малі Астр. ◇ *Ламаць свечкі* — помсціць за паклёп. *Яна на мяне нагаварыла, а гэта няпраўда, пайду ў цэркву — буду свечкі ламаць.* Вузла Мядз.

СВЕ'ЧКА II *ж.* Капелька тлушчу на паверхні вадкай стравы. *Свечка адна плавае. Многа свечак. Ні аннэй свечкі німа, як посная страва.* Мярэцкія Глыб. *Якая жырная зупа — свечкі плаваюць.* Солы Смарг. *Свечкі плаваюць у супе.* Завельцы Астр. *Свечкі плаваюць у булёня.* Жодзішкі Смарг. *Свечкі ходзяць.* Магуны Паст. *Свечкі плаваюць.* Рыбчына Віл. *Капуста ніпосная, свечак многа.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Капусту зварылі с салам, свечкі стаяць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Жырнае малако, свечкі жоўтыя плаваюць.* Навікі Лудз. *Наварыла супу — нідзе свечкі не відаць.* Мішневічы Шум.

СВЁКАР, СВЁКОР, СВЁКЕР, СВЁКЯР, СВЕ'КАР, СВЕ'КЕР, СВЫ'КОР, СВІ'КОР, СЁКАР *м.* Бацька мужа. *Зараз свёкар прыдзе.* Рудня Астравітая Чэрв., Пасека Ст.-Дар. *Ой, мой свёкар быў благі!* Саланое Віл. *Нявестка і свёкру дарыла падарак, і дзевяром, і залоўкам.* Вузла Мядз. *Свёкор — мужыкоў бацько.* Смаляніца Пруж. *Свёкер прыехаў у госці.* Галубы Маст. *Мае свякруха і свёкер былі мне, як родныя.* Дакудава Лід. *Свёкер адрэзаў хлеба і мяса са сцягна.* Валеўка Навагр. *Мой свёкер быў, як родны бацько.* Малахоўцы Бар. *Свёкер мне тады памог.* Чычалі Швянч. *Свёкер у хаці камандуе, ён — бацька дайней, цяпер сын не баіцца бацькі. Свёкяр дратвы рабіў, перавіваў бёрды.* Кіралі Шчуч. *Свёкяр тады быў.* Жылі Іўеў. *Мой свёкяр ідзе.* Магуны Паст. *Свекар мой лубачкі плёў с саломы.* Крэва Смарг. *Мой свекар ідзе.* Асавец Віл. *Свекар мой быў прышоўшы.* Саланое Віл. *Свекар мой даўно памёр.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Мой свекер расказуваў, што пад Меднікум выходзіць тунэль.* Крэва Смарг. *То Васін батько, а мый свыкор. Вын мый свікор.*

Дзмітравічы Кам. *Сёкар хворы даўно.* Ванелевічы Кап. *І ў дачкі, і ў сына, і ў сёкра месяца няма.* Валеўка Навагр.

СВЁКРЫ, СВЯКРЫ′ *мн.* Бацькі мужа. *Двое дзяцей мае і пры свёкрах жыве.* Мсцібава Ваўк. *Свякры іх пахаваны.* Рудня Астравітая Чэрв.

СВЁЛАК *м.* Шост каля печы для прасушвання адзення. *Свёлак каля печы. На свёлку вісіць адзеня, весілі адзеня.* Старыя Смільгіні Воран.

СВЁРП *гл.* СВЕРБ

СВІ′ДАР, СВІ′ДЭР *м.* Свердзел. *Свідрам пракруця дзірку і загоня калок, кап бэлячка не выскачыла с сахі. Свідар палажыў.* Гемзы Шальч. *Тэбяль — свідар бальшы.* Солы Смарг. *Свідэр — круціць дыркі.* Грыкені Вільн.

СВІДЗЕ′ЦЕЛЬ *м.* Тое ж, што і с в ё д к а 1. *Ест свідзецель трактарыста.* Вулька Гродз.; *параўн.* руск. *свидетель* 'тж'.

СВІДЗІ′ЦЕЛЬСТВО *н.* Пасведчанне. *Мне далі свідзіцельство, што школу кончыла.* Дзераўное Стаўб.; *параўн.* руск. *свидетельство* 'тж'.

СВІДРАВА′ЦЬ *незак.* 1. Прасвідроўваць. *Свідруюць дзюркі.* Быстрыца Астр. 2. Тачыць. *Ёсць дліны, цьмяны караед, с крыламі, ён свідруіць дзерава.* Месянцы Брасл.

СВІДЭ′РАК *м. памянш.* да с в і д а р. *Тэбяль — свідар бальшы, і маленькія свідэркі есць.* Солы Смарг. *Тэбаль — самы бальшы, а свідэрак — меншы.* Гемзы Шальч.

СВІДЭ′РАЧАК *м. памянш.* да с в і д э́ р а к. *Свідэрачак — меншы, накручваць дзірачкі.* Гемзы Шальч.

СВІЖУ′Н *гл.* СВЯЖУ′Н

СВІ′ЖЫЙ *гл.* СВЕ′ЖЫ

СВІЖЫНА′ *гл.* СВЕЖЫНА′

СВІЗГ *м.* Грукат, трэск. *Ударала са свізгам маланка.* Пелічава Лудз.

СВІ′КОР *гл.* СВЁКАР

СВІНАВА′ТЫ *прым.* Некультурны, грубы. *Яна свінавата.* Міратычы Карэл.

СВІНАКРО′П, СВІННАКРО′П, СВІНО′КРАП *м. бат.* Свінакроп. *Свінакроп на гародзя расце, беляhan цвіце.* Быстрыца Астр. *Свінакроп расцець па лоні, сочная трава.* Ёдлавічы Брасл. *Свінакроп расцець.* Лісна В.-Дзв. *У нас полна свінакропу расцёт. Раньшэ пално было свінакропу.* Скрудалена Даўг. *Свінакроп па дзірванах, на пішчаных містах расцець.* Рагулішкі Даўг. *Свінакроп нарос.* Азяраны Раг., Малыя Аўцюкі Калінк. *Свінакроп есць мелкі, любіць у азімых расці.* Месянцы Брасл. *Свіннакроп расцець на полі. Свінакроп па ячменю расцець, яго не рвуць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Свінокрап нарос.* Пасека Ст.-Дар.

СВІНАКРО′ПКА *ж.* Тое ж, што і с в і н а к р о́ п. *Свіна-*

*кропка — па-даўнейшаму - шпыргель называлі.* Граўжышкі Ашм. *Свінакропка — свінская трава.* Плябанцы Ашм.

СВІНА'Р *м.* Воўк, які нападае на свіней. *Свінары — малыя воўкі.* Быстрыца Астр. *Свінары і канюхі былі воўкі, хадзілі руінай. Свінары драбнейшыя.* Старыя Трокі Трак.

СВІНА'РКА I *ж.* Жанчына, якая працуе на свінаферме. *Свінаркай была дзесяць гадоў.* Лоск Валож. *Дачка свінаркай была.* Вецярэвічы Пух.

СВІНА'РКА II *ж. бат.* Падгруздак. *Свінаркі — смашныя грыбы.* Вузла Мядз. *Свінаркі — такія грыбы.* Багушэвічы Бярэз. *Свінаркі ў пяску растуць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Свінаркі ў зэмне ростут.* Азарычы Пін.

СВІНА'РКА III *ж. бат.* Сівец. *Свінарка — цвёрдая трава, але яе есць скаціна, яе касіць толькі пры расе.* Завельцы Астр.

СВІНА'РНІК *м.* Тое ж, што і с в і н á р. *Свінарнік свіней хапае. Гусей хапае свінарнік.* Быстрыца Астр.

СВІНАРЫ'І, СВЫНОРЫ'І толькі *мн.* 1. Участкі зямлі, парытыя свіннямі. *Выпустылы свыны с хлыва, то свынорыюв наробылы на дворі.* Сіманавічы Драг. 2. *перан.* Няроўнае поле. *Свінарыі — ямкі, неглатке поле. У свінарыях земля недобра.* Ялова Пруж. ∇ *Вороговэ Пытра ны дождалы, йіх в свынорыях похавалы, а гарбузом позвонілы, а помылом покропылы, а морквыю прыпомынулы.* Сіманавічы Драг.

СВІНІ'НЕЦ, СВЫНЫ'НЭЦЬ *м.* Свінарнік. *Свінінец — дзе свіня стаяць. Куры ў свінінцу зробяць гняздо і нясуцца.* Мсцібава Ваўк. *Хлеў — свінінец.* Смаляніца Пруж. *Свыны в свынынцёвы стоялы.* Сіманавічы Драг.

СВІНІ'НЧЫК *м. памянш.* да с в і н í н е ц. *У нас свінінчык стаіць.* Баброўнікі Гарад.

СВІНІ'НЫ, СВІНІ'ННЫ *прым.* Свіны. *Свініная бульба.* Ракаўскія Швянч. *Свінінага гною палажыла.* Вецярэвічы Пух. *У вядро свінінная ўлію.* Ністанішкі Смарг.

СВІ'НКА I, СВІ'НЬКА *ж. памянш.* да с в і н н я́ I. *Выпусціла свінку с хлева.* Беняконі Воран. *Свінька маслянкі паесць.* Мсцібава Ваўк. *Свінька рабая.* Міратычы Карэл.

СВІ'НКА II, СВІ'НЬКА *ж. мед.* Запаленне калявушнай залозы. *Свінка — такія залозы.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Свінка ў дзяцей.* Лука Нараўк. *Свінькі на шыі.* Лайпушкі Ігн.

СВІННАКРО'П *гл.* СВІНАКРО'П

СВІННУ'Х *м.* Свінар. *Свіннух свіней пасціў.* Азяраны Раг.

СВІННУХА' *гл.* СВІНУ'ХА'

СВІННЫ' *гл.* СВІНЫ'

СВІННЯ' I, СВІНЯ', СВЫННЯ' *ж.* Свіння. *Свіння вылезла с хлява.* Дварчаны Паст. *Свіння ссыпала.* Рыбчына Віл. *Дзейкі накармілі свіння.* Малыя Аўцюкі Калінк. *І куры, і*

*свіні дома, усіх нада дагледзіць.* Вузла Мядз. *Заколяць свіню, потым яе абраблялі.* Слабада Мін. *Я свіня меў.* Кемялішкі Астр. *Мае свіня добра ядуць.* Кіралі Шчуч. *У хляве загараткі: цялёнку загаратка, свінёй* [свінні] *загаратка, авечкай загаратка, каровай загаратка. Гэту ваду нада зліваць свінёй. Нада свінёй бульбу варыць. Я пайду свінёй даваць. Бульба свінёй* [свінням] *зварыўшыся. Нада падаць* [даць] *свінёй* [свінні]. Ёдлавічы Брасл. *Свіні пасціла.* Канюкай Вільн. *Злажу боты, пайду свінням дам.* Малышы Лід. *Вада свінём, нада свінём даваць.* Старыя Трокі Трак. *Гэта свіне яда. Мох з балота свіне носяц. Адзін не заколіш свіне.* Парэчча Гродз. *Дзікія свіня. Вялізная свіня. У свіні ў карыце. То карову даіць, то свіням даваць.* Грыкені Вільн. *Пастух пасэ свыны.* Горск Бяроз. *Свэнюм намышаю. Нашэ свэнэ топацця. Свэнэ буле ў хатэ разом.* Дзмітравічы Кам. ▽ *Даць свінні рогі — не было б дарогі.* Беразіно Докш. *Свінні ні да парасят, калі яе коляць.* Вузла Мядз. *Свіні ні да парасят, калі яе смаляць.* Мсцібава Ваўк. *Як бох не атпусця, то свіня не з'ядуць.* Руднікі Шальч. *Аппурсаўся, як свіня,— як хто есць і замажацца.* Малі Астр. *Обмурзаўса, як свіня, і сэдіт.* Сялец Бяроз. *Шоб свынні рогы, то вона ввэсь світ пырывырнула б. Пусты свынню за стыл, то вона й лапкы на стыл.* Сіманавічы Драг.

СВІННЯ' II, СВІНЯ' *ж.* Тое ж, што і с в і н а́ р к а II. *Свіння зверху сівая.* Солы Смарг. *Свінні — серыя, карычневатыя, мясістыя, тоўстыя грыбы, на бару растуць.* Ухвала Круп. *Свінні чорные, круглые, у лесе растуць.* Пасіене Лудз. *Свінні цёмные зверху, знізу толстые.* Істра Лудз. *Свіня — такі грыб.* Галоўні Воран. *Свіні нізенька ў зямлі растуць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Свіня — цёмныя грыбы.* Кудзялянцы Шальч. *Свіня — грыб, сверху серы, ніз белы.* Чарняўскія Лудз.

СВІНО'КРАП *гл.* СВІНАКРО'П

СВІ'НСКА, СВІ'НЬСКА ТРАВА' *ж. бат.* Спарыш. *Свінскай травы нарвала.* Вялікія Баяры Шчуч. *Свіньска трава, а якая, хто яго ведае.* Пацаўшчына Дзятл.

СВІ'НСКІ *прым.* Тое ж, што і с в і н і́ н ы. *Свінска мяса.* Вялікія Баяры Шчуч. *Яўрэі не куплялі свінскага мяса.* Парэчча Гродз. *Свінская клустасць.* Сакаляны Сакол.

СВІНУ'Х *м.* Тое ж, што і с в і н і́ н е ц. *Сходзі ў свінух і выбяры с карытка, ні ядуць нешта парасята.* Альба Нясв. *Укінь у свінух.* Жылі Іўеў.

СВІНУ'ХА', СВІННУХА', СВІНТУ'ХА *ж.* Тое ж, што і с в і н а́ р к а III. *Свіну́ха — сухая трава, яе ні касой узяць, нічым.* Валынцы В.-Дзв. *Свіну́ха ёсь, у нас расцець на пожнях.* Ахрэмаўцы Брасл. *Свіну́ха — трава такая.* Мярэцкія Глыб., Лісна В.-Дзв. *Свіну́ха, кагда косят, прыгібуецца, нереская трава.* Скрудалена Даўг. *Свінуха́ — нереская трава, прігібуецца.* Крэвені Даўг. *Свіннуха — светлая, пастаіць болей,*

*але сівая, яе трудна касіць, ядуць каровы, але не так добра.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Каса тупая, не рэжыць свіннуху.* Мішневічы Шум. *Свінтуха памочна ад звалненія.* Старыя Смільгіні Воран. *Зачапілася калашнёй — свінтуха парасла.* Валынцы В.-Дзв.

СВІНУ'ШКА *ж. бат.* Тое ж, што і с в і н а́ р к а II. *Свінушкі чорные, круглые.* Пасіене Лудз.

СВІНУШО'К *м. памянш.* да с в і н у́ х. *Дзе свінчо стаіць, дык называюць свінух, свінушок.* Альхоўка Навагр.

СВІНЦЯ'ЖЫНА *гл.* СВІНЧА'ЖЫНА

СВІНЧА', СВІНЧО' *н.* Кабан, парася, свіння. *А тут і свінча, і куры — і ўсіх накармі. Свінча ў мяне немалое.* Пацаўшчына Дзятл. *Мае свінча куды выбежыць у шкоду. Чужое свінча ўпусціла ў хлеў.* Мсцібава Ваўк. *Было адно свінча і тоя забралі.* Малахоўцы Бар. *Свінча здохла.* Альхоўцы Лях. *Свінча добрае — на мэтэр або на паўмэтэр.* Баброўнікі Гарад. *Свінча купіла. Дзе свінчо стаіць, дык там свінух, ці свінушок. Бярэш хлеп свінчаці.* Альхоўка Навагр. *Свінчо адно маю.* Граўжышкі Ашм. *Далі свінчо якоя.* Стральцы Гродз. *Здохня свінчо.* Бакшты Іўеў. *Ні ўсякая свінчо добрая. У свінчаці сытага здор здымалі.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Свінчо купіла.* Пасека Ст.-Дар. *Свінчо заколяць, і на тры нядзелі хваця.* Гемзы Шальч. *Дала свінчаці. Маё свінчо.* Рыбчына Віл.

СВІНЧА'ГА *ж., м.* і *н.* Тое ж, што і с в і н ч а́. *Свінчага — ужо падрошшая свіня.* Дакудава Лід. *Свінчага мая была 175 кіль.* Дакудава Лід. *Для свінчагі мураўца добра. Дзе якую свінчагу прадасі. Пад весну дзяржала свінчагу.* Альхоўка Навагр.

СВІНЧА'ЖЫНА, СВІНЦЯ'ЖЫНА *ж.* Тое ж, што і с в і н ч а́ г а. *Сабака адарваў вуха свінчажыні. Марос быў велькі, як вазіла продаць свінчажыну. Свінцяжына мая. Сабака адарве вуха свінцяжыні, ня пусціць з зубоў. Каб была свінцяжына, канюга ў руках.* Альхоўка Навагр.

СВІНЧА'К *м.* Тое ж, што і с в і н ч а́. *Свінчак нібальшы.* Быстрыца Астр.

СВІНЧО' *гл.* СВІНЧА'

СВІНЫ', СВІННЫ' *прым.* Тое ж, што і с в і н і́ н ы. *Свіная мука.* Груздава Паст. *Снітка — свіная трава.* Слабада Мін. *Свіноя мяса.* Вялікія Баяры Шчуч. *Свіноя мяса самая лепшая.* Кіралі Шчуч. *Смаржкі смажаць у свіным тлушчу — смачныя, што мазгі свіныя.* Руднікі Шальч. *Былі свінныя шчоткі, лён часалі.* Гальшаны Ашм. ∇ *Няма лепшай рэчы, як свіныя плечы.* Пацаўшчына Дзятл. *Ні хацела свіная нага на стале — няхай будзе пад сталом — шукаў лепшага, а трапіў у горшае.* Малі Астр.

СВІ'НЬКА I *гл.* СВІ'НКА I, II

СВІ́НЬКА II *ж.* Тое ж, што і с в і н а́ р к а II. *Свінькі серыя, як бы заркаватыя, іх жарым большай часці.* Месянцы Брасл.

СВІ́НЬСКА ТРАВА́ *гл.* СВІ́НСКА ТРАВА́

СВІНЭ́Ц *м. бат.* Спарыш. *Свінэц — трава, што свінне едят.* Азарычы Пін.

СВІНЯ́ *гл.* СВІННЯ́ I, II

СВІНЯ́ТНІК *м.* Тое ж, што і с в і н і н е ц. *Насадзіла там, дзе быў свінятнік, і ўсё пабуяло.* Баброўнікі Гарад.

СВІНЯ́ЧЫ *прым.* Тое ж, што і с в і н і н ы. *Свінячая кроў.* Ахрэмаўцы Брасл. *Была шчотка з свінячай шэрсці.* Лайпушкі Ігн. *Свінячы гной добра на агароды.* Рагулішкі Даўг.

СВІНЯ́ЧЫ БАБО́ЎНІК *м. бат.* Капытнік. *Свінячы бабоўнік дужа свіні ядуць, ён такі крохкі.* Ахрэмаўцы Брасл.

СВІР *м.* Вага ў студні з жураўлём. *Нікола ўстроіўшы сабе свір, свірам чэрпаць ваду.* Едлавічы Брасл. *Свір — у калодзежы.* Ракаўскія Швянч. *Свірам воду цігалі са студні.* Лайпушкі Ігн. *Стаіць стары свір.* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. *svirtìs* 'калодзежны журавель'.

СВІ́РАН, СВІ́РАНЬ, СВІ́РЭН, СВІ́РЭНЬ, СВЕ́РАН, СВЫ́РОН *м.* Свіран. *Свіран стаіць.* Паляцкішкі Воран. *Абмалочаная збожа ў свірнах.* Кемялішкі Астр. *У наш свіран ссыпалі зярно.* Завельцы Астр. *У свірня былі гаруды — збожа ссыпалі.* Малі Астр. *Свіран — гэта кладавая: там зярно ссыпаяцца, сланіна там.* Крэва Смарг. *Свірны былі падзелены на гаруды.* Солы Смарг. *Брат і тэрас мая свіран.* Едупка Шальч. *Пад страхой быў павал у свірня.* Магуны Паст. *Сала ў свірнах вісела, на полкі рэзалі.* Вузла Мядз. *У свірне дабро сыпем, сала вешаем.* Саланое Віл. *Свіран — дзе хлеп храніўся.* Пераброддзе Міёр. *Жыта ссыпалі ў свіран.* Лоск Валож. *Сказаў — свірна ні дам.* Сакаўшчына Валож. *Свіран у нас быў.* Беняконі Воран., Альба Нясв. *Свірны для зерна былі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Сыплю ў свіран ячмень.* Гемзы Шальч. *Збожа вазілі да свірна.* Стральцы Шальч. *У свірнах весілі сланіну.* Руднікі Шальч. *Пайду да свірна.* Крынкі Крын. *Свіран на зярно чыстая малочаная, а гумно на снапы. Зярно ссыпалі ў воркі і вазілі до свірна.* Старыя Трокі Трак. *Свіран у нас быў. У свірань пайшла.* Чычалі Швянч. *Быў свірань, паслей свірням называлі, а клеці былі першоначальна.* Дзяніскавічы Ганц. *У свірэн пайду.* Малькуны Ігн. *У свірэнь пайду. У сверне засекі.* Кіралі Шчуч. *Сверан ставілі.* Парэчча Гродз. *У сверан жыта ссыпалі.* Старыя Трокі Трак. *У сверне кумпякі вісяць. Сверан крыты саломай. Спіць пад сверанам і яблыкаў пільнюя.* Старыя Смільгіні Воран. *Сверан, да сверна жыта ссыпалі.* Сапоцкіна Гродз. *Сверан — кладоўка, дзе збожжа складалі.* Пацаўшчына Дзятл. *Сверан быў у нас.* Альхоўка Навагр., Мсцібава Ваўк., Старое Сяло Зэльв.

*Збожа ссыпалі ў сверан.* Альхоўцы Лях. *Свырон, свыронак — так звут.* Дзмітравічы Кам.; *гл.* ДАБМ, карта № 239; *параўн.* літ. *svirnas* 'тж'.

СВІРДАВА'ЦЬ *незак.* Свідраваць. *Свярдзёлкам свірдуюць у зялезі.* Стральцы Гродз.

СВІ'РКАЛА *н. задл.* Цвыркун. *Свіркала ў нас пад печчу.* Мішневічы Шум.

СВІ'РКАЦЬ *незак.* Цырыкаць. *Скаўронак свіркая ўвярху.* Малі Астр.

СВІРКА'ЦЬ *незак.* Бліскаць. *Маланка свіркае.* Баброўнікі Гарад.; *параўн.* руск. *сверкать* 'тж'.

СВІРКУ'Н *м.* Тое ж, што і с в і р к а л а. *Свіркун крычыць.* Граўжышкі Ашм. *Свіркун свіркае.* Бенянконі Воран. *Свіркун у хату залезя і свіркая.* Рудня Чэрв.

СВІРО'НАК, СВІРО'НОК, СВЫРО'НОК *м.* Невялікі свіран. *Кросна стаяць у свіронку.* Навасёлкі Свісл. *У свіронку жывуць, балькі павываліваліся.* Пацаўшчына Дзятл. *Усё стаіць у свіронку: картошка, кадушка.* Баброўнікі Гарад. *Свіронак аддзельна стаіт, тры-штэры мэтра ад дому.* Лука Нараўк. *А свіронкоў мало е, свіронок стоіт отдельно, а клець в сенях.* Смаляніца Пруж. *Трэба збыратэ в мышкі, потом вызут до свыронка.* Дзмітравічы Кам.

СВІРО'НАЧАК *м. памянш.* да с в і р о́ н а к. *Свіроначак прыстроілі да хаты.* Гайна Лаг.

СВІРСНЯ' *гл.* СВІРШНЯ'

СВІРСТУНЫ' *мн.* Свежына. *Свірстуноў прынясі пакаштаваць. Свірстуны — кусок мяса, сала. Просяць: «Прыдзі на свірстуны, бо дзісь у нас свірстуны».* Дэгшні Шальч.

СВІРУ'ШАЧКА *ж. памянш.* да с в і р у́ ш к а. *Свірушачку запаліла.* Рудня Астравітая Чэрв.

СВІРУ'ШКА *ж.* Самаробная газоўка. *Свірушкі дзелалі з гільзы: сплешчуць, трапку заложаць, карасіны ўлеюць — і яна гарыць. Слепку называлі свірушкай — маленькая цяпло, малы свет дае, таму яе так называюць. Свірушка, ці газнічка.* Рудня Астравітая Чэрв. ▽ *Свеціць свірушка, як воўча вока.* Рудня Астравітая Чэрв.

СВІРШНЯ', СВЯРШНЯ', СВІРСНЯ' *ж.* 1. Журавель у студні. *У свіршні ключ.* Жыдзевічы Іўеў. *Свіршня каля студні, чаплялі вядро.* Малі Астр. *Свіршня ў студні.* Граўжышкі Ашм. *Свіршню суня ў студню. З свіршняй студня.* Гемзы Шальч. *Свіршня была ў студні.* Руднікі Шальч. *Свіршня — палка, што апускаецца ў студню.* Старыя Трокі Трак. *Свіршня была ў студні, вісела с крукам, і вядро вісела. Баба вілавата, свірсня спускаецца на палцы.* Сасноўка Смарг. *Свірсня ў дзеравяным калодзежы.* Бакшты Іўеў. 2. Тое ж, што і с в і р. *Свіршня да студні.* Галоўні Воран. *Да свіршні веслі жэртку ваду браць.* Жылі Іўеў. *У студні свіршня.* Старыя Трокі Трак.

*Улезя на свяршню і ходзя.* Кудзялянцы Шальч. *Свірсня доўгая, на бабя.* Івашкаўцы Смарг.; *гл.* ДАБМ, карта № 224; *параўн.* літ. *svirtis* 'тж'.

СВІРЫ'БЫЙ *прым.* Люты. *Свірыбый чалавек, крычыць.* Лісна В.-Дзв.; *параўн.* руск. *свирепый* 'тж'.

СВІ'РЭН, СВІ'РЭНЬ *гл.* СВІ'РАН

СВІРЭ'ПА, СВЯРЭ'ПА *ж. бат.* Свірэпа. *Свірэпа жоўцянькая, яе многа.* Быстрыца Астр. *Свярэпа жоўценькая, расце ля рову, на полі.* Пацаўшчына Дзятл. *Свірэпа жоўцянька, на полі, каровам збіралі.* Альба Нясв. *Сушым свірэпу, потым каровы ядзяць.* Пасека Ст.-Дар. *Свярэпа нарасла.* Вострава Маст. *Рвала свярэпу.* Міратычы Карэл.

СВІРЭ'ПІЦА, СВЯРЭ'ПІЦА *ж. бат.* Тое ж, што і с в і р э́ п а. *Свірэпіца жоўтым цвіце.* Стральцы Гродз. *Свірэпіца жоўтым цветам цвіце.* Парэчча Гродз. *Свірэпіца па льну расцець.* Валынцы В.-Дзв. *Свірэпіца жоўценькім цвіціць у ячмені.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *У свірэпіцы жоўты цвет.* Беразіно Докш. *Свірэпіцу натта каровы ядуць, прывалачымо каровам свірэпіцы.* Кіралі Шчуч. *На полі свірэпіцы многа.* Мішневічы Шум. *Свірэпіцы раней было многа па пасевах.* Пераброддзе Міёр. *Свярэпіца гэта.* Рагулішкі Даўг.

СВІРЭ'ПКА, СВЯРЭ'ПКА *ж. памянш.* да с в і р э́ п а. *Свірэпка жоўта цвіціць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Свірэпка парасла.* Рыбчына Віл. *Свірэпка — ліст, як рэпа, семяно ў стручках.* Рудня Астравітая Чэрв. *Свірэпка жоўценькая, летам цвіціць.* Завельцы Астр. *Свірэпка — свіная трава, як маладая.* Слабада Мін. *Свірэпка на полі расла.* Кемялішкі Астр., Багушэвічы Бярэз., Малькуны Ігн. *Свірэпка ўрадзіла.* Вецярэвічы Пух. *Свірэпкі да халеры.* Гемзы Шальч. *Свірэпкі многа на полі.* Глівін Барыс. *Ад свярэпкі поля жоўто бывала.* Малахоўцы Бар.

СВІРЭ'ПНІК *м.* Хлеб з дабаўленнем зерня свірэпы. *Пяклі хлеп с свірэпы і называлі свірэпнік. Некалі казалі: «Пакаштуй майго свірэпніка!» Ён жоўты, харошы на выглят, але горкі; тыя струкі малолі, а млын быў — жорны.* Жылі Іўеў.

СВІРЭ'ЦЬ *незак.* Цьмяна гарэць. *Свірыць — чуць гарыць, слаба гарыць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Свірэць — слаба гарэць. Уключым лямпу 25 свячэй, яна чуць свірыць.* Азяраны Раг.

СВІ'СНУЦЬ *зак.* 1. Засвістаць. *Як свіснуў ён, лес увесь зашумеў.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. *перан.* Моцна ўдарыць. *У морду як свісну!* Кураполле Паст. 3. Хутка прайсці. *Як ішла Дамянка, ано свіснула.* Валеўка Навагр.

СВІСТА'ЦЬ, СВЫСТА'ТЫ *незак.* 1. Свістаць. *Не свішчы!* Дварчаны Паст. *Я нэ свышчу.* Горск Бяроз. ▽ *Ён свістаў, пакуль дастаў. Ты пасвішчыш, пакуль сышчыш* — пра пазыку грошы. Кураполле Паст. *Ён свістаў, пакуль дастаў, а цяпер*

*няхай свішча, пака зышча.* Збляны Лід. 2. *перан.* Моцна струменіць. *Кроў свістала да сцяны.* Слабада Мін. 3. *перан. экспр.* Хадзіць куды-н. *Шчовэчора на музыку свыстала.* Сіманавічы Драг.

СВІСТУХА′ *ж. неадабр.* Легкадумная дзяўчына. *Сын, глядзі, возьміш якую свістуху.* Солы Смарг.

СВІСЦЕ′ЦЬ *незак.* Ляцець са свістам. *Каля вушэй пулі свісцяць.* Гемзы Шальч.

СВІТ *гл.* СВЕТ

СВІ′ТА I *ж.* Верхняе адзенне з даматканага сукна. *Світы— доўгія с сукна, бабы насілі.* Рыбчына Віл. *С сукна ткалі світы.* Навікі Лудз. *Світа с усамі, доўга, у дзве сталкі, мяшком пашыта. Світа жаноцка — сівая, тасёмачкай паткладана. Світы мушчынскія былі чорныя, а жаноцкія — сівенькія.* Вецярэвічы Пух. *Світа с сукна паткана.* Баброўнікі Гарад.

СВІ′ТА II *ж.* 1. *устар.* Світа, суправаджаючыя. *Генерал ішоў і цала світа за ім.* Дарава Лях. 2. *перан. экспр.* Кампанія. *Бутылачку віна выпілі світай.* Ахрэмаўцы Брасл.

СВІТА′ЛЬНА ЗО′РКА *ж.* Заранка. *Світальна зорка рано ўсходзіць і позно заходзіць.* Стральцы Гродз.

СВІТА′НЕ *н.* Світанне. *Дачакайся світання.* Кухты Віл.

СВІТА′ЦЬ *незак. безас.* Днець. *Як будзе світаць, то я паеду.* Кухты Віл. *Світаяць, ужо зара.* Магуны Паст. *Ужо светла, світаець.* Талейкі Швянч. *І ўжо світая.* Гемзы Шальч.

СВІТА′Ч *м.* Тое ж, што і с в е́ т а ч 1. *Світач вісеў і стаяў, утыкалі лучыну.* Старыя Смільгіні Воран. *Даўней світачы былі: пад бэльку падтыкнуць лучыну, уставяць — і гарыць.* Вузла Мядз.

СВІТА′Ш *м.* Некаванае кола. *Колы былі світашы: абот з шасці часцей і някутыя, біз жалеза, восі бярозавыя, падоскаў ні было, асколачкі заганялі, кап трывалей было. Кола някутая — світаш.* Мярэцкія Глыб.

СВІ′ТКА *ж.* Тое ж, што і с в і т а I. *Світка суконная сваёй работы, шыецца с карманамі, мошастам чорным апкладзена, у зыґзачкі, насілі жанчыны.* Рыбчына Віл. *Світка доўгая, пакастачкі.* Стральцы Гродз. *Світкі шылі са сукна.* Едлавічы Брасл. *Світка с сукна, хванды ў поясе.* Дзяніскавічы Ганц. *Світку насілі с сукна, і с кужалю ткеш, а сукном патыкаеш.* Янова Рас. *Калісь і бабы насілі такіе світкі.* Баброўнікі Гарад. *Світкі шылі чорныя, з чорнага сукна.* Кузьмічы Люб. *Світку надзену.* Азяраны Раг.

СВІ′ТЛЫ *гл.* СВЕ′ТЛЫ

СВІТНО′ *н.* Тое ж, што і с в і т к а. *Світно доўгае. Світно суконнэ — світка, або жупіца.* Смаляніца Пруж.

СВІ′ТРА *ж.* Тое ж, што і с в е́ д а р. *Зложыш світру чысту.* Смаляніца Пруж.; *парайн.* руск. *свитер* 'тж'.

СВІТЫ′Й *прым.* Шчаслівы, радасны. *Ціпер усім світая:*

*жызнь, усе цвіцяць, як цвіты.* Пасіене Лудз.; *параўн.* літ. дыял. *šviñtas*, літар. *šveñtas* 'святы'.

СВІЦА'ЦЬ *незак. царк.* Сяяціць. *На грамніцы свечкі свіцаць егдзяць.* Вузла Мядз.

СВІЦЕ'НКА *ж. памянш.* да с в і т а I. Дзіцячае даматканае суконнае адзенне. *Свіценкі былі на дзіцях.* Азяраны Раг.

СВІЦІ'ЦЦА I *гл.* СВЯЦІ'ЦЦА I

СВІЦІ'ЦЦА II, СВІЦІ'ЦЦЯ *гл.* СВЯЦІ'ЦЦА II

СВІЦЬ *зак.* Звіць. *Вяровачку добрую сав'ю.* Ахрэмаўцы Брасл.

СВІШЧУГА' *ж.* Неўрадлівая зямля. *Там свішчуга, на ей не расце, гэта пустыня, пустая зямля.* Граўжышкі Ашм.

СВІШЧУ'Р *м. заал.* Тое ж, што і с в і р к у́ н. *Свішчурэ вішчаць, така гацтва, казулькі такія.* Қаўняны Гродз.

СВІШЧЭ'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і с в і с т а́ ц ь. 1. *Проста аж свішчыць конь у храпы, калі воўк.* Саланое Віл. ∇ *Вецяр свішчыць на дошч.* Ёдлавічы Брасл. ◇ *Свішчэць у кулак* — дапусціць непапраўную памылку. *Роўна не зазначыла, а куль зрабіла* [пашыла], *вот цяпер свішчы ў кулак.* Ёдлавічы Брасл.

СВО'ЕЦ *м.* Сувой. *Палатно ў своец кладзем. Круцілі палатно ў свойцы.* Баброўнікі Гарад.

СВОЙ I *м.*, СВАЕ', СВАЁ *н.*, СВАЯ' *ж.*, СВАЕ' *мн. займ.* 1. Свой. *Я сказала свой номер.* Баброўнікі Гарад. *Робіш на сваём хазяйстве.* Васілевічы Гродз. *Свайго тварагу няма.* Слабада Мін. *Цяляці свайго няма, трэба купляць.* Збляны Лід. *Свайго пастуха не было, наймалі.* Жылі Іўеў. *Гадавала свайго парася.* Вялікія Баяры Шчуч. *З свайго малачка і смятана, і масялцо.* Мсцібава Ваўк. 2. Свойскі. *Якая есць скаціна свая, такая і дзікая.* Крэва Смарг. 3. Даматканы. *С свайго палатна шылі. Ткалі сваё сукно. Із свайго сукна пінжак.* Навікі Лудз. 4. Хто знаходзіцца ў сваяцкіх адносінах. *Яны нейкія свае — далёкае раство.* Малахоўцы Бар. *Свой, што хоча, тоя робя.* Малі Астр. ∇ *Свой са сваім біся, а чужы не мяшайся.* Вузла Мядз. *Як свої собакы кусаюцьця, хай чужыі ны мышяюцьця.* Сіманавічы Драг. 5. у знач. *назоўніка сваё.* Сваё. *Купленага так не пад'ясі, як свайго.* Мсцібава Ваўк. *Я пражыла сваё.* Кудзялянцы Шальч. ◇ *Свае работы* — уласнага вырабу. *Пальто свае работы.* Васілевічы Гродз. *Гэта для мяне адзежына, яна свае работы.* Швэды Вільн. *Палатно свае работы.* Номікі Бабіц. *Спадніца свае работы.* Крынкі Крын. *На сваю галаву* — сабе на шкоду. *Аджывіла на сваю галаву.* Ёдлавічы Брасл. *Сваё ўрэ́мя* — прызначаны час. *Ні ў сваё ўрэмя ўставала.* Слабада Мін. *Гаварыць свае* — выказваць свае думкі. *Той свае гаворыць.* Навасёлкі Свісл.

СВОЙ II *гл.* СУВО'Й

СВО'ЙСКАЯ *н.* Даматканае адзенне. *Убірацца пачалі ў свойская.* Кудзялянцы Шальч.

СВО'ЙСКІ *прым.* Рахманы. *Бусел свойскі такі.* Пацаўшчына Дзятл. *Свойская курыца. Свойскі бычок.* Беняконі Воран. *Свойская кура, нікога не баіцца.* Глівін Барыс.

СВО'ЙСКІ ПЛЮШНІ'К *м. бат.* Аер. *Свойскі плюшнік сілно пах мае.* Малыя Аўцюкі Калінк.

СВО'ЙСКІЯ, СВЫ'ЙСЬКІ ГРЫБЭ' *мн.,* СВЫ'ЙСЬКІЙ ГРИБ *м.* Ядомыя грыбы. *Свойскія грыбэ і воўчыя.* Вострава Маст. *Свыйські грыбэ. Свыйській гриб.* Дзмітравічы Кам.

СВО'ЙСКЛІВЫ *прым.* Тое ж, што і с в о́ й с к і. *Такая свойсклівая курка — не баіцца, у хату забягаіць.* Беразіно Докш. *Свойсклівая курыца. Мае свойсклівыя куркі.* Валынцы В.-Дзв. *Свойсклівая кура, дзікліва, як уцікаіць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Свойсклівая курыца.* Мішневічы Шум.

СВО'ЙЧЫК *м. памянш.* да с в о й II. *Астаўся свойчык палатна.* Вялікія Баяры Шчуч., Вострава Маст. *Свой, свойчык — скрутак палатна.* Пасека Ст.-Дар.

СВО'ЛАК *м. буд.* Кладзь, якая служыла апорай страхі на сохах. *Сволак — браўно доўгая, наверх усцягваюць, калі строяць гумно.* Стральцы Гродз. *Сволак нацягваюць, калі ставяць гумно, на яго кладуць ключэ.* Малахоўцы Бар.

СВОН *м.* Пах. *Чую свон мёдам, чую свон агурком.* Гемзы Шальч.

СВОР *м.* Тое ж, што і с в і р. *Бабу паставяў і павесіў свор. Свор — што воду чарпая.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *svirtìs,* дыял. *svãras* 'тж'.

СВО'ТКА *ж.* Зводка, звесткі. *Нада своткі даваць каждую нядзелю.* Пераброддзе Міёр.; *парайн.* руск. *сводка* 'тж'.

СВОЯ'К *гл.* СВАЯ'К
СВОЯ'ЧКА *гл.* СВАЯ'ЧКА
СВЫ'ЙСЬКІ ГРЫБЭ' *гл.* СВО'ЙСКІЯ ГРЫБЭ'
СВЫ'КОР *гл.* СВЁКАР
СВЫКРО'В *гл.* СВЯКРО'Ў
СВЫННЯ' *гл.* СВІННЯ'
СВЫНОРЫ'І *гл.* СВІНАРЫ'І
СВЫНЫ'НЭЦЬ *гл.* СВІНІ'НЕЦ
СВЫРДЛО' *гл.* СВЯРДЛО'
СВЫ'РОН *гл.* СВІ'РАН
СВЫРО'НОК *гл.* СВІРО'НАК
СВЫСТА'ТЫ *гл.* СВІСТА'ЦЬ
СВЫТЛІ'ЦЯ *гл.* СВЯТЛІ'ЦА
СВЫТОВА'Я ЗОРЯ' *гл.* СВЭТОВА'Я ЗАРА'
СВЭ'ДАР *гл.* СВЕ'ДАР
СВЭКРО'Ў *гл.* СВЯКРО'Ў

СВЭ'НКА *ж.* Малая ўкладка снапоў на полі. *Свэнка — дванаццаць снопыв.* Дзмітравічы Кам.

СВЭРБЯ'ЧКА *ж. мед.* Кароста. *По войніе почті всіе на*

*свэрбячку былі хворы, аж встыдно было рукі показаті.* Курашэва Чыж.

СВЭРДЕЛОК гл. СВЕРДЗЕЛАК

СВЭ'ТАР гл. СВЕ'ДАР

СВЭТОВА'Я ЗАРА', СВЫТОВА'Я ЗОРЯ' *ж.* Тое ж, што і с в і т а́ л ь н а з о́ р к а. *Свэтовая зара — рано свэтіт, йяк дэнь скоро.* Азарычы Пін. *Вжэ свытовая зоря зыйшла, вставаты трэба.* Сіманавічы Драг.

СВЭТО'К гл. СВЯТО'К I

СВЭ'ТЭР гл. СВЕ'ДАР

СВЮРЭ'ПКА *ж.* Тое ж, што і с в і р э́ п а. Мярэцкія Глыб.

СВЯ'ДКА, СВЯ'ТКА *м.* і *ж.* Тое ж, што і с в е́ д к а 1. *Узяў мяне за святку.* Старыя Смільгіні Воран. *Паляцеў, кап святка быў.* Магуны Паст. *Святкаў засудзілі, бо фальшывыя святкі былі.* Кудзялянцы Шальч. *Святкаў двух узяў, кап светчылі.* Ракаўскія Швянч. *Святкі былі на судзе.* Чычалі Швянч.; *парайн.* польск. *świadek* 'тж'.

СВЯЖУ'Н, СВІЖУ'Н *м.* Неаплодненае яйка. *Яйцо — свяжун, ці байтун. Свяжун — яйцо; ідна, каторая свяжун, з яго не выводзіцца ціплёнак.* Лісна В.-Дзв. *Свіжун — гэтае яйка. Свіжуны — яйкі, не зайграныя петухамі.* Валынцы В.-Дзв.; *парайн.* руск. дыял. *свижа́к* 'яйка без зародка'.

СВЯЖЫНА' гл. СВЕЖЫНА'

СВЯ'ЗЫВАЦЬ *незак.* Звязваць. *Дзеці — гэта связываюць жызь чалавека.* Ахрэмаўцы Брасл.

СВЯЗЬ *ж.* 1. Змацаваныя часткі ў якіх-н. канструкцыях. *Связь палазоў у санях. Связь дзелалі ўперадзе і ззадзі: бяроску загібалі, штоб градачкі не расходзіліcь.* Пасіене Лудз. 2. *перан.* Сувязь. *Дзяржыця з намі связь!* Пераброддзе Міёр.; *парайн.* руск. *связь* 'сувязь'.

СВЯКЛА' *ж.* Буракі. *Лён, картошку, свяклу вырошчвалі.* Буды В.-Дзв.; *парайн.* руск. *свекла* 'тж'.

СВЯКО'Р *м.* Свёкар. *Свякор мой, як ацец.* Солы Смарг. *Свякор жые з імі.* Старыя Трокі Трак. *Свякор і нявестка або добра жывуць, а не, то вадзяцца.* Гемзы Шальч. *Свякор прыдзе.* Грыкені Вільн.

СВЯКРА' *ж.* Свякроў. *Свякра была з намі.* Жылі Іўеў.

СВЯКРО'ВА *ж.* Тое ж, што і с в я к р а́. *Свякрова ні дае ім жыць.* Быстрыца Астр. *У яе свякрова — ні дай бох!* Магуны Паст. *Свякрова ў яе добрая. Пайду скажу, кап ня ўцікла свякрова.* Едлавічы Брасл. *Ладзяць з свякровай, то добра, а то сын с хаты ўцякая.* Гемзы Шальч. *У маёй свякровы былі. У міне жыла свякрова.* Індра Красл. ▽ *Свякрова — не матуля, дзіця плача — не прытуля.* Гемзы Шальч.

СВЯКРО'Ў, СВЕКРО'Ў, СВЯКРЭ'Ў, СВЭКРО'Ў, СВЫКРО'В *ж.* Тое ж, што і с в я к р а́. *Свякроў не хацела яе за сына браць і не давала есці ні ей, ні яе дзіцям.* Вузла Мядз. *На-*

*равістая свякроў у яе. Трэба наравіць свякрыві.* Дзераўное Стаўб. *Добра, як добрая свякроў.* Кіралі Шчуч. *Прыехала маей свекрыві дачка.* Навасёлкі Лід. *У свекрові сядзела цалы год.* Пацаўшчына Дзятл. *Свякроў была ж пагана.* Валеўка Навагр. *Свэкроў — мужыкова маці.* Смаляніца Пруж. *Свыкров моя була добра.* Дзмітравічы Кам.

СВЯКРО'ЎКА *ж.* Тое ж, што і с в я к р а́. *Свякроўка мая памерла.* Магуны Паст. *Свякроўка была, ні пасварылася ні разу.* Саланое Віл. *Цяпер асталася толькі дзеўка і свякроўка, алі свякроўка хворая, нешта ей зрабілася.* Станіслаўцы Глыб. *Свякроўка яе прыехала, хадзіла на тройцу на магілкі.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Свякроўка Анісіна тутака.* Пярэкі В.-Дзв. *Мужа матка — свякроўка.* Ліпнікі Вільн. *Свякроўка мая прыходзіла.* Грыкені Вільн. *Свякроўка ў яе плахая.* Ракаўскія Швянч. *Свякроўка ўмірала і с трудоў прасіла: «Вынісця мяне пад машыну, чым балець доўга, мучыцца».* Рагулішкі Даўг. *Я ўспомніла свякроўку.* Пасіене Лудз. *У свякроўкі карова харошая.* Пелічава Лудз. *Свякроўка яе ў Зылупе.* Скрыпчына Лудз. ∇ *Свякроўка, як іржа жалеза, грызець нявестку.* Кураполле Паст. *Дай божэ жыць сям'я: ты да я, а не дай бог, як свякроўка, і яшчэ ніякая.* Кіралі Шчуч.

СВЯКРУ'ХА' СВЕ́КРУ'ХА *ж.* Тое ж, што і с в я к р а́. *Свякру́ха сказала, што недзе паехала.* Граўжышкі Ашм. *Як ішлі замуш, адрэжаш свякру́ся палатна кавалак.* Падгаі Мін. *Свякру́ха прышла ўчора.* Міратычы Карэл., Рудня Астравітая Чэрв., Азяраны Раг. *Мае свякруха́ і свёкер былі мне, як родныя. Ведама, свякруха́!* Дакудава Лід. *Свякруха́ мая там жыве.* Сёмкаў Гарадок Мін. *Свекруху ўбілі немцы.* Малыя Аўцюкі Калінк.; *гл.* с в е к р э в і х а.

СВЯКРЫ' *гл.* СВЁКРЫ

СВЯКРЭ'Ў *гл.* СВЯКРО'Ў

СВЯНТЫНЯ' *ж.* Урачыстасць. *Якая святыня была ў іх, як вечар — усё заціхала.* Груздава Паст.

СВЯНЦА'ЦЬ, СВЕНЦА'ЦЬ *незак.* 1. *царк.* Свянціць. *Свянцаюць зёлкі.* Мярэцкія Глыб. *На вербніцу свянцалі вербу.* Дарава Лях. *Ваду свенцаюць у цэркве.* Бакшты Іўеў. 2. *перан.* Лупцаваць. *І так ён стаў яе свянцаць тым дупцом!* Дубашы Валож.

СВЯНЦІ'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і с в я н ц а́ ц ь 1. *Вербніца, вербная нядзеля, вербачку свянцілі. Прышоў поп, хату свенціць, а я яго ні прасіла.* Збляны Лід. *На Пятра свенцяць зелейко.* Валеўка Навагр. *Бувала, свянцілі свянцонку.* Валынцы В.-Дзв. *Мяса казла няможна было свянціць.* Жылі Іўеў. *Восьмага верасня аспошка — свянцілі жыта.* Завельцы Астр.

СВЯНЦО'НКА *ж. рэліг.* Прадукты, якія свянцілі. *Свянцонка: у вялікую суботу вечарам няслі свянцонку свенціць* [мяса, яйкі і інш.]. Курапполле Паст.

СВЯНЦО'НЫ, СВЯНЦА'НЫ *дзеепрым. царк.* 1. Асвячоны. *І свечку свянцоную паліла, усё ш памёр.* Слабада Мін. *Свянцону воду лілі ў калодзезь, кап дожджык скора пайшоў. На вербніцу вербу свянцалі, і той вербай свянцанай ганілі кароў.* Дарава Лях. 2. у знач. *назоўніка свянцóнае н.* Тое, што пасвяцілі. ▽ *Свянцонае на сваёй ніве закопвалі, кап ураджай добры быў.* Збляны Лід.

СВЯРБЕ'ЦЦА *незак.* Свярбець. *Свярбіцца галава, нада лазню цепліць.* Валынцы В.-Дзв.

СВЯРБЕ'ЦЬ, СВЕРБЕ'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і с в я р б é ц ц а. *Паскрабі — свярбяць плечы.* Быстрыца Астр. *Галава свярбіць.* Солы Смарг. *Свярбіць голаў, падрапаць трэ.* Стральцы Гродз. *Свярбіць цела, то цярэбіцца.* Мярэцкія Глыб. *Будзя што свярбець, сама пачэшаш.* Вялікія Баяры Шчуч. *Вот спары свярбяць, аш чырвоныя.* Кіралі Шчуч. *Стала галава свярбець.* Ёдлавічы Брасл. *Прышчык свярбіць.* Пярэкі В.-Дзв. *Блыха як укуся, аж свярбіць.* Гемзы Шальч. *Галава свярбіць, трэба памыць.* Кудзялянцы Шальч. *Мне свярбіць рука.* Крынкі Крын. *Галава, цела свярбіць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Свербіць галава.* Малыя Аўцюкі Калінк. ▽ *Калі пад нізом нага свярбіць — дарога.* Вузла Мядз. *Свярбіць кулак — хочацца біцца. Яму кулак свярбіць — хоча біцца.* Малі Астр.

СВЯРБУ'ЧЫ, СВЯРБУ'ШЧЫ *прым.* Якому ўласцівы моцны сверб. *Свярбучы прышчык ускочыў.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Кароста свярбушчая.* Каўняны Гродз.

СВЯРБЯТУ'ХА *ж.* Сверб. *Свярбятуха напала — доўга не мыясся.* Магуны Паст.

СВЯРДЗЁЛАК *гл.* СВЕРДЗЁЛАК

СВЯРДЛО', СВЫРДЛО' *н.* Свердзел. *Свярдло вялікая.* Магуны Паст. *Свырдло купыв.* Дзмітравічы Кам.

СВЯРО'НЧЫК *м. памянш.* да с в і р а н. *Свіран, свярончык, там камора.* Альхоўка Навагр.

СВЯРШНЯ' *гл.* СВІРШНЯ'

СВЯРШЧО'К *м. заал.* Тое ж, што і с в é р ш ч ы к. *Свяршчок у сене.* Магуны Паст. *Свяршчкоў цяпер ні чуць, вывяліся яны.* Дакудава Лід. *Свяршчок спаць не давоў: чырыкае і чырыкае.* Пацаўшчына Дзятл. ▽ *Есць свяршчкі, свяршчок, ён на бяду крычыць.* Альхоўцы Лях. *Як ты з валамі і с каравамі, то жыві з намі, а як без валоў, без кароў, то ідзі сабе здароў — так кажуць на свяршкі.* Альхоўцы Лях.

СВЯРЭ'ПА *гл.* СВІРЭ'ПА

СВЯРЭ'ПІЦА *гл.* СВІРЭ'ПІЦА

СВЯРЭ'ПКА *гл.* СВІРЭ'ПКА

СВЯ'СЛА *н.* Нізка лыка. *Ніжа луцця, лозу і робіць свясла. Верчы поверцім і зробім свясла, ніжам луцця, лозу.* Малыя Аўцюкі Калінк.; в я с л ó I.

СВЯСЦІ′ *зак.* Вынішчыць. *Свялі вайкоў, можа, гдзе і шатаіцца які.* Гемзы Шальч.

СВЯ′ТА I, СВЯ′ТО, С′Я′ТО *н.* 1. Свята. *Кажуць, заўтра свята, некі дзявятнік.* Гальшаны Ашм. *У гадавыя святы нельга пазычаць нічога.* Вузла Мядз. *Мама, калі будзя свята?* Навасёлкі Лід. *Заўтра будзе свята.* Чычалі Швянч. *Дайней на свята фартух пашыяць.* Завельцы Астр. *Многа святаў у гэтым месяцы.* Ністанішкі Смарг. *А чысты хлеб елі толькі бальшымі святамі.* Саланое Віл. *Заўтра свято.* Альхоўцы Лях. *Свята — руздво, вэлігдэнь. Взавтра вэлікэ с′ято.* Курашэва Чыж. *Коля, якое то с′ято?* Пасека Ст.-Дар. 2. у знач. *прысл. святам.* У час свята. *Святом будзя хадзіць.* Бакшты Іўеў. *Святам у ягады сходзім, можна і буднім днём.* Груздава Паст. *Дайней зберуцца святам, гаворачь, дзе што сеяць будзім, платы гарадзіць, гаворачь, калі касіць будзім, калі жыта вазіць — усё гаворачь.* Груздава Паст. *Ні нада святам купаць дзяцей.* Кураполле Паст. *Бывая, і святам робім.* Гальшаны Ашм. *Бальшым святам пякуць кішку.* Саланое Віл. *Святам у нас ня робяць.* Вялікія Баяры Шчуч., Альхоўцы Лях., Лоск Валож.

СВЯ′ТА II, СВЯ′ТО *прысл.* Свята. *Вызаву доктара, што ён скажа, то і свята.* Гальшаны Ашм. *Слово матэры — закон і свято.* Сялец Бяроз.

СВЯ′ТАШ *гл.* СВЕ′ТАЧ

СВЯ′ТКА *гл.* СВЯ′ДКА

СВЯТКАВА′ЦЬ *незак.* Святкаваць. *Не святкавалі гэта свята.* Паляцкішкі Воран. *На чварты дзень пасля вялікадня ў сераду святкавалі ад граду, кап град не пабіў.* Завельцы Астр. *Адны святкуюць, а другія робяць.* Солы Смарг. *Святкавалі каляды, была посная куцця і багатая куцця.* Рыбчына Віл. *Тэрас і нядзелю не ўсе святкуюць.* Старыя Трокі Трак. *Ні святкуем прысвяткі.* Альхоўцы Лях.

СВЯТКІ′ *мн. рэліг.* 1. Прамежак часу ад каляд да вадохрышчаў. *У святкі мой папа пашоў дамоў, і вайкі напалі на яго.* Кураполле Паст. *Зара святкі кончацца.* Лоск Валож. 2. Галоўныя хрысціянскія святы. *У гаду дванаццаць святкоў па закону, а астальныя — залажэнні.* Вецярэвічы Пух.

СВЯТЛЕ′Й *прысл.* Лепш. *У тысяча дзевяцьсот пятнаццатым годзе выяхалі ў Расею, шэсь лет жылі, у Расеі там святлей жывуць.* Вострава Маст.

СВЯТЛІ′ЦА, СВЫТЛІ′ЦЯ *ж.* 1. Светлы, чысты пакой у хаце. *Святліца — найбольшы пакой у хаце.* Вострава Маст. *Свытліці до покою.* Дзмітравічы Кам. 2. *гіст.* Будынак, дзе збіралася моладзь для забаў. *Была святліца, яна была обшчая, глядзеў яе стораж. Танцавалі ў святліцы.* Дзераўное Стаўб.

СВЯТЛО′ I *н.* Асвятленне. *Мы нядаўна дасталі святла, палучылі святло. У Рудаміну ехаў без святла.* Гемзы Шальч.

*Некалі не было святла — смаляка палілі і малацілі.* Кальнішкі Шальч. *На стаўбэві святло. Загасі святло!* Лука Нараўк.

СВЯТЛО′ II *прысл.* Светла, відно. *У хаці святло і цёпла.* Малькуны Ігн.

СВЯТЛЯ′К I *м.* Тое ж, што і с в е́ т а ч 1. *Ткалі пры лучыня, устаўлялі ў святляк. Святляк стоячы. Святляке рашчэпаны — для лучыны раней.* Малахоўцы Бар. *Святляк — лучынай свяцілі.* Тухавічы Лях.

СВЯТЛЯ′К II *м.* Гнілая драўніна, якая свеціцца ў цемнаце. *Святляк у гнілым дрэве.* Альхоўцы Лях.

СВЯ′ТО *гл.* СВЯ′ТА I, II

СВЯТО′ВЫ *прым.* Добра выхаваны. *Ён святовы чалавек.* Гемзы Шальч.

СВЯТО′К I, СВЕТО′К, СВЭТО′К *м. рэліг.* Храмавое свята. *Першы святок — Марыя памерла.* Альхоўцы Лях. *Гадавыя храмавыя святкі.* Груздава Паст. *На святка падглядаюць пчол, дваццаць восьмага аўгуста.* Малахоўцы Бар. *На сплыння в Лосынцях був святок.* Сіманавічы Драг. *Ек був святок у Пувітый.* Радастаў Драг. *Хутко в Выдыборы будэ святок.* Відзібар Стол. *Обуласа, на светок ідзе.* Ялова Пруж. *Свэток — прыстольны празднік.* Смаляніца Пруж. ∇ *Пятрок — асіны святок, іспас — усяму час, прачыстая — ачысціць усё чыстае.* Ванелевічы Кап.

СВЯТО′К II *м.* Світанне. *Як толькі чуць святок, мы вышлі з гумна і ўвідзілі маленькую хатку.* Мацясы Мядз.

СВЯТО′К III *м.* Тое ж, што і с в я т л я́ к 1. *Такі святок быў; лучыну ўправя ў святок — і гарыць.* Кудзялянцы Шальч.

СВЯТО′ЧАК *м. памянш.* да с в я т о́ к II. *Вышла з дому чуць святочак.* Міратычы Карэл.

СВЯТО′ЧНЫ *прым.* Які мае адносіны да свята. *Святочная адзежа.* Саланое Віл.

СВЯТЫ′ *прым.* Святы. ∇ *Кажды святы рукі да сябе дзяржыць* — кожны горне да сябе. Малі Астр. *У гневе, з задору чалавек так скажа: «А як яе святая зямля нося?!» — «А як цябе нося, так і яе нося!»* Ёдупка Шальч.

СВЯТЫ′ ДУХ *м. рэліг.* Тройца. ∇ *Да святога духа не скідай кажуха, а па светлым дусе ў тым самым кажусе.* Пацаўшчына Дзятл.

СВЯЦА′ЦЬ *незак.* Тое ж, што і с в я н ц а́ ц ь 1. *Свяцаць жыта, свяцалі жыта і засявалі.* Рыбчына Віл.

СВЯЦЕ′ЛЬНІК, СВЯЦІ′ЛЬНІК *м.* Тое ж, што і с в е́ т а ч 1. *Свяцельнік быў каля печы для лучыны.* Дакудава Лід. *Лучыну ўтыкалі ў свяцельнік.* Збляны Лід. *Быў свяцільнік: лучыну ўсаджвалі — і гарэло.* Міратычы Карэл.

СВЯЦЕ′Ц *м.* Тое ж, што і с в е́ т а ч 1. *Лучыну торкалі ў свяцец.* Лісна В.-Дзв. *Свяцец сярэць хаці паставілі.* Янова Рас.

СВЯЦІ′ЦЦА I, СВЕЦІ′ЦЦА, СВІЦІ′ЦЦА *незак.* Выпраменьваць святло. *Агонь свеціцца.* Магуны Паст. *Агонь свеціц-*

*ца — пастухі разлажылі.* Жылі Іўеў. *Пень свеціцца.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Свіціцца агонь.* Пасека Ст.-Дар.

СВЯЦІ'ЦЦА II, СВІЦІ'ЦЦА, СВЕЦІ'ЦЦА, СВІЦЕ'ЦЦА, СВІЦЕ'ЦЦЯ *незак.* Прасвечвацца. *Данасіў, што свеціцца. Была крыта трасцягом страха, во свяцілася!* Солы Смарг. *Свеціцца вядро, будзя цячы. Будзе свяціцца вядро.* Жылі Іўеў. *Віжу — шчэліна свеціцца.* Слабада Мін. *У гумне нідзе ні свіцілася. Свіціцца сіво. Спадніца свіціцца — знасілася.* Малахоўцы Бар., Магуны Паст. *Крыша свіціцца.* Беразіно Докш. *Свіціцца — ужо нікрэпкае. Свіціцца страха, еслі плахая, цячэ. Ужо поле свіціцца, як выходзіш на край лесу.* Пасека Ст.-Дар. *Свіціцца поля праз лес, як ідзеш.* Рудня Астравітая Чэрв. *Вынасілася юбка — свіціцца.* Мішневічы Шум. *Свіцеліся штаны, я латкі паклаў.* Рудня Чэрв. *Свіціцца поля, свіціцца марля.* Малыя Аўцюкі Калінк. *У лес пойдзіш, вун глядзі — свіціцца поля. Страха свіціцца: благая, працякая, драніцы шчыльна не прыб'еш.* Рыбчына Віл. *Закрыць слоік трэба шчымка, кап не свіцелася, кап воздух не праходзіў. Будзе свіцецця пат крышкай.* Кіралі Шчуч.

СВЯЦІ'ЦЬ I *незак.* 1. Тое ж, што і с в я ц і ц ц а I. *Свяціў Месяц.* Дарава Лях. *Лучынай даўней свяцілі.* Пераброддзе Міёр. ∇ *Як на яе слонца свеця?!* Ёдупка Шальч. *Свяціў бы мне Месіц, а звёзды я колам падапру.* Лісна В.-Дзв. 2. Успрымаць святло. *Мае вочы ня свеціць.* Рагулішкі Даўг. 3. Выстаўляць напаказ. *Даўно было: на ровары ехала, а матка крычыць; «Вярніся, чаго на хлопца каленамі свеціш?!»* Гальшаны Ашм.

СВЯЦІ'ЦЬ II *незак.* 1. Тое ж, што і с в я н ц а́ ц ь 1. *Абівалі снапок, свяцілі зярно і ім засявалі.* Багушэвічы Бярэз. *На тройцы свяцілі малака, твларагу цэлы цэбар назбіраюць.* Саланое Віл. 2. Святкаваць. *Вялікая свята, асабліва маладзіковая нядзелька: кожную маладзіковую нядзельку вельмі свіцяць, яе святкуюць, дажэ сена ня грэблі, пакуль імша ня 'тойдзя. Трэба свяціць — вялікае свята.* Рудня Астравітая Чэрв. *Добра свяціць, як яно работа зроблена.* Вецярэвічы Пух.

СВЯЦІ'ЦЬ III *незак.* Сведчыць. *За светку, свяціць трэба.* Азяраны Раг.

СВЯЧО'К *м.* Тое ж, што і с в я т л я́ к I. *Свячок быў, стаўлялі яго, як церніца, пароблены губы, дзюркі е ў тых губах, і цёску туды закладалі, дым на хату, акурая хата ад дыму.* Альхоўцы Лях.

СВЯШЧЭ'НІК *м.* Свяшчэннік. *Ен учыўся за свяшчэніка.* Старыя Смільгіні Воран. *Свяшчэнікі загадвалі плясці вянькі.* Месянцы Брасл.

СГАЙСА'ЦЬ *зак. экспр.* Збегаць. *Давай сгайсаім у лес, што ты там гойсаіш?!* Ёдлавічы Брасл.

СГРЭБА'ЦЬ *зак.* Згрэбці. *Лігла спаць, а як сваты прыехалі, сгрэбала адзежу — і на печ.* Саланое Віл.

СДЗЕЗЯРЦІ'РАВАЦЬ *зак.* Дэзерціраваць. *Адзін сэдзезярціраваў.* Крэва Смарг.

СЕ *займ.* з *род.* Сябе. *То я два дні до се дайці не магла.* Бабро́ўнікі Гарад.

СЕБРАНЫ'Я ПШЧО'ЛЫ *мн.* Пчолы, якімі сумесна карыстаюцца два гаспадары. *Калі рой у чужую раёўку ўцёк — гэта себраныя пшчолы: мёд дзеляць папалам гаспадар пшчол і раёўкі.* Кальнішкі Шальч.

СЕВА'ЛКА, СЕВЯ'ЛКА, СІВА'ЛКА *ж.* Сявенька. *Сабіралі рой у севалку. У дзве севялкі сеяць жыта.* Гемзы Шальч. *Сівалку вазьму і сею.* Саланое Віл. *Сівалку не забудзь узяць!* Беразіно Докш. *Сівалка — што сеюць.* Янова Рас. *Сівалка — спецыяльная карзіна, з якой сеілі збожжа.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Зразалі ліпу і здзіралі, а з маладых ліп шылі сівалку.* Ухвала Круп.

СЕВЕ'НКА *ж.* Тое ж, што і с е в а́ л к а. *Севенкі плялі з слокснаў.* Старыя Смільгіні Воран.

СЕ'ВЕР, СЕ'ВІР *м.* 1. Поўнач. *Ад севера сукоў меней.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Халодны вецер. *Бывала, толькі, здаецца, ляжыш, а ногі ныюць, пашчэпаюцца ат северу.* Оцкавічы Паст. *Сягоння север — гэта халодны вецер.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Севір — вецер такі зімой, пячэ ў твар.* Гайна Лаг. ◇ *Северам дыхаць* — быць празмерна ганарлівым. *Гарды чалавек, як ты да яго не патхоць, усе роўно ён северам дыша. Прышлі хлапцы, яна да іх северам дыша, гардавата да хлапцоў.* Мсцібава Ваўк.; *парайн.* руск. *север* 'поўнач'.

СЕ'ВЕРЫЦЬ *незак.* Трэскацца ад холаду. *Дайней босыя хадзілі, вясной ногі северылі, пасевераюць, аж пятухі чырвоныя пяюць.* Вузла Мядз.

СЕВЯ'ЛКА *гл.* СЕВА'ЛКА

СЕ'ГЦІ *гл.* СЕ'СЦІ

СЕДАВІ'ЦЦА, СЕДАВІ'ЦЦЯ *гл.* САДАВІ'ЦЦА

СЕДА'К *м.* Сядзенне ў возе. *Седак — дошка ўпаперок у возе, што сядзець.* Васілевічы Гродз.

СЕ'ДАЛА, СЕ'ДАЛО, СІЕ'ДАЛО, СЫ'ДАЛО *н.* 1. Жэрдкі ў куратніку, на якія куры, індыкі садзяцца нанач. *Куры на седала пасядуць.* Парэчча Гродз. *Ужо куры на седала пашлі.* Бакшты Іўеў. *Седала для курэй.* Дакудава Лід. *Пашлі куры паселі на седала. Ужо індыке селі на седала.* Кіралі Шчуч. *Пашлі куры на седала.* Вялікія Баяры Шчуч. *Седала — дзе куры сядзяць.* Пацаўшчына Дзятл. *Курачкі мае пашлі на седала.* Кудзялянцы Шальч. *На седала куры селі. Кыш, акыш на седала!* Альба Нясв. *Куры садзяцца на седала.* Малахоўцы Бар. *Укралі з седала куру.* Вецярэвічы Пух. *Мая кура ні сядзела на седале.* Пасека Ст.-Дар. *Куркі ляцяць на седала.* Азяраны Раг. *Усе куры паселі на седала.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Седало — куры там.* Стральцы Гродз. *Курыца ўзляцела*

*на седало і здохла.* Кузьмічы Люб. *Седало — дзе куры сядзяць.* Альхоўцы Лях. *Куры сядаюць на седало.* Крынкі Крын. *Седало — дзе седзят куры.* Лука Нараўк. *Куры вжэ на сіедало пушлі, а на дворыэ тэмніее. Куркам трэба сіедало зробіті.* Курашэва Чыж. *Куры сыдят на сыдоловэ.* Дзмітравічы Кам. 2. Сядзенне ў прасніцы. *На седале сідзім і прадзем цэлы дзень.* Баброўнікі Гарад. 3. Дэталь калаўрота. *На седале ёсць дзве ручкі і шпулькі.* Баброўнікі Гарад.

СЕ′ДАЛЬНІЦА *ж.* Тое ж, што і с е́ д а л а 2. *Седальніца ў прасніцы, на чым сядзець.* Ракаўскія Швянч.

СЕ′ДЗЕНЬ *м.* Сядзенне. *Сярэдзіна ад седня баліць.* Вострава Маст.

СЕ′ДЗІЛКА, СЕ′ДЗЕЛКА, СЕ′ДЗЯЛКА *ж.* 1. Тое ж, што і с е́ д а л а 2. *Седзілка — у прасніцы досачка, на ей сядзіш і прадзеш.* Кураполле Паст. *У прасніцы седзілка, на седзілцы сядзіш.* Саланое Віл. *У прасніцы седзялка, на ёй сядзіш.* Магуны Паст. 2. Стойка для дзяцей. *Дзе садзілі раней дзяцей — называлася седзілка.* Ухвала Круп. 3. *пчал.* Сядзенне ў прыстасаванні для лазення на дрэва. *Да плеці прывязвалі седзілку, куды садзіўся зямец.* Азяраны Раг.

СЕ′ДЛІСКО *н.* Сядзіба. *Седліско — гэта сядзіба.* Вострава Маст.; *парайн.* польск. *siedlisko* 'ачаг, цэнтр'.

СЕДЭМНА′СЦЯ *ліч.* Семнаццаць. *Мне было седэмнасця гадоў.* Завельцы Астр.; *парайн.* польск. *siedemnaście* 'тж'.

СЕ′ЖА *ж. рыб.* 1. Ез. *Сежа — дзве драбінкі забівалі ў рэчку і чатыры кручкі забівалі, і жэрдку кручок прыцісне. Робяць сежу: робяць драбіну, ставяць яе ў рэчку і лапкамі зацягваюць, каб рэчку перагарадзіць, і ставяць буч.* Гемзы Шальч. 2. Сетка, якую ставяць пасярод ракі для лоўлі рыбы. Нізок Уздз.

СЕ′ЖАНКА *ж.* Тое ж, што і с е́ ж а 1. Лісна В.-Дзв.

СЕ′ІЦЬ *гл.* СЕ′ЯЦЬ

СЕЙМІКАВА′ЦЬ, СЭЙМІКАВА′ЦЬ *незак. перан.* Абмяркоўваць, дамаўляцца. *Хопіць вам сеймікаваць — давайце справу хутчэй рабіць. Цэлую гадзіну мы з ім сэймікавалі, пакуль упрасіў яго памагчы.* Дубашы Валож.; *парайн..* польск. *śejmikować* 'тж'.

СЕК *м. гіст.* Мера вагі сыпкіх цел ёмістасцю 12 кг. *Сек весіў трыццаць фунтаў, такая мера была, было такоя судно, такая кадушка с клёпак здзелана. Большы — чацвярык, а меньшы — сек.* Лісна В.-Дзв.

СЕКАНУ′ЦЬ, СІКАНУ′ЦЬ *зак.* 1. Секануць. *Ён сякануў тапаром.* Саланое Віл. 2. Моцна ўдарыць. *Вот сіканув бічом!* Завельцы Астр. 3. *перан.* Лінуць (пра дождж). *Раптам секануў дошч.* Малі Астр. ∇ *Дожджык, дожджык, секані — я паеду на кані.* Дарава Лях. 4. *перан.* Уджаліць. *Як раяцца пчолы, жодлам сіканёць.* Быстрыца Астр. 5. *перан. экспр.* Нечака-

на сказаць каму-н. што-н. непрыемнае. *Яна секанула мне: «Ты па-старыннаму мыеш!»* Вецярэвічы Пух.

СЕКА′Ч, СІКА′Ч, СЯКА′Ч, СЫКА′Ч *м.* 1. Сякач. *Узяў секача і сячэ бульбу.* Крынкі Крын. *Секач — што сячэш бураке. А ён за секача ды за ёю.* Мсцібава Ваўк. *Сякуць траву секачом.* Лоск Валож. *Картошку, буракі сёк сікачом.* Паляцкішкі Воран. *Сякач — што сячы зялё, картошку. Секачы рабілі зелё сеч.* Кудзялянцы Шальч. *Сыкач, можэ, знайдыцця?* Дзмітравічы Кам. 2. Крэсіва. *Была скалка, кругла, завернута, гарун з бярозы сушылі, на камешык гарун лажылі, патом секачом сячом, гарун загарался.* Пасіене Лудз. 3. *тэх.* Бабка для кляпання касы. *Сякач — касу кляпаць: палка, на ёй жалеза набіта.* Ракаўскія Швянч.

СЕ′КВІНЫ толькі *мн.* Мача. *Секвінамі трэ намачыць, як лыткі парэпаюцца.* Дзяніскавічы Ганц.

СЕКНАВЕ′ННЯ *н.* Рэлігійнае свята, якое адзначаецца 29 жніўня ст. ст. *У нас свята секнавення.* Баброўнікі Гарад.

СЕ′КЦІ *незак.* 1. Сячы. *Пойдзем секці лес.* Тухавічы Лях. 2. *перан.* Кусаць (пра насякомых). *Камарэ секут.* Вялікі Краснік Пруж.

СЕ′КЧЫ *незак.* 1. Тое ж, што і с е́ к ц і 1. *Нада было пініць і секчы.* Вузла Мядз. *Трэба секчы дзераво.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Крэсіць. *Секлі агонь.* Палік Барыс. 3. *перан.* Дзьмуць (пра марозны вецер). *Пачало секчы ў твар.* Альхоўцы Лях., Міратычы Карэл.

СЕ′КЧЫСЯ *незак.* 1. Біцца, ваяваць. *Секліся салдаты толькі пабраныя да войска.* Быстрыца Астр. 2. Кусацца (пра насякомых). *Сякуцца между сабой пчолы.* Дакудава Лід., Ахрэмаўцы Брасл.

СЕ′ЛІШЧА *н.* 1. Сядзіба. *На сваём селішчы куры дзяржала.* Кузьмічы Люб. 2. Месца, дзе стаяла хата. *Селішча старая.* Рудня Астравітая Чэрв. *Стара селішча, селішча асталося.* Пасека Ст.-Дар. *Селішча — дзе хата стаяла.* Малыя Аўцюкі Калінк.

СЕЛІ′ШЧА *н.* Сцелішча. *На селішчы даўней лён рассцілалі.* Буды В.-Дзв.

СЕЛЬ *прысл.* Дасюль. *Вады было роўна сель во, па падпах.* Замошша Брасл.; *параўн.* руск. устар. *доселе, досель* 'тж'.

СЕЛЬСАВЕ′Т, СЕЛЬСОВЕ′Т *м.* Сельсавет. *Быў прадсядаталям сельсавета.* Дзераўное Стаўб. *Ідзетэ ў сельсовет. Побыла ў сельсовеці і пошла.* Смаляніца, Лінова Пруж., Угляны Бяроз.

СЕЛЯДЗЕ′Ц, СІЛЯДЗЕ′Ц, СЯЛЯДЗЕ′Ц *м.* Селядзец. *Селядзец натта смашны папаўся.* Кіралі Шчуч. *Селяццы купялі. Адзін селядзец.* Рудня Астравітая Чэрв. *Сілядзец смачны. Сіляццоў купіла.* Мярэцкія Глыб. *Сілядзец ікраны і сілядзец*

*млечны.* Рыбчына Віл. *Дромнянько нарэзаная цыбуля, голяк* [селядзечны расол] *с сяляца, алей, жарылі і падавалі да бульбы ў пост.* Стральцы Гродз.

СЕЛЯДЗЁЎКА, СІЛЯДО'ЎКА, СІЛЯДЦО'ЎКА *ж.* Бочка з-пад селядцоў. *Бочка-селядзёўка.* Дакудава Лід., Рыбчына Віл. *Наскрэбіш буракоў, у селядзёўку накідаеш, наверх батвы.* Крэва Смарг. *Некалі куплялі селядзёўку ў Гінды, парылі, трэба ш вымочваць, капусту ставілі, агуркі.* Альба Нясв. *У селядзёўцы былі сялеццы, а вымачыла, як з'елі, і капусту клала.* Баброўнікі Гарад. *Сілядоўка — на агуркі, капусту, кваска — на сала.* Мярэцкія Глыб. *Сілядцоўка — бочка для сялёткі.* Індра Красл.

СЕЛЯДО'РШЫ, САЛЯДО'РШЫ, СЕРАДО'ЛЬШЫ, СЕРЭДО'ЛЬШЫ *прым.* Сярэдні па ўзросту сярод братоў і сясцёр. *Селядоршая дачка замуж вышла і на фандоке робіць у Мастах.* Галубы Маст. *Селядорша памярла ў юне, а самая старша — на куцю.* Пацаўшчына Дзятл. *Селядоршы брат.* Дзяніскавічы Ганц. *Селядоршы сын. Селядоршая дачка.* Рудня Астравітая Чэрв. *Селядоршыя дзеці пад бальшымі, а пад селядоршымі — меншыя. Саляdoршы брат даў грошы.* Кіралі Шчуч. *Хлопец серадольшы.* Мыто Лід. *Серадольшы сын.* Стральцы Гродз. *Серадольшы брат вучыўся.* Міратычы Карэл. *Серадольшы брат у Маскве.* Тухавічы Лях. *Я ў сваіх радзіцелей серадольшая была.* Баброўнікі Гарад. *Серадольшая панчура* [падчарка]. *Серэдольшы сын.* Малыя Аўцюкі Калінк.; *параўн.* укр. *середульший* 'тж' (Грынч., IV, 115).

СЕЛЯДЦО'ВЫ, СЕЛЯТЦО'ВЫ, СЕЛЯЦЦО'ВЫ *прым.* Селядзечны. *Варылі селятцовы расол.* Гальшаны Ашм. *Мачала бульбу ў жышку селяццовую.* Малі Астр.

СЕЛЯЗЕ'НЬ, СІЛЯЗЕ'НЬ *м.* Качар. *Селязень красівый, плаваець, зялёнага пер'я.* Пасіене Лудз. *Каля сілязня качкі. Сілязень с качкамі.* Мярэцкія Глыб.; *параўн.* руск., укр. *селезень* 'тж'.

СЕ'ЛЯТА *прысл.* Сёлета. *Селята, можа, са тры яблачкі вырасце.* Груздава Паст.

СЕ'ЛЯТНІ *прым.* Сёлетні. *Селятняя цялё.* Рыбчына Віл.

СЕЛЯЦЦО' *н.* Тое ж, што і с е л я д з ё ц. *Прынясе селяццо, зажара і тэрас еў ба.* Быстрыца Астр.

СЕМ *ліч.* Сем. *Сем чалавек сям'і было.* Пярэкі В.-Дзв. *О, ты многа бліноў еш: сем мазаных, сем немазаных!* Збляны Лід. ∇ *Сем раз атмер, а раз адрэж.* Малі Астр. *У яе сем даждЖоў на 'дным дню.* Вузла Мядз. *Ка мне поп прыхадзіў, сем аўчын прынасіў, а я дура была, не ўзяла — шуба п новая была.* Курaполле Паст.

СЕ'МАЧКІ *мн.* Насенне сланечніку. *Усе семачкі выкалупліваем.* Вецярэвічы Пух.

СЕМЕННІ'К, СЕМЯ'НІК, СЕМЕНІ'К *м. кулін.* Перапечка з ільнянога семя. *Семеннік з альняной тоўчанай мукі пяклі.* Мішневічы Шум. *Семянікі пяклі: семя таўклі і ляпёшкі пяклі, семя сушылі і малолі, як не хватала, травы дабаўлялі, звалі семенікі.* Валынцы В.-Дзв.

СЕМЕНО' *н.* Насенне. *Як капаем бульбу, адбіраем семено зразу — і ў кашы.* Гемзы Шальч. *Бульба на семено адбіраіцца.* Лісна В.-Дзв.

СЕМЕ'НЯ, СЕМЕ'НЕ, СІМЕ'НЯ *зб. н.* Насенне льну. *Прапускалі семеня прас пакульніцу — гэта грубае палатно, каб ачысціць семеня ад жыцвіцы. Еў хлеп іс семеня.* Жылі Іўеў. *С семеня льнянога алей.* Граўжышкі Ашм. *Семеня пражылі, таўклі і елі з бульбай.* Гемзы Шальч. *Сеялі семеня, патом палолі.* Канюкай Вільн. *Семене пасеяць ест.* Бенякі Воран. *Сіменя з лёну.* Граўжышкі Ашм.; *паран.* літ. sė́menys 'тж'.

СЕ'М'Ё *гл.* СЕ'МЯ

СЕМІЗВЕ'ЗДЗІЦА *ж. астр.* Вялікая Мядзведзіца. *Семізвездзіца, ці коўш, з сямі зорак.* Глівін Барыс.

СЕ'МКІ *мн.* Насенне гарбуза. *Зверху абалона, а ўнутры мяздра, семкі.* Солы Смарг.

СЕМНА'ЦАТЫ *ліч.* Семнаццаты. *Мая Ліза семнацатым годам пашла замуш, не пазнала дзявоцтва.* Кіралі Шчуч.

СЕ'МНЕ *гл.* СЕ'МЯ

СЕ'МСЯТ *ліч.* Семдзесят. *Ліда — шэйсят пяць кіломатраў, а Вільнюс — семсят пяць.* Гальшаны Ашм.

СЕ'МЮШКІ *мн.* Тое ж, што і с е́ м а ч к і. *Сланешніку насеім, семюшкі будуць.* Беразіно Докш.

СЕ'МЯ, СЕ'М'Я, СЕ'М'Ё, СЕ'МНЕ, СІ'МНЕ *н.* Тое ж, што і с е м е́ н я. *Лён калоцяць пранікамі — семя абіваюць.* Кіралі Шчуч. *Семя ляноя.* Вострава Маст. *Семя цяпер ніхто не сея.* Навасёлкі Свісл. *Хлеп пяклі з вікай, з семям і з мохам.* Курапо́лле Паст. *З галовак семя сыпіцца.* Крэвені Даўг. *А чыстая сем'я выносяць, на посцілках сушаць зярнята.* Бакшты Іўеў. *Талакно рабілі з сем'я ллянога. Рукою сем'я рассявалі.* Дакудава Лід. *Раскрышаць цыбульку на патэльні і сем'я ў вадзе раскалоцяць, на патэльню, згатуюцца — і ядуць.* Пацаўшчына Дзятл. *Сем'я ляная.* Рыбчына Віл. *Сем'ям укормяць свінні. Сем'я льняноя.* Лоск Валож. *Уночы сем'я пілнавалі.* Альхоўка Навагр. *Сем'я таўклі.* Альхоўцы Лях. *Сем'я ільну. Німа сем'я.* Дзяніскавічы Ганц. *Сем'ё са лна таўклі.* Малахоўцы Бар. *Мэшок семня.* Азарычы Пін. *Лён побылы, мышок сімня було. Картоплі с сімнем йілы, натовчэш, бало, сімня в ступы.* Сіманавічы Драг.

СЕ'МЯНЁ, СЕ'МЯНА *н.* Тое ж, што і с е м е́ н я. *Семянё ляно.* Міратычы Карэл. *Заліваяць пражу вадой з семянаў.* Новыя Мацалі Варэн.; *парайн.* літ. sė́menys 'тж'.

СЕ′МЯНІК *гл.* СЕМЕННІ′К

СЕМЯНІ′Н *м.* Сем'янін. *Калі німа семяніна дома, я не засну, мяне сон не бярэ.* Вецярэвічы Пух.

СЕМЯНІ′СТЫ, СІМЯНІ′СТЫ *прым.* Насеністы. *Такая ўрадлівая картошка, семяністая, я ўкапала кош.* Жыдзевічы Іўеў. *Сімяністая бульба.* Завельцы Астр.; *параўн.* руск. *семенистый* 'тж'.

СЕМЯ′НКА *ж.* Дзікая яблыня. *Семянка — дзікая яблынька, яблыкі ў яе горкія.* Пасіене Лудз.

СЕМЯННЫ′ *прым.* Прыгатаваны з ільнянога семя. *Семянноя масла.* Янова Рас. *Семянныя каржы сытыя былі.* Азяраны Раг.

СЕМЯНО′, СІМЯНО′ *н.*, СЕМЯНА′ *ж.* Насенне. *Хароша зярно ляціць далей, на семяно лепшае.* Сасноўка Смарг. *На Сіўцох косюць і лес пасадзілі, семяно.* Ухвала Круп. *На сімяно аббівалі, адбіралі салому.* Філіпаўцы Красл. *Засыпаў семяну?* Якубова Рас.

СЕМЯРНЯ′ *ж.* Сямёрка. *Во, бацячка, дзе твая семярня!* Крэва Смарг.

СЕМЯРЭ′НЬКА *ж. памянш.* Семдзесят снапоў. ∇ *Адна жне: лапу-лапу — ды хаці п капу, а другая: як памаленьку — нажала семярэньку.* Вецярэвічы Пух.

СЕ′МЯЧКО *н.* Насенне гарбуза. *Семячко ў гарбузе ў мяздры.* Збляны Лід.

СЕ′НА, СЕ′НО *н.*, СЕ′НЫ, СЕНА′ *мн.* Сена. *Была адрынка на сена.* Малі Астр. *Здулела сена, сівое зрабілася.* Старыя Смільгіні Воран. *Ён швіргаў вілкамі сена на стох. Пуня — дзе сена кладуць.* Вузла Мядз. *Схні за сено, што гніе.* Дарава Лях. *Сено касілі каля Шчары.* Літва Лях. *Он усегда сухое сено сабіраў.* Вулька Гродз. *Паехалі сено рабіць.* Дзяніскавічы Ганц. *Настараліся сенаў, а кароўку прадалі.* Кудзялянцы Шальч. *Пагнілі сена́.* Граўжышкі Ашм. ∇ *У дурня сена да Юр'я, у разумнага да Міколы.* Мішневічы Шум. *Прыдзя каза да ваза — папрося сена.* Малі Астр. *Сена і пакойніка і ў вялікі празнік ні грэх убіраць. Прышоў май, быку сена дай, сам на печ уцікай.* Вузла Мядз.

СЕНАВА′ННЯ, СЕНАВА′НЯ *н.* Нарыхтоўка сена. *Сянуюць сена — тады сенавання.* Вострава Маст. *Мы забіраемся на цалы тыдзянь на сенаваня.* Кіралі Шчуч. *Сенаваня мне ня трэба.* Альхоўка Навагр. *Час сенаваня настаў.* Міратычы Карэл.

СЕНАВА′ЦЬ, СЯНАВА′ЦЬ *незак.* Нарыхтоўваць сена. *Німа каму сенаваць кармоў.* Чуркі Ашм. *Пайду сенаваць, а ты ўжо насенавоў?* Вялікія Баяры Шчуч. *Сенаваць ужо ўрэмя.* Дакудава Лід. *У том балоце сенаваў.* Альхоўка Навагр., Альхоўцы Лях. *Будуць сенаваць. Калі косяць і звозяць сена, кажуць — сянуюць.* Вострава Маст. *Я думала, што Лёня ся-*

*нуя.* Міратычы Карэл. *«Яшчэ сянуіця?» — «Мы насенавалі ўжо».* Курaполле Паст. *Сянуюць гэнця* [вось там]. Ністанішкі Смарг.

СЕНАВЫ′ *прым.* Які мае адносіны да сена. *Сенавыя драбіны сена вазіць.* Чычалі Швянч.

СЕНАЖА′ЦЬ *гл.* САНАЖА′ЦЬ

СЕНАКО′С, СЕНОКО′С, СЯНАКО′С, САНАКО′С *м.*, СЕНАКО′СЫ *мн.* 1. Тое ж, што і с а н а ж а́ ц ь. *У нас быў сенакос Гырдзічоўка і Дзірваны.* Латыгаль Віл. *Слалі лён на сенакосе.* Падгаі Мін. *Лён слалі па сенакосу.* Слабада Мін. *Кажуць, гракі сенакос.* Альхоўцы Лях. *«Касілі сенакос». — «Дзе?» — «Пад Маланняй»* (назва ўрочышча). *Па сенакосах мядунка расцець.* Вузла Мядз. *Сенокос у полі дэ косят, дэ воды нэма.* Смаляніца Пруж. *На сянакос усе пашлі.* Саланое Віл. *Санакос, ці санажаць,— дзе косяць сена.* Лоск. Валож. 2. Пара ўборкі сена. *Сенакос пачаўся.* Лука Нараўк.

СЕ′НАЧЫ, СЁНАЧЫ *прысл.* У гэту ноч. *Карова ацялілася сеначы. Сёначы я ні на волас не заснула.* Азяраны Раг.

СЕ′НІ толькі *мн.* 1. Сенцы. *У сенях ступа стаяла. У сенях, бывала, свіні кармілі.* Старыя Смільгіні Воран. *Зачыні дзверы ў сенях!* Збляны Лід. *У сенях стаялі саганэ, цабрэ.* Кіралі Шчуч. *У сенях кот крычаў.* Ахрэмаўцы Брасл. *Маладуху ў сені завядуць, а тады праз усю хату са скрынкай вядуць.* Буды В.-Дзв. *Курчаты ў сенях.* Дэгшні Шальч. *За сеньмы яны стаялі.* Барок Стаўб. *Сені не атапляюцца.* Гемзы Шальч. *Сені каля хаты.* Руднікі Шальч. *У сенях вада стаіць.* Лоск Валож. *Сені зачыні!* Мярэцкія Глыб., Рыбчына Віл., Ністанішкі Смарг., Стракішкі Трак. *Вада стаіць у вёдрах у сінях.* Парабоддзе Міёр. *Стол, што ў сянёх стаіць, унясі ў хату.* Мішневічы Шум. *Парасята ў сенях.* Ялова Пруж. *Ідзі ў хату і зачыні сені! Ідзі сені зачыні!* Смаляніца Пруж. 2. Прылазнік. *Сені ў лазні.* Чычалі Швянч. *У сенях раздзеліся.* Гемзы Шальч.

СЕНІ′К *гл.* СЯННІ′К

СЕНІ′ЦА *ж.* Пуня. *Сеніца на сена.* Сапоцкіна Гродз.

СЕ′НКА *н. памянш.* да с е́ н а. *Сенка растрос, а то будзіць прэць.* Месянцы Брасл.

СЕ′НО *гл.* СЕ′НА

СЕНОКО′С *гл.* СЕНАКО′С

СЕНЦІЯ′Н *м. бат.* Тое ж, што і с в е н т а я́ н к а 1. *Сенціян расце каля поля.* Галубы Маст. *Сенціян ад усіх хвароп.* Стральцы Гродз. *Сенціян нарос.* Міратычы Карэл., Масілавічы Сл.

СЕНЦІЯ′НСКОЕ ЗЕ′ЛЕ *гл.* СВЕНТАЯ′НСКА ЗЕ′ЛЬЯ

СЕ′НЦЫ толькі *мн.* Тое ж, што і с е́ н і 1. *У сенцах на парэнчы ляжыць мыла.* Саланое Віл. *У сенцы вышла.* Рудня Астравітая Чэрв.

СЕ′НЬКІ I *мн. памянш.* да с е́ н і 1. *У сеньках чувацца: ідзець чалавек.* Замошша Брасл.

СЕ′НЬКІ II *прым.* Такі. *Сенькі кусок дала.* Жылі Іўеў.

СЕ′НЯ *прысл.* Сёння. *Сеня снуць няможно: пеліва.* Быстрыца Астр.

СЕ′НЯЧКІ толькі *мн. памянш.* Прылазнік. *Былі сенячкі ў лазні, у сенячках раздзяваліся.* Рудня Астравітая Чэрв.

СЕРАБРА′НКА *ж. бат.* Дуброўка гусіная. *Серабранка паўс платы, па зямлі сцелецца, жоўценькім цвіце, як у рабіны лісточкі.* Вецярэвічы Пух.

СЕРАБРА′НЫ *прым.* Сярэбраны. *Лыжачкі серабраныя.* Гемзы Шальч.

СЕ′РАД *прыназ.* з *род.* Сярод. *Дождж серад зімы.* Грыкені Вільн.

СЕРАДА′, СІРАДА′ *ж.* 1. Серада. ∇ *Заўтра градавая серада — нельга нічога рабіць, кап грат не пабіў.* Зьляны Лід. *У сераду радзіўся — на ўсё гора згадзіўся.* Кудзялянцы Шальч. 2. у знач. *прысл. серадо́й.* У сераду. *Каб серадой прыехала.* Ахрэмаўцы Брасл. *Серадой прыёмны дзень у старшыні.* Гемзы Шальч.

СЕРАДНЯ′К *м.* Селянін-серадняк. *Радзіцялі былі сераднякі.* Груськава Нясв.

СЕРАДО′ЛЬШЫ *гл.* СЕЛЯДО′РШЫ

СЕРАДУ′ЛЯ *ж.* Мянушка каровы, якая нарадзілася ў сераду. Вялікія Нястанавічы Лаг.

СЕ′РАН, СЕ′РЕН, СЕ′РЭН *м.* Шарон. *Серан — калі здзіржаіць навярху снех. Марозлівы серан каня здзіржаіць. Быў серан, па серану пашоў, не праваліваішся.* Валынцы В.-Дзв. *Серан даўней часта быў, бегаем па ім, дажэ коні хадзілі.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Крэпкі серен — ідзі, не праламываецца.* Мішневічы Шум. *Можна по серэну іці.* Малыя Аўцюкі Калінк.

СЕ′РАНА *ж.* Тое ж, што і с е́ р а н. *Па сераны можнаісці. Прайшоў аблой, прымёрс снех, прымарозіла снех і можна па сераны ісці.* Лісна В.-Дзв.

СЕРАНІ′ЛА *ж.* Тое ж, што і с е́ р а н. *Іду па сераніле, не правальваюся.* Беразіно Докш.

СЕРАНО′К, СІРЯНО′К *м. памянш.* да с е́ р а н. *Раненька па серанку з'ездзіш.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *На серанку паехаўшы.* Пасіене Лудз. *Кабылёшка ідзець сірянком, не правальваецца, таму што лёгкая.* Мішневічы Шум.

СЕ′РАНЬ *ж.* Тое ж, што і с е́ р а н. *Ссеранеўшы снех — па серані ехаў. Учора была серань, а сягоня — пралом, праломліваіцца.* Кураполле Паст.

СЕРБА′Й *м. міф.* Паводле павер'яў, міфічная істота, якая ўвасабляла голад. ∇ *Сербая прагналі, як сноп зажалі, прынятслі ў хату — голаду не будзя.* Ёдлавічы Брасл.

СЕРБАНУ′ЦЬ, СІРБАНУ′ЦЬ *зак.* 1. Пасёрбаць. *Гарлач*

*малака высярбаў, дай яшчэ сербануць.* Граўжышкі Ашм. 2. *перан.* Сцебануць. *Розак многа, сірбану цібе, будуць рупцы.* Валынцы В.-Дзв.

СЕРВІТУ'Т *гл.* САРВІТУ'Т

СЕ'РГА *ж.* Малодзіва. *Малодзіва серга завуць.* Кураполле Паст.

СЕ'РЕН *гл.* СЕ'РАН

СЕ'РКА *ж.* Сера. *Серка на серніках.* Вялікія Баяры Шчуч. *Серка на спічках, ад каросты добро мазаць.* Дзяніскавічы Ганц.

СЕРМЕ'НТА *ж.* Світка. *Сермента — яе ў маршчкі шылі.* Мсцібава Ваўк.; *параўн.* польск. *siermięga* 'тж'.

СЕРМЯ'ЖКА *гл.* СЯРМЯ'ЖКА

СЕ'РНІКІ, СЯРНІКІ' *мн.* Запалкі. *Куды сернікі паклаў?* Галубы Маст. *Сернікі куплялі і запальвалі.* Мыто Лід. *Сернікі — старыя так запалкі звуць. Серка на серніках.* Вялікія Баяры Шчуч. *Пазыч карабок сернікаў.* Стральцы Гродз. *Я не мею сернікаў.* Старыя Смільгіні Воран. *Сернікі некалі звалі.* Дзяніскавічы Ганц. *Перат калядамі прышла чараўніца «Коля, пазыч мне сернікаў».* Збляны Лід. *Даўней на запалкі сярнікі казалі.* Ёдупка Шальч.; *параўн.* укр. *сірники* 'тж'.

СЕ'РНІЦЫ *мн.* Тое ж, што і с е́ р н і к і. *Німа серніц. Колісь куплялі за караўкі серніцы.* Пасека Ст.-Дар.

СЕРП, СЭРП *м.* Серп. *Мой серп. Німа сірпа. Жну сярпом. На сярпе. Ляжаць сярпы. Няма сярпоў. Жалі сярпамі.* Мярэцкія Глыб. *Мой серп. Німа ў міне сярпа. Сярпом жала. Даўней сярпэ зубілі, жалі сярпамі.* Кіралі Шчуч. *Твой серп. Прынясу сярпа. Жала сярпом. У сярпу. Усе сярпы. Многа сярпоў. Жалі сярпамі.* Рыбчына Віл., Грыкені Вільн., Пасіене Лудз. *Мой серп. Нашы сярпы. Дай сярпа. Жалі сярпом, сярпамі. На сярпе.* Рудня Астравітая Чэрв. ▽ *Пошла Гандзя жыто жяты, забулася сырпа взяты, сырпа взяла — хліб забула, цілый дэнь голодна була.* Сіманавічы Драг.

СЕРПАРЭ'З, СЕРПАРЭ'С *м. бат.* Крываўнік. *Серпарэз з белымі кветкамі, кроў спыняе.* Глівін Барыс. *Серпарэс у нас, а хто крываўнік зваў.* Шамялі Брасл. *Серпарэс і падбел завуць.* Рыбчына Віл.

СЕРПАРЭ'ЗНІК *м.* Тое ж, што і с е р п а р э́ з. *Як парэжаш паляц жнучы, дык добра прыкладаць серпарэзнік.* Груздава Паст. *Серпарэзнікам вылечылі — я хварэла плеўрытам.* Рудня Марымонава Лоеў.

СЕ'РПЕНЬ *м.* Жнівень. *У серпню пойдуць у землю.* Граўжышкі Ашм. *Да пятнаццатага серпня была і паехала.* Баброўнікі Гарад.; *параўн.* польск. *sierpień* 'тж'.

СЕ'РПЕЦ *м.* Тое ж, што і с е́ р п е н ь. *Кап у канцы ліпца прыехаў, у серпцы.* Завельцы Астр.

СЕ'РПІК *м. памянш.* да серп. *Ён, як серпік, маладзенькі такі* [пра Месяц]. Баброўнікі Гарад.

СЕ'РЦА *гл.* СЭ'РЦА

СЕРЦАВІ'НА *ж.* Шчыльная драўніна. *З серцавіны дзерыш лучыну.* Ахрэмаўцы Брасл.

СЕРЦІСОВА'ЦІ *незак.* Сарціраваць. *Серцісуют збожа.* Ялова Пруж.

СЕРЦІСО'ЎКА *ж.* Сарціроўка. *Серцісоўка ест, серцісуют збожа.* Ялова Пруж.

СЕ'РЧЫК *м.*, СЕ'РЧЫКІ *мн.* Запалка. *Серчык запаліў, бачу — гадзюк запоўс. Прынясу сéрчыкаў, трэба цепліць у печы.* Ракаўскія Швянч. *Пушачка сéрчыкаў.* Ёдлавічы Брасл. *Пудэлак сярчыкóў.* Жодзішкі Смарг. *Серчыкі ляжаць.* Магуны Паст.

СЕРЭБРА'НКА *ж. заал.* Мядзянка. *Былі прастыя змеі і серэбранкі.* Ахрэмаўцы Брасл.

СЕРЭДО'ЛЬШЫ *гл.* СЕЛЯДО'РШЫ

СЕСТРА' *гл.* СЯСТРА'

СЕСТРАНІ'ЦА *гл.* СЯСТРАНІ'ЦА

СЕСТРАНЫ' *прым.* Сястрын. *Сестраная капотка ў мяне.* Гальшаны Ашм.

СЕ'СЦІ, СЕ'ГЦІ *зак.* 1. Прыняць сядзячае становішча. *Селі абапал яго.* Латыгаль Віл. *Трэба сесці.* Рыбчына Віл. *Баюся сесці с табой і не сядаю.* Гальшаны Ашм. *Сабака сеў злева і сядзіць.* Вулька Гродз. *Пасля вайны ні было на чым сесці.* Міратычы Карэл. *Як сядзя каторы на каня — скуру можа злупіць.* Дэгшні Шальч. *Сядзьма, пагаворым!* Паляцкішкі Воран. *Сесці на лаву.* Рудня Астравітая Чэрв. *Харашэ сегла на лаве. Куды ты сёх? Дзе вы сеглі? Куды яна сегла?* Парэчча Гродз. ∇ *Як сеў, дык і прыкіпеў — не хочацца падымацца.* Малі Астр. 2. Заняць месца ў транспарце. *Сеглі на аўтобус і прыехалі.* Парэчча Гродз. 3. *перан.* Быць забітым. *Я ўзяла шворан, як дала па пітухý — ён і сеў.* Парэчча Гродз. 4. Апусціцца, сесці роем. *Рой сеў на яблыні; ён уецца, уецца, а як матка сядзе, так і ўсе сядуць.* Мярэцкія Глыб. 5. Асесці (пра пыл). *Лён часалі шчоткай над вадой, кап пыл нідзе не сеў.* Граўжышкі Ашм. 6. Трапіць на прыманку. *Сеў яму ўгораш на вудачку.* Ахрэмаўцы Брасл. 7. З'явіцца на скуры. *Карпы* [бародаўкі] *селі на руку.* Старыя Смільгіні Воран. *Крух сеў на руцэ.* Вузла Мядз. 8. Пасяліцца. *Можа, сын там сядзя і будзя жыць — там дом ест.* Дэгшні Шальч. *Як прыехалі сюды, як селі на голая поля!..* Завельцы Астр. ◇ *Ніска сесці* — пацярпець няўдачу. *Не вядзі сябе натта высока, бо ніска сядзіш.* Завельцы Астр. *Сесці на сонца* — сесці на асветленым сонцам месцы. *Чуць сяду на сонца — шум у галаве.* Слабада Мін. *Сесці макам* — перастаць расці. *Кап ты макам села!* Кураполле Паст.

СЕ́СЦІ НА КО́КІШКІ *гл.* КАКАРЭ́ЧКІ

СЕ́СЦІ НА ЦЫ́ПАЧКІ *гл.* ЦЫ́ПАЧКІ

СЕ́СЦІСЯ *зак.* Збегчыся (пра тканіну). *Хустка селася.* Магуны Паст.

СЕСЦІЯ́Н *м. рэліг.* Себасцьян (свята). ▽ *Свята сёння Сесціян — срэдняя сяўба, глядзелі, ці зорачна неба, ядрано, сеяць трэбо.* Новіны Нясв.

СЕ́ТКА *ж.* 1. Рыбалоўная сетка. *Бывала, рабілі сеткі рыбу лавіць.* Груздава Паст. *Зімой толькі сеткай лавілі.* Чуркі Ашм. *Сеткай лавілі рыбу.* Істра Лудз. *Сеткамі лавілі рыбу.* Грыкені Вільн. *Сеткі вязалі з ляных нітак, сетка дваццаць пяць метраў даўжыні складалася із дзвюх абораў па дваццаць пяць метраў даўжыні. Сеткі вязалі з ляных нітак. Сеткі ставяцца толькі на ноч.* Альхоўка Навагр. *Сеткі нет, абгледзілі.* Лісна В.-Дзв. 2. Сеткавае палатно. *Трыгубіца была: палатно з бакоў, сетка была.* Чуркі Ашм. *Сеткі палучаюць і матню.* Збляны Лід. *Былі раблёныя сеткі, як куль, туды душкі ўстаўляліся.* Вузла Мядз. *У міројжы два жарала, пасрэдзіне сетка.* Істра Лудз. *Сетка ў рыбалоўнай снасці.* Мярэцкія Глыб., Рыбчына Віл. 3. Пчалярская сетка. Груздава Паст. 4. Агароджа ў выглядзе сеткі. *Сетку трэба маляваць — ёсць краска.* Малі Астр. 5. Прыстасаванне ў выглядзе сеткі ў выязных санях. *На казыркі* [галоўкі палазоў] *зачаплялі сеткі такія, штобы пану не папала* [гразь, снег і інш.]. Судэрва Вільн.

СЕ́ЎКА *ж.* Тое ж, што і с е в а́ л к а. *Сеўка с саломы, жыто сеялі.* Сакаляны Сакол.

СЕ́ЎКІ, СІ́ЎКІ *прым.* Насенны (пра бульбу). *Сеўкая бульба — сеіць добра, мелкая.* Лоск Валож. *Сеўкая бульба — сеяць добра.* Лісна В.-Дзв. *Сіўкая бульба — сеяць добра.* Валынцы В.-Дзв.

СЕЎНІ́К *м. с.-г.* Сеялка. *Я на сеўніку работаў.* Дарава Лях.

СЕХЧ, СЕ́ХЧЫ *зак.* Тое ж, што і с е́ с ц і 1. *Ён ня можа сехч, не можа сехчы.* Парэчча Гродз. *Думаеш: сехчы ці не. Трэба сехчы і ехаць.* Мсцібава Ваўк. *Я ніколі часу не маю, кап сехчы.* Баброўнікі Гарад.

СЕ́ЦІЯ *ж. бат.* Раска. *Сеція — такоя зельля выплывая наверх вадэ, лісточкі трохвугольненькія, качкі ядуць.* Кіралі Шчуч.

СЕЦЬ, СІЕ́ТЬ *ж.* Тое ж, што і с е́ т к а 1. *Сець бывая пядзісятка, саракоўка.* Збляны Лід. *Сець адзін можа цяхці.* Вецярэвічы Пух. *Нашы тато колісь цієлу зіму плелі сіеті, а вэсною і ліетом лапалі рыбу.* Курашэва Чыж. ◇ *Попастісе в сіеть* — трапіць у пастку. *Заставіті на кагось сіеть* — паставіць каго-н. у безвыходнае становішча. Курашэва Чыж.

СЕЧ *незак.* 1. Сячы (секачом). *Памагу бульбу сеч.* Лоск Валож. 2. Ссякаць, пілаваць. *Дрэва секлі на хату.* Крэва

Смарг. 3. Калоць дровы. *Сячэ дровы.* Крэва Смарг. *Пайду сеч дровы. Я ўжо секла сёння дровы.* Солы Смарг. 4. Крэсіць. *Агонь секлі. Высячы мне агню.* Рыбчына Віл. *Секлі агонь красівом — крэмінь і губа з бярозы.* Саланое Віл. 5. *перан.* Грызці. *Апступілі мышы, сякуць — хустачкі пасечаны.* Ракаўскія Швянч. 6. *перан.* Лупцаваць. *Сеч — крэпка біць. Ссяку цябе рамянём, будзіш знаць.* Мярэцкія Глыб. *Секлі розґамі. У школе калісь секлі розґамі.* Паляцкішкі Воран. 7. Тое ж, што і с е́ к ц і 2. *Выступілі пшчолы, сталі сеч пшчолы.* Ахрэмаўцы Брасл.

СЕ́ЧАНКА, СЕ́ЧАНЬКА *ж. кулін.* Квашаная капуста, якая гатавалася з верхніх зялёных лістоў. *Сечанка была — сечаная капуста. Сечанькі наварыла — гэта сечаная зялёна капуста.* Масілавічы Сл.

СЕ́ЧКА I, СЫ́ЧКА *ж.* Дробна парэзаны корм (салома, трава і інш.) для жывёлы. *У цэбры каровам давалі, запарвалі сечку.* Солы Смарг. *Сечку запараваць трэба.* Лоск Валож. *Пашлі машыны сечку кроіць. Упярод козлы былі такія — цалую ноч кроіць сечку ў хаце.* Грыкені Вільн. *На сечку перарэжаш вязку травы.* Руднікі Шальч. *Калісьці касой сечку рэзалі.* Старыя Трокі Трак. *Рэзалі сечку на сячкарня, сечку рабілі: жытнюю салому рэзалі.* Малькуны Ігн. *Сечку рэзалі, і сечкарні былі.* Дзяніскавічы Ганц. *Сечку рэзалі.* Рыбчына Віл., Рудня Астравітая Чэрв. *Аброк: сечкі ўсыпіць, тады аўса пасыпяць.* Завельцы Астр. *В січкарні рыжут сычку.* Дзмітравічы Кам.

СЕ́ЧКА II *ж.* Сякач. *Начовачкі былі драўляныя, і сечка была, сечкай рыбу секлі ў начовачках.* Вузла Мядз. *Ячмень сечкай апсякалі. Сечкай сякуць ахрап'я свіням.* Ахрэмаўцы Брасл. *Сечка — рубаць траву і бульбу, буракі.* Едлавічы Брасл. *Грэбень у пітуха, як сечка, стаіць.* Парэчча Гродз.

СЕЧКА́РНЯ *гл.* СЯЧКА́РНЯ

СЕ́ЧЫЦЦА *незак. безас.* Мітусіцца. *Я іду на Яна, прыехаўшы, у вачах сечыцца.* Малькуны Ігн.

СЕ́ЯЛКА *ж.* Тое ж, што і с е в а́ л к а. *С сеялкі сеялі, яе с саломы рабілі.* Крэва Смарг.

СЕ́ЯНКА *ж. бат.* Цімафееўка. *Сеянка — трава такая, як авёс, вырастая ў яе каток.* Малахоўцы Бар.

СЕ́ЯНЯ *н.* Сеянне. *Што з гэтага сеяня?!* Мсцібава Ваўк.

СЕ́ЯЦЦА *незак.* Засявацца. *Адзін палетак сеяцца жытам, другі — ярыною.* Стральцы Гродз.

СЕ́ЯЦЬ, СЕ́ІЦЬ, СЕ́ЯЦІ *незак.* 1. Высяваць (пра насенне). *Кожныя гоні сеялі: што жытам, што чым.* Солы Смарг. *У калхозя сеяць лён. Я сеяў у дзве рукі, па чатыры гектары засяваў.* Вузла Мядз. *З лупкаў сеялі, с саломы іх плялі.* Завельцы Астр. *Дзед казаў: «Сегодня штобы гарох сеяць, то быў бы гарох добры».* Вулька Гродз. *З фартухоў сеялі.* Пацаўшчына Дзятл. *Сеялі лён дарагі, селекцыйны, галовак было многа*

*ў ім.* Яніна В.-Дзв. *На Галены, двацаць другога мая, трэба сеяць лён.* Гемзы Шальч. *Гарсцямі сеялі.* Грыкені Вільн. *Сеялі гарох, грыку, ячмень, жыта, просу. Сеялі лён, патом палолі.* Канюкай Вільн. *У нас проса не сеялі.* Відаўцішкі Вільн. *Жыта сеялі.* Швэды Вільн. *Тэрас у нас жыта сеяць. Сеялі гаўса троха.* Дэгшні Шальч. *Ячмень трэба рэтка сеіць, ён патсаду дае.* Кудзялянцы Шальч. *Ні было дзе лёну сеяць.* Слабада Мін. *Пашоў сеяці жыто.* Навасёлкі Свісл. ∇ *Сей на Пахом — будзеш насіць мяхом.* Гальшаны Ашм. *Ім* [гультаям] *ні сеяць, ні касіць — выпіць і закусіць. Удот крычыць: сейця боп, сейця боп.* Вузла Мядз. *Так сеюць, што буба бубу кліча.* Мсцібава Ваўк. 2. Садзіць. *Сеем бульбу.* Саланое Віл. *Даўней гаварылі: сеяць бульбу, а цяпер — садзіць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Мо калі будзя сеяць картоплі? Шукая памачнікоў картопляў сеяць.* Малыя Аўцюкі Калінк. 3. у знач. *прысл.* *се́яць ба́бамі.* Саматугам. *Пасля вайны коні не было, сеялі бульбу бабамі, так сеялі гароды, так разжываліся.* Азяраны Раг. *Сеім бульбу пат плух.* Палік Барыс. 4. Прасяваць. *Муку сеялі на рэшата густоя.* Гальшаны Ашм. *Сіта — муку сеяць.* Завельцы Астр. *Сеялі праз рэшата ці праз сіта.* Чуркі Ашм. ∇ *На куцю нязможна сеяць ні мукі, нічога, калі ёсць жывёла, бо будзя шкодзіць.* Малі Астр.

СЁГО́НІШНІ *прым.* Сённяшні. *На сёгонюшню погоду нэмыцім.* Смаляніца Пруж.

СЁДЛЫ *прым.* Кіслы. *Сёдла малако, або квасна малако.* Каўняны Гродз.

СЁДМЫ *ліч.* Сёмы. *У сёдмы клас пойдзе.* Быстрыца Астр.; *параўн.* польск. *siódmy* ’тж’.

СЁКАР *гл.* СВЁКАР

СЁЛЕТА, СЁЛІТА, СЁЛЯТА *прысл.* Тое ж, што і с е́ л я т а. *Сёлета доўга не цвілі яблыні.* Солы Смарг. *Гвёздачкі сіяць сёлета. Сёлета было лета сухое.* Магуны Паст. *Сёлета сабіраіцца прыехаць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Сёлета благое сена.* Дзераўное Стаўб. *Сёліта цыбуля благая.* Кураполле Паст. *Сёліта паеду.* Мярэцкія Глыб. *Сёліта прывазілі ціплят прадаваць.* Валынцы В.-Дзв. *Сёліта трэці год работаіць.* Пярэкі В.-Дзв. *Сёліта падабаўлялі дзеніг і сікратару, і бугалціру. Дожджу нет сёліта, засуха ў нас бальшая.* Чапаеўскі В.-Дзв. *От малін дык сёліта было многа!* Новая Гута Віл. *Сёліта ўражай харошы. Сёлята цёпла.* Рыбчына Віл. *Сёлята прыехаў.* Быстрыца Астр. *Сёлята вымакла жыта.* Жодзішкі Смарг. *Сёлята харчу хапая.* Лоск Валож. *Сёлята многа ягадаў. Сёлята многа васэляў.* Ёдлавічы Брасл.

СЁЛЕТКА *ж.* Цялушка-сяголетак. Палік Барыс.

СЁЛІТНІК *м.* Сяголетак. Мярэцкія Глыб.

СЁЛЯТНІ, СЯЛЕ́ТНІ *прым.* Сёлетні. *Сёлятняя цялё.* Рыбчына Віл. *Сялетні гот паступіла вучыцца.* Вузла Мядз.

СЕМІЦА *ж. рэліг.* Тройца. Груздава Паст.

СЕМКА I *ж. рэліг.* 1. Тое ж, што і с ё м і ц а. Ракаўскія Швянч. 2. Субота перад тройцай. *Сёмка — субота перад тройцай, тады пракладаюць дзірванамі магілкі, а ў нядзелю — тройца.* Мярэцкія Глыб.

СЕМКА II *ж.* Сямёрка (іграл ьная карта). *Хадзі сёмкай!* Номікі Бабіц.

СЕМУХА *ж. рэліг.* Тое ж, што і с ё м і ц а. *На сёмуху май становяць.* Рыбчына Віл. *Гэта адметка: да сёмухі нельга венікі рабіць бярозавыя, а пасля сёмухі робюць венікі. На сёмуху ўкопваюць бярозы на надворку і варотах, каровам вянке ўюць, на галовы кладуць.* Кіралі Шчуч. *Сёмуха на сёмую нядзелю пасля вялікадня.* Вузла Мядз. *Сёмуха ў нас была ў нядзелю, чатырнаццатага іюня. На сёмуху бяроскі ставяць возля дома.* Малышы Лід. *Тройца і сёмуха.* Альхоўцы Лях. *Дзедавая нядзеля перат сёмухаю.* Вецярэвічы Пух. *Сёмуха ў іюні.* Ухвала Круп. *Сёмуха — клён вешайуць над абразамі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Сёмуха — свято, ломят бярэзіну і ўбірают хату.* Лука Нараўк. *Сёмуха — свята.* Бугашэвічы Бярэз., Ухвала Круп. *Сёмуха за сем тыдняў пасля вялікадня.* Завельцы Астр.

СЕМУШКА *ж. абрад.* Галінкі дрэў, маладыя дрэўцы, якімі ўпрыгожваюць на тройцу хату, падворак. *На сёмуху сёмушку прывозяць — бяроскаў, зразаюць іх пат корань.* Збляны Лід.

СЕМУШНІЯ ДЗЯДЫ′ толькі *мн. рэліг.* Памінальны дзень праз тыдзень пасля тройцы. *Сёмушнія і багатыя дзяды.* Кухты Віл.

СЕНАЧЫ *гл.* СЕ′НАЧЫ

СЕННЯ, СЕНЯ, СЕНЕ, СЕННІ *прысл.* Сёння. *Сёння хусты мыла, паласкала.* Солы Смарг. *Сёння падмыю.* Лоск Валож. *Сёння ўжо не пайду.* Гальшаны Ашм. *Сёння пагода, пойдам у лес.* Рудня Астравітая Чэрв. *Мне сёня сон сніўся.* Ахрэмаўцы Брасл. *Сёнё гліну возіць.* Заполле Карэл. *Сённі сажала.* Малыя Аўцюкі Калінк.

СЕННЯКА *прысл.* Тое ж, што і с ё н н я. *Я яшчэ свае мяшкі ні аддавала, сённяка занясу.* Калядзічы Ваўк.

СЕННЯЧЫ, СЕНЯЧЫ, СЕНЕЧЫ *прысл.* Тое ж, што і с ё н н я. *Сённячы гаворыць: «Чуць свет падымайся!» Учора ганіла кароў, а сённячы на бураке пайду.* Пацаўшчына Дзятл. *Прышоў і сёнячы.* Дзяніскавічы Ганц. *Сённячы кіно будзя ў клубі. Жніво пашло сёнячы.* Малахоўцы Бар. *Сёнячы памёр, шкада — добры быў чалавек. Сёнячы не хадзіла ў магазін.* Альхоўцы Лях. *Сёнячы ні была ў клубі. Сёнечы добра ўжэ ў нас.* Збляны Лід.

СЕНЬКІ, СЕНКІ *мн.* Тое ж, што і с е́ н і 2. *Сёнькі, сёнкі — як уваходзіш у лазню.* Завельцы Астр.

СЕ́НЯШНІ *прым.* Тое ж, што і с ё г о́ н і ш н і. *Па сёняшні дзень асталіся.* Месянцы Брасл.

СЕ́РБАЦЬ *незак.* Есці вадкую страву прысмоктваючы. *Квасна малако, усыпіш грычану муку і сёрбаіш, добра пасёрбаць жарой.* Кальнішкі Шальч.

СЕ́РБТ *выкл.* у знач. *вык.* Сербануць. *Сёрбт і сярбнула.* Гемзы Шальч.

СЕ́РТАЦЬ *незак. экспр.* Прыглядацца, шукаць. *Я ўсюды сёртала. Іна ўсігда сёртаіць.* Валынцы В.-Дзв.

СЕ́ЎШ *выкл.* Выгук, якім падганяюць кароў. *Сёўш, Праліска, хадзі, скубі!* Граўжышкі Ашм.

СЕ́Я-ТОЯ *займ.* Што-н. *Гавораць людзі сёя-тоя.* Кіралі Шчуч.

СІБЕ′ЛЬ *зб. ж. рыб.* Сялява. *Сібель, яна бальшая ні расце. Пашоў налавіў сібялёў.* Лапічы Асіп.

СІВАВАРО′НКА *ж. заал.* Сіваграк. *Сіваваронкі пры лясох жывуць, яны і плодзяцца ў дуплах.* Саланое Віл. *Сіваваронка рабая — сівенькая і с чорным.* Солы Смарг. *Сіваваронка да вароны падобна, сама чорная, а шыя шарая.* Пацаўшчына Дзятл. *Сіваваронка красівенькая птушачка, пераліваецца ўся.* Глівін Барыс. *Сіваваронка — такая птушка.* Мярэцкія Глыб., Пасека Ст.-Дар.

СІВАВА′ТЫ, СІВУВА′ТЫ *прым.* Сіваваты. *Рашотнік зверху ні галубы, а сіваваты.* Дакудава Лід. *Ласі — сіваватыя грыбы.* Вузла Мядз. *Сіваваты конь.* Рудня Астравітая Чэрв. *Сівувата карова мая.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

СІВА′К *м.* 1. Неўрадлівая глеба сівога колеру. *Сівак — зямля, дзе сівак, там нічога не расце.* Вялікія Баяры Шчуч. *Сівак — зямля такая, як цёпла, можа, што на ёй расце, а як холадна, то не расце.* Навасёлкі Лід. *Сівак ураджаю не дае, на ёй толькі лес расце.* Збляны Лід. *Там пат селішча натта сівак. Каля лесу сівак — зямля сівая, там нічога не расце.* Кіралі Шчуч. *Бувае зямля-сівак — халодная, як год цёплы, то расце авёс, картошка.* Пацаўшчына Дзятл. *Сівак — зямля сівая.* Нізок Уздз. *Сівак — від глебы.* Альхоўка Навагр. 2. Сівы конь. *Сівак — масць каня, сівы конь.* Грыкені Вільн.

СІВАКРА′ШКА *ж. заал.* Тое ж, што і с і в а в а р о́ н к а. *Што, ніколі сівакрашкі не бачыла?* Мачаск Бярэз.

СІВА′ЛКА *гл.* СЕВА′ЛКА

СІВА′ЛЬНЯ *ж.* Тое ж, што і с е в а́ л к а. *Сівальня, яе плялі з карэння сасны або з карэння і саломы. Пляцёнка, сівальня, плялі с карэння.* Рыбчына Віл.

СІВАШЫ′ЙКА *ж.* Тое ж, што і с і в а в а р о́ н к а. *Сівашыйкі ў нас ёсць, круке, каўкі.* Пацаўшчына Дзятл.

СІВА′Я ВАРО′НА *ж.* Тое ж, што і с і в а в а р о́ н к а. *Сівая варона — у лясу ўбачыш.* Стральцы Гродз.

СІВА'Я ВАРО'НКА *ж.* Тое ж, што і с і в а в а р о́ н к а. *Сівая варонка.* Рудня Астравітая Чэрв.

СІВЕ'ЙШЫ *прым. выш.* да с і в ы 6. *На лашчыне сівейша зямля.* Альхоўка Навагр.

СІ'ВЕНЬКІ, СІ'ВЯНЬКІ *прым.* 1. *памянш.* да с і в ы́ 1. *Стары сівенькі-рассівенькі.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. *памянш.* да с і в ы́ 7. *Сіванькі галуп.* Кіралі Шчуч. 3. Светла-карычневы. *Падбярэзнікі сіванькія.* Солы Смарг.

СІ'ВЕРНЫ *прым.* Сцюдзёны. *Сіверны вецяр халодны.* Слабада Мін.

СІВЕ'Ц I *м. бат.* Сівец. *Сівец купінкамі расце, с-пат касы выскаквая.* Вецярэвічы Пух. *Сівец — як шэрсць свінная, бялея пад восянь, з вясны толькі зялёненькі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Сівец на сухіх пожнях расце, вясной каровы ядуць, восенню цвярдой.* Глівін Барыс. *Сівец на горах расце.* Малахоўцы Бар. *Сівец, або грыўка.* Рыбчына Віл. *Сіўца прынясеш. Сівец карчамі расце.* Азяраны Раг. *Сівец там расце.* Рудня Чэрв., Багушэвічы Бярэз.

СІВЕ'Ц II *м.* Тое ж, што і с і в а́ к 1. *Пустая зямля, на ей нічога не расце — завецца сівец. На сіўцы нічога не расце.* Рыбчына Віл. *Сівец — падзолістая зямля, сівая зямля. Зямля-сівец неўрадліва.* Дзяніскавічы Ганц. *У Дзялёўках сівец, нічога не садзяць. Сівец, ці памёт,— непрыгодная для апрацоўкі зямля, няўдоба. Сівец на балоце. На тым сіўцу нічога не расцець.* Беразіно Докш. *У сіўцы ні расце нічого.* Малахоўцы Бар.

СІВЕ'ЦЬ *незак.* Станавіцца сівым. *Мая дочка ўжо сівее.* Слабада Мін.

СІВІЗНА' *ж.* Сівыя валасы. *Сівізны не было.* Скрудалена Даўг.

СІВІ'ЦА *ж.* Тое ж, што і с і в е́ ц I. *Пашоў касіць сівіцу.* Ністанішкі Смарг.

СІВО'ПІСЬ *ж.* Тое ж, што і с і в а́ к 1. *Сівопісь — зямля, падобна сівага пяску.* Лука Нараўк.

СІВУВА'ТЫ *гл.* СІВАВА'ТЫ

СІВУ'ХА *ж.* 1. Тое ж, што і с і в а́ к 1. *Зямля-сівуха ня родзіць.* Старыя Смільгіні Воран. 2. Глей, насычаны вільгаццю. *Як студні капаюць, сівуха цячэ.* Быстрыца Астр. *Сівуха, сінюга — плаўкая зямля, вадой заплывая.* Жылі Іўеў. 3. Глей. *Сівуха клейкая: усуніш ногі — не выцягніш. Сівуха — сівая гліна.* Малі Астр.

СІ'ВЫ' *прым.* 1. Сівавалосы. *Сівы чалавек.* Вялікія Баяры Шчуч. *Але ш сівы гэты мушчына, як галуп. Воласы сівыя. Вырваў сівую валасіну.* Кіралі Шчуч. *Ужо стары, сівы́ цяпер.* Малі Астр. *Сіва́я галава.* Жылі Іўеў. *У яго сівы́я валасы.* Асавец Віл., Рудня Астравітая Чэрв. 2. Мянушка таго, хто сівы. *Галасёў — Сівы, бо ён сівы, і называлі Сівы.* Мсцібава Ваўк.

3. Шэры (пра колер матэрыі). *Майткі добрыя, сівыя.* Кудзялянцы Шальч. 4. Сівы (пра масць). *Крышку сіва карова, крышку бела.* Валеўка Навагр. *Сівы конь, сіва карова.* Вялікія Баяры Шчуч. *Карова сівая была.* Гемзы Шальч. *Конь у нас быў сівы, у яблыкі.* Вузла Мядз. *Сівы конь.* Грыкені Вільн. *Свіня зверху сівая.* Солы Смарг. *Сівая котка.* Старыя Смільгіні Воран. *Е ваўкі: сівы — большы і жоўты — меншы воўк.* Дзяніскавічы Ганц. *Ваўке сівыя, а грыбет — чорны пас.* Руднікі Шальч. 5. Шызы (пра колер пер'я птушак). *Сіва гуска.* Вялікія Баяры Шчуч. *Каршун сівы, сівы галуп, сіванькі.* Кіралі Шчуч. *Сівы галуп.* Рыбчына Віл. 6. Сіваваты (пра колер глебы, гліны, раслін, сена). *Глінай сівай бялілі печы.* Дакудава Лід. *За гумном сівая гліна была.* Малі Астр. *Сівая зямля.* Рагулішкі Даўг. *Сена сівае.* Старыя Смільгіні Воран. *Сена сівое.* Жодзішкі Смарг. *Ёсць сівы мох.* Вузла Мядз. 7. Сталёвы (пра колер). *Сівы пузыр, дзе пчолы водзяцца.* Кураполле Паст. ∇ *Есця сівы хлеп — грому ня будзіця баяцца.* Кураполле Паст. *Сівы колер — на багацце.* Кудзялянцы Шальч.

СІ'ВЯНЬКІ *гл.* СІ'ВЕНЬКІ

СІГАЛЕ'ТАК *м.* Тое ж, што і с ё л і т н і к. Янова Рас.

СІГНУ'ЦЬ *зак.* Ступіць. *Не сігнеш гэдак роўно, як дзялкі мерылі.* Міратычы Карэл.

СІДА'ЦЬ *незак.* Перасяляцца. *Калі не едзеш са мной, то сідай ў маю хату.* Гальшаны Ашм.

СІДЗЯ'ЛКА *ж.* Сядзенне ў кроснах. *Сідзялка ў кроснах, дзе сідзяць.* Опса Брасл.

СІ'ДНІК *гл.* СІ'ТНІК

СІДУ'Н *м.* Дзіця, якое не можа хадзіць. *Не насі снапы за вязьмо — будуць дзеці сідуны.* Кураполле Паст.

СІЕ'ДАЛО *гл.* СЕ'ДАЛА

СІЕ'ТЫ *займ.* Гэты. *На сіетуом кускові поля збуожэ вырасло хоруошчэ, а на туом, даліейшуом,— брычэ.* Курашэва Чыж. ◇ *Сіеты свіет* — зямное жыццё. *Добрэ жыті на сюом свіеті, а трэба вміраті, а як будэ на туом свіеті, нэ можэмо знаті.* Курашэва Чыж.

СІЕ'ТЬ *гл.* СЕЦЬ

СІЕ'ТЭЧА *прысл.* У гэты час. *Лоні сіетэча булі морозы, а сёголіта — зліга. Сіетэча діеті повінны спаті.* Курашэва Чыж.

СІЗАВАРО'НКА *ж.* Тое ж, што і с і в а в а р о́ н к а. *Сізаваронка всякімі цвятамі переліваецца, галубая, но ацценкі ёсць.* Мішневічы Шум. *Сізаваронка — на ёй пёрышка і зялёніڅкія, і красніцькія, меньшая за сароку, у лясу, дзе дупло дзерава, дзе дырка прадоўбана, там і водзіцца.* Замошша Брасл.

СІ'ЗАЯ ВАРО'НКА *ж.* Тое ж, што і с і в а в а р о́ н к а. *Сізая варонка меньшы галупка, тоншая, чорненькая, бліскучая, красівая пцічка.* Чарняўскія Лудз.

СІЙЧА'С *прысл.* Зараз. *А сійчас яна рабіла, прадсідацель ухваліў.* Солы Смарг.; *парайн.* руск. *сейчас* 'тж'.

СІК *зб. м.* Лічынкі ўюноў. *Сік — лічынкі ўюноў, як карандашы, ловяць шчук, акуней, галайня.* Ухвала Круп.

СІ'КАВКА *ж.* Прылада ў выглядзе насоса, якой дзеці абліваюцца вадой. *Сікайку можна зробіті з травы.* Курашэва Чыж.

СІКА'НАЧКА *ж. памянш.* Дробныя крупы. *Сіканачка — дробныя грэцкія крупы.* Солы Смарг.

СІКАНУ'ЦЬ *гл.* СЕКАНУ'ЦЬ

СІ'КАЎКА *заал.* Малая рудая мурашка. *Сікайка як сікнёт ядам!* Глівін Барыс.

СІКА'Ч *гл.* СЕКА'Ч

СІКЕ'РКА *ж. заал.* Пячкур. *Сікерка двух радоў: бруxацянькі — сліш і другая мая калючачкі, яна запратуяцца ў пясок.* Быстрыца Астр.

СІ'КІ толькі *мн.* Мача. *Дзяціныя сікі.* Саланое Віл.

СІКЛІ'ВЫ *прым.* Які выдзяляе пякучую вадкасць (пра мурашак). *Мурашкі сіклівыя — пякуць.* Рудня Астравітая Чэрв.

СІКЛІ'ЎКІ *мн.* Малыя рудыя мурашкі. *Сікліўкі балюча кусаюцца.* Рыбчына Віл.

СІКЛЯ'ХІ *мн.* Тое ж, што і с і к л і ў к і. *Рудыя мурашкі сікчут дужа — сікляхі ў нас былі завёўшыся ў хаты.* Пасіене Лудз.

СІКУ'Н *м. анат.* Мачавы пузыр. Азарычы Пін.

СІКУ'НЧЫКІ *мн. бат.* Шампіньёны. *Сікунчыкі белыя на балоці.* Вострава Маст.

СІКУНЫ' *мн.* Тое ж, што і с і к л і ў к і. *Сікуны — малыя мурашкі, пяршыць скура ад іх.* Магуны Паст.

СІКУ'ЧКІ *мн.* Тое ж, што і с і к л і ў к і. *Сікучкі такія куслівыя.* Ухвала Круп.

СІ'ЛА *ж.* 1. Сіла. *Дзе тая сіла бралася?!* Саланое Віл. *Хто с сілай — у халхозе добра зарабляе.* Дэгшні Шальч. *Усцягвалі брайно сілай.* Жодзішкі Смарг. *Курчук с сілы выбіўся, куляецца.* Багдзюлі Шальч. *Калі ня сіла ўзяць бярвяна, завязваюць укосна вяроўку і цягнуць наверх.* Магуны Паст. *Астатнімі сіламі я мушу зрабіць.* Малі Астр. ▽ *Не бярэ сіла, дык — спосабам* [кемлівасцю, вопытам]. Вузла Мядз. *Сілай міламу ня быць.* Вузла Мядз. 2. Здароўе. *Усе сілы павыцягнуў ён мне.* Саланое Віл. *Сілы во няма — і давольна.* Канюкай Вільн. *Хто мая сілу, той робіць.* Старыя Трокі Трак. *Людзі пры сіле, маладыя.* Кухты Віл. 3. Праца. *Яна не сваею сілаю жыве.* Вецярэвічы Пух. 4. Вялікая колькасць, многа. *Буракоў сілу даюць калхозы.* Вострава Маст. *Сіла была нас: чатыры браты, сёстры.* Кудзялянцы Шальч. 5. Дастатак. *Хто мая сілу — купя.* Старыя Трокі Трак. 6. Умалот. *Хлеб дайней сілу меў: дзевяць пудоў капа жыта давала.* Вузла Мядз. ◇ *Не ў сілах* — няма сілы.

*Рас я не ў сілах адзін зрабіць.* Кураполле Паст. *Я не ў сілах, янэ робяць.* Кіралі Шчуч. *Я ні ў сілах рабіць.* Слабада Мін. *З сілы збіць* — страціць сілы. *Ня ўлежыш хворы ў пасцелі, так с сілы зб'е.* Старыя Смільгіні Воран. *Сіла не бярэ* — няма сілы. *У яго сіла не бярэ.* Малыя Аўцюкі Калінк.

СІЛАВЫ' *прым.* Вясковы. *Чалавек сілавы, тутэйшы. Сілавыя людзі білі жорны.* Мярэцкія Глыб.

СІЛА'Ч *м.* Асілак. *Калісьці было такіх сілачоў.* Руднікі Шальч. *Сілачы спакойныя — чуць сам сябе валочыць.* Ахрэмаўцы Брасл. *В сэліе быв такі сілач, што як куонь нэ дав рады тягнуті, то выпрэгав ёго і сам воза тягнув.* Курашэва Чыж.

СІ'ЛАЧКА *ж.* У выразе: *Як сілачка* — колькі ёсць сілы. *Плацця далоў і як сілачка дахаты.* Чапаеўскі В.-Дзв.

СІ'ЛЕГА, СІ'ЛЯГА *ж. бат.* Лаза. *Сілега подобна на вэрбу, дорогу обсажвают. Сіляга — від лозы, плетут з ее кошы.* Азарычы Пін.

СІЛІЁ *н.* Сіло. *Сіліё такое — лавіць птушачак.* Сакаляны Сакол.

СІЛІЗНА' *ж.* Агрэх (пры ворыве, касьбе). *Сілізну аставіў, назад адцягваеш плуга. Як ты косіш, сілізну аставіў!* Істра Лудз.

СІ'ЛІЦЦА *незак.* Тужыцца, напружвацца. *Карова пачала сіліцца, будзіць цяліцца.* Ёдлавічы Брасл.

СІ'ЛЛЮ *прысл.* Сілай. *Прывёў сіллю дамоў.* Мярэцкія Глыб.

СІ'ЛНА, СІ'ЛНО *гл.* СІ'ЛЬНА

СІЛО' *н.* Тое ж, што с і л і ё. *Нада зрабіць сіло, зярноў кінуць.* Мярэцкія Глыб.

СІ'ЛЬВА *ж.* Тое ж, што с і б е л ь. *Сільва — дробная рыбка, павярху лётаіць.* Рыбчына Віл.

СІЛЬГАНУ'ЦЬ *зак. экспр.* Сцебануць. *Каб пуга была — сільгануў бы яе.* Азяраны Раг.

СІ'ЛЬНА, СІ'ЛЬНО, СІ'ЛНА, СІ'ЛНО *прысл.* Вельмі, надта. *Сільна харошая была.* Быстрыца Астр. *Яна сільна завідная. Ён сільна паганы: ваюя і ваюя. Ён перамучыўся сільна.* Малі Астр. *Ён сільна харошы.* Саланое Віл. *Яна сільна добрая.* Старыя Смільгіні Воран. *Сільна спужаўса і сідзеў на дзерэве, пакуль не пашоў лось.* Сонічы Гродз. *Сын прыяжджая загарэлы сільна.* Перабродддзе Міёр. *Сільна жара, яна задыхаецца.* Навасёлкі Лід. *Угораш сільна слізкі. Сільна трудна іх раскалоць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Сільна далёка іна жывець. У палях сільна многа зямлі.* Лісна В.-Дзв. *Сільна многа песінь было. Сільна длінны ён.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Іна сільна гаварлівая старуха. Як гляну ўніз, сільна высока. Сільна доўга біз выхадных будзіць.* Вялікае Сяло В.-Дзв. *Сільна многа ракаў.* Месянцы Брасл. *Адна была дзеўка сільна красівая, а матка— сільна бедная.* Буды В.-Дзв. *Ездзілі мае, казалі, што сільна*

*там харашо. Ругаюцца так сільна яны.* Чапаеўскі В.-Дзв. *Ён сільно маліўся.* Вулька Гродз. *Сілно сыта була курыца.* Кузьмічы Люб. *Сілна багата дае малака. Сілна хваліць. Сілно мучылася.* Малыя Аўцюкі Калінк.; *параўн.* руск. *сильно* 'моцна'.

СІЛЬНЕ'ЙШЫ *прым. выш.* да сільны 1. *З вясны сільнейшыя пчолы нападаюць на слабейшых.* Груздава Паст. *Сільнейшыя паўцікалі.* Вялікае Сяло В.-Дзв.

СІ'ЛЬНЫ *прым.* 1. Моцны. *Сільны вецяр.* Рудня Астравітая Чэрв. *Сільны чалавек. Сільны конь.* Ёдлавічы Брасл. *Сільны рой першы, то і другі сільны.* Мыто Лід. 2. Значны па ступені свайго праяўлення. *Ён сільны гаварáк. Яна зладзейка сільная.* Малі Астр. 3. Пранізлівы. *Глаза чорныя самыя сільныя.* Ахрэмаўцы Брасл. 4. Урадлівы. *Сільныя яблыкі, грушы, слівы.* Міратычы Карэл.

СІЛЯ'ВА, СЯЛЯ'ВА *ж.* Тое ж, што і сібéль. *Сілява — рыба, водзіцца ў возяры.* Груздава Паст. *Сілява ёсць доўгінькая.* Ахрэмаўцы Брасл. *Сялява — рыба такая.* Малькуны Ігн.

СІ'ЛЯГА *гл.* СІ'ЛЕГА

СІЛЯДЗЕ'Ц *гл.* СЕЛЯДЗЕ'Ц

СІЛЯДО'ЎКА, СІЛЯДЦО'ЎКА *гл.* СЕЛЯДЗЁЎКА

СІЛЯЗЕ'НЬ *гл.* СЕЛЯЗЕ'НЬ

СІЛЯ'ЎКА *ж.* Тое ж, што і сібéль. *Сіляўкі не растуць, маленькія, патскакваюць над вадой.* Мыто Лід. *Сіляўка поверху ходзіць, яна саўсем худая.* Збляны Лід. *Сіляўка, або маляўка,— адно і тоя.* Гемзы Шальч. *Сіляўка — тое, што і ўклея.* Пасіене Лудз.

СІЛЯ'ЦЬ *незак.* 1. Чэрпаць. *Ваду сілялі, сіляюць вядром. Трэба сіляць, засілі вады.* Рыбчына Віл. *Сіляць ваду вядром і кружкай. Сіляюць ваду.* Рыбчына Віл., Жодзішкі Смарг., Латыгаль Віл., Вялікія Нястанавічы Лаг. 2. Нанізваць. *Пойдзяш у лес, возьмяш нітку, голку і сіляяш дубовая лісця. На дубовам лісця хлеб пяклі. Ліст дубовы на нітачку сіляць, павесяць у будоўліну.* Рудня Чэрв.

СІМЕ'НЯ гл. СЕМЕ'НЯ

СІМІНА' мн., СІМЯНА' *ж.* Насенне. *На сіміна давала.* Кураполле, Груздава Паст. *Сімяну давалі.* Валынцы В.-Дзв. *Вясной даюць сімяну.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Сімяну прынасілі, па пуду жыта.* Вялікае Сяло В.-Дзв.

СІМНА'ЦЭТКА *ж.* Семнаццацігадовая дзяўчына. *Старая баба, а вбіраецца так, як сімнацэтка.* Курашэва Чыж.

СІ'МНЕ *гл.* СЕ'МЯ

СІМЯНА' *гл.* СІМІНА'

СІМЯНІ'СТЫ *гл.* СЕМЯНІ'СТЫ

СІМЯНО' *гл.* СЕМЯНО'

СІНА'Ш *м. с.-г.* Пара нарыхтоўкі кармоў. *Цяпер сінаш ідзець: усе косяць, сушаць сена.* Пераброддзе Міёр.

СІ'НЕ *н.* Сінь. *Сіне ад лесу да лесу.* Саланое Віл.

СІНЕ'Ц І *м.* Тое ж, што і с і в á к 1. *Ест такая зямя — сінец, сіневатага колеру.* Мсцібава Ваўк.

СІНЕ'Ц ІІ *зб. м. заал.* Малькі. *Сінец — гэта малькі.* Магуны Паст.

СІНЕ'ЦЬ *незак.* Хмарыцца. *Сінеіць, пэўна, пасля абеду будзіць дош.* Вузла Мядз.

СІ'НІ *прым.* 1. Сіні (пра колер). *Мае капы — сіня, ружова і бляда.* Парэчча Гродз. 2. *перан.* Бесталковы. ∇ *За адным сінім усе гінем — з-за аднаго бесталковага пакутуюць многія.* Кіралі Шчуч.

СІ'НІ ЛЁН *м.* Нямочаны лён. *Сіні лён асобне аткідаям.* Быстрыца Астр.

СІНІТА'Р *м.* Санітар. *Сінітар ён.* Кіралі Шчуч.

СІНІТА'РКА *ж.* Санітарка. *Сінітарку далі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Сінітарка была ў бальніцы.* Валынцы В.-Дзв.

СІНІ'ЦА *ж. заал.* Сініца. *Сініца паляцела і на галінку села.* Грыкені Вільн.

СІНІ'ЦКА *ж. памянш.* да с і н í ц а. *Сініцка ў нас, вочкі беленькія, самі сівенькія.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Сініцак у нас многа, сівенькія яны.* Пярэкі В.-Дзв.

СІНІ'ЦЫ *мн. бат.* Буякі. *Сініц многа, у леся балоцца, там сініцы.* Навасёлкі Лід. *У нас не растуць сініцы, мала іх, дзе найдзеш, то дзівуешся.* Кіралі Шчуч. *У лесі сініц многа, ідзі набяры!* Вялікія Баяры Шчуч. *Сініцы, або п'яніцы, у лесе ест.* Старыя Смільгіні Воран. *Сініцы, або лахачы, растуць велькія.* Альхоўка Навагр. *Сініцы ў балоце растуць, там і багун расцець.* Завельцы Астр.

СІНІ'ЧАНКА *ж.* Тое ж, што і с і н í ц а. Паляцкішкі Воран.

СІНІ'ЧКА *ж. памянш-ласк.* да с і н í ц а. *Сінічка есь пчол, прыляціць, сядзіць: стук-стук, пчала выляціць, яна схапіла і з'есь.* Груздава Паст. *Сінічка прыляцела і села.* Чычалі Швянч.

СІ'НІЯ КАНО'ПЛІ *мн.* Мужчынскія калівы канапель. *Трэба выбіраць сінія каноплі.* Дзяніскавічы Ганц.

СІНЦЯРЫ'Я *ж. мед.* Дызентэрыя. *Сінцярыя — плахая хвароба.* Мачаск Бярэз.

СІНЬГА' *ж.* Тое ж, што і с і б é л ь. *Сіньга плаваіць павярху.* Янова Рас.

СІ'НЬКА *ж.* Сінька. *Сінькай сінілі бялізну.* Новікі Гродз.

СІНЮГА' *ж.* 1. Глеістая зямля. *Сінюга — змесь зямлі, і чорнага, і шэрага, і пры гліня.* Гемзы Шальч. 2. Тое ж, што і с і в á к 1. *Сінюга — сіняя зямля, падзолістая, на ей ні хоча нічога расці.* Сасноўка Смарг. *Сінюга — дрэнна, благая зямля.* Ёдупка Шальч.

СІНЮ'ХА І *ж. бат.* Сырадэля. *Сеюць сінюху, збіраюць, вяжуць у пучке і атсылаюць; дробненькія лісточкі, а па дзве*

*кветачкі сіненькія.* Кіралі Шчуч. *Сінюха — квет, як гузічкі, сінім колерам цвіце.* Валынцы В.-Дзв.

СІНЮ'ХА II *ж.* Драўніна, якая ўтрымлівае мала смалы. *А яловы — сіні корч, або сінюха, абалоня ні гарушчая, сінія, плахія карчы, адна сінюха, мала смалы.* Рудня Астравітая Чэрв.

СІНЮХА' *ж.* Пасіненне скуры ад холаду. *Сінюха пашла па целя.* Саланое Віл.

СІНЮЧО'К *м.* Тое ж, што і с і н í ч к а. *Сінючкі паляцелі. Сінючок ляціць.* Альхоўка Навагр.

СІНЯ-БЛАНКІ'ТНЫ *прым.* Сіне-блакітны. *Небо бывая блакітно, а бывая сіня-бланкітно.* Стральцы Гродз.

СІНЯВАРО'НКА *ж.* Тое ж, што і с і в а в а р ó н к а. *Сінbackgroundваронка красівенька, уся сінінька.* Кіралі Шчуч.

СІНЯ'К I, СЫНЯ'К *м.* Сіняк. *Стукнуў — то сіняк, сіняке на назе.* Парэчча Гродз. *Сіняк на руцэ, ударыла.* Навасёлкі Лід. *Сіняк пасадзіў на цела.* Рыбчына Віл. *Ушчыпнуў, аш сіняк стаў.* Старыя Смільгіні Воран. *Сінякі на целе.* Мярэцкія Глыб. *Усё цела на сіняках.* Беразіно Докш. *Сіняке ат пабояў.* Каўняны Гродз. *Палкай ударыў — сіняк будзіць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Злядеў з печы, пабіўся, усё цела ў сіняках.* Ёдлавічы Брасл. *Сінякі на ўсёй бабе, так ён даў ёй.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Сіняк на целе, сінякоў насадзіў. Сіняк — плямок чорны.* Рудня Астравітая Чэрв. *Вон ён сінякоў наставіў под оком, шчо боіцца і ў магазін выйті.* Сялец Бяроз. *Усе цело на сінякох.* Кузьмічы Люб. *Сінякі на руках.* Лука Нараўк. *Сіняк — тэмнэсіне міесце на тіелі, которэ зостае од удырыня.* Курашэва Чыж. *Набэв сыняка, вэлэзны сыняк.* Дзмітравічы Кам.

СІНЯ'К II, СЫНЯ'К *м. бат.* Махавік жоўта-буры. *Сіняке — жоўтыя, разрэзаць — сінія.* Пацаўшчына Дзятл. *Сіняке смажаць — бэтка такая сіня.* Баброўнікі Гарад. *Грыбыв мало було, а краснюкыв і сынякыв много. Сыняк такый жэ смачный, як і грыб чы краснюк.* Сіманавічы Драг.

СІНЯ'К III *м.* Балотная глеістая зямля. *Мейсцамі стаіць вада, не прапуская — такая зямля — сіняк, на ёй тразнічок расце.* Крэва Смарг. *Дзе сіняк, там зямля сіняя.* Вялікія Баяры Шчуч. *Сіняк — зямля такая.* Стральцы Гродз. *Сіняк — дзе мокрая зямля, сіняя, там сіняк гэдакі, і нічога на ёй ні расце.* Міратычы Карэл. *На сіняку толькі хвошчка расце.* Баброўнікі Гарад.

СІ'НЯНКІ *прым. памянш.* да с í н і 1. *Бульба была багінка, дліянкая, сінянкая.* Старыя Трокі Трак.

СІНЯ'УКА I *ж.* Тое ж, што і с і б é л ь. *Сіняўка, сіняўкі — небальшэнькая рыба.* Рудня Астравітая Чэрв.

СІНЯ'УКА II *ж. бат.* Касач балотны. *Сіняўка, хвашчай — ройстава трава, ройстава сена.* Старыя Смільгіні Воран.

СІНЯЎРО'НКА *ж.* Тое ж, што і с і в а в а р о́ н к а. *Сіняўронка — такая харошая птушка.* Чычалі Швянч.

СІНЯЧО'К I *м. заал. памянш.-ласк.* Аўсянка. *Сінячок — жоўтая брушка — птушка такая.* Кураполле Паст.

СІНЯЧО'К II, СЫНЯЧО'К *м. памянш.* да с і н я́ к I. *Сінячок — дзе стукнуўся.* Дварчаны Паст. *Сынячок маленькій на тыловэ.* Дзмітравічы Кам.

СІНЯ'ЧЫТІ *незак.* Моцна біць (пакідаючы сінякі на целе). *П'яніца вэрнувсэ і свою жуонку посінячыв, учора сінячыў.* Курашэва Чыж.

СІПА'К *м.* Тое ж, што і с і в а́ к 1. *Сіпак — мяккая зямля.* Рыбчына Віл. *Нічога не пасееш на сіпаку тым. Сіпак — сівая зямля, уся на дзірачках.* Глівін Барыс.

СІПА'СТЫ *прым.* З дамешкай чарназёму (пра пясок). *Пясок сіпасты.* Рыбчына Віл.

СІПА'ТА *прысл.* Сіпата. *Гаворыш сіпата.* Саланое Віл.

СІПЕ'ЦЬ *незак.* 1. Шыпець. *Сіпіць змяя, вуж.* Ахрэмаўцы Брасл. *Сіпіць змія.* Мішневічы Шум. *Гадзюка сіпіць.* Мачаск Бярэз. 2. Шамацець (пра дождж). *Дзісь цэлы дзень дошч сіпіць.* Стральцы Гродз.

СІПІ'ЦА *ж.* Тое ж, што і с і в а́ к 1. *Сіпіца — сівая зямля, расцець на ёй бульба.* Ракаўскія Швянч.

СІПЛІ'ВЫ *прым.* Гугнявы. *Сіплівы гаворыць у нос.* Сапоцкіна Гродз.

СІПУ'ГА *ж.* Завея. *Сіпуга — зімова пара, калі ідзе снег і дзьме вецер.* Ятвезь Ваўк.

СІПУ'Н *м.* 1. Тое ж, што і с і в а́ к 1. *Сіпун — пустая зімля, смесь землі: і белюга, і песок, і абыкнавеная зімля.* Індра Красл. 2. Тое ж, што і с і н ю г а́ 1. *Глей, суглей, пясок, а пад нізам вада — гэта і есць сіпун.* Мачаск Бярэз.

СІПЯ'Х *м.* Тое ж, што і с і в а́ к 1. *Сіпях — самая плахая зямля.* Магуны Паст.

СІРАБРЫ'СТЫ *прым.* Серабрысты. *Сірабрысты окунь.* Істра Лудз.

СІРАДА' *гл.* СЕРАДА'

СІРА'НКА *ж.* Запалка. *Сіранкі прамоклі. Дай сіранку мне!* Рагулішкі Даўг. *Дзе сіранкі палажыла?* Лісна В.-Дзв.

СІРАТА', СІРО'ТА *ж.* і *м.* Сірата. *Круглы сірата. Бацька і матка памёрлі, яна — круглая сірата.* Граўжышкі Ашм. *Як памрэ бацько — палавіна сіраты, а маці памрэ — кругла сірата.* Малахоўцы Бар. *Бацька памрэ — паўсіраты, а як матка памрэ — круглы сірата.* Вецярэвічы Пух. *Два браты жылі, сіротамы былі.* Саланое Віл. *Сірота была.* Новікі Гродз.

СІРАЦІ'НА *ж.* і *м.* Тое ж, што і с і р а т а́. *Кругом сіраціна — ні маткі, ні бацькі.* Гарэлец Пух. *Нявестка — сіраціна.* Валеўка Навагр.

СІРАЦІ'НКА *ж.* і *м. памянш.* да с і р а ц і н а. *Яго ўнучка, што асталася сіроцінкай, у нас жыве.* Лоск Валож.

СІРБАНУ'ЦЬ *гл.* СЕРБАНУ'ЦЬ

СІРО'ТА *гл.* СІРАТА'

СІРЭ'НЕВЕНЬКІ *прым. памянш.* Ліловы. *Цвяты сірэневенькія, а лісточкі, як у бульбеніку, мяганькі-мяганькі.* Ахрэмаўцы Брасл.

СІРЭ'НЬ *м. бат.* Бэз. *Сірэнь ужо атцвіў, а жысмін будзіць цвіцець.* Валынцы В.-Дзв. *Яна стаіць пад сірэням.* Пераброддзе Міёр.

СІРЯНО'К *гл.* СЕРАНО'К

СІСЁЛКА, СІСО'ЛКА *ж.* Соска. *Зрабі сісёлку!* Гемзы Шальч. *Сісолку рабілі: хлеба нажуе, цукру туды і ў полачку, ссе дзяцёнак.* Ракаўскія Швянч. *Сісёлку дала дзіцяці.* Быстрыца Астр.

СІСТРА' *гл.* СЯСТРА'

СІ'СЬКА' *ж. анат.* 1. Грудзі. *Дзяцей саіялі сіськой.* Ракаўскія Швянч. *Гузок нашоўся ў сіське.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Не крычы, каток, сіські я табе не дам.* Вузла Мядз. 2. Сасок. *Сіська ў каровы.* Мярэцкія Глыб., Рыбчына Віл., Малькуны Ігн. *Пакалолася сіська ў каровы, ні дакраніся.* Магуны Паст. *Гарачынёй сіські ў каровы пашчапаліся ад вады.* Вузла Мядз.

СІСЮ'ЛЬКІ *мн.* Сукараткі. *Сісюлькі на нітках сукарацца, крута папрала.* Пераброддзе Міёр.

СІ'ТА *н.* і *ж.* Сіта. *Сеялі праз рэшата ці праз сіта.* Чуркі Ашм. *Сіта — мяльчэйшая, рэшата — буйнейшая. Азаткі астаюцца і праз рэшата, і прас сіта.* Солы Смарг. *Церас сіту прапусціць картошку.* Філіпаўцы Красл. *Як малацілі, то сіты былі пры малацьбе.* Чычалі Швянч. *Сіта — муку сеяць.* Завельцы Астр.

СІТА' *ж. бат.* Сіт. *Сіта ў возеры расцець — такі тоўсты, круглы пук.* Ёдлавічы Брасл. *Сіта ў балоці, у канаве, ніхто ні есць.* Рагулішкі Даўг. *Сіта кругленькая, глаткая, сіняя.* Чарняўскія Лудз. *У возіры сіта, купкамі расцець.* Месянцы Брасл. *Сіта круглая, чорныя бубачкі, купамі расцець.* Замошша Брасл. *У мяне накошана сіта ляжыць, нада перанясці на берах. Возера зарошшы сітой.* Пераброддзе Міёр.

СІ'ТАВА *ж.* Тое ж, што і с е т к а 3. *Сітава на голову.* Малыя Аўцюкі Калінк.

СІТАВА'ТЫ *прым.* Трубчасты. *Ёсць косць сітаватая, а ёсць шпік толька.* Завельцы Астр. *Сітаватая шапачка і корань.* Вецярэвічы Пух.

СІ'ТАЧКО *н. памянш.* да с і т а. ∇ *Яна ўся ж, што сітачко, вецер вышугае яго.* Валеўка Навагр.

СІ'ТКА I *н.* і *ж.*, СІ'ТКО *н.* 1. *памянш.* да с і т а. *Цадзілі цэт на сітка.* Дакудава Лід. *На сітка сеялі муку.* Навасёлкі Лід. *Сітка з дроціка цененькага і натта густая.* Гемзы Шальч.

*Сітка густая.* Ёдлавічы Брасл. *Сітко валасяноя — муку сеяць.* Мсцібава Ваўк. *Сітко купіла.* Вялікія Баяры Шчуч. ∇ *Ново сітко — на калочку — пра маладую нявестку.* Ялова Пруж. 2. Тое ж, што і с е́ т к а 3. *Сітко накладаюць на галаву, яно апшыта матэр'ялам.* Гемзы Шальч.

СІ'ТКА II, СІ'ТКО' *н. астр.* Вялікая Мядзведзіца. *Сітка на небе.* Жодзішкі Смарг. *Сітко — сем зорачак.* Малахоўцы Бар. *Сітко ідзе ззада трайчатачкаў.* Кіралі Шчуч. *Есць Сіткó з зоркаў.* Каўняны Гродз.

СІТКАВА'ТЫ *прым.* Неаплоднены (пра яйка). *Сіткаватае яйко.* Старыя Смільгіні Воран.

СІ'ТНІК, СІ'ДНІК *м.* Тое ж, што і с і т а́. *Сітнік у гозяры пры берагох, ён не тáня.* Стральцы Гродз. *Сітнік доўгі, круглы і мяккі, палавікі ткуць із сітніка.* Кураполле Паст. *Сітнік у рацэ расцець.* Вузла Мядз. *Сітнік можна знайсці ля рэчак.* Беразіно Докш. *Сітнік, або цыбульнік.* Белы Бераг Іўеў. *Сітнік каля рэк, трубачкамі такімі расце, зялёны.* Глівін Барыс. *Сітнік, шапатнік, кругляк.* Ухвала Круп. *Сітнік расце.* Рыбчына Віл., Навасёлкі Свісл. *Сіднік на ніскіх мястах расцець.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

СІ'ТНІЦА *ж.* Белы хлеб. *Сітніцы дам.* Валынцы В.-Дзв.

СІ'ТНЫ ХЛЕБ *ж.* Белы хлеб. *Сітны хлеб белы.* Вузла Мядз.

СІ'ТО *н.* Тое ж, што і с і́ т к а II. *Сіто — сем зорачак.* Малахоўцы Бар.

СІТО' *н.* Тое ж, што і с і́ т а. *Сіто купім.* Паляцкішкі Воран.

СІТО'К *м.* Тое ж, што і с і́ т а. *Сіток вісіць.* Паляцкішкі Воран.

СІТО'ЧКА, СІТО'ЧКО *н. памянш.* Тое ж, што і с і́ т к а II. *Сіточка, а хто Мядзведзіца называе.* Старыя Смільгіні Воран. *Сіточко на небе з зорак.* Мсцібава Ваўк.

СІ'ТЦА I, СІ'ЦЦА I *н.* Тое ж, што і с і́ т а. ∇ *Калі прыдзіць сусетка і хваліць нявестку, а бабуля кажыць: «Мая сястрыца, новая сітца — пакуль навісіцца, а тады і наваляецца».* Вузла Мядз. *Новае сітца на кручку навісіцца і на падлавіччу наваляецца — пра нявестку, якая бывае ў міласці і ў няміласці.* Ухвала Круп.

СІ'ТЦА II *н.* 1. Тое ж, што і с і́ т к а II. *Чатыры колцы і ручонка — Аліяшова Павозачка, або сітца.* Солы Смарг. *Сітца— кучачка зорак.* Кураполле Паст. *Сітца ўжо звярнулася. Сітца ўжо на паўнні, а паўня звярнула.* Саланое Віл. 2. *астр.* Сузор'е Плеяды. *На небі было Сітца дзевяць ці дванаццаць зорачак — кучка такіх звёздачак. Звечара Сітца падойміцца, а пад раніцу зніжаецца. Зорачка — нападобіе хаткі сфарміраваўшыся.* Вузла Мядз. *Звёздаў многа на небе і Сітца відаць.* Беразіно Докш.

СІТЦО' I *н.* Тое ж, што і с е́ т к а 3. *Пчаляр ідзець, Сітцо*

*адзяець.* Саланое Віл. *Сітцо надзяваецца на твар і галаву, каб не кусалі пчолы.* Дакудава Лід.

СІТЦО́ II, СІЦЦО́ *н.* Тое ж, што і с і т ц а II, 2. *Сітцо—кучачка гвёздачак.* Магуны Паст. *Сітцо — гусценька-гусценька гвязды сідзяць. Сітцо — вельмі густа звёздаў.* Гемзы Шальч. *Сітцо, Сіццо — много маленькіх зорачак.* Альхоўцы Лях. *Сіццо — кучкаю ходзяць зорачкі.* Нізок Уздз.

СІЎБЯ́НКА *ж.* Насенная бульба. *Самая сіўбянка — бульба спорная.* Кураполле Паст.

СІЎКАВАРО́НКА *ж.* Тое ж, што і с і в а в а р о́ н к а. Рыбчына Віл.

СІ́ЎКІ *гл.* СЕ́ЎКІ

СІЎНЯ́ *ж.* Сявенька. *Сіўня — плялі з саломы і лазой пераплятàлі, пазней называлі лупка. Сіўня і лупка — тое самае. Сіўня з ячмянём.* Мярэцкія Глыб.

СІЎЦАВА́ТАЯ ЗЯМЛЯ́ *ж.* Тое ж, што і с і в а́ к 1. *Сіўцаватая зямля — благая зямля.* Рыбчына Віл.

СІ́ЦІЦЦА *незак.* Тое ж, што і с в я ц і́ ц ц а II. *Сіціцца страха, прасіцілася, уся на дзірках. Андарак пасіціўся, паправальваліся дзіркі, пасіцілася, як рэшата, сіціцца андарак.* Рудня Астравітая Чэрв.

СІ́ЦЦА *гл.* СІ́ТЦА I

СІЦЦО́ *гл.* СІТЦО́ II

СІ́ЦЯЦКО *н. памянш.* да с і́ т ц а II, 2. *У нас гавораць: «Сіцяцко ўзышло — многа зорачак».* Стральцы Гродз.

СІЧА́С, САЙЧА́С *прысл.* Зараз. *Січас печ не таплю.* Пасіене Лудз. *Січас дзіця загікваецца.* Кіралі Шчуч. *Січас як лён не ўберыш, то машына пажне, а раней дык атветны быў, ён атвічаіць, каб лён убралі ўвесь.* Яніна В.-Дзв. *А сайчас еслі вышаў на двор, то рот у цябе, значыць, аткрыты, то холад аш у глотку.* Скрыль Пух.; *параўн.* руск. *сейчас* 'тж'.

СІЧКАВА́ТЫ *прым.* Звілісты. *Січкавата дарога.* Номікі Бабіц.

СІЧО́К *м.* Звіліна дарогі. Номікі Бабіц.

СІЧЫВО́ *н.* Крэсіва. *Січыво было, агонь высякалі.* Лісна В.-Дзв.

СІЯ́ЦЬ *незак.*Ззяць. *Ужэ сіяе — развідніваецца.* Альхоўцы Лях.; *параўн.* руск. *сиять* 'тж'.

СКА́БА *ж.* 1. *анат.* Рабро. *Цялуха скабу зламала. Худы, скабы можна перашчытаць.* Саланое Віл. *Скабы яго тоненькія, мягенькія.* Кураполле Паст. *Скаба ва ўсіх: каровы, свіні, авечкі.* Дакудава Лід. *Дастаюць скабы з мяса, як заколюць свіню.* Навасёлкі Лід. *Скабы ямо зразу, а кумпякі вэнджаныя астаўляем. Скаба бальшая. Скабы баляць. Сягоння скабы вару.* Кіралі Шчуч. *Так жэбры, а як зарэжаш карову ці кабана — гэта скабы.* Чуркі Ашм. *Усе скабы яму паламалі.* Старыя Смільгіні Воран. *Паламаў скабы.* Пацаўшчына Дзятл. *Як за-*

*колім свіню, у свіне ў баке скабы.* Парэчча Гродз. *Скабы ў каровы.* Вострава Маст. *Свіню ўчора забілі, прыходзь, дам сала і скабы на булён.* Беразіно Докш. *І чалавек скабы мая.* Гемзы Шальч. *Скабу зламаў.* Сакаляны Сакол. *Худы конь, скабы выпірая.* Стральцы Гродз. ∇ *Худая, як скаба.* Малі Астр. 2. Частка каркаса кошыка. *У кошыку скабы і душкі.* Курапол-ле Паст. *Кошык раблю, зламаласа скаба. Дай кошык, пакажу, дзе скабы.* Стральцы Гродз. *Па баках кошыка кругом скабы.* Баброўнікі Гарад. *Трэба ў кошык уставіць другія скабы. Скабы ў кошык устаўляюцца.* Кіралі Шчуч. *Скабы каша жылбуцёвыя.* Старыя Смільгіні Воран. *У кошыку лук, скабы і дупцы.* Навасёлкі Лід. *Нарэзаў на кошык лазы, ляшчынніку на скабы, на душкі.* Мярэцкія Глыб. ◇ *Адны скабы* — вельмі худы. *Адны скабы асталіся.* Малі Астр.

СКАБАПУ'ТРА *ж. кулін.* Падкіслены суп. *Крупа, картошка і кіслага ўложаць — і гатова скабапутра.* Рагулішкі Даўг.; *парайн.* лат. *skābputra* 'тж'.

СКАБЁЛКА *ж. цясл.* Скобля. *Абручы ўзгоніш на дзешку, сядзеш на скамейку, абжаргаеш і скабёлкай чысціш с сярэдзіны.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Скабёлка карыту робіць з дрэва.* Малькуны Ігн.; *парайн.* літ. *skobti* 'дзяўбці'.

СКА'БКА, СКА'ПКА *ж.* Стрэмка. *Загнаў скапку.* Ухвала Круп. *Як скапка залезя ў паляц, кажуць цяпер заноза.* Рудня Астравітая Чэрв.; *парайн.* літ. *skãbas* 'сцябло без лісцяў'.

СКАБЛІ'ЦЦА *незак.* Скрэбціся. *Скобліцца маладая бульба.* Саланое Віл.; *парайн.* літ. *skõbnyti* 'скрэбці'.

СКАБЛІ'ЦЬ, СКОБЛІ'ЦІ, СКОБЛЕ'ТЭ, СКО'БЛІЦЬ *незак.* 1. Скрэбці. *Скоблім маладую бульбу.* Лісна В.-Дзв. *Прынёс хлопец рыбы, пайду скабліць.* Рыбчына Віл. *Бярвені бараном скоблім.* Гемзы Шальч. *Пойду бульвы скобліці.* Смаляніца Пруж. *Пойду скоблетэ картопэль.* Дзмітравічы Кам. *Скобліць моркаў нада, не еш так!* Беразіно Докш. 2. *перан.* Грызці. *Узяў яблык: скобля і скобля.* Гемзы Шальч.; *гл.* с к а б л і ц ц а.

СКАБЛЯ' *гл.* СКО'БЛЯ

СКАВАРАДА' *гл.* СКВАРАДА'

СКАВА'ЦЬ I *зак.* Замарозіць. *Калі зіма марозлівая, марос скуе зямлю, так німа такой вады ў склепі, як цяпер.* Слабада Мін.

СКАВА'ЦЬ II, СКУВА'ЦЬ *незак.* Цкаваць. *Скуець сабакам — і ня пройдзяш.* Магуны Паст. *Скуе сабакам.* Жодзішкі Смарг., Дакудава Лід. *Скуе свіня сабакам.* Старыя Смільгіні Воран. *Няможна скаваць сабакам, укусіць.* Стральцы Гродз. *Будзеш яшчэ скуваць сабакам?* Мярэцкія Глыб.

СКАВЫТА'ЦЬ *незак.* 1. Скуголіць. *Сабака скавыча.* Кіралі Шчуч. 2. Вішчаць. *Парасяты скавычуць.* Мярэцкія Глыб.

3. *перан.* Паціху стагнаць, плакаць. *Прабіла нагу і скавычу ад болю.* Міратычы Карэл.

СКАЗАВА'ТЫ *прым.* Пашкоджаны. *Сказавата картофля.* Кіралі Шчуч.

СКА'ЗАНЫ *дзеепрым.* Сказаць у катэгарычнай форме (для выканання). *Сказала — сказана!* Курaполле Паст.

СКАЗА'ЦЬ *зак.* 1. Вымавіць. *Можна красіва і ламана сказаць.* Судэрва Вільн. ∇ *Сказаў, як адсек.* Курaполле Паст. *Вот сказаў, як звязаў. Сказаў, як тапаром адрубаў.* Малі Астр. 2. Загадаць. *Ідзі скажы Маньцэ, кап ішла.* Ахрэмаўцы Брасл. *Скажы маёй сястрэ, кап яна прыехала абязацельна.* Кіралі Шчуч. 3. Пажадаць. *Як сказаў, так яму і добра.* Саланое Віл. 4. Сцвярджаць. *І было так, як я сказала.* Гемзы Шальч. *Ні сказаць, што дужа цёпла.* Чапаеўскі В.-Дзв. 5. Паведамляць. *Радня не далжна была сказаці.* Каўняны Гродз. 6. *заг.* Вокліч здзіўлення. *Ну, скажы, прыгоршчамі чарпаў ваду, ай-ай, вядро начарпаў!* Ахрэмаўцы Брасл. ∇ *Сказаў с камара, а вырасла з вала.* Вузла Мядз.

СКА'ЗКА, СКА'СКА *ж.* Казка. *Много сказок, нэ пэрабраць. Гэто скаска такая.* Хатынічы Ганц.

СКАЗЫ'ЛКА *ж.* Стрыжань птушынага пяра. *Сказылка цвёрдая. Сказылкі ат пер'я.* Старое Сяло Зэльв.

СКАЗЭ' *мн.* Пашкоджанне клубняў бульбы. *Сказэ праз усю картофлю.* Кіралі Шчуч.

СКАКАНУ'ЦЬ *зак.* Скокнуць. *Як скакануў — папаў у вір і ўтануў. Я скакану ў ваду.* Саланое Віл.

СКАКА'ЦЬ, СКІКА'ЦЬ *незак.* 1. Скакаць. *Скакаюць авечкі.* Малькуны Ігн. *У мяне гарот чыста выпалаты, у такім паратку, што кап блыха скакала, то ўвідзіў бы.* Вузла Мядз. *Скакаюць дзеці па падворку.* Ёдупка Шальч. *Во скікаюць дзеўкі! Удалечыню скікай!* Ракаўскія Швянч. *Скікаіць, скікаіць і здыхаіць лягушка, падберыць яе хто.* Курaполле Паст. *Скікая жаба.* Гемзы Шальч. *Круглы мячык будзя скікаць.* Ністанішкі Смарг. 2. Рабіць скачкі ў ваду. *Ня скікай, утопісся!* Ракаўскія Швянч. 3. Саскокваць. *Каса вісіць, мышы скочуць на касу, каса і забражжыць аб сценку.* Ахрэмаўцы Брасл. 4. Пераскокваць. *Скачуць дзеці адзін праз другога ў суседавым двары.* Старыя Трокі Трак. 5. Утварацца. *Бурбалкі скачаць на лужах.* Дэгшні Шальч. 6. Разгойдваць, павялічваць хуткасць (пра арэлі). *У доску скача, падбівая і калышацца на дошца.* Граўжышкі Ашм. 7. *перан. неадабр.* Лезці ў бойку. *Паследняя врэмя не скакаіць біцца да нас.* Ёдлавічы Брасл. 8. Танцаваць. *Даўней у клуп не хадзілі скакаць.* Крэва Смарг. *Скакаць сталі. Паказуюць, як скакаць.* Граўжышкі Ашм. *Ганьдзя, ты найляхчэй скачаш за ўсіх, пойдзем паскачам.* Кіралі Шчуч. *Я і скачу, і спяваю. На танцах скачаць.* Лоск Валож. *Басяка скакала.* Старыя Трокі Трак. *Скачэ только козака.* Навадвор-

цы Васільк. ∇ *Як хто хочыць, так скочыць.* Курапполле Паст. *Бяда скачыць, бяда плачыць.* Вузла Мядз. ◇ *Скакаць пад дудку* — ва ўсім падпарадкоўвацца каму-н. *Пашла за яго, ну і скачы цяпер пад яго дутку.* Малі Астр.

СКАКУ'Н *м. заал.* 1. Блыха. *Скакун укусіў.* Ністанішкі Смарг. *Скакуны ня даюць жыць.* Альхоўцы Лях. *Скакунэ чорныя, а блохі чырвоныя.* Дарава Лях. 2. Конік. *Скакун — канёк зялёны. Скакуны — казельчыкі зялёныя.* Рудня Астравітая Чэрв.

СКАЛА' I ж. 1. Вапняк. *Капалі, дакапалі да белай скалы.* Гемзы Шальч. *Скала — што цвёрдая, нападобіі цэмента.* Вялікія Нястанавічы Лаг. 2. у знач. *прысл. ска́ламі.* Зрабіцца вельмі цвёрдым. *Зямля цвёрдая, скаламі збіваецца.* Мыто Лід. ∇ *Цвёрдая зямля, як скала.* Малі Астр.

СКАЛА' II *ж. пчал.* Пошукавы палёт пчол. *Скала — пчолы разветку робяць для роя.* Стральцы Гродз.

СКАЛАБУРДЗІ'ЦЬ *зак. экспр.* Набыць. *Дайней як хто скалабурдзіць які-небудзь чаравік, то яго пазычаюць.* Альхоўцы Лях.

СКАЛАВАЦЕ'ЦЬ *зак.* 1. Здранцвець. *Курчонак стаіць, галаву падняўшы — і нежывоя, скалавацея. Дошч па курчатках дасць, яны ў кучку — і нежывыя, скалавацеюць. Скалавацеў чалавек і ўтапіўся.* Граўжышкі Ашм. *Курчатка, парасятка малыя могуць скалавацець.* Жылі Іўеў. 2. Астыць. *Бліны скавалацелі.* Гемзы Шальч.

СКАЛАНУ'ЦЬ *зак. безас.* Страсянуць. *Скаланула мяне ўсю.* Валеўка Навагр.

СКАЛАТЫ'РЫЦЬ *зак. экспр.* Праседзець (каля хворага). *Скалатырыў цэлую ноч, плакала Ленка, балела ёй.* Альхоўцы Лях.

СКАЛАЦІ'ЦЬ, СКОЛОЦІ'ЦІ *зак.* 1. Збіць (масла). *Скалаціла масла.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Ужэ ніяк масла нэ сколоціш.* Смаляніца Пруж. 2. Перамяшаць. *Скалачу боп, гарох, віку — і трушанка.* Мачаск Бярэз. 3. *перан.* Моцна пабіць. *Скалоціць, змалоціць — потым прыяжджаў прасіцца.* Валеўка Навагр. 4. Пабудаваць. *Будоўку трэ було п сколоціці курам.* Сялец Бяроз.

СКА'ЛАЧКА *ж. памянш.* да с к а́ л к а I. *Як посна вара, то ні 'днае скалачкі німа. Скалачкі ні 'днае ні было, посная страваюць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Як засквaрыш, то па булёні пашлі скалачкі.* Кіралі Шчуч.

СКАЛБО'ЦІЦЬ *зак.* Размяшаць. *Скалбоціш малако і муку і закалбоціш зацірку.* Жылі Іўеў.; *гл.* к а л б о́ ц і ц ь 2.

СКАЛБУЦІ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і с к а л а ц і́ ц ь 1. *Смятану ставілі ў печ, выняць, як атопіцца, вылі ў цёрла і лошкай скалбуціш масло.* Кіралі Шчуч.

СКАЛДЫРЭ'ЧЫЦЬ *незак. экспр.* Хлусіць. *Што скалдырэчыш ты?* Лісна В.-Дзв.

СКАЛЕ'ЧАНЫ *дзеепрым.* Пакалечаны. *Нага была скалечаная, бядавала.* Груздава Паст.

СКАЛЕ'ЧЫЦЦА *зак.* Стаць калекам. *Скалечылася ў маладым веку.* Гемзы Шальч.

СКАЛЕ'ЧЫЦЬ *зак.* Параніць. *Скалечыла руку, шарпанула.* Старыя Трокі Трак.

СКА'ЛІ *мн.* Тое ж, што і с к а л а́ II. *Гэто скалі, оні обгледзяць место, рой прыляціць.* Хатынічы Ганц.

СКАЛІ'СТЫ *прым.* Вельмі цвёрды. *Скалісты хлеп, не магу есці.* Бенякові Воран. *Камень скольскі, скалісты называўся ґаґа.* Мыто Лід. *Скалістая зямля — цвёрдая, нярыхлая, скаламі збіваецца. Скаліста зямля, нічога не расце.* Навасёлкі Лід.

СКА'ЛІТІ *незак.* ◇ *Скаліті зубы* — смяяцца. *Прышла і нэ вядомо ш чого скаліт зубы.* Курашэва Чыж.

СКА'ЛІЦЦА *незак. экспр.* Тое ж, што і с к а́ л і т і. *Што скалісся, выскаляеш зубы?!* Альхоўцы Лях.

СКА'ЛІЦЬ *незак.* Вылятаць у разведку (пра пчол). *Пчолы скаляць — рой будзя.* Парэчча Гродз. *Ужо скаліць вуляй.* Малыя Аўцюкі Калінк.

СКА'ЛКА I *ж.* Тлушчавая кропля на паверхні вадкай стравы. *Хоць бы адна скалка! Плаваюць зверху ад жыру скалкі. Мяса кагда жырна варыш, тожа скалкі.* Малахоўцы Бар. *Скалкі зверху яды плаваюць.* Дакудава Лід. *Скалкі на зупе.* Каўняны Гродз. *Есці можно, скалкі плаваюць.* Стральцы Гродз. *Німа скалак, гаршчок ні праточаны* [незапраўленая страва]. Старыя Смільгіні Воран. *Сыты борщ, прама скалкі плаваюць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Куліеш зусіем худы, навэть скалок нэ відно.* Курашэва Чыж.

СКА'ЛКА II *ж.* Крэмень. *Крэсіва, скалка, губа — так высякалі агонь.* Малахоўцы Бар. *Скалкай курачы* [курцы] *пользаваліся.* Валынцы В-Дзв. *Скалка — маленькі каменчык, крэсілі агонь.* Дакудава Лід. *Скалка і сталь для высякання агню.* Ністанішкі Смарг. *Скалка — камень у крэсіле; у крэсіле — крэсіла, скалка і гупка.* Галубы Маст. *Бяс скалкі агонь ня высячэш.* Масілавічы Сл. *Была скалка (кругла, завернута), ґарун (как з дзерава, з бярозы сушылі), на ка́мешык ґарун лажылі, патом секачом сячом, ґарун загарался — і закурыць, агонь быў.* Пасіене Лудз. *Скалка — агонь высякаць.* Малькуны Ігн.

СКАЛЛЯ' *ж.* Тое ж, што і с к а л а́ II. *Скалля некалькі дней прылятая скаліць вуляй. Скалля лятая па некалькі дней.* Рудня Астравітая Чэрв.

СКАЛО'ТАК *м.* Баўтун (пра яйцо). *Ня буду есці, скалотак, як яго есці?!* Вострава Маст.

СКАЛО'ЦВІНЫ толькі *мн.* Маслёнка. *Атыгрывалі смітану, білі масла і астываліся скалоцвіны.* Янова Рас.

СКАЛО'ЦІНЫ толькі *мн.* Тое ж, што і скало́цві́ны. *Б'еш масла: масла — сабе, скалоціны — свіням.* Рыбчына Віл.

СКАЛО'ЦЬ *зак.* Пакалоць. *Я п яга скалола, гэтага злодзея, насмерць.* Саланое Віл.

СКАЛЫВА'ЦЬ *незак.* Збіваць з рытму (пра сэрца). *Кап не скалываць лішне сэрца, ішла дробнінькімі шашкамі.* Кіралі Шчуч.

СКАЛЬ *ж.* Тое ж, што і скала́ II. *Скаль прылятае, пчаліная разветка.* Парэчча Гродз. *Скаль пчаліная прыляцела.* Пацаўшчына Дзятл. *Калі пчолы шукаюць месца — гэто скаль.* Малахоўцы Бар. *Скаль — пчаліна разветка.* Навасёлкі Свісл., Старое Сяло Зэльв. *Ежэлі ідзе на раеніе пчала, скаль прылятая.* Масілавічы Сл.

СКАЛЬЗАТА' *ж.* Слізгота. *Скальзата такая, дошч!* Кіралі Шчуч.

СКА'ЛЬНЯ *ж.* Тое ж, што і скала́ II. *Скальня лётая.* Рудня Чэрв.

СКАЛЮ'ЖЫЦЬ *зак. экспр.* Груба аблаяць, зняважыць. *Благімі словамі, усяк скалюжыць цябе.* Вострава Маст.

СКАЛЯВА'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і ска́ліць. *Пчолы скалююць.* Малахоўцы Бар. *Пчала скалюіць.* Масілавічы Сл. *Пчолы датуль скалююць, покуль ні збяруць усе.* Пасека Ст.-Дар. *Скалююць пчолы.* Малыя Аўцюкі Калінк.

СКАЛЯРУ'ШЧА *н.* Шалупайка. *Патаўчы скалярушча, хай куры дзяўбуць.* Масілавічы Сл.

СКАМАРО'ШНІК *м. гіст.* Скамарох. *За памяццю гаварылі, што скамарошнікі мядзведзяў вадзілі.* Цяпінцы Віл. *Медзвядзі вадзілі, скамарошнікі былі.* Солы Смарг.

СКАМБІНАВА'ЦЬ *зак.* 1. Дадумацца. *Скамбінаваў, як прадаць карзінку: у кароміслы — і нясі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Кап што скамбінаваць украсці ў жонкі і воткі купіць!* Гемзы Шальч. *Як скамбінуе, як украдзе, то і заробіць.* Баброўнікі Гарад. 2. Дамовіцца. *Яны скамбінавалі, як зробіць.* Рагулішкі Даўг.; *параўн.* польск. *skombinować* 'тж'.

СКАМЕ'ЦЬ *зак.* Адчуць аскому. *Зубы скамелі ат кіслаты.* Едлавічы Брасл.

СКАМКА'ЦЬ *зак.* Зляпіць (у камяк). *Талакну скамкалі ў камочкі.* Кураполле Паст.

СКАМЫ' толькі *мн.* Драўляныя ціскі. *Скамамі выціскалі мёт.* Бакшты Іўеў.

СКАМЯ'ЧАНЫ, СКОМ'Я'ЧЭНЫ *дзеепрым.* Скамечаны. *Бялізна скамячана.* Солы Смарг. *Ском'ячэно лежало, і качалка нэ бэрэ.* Смаляніца Пруж.

СКАНА'ННЕ *н.* Смерць. ◇ *На скананні ляжаць* — быць пры смерці. *На скананні ляжыць.* Ністанішкі Смарг.

СКАНА'ЦЬ *зак.* Памерці. *Былі параненыя нашы, і так яны сканалі ад ран.* Ракаўскія Швянч. *Ужо чалавек сканаў, нада вочы спячатаваць.* Кіралі Шчуч.

СКАНТАВА'ЦЬ *зак.* Змацаваць. *Канты дошчак шаршубалям пачасаць, а тады спускаем спускам і патом нада скантаваць — усё плотна сходзяцца.* Гемзы Шальч.

СКА'ПАВАЦЬ *незак.* Скідаць адкуль-н. *Скапавалі гной жалезным крукам. Скапавалі гной круком, зялеза такая сагнёна.* Ракаўскія Швянч.

СКАПАВА'ЦЬ *зак. экспр.* Зразумець. *Ні скапавала, ні здагадалася.* Альхоўка Навагр. *Скапаваў, што да чаго. Другі скора скапуіць, на ходу зразумея.* Малькуны Ігн.

СКАПА'ЦЬ *зак.* 1. Выкапаць. *Бульбу скапала, нямношка паляжу.* Крэва Смарг. *Я ўжо бульбу скапала.* Лоск Валож. *Памогуць дзеці, скапаюць бульбу. Скапаем бульбу за дзве суботы.* Гемзы Шальч. *Скапалі картошку.* Стральцы Шальч. 2. Ускапаць. *Накапала дужа, а скапала ніц.* Старыя Трокі Трак. 3. Скінуць адкуль-н. *Скапай гной з воза!* Ракаўскія Швянч. ◇ *Скапаць з работы* — звольніць. *Усё роўна яна скапала яго з етай работы.* Беразіно Докш.

СКА'ПВАЦЦА *незак.* Капаць нароўні з кім-н. *Мы не скапваліся з ёй.* Пацаўшчына Дзятл.

СКАПЕ'Ц *м.* Кастрыраваны баран. *Скапец — як вылажаць барана.* Чуркі Ашм. *Скапец — вылажаны баран.* Кіралі Шчуч., Руднікі Шальч. *Скапец — у яго выразано ўсё.* Парэчча Гродз.; *параўн.* літ. *skãpas* 'тж'.

СКАПУЗУВА'ЦІ *зак.* Умець паставіцца да каго-н. *Аспадар троха скупаваты, але як скапузуяш, то добра.* Парэчча Гродз.

СКАПЦАНІЕ'ТІ *зак. экспр.* Састарыцца, здрахлець. *Чого ты так скапцаніев?* Курашэва Чыж.

СКАПЦІ'ЦЬ *зак.* Павэндзіць. *Кішкі наложывалі мясам, тада скапцяць.* Філіпаўцы Красл.

СКАПЫТА' *прысл.* ◇ *Ляцець скапыта* — хутка бегчы. *Вядзе воўк авечку, за воўны ўзяўшы, падганяя, а мы лятом скапыта за ім, ляснік стрэліў — і воўк адляцеўся.* Кудзялянцы Шальч.

СКАПЭРА'ТІСЕ *зак. экспр.* Памерці. *Стары Дэм'ян робів, заботівсе і скапэратівсе.* Курашэва Чыж.; *параўн.* літ. *nusikaparóti* 'тж'.

СКАРАБА'ЦІЦЦА *зак.* Пагнуцца. *Было раўней, а тэрас скарабацілася вядро.* Ёдупка Шальч.

СКАРА'ЗА *м.* і *ж. экспр.* Свавольнік, гарэза. *Ах ты скараза!* Кіралі Шчуч.

СКАРАЛУ'ШЧАЧКА *ж. памянш.* 1. Ракавінка. *У скаралушчачках слімакі з рошкамі.* Солы Смарг. 2. Хіцінавае по-

крыва жука. *Майскі жук каля ліпаў літая, скаралушчачка на ім.* Солы Смарг.

СКАРАЛЮ'ПА *ж.* 1. Тое ж, што і скаляру́шча. *Курыца ліецца, скаралюпы не хватая.* Мсцібава Ваўк. 2. Ракавіна. *Слімак у скаралюпі.* Вялікія Баяры Шчуч.

СКАРАЛЮ'ПІНА *ж.* Тое ж, што і скаляру́шча. *Скаралюпіна ў яйку.* Каменка Стара Сакол.

СКАРАЛЮ'ШЧА *н.* Тое ж, што і скаляру́шча. *Скаралюшча на яйцэ.* Вострава Маст. *Скаралюшча накідаў, змяці.* Стральцы Гродз.

СКАРАНІ'ЦЬ *зак. экспр.* Абняславіць. *Яна мяне скараніла, ну, і я яе патом скараніла.* Мярэцкія Глыб. *Скляла, скараніла мяне с карэнням.* Рудня Астравітая Чэрв. *Як скароніць яна мяне! Яна мяне да паўсмерці скляла, скараніла.* Міратычы Карэл. *Я цябе скараню, сама сябе не спазнаеш.* Масілавічы Сл.

СКАРАСПЕ'ЙКА *ж.* Скараспелая бульба. *Скараспейку рана капаям.* Альба Нясв.

СКАРА'ЦЬ *зак.* Пакараць. *Расказваюць байкі, што яго, гэтага рака, бох скараў: ён падгледзеў там, дзе няможна было, і бох сказаў: «Табе трэба ў зат вочы ўставіць».* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* польск. *skarać* 'тж'.

СКАРА'Ч *м.* 1. Кавалак палатна з канцамі асновы, які застаецца пасля заканчэння ткання. *Скарач быў, фрэнзлі паплецяны ў ім*; *пячэ бліны і кідалі на скарач.* Малі Астр. *Скарач — канец палатна з заплеценымі хвастамі. Дзяцей білі скарачом.* Быстрыца Астр. *Скарач адразалі і сыпалі бульбу. Хто вывязываў, хто плёў канцы ў ім.* Чуркі Ашм. *Ткалі матэрыял і патом пакінеш пат канец з ніткамі, потым іх папляцеш — во і скарач: сыпіш бульбу на яго або дзіця во паб'еш.* Солы Смарг. *Канчаяш ткаць, адразаяш канцы і рабілі скарач, дзешку накрыць добра.* Дакудава Лід. *Скарач называлі. Дзешку накрывалі скарачом. Ручнік — вузейшы, скарач — шыршы. Скарач бывае тканы рознымі ніцямі. Як датыкая кросны, адрэжа і вывязуя махры, адрэжа на мэтр пат скарач.* Старыя Смільгіні Воран. *Скарач — кусок палатна з махрамі паплецянымі, бэз махрачоў — ручнік. Скарач бывая даўжэйшы і караценйшы.* Жылі Іўеў. *Скарач — канец палатна адрэжа, спляце ніткі, як бліны пякуць, то на скарач ложаць.* Жыдзевічы Іўеў. *Скарач — як ткалі палатно, пакінуць з махрамі, сплятуць матузочкі, накрывалі дзешку, рукі выцiралі.* Альхоўка Навагр. *С канцоў палаценка скарачы рабілі.* Старыя Трокі Трак. *Скарач адразаецца, як кросны датыкаюць, і заплятуць ніткі. Пасцеляць скарач на стол, і гэту бульбу высыпяць на скарач.* Гемзы Шальч. *Скарач у кроснах, як баба палатно затыкая і датыкая. Баба біла скарачамі.* Руднікі Шальч. *Скарачы былі, імі дзешкі накры-*

*валі: хлеп замесіць і скарачом закрывая.* Кудзялянцы Шальч. *Бліны складалі на скарач.* Грыкені Вільн. 2. Бруднаяануча. *Скарач — карава ануча.* Кіралі Шчуч. *Паследняя трапка — скарач.* Старыя Трокі Трак. ∇ *Вісіць рушнік, як скарач, учора забылася памыць яго.* Кіралі Шчуч. 3. *перан.* Брудная бялізна. *Як што гразнае, то кажуць скарач.* Вялікія Баяры Шчуч. *Я асталася ўдома ды памыла ўсе скарачэ, нават штаны верхнія Платона памыла.* Навасёлкі Свісл. 4. *перан.* Хто выпэцканы. *Скарач ты мой! Хацела абмыць яго, стаў плакаць, пашкадавала.* Кіралі Шчуч. *Во скарач які, ідзі памыю!* Старыя Трокі Трак. *Скарач — брудны, гразны чалавек. Як моцно гразны, кажуць скарач.* Навасёлкі Свісл.; *параўн.* літ. *skarà* 'кавалак матэрыі'.

СКАРА'ЧЫК *м. памянш.* да скара́ч 1. *Скарачыкам накрывалі хлеп на стале.* Мсцібава Ваўк.

СКАРБ, СКАРП *м.* 1. Маёмасць. *Гэта ўсё скарп мой — цвяты, хата.* Дзераўное Стаўб. 2. Клад. *Некоторы людэ з зэмліе скарб выкопуют.* Курашэва Чыж. 3. *перан.* Вельмі дарагі для каго-н. чалавек. *Внучка — то муой цэлы скарб.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *skarb* 'тж'.

СКАРВАДА' *ж.* Патэльня. *Пасматрэця, ад берагу згарэла скарвада.* Паляцкішкі Воран. *Пяклі бліны і сала на скарвадзе. Скарвада стаіць сала печ.* Старыя Смільгіні Воран. *Падбярэзнічкі можна спячы на скарвадзе.* Гемзы Шальч.

СКА'РДЗІЦЦА *незак.* Выказваць скаргу. *Скардзіўся нарот на пана.* Чычалі Швянч.; *параўн.* польск. *skarżyć się* 'тж'.

СКАРЗА'ЦЦА *зак.* Распушыцца. *Нітка скарзалася.* Жодзішкі Смарг.

СКАРЛУ'ПКА *ж. памянш.* Лупінка. *Скарлупку знімуць чуць і мелюць — і шатрована мука.* Збляны Лід.

СКАРМІ'ЦЬ *зак.* 1. Зрасходаваць на корм жывёле. *Траву можна скарміць карові.* Слабада Мін. 2. *перан.* Выгадаваць. *Кароўку скарміў.* Беняконі Воран.

СКАРО'ЖЫЦЬ *зак. безас.* Паралізаваць. *Падвей патхапіў, губы скарожыла. Скарожыла пальцы.* Кіралі Шчуч. *Яе скарожыла, яна хварэе.* Мсцібава Ваўк.

СКАРО'МІНА *ж.* Мясная і малочная ежа. *Даўней казалі: «Скароміна вышла, ні сала, ні малака».* Кураполле Паст. *Скароміны німа, не было чым разгавецца.* Валынцы В.-Дзв.

СКАРО'МІЦЬ *незак.* Запраўляць (страву). *На пост ні нада гэтых гаршкоў скароміць.* Солы Смарг.

СКАРО'МНЫ *прым.* 1. *устар.* Паводле рэлігійных прадпісанняў, забаронены для яды ў час посту (пра мяса, сала, малако і інш.). *Страва прэсная і страва кіслая, скаромная і посная.* Рыбчына Віл. *Скаромны булён.* Мярэцкія Глыб. 2. у знач. *назоўніка скаро́мная, скаро́мна, скаро́мно н.* Тое ж, што і скаро́міна. *Постам скаромнага няможна есці,*

*а яна мяне аскароміла.* Гемзы Шальч. *Калі пост, скаромнага ня ем. Скаромна — запраўлена салам.* Солы Смарг. *На багатую куцю ўсё скаромная ядуць.* Збляны Лід. *Як пост, скаромнага німожно есці.* Малахоўцы Бар.; *параўн.* руск. *скоромный* 'тж'.

СКАРП *гл.* СКАРБ

СКАРПА'ЦЦА *зак.* Змаршчынець. *Скарпаўся твар, змаршчыўся.* Навасёлкі Свісл.; *параўн.* літ. *kárpa* 'барадаўка'.

СКАРПА'ЦЬ *зак.* Зрыць. *Усё скарпалі свіння, зрылі бульбу.* Рудня Астравітая Чэрв. *Парасята скарпаюць двор.* Кузьмічы Люб.

СКАРСТУ'ЛІ *мн.* Свежына. *Паршука закалолі і прынясла нам скарстуляў.* Кудзялянцы Шальч.; *параўн.* літ. *skerstùvės* 'тж'.

СКАРУ'БА, СКОРУ'ПА *ж.* Шарпак. *Скаруба па снегу.* Быстрыца Астр. *Мороз, на рані скорупа зробіласе.* Курашэва Чыж.

СКАРУБО'К *м.* Прыгарка. *Бульба са скарупком, а мама кажыць прыгаркі.* Груздава Паст.

СКАРУ'ШКА *ж.* 1. Скарынка. *Пастаў кашу ў печ, хай засмажыцца, кап скарушка была.* Кіралі Шчуч. 2. у знач. *прысл. скарўшкаю.* Скарынкай. *Вот каша добра засмажылася, аш узялася скарушкаю.* Кіралі Шчуч.

СКАРЧАНЕ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і с к а п ц а н і ё т і. *Скарчанеў стары.* Гемзы Шальч. *Бадай ты скарчанеў!* Мсцібава Ваўк.

СКАРЧЭ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і с к а п ц а н і ё т і. *Скарчэў ты, гарэлка да дабра ні даводзіць, самага лепшага чалавека можа збіць с памяці, па нэрвах рэжа.* Рыбчына Віл.

СКАРШНЕ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і с к а п ц а н і ё т і. *Скаршнеў саўсем стары.* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. *nukáršti* 'тж'.

СКАРШЭ'НІЦЦА *зак.* Тое ж, што і с к а п ц а н і ё т і. *Ён ужо саўсем скаршэніўся.* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. *káršti* 'дажываць свой век'.

СКАРЫ'НКА, СКОРЫ'НКА *ж.* 1. Скарынка. *Скарынка — самы верх хлеба.* Чуркі Ашм. *Скарынка не бярэцца* [у хлебе], *укінь паперку, каб загнеціўся.* Жодзішкі Смарг. *Верхня скарынка ў хлебе.* Дзяніскавічы Ганц. *Скарынка ў хлебі бываіць патсохша, кісля другая.* Вузла Мядз. *Скарынка хлеба пахуча, калі пякуць на лістах, чым на бляся.* Навасёлкі Лід. *Як хлеп не ўдасца, то такая закала будзя на скарынцы!* Парэчча Гродз. *Натто скарынка пахне на аеры.* Валеўка Навагр. *Скарынка хлеба.* Номікі Бабіц. *Тзэрды скорынкі.* Смаляніца Пруж. 2. Зацвярдзелы верхні пласт зямлі. *Дошч прымачыў толькі скарынку зямлі.* Гемзы Шальч.

СКАРЭ'Й *прысл.* 1. Хутчэй. *Вярніся скарэй дамоў.* Кухты

Віл. *Так праходзіць усё скарэй у рабоце.* Валеўка Навагр. 2. Лепш. *Я скарэй да яе паеду жыць.* Пацаўшчына Дзятл.

СКАРЭ′ЦЦА *зак.* Пакрыцца коркай. *Было даўно, я яшчэ маладая была, у мяне пліткай узяўся і скарэўся каўтун.* Беразіно Докш.

СКАСАБО′ЧЫЦЦА *зак.* Прыняць пагражальную позу. *Наша карова збіла другую карову і скасабочылася.* Кіралі Шчуч.

СКАСАВА′ЦЬ, СКАСОВА′ТІ *зак.* 1. Перакрэсліць. *Што я напісала, ён скасаваў.* Магуны Паст. 2. Адмяніць. *Суд скасаваў рашэнне.* Галубы Маст., Пацаўшчына Дзятл. 3. Ліквідаваць. *Дарогу не скасавалі.* Лісна В.-Дзв. *У нас скасавалі бальніцу, перавязлі ў Дрысу, цяпер некуды старыкам прыхінуцца.* Валынцы В.-Дзв. *Скасавалі дарогу.* Ахрэмаўцы Брасл. *Была ў Грут дарога, а цяпер скасавалі, пасадзілі тут валер'янку.* Кіралі Шчуч. *Скасавалі межы.* Мсцібава Ваўк. *Тут калейка была, яе скасавалі.* Рагулішкі Даўг. 4. Знішчыць. *І так мы скасавалі пацукі. Пляскушка была, так скасавалі.* Гемзы Шальч. *Цяпер скасавалі ракоў аміякам, ён сплывая с палёў у рэчку.* Руднікі Шальч. 5. Забіць. *Немцы людэй скасовалі.* Азарычы Пін. 6. Распрадаць. *Некалькі лет — усё скасаваў, начаў прадаваць — ні курыцы, ні кабана не дзяржыць.* Гемзы Шальч. 7. *перан.* Выкінуць. *Я іх* [сапсаваны насценны гадзіннік] *скасавала.* Вецярэвічы Пух.; *парайн.* польск. *skasować* 'ліквідаваць'.

СКАСАГО′Р *м.* Касагор. *Скасагор каля ракі.* Дэгшні Шальч.

СКА′САЧКІ *мн.* Адросткі пер'яў пасля ліньki птушак. *Са скасачак расцёт пер'я.* Парэчча Гродз.

СКАСІ′ЦЦА *зак.* Пакрывіцца. *Дошка скасілася.* Номікі Бабіц.

СКАСІ′ЦЬ I *зак.* Пакасіць. *Не скасіў траву.* Грыкені Вільн. *Ідзеце скасеце, я высушу сама.* Валеўка Навагр.

СКАСІ′ЦЬ II *зак.* Скоса паглядзець. *Ён скасіў вочы, разазліўса.* Парэчча Гродз.

СКАСО′ВАНЫ *дзеепрым.* 1. Які выйшаў з ужытку. *Дзеравяны бораны даўно скасованы.* Мсцібава Ваўк. 2. Ліквідаваны. *Тут дарога скасована.* Альхоўцы Лях.; *парайн.* польск. *skasowany* 'тж'.

СКАСОВА′ТІ *гл.* СКАСАВА′ЦЬ

СКАСУ′РЫЦЦА *зак.* Скоса паглядзець. *Ён як злы — скасурыцца, глядзіць спадылба.* Малі Астр.

СКАСЦІ′ЦЬ *зак. экспр.* 1. Моцна пабіць. *Скасціць — добра пабіваць па касцях. Ён яго добра скасціў.* Рыбчына Віл. *От скасціў яго саўсём — абабіў і апсварыў яго.* Мярэцкія Глыб. 2. Тое ж, што і с к а л ю ж ы ц ь. *Ну і скасціў паследні-*

*мі слывамі!* Мішневічы Шум. *Ну і скасціла і вірла на яе!* Беразіно Докш.

СКАСЯКА′ *прысл.* Скоса. *Чаго ты на міне пазіраеш скасяка?* Кузьмічы Люб.

СКАТА′ЦЬ *зак.* Скруціць. *Пралі на штаны зрэбніну, бялілі, у лужы слалі, скатаяць у трупку, шыюць штаны і кашулі.* Груздава Паст.; *парайн.* руск. *скатать* 'тж'.

СКА′ТВАЦЬ *незак.* Скручваць. *Скатвалі ў свої. Скатвалі ў свої туга.* Слабада Мін.

СКАЎГА′НІЦЬ *зак. экспр.* Неахайна зрабіць што-н. *Каўган як зробіць ні так, ні сяк, дык кажуць скаўганіў.* Старое Сяло Зэльв.

СКАЎЗНУ′ЦЬ *зак.* Вывіхнуць. *Скаўзнула матка нагу.* Ахрэмаўцы Брасл.

СКАЎРО′НАК *м. заал.* Жаваранак. *Рана выйдзеш у поля, скаўронак спявая, слухаеш.* Магуны Паст. *Скаўронак спявая.* Быстрыца Астр. *Скаўронак, чуяце, пяе. Пасём каровы, ляжам дагары і слухаем скаўронкаў.* Солы Смарг. *Скаўронак харашо спявая.* Гемзы Шальч. *Скаўронак лётаіць.* Лайпушкі Ігн.; *парайн.* польск. *skawronek* 'тж'.

СКАЎРО′НАЧАК *м. памянш.* да с к а ў р о́ н а к. *Скаўрòначак на полю вядзецца.* Кудзялянцы Шальч. *Скаўроначкі высока лятаюць.* Солы Смарг.

СКА′ЦЕР *ж.* Абрус. *Ён падлажыў грошы пат скацер.* Гальшаны Ашм. *Скацер, а даўней абрус.* Саланое Віл.; *парайн.* руск. *скатерть* 'тж'.

СКА′ЦЕРКА *ж. памянш.* да с к а́ ц е р ц ь. *Засцелюць белу скацерку, каб відно было, і пушчаюць пшчол.* Старыя Смільгіні Воран.

СКА′ЦЕРЦЬ *ж.* Тое ж, што і с к а́ ц е р. *Скацерці ткалі.* Навікі Лудз.

СКАЦЁ *зб. н.* Каровы. *Скацё вядуць да быкоў.* Вузла Мядз.

СКАЦІ′НА, СКОЦІ′НА *зб. ж.* Хатняя жывёла. *Скора скаціна будзіць ісці. Жалка гэтай скаціны, да цямна пасцілі, было ўжо досіць позна.* Груздава Паст. *Места такое — ні самому жыць, ні скаціне схадзіць.* Кураполле Паст. *Скаціна была, нада было і накарміць, і напаіць. Скаціна была — чатыры ці пяць кароў дойных, а дзецям малака не давала. Курыца такая скаціна, што на пасту не пагоніш.* Вузла Мядз. *Там скаціну будуць гнаць.* Саланое Віл. *Скаціну на машыні возяць.* Навасёлкі Лід. *Скаціна нічога, добра ходзя.* Малі Астр. *Скаціну прадаюць.* Граўжышкі Ашм. *Якая скаціна тут будзя вясціся?! Яму шчасця: і скаціна ідзець, і ўсё.* Ракаўскія Швянч. *Атавы не так скаціна есць.* Пацаўшчына Дзятл. *Кажда скаціна ходзіць. А цяпер скаціны размножылася.* Альхоўка Навагр. *Скаціна была на хлеве.* Латыгаль Віл. *Скаціна*

*есць добра. Я віджу, скаціна ідзе.* Магуны Паст. *Скоціна ўсэ разом.* Смаляніца Пруж. ∇ *Пры пану людзі жылі, як скаціны.* Слабада Мін.; *парайн.* руск. *скотина* 'тж'.

СКАЦІ'НІНА *ж.* Жывёліна. *Добрую скацініну мелі.* Саланое Віл.

СКАЦІ'НКА *ж. памянш.* да с к а ц і н а. *Скацінка звыкшыся стаіць і жваку жвець.* Малькуны Ігн.

СКАЦІ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і с к а т а́ ц ь. *Паверху качалкай выкачаям і ў трубачку скоцім палатно. Кавалак палатна ў трубу скоцяць.* Рыбчына Віл. *Кусок палатна скаціў у трубу.* Вязынка Маладз. *Скаціла хвост палатна.* Вецярэвічы Пух.

СКАЦКІ' *прым.* Кармавы. *Скацкія буракі пасадзіла.* Рагулішкі Даўг.

СКАЦЯ'ЧЫ *прым.* Тое ж, што і с к а ц к і́. *Скацячыя буракі прывёс. Скацячай бульбы многа.* Жодзішкі Смарг.

СКАЦЯ'ЧЫ ДО'КТАР *м.* Ветэрынар. *У нас цяпер свой скацячы доктар.* Дакудава Лід.

СКАЧА'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і с к а т а́ ц ь. *Пабеліш палатно, скачаеш у трубку.* Васілевічы Гродз.

СКА'ЧВАЦЬ *незак.* Скочваць. *Балкі скачвалі і збівалі.* Замошша Брасл.

СКАЧЫ'ЦЬ *зак.* Ускочыць. *Скачыў і паляцеў.* Чычалі Швянч.

СКАШТАВА'ЦЬ *зак.* Пакаштаваць. *Сядай, скаштуем.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* польск. *zakosztować* 'тж'.

СКВАВЫТА'ЦЬ *незак. экспр.* Паціху плакаць. *Будзе яна* [дзяўчынка] *сквавытаць.* Мсцібава Ваўк.

СКВАДРАВА'ЦЬ *зак.* Надзець чахол на коўдру. *Вот яшчэ ні скваДрую ніяк.* Ісерна Слуц.

СКВАЗНЫ' *прым.* Скразны. *Сквазныя бярвеня.* Гемзы Шальч.; *парайн.* руск. *сквозной* 'тж'.

СКВАЗНЫ'Я ДЗВЕ'РЫ толькі *мн.* Вароты ў гумне насупраць уязных. *Праз сквазныя дзверы выехаў.* Чычалі Швянч.

СКВАЗНЯ'К *м.* Скразняк. *Сквазняк, вецяр бразгаіць.* Кіралі Шчуч.; *парайн.* руск. *сквозняк* 'тж'.

СКВАПЛІ'ВЫ *прым.* Сквапны. *Скваплівы чалавек.* Мярэцкія Глыб.

СКВА'ПНЫ *прым.* Тое ж, што і с к в а п л і́ в ы. *На грошы нікагда не буцця сквапныя — яны, як вада.* Ахрэмаўцы Брасл. *Я ні сквапная чарку выпіць.* Кураполле Паст. *Сквапны цягніць усё, што ўвідзіць, усё яму нада, кап пабольш.* Мярэцкія Глыб. *Бывая, сквапны ці прагны нажывая век, а згарыць — і ўсё тут. Людзі натта сквапныя на багацця — што ўвідзя, кап і ёй дапяць.* Малі Астр. *Яна не сквапна да чужой адзежы.* Лоск Валож.

СКВАРАДА', СКВО'РАДА, СКВО'РОДА, СКАВАРАДА', СКОВОРОДА' *ж.* Тое ж, што і с к а р в а д а́. *Пякуць сла-*

*ніну на скварадзе.* Дакудава Лід. *Скварaду купіла.* Рыбчына Віл. *На скварадзе пячы сала. Бярэця скварaду с хвастом!* Кіралі Шчуч. *Я вам дамо другую скварaду.* Парэчча Гродз. *На скварадзе залезнай добра пячэцца.* Малахоўцы Бар. *А ў міне там скварoды стыяць.* Масішкі Красл. *Скварoды — бліны пячы, рыбу жарыць.* Пасіене Лудз. *Блінцы на скворoдзе пaклі.* Хатынічы Ганц. *Сала пякуць на скаварадзе.* Дзяніскавічы Ганц. *Прынясі скаварaду!* Альхоўцы Лях. *А дэж моя сковорода — хотіла бліна якого спычы.* Сіманавічы Драг. ◇ *На скворадзя пасеяў* — пасеяў на дрэнна апрацаванай зямлі. *На скворадзя пасеяў: абараў, пасеяў і запахаў, ні баранаваў, ні мяшаў.* Мярэцкія Глыб.; *параўн.* руск. *сковорода* 'тж'.

СКВАРАНЕТАЧКА *ж. памянш.* да с к в á р к а 1. *Пакойніца-матка пабудзя рана, свіня нада было пасціць, выправя мяне, дасць такую скваранётачку.* Гемзы Шальч.

СКВА'РАННЯ *н.* Скваранне. *Пакрышыла сала на скварання.* Рудня Астравітая Чэрв.

СКВА'РАЧКА *ж. памянш.* да с к в á р к а 1. *Скварачку з'еш.* Рудня Астравітая Чэрв. *Скварачкі не было і малака.* Гемзы Шальч.

СКВА'РКА *ж.* 1. Скрылік сала. *Не з'еш скваркі, то і слаба.* Малі Астр. *Мне скварку зварыця жырную.* Вузла Мядз. *Скваркі адрэш с сабой узяць.* Старыя Смільгіні Воран. *У латку патаўчы скварку вараную.* Збляны Лід. *Парэзала на скваркі і паставіла пячы.* Кіралі Шчуч. *Нада скваркі скварыць.* Мсцібава Ваўк. *Узяла скварку, паела і есці не хочацца.* Альхоўка Навагр. *Скварка сала.* Рудня Астравітая Чэрв. *А скварку адрэзала, як пастуху!* Вецярэвічы Пух. 2. Высквараны кавалачак сала. *Насквaрыла скваркаў, тлустасць застыгла.* Ёдлавічы Брасл. *Скварка — што высквaралася.* Рыбчына Віл. *Асталіся скваркі.* Мярэцкія Глыб. *Скваркамі засквaрым кашу. Скваркаў расквару да бульбы.* Солы Смарг. *Як закалоўшы былі, скварку спяклі.* Альхоўка Навагр. *Трэбо крышыць скварке ў грыбэ.* Алекшыцы Бераст. *Высахлі скваркі, аш хрусцяць.* Старыя Трокі Трак. *Скваркі паеў.* Лука Нараўк. *Насквaрыла скварок.* Номікі Бабіц. 3. *перан.* Кавалак сала. *Як заколяць кабана, дзеткі скваркі прынясуць.* Солы Смарг. *Скварку елі па выдзялу — сколькі маці выдзяліць.* Слабада Мін. *Я скваркі ні ем, я кілбасы ні ем.* Парэчча Гродз. *Яйцо е, скварка е, што табе больш трэба, алатка даўно спечана, і цябе ўгаварвай.* Альхоўцы Лях. ▽ *Пільнуй гаспадарку — і будзеш мець у гаршку скварку.* Ухвала Круп.; *параўн.* польск. *skwarek* 'скварка'.

СКВАРО'ДЗЯНЬ *м.* Праснак. *Скваредзянь спячы к снеданню, хлеп няскора спячэцца. Скварoдняў спячэш.* Рудня Астравітая Чэрв.

СКВАРО'ДНІК *м.* Ручка патэльні. *Скварoднік шырокі быў.* Баброўнікі Гарад.

СКВАРЧА'ЦІ *незак.* Адгукацца слабым голасам. *Дітя чуць скварчыт.* Курашэва Чыж.

СКВА'РЫЦЦА *незак.* Пячыся. *Сала скварыцца.* Лоск Валож.

СКВА'РЫЦЬ *незак.* 1. Пячы. *Скварy сланіну.* Магуны Паст. *Сланіну скварaць, як некалі казалі.* Чуркі Ашм. *Нада скваркі скварыць.* Мсцібава Ваўк. 2. Запраўляць страву. *У пост даўней не скварылі, посная елі.* Малі Астр. *Алеем скварылі, як пост.* Канюкай Вільн.; *параўн.* польск. *skwarzyć* 'тж'.

СКВА'СІЦЦА *зак.* Скіснуць. *З мукі жытняй разбоўтай, кап сквасілася.* Быстрыца Астр.

СКВАСНЕ'ЦЬ *зак.* Пракіснуць. *Малако скваснеяць.* Малькуны Ігн.; *параўн.* польск. *skwaśnieć* 'тж'.

СКВЕ'РТЫ *мн.* Тое ж, што і с к а р с т у́ л і. *Скверты, свежыны прынесла.* Малькуны Ігн.

СКВІРСТУНЫ' *мн.* Частаванне з выпадку заколвання кабана. *Ён закалоў парсюка, ідзём на сквірстуны.* Гемзы Шальч.; *параўн.* літ. *skerstùvės* 'тж'.

СКВО'РОДА, СКВО'РАДА *гл.* СКВАРАДА'

СКВЯРСТА' *ж.* Тое ж, што і с к а р с т у́ л і. *Сквярста — як кабана заколяць: мяса, сланіна.* Магуны Паст.; *параўн.* літ. *skerstùvės* 'тж'.

СКВЯРСТУ'ЛЯ *ж.* Тое ж, што і с к а р с т у́ л і. *Сквярстулю нясуць — мяса забітага кабана — суседу.* Старыя Трокі Трак.; *параўн.* літ. *skerstùvės* 'тж'.

СКВЯРСТЫ' *мн.* Тое ж, што і с к а р с т у́ л і. *Сквярсты дай мне сусед. Калі хто заколя кабана і дае свяжыны, называяцца сквярсты.* Малі Астр.; *параўн.* літ. *skerstùvės* 'тж'.

СКВЯРЦІ'СЯ *незак.* Скварыцца. *Сала сквярэцца.* Мярэцкія Глыб.

СКВЯРЭ'ЦЦА *незак.* Сакатаць. *Курыца пачала сквярэцца, ужо будзя квактаць.* Кіралі Шчуч.

СКЕ'ЛІЦЬ *незак.* ◇ *Зубы скеліць* — 1. Тое ж, што і с к а́ л і т і. *Чаго ты зубы скеліш?* Кіралі Шчуч. 2. Лаяцца. *Ён зубы скеліць на сваю жонку, соваецца біцца.* Кіралі Шчуч.

СКЕМЕНЫ' толькі *мн. ткац.* Зеў. *Гэтыя скемены ўводзіць у бёрда. Скеменоў не было й не паткёш.* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. *skíemenys* 'тж'.

СКЕ'МЧЫК *м. ткац.* Станок, на якім ткалі паясы. *Повяс ткалі на скемчыках. Скемчык упрэш у жывот, бярэш колічак і перабіраеш нітачкі, зевá выходзяць. Скемчыкі — вілачкі.* Бакшты Іўеў.

СКЕМЯНУ'ЦЦА *зак.* Схамянуцца. *Я скемянулася. Чаго ты скемянулася?* Ахрэмаўцы Брасл.

СКЕРДЗЬ, СКЕРЦЬ *м.* Галоўны пастух. *Скярдзём называлі пастуха.* Руднікі Шальч. *Скерць — старшы пастух. Скерць — агулам на ўсю вёску.* Кудзялянцы Шальч. *Бедны ішоў за скердзя. Пастуха, скардзе, наймалі і кармілі, і плацілі. Скерць авячке пасе.* Парэчча Гродз. *Нанімалі скердзя. Пры скердзю пастухі маленькія могуць быць. Пастыр і скерць — то жа самая.* Старыя Трокі Трак.; *параўн.* літ. *skeřdžius* 'тж'.

СКЕ'РЗАЦЦА *зак.* Зблытацца. *Скерзалася нітка.* Ракаўскія Швянч.

СКЕ'РЗАЦЬ *зак. экспр.* Тое ж, што і с к а ў г á н і ц ь. *Скерзаў снапы абы-як — што за работа?! Скерзала яблыкі абы-як.* Гемзы Шальч.

СКЕРТУЛІ' *мн.* Тое ж, што і с к а р с т ý л і. *Як заколя кабана, суседу скертулі дае: кусок сланіны, алавізны, хрыбетняй косці кусочак.* Руднікі Шальч.; *параўн.* літ. *skerstù-vės* 'тж'.

СКЕ'ЧЫЦЬ *зак.* Скочыць. *Таке цвярдэ, халоднэ, як скечыць на Ольку!* Вялікі Краснік Пруж.

СКІ'БА *ж.* 1. Луста. *Адрэзаў скібу хлеба кругам.* Кураполле Паст. *Цялушкі скібу хлеба адрэзаў.* Малі Астр. *З бохана рэжам скібу вельку.* Парэчча Гродз. *Скібу хлеба ўжо адрэзаў.* Пацаўшчына Дзятл. *Скіба хлеба, адрэзаная кругом куліды.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Скібу адрэзала хлеба.* Старыя Трокі Трак. 2. Пласт узаранай зямлі. *Як арэш, то скіба адварачаецца.* Крэва Смарг. *Тэрас гаруць у адну скібу.* Паляцкішкі Воран. *Пачынае с краю — і ў боразну падае скіба.* Лука Нараўк.; *параўн.* літ. *skibà* 'луста'.

СКІ'БАЧКА, СКІ'БОЧКА *ж.* 1. *памянш.* да с к і б а 1. *Скібачка хлеба.* Лісна В.-Дзв. *Скібачку сала з'еў.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Была ў яго ў кармане скібачка сала.* Вузла Мядз. *Скібачка сала.* Мярэцкія Глыб. *Рэжця на скібачкі картоплю.* Пасека Ст.-Дар. *Мо даць скібочку хлеба?* Хатынічы Ганц. 2. *памянш.* да с к і б а 2. *Сохамі гэтымі гаралі, скібачку возьме зямлі і пхаецца чалавек.* Васілевічы Гродз.

СКІБІ'НАЧКА *ж. памянш.* да с к і б а 1. *Прынясі скібіначку хлеба.* Крэва Смарг.

СКІ'БКА, СКІ'ПКА, СКЫ'БКА *ж. памянш. да с к і б а* 1. *Скіпку хлеба дай.* Буды В.-Дзв. *Маці адрэжыць скіпку хлеба, дась.* Вузла Мядз. *Аткрой скіпку хлеба.* Солы Смарг. *Аткрой мне скіпку хлеба.* Дакудава Лід. *Ну і аткроіў скіпку, рот разарвеш!* Стральцы Гродз. *Скіпку хлеба атрэш.* Рудня Чэрв. *А той караваю скіпку даець.* Вялікае Сяло В.-Дзв. *Скіпку ценянькую булкі адрэзаў. Ценянькую скіпку скусаў, і няма нічога.* Ракаўскія Швянч. *Намазала ёму маслом скыбку хліба.* Сіманавічы Драг.

СКІ′ДАВАЦЬ *незак.* Скідваць. *Сена прывязуць яму скідаваць.* Кураполле Паст.

СКІДА′ТЭ *гл.* СКІ′НУЦЬ

СКІ′ДАЦЦА, СКІ′ДАТІСЕ *зак.* Дачасна ацяліцца. *Скідалася карова.* Лука Нараўк. *Скідаласё, кажа, карова.* Баброўнікі Гарад. *Корова была тіельна, але скідаласе. Позалоні скідаласе кобыла, а сёголіта — овэчка.* Курашэва Чыж.

СКІ′ДАЦЬ *зак.* 1. Скінуць. *Прывёс ды скідаў.* Вецярэвічы Пух. 2. Скласці стог. *Стог скідалі.* Вецярэвічы Пух. *Быстра скідалі адзін стог, а потым — другі.* Беразіно Докш. ∇ *Каб цябе на прышчы скідала!* Малахоўцы Бар.

СКІДА′ЦЬ *незак.* 1. Збіраць у адно месца. *С поля скідаюць каменя.* Старыя Смільгіні Воран. 2. Знімаць вяршкі. *Смятану скідаяш?* Дакудава Лід. 3. Мяняць. *Конь малады скідая зубы, няма як запрагаць.* Кіралі Шчуч. *Як конь мае тры гады, то жарабячы зубы скідая, а конскія растуць.* Гемзы Шальч. 4. Рабіць аборт. *Яна дзяцей не водзіць, скідае. Цяпер часта дзіця скідаюць.* Дзяніскавічы Ганц. *Цяжкі грэх дзеці скідаць.* Альхоўцы Лях. ∇ *Як бацян скідае свае дзеці з гнязда, то будзе неўраджай, голат.* Дарава Лях.

СКІК, СКОК *выкл.* у знач. *вык.* Ужываецца паводле значэння дзеяслова с к а к á ц ь. *Скік на лошку, лёх і ляжыць.* Солы Смарг. *Касіў, скок кузнечык на руку, я яго хлоп і забіў.* Вузла Мядз.

СКІКА′ЦЬ *гл.* СКАКА′ЦЬ

СКІ′КНУЦЬ *зак.* Тое ж, што і с к а к а н ý ц ь. *Скікнуў на бок.* Груздава Паст. *Скікнуў на зямлю і натрывожыў нагу.* Гемзы Шальч. *Скікнуў казялёк.* Руднікі Шальч. *На парох скікнула.* Ёдупка Шальч.

СКІЛУ′НДЗІ *мн.* Скручаны здор у форме рулета. *Зрабілі скілундзі: выбіраем сала* [здор], *скруцім, зашыем.* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. дыял. *skilúndzis,* літар. *skilándis* 'страўнік, напханы мясам'.

СКІ′ЛЬКА *гл.* СКО′ЛЬКІ

СКІ′НЕНЫ *дзеепрым.* Скінуты. *Шнур скінены.* Ёдлавічы Брасл.

СКІ′НУЦЦА *зак.* Зваліцца. *З моста скінуўся ў ваду.* Гемзы Шальч. *Зорка скінулася далоў.* Багушэвічы Бярэз.

СКІ′НУЦЬ, СКІДА′ТЭ, СКЫ′НУТЫ *зак.* 1. Скінуць. *Скінуў бусла разом з гняздом.* Кнышэвічы Бабіц. 2. Ссадзіць. *Там ён нас скінуў, паехаў дамоў.* Саланое Віл. 3. Ускінуць. *Можа, на печ скінуў?* Саланое Віл. 4. Падкінуць. *Зязюля яйко скінула.* Ахрэмаўцы Брасл. 5. Звергнуць. *Нікалашку* [цара] *скінулі, рады былі.* Буды В.-Дзв. 6. Звольніць з работы. *Скінулі шофяра, ён ужо ў бутцы жалескі прымаў.* Збляны Лід. 7. Зняць вяршкі. *Смятанка свежанька, толькі скінула.* Дакудава Лід. *Скініш смітану, і саракваша там.* Буды

В.-Дзв. *Скінь смятану ў місачку.* Кіралі Шчуч. 8. Зняць (адзенне, абутак). *Скінь плацічка!* Сёмкаў Гарадок Мін. *Адзення скіня і чыстая апратвае.* Лоск Валож. *Скінь гаці мокрыя!* Старыя Смільгіні Воран. *Скінь фуфайку!* Вялікія Баяры Шчуч. *Скінула спадніцу і набрала грыбоў, нясу і атпачываю. Скінуў порткі, трэба памыць.* Кіралі Шчуч. *Што адзяваць, трэба гэту скінуць спадніцу.* Альхоўка Навагр. *Валянкі скінула.* Плябанцы Ашм. *Трэба скідатэ сорочку.* Дзмітравічы Кам. 9. Надзець. *Скінула п ты андарак, цяплей будзе.* Крэва Смарг. 10. Зрабіць аборт. *Мабыць, скінула яна дзіця.* Пацаўшчына Дзятл. *Каторы ўжо рас скінула яна дзіця?* Галубы Маст. *Кажуть, шо вона шэ дівкыю дытыну скынула.* Сіманавічы Драг. 11. Дачасна нарадзіць. *Мэндлі паварачала, і на трэці дзень скінула дзіця.* Валеўка Навагр. *Усе жывёлы могуць скінуць: жарабёнка, цялёнка.* Ёдлавічы Брасл. *Авечка ягнят скінула.* Магуны Паст. *Гавечка скінула ягня.* Кіралі Шчуч. *Карова скінула цялюка.* Быстрыца Астр. *Скінула карова цялё.* Чуркі Ашм. *Ай-ай, карова скінула цяля! Карова скінула: рана на расу вывелі.* Пасіене Лудз. *Мая карова скінула цялёнка.* Старыя Трокі Трак. *Свіня скінула няжывыя парасяты.* Гемзы Шальч. 12. *перан.* Спячы. *Баба, яйко мне скінь!* Кіралі Шчуч. ▽ *Калі бацян скіня бацянятка, то галодны гот будзя.* Дэгшні Шальч. ◇ *Як скінуць вокам* — пра вялікую прастору. *Глядзім удаль, а там жыта: жыта свет — як вокам скінуць.* Вузла Мядз. *Ні скіняш вокам той рынак.* Вялікія Баяры Шчуч.

СКІПА́ЦЦА *незак.* 1. Шчапацца. *Скіпаецца з сасны лучына.* Мачаск Бярэз. 2. Трэскацца. *Скіпаюцца пяткі, баляць.* Глівін Барыс.

СКІПА́ЦЬ, СЬКАПА́ЦЬ *незак.* Шчапаць. *Тапаром дрова скіпаюць. Пайду скіпаць лучыну.* Мярэцкія Глыб. *Буду скіпаць лучыну.* Палік Барыс., Беразіно Докш. *Пайду дровы ськапаць.* Рыбчына Віл.

СКІПЕ́ЦЬ *зак.* 1. Адкіпець. *С першуй бутэлькі наліла, і малако скіпело.* Баброўнікі Гарад. 2. *экспр.* Згарэць. *Калі будзе, то страшная вайна: старыя і маленькія скіпяць, як прусакі, бо прыдумалі што цяпер!* Малькуны Ігн.

СКІ́ПКА *гл.* СКІ́БКА

СКІ́ПЦІЦЦА *зак. экспр.* Памерці. *Як пані скіпцілася, тады пан жаніўся.* Валынцы В.-Дзв. *Як благая баба памрэць, кажаць скіпцілася.* Кураполле Паст.; *парайн.* літ. *kèptelėti* 'тж'.

СКІРАВА́ЦЬ *зак.* Паказаць (дарогу). *Кап скіраваў як, дзе ім ісці.* Жылі Іўеў.

СКІ́РДА́, СКІ́РТА́ *ж.* 1. Сціpта. *Скірдў кладуць.* Лісна В.-Дзв. *У скірдў сена складалі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Скірдў злажыў.* Івашкаўцы Смарг. *Не развярні скірдў!* Беразіно

Докш. *Як звозяць жыта, складаюць у скірту́.* Саланое Віл. *Скірта́ сена, як доўгая.* Рудня Чэрв. *Скірда длінная, а сток круглый.* Рагулішкі Даўг. *Скірда́ ў калхозі.* Стральцы Гродз. *Скірта соломы.* Дзмітравічы Кам. 2. Штабель. *Скірда дроў.* Рудня Астравітая Чэрв. *Скірта́* [дроў] *развалілася.* Мачаск Бярэз.

СКІРДАВА'ЦЬ *незак.* Складаць у сцірты. *Скірдавалі сягання сена, а заўтра другая работа гатовіцца.* Беразіно Докш. *Скірдуюць цяпер у калхозі.* Стральцы Гродз.

СКІ'СНУЦЦА *зак.* Скіснуць. *Смятана ні скісласся.* Альхоўка Навагр.

СКІ'СНУЦЬ *зак.* Тое ж, што і с к і с н у ц ц а. *Малако скісла.* Кураполле Паст. ◇ *Кап ты скісла!* Граўжышкі Ашм., Ахрэмаўцы Брасл., Кураполле Паст.

СКІТА'ЦЦА *незак.* 1. Бадзяцца. *А мы скіталіся, немцы апяць напалі.* Вялікае Сяло В.-Дзв. *Па лясу скіталіся, усё пагарэла.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Павыганёў быў немец, скіталіся па ўсіх сёлах.* Цеплень Уздз. 2. Вандраваць. *Скітаўся я доўга, дзе я толькі не быў!* Гемзы Шальч.; *параўн.* руск. *скитаться* 'тж'.

СКІ'ЎНУЦЦА *зак.* Зварухнуцца. *Ні кусток ні скіўнецца — так ціхенька было.* Гемзы Шальч.

СКІЦЕ'Р *м.* Кавалак. *Такі скіцер сала мне прынесла!* Мачаск Бярэз.

СКІ'ЧКА *ж. заал.* Блыха. *Ні адной скічкі няма, а было, было іх!* Жодзішкі Смарг.

СКЛАД І, СКЛАТ *м.* 1. Павець. *У нас склады не кожны меў, там дровы і павоскі ставілі, вупражы.* Ракаўскія Швянч. 2. Склад. *Ён на складзе сторажам, там усякія тавары.* Стральцы Гродз. *Вайной пашоў склат падарваць.* Лоск Валож. ▽ *Пасах дзявоцкі — свой склат.* Чуркі Ашм.

СКЛАД ІІ, СКЛАТ *м.* 1. Целасклад. *Складу нет, нескладная баба.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ён бапскі склат мая.* Малі Астр. *Складу не мае чалавек, нескладны.* Гемзы Шальч. 2. Ворыва ў склад. *Пачынаюць гараць туды-сюды — склат зложылі. Гэта як мала зямлі, гарэш у склат.* Солы Смарг. *Ары ў склад, будам араць у адзін загон.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Аруць у склат, склат складаецца.* Відаўцішкі Вільн.

СКЛА'ДАВАЦЦА *незак.* Скідвацца. *Ён складаваўся, алі мала пілі.* Ёдлавічы Брасл.

СКЛАДА'НКА *ж.* Складчына. *Складанка была па пяцёрцы.* Збляны Лід.

СКЛАДА'НЫЯ КУМЫ' *мн.* Кум і кума, якія не з'яўляюцца мужам і жонкай. *Часта прасілі за куму мяне і яшчэ аднаго хлопца — і мы былі складаныя кумы.* Ухвала Круп.

СКЛАДА'ЦЦА *незак.* 1. Складвацца. *Калі аруць у склат, склат складаецца. У баране тры ляскі складаецца: накруціць*

*вітку і зуп гоніцца.* Відаўцішкі Вільн. 2. Закладвацца (пра складкі). *Заклаткі складаюцца, а фалды збіраюцца.* Солы Смарг. 3. Тое ж, што і с к л а́ д а в а ц ц а. *Складаліся па пяць рублей.* Ахрэмаўцы Брасл. 4. *перан.* Складвацца (пра жыццё). *Жызня так складалася.* Гальшаны Ашм.

СКЛАДА′ЦЬ *незак.* 1. Складваць у адно месца. *Сена складаюць у копы.* Рыбчына Віл., Граўжышкі Ашм. *Пойдзям сена складаць у копны!* Вязынка Маладз. *Мы цэлы дзень складалі сена ў копы.* Кіралі Шчуч., Тухавічы Лях., Жодзішкі Смарг. *У пуню сена складаям.* Кураполле Паст. *Сена складаюць у адрынку.* Малі Астр. *Ідзі дровы складай!* Груздава Паст., Міратычы Карэл. *Складаю бліны, кап не пасхлі.* Вецярэвічы Пух. 2. Састаўляць з якіх-н. частак. *Як складаеш вярстат?* Вецярэвічы Пух. 3. Запасіць. *Гліняны слой быў, у ём масла складалі на зіму.* Мсцібава Ваўк. 4. Збіраць. *Складай грошы: палову дзецям, палову жонцы.* Паляцкішкі Воран. *Складалі гасцінец пастуху.* Малькуны Ігн. 5. Надзяваць. *Я такіх не складала спадніц.* Новікі Гродз. 6. Перакладаць віну на каго-н. *Ты складаеш віну на другога.* Граўжышкі Ашм.

СКЛА′ДАЧКА *ж. памянш.* да с к л а́ д к а I. *Нажутка са складачкамі.* Саланое Віл.

СКЛА′ДВАЦЦА *незак.* 1. Перагінацца. *Складваецца ў дзве столкі і скручваецца свой.* Малышы Лід. 2. Завязвацца (пра плод). *Яблынька ў пучкі складваецца.* Старыя Трокі Трак.

СКЛА′ДЗІК *м. памянш.* Кладоўка. *Ён пашоў у складзік дровы ўзяць, гляджу — складзік не зачыняецца.* Малі Астр. *Я хлеба нідзе ні нышла ў складзіку.* Масішкі Красл. *Складзік адзельна, туды што ложаць.* Старыя Трокі Трак. *Складзік каля сяней.* Гемзы Шальч.

СКЛА′ДКА I, СКЛА′ТКА *ж.* Складка. *Склатку зрабі!* Саланое Віл.

СКЛА′ДКА II, СКЛА′ТКА *ж.* 1. Чарга (пасвіць). *Я і склаткі не магу атпасвіць.* 2. *перан.* Статак. *Унадзілася карова ў калхозна жыта хадзіць, гэту карову са склаткі выкінулі.* Парэчча Гродз.

СКЛА′ДНЕ, СКЛА′ДНО *прысл.* Добра. *Так складне піша з галавы!* Дэгшні Шальч. *Наш дятько так складно вміее говорыті, як бы чытав.* Курашэва Чыж.

СКЛАДНІ′ЦА *ж.* Месца ў лесе, куды звозяць спіленыя дрэвы. *Возакі на складніцу дэрэво звозят, а із складніці забірают на тэртак вэлізнымі самоходамі.* Курашэва Чыж.

СКЛА′ДНЫ *прым. перан.* Кемлівы. *Ён складны — усё сам зробіць, а нікладны згародзіць як-нібуць.* Кураполле Паст.

СКЛАДНЯ′ *ж.* Тое ж, што і с к і р д а́ 2. *Калі дровы*

*складваюць ля сценкі — гэта складня, ці вірста.* Ухвала Круп.

СКЛАДО'К *м. памянш.* да с к л а д II, 2. *У нас у складок аруць: пасярэдзіне пачынаюць і да краёў аруць.* Ёдлавічы Брасл.

СКЛА'СЦІ *зак.* 1. Скласці ў пэўным парадку. *У мэтры трэба скласці дровы.* Гальшаны Ашм. 2. Перагнуць. *У дзве столкі склаў.* Завельцы Астр. 3. Пакласці. *Прынесла яму* [нябожчыку] *хустачку, склала на грудзі.* Ракаўскія Швянч. 4. Надзець. *Якую рубашку скласці?* Жыдзевічы Іўеў. *Склала цёплыя ганавіцы.* Вострава Маст. *Да талю спадніцы складуць.* Новікі Гродз. *Як жа мне майку скласці? Мусіць, я складу гэты каптан.* Пацаўшчына Дзятл. *Трэба скласці сукенку. Склала чысту спадніцу.* Мсцібава Ваўк. *Як складзіш хустку, так і завяжаш.* Вецярэвічы Пух. *Калі складу, узвяжу хустачку.* Ракаўскія Швянч.

СКЛА'СЦІСЯ *зак.* Улегчыся. *Да пойначы гукаемся, ніяк не складзёмся.* Беразіно Докш.

СКЛАТ *гл.* СКЛАД I, II

СКЛА'ТКА *гл.* СКЛА'ДКА I, II

СКЛА'ШЧЫНЫ *мн.* Складчыны. *Склашчыны бываюць, тады і пяём.* Пярэкі В.-Дзв. *Як склашчыны, то і пяюць.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

СКЛЕ'ІЦЬ *зак.* Зляпіць. *Ластаўка гняздочык склеіла ў хляве.* Ёдлавічы Брасл.

СКЛЕП *м.* Склеп. *Склеп для бульбы.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *У склепе бульба.* Кемялішкі Астр. *Бліска вада стаіць, склепу неможна выкапаць.* Старыя Смільгіні Воран. *У склеп вазілі картофлю.* Кіралі Шчуч. *У склеп ссыпаюць бульбу.* Гемзы Шальч. *У склеп занёс малако.* Сонічы Гродз. *Склеп на гумне дэ высоке месцэ.* Смаляніца Пруж. *Не было скляпоў муравaных.* Слабада Мін.

СКЛЕПІ'ЦЦА *зак.* Пакрыцца тонкім слоем ільду. *Вада склепіласа.* Номікі Бабіц.

СКЛЕРО'ЗА, СКЛЯРО'ЗА *ж. мед.* Склероз. *Круціцца галава ат склерозы. Склероза бальшая ў мене.* Малькуны Ігн. *Ён мая склярозу.* Дэгшні Шальч.

СКЛІЕ'ТІТІ *зак.* Пабудаваць абы-як. *На хутку руку быле склієтів якогось хліва.* Курашэва Чыж.

СКЛОН *м.* Схіл. *На склонах ягаткі хуценько спеюць, салодзенькія.* Мсцібава Ваўк.

СКЛО'НІСТЫ *прым.* Адхоністы. *Склоністы берах.* Малахоўцы Бар.

СКЛУ'НАК *м.* Клунак. *Склунак мой дачка забрала і схавала.* Вузла Мядз.

СКЛУ'НУЦЦА *зак.* Акунуцца. *Склунуўся ў ваду і вышаў.* Мсцібава Ваўк.

СКЛЫ'ГАЦЬ *незак. экспр.* Дрэнна іграць на якім-н. музычным інструменце. *Нехта склыгаў гармонікам.* Кураполле Паст.; *параўн.* літ. *klýkinti* 'тж'.

СКЛЫНБО'ВАЦІ *зак.* Туга звязаць (пра сноп). *Склынбоваці куля — то цесно звязаці.* Смаляніца Пруж.

СКЛЫ'ЧЫЦЬ *зак.* 1. Пакамячыць. *Склычыла хустку, як цяпер надзець?* Магуны Паст. *Во адзеня склычыў!* Ракаўскія Швянч. 2. Надзець адну адзежыну паверх другой. *Склычыў дзве вопраткі ўместа — кажух і армяк. Склыч армяк с кажухом!* Рыбчына Віл.

СКЛЮД, СКЛЮТ *м.* 1. *цясл.* Сякера для абчэсвання бярвення. *У мяне два склюды.* Лоск Валож. *Склют — ім чэшуць бярвення.* Рыбчына Віл. *Склют — такі тапор, часаць бярвеня.* Малі Астр. *Склют—ачэсваць бэлькі.* Івашкаўцы Смарг. *Склют нада, калі шпалы чэшуць.* Жодзішкі Смарг. *Склютам чэшаць дзерава. У мяне склют нехарошы.* Кіралі Шчуч. *Склют — што чэшуць браўно плотнікі.* Парэчча Гродз. *Як хаты робяць, склют патрэбны.* Глівін Барыс. *Склют — вяліка сакера, шырока, цясалі шпалы.* Альхоўцы Лях. *Склютом ачышчая бярвеня, па шнуру счэсвая. Пасля бандажа паччышчая склютом.* Гемзы Шальч. *Склют—тапор да будовы.* Кудзялянцы Шальч. *Склют чэша акуратня, тылька шчэпкі адбівае, бервянё глаткае.* Руднікі Шальч. *Чэшуць шпалы склютом.* Чычалі Швянч. *Тапорышча крывое ў склюдзе.* Багушэвічы Бярэз. *Даўна часалі шпалы склютам.* Саланое Віл. 2. *перан.* Хто скупы. *Склют такі, у яго нічога не дастаніш.* Валынцы В.-Дзв. ∇ *Хадзіць, як склют, скорчыўшыся.* Кураполле Паст. *Нос длугі, як склют.* Старыя Смільгіні Воран. *Сагнуўся ты, як склют.* Старыя Трокі Трак. *Яго конь, як склют, ні мая таліі.* Гемзы Шальч.; *параўн.* літ. *skliũtas* 'тж'.

СКЛЮТАВА'ЦЬ, СКЛЮДАВА'ЦЬ *незак.* Абчэсваць склюдам. *Ён склютуя дзерава на хату.* Бакшты Іўеў. *Трэба склютаваць палена.* Старыя Смільгіні Воран. *Склютам сцены склютавалі.* Пацаўшчына Дзятл. *Склюд — склюдавалі браўно.* Багушэвічы Бярэз.; гл. с к л ю д.

СКЛЯ'НКА *ж.* Шклянка. *Склянкі былі, гарбату пілі.* Солы Смарг.

СКЛЯПА'ЦЬ *зак. безас. перан.* Пабіць (градам). *Усё поля склялала.* Бакшты Іўеў.

СКЛЯПЕ'ННЯ, СКЛЯПЕ'НЯ *н.* 1. Паднябенне ў печы. *Скляпення ў печы зверху, дзе агонь гарыць.* Рыбчына Віл., Старыя Трокі Трак. 2. *перан. пчал.* Верх сотаў. *Скляпеня зрэжу з мёду, трэбо тонкі нош.* Мсцібава Ваўк.

СКЛЯПІ'СТЫ *прым.* Глыбокі. *Скляпістая труна — як верх, так і ніс.* Бакшты Іўеў.

СКЛЯПІ'ЦЬ *незак. пчал.* Запячатваць. *Пчолы пачынаюць скляпіць мёт.* Быстрыца Астр.

СКЛЯРО′ЗА *гл.* СКЛЕРО′ЗА

СКЛЯСЦІ′ *зак.* Праклясці. *Склянець, павяршыць — апрацівіў ён мне.* Саланое Віл. *Як склянець, тое з ей і случыцца.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Яна мяне да паўсмерці скляла.* Міратычы Карэл.

СКНА′РНЫЙ *прым.* Скупы. *Ён скнарный.* Перабродддзе Міёр.

СКНЭ′РА *м.* і *ж.* Тое ж, што і склюд 2. *А як яна, скнэра, будзя грысці мяне.* Малі Астр. *Скнэра скупіцца, нічога не дасць.* Новікі Гродз. *Скнэра сам сабе шкадуе штось купіці з'есці.* Бaброўнікі Гарад.; *параўн.* польск. *sknera* 'тж'.

СКОБЛІ′ЦІ, СКО′БЛІЦЬ, СКОБЛЕ′ТЭ *гл.* СКАБЛІ′ЦЬ

СКО′БЛЯ, СКАБЛЯ′ *ж.* 1. Тое ж, што і скабёлка. *Скобляй лес скаблілі.* Рыбчына Віл. *Скобляй чэшуць дзерава.* Жодзішкі Смарг. *Скобля круглай формы, дзве ручкі, скобляць жэрдзі.* Мярэцкія Глыб. *Скобляй скраблі дзерава.* Збляны Лід. *Скобляй дрэва чысцяць.* Каўняны Гродз. *Скобля паўкруглая, жэрдкі, дзеравякі скрабуць ёй.* Пацаўшчына Дзятл. *Німа скоблі, хацеў паказаць вам, скобля круглая.* Рудня Астравітая Чэрв. *Скобля полукруглая, струг бальшы.* Глівін Барыс. *Скобляй сярэдзіну чысцяць, калі начоўкі робяць.* Чычалі Швянч. *Скобля скобліць кару, палукруглая.* Гемзы Шальч. *Скобля чвараграння.* Руднікі Шальч. *Жалезная скабля — жэрдзі скабліць. Біс скаблі ня зробіш начоўку.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Скрабніца. *Купілі новую скоблю чысціць кароў і коняй. Новай скобляй добра чысціць.* Ёдлавічы Брасл. ▽ *Як худыя ходзяць, то кажуць: «Ходзіць, як тая скобля».* Кіралі Шчуч.; *гл.* скабёлка.

СКОВЗНЯ′К *м.* Тое ж, што і скваз ня́к. *Як сковзняком протягло, то простудівсе.* Курашэва Чыж.

СКОВОРОДА′ *гл.* СКВАРАДА′

СКОК *гл.* СКІК

СКО′КА у знач. *ліч.* Некалькі. *На васэлі кладзе скока дзенех.* Гальшаны Ашм. *Ласі збрасваюць рогі церас скока лет.* Замошша Брасл.

СКО′КНУЦЬ *зак.* ◇ *Скокнуць на памяць* — успомніцца. *Гэтаё мне скокнула на памяць.* Ухвала Круп.

СКОЛОЦІ′ЦІ *гл.* СКАЛАЦІ′ЦЬ

СКО′ЛЬКІ, СКО′ЛЬКА, СКІ′ЛЬКА, СКУ′ЛЬКІ 1. *займ.* і *прысл. пытальнае.* Колькі? *Сколькі рас цяліўшысі?* Вялікае Сяло В.-Дзв. *Сколькі гадоў там рабіла?* Кураполлe Паст. *Вас на сколькі дней атправілі?* Буды В.-Дзв. *Скілька бабаў ест? Скілька вярстоў ест? — вярстоў два будзя.* Навасёлкі Свісл. 2. *займ.* і *прысл. азначальнае.* Якая колькасць! Як многа! *Сколькі яго* [ільну] *астаецца на ніві! Сколька свіней было!* Солы Смарг. *Сколькі рыбакоў едуць!* Збляны Лід. *Людзі хавалі п дай бох сколькі скаціны, кап далі корм!* Навасёлкі

Лід. *Сколькі ў іх* [жорнах] *перамалолі!* Швэды Вільн. *Сколькі я ўплакала!* Гальшаны Ашм. *Скулькі заботы ж жывінаю: трэбо сустрэць, загнаць, трэбо падаіць!* Баброўнікі Гарад. 3. *прысл. меры.* У якой меры? *Ні хоча маладая замуш ісці, грошы аддаюць, сколькі напілі.* Чуркі Ашм. *Дастаў, сколькі трэба, адрэзаў, а астальное аставіў.* Івашкаўцы Смарг. 4. Тое ж, што і с к о́ к а. *Еслі выйдзе сколькі курчонкаў, я паеду ў Полацк.* Дзёрнавічы В.-Дзв. ▽ *Сколькі ты ваўка ні лашч, усё роўна ў лес глядзіць.* Малі Астр.

СКО′МКАТІ *зак.* Скамячыць. *Спудніцу скомкала і в куток вкінула.* Курашэва Чыж.

СКО′МЧЫЦЬ *зак.* 1. Ператварыць у камяк. *Скомчыў булку ў руках. Не трэба комчыць!* Руднікі Шальч. 2. Тое ж, што і с к о́ м к а т і. *Нашто ты скомчыла хустку, хто яе прасаваць будзя?* Гемзы Шальч.

СКОМ′Я′ЧЭНЫ *гл.* СКАМЯ′ЧАНЫ

СКО′НЧЫЦЬ *зак.* Закончыць (пра навучанне). *Я скончыў тры класы.* Латыгаль Віл. *Чатыры класы скончыў.* Старыя Трокі Трак.

СКОП *м.* Тое ж, што і с к а п е́ ц. *Скоп — вычашчаны баран.* Жылі Іўеў., Кудзялянцы Шальч.; *парайн.* літ. *skãpas* 'тж'.

СКО′ПАЦЬ *зак.* Выкапаць. *Рана скопалі бульбу.* Гемзы Шальч.

СКО′ПАЧ *м.* Прылада для скопвання гною. *Скопачам з ваза скопваіць гной.* Кураполле Паст.

СКО′РА, СКО′РО *прысл.* 1. Хутка. *Я ехаў скора. Ішоў скора.* Рыбчына Віл. *Як ты скора ідзеш!* Мачаск Бярэз. *Ідзі, бапка, скора, назат не азірайся.* Ухвала Круп. *Хто скора робя, а хто — марудна.* Завельцы Астр. *Скора бех, далей і далей.* Жылі Іўеў. *Скоро іду.* Малахоўцы Бар. ▽ *Хто есь скора, той і робіць скора.* Вузла Мядз. 2. Хутчэй. *Прадавай скора ды паедзім.* Саланое Віл. 3. У хуткім часе. *Тоўстая баба, скора родзіць ужо.* Збляны Лід. *Вайна пачалася скора.* Пасіене Лудз.

СКО′РАМ, СКО′РОМ *м.* 1. Тое ж, што і с к а р о́ м і н а. *Скораму німа. Бывала, ні бало скораму.* Ахрэмаўцы Брасл. *Няма скораму. Скорам — агулам усё: сала, мяса. Німа ніякага скораму.* Граўжышкі Ашм. *Яшчэ троха маю скораму.* Старыя Смільгіні Воран. *Ны ім скорама.* Дзмітравічы Кам. 2. у знач. *прысл. скóромом.* Есці скаромнае. *За моіе памэті всіе посты сэрэды і п'ятніці ніхто нэ іев скоромом, всіе постілі.* Курашэва Чыж.

СКО′РАНЬКА, СКО′РЫНЬКА *прысл. памянш.* 1. да с к о́ р а 1, 2. *Пабег у баню скоранька.* Чапаеўскі В.-Дзв. *Мы скоранька заблуталі сані і паехалі.* Вялікае Сяло В.-Дзв. *Скоранька забірай!* Беняконі Воран. *Ідзі да Валькі скорынь-*

*ка!* Дзевятні Смарг. 2. Скорагаворкай. *Ён скоранька гаворыць.* Саланое Віл.

СКО'РАЯ ПО'МАЧ *ж.* Хуткая дапамога. *Хто ў нас хварэя, паехала скорая помач?* Малахоўцы Бар.

СКО'РКА *ж.* Тое ж, што і с к а р ы́ н к а 1. *Як апсядзе на скорку хлеп, называюць закалец.* Лука Нараўк.

СКО'РО *гл.* СКО'РА

СКОРОДЭ'ТЭ *незак.* Баранаваць. *Попар оборуют і скородят.* Дзмітравічы Кам.

СКОРО'ЗДРА *ж.* Скараспелы плод. *Пара груш-скороздруов пут клунёю ростэ, але вжэ старые і почынают всыхаті.* Курашэва Чыж.

СКО'РОМ *гл.* СКО'РАМ

СКО'РПАЦЦА, СКО'РПІЦЦА *зак.* 1. Змаршчынець. *Скорпаўся твой твар.* Дакудава Лід., Жыдзевічы Іўеў. *Лоп ужо скорпаўся, на лобі карпачы, раўчакі.* Альхоўка Навагр. *Стары чалавек скорпаецца.* Новікі Гродз. 2. Пакрыцца пупырышкамі (пра скуру). *Вот халадно, цела аш курача зрабілася, скорпілася і сінім зрабілася.* Кіралі Шчуч.; *гл.* к у́ п р а.

СКО'РПАЦЬ *зак. экспр.* Пашыць. *Спадніцу скорпая якую.* Новікі Гродз.; *парайн.* літ. *sukur̃pti* 'тж'.

СКОРУ'ПА *гл.* СКАРУ'БА

СКО'РЧЫЦЦА *зак.* Скурчыцца. *Лёх і скорчыўся.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Скорчылася ў кручок і ляжала.* Рагулішкі Даўг. *Скорчыўся і сядзіць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Чаго ты скорчыўся ды сядзіш?* Саланое Віл.

СКО'РШНІ *мн.* Галоўкі палазоў у санях. *Скоршні загнутыя.* Малахоўцы Бар.; *парайн.* літ. *skérsės* 'тж'.

СКО'РЫ *прым.* 1. Хуткі. *Скоры, прэнткі: загарыцца і зробіць скора.* Солы Смарг. *Скоры такі чалавек!* Беразіно Докш. 2. Нецярплівы. *Во які скоры!* Малахоўцы Бар.

СКОРЫ'НКА *гл.* СКАРЫ'НКА

СКО'РЫНЬКА *гл.* СКО'РАНЬКА

СКО'СА *прысл.* Недружалюбна. *Чаго ты так узіраясся на мяне скоса, я табе нічога не зрабіў?!* Кіралі Шчуч. *Сусіед на мэнэ скоса погледае, бо нэ позычыв ёму двіесте злоты.* Курашэва Чыж.

СКО'САК I *м. с.-г.* Старая, зрэзаная каса. *Благая каса, скосак, касіць ня мох.* Масілавічы Сл.

СКО'САК II *м.* Касынка. *Завязала скосак на галаву і бягом.* Альба Нясв.

СКОТ *зб. м.* Тое ж, што і с к а ц і́ н а. *Яны січас раздурэўшы, гэтат скот. Ён кала гэтага скоту хадзіўшы.* Валынцы В.-Дзв. *Дзіўчаткі, нада ехаць за скатом.* Чапаеўскі В.-Дзв. *Скот дома. Скот пайдзём карміць.* Пярэкі В.-Дзв. *У нас скот па вуліцы ня ходзіць.* Малышы Лід. *Скот накорміш, буць дома!* Вецярэвічы Пух.; *парайн.* руск. *скот* 'тж'.

СКО'ТНІК *м.* Кароўнік. *Скотнікі стаяць, там пуня была.* Вялікае Сяло В.-Дзв.

СКОЦІ'НА *гл.* СКАЦІ'НА

СКО'ЧАНЫ *дзеепрым.* Скручаны. *Дзе тая скочаная трубка палатна?* Ухвала Круп.

СКО'ЧКА *ж.* Тое ж, што і с к і ч к а. *Скочка залезла, не магу цярпець. У вайну блохі* [клапы], *скочкі былі ўсюды.* Малахоўцы Бар. *Было так, што босы доўга на зямлі стаяць ня мох — скочкі налезуць.* Тухавічы Лях.

СКО'ЧЫЦЬ *зак.* 1. Ускочыць. *Як скочыць у ваду!* Дарава Лях. 2. Пераскочыць. *Скочыла праз равок — і на бутэльку бітую.* Валеўка Навагр.

СКРАБА'НЫ *дзеепрым.* Чышчаны. *Ляжыць рыба ніскрабаная.* Завельцы Астр.

СКРАБАСТА'ЦЦА *незак.* Скрэбціся. *Натта мышы скрабошчуцца пат падлогаю.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* літ. *skrebėti* 'тж'.

СКРАБАТА'ЦЦА *незак.* Тое ж, што і с к р а б а с т а́ ц ц а. *Мышы скрабочуцца за шпалерамі.* Валынцы В.-Дзв. *Мышы скрабочуцца за бумагай.* Мсцібава Ваўк.

СКРАБА'ЦЦА *незак.* 1. Тое ж, што і с к р а б а с т а́ ц ц а. *Скрабуцца мышы пат падлогай.* Жылі Іўеў.; *параўн.* літ. *skrebėti* 'тж'. 2. Драпацца. *Шарачковыя гаці насілі, скрабесся імі.* Руднікі Шальч. 3. Чысціць. *Кішкі ножачкам скрэбяцца.* Едлавічы Брасл.

СКРАБА'ЦЬ, СКРАБА'ТІ *незак.* 1. Скрэбці. *Буду бульбу скрабаць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Бульбу скрабаіць.* Груздава Паст. *Пайду скрабаць бульбу.* Малі, Быстрыца Астр., Паляцкішкі Воран., Едлавічы Брасл., Жылі Іўеў., Рагулішкі Даўг. *Маладую бульбу найболяй скрабуць.* Солы Смарг. *Скрабаць маладую бульбу трэба.* Навасёлкі Лід., Лука Нараўк. *Маладую бульбу скрабаюць. Буду скрабаць луску з рыбы.* Стральцы Гродз. *Калі я скрабу бульбу, то сынавая пераскрабуе.* Каменка Шальч. *Рыбу скрабаюць, луска падаіць.* Лайпушкі Ігн. *Валовыя трыбухі нада скрабаць. Трыбушок скрабла, тушыла.* Крэва Смарг. *Скрабаць кішкі трэба на кілбасы.* Жодзішкі Смарг. *Діешку скрабают по тіесті, коб нэ засохло.* Курашэва Чыж. 2. Здзіраць. *Ірхі скраблі з аўчыны.* Магуны Паст. 3. Часаць. *Дрэва скрабуць скобляй.* Руднікі Шальч. ◇ *За душу скрабе* — пра трывожны стан. *Мяне за душу скрабе. Пачало скрабаць* — пачало трывожыць. *Пачало мяне скрабаць.* Граўжышкі Ашм.

СКРА'БАЧКА *ж. памянш.* Спецыяльны нож для абірання бульбы. *Есь скрабачка, скраблю бульбу.* Ахрэмаўцы Брасл. *Скрабачка — бульву скрапці.* Номікі Бабіц.

СКРАБСЦІ', СКРАПСЦІ', СКРЭ'ПСЦІ *незак.* 1. Тое ж,

што і с к р а б а́ ц ь 1. *Скрабуць маладую і старую* [бульбу]. Дакудава Лід. *Маладую бульбу скрабуць.* Лоск Валож. *Скрапсці картофлю марудна.* Малахоўцы Бар. *Картофлю скрабу і абіраю. А маладую картоплю скрабом.* Дзяніскавічы Ганц. *Скрабём картофлю.* Пацаўшчына Дзятл. *Нада скрапсці рыбу.* Мсцібава Ваўк. *Зловяць рыбу і скрабуць луску.* Жодзішкі Смарг. *Кішкі мы скрабём.* Солы Смарг. 2. Тое ж, што і с к р а б а́ ц ь 3. *Нада скрэпсці дрэва.* Рыбчына Віл.

СКРАБУНЭ′ *мн.* Абчасаныя бярвенні. *Скрабунэ ў Зецела ў тартак вазілі. Скрабунэ — дзеравякі апчышчаныя, штобы караед не завёўся. Апчышчаны ад кары лес скраблі, у Дзятлава вазілі, у лесапільку.* Пацаўшчына Дзятл.

СКРАБЦІ′, СКРАПЦІ′, СКРЭ′ПЦІ *незак.* 1. Тое ж, што і с к р а б а́ ц ь 1. *Скрабеця бульбу, а шалупіны ў саган! Скрабуць бульбу і маладую, і старую.* Магуны Паст. *Ядвіґа, скрабі бульбу!* Быстрыца Астр. *Маладую бульбу трэба скрапці, а старую — лупіць. Нажом, дзеткі, нажом скрабі!* Старыя Смільгіні Воран. *Маці скрабе бульбу.* Гемзы Шальч. *Скрэпці рыбу, а тады патрашыць, а цяпер кажуць чысціць рыбу.* Рудня Астравітая Чэрв. *Скрапці рыбу нада.* Ахрэмаўцы Брасл. *Трэба скрэпці рыбу.* Вецярэвічы Пух. *Кішкі трэба скрэпці, чысціць кішкі цяпер.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Тое ж, што і с к р а б а́ ц ь 2. *Скрабе тую чорную скуру да белай.* Старыя Смільгіні Воран. 3. Тое ж, што і с к р а б а́ ц ь 3. *Скрэпці трэба* [дрэва], *кара лупіцца.* Рудня Астравітая Чэрв. *Узяў скоблю і скрабі дзерава!* Збляны Лід.

СКРА′ВАК *м.* Акравак (тканіны). *Скравак можаш узяць гуляць.* Саланое Віл.

СКРАЗЕ′НЬ *м.* і *ж. экспр.* Тое ж, што і с к л ю д 2. *Скразень нейкі ён: будзіць дзень чалавек сядзець у яга, ён не пасуліць есці.* Саланое Віл.

СКРАЗНЫ′ *прым.* Суцэльны. *Скразное палена і ашлапавае браўно — усё адно.* Мачаск Бярэз. *Дошкі былі скразныя.* Яніна В.-Дзв. *Скразныя балкі.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

СКРАЗЯВЫ′ *прым.* Тое ж, што і с к р а з н ы́. *Скразявыя лавы ад кута да кута. Пол скразявы ад печы да сцяны.* Малыя Аўцюкі Калінк.

СКРА′ЙКА *ж.* Акраец. *Діедові жебрущчому скрайку хліеба давалі.* Курашэва Чыж.

СКРАПА′ЦЦА, СКРЫПА′ЦЦА *зак.* Зблытацца. *Скрапаліся ніткі ў матку́.* Валынцы В.-Дзв., Мярэцкія Глыб. *Ніткі могуць скрыпацца. Ніткі скрыпаліся.* Ёдлавічы Брасл., Беразіно Докш.; *параўн.* літ. *susikraipýti* 'тж'.

СКРАПЕ′Ж, СКРАПЕ′Ш *м.* Капеж. *Пат скрапяжом трэба бочку паставіць, хай цячэ вада.* Гайна Лаг.

СКРАПІ′ЦЦА *зак.* Умацавацца. *Як жа скрапіліся нашы,*

*вярнуліся дамой.* Крэва Смарг.; *парайн.* руск. *укрепиться, окрепнуть* 'тж'.

СКРАПІ'ЦЬ *зак.* Папырскаць. *Скрэпяць рой вадой, і ён сядая.* Граўжышкі Ашм. *Трэба скрапіць вадой.* Жылі Іўеў. *Трэбо скрапіць, кап пылу не было.* Малахоўцы Бар. *Тады кудзелю робіш, вадой скрэпіш, кап яна скарэла і не раскідалася, як абасхне — яна гладзенька.* Альхоўцы Лях.; *парайн.* польск. *pokropić* 'тж'.

СКРАПЛЯ'ЦЬ *незак.* Змацоўваць. *Ключэ скрапляюць страху.* Кіралі Шчуч. *На капылы дзелаліся вязы, на вязы гратка, катора скрапляла.* Мешкінева Лудз.; *парайн.* руск. *скреплять* 'тж'.

СКРАПСЦІ' *гл.* СКРАБСЦІ'

СКРАПЦІ' *гл.* СКРАБЦІ'

СКРАСЕ'ННЫ *прым.* Тое ж, што і с к р а з н ы́. *Скрасенная бярно.* Рыбчына Віл. *Палы скрасенныя былі — ат печы да сцяны.* Саланое Віл.

СКРАСНЕ'ЦЬ *зак.* Пачырванець. *Уся скраснела, тыкмык.* Валеўка Навагр.

СКРА'СЦІСЯ *зак.* Схавацца. *Курыца скрадзецца і вывядзіць курчат.* Рагулішкі Даўг.

СКРАСЯВЫ' *прым.* Тое ж, што і с к р а з н ы́. *Пад сцену скрасявую камяні залівалі вапнай. Нізіня — большая плошча скрасявая.* Магуны Паст.

СКРО'БАЦЦА *незак. экспр.* Шукаць вобмацкам. *Скробаецца, не пападзе да дзвярэй.* Мсцібава Ваўк.; *парайн.* літ. *skrebėti* 'драпацца'.

СКРОЗЬ, СКРОСЬ *прысл.* 1. Усюды. *Скрозь радзімыя знакі: на плячох, жываце. Цячэць скрось, шыфер лопнуўшы і сталяваня плахоя.* Магуны Паст. *Скрозь гной ляжыць.* Лоск Валож. *Пакапано скрось.* Кайшоўка Карэл. *Зашыла сарафан скрось.* Вецярэвічы Пух. *Немцы скрось стаялі.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Скрось тут фронт стаяў.* Латыгаль Віл. *Казённы лес скрось.* Бакшты Іўеў. *Скрозь машыны стаялі.* Малышы Лід. *Тут райсты ўсюды былі, скрось.* Грыкені Вільн. *Заміяці чыста, во скрось смяцця!* Груздава Паст. *Тут быў скрось лес.* Дружба Мін. *Ён* [гад] *скрось ест.* Альхоўка Навагр. *Скрось, да самае зямлі туман.* Дзяніскавічы Ганц. *У нас навалка скрось кажуць.* Лапічы Асіп. *Выкапаіш скрось бульбу.* Лісна В.-Дзв. 2. На ўсім працягу. *У мяне роўныя скрозь пузачкі* [лыткі]. Дзёрнавічы В.-Дзв. *У мяне скрось роўныя ногі.* Пярэкі В.-Дзв. 3. Удоўж. *Пойдзіш па дзярэўні скрозь!* Вялікае Сяло В.-Дзв. 4. Заўсёды. *Мы скрось добро жывом.* Пасека Ст.-Дар. *Баба скрось так насіла.* Рудня Астравітая Чэрв. *І машыны, і трактары скрось ходзяць зімой па возеры.* Палік Барыс. ∇ *Кап ты скрозь зямлю правалілась!* Канюкай Вільн. ◇ *Скрось дна праваліцца, скрось земі пайсці* — загінуць. *Там лугі, балоты,*

*там можна праваліцца скрось дна.* Кураполле Паст. *Скрось земі пашло ўсё!* Кудзялянцы Шальч.

СКРОЗЬДЭ'ННЫ, СКРОСЬДЭ'ННЫ *прым.* Бяздонны. *Там былі скросьдэнныя лугі, есь балота: можна праваліцца скрось дна.* Кураполле Паст.

СКРО'ІЦЬ *зак.* Парэзаць. *Кашу скроім нажамі і елі с патсытай.* Стральцы Шальч.

СКРО'НА *ж.* Скронь. *Цісня скроны, у галаве шуміць.* Магуны Паст.

СКРОНЬ *ж.* Тое ж, што і с к р о́ н а. *У скронь як даў — і забіў.* Малі Астр. *Даў у скронь.* Паляцкішкі Воран., Вялікія Баяры Шчуч. *На скронях валасы.* Кемялішкі Астр. *Памаш скроні!* Солы Смарг. *Па скроні як хто дасць — можна памерці.* Руднікі Шальч. *На скронях рухаецца і рухаецца. Скроні баляць.* Гемзы Шальч.; *параўн.* польск. *skroń* 'тж'.

СКРОСЬ *гл.* СКРОЗЬ

СКРОСЬДЭ'ННЫ *гл.* СКРОЗЬДЭ'ННЫ

СКРУБЕ'ЛЬ *м.* і *ж.* *экспр.* Тое ж, што і с к л ю д 2. *Скрубель ён, усе выскрабаіць, нікому ні дасць.* Кураполле Паст.

СКРУГАТА'ЦЬ *гл.* СКРЫГАТА'ЦЬ

СКРУ'ЖВАЦЬ, СКРУ'ЖАВАЦЬ *незак.* Ачышчаць зерне пры дапамозе рэшата. *Скружваюць зярно: ячмень, жыта, наверх выходзіць усё смяцце, збіраем рукою і скідваем.* Кіралі Шчуч. *Зерняты скружвалі ў рэшаця.* Альхоўка Навагр. *Бярэш рэшата, сыплеш жыта з ґірсаю і кружыш — скружваеш, бо ад ґірсы хлеб чорны.* Пацаўшчына Дзятл. *Трэба скружваць ячмень, рэшатам патсявае і скружвае, ды ўмее скружваць!* Дзяніскавічы Ганц. *Скружавалі на рэшата зярно.* Саланое Віл.

СКРУ'ЖЫНЫ, СКРУ'ЖАНЫ толькі *мн.* Адходы пры ачыстцы зерня пры дапамозе рэшата. *Скружыны змяці ў кучу!* Галубы Маст. *Як зерняты скружвалі, у рэшаця аставаліся скружаны—уся благата наверх сабіраяцца.* Альхоўка Навагр.

СКРУЖЫ'ЦЬ *зак.* Ачысціць зерне пры дапамозе рэшата. *Нада было скружыць жыта.* Мсцібава Ваўк. *Зярно паткружвалі рэшатам, скружыць — увесь мусар выходзіць наверх.* Індра Красл.

СКРУЖЭ'ЛІНЫ толькі *мн.* Галіны, якімі перавіваюць бярвенні ў плыце. *Скружэліны дзелалі з маладых ёлак.* Валынцы В.-Дзв.

СКРУНУ'ЦЬ *зак.* Згарнуць. *Скрунуць кудзелю.* Лука Нараўк.

СКРУ'ПЕЛЬ *м.* і *ж.* *экспр.* Тое ж, што і с к л ю д 2. *Скрупель такі, сам для сябе жалеіць.* Кураполле Паст.

СКРУ'ТАК, СКРУ'ТОК *м.* 1. Некалькі жменяў ільновалакна, звязаных куклай. *Чэсаны лён пакруціў: дзесяць ру-*

*чак у скруткі і ў мяшок.* Кіралі Шчуч. *Чэсаны лён круцілі ў скруткі, с сотні выходзіла пяць скруткаў па дваццаць жмень.* Старыя Смільгіні Воран. *Пасля часання лён круцяць ў скруткі.* Вялікія Баяры Шчуч. *Павесьма ў скруткі круцяць.* Міратычы Карэл. *Як мялі, у скруткі круцілі лён. Скрутак — чатыры жмені: мяты лён круцілі ў скруткі.* Гемзы Шальч. *Скрутак — тры — пяць павесмаў* [ільну]. Крынкі Крын. *Як чэшут лён, то складают пяць павесм і круцят скруток.* Лука Нараўк. 2. Здор, скручаны рулонам. *Здор круцяць у скрутак.* Малахоўцы Бар. 3. Прадмет, скручаны колцам. *Скрутак лыка. Нарабіць скруткаў лыка і павесяць.* Старыя Смільгіні Воран. *Скрутак лыка на лычыны навязвалі.* Малахоўцы Бар. *Вун дзя скрутак лазы на калку.* Саланое Віл. *Скрутак каўбаскі, два скруткі каўбасы вісіць.* Рудня Астравітая Чэрв.

СКРУТА′ЦЬ *зак.* Скруціць. *Я скрутала іх.* Курапалле Паст.

СКРУ′ТКА *ж.* 1. Тое ж, што і с к р ў т а к 1. *На табе скрутку льну!* Завельцы Астр. 2. Тое ж, што і с к р ў т а к 2. *Ён жа скруткаў маяць здору і кунпякоў. У мяне скруткі вісяць яго* [здору], *могуць шчуры паесці.* Малі Астр. 3. Тое ж, што і с к р ў т а к 3. *Лыка ў скрутку вілі. Скрутка лыка.* Малі Астр.

СКРУЦІ′ЦЦА *зак.* 1. Скурчыцца. *От кот скруціўся і лёх.* Кіралі Шчуч. *Скруціўся ды лёх, як сабака.* Кузьмічы Люб. 2. *перан.* Марна прайсці (пра жыццё). *Уся жызня скруцілася.* Гальшаны Ашм. ◇ *Галава скруцілася* — пра аслабелую памяць. *Паехала ў Ліду, галава скруцілася, не ведаю, дзе аптэка.* Магуны Паст. *Скруцілася мая галава, нічога ня помню.* Вузла Мядз.

СКРУЦІ′ЦЬ *зак.* 1. Звіць што-н. колцам. *Скруціў лазу.* Чычалі Швянч. 2. Пакалмаціць. *Вылягла збожа, вецяр скруціў.* Дэгшні Шальч. 3. Даць магчымасць звіцца ў каўтун (пра валасы). *Скруціла на галаве калтун.* Старыя Смільгіні Воран. 4. *перан.* Не аддаць грашовы доўг. *Скруціць яго і не заплоціць.* Ахрэмаўцы Брасл. 5. Змахляваць. *Ён хацеў скруціць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Яна муся скруціць, як бярэш што ў маґазыня.* Дэгшні Шальч. ▽ *Кап ты галаву скруціла! А чаму ты галаву не скруціў!* Дэгшні Шальч.

СКРУ′ЧАНЫ *дзеепрым.* Сплецены. *Былі пасталэ з ліпы скручаныя.* Васілевічы Гродз. ◇ *Галоўка скручаная* — пра аслабелую памяць. *Мая галоўка скручаная, узрухала памяць.* Магуны Паст.

СКРУ′ЧВАЦЦА *незак.* 1. Згортвацца. *Кудзеля скручваецца.* Грыкені Вільн. 2. Адвольна звівацца. *Нітка скручваецца ў сукраткі.* Гемзы Шальч.

СКРУ′ЧВАЦЬ *незак.* Згортваць. *На стол расцягвалі* [кудзелю] *і ў кудзельку скручвалі — і ў прасніцу.* Гальшаны

Ашм. *Валакно скручвалі.* Грыкені Вільн. *Нізаў лісты* [тытуню] *на шнурочкі, а потым скручваў у папугі.* Солы Смарг. *Скручвалі палатно ў трубы.* Завельцы Астр.

СКРУШЭ'ННЯ *н.* Узрушэнне, хваляванне. *Скрушэння было.* Старыя Смільгіні Вораи.; *парайн.* польск. *skrucha* 'раскаянне, шкадаванне'.

СКРЫВА'ЦЦА *незак.* Хавацца. *Вайной яна там скрывалася.* Параброддзе Міёр.; *парайн.* руск. *скрываться* 'тж'.

СКРЫ'ВДІТІ *гл.* СКРЫ'ЎДЗІЦЬ

СКРЫВЕ'ЦЬ *зак.* Зрабіцца крывым. *Ногі скрывелі — бадзяўся па другіх бабах.* Ахрэмаўцы Брасл. *Чуць ідзець старая, скрывелі ногі.* Курапалле Паст.

СКРЫВІ'ЦЦА *зак.* Тое ж, што і с к р ы в е́ ц ь. *Скрывіцца і ідзе.* Валеўка Навагр.

СКРЫВІ'ЦЬ *зак. безас.* 1. Перакасіць. *Скрывіла яму рот.* Пацаўшчына Дзятл. 2. *перан.* Перадражніць. *Скрывіла яе свякрэў, здражніла.* Пацаўшчына Дзятл.

СКРЫ'ГА *ж.* 1. Крыга. *Вясной па вадзе скрыгі плывуць.* Асавец Віл. 2. Пласт узаранай зямлі. *Жаваранак пат скрыгай зробіць гняздзечка.* Саланое Віл.

СКРЫГА'Н *м.* Скрыль. *На скрыгані парэзаць картофлю — і ў саган і тушыць.* Кіралі Шчуч.

СКРЫГА'НЧЫК *м. памянш.* да с к р ы г а́ н. *Рэцьку крышаць на скрыганчыкі.* Кіралі Шчуч.

СКРЫГАТА'ЦЬ, СКРУГАТА'ЦЬ *незак.* Вішчаць. *Скрыгочаць свінні.* Гемзы Шальч. *Свінні скругаталі.* Магуны Паст.

СКРЫ'ГЛА *н.* Стрыжань птушынага пяра. *Скрыгла пяра.* Навасёлкі Свісл.

СКРЫГЛЁК *м. памянш.* Скрылёк. *А мо хочэш на патэльні парэзаць скрыглямі* [бульбу]? Баброўнікі Гарад.

СКРЫ'ДАЛКА *н. памянш.* да с к р ы́ д л а 1. *У шпака скрыдалка зламана. Ён імея і скрыдалкі недлугенкія.* Гемзы Шальч.

СКРЫ'ДЛА, СКРЫ'ДЛО *н.*, СКРЫ'ДЛЫ, СКРЫ'ДЛЯ *мн.* 1. Крыло. *Пільшчыкі — грубы́ канец пяра са скрыдла, с хваста.* Магуны Паст. *Скрыдло зламаў.* Воўкуш Ліпск. *Матылёк ляцёў, даў скрыдлом па вяроўца.* Дзесятнікі Валож. *У курчат скрыдлы ўжо абрастаюць.* Вузла Мядз. *Скрыдлы ў птушак.* Кемялішкі Астр. *Скрыдламі чуць рухая.* Солы Смарг. *Скрыдля ў дзятла пекныя. Бонкі* [авадні] *са скрыдлямі.* Каўняны Гродз. 2. *перан.* Рагач у калаўроце. *У калаўроця скрыдла цягне нітку.* Быстрыца Астр. *Скрыдло — дзе набіты зупчыкі.* Гемзы Шальч. ◇ *Скрыдла апусціўшы* — страціць бадзёрасць. *Дзеўка ходзя, скрыдла апусціўшы, як пава.* Малі Астр.; *парайн.* польск. *skrzydło* 'тж'.

СКРЫ'ДНЯ *ж.* Тое ж, што і с к р ы́ г а 1. *Скрыдня ідзе. Скрыдні вясной ідуць.* Лоск Валож.

СКРЫДЭ'ЛЕК, СКРЫДЭ'ЛАК *м. памянш.* да скрыдэ́ль. *Скрыдэлек картофлі.* Новікі Гродз. *На скрыдэлкі сланіну парэжуць.* Чуркі Ашм.

СКРЫДЭ'ЛЬ *м.* Тое ж, што і скрыга́н. *Скрыдэль слаціны.* Номікі Бабіц. *Наварыла такога куліешу, што ані одного скрыдэля картохлі нэма.* Курашэва Чыж.

СКРЫЖАВА'НЫЯ ДАРО'ГІ *мн.* Скрыжаванне. *Ведама, скрыжаваныя дарогі сходзяцца. Некалі, ак дзеці* [у каго былі дзеці], *то насілі іх па скрыжаваных дарогах і кашулькі па рэчках кідалі, па мастох, кап ня хварэлі, ад зглазу.* Пацаўшчына Дзятл.

СКРЫЖА'ЛЬНІЦЫ *мн.* Шарош, дробныя льдзінкі. *Скрыжальніцы ідуць, скора станіць рака, яны кучамі лепюцца адна к аднэй.* Валынцы В.-Дзв.

СКРЫЖАТА'ЦЬ *незак.* Скрыгатаць. *Зупкамі скрыжаталі.* Паляцкішкі Воран.

СКРЫ'ЛАЧКА *н. памянш.* да скрыло́. *Маленачкая скрылачка. У стрэлкі скрылачкі доўганькія.* Солы Смарг.

СКРЫЛЁК *м. памянш.* 1. Тое ж, што і скрыглёк. *Дай хоць скрылёк яблака! Скрылёк можа быць каўбасы, хлеба. Можа, моргаву скрылькамы парэзаць?* Кураполле Паст. *Скрылёк бульбы.* Саланое Віл. 2. Жменька ільну. *Сколькі скрылькоў намнеш лёну?* Вузла Мядз.

СКРЫЛЁС *м.* Тое ж, што і склеро́за. *Скрылёс, галава дурная.* Дакудава Лід.

СКРЫЛЁЧАК *м. памянш.* да скрыглёк. *Скрылёчак сала. На скрылёчкі парэзала сала.* Саланое Віл.

СКРЫ'ЛІК *м.* Тое ж, што і скрыглёк. *Скрылік бульбы. На скрылікі парэшця бульбу!* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Адрэш скрылік сала!* Малахоўцы Бар.

СКРЫ'ЛІЧАК *м. памянш.* да скры́лік. *Чаму ж ты скрылічак такі адрэзаў, тонкі лістачак?* Пацаўшчына Дзятл.

СКРЫЛО' *н.*, СКРЫ'ЛЫ *мн.* Крыло. *Курыцу раніў у скрыло. Малая* [варона], *а на скрылах ляціць. Скрылы ў птушкаў.* Ракаўскія Швянч.

СКРЫ'ЛЦА *н. памянш.* да скрыло́. *Белая скрылца. Белыя ў скрылцах сарокі.* Ракаўскія Швянч. *Скрылцы ў птушак.* Груздава Паст.

СКРЫЛЬ *м.* 1. Тое ж, што і скры́га 2. *Плух адверніць скрыль зямлі. Скрылямі адварачаваецца зімля.* Валынцы В.-Дзв. 2. Жменя ільну. *Скрыль лёну. Дзесяць скрылёў злажыць — будзіць ручэйка.* Вузла Мядз. 3. *пчал.* Вашчына. *Скрыль вузы. Скрылі дзелаюць васковыі. У галаве лежаки паставюць рагатачку, і пчолы вядуць скрылі, аш да дзверцаў давядуць.* Валынцы В.-Дзв. *Палавіна скрыля выразаім.* Саланое Віл.

СКРЫ'ЛЬЯ *мн.* Крылы. *Соўма ляціць пятух, скачыць на*

*плечы, скрыльямі лопаіць і за лыткі дзяўбець.* Груздава Паст.

СКРЫЛЯ'ЦЬ *незак.* Рэзаць скрылікамі. *Ты картофлю скрыляяш на скрылікі?* Малахоўцы Бар.

СКРЫ'НАЧКА *ж.* 1. *памянш.* да с к р ы́ н к а 1. *У скрыначку ссыпаяш цвякі, шчыпцы кладзеш.* Солы Смарг. 2. *у знач. прысл. у скры́начку, скры́начкамі.* У клетку. *Ткалі ў скрыначку.* Рыбчына Віл. *Па лёні будзем вытыкаць скрыначкамі.* Солы Смарг.

СКРЫ'НКА, СКРЫ'НЬКА *ж.* 1. Скрынка. *У скрынку сланіну складалі.* Гальшаны Ашм., Гемзы Шальч. *Гэтыя скрынкі з дыхты пароблены, пасылаць у іх добра.* Руднікі Шальч. 2. Драўляная аправа ў жорнах. *Скрынка чваракантовая ў жорнах.* Гемзы Шальч. *Скрынька для жарон.* Збляны Лід. 3. Скрыня для мукі. *Скрынкі для мукі ў свірнах.* Солы Смарг. 4. Вулей. *З аднэй скрынкі многа кілаграм вазьмеш мёду.* Саланое Віл. *Скрынькі на пчолы.* Навасёлкі Свісл. 5. *у знач. прысл. скры́нкай.* У выглядзе скрынкі. *Я'му зробяць скрынкай, і бульву заваляць наглу́го.* Номікі Бабіц. ◇ *Збірацца ў скрынку* — рыхтавацца да смерці. *Трэба ўжо збірацца лесці ў скрынку.* Івашкаўцы Смарг.

СКРЫ'НЯ *ж.* 1. Куфар. *Была скрыня на адзежу. Трубу палатна ставілі ў скрыню і стаіць.* Лоск Валож. *У скрыні адзежа, скацеркі лежаць.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Скрыню палатна давалі невесце.* Пелічава Лудз. *У скрыні верх пачці знімаўся. Пасагу давалі с скрыняю таей. У скрыню пасах складаўся.* Судэрва Вільн. *Скрыні былі, шафаў не было, зверху спускнаваты.* Ракаўскія Швянч. *Я тобе с скрыні нэ вымáцім плаця.* Смаляніца Пруж. 2. Тое ж, што і с к р ы́ н к а 3. *У свірня бочкі і скрыні і засякі пароблена.* Ёдлавічы Брасл. *На збожа рабілі скрыню.* Збляны Лід. *Скрыні рабілі на жыто, скрыня збівалася з досак, закрывалася векам.* Дзяніскавічы Ганц. *Скрыні — ссыпаць зярно.* Альхоўцы Лях. *Прамая скрыня была на дабро.* Ракаўскія Швянч. *Скрыня — ссыпалі збожа, судзіна бальшая, мо сто пудоў жыта лезла.* Малыя Аўцюкі Калінк. 3. Тое ж, што і с к р ы́ н к а 4. *Яны маюць дваццаць скрынеў пчол.* Малькуны Ігн. *Скрыня пшчолаў: тут іхня васкавіна з воскам.* Судэрва Вільн. 4. Скрыня для перавозкі бульбы. *Цяпер скрыні на вос кладуць, туды картофлю кладуць.* Судэрва Вільн. 5. Скрынка ў сячкарні. *У сячкарні скрыня, што падаюць салому.* Вялікія Баяры Шчуч. 6. Тое ж, што і с к р ы́ н к а 2. *Скрыня дзеравяна ў жорнах.* Парэчча Гродз. 7. *стал.* Шуфляда ў аконным праёме. *Окны ставяцца ў скрыні.* Вострава Маст. *Скрыня — у каторую ўстаўляют акно.* Лука Нараўк.

СКРЫНЯ'ТЫ *прым.* Клятчасты. *Ткала рабыя посцілкі, скрынятыя посцілкі.* Солы Смарг.

СКРЫП *м. бат.* Хвошч. *Скрып збіраяць ад почкаў.* Малі Астр. *Скрып зялёны, мякенькі, мякчэйшы, як ёлачка.* Солы Смарг. *Скрыпам пасуду мылі людзі.* Мсцібава Ваўк.

СКРЫПА'НЫ *дзеепрым.* Неўпарадкаваны. *Скрыпаныя дровы.* Малькуны Ігн.

СКРЫПА'ЦЦА *гл.* СКРАПА'ЦЦА

СКРЫ'ПАЦЬ, СКРЫ'ПАТІ *незак.* 1. Рыпець. *Што ты скрыпаяш дзвярыма?!* Дакудава Лід. 2. *перан.* З цяжкасцю падтрымліваць свае сілы. *Моя старая шчэ якась скрыпае.* Курашэва Чыж. ▽ *Гнілая бяроза доўга скрыпая.* Бакшты Іўеў.; *парайн.* руск. *скрипеть* 'тж'

СКРЫ'ПАЧКА *ж. памянш.* да с к р ы́ п к а 1. *Ён на скрыпачку іграў.* Латыгаль Віл.

СКРЫ'ПЕЛЬ *м. бат.* Гу́ба. *Грып на дубе расце, скрыпель.* Палік Барыс. *Скрыпель можна ўбачыць на дубу.* Мачаск Бярэз.

СКРЫПЕ'ЦЬ, СКРЫПІЕ'ТІ *незак.* 1. Тое ж, што і с к р ы́ п а ц ь 1. *Не скрыпі, дзверы змаш!* Чычалі Швянч. *Началі двэры скрыпіеті, трэба помазаті.* Курашэва Чыж. 2. *перан.* Тое ж, што і с к р ы́ п а ц ь 2. *Скрыпіць і скрыпіць век: то хварэе, то не, то зноў хварэе.* Чычалі Швянч.

СКРЫПІ'ЦА *ж. бат.* Груздь. *Скрыпіцу калі рэжаш, дык яна скрыпіць.* Рудня Астравітая Чэрв.

СКРЫ'ПКА *ж. муз.* 1. Скрыпка. *Іграў на скрыпку.* Саланое Віл. *Колісь муой дієд уміев на скрыпці іграті.* Курашэва Чыж. 2. *перан.* Хто часта хварэе. *Моя жуонка то вжэ скрыпка, всэ хворыэе.* Курашэва Чыж. ▽ *Ідзе, як скрыпка, скрыпскрып.* Кіралі Шчуч.

СКРЫ'ПНУЦЬ *зак.* 1. Рыпнуць. *Чую — дзверы скрыпнулі.* Навасёлкі Свісл. *Двэры скрыпнулі, і я зара вышов.* Курашэва Чыж. 2. Скрыгатнуць (зубамі). *Так і скрыпнуў зубамі са злосці.* Вецярэвічы Пух.

СКРЫПУ'ЛЯ *ж. бат.* Скрыпень. *Скрыпуля — трава лекавая.* Жылі Іўеў.

СКРЫПУ'ХА' *ж.* Тое ж, што і с к р ы п у́ л я. *Скрыпу́ху запарыць і прыкласці, дзе баліць.* Мярэцкія Глыб. *Скрыпуха́—трава ат скулы.* Альхоўка Навагр.

СКРЫПУ'ЧЫ *прым.* Рыпучы. ▽ *Скрыпучая дрэва доўга скрыпіць. Другі чалавек пражывае сваё жыццё хварэючы.* Малі Астр. *Скрыпучая дзерава доўга скрыпіць, здаровая с коранем вывернiць.* Бакшты Іўеў.

СКРЫПУ'ШЧЫ *прым.* Тое ж, што і с к р ы п у́ ч ы. ▽ *Скрыпушчае дрэва болей стоіць, як здаровае.* Чычалі Швянч.

СКРЫ'ПЯЧНІК *м. бат.* Разнавіднасць палявога хвашчу. *Скрыпячнік болій шэрсняты, падобны да гугаля.* Завельцы Астр.

СКРЫ'ТКА *ж.* Тайнік. *Мела скрытку ўмуравану.* Івашкаўцы Смарг.

СКРЫ'ТНІЧАЦЬ *незак.* Таіцца. *Іш, як скрытнічаюць! Раскажыця нам!* Пераброддзе Міёр.

СКРЫ'ТЫ *прым.* Скрытны. *Скрыты людэ кепскі.* Курашэва Чыж.

СКРЫ'ЎДЖАНЫ *дзеепрым.* Пакрыўджаны. *Ты ні будзіш скрыўджана, абіджана, не бойся.* Малі Астр.

СКРЫ'ЎДЗІЦЬ, СКРЫ'ВДІТІ *зак.* Пакрыўдзіць. *Можа, скрыўдзіла цябе?* Саланое Віл. *Скрыўдзілі бабу, пайшла плачучы.* Мачаск Бярэз. *Мяне ніхто не скрыўдзіў.* Парэчча Гродз. *Скрывдів мое дітя.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *skrzywdzić* 'тж'.

СКРЫ'ЦЦА *зак.* Схавацца. *Ад людзей не скрыясся.* Дэгшні Шальч.; *парайн.* руск. *скрыться* 'тж'.

СКРЫ'ЦЦЯ *н.* Памяшканне для адпачынку. *Маладзёш хоча мець клуп, трэба для іх якоя скрыцця.* Вецярэвічы Пух.

СКРЫЧА'ЦЬ *зак.* Знясілець ад доўгага плачу. *Ужо я і скрычала!* Хатынічы Ганц.

СКРЫ'ШАНЫ *дзеепрым.* Нарэзаны. *Бульбы скрышаныя.* Гемзы Шальч.

СКРЫШЫ'ЦЬ *зак.* Нарэзаць. *Скрышы на кусочкі.* Рудня Астравітая Чэрв.

СКРЫШЭ'ЦЬ *зак.* Запячыся (пра кроў). *Кроў скрышэла.* Малькуны Ігн.; *гл.* к р а ш э́ ц ь.

СКРЭ'БЛО *н.* Скрабніца. *Коньскае скрэбло тут было, каня чысціць буду.* Дзяніскавічы Ганц. *Скрэбло — каня чысціць.* Альхоўцы Лях.

СКРЭНТ *м.* Круты паварот. *Дзе самы скрэнт — і згібаецца дарога. У самым скрэнце перавярнуўся.* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *skręt* 'тж'.

СКРЭ'ПНУЦЬ *зак.* Азябнуць. *Холадна, рукі скрэплі.* Вязынка Маладз.

СКРЭ'ПСЦІ *гл.* СКРАБСЦІ'

СКРЭ'ПЦІ *гл.* СКРАБЦІ'

СКРЭ'СЦІ *незак.* Тое ж, што і с к р а б а́ ц ь 1. *Нада скрэсці бульбу.* Янова Рас.

СКУ'БАНЫ *дзеепрым.* Скубены. *Пёры скубаныя ссыпалі ў насыпку.* Рагулішкі Даўг.

СКУБА'ЦЬ *незак.* 1. Скубці (пер'е). *Скубаюць пёры на падушку.* Ёдлавічы Брасл. *Скубаю пер'я на падушку.* Мярэцкія Глыб. *Сядзім і скубаім пёры.* Лайпушкі Ігн. *Самі скубаем ці аддаём скубаць пёры на падушку.* Рагулішкі Даўг. 2. Выскубваць. *Нада скубаць курыцу.* Ёдлавічы Брасл. *Тут скубаю, тут смалю качкі. Я качкі скубаю, не маю часу.* Каўняны Гродз. 3. Есці (траву). *Нібы-та карова скубая. На падвору каровы скубаюць.* Граўжышкі Ашм. *Скубала карова*

*траву.* Малі Астр., Жодзішкі Смарг. *Хвост задраўшы, траву карова скубаіць.* Рагулішкі Даўг. *Ходзіць і скубая траву каровіна.* Ліпнікі Вільн.

СКУ'БСЦІ, СКУ'ПСЦІ, СКУ'БСТЭ, СКУ'БСТЫ *незак.* 1. Тое ж, што і скуба́ць 1. *Нада пер'е скупсці.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Не хочаца скупсці пер'я.* Рыбчына Віл. *Скупсці трэба пер'я.* Саланое Віл. *Ёсць пер'я, але ні маю калі скупсці.* Солы Смарг. *Трэба скупсці пер'я на падушку.* Бакшты Іўеў. *Трэба пір'е скубстэ.* Дзмітравічы Кам. 2. Тое ж, што і скуба́ць 2. *Трэба скупсці курыцу.* Лоск Валож. *Скубуць пер'я, абрываюць з забітай птушкі.* Паляцкішкі Воран. *Трэбо скупсці гусі, ужэ ліняюць.* Баброўнікі Гарад. *Скубстэ курыцю.* Дзмітравічы Кам. *Буду скубсты гусь.* *Мы скубэмо гусэй.* Горск Бяроз. 3. Тое ж, што і скуба́ць 3. *Траву скубуць свінні.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Карова траву скубе.* Паляцкішкі Воран. *Карова, конь скубе траву.* Лоск Валож. 4. Расскубаць, разрываць. *Скубла воўну, дрэнна скупсці.* Лоск Валож. *Трэба скубстэ вовну.* Дзмітравічы Кам.

СКУ'БЦІ, СКУ'ПЦІ, СКУ'БТЫ, СКУПЦЬ *незак.* 1. Тое ж, што і скуба́ць 1. *Цяшка пер'я скупці. Трэба скупці пер'я на падушку.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Тое ж, што і скуба́ць 2. *Шашок курэй палушчыў, толькі спраўлялася скупці, і асталася бэс курэй.* Малі Астр. *Я скубу курыцу.* Старыя Смільгіні Воран. *Трэба скупці курыцу.* Альхоўка Навагр. *Трэба скупці гусі.* Дзяніскавічы Ганц. 3. Тое ж, што і скуба́ць 3. *Карова стараіца скупці траву.* Саланое Віл. *Каровы траву скубуць.* Кіралі Шчуч. 4. Тое ж, што і ску́бсці 4. *Скубеш шэрсць і кідаяш у часальню.* Слабада Мін. *Сена як зложаць сыроя, пыл з яго ідзець, як зімой станеш скупці.* Вузла Мядз. *Е вовна, шчэ скубты трэбо.* Дзмітравічы Кам. ▽ *Не купайса да Міколы і пасля спаса, бо будуць чэрці скубці.* Дарава Лях.

СКУБЯНУ'ЦЬ *зак. перан.* Укусіць. *Як ідзеш кала яго* [сабакі], *можа скубянуць.* Слабада Мін.

СКУВА'ЦЬ *гл.* СКАВА'ЦЬ II

СКУГІ'ЧЫЦЬ *незак. перан.* Жаласна плакаць. *Скугіча дзіця, што яму стала?* Кузьмічы Люб.

СКУГЛІ'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і скрыгата́ць. *Свінні скугляць.* Семежава Кап.

СКУГО'ЛІЦЬ *незак. экспр.* Тлуміць галаву, надакучаць. *Яна рада, што дзеці паад'яжджалі і галавы не скуголяць.* Вецярэвічы Пух.

СКУ'ДА *прысл.* Адкуль. *Скуда ўзяць?* Быстрыца Астр.; *параўн.* руск. *откуда* 'тж'.

СКУ'ДАВА *прысл.* Тое ж, што і ску́да. *Скудава іх узяць, як няма.* Руднікі Шальч. *Шэйдзісят сотак далі: скудава я п магла мець столькі картошкі?!* Старыя Трокі Трак.

СКУДЛЫ'ЧЫЦЬ *зак.* Склычыць. *Скудлычыць лён, пасевы, як хто паходзіць.* Валынцы В.-Дзв.

СКУЙНА' *ж.* 1. *зб.* Ігліца. *Ідзі скуйны прывязі, а то карова ляжа і ўваліцца ўся. Скуйну калупаюць, і грыбы не растуць. Скуйной засыпана зямля.* Парэчча Гродз. 2. Галінка хвоі. *Ветачку хвоі называюць скуйна. Наламала скуйнэ. Ідзі наламай скуйнэ памяло зрабіць! Памяло с скуйнэ робяць.* Новікі Гродз. 3. Месца, пакрытае ігліцай. *Куры пойдуць на скуйну.* Парэчча Гродз.; *параўн.* літ. *skujà* 'ігліца'.

СКУ'КА *ж.* Нуда. ∇ *Скука на скуку лезя і скукаю паганяя.* Бакшты Іўеў.; *параўн.* руск. *скука* 'тж'.

СКУ'КЛІЦЬ *зак.* Нанізаць. *Нада скукліць клён у вянок. Нада табаку скукліць па дзесяць—дваццаць лістоў на шнурок, а тады ў трупкі скруцяць і скрышаць.* Кураполле Паст.

СКУКО'БІЦЦА *зак.* 1. Скурчыцца. *Скукобіўся і заснуў.* Гемзы Шальч. 2. Натапырыцца. *Курыца скукобілася.* Гемзы Шальч.

СКУ'ЛА' *ж.* 1. Нарыў, фурункул. *Скýла на целе.* Ёдлавічы Брасл. *Нарываіць скýла.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ускочыла прышчва, а калі большая — скýла.* Магуны Паст. *Скýла села.* Рыбчына Віл. *Скýла баліць.* Мярэцкія Глыб. *Скýла праралася ў мазгу. У мяне скýла тут быўшы.* Малі Астр. *Прыкінулася скýла.* Солы Смарг. *Скýла села на ногі, на рукі і пат пахай.* Кіралі Шчуч. *Скýла ўскачыла, ды балючая.* Беразіно Докш. *Такая скýла села, а баліць!* Стральцы Гродз. *Скýла на шыі.* Малахоўцы Бар. *Скýла гные, ны говыцця.* Дзмітравічы Кам. *Як скýла — трыпутнік ложаць.* Пасіене Лудз. *На мяхкім мейсцы села скýла.* Гемзы Шальч. *Мусар са скулы́ цячэ.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Скулá была і пакінула пляму на лапаццы. Так баліць скулá, ня магу спаць.* Жылі Іўеў. *А-яй, велька скулá села! Каля скулы́ насела многа скулаў.* Кіралі Шчуч. *Скулá ўдавіла яго.* Вялікія Баяры Шчуч. *Дзве скулы́ села.* Рудня Астравітая Чэрв. *Ятрыцца скулá. Балючая скулá.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Скулá цячэ. Скýлы с прастуды паселі.* Пасека Ст.-Дар. *Скулá сеўшы.* Рагулішкі Даўг. ∇ *Чапаісся, як благая скýла!* Ахрэмаўцы Брасл. *Кап табе скýла села!* Саланое Віл. *Штоп табе скулá на язык села!* Пасека Ст.-Дар. 2. *перан.* Клопат. *Гэтыя пыляната будуць скулá для мяне.* Вецярэвічы Пух. 3. *мед.* Залатуха. *Як скýла ў дзяцей, купалі ў чарадзе.* Кураполле Паст. *Скулá ў галаве була, цякло з вушэй.* Кузьмічы Люб. 4. *мед.* Трахома. *Скýла была ў вачах.* Кураполле Паст. 5. Прыступ эпілепсіі. *Як скýла паткачваецца, дзіцяці бывая падушча.* Вострава Маст.

СКУЛАГНУ'ЦЬ *зак. экспр.* Памыць з большага. *Адзежу скулагнула троху.* Кураполле Паст.

СКУЛА'ШКА *гл.* СКУЛЯ'ШКА

СКУ'ЛІНА *ж.* Тое ж, што і скуйна́ 1. *Прывёс скуліны на прызбу.* Збляны Лід.

СКУЛІ'СКА *зб. н.* Нарывы. *Скуліска высыпала.* Старыя Смільгіні Воран.

СКУЛІ'ЦЦА *зак.* Упасці. *Чалавек скуліўся пат каня.* Груздава Паст.

СКУЛІ'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і скугі́чыць. *Не будуць дзеці скуліць.* Вецярэвічы Пух.

СКУ'ЛКА *ж. памянш.* да ску́ла́ 1. *Скулка злосць папусціла. Скулкамі павыкідала.* Старыя Смільгіні Воран.

СКУ'ЛЛЕ *зб. н.* Тое ж, што і скулі́ска. *Скулле напала. Б'е на скулле.* Рудня Чэрв.

СКУЛЬ *прысл.* 1. Адкуль? *Скуль прыехаўшы ён?* Быстрыца Астр. *Скуль яна* [жанчына] *бралася?* Ёдлавічы Брасл. *А скуль такая маладая?* Гальшаны Ашм. *«Скуль?»—«Тожа аттуль».* Івашкаўцы Смарг. *А скуль ён прыехаў? А скуль гэтыя людзі?* Ністанішкі Смарг. *Скуль гэты конь белы?* Малі Астр. *Скуль яна прыехала?* Пацаўшчына Дзятл. *Скуль зайсці?* Ялова Пруж. *Скуль ідзеш?* Чычалі Швянч. *Скуль ён узяўся?* Грыкені Вільн. *Можа, скуль прыехаўшы?* Канюкай Вільн. *А скуль ты з'явілася?* Баброўнікі Гарад. 2. З якіх крыніц? *Скуль браць грошы?* Граўжышкі Ашм. *А скуль жыць, а ш чаго?* Быстрыца Астр. *Скуль ты ўзяўшы грошы?* Малі Астр. 3. Ужываецца ў клічных сказах пры выказванні нязгоды. *Скуль я вазьму светак!* Рагулішкі Даўг. *А скуль я магу ведаць!* Старыя Трокі Трак. *А скуль паможэ!* Баброўнікі Гарад. *Скуль яна ведала, дзе гэты крупы!* Дэгшні Шальч.

СКУ'ЛЬКІ *гл.* СКО'ЛЬКІ

СКУ'ЛЬНІК *м. бат.* Увярэднік. *Скульнік — яго п'юць.* Кураполле Паст.

СКУЛЯ'ВЫ *прым.* Пакрыты скуламі. *Скулявы гэдакі, то не чапай яго.* Міратычы Карэл.

СКУЛЯ'НКА *ж. памянш.* да ску́ла́ 1. *Скулянка села на ліцэ, на руке скула́.* Кіралі Шчуч. *Скулянка села пат пахой, вот баліць, ні павярнуць руку.* Альба Нясв.

СКУЛЯ'ШКА, СКУЛА'ШКА *ж. памянш.* да ску́ла́ 1. *Скуляшка села на тварэ, як яе звясці, чым?* Кіралі Шчуч. *Скулашкі былі, як была перапужаўшыся.* Ракаўскія Швянч.

СКУМА'Т *м.* Шнурок. *Найдзі ты мне скумат які!* Лісна В.-Дзв.; *параўн.* літ. дыял. *sųmatas,* літар. *sąmatas* 'шнурок або раменьчык для сцягвання хамута'.

СКУМЯ'ЧЫЦЬ *зак.* Скамячыць. *Скумячыў газету.* Крынкі Крын.

СКУНЧЭ'НЯ *н.* Заканчэнне. *Гэта перат скунчэням месяца свята будзя.* Кудзялянцы Шальч.

СКУО'ГНІТІ *незак.* Тое ж, што і скугі́чыць. *Чого вона всэ скуогніт?* Курашэва Чыж.

СКУО'РА *гл.* СКУ'РА

СКУО'РКА *гл.* СКУ'РКА

СКУ'ПА, СКУ'ПО *прысл.* Мала па колькасці. *Дайней з грашымі было скупа.* Малькуны Ігн. *Тут скупо, не хватае вагі.* Альхоўцы Лях.

СКУПАВА'ТЫ *прым.* 1. Які неахвотна дае іншым што-н. *Бывала, баба ўсё мне дась, а матка скупаватая была.* Валынцы В.-Дзв. *Аспадар троха скупаваты.* Парэчча Гродз. 2. Недастатковы (пра вагу). *Троха недахват, вес скупаваты. Скупавата мера. Мацерыі скупаваты аршын.* Дзяніскавічы Ганц.

СКУПАВА'ЦЬ *незак.* Скупіцца. *Яна есь лепей у пятніцу, чым ты ў нядзелю, бо ты скупуеш.* Парэчча Гродз.

СКУПЕ'Й *прым. выш.* Больш скупы. *Чым багацей былі хазяіны, тым скупей, тысячы накладалі.* Рагулішкі Даўг.

СКУПЕ'ННЫ *прым.* Вельмі скупы. *Такі скупенны быў!* Рудня Астравітая Чэрв.

СКУПІДРА'ЛА *м.* і *ж. неадабр.* Хто скупы. *Скупідрала ты!* Груздава Паст.

СКУ'ПІЦЦА *зак.* Стоўпіцца. *Скупіліся ўсе ў кучу.* Пацаўшчына Дзятл. *Скупілася многа людзей.* Гемзы Шальч.

СКУПІ'ШШЫ *прым. выш.* Тое ж, што і с к у п е́ й. *Гэты скупішшы чалавек.* Міратычы Карэл.

СКУ'ПЛІВАЦЬ *незак.* Скупляць. *Дайней па вёсках яўрэі скуплівалі лён і звозілі ў стадолы.* Гальшаны Ашм. *Скуплівалі бульбу па пятнаццаць капеяк.* Солы Смарг.

СКУ'ПО *гл.* СКУ'ПА

СКУПО'ВЛЮВАТІ *незак.* Тое ж, што і с к у́ п л і в а ц ь. *Склепова* [работніца магазіна] *скуповлюе бутлі. Нэ знаю, чы в сэрэду будут гусі скуповлюваті?* Курашэва Чыж.

СКУПО'ЎВАЦЬ *незак.* Тое ж, што і с к у́ п л і в а ц ь. *Свіньня скупоўвае.* Дзяніскавічы Ганц. *Скупоўвала масла.* Міратычы Карэл. *Цялята скупоўвая.* Альхоўцы Лях.

СКУПО'ША *м.* і *ж.* Тое ж, што і с к у п і д р а́ л а. *Гэдакая скупоша!* Іванава Нясв.

СКУПРО'ЦІЦЦА *зак. экспр.* Згорбіцца. *Ён скупроціўся, стары стаў.* Быстрыца Астр.; *гл.* к у́ п р а 1.

СКУ'ПРЫЦЦА *зак.* Тое ж, што і с к у п р о́ ц і ц ц а. *Стары скупрыўся пат старасць.* Граўжышкі Ашм. *Што так скупрыўся?* Старыя Смільгіні Воран.

СКУ'ПСЦІ *гл.* СКУ'БСЦІ

СКУ'ПЦІ, СКУПЦЬ *гл.* СКУ'БЦІ

СКУПЫ', СКУПЭ'Й, СКУП *прым.* 1. Хто празмерна ашчадны. *Які ты скупы!* Мярэцкія Глыб., Рудня Астравітая Чэрв. *Скупая баба.* Лоск Валож. *Гэты ашчадны, або скупы,— тое самае.* Завельцы Астр. *Такі ён скупы!* Парэчча Гродз. *Скупы чалавек — скнара такі.* Малькуны Ігн. *Скупэй чоловік.* Дзмітравічы Кам. ▽*Хто скуп — сам сабе не глуп.* Ухвала

Круп. *Хто скуп — не глуп.* Завельцы Астр. 2. у знач. *назоўніка скупы́, скуп* м. Скупы. *Скупы жалеіць сабе і другому, астатні яблык вязе прадаваць, хаця п ні з'есці.* Ністанішкі Смарг. *Скупы не пазычыць грошы.* Альхоўцы Лях. *Скупы — у яго не дастанеш нічога.* Гемзы Шальч. ∇*А скупы — ні глупы.* Старое Сяло Зэльв. *Скупы і камня ні дась забіцца.* Ахрэмаўцы Брасл. *Скупы па два разы плоціць.* Вузла Мядз. *Добрахвочы глядзіць скупому ў вочы.* Ухвала Круп. *У скупога вады не дапросісся.* Лука Нараўк. *А скуп — ня глуп.* Валынцы В.-Дзв. *У скупа хоць кагда возьмеш, а ў нета — ніколі.* Малі Астр. 3. Што крыху не дасягнуў якой-н. меры. *Скупых два фунты прынясла.* Ністанішкі Смарг. *Скупы фунт масла.* Кіралі Шчуч. *Тут скупы фунт. Скупы кілаграм.* Альхоўцы Лях.

СКУПЯНЬДЗЯ', СКУПЯНДЗЯ' *м.* і *ж.* Тое ж, што і с к у п і д р а́ л а. *Скупяндзя ты!* Альхоўка Навагр. *То ўжэ такі скупяндзя, што толькі выкрасіць да выбрасіць.* Баброўнікі Гарад.

СКУ'РА', СКУО'РА *ж.* 1. Скура. *Як жоўтая скура́ — карова добрая на малако.* Ёдлавічы Брасл. *Ён скуру́ зняўшы. Нос нацярала — аш скура́ злезла.* Малі Астр. *Пад скуру́ калолі. Такая скура́ чырвоная!* Старыя Смільгіні Воран. *Скура́ замерзла.* Грыкені Вільн. *У мяне скура́ падняўшыся. Скура́ натта пакорпалася на твары, што нежывоя.* Гемзы Шальч. *Моч пашла па-за скуры́.* Кудзялянцы Шальч. *Скуру́ трэбо зняць.* Быстрыца Астр. *Трэба скуру́ лупіць. Здымаць скуру́ буду.* Паляцкішкі Воран. *На зямлі смаляць — лучшая скура́.* Старыя Трокі Трак. *Шэрая скура́ ў гада.* Руднікі Шальч. *Гадзіна аблінала, скуру́ аставіла. Шчапаяцца ску́ра на нагах.* Магуны Паст. *Вот холадна, аш па-за ску́ры пашоў марос!* *Ску́ра зрабілася, як курача цела.* Кіралі Шчуч. *Ску́ра лопаецца на пальцах.* Рагулішкі Даўг. *Пасля гарачкі ўся ску́ра на целе злупіласа.* Крынкі Крын. *Дзяруць ску́ру ў свінні.* Асавец Віл. *Ску́ра с сырцом — сырцовая ску́ра.* Рыбчына Віл. *Ску́ра будзя драцца. Зняў ску́ру з цяляці.* Старое Сяло Зэльв. *Ску́ра пазлазіла з жывіны* [жывёлы]. Вострава Маст. 2. Выробленая шкура жывёлы. *Скура́ вісіць. Скуро́й накрыўся.* Паляцкішкі Воран. *Балтушнік авечак скуры́ вырабляў на кажухі.* Старыя Трокі Трак. *З дрэва вычаша, скуро́й абівалі клумпі.* Стральцы Шальч. *Адна ску́ра кароўская, другая конская, яны даўно ў мяне.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ску́ру юхту на хадакі куплялі.* Збляны Лід. *Шылі са ску́ры пасталы.* Стральцы Гродз. *Кандалікі з дрэва роблены і ску́рай абабіты — заднікі і вяршочкі с скуры.* Солы Смарг. 3. Шалупінне. *Скуру́ згоняць у млыне з зерня.* Кудзялянцы Шальч. ◇ *Скура́ гарыць* — пра вельмі рухавага чалавека. *Я сяджу, а ў мяне скура́ гарыць. На ей скура́ гарыць — такая, што на месце ня ўстоя. Яна віхрыцца, аш на ей скура́ гарыць.* Малі Астр. *Ску́ру драць* —

моцна біць, лупцаваць. *Скўру з іх дзяры і слухай: ці жывоя?!* Кіралі Шчуч. *Скўра драна* — быць адлупцаваным. *Ну, дзеткі, зара вам будзя скўра драна.* Вялікія Баяры Шчуч. *Із скуоры выходіт* — стараецца з усіх сіл. *Із скуоры выходіт, коб добрэ учытісе і быті дохтором.* Курашэва Чыж. *На паловай скўры ня спісаць* — не расказаць, не напісаць пра зазнанае ў жыцці. *На дзве валовыя скўры ня спішаш усяго, што я перажыла.* Бакшты Іўеў. *Всёго, што вуон росказував, на воловуой скуоры не спісаті. На своюой скуоры познаті* — пераканацца ў чым-н. на сваім вопыце. *Тэпэр на своюой скуоры пузнав, што то значыт, комусь кепско робіті. Найтісе в (ёго) скуоры* — апынуцца ў якім-н. становішчы. *Што ты зробів бы, коб нашовсе в ёго скуоры!* Курашэва Чыж.

СКУРАДЗЁР *м. перан. зневаж.* Хто патрабуе вялікія грошы за выкананую работу. *Вы — скурадзёры, так многа грошай узялі, а зрабілі — нічога.* Дружба Мін.

СКУРАЛУ'П *м.* Скурадзёр. *Скуралуп скуры лупіць.* Ахрэмаўцы Брасл. ∇*Берыць дорага, як скуралуп.* Ахрэмаўцы Брасл.

СКУРАЛУ'ШЧЫ *мн. заал.* Малюскі, якія маюць створкавую ракавіну. *Скаралушчы ў сажалках, з іх выходзяць жапкі.* Івашкаўцы Смарг.

СКУРА'НІК *м. заал.* Кажан. *Скуранік лятае, як мыш.* Грыкені Вільн.

СКУРА'НКА *ж.* Тое ж, што і с к у р а́ н і к. *Скуранкі лятаюць — лятучыя мышы.* Старыя Трокі Трак.

СКУРА'НЫ', СКУРА'ННЫ *прым.* Які зроблены са скуры. *Скураня́я вобраць.* Дакудава Лід. *Хадакі скураны́я.* Грыкені Вільн. *У скураны́м вобую дайней мала хто хадзіў.* Руднікі Шальч. *Скура́на сумка.* Вялікія Баяры Шчуч. *Купіў бацінкі скура́ныя.* Кудзялянцы Шальч. *Скуранна фабрыка.* Крынкі Крын.

СКУРА'Т I *м.* Акравак скуры. *Дзе ўзяць такі скурат, бот разваліўся?* Дакудава Лід. *Скурат на хадакі ішоў.* Пацаўшчына Дзятл. ∇*Паправіўся, як скурат на агні.* Пацаўшчына Дзятл.

СКУРА'Т II *м.* Тое ж, што і с к у р а́ н і к. *Скурат лятая вечарам.* Старыя Смільгіні Воран.

СКУРА'ТНІК *м.* Гарбар. *Скуры трэбо вясці да скуратніка.* Баброўнікі Гарад.

СКУРА'Ч I *м.* Свойская птушка з невыразнымі палавымі адзнакамі. *Скурач — ні самец, ні самка ў гусей, курэй.* Навасёлкі Свісл.

СКУРА'Ч II *м.* Тое ж, што і с к у р а́ н і к. *Скурач днём спіць, а ночы лётая.* Навасёлкі Свісл.

СКУ'РАЧКА *ж. памянш.* да с к у́ р а́ 2. *Дайней вожыка скурачкай лён часалі.* Ахрэмаўцы Брасл.

СКУРГО'НІЦЦА *зак.* Тое ж, што і с к о́ р ч ы ц ц а. *Скургоніўся і ліжай. Чаго ты скургоніўся?* Мярэцкія Глыб. *Кап ні дзіця, дык скургоніўся п і ляжай.* Рыбчына Віл.

СКУ'РКА, СКУО'РКА *ж.* 1. *памянш.* да с к у́ р а́ 1. *Цяпер толькі скурка асталася, а былі рукі мускулістыя.* Слабада Мін. 2. *памянш.* да с к у́ р а́ 2. *Скурку вырабіць на кайнер.* Лайпушкі Ігн. 3. Пенка. *Як беляны крупнік, на ім скурка бывая.* Паляцкішкі Воран. *Малако занялося скуркаю, смашна скурка.* Кіралі Шчуч. 4. Скарынка. *Скуорку хліеба взяв.* Курашэва Чыж. 5. Лупінка. *Панцак тайклі — аптайкуць гэту скурку тыльную.* Васілевічы Гродз. *Скуорка яблыка.* Курашэва Чыж.

СКУРЛА'Т I *м.* Тое ж, што і с к у р а́ т I. *Аткуль тут узяўся такі велькі скурлат? Валяецца добры скурлат, трэба вайлакі апшыць.* Гемзы Шальч. ∇*Паправісся, як скурлат на агню.* Граўжышкі Ашм. *Круціцца, як скурлат на агні,— такі чалавек круцяшчы, не сядзіць на адным мейсцы.* Ёдупка Шальч.

СКУРЛА'Т II *м.* Тое ж, што і с к у р а́ н і к. *Скурлаты лятаюць, у іх, як гумавыя, скрыдла.* Кудзялянцы Шальч.

СКУРО'ЖАНЫ *дзеепрым.* Скалечаны. *Нос скурожаны.* Груздава Паст.

СКУРО'ЖЫЦЬ *зак. безас.* Скалечыць. *Яму нос скурожыла.* Груздава Паст. *Скурожыла чалавека.* Кузьмічы Люб., Мачаск Бярэз.

СКУ'РЧЫЦЦА *зак.* Тое ж, што і с к о́ р ч ы ц ц а. *Я лягла і скурчылася. Як скурчысся, дык лепей спаць.* Кіралі Шчуч. *Лёх і скурчыўся. Сеў і скурчыўся.* Вецярэвічы Пух. *Скурчыўся ад болю. Яны* [мурашкі] *скурчацца, скурчацца — і кусаць.* Пацаўшчына Дзятл. ∇*Вот і каска ўся скончылася, дзет бабі кулаком, баба скурчыласа.* Дзевяткаўцы Ваўк.

СКУ'РЧЫЦЬ *зак. безас.* Паралізаваць. *Яе скурчыла, а з ліца хароша.* Вецярэвічы Пух.

СКУРЫ'ЦЦА *зак.* 1. Абгарэць. *Чуні абувалі, і абадвы скураліся чуні ў печы, як сушыць поставіла.* Валынцы В.-Дзв. 2. Абкурыцца. *Дайней скурацца дзеці, павэндзяцца ў курных хатах.* Ёдлавічы Брасл.

СКУРЭ'ЦЬ *зак.* і *незак.* 1. Згарэць. *Прышла с склепу — маё сала скурэла.* Кіралі Шчуч. 2. Тлець. *Скурацъ дровы, не гарацъ.* Малі Астр.

СКУСА'ЦЬ *зак.* 1. Пакусаць. *Мне скусалі ногі камары.* Чуркі Ашм. 2. Адкусіць, з'есці. *Ценянькую скіпку скусай, скусай і няма нічога.* Ракаўскія Швянч.

СКУ'СІЦЦА *зак.* Спакусіцца, адважыцца. *Я не скусілася красіць.* Ёдлавічы Брасл.; *парайн.* польск. *pokusić się* 'тж'.

СКУСІ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і с к у с а́ ц ь 2. *Няможна скусіць, на зубах трашчыць.* Ракаўскія Швянч.

СКУТ *м.* Вялікі кавалак палатна, прызначаны для адбельвання. *Скут палатна дала.* Завельцы Астр. *Скуты палатна расцілалі і бялілі.* Мярэцкія Глыб. *Макалі скуты ў ваду і расцілалі на сонцы. Скуты пралі пранікам. Скатывалі скуты ў трубкі і лажылі ў кубел.* Мішневічы Шум. ◇ *Скутам падараваць* — даць маладой вялікі пасаг. *Мяне скутам не падаравалі.* Малыя Аўцюкі Калінк.; *параўн.* літ. *skùtas* 'кавалак палатна'.

СКУТКАВА'ЦЬ *незак.* Піць прымаць лякарства. *Зёлкі прыпісаў, скуткавала і была здарова.* Гемзы Шальч.; *параўн.* польск. *skutkować* 'дзейнічаць'.

СКУТО'К *м. памянш.* Акравак. *Табе вялікі скуток нада? Скуткі асталіся ат капоты, сукенкі.* Мярэцкія Глыб.

СКУ'ТОК *м.* Безвыходнае становішча. *Як ёму прышло до скутку, то поіхав стыль.* Сіманавічы Драг.; *параўн.* польск. *skutek* 'вынік'.

СКУЧА'ЦЬ *незак.* Сумаваць. *Не скучайця, жывіця! Вы тут не скучайця!* Міратычы Карэл.; *параўн.* руск. *скучать* 'тж'.

СКУ'ЧНА *прысл.* Сумна. *Скучна вам у вёсцы?* Навасёлкі Свісл.; *параўн.* руск. *скучно* 'тж'.

СКУЧНЕ'Й *прысл. выш.* да с к у́ ч н а. *Мне скучней без цябе.* Солы Смарг.

СКУ'ЧЫЦЬ *зак.* 1. Знудзіцца, засумаваць. *Аня скучыць там, паехалі яе дзевачкі ў лагер. Вы ня скучылі адны?* Вецярэвічы Пух. *Ты скучыла па мне?* Беразіно Докш. *Ні скучыў ты ў нас?* Пасека Ст.-Дар.; *параўн.* руск. *соскучиться* 'тж'. 2. Надакучыць. *У балоце скучыла сядзець.* Ухвала Круп. *Вот мне скучыў дзень! Цялусцы скучыла бес каровы.* Рудня Астравітая Чэрв.

СКЫ'БКА *гл.* СКІ'БКА

СКЫ'НУТЫ *гл.* СКІ'НУЦЬ

СКЯРДЗІ' *мн.* У выразе: *На скярдзі трафіць* — папасці ў сэрца. *Добра закалоў паршука — на скярдзі трафіў.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* літ. *skersti* 'рэзаць, забіваць жывёлу'.

СКЯРСНА'Я *ж.* Тое ж, што і с к в і р с т у н ы́. *На скярсную пашоў. Яны борава забілі, на скярсную пашоў.* Рагулішкі Даўг.; *параўн.* літ. *skerstùvės* 'тж'.

СКЯРСТА' *ж.* Тое ж, што і с к в я р с т а́. *Скярсты прынясла. Як зарэжыць парсюка, нясуць скярсту.* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. *skerstùvės* 'тж'.

СЛА'БА, СЛА'БО *прысл.* 1. Нямоцна. *Не з'еш скваркі, то і слаба.* Малі Астр. 2. Пра дрэнны стан здароўя. *Мне слаба, трудна.* Гальшаны Ашм. *Як мне слаба, у жываце агнём пячэ.* Перабродзе Міёр. *Яна на сэрцо слаба.* Альхоўцы Лях. 3. Дрэнна. *Наедзі на лупах у каня, конь слаба есць, ня можа*

*есці.* Ёдупка Шальч. 4. Павольна. *Па сіле — слаба п шла, але ня віжу.* Слабада Мін. 5. У невялікай колькасці, мала. *Рыба ў нас слаба ловіцца.* Кураполле Паст. *Слаба плацяць там.* Асавец Віл. *На вашым Мінску слаба чаго было, цяпер, кажуць, багаты горат.* Крэва Смарг. *Слаба ядзяць.* Жылі Іўеў. 6. Кепска. *Слаба ўмела рабіць.* Гемзы Шальч. *У яго ўчэня слабо.* Быстрыца Астр. 7. Рэдка. *Кляновыя жукі былі, але нешта слаба відаць іх.* Чуркі Ашм. 8. Марудна. *Слаба праду, кудзелі яшчэ многа.* Магуны Паст. *Яна слаба ідзе.* Жылі Іўеў. 9. Нятуга. *Пярэвясло скруціла слабо.* Воўкуш Ліпск.

СЛАБАДА′ *ж.* Статак. *Слабада — каравы.* Любішчыцы Івац.

СЛАБАДНЕ′Й *прысл. выш.* Тое ж, што і с л á б а 9. *На навой накручваяш: ест калочак і зазубні, можа быць слабадней і тужэй.* Малахоўцы Бар.

СЛА′БАСЦЬ *ж.* Слабасць. *Слабасць мне бальшая, а лежаць мне не прыходзіцца.* Рагулішкі Даўг.

СЛА′БЕНЬКА *прысл.* Злёгку. *Я слабенька таплю байню. Нада слабенька размешваць.* Пераброддзе Міёр.

СЛАБЕ′НЬКІ *прым. памянш.* да с л á б ы 1. *Такі слабенькі быў* [хлопчык]. Старыя Смільгіні Воран. *Парася слабенькe.* Ялова Пруж.

СЛАБЕ′ЦІ *незак.* Слабець. *Сталі ногі слабеці.* Каўняны Гродз.

СЛАБКІ′, СЛАПКІ′ *прым.* 1. Нятуга звіты. *Слапкая вяроўка.* Асавец Віл. 2. Мяккі, рыхлы (пра зямлю). *Была вялікая яма, зімля слапкая і апсыпалася на нас.* Саланое Віл.

СЛА′БНУЦЬ *незак.* Слабець. *Наш бацька слабніць, нікакой не ўстаець.* Ахрэмаўцы Брасл.

СЛА′БО *гл.* СЛА′БА

СЛАБО′ВАТІ *незак.* Недамагаць. *Остатнё слабую, часто голова боліт.* Курашэва Чыж.

СЛАБО′ДА *ж.* 1. Свабода. *Дайця ей слабоду!* Саланое Віл. *Слабода для мяне наступіла.* Вострава Маст. *Ей слабода.* Міратычы Карэл. 2. Адпачынак. *На пяць мінют слабоды.* Смаляніца Пруж.

СЛАБО′ДНА *прысл.* Прасторна. *С Полацака слабодна было ехаць.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

СЛАБО′ДНЫ *прым.* 1. Які не заняты працай. *Слабодна ціперь яна.* Янова Рас. *Нявестка слабодная, прыдзіць, паможыць.* Мярэцкія Глыб. *Слабодны быў.* Альхоўка Навагр. *Буду слабодна.* Міратычы Карэл. *Слабодны чалавек.* Старое Сяло Зэльв. *Учытэле ўсе летом ешчэ слободные.* Смаляніца Пруж. *Вечаром коні слабодны.* Вецярэвічы Пух. *Вечар слабодны быў.* Саланое Віл. 2. Слабкі. *Слабодная была рызінка.* Ёдлавічы Брасл.

СЛА′БШЫ, СЛА′ПШЫ, СЛА′ПШЫЙ *прым. выш.* 1. Сла-

бейшы. *Слапшы дужэйшага не ўходае.* Солы Смарг. 2. Бяднейшы. *Слапшэ гуспударэ буле.* Дзмітравічы Кам.

СЛА'БЫ' *прым.* 1. Нямоцны. *Слабая баба, чуць ходзіць.* Мярэцкія Глыб. *Я саўсім слабая.* Стральцы Гродз. *Слабы конь ня цягніць.* Ёдлавічы Брасл. *Слабы конь.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Знясілены хваробай. *Слабога чалавека прывезлі ў бальніцу.* Лоск Валож. *Слабы чалавек, ён умрэ.* Кіралі Шчуч. *Ён такі яшчэ слабы!* Малахоўцы Бар. *Слабы ён іщчэ посля хваробы.* Гемзы Шальч. 3. Слабы (пра сэрца). *Слабоя сэрца ўжо.* Лоск Валож., Дружба Мін. 4. Аслаблены (пра зрок). *Вочы слабыя.* Вялікія Нястанавічы Лаг. 5. Нямоцны. *Слабы мост.* Вецярэвічы Пух. 6. Кволы. *Лён слабы.* Дзераўное Стаўб. *Як пашоў дош, дак узяўся, а жыта было слабоя.* Руднае Кап. 7. Дрэнны па якасці (пра насенне). *Слабое семяно было.* Мсцібава Ваўк. 8. Нявопытны. *Я рабак слабы.* Ахрэмаўцы Брасл. 9. Дрэнна выкананы. *Слабая работа.* Альхоўка Навагр. ▽*Слабы, як цень на вадзе.* Пасека Ст.-Дар. ◇ *Галава слабая* — пра дрэнную памяць. *У мяне галава слабая.* Кудзялянцы Шальч. *Слабая моладасць* — невясёлая маладосць. *Слабая моладасць у мяне была.* Ахрэмаўцы Брасл. *Лясы слабыя* — у малой колькасці. *У нас лясы слабыя, далёка ад нас лес.* Магуны Паст.

СЛА'ВА *ж.* Слава. *Вот Ульяна добра была дзеўка, слава далёко была.* Стральцы Гродз. ▽*Шо баба, то й слава, а шо девка, то й прыпевка.* Сіманавічы Драг.

СЛАВЕ'ННЫ *прым.* Славуты. *Ён* [каваль] *быў славенны на ўвесь крух.* Ахрэмаўцы Брасл.

СЛАВІ'СТЫ *прым.* Слаісты. *Славістая сала: слой сала, слой мяса.* Мярэцкія Глыб.

СЛА'ВІЦЦА *незак.* Мець добрую славу. *Каваль быў, славіўся на ўвесь свет.* Ахрэмаўцы Брасл. *Яны на ўсе Дзёрнавічы славяцца.* Пярэкі В.-Дзв.

СЛА'ДАСЦЬ *ж.* Нектар. *Ззы-ззы — усё, носам убіўшыся ў цвет, смокчуць пчолы с цвіта сладасць.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

СЛА'ДЗЕНЬКІ *прым. памянш.* Салодзенькі. *Курачкі* [грыбы] *сладзенькія.* Солы Смарг.

СЛАЁК *м. памянш.* да с л о й II, 1. *Буду цеста раскачваць тоненькім слайком, кап болі тварагу пакласці.* Груздава Паст.

СЛАІ'СТЫ *прым.* Тое ж, што і с л а в і с т ы. *Слаістая саланіна.* Рыбчына Віл. *Сланіна са свіней слаістых.* Дакудава Лід.

СЛАНАВА'ТЫ *прым.* Саленаваты. *Сланаватую скварку з'ядуць.* Ёдлавічы Брасл.

СЛАНЕ'Ц *м.* 1. Вылежалы лён. *Сланец цяпер у калхозе ня мочуць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Сланец расцілалі — гэта нямочаны лён.* Кураполле Паст. *Каторы сланец* [лён], *то малацілі цэпам.* Чуркі Ашм. 2. у знач. *прысл. сланцом.* Сланнем (пра

лён). *Ціпер ня мочуць лён — толькі сланцом.* Пераброддзе Міёр.

СЛАНЕ'ЧНІК, СЛАНЭ'ЧНІК, СЛОНЭ'ЧНІК, СЛАНЕ'ШНІК, СЛАНЭ'ШНІК, СЛАНО'ШНІК *м. бат.* Сланечнік. *Куды сонца, туды і галава сланечніка.* Мярэцкія Глыб. *Аткуль тут сланечнік узяўся?* Беняконі Воран. *У сланечніка шчотка велька астаецца.* Навасёлкі Лід. *Сланэчнік ужо саспеў.* Ёдлавічы Брасл. *Сланэчнік расце, з яго алей.* Солы Смарг. *Палка сланэчніка і досьць, па-другому не завуць.* Старыя Трокі Трак. *Сланэчнікі каля хаты.* Лука Нараўк. *Слонэчнік я не люблю і не саджу.* Лайпушкі Ігн. *Нехто смэяцімэцца, шчо наша Таня ў кветкі ўсадзіла слонэчніка за кветку.* Смаляніца Пруж. *Палка ат сланешніка.* Рудня Астравітая Чэрв. *Кій сланешніка вялікі.* Беразіно Докш. *Кала ат сланэшніка вырвуць і выкінуць.* Малахоўцы Бар. *Сланэшніка пяць-шэсць каліў для дзяцей садзяць.* Гемзы Шальч. *У сланошніку галоўку скруцяць, а палку выкінуць.* Багушэвічы Бярэз.; *парaўн.* польск. *słonecznik* 'тж'.

СЛАНЕ'ЧНЫ *прым.* Сонечны. *Дзісяй сланечна пагода.* Крынкі Крын.

СЛАНІ'НА *ж.* 1. Свіное сала. *Сланіна ў свіні зверху, сала — унутраная.* Магуны Паст. *Сланіны паднясець.* Кемялішкі Астр. *Сала — унутранае, а так — сланіна.* Быстрыца Астр. *Сланіну скварaць.* Чуркі Ашм. *Мы хацелі сланіны здаць.* Плябанцы Ашм. *Сланіна ў магазіне ляжыць.* Гальшаны Ашм. *Мы завём нутраное сала, а гэта зверху — сланіна. Разразаяцца сланіна ўдоўш і яе ў яшчык, рэжуць на кавалкі.* Крэва Смарг. *Жырная — сланіна, любовая — шынка, паляндвіца. Лустачку сланіны аткрой!* Солы Смарг. *Сланіну раней падвешвалі.* Жодзішкі Смарг. *У карыці сланіну салілі і падвешвалі, як усоліцца — выбіралі. Сланіна — зверху, сала — у сярэдзіня. Цяпер сланіну складаюць у яшчык, раней вешалі.* Навасёлкі Лід. *Нясі на гору сланіну і кумпяке і павесь!* Кіралі Шчуч. *Так — сланіна, а як пячэш — скварка.* Старыя Смільгіні Воран. *Сланіны паткрышу і пяку.* Парэчча Гродз. *Сланіна з любівым мясам.* Каўняны Гродз. *Сланіна с прорасцямі.* Стральцы Гродз. *На сланіне не хачу жарыць.* Пацаўшчына Дзятл. *Кабан велькі быў, і сланіна ад яго клуста.* Галубы Маст. *Сланіну солім насуха — тыко соль, а на сос соліцца ў расоле.* Старыя Трокі Трак. *Ужо ўкормліны парсюк, трэба калоць на сланіну.* Ліпнікі Вільн. *У свірнах весілі сланіну.* Руднікі Шальч. *На гары сланіну вешалі.* Кудзялянцы Шальч. *Сланіна на чатыры пальцы.* Гемзы Шальч. *Сланіна тоўста.* Крынкі Крын. *Топка сланіна.* Номікі Бабіц.; *парaўн.* польск. *słonina* 'тж'. 2. Вялікі, доўгі кавалак сала. *С кабана шэсць сланін выходзіць і патчаровак.* Дакудава Лід.

СЛАНІ'НКА *ж. памянш.* да с л а н і н а 1. *Да калят сла-*

*нінку мелі.* Галавачы Гродз. *Дзядуль прынёс сланінку, хацеў паляц абвязаць, пакуль знашоў трапачку, сланінку кот з'еў.* Гемзы Шальч.

СЛАНО'ШНІК *гл.* СЛАНЕ'ЧНІК

СЛА'НЫ *дзеепрым.* Разасланы (пра лён). *Сланы лён — калі яго слалі.* Гемзы Шальч. *Сланы лён — сівы лён, мочаны — белы лён.* Лука Нараўк.

СЛАНЭ'ЧНІК, СЛАНЭ'ШНІК *гл.* СЛАНЕ'ЧНІК

СЛАНЯ'ЦЦА *незак.* Хістацца. *Так было цяшка, ішла і сланялася.* Магуны Паст. *Сланяяцца з боку на бок.* Старыя Смільгіні Воран.

СЛАПКІ' *гл.* СЛАБКІ'

СЛА'ПШЫ, СЛА'ПШЫЙ *гл.* СЛА'БШЫ

СЛА'СНЫ *прым.* Адхоністы. *Сласны берах і стоці, прамы такі.* Магуны Паст.; *параўн.* літ. *slẽsnas* 'тж'.

СЛАСТЫ' толькі *мн.* 1. Пастка. *Зрабіў сласты, і пацук улес.* Ёдлавічы Брасл. *Сыр палажыла ў сласты — і мыша папала ў сласты.* Малькуны Ігн. *Сласты — скрынка такая, мышы і шашкі ловяць.* Руднікі Шальч. 2. Ціскі. *Мы мелі сласты і гналі алей.* Быстрыца Астр. *Былі сласты на ґвінтах, ідзець алей і астаецца се́мяны.* Лайпушкі Ігн. 3. Прыстасаванне для сушкі травы. *Рабілі сласты з жэрдак, на сласты пошар лажылі — сохла скарэй.* Солы Смарг.; *параўн.* літ. *slãstai* 'тж'.

СЛАТА', СЛО'ТА *ж.* 1. Сырое надвор'е з дажджом і снегам. *Такая слата, мокры снех ляпаіць.* Магуны Паст. *Вясной слата ідзець, як згоніць снех.* Малі Астр. *Слата — снех, дошч.* Граўжышкі Ашм. *Слата — калі ідзе дошч і снех.* Жодзішкі Смарг. *А ні відзіш, сабаку ні выганіш на двор — такая слата. Слата дзісь. Слата — як снех ідзе, кажуць: «Алі ш і слата на дварэ!»* Жылі Іўеў. *Слата — калі снех і дошч ляпая, паскудна надворка.* Кудзялянцы Шальч. *Слата бывая, як мокры снех ляпаіць.* Лайпушкі Ігн. *Слота — сырая пагода. Як зімой снех мокры ідзець, то кажаць: «Вот сяння слота вялікая!»* Вузла Мядз. *Слота — снех мокры ідзе.* Бакшты Іўеў. *Слота — ідзе снех, дошч разам, мокрая надвор'я.* Жыдзевічы Іўеў. *Велька слота, нельга выйсці. Натта слота сходзіцца, німа як ісці.* Кіралі Шчуч. *Слота — такоя надвор'я: ідзе снех, дошч. Як адлігне, слота ідзе мяка.* Парэчча Гродз. *Як падая дошч, снех, то кажуць: «Ой, якая слота!»* Новікі Гродз. *Вот надвор'я — нейкая слота.* Данілавічы Дзярж. *Слота такая: то снех, то дошч. Слота надышла.* Руднікі Шальч. *На дворыэ слота, нэ хочэцце навэт выходіті.* Курашэва Чыж. 2. Імжа. *Слата — мыгла такая.* Солы Смарг. *Слота — мокро на дзеравах, вісят кроплі, туман.* Лука Нараўк. 3. *перан.* Насякомыя. *Слата напала, нападзець на сады, лісця пааб'ядаіць.* Рыбчына Віл. *Слаты етай наляцела — не адбаронісся.* Беразіно

Докш. *Слаты наляцела.* Шабунеўшчына Дзярж. *Я іх набіла гэтай слаты.* Ёдлавічы Брасл. 4. *перан.* Гурт (дзяцей). *На дзеці кажуць: «Во, слата ляціць!»* Кіралі Шчуч. 5. *перан.* Назола. *От слата гэтая дзетвара!* Рудня Чэрв. 6. *перан.* Чарада (птушак). *Слата ідзець есці. Панапускалі слатэ гэтае* [гусянят], *глядзі іх.* Кіралі Шчуч. ▽*Як слата, мокры снех ідзе.* Валынцы В.-Дзв. *Валіцца снех, як слата.* Мярэцкія Глыб. *Калі дош з ветрам прамочыць, ячмень, жыта ляжыць, як слата. Захварэіш ці што, кажаць: «Ляжыш, як слата».* Кураполле Паст. *Калі была вайна, людзі паміралі, як слата.* Валынцы В.-Дзв. *Быў такі голат, людзі падалі, як слата.* Мярэцкія Глыб. *Як слата, ляжом, так заморымся, што чуць жывыя.* Ахрэмаўцы Брасл. *Меў васемнаццаць дзяцей, дзеці, як слата, многа.* Чычалі Швянч. *Цяляты ляглі, як слата. Свіні ляжаць, як слата.* Лайпушкі Ігн. *Патравіла мухаў, ляжала іх, як слата.* Ёдлавічы Брасл. *Жаніхі чапіліся, як слата.* Ухвала Круп. *Прыстаў, як слата.* Семежава Кап. *Прычапілася да мяне, як слата.* Тухавічы Лях. *Прывязаўся, як слата, а што такоя, ні знаю, так гаворадь. Камарэ напалі — чысто слата.* Стральцы Гродз. *Лезе, як слата, у вочы.* Масілавічы Сл. *Прычапілася, як слата.* Галубы Маст. *Наляцела ґруґаноў, як слаты.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Паляцела варон многа, як слата. Напалі, як слата, свінні на бульбу.* Жылі Іўеў. *Сарока прыляцела — будзя слата, як яна каля будовы круціцца, а як ляціць у лес — будзя пагода.* Старыя Смільгіні Воран. *Слота будзіць — сарока прыляцела.* Вузла Мядз. *Сарокі прыляцелі — будзя слота.* Лоск Валож. ◇ *Лесці слатою* — прыставаць, чапляцца. *Чаго лезіш слатою!* Малахоўцы Бар. *Ісці слатою* — ляцець у вялікай колькасці. *Пшчолы гудзяць перат дажджом, ідуць слатою, адна за адной валяць.* Магуны Паст.; *параўн.* польск. *słota* 'непагода'.

СЛА'ЎНЫ *прым.* Прыемны, харошы. *Такая слаўная настаўніца была, слаўная, добрая.* Ахрэмаўцы Брасл. *Слаўныя рабяткі, тоўсцінькіі.* Валынцы В.-Дзв.

СЛА'ЦЦА *незак.* 1. Расці, рассцілаючыся па зямлі. *Зёлкі парушэнец сцелецца па зямлі.* Гальшаны Ашм. *Гэта* [трава] *стоць расцець, а гэта лёжа сцеліцца.* Кураполле Паст. *Муроўка сцеліцца па зямлі.* Хатынічы Ганц. 2. Сцяліць (пасцель). *Ён сам слоўся.* Дакудава Лід. 3. Класці ў рад снапы для абмалоту. *Пасат сцеліцца ў два рады на таку.* Лісна В.-Дзв.

СЛА'ЦЬ, СЛА'ТЭ *незак.* 1. Рассцілаць. *У вадзічку мачылі палатно і на расу слалі.* Валынцы В.-Дзв. *Вымакніць лён, а тады сцелюць.* Буды В.-Дзв. *Сцелюць лён палосачкамі па зямлі.* Пярэкі В.-Дзв. *Слалі лён на лонца.* Малі Астр. *Сцелім лён на мураве.* Бакшты Іўеў. *Лён слалі на папары, на балоці.* Навасёлкі Лід. *Сцелім лён.* Беняконі Воран., Дзераўное Стаўб. *Вязуць куле на поплава і сцелюць лён.* Кіралі Шчуч. *Лён*

*слалі на полі.* Новыя Мацалі Варэн. *Тэраз слалі лён на лонку.* Грыкені Вільн. *Лён вытягают і вызут слатэ.* Дзмітравічы Кам. *Сцелюць салому, штоп роўненька было.* Гемзы Шальч. 2. Тое ж, што і с л а́ ц ц а 2. *Мама сцеле мне пасцель.* Кухты Віл. *Там яна сцеля лошка.* Завельцы Астр. 3. Падсцілаць. *Сцялі пат свіня!* Паляцкішкі Воран. 4. Масціць. *Ён масты слаў і на Берлін хадзіў.* Вялікае Сяло В.-Дзв. *Падлогу на бальki сцелюць.* Збляны Лід. 5. Пасылаць. *Будзя слаць яму валенкі.* Лоск Валож. ◇ *Лістом слаць* — ліслівіць, угоднічаць. *Ён с чужымі лістом сцеліць.* Ёдлавічы Брасл.

СЛЕД, СЛЕТ *м.* След. *Бапскія слядэ ле хаты.* Парэчча Гродз. *Ступіў адзін слет.* Міратычы Карэл. *Сляды яе* [дзяўчынкі]. *Па слядох знайшоў яе.* Лоск Валож. *Рабілі сцешку слядамі.* Стральцы Гродз. *Ідзець карова і сляды нюхае, для тога мае такі вонх.* Завельцы Астр. ▽*Будзеш ты мае сляды цалаваць!* Валеўка Навагр.

СЛЕ'ДАМ *прысл.* Услед. *Сабака следам за табой пашоў.* Валынцы В.-Дзв.

СЛЕДЗІ'ЦЬ *гл.* СЛЯДЗІ'ЦЬ

СЛЕ'ДСТВА, СЛЕ'ЦТВА *н.* Вызнанне. *Следства было тут.* Чапаеўскі В.-Дзв. *Кончылася слецтва, мяне апраўдалі.* Гальшаны Ашм. *Другая нядзеля ідзець слецтва.* Пераброддзе Міёр.; *парайн.* руск. *следствие* 'тж'.

СЛЕДЫ'ТЫ *гл.* СЛЯДЗІ'ЦЬ

СЛЕЗ, СЛЕДЗЬ *м.*, СЛЕ'ДЗІ *мн.* Селядзец. *Слёза купыв. Порізаный слез лыжыть на полумыскові.* Сіманавічы Драг. *Следзя купів в склепі.* Курашэва Чыж. *Следзі купляла.* Вялікія Баяры Шчуч. *Следзі елі, як пасцілі, следзі бочкамі куплялі.* Парэчча Гродз. *Следзі з бочкі прадавалі. Следзяў купіла.* Альба Нясв. *Ляк ат следзяў.* Лука Нараўк.; *парайн.* польск. *śledź* 'тж'.

СЛЕЙСА'К *м.* Слясак. *У клямцы націскаем пальцам на слейсак, ён падымая клямку.* Кіралі Шчуч.

СЛЕ'КАЦЬ *ж.* Тое ж, што і с л а т а́ 1. *Слекаць такая!* Баброўнікі Гарад.

СЛЕПАВА'ТЫ, СЛІПОВА'ТЫ *прым.* Які мае слабы зрок. *Стары глухі і слепаваты.* Ахрэмаўцы Брасл. *Наш конь, мусіт, сліповаты, нэ бачыт, куды ідэ.* Курашэва Чыж.

СЛЕПА'К I *гл.* СЛЯПА'К

СЛЕПА'К II *м. бат.* Глухая крапіва. *Па краях жыта ў нас расце слепак.* Завельцы Астр.

СЛЕПАТА' I *ж. бат.* Казялец. *Напхні гэтай слепаты, гэта баявая слепата ад зубоў і каросты.* Кіралі Шчуч.

СЛЕПАТА' II *ж. перан.* Неадукаванасць. *Дайней слепата была.* Дэгшні Шальч.

СЛЕПАТНЕ' *мн.* Лясныя пчолы. *Слепатне — пчолы, якія жывуць у дуплах.* Дзяніскавічы Ганц.

СЛЕПЕ′НЬ *м. заал.* Вераценніца, якую ў некаторых мясцовасцях памылкова лічаць ядавітай змяёй. *Слепень як укусіць, то смерць, едавіты ён.* Валынцы В.-Дзв.

СЛЕ′ПЕТ *м.* Тое ж, што і с л е п а т а́ І. *Слепет расце, кветкі жоўтыя, памагая ад зубоў.* Кіралі Шчуч.

СЛЕ′ПКА *ж.* Газніца. *Слепку запаліш, бывала, ды сядзіш.* Рудня Астравітая Чэрв.

СЛЕ′ПНУЦЬ *незак.* 1. Рабіцца сляпым. *Калтун бывая ў вачах — слепне чалавек.* Малі Астр. 2. Страчваць зрок. *Цяперака маладыя слепнуць, бяз ачкоў ня чытая.* Слабада Мін.

СЛЕ′ПЦАМ у знач. *прысл.* ◊ *Слепцам лесці* — назойліва лезці. *Слепцам лезе пат карову, не адагнаць* [авечку]. Жылі Іўеў.

СЛЕ′ПЫ *прым.* Сляпы. *Я слепа і глуха.* Пасіене Лудз.

СЛЕПЭНЬДЯ′ *гл.* СЛЯПАНДЗЯ′

СЛЕ′СКО *прысл.* Слізка. *Хлопчык упав, слеско было.* Дзмітравічы Кам.

СЛЕТ *гл.* СЛЕД

СЛЕ′ЦТВА *гл.* СЛЕ′ДСТВА

СЛЁГІ *мн.* Лагі. *Слёгі падкладаюць пад броўны, яны слізкія і па іх ідуць броўны.* Лісна В.-Дзв.; *парайн.* літ. slẽgos 'тж'.

СЛЁЗАЧКА *ж. памянш.* да *с л я з а́*. ◊ *Слёзачку глынуць* — перажыць непрыемнасць, абіду. *Усяк прыходзіцца, бывае, і слёзачку нада глынуць.* Саланое Віл.

СЛЁЗКІ, СЛЁСКІ толькі *мн. бат.* Дрыжнік. *Слёскі бяз вады стаяць, зімой яны такія ш.* Альхоўка Навагр.

СЛЁЗКІ (СЛЁСКІ) АВЕ′ЧЫЯ толькі *мн. бат.* Сачавіца. *Слёскі авечыя — так называлі сачоўку.* Мсцібава Ваўк.

СЛЁПНУТІ *незак.* Тое ж, што і с л е́ п н у ц ь 2. *Начынаю слёпнуті, бэз очкуов газэты нэ прочытаю.* Курашэва **Чыж.**

СЛЁСАР *м.* Слесар. *Слёсарам робіць.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

СЛЁТА *ж.* Тое ж, што і с л а т а́ 1. *Слёта сягання, снех праходзіць і растаець.* Саланое Віл. *Як ідзець снех, дош, то кажаць: «Слёта на дварэ, не паймеш, якая пагода».* Вузла Мядз. *Слёта — снех з дажджом.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

СЛІБІЗАВА′ЦЬ, СЛЯБІЗАВА′ЦЬ *незак.* Чытаць па складах. *Слібізуіць — буквы складаіць і чытаіць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Чытаць ня ўмея, слібізуя.* Быстрыца Астр. *Бывала, пойдзеш у каравул, возьмеш карандашык, цятрадь, букварык і слібізуеш памаленьку.* Грабенка Чэрв. *Ні трэба слібізаваць, чытай так. Як ты чытаеш?— слібізуеш!* Кіралі Шчуч. *Слібізаваць — хто не ўмее чытаць, слогамі складае і так чытае.* Мсцібава Ваўк. *Слібізуе — па складам чытае.* Галубы Маст. *Слібізуе, як сляпы, усе адно.* Пацаўшчына Дзятл. *Слябіза-*

*ваць — чытая па буквах, медлена чытаць.* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *sylabizować* 'тж'.

СЛІ'БІЗАМ *прысл.* Па складах (чытаць). *Слібізам чытаіць, буквы складаіць.* Ахрэмаўцы Брасл.

СЛІ'ВЯНЬ, СЛІ'ВЕНЬ *м.* Тое ж, што і с л е п е́ н ь. *Слівянь як укусіць чалавека, то памрэ* [чалавек]. Альхоўцы Лях. *Слівянь бліщчусты.* Альхоўка Навагр. *Не адлечаваюць ад укусу сліўня.* Рудня Астравітая Чэрв. *Як лес садзілі, забілі сліўня, ён такі чорны.* Пацаўшчына Дзятл. *Слівень як укусіць — памрэш.* Вузла Мядз.

СЛІ'ГА *ж. плыт.* 1. Вясло. *Сліга — вялікая жэрдка. Слігамі ўпраўляюць плытамі.* Сапоцкіна Гродз. 2. Падваліна. *Слігі нада палажыць.* Лісна В.-Дзв. *Слігі клалі пад мост.* Янова Рас.

СЛІ'ДЗІКІ *мн. кулін. памянш.* Піражкі. *Слідзікі на куцю пяклі.* Ахрэмаўцы Брасл.

СЛІЖ І, СЛІШ *м.* Брус, якім замацоўваюць насціл моста. *Паклаў адзін сліш. Кладуць сліжы, як мост робяць, — прадольныя палены паверх досак.* Рыбчына Віл. *Бэлькі ў мосце называліся сліжы. Пры краю моста сліжы. Накладваюцца на бэлькі сліжы.* Дакудава Лід.

СЛІЖ ІІ, СЛІШ, СЛІС *м. заал.* 1. Галец. *Сліш — рыпка нібальшая.* Чуркі Ашм. *Сліжы ёсць, сліжы невялікія.* Івашкаўцы Смарг. *Сліс — рыпка такая.* Стральцы Гродз. *Сліс — рыба нападобіі піскура.* Малахоўцы Бар. 2. Малюскі. *Сліжэ бліска вадэ жывуць у шкарупах вялікіх.* Новікі Гродз. ∇*І на чалавека гавораць: «Круглы, як сліш».* Івашкаўцы Смарг.; *парайн.* літ. *sližỹs* 'галец'.

СЛІЖАКІ' *мн. буд.* 1. Тое ж, што і с л ё г і. *Сліжакі — сыроя дзерава, здзёртая кара, мокрая, слізкая, яго падкладаюць і пераганяюць будынак на другоя мейсца.* Старыя Смільгіні Воран. 2. Апорны палазок у сасе. *Як ішоў казяін араць, падкладаў пат соху сліжакі, кап саха не драла зямлю.* Старыя Смільгіні Воран.

СЛІЖЫ' І *мн.* Тое ж, што і с л ё г і. *Трэба сліжы падлажыць, на сліжах паткачываюць дзерава.* Саланое Віл.

СЛІЖЫ' ІІ *мн. кулін.* 1. Клёцкі. *Сліжы варылі на куцю з грачыснай мукі: качаяць доўгенькія, кінуць у вар, потым аццэдзяць, мак патруць, засалодзяць і ўльюць у сліжы і ядуць.* Солы Смарг. 2. Тое ж, што і с л і д з і к і. *Сліжы пяклі на куцю, у мак укачаіш.* Чуркі Ашм. *Сліжы з макам, з грыбамі рабілі.* Гемзы Шальч.

СЛІ'ЖЫК *м. памянш.* да с л і ж ы ІІ, 1. *Сліжык маленячкі.* Жодзішкі Смарг. *Сліжык — рыпка такая.* Чычалі Швянч.

СЛІ'ЖЫКІ *мн.* 1. *памянш.* да с л і ж ы́ ІІ, 1. *Сліжыкі рабілі: качалі цеста, варылі і аццэдзяць, і з макам, і з цукрам елі.* Каўняны Гродз. 2. Тое ж, што і с л і д з і к і. *Рабілі слі-*

*жыкі пшоныя.* Кураполле Паст. *Сліжыкі рабілі так: таўчэцца бульба і дабаўляецца пшонная мука, цеста зробіць, раскатаваяцца на тонкі ліст, рэжыцца на квадрацікі, пячэцца на патэльні; хто есь з маслам, хто заліваець лоям і ставіць у печ у гарачую. Сліжыкі можна рабіць кожны дзень, але пяклі іх толькі зімой, можа, таму, што вазні досыць.* Груздава Паст. *Напяклі сліжыкаў. Сліжыкі з вадой салоткай ядуць.* Жылі Іўеў. *Сліжыкі пяклі і з грыбамі ў сярэдзіне, і з варэннем.* Старыя Смільгіні Воран.

СЛІЖЭ'Й *прысл. выш.* Больш слізка. *Кап у ботах на каўзель! Сліжэй у ботах.* Семежава Кап.

СЛІЖЭ'ЙШЫ *прым. выш.* Больш мылкі. *Усыплю парашка, кап сліжэйшая вада была.* Саланое Віл.

СЛІЖЮ'К *м.* Тое ж, што і с л і ж II, 1. *Сліжюк — рыба ёсь такая.* Чычалі Швянч.; *параўн.* літ. *sližiukas* 'тж'.

СЛІЗА'К *м.* Лядзяк. *Атарвалі ад страхі слізак, а яна кажыць кінжал.* Вузла Мядз.

СЛІЗАТА' *ж.* Слізгота. *Слізата была такая, паваліласея і нагу зламала.* Малі Астр. *Едзя ён на раніцу, была слізата, ні мох раптам стаць і перакуліў машыну.* Крэва Смарг. *Алі ш і слізата, німожна выйсці!* Жылі Іўеў. *Слізата на вуліцы!* Завельцы Астр.

СЛІЗҐАВІ'ЦА, СЛІЗҐАВІ'ЦЯ *ж.* Тое ж, што і с л і з а т а́. *Слізґавіца на гуліцы.* Лука Нараўк. *Такая слізґавіця, повэду коня коваті, бо нэ кованым нікуды нэ выдэш.* Курашэва Чыж.

СЛІЗҐА'ЎКА *ж.* Каток. *Слізґаўка там, слізґаюцца дзеці.* Старыя Смільгіні Воран. *Зрабілі слізґаўку і слізґаюцца дзеці. Пашлі слізґацца на слізґаўку.* Гемзы Шальч. *Робяць слізґаўку і коўзаюцца дзеці.* Баброўнікі Гарад.; *параўн.* польск. *ślizgawka* 'тж'.

СЛІЗҐА'ЦЦА, СЛІЗГА'ЦЦА *незак.* 1. Коўзацца. *Пойдзім, будзім слізґацца.* Ёдлавічы Брасл. *Слізґаюцца па ляду.* Малькуны Ігн. *Слізгаецца, лётае на каньках.* Мярэцкія Глыб. *Слізгаюцца дзеці, не набярэсся ботаў.* Беразіно Докш. 2. Слізгацца. *Ногі слізґаюцца, не магу ісці.* Жодзішкі Смарг.

СЛІЗГО'ТА *ж.* Тое ж, што і с л і з а т а́. *Слізгота на вуліцы, коўзаніна такая.* Малахоўцы Бар. *У такую слізготу поехаў!* Сялец Бяроз.

СЛІ'ЗЕНЬ *м.* Тое ж, што і с л е п е́ н ь. *Прывязлі слізня с сенам, бліскушчы такі.* Рыбчына Віл.

СЛІ'ЗІК *м. памянш.* Тое ж, што і с л і ж II, 1. *Слізік — праўдзівая рыпка, з вусікамі.* Гемзы Шальч. *Слізікі — маленька рыба.* Дэгшні Шальч.

СЛІ'ЗІКІ *мн.* 1. Тое ж, што і с л і́ д з і к і. *Слізікі на куцю пяклі с пшонай мукі, раскатывалі на квадрацікі, рэзалі і пяклі.* Старыя Трокі Трак. *Слізікі пяклі с цеста булачнага, што на булкі, с слаткай вадой елі на куцю.* Рагулішкі Даўг.

2. Варэнікі. *Слізікі варым з грыбамі, у сярэдзіну закручваем, пузне абліваем алеем, і з макам рабілі слізікі.* Мсцібава Ваўк. 3. Крухмальныя локшыны. *Слізікі пяклі з крухмалю.* Рудня Астравітая Чэрв. *Слізікі пяклі з крухмалю: разбаўтуеш крухмал, яечка б'еш і развядзеш малаком, блінчыкі спячэш, крышыш іх, у чыгунок утапуеш, у малако кідаеш і ясі.* Азяраны Раг.

СЛІЗІНА' *ж.* Сляза. *Слізіна адна ўпала.* Асавец Віл.

СЛІ'ЗІНЬКІ *прым. памянш.* да слізкі 2. *Лугам зальеш кросны, яны слізінькія робюцца, тады прайнікам пярыш.* Саланое Віл.

СЛІЗІ'ЦЬ *незак.* Сачыцца, мокнуць (пра рану). *Рана слізіць, доўго не зажывае.* Баброўнікі Гарад.

СЛІ'ЗКА, СЛІ'СКА *прысл. перан.* Хутка. *Санкі сліска ідуць марозам.* Старыя Смільгіні Воран.

СЛІ'ЗКІ', СЛІ'СКІ' *прым.* 1. Коўзкі. *Такая сліская дарога, ехаць баімся.* Рыбчына Віл. *Сліская дарога.* Жодзішкі Смарг., Гемзы Шальч., Стральцы Гродз. *Дарога слiскáя, мы валімся.* Ёдлавічы Брасл. *Слiскáя дарога.* Магуны Паст. *Дарога слiскáя стала.* Мярэцкія Глыб. *Лядок быў дýжа слiскі.* Рагулішкі Даўг. *Таўчэш калапенькі ў ступя, слiскія зробюцца, што выступіць алей, яго выбірыш і вымісіш, у рукі возьміш і цісніш, ён кап-кап-кап.* Саланое Віл. *Сяменя ёсць, яно слiскоя.* Малі Астр. 2. Мылкі. *Лух рабілі: сыпіцца попел і робіцца сліская вада.* Канюкай Вільн. 3. Цягучы. *Сліская плесень.* Малі Астр.; *параўн.* польск. *śliski* 'тж'.

СЛІЗО'ТА *ж.* Тое ж, што і слізатá. *Слізота, як лёт на дварэ.* Старыя Трокі Трак.

СЛІ'ЗЯНЬ *м.* Тое ж, што і слепéнь. *Слізянь — гуш, яду многа.* Асавец Віл.

СЛІМА'К, СЛЯМА'К *м. заал.* 1. Слізняк. *Слімак паўзе. На грыбах сідзяць слімакі.* Ахрэмаўцы Брасл., Вялікія Баяры Шчуч. *Слімак з рагамі.* Магуны Паст. *Слімак на грыбах бывая.* Солы Смарг. *Слімак на грыбе сядзіць.* Навасёлкі Лід. *Слімак чуць ні на каждым грыбе. Слімакоў да чорта!* Гемзы Шальч. *Слімакі бываюць на грыбах.* Дакудава Лід. *Слямак на грыбах бываіць, грыбы абгрызаіць.* Рагулішкі Даўг. *Слямак паўзе.* Ракаўскія Швянч.; *параўн.* польск. *ślimak* 'тж'. 2. Вустрыца. *Паны слімакі елі.* Ахрэмаўцы Брасл. 3. *перан.* Зубы на барабане ў малацілцы. *Слімакі цягнуць салому — зупкі, перадача такая.* Чуркі Ашм.

СЛІМА'ЦЬ *незак.* Слініць. ▽ *На коляды не прадзі — будуць валы слімаць.* Старыя Смільгіні Воран.

СЛІМЕ'НЬ, СЛІ'МЯНЬ *м.* Тое ж, што і слепéнь. *Слімень бліскучы-бліскучы.* Саланое Віл. *Слімянь кусая людзей.* Буда Уздз.

СЛІ'НА, СЛІ'НЯ *ж.* Сліна. *Сліна цячэць.* Магуны Паст.

*Сліна ліецца з роту.* Саланое Віл. *Сліна цячэ ат кіслага.* Солы Смарг. *Сліна цячэ з губы.* Кіралі Шчуч. *Вытры сліну!* Жылі Іўеў. *Сліна цячэ, ён такі паганы чалавек.* Парэчча Гродз. *Сліну гоніць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Сліна цячэ з рота.* Міратычы Карэл. *Конь упоцеў: цяшко бехці, сліна такая цячэ, шум на боках.* Хатынічы Ганц. *Сліна із рота цячэ.* Дзяніскавічы Ганц. *Слінай плюе.* Альхоўцы Лях. *Сліня цячэ.* Лука Нараўк. ◊ *Што сліна на язык прынэсла* — гаварыць недарэчнае. *Была злуосна і говорыла, што сліна на язык прынэсла, а послі то кроху шкодовала.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *ślina* 'тж'.

СЛІНІ'ЦЦА, СЛІНІ'ТІСЕ *незак.* Цячы (пра сліну). *Слінка сліліцца.* Магуны Паст. *Як собака отравівсе, то носом слінітісе, а послі здох.* Курашэва Чыж.

СЛІНІ'ЦЬ *незак.* 1. Тое ж, што і с л і н í ц ц а. *Карова сліліць, сліна цячэ.* Номікі Бабіц. 2. Пэцкаць слінай. *Дітя слініт кафтаніка.* Курашэва Чыж.

СЛІ'НКА *ж. памянш.* да с л í н а. *Слінка цячэ.* Магуны Паст.

СЛІ'НЯ *гл.* СЛІ'НА

СЛІПА'К *гл.* СЛЯПА'К

СЛІПОВА'ТЫ *гл.* СЛЕПАВА'ТЫ

СЛІПЭ'Й *гл.* СЛЯПЫ'

СЛІС I *м. буд.* Падоўжнае бервяно, за якое чапляюцца кроквы ў гаспадарчым будынку. *Сліс накладаецца на слупы, а на сліс ключэ чапляліся.* Мсцібава Ваўк.

СЛІС II *гл.* СЛІЖ II

СЛІСА'К *гл.* СЛЯСА'К

СЛІ'СКА *гл.* СЛІ'ЗКА

СЛІ'СКІ' *гл.* СЛІ'ЗКІ'

СЛІЎКО'ВЫ *прым.* Слівавы. *Сліўкова канфета.* Паляцкішкі Воран.

СЛІ'ЎНІК *м.* Сліўняк. *Глядзі, сколькі сліўніку! Гэта ў цябе сліўнік расцець?* Вялікае Сяло В.-Дзв.

СЛІШ *гл.* СЛІЖ I, II

СЛІ'ШЧА *н. с.-г.* Сцелішча. *Лён слалі на слішчы.* Янова Рас. *На слішчы пасвілі, як падымуць лён.* Рудня Астравітая Чэрв. *Лён сцелюць на слішчы.* Рудня Чэрв. *На слішчы слалі лён.* Мачаск Бярэз.

СЛІЯ'ННЕ КРО'ВІ *н.* Кровазліццё. *У яго было сліянне крові, адабрала мову, стала крывіць.* Пацаўшчына Дзятл.; *парайн.* руск. *кровоизлияние* 'тж'.

СЛО'ВА, СЛО'ВО *н.* і *ж.* Слова. *Слова такое чуў.* Саланое Віл. *Однэ слово прочытаці.* Смаляніца Пруж. *Гэта быўшы такая слова. Чула гэту слову. Ёсць такая слова.* Малькуны Ігн. *Ён такія славы гаворыць. Благіх славоў ні гаварыў.* Саланое Віл. ∇ *Камнем паб'еш, а словам уб'еш чалавека.* Ахрэ-

маўцы Брасл. *Слова — ні ў плот, ні ў гарот*. Кураполле Паст. *Слова — ня пціца: пціцу ўловіш, а слова — не. Слова — не верабей: выпусціўшы — не дагнаць. Выпусціў слова, то яго ўжо ня зловіш*. Вузла Мядз. *Слова па слову — і павадзіліся*. Малі Астр. *Скажы слова, а вырасця сто*. Вецярэвічы Пух. ◊ *Ня ў куст слова ўкінуць* — трапна сказаць. *Вот сказала, ня ў куст слова ўкінула! Словамі ўбіць* — прычыніць пакуты каму-н. *Я славамі яго ўб'ю*. Кураполле Паст. *Гаварыць, як славамі ліць* — звязна, плаўна. *Ён гавора, як славамі л'е. Слова не жуе* — пра чалавека, які можа трапна сказаць. *Ён слоў не жуе*. Граўжышкі Ашм. *Слова выцягнуць* — дабіцца адказу. *З яго слова выцягнуць цяшка*. *Слова гакнуць* — сказаць грубае слова. *Еслі што стану гаварыць, ён слова гакня на мяне. За словам у карман не палезці* — быць знаходлівым. *За словам у карман не палезу. Сыпяцца словы* — гаварыць хутка і многа. *Як станяш ругацца, у мяне, як градам, сыпяцца словы*. Малі Астр. *Гаварыць у адно слова* — гаварыць аднолькава. *Не ўсе гавораць у адно слова*. Парэчча Гродз. *Словы набраць* — запісаць. *Славоў дурных набралі*. Дакудава Лід. *На слові стаяць* — выканаць абяцанне. *На слові далжны стаяць*. Рагулішкі Даўг.

СЛО'ВІК *м*. Слоік. *Словік разбіўся. Словікі стаяць*. Гемзы Шальч.

СЛО'ВІЧАК *м. памянш*. да с л о́ в і к. *Які словічак тут ставіць?* Дзераўное Стаўб.

СЛОВЦЭ' *н. памянш*. да с л о́ в а. ▽ *Скажы словцэ, то выростэ сылцэ*. Сіманавічы Драг.

СЛО'ДЫЧ *ж*. 1. Салодкасць. *Слодычы мала, нада цукру дабавіць*. Лоск Валож. *Квас слодыч мае*. Крэва Смарг. 2. Кандытарскія вырабы. *Я слодычу не магу есці*. Каўняны Гродз. *Кап рабіла ў магазіне, так ела п адну слодыч*. Крэва Смарг; *парайн*. польск. *słodycz* 'тж'.

СЛО'ІК, СЛО'ЯК *м*. Тое ж, што і с л о́ в і к. *У слоік малако зліваіць*. Ёдлавічы Брасл. *Бяры малако, стаіць у слоіку на пліце*. Груздава Паст. *Дачка слоік смятаны прывязла*. Вузла Мядз. *У слоіку малако*. Стральцы Гродз. *Рашчынкі астаеца, у слоік кладзём*. Масішкі Красл. *Гліняны слоік быў для масла*. Крэва Смарг. *Быў слоік гліняны прамы*. Навасёлкі Лід. *Слоік літровы*. Рудня Чэрв. *Слоікі шкляныя па тры літры, ёсць па два літры, па літру. Былі гліняныя слоікі з дзвюма ручкамі, мёт злівалі*. Кіралі Шчуч. *Слоікі з двама ручкамі, смятану сюды скідалі*. Дакудава Лід. *Слоікі паабмывала*. Альхоўка Навагр. *М'ёду наліла ў слоік*. Пасека Ст.-Дар. *Слояк разбілі*. Рыбчына Віл. *Многа слойкаў*. Мярэцкія Глыб. ▽ *Што за буракі, як слоікі!* Жодзішкі Смарг.; *парайн*. польск. *słoik* 'тж'.

СЛО'ІЧАК *м. памянш. да* с л о́ і к. *Два слоічкі стаяць*.

Груздава Паст. *Яечка дай, капчоначкі, масла па слоічку.* Валеўка Навагр.

СЛОЙ I *м.* Тое ж, што і с л о́ в і к. *Слой вялікі гліняны, быў і меншанькі слой. Мёт у слаі налівалі.* Магуны Паст. *Гліняны слой быў, у ём масла складвалі на зіму.* Мсцібава Ваўк.

СЛОЙ II *м.* 1. Пласт. *Патаргуям* [патаркуем] *картошкі, як на бліны, сяменя на слой картошкі і накрыям слоям і пячом бонды. Сланіна слоямі.* Старыя Смільгіні Воран. *На варэнні з'явіўся такі таўсты слой, чуць ні ў два пальца — грыбок.* Слабада Мін. *Слой сала, слой мяса.* Рагулішкі Даўг. 2. Гадавыя кругі ў дрэве. *На дрэве слаі. Многа гадоў — многа слаёў.* Ністанішкі Смарг.

СЛОЙ III *м.* Сувой. *Слой скаціла палатна.* Вецярэвічы Пух.

СЛО'ЙНЕЙКО *н. памянш.-ласк.* да с л о́ н ц а. *Слойнейко заглядая да нас.* Мсцібава Ваўк.

СЛО'КСНЯ, СЛО'КШНЯ *ж.* Лубяное валакно. *Слоксня доўгая. С слоксняў плятуць сявенькі.* Беняконі Воран. *Слоксняў надраў і сявенькі плёў.* Старыя Смільгіні Воран. *Слокшняй звязаў. Слокшні абдзіраюць з ліпы.* Руднікі Шальч.; *'парайн.* літ. *slúoksna* 'тж'.

СЛО'КШЫНА, СЛО'КШЫНЯ *ж.* Тое ж, што і с л о́ к с н я. *Плялі карлуп* [кораб]: *салому пераплятала слокшынай ляшчынавай і сасновай. Надраў слокшыны сявеньку рабіць, шаснастку рабіць. Слокшыны з ляшчыны дралі.* Старыя Смільгіні Воран. *З арэшын выдзіраюць слокшыны, сявенька с слокшын зроблена.* Бакшты Іўеў. *Каропка, плеценая с слокшыны.* Жылі Іўеў. *Слокшыну апчышчу нажом. Слокшыны высахнуць і ломяцца.* Гемзы Шальч. *З гарэшыны рабілі слокшыны і плялі сявенькі. Дзяруць слокшыны доўгія. Венікі, памяло вязалі слокшынамі.* Альхоўка Навагр. *Слокшыны вышморгваюць з ляшчыны, выдзіраяць, як паляц шырыні.* Кудзялянцы Шальч. *Сявенькі плялі с слокшыняў лешчыновых.* Руднікі Шальч.; *парайн.* літ. *slúoksna* 'тж'.

СЛОН I *м.* Услон. *Сяць на слон, усім места хваціць. Слоны былі шырокія.* Малахоўцы Бар. *Слон называўся дліны, а маленькі — слонік.* Мыто Лід. *Слон нядоўгі, лавы былі мэтраў шэсць.* Збляны Лід. *Порця лугам залівалі, а потым пранікам пярылі на слоня. Вунь слон стаіць, сяць!* Стральцы Гродз. *Для сядзення робяць слон на чатэры ношкі, на яго сядаюць.* Вострава Маст. *Сяць на слон!* Масілавічы Сл. *Сядзьмо на аднаго слана.* Кнышэвічы Бабіц. *Сланы — лаўкі, якія на ношках.* Рудня Астравітая Чэрв. *Слонаў у нас нет, дзелалі зэдлікі.* Міратычы Карэл. *Сяцце на слоне і выпіце чай!* Баброўнікі Гарад.

СЛОН II *м.* Тое ж, што і с л а н е́ ч н і к. *Слон расцець*

*на гародзе. Ат слону шкарлуп'я.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

СЛО'НАК *м. памянш.* да слон I. *На слонку люблю седзець.* Крынкі Крын.

СЛО'НАСЦЬ *ж.* Салёнасць. *Перамыў грыбы, слонасці няма.* Старыя Смільгіні Воран.

СЛО'НЕЙКА *н. памянш.-ласк.* да с л о́ н ц а. *С утра пагода, слонейка выказалася.* Магуны Паст. *Слонейка патскочыла — слонца на прызбе. Ужо і слонейка качаргой можна дастаць — ніска села.* Гальшаны Ашм. *Слонейка свеціць.* Ністанішкі Смарг. *Тут і там агравая слонейка.* Кудзялянцы Шальч.

СЛО'НЕЧКО, СЛО'НАЧКО *н. памянш.-ласк.* да с л о́ н ц а. *Сходзіць слонечко.* Вострава Маст. *Як цяпло, слоначко грэя, то пасяджу на дварэ.* Новікі Гродз.; *парайн.* польск. *słoneczko* 'тж'.

СЛО'НІК *м. памянш.* да с л о н I. *Слонікі маленькія, слонік — невялікі слон.* Мыто Лід.

СЛО'НКА *ж. бат.* Сорт бульбы. *Слонка — то пазнейша картошка, чырвона, прадаўгавата.* Баброўнікі Гарад.

СЛО'НКО *н. памянш.-ласк.* да с л о́ н ц а. *Як слонко ўстане, тагдэ ідуць на работу.* Васілевічы Гродз. *Слонко нам грэе ў плечы.* Крынкі Крын. *Слонко свеціць.* Каменка Стара Сакол.

СЛО'НЦА *н.* і *ж.*, СЛО'НЦО, СЛО'НЬЦА *н.* Сонца. *Я пасяджу на слонцы.* Кемялішкі Астр. *Цырту* [рыбу] *сушым на слонцы.* Быстрыца Астр. *Слонца пячэць. У нас праз зіму так граска, ні слонца няма.* Магуны Паст. *Да слонца ўстала, тоясёя парабіла.* Груздава Паст. *Калі слонца ўсходзя, ня відзіў.* Малі Астр. *Слонца паліць, дошч трэба.* Гальшаны Ашм. *Слонца ў хмарах.* Жодзішкі Смарг. *Слонца высока.* Солы Смарг. *Слонца ўжо ўзышоўшы. Слонца ні награець. Ужо слонца ніска.* Ністанішкі Смарг. *Зайшла слонца.* Старыя Смільгіні Воран. *Палатно мочаць і на слонца.* Паляцкішкі Воран. *Той дзень слонца не сяціла.* Жылі Іўеў. *Натта іграла слонца. Сягоння слонца боляй грэя, як учора.* Лоск Валож. *Як слонца, то напаліць кварціру.* Навасёлкі Лід. *Пёк, пёк марос усю зіму, гэтак жа будзе і слонца пячы.* Дзераўное Стаўб. *Ускачылі панхіры ат слонца.* Рагулішкі Даўг. *Слонца ня відаць.* Ракаўскія Швянч. *Слонца папаліла фіранкі. Слонца ходзіць высока.* Старыя Трокі Трак. *Падымаецца слонца.* Швэды Вільн. *Бяз слонца нічога не расцець.* Лайпушкі Ігн. *Ад захаду слонца да дванастай гадзіны праходзіла. Яшчэ слонца высока. Слонца зайшла ў хмару.* Гемзы Шальч. *Мне на слонцы нельзя быць.* Кудзялянцы Шальч. *Слонца пашла пат хмурай.* Малькуны Ігн. *Пад просту слонцо — паўдня бярэцца.* Стральцы Гродз. *Слонцо проста стаіць с паўдня.* Галубы Маст. *Закацілосо слонцо.* Вострава Маст. *Палатно рас-*

*целіца на слонцо.* Грыкені Вільн. *Слонцо сходзіць.* Номікі Бабіц. *Натто пячэ слонцо.* Баброўнікі Гарад. *Да заходу слоньца заедзя.* Вялікія Баяры Шчуч. *Слоньца забірая двасця хваробаў, а трынасту душу.* Каменка Шальч. ∇ *Калі на грамніцы німа слонца, ня будзя грымоты.* Солы Смарг. *Асення слонца, што ўдаўцова сэрца, ня грэя, колькі ты да яго ні хіліся, усё роўна халодная.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* польск. *słońce* 'тж'.

СЛО'НЧЫК *м. памянш.* да слон I. *Слончыка зроблю.* Вялікі Краснік Пруж. *Сядзь на слончыку, падай мне слончыка.* Баброўнікі Гарад.

СЛО'НЫ *мн.* Салёнасці. *Піў ваду, бо ён слонаў пад'еўшы.* Кудзялянцы Шальч.; *параўн.* польск. *słony* 'салёны'.

СЛОНЭ'ЧНІК *гл.* СЛАНЕ'ЧНІК

СЛО'ПЫ *прым.* Пахілы. *Слопая страха.* Крупіца Мін.

СЛО'СНА *прысл.* Пахіла. *Слосна паставіў страху.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* літ. *slẽsnaĩ* 'тж'.

СЛО'СНЫ *прым.* Тое ж, што і слóпы. *Слосная страха.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* літ. *slẽsnas* 'тж'.

СЛО'ТА *гл.* СЛАТА'

СЛО'ТНЫ *прым.* Сыры (пра надвор'е). *Брыткая пагода, слотна.* Солы Смарг.; *параўн.* польск. *słotny* 'тж'.

СЛО'ЎНЕЙКА *н. памянш.-ласк.* да слóнца. *Слоўнейка свеціць.* Лоск Валож.

СЛО'ЎЦА *н. памянш.* да слóва. ∇ *Кап тваё слоўца богу ў ушка!* Малі Астр.

СЛО'ЦІЦЬ *незак.* Ісці (пра дождж і снег). *Дзісь слоціць: і снех, і дошч, так слоціць!* Старыя Смільгіні Воран.

СЛОЦЬ *ж.* Тое ж, што і слатá 1. *Як уюга або слоць, ермак надзявалі.* Малі Астр. *Слоць — снех з дажджом.* Быстрыца Астр. *Вот слоць на дварэ: снех з дажджом ляпая.* Крэва Смарг. *Слоць — як снех і дош ляпая.* Івашкаўцы Смарг. *Слоць на дворы.* Чычалі Швянч. *І дошч, і снех мокры ляпая — слоць. Дзісь на дварэ слоць, німа як выходзіць.* Гемзы Шальч.

СЛО'ЯК *гл.* СЛО'ІК

СЛУГАВА'ЦЬ *незак.* Услужваць. *Чужой мацца слугуіць.* Саланое Віл.

СЛУЖА'НКА *ж.* Служанка. *Яна была за служанку ў пана.* Кіралі Шчуч. *Пан аглядзеў служанку злым вокам.* Валеўка Навагр.

СЛУ'ЖБА *ж.* Работа. *Службу кажды меіць.* Новыя Мацалі Варэн.

СЛУЖБІ'СТА *м.* Добры працаўнік. *Ён натта службіста такі, добра ўсё ў яго.* Солы Смарг. *Як прыіедэ які службіста, то і кілішка горыэлкі нэ вып'е.* Курашэва Чыж.

СЛУ'ЖКА, СЛУ'ШКА *м. перан.* Станок, у які ўстаўляла-

ся матавіла для намотвання нітак. *Слушка — станок, у які ўпраўляліся кругелькі.* Мсцібава Ваўк.

СЛУЖО'НЦА, СЛУЖО'НЦАЯ *ж.* Тое ж, што і с л у ж а́ н к а. *Знакомая служонца служыла.* Быстрыца Астр. *Я служонца была.* Старыя Трокі Трак. *Служонцую хаваіш* [трымаеш] — *плаціць трэба.* Граўжышкі Ашм. *Я была як за служонцую.* Солы Смарг.; *параўн.* польск. *służąca* 'тж'.

СЛУЖЫ'ЦЬ, СЛУЖЫ'ЦІ *незак.* 1. Працаваць. *Служыў на жалезнуй дарозі. Кажу ўнуку: «Ідзі служыць!» — ня хоча.* Слабада Мін. 2. Служыць у арміі. *Служыў сын у арміі.* Слабада Мін. 3. Быць у каго-н. за няньку. *Я служыла за няньку.* Плябанцы Ашм. *Югася наша шэсь гот служыла, няньчыла дзяцей.* Вецярэвічы Пух. 4. Працаваць на пана. *Пад панам калі жылі, дык служылі.* Пярэкі В.-Дзв. *Сястра служыла ў пані.* Солы Смарг. *Анця грубая ў яго служыла. І брат, і я служылі ў пана. Як я служыла ў хазяіна, то толькі хлеп ела і картошку. Два гады служыла: рабіла ўсё на полі.* Гальшаны Ашм. *Я па людзях служыла.* Чуркі Ашм. *І ў паноў служылі, і ў багатыроў, па дварох бадзяліся. Ні дай бох было служыць, зямлі сваей не было.* Вузла Мядз. *Я служыла цалэ жыце па памешчыках. Як я служыла ў пана, тады вышла замуш. Як паробкі яны былі, у паноў служылі.* Васілевічы Гродз. *У хазяёў служыла. Хазяявом служыла многа гадоў.* Альхоўцы Лях. *Служыў у пана за попловнічого — пільноваў поплова.* Хатынічы Ганц. *Служыла за хлеп па панох, па ксяндзох.* Старыя Трокі Трак. *Служыла ад восім гадоў.* Рагулішкі Даўг. *Яна ўсім тут служыла.* Стральцы Шальч. *Пушла служыті до пана.* Курашэва Чыж. 5. Выконваць сваю ролю. *Ногі служуць яшчэ.* Саланое Віл. *Палец такі і служыць скорчаны. Яшчэ здароўя служыць, усяго рас на запаленя хварэла.* Кіралі Шчуч. 6. Прызначацца для чаго-н. *Валасяное сіта служыць для прасявання мукі.* Мсцібава Ваўк. 7. *перан.* Накіроўвацца. *Ест куры такія — у іх перы не туды служаць: не служаць да хваста, але — да шыі.* Дэгшні Шальч. ∇ *Служыў ён, дзе чорт хамуты ня вешаіць.* Ахрэмаўцы Брасл. ◇ *Табе, божа, і табе, божа, служу* — служыць адначасова і тым, і гэтым. *Табе, божа, і табе, божа, служу, і нашаму і вашаму.* Малі Астр.

СЛУП *м.* Слуп. *Стаяў слуп мураваны.* Барок Стаўб. *На прыгорку пат слупом сядзеў.* Граўжышкі Ашм. *Закопавалі слупа і давай даставаць слупа. Хай лазіць па слупох!* Альхоўка Навагр.

СЛУ'ПА' *прысл.* Дубка. *Конь слу́па становіцца. Стаў слу́па.* Дзяніскавічы Ганц. *Слупа́ становіцца. Конь слупа́ становіцца.* Вялікія Баяры Шчуч.

СЛУ'ПАК *м.* 1. *памянш.* да с л у п. *Слупак згніў, трэба новы ставіць.* Вялікія Баяры Шчуч. 2. Шула. *Слупак, ці шу-*

*ла, укапаў у зямлю.* Галубы Маст.; *параўн.* польск. *słupek* 'слупок'.

СЛУПКА' *прысл.* Тое ж, што і с л у́ п а́. *Конь слупка становіцца.* Быстрыца Астр.

СЛУПКАВА'ЦЬ *незак.* Станавіцца дубка. *Конь слупкуя. Зачаў слупкаваць конь.* Жылі Іўеў.

СЛУПО'К *м.* *памянш.* да с л у п. ▽ *Нага, як слупок.* Гемзы Шальч.

СЛУХ, СЛЫХ *м.* 1. Слых. *Маю слух добры і вочы добрыя.* Вузла Мядз. *Ён слых харошы меў.* Мсцібава Ваўк. *Слых харошы стаў.* Кузьмічы Люб. 2. Вестка. *Сышоў і слыху нет пра яго. І слыхоў пра яго ніякіх нет.* Ахрэмаўцы Брасл.

СЛУ'ХАЦЦА, СЛУ'ХАЦА *незак.* Падпарадкоўвацца каму-н. *Як што рабіць — слухаюцца.* Парэчча Гродз. *Дзеці не слухаюцца.* Гемзы Шальч. *Яны ні слухаюцца.* Саланое Віл.; *параўн.* польск. *słuchać się* 'тж'.

СЛУ'ХА'ЦЬ, СЛУ'ХАЦІ *незак.* 1. Слухаць. *Ляжыць і слу́хая.* Гальшаны Ашм. *Вот нагаварыліся: яна маўчала, а я слу́хаў.* Малі Астр. *Як жа тоя пісаць, што брытка слу́хаць?!* Вузла Мядз. *Чым ты слухаеш?* Малыя Аўцюкі Калінк. *На цамбалы гралі, а мы сядзём, слу́хаям.* Руднікі Шальч. *Слу́хают, рот розявіўшы.* Смаляніца Пруж. 2. Тое ж, што і с л у́ х а ц ц а. *Часта ня слу́хае мяне сын.* Кемялішкі Астр. *Стану я гаварыць, кап ішоў служыць, а ўнук ня слу́хая.* Слабада Мін. *Ні слу́хаюць цяпер маладыя. Сын ня хоча слу́хаць мяне.* Навасёлкі Лід. *Рабёнак распустуя, не слу́хая.* Руднікі Шальч. *Я яго не слуха́ю. Будзем слуха́ць яго.* Кіралі Шчуч. ▽ *Чым слу́хаеш — вухам ці брухам?!* Вецярэвічы Пух. *Хто бацькі, маткі ні слу́хая — той у пальцы дмухая* — нічога не мае. Малі Астр. *Хто бацькі і маткі ня слу́хаіць — той у пальцы дзьмухаіць.* Вузла Мядз.

СЛУ'ХІ, СЛЫ'ХІ *мн.* Пагалоскі. *Слухі такі ішлі, яна ніхарошая.* Валынцы В.-Дзв. *Слыхі пашлі па дзярэўні, трэба ў яго папытацца.* Мачаск Бярэз.

СЛУ'ЧА'Й *м.* Выпадак. *Такога слу́чая я ня чула.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Я ня відзіла, мне такога слу́чаю ня было.* Валынцы В.-Дзв. *Быў слу́чай тату майму: чуць не ўтапіўся.* Саланое Віл. *Быў слу́чай мне: пусціла ў чараду карову, а яна ўцякла.* Рудня Астравітая Чэрв. *Мне адзін слу́чай быў: гэтаю парэю іду дарогаю і бачу — воўк. Разных слу́чаяў была.* Альхоўцы Лях. *Адзін слу́чай быў у жызні, калі я ні вышла на работу.* Гемзы Шальч. *Многа слу́чаяў было такіх.* Ахрэмаўцы Брасл. *Былі слу́чаі — на яго вальчылі* [скардзіліся]. *Якія слу́чаі бываюць! Німа такіх слу́чаяў у дзень.* Груздава Паст. *Многа случа́еў табе было. Якія слу́чаі бываюць!* Малькуны Ігн. ◇ *На ўсякій слу́чай* — на выпадак магчымасці.

*На ўсякій случай зайду да яго, мо грошы вазьму.* Груздава Паст.; *параўн.* руск. *случай* 'тж'.

СЛУЧЫ'ЦЦА *зак.* Здарыцца. *Такі случай случыўся: на міну ўступіў.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Ты знаіш, што мне случылася?* Вялікае Сяло В.-Дзв. *Да вайны гэта случылась.* Паляцкішкі Воран. *Як сваё гора случыласа, то паняла ўсё.* Парэчча Гродз. *У мяне случыўся такі выпадак — загарэлася салома.* Кудзялянцы Шальч.; *параўн.* руск. *случиться* 'тж'.

СЛУЧЯ'ТЫСЯ *незак.* Здарацца. *Усяке случяіцця.* Дзмітравічы Кам.

СЛУ'ШКА *гл.* СЛУ'ЖКА

СЛУ'ШЛІВЫ *прым.* Паслухмяны. *Яна такая яму была слушлівая.* Саланое Віл.

СЛУ'ШНЫ *прым.* 1. Разумны. *Мушчына харошы, і гавэнда яго слушна.* Малі Астр. *Слушная гавэнда.* Гемзы Шальч.; *параўн.* польск. *słuszny* 'правільны, належны'. 2. Паслухмяны. *Як прыдуць, то, здаецца, такія слушныя, талковыя дзеці.* Малі Астр.

СЛЫЎЦО' *н. памянш.* да с л о́ в а. *Скажы за міне слыўцо.* Номікі Бабіц.

СЛЫХ *гл.* СЛУХ

СЛЫ'ХІ *гл.* СЛУ'ХІ

СЛЫЦЬ *незак.* Славіцца. ▽ *Як будзіш жыць, так будзіш слыць, такая табе слава.* Кураполле Паст.

СЛЮГАВІ'НА *ж.* 1. Тое ж, што і с л і г а 2. *Падлога на слюгавінах ляжыць.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Тое ж, што і с л і ж І. *Калі мост робім, нада слюгавіны палажыць.* Якубова Рас. *Слюгавіны тоўстыя паклалі.* Беразіно Докш. 3. Тое ж, што і с л ё г і. *Званы с касцёла на слюгавінах спусцілі.* Валынцы В.-Дзв.

СЛЮЗ, СЛЮС, СЛЮШ *м.* 1. Слізь. *Чогось корова захворыэла, слюз начав носом іті.* Курашэва Чыж. *Слюзам пакрываяцца.* Быстрыца Астр. *Слюс на грыбах.* Магуны Паст. *Слюс зліжыць карова с цялёнка, ей можыць заўрадзіць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Слюс на чаровах.* Рыбчына Віл. *Слюс на кішках.* Рудня Астравітая Чэрв. *Вычысцілі слюс с кішок.* Мсцібава Ваўк. *На кішкох слюс, ён з'едзе.* Дзяніскавічы Ганц. *Слюс атходзя.* Лайпушкі Ігн. 2. Плесня. *Зверху с капусты трэба слюс сабраць, нада сабраць верх.* Саланое Віл. *Заплеснела капуста, трэба зняць усенькі слюш.* Старыя Смільгіні Воран.

СЛЮ'ЗА *ж.* Тое ж, што і с л ю з 1. *Мой даў* [у] *кол корові, захворэла, але слюза пошла.* Сялец Бяроз.

СЛЮЗАВІ'ТІ *незак.* Слязіцца. *Око мніе боліт і слюз ідэ, око слюзавіт.* Курашэва Чыж.

СЛЮЗЬ, СЛЮСЬ *м.* Тое ж, што і с л ю з 1. *Нада перабраць кішкі, слюсь скрабуць.* Валынцы В.-Дзв. *Кішкі ў солі вытрыш, слюсь атходзя.* Новыя Мацалі Варэн. *Слюсь сліза-*

*ваіць карова.* Ахрэмаўцы Брасл. *На маслякох ест слюсь.* Вялікія Баяры Шчуч. *Слюсь ідзе. Слюзам гоня* [пры паносе]. Граўжышкі Ашм.

СЛЮ'ТА *ж.* Тое ж, што і с л а т а́ 1. *Слюта такая, снех ідзець. Сягоня якая слюта! — хляпіць, і снех, і дошч ідзець.* Кураполле Паст. ▽ *Цвыгаіць цвыркун — будзіць слюта.* Кураполле Паст.

СЛЮШ *гл.* СЛЮЗ

СЛЯБІЗАВА'ЦЬ *гл.* СЛІБІЗАВА'ЦЬ

СЛЯВЯ'ДА *м.* і *ж. экспр.* Хто слабасільны. *Слявяда ён, да каго чапляецца, ён жа яго скруціць.* Малахоўцы Бар.

СЛЯДЖО'К *м.* Паласа. *Сляджок с краю ходнікаў — паласа такая.* Навасёлкі Лід.

СЛЯДЗІ'НКА *ж. памянш.* Невялікі след. *Дарогу робяць, і дзе слядзінка, засыпаяць пяском.* Магуны Паст.

СЛЯДЗІ'ЦЬ, СЛЕДЗІ'ЦЬ, СЛЕДЫ'ТЫ *незак.* Сачыць. *Мама слядзіла, кап не краў, чужога не браў, кап у чужой грэцца не пасвіў, кап шкоды не рабіў.* Мсцібава Ваўк. *Яна слядзіла за ім.* Вецярэвічы Пух. *Толькі за бабай следзіць: яна за дзверы і ён за дзверы.* Груздава Паст. *Трэбо следзіць курыцу, дзе яна пойдзе нясціса.* Баброўнікі Гарад. *Трэбо следыты, дэ коровы ходят.* Горск Бяроз.; *парайн.* руск. *следить* 'тж'.

СЛЯДО'К *м. памянш. перан.* Мясціны, якія калісьці наведваў хто-н. *Пайду на яго сляткі, дзе ён хадзіў.* Гальшаны Ашм.

СЛЯДО'РШЫ *прым.* Сярэдні па ўзросту сярод братоў і сясцёр. *Слядоршы сын і слядорша дочка.* Дакудава Лід.; *гл.* с а л я д о́ р ш ы.

СЛЯЗА' *ж.* Сляза. *Дохтарко, сляза цячэ з вока: тру-тру.* Міратычы Карэл. *Нагу я паламаўшы, наступаю, алі с трудамі і слязыма.* Руднікі Шальч. *Слёзя цякуць, так плача! Слязьмі плача.* Сакаляны Сакол. ▽ *Як маё ядуць, то мне слёзы ідуць.* Малі Астр. ◇ [Кінуцца] *у слёзы* — пачаць плакаць. *Матка — у слёзы, бацька — у слёзы і ён* [сын] *— у слёзы.* Ахрэмаўцы Брасл. *Слёс не агрэпці* — вельмі шкадаваць. *Слёс не агрэпці, на іх пазіраючы.* Вецярэвічы Пух. *Слязамі абліта, слязамі ліцца, слёзы ракой ліюцца, слёзы л'юцца* — моцна плакаць. *Слязмі была абліта.* Стральцы Шальч. *Матка слязмі лілася, свету ня відзела — сына забіла.* Солы Смарг. *Яна слязамі ліецца, кажа: «Я не знаю, як я ўзяла тыя грошы».* Вузла Мядз. *Слёзы ракой ліюцца, што ён патцярэць мае слёзы?!* Саланое Віл. *Слёзы л'юцца ў яе.* Ахрэмаўцы Брасл. *Слязьмі праліць* — моцна паплакаць. *Чым клясці, луччэ слязьмі праліць.* Вузла Мядз. *Плакаць горкай слязой* — плакаць ад болю, крыўды. *Палажыў галаву на плячо, плачыць горкай слязой.* Пераброддзе Міёр.

СЛЯ'ЗІК *м. бат.* Гарлянка? *Гэту траву мы слязік завём, горла паласкаць добра.* Солы Смарг.

СЛЯЗІНА' *ж.* Тое ж, што і с л я з á. *Адна слязіна скацілася.* Асавец Віл.

СЛЯЗЛІ'ВЫ *прым.* Плаксівы. *Слязлівы зрабіўся.* Альхоўцы Лях.

СЛЯМА'К *гл.* СЛІМА'К

СЛЯПА'К, СЛІПА'К, СЛЕПА'К *м. заал.* 1. Сляпень. *Сляпак сівы, кроў п'е.* Кіралі Шчуч. *Сляпак насмокча крыве.* Новікі Гродз. *Сляпак кусае моцно.* Каўняны Гродз. *Сляпак, як вапсва, невялікі.* Быстрыца Астр. *Сляпак маленькі, сіваныкі.* Вялікія Баяры Шчуч. *Сляпак ест такі, ён сляпы, таму сляпак.* Ракаўскія Швянч. *Сляпак мнейшы, гіль большы. Слепакі кусаюцца моцна. Шэранькія слепакі.* Гемзы Шальч. *Авадне і сляпаке кусашчыя.* Малахоўцы Бар. *Сляпакі е, кароў кусаюць.* Дзяніскавічы Ганц. *Ад сляпакоў ґузы панаходзілі.* Старыя Трокі Трак. *Сляпакі меншыя, гілі вялікія.* Чычалі Швянч. *Слепакі натта кусаюцца.* Івашкаўцы Смарг., Паляцкішкі Воран. *Слепакі кусаюць коней, кароў.* Старыя Смільгіні Воран. *Слепакі тнуць* [кусаюць] *коні.* Кудзялянцы Шальч. *Слепакі кусаюць кароў.* Малькуны Ігн. *Сліпак коняй боляй кусае.* Солы Смарг. *На лонці по обіеді сліпакі началі кусаті.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *ślepak* 'тж'. 2. Тое ж, што і с л е п é н ь. *Бліскучая гадзіна — гэта сляпак.* Завельцы Астр. 3. *перан.* Хто чаго-н. не заўважае. *Сляпак ты! Сам паставіў сюды касу.* Вялікія Баяры Шчуч. *Сліпак ты! Шяпка ліжыт пырыд очыма, а ты ны бачыш.* Дзмітравічы Кам. 4. *мн. перан.* Вочы. *Дэ ты своіе сліпакі міев, што нэ бачыв, куды ідэш?* Курашэва Чыж.

СЛЯПАНДЗЯ', СЛЕПЭНЬДЯ' *м.* і *ж.* Тое ж, што і с л я п á к 3. *Сляпандзя ты, во тут ляжыць!* Асавец Віл. *Слепэньдя ты, ходіш і ніц нэ бачыш!* Сялец Бяроз.

СЛЯПАНЯ'К *м.* Хто сляпы. *Сляпаняк нічога не бачыць.* Баброўнікі Гарад.

СЛЯПАТА' *м.* і *ж.* Тое ж, што і с л я п á к 3. *Сляпата ты!* Вялікія Баяры Шчуч.

СЛЯПАЦЕ'НЬ *м.* Тое ж, што і с л я п á к 1. *Размаітых мух многа: ґілі, сляпатні.* Старыя Трокі Трак.

СЛЯПА'Я КУ'РАЧКА *ж.* Тое ж, што і с л е п а т á І. *Еслі сляпой курачкай патрэш, рана не зажывая.* Руднікі Шальч.

СЛЯПЕ'НЬ *м.* Тое ж, што і с л я п á к 1. *Сляпень кусаецца.* Рыбчына Віл. *Сляпні сляпіцаю ў вочы лезуць. Сляпень шэры.* Рудня Астравітая Чэрв. *Сляпне нападуць — каровы ґізуюць.* Вецярэвічы Пух. *Невялікая муха сляпень.* Глівін Барыс. *Сляпні сільна кусаюцца.* Рагулішкі Даўг.

СЛЯПЕ'Ц *м.* Тое ж, што і с л я п á к 1. *Сляпец — муха такая кусушчая.* Мярэцкія Глыб. *Сляпец — еслі вытня цело*

*каровы, паяўляецца слімак* [вугор]. *Сляпцы кусашчыя.* Альхоўцы Лях. *Сляпцы, камары — усе яны кусушчыя.* Груздава Паст. *Сляпцы — конскія мухі. Сляпцы — мухі такія, вельмі кусаюцца.* Жодзішкі Смарг. *Сляпцы кусаюцца лоўка, меньшыя за вадзень, тоненькія.* Мішневічы Шум.

СЛЯПЕ'ЦЬ *незак.* Слепнуць. *Найгоры, што п'яная я раблюся, сляпею.* Асавец Віл. *Конь ад золзаў сляпея.* Ёдупка Шальч.

СЛЯПІ'ЦАЮ ў знач. *прысл.* ◇ *Лесці сляпіцаю* — тое ж, што і слéпцам. *Як якая сынава — лезе сляпіцаю ў вочы* [да свекрыві]. Каўняны Гродз. *Сляпні сляпіцаю ў вочы лезуць, за ліцо кусаюць.* Рудня Астравітая Чэрв.

СЛЯПНІ' *мн.* Тое ж, што і слепатнé. *Сляпні ў дыру залазяць, ачышчаюць гняздо і жывуць у гнілі.* Ухвала Круп.

СЛЯПНЯ'К *м.* Тое ж, што і сляпáк 1. *Сляпняк сляпы, кусаецца моцна* [о]. Дакудава Лід., Стральцы Гродз. *Ят гарачэ, то нападае сляпняк на каня.* Баброўнікі Гарад. *Сляпнякі кусаюць кароў.* Пацаўшчына Дзятл. *Сляпняке маленькія, сівыя.* Кіралі Шчуч.

СЛЯПУХА' I *ж. бат.* Кураслеп. *Сляпуха расце, гэта трава лядача.* Альхоўка Навагр. *Сляпуху і каровы не ядуць.* Міратычы Карэл.

СЛЯПУХА' II *м.* і *ж.* Тое ж, што і сляпáк 3. *Сляпуха ты, ідзе і ня бачыць!* Старое Сяло Зэльв.

СЛЯПЦЭ' толькі *мн.* Жмуркі. *Дзеці гулялі ў сляпцэ.* Дзяніскавічы Ганц.

СЛЯПЫ', СЛІПЭ'Й, СЛЯПО'Й *прым.* 1. Сляпы. *Сляпая яна.* Старое Сяло Зэльв. *А бывая, сляпы родзіцца.* Парэчча Гродз. *Каб я пражыла трыццаць шэсць гадоў адна ды плакала, была п сляпа.* Валеўка Навагр. *Сліпэй чоловік.* Дзмітравічы Кам. 2. Які мае слабы зрок. *Сляпы відушчаму чытаіць.* Кураполле Паст. *Ён сляпы, чуць чытая.* Парэчча Гродз. *Я за зіму стала такая сляпая, пачці ня віжу.* Слабада Мін. 3. *перан.* Неадукаваны, непісьменны. *Дайней нарот быў сляпой.* Ёдупка Шальч. ▽ *Сляпая, як дым, нічога не бачу.* Галубы Маст.

СЛЯСА'К, СЛІСА'К *м.* Тое ж, што і слейсáк. *Слясак у клямцы.* Магуны Паст. *Нетуці слісака, на каторы клямку складываюць, і клямка так вісіць.* Мішневічы Шум. *Слісак ў клямцы.* Янова Рас.

СМА'ГА *ж.* Прага. *Смага суша, як хто воткі нап'ецца.* Малі Астр. *Смага смажыць, вады хочу.* Альхоўцы Лях.

СМА'ГА' *ж.* Налёт пылу, копаці. *Як дошч змыя смáгу, то трава будзя расці.* Новікі Гродз. *Адзень белую кофту, прайдзі, дык адразу смáга на ёй.* Крэва Смарг. *Смагá такая залягуя: грась, пыл, пакуль не саграбеш граблямі, яго дошч не смыя.* Рудня Астравітая Чэрв.

СМА'ГЛА, СМА'ҐЛА, ШМА'ҐЛО *прысл.* 1. Прагна. *Я курыў смагла: накрышу капшук самасейкі і за дзень-два скурываў.* Гемзы Шальч. 2. Старанна. *Нагнала грысь на руку — смаґла паробіла.* Ёдлавічы Брасл. *Вот смаґла работая.* Солы Смарг. 3. Моцна. *Ён ужо каню як дасць, то скуру можа рассеч і тады смаґла б'е.* Гемзы Шальч. *Ударыць чым смаґла.* Беняконі Воран. *Так шмаґло вытяв кыём, шо за одным разом збыв.* Сіманавічы Драг. 4. Хутка. *Я праляцела смагла і забалела — потная была.* Ёдлавічы Брасл. *От шмаґло побіг кынь!* Сіманавічы Драг.

СМАГЛЕ'Й *прысл. выш.* Хутчэй. *Ужо смаглей пашло — хутка стала таркавацца бульба.* Малі Астр.

СМАГЛЕ'ЙШЫ *прым. выш.* Дужэйшы. *Мая сястра смаглейшая за мяне.* Гемзы Шальч.

СМА'ГЛЕНЬКІ *прым. памянш.* Маленькі. *Купіў такія смагленькія бацінкі.* Кудзялянцы Шальч.

СМА'ГЛЫ, СМА'ҐЛЫ, СМЯ'ҐЛЫ, ШМА'ҐЛЫЙ *прым.* 1. Сухарлявы, тонкі. *Смаглы мушчына.* Ёдлавічы Брасл. *Смаґлы чалавек — тонкі, высокі.* Каўняны Гродз. *Пашоў смаґлы мушчына, танкляvenькі. Я паехаў смаґлым канём.* Кіралі Шчуч. *Малы — то смаґлы. Ён такі смаґлы — ценькі.* Кудзялянцы Шальч. *Смаґлы хлопіц: тонкі, высокі, шырокі ў плячах. Мая хазяйка смаґлая.* Кураполле Паст. *Смаґлая дзяўчына: высокая, жвавая, рухавая.* Граўжышкі Ашм. *У яго конь быў смаґлы.* Гемзы Шальч. *Смаґлы конь такі вёрткі, высокі.* Чычалі Швянч. *Смаґлыя коні пад сядло ідуць.* Руднікі Шальч. *Шмаґлый коньік.* Сіманавічы Драг. 2. Дужы, моцнага целаскладу. *Смаглы мушчызна — бальшы, здаровы. Вот смаглы мушчызна!* Малі Астр. *Была смагла баба: велькая, тоўстая, дужая.* Гемзы Шальч. *Смаґлы чалавек — здаровы, дужы. Быў смаґлы дзет. Гэты паляк смаґлы.* Жылі Іўеў. *Гэна смаґлая баба: бальшая, здаровая, дужая, сільная.* Граўжышкі Ашм. *Смаґлы конь добра цягніць.* Кураполле Паст. *Смаглы бык быў: велькі, здаровы.* Дэгшні Шальч. 3. Схуднелы. *Смаглы — схуднелы, бальны.* Азяраны Раг. *Смяґлы чалавек — высахшы, худы, здохлы.* Саланое Віл. 4. З дадатнымі рысамі характару. *Смаглы — чалавек харошы, красівы.* Дакудава Лід. *Смаглы чалавек — да людзей добры, вясёлы.* Ракаўскія Швянч. *Смаглы — харошы чалавек.* Малькуны Ігн. 5. Злы. *Ен быў смаґлы, некаму даў.* Граўжышкі Ашм. 6. Тонкі, доўгі (пра дубец). *Узяў смаґлы бляк, каб біць яго* [гада], *а ён лезя на драбіны, дзе сяджу.* Крэва Смарг. *Вот выламала я смаґлую лазіну!* Кіралі Шчуч. 7. Сухі, пляскаты. *Смаґлыя блашчыцы ўсюды залезуць.* Старыя Смільгіні Воран. 8. Цяжкі. *Смаґлы, ня можа падняць.* Малькуны Ігн. 9. Перасохлы (пра губы). *Смаґлыя губы.* Жылі Іўеў. 10. Загарэлы. *Опалівсе на сонці*

*і тэпэр мае смаґлы твар.* Курашэва Чыж.; *парайн.* літ. *smagùs* 'вясёлы, дужы, цяжкі'.

СМА'ГНУТІ *зак. экспр.* Ударыць. *Каня бічом смагнув.* Курашэва Чыж.; *парайн.* літ. *smógti* 'тж'.

СМА'ГНУЦЬ *незак.* 1. Прагна хацець піць. *Ён смагне вады.* Вецярэвічы Пух. 2. Марнець. *Як бяда, то чалавек смагне, сходзіць.* Дзяніскавічы Ганц.

СМА'ЖАНЫ 1. *дзеепрым.* Прыгатаваны смажаннем. *Смажаныя грыбы.* Рудня Астравітая Чэрв. *Смажана бульба на скварадзе, а тушонка — як у печ ставяць на дзень.* Альхоўка Навагр. 2. у знач. *назоўніка н. смáжанэ.* Смажанае. *Смажаного мне нэможна есті, оно варанэ.* Курашэва Чыж.

СМАЖО'НКА *ж. кулін.* Смажаная бульба. *Я смажонкі не люблю, лепі кашу с шчайем.* Груздава Паст.

СМА'ЖЫЦЦА *незак.* Тушыцца. *Картошка смажыцца. Будзя капуста смажыцца.* Лоск Валож.

СМА'ЖЫЦЬ, СМА'ЖЫТІ *незак.* 1. Гатаваць ежу смажаннем. *Грыбы смажаць.* Солы Смарг. *Сіляццы смажылі.* Гемзы Шальч. *Грыбы смажат.* Азарычы Пін. 2. Варыць. *Ягады с сахарам смажат.* Азарычы Пін. 3. Паліць. *Печ* [у смалярні] *смажыць карчы.* Мсцібава Ваўк. 4. *асаб.* і *безасаб.* Пра сухасць у роце. *Смага смажыць, хачу піць.* Альхоўцы Лях. *У роця смажа.* Дакудава Лід. *Вот жа піць смажа.* Рыбчына Віл. *Смажыць міне піць.* Номікі Бабіц.

СМАК *м.* 1. Смак. *Для смаку тушонку ўкіням. Гэты хлеп мае добры смак.* Солы Смарг. *Не чую смаку ў гэтай ядзе.* Ёдупка Шальч. *У рыбя ў галаве ёсць смак, пахніць яна, і навар з галавы смачны.* Пераброддзе Міёр. 2. Апетыт. *Не хачу есці, я ем бэз ніякага смаку.* Малі Астр. *Ем са смакам.* Беняконі Воран. 3. Пра што-н. вельмі смачнае. *Макаронкі вару, яны жоўценькія, прама смак.* Валеўка Навагр. ∇ *Няма лепшага смаку, як у пячоным раку.* Вузла Мядз.; *парайн.* польск. *smak* 'тж'.

СМАКАВА'ЦЬ, СМАКОВА'ТЫ, СМАКУВА'ТЭ, СМАКАВА'ЦІ *незак.* 1. Есці павольна, з асалодай. *Мет еў, магу кожны дзень смакаваць.* Малахоўцы Бар. *Такая смачна каша, так помалу йісьць, всэ смакуе.* Сіманавічы Драг., Відзібар Стол. *Хучій іж, а то смакуіш.* Радастаў Драг. 2. Каштаваць. *Смакую, мо есці не будзяш?* Чычалі Швянч. *Смакую, чы смачне.* Курашэва Чыж. 3. Падабацца па смакавых якасцях. *Гэта не смакуя, я есці ня буду.* Кіралі Шчуч. *Мы ўсё любімо кашу, смакуе.* Ялова Пруж.; *парайн.* польск. *smakować* 'каштаваць'.

СМАКАТА' *ж.* Тое ж, што і с м а к 3. *Якой ты хочаш смакаты?!* Мсцібава Ваўк. *Як утушкуюцца грыбы — язык можна праглынуць, якая смаката!* Лісна В.-Дзв. *Наробіш смакаты — усё смашна.* Альхоўцы Лях.

СМАКТА'ЦЬ *незак.* 1. Смактаць. *Смакчы млечка, во як*

*лыкаеш!* Стральцы Шальч. *Дзеці смокчуць сапляк* [лядзяк]. Гемзы Шальч. *Я буду смактаць, смактаць гэту ягаду — зубоў няма.* Слабада Мін. 2. Высмоктваць. *Бывая, баба смокча тое мейсца, дзе гадзіна ўкуся, але апохня ўсё роўна.* Рудніκі Шальч.

СМАКТУ'Н I *м.* Грудное дзіця. *Смактун ты, усё смокча і смокча, яму мала.* Жылі Іўеў.

СМАКТУ'Н II *м.* Падзолістая глеба. *Смактун — зямля сіняя.* Граўжышкі Ашм.

СМАКУВА'ТЭ *гл.* СМАКАВА'ЦЬ

СМАЛА', СМОЛА' *ж.* 1. Смала. *Смала іс хваіны і з яліны.* Дзяніскавічы Ганц. 2. *перан.* Хто назойлівы. *Той Стыпан такая смола!* Сіманавічы Драг. ▽ *Прычапіўся, як смала да цела.* Малі Астр. *Як смола, прычыпывся до мынэ.* Сіманавічы Драг.

СМАЛАВА'ТЫ *прым.* 1. Смалісты. *Смалаватага дзерава нарэжуць і гоняць з яго дзёгаць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. 2. Выпацканы ў смалу. *Рукі нашы смалаваты, ні атмыіш.* Κураполле Паст.

СМА'ЛЕЦ, СМА'ЛЯЦ, СМА'ЛЕЦЬ *м.* Шмалец. *Смалец гусіны, курыны.* Солы Смарг. *Добро пячы на смальцу.* Малахоўцы Бар. *Смальцэм ранку помаж.* Сялец Бяроз. *Купіла кілё смальцю.* Κурашэва Чыж.; *парайн.* польск. *smalec* 'тлушч'.

СМАЛІНІ'СКА *гл.* СМАЛЯНІ'СКО

СМАЛІ'ТІ *незак. перан.* Брыкацца. *Κобыла задом смаліт, нэможна бліско пудыйті.* Κурашэва Чыж.

СМАЛІ'ЦАЙ у знач. *прысл.* ◇ *Смаліцай лесці* — тое ж, што і с л е п ц а м. *Мухі смаліцай лезуць, жраць хочуць.* Гемзы Шальч.

СМАЛІ'ЦЬ *незак.* 1. Абпальваць (шэрсць). *Некалі саломай смалілі.* Гальшаны Ашм. *Свіней смалілі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Заколяць свіню, потым смалілі саломай.* Слабада Мін. 2. *экспр.* Κурыць. *Смаліць папяросы.* Дзяніскавічы Ганц. 3. Пыліць. *Смаліць дым с парахні.* Дзёрнавічы В.-Дзв. 4. Выклікаць востры боль. *Вот смаліць, як пшчала ўкусіць.* Рудніκі Шальч. *Ногі мае балюшчыя, смаля, як агнём.* Солы Смарг. 5. Прыпякаць (пра сонца). *Дзе за ветрам, калі ветру няма, смаліць сонца.* Ракаўскія Швянч. 6. Марозіць. *Мороз смаліт, мусіт, картохлі в копцёві помэрзнут.* Κурашэва Чыж.

СМАЛО'ВЫ *прым.* Тое ж, што і с м а л а в а́ т ы 1. *Смаловыя былі брайна, тоўстыя. Смалякі смаловыя падаставалі. Κорч смаловы.* Альхоўцы Лях. *Стрыжань гнілы ці смаловы бывая ў дрэві.* Рудня Астравітая Чэрв.

СМАЛЬНІ'Κ *м.* Смаляны корч. *Смальнік выкапаў.* Мярэцкія Глыб.

СМА'ЛЬНІСΚА *н.* Месца, дзе смалілі кабана. *Смальніска — дзе свіней смаляць. Засыпалі смальніска.* Вялікія Баяры Шчуч.

СМАЛЬНІ'СТЫ *прым.* Тое ж, што і с м а л о́ в ы. *Смальністы корч сасновы.* Рудня Астравітая Чэрв.

СМАЛЬНЫ' *прым.* Тое ж, што і с м а л а в а́ т ы 1. *Карчок смальны добра гарыць.* Саланое Віл.

СМАЛЬНЯ'К *м.* Смаляк. *Едуць лавіць рыбу на подсвят, у човян кладуць смальняке і распальваюць агонь. Ні магу распаліць смальняк.* Стральцы Гродз. *Смальняк атрубаюць, запаляць і ідуць і лапаюць рыбу ўначэ.* Каўняны Гродз. *Смальняк аш чырвоны бывае. Смальняке бралі на патпал.* Пацаўшчына Дзятл. *Смальняке с сасны.* Крынкі Крын.

СМАЛЬЦ *м.* Тое ж, што і с м а́ л е ц. *Смальц — гусінае сала.* Лісна В.-Дзв.

СМАЛЯ'К, СМОЛЯ'К *м.* Тое ж, што і с м а л ь н я́ к. *Вот прывёс смаляк дахаты, вот будзя добры на патпалку табе. Быў смаляк, запаліць і ідзе ў хлеў глядзець карову.* Кіралі Шчуч. *Смаляк укінь у печ, можа, дровы хутчэй разгарацца.* Ухвала Круп. *Падлажы смаляка, бо не гарыць. Смаляк будзя гарэць.* Парэчча Гродз. *Смалякоў напіхаюць, топюць спаднізу—у судно цячэ па трубаццы дзёгаць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Ляжаць смалякі на патпалку.* Рыбчына Віл. *Смалякі секлі на падпал і свяцілі імі, але лучынай свяцілі больш.* Жодзішкі Смарг. *Нарубаю смалякоў патпаліць печ.* Старыя Смільгіні Воран. *Смалякоў навёз з лесу.* Беразіно Докш. *Смалякі хапіў і стаў шпуляць.* Малі Астр. *Смаляке добра гарааць і свецяць. Даўней смалякоў накладзе на прыпяку і ччэ.* Малахоўцы Бар. *Смалякі ярко гараць. Смалякі рубалі на растопу.* Рагулішкі Даўг. *Смалякі вазілі ў смалярню.* Альхоўцы Лях. *Насячы смалякоў!* Міратычы Карэл. *Прынэсэш смолякоў, положыш на прыпэчку.* Сялец Бяроз. ∇ *Немцы сагналі людзей у ток і спалілі, людзі кучамі ляжалі абгарэўшыя, як смалякі.* Вузла Мядз. *Як смалякі, чорныя* — вельмі чорныя. *Як смалякі, чорныя гэтыя мянтузы.* Чуркі Ашм. *(Быць) пры смаляку* — з'яўляцца смалістым. *Сасна натта пры смаляку, яна не шчапаецца.* Гемзы Шальч.

СМАЛЯНІ'СКО, СМАЛІНІ'СКА, СМАЛЯНІ'СКА, СМОЛЯНІ'СКО *н.* 1. Тое ж, што і с м а́ л ь н і с к а. *Смалянісько — дзе кабана смалілі.* Мсцібава Ваўк. *А мы на куцю бяжымо на тоя смалініска і слухаем, у каторым боку сабакі брэшуць — туды замуш пойдзіць.* Гемзы Шальч. 2. Пажарышча. *Смалініска там, дзе гарэла.* Старыя Трокі Трак. *На том смолянісску хату поставіў.* Сялец Бяроз.

СМАЛЯ'НКА, СМАЛЯ'НЬКА *ж. бат.* Смолка. *Смалянкі— цвяточкі.* Пярэкі В.-Дзв. *Смалянкі красненькія, лепяцца да рук, смольныя.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Смалянка ліпне, як смала, няма пользы з яе.* Кіралі Шчуч. *Смаляньпкі — іх тры сарты: адны ліпкія, другія не.* Рагулішкі Даўг.

СМАЛЯНЫ' *прым.* Тое ж, што і с м а л а в а́ т ы 1. *Сма-*

*ляноя дзерава добра гарыць.* Малі Астр. *Смаляноя палена.* Бакшты Іўеў. *Смаляное палена запаліць — многа дыму. Сосна натта смаляная.* Гемзы Шальч. ◇ *Смаляное горла* — пра таго, хто многа п'е гарэлкі. *Харошы чалавек, але горла смаляное.* Гальшаны Ашм.

СМАЛЯ'Р *м.* Смалакур. *Смаляр гоніць смалу, трапатыну ў смалярні.* Кіралі Шчуч. *Смаляр робіць у смалярні.* Малахоўцы Бар. *Смаляр смалу гнаў.* Рудня Астравітая Чэрв., Рыбчына Віл.

СМАЛЯ'РНЯ *ж.* Смалакурня. *У смалярні смалу варылі.* Ёдлавічы Брасл. *У смалярні смалакур гоніць смалу.* Рыбчына Віл. *Каля смалярні дуп вялікі.* Маставілішкі Ашм. *Смалярня тут стаіць і трапатыну гоняць.* Кіралі Шчуч. *У смалярні смалу гналі.* Стральцы Гродз., Збляны Лід. *Смалярня была, смалу там гналі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Смалярня ў лесе стаяла — смалу гналі.* Беразіно Докш. *«Дзе ш гналі смалу?!» — «У смалярні».* Малахоўцы Бар. *Смалярня — дзе дзёгаць ганілі.* Дзяніскавічы Ганц. *Паеду ў Талеі па ўглі да смалярні.* Гемзы Шальч. *Смалярня ў нас казалі, там выціскалі тэрпэтыну, дзёгаць.* Баброўнікі Гарад.

СМА'ЛЯЦ *гл.* СМА'ЛЕЦ

СМАЛЯЧО'К, СМОЛЯЧО'К *м. памянш.* да с м а л я́ к. *Кінь смалячок! У нас смалячкамі расцяпляюць у печы.* Ёдлавічы Брасл. *Смалячкі жглі пры цару Гароху, да прыгону.* Буды В.-Дзв. *Сасновы корч капаюць і сякуць на смалячкі, патпальваюць дровы ў печы. Насек смалячкоў, яны добра гарaць.* Гемзы Шальч. *Смолячкамі добрэ потпальваті.* Сялец Бяроз.

СМАРГАНУ'ЦЬ *зак. экспр.* Ударыць. *Як смарганула па плячу — моцна забалела.* Вузла Мядз. *Я як смарганиў яму па зубах булаўкай!* Гемзы Шальч.

СМАРГА'Ч I *м.* Прылада для абразання насенных галовак ільну. *Лён прывязімо дахаты і сморгаям смаргачамі. Смаргач з дзерава, доска зроблена на зубы.* Дакудава Лід. *Сем'я шморгаям смаргачамі, абрываям галоўкі.* Бакшты Іўеў.

СМАРГА'Ч II *м.* Кропля слізі з носа. *Аш смаргач паехаў з носа — такая злая цыбуля.* Старыя Смільгіні Воран.

СМАРГЛЯ'К *м. зневаж.* Пра вельмі маладога, нявопытнага чалавека. *Ах ты смарґляк, ён яшчэ павучая!* Парэчча Гродз.; *параўн.* літ. *snarglỹs* 'соплі'.

СМАРГЛЯ'ТЫ *прым.* Смаркаты. *Хто смарґляты — называюць смэрґля.* Парэчча Гродз.; *параўн.* літ. *snarglỹs* 'соплі'.

СМАРГНУ'ЦЬ *зак.* Шморгнуць (носам). *Яна смарґне ў нос і пашла.* Малі Астр.

СМАРЖКІ', СМАРШКІ', СМАРШКЕ', СМАРШЧКІ', СМАРШЧКЕ', СМАРЧКІ', СМОРЧКІ' *мн. бат.* Смаржкі. *Смаршкі нада доўга гатовіць.* Лісна В.-Дзв. *Смаршкі ядуць.* Ёдлавічы Брасл. *Смаршкі растуць вясной, чулі страчкі, у нас*

*так не называюць.* Рыбчына Віл. *Смаршкі растуць.* Мярэцкія Глыб. *Смаршкі вясною растуць.* Вялікі Лес Круп. *Смаршкі збіралі ранняй вясной.* Ухвала Круп. *Ядуць смаршкі і страчкі.* Беразіно Докш. *Смаршкі вясною бываюць.* Глівін Барыс. *Смаршкі смашныя, іх збіраюць.* Гемзы Шальч. *Смаршке ў нас не бяруць для сябе.* Зблянь Лід. *Смаршке ёсь у лесі, каля карчоў растуць. Смаршке купляюць, яны — труцізна. Набрала сусетка кошык смаршкоў, і ўсе атравіліся.* Кіралі Шчуч. *Смаршке растуць вясною.* Стральцы Гродз. *Смаршке — першыя грыбы.* Пацаўшчына Дзятл. *Смаршчкі растуць, я іх не бяру.* Пасіене Лудз. *Смаршчке растуць бранзовыя.* Баброўнікі Гарад. *Смарчкі растуць, дзе агнішчэ.* Істра Лудз. *Сморчкі ў нас ні баруць.* Хатынічы Ганц.

СМАРКА'ЦЬ *незак.* 1. Ачышчаць нос ад слізі. *Смаркаіць нос.* Мярэцкія Глыб. 2. Мець насмарк. *Смаркая дзіця.* Альхоўцы Лях.

СМАРКА'Ч *м.* 1. Тое ж, што і с м а р ґ л я́ к. *Смаркач ты, не цябе слухаць!* Пераброддзе Міёр. 2. *перан.* Газоўка. *Запалі смаркача!* Старыя Смільгіні Воран. *Смаркачом называлі лямпачку бяс шкла. Смаркача запаліш — і такое святло!* Багушэвічы Бярэз.

СМАРКА'ЧКА *ж.* Тое ж, што і с м а р к а́ ч 2. *Смаркачка гарыць — дыму поўна хата было.* Буды В.-Дзв. *Паявіліся смаркачкі біз сцякла. Смаркачка гарыць — і прадзём.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Смаркачка, як слёска, гарыць.* Саланое Віл. *Смаркачка капціць.* Мярэцкія Глыб.

СМАРКАЧЫ', СМАРКАЧЭ' *мн.* Слізь, якая выцякае з носа. *Смаркачы цякуць, вытры нос!* Магуны Паст., Солы Смарг. *Смаркачы папусціў.* Старыя Смільгіні Воран. *Смаркачы цякуць у дзіцяці.* Альхоўцы Лях. *Смаркачы цякуць, капка цячэ з носа.* Рудня Астравітая Чэрв. *Вытры смаркачы, ходзя засмаркаўшыся!* Гемзы Шальч. *Вытры смаркачэ!* Пацаўшчына Дзятл. *Смаркачэ з яго цякуць.* Кудзялянцы Шальч. *Смаркачэ з носу цекут.* Лука Нараўк. ∇ *Як смаркачы, малако цягнецца, як адсядзецца.* Граўжышкі Ашм.

СМАРКА'ЧЫК *м. памянш.* да с м а р к а́ ч 2. *У пляшачку карасіну налеюць, бульбу ўкладуць, а ў бульбу — квіцёк, з мульту, і ганю ў смаркачык.* Мачаск Бярэз.

СМАРКУ'ЛЬ *м.* Тое ж, што і с м а р ґ л я́ к. *Што ты прыстоў да жанчыны, смаркуль такі!* Вецярэвічы Пух.

СМАРО'ДА *ж. бат.* Парэчкі. *Смарода ў мяне расце.* Янова Рас. *Есць чорная смарода і красная смарода.* Пасіене Лудз.

СМАРШКІ', СМАРШКЕ', СМАРШЧКІ', СМАРШКЧЕ', СМАРЧКІ' *гл.* СМАРЖКІ'

СМАТРЭ'ЦЬ, СМОТРЭ'ЦІ *незак.* 1. Глядзець. *Еслі сыта карова, бліщчыць — прыятна сматрэць.* Малі Астр. *Смотрэтэ, які дошч ідэ.* Смаляніца Пруж. 2. Назіраць. *Яны сматраць, як*

*гэты танец танцуюць.* Кудзялянцы Шальч. 3. Даглядаць. *Міне не сматрэла жана — я развёўся.* Малі Астр.; *парайн.* руск. *смотреть* 'тж'.

СМАЎЖА'К *м.* Тое ж, што і с л і м а́ к 1. *Смаўжак такі рагаценькі і таўсты, як паляц, ён грыбэ есць.* Кіралі Шчуч. *Смаўжак на грыбах.* Вялікія Баяры Шчуч.

СМА'ЧАЛЬ *м. бат.* Падвей. *Смачаль — трава такая, расце на балоці.* Мачаск Бярэз.

СМА'ЧНА, СМА'ЧНЕ, СМА'ЧНО, СМА'ШНА, СМА'ШНО *прысл.* 1. Смачна. *Што сваё зраблю — смачна.* Руднікі Шальч. *Трэба паесці смачне.* Грыкені Вільн. *Едзят смачно пшэнічны хлеб.* Смаляніца Пруж. *Самакішу смашна есці з бульбай.* Мачаск Бярэз. *Як маладым — усё смашна.* Гемзы Шальч. *Смашно зварана — паеў.* Лоск Валож. 2. *перан.* Моцна. *Так смачна заснула!* Ґальшаны Ашм. *Прылягла і смачна заснула.* Валынцы В.-Дзв. *Запаліў люльку, лёх, захроп за трох, спіць смашна.* Валодзькі Маладз. *Заснула, смачно поспала.* Сялец Бяроз.

СМАЧНЕ'ЙШЫ, СМАШНЕ'ЙШЫ *прым. выш.* Больш смачны. *Смачнейшая* [бульба] *на пліце, як варыш.* Ялова Пруж. *Мая смашна картошка: такая мучаная, смачнейша за яйца.* Баброўнікі Гарад. *Аліва смашнейшая за алей.* Номікі Бабіц.

СМА'ЧНЫ', СМА'ШНЫ' *прым.* 1. Прыемны на смак. *Квашаніна сма́чная. Усё сма́чнае, усё будзем есці.* Солы Смарг. *Сма́чны печаны свой хлеп.* Чуркі Ашм. *Сма́чную патраву варылі з ґрабузніка.* Руднікі Шальч. *Сма́чная бульба.* Жодзішкі Смарг. *Ой, смачна́я ягатка!* Курапалле Паст. *Смачна́я тушонка.* Груздава Паст. *Натто сма́шны і натто белы хлеп, як на яеры спечаны.* Валеўка Навагр. *Сма́шны хлеп.* Альхоўцы Лях. *Сма́шны суп, макароны.* Мсцібава Ваўк. *Мая сма́шна картошка.* Баброўнікі Гарад. *Калі сыр памазаць мёдам, то такі смашны́ — ат'етку няма. Зварыла смашны́ боршч.* Лоск Валож. *Смашна́я сяганння вячэра. Нашы слівы смашны́я.* Асавец Віл. *Лаґясі збіралі, варылі, квасам залівалі, елі — смашная яда.* Малі Астр. *Смашна́я кісля́ ў дзешцы. Такія смашны́я лапуны.* Саланое Віл. *Чорны хлеп смашны́, салаткаватая кісля. Віграт такі смашны́, салоткі.* Вузла Мядз. *Смашны́я пірагі. Смашно́й рыбы напікла.* Мярэцкія Глыб. 2. у знач. *назоўніка н. смашно́е.* Смачнае. *Кап смашнога, а так і ў рот ня берыць. Смашнога дала паесці.* Рыбчына Віл. ∇ *Смашна кашка — не рабі цяшка.* Вецярэвічы Пух.; *парайн.* польск. *smaczny* 'тж'.

СМЕ'ЛА, СМЕ'ЛО, СМЯ'ЛА *прысл.* Без боязі, адважна. *Я яго не баюся, смела іду ў хату.* Асавец Віл. *Смела спацьму, не броў сон.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Я зашчапілася і смела спала.* Вузла Мядз. *Светло, пайду смело.* Стральцы Гродз. *Такі кавалак хваціць, смяла рэш! Ідзеця смяла!* Кіралі Шчуч.

*Буду смяла спаць.* Альхоўка Навагр.; *парайн.* польск. *śmiało* 'тж'.

СМЕ'ЛКА *м.* і *ж.* Смяльчак. *Мы — смелкі, не баяліся яго. Ну і смелка ты!* Дэгшні Шальч.

СМЕ'ЛНА, СМЕ'ЛЬНА *прысл.* Тое ж, што і с м ё л а. *Бяры смелна!* Магуны Паст. *Нічога ні будзя, смельна едзы!* Сакаўшчына Валож.

СМЕ'ЛЫ, СМЯ'ЛЫ, СМЕЛ *прым.* Адважны. *Смелы чалавек, нікога ні баіцца.* Асавец Віл. *Я смяла, не памру ат страху.* Старыя Смільгіні Воран. *Вот смялы, не баіцца!* Навасёлкі Свісл. ∇ *Хто смел, той і бел.* Ахрэмаўцы Брасл. *Як смел, дык сем з'еў, а як плох, то так здох.* Кіралі Шчуч.; *парайн.* польск. *śmiały* 'тж'.

СМЕ'НКА *ж.* Змена. *Чатыры шафёры на сменку ідуць, яны так работаюць.* Валынцы В.-Дзв.

СМЕРДЗЮ'Х *м. заал. перан.* Тхор. *Смердзюх — гэто тхор, ён такі фстрэнтны.* Баброўнікі Гарад.

СМЕРДЗЮХА' *гл.* СМЯРДЗЮХА' I, II

СМЕРЦЬ *ж.* Смерць. *Первая любоў не гіня да смерці. Яго да смерці прызывалі сватам.* Малі Астр. *Пака смерць прыдзя, трэба жыць.* Новікі Гродз. *Па смерці мужа я прыехала сюды.* Дзераўное Стаўб. *На 'дном гаду было тры смерці.* Альхоўцы Лях. *Мам, смерць прыходзіла па міне.* Кіралі Шчуч. *Па смерці губы ў яе былі чорныя—гішпанка спаліла.* Валеўка Навагр. *Прыдзе да мене смерць.* Янова Пруж. *Ён смерці не боіцца.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Дайней даў прысягу ксяндзу* [у час вянчання] — *і да смерці.* Канюкай Вільн. *Да смерці забівалі людзей паліцаі.* Слабада Мін. ∇ *Цяпер добра было п жыць, ды смерць бяжыць, за плячмі стаіць.* Саланое Віл. *Мыслі за гарамі, а смерць за плячыма — гэта ў нас такая прымавіска.* Солы Смарг. *Ат смерці і любосці не выкупісся. Мыслі за гарою, а смерць за плячыма. На смерць ці на пажар кукуя зязюля.* Малі Астр. *Смерць і радзіны не выбіраюць гадзіны.* Дэгшні Шальч. *Смерць без прычыны не бываіць. Ат смерці не аткупісся.* Вузла Мядз. *Смерць без вывадаў не бывае.* Збляны Лід. *Дзень пражыла — бліжай смерці.* Кіралі Шчуч. *Смерць ідзе і выват вядзе.* Альхоўцы Лях. *Горай смерці ня будзіць.* Пераброддзе Міёр. *Смерць ідзе — прычыну нясе.* Вецярэвічы Пух. *Старасць — ня радасць, смерць — не васеля.* Кудзялянцы Шальч. *Смерць справядлівая — усіх кладзе ў пясок.* Руднікі Шальч. *Смерць прышла — мяне дома не нашла, нашла мяне ў кабачке і румачка ў руцэ.* Саланое Віл. *Жыў натта бедны чалавек і ўзяў смерць за куму, думаў, што не памрэ, але захварэў. Прышла смерць, яна да яго, а ён паверніцца ў другі бок, а смерць-кума кажа: «Пане куме, круці не вярці, а прыдзецца памярці».* Солы Смарг. *Кап цябе смерць узяла!* Альхоўка Навагр. ◇ *Смерць на насу, смерць над носам* — пра набліжэнне

смерці. *Яму ўжо смерць на носу была. Смерць над носам, а яна — пра замуш.* Малі Астр. *Смерць панесці* — памерці. *Ад каня смерць панясла, з маленства баялася яна коні.* Ёдупка Шальч.

СМЕ'ТІНА *ж.* Парушына. *Сметіна ў око попала, боліт.* Сялец Бяроз. *Сметіна пупала в око.* Лука Нараўк.

СМЕ'ТНІК *м.* Месца, куды выкідваюць смецце. *Сметнік заваліў, куды сыпаць смяццё?* Рыбчына Віл. *Выкінула на сметнік.* Мыто Лід. *Нясі на сметнік высып!* Старыя Смільгіні Воран. *На сметніку куры.* Стральцы Гродз. *Высып на сметнік!* Рудня Астравітая Чэрв. *Нясі смецьце на сметнік!* Малькуны Ігн. *Вынясі на сметнік высыпі шмяццё!* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *śmietnik* 'тж'.

СМЕХ *м.* Смех. *Які тут смех?!* Кураполле Паст. *Даўней людзі стыду і смеху баяліся.* Вузла Мядз. *Дзе дзеці, тут і смех, і плач, а ў бяздзетнага — ціха.* Зબляны Лід. ◇ *Смех зрабіць*— абсмяяць. *З міне смех зрабілі старыя бабы.* Жыдзевічы Іўеў. *Тады зрабілі смех.* Завельцы Астр. *На смех вадзіць* — абсмейваць. *Нашто ты на смех люцкі водзіш?!* Пераброддзе Міёр.

СМЕ'ЦЁ, СМЕ'ЦЯ, СМЕ'ЦЦЯ *гл.* СМЯЦЁ

СМЕ'ШНА *прысл.* Пацешна. *Смешна з усяго.* Істра Лудз.

СМЕ'ШНЫ *прым.* Жартаўлівы. *Смешны чалавек на кажна слова шуткай аткажыць.* Ёдлавічы Брасл.

СМЕЯ'ЦЦА *гл.* СМЯЯ'ЦЦА

СМІЕ'ШКА *ж.* Жартаўніца. *Наша нэвіестка то такая сміешка, як прыйдэ до нас, то так вэсёло.* Курашэва Чыж.

СМІКА'ЛКА *ж.* Кемлівасць. *На ўсе надо руску смікалку мець.* Дзяніскавічы Ганц.; *парайн.* руск. *смекалка* 'тж'.

СМІЛО'К *м.* Хто смелы. *Вуон такі смілок, нічого нэ боіцца.* Курашэва Чыж.

СМІЛЬГА', СМІЛГА' *ж. бат.* Метлюжок лугавы. *Смільга разам с канапельцамі расцець, цененькая сцябялько, навярху, як мяцёлка.* Магуны Паст. *Смілга — такая трава.* Завельцы Астр.; *парайн.* літ. *smilga* 'тж'.

СМІЛЬҐІ'НЬКІ *мн. памянш.* Скроні. *Смільґінькі баляць.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *smilkiniaĩ* 'тж'.

СМІРЫ'ЦЦА *зак.* Паміріцца. *Яны разышліся, потым смірыліся і зноў запісаліся.* Слабада Мін.

СМІТА'НА *гл.* СМЯТА'НА

СМІТУСІ'ЦЦА *зак.* Разгубіцца. *Мяне разбудзілі, я смітусійся.* Вузла Мядз.

СМІЯ'ЦЦА *гл.* СМЯЯ'ЦЦА

СМОК *м.* Вясёлка. *Смок на небі.* Быстрыца Астр. *Вот стройны смок — увесь відаць і разнымі колерамі.* Навасёлкі Свісл.

СМОЛА' *гл.* СМАЛА'

СМО'ЛАК *м.* 1. Жэрдка, якая вешаецца пад столлю ўдоўж хаты або каля печы. *На смолак вешаюць адзеня, смолак —*

*балька на ўсю хату.* Стральцы Гродз. *Смолак быў каля печы, адзежу вешалі.* Парэчча Гродз. 2. Жэрдка, якая прымацоўваецца да латаў у свірне. *Смолакі — жэрдкі, дзе мяса вешаюць у свірне, да латаў прыкрапляюць.* Парэчча Гродз.

СМОЛІ́НА *ж.* Тое ж, што і смальня́к. *Стары пушов до бору нарубаті смоліны, бо нэма чым в пэчыэ роспалюваті.* Курашэва Чыж.

СМО́ЛКА *ж.* Малодзіва. *Смолка — малако такое перэт цяленнем.* Каменка Стара Сакол.

СМО́ЛКІ *прым.* Ліпкі. *Смолкія парабіліся рукі ат сліў.* Рудня Астравітая Чэрв.

СМОЛОВА́ТІ *незак.* Мазаць смалой. *Буду смоловаті, покрываті смолою.* Курашэва Чыж.

СМОЛЬ *ж.* ◇ *Смоллю лезці* — назойліва прыставаць. *Ну і баба, смоллю лезя да мушчын!* Вузла Мядз.

СМО́ЛЬНЫ *прым.* Тое ж, што і смалава́ты 1. *Смольны пень калолі і палілі.* Саланое Віл. *Смаляк смольны прыцягнуў.* Солы Смарг. *Смольны кавалак карча прынёс, на распал дзяржымо.* Кіралі Шчуч.

СМОЛЯ́К *гл.* СМАЛЯ́К

СМОЛЯНІ́СКО *гл.* СМАЛЯНІ́СКО

СМОЛЯЧО́К *гл.* СМАЛЯЧО́К

СМОРГ *выкл.* у знач. *вык.* Шморгнуць (носам). *Гэта сморг — смаргане ў нос і пойдзя.* Малі Астр.

СМО́РГАЦЦА *незак.* Адбельвацца. *А ідуць раненько, до сходу слонца, бо ветру велького нема, і палатно не боўтаецца, і ёно харашэ сморгаецца, не залятае.* Баброўнікі Гарад.

СМО́РГАЦЬ *незак.* 1. Церабіць (лён). *Лён прывязімо дахаты і сморгаям смаргачамі.* Дакудава Лід. *Як лён сморгалі— дасочачка з гваздзямі бралася, набітая гваздзямі.* Мішневічы Шум. *Смаргачом сморгалі лён.* Бакшты Іўеў. *Лён сморгаюць.* Крынкі Крын. *Сморгаў лён і кінуў сморжыну.* Баброўнікі Гарад. 2. Рваць. *Сцімбур у падваротніку ёсць, яго сморгаюць.* Плябанцы Ашм. *Вайной шчавук елі: сморгалі яго, сушылі, малолі, пяклі кукачкі.* Ракаўскія Швянч. *Дзятліну сморгалі і елі.* Мішневічы Шум. 3. Шараваць. *Рачны пясок белы, насыплюць на палатно, кіёчка ўкладаюць і палатно сморгаюць.* Мсцібава Ваўк. 4. Соўгаць туды-сюды. *Што шаткаўніцу сморгаць, я лепяй рукамі — нажом капусту накрышу.* Слабада Мін. 5. Шморгаць (носам). *Сморгаіць у нос.* Мярэцкія Глыб. ◇ *Хоць прыгаршчамі сморгай* —вельмі многа. *Хоць прыгаршчамі сморгай — от ягат!* Курaполле Паст.

СМОТРЭ́ЦІ *гл.* СМАТРЭ́ЦЬ

СМОЎЖ, СМОЎШ *м. заал.* 1. Тое ж, што і слíма́к 1. *Смоўж голы, на лісцінку ляжа, ліпкі.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Скінь смаўжа з грыба!* Рыбчына Віл. *На грыбох смоўш.* Малахоўцы Бар. *Смаўжа іскінула. Смоўш сядзіць на грыбу і есць, сядзіць*

*найбольш на праўдзівіку.* Рудня Астравітая Чэрв. *Смоўш на грыбах е.* Альхоўцы Лях. *Смоўжэ ў лесе на грыбах.* Сакаляны Сакол. 2. *перан. зневаж.* Хто нікчэмны. *Ах ты смоўш!* Саланое Віл.

СМОЧ *м.* Тое ж, што і с м а́ ч а л ь. *На смочы белыя катке. У смочы галоўка чорная, бэз лісточкаў — адно сцябло.* Вецярэвічы Пух.

СМО′ЧАК *м.* Самаробная соска. *Бывала, жуйку пажуюць, у шматку завяжуць і даюць смочак дзіцяці.* Каўняны Гродз.

СМО′ЧКА *ж.* Тое ж, што і с м а́ ч а л ь. *Смочка чорна, галоўка ё, а там беленькая.* Мачаск Бярэз.

СМРУТ *м. зневаж.* Хто выклікае агіду. *Ён брут, смрут і правакатар.* Малі Астр.; *параўн.* польск. *smród* 'смурод'.

СМУ′ГА′ *ж.* 1. Нанос пасля таяння снегу. *Вада выходзіць на лух, тады вада сайдзець, астаецца смуга́ на траве, на ўсім смуга́ ападаваіць. Кап дош прайшоў, смугу́ абмыў, і стала п трава расці. Пасля снегу вясной смуга́, трава не расце, пакуль смугу́ дош ні змыя.* Рыбчына Віл. *Смуга́ — як павучына. Смугі нагнала, дошч нада.* Граўжышкі Ашм. *Смуга́ — грась чорная, траву занясець.* Гайна Лаг. *Пака гэтай смуге́ ня смыя дошч, і трава ня будзя расці.* Кіралі Шчуч. *Вясной вада сышла і заносіць смуго́й.* Мсцібава Ваўк. *На траве смуга́, снех сышоў. Дарогу зацягнула смуго́й.* Крэва Смарг. *Кап снех змыў гэту смугу́!* Руднікі Шальч. *Па траве гэтака смуга́ — ад дажджу нанос.* Масілавічы Сл. 2. Ціна. *Зацягнуўшы смуго́й зялёнай, дзе стаячая вада.* Саланое Віл. *Смуго́й ваду зацягнула.* Жылі Іўеў., Солы Смарг. *У канаве зялёная вада, смугі нагнала.* Вецярэвічы Пух. *Смуга́ на вадзе збярэцца, стаіць. На вадастоіні смуга́ стаіць, вады не п'юць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Смуга́ — нанос на вадзе.* Рудня Чэрв. *Смуга́ сажалку зацягнула. Смуга́ на стаялай вадзе.* Гемзы Шальч. 3. Нізкае месца. *Смуга́ — бальшая нізіна абразуецца, там вада стаіць.* Кузьмічы Люб. *Сму́га паміш поля, такая лагчаіна заростае травою, там, на́быць, ні высыхае, трава расце, як гніды, мы так называем.* Ісерна Слуц. 4. Грузкае балота. *Смуга́ — топкая балота, граская, чорная вада, такоя благоя места.* Дакудава Лід. *Як улес у смугу́, дык вылесці не мох, чуць не ўтапіўся. У смугу́ падаюць жывёлы. Карова загразла ў смугу́. Конь тапіўся ў смугу́, алі выляс.* Жылі Іўеў. *Праваліўся ў смугу́.* Міратычы Карэл. *У нас сму́га ў лясу была, там граско, вада, кусты.* Стральцы Гродз. 5. Туман, дымка. *Смуга́ небо зацягнула.* Крэва Смарг. *Смуга́ — туман, зацягуя сонца.* Старыя Смільгіні Воран. 6. Каламута. *Смуга́ апала на дно слоіка. Смуга́ з вады апала на дно пасуды.* Рудня Астравітая Чэрв. 7. Жамерыны. *Смуга́ ад воску астаецца.* Рыбчына Віл. 8. Пена. *Як варыцца што-небуць, а зверху плейка і сажы насыпалася, і смуга́ наверху, нада сабраць.* Гемзы Шальч. 9. Налёт на металічным

посудзе. *Смугá выступая на алюмінівай пасудзе.* Рыбчына Віл. 10. *перан.* Хто знясілены хваробай, схуднелы. *Як чалавек збалеў, то смугóй стаў.* Мсцібава Ваўк. *Чысто смугóю стала, худая.* Сялец Бяроз. ∇ *Чуць ідзе, як смугá, яна сташчоная. Ідзе чуць жывая, як смугá.* Гемзы Шальч.

СМУ'ГЛЫ I *прым.* Смуглы. *Смуѓлы ў ліцэ.* Бакшты Іўеў.

СМУ'ГЛЫ II *прым.* Гонкі (пра дрэва). *Смуѓлая дзерава харошая, роўная.* Ёдлавічы Брасл.

СМУЖА'ВІНА *ж.* Тое ж, што і с м ý г á 3. *На такіх смужавінах плыве зяленіна.* Дакудава Лід.

СМУЖНЯ'К I *м.* Тое ж, што і с м ý г á 4. *У смужняк улезлі — чуць павулазілі.* Кузьмічы Люб.

СМУЖНЯ'К II *м.* Невялікі хваёвы лес, які расце астраўкамі на балоцістых месцах. *Смужняк — іглісты лес. Каля Сапоцкіна ест смужнякі сасновыя нявелькія. Смужнякі на небальшых кусочках растуць. Смужняк невысокі.* Мсцібава Ваўк.

СМУРГЛІ' *мн.* Тое ж, што і с м а р к а ч ы́. *Смурѓлі цякуць з носа. У цябе выляцяць смурѓлі з носа.* Каўняны Гродз.; *параўн.* літ. *smùrgliai* 'тж'.

СМУРО'Д, СМУРО'Т *м.* Непрыемны пах. *Смуроду поўну хату нарабілі.* Малі Астр. *Чыгун як прыгарыць — смурот велькі, гэдака вонь.* Міратычы Карэл. *Фу, які смурот у хаці, смярдзіць гэты воздух!* Вострава Маст. *Дальбог, не магу ў горадзе, мне смурод адусюль, дыхаць не магу.* Пацаўшчына Дзятл. *Ад жабы жаднага* [ніякага] *смуроду няма.* Гемзы Шальч.

СМУРО'ДЗІНА *ж.*, СМУРО'ДЗІНЫ *мн.* Тое ж, што і с м а р ó д а. *Смуродзіну п'юць ад даўлення.* Ёдлавічы Брасл. *Па гародзя смуродіна расце.* Груздава Паст. *Смуродзіны многа.* Рыбчына Віл., Альхоўцы Лях. *Смуродзіна памагае, як пад грудзьмі баліць.* Кіралі Шчуч. *Смуродзіну я ababраўшы.* Паляцкішкі Воран. *Перацерла смуродзіну з сахарам.* Беразіно Докш. *Смуродзіну абіраюць.* Валеўка Навагр. *Смуродзіны ліскі кладу ў агурке.* Вецярэвічы Пух. *Гэты рок смуродзіны, як важанбіны* [рабіны]. Кудзялянцы Шальч. *Куст смуродзінаў. Смуродзіны — чорныя, парэчкі — чырвоныя.* Магуны Паст.

СМУРОДЗІ'СКО *н.* Тое ж, што і с м у р ó д. *Зробіш у хаці смуродзіско.* Смаляніца Пруж.

СМУРО'ДНІК *м.* 1. Парэчнік. *Смуроднік расцець.* Саланое Віл., Груздава Паст. 2. Галінкі чорных парэчак. *Наламай смуродніку, запару.* Мярэцкія Глыб. *Смуроднік — голля.* Рудня Астравітая Чэрв.

СМУРО'Т *гл.* СМУРО'Д

СМУТКАВА'ЦЬ *незак.* Сумаваць. *Смуткуя яна, адна асталася.* Рыбчына Віл.

СМУ'ТНА, СМУ'ТНО *прысл.* Сумна. *Смутна, ні пагаворыш,*

*адна я.* Старыя Трокі Трак. *Пабыў пара дні, бо як німа, то такось смутно.* Баброўнікі Гарад.; *параўн.* польск. *smutnie* 'тж'.

СМУ'ТНЕНЬКІ *прым. памянш. перан.* 1. Змарнелы. *Сёлета німа росту цыбулі, смутненькая цыбуля.* Багушэвічы Бярэз. 2. Несамавіты. *Галена ж замуж выходіт, жэніх так собе — смутненькі.* Сялец Бяроз.

СМУ'ТНЫ *прым.* 1. Сумны. *Смутная яна, смуткуя.* Рыбчына Віл. *Смутны ён, невасолы.* Талейкі Швянч. *Смутныя, скучныя людзі.* Буды В.-Дзв. 2. *перан.* Пахмурны. *Смутны дзень, смутно, цёмно.* Вострава Маст.; *параўн.* польск. *smutny* 'тж'.

СМУЦІ'ЦЦА *незак.* Тое ж, што і с м у т к а в а́ ц ь. *Смуціцца яна.* Талейкі Швянч. ▽ *Не смуцься згубіўшы, не цесся знайшоўшы.* Кіралі Шчуч.

СМЫЗА' *ж.* Імжа. *Смыза ідзе на дварэ.* Граўжышкі Ашм.

СМЫК I *м.* 1. *муз.* Смычок. *Смык — што грае на скрыпцы.* Альхоўцы Лях. 2. Пугаўё. *Смыкам засмарганула за шыю сабаку* [цацку] *і нясе на скрыню.* Гемзы Шальч.

СМЫК II *м. устар.* Прымітыўная барана. *Смык рабілі так: рашчэпіць ёлку сукаватую, чатыры палавінкі нада збіць, запрэхчы каня і пацягаць. Смыком высмаліць* [пабарануя] *поля. Дзелайця смык пасяку баранаваць.* Граўжышкі Ашм. *Смык— барана, дайна смыком баранавалі. Смык рабілі с сукаватай елкі, выбіралі разложыстую елку.* Саланое Віл.

СМЫКА'ЛКА *ж.* ◇ *Смыкалку знаць* — быць кемлівым. *Ласа карова смыкалку зная.* Мсцібава Ваўк.

СМЫ'КА'ЦЬ *незак.* 1. Тое ж, што і с м о́ р г а ц ь 2. *Не смыка́й авёс!* Мсцібава Ваўк. 2. *перан.* Тое ж, што і с м о́ р г а ц ь 4. *Нэ смы́кай ты гэтую торбу ўзад-упэрод!* Сялец Бяроз.

СМЫ'КНУ'ЦЬ *зак. экспр.* 1. Адляцець. *Кап палено не смы́кнуло!* Мсцібава Ваўк. 2. Выскачыць. *Смыкну́ла праз вакно і пашла.* Мсцібава Ваўк. 3. Украсці. *Смыкну́ла сена, зярна і пабегла, пану даказалі, ён мяне пацягнуў до́бро.* Мсцібава Ваўк.

СМЫЛЕ'ЦЬ *незак.* Моцна балець, пячы. *Ногі вясной як патрэскаяцца — натта смыліць. як мыдлам памыяш.* Малі Астр. *Асот лезіць у ногі, кап ён звеўся, аш ногі сталі смылець.* Кураполле Паст.

СМЫЛЮ'ЧЫ *прым.* Балючы. *Смылючыя ўколы прынімала.* Кураполле Паст.

СМЫСЛЁНЫ *прым.* Кемлівы. *Малое, а смыслёны. Быў смыслёны ты.* Саланое Віл.; *параўн.* руск. *смышленый* 'тж'.

СМЫ'ТТЕ *гл.* СМЯЦЁ

СМЫЧА'Й *м.* Тое ж, што і с м а́ ч а л ь. *Смычай — балотная трава, мяккая трава, у балоце расце. У смычаю парасце чарнагалоў, шышачка такая, цвіце белым клачком ваты. Смычаю звяжа ды вымяца печ.* Рудня Астравітая Чэрв.

СМЫЧА'ЛЬ *м.* Тое ж, што і с м а́ ч а л ь. *Смычаль парос, як*

*нітачкі, без лісткоў, зразу чорненькія галоўкі, а як пастарэя— белым зацвіце пушком, валаскі вісяць.* Рудня Чэрв.

СМЫ′ЧКА *ж.* 1. Тое ж, што і с м а́ ч а л ь. *Смычка навярху беленька, як вата.* Кураполле Паст. 2. Разнавіднасць асакі. *Смычка — такая асака, расце на лугох. Смычка ў балоце расце, асака така.* Каўняны Гродз. *Смычка, або ляжджай.* Рыбчына Віл. *Смычка—шырокія лісты.* Граўжышкі Ашм. *Смычка, як цыбульнік, расце, смычка танчэйшая.* Бакшты Іўеў.

СМЫ′ЧЫНЫ *мн.* Пакулле. *Смычыны дайней яўрэі куплялі.* Альхоўцы Лях.

СМЫ′ЧЫЦЬ *незак.* Тое ж, што і с м о́ р г а ц ь 2. *Чарнагалоўку каровы натта ядуць, смычаць, як пацягнуць, то яна выцягаецца белымі карэньчыкамі.* Пацаўшчына Дзятл.

СМЫЯ′ТЫСЬ *гл.* СМЯЯ′ЦЦА

СМЭ′РҐІ толькі *мн.* Тое ж, што с м а р к а ч ы́. *Папусціла смэрґі, выцерці не можаш?* Пацаўшчына Дзятл.; *парайн.* літ. *smùrgliai* 'соплі'.

СМЭ′РҐЛЯ *м.* і *ж. зневаж.* Хто смаркаты. *Смэрґля ты!* Парэчча Гродз.; *парайн.* літ. *smùrgla* 'тж'.

СМЭ′РДА *м.* і *ж. зневаж.* Хто неахайны. *Смэрда ты — бакі гразныі!* Валынцы В.-Дзв.

СМЭРКА′НЕ *н.* Змярканне. *На смэркані зімней на дворыэ зробілосе.* Курашэва Чыж.

СМЭРКА′ТІ *незак.* Змяркацца. *Начынае смэркаті, трэба іті коровы доіті.* Курашэва Чыж.

СМЭ′РКАЦЬ *незак.* Тое ж, што с м а р к а́ ц ь 2. *Смэркае і смэркае — голы бегаў.* Завельцы Астр.

СМЭЯ′ЦІСА *гл.* СМЯЯ′ЦЦА

СМЯ′ГЛЫ *гл.* СМА′ГЛЫ

СМЯ′ГЦІ, СМЯ′ХЦІ *незак. перан.* Вельмі любіць каго-н., не шкадуючы сябе. *Так няможна смяхці над дзіцям, сябе забыла.* Рыбчына Віл.

СМЯ′ЛА *гл.* СМЕ′ЛА

СМЯ′ЛЫ *гл.* СМЕ′ЛЫ

СМЯЛЬНЕ′Й *прысл.* Смялей. *Гавары смяльней, ідзець аспадыня.* Ністанішкі Смарг.

СМЯРДЗЕ′ЦЬ *незак.* Дрэнна пахнуць. *Як дзе якая падла смярдзіць, хоць нос затыкай.* Кураполле Паст. *Кашулю здзень, а то смярдзіць потам.* Ёдлавічы Брасл. *Бочка смярдзіць дзёхцям.* Мярэцкія Глыб. *Бочка смярдзіць капустай ці рыбай, трэба яе парыць, каменьчыкі кідаюць.* Вузла Мядз. *Смярдзіць* [бочка] *сялёткаю.* Рудня Астравітая Чэрв. *Смярдзіць вада стаячая.* Рыбчына Віл. *Смярдзела картошка ад удабрэня.* Навасёлкі Лід. *Трава натта смярдзіць. Атчыні дзверы, бо клушч гарыць, натта смярдзіць.* Кіралі Шчуч. *Смярдзіць карасіна.* Гемзы Шальч. ∇ *«Ня еш часнаку — не будзіш смярдзець»,— так ка-*

*жаць, калі хто распусны.* Малі Астр. *Ей мужык смярдзіць, а любоўнік пахніць.* Вузла Мядз.

СМЯРДЗЁНКА *ж.* Назва розных траў, якія маюць непрыемны пах. *Гэта трава — смярдзёнка, яна смярдзіць.* Старыя Смільгіні Воран.

СМЯРДЗЮ'ЖЫ *прым.* Смярдзючы. *Смярдзюжа трава.* Глівін Барыс.

СМЯРДЗЮ'К *м. перан. зневаж.* Хто смярдзючы. *Смярдзюк ты!* Пераброддзе Міёр.

СМЯРДЗЮ'КА *м.* і *ж.* Тое ж, што і смярдзю́к. *Смярдзюка ты!* Беразіно Докш.

СМЯРДЗЮХА' I, СМЕРДЗЮХА' *ж. бат.* Палявая мята. *Смярдзюха ў нас расце.* Жылі, Бакшты Іўеў. *Е зелё смердзюха.* Міратычы Карэл.

СМЯРДЗЮХА' II, СМЕРДЗЮХА' *ж.* 1. *заал.* Лясны клоп. *Смярдзюха зялёная, запаўзе — ваняя.* Тухавічы Лях. *Смярдзюху задушыш — такі пах!* Рудня Астравітая Чэрв. *Смердзюха ваняя.* Малыя Аўцюкі Калінк. 2. Тое ж, што і смярдзю́к. *Смярдзюха ты!* Магуны Паст.

СМЯРДЗЮХА' III *ж. хім.* Хлорная вапна. *Насыпаюць у бутылку смярдзюхі. Так — флёрка, а па-беларуску — смярдзюха.* Чуркі Ашм.

СМЯРДЗЮ'ЧКА I *ж.* 1. Тое ж, што і смярдзёнка. *Смярдзючка нейкая: кветачка красівая, а смярдзіць.* Рыбчына Віл. *Ат травы смярдзіць, смярдзючка гэта.* Мярэцкія Глыб. *Як смярдзіць трава, гавораць: «Смярдзючка гэта!»* Жодзішкі Смарг. *Смярдзючая трава, ня рві гэту смярдзючку.* Палік Барыс. 2. Тое ж, што і смярдзюха́ I. *Смярдзючка ат кашля.* Рыбчына Віл.

СМЯРДЗЮ'ЧКА II, СМЯРДЗЮ'ШКА *ж.* 1. Тое ж, што і смярдзюха́ II, 1. *Смярдзючка—гэта клоп лясны.* Мачаск Бярэз. *Смярдзючка — казявачка такая ё, у жыця яна.* Лапічы Асіп. *Смярдзюшка вельмо смярдзіць.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Тое ж, што і смярдзю́к. *Смярдзючка ты, ат цібе смярдзіць гноям.* Ёдлавічы Брасл.

СМЯРДЗЮ'ЧКА III, СМЯРДЗЮ'ШКА *ж.* Тое ж, што і смярдзюха́ III. *Суравое мачылі ў лузе — попял запаравалі — смярдзючку яшчэ туды.* Навасёлкі Лід. *Некалі называлі флёрку смярдзюшкай.* Дакудава Лід.

СМЯРДЗЮ'ЧЫ, СМЯРДЗЯ'ЧЫ *прым.* 1. Тое ж, што і смярдзю́жы. *Сабачая мята — смярдзючая трава, смярдзючым пахніць.* Валынцы В.-Дзв. *Смярдзючая трава.* Рыбчына Віл., Багушэвічы Бярэз., Мярэцкія Глыб. *Смярдзючы багун. Смярдзючы шашок.* Рудня Астравітая Чэрв. *Нейка смярдзяча трава.* Стральцы Гродз. *Смярдзячая трова, ідзем паглядзім.* Альхоўка Навагр. *Смярдзяча трава.* Масілавічы Сл., Пацаўшчына Дзятл. *Смярдзяча вада, як даўно стаіць.*

Навасёлкі Свісл. *Багон смярдзячы.* Старыя Трокі Трак. *Смярдзячыя анучы повесіў.* Альхоўцы Лях. 2. Які насычаны смуродам. *Сядзяць у смярдзячум хлеве.* Альхоўцы Лях.

СМЯРДЗЮ'ШЧЫ, СМЯРДЗЯ'ШЧЫ *прым.* Тое ж, што і смярдзю́жы. *Нейка трава смярдзюшчая, натта смярдзіць. Смярдзюшча трава, нарвалі яе, аш рукі смярдзяць.* Кіралі Шчуч. *Смярдзюшчая трава.* Стральцы Гродз. *Смярдзяшча трава.* Сакаляны Сакол.

СМЯРДЗЯЛО' *м.* і *ж. зневаж.* Хто няўмелы. *Смярдзялоты, не запрох каня!* Каўняны Гродз.

СМЯРДЗЯ'ЧЫ *гл.* СМЯРДЗЮ'ЧЫ

СМЯРО'ТКА *ж. памянш.* да смерць. *Дай бох добрую смяротку!* Кураполле Паст.

СМЯРТЭ'ЛЬНІЧКІ *мн. памянш.* Абутак для нябожчыка. *Хадзілі смяртэльнічкі купляць нябошчыку.* Дэгшні Шальч.

СМЯРТЭ'ЛЬНЫ *прым. перан.* Невыносны (пра боль). *Такі боль смяртэльны, так цісня і цісня.* Малі Астр. ∇ *Яйцо бело, як смяртэльно.* Пацаўшчына Дзятл.

СМЯРЦВІ'Ц *м.* Нябожчык. *Смярцвіцоў закручвалі ногі ў белыя ганучы і чырвона пража, абматвалі нітачкамі, бы абувалі. «Устаня смярцвіц. Смярцвіцэ паўстаюць ды прыдуць па цябе».— «Хай прыходзяць!»* Дзяніскавічы Ганц.

СМЯТА'НА, СМІТА'НА *ж.* 1. Смятана. *Смятана — як атстойваюць малако.* Чуркі Ашм. *Смятана кісла і салотка.* Вялікія Баяры Шчуч. *Бушуя смятана, будзя велька масла.* Парэчча Гродз. *Дажа смятаны нельга есці мне.* Валеўка Навагр. *Падаіў карову, вяршок сліў і смітану сабіралі.* Індра Красл. ∇ *Ката смітана ні парвець — добрая ежа нікому не шкодзіць.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. *кулін.* Мачанка, прыгатаваная з цёртых канапель. *Калапні разатрэш і вадой разводзіш, зліваіш у гаршчэчак уставіш у печ, і наверх падойміцца, назбіраем гусценькай, як смятана, прысалодзіш — і алаткі, пірашкі мачаем.* Саланое Віл. *Каноплі таўклі і варылі смятану, і мачалі алаткі. Рабілі смятану с канапель, пяклі картафляныя латкі, мачалі ў смятану і елі.* Рудня Астравітая Чэрв.

СМЯТА'НКА *ж.* Вяршкі. *Смятанку трэба зняць.* Магуны Паст.

СМЯТУХА' *ж.* Адходы пры веянні. *Смятухі бывая многа, калі веюць, бліжэй ляціць.* Стральцы Гродз.

СМЯ'ХЦІ *гл.* СМЯ'ГЦІ

СМЯЦЕ'Й, СМЯЦЯ'Й *м. бат.* Галаўня. *У пшаніцы смяцей. Много смяцяю.* Старое Сяло Зэльв., Вострава Маст. *Смяцей бывая ў ячмені, пшаніцы. Стольki смяцяю бывая!* Малахоўцы Бар. *Смяцей у пшаніцы. Смяцею много.* Міратычы Карэл. *Спарыння ў жыці, смяцей у ячменю, у прося.* Тухавічы Лях. *Смяцяй чорны, як сажа, много ў ячмені смяцяя.* Альхоўка Лях.

СМЯЦЁ, СМЯЦЦЁ, СМЯЦЕ', СМЯЦЦЕ', СМЕ'ЦЁ, СМЕ'-

ЦЯ, СМЕ'ЦЦЯ, СМЫ'ТТЕ *зб. н.* Смецце. *Смяцё вымяла. Было ўсякага смяця.* Солы Смарг. *Венікам згорняць смяцё.* Крэва Смарг. *Вада прыгнала смяцё да боку лужка. Але ш ты мяцеш: толькі сярот хаты і па ўсіх кутках паразганяла смяцё.* Кіралі Шчуч. *Смяцё нясі на сметнік!* Старыя Смільгіні Воран. *Смяцё замяла ў кут, хата не мецена.* Паляцкішкі Воран. *Смяцё ўсенька падмятая падолкамі спадніцы.* Рудніκі Шальч. *Смяццё вынясі!* Асавец Віл. *Смяццё — як хату, двор мяцём. Гэта называюць смяццё. Нясі смяццё на сметнік!* Рыбчына Віл. *Не капайся ў смяццю!* Гемзы Шальч. *У шушпіцы — смяццё, зелле разнае. Замяці хату і смяццё вынясь!* Вузла Мядз. *Усюды смяце.* Стральцы Гродз. *Смяце выносіла на сметнік.* Новікі Гродз. *Смяцце вынясі на сметнік!* Малыя Аўцюкі Калінк. *Смецё у хаці. Смецё замяла, вынесь с хаты!* Старое Сяло Зэльв. *Смецё замяту.* Міратычы Карэл. *Смецё высып!* Альхоўцы Лях. *Усе выняслі іс хаты, смецця адно асталося.* Збляны Лід. *Смецця ў качарэжнік падмяла. Выбрала смецця.* Рудня Астравітая Чэрв. *Замытытэ, мамо, смытте.* Дзмітравічы Кам. ∇ *Я і ў смяці найду такога жаніха.* Вузла Мядз.; *параўн.* польск. *śmieci* 'тж'.

СМЯЦЮ'Х, СМЯЦЮ'К *м. заал.* Аўсянка. *Смяцюх — птушка маленькая, яна ўсё па сорных мястах, жоўценькая.* Дакудава Лід. *Смяцюх — гэта пташка нейкая ест.* Вялікія Баяры Шчуч. *Смяцюк — жоўценькі, ён с чупком, іх называюць і жаўтабрушачкі. Смяцюкі зімуюць.* Старыя Смільгіні Воран.

СМЯЮ'ХА *м.* і *ж.* Хто многа смяецца. *Празвалі бабу смяюха. Ен смяюха, усё смяецца.* Мярэцкія Глыб.

СМЯЯ'ЦЦА, СМЕЯ'ЦЦА, СМІЯ'ЦЦА, СМЫЯ'ТЫСЬ, СМЭЯ'ЦІСА *незак.* 1. Смяяцца. *Малыя дурэюць, смяюцца.* Слабада Мін. *Што знайшла, што так смяесся?* Вузла Мядз. *Хто смяяўся, а хто плакаў пасля вайны.* Ёдупка Шальч. *Чаго ты сміесся?* Лісна В.-Дзв. 2. Насміхацца. *Усе людзі з цябе смяюцца.* Ахрэмаўцы Брасл. *Адзін з аднаго смяёмся.* Курапалле Паст. *Смяюцца з мяне. Ня смейся з яе!* Кемялішкі Астр. *Я пытаю: «Як усё сатварылася на свеця?» — яны з мяне смяюцца.* Слабада Мін. *Ен смеецца з мяне. З яго сталі смеяцца.* Саланое Віл. *Сміяцца с цябе будзіць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Будэ смыятысь з ёго.* Дзмітравічы Кам. *З мэнэ смэяцімуцца бабы, як пойдэм до грэчкі.* Смаляніца Пруж. ∇ *Гаршчок с катла смяецца!* Малі Астр. *Хто с каго смяецца, тое таму застанецца.* Вецярэвічы Пух. *Не смейся, рабé, дась бох і табе!* Курапалле Паст.

СНАВА'ДЛА *н. ткац.* 1. Прылада для снавання красён. *Снавадла — дошчачка для снавання.* Лісна В.-Дзв. 2. Станок для снавання красён. *Снавадлы былі зроблены бальшыя, і снавалі на снавадлах, а цяпер снавадлы разваліўшыся.* Малькуны Ігн.

СНАВА'НЯ *н.* Снаванне. *Як ты снуеш? Ты на той кол не палажыла, дзе трэба, якоя тваё снаваня?!* Кіралі Шчуч.

СНАВА'ЦЦА *незак. перан.* Рухацца туды-сюды. *Снуюцца дзверы.* Гальшаны Ашм.

СНАВА'ЦЬ, СНУВА'ЦЬ *незак.* 1. Рабіць аснову палатна. *Калкі ў сцяну — і снуём.* Кухты Віл. *Вялікая работа кросна снаваць.* Рыбчына Віл. *Як снаваць, нада дзве вітушачкі.* Солы Смарг. *Былі снойкі такія, то снавалі. Дзесяць сцен снуеш чы пяць?* Васілевічы Гродз. *Як снавалі, то крух нада такі круціць.* Навікі Лудз. *На сцяну снавалі.* Мачаск Бярэз. *На сценах снавалі аснову.* Старыя Трокі Трак. *Па вуглам набіты колікі, снавалі на колікі.* Слабада Мін. *Снаваць нада, як напралі, вітухі такія былі, імі снавалі.* Падгаі Мін. *Снуём у дзве ніткі.* Дзераўное Стаўб. *З ніцей снуюць аснову на снойніцы.* Валеўка Навагр. *Дываны ткалі, кужалям снавалі, а воўну пралі і патыкалі.* Вузла Мядз. *Кросна — што снуюць.* Хатынічы Ганц. *Кросна снуе з клубка.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Кужаль снавалі і ткалі.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Ніткі, як спрадзеш, снуюць і ткуць.* Яніна В.-Дзв. *Снуваць пайду.* Мярэцкія Глыб. 2. *перан.* Рухацца ў розных кірунках. *Вот сную і сную: то ў хату, то с с хаты, то ў хлеў, тапчуся і тапчуся.* Ністанішкі Смарг. 3. *перан.* Плесці павуціну. *Павук снуе кросны.* Рыбчына Віл. *Павук снуе павучыння.* Солы Смарг. 4. *перан.* Закладваць аснову. *Плот снавалі: слупкі закопвалі і паясы прыбівалі — плот аснованы.* Мсцібава Ваўк.

СНАВІ'ДЛА *н.* Тое ж, што і с н а в á д л а 2. *Снавалі на снавідла. Снавідла пахожа, як вітушкі.* Магуны Паст. *Снавідламі снавалі.* Грыкені Вільн.

СНАПАВЯЗА'ЛКА *ж. с.-г.* Снопавязалка. *Снапавязалка ўжэ сама снапы вяжэ.* Баброўнікі Гарад.

СНАПО'К *м. памянш.* да с н о п. *Лён рвалі, у снапкі пастаўляяць.* Груздава Паст. *Лён у снапкі вязалі. Лён ставілі па пяць снапкоў.* Гемзы Шальч. *Лён у снапкі вязалі.* Грыкені Вільн.

СНАПО'ЧАК *м. памянш.* да с н о п. *Лён рвалі, у снапочкі вязалі.* Латыгаль Віл.

СНАРГЛЯ' *м і ж.* Тое ж, што і с м э р ґ л я. *Снарґля ты, абсмарґляўся!* Ёдлавічы Брасл.; *параўн.* літ. *snarglius* 'сапляк'.

СНАРО'ЎКА *ж.* Звычка. *Ой, у яго снароўка, усё прыходзіць да мяне.* Баброўнікі Гарад.

СНАСЦЬ *ж.* 1. Рыбалоўная снасць. *Рыбу пойдуць лавіць, снасць цягнуць усякую.* Ахрэмаўцы Брасл. *Цімох усю снасць панімая.* Вецярэвічы Пух. 2. Панарад. *Трэба каня запрэгчы ў снасць.* Жылі Іўеў. *Снасць — не так, як вос, а закладаюць толькі доскі.* Тухавічы Лях. *На воз без драбін кажуць снасць.* Альхоўцы Лях.

СНАЎДА'ЛЬ *м.* і *ж. зневаж.* Хто ходзіць без справы. *Снаўдаль дзела не імеіць, а сноўдаіць.* Кураполле Паст. *Снаўдаль ты!* Чычалі Швянч.; *парайн.* літ. *snaudãlius* 'соня'.

СНАЎДА'ЦЦА, СНАЎДА'ЦА *гл.* СНО'ЎДАЦЦА

СНАЎДУЛІ', СНАЎДА'ЛІ, СНАЎДЭ'ЛІ *мн. бат.* Агаткі. *Снаўдулі ружаватыя і белыя на кароткіх ношках, з іх мы вянкі вілі.* Едлавічы Брасл. *Снаўдалі—кветкі такія маленькіе, белые, ружовые.* Чычалі Швянч. *Снаўдэлі — кветкі, у нас яны расцуць, ад іх спаць хочацца.* Малькуны Ігн.; *парайн.* літ. *snaudãlės* 'тж'.

СНАЎНІ'ЦА *гл.* СНО'ЎНІЦА

СНАЎНЯ' *ж.* Тое ж, што і с н а в á д л а 2. *Снаўня — для снавання* [красён]. Рыбчына Віл.

СНЕГ, СНЕХ *м.* Снег. *Па снегу ідзе.* Альхоўка Навагр. *У прошлым годзя снягі былі.* Быстрыца Астр.

СНЕГО'ЎЦЫ, СНЕГО'ВЦЫ *гл.* СНЯГО'ЎЦЫ

СНЕГУ'Р *м. заал.* Снягір. *Снегур — ёсць такая птушачка. Прыляцелі ўжэ снегуры.* Альхоўцы Лях.

СНЕ'ДАННЯ *гл.* СНЯДА'НЯ

СНЕ'ДАЦЬ *незак.* 1. Есці раніцай. *Снедаць бацька ідзець.* Саланое Віл. 2. Прыгатаваць снеданне. *Трэба зрабіць снедаць.* Плябанцы Ашм.

СНЕ'ЖКІ, СНЕ'ШКІ толькі *мн.* Камякі снегу. *Дзеці гуляюць, снешкі кідаюць.* Руднікі Шальч.

СНЕ'ЖЫЦЬ *незак.* Ісці (пра снег). *Снег снежыць.* Ракаўскія Швянч.

СНЕКА'ЦЬ *гл.* СНЯКА'ЦЬ

СНЕХ *гл.* СНЕГ

СНЁМКА *ж.* Рентгенаўскі здымак. *Не зналі, як лечыць бес снёмкі. Снёмкі зробілі і прызналі радзікуліт і атлажэнне салей.* Беразіно Докш.

СНІГО'ЎЦЫ *гл.* СНЯГО'ЎЦЫ

СНІЖЫ'ЦЯ *ж.* Завея. *Такая сніжыця, што чорт носа нэ высадіт.* Курашэва Чыж.

СНІПЕ'ЦЬ *незак.* Шыпець. *Сніпіць гадзіна.* Быстрыца Астр.; *парайн.* літ. *šnỹpšti* 'тж'.

СНІСТО'ЖЫЦЬ *зак.* Знішчыць. ∇ *За катамі ні прайсці вуліцу, кап іх сністожыў!* Вялікія Нястанавічы Лаг.; *парайн.* руск. *уничтожить* 'тж'.

СНІТ *м.* Лінія, па якой распілоўвалася дрэва ўдоўж ці ўпоперак. *Як трачуеш* [пілуеш], *то добрэ дівісе, коб сніт просто вышов.* Курашэва Чыж.

СНІ'ТКА, СНЫ'ТКА *ж. бат.* Снітка звычайная. *Снітка — лапшатая трава, свіням, каровам, і самы снітку варылі.* Плябанцы Ашм. *Снітка — трава такая.* Старыя Смільгіні Воран., Багушэвічы Бярэз. *Снітка расце ў любом месця, свіная трава.* Слабада Мін. *Снітка зялёная.* Кіралі Шчуч. *Снітку свіння доб-*

*ра ядуць.* Альхоўка Навагр. *Калісь і снітку варылі і елі.* Мсцібава Ваўк. *У сныткі лапачкі прадаўгаватыя, варылі і елі калісь, вітамін многа. Снытка расце ў лясу, тонкая, высокая, распасцірастая.* Ухвала Круп.

СНІЦІ́НА *ж.* Дошка, якой закрываюць бакавы ўваход у калодачны вулей. *Сніціна ў ляжаку, дошка такая.* Старое Сяло Зэльв.

СНІ́ЦЦА *незак.* Сніцца. *Яму сніцца такі сон.* Кудзялянцы Шальч. *Мне сніўся сон, што бацька памёр.* Ахрэмаўцы Брасл. *Мне снілася чорная варона — дрэнны сон.* Пераброддзе Міёр.

СНІЦЬ *незак.* Сніць. *Што я сніла, і не знаю.* Курапалле Паст. *Сніла сон дрэнны.* Малькуны Ігн. *Легла спаць, сню, што ён прышоў.* Гальшаны Ашм. *На дош маму сніла.* Парэчча Гродз. *Цэлы гот штодзень сніла дачку.* Альхоўка Навагр. ∇ *Ты ня спіш, а сніш* — гаварыць недарэчнае. Старыя Смільгіні Воран.

СНО́ЙКА *ж.* Тое ж, што і с н а в а́ д л а 2. *Снойкі такія былі дзеравяныя, круцяшчыя, круціліса, снавалі на снойцы. Круцяшчая снойка, то круці і круці, стаіш на адным месцы. Былі хадзячыя снойкі, ходзіш, як снуеш.* Васілевічы Гродз.

СНО́ЙНІЦА *ж.* Тое ж, што і с н а в а́ д л а 2. *Ніткі на снойніцу снавалі.* Стральцы Гродз. *Снойніца для снаваня.* Крынкі Крын. *Аснову снуюць на снойніцу.* Баброўнікі Гарад. *Дзесяць губок сноўніцай наснойвае на сценах.* Хатынічы Ганц.

СНОП *м.* Сноп. *Снапом абаб'еш — і акалот.* Малі Астр. *Боп вязалі ў снапэ.* Кіралі Шчуч. *Сноп бобу.* Рудня Астравітая Чэрв. *Паціснуў снапа.* Відаўцішкі Вільн. *Сноп — чатыры жменькі* [ільну]. Малыя Аўцюкі Калінк. *Веле там снапоў было?* Васілевічы Гродз. *Лён рвуць, сохня ў снапох.* Лоск Валож. *Лён вязалі ў снапы.* Старыя Трокі Трак. *Лён слалі на сножаці, дзе поля гуляя, на поплові, потым збіралі і ў снопы вэзалі.* Хатынічы Ганц.

СНО́ЎДАЦЦА, СНАЎДА́ЦЦА, СНАЎДА́ЦА *незак.* 1. Хадзіць без справы. *Сноўдаецца ўсюды: у адну хату, другую хату.* Ахрэмаўцы Брасл. *Сноўдаецца чалавек.* Саланое Віл. 2. Хістацца. *Ідзе і сноўдаецца, як п'яны.* Рудня Астравітая Чэрв. *І снаўдаіца чалавек туды-сюды, як п'яны.* Старыя Смільгіні Воран. 3. Ісці павольна. *Ідзі ты скарэй, што так сноўдаеся памалу?!* Гемзы Шальч.

СНО́ЎДАЦЬ *незак.* 1. Тое ж, што і с н о́ ў д а ц ц а 1. *Сноўдаіць с хаты да хаты.* Валынцы В.-Дзв. *Сноўдаіць, работы няма.* Ракаўскія Швянч. *Яна ўдоль вёскі сноўдаець.* Курапалле Паст. 2. Хадзіць туды-сюды. *Сноўдаіць па хаці і прашкаджаіць спаць.* Ракаўскія Швянч.

СНО́ЎЛЯ *ж.* Тое ж, што і с н а в а́ д л а 2. *Хто кажа сноўля, хто — сноўніца.* Рыбчына Віл.

СНО́ЎНІЦА, СНУО́ВНІЦЯ, СНАЎНІ́ЦА, СНЫВНЫ́ЦЯ

*ж*. Тое ж, што і с н а в а́ д л а 2. *Сноўніца такая, ніткі снавалі.* Рыбчына Віл. *Снавалі на сноўніцы.* Дзераўное Стаўб. *Сноўніца — што кросны снавалі.* Вострава Маст. *Даўней снавалі на сцену, а потым парабілі сноўніцы.* Малахоўцы Бар. *З ніцей снуюць аснову на сноўніцы.* Валеўка Навагр. *Сноўніца была, кросны снавалі: планкі с паўбіванымі калкамі, а даўней былі сноўніцы, што круцілі.* Вецярэвічы Пух. *Як снуют ніткі ўдвае на сноўніцы, то робят чыны.* Лука Нараўк. *Трэба прынэсті снуовніцю до хаты і основаті колуопніну на плахты́.* Курашэва Чыж. *Ніткі на снаўніцу снавалі.* Рыбчына Віл. *На снывныцю снуют кросна.* Дзмітравічы Кам.

СНУВА́ЛЬНА *ж.* Тое ж, што і с н а в а́ д л а 2. *Снувальна — ей снуюць ніткі.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

СНУВА́ЦЬ *гл.* СНАВА́ЦЬ

СНУ́ЙКА *ж.* Тое ж, што і с н а в а́ д л а 2. *Кросна снавалі снуйкай.* Гальшаны Ашм. *Снавалі на снуйках.* Жодзішкі Смарг. *Снуйка круцяшча.* Дакудава Лід. *Снавалі на снуйку, снуйка круціцца.* Альхоўка Навагр.

СНУ́ЙЛІ *мн.* Тое ж, што і с н а в а́ д л а 2. *Снавалі на снуйлях і на сцяне.* Ёдлавічы Брасл. *Снуйлі — рамы такія, ніткі на іх снавалі, дужа ўдобна, бегаць не нада, стой на месці і круці.* Опса Брасл.

СНУ́ЙНІЦА *ж.* Тое ж, што і с н а в а́ д л а 2. *Прынясеця вы снуйніцу, бо я буду сёня снаваць палатно.* Кіралі Шчуч. *Прынясу снуйніцу, пакажу вам гэту «машыну».* Стральцы Гродз. *Снуйніца была кросны снаваць.* Мсціба́ва Ваўк., Вострава Маст. *Снуйніца пахадзяшча была, а цяпер круцяшча.* Навасёлкі Свісл. *Снуйніцу ўносім такую бальшую і снуем.* Баброўнікі Гарад.

СНУ́ЛЛЯ *ж.* Тое ж, што і с н а в а́ д л а 2. *Былі снуллі. На снуллю снуваць пайду.* Мярэцкія Глыб. *Былі снуллі зроблены кросны снаваць.* Саланое Віл.

СНУ́ЛЬКА *ж.* 1. Снавальшчыца. *Снулька — жэншчына, што снуець.* Магуны Паст. 2. Тое ж, што і с н а в а́ д л а 2. *Снулька была, хадзілі па хаця, на калок знізу і зверху.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

СНУ́ЛЬНЯ *ж.* Тое ж, што і с н а в а́ д л а 2. *Снульня ёсць, снавалі на снульні.* Рагулішкі Даўг. *І на снульні снавалі кросны.* Валынцы В.-Дзв.

СНУО́ВНІЦЯ *гл.* СНО́ЎНІЦА

СНУЦЬ *незак.* Тое ж, што і с н а в а́ ц ь 1. *Сеня снуць няможна: пеліва — палоць лён.* Быстрыца Астр. *Трэба снуць.* Чычалі Швянч. *Дываны з лёну снулі.* Старыя Трокі Трак.

СНУЯ́ЧКА *ж.* Тое ж, што і с н а в а́ д л а 1. *Снуячка — такая дошчачка, дзюрачка ў ёй, і сную, бегаю па хаці.* Солы Смарг.

СНЫВНЫ'ЦЯ *гл.* СНО'ЎНІЦА

СНЫ'ТКА *гл.* СНІ'ТКА

СНЯГО'ЎЦЫ, СНЕГО'ЎЦЫ, СНІГО'ЎЦЫ, СНЯГО'ВЦЫ, СНЕГО'ВЦЫ *мн.* 1. Зімовыя боцікі. *Снягоўцы — як чаравікі, да палавіна галёнкі.* Дакудава Лід. *Снягоўцы — зімовы обуй: унутры іх выбіты сукном, а туфлі маглі надзяваць.* Магуны Паст. *Снягоўцы былі ў мяне, цёпла нагам. Снягоўцы — зімовы абутак.* Вузла Мядз. *Сніго́ўцы бапскія былі: былі яны і гумовыя, і суконныя.* Завельцы Астр. *Сняговцы былі: цёплы абутак на шнурках і на гузіках.* Ёдлавічы Брасл. *Снеговцы одэвают, усе ў ботах, не отлічыш от гороцкіх.* Смаляніца Пруж. 2. Галошы. *Снеговцы — гумовыя калёшы, на вайлак накладаліся.* Быстрыца Астр.; *парайн.* польск. *śniegowiec* 'боцік'.

СНЯДА'НЯ, СНЯДА'НЕ, СНЯДА'ННЯ, СНЕ'ДАННЯ *н.* 1. Снеданне. *Гатуйцяся да сняданя!* Дакудава Лід. *Бярыця пячыця бліны на сня́даня!* Лоск Валож. *Паеду на сняданне.* Барок Стаўб. *Сквародзянь спячы к снеданню.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Ежа, прызначаная для ранішняй яды. *Сняданя зробя.* Быстрыца Астр. *Сняданя ясі.* Паляцкішкі Воран. *Сняданя гатова.* Вялікія Баяры Шчуч. *Сняданя зварыла. Сняданя не гатова.* Лоск Валож. *Сняданя ўжо гатова, сядайця за стол!* Старыя Трокі Трак. *Снядане на стале.* Крынкі Крын. *Пад рэшата снядання паставіць рыбятам і пойдзіць на работу.* Валынцы В.-Дзв. *Снедання будзя гатова.* Рудня Астравітая Чэрв.

СНЯЖНІ'ЦА *ж.* 1. Тое ж, што і с н і ж ы́ ц я. *Сняжніца была велькая, лапатамі раскідалі снех.* Бакшты Іўеў. 2. Шарош. *Сняжніца ідзець па рацэ.* Кураполле Паст.

СНЯКА'ЦЬ, СНЕКА'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і с м а р к а́ ц ь. *Ня можа снякаць, кроў ідзе.* Любішчыцы Івац. *Нос баліць, ня магу снякаць.* Стральцы Гродз. *Снякая моцна.* Малахоўцы Бар. *Снекай нос!* Мсцібава Ваўк.; *парайн.* польск. *siąkać* 'тж'.

СНЯТО'К *м.* Тое ж, што і с н і ц і́ н а. *Сняток у даўбяку і ў караняку.* Рудня Астравітая Чэрв.

СО *гл.* С

СОБА'ЧЧА МНЯ'ТА *гл.* САБА'ЧАЯ МЯ'ТА

СО'БЕННА *прысл.* Асабліва. *Ня собенна сыты кабан.* Лоск Валож.; *парайн.* руск. *особенно* 'тж'.

СО'БСТВЕНАСЦЬ, СО'ПСТВЕНАСЦЬ, СО'ПСЦВІНАСЦЬ *ж.* Уласнасць. *Як сопственасць была, то былі гайнікі* [гоні]. Альхоўка Навагр. *Гэта не твая сопсцвінасць.* Мярэцкія Глыб.; *парайн.* руск. *собственность* 'тж'.

СО'ВАЦЦА *незак.* Павольна рухацца. *Машына соваецца, як сонна.* Мсцібава Ваўк.

СО'ВАЦЬ *незак.* 1. Ставіць. *Зноў совай яешню ў печ.* Ма-

лахоўцы Бар. 2. Перастаўляць. *Совай стала.* Дзяніскавічы Ганц.

СОВГНУ'ТЫ, СОВГЫНУ'ТЫ *гл.* САЎГАНУ'ЦЬ

СО'ВЕСНЫ *прым.* Сарамлівы. *Ён ужо такі совесны: не падойдзе і не папросіць, што трэба.* Мачаск Бярэз.; *парайн.* руск. *совестливый* 'сумленны'.

СО'ВЕСЦЬ, СО'ВІСЦЬ *ж.* Сумленне. *Совесць нада імець!* Ахрэмаўцы Брасл. *І за гэты карман я сваю совесць паціраю?!* Кураполле Паст. *Така совісць у яго.* Кемялішкі Астр.; *парайн.* руск. *совесть* 'тж'.

СОГНУ'ЦЦА *гл.* САГНУ'ЦЦА

СОГРАВА'ЦЬ *незак. перан.* Клапаціцца. ∇ *Сын свое гнёздочко в'е і свое сограе, а мое развалілосо гнёздочко.* Хатынічы Ганц.

СО'ДА ПІТАВА'Я *ж.* Пітная сода. *Соды пітавоя ўсыплю— мэрля пабялея.* Дакудава Лід.

СО'ЙКА *ж. кулін.* 1. Прадаўгаватая галушка з талакнянага цеста або з тоўчанай бульбы. *Авёс паджарывалі, намяшаем вады, сойкі рабілі.* Пасіене Лудз. *Сойку сціснуць і ядуць. Сойку рабілі с таўчонай бульбы.* Валынцы В.-Дзв. 2. у знач. *прысл.* *сойкамі.* У выглядзе сойкі. *Талакно рабілі камамі і сойкамі.* Валынцы В.-Дзв.

СОК, СУОК *м.* 1. Сок. *Харошы сок з бярозы.* Кіралі Шчуч. *Сок з бярозы і с клёну накапая — і п'ём.* Кудзялянцы Шальч. *Збіроў мухаморы і сокам мазаўся і піў.* Рудня Астравітая Чэрв. ◇ *Сокі пацяхчы, сокі вытіснуті* — знясілець. *Усе сокі могуць пацяхчы.* Гемзы Шальч. *Ніемцы хотіелі остатні сокі з люді вытіснуті.* Курашэва Чыж. 2. Нагар у курэцкай люльцы. *Сок з люлькі ў зуп закладаюць, як баліць.* Вецярэвічы Пух.

СО'КАЛ *м.* Тое ж, што і с а к о́ л. ∇ *За сокалам і варона хароша — за добрым мужам і жонка ў пашане, хоць яна нічым не выдзяляецца.* Вузла Мядз.

СОКОРЫ'ЦІ, СОКОРЫ'ТІ, СОКОРІ'ТЫ, СОКОРІ'ТЭ *незак.* Сакатаць. *Курыца сокорыт, як з яйцэм.* Смаляніца Пруж. *Курка сокоріт, хутко нэстісе будэ.* Курашэва Чыж. *Курыця сокорыть.* Сіманавічы Драг. *Курыца сокоріт, можэ, хутко нэстымэцца.* Горск Бяроз. *Курыця ны можэ сокорітэ.* Дзмітравічы Кам.

СОКОТА'ЦІ *гл.* САКАТА'ЦЬ

СОКУО'ЛКА *ж.* Пры звароце да прыяцелькі. *Сокуолка, я тобіе штось скажу: мой внук мае жэнітісе.* Курашэва Чыж.

СО'ЛАД, СО'ЛАТ *м.* 1. Брадзільны прадукт, прыгатаваны з прарошчанага, высушанага, змолатага зерня жыта, ячменю. *Жыта на солат добра.* Саланое Віл. *Росцяць ячмень і робяць солат. Трэба паткінуць соладу ў саладуху.* Альхоўцы Лях. 2. Прарошчанае жыта, з якога робяць солад. *Муку малолі мел-*

*ка, солат малолі крупна.* Філіпаўцы Красл. 3. Салодкасць. *Не мее соладу, падсаладзі.* Малыя Аўцюкі Калінк.

СО'ЛАДЗЬ, СО'ЛАЦЬ *ж.* 1. Тое ж, што і с о́ л а д 3. *С сахарам сільная солаць.* Жодзішкі Смарг. *Соладзі дабаўлю.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Тое ж, што і с о́ л а д 2. *Тая солаць прарасце, тады сушаць, у жорнах меляць.* Рудня Астравітая Чэрв.

СО'ЛАДКА, СО'ЛАТКА *прысл.* Соладка. *Натта солатка.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

СО'ЛАМЯ *н.* Полымя. *Пастаў бліжэй, перат соламям.* Масілавічы Сл. *Перад соламям пастаў. Соламя ў печы.* Малыя Аўцюкі Калінк.

СО'ЛАМЯНЬ *м.* Тое ж, што і с о́ л а м я. *Соламянь вялікі, салыпнулі дровы і згарэлі.* Рудня Астравітая Чэрв.

СО'ЛАНА 1. *прысл.* Салёна. *Солана будзя.* Парэчча Гродз. 2. *безас.* у знач. *вык.* Соленае. *Ніхто ня п'е ваду — ня солана ядуць.* Раўбічы Мін.

СО'ЛАС, СО'ЛУС *м. кулін.* Соус. *Солас робюць. Солас ад грыбоў смашны.* Валынцы В.-Дзв. *Солус зрабі.* Стральцы Гродз.

СО'ЛАТ *гл.* СО'ЛАД

СО'ЛАТКА *гл.* СО'ЛАДКА

СО'ЛАЦЬ *гл.* СО'ЛАДЗЬ

СОЛДА'Т *гл.* САЛДА'Т

СОЛДА'ТІХА *ж.* Салдатка. *Стёпу до войска забралі, і Манька солдатіхою остала.* Курашэва Чыж.

СО'ЛЕНЫ 1. *дзеепрым.* Пасолены. *Мяса, як соленая, свежае, і з'есць. Соленыя грыбы люблю.* Ахрэмаўцы Брасл. *Соленых грыбоў трыццаць дзве банкі далі дзяўчуку.* Кіралі Шчуч. 2. у знач. *назоўніка со́леная ж. кулін.* Бульба, зваранaя з соллю. *Звары соленай. Будзям варыць солену.* Кіралі Шчуч.

СОЛІ'ЦІ *гл.* САЛІ'ЦЬ

СО'ЛКА *ж.* Невялікі востраў у рацэ. *Солка вышэйшая, там можа лаза расці.* Рыбчына Віл.; *параўн.* літ. *salà* 'востраў'.

СОЛО'ДКО' *гл.* САЛО'ДКА

СОЛОДУ'ХА *гл.* САЛАДУ'ХА

СОЛО'МНЯНЫЙ *гл.* САЛАМЯ'НЫ

СОЛО'НЫЙ *гл.* САЛО'НЫ

СОЛО'ПА *м.* і *ж. экспр.* Хто дражніцца. *Нэ буть солопою, нэ показуй языка.* Курашэва Чыж.

СОЛОП'Я'КА *гл.* САЛАПЯ'КА

СО'ЛТУС, СО'ЛТАС, СО'ЛТЫС *м. устар.* Стараста. *Солтуса выбіралі.* Гальшаны Ашм. *Да солтуса пашла.* Курaполле Паст. *Солтус — то такі вясковы начальнік.* Баброўнікі Гарад. *Солтас падаткі сабіраў.* Ахрэмаўцы Брасл. *Бацька быў солтысам.* Дарава Лях., Гемзы Шальч.; *параўн.* польск. *sołtys* 'тж'.

СО'ЛУС *гл.* СО'ЛАС

СОЛЬ *ж.* Соль. *Цажу грыбы, заліваю вадой с соляй.* Солы Смарг. *За солею ездзілі.* Дзераўное Стаўб. ∇ *Соль табе ў вочы, што ты гаворыш?!* Малі Астр.

СО'ЛЯНАЯ БУ'ЛЬБА *ж.* Тое ж, што і с о́ л е н ы 2. *Зварьі солянай бульбы.* Навасёлкі Лід.

СО'ЛЯНКА *ж.* Тое ж, што і с о́ л е н ы 2. *Я вам солянку зварыла.* Вострава Маст. *Наварыла вэчэраці солянкі: картошка цэла, оскоблена, с цыбулею.* Смаляніца Пруж.

СОМ *м. заал.* Сом. *У сома чатыры вялікіх і чатыры маленькіх вусэ.* Валеўка Навагр. *Самы былі забіўшы* [лунку]. Завельцы Астр.

СО'МЕЦЬ *м. рыб.* Сак. *Сомець, як сетка: каблук, чаранок да каблука, дзяржыць за чаранок і заганяе боўцем.* Парэчча Гродз.; *параўн.* літ. *sámtis* 'тж'.

СО'МЦІК *м. памянш.* да с о́ м е ц ь. *Сомцік, як бучка, вязаны, сомцікам чэрпаям малую рыбу.* Стральцы Гродз.

СОН I *м.* 1. Сон. *Няма яму сну.* Вялікія Баяры Шчуч. *Яму і сну німа.* Лоск Валож. *Мало яму сну?!* Мсцібава Ваўк. *А які яго сон?!* Альхоўка Навагр. *І сны міне не бяруць.* Руднікі Шальч. 2. Тое ж, што і с н í ц ц а. *Бачыла сон такі, што ты памрэш.* Саланое Віл. *Я думаю, што я гэта ва сне відзела, а не на яве.* Дзераўное Стаўб. *Раскажу табе сон.* Вялікія Баяры Шчуч. *Я ў сны не веру. У сон нігды не веру.* Новікі Гродз. ∇ *Дзе ноч, там і сон, ноч проч, і сон проч.* Валынцы В.-Дзв. ◇ *Сон у руку* — пра сон, які спраўдзіўся. *Сон у руку — прыехаў мой сынок!* Гальшаны Ашм. *Сон горніць* — хочацца спаць. *Так наелася, што сон горніць.* Вузла Мядз. *Сон* [не] *бярэ* — [не] спіцца. *Спаць ня хочацца, сон ня бярэ.* Слабада Мін., Дэгшні Шальч.

СОН II *м. бат.* Сон-трава. *Сон расце ў нас, карэнне добра ат трасцы.* Рыбчына Віл.

СО'НБА *м.* і *ж. экспр.* Хто любіць многа спаць. *Ах ты сонба!* Рыбчына Віл.

СО'НДЖЫКІ *мн.* Тое ж, што і с о н II. *Сонджыкі — першыя цвяткі вясной. Сонджыкі ад жалутку п'юць, лісце купамі расцёт.* Парэчча Гродз.

СО'НЕЧНІК, СО'НЕШНІК *м. бат.* Тое ж, што і с л а н е́ ч н і к. *Сонечнік расце, зерне так шчэ німа.* Дзяніскавічы Ганц. *Сонешнік вялікі, як галава.* Пасека Ст.-Дар.

СО'НІЙКА *н. памянш.* да с о́ н ц а. *Сягоня будзіць цяплей, падагрэла сонійка.* Ахрэмаўцы Брасл.

СО'НІК *м. устар.* Сонnік. *По соніку знашла, шчо гэты сон нэдобры.* Сялец Бяроз.

СО'ННАЧНЫ *прым.* Сонечны. *Соннaчна хмара ідзе: і сонца, і дошч.* Дарава Лях.

СО'ННІК *м.* Тое ж, што і с о н II. *Сонnік у лесі — самая*

*первая краска. Соннік на бару расце, цвіце пасля пралесак.* Рудня Астравітая Чэрв.

СО′НЦА *н.* Тое ж, што і с л а н е́ ч н і к. *Як семкі ў сонцы зробяцца чорнымі — зрэжу табе яго.* Мачаск Бярэз.

СО′НЦО, СО′НЦА *н.* Тое ж, што і с л о́ н ц а. *Сонцо сышло. Сонцо сходзіць і заходзіць.* Дзяніскавічы Ганц. ◇ *На сонцы пячыся* — загараць. *Па цэлых днёх на сонцы пячэцца.* Вострава Маст. *Сонца на плячах панесці* — пра таго, хто прыходзіць з гулянкі на світанні. *Як можна так позна хадзіць— сонца на плячах прынёс.* Бакшты Іўеў. *Вышчарылася сонца—* узышло сонца. *Якая пагода благая: вышчарылася сонца і закрылася.* Вузла Мядз.

СО′НЧКІ *мн.* Тое ж, што і с о н II. *Сончкі на могілках растуць.* Галубы Маст. *Сончкі — сіненькія, лахмаценькія, сушаць іх, ад радыкуліту яны.* Пацаўшчына Дзятл.

СО′НЧЫЦЦА *незак.* Сачыцца. *Кроў сончыцца.* Ёдлавічы Брасл.; *параўн.* польск. *sączyć się* 'тж'.

СО′НЧЫЦЬ *незак.* Цадзіць. *Нада сончыць малако з даёнкі ў банку.* Ёдлавічы Брасл.; *параўн.* польск. *sączyć* 'тж'.

СОНЬ *м.* Тое ж, што і с о н II. *Сонь бэзавенькім цвіце. Соні на бары растуць.* Дзяніскавічы Ганц.

СО′НЯ *м.* і *ж.* Тое ж, што і с о́ н б а. *Соня ты, усё спіш!* Дакудава Лід.

СОП *м. вет.* Сап. *Соп у каня.* Навасёлкі Свісл.

СО′ПА *ж.* Сажа. *Сопа — гэта сажа.* Мыто Лід.

СО′ПАЧКА *ж. памянш.* да с о́ п к а 1. *Сопачка — накапаная над магілай насып. Свежая сопачка на кладбішчы.* Валынцы В.-Дзв. *Сопачка насыпана, дзе пахаранілі каго.* Лісна В.-Дзв.

СО′ПКА *ж.* 1. Намагільны насып. *Сопка — магілка высокая.* Дзёрнавічы В.-Дзв. 2. Кратавінне. *Сопка кратова — зімля, што крот нарыіць.* Якубова Рас. *Свежая сопка ў садзі.* Валынцы В.-Дзв.

СО′ПКІ *прым.* 1. Рассыпісты. *Вот ваша бульба сопкая, смашная!* Ёдлавічы Брасл. *Наша бульба сопкая.* Кураполле Паст. *Бульба сопкая, дзе зямля няжырная, дзе ніская — бульба вадзяная, няўкусная.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Сопкая бульба.* Мярэцкія Глыб., Вялікія Нястанавічы Лаг. *Бульба сопкая, яна разварываецца.* Рудня Астравітая Чэрв. *Наша картопля сопка, смачна.* Азарычы Пін. 2. Несакавіты (пра ягады). *У талакняніка мелкія, някіслыя, сопкія ягады, ад жалудка.* Навікі Лудз. 3. Мяккі (пра снег). *Занесеная снегам дарога сопкая.* Вострава Маст.

СОПЛЕ′ *гл.* САПЛІ′

СО′ПЛІ *мн.* 1. Тое ж, што і с м а р к а ч ы́. *Вісяць у цібе соплі, высмаркай нос!* Кіралі Шчуч. *Возьмі хусточку і вытры соплі!* Курашэва Чыж. 2. *перан.* Ледзяшы. *Соплі вісяць, лед-*

*някі такія зімой.* Магуны Паст. *Соплі вісяць на стрэхах.* Солы Смарг. *Але сёня соплі замерзлі на стрэхах.* Кіралі Шчуч. *Соплі на страсе.* Вялікія Баяры Шчуч. *Алі ш і сопляў намёрзла!* Жылі Іўеў. *Соплі са стрэх звісают.* Лука Нараўк. *Іс стрыэхі соплі звісают.* Курашэва Чыж.

СОПО'ЖНІЦКАЯ *ж.* Шавецкая майстэрня. *Ён доўго робіў у сопожніцкой.* Хатынічы Ганц.

СО'ПСТВЕНАСЦЬ, СО'ПСЦВІНАСЦЬ *гл.* СО'БСТВЕНАСЦЬ

СОПТЫ' *гл.* САПЦІ'

СО'ПУХА I *ж.* Тое ж, што і с о́ п а. *Каптур нат печай, туды дым ідзе, там сопуха.* Жодзішкі Смарг. *Буду чысціць, ад сопухі чорна.* Быстрыца Астр. *Чорна ад сопухі. Нагар такі сопуха, як смала.* ▽*Чорна, як сопуха.* Масілавічы Сл. *Ходзіць, як сопуха.* Старыя Трокі Трак. ◇ *Сопуху цалаваць* — сядзець на печы каля коміна. *Дзе, ста́рыха, зімаваць будзеш? Ці сопуху цалаваць будзеш?* Крэва Смарг.

СО'ПУХА II *ж.* Дзве перакрыжаваныя дошкі, якія кладуцца зверху саламянай страхі для ўмацавання яе. *Сопуху вецер зарваў.* Баброўнікі Гарад.

СО'РАК *ліч.* Сорак. *Сарочка называласа, бо сорак работ было каля яе.* Васілевічы Гродз.

СО'РАК САРАКО'Ў *мн.* Рэлігійнае свята, якое адзначаецца 9 сакавіка ст. ст. ▽ *Сорак саракоў — былі такія вясной: як цёплы дзень — сорак дзён цёпла, зімні дзень — будзе сорак дзён зімна.* Солы Смарг.

СО'РАМ *м.* Сорам. *Сорама не было ў яе.* Вецярэвічы Пух. *Які мне сорам надзецца!* Малыя Аўцюкі Калінк.

СОРВІТУ'Т *гл.* САРВІТУ'Т

СОРОКОСВЯТЫ'І *мн.* Тое ж, што і с о́ р а к с а р а к о́ ў. *На сорокосвятыі трэба сорак галушок ззісты.* Сіманавічы Драг. ▽ *Як на сорокосвятыі будэ мороз, то шэ будэ сорок морозув.* Сіманавічы Драг.

СОРО'ЧКА *гл.* САРО'ЧКА

СОРО'ЧЭЧНО ПОЛОТНО' *н.* Палатно, з якога шылі споднія кашулі. *Сорочэчно полотно бело.* Хатынічы Ганц.

СОРТ *м.* 1. Гатунак. *Тры сарты мукі.* Гальшаны Ашм. *Пайду мукі глядзець, там першага сорту навёшшы.* Альхоўка Навагр. *Як чэшаш шчоткаю, тады гэтыя кудзелькі здзіраюцца на два сарты.* Альхоўцы Лях. 2. Разнавіднасць. *Гэтакі сорт гусей.* Вострава Маст. *Грымотніку двух сартоў нашоўшы.* Гі́гель *нескалькі сартоў есць.* Рагулішкі Даўг. 3. *перан.* Колер. *Усякіх сартоў краска прадавалася.* Слабада Мін.

СОС I *м.* Тое ж, што і с о к 2. *Сос быў у люлькі ці муштуку. Дайней, як зубы балелі, сосам мазалі і кроў задзержавалі сосам.* Ёдлавічы Брасл. *Пакалупаяш муштук, сос выбярэш.* Быстрыца Астр. *У цыбуку, кагда кураць, астаецца сос.* Вялікія

Нястанавічы Лаг., Ракаўскія Швянч. *Сос у цыбуку піпкі, натта ад лішая памоцны.* Старыя Смільгіні Воран. *Сос у цыбуку, што куруць, чысцяць і выцягваюць сос.* Гемзы Шальч.

СОС II *м.* Шаша. *Як з'іхалы з грэблі на сос, то кобыла хучій пошла.* Сіманавічы Драг.

СО'СКА *ж.* 1. Тое ж, што і с м о ч а к. *Соску с хлеба і сахара рабілі і дзіцёнку давалі ссаць.* Валынцы В.-Дзв. *Хлеба і цукру ў мэрлячку і зробя соску.* Солы Смарг. *Соску нажуюць і даюць.* Завельцы Астр. 2. *анат.* Сасок. *Соска ў каровы баліць.* Пасіене Лудз.

СО'СНА *гл.* САСНА'

СО'СНІК, СО'СНЯК *м.* Сасоннік. *Соснік там харошы. Соснік быў непрахадзімы.* Саланое Віл. *Як увойдзеш у соснік, направа —там гара.* Беразіно Докш. *Такі соснік густы вырас за дзярэўняй!* Якубова Рас. *Сосняк там ест.* Грыкені Вільн.

СО'ТКА *ж.*, СО'ТКІ *мн.* 1. Сотая частка гектара. *Я маю пядзесят сотак.* Гемзы Шальч. *Арой колькі сотак.* Малыя Аўцюкі Калінк. 2. Выдзелены ўчастак зямлі для апрацоўкі. *На сотках траву даюць.* Пярэкі В.-Дзв. *Гэтыя соткі палолі.* Плябанцы Ашм. 3. Прысядзібны ўчастак. *Соткі пасаджаны і сена накошана. Даюць соткі каля хаты. Усе соткі бульбай засадзілі.* Ёдлавічы Брасл. *То яму соткі даўшы.* Паляцкішкі Воран.

СО'ТНІК *м.* Галоўны плытагон. *Сотнік — самы старшы на плыце.* Мсцібава Ваўк. *Сотнік набірая парцыю людзей* [на плыт]. Рыбчына Віл.

СОЎ *выкл.* у знач. *вык.* Раптоўна памкнуцца да каго-н. *Вечарам я стаяла ў дварышчы, а карова соў да мяне.* Груздава Паст.

СО'ЎВАЦЦА *незак.* 1. Хадзіць за кім-н. *Карова благая была, за людзьмі соўвалася, суніцца да чужых.* Саланое Віл. 2. Тое ж, што і с н о ў д а ц ц а 1. *Але соўваецца чалавек!* Мсцібава Ваўк. *Соўваецца па вуліцы, нічога ня робіць.* Вецярэвічы Пух. 3. Кідацца. *Калюшчая карова, соўваецца да дзяцей.* Альхоўка Навагр. *Благі сын да маткі соўваецца біцца.* Дэгшні Шальч.

СО'ЎГАЦЦА *незак.* 1. Перамяшчацца. *Лава на калотках стаяла і прыбітая, кап не соўгалася туды-сюды.* Граўжышкі Ашм. 2. *перан.* Ледзь хадзіць. *Яна цяпер соўгаецца трохі.* Гемзы Шальч.

СО'ЎГАЦЬ *незак.* Габляваць. *Дзе гарбок на канцэ дошкі, спускам соўгаем, і ён возьме* [счэша]. Гемзы Шальч.

СО'ЎКА *ж.* Канапа. *Соўка стаіць там, надзень можна на ёй сядзець, а ноччу — спаць.* Вострава Маст.

СО'ЎКАЦЬ *незак.* 1. Гадаваць. *Соўкала дзіцянё гаруючы, Аксанку малую соўкала. Мы свіней соўкаям, гаруям.* Вузла Мядз. *Прыходзіцца мне кабаны соўкаць, пацёлка соўкаць. Дзіця тожа соўкаць.* Асавец Віл. 2. Няньчыць. *Пашла ў нянькі*

*і соўкала дзіця. Не ад добрага жыцця яна дзяцей соўкаць хадзіла. Ужо стары, ён унукаў сойкаіць. Мяне соўкала дзяўчына. Ці соўкаіць баба якія дзеці?* Вузла Мядз.

СО'ЎМА *прысл.* ◊ *Соўма ляцець* — кідацца біцца. *Баба будзіць да мяне ляцець соўма. Соўма ляціць да яго.* Асавец Віл. *Мы ішлі дарогай, аш соўма ляціць пятух, скачыць на плечы, скрыльямі лопаіць і за лыткі дзяўбець.* Груздава Паст.

СО'ЎНЕЙКА, СО'ЎНІЙКА *н. памянш-ласк.* да сонцо. *Узышло соўнейка.* Кухты Віл. *Соўнейка ў хмары зайшло.* Вузла Мядз. *Соўнійка грэіць.* Саланое Віл.

СОЎСЮКІ' *мн.* Назва раслін в нявянучымі кветкамі. *Соўсюкі — гэта сухавейкі: званец, кашаччыя лапкі.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* літ. *sausiūkai* 'тж'.

СОХА' *гл.* САХА'

СО'ХІ *мн.* 1. Шулы. *Сохі паставяць, шыр зробяць, а потым выдоўбаваюць ушаке і сцены закладаюць.* Кіралі Шчуч. *У гумне дзве пярэднія вярэі і заднія, а ўсярэдзіне — сохі.* Гальшаны Ашм. *Сохі ў гумне.* Малахоўцы Бар. *Як ставілі гумно, ставілі сохі.* Альхоўцы Лях. 2. Апорныя слупы ў гаспадарчым будынку. *У гумне сохі былі, страха на сохах.* Руднікі Шальч. *У гумне ставілі сохі перат страхою.* Любішчыцы Івац. *Дах у стадоле пастаўлены на сохах, на сохах гумно.* Баброўнікі Гарад.

СО'ХНУЦЬ *незак.* 1. Рабіцца сухім. *Лён сохня ў снапох.* Лоск Валож. *Сена такое вільготнае, ані ня сохніць.* Вузла Мядз. *У конусы ставілі лён сохнуць.* Яніна В.-Дзв. 2. *перан.* Худзець. *Стаў я сохнуць.* Ёдлавічы Брасл. *Іна сохніць, косці асталіся.* Мярэцкія Глыб. *Сухоты ў яе, сохне і сохне.* Солы Смарг. *У вачах конь сохне.* Завельцы Астр.

СОХОВІ'ЛЫ *гл.* САХАВІ'ЛЫ

СО'ХЦІ *незак.* Сушыцца. *Пасыплю грушы на печ сохці.* Асавец Віл. *Доўга будзя сохці лён.* Рыбчына Віл. *Не будзя сохці бяльё.* Рудня Астравітая Чэрв.

СО'ЧЛІВЫ *прым.* Сакавіты. *Сочлівыя грушы, аш пацякло.* Рудня Астравітая Чэрв.

СО'ЧНЫ *прым.* Тое ж, што і сочлівы. *Маладая лібіда сочная.* Валынцы В.-Дзв. *Сочная трава.* Мярэцкія Глыб. *Сочная, маладая трава парасла.* Беразіно Докш.

СОЧНЫ'Й *гл.* САЧНЫ'

СОША' *гл.* САША'

СО'ШКА I, СУО'ШКА *ж.* Акучнік. *Сошкай оборвалі бульвы.* Смаляніца Пруж. *Сошкай абганялі бульбу.* Парэчча Гродз., Валеўка Навагр. *Сошкай баразняць картофлю.* Крынкі Крын. *Позычыв суошку картофлі обораті.* Курашэва Чыж.

СО'ШКА II *ж.* Баразна. *Сошка не саджана. Садзяць бульбу ў сошкі. Баразна между сошкамі.* Бакшты Іўеў.

СО'ШКІ *мн.* Прымітыўны ткацкі станок. *«На чом ты ччэш?» — «На сошках».* Дзяніскавічы Ганц.

СПАВА'ЦІ *незак.* Спяваць. *Тэпэр і даўнішні пэсне спавают.* Смаляніца Пруж.; *парайн.* польск. *śpiewać* 'тж'.

СПАВІВА'ЦЬ *незак.* Спавіваць. *Дзяцей спавіваць, нада полкі, пояс.* Груздава Паст. *Спавівала дзіця.* Кіралі Шчуч. *Тканы пояс быў спавіваць дзіця.* Збляны Лід.

СПАВІВА'Ч, СПАВІ'ВІЧ *м.* Спавіў. *Спавівачом спавівалі дзіця.* Солы Смарг. *Спавівач — дзіця спавіваць.* Старыя Смільгіні Воран., Гемзы Шальч. *Спавівічы рабілі, звяжа дзіцё, як арыстанта, кап ногі ні былі крывыя.* Слабада Мін.

СПАВІ'ТЫ *дзеепрым.* Уверчаны ў пялёнкі. *Спавіты пелёнкамы ён быў.* Ахрэмаўцы Брасл.

СПАВІ'ЦЬ *зак.* Спавіць. *Спавіла дзіця, налажыла шапачку, кашульку.* Кіралі Шчуч. *Спавіла сваё дзіця.* Кухты Віл. *Бапка дзіця прымя, памыя, спаўе.* Дакудава Лід.

СПАВІ'Ч *м.* Тое ж, што і с п а в і в а́ ч. *Спавіч —спавіваць дзіця.* Лоск Валож.

СПАВЯДА'ЦЬ, СПОВІДА'ТІ *незак.* *рэліг.* Прымаць споведзь у каго-н. *Ксёндз яго спавядаў.* Пасіене Лудз. *Стары батюшка довго сповідав, молоды почті нічого нэ пытае і сповідае хутко.* Курашэва Чыж.

СПАГАДА'ЦЬ *незак.* Выказваць спагаду. *І бацькі спагадаяць, грошы даюць, памагаяць.* Малі Астр. *Ён ей не спагадаў: яна мела блізняты, вядзёрка вады не прынёшшы.* Ёдупка Шальч. ▽ *Сыты галоднаму не спагадаіць.* Вузла Мядз. *Сыты па галоднаму не спагадае.* Валеўка Навагр.

СПАГА'ДКА, СПАГА'ТКА *ж.* Спачуванне. *У яго душы нема і спагаткі.* Кузьмічы Люб.

СПАГА'ДЛІВЫ *прым.* Удзячны. *Бапская работа ні спагадлівая.* Рудня Астравітая Чэрв.

СПАГА'ДНЫ *прым.* Чулы. *Была спагадная дачка і ўночы ўставала, памагала.* Жылі Іўеў. *Такі спагадны быў шафёр: ехаў і суняўся* [спыніўся]. Вецярэвічы Пух.

СПАГАНЯ'ЦЬ *незак.* 1. Сыскваць. *Ні нада плёткі. Ці ж я спаганяла масла за бойку?* Груздава Паст. *Спаганяць іду грошы.* Завельцы Астр. 2. *пераи.* Навёрстваць упушчанае. *Замуш натта не хацела, усё дзявоцкае спаганяла.* Чуркі Ашм. ◇ *Спаганяць злосць* — зрываць злосць. *Я не хацела спаганяць злосць на ком-нібудзь.* Альхоўка Навагр.

СПАГНА'ЦЬ *зак.* Сыскаць. *Як пазычыш — ніяк спагнаць грошы announcements німожна.* Малі Астр. *Пайду спаганю грошы.* Рыбчына Віл.

СПАД, СПАТ *м.* 1. Лагчына. *Пад лесам спат, нічога там не расце.* Кіралі Шчуч. 2. Паніжэнне. *Спат поля да крыніцы.* Граўжышкі Ашм.

С-ПАД *гл.* З-ПАД

СПАДАБА'ЦЬ *зак.* Упадабаць. *Спадабаў я цябе.* Барок Стаўб.; *параўн.* польск. *spodobać* 'тж'.

СПАДА'К *м.* 1. Ніжні камень у жорнах. *У жорнах ніжні камянь — спадак.* Солы Смарг., Чуркі Ашм. *Спадак — ніжні камянь у жорнах.* Азяраны Раг. 2. Ніжняе бервяно ў зрубе. *Спадак — сподняе бервяно.* Чуркі Ашм. 3. Насціл (у санях, у возе). *Спадак з дошчак збіваецца ў санях.* Солы Смарг. *Спадак — у санёх насціл. І ў колах спадак.* Дакудава Лід., Быстрыца Астр. *Спадак на вос накладаецца.* Граўжышкі Ашм. *Спадак пасярэдзіне ложыцца, дошка шырокая ў возе.* Васілевічы Гродз. *Спадак — насціл у возе і санях.* Мыто Лід. *Спадак — ніжнія доскі ў калёсах, у возе. У возя стары спадак. Збіць ці новы зрабіць трэба.* Жылі Іўеў. *Спадак у возі.* Мсцібава Ваўк. *У кажных калёсах ест спадак — доскі, што ляжаць на самым сподзя калёс: збоку — драбіны, а ўнізу — спадак.* Гемзы Шальч. *Налажыў пяску, аш паламаўса спадак.* Баброўнікі Гарад. 4. Падаконнік. *Спадак у акне.* Солы Смарг., Быстрыца Астр., Галубы Маст. *Спадак унізу акна.* Жодзішкі Смарг. *Спадак — ніс акна.* Стральцы Гродз. *Шыршая дыля— на спадак шуфляды акна.* Жылі Іўеў. *Спадак у вакна.* Збляны Лід. *У акне спадак, цяпер кажуць падаконнік.* Малахоўцы Бар., Дакудава Лід. *Спадак—ніжняя частка акна, падаконнік.* Масілавічы Сл. *Дось табе гэтыя вазоны паліваць: зарас згноіш спадак!* Гемзы Шальч. *Даўно стаіць акно, ужэ згніў спадак.* Бабpоўнікі Гарад. 5. Апорны палазок у плузе. *У плузе па зямлі ідзе спадак.* Дакудава Лід. 6. Нарог, які падразае зямлю. *Два нарогі — спадак і вярхняк* [у сасе]. Касцюкі Уздз.

СПАДЗІВЕ'НЕ *н.* Дзіва. ◇ *На спадзівеня* — на дзіва. *Напускаў цягачоў на спадзівеня.* Кіралі Шчуч.

СПА'ДЗІСТЫ *прым.* 1. Адхоністы. *Спадзісты берах.* Кемялішкі Астр., Старыя Смільгіні Воран., Номікі Бабіц. 2. Аселы. *Як большы піражок, то ён спадзісты.* Гемзы Шальч.

СПАДЗЯВА'ЦЦА, СПАДЗЕВА'ЦЦА, СПАДЗЕ'ІЦЦА, СПОДІВА'ТІСЕ *незак.* Разлічваць на каго-н., што-н. *Спадзяецца, трэба спадзявацца.* Альхоўка Навагр. *Мы не спадзеіліса, што снех шухне на нас.* Парэчча Гродз. *Не спадзейся на яго, што ён можа зрабіць?!* Старыя Смільгіні Воран. *Ён не спадзееўся і сам.* Ёдлавічы Брасл. *На мене не трэба спадзевацца.* Крынкі Крын. *Навэт нэ сподівавсе, што добрэ выйдэ.* Курашэва Чыж. ∇ *Спадзяваўся мядзвець на мёт і так спаць лёг.* Гемзы Шальч. *Сподівавсе діед на міед, то люёх спаті нэ іевшы.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *spodziewać się* 'тж'.

СПА'ДКІ, СПА'ТКІ *мн.*, СПА'ДКА, СПА'ТКА *ж.* 1. Спадчына. *І тые спадкі асталіся даццэ.* Пасека Ст.-Дар. *Спаткі роўныя ад бацькі і ат маткі.* Валынцы В.-Дзв. *Аставілі дзецям спаткі.* Солы Смарг. *Асталіса ад маіх бацькоў спаткі.* Стральцы Гродз. *Спаткі забяруць дзеці.* Дакудава Лід. *Спаткі за-*

*сталіся па кімсь.* Жылі Іўеў. *Ад бацькоў спаткі астаюцца.* Малахоўцы Бар. *Забраў усе спаткі ад бацькоў.* Рыбчына Віл. *Спаткі — калі чалавек умёр і радня сабралася і падзялілі спаткі.* Ухвала Круп. *Нашто мне дзедавы спаткі, я і так добра жыву.* Беразіно Докш. *После смэрці, хто остаецца, забірае спаткі.* Смаляніца Пруж. *Спаткі по дзеду.* Калясное Міхал. *Вот гэта мацярынская спатка, дачка ўсё забрала.* Кіралі Шчуч. 2. Апад. *Ходым, ідым спаткі.* Дзмітравічы Кам.

СПАДЛЁТАМ *прысл.* Спехам. *Я ўсё спадлётам і спадлётам, не магу паесці.* Крэва Смарг.

СПА'ДЛЫ *прым.* Тое ж, што і с п а́ д з і с т ы 1. *Стаіць роў, спадлая канава, прарытая вадой.* Рыбчына Віл.

СПАДНІ'ЗУ *прысл.* Знізу. *Топюць спаднізу, тлеіць смалаватая дзерава, цячэ смала па трубачцы.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

СПАДНІ'ЦА, СПАНІ'ЦА, СПОДНІ'ЦА *ж.* Спадніца. *Спадніца была белая, у восім нітоў тканая, і ў цэркву насілі.* Вузла Мядз. *Спадніца кляшовая.* Чуркі Ашм. *Мех фарбавалі і шылі спадніцы.* Гальшаны Ашм. *Спадніцаў выткуць у красных.* Васілевічы Гродз. *Бабы насілі спадніцы.* Збляны Лід. *З ваўняных нітак спадніцы.* Грыкені Вільн. *Спадніца с свайго палатна.* Навікі Лудз. *Надзень спадніцу наверх, цяплей будзе.* Стральцы Шальч. *Сачак шылі і спадніцу.* Рагулішкі Даўг. *Спадніца ў кліны пашыта.* Старыя Трокі Трак. *Спадніца сваё работы.* Крынкі Крын. *Даўгія спаніцы шылі.* Саланое Віл. *Сцірай за ею хусткі, сподніцэ́.* *Сподніцу трэба купіці.* Смаляніца Пруж. *Сподніца чыстая.* Малыя Аўцюкі Калінк.

СПАДЫЛБА' *прысл.* Спадылба. *Ён, як злы, скасурыцца, глядзіць спадылба.* Малі Астр.; *параўн.* літ. *iš padilbū* 'тж'.

СПАДЫ'СПАДУ, СПАДЫСПО'ДУ *прысл.* Спадыспаду. *Спадыспаду бяры. Спадысподу падгарэў блін.* Ністанішкі Смарг.

СПАЖА' *ж. царк.* Прачыстая (15 жніўня ст. ст.). *Спажа, перат спажой дзве нядзелі поста, спасаўка перад спажой.* Рыбчына Віл. *У вялікую спажу едуць у госці.* Кураполле Паст. *Спажа пятнацатага серпня.* Завельцы Астр. *Пятнаццатага серпня зельная, а даўней звалі спажа.* Ёдупка Шальч. ▽ *Прышла спажа — хлеба дзяжа.* Рыбчына Віл.

СПАЖЫВА'ЦЬ *незак.* Карыстацца. *Адзеяла не спажываю, сваім собственым накрываюся.* Слабада Мін. ◇ *Спажываць на здароўе* — ужываць з карысцю. *Спажывай на здароўя!* Старыя Смільгіні Воран. *Спажывай на здароўе, калі трэба, яшчэ дам.* Мачаск Бярэз.; *параўн.* польск. *spożywać* 'тж'.

СПАЖЫВЕ'НЯ *н.* Спажытак. *Няма ніякага спажывеня, ні пажывіўся.* Старыя Смільгіні Воран.

СПАЖЫНА' *ж. царк.* Спас (6 жніўня ст. ст.). *Спажына— свята ўвосень, яблыкі свецяць.* Жодзішкі Смарг.

СПАЖЫ'ЦЦА *зак.* Разжыцца. *Шэссот рублей грошы далі, вот, думаю, спажывуся! І там яны спажыліся, гэтыя людзі.* Чапаеўскі В.-Дзв.

СПАЗНІ'ЦЬ *зак.* Спазніцца. *Ня спозніця?* Граўжышкі Ашм. *Сяголета я спазніла садзіць агарот.* Вецярэвічы Пух.

СПАЙМА'ЦЬ *зак.* Злавіць. *Я свайго каня спаймаю.* Барок Стаўб. *Дзе п я іх спаймала!* Вецярэвічы Пух.; *парайн.* руск. *поймать* 'тж'.

СПАКАЙНЕ'Й *прысл.* Больш спакойна. *Мне спакайней, калі малыя дома.* Малахоўцы Бар.

СПАКАЙНЕ'ЙШЫ *прым. выш.* Больш спакойны. *Другія гадзюкі спакайнейшыя.* Гемзы Шальч.

СПАКА'Т *м.* Паніжэнне. *Там гара, а тут спакат.* Дарава Лях.

СПАКО'Й *м.* Спакой. *А цяпер ні дзень, ні ноч спакою нет.* Груздава Паст. *Я не нарушаю яго спакою.* Руднікі Шальч. *Нада спакой — плюцы ў яе.* Старыя Трокі Трак.

СПАКО'ЙНЕ *прысл.* Спакойна. *От забярэ дзіця, так спакойне ўдома.* Пацаўшчына Дзятл.; *парайн.* польск. *spokojnie* 'тж'.

СПАКО'ЙНЫ *прым.* Ціхі. *Она спакойных* [хлопцаў] *не любіла.* Новыя Мацалі Варэн.

СПАКУ'ДЗЕЦЬ *зак.* Абрыдзець. *Спакудзеў ён мне так, што не магу глядзець на яго.* Якубова Рас.

СПАЛАНІ'ЦЦА *зак.* Загарэцца. *Спаланілася хата ў суботу.* Рудня Астравітая Чэрв.

СПАЛАСКА'ЦЬ *зак.* Памыць. *Спалашчу валасы вадой свіцязянскай.* Валеўка Навагр.

СПАЛАХНЕ'НЕ *н.* Спалох. *З таго спалахненя дастала цукровіцу.* Кіралі Шчуч.

СПАЛЕ'ЦІЦЬ *зак.* Пашанцаваць. *Табе сягання ні спалеціла.* Груздава Паст.

СПАЛІРАЖАВА'НЫ *дзеепрым.* Паралізаваны. *Ляжыць ён саўсём спаліражаваны.* Жодзішкі Смарг.; *парайн.* польск. *sparaliżowany* 'тж'.

СПАЛІРЖАВА'ЦЬ, СПАЛЯРЖЫВА'ЦЬ *зак.* Паралізаваць. *Яго спаліржавала, мову яму атняло.* Ахрэмаўцы Брасл. *І яго спаліржавала.* Кураполле Паст. *Спалярожывала, ня будзя пры кім староваццця.* Кіралі Шчуч.; *парайн.* польск. *sparaliżować* 'тж'.

СПАЛІ'ЦЦА *зак.* Згарэць. *Потым хата спалілася. У вайне спаліліся.* Быстрыца Астр. *Наша была палова вёскі згарэла: спалілася і ядзэня, і адзеня.* Паляцкішкі Воран. *Спаліліся хаты.* Навасёлкі Лід. *Хата гарэла, сталяваня ўпала — і хлопяц спаліўся.* Кудзялянцы Шальч. *Мая кварціра спалілася.* Гемзы Шальч. *Мы спаліліся, алі я задзержылася.* Ра-

гулішкі Даўг. *Мало мешкане не спалілосо.* Каменка Стара Сакол.; *параўн.* польск. *spalić się* 'тж'.

СПАЛІ'ЦЬ *зак.* 1. Знішчыць агнём. *Спалілі гумно.* Гальшаны Ашм. *Сорак чалавек спалілі немцы старых людзей, у таку запёршы.* Вузла Мядз. *Хату нашу спалілі.* Саланое Віл., Смаляніца Пруж. *Пара хатаў спалілі.* Старыя Трокі Трак. 2. Спаліць. *Ты спаліла дрова?* Горск Бяроз. 3. Прапаліць. *Рыгор спаліў яму кажух.* Кнышэвічы Бабіц. 4. Апячы. *Быў цень, а потым слонца — спалілі дзіця.* Солы Смарг. 5. Пашкодзіць. *Маланка спаліла арэх — чорны-чорны.* Вузла Мядз. ∇ *Хто сам сябе хваліць, ніхай тага пярун спаліць!* Вузла Мядз.

СПАЛНЯ'ЦЬ *незак.* Выконваць. *Буду баяцца спалняць яго прыкас.* Гемзы Шальч.; *параўн.* руск. *исполнять* 'тж'.

СПАЛО'ХАЦЦА *зак.* Спужацца. *Я спалохалася, што малой спалохаўся.* Гальшаны Ашм. *Спалохаеся, бульбу палоўшы каля лесу.* Граўжышкі Ашм. *Калі я спалохаўся!..* Паляцкішкі Воран. *Я спалохаласа.* Груздава Паст., Вострава Маст., Навасёлкі Свісл. *Наша дзяўчына спалохалася, прас сон гаварыла, нешта пра сабакі гаварыла.* Кіралі Шчуч. *Гэдак спалохалася той мышы.* Пацаўшчына Дзятл. *Чаго ты спалохаўся?* Лоск Валож. *Дзіця спалохалася.* Збляны Лід. *Аш б'ецца сэрца — спалохалася.* Гемзы Шальч.

СПАЛЯНТА'ЖЫЦЬ *зак. экспр.* Стаптаць. *Усе грады спалянтажыў.* Гайна Лаг.

СПА'ЛЯНЫ *прым.* Пашкоджаны. *Прынёс адных спаляных гарэхаў.* Стральцы Гродз.

СПАЛЯРЖЫВА'ЦЬ *гл.* СПАЛІРЖАВА'ЦЬ

СПАМІНА'ЦЬ *незак.* Успамінаць. *Буду спамінаць свайго дзяцьку.* Кухты Віл. *У мяне літр пазычаўшы, але і не спаміная.* Альхоўка Навагр.

СПАМІ'НКІ *мн. абрад.* Памінкі. *Спамінкі — за гот упамінаюць нябошчыка.* Старыя Смільгіні Воран.

СПАМЯНУ'ЦЬ *зак.* Успомніць. *Спамянула там, ды позно.* Пасека Ст.-Дар.

СПА'МЯТАВАЦЬ *зак.* Тое ж, што і с п а м я н ý ц ь. ∇ *Чорт яго спамятуя!* Дзяніскавічы Ганц.

СПАНАВА'ЦЬ *зак.* Апанаваць. *Вайной усіх спанавала кароста.* Паляцкішкі Воран. *Скуллё спанавала.* Лоск Валож. *Вудыры спанавалі, рука пашла вудырамі.* Пераброддзе Міёр.; *параўн.* польск. *opanować* 'тж'.

СПАНАТРАВА'ЦЬ *зак.* Паназіраць. *Ездзілі па свеце тожэ, цёгаліса, тай е што, так спанатравалі.* Баброўнікі Гарад.; *параўн.* польск. *spenetrować* 'агледзець, высачыць'.

СПАНА'ТРЫЦЬ *зак.* Скеміць. *Пакуль спанатрылі, што рабіць.* Рыбчына Віл.; *гл.* с п а н а т р а в á ц ь.

СПАНАТУ'РЫЦЬ *зак.* Раззлаваць. *У картавага пыталі,*

*якая буква, а ён папускае сякераю — спанатурылі яго.* Дзяніскавічы Ганц.

СПАНІ'ЦА *гл.* СПАДНІ'ЦА

СПАННЁ, СПАНЬЁ, СПАНЁ, СПАННЕ', СПАННЯ' *н.* Стан паводле значэння дзеяслова спаць. *Мала спання, карову выганяць трэба.* Жодзішкі Смарг. *Спаньё маё, толькі драмлю.* Міратычы Карэл. *Якое там спанё было?!* Вялікія Баяры Шчуч., Альхоўцы Лях. *Якое було спанне?!* Дзмітравічы Кам. *Такоя спання, ні дай бох!* Стральцы Гродз.

СПА'РА' *ж.* Прамежак (у капытах жывёлы, паміж пальцаў у чалавека і інш.). *Капыт, спа́ра паміж капытоў. Карова прабіла спа́ру. Карова цвік загнала ў спа́ру. Спа́ры ад мокрасці гніюць, некалі засыпалі плавушкай.* Кіралі Шчуч. *Между спа́раў капыцікі.* Пацаўшчына Дзятл. *Паміж спары́ свярбіць. Паміж спары́* [паміж ног]. Ністанішкі Смарг. *Міжы спа́ры быў мазоль.* Дакудава Лід.; *парайн.* польск. *szpara* 'шчыліна'.

СПАРА' *ж. абрад.* Спор. ∇ *Спара цябе ў дзешку!* Глівін Барыс. *Спары табе!* Жодзішкі Смарг.

СПАРАДЗІ'ЦЬ *зак.* Нарадзіць. *Спарадзіла чачотачка семіра дачок.* Ухвала Круп.

СПАРА'ДКАВАЦЦА, СПАРА'ТКАВАЦЦА *зак.* Абжыцца. *Перш зацяліся, а як спараткаваліся — дзіця захацелі.* Граўжышкі Ашм.

СПАРА'ДКАВАЦЬ, СПАРА'ТКАВАЦЬ *зак.* 1. Упарадкаваць. *Няхай дажджу ня будзіць, пака сена не спараткуем.* Дзёрнавічы В.-Дзв. 2. Прыбраць. *Добрая дзевачка — спараткавала ў хаця.* Малі Астр. *Спарадкавала ў хаце.* Чычалі Швянч. *Ён бы спаратка́ваў тут.* Старыя Трокі Трак. 3. Памыць і прыбраць нябожчыка. *Трэба ісці яе спараткаваць — свякроў памёрла.* Малі Астр. 4. Дагледзець. *Я кажу ей: «Давай спараткуям»* [хворага], *ужо змяркалася.* Малі Астр. *Бапка спараткавала дзіця.* Дакудава Лід. *Спараткуй карову, старая ня здоляя.* Руднікі Шальч.

СПАРАЛІЖАВА'НЫ, СПАРАЛІЖО'ВАНЫ, СПАРАЛІЗАВА'НЫ, СПАРАЛІЗО'ВАНЫ *дзеепрым.* Тое ж, што і спаліражава́ны. *Натуральна пакутніца ляжыць спараліжавана.* Мсцібава Ваўк. *Спараліжованому чоловіекові тяжко на свіеті жыті.* Курашэва Чыж. *Ён спаралізованы ляжыць і не рухаецца.* Мсцібава Ваўк.

СПА'РАНЫ I *прым.* 1. Сапрэлы. *Спаранае сена, як сырок.* Лука Нараўк. 2. Кіпячоны. *Спаранэ молако хутко квасніее.* Курашэва Чыж.

СПА'РАНЫ II *дзеепрым.* Аплоднены. *Трутоўка адкладвае трутнёў, бо яна неспараная.* Мыто Лід.

СПАРА'НЯ *прысл.* Зранку. *Прыехаў у нядзельку спараня.* Талейкі Швянч.

СПАРА′ТКАВАЦЦА *гл.* СПАРА′ДКАВАЦЦА

СПАРА′ТКАВАЦЬ *гл.* СПАРА′ДКАВАЦЬ

СПАРАХНАВАЦЕ′ЦЬ *зак.* Спарахнець. *Радыска спарахнавацела, як парахна, падзіркуецца, як сіта, нет ні соку, ні ўкусу.* Кураполле Паст.

СПАРНА′ *ж.* Тое ж, што і с п а р а́. ∇ *Спарна, сыдзі да нас, да нас, кап спарыла хлеп у нас.* Ракаўскія Швянч.

СПАРНЕ′Й *прысл.* Больш спорна. *Кап я аддахнула — работа п ішла спарней.* Кураполле Паст.

СПАРНЕ′ЙШЫ *прым. выш.* Больш спорны. *А сала спарнейшая, чым масла.* Пацаўшчына Дзятл.

СПА′РНІЦА *ж.* Спарыш. *Спарніца ў бабы аднае, два пальцы ўмесці зрошшыся на назе.* Кіралі Шчуч.

СПАРНІ′ЦА *ж. мед.* Нарыў паміж пальцаў. *Спарніца ў яе на руцэ.* Вялікія Баяры Шчуч.

СПАРНЯ′ *ж. абрад.* 1. Кавалак хлеба, які закопваюць у зямлю ў час дажынак, каб на будучы год быў добры ўраджай. *Як астанецца нямнога, каласкі абажнём, завяжам, пад яе хлеп закапаям і гукаліся яшчо: «Спарня, спарня, гу-гу-гу!»* Магуны Паст. *Спарню мама некалі на полі пакідала, яшчэ гукалі: «Спарня, спарня, гу, са ўсіх палёў, са ўсіх двароў — у наш двор, спарня, гу!»* Завельцы Астр. 2. Тое ж, што і с п а р а́. ∇ *Спарня табе!* Жодзішкі Смарг. *Спарня ў дзешку!* Ахрэмаўцы Брасл.

СПАРШЫ′ВІЦІ *зак.* Сапсавацца. *Сёголіта было мокро і картохлі спаршывілі.* Курашэва Чыж.

СПАРЫЖАВА′НЫ *прым.* Тое ж, што і с п а л і р а ж а в а́ н ы. *Спарыжаваны яго бацька.* Магуны Паст.

СПАРЫЖАВА′ЦЬ *зак.* Тое ж, што і с п а л і р ж а в а́ ц ь. *Мяне спарыжавала пасля грыпа.* Масілавічы Сл. *Бывае, віхар урэдны спарыжуе.* Дарава Лях.

СПАРЫНЯ′ I, СПАРЫННЯ′ *ж. бат.* Спарынння. *Спарыня.* Вялікія Баяры Шчуч., Істра Лудз. *Маланка жыта паліць — спарыня ў жыці. Калі ў муцэ спарыня, то натта вольнасць, шкодзіць жывёле.* Кіралі Шчуч. *Спарыня ў жыці расцець, яе здаюць на лякарства.* Вузла Мядз. *У жыце спарыня.* Мыто Лід. *Спарыня — чорныя зерня.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Спарыня на колася.* Мярэцкія Глыб. *Спарынне ў жыце, чорныя рожкі такія.* Яніна В.-Дзв.

СПАРЫНЯ′ II *ж.* 1. Тое ж, што і с п а р н я́ 1. *Як дажыналі жыта, хлеп укопавалі ў зямлю і называлі спарыня.* Груздава Паст. *Нада ш хлеба ўзяць на спарыню.* Альхоўка Навагр. 2. Тое ж, што і с п а р а́. ∇ *Спарыня табе — як хто заходзіць: на ўток заходзіць ці ў варыўню. Спарыня ў дзяжу — а табе сто рублей у машну!* Кураполле Паст. *Спарыня табе* [у рабоце якой]! *Спарыня ў дзешку!* Мярэцкія Глыб. *Спарыня табе — як*

*робюць, а хто прыдзе, і так скажа.* Саланое Віл. *Спарыня ў дзяжу!* Рагулішкі Даўг.

СПА'РЫЦЦА *зак.* 1. Утушыцца. *Спарыцца авёс у печы.* Пярэкі В.-Дзв. 2. Сапрэць. *Спарылася сена, аш курыць.* Бакшты Іўеў. 3. Задыхнуцца. *Тры хлапчыке зайшлі ў сушылку, паснулі і спарыліся.* Кіралі Шчуч.

СПА'РЫЦЬ, СПА'РЫТІ *зак.* 1. Згатаваць. *Авёс спарылі на талакно.* Валынцы В.-Дзв. *Спарацъ, высушаць авёс.* Солы Смарг. 2. Закіпяціць. *Трэба малака спарыць і выпіць ад кашлю.* Кіралі Шчуч.

СПАРЫ'ЦЬ, СПО'РЫЦЬ *незак. абрад.* У выразе: *Спары (спор), божа (бох)* — пажаданне поспеху ў працы, багацця, ураджаю. *Спары, божа!* Жылі Іўеў. *Спары, бох!* Жыдзевічы Іўеў. *Спор, божа,— пажаданне, каб болей вялося, спорылася.* Граўжышкі Ашм. *Спор, божа,— пажаданне ў працы.* Старыя Смільгіні Воран. *Як месіць хлеп, а хто зойдзя, кажуць: «Спор, божа!»* Кіралі Шчуч. *Спарна, сыдзі да нас, да нас, кап спарыла хлеп у нас!* Ракаўскія Швянч.

СПАРЫ'Ш І *м.*, СПАРЫШЫ', СПАРЫШЭ' *мн.* 1. Тое ж, што і с п а́ р н і ц а. *Два каласке вырастаюць умесце — гэто спарыш.* Малахоўцы Бар. *Спарышы ў каласох: адна сцяблінка і два каласы.* Збляны Лід. *Спарыш — два каласкі разам.* Глівін Барыс. *Спарыш — калі два каласы выходзюць разам.* Беразіно Докш. *Спарыш у жыце найшла — два калівы на адным каласку.* Мачаск Бярэз. *Спарыш — два ўмесці гурочкі, каласы.* Альхоўцы Лях. *Спарышы — жыта два каласы ці арэхі.* Солы Смарг. *Спарышы — два гарэхі зрасліся.* Альхоўцы Лях. *Спарышэ — два коласы на жыце.* Дзяніскавічы Ганц. ∇ *Як носіш спарыш, дык і грошы спорацца.* Кураполле Паст. *Мужчына спарыш у шапку ўклеіць і ходзіць — шчасце нашоў, будзе спорны хлеб; жэншчына спарыш тэж хавае.* Відаўцішкі Вільн. 2. *абрад.* Дзве жменькі жыта, якія ставяць на кут у час зажынак, каб у далейшым быў добры ўраджай. *Спарыш — як зажынаюць. Ужо аспадыня зажала спарыша. Спарыш стаіць у покуці, пака не вязуць жыта ў гумно, а як прывес жыта, яго наперат нясуць і кладуць пат спот у старану.* Кіралі Шчуч.

СПАРЫ'Ш ІІ *м. бат.* Спарыш. *Спарыш цягняцца, лісточкі дромнянькія, каля дарогі расце.* Малахоўцы Бар. *Спарыш свінні ядзяць.* Вялікі Лес Круп.

СПАРЫ'Ш ІІІ *м.* Тое ж, што і с п а р ы н я́ І. *Спарыш у коласі жыта, спарыш лечнічы, сабірают.* Лука Нараўк.

СПАРЫ'ШКА *ж.* Тое ж, што і с п а́ р н і ц а. *У жыці бываіць спарышка — два каласкі зрошшыя. Спарышка — дзе атожылы пашлі, на два ствалы дзерава.* Ахрэмаўцы Брасл. *Спарышка — бульбіна, агуркі зрастаюцца.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Спарышка — калі каласы зросшыя.* Мішневічы Шум.

СПАРЫ'ШЫК *м. памянш.* да с п а р ы́ ш І, 1. *Спарышык*

*абмалоцяць, да яго жыта больш абмалоцяць, на зельну* [свята] *пасвенцяць і ім першым засяваюць.* Кіралі Шчуч.

СПАРЭ'Й *прысл.* Лепш. *Фарба спарэй возьмецъ.* Магуны Паст.

СПАС *м. царк.* Спас (6 жніўня ст. ст.). *На спаса гулянка была добрая.* Ухвала Круп. *Пост перад спаса.* Лука Нараўк.∇ *Прыдзе спас — і ўсяму час.* Вузла Мядз. *Спас — пашло лета ад нас.* Рудня Астравітая Чэрв.

СПА'САЎКА *ж. царк.* Пост перад святамі, якія адзначаюцца ў жніўні (6 і 15 жніўня ст. ст.). *Спасаўка — пост перад спаса, пбсцят.* Лука Нараўк. *Спасаўка перад іспасам.* Рудня Астравітая Чэрв. *Спасаўка — пост перад першай прачыстай.* Багушэвічы Бярэз. *Спасаўка — пост перат спажой.* Рыбчына Віл. *Пасля спасаўкі еш яблыкі, сколі захочаш.* Беразіно Докш.

СПА'САЎСКІ *прым.* Які адносіцца да спаса. *Спасаўскі пост перат першай прачыстай.* Мярэцкія Глыб.

СПАСА'ЦЦА *незак.* Ратавацца. *Мы толькі гэтым спаслісь.* Ахрэмаўцы Брасл.; *парайн.* руск. *спасаться* 'тж'.

СПА'СВІЦЬ *зак.* Стравіць (пасевы). *Зрабіў шкоду, спасвіў пасевы.* Мсцібава Ваўк. *Лес не выгінуў, а яго спасвілі.* Пацаўшчына Дзятл.

СПАСІ'ЦЕЛЬ *м.* Выратавальнік. *Гэта ваш спасіцель стаіць.* Пераброддзе Міёр.; *парайн.* руск. *спаситель* 'тж'.

СПА'СЛЫ *прым.* Вынослівы. *Конь спаслы, можна далёка ехаць, а другі прайдзёт нямношка — і канцы.* Ахрэмаўцы Брасл.; *парайн.* польск. *spasły* 'адкормлены, сыты, тлусты'.

СПАСО'БНЫ *прым.* Здольны. *Чалавек спасобны на ўсякую работу.* Збляны Лід. *Я быў сільна спасобны да кузні.* Ахрэмаўцы Брасл.; *парайн.* руск. *способный* 'тж'.

СПАСО'ЎКІ *мн.* Восеньскія мухі. *Куслівыя мухі — гэта спасоўкі.* Мярэцкія Глыб.

СПА'СЦІ *зак.* 1. Асыпацца. ∇ *Прышоў Пятрок — споў лісток.* Дакудава Лід. 2. Панізіцца ва ўзроўні. *Спала вада ў рацэ.* Паляцкішкі Воран. 3. *перан.* Перайсці ў спадчыну. *Усё спало яму, як той памёр.* Вострава Маст. *А патом і ён памёр, усе спало той дацэ.* Пасека Ст.-Дар.

СПАСЦІ' *зак.* Выратаваць. *Ты, Наташа, нас спасла, ты нас аслабадзіла.* Пераброддзе Міёр.∇ *Паук чалавека спас ат смерці, і яго біць нельга.* Жылі Іўеў.; *парайн.* руск. *спасти* 'тж'.

СПАСЦІ'СЯ *зак.* Выратавацца. *Мог бы ён спасціся.* Груздава Паст.; *парайн.* руск. *спастись* 'тж'.

СПАСЫЛА'ЦЬ *зак.* Паслаць. *Пайду ўнука спасылаю, штоб хлеба купіў.* Ухвала Круп.

СПАТ *гл.* СПАД

СПАТАЙКА' *прысл.* Потайкам. *Спатайка зрабіў штонебудзь.* Альхоўцы Лях.

СПАТА'ЦЦА *зак.* Спытацца. *Нада ў яго спатацца.* Мярэцкія Глыб.

СПАТКА'ЦЦА *зак.* Сустрэцца. *Кап як спаткацца, паглядзець, якія мы ёсь.* Ністанішкі Смарг. *Я з ім спаткаўсо ў Харкавя.* Гемзы Шальч. *Спаткаліся каля магазіна і пагаварылі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Спаткаліся і стаяць каля хаты.* Малькуны Ігн. *Спаткаліся ў аўтобуса.* Саланое Віл. *Спаткаліся з ёй.* Чычалі Швянч.; *парайн.* польск. *spotkać się* 'тж'.

СПАТКА'ЦЬ *зак.* Сустрэць. *Муш спаткаў яе са мной.* Гальшаны Ашм. *Можа, спаткаць?* Старое Сяло Зэльв. *Пайду спаткаю Ядзю.* Мсцібава Ваўк. *Я спаткаў яго і пытаўся: «Ці быў ты там?»* Гемзы Шальч. *Спаткаў я афіцэра.* Кухты Віл. *Спаткала яго на дарозя.* Рыбчына Віл. *Яго жонка спаткала.* Талейкі Швянч. *Я спаткала іх за метпунктам.* Ахрэмаўцы Брасл. *Яна мяне спаткала, вот кап мне з ім спаткацца!* Ёдлавічы Брасл.; *парайн.* польск. *spotkać* 'тж'.

СПА'ТКІ *гл.* СПА'ДКІ

СПАТРЭ'БІЦЦА *зак.* Стаць патрэбным. *Усё спатрэбіцца ў гаспадарцы.* Вялікія Баяры Шчуч. *Спатрэбілася мне купіць што.* Старыя Смільгіні Воран.

СПАТУ'ЖЫЦЦА *зак.* Тое ж, што і спажы́цца. *Думаў тут спатужыцца. Тут жа спатужацца, на гэтым падворку.* Граўжышкі Ашм.

СПА'ТЫ *гл.* СПАЦЬ

СПАТЫКА'ЦЦА *незак.* 1. Сустракацца. *Ён не хоча спатыкацца з людзьмі.* Гемзы Шальч. 2. Сутыкацца. *Даска з даской спатыкаіцца.* Старыя Смільгіні Воран. ∇ *На тым свеᐟте будзім спатыкацца і расплачывацца ўгалькамі.* Гемзы Шальч. ◇ *Ні спатыкацца дома* — мала часу быць дома. *Дачка ні спатыкаяцца дома.* Слабада Мін.; *гл.* спатка́цца.

СПАТЫКА'ЦЬ *незак.* Сустракаць. *Пайду спатыкаць сына.* Солы Смарг. *Пашоў спатыкаць дзеўку.* Вялікія Баяры Шчуч. *Іду спатыкаць карову.* Гемзы Шальч.; *гл.* спатка́ць.

СПАТЫКНУ'ЦЦА *зак.* Тое ж, што і спатка́цца. *Мы на дарозя спатыкнуліся.* Старыя Смільгіні Воран.

СПАТЫКНУ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і спатка́ць. *Бацькі спатыкнуць і благаслявяць маладых.* Новікі Гродз. *Спатыкнула мяне.* Старыя Смільгіні Воран. *Спатыкнула дзіця.* Паляцкішкі Воран.

СПАТЫ'ЧКА *ж.* Сутычка. *Спатычка була іх, як була вайна.* Пасека Ст.-Дар.

СПАТЭ'ЙКУ *прысл.* Знянацку. *Крыкнуў спатэйку.* Вялікія Баяры Шчуч.

СПАЎКЛАДА'ЦЬ *зак.* Скласці. *Спаўкладала матрасы.* Жыдзевічы Іўеў.

СПАЎНЯ'ЦЦА *незак.* Напаўняцца. *Наліваецца, спаўняецца колас.* Дзяніскавічы Ганц.

СПАХО'ВЕ *прысл.* Нахільна ўніз. *Бывае спахове маладзік, а бывае рожкі ўгару.* Альхоўцы Лях.

СПАХО'ВІСТЫ *прым.* Тое ж, што і с п а́ д з і с т ы 1. *Пабех спаховістым берагам.* Альхоўцы Лях.

СПАХО'ВЫ *прым.* Тое ж, што і с п а́ д з і с т ы 1. *Спаховы берах.* Новікі Гродз., Старое Сяло Зэльв., Дакудава Лід. *Спаховы берах ля рэчкі, спускаецца ўніс.* Вялікія Баяры Шчуч. *Строма і спахова страха.* Навасёлкі Свісл. *У нас у рэчцы спаховы берах.* Нізок Уздз. *Спаховы берах і стромы берах.* Альхоўцы Лях.

СПА'ЦАР *м.* Прагулка. *Не ідзе на спацар, стыдалася.* Солы Смарг.; *параўн.* польск. *spacer* > ням. *Spaziergang* 'тж'.

СПАЦЕ'ЦЬ *зак.* 1. Спацець. *Як спацеіш, грась качаецца на целя качалкамі.* Вузла Мядз. *Ідзі спацей і будуц рагі.* Парэчча Гродз. 2. Адпацець. *Спацее акно — і рагі.* Парэчча Гродз.

СПА'ЦІ *гл.* СПАЦЬ

СПАЦІ'ХА *прысл.* Моўчкі. *Спаціха будзе рабіць адзін, а другі языком брахаць, а рабіць не будзе.* Новіны Нясв.

СПА'ЦЦА *незак. безас.* Спацца. *Як вам спаласё?* Малахоўцы Бар. *Ні спалася мне днём.* Валынцы В.-Дзв.

СПАЦЫРАВА'ЦЬ *незак.* Гуляць. *Ён хадзіў, спацыраваў.* Гальшаны Ашм. *Людзі спацыруюць.* Солы Смарг.; *параўн.* польск. *spacerować* > ням. *spazieren* 'тж'.

СПАЦЬ, СПА'ЦІ, СПА'ТЫ *незак.* Спаць. *Спаць-та спалі па хатах.* Ахрэмаўцы Брасл. *Іншы рас спаць не магу.* Кураполле Паст. *Ты не спіш, а сніш.* Старыя Смільгіні Воран. *А вун вам паслано, а мы ўжо спём.* Паляцкішкі Воран. *Касуля пад ябланьку ідзе і там спіць.* Вулька Гродз. *Раньша мухі заядалі, а цяпер адна муха летае — яна спаць не дасць.* Малышы Лід. *Вы спіцё і ляжыцё, а маёй хаты няма!* Збляны Лід. *Не сплю натто.* Валеўка Навагр. *Мы спём доўга.* Мішневічы Шум. *Мы спём позно.* Старыя Трокі Трак. *Тут спакой, спем позна.* Рагулішкі Даўг. *Ён сабе ня спі* [няхай не спіць]. Ахрэмаўцы Брасл. *Я думала, ветэ спітэ.* Смаляніца Пруж. *Я тыхо сп'ю.* Горск Бяроз. ∇ *Як спіць — лепшэй і быць не можыць, а як устаніць — то і неба дастаніць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Свайго ня меўшы, лажыся спаць ня еўшы.* Вузла Мядз. *Што ж гэта дрома сядзіць і спіць!* Валеўка Навагр.

СПАЧЫВА'ЦЬ *незак.* Адпачываць. *Пашоў стары спачываць.* Альхоўцы Лях.

СПА'ШКА *ж. гіст.* У выразе: *Быць на спашкі* — апрацоўваць панскую зямлю за частку ўраджаю. *Спашка на спашкі былі, зямлі сваей не было.* Валынцы В.-Дзв.

СПА'ШНІК *м. гіст.* Селянін, які апрацоўваў панскую зямлю за частку ўраджаю. *Спашнікам быў мой мужык.* Валынцы В.-Дзв. *Спашнікі — людзі, нанятыя ў пана.* Ухвала Круп.

СПА'ШНІЦА *ж. гіст.* Сялянка, якая апрацоўвала панскую зямлю за частку ўраджаю. *Іна спашніца ў пана, папалам пахалі зямлю ў пана.* Валынцы В.-Дзв.

СПАШЫВА'ЦЬ *незак.* Сшываць. *У ботах спашываюць перат, тады ложаць бяросту, а тады падэшву.* Магуны Паст.

СПАШЫ'ЦЬ *зак.* Сшыць. *Бакі спашыім, выражу тут кругла.* Быстрыца Астр.

СПЕКАТА' *ж.* Спёка. Жылі Іўеў.

СПЕ'НЧЫК *м.* Спіца. *У калаўроце ў коле спенчыкі.* Гальшаны Ашм.

СПЕ'РАДУ *прысл.* Спераду. *Ваўкі лася спераду забягуць, гоняць у гразь і там разарвуць.* Вузла Мядз. *Ззадзі і спераду ў цялеге закладвалася доска.* Пасіене Лудз.

СПЕ'РЦІ *зак.* 1.Назбірацца. *Так работа сперла!* Магуны Паст. 2. *экспр.* Выслаць. *Яго сперлі туды, там умер.* Пасіене Лудз.

СПЕ'РЦІСЯ *зак.* Тое ж, што і с п е́ р ц і 1. *«Магдалена, работа спярлася!» — «Ляш паспі, потым сілы будуць, усё паробіш». Спярлася работа, не ведаю, як і рабіць.* Солы Смарг.

СПЕРША' *прысл.* Спачатку. *Сперша мачылі лён.* Малькуны Ігн.

СПЕ'РЫЦЬ *зак.* Выбіць пранікам. *Сперыш палатно пранікам.* Васілевічы Гродз.

СПЕ'ЎКА *ж.* Спявачка. *Спеўка была ў дзевіцтве.* Валеўка Навагр.

СПЕ'ЎЛЯ *ж.* Тое ж, што і с п е́ ў к а. *Спеўля харошая.* Азарычы Пін.

СПЕХ *м.* Тое ж, што і с п а р а́. ∇ *У лозі жапка красёны ткала. Прыехаў рачак да жапкі ў сваты: «Спех табе, жапка, красёнцы ткаць!»* Валынцы В.-Дзв.

СПЕ'ХАМ *прысл.* Паспешліва. *Я спехам рабіла — ні натта добра зрабіла.* Кіралі Шчуч. *Спехам ляцела на работу.* Вялікія Баяры Шчуч.

СПЕЦЫЯЛІ'СТА *м.* Спецыяліст. *Прышоў красіць спецыяліста — муляр.* Гальшаны Ашм.

СПЕЦЫЯ'ЛЬНЕ *прысл.* Спецыяльна. *Былі такія ткачыхі, якія спецыяльне вучыліся.* Дзераўное Стаўб.

СПЕЦЫЯ'ЛЬНЫ *прым.* Паасобны. *Нада мець свае спецыяльныя мясцы для збірання грыбоў.* Завельцы Астр.

СПЕЦЬ *незак.* Паспяваць. *Спеюць ягады, там ягадаў многа.* Кіралі Шчуч. *Чарэшні скора спеяць.* Груздава Паст. *Жыта спее.* Відаўцішкі Вільн. *Жыта спее, зярно робіцца цвёрдая.* Гемзы Шальч.

СПЕ'ЧАНЫ *дзеепрым.* Спечаны. *Спечанае яйцо.* Тухавічы Лях.

СПЕША′ЛЕЦ *м.* Хто спяшаецца. *Спешалец наш ідзе.* Граўжышкі Ашм.

СПЕ′ШКА *ж.* Паспешлівасць. *Усім жа нам спешка. Усім жа няспешка.* Ністанішкі Смарг.

СПЕ′ШКІ *мн.* Раннія гуркі. *Раннія гуркі — спешкі.* Рудня Чэрв.

СПЕ′ШНО *прысл.* Хутка. *Час так ідзе спешно ўпярод.* Баброўнікі Гарад.

СПЕЯ′ЦЬ *зак.* Спець. *Песню спеялі.* Саланое Віл.

СПЁКА I *ж.* Спякота. *Як пабудзя спёка, усе згарыць.* Вострава Маст. *Летам бывая велька спёка.* Вялікія Баяры Шчуч. *Сёння спёка, аш німа чым дыхаць.* Кіралі Шчуч. *Дзісь спёка.* Альхоўцы Лях.

СПЁКА II *ж.* Пякотка. *Спёка пячэ, пічая пячэ.* Глівін Барыс. *Спёка ўсё яшчэ пячэ.* Ухвала Круп.

СПЁХА *м.* і *ж.* Хто любіць спаць. *Спёха спіць і спіць.* Паляцкішкі Воран.

СПІВА′К *гл.* СПЯВА′К

СПІВА′ЦЬ *гл.* СПЯВА′ЦЬ

СПІ′ДЛА *м.* і *ж.* Тое ж, што і с п ё х а. *А, спідла, ляжыць ды спіць усё.* Валынцы В.-Дзв.

СПІЖА′РНЯ *ж.* Камора. *«Гдзе Стасек?» — «У спіжарні спіць, хоць бы слоікі там не палупіў».* Пацаўшчына Дзятл. *Спіжарня — каморка.* Альба Нясв.; *параўн.* польск. *spiżarnia* ’тж’.

СПІКІДА′Р *м.* Шкіпінар. *Спікідару накапаў на сахар — ташната адваліцца.* Слабада Мін.; *параўн.* руск. *скипидар* ’тж’.

СПІКНУ′ТІСЕ *зак. экспр.* Тое ж, што і с п а т к а́ ц ц а. *Воны вжэ давно спікнулісе.* Курашэва Чыж.

СПІ′НА′, СПЭНА′ *ж.* 1. Спіна. *Спіна баліць ад мяшка.* Малахоўцы Бар. *Пабіло дзеравом спіну. Спіна баліць.* Дзяніскавічы Ганц., Вялікія Нястанавічы Лаг. *У спіну вецер.* Альхоўцы Лях. *Спіна мучая. Спіна́ баліць.* Пасека Ст.-Дар. *Спіна́ баліць.* Мярэцкія Глыб., Рыбчына Віл. *Спіна́ гарбатая.* Стральцы Гродз. *Спіна́ боліць.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Спэна болет.* Дзмітравічы Кам. 2. Вільчык. *Спіна ў хаця.* Дакудава Лід. *Верх крышы калісь называлі спіна́ страхі.* Міратычы Карэл. *Прывяскі кладуць, калі ўкладваюць спіну страхі. Зверху страхі спіна, цяпер называюць канёк.* Малахоўцы Бар. ◇ *На сваёй спіне́ вынасіць* — рабіць усё самому. *На сваёй спіне́ вынасіць прыходзілася, кап зарабіць на трудны дзень.* Слабада Мін.

СПІНА′Ч *м.* Зашчапка. *Трэба спіначом нагавіці прыпясці, коб нэ вкрутілісе з ленцюх од ровэра.* Курашэва Чыж.

СПІ′НКА *ж.* Апора для спіны на сядзенні. *Спінкі такія ў санках выгінясныя.* Васілевічы Гродз.

СПІРА'ТІСЕ *незак.* Спрачацца. *Довно зо мною спіравсе і нэ хотіев іехаті.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *spierać się* 'тж'.

СПІРА'ЦЬ I *незак.* Перыць. *Пранікам спіралі палатно.* Масілавічы Сл.

СПІРА'ЦЬ II *незак.* Сціскаць (ад холаду). *Так я змерзла, аш мне нохці спірая марос, стаў нохці спіраць.* Кіралі Шчуч.

СПІРЫ'НА *ж.* Аспірын. *Трэбо было, кап спірыны вам.* Баброўнікі Гарад.

СПІС *м.* Апісанне ўзору. *Трэба пожычыті спіс, бо бэз спіса нэ потраплю.* Курашэва Чыж.

СПІСА'ЦЬ, СПІСА'ЦІ *зак.* 1. Запісаць. *Многа натта трэба вам спісаць* [назваў]! Крэва Смарг. 2. Спісаць. *Спішытэ ўсю цетратку.* Смаляніца Пруж. 3. *перан.* Спаласаваць. *Вот каня спісаў без душэ, весь у песакох.* Кіралі Шчуч.

СПІСО'К *м.* Спіс. *Я спісок падала ў кантору.* Вузла Мядз. *Спісок склаў, хто магільнік убіраў.* Ракаўскія Швянч.

СПІТА'ЛЬ *м.* Шпіталь. *Выпісуемся са спіталя.* Кемяляшкі Астр.; *парайн.* руск. *госпиталь* 'тж'.

СПІ'ТІ *зак.* Надпіць. *В гладунці молоко стояло, хтось спів смэтану.* Курашэва Чыж.

СПІТЫГА'ЛІЦЦА *зак. экспр.* Сабрацца разам. *Спітыгаліліся ўмесця Пяткевіч і Сальвук.* Граўжышкі Ашм.

СПІ'ЦА *ж.*, СПІ'ЦЫ *мн.* 1. Спіца (у коле). *Спіца ў коле.* Чычалі Швянч. *Спіцы ў колі.* Парэчча Гродз. *Спіцы ўбіваюцца ў калотку і нацягваецца вобат, потым — шына.* Кіралі Шчуч. *У коло набіваюць спіцы.* Малахоўцы Бар. *Спіцы ў колах дубовыя, обад быў.* Валеўка Навагр. *У калотку забіваюцца спіцы.* Альхоўцы Лях. *Спіцы ў калёсах, адна — спіца.* Дзяніскавічы Ганц. *Спіцы ўбіваліся ў трупку.* Пасіене Лудз. *Спіцы заганяліся ў трубкі: адзін канец у трубке, другі ў абаду.* Мешкінева Лудз. *У калодку зноў спіцы ўбіваюцца, а там — вобад.* Калясное Міхал. 2. Завостраная палачка, якой падплятаді лапці. *Спіца была драўляная, лапці патплятаді.* Вузла Мядз., Замошша Брасл. *Патплятаді лапці спіцай, з костачкі робюць.* Мярэцкія Глыб. *Спіца была патплятаць лапці.* Груздава Паст. *Спіцай лапці патплятаді, з авечай ношкі дзелалі.* Янова Рас. *Падкаланкай і двума спіцамі лапці падплятаюць.* Ухвала Круп. *Постолы плёў, спіцы по концох.* Смаляніца Пруж.

СПІЦАВА'ТЫ *прым.* Завостраны. *Малаток — каваць жорна: адзін канец шыршы, другі спіцаваты.* Жылі Іўеў.

СПІЦАВА'ЦЬ *незак.* Пераплятаць каркас кошыка. *Спіцуюць кошык.* Дакудава Лід.

СПІЦА'К *м.* Тое ж, што і с п і ц а 2. *Быў спіцак, патплятаді лапці.* Малахоўцы Бар. *Палачка падплятаць лапці —*

*спіцак*. Нізок Уздз. *Спіцак — лапці падплетаць*. Пасека Ст.-Дар.

СПІЦЬ *зак*. Скусаць. *Пчолы спілі яго, што ён спух, як балбан*. Кіралі Шчуч.

СПІЧА'СТЫ *прым*. Востраканцовы. *На спічасты колок можна настромітісе*. Курашэва Чыж.; *парайн*. польск. *spiczasty* 'тж'.

СПІ'ЧКІ *мн*. Запалкі. *Выракліся спічак*. Гальшаны Ашм.; *парайн*. руск. *спички* 'тж'.

СПІ'ЧЫНА *ж*. Запалка. *Спічыну вытрыш* [запаліш] — *і аткрываеш дзверы*. Дзёрнавічы В.-Дзв.

СПІЯ'ЦЬ *зак*. Спець. *Як піяюць у радзіва, мне хочацца сказаць: «Я лепей спіяю»*. Дзёрнавічы В.-Дзв. *Сколькі сватоў, і кожнаму трэба спіяць*. Саланое Віл.

СПЛА'ВІТІ *зак*. 1. Сплавіць (лес). *Вэсною дэрэво сплáвляют Нарвою*. Курашэва Чыж. 2. *перан*. Пазбавіцца каго-н., чаго-н. *Быв ім нэпотрэбны, то хутко сплавілі*. Курашэва Чыж.

СПЛА'ВЫ I толькі *мн. мед*. 1. Матачнае кровацячэнне. *Вялікія сплавы, крывёй сышла*. Кураполле Паст. 2. Крывяністыя выдзяленні з жаночых палавых органаў (пры захворванні). *Бываюць красныя сплавы*. Бакшты Іўеў.

СПЛА'ВЫ II толькі *мн*. Травяністы пласт, які трымаецца на паверхні возера, балота і інш. *Сплавы на азярках. Азярко, дзе сплавы зыбяцца, праб'еш дзірван — і дна німа, там, унізу, бы каша, боўтаецца*. Ахрэмаўцы Брасл. *На балоце сплавы есць, заходзя, як трава, а яна зыбіцца — і праваліласа*. Старыя Трокі Трак.

СПЛАСТАВА'ЦЬ *зак*. Згарнуць сена ў пласты. *Спластавай сена*. Чуркі Ашм.

СПЛАСЦІ'ЦЬ *зак*. Тое ж, што і с п л а с т а в á ц ь. *Спласціць сена нада*. Гайна Лаг.

СПЛА'ТА *ж*. Растэрміноўка. *Купів землю на сплату*. Курашэва Чыж.

СПЛАЎЛЯ'ЦЬ *незак*. Сплаўляць. *Сплаўлялі лес па Аўгустоўскім канале*. Вулька Гродз.

СПЛА'ЎШЧЫК *м*. Плытагон. *Сплаўшчыкі лес ганяюць ракой*. Дзёрнавічы В.-Дзв. *Сплаўшчыкі ганялі ганкі*. Лісна В.-Дзв. *Сплаўшчыкі былі*. Вецярэвічы Пух.

СПЛАЦІ'ЦЬ *зак*. Выплаціць. *Я двом братом сплаціла, дай аткупіла зямлю*. Дзераўное Стаўб. *Я сплачу яму за часць*. Номікі Бабіц.

СПЛА'ЧЫВАЦЬ *незак*. Аплачваць. *Як ад брата замуш ідзе, то брат сплачавае і васэля робіць*. Чуркі Ашм. *Адна астаеца з дачкамі, а ей сплачываюць, што атходзіць*. Індра Красл.

СПЛЕ'ВАЧКА *ж. памянш*. Плявальніца. *Цэлу сплевачку крыві набралі*. Мсцібава Ваўк.

СПЛЕ'НЕ *н. царк.* Прачыстая (15 жніўня ст. ст.). *На сплене абракаліса — на Збіські шлі.* Дзяніскавічы Ганц. *Гэта ў сплене то ўжэ жыто свенцяць, зеля там усялякаго бабы паберуць.* Баброўнікі Гарад.

СПЛЕ'СНЕЦЬ, СПЛЕ'СНІЦЬ, СПЛЕ'СНЯЦЬ, СПЛЯСНЕ'ЦЬ, СПЛЕ'СНІТІ *зак.* Пакрыцца плесняй. *Сплеснілі грыбэ.* Міратычы Карэл. *Сено сплесняе, як зацячэ, у пліты зробіцца.* Дзяніскавічы Ганц. *Сплеснела сена, нада ісці растрасці.* Саланое Віл. *Сена спляснела, пагніло, спарылася, згарэла.* Жылі Іўеў. *Спляснеў хлеп, зялёны стаў.* Ёдлавічы Брасл. *Спляснеіць мука ў скляпу.* Малькуны Ігн. *Хліеб довго лежав і спліеснів.* Курашэва Чыж.

СПЛЕ'СЦІ, СПЛЯСЦІ' *зак.* 1. Зрабіць з саломы, карэння, лазы. *Хто ўмеў сплесці з саломы капалюш?* Васілевічы Гродз. *Сплеў з карэння кош.* Рыбчына Віл. *Новы кошык сплящець і прынясець.* Саланое Віл. 2. Злучыць пляценнем. *Кончым ткаць — сплящём матускі.* Дакудава Лід. 3. *перан.* Прыдумаць. *Сплеў нехта, што ён жаніўся.* Рыбчына Віл.

СПЛЕ'ТНІ *мн.* Плёткі. *Яна сплетні любя насіць па вёсцы.* Малі Астр. *Бабы ў нас стаяць на сплетнях.* Ахрэмаўцы Брасл. ∇ *Сплетні — не палка.* Ахрэмаўцы Брасл.; *парайн.* руск. *сплетни* 'тж'.

СПЛЁТКІ *мн.* Тое ж, што і с п л е́ т н і. *Я сплётак ні вяду.* Вялікае Сяло В.-Дзв.

СПЛІ'ЦІЦЦА *зак. экспр.* Схуднець. *Нешта ты спліцілася?* Валынцы В.-Дзв.

СПЛОШ *прысл.* Скрозь. *Сплош вада была.* Пераброддзе Міёр.; *парайн.* руск. *сплошь* 'тж'.

СПЛО'ШНІНА *ж.* Ачышчанае валакно ільну. *Сплошніна — кужаль роўны ад жалезнай шчэткі.* Груздава Паст.

СПЛУ'ТАЦЦА, СПЛЮ'ТАЦЦА *зак.* Зблытацца. *Клубок апсыпаўся, а пасьма сплуталася.* Ёдлавічы Брасл. *Сплютаюцца ніці.* Старыя Смільгіні Воран. *Ніткі гэтыя сплуталісь.* Грыкені Вільн. *Сплюталіся ніткі.* Жодзішкі Смарг. *Сплуталіся каласы.* Гемзы Шальч.

СПЛУ'ЦІЦЬ *зак.* Звязаць бярвенні ў плыты. *Сплуцюць гляймо і некалькі гляймоў у ганку.* Валынцы В.-Дзв. *Возьмуць сплуцюць, лавачкі падзелаюць, саедзіняць лавачкі.* Лісна В.-Дзв.

СПЛЫ'ЦІЦЬ *зак.* Тое ж, што і с п л у́ ц і ц ь. *Да ракі лес тралявалі, сплыцілі, барашкамі закруцяць.* Кураполле Паст.

СПЛЮХ *м.* і *ж.* Тое ж, што і с п ё х а. *У нас у дваіх муж ж жонкаю сядзе есці — лошка ўпадзе, засне. Калі ты, сплюху, выспісса?!* Баброўнікі Гарад.

СПЛЯ'ЖЫЦЬ *зак. экспр.* 1. Стаптаць. *Спляжылі пасевы, пахадзілі, пайкупвалі куры.* Мсцібава Ваўк. 2. *перан.* Абла-яць. *Спляжыла мяне, абазвала. Нада яго спляжыць.* Гемзы

Шальч. ∇ *Хай іх гурончка спляжа! Штобы ты спляжыла скрозь зямлі! Кап цябе пляга спляжыла!* Гемзы Шальч.

СПЛЯНДРАВА'ЦЬ *зак.* 1. Тое ж, што і с п л я́ ж ы ц ь 1. *Каровы сплянДруюць гарох.* Рыбчына Віл. 2. Знасіць. *Ну, чыста туфлі сплянДраваў.* Ёдлавічы Брасл.

СПЛЯСНЕ'ЦЬ *гл.* СПЛЕ'СНЕЦЬ

СПЛЯСЦІ' *гл.* СПЛЕ'СЦІ

СПЛЯТА'ЦЬ *незак.* Скручваць. *Лён чэсалі і сплятаді пірог* [скрутак]. Грыкені Вільн.

СПО'ВЕДЗЬ, СПО'ВЕЦЬ, СПО'ВЭДЬ *ж. царк.* 1. Споведзь. *К споведзі хадзілі.* Месянцы Брасл. *У нашуом сэліе почті всіе ходят до сповэді.* Курашэва Чыж. ∇ *Говорыті праўду, як на сповэді* — казаць праўду ў вочы. Курашэва Чыж. 2. *перан.* Праборка, вымова. *Пойду до ёго, там будэ сповэдь.* Курашэва Чыж.

СПОВІДА'ТІ *гл.* СПАВЯДА'ЦЬ

СПОВРО'ЧЫТІ *зак.* Сурочыць. *Мае такіе очы, што як поглянэ, то споврочыт.* Курашэва Чыж.

СПО'ГАДЗЬ, СПО'ГАЦЬ *ж.* Спагада. *Ён людзям спогадзі ні мая.* Старое Сяло Зэльв.

СПОД, СПОТ, СПУОД *м.* 1. Ніжняя частка якога-н. прадмета. *У сподзе* [рыбалавецкай снасці] *із гліны дзелаеш патапцэ.* Збляны Лід. 2. Бок прадмета, процілеглы яго верху. *Падузда* [падуст] *пат сподам як бы абрэзана.* Быстрыца Астр. *Шафіёны пат сподам цёмныя. Кавалкі бітага чыгуна заганяя ў калотку* [жорнаў] *і зверху, і са споду.* Солы Смарг. *Бяруць грыбэ, касматыя пат сподам, а які я яны, ня ведаю.* Збляны Лід. *Спот палазоў каваўся жалезнаю шынаю, каб лёгка шлі па снягу.* Альхоўка Навагр. *Казляк пад сподам жоўценькі.* Грыкені Вільн. 3. Под. *Спот печы.* Мсцібава Ваўк. 4. Падэшва. *Калісьці спот у лапцёх патпляталі лыкам.* Малі Астр. 5. Дно якога-н. прадмета. *Стаёўка — чатыры ношкі, спот снізу, дзіця ў стаёўцы стаіць.* Солы Смарг. *Грыбы пашлі на спот, а вада наверх.* Вялікія Баяры Шчуч. *Жэліезо в водіе ідэ на спуод.* Курашэва Чыж. 6. Насціл. *Нада ўлажыць спот у вос, бо будзем вазіць сена, снапэ.* Кіралі Шчуч. 7. Асадак. *Спот выліць — попел, які асеў у вадзе.* Гемзы Шальч. ◊ *На спод, пад спод (пат спот)* — пад ніз. *Як дажнеш аспадара* [першы сноп], *клалі пат спот.* Солы Смарг. *Паткладзіна пат спот.* Быстрыца Астр. *Пат спот надзень цяплей што-небудь.* Магуны Паст. *Капуста была, у бочкі ставілі, бурака пат спот ці сахара.* Старыя Трокі Трак. *Пад сподам* — пад нізам. *У каструлю катлеты складаю, пат сподам масла, іх прапару — якія катлеты!* Крэва Смарг.

СПО'ДАК *м.* Сподак. *Падай мне сподак!* Кіралі Шчуч. *Налі ў сподак гарачы чай!* Стральцы Гродз. *Сподак у шкапіку вазьмеця!* Дакудава Лід. *Талерка і сподак.* Альхоўцы

Лях. *Сподак — даўней, блютка — сучаснае. Сподак — пераважна.* Рудня Астравітая Чэрв.; *параўн.* польск. *spodek* 'тж'.

СПО'ДАЧАК, СПО'ДЭЧЭК *м. памянш.* да с п о́ д а к. *Сподачак — кап астыла гарбата.* Солы Смарг. *Сало палажы на сподачак!* Міратычы Карэл. *Я нават купляла сподэчкі, тут, у нашым склепі, былі.* Баброўнікі Гарад.

СПО'ДАЧКІ *мн. памянш.* да с п о́ д к і. *Нада ўнучке сподачкі вывязаць.* Лісна В.-Дзв.

СПОДІВА'ТІСЕ *гл.* СПАДЗЯВА'ЦЦА

СПО'ДКІ, СПО'ТКІ *мн.* Рукавіцы. *Спойкі сушаць у пячурцы.* Дзёрнавічы. В.-Дзв. *Сподкі — рукавіцы.* Мішневічы Шум.; *гл.* ДАБМ, карта № 333.

СПО'ДНІ, СПО'ННІ, СПУО'ДНІ *прым.* 1. Ніжні. *Сподні камянь у жорнах трэба было кавацъ, я сам каваў, як пакуеш — яны добра бяруць.* Малі Астр. *Спадак — сподні камень, сподняя берванo.* Чуркі Ашм. *Сподні камянь* [у жорнах] *іс шваранком.* Жодзішкі Смарг. *У жорнах быў верхні і сподні камянь.* Збляны Лід. *Тут сподні навой.* Навасёлкі Лід. *Камянь верхні і сподні ў жорнах.* Дзяніскавічы Ганц. *Сподні камень.* Пасека Ст.-Дар., Грыкені Вільн. ▽ *Разышоўся, як камянь сподні жарнавы.* Старыя Трокі Трак. 2. Які знаходзіцца са споду. *Сподня скарынка ў хлебе.* Дзяніскавічы Ганц. *Сподняя скарынка загаруя.* Азяраны Раг. 3. Нацельны. *Сподня сарочка, сподні́я порткі.* Малахоўцы Бар. *Кашуля сподняя.* Паляцкішкі Воран. *Сподняя адзеня, спадніца сподняя.* Кіралі Шчуч. *Сподня адзеня.* Вялікія Баяры Шчуч. *Сподняя адзежа.* Рудня Чэрв. *Сподня рубаха.* Багушэвічы Бярэз. *Споднё плацё памыла.* Альхоўцы Лях. *Споднія майткі шылі з пачасніны.* Быстрыца Астр. *Паттанікі — споднія.* Солы Смарг. *Споднія штаны.* Пасека Ст.-Дар. *Карункі прышывалі да спадніцкаў сподніх.* Гемзы Шальч. *Спонні штаны.* Мачаск Бярэз. *Колісь спуодні нагавіці і сорочкі шылі с свого полотна, а тэпэр готову купляют.* Курашэва Чыж.

СПОДНІ'ЦА *гл.* СПАДНІ'ЦА

СПОДО'СІТІСЕ *зак.* Тое ж, што і с п а т к а́ ц ц а. *Ішла с цэркві і сподосіласе з Гапкою, зайшла до ее і кроху посідіели. Сподосівсе с суседом, выпілі віно.* Курашэва Чыж.

СПО'ДЭЧЭК *гл.* СПО'ДАЧАК

СПО'ЖКА, СПО'ШКА *ж. царк.* Прачыстая (8 верасня ст. ст.). *Спошка пярвей.* Вузла Мядз. *Восьмага ўжэсня спожка. Я найлепей люблю пару ад спажы да спожкі: дзень яшчэ доўгі, можна напрацавацца, і ноч даўгавата, можна адпачыць.* Ёдупка Шальч.

СПО'ЖКА (СПО'ШКА) ЗЕ'ЛЬНАЯ *ж.* Тое ж, што і с п а ж а́. *Спошка зельная ў тыдзень после спаса.* Збляны Лід.

СПО́ЙСАЦЬ *зак. перан.* Аблаяць. *Я яго спойсаю, славамі спойсаю.* Бакшты Іўеў.; *гл.* п о́ й с а ц ь.

СПО́КАН. У выразе: *Спокан веку* — спрадвеку. Масілавічы Сл.

СПО́КУЙ *м.* Спакой. *Быў спокуй, не было войнаў.* Жылі Іўеў. *У Слуцку стаў спокуй, як вайна кончылася.* Альхоўцы Лях. ▽ *Дай спокуй!* — не назаляй. Малі Астр. *Дайця спокуй!* Вострава Маст.; *парайн.* польск. *spokój* 'тж'.

СПО́ЛКА, СПУ́ЛКА *ж.* Суполка. ◇ *Сполку ўзяць* — пасябраваць. *Сполку ўзялі з ім.* Новікі Гродз. *На спулку* — сумесна. *Капалі студню на спулку.* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *spółka* 'тж'.

СПО́ЛОХ *м.* Спалох. *Перапужалася, со сполоху трасецъ.* Альхоўцы Лях.

СПО́ЛЬНО *прысл.* Супольна. Масілавічы Сл.

СПО́МНІЦЬ *зак.* Успомніць. *Пачакайця, як усё спомню, і вам скажу.* Кіралі Шчуч.

СПОМОГА́НЕ *н. абрад.* Падарунак маладым перад выездам у царкву. *На спомагане сто злоты кінула.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *wspomożenie* 'тж'.

СПОМО́ГТІ *зак.* Дапамагчы. *Думаеш, што вуон тэбэ сп{можэ?* Курашэва Чыж.

СПОМСЦЬ *ж.* Помста. *Спомсць мець. Німа на мяне жаднай спомсці.* Быстрыца Астр.

СПОМЭНУ́ТІ *зак.* Тое ж, што і с п о́ м н і ц ь. *Ніхто його нэ спомэнэ.* Курашэва Чыж.

СПО́НКА *ж.* Запанка. *Спонка мушчынам укладаецца ў рукава, у абшэўкі.* Альхоўцы Лях.

СПО́ННІ *гл.* СПО́ДНІ

СПОР I *м.* 1. Тое ж, што і с п а р н я́ 1. *Спор — хлеп, які закапвалі ў землю, калі канчалі жніво.* Быстрыца Астр. 2. Тое ж, што і с п а р а́. ▽ *Спор табе! — як хлеп месіш.* Крупіца Мін. *Спор табе ў дзешку!* Мачаск Бярэз. *«Спор табе ў дзяжу!» — гаварылі так, калі заходзілі ў хату, а ў гэты час гаспадыня мясіла хлеп.* Рудня Астравітая Чэрв. *«Спор табе ў дзяжу! Спор вам на хлеб!» — прыгаварулоць, каб не мінаўся хлеб.* Азяраны Раг.

СПОР II *м.* Тое ж, што і с п а р ы н я́ I. Тухавічы Лях. *У жыці бывая спору многа.* Альхоўцы Лях.

СПО́РА *прысл.* Шмат. *Спора часу прайшло. У нас спора прымакоў было.* Паляцкішкі Воран. *Спора ўжо прайшло лет.* Гемзы Шальч.

СПО́РАЦЬ *гл.* СПО́РЫЦЬ I

СПО́РНА *прысл.* 1. Шчодра. *Спорна налівая, спорны літр.* Рыбчына Віл. 2. Больш, чым трэба. *Спорна плугамі браў і пагараў на зрэхі.* Гемзы Шальч. 3. Хутка і паспяхова. *Спорна рабіць работу.* Мішневічы Шум.

СПО'РНІК I *м.* Тое ж, што і с п а р ы н я́ I. *Спорнік у жытнім коласе, абіралі на лякарства.* Пацаўшчына Дзятл.

СПО'РНІК II *м. міф.* Дамавік. *Спорнік ... трэба умець з ім жыць. Спорнік будзя несці яму і грошы.* Бакшты Іўеў.

СПОРНІЧА'НКА *ж.* Спрытная ў рабоце жанчына. *Жывая спорнічанка, усё ў яе ў руках гарыць.* Валеўка Навагр.

СПО'РНЫ *прым.* 1. Эканомны. *Тоўстая сала спорная.* Мярэцкія Глыб. *Тоўстая сала спорная, хлеп чарствы спорны.* Едлавічы Брасл. *Як груба сала, то спорна, а як ценка, то не натта спорна.* Жылі Іўеў. *Спорнае сала, надоўга хопіць.* Беразіно Докш. *Спорное сала.* Ухвала Круп. *Сала спорно, таўстое.* Мачаск Бярэз. *Тоўстае сала спорнае.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Спорная сланіна, бо грубая.* Гемзы Шальч. *Спорная мука — сухая, сыпіш ні шмат.* Гальшаны Ашм. *Куплены хлеб спорны.* Ахрэмаўцы Брасл. *Як напячэш, бывала, хлеба, ён як учэрствяя, то какі спорны!* Кіралі Шчуч. *Мушчына спарыш у шапку ўклеіць і ходзіць — шчасце нашоў, будзе спорны хлеб.* Відаўцішкі Вільн. 2. Шчодры. *Тут спорны літар.* Мярэцкія Глыб. *Спорны літр, спорны фунт. Я купіла ў яго бульбу — пуды спорныя.* Рыбчына Віл. *Спорна вага, адважыў пара фунтаў боляй.* Жылі Іўеў. *Спорны хунт.* Беразіно Докш. *Спорны кілаграм.* Пасека Ст.-Дар. 3. З коптурам. *Спорны кошык прынёс грыбоў.* Груздава Паст. 4. Часты (пра дождж). *Спорны такі дошч, так шуміць.* Альхоўка Навагр. *Спорны дошч — ціхі, дробны, густы.* Альба Нясв. 5. Працаёмкі. *Спорная работа: робіш, робіш — і ўсе на месце.* Мсцібава Ваўк.

СПО'РЦІЦЬ *зак.* Сапсаваць. *Я глаза спорціла ў Рыгі.* Пасіене Лудз.; *парайн.* руск. *испортить* 'тж'.

СПО'РЫЦЦА *незак.* Спрачацца. *Ты ня спорся, Ігнась! Валяліся дубы, а зямля зарывала.* Рыбчына Віл.

СПО'РЫЦЬ I, СПО'РАЦЬ *незак.* 1. Тое ж, што і с п о́ р ы ц ц а. *Яны спорылі.* Груздава Паст. *Напрасна будзіш мне спорыць.* Ністанішкі Смарг. *Бацько спорыць, пры ком жыць.* Альхоўцы Лях. 2. Ісці ў заклад. *Давай спорацьо.* Валынцы В.-Дзв.; *парайн.* руск. *спорить* 'тж'.

СПО'РЫЦЬ II *гл.* СПАРЫ'ЦЬ

СПОТ *гл.* СПОД

СПО'ТКІ *гл.* СПО'ДКІ

СПОТНЕ'ТІ *зак.* Тое ж, што і с п а ц е́ ц ь 1. Азарычы Пін.

СПОТРЭ'БІТІ *зак.* Зрасходаваць. *Кравчыха всю матэрыю спотрэбіла, шчэ і нэ хватіло.* Курашэва Чыж.

СПО'ХНУЦЬ *зак.* Успухнуць. *Нага спохнець з вечара.* Магуны Паст. *Спохла костачка.* Малі Астр.

СПО'ШКА *гл.* СПО'ЖКА

СПО'ШКА ЗЕ'ЛЬНАЯ *гл.* СПО'ЖКА ЗЕ'ЛЬНАЯ

СПРАВА'ДЗІЦЬ *зак.* Пахаваць. *Як справадзім мярца, гаворым: «Каму цяпер вочарацьо?»* Кіралі Шчуч.

СПРА'ВДІТІ *зак.* Праверыць. *Учытель справдів, чы всіе учэнніки мают одробляны лекціі.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *sprawdzać* 'тж'.

СПРАВЕДЛІ'ВЫ *гл.* СПРАВЯДЛІ'ВЫ

СПРА'ВІЦЦА *зак.* 1. Управіцца. *Спраўлюся, тады будзім сідзець.* Лісна В.-Дзв. 2. Выправіцца. *Справіўся чалавек і ня п'ець* [гарэлкі]. Рагулішкі Даўг.; *параўн.* руск. *исправиться* 'выправіцца'.

СПРА'ВІЦЬ, СПРА'ВІТІ *зак.* 1. Наладзіць. *Часы не так б'юць, майстра прыдзіць і справіць.* Малькуны Ігн. *Нада справіць — дрэнна зроблена.* Мыто Лід. 2. Набыць. *Нада справіць новая пальто.* Ёдлавічы Брасл. *Я справіла ўсё: купіла на сукенку, на касцюм.* Кіралі Шчуч. *Справіў касцюм.* Быстрыца Астр., Жылі Іўеў. *Адно плацце справіла.* Пасіене Лудз. *Пасцель, выправу — справілі ёй усё.* Рудня Астравітая Чэрв. *На зіму нового кожуха собіе справів, справляе собіе всё новэ.* Курашэва Чыж. 3. Справіць. *Свадзьбу справіў, яна ўцяжку хадзіла.* Валынцы В.-Дзв. *Справіў вясельня.* Быстрыца Астр. *Справіў васэля.* Жылі Іўеў. *Справіў госці, бяседу, суседаў сазваў. Справілі жалобны абет.* Рудня Астравітая Чэрв. *Ігнат своюой дочці вэсіеле справів.* Курашэва Чыж. 4. Выканаць. *Пасу гэтых цялёнкаў, спраўлю ўсё дома і іду.* Вялікае Сяло В.-Дзв. *Сваё справіць нада і яму атробіць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. 5. Узняць (крык). *Справіў крык.* Быстрыца Астр., Жылі Іўеў. *Дзе ёсць іхнія малыя, яны* [кнігаўкі] *гатовы ў голаву даўбануць, а крык справяць—кажны бароніць з іх.* Замошша Брасл.

СПРА'ВНО *прысл.* Добра. *Куонь справно ходіт в плузі. Хлопэць справно пішэ.* Курашэва Чыж.

СПРА'ВНЫ *гл.* СПРА'ЎНЫ

СПРАВУ'НОК *м.* Пакупка. *Пэрэд вэсіелём поіехалі до міеста по справункі.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *sprawunek* ,тж'.

СПРА'ВЭДНЫ ГРЫБ *м. бат.* Баравік. *Справэдные грыбы, набраў справэдных грыбоў.* Смаляніца Пруж.

СПРАВЯДЛІ'ВА, СПРАВЯДЛІ'ВЕ *прысл.* 1. Справядліва. *Зрабіў, сказаў правядна, справядліва.* Рудня Астравітая Чэрв. *Ён не глядзіць, каб справядліве зрабіць, а дурна робіць.* Ёдупка Шальч. 2. у знач. *пабоч.* Сапраўды. *Справядліва, гэто было.* Дэгшні Шальч.

СПРАВЯДЛІВО'СЦЬ *ж.* Справядлівасць. *Як па справядлівосці, то іх трэба знясці.* Паляцкішкі Воран.

СПРАВЯДЛІ'ВЫ, СПРАВЕДЛІ'ВЫ *прым.* 1. Справядлівы. *Там круцялі, абманшчыкі, ніводнага не було, кап справядлівы быў.* Парэчча Гродз. *Яны справядлівыя.* Ракаўскія Швянч. *Ён ес чалавек справедлівы.* Баброўнікі Гарад. ∇ *Смерць справядлівая — усіх кладзе ў пясок.* Руднікі Шальч. 2. Правільны. *Гэтыя прымавіскі справядлівыя.* Малі Астр.

3. Непадробны. *Усё ш куплёно справядліво?* Альхоўцы Лях.

СПРАГА′ *ж.* 1. Праход у агароджы. *Залажы спраґу!* Паляцкішкі Воран. 2. Жэрдка, якой закрываюць праход у агароджы. *Конь паламаў спраґу.* Паляцкішкі Воран.; *парайн.* літ. *spragà* 'адтуліна, шчыліна'.

СПРАГА′ЦЬ *незак.* Запрагаць у адну вупраж. *Нада спрагаць коні ўместа такой патпругай.* Кіралі Шчуч.

СПРАГЦІ′СЯ *зак. перан. экспр.* Сустрэцца. *Яна з ім як спраглася, цэлую ноч хадзіла.* Саланое Віл.

СПРАГЧЫ′ I, СПРАХЧЫ′ *зак.* Надзець адно на адно (пра адзенне). *Спрахчы трэба кажух з балахонам.* Кіралі Шчуч.

СПРАГЧЫ′ II, СПРАХЧЫ′ *зак.* Спражыць. *Трэба спрахчы бобу.* Рыбчына Віл.

СПРАДА′ЦЬ *зак.* Прадаць. *Спрадалі карову.* Кемялішкі, Малі Астр. *Усё спрадала.* Крэва Смарг. *Спрадалі ўсё.* Граўжышкі Ашм., Валеўка Навагр. *Паследнё спрадаў.* Пасека Ст.-Дар. *Спрадалі каня. Мы мусілі ўсё спрадаць, усю гаспадарку.* Кудзялянцы Шальч.; *парайн.* польск. *sprzedać* 'тж'.

СПРАДВЕ′КУ, СПРАДВЯКО′Ў *прысл.* З даўніх часоў. *Спрадвеку вядзецца так.* Мярэцкія Глыб. *У нашага дзеда спрадвеку былі пшчолы.* Вузла Мядз. *Спрадвеку сажалка называюць.* Солы Смарг. *«Калі тоя было?» — «Спрадвеку, здайна». Гэта было спрадвякоў.* Рыбчына Віл. *Спрадвеку ідзець разгавор. Спрадвеку еслі якая істота пушчана, яе нельзя ўністажаць.* Малькуны Ігн. *Спрадвеку завецца Дарэво.* Дарава Лях.

СПРАДЗІВЕ′ННЕ *н.* Тое ж, што і с п а д з і в е́ н е. ◇ *На спрадзівенне* — на дзіва. *Такая крушня на полі, проста на спрадзівенне.* Пацаўшчына Дзятл.

СПРА′ЖАНЫ *дзеепрым.* Спрадзены. *Ніты з лёну спражаны.* Салады Лудз.

СПРА′ЖКА, СПРА′ШКА *ж.* Спражка. *Спрашка.* Мярэцкія Глыб. *Спрашка ў дзягі пабліскавала бляшаная і медная.* Ёдлавічы Брасл.

СПРА′ЖЫЦЬ, СПРЫ′ЖЫЦЬ *зак.* 1. Тое ж, што і с п р а г ч ы́ II. *Спражыць гарох, боп можна.* Мярэцкія Глыб., Саланое Віл. *Спражыў гарох, будзем есці.* Беразіно Докш. *Спрашця вы гарошку!* Вузла Мядз. *Спражылі сямёня і ціскалі алей.* Канюкай Вільн. *Спрыжаць ячменю і ўсыплюць у сок — і квасне.* Кіралі Шчуч. *Спражыш у печэ.* Ялова Пруж. 2. *перан.* Знясіліць. *За месяц спражыла хлопчыка* [хвароба]. Дэгшні Шальч.

СПРАКАНА′ЦЬ *зак.* Перакаланацца. *Так ужэ гэта я спраканала, што смерць будзя.* Старыя Трокі Трак.

СПРАКВАЛА′ *прысл.* Павольна. *Ты ўжо ладнага выжнула* [зжала], *а я спраквала, не стараюся.* Азяраны Раг.

СПРАКВЯКО'У *прысл.* Тое ж, што і с п р а д в е к у. *Спраквякоў так звалі.* Азяраны Раг.

СПРАКЛІ'ВІЦЬ *зак.* Угнявіць. *Я цібе спраклівіў?* Рудня Астравітая Чэрв.

СПРА'КУ-ВЕ'КУ, СПРЭ'КУ-ВЕ'КУ, СПРЭ'ТКУ-ВЕ'КУ *прысл.* Тое ж, што і с п р а д в е к у. *Спраку-веку такая завядзёнка ў нас.* Лапічы Асіп. *Спраку-веку ў яе кашаль.* Вецярэвічы Пух. *Спрэку-веку так рабілі нашы бацькі і дзеды.* Мсцібава Ваўк. *Спрэку-веку называюць крохвы.* Рудня Астравітая Чэрв. *Спрэтку-веку было так.* Ісерна Слуц.

СПРАКУ'ДЗІЦЦА *зак.* 1. Абрыдзець. *Ён ужо мне спракудзіўся.* Рыбчына Віл. *Ты мне спракудзіўся.* Жылі Іўеў. *Спракудзіўся ён.* Дакудава Лід. *Спракудзіўся ты ўжо мне.* Альхоўка Навагр. *Хто спракудзіцца яму, ён выкіня з саўхоза.* Вецярэвічы Пух. *Ён мне ўжо спракудзіўся: прышоў пазычаць, і за месяц не адась.* Гемзы Шальч. 2. Сапсавацца. *Быў добры чалавек, ды нешта спракудзіўся.* Жылі Іўеў.

СПРАКУ'ДЗІЦЬ *зак.* Тое ж, што і с п р а к у́ д з і ц ц а 1. *Як ён мне спракудзіў!* Мярэцкія Глыб. *Спракудзіць — гэта збрыднуць адзін аднаму.* Жодзішкі Смарг. *Да чаго ш спракудзіў ён мне!* Стральцы Гродз. *Спракудзіў ён.* Асавец Віл. *Спракудзіў ты мне, надаядлівы такі!* Калясное Міхал. *Спракуджу ім.* Груздава Паст. *Яму яна спракудзіць.* Пераброддзе Міёр.

СПРАСІ'ЦЬ *зак.* Спытаць. *Я ў бабаў спрашу.* Жылі Іўеў.; параўн. руск. *спросить* 'тж'.

СПРАСО'НКІ *прысл.* Спрасонку. *Спрасонкі крычаў.* Замошша Брасл.

СПРА'СЦІ, СПРА'СТІ *зак.* Папрасці. *Упярот ніткі спрадзём.* Солы Смарг. *Спрала всей лён, шчэ кроху колупніны нэ спрадяной осталосе.* Курашэва Чыж.

СПРАТ *м.* 1. Кладоўка. *Малако ў спрат выносім.* Груздава Паст. *Спрат — у мяне гэта каморка, там усё, самы прыпрат.* Альхоўка Навагр. *У яе спрат е, дзе паставіць і палажыць — камора.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Сховішча. *Кап спрат дзе быў?* Жыдзевічы Іўеў. *На кудзелю спрат е: Трэба добры спрат.* Альхоўцы Лях.

СПРА'ТАНЫ *дзеепрым.* Прыбраны. *Малако ні спратано.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* руск. *спрятанный* 'тж'.

СПРА'ТАЦЬ *зак.* 1. Пачысціць. *Ён гэты масток* [насціл у хляве] *спратая — і суха.* Граўжышкі Ашм. *Трэба спратаць са стала.* Дакудава Лід. *Спратайця ў хаці — чалавек будзя начаваць.* Кудзялянцы Шальч. *Трэба стала спратаць.* Дарава Лях. 2. Скласці. *Нада дрова спратаць, раскіданыя.* Малахоўцы Бар. 3. Прыбраць. *Трэбо гэтого хлопца спратаць.* Альхоўцы Лях. *Мы яго* [дзіця] *спратаям.* Кудзялянцы Шальч. 4. За-

губіць. *Спратаць карову так можна.* Валынцы В.-Дзв. *Яна спратала дзіця — выклікала роды.* Лоск Валож.

СПРА'ТВАЦЬ *незак.* Прыводзіць у парадак, прыбіраць. *Валя спратвай усё гэто, вазьмі спрач у хаце!* Альхоўцы Лях.

СПРАТО'РАЦЬ *зак. экспр.* Разбіць. *Спраторыла талерачку.* Граўжышкі Ашм.

СПРА'ЎДЖУВАЦЬ *незак.* Здзяйсняцца. *Сны моцна спраўджуваюць.* Лайпушкі Ігн.

СПРА'ЎДЗІЦЦА *зак.* Здзяйсніцца. *Што тата гаварыў, усё спраўдзіцца.* Крэва Смарг. *Спраўдзіўся сон.* Альхоўцы Лях.; *параўн.* польск. *sprawdzić się* 'тж'.

СПРА'ЎДЗІЦЬ *зак.* Тое ж. што і с п р а́ ў д з і ц ц а. *Мо спраўдзяць яны?* Магуны Паст. *Варажба спраўдзіла.* Салаunion Віл.

СПРА'ЎКА *ж.* Спраўка. *Нада было спраўку выбраць у канторы.* Малі Астр. *Яму сказалі: «Мы не выдаем справак».* Старое Сяло Зэльв.; *параўн.* руск. *справка* 'тж'.

СПРАЎЛЯ'ЦЦА *незак.* 1. Паспяваць. *Шашок курэй палушчыў — толькі спраўлялася скупці.* Малі Астр. 2. Упраўляцца. *Спраўляцца трэба ісці на палудзянь.* Навасёлкі Лід.

СПРАЎЛЯ'ЦЬ *незак.* 1. Рамантаваць. *Свае спраўлялі дарогі.* Ракаўскія Швянч. 2. Набываць. *Новая пальто будзім спраўляць.* Ёдлавічы Брасл. 3. Адзначаць, спраўляць. *А яны што, ня будуць спраўляць празнік вясны?* Чапаеўскі В.-Дзв. *Вяселля спраўлялі.* Груздава Паст. *Уходзіны спраўлялі, многа было: і сваяке, і другія людзі.* Збляны Лід. *Васэля спраўляюць.* Індра Красл. 4. Выконваць. *Нада сці* [ісці] *спраўляць работу.* Валынцы В.-Дзв. 5. Лячыць жывёлу пры дапамозе наколвання скуры. *Аб'есца карова, і яе трэбо спраўляць альбо ў воду ўвясці паставіць.* Баброўнікі Гарад. *Тэпэр ужэ коруов нэ спраўляют.* Курашэва Чыж.

СПРА'ЎНЕНЬКІ *прым. памянш.* Здаровенькі, сыценькі. *Такі спраўненькі зробіўся!* Багушэвічы Бярэз.

СПРА'ЎНЫ, СПРА'ВНЫ *прым.* 1. Несапсаваны. *Еслі спраўная арфа, можна многа зрабіць.* Сасноўка Смарг. 2. Дагледжаны. *Конік які спраўны!* Навадворцы Васільк. 3. Заможны. *Богушыка — людзіна спраўная.* Магуны Паст. 4. *перан.* Востры. *У яе спраўны язычок: яна ўгаворыцца — і выгаварыцца.* Малі Астр. 5. Шыкоўны. *Яна акуратно адзета так ходзіць, такая спраўная.* Солы Смарг. 6. Здатны. *Бяры такую бабу, каб была спраўна.* Валеўка Навагр. *Рыгорава жуонка справна.* Курашэва Чыж.

СПРАХТЫКАВА'ЦЦА *зак.* Напрактыкавацца. *Я спрахтыкавоўся — знаў напраўленіе звяроў.* Цяпінцы Віл.

СПРАХЧЫ' *гл.* СПРАГЧЫ' I, II

СПРАЦАВА'НЫ, СПРАЦЁВА'НЫ *прым.* Зморany, знясілены. *Ён ляжыць спрацаваны, многа пераэкыў.* Кураполле

Паст. *Куонь стары, спрацёваны, трэбо его продаті.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *spracowany* ’тж’.

СПРАЦАВА’ЦЦА *зак.* Напрацавацца. *Я спрацавалася, мае рукі і ногі баляць, не могу рабіць.* Каменка Шальч.; *парайн.* польск. *spracować się* ’тж’.

СПРАЦІ’ВЕЦЬ, СПРОТІ’ВІТІ *зак.* Апрацівець. *Надаела і спрацівела тут мне ўсё.* Парэчча Гродз. *Такое едло мэнэ спротівіло.* Курашэва Чыж.

СПРА’ЧАВАЦЬ *незак.* Звязваць. *Спрачуім два ганкі ўместа.* Рыбчына Віл.

СПРА’ШВАЦЬ, СПРА’ШЫВАЦЬ *незак.* 1. Пытаць. *Спрашвае катахізмы.* Месянцы Брасл. *Спрашуе, можа, яна не мае чаго?* Старыя Смільгіні Воран. *Мала спрашуя настаўнік.* Паляцкішкі Воран. 2. Прасіць дазволу. *Спрашуя ў мяне сагласія.* Малі Астр. *Нікаго спрашываць не буду.* Гемзы Шальч.; *парайн.* руск. *спрашивать* ’тж’.

СПРА’ШКА *гл.* СПРА’ЖКА

СПРОБ *м.* Проба. *Вазьму траву на спроб, пракіпячу і дам папіць.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

СПРО’БАВАЦЬ *незак.* Каштаваць. *Спробаваць трэба, мо зварылася.* Ракаўскія Швянч.; *парайн.* руск. *пробовать* ’тж’.

СПРО’НЖКА, СПРО’НШКА, СПРО’НЧКА *ж.* Тое ж, што і с п р а́ ж к а. *Спроншка.* Быстрыца Астр., Рыбчына Віл., Жодзішкі Смарг., Гайна Лаг., Пухавічы Лях., Нізок Уздз., Рудня Чэрв. *Спроншка ў дзязі жалезненька, блешаненька.* Кіралі Шчуч. *Спроншка да дзягі, дзягай падперазацца.* Старыя Смільгіні Воран. *У дзяге спроншка жалезна.* Галубы Маст. *Дзяга зашпільвалася на спроншку.* Дакудава Лід. *Спроншка ў дзяшцы.* Ракаўскія Швянч. *Дзяшкі скураныя, спроншкі на іх былі.* Старыя Трокі Трак. *Спрончка.* Навасёлкі Свісл., Вострава Маст. *Спрончкай біліся; як пападзе, доўга баліць.* Магуны Паст. *Спрончкі — вузенькія, а пражкі — жоўтыя, бальшыя.* Семежава Кап. *Спрончка ў дзяшцы.* Малькуны Ігн.; *парайн.* польск. *sprzączka* ’тж’.

СПРОТІ’ВІТІ *гл.* СПРАЦІ’ВЕЦЬ

СПРОТІВЛЯ’ТІСЕ *незак.* Супраціўляцца. *Я казав, коб разом іехаті, але вуон спротівляецца.* Курашэва Чыж.

СПРУ’ДЗІЦЦА *зак.* Напружыцца. *Адной рукой спрудзіўся ды скінуў яе.* Збляны Лід.

СПРУЖКІ’, СПРУШКІ’ *прым.* Пруткі. *Спрушкі пруток, ня гнецца.* Мярэцкія Глыб.

СПРУЖЫНАВА’ЦЬ *незак.* Культываваць. *Пад картошку, дзе трэба, дзе цвёрда, спружынуюць — жалезнымі лапамі дзярэцца поле.* Галубы Маст. *Ежэлі барануецца поле для таго, коб бульбу садзіць, сперва осенню пудкідают, на весну спружынуют і барануют, пашут і бульбу кідают.* Лука Нараўк.

СПРУНЖЫ'НА *ж.* Спружына. *Ёсць руж'ё на спрунжыне.* Збляны Лід.; *парайн.* польск. *sprężyna* 'тж'.

СПРУНЖЫНО'ЎКА, СПРУНЖЫНЫ'ВКА *ж.* Культыватар. *Спрунжыноўкі есць пяцёрка і дзевятка.* Петкуны Брасл. *Спрунжынывкыю тое полэ подрапачовалы.* Сіманавічы Драг.

СПРЫ'ЖЫЦЦА *зак.* Падсохнуць, падрумяніцца. *Сыр спрыжыцца ў печы.* Кіралі Шчуч.

СПРЫ'ЖЫЦЬ *гл.* СПРА'ЖЫЦЬ

СПРЫК *м.*, СПРЫ'КІ *мн.* Капыл (у санях). Чычалі Швянч.

СПРЫ'НДЗІЦЦА *зак. экспр.* Памерці. *Як хто павесіцца, то мы кажам спрындзіўся.* Парэчча Гродз.; *парайн.* літ. *pasispręsti* 'распірацца, расцягвацца'.

СПРЫРО'ДНЫ *прым.* Прыродны. *Сажалка іскуствяна выкапана; а спрыродная канава — другоя.* Нізок Уздз.

СПРЫТ *м.* Спрытнасць. *Я спрытам натта брала.* Солы Смарг. *Спрыт мае, што трэба.* Пацаўшчына Дзятл. *Я не маю спрыту.* Парэчча Гродз. *Стары не мая спрыту.* Новікі Гродз.

СПРЫ'ТНА, СПРЫ'ТНЕ *прысл.* 1. Лоўка, умела. *Робіць спрытна.* Рыбчына Віл. 2. Пільна. *Спрытна сядзела курыца на яйках.* Саланое Віл. 3. Зладжана, добра. *О як спрытне дзяўчаты пяюць!* Дварчаны Паст. *Удалы чалавек на работу, у яго спрытна выходзіць.* Малькуны Ігн.

СПРЫТНЕ'Й *прысл.* Ямчэй. *Усё ж ей спрытней іці на сваіх нагах.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

СПРЫ'ТНЫ *прым.* 1. *Лоўкі.* Рыбчына Віл. *Спрытная была маладая.* Гальшаны Ашм. *Спрытны чалавек.* Бенякoні Воран. *Невялічкі такі, спрытны чалавек.* Дарава Лях. 2. Тое ж, што і с п р а́ ў н ы 6. *Такая асадна, поўна, спрытна жанчына.* Валеўка Навагр. *Байструкі — дзеці спрытныя.* Руднікі Шальч. 3. Рухавы. *Цёлачкі болій спрытныя бывают.* Рагулішкі Даўг. 4. Спорны (пра дождж). *Спрытны дождж ідзець.* Беразіно Докш. 5. Адхоністы. *Спрытны бераг.* Рыбчына Віл.; *парайн.* польск. *sprytny* 'лоўкі, умелы'.

СПРЫ'ХА *ж.* 1. Тое ж, што і с п і ц а 1. *Спрыхі ў колах.* Бенякoні Воран. *Звінякі былі на дзве спрыхі, на тры спрыхі.* Грыкені Вільн. *У коле спрыхі, вось, пяста, абод.* Судэрва Вільн. *Спрыхі ў коле воза.* Руднікі Шальч. 2. Пруток для вязання. *Таўстыя спрыхі, дрэнна рабіць камізэльку.* Ністанішкі Смарг. *Спрыхі—вязаць платок, швэдар.* Вялікія Баяры Шчуч.; *парайн.* польск. *szprycha* 'спіца'.

СПРЫ'ЦІЦЦА *зак. груб.* Памерці. *Я табе дам, то ты спрыцісся!* Мсцібава Ваўк.

СПРЭГА'ТІСЕ *незак. перан.* Аб'ядноўвацца для сумеснай работы. *Лоні мы спрэгалісе с Павлом, а сеголіта — с Карпом.* Курашэва Чыж.

СПРЭ'ЖАНЫ *дзеепрым.* 1. Спрэжаны. ◇ *Як спрэжаны—*

не разлучны. *Яны ходзюць, як спрэжаны.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ходят с собою, як спрэжаны.* Курашэва Чыж. 2. Надзеты разам. *Кажух спрэжаны з балахонам, паеду на начлех.* Кіралі Шчуч.

СПРЭ'ЖКА, СПРЭ'ШКА *ж.* Напарнік. *Сёголіта нэ могу найті спрэшкі.* Курашэва Чыж.

СПРЭ'КУ-ВЕ'КУ *гл.* СПРА'КУ-ВЕ'КУ

СПРЭС *прысл.* Скрозь. *Чорная спрэс карова, Цыганкай называюць.* Валеўка Навагр. *Крывыя лыткі спрэс.* Бакшты Іўеў. *Спрэс жоўты кот.* Вецярэвічы Пух.

СПРЭ'ТКУ-ВЕ'КУ *гл.* СПРА'КУ-ВЕ'КУ

СПРЭЦЬ *зак.* 1. *экспр.* Спацець. *Я спрэла, як сена грабіла.* Ёдлавічы Брасл. 2. Сапрэць. *Сена спрэла ў стозе, макраватая была.* Ёдлавічы Брасл.

СПРЭ'ЧНЫ *прым.* Сварлівы. *Такі спрэчны, будзя спрачацца, яго дзесяць чалавек не пераспораць.* Гемзы Шальч.

СПРЭ'ШКА *гл.* СПРЭ'ЖКА

СПСАВА'ЦЬ *зак.* Сапсаваць. *Глядзі, спсуеш!* Солы Смарг.

СПУГА'ЦЦА *зак.* Спалохацца. *Аж спугаіcся, як задубіць* [закрычыць] *дзяргач.* Месянцы Брасл.; *параўн.* руск. *испугаться* 'тж'.

СПУ'ДЗІЦЦА *зак.* Тое ж, што і с п у г á ц ц а. *То спудзіцца конь, то воўк пераляціць.* Крэва Смарг. *Спудзіўса конь, панёс.* Пасека Ст.-Дар. *Я спудзілася ды направілась к Вольцы.* Вецярэвічы Пух.

СПУЖА'ННЯ, СПУЖА'НЯ *н.* Спалох. *Са спужання падачка яе кідаіць.* Магуны Паст. *Ат спужання канвульсія была—ды памёр.* Рудня Астравітая Чэрв. *Ат спужаня калдун* [каўтун] *стаў.* Лайпушкі Ігн.

СПУЖА'НЫ *дзеепрым.* Перапалоханы. *Спужаны рабёнак, захварэў ад упуду.* Мярэцкія Глыб. *Ён спужаны.* Завельцы Астр.

СПУЖА'ЦЦА *зак.* Тое ж, што і с п у г á ц ц а. *Спужалася яна і памёрла.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *С упуду я хварэла, спужалася.* Пярэкі В.-Дзв. *Дзяцёнак спужаўся, нада палячыць ат пуду.* Ёдлавічы Брасл. *Вот спужаўся, аш валасы дубам сталі!* Малі Астр. *Уночы ішлі, спужалася.* Кемялішкі Астр. *Як сабакі спужаесся — то нічога, сабака выбрашыць, а чалавека як спужаесся — урэдна.* Курополле Паст. *Пашоў па лён і спужаўся, і зазлаваўся.* Саланое Віл. *Спужоўся ён.* Латыгаль Віл. *Я спужаўся.* Малькуны Ігн.

СПУЖА'ЦЬ *зак.* Спалохаць. *Спужала мяне кошка, скочыла на грудзі, як я спала.* Завельцы Астр. *Сабака спужоў.* Слабада Мін.

СПУЗНІ'ТІСЕ *зак.* Спазніцца. *Лепі раніей зайті, як спузнітісе.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *spóźnić się* 'тж'.

СПУ'ЛКА *гл.* СПО'ЛКА

СПУ′ЛЬНА *прысл.* Сумесна. *Усе спульна робяць.* Граўжышкі Ашм. *Актар сенакосу на корм далі спульна.* Паляцкішкі Воран. *Яны рабілі спульна і елі спульна.* Вялікія Баяры Шчуч. *Спульна пчол трымаюць.* Пацаўшчына Дзятл. *Спульна пашлі касіць. Гной вазілі спульна.* Гемзы Шальч.; *параўн.* польск. *wspólnie* 'тж'.

СПУ′ЛЬНЫ, СПЫ′ЛНЫЙ *прым.* Сумесны. *Хата была спульная.* Гальшаны Ашм. *Каток у нас спульны с сынам.* Дзераўное Стаўб. *Гэта іх спульна студня.* Альхоўка Навагр. *Спульную вячэру варыць.* Жодзішкі Смарг. *Спульныя пчолы: ці я, ці сусет глядзіць.* Быстрыца Астр. *Спульных пчол не трымалі, кожны сам свае меў.* Галубы Маст. *Калісьці за прадзядам боты былі спульныя, на цэлу вёску боты адны: у сваты едзя, то боты прыходзіць пажычая.* Жылі Іўеў. *У нас, бувала, усе спульнае.* Парэчча Гродз. *Гэто в нас с сусідом спыльный колодяз.* Сіманавічы Драг.; *параўн.* польск. *wspólny* 'тж'.

СПУ′ЛЬХНІТІ *зак.* Узрыхліць. *Пэрэд сіеянём трэба пружынуовкою зэмлю спульхніті.* Курашэва Чыж.

СПУО′Д *гл.* СПОД

СПУО′ДНІ *гл.* СПО′ДНІ

СПУСК *м. цясл.* Фуганак. *Спуск, ім еслі струганёш — гладка.* Месянцы Брасл. *Спуск вялікі, спуск і фуганак—адно і тоя ш.* Магуны Паст. *Спуск такі длугі.* Завельцы Астр. *Спуск — дліны·гэбаль. Нада канты дошчак каршубялям пачасаць, дзе далінка — спускам соўгаеш.* Гемзы Шальч.

СПУСКА′ЦЬ *незак.* 1. Зліваць. *Будзім спускаць малако* [з банкі], *ужо адстоілася.* Ністанішкі Смарг. *У цэбар лух спускалі.* Рыбчына Віл. *Прокопаю ровчяка, спускатыму воду с картоплюв.* Сіманавічы Драг. 2. Выпускаць кроў. *Спускав кров з свынкы заколяныі.* Сіманавічы Драг. 3. Падсочваць. *Спускаць сок бярозавы, кляновы.* Малахоўцы Бар. 4. Апускаць у вадкасць. *Баба спуская клёцкі.* Паляцкішкі Воран. 5. Віць (вяроўкі). *Мой тата праў на верайке пакуля, потым снуе ў шэсць столак, потым спускае ў адну вяройку.* Кіралі Шчуч. *Спускалі вяроўкі і мяхе ткалі. С канапель спускалі вяроўкі.* Міратычы Карэл. *Нада спускаць вяроўкі ў кожным кручку.* Дзяніскавічы Ганц. *Кажуць, ідзём спусцім вяроўку.* Тухавічы Лях. *На кручок накруцяць, а тады спускаюць столку такую.* Гайна Лаг. *Спускаюць верайкі.* Семежава Кап. 6. Размотваць. *З навая ніткі спускалі.* Старыя Трокі Трак. 7. Ачышчаць ад саломы і каласоў. *Абмалочанае жыта мятлой спускаюць.* Мярэцкія Глыб. 8. Ссякаць. *Едуць у лес і спускаюць ёлку.* Ракаўскія Швянч. 9. Мяняць. *Конь зубы спуская.* Вялікія Баяры Шчуч., Пацаўшчына Дзятл., Номікі Бабіц. *Конь зубы спускае. Ат трох год да шасці год спускае зубы.* Дзяніскавічы Ганц. 10. Вастрыць. *Спускаюць толькі косы.* Магуны Паст. *Вазьмі брусок і спусці касу, бо яна ўжо*

*браць ня хоча, тупая. Спушчу трошкі брытву і падгалюся, бо зарос, як мядзведзь.* Посальч Воран. 11. *цясл.* Габляваць. *Рубанак, спуст спуская.* Малахоўцы Бар. *Рубанкам спускаюць дошку, кап была раўней.* Збляны Лід. *Дэ спуст, спускатыму гэту дошку.* Сіманавічы Драг. 12. Адтэрміноўваць. *Маладзік настае, спускаюць два-тры дні і сеюць.* Рыбчына Віл. ◇ *Ні спускаць з вока* — уважліва сачыць за кім-н. *З вока ні спускай!* Старыя Смільгіні Воран.

СПУ'СКІ толькі *мн.* Сходы. *У масту спускі былі.* Ухвала Круп.

СПУ'СКЛІВА *прысл.* Слабка. *Спускліва наматвалі на ўток, круцей — на аснову.* Быстрыца Астр.

СПУ'СКЛІВІСТЫ *прым.* Тое ж, што і с п а́ д з і с т ы 1. *У рэццы спусклівісты берах.* Ністанішкі Смарг.

СПУ'СКЛІ'ВЫ, СПУСКЛІ'ВЫЙ *прым.* Тое ж, што і с п а́ д з і с т ы 1. *Спу́склівы берах і стромы берах.* Вялікія Баяры Шчуч. *Тут бераг спу́склівы, мелка, можна купацца.* Галубы Маст. *Спу́склівая месца. Выбіралі спусклівы берах, там мылі* [бялізну]. Ракаўскія Швянч. *Спусклівый берах, спускацца добра.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

СПУСКЛЯ'СТЫ *прым.* Тое ж, што і с п а́ д з і с т ы 1. *Спусклясты берах.* Мярэцкія Глыб.

СПУСКНАВА'ТЫ *прым.* Пукаты. *Зверху* [сундук] *як спускнаваты, а прамая скрыня — на дабро.* Ракаўскія Швянч.

СПУСТ *м.* Тое ж, што і с п у с к. *Спуст — гэблік з адной ручкай дліннай.* Пацаўшчына Дзятл. *Спуст — велькі гэблік.* Вострава Маст.

СПУ'СЦІСКІ *прым.* Тое ж, што і с п а́ д з і с т ы 1. *Спусціская страха.* Мачаск Бярэз.

СПУ'СЦІСТЫ *прым.* Тое ж, што і с п а́ д з і с т ы 1. *Дзе спусцісты бераг, добра самому ісці і каровы паіць.* Вецярэвічы Пух. *Спусцісты берах.* Рудня Астравітая Чэрв.

СПУСЦІ'ЦЬ *зак.* 1. Зліць. *Верх* [смятанку] *спусціла, астатнёя малако аддала парасятам.* Вялікія Баяры Шчуч. 2. Выпусціць. *Заколяць свіню, разбіраюць яе, кроў спусцілі.* Слабада Мін. 3. Вышчыпнуць пёры для ўцяплення гнязда. *Гусь зробіла кубло і спусціла пер'я.* Малыя Аўцюкі Калінк. 4. Ссячы. *Бярозы на драва спусцілі.* Ахрэмаўцы Брасл. 5. Звіць (вяроўку). *Спусціць у дзве вяроўкі.* Магуны Паст. 6. Прапусціць. *Дзень спушчу — еду.* Граўжышкі Ашм. 7. Скласці. *Закалолі парсюка, сала спусцілі ў два вядры.* Ракаўскія Швянч. 8. Вызваліць ад прывязі. *Учора спусціла, як пабег сабака — і няма.* Пацаўшчына Дзятл. 9. Падвастрыць. *Узяла пазахілівала касу, бруском спусціла потым.* Старыя Трокі Трак. 10. *экспр.* Скінуць. *Ён яго спусціў з трэцяга этажа.* Пераброддзе Міёр. ◇ *Спусціць з воч* — перастаць уважліва сачыць за кім-н. *Чуць з воч спусціў — дык ня ўвідзіш гэтага*

*Сашу*. Груздава Паст. *Спусціць очы* — заснуць. *Толькі спусціў очы — і разбудзілі*. Малі Астр. *Спусціць з гуп* — сказаць. *А некаторы гэта слова з гуп не спусця*. Парэчча Гродз. *Спусціць кроў* — разбіць нос. *Наткнулась носом на голыну да й кров спустыла*. Сіманавічы Драг. *Спусціць нос* — засумаваць. *Старыя нос спусцілі*. Саланое Віл.

СПУСЦЯ′ *прыназ.* з *він*. 1. Праз. *Спусця годы тры яна прышла да маткі і прынясла маці падарак*. Ахрэмаўцы Брасл. 2. Пасля. ∇ *Спусця лета за ягадамі не ідуць* — пра таго, хто позна жэніцца. Ухвала Круп.; *парайн*. руск. *спустя* 'тж'.

СПУ′ТАНЫ *дзеепрым*. Спутаны. *Карова спутана*. Стральцы Гродз. *Куонь хоць спутаны, але зорвавсе з ленцюга і заскакав в жыто*. Курашэва Чыж.

СПУ′ТАЦЬ *зак*. Спутаць. *Карову спутаіш*. Вялікае Сяло В.-Дзв. *Коні спутаюць*. Ахрэмаўцы Брасл. *Спутай карову!* Літва Лях.

СПУ′ТРЫЦЬ *зак. перан. экспр*. Аблаяць. *Спутрыла нас*. Асавец Віл.; *парайн*. літ. *putróti* 'пэцкаць'.

СПУ′ХНУЦЬ, СПУ′ХНУТІ *зак*. Успухнуць. *Рука спухня*. Вялікія Баяры Шчуч. *Спухла рука*. Навасёлкі Свісл. *Спух паляц*. Лоск Валож. *Спухла нага, як бервянё*. Руднікі Шальч. *Спухла цела*. Лука Нараўк. ∇ *Коб ты спух!* Курашэва Чыж.

СПУШЧА′ЦЬ *незак*. 1. Тое ж, што і с п у с к á ц ь 3. *Я сам спушчаў бярозавы сок*. Ахрэмаўцы Брасл. 2. Выціскаць. *Малако спушчалі з калапень і бялілі ім і крупы, і капусту, і буракі*. Саланое Віл. 3. Рабіць луг. *Лух спушчалі з попелу і адзежу мылі*. Вузла Мядз. 4. Тое ж, што і с п у с к á ц ь 9. *Конь зубы спушчае ў тры года, радзімыя выпадаюць*. Парэчча Гродз. 5. Апускаць у глыб чаго-н. *Яму толькі жывёлам капаюць, а нябошчыка ў дол спушчаюць*. Завельцы Астр. 6. Запускаць. *Я ні спушчаю: скінула і памыла*. Дакудава Лід.

СПУ′ШЫЦЬ *зак. безас*. Уздуць. *Чалавек глыкае дульке, як некалі лён часалі, дульке — пыл такі быў; чалавека спушыць, як гару ад дульке*. Пацаўшчына Дзятл.

СПЫВА′ТЭ *гл*. СПЯВА′ЦЬ

СПЫ′ЛІВАЦЬ *незак. с.-г*. Апыляць. *Сат нада чым спылівацъ*. Збляны Лід.

СПЫ′ЛНЫЙ *гл*. СПУ′ЛЬНЫ

СПЫНІ′ТІ *зак*. Спыніць. *Спыніетэ коровы, нэхай в шкоду нэ ідут*. Курашэва Чыж.

СПЫНЯ′ЦЦА *незак*. Спыняцца. *Ідзе машына — стрымліваю, не спыняецца*. Гальшаны Ашм.

СПЫ′ТАВАЦЬ *незак*. Выпрабоўваць. *Лён спытавалі*. Кураполле Паст.; *парайн*. руск. *испытывать* 'тж'.

СПЫ′ТАК *м*., СПЫ′ТКІ *мн*. Тое ж, што і с п р о б. *Спытак бралі, каб апрадзяліць, ці вылежаў лён*. Янова Рас. *Нада ўзяць лён на спыткі*. Кураполле Паст.

СПЫТА′ЦЦА *зак.* Спытаць. *Толькі спытаюся, і назат вярнуся.* Граўжышкі Ашм.

СПЫТА′ЦЬ *зак.* Выпрабаваць. *Нада спытаць лён, ці хваціць яму лежні.* Кураполле Паст.; *параўн.* руск. *испытать* 'тж'.

СПЫ′ТКІ *мн.* Допыт. *Як возьмут на спыткі, то правду скажэш.* Курашэва Чыж.

СПЫТЛЁВА′ТІ *зак.* Спытляваць. *Ужэ пшэніцю спытлёвав, жуонка пірога напэчэ.* Курашэва Чыж.

СПЫ′ХНУЦЬ *зак.* Пусціць. *Нада да пшчол падайсці ціханька, спыхнуць пару клубоў дыму.* Опса Брасл.

СПЭ′ВНІТІ *зак.* Напытаць. *Спэвнів собіе пару поросят, трэбо оно поіехаті і купіті.* Курашэва Чыж.

СПЭНА′ *гл.* СПІ′НА′

СПЭРЭЖЧЫ′ *зак. экспр.* Моцна ўдарыць чым-н. *Як спэрэгу паском, то довго будэш помэтаті.* Курашэва Чыж.

СПЭ′ЎНІЦЦА *зак.* Здзейсніцца. *Слова ні спэўнілася.* Жодзішкі Смарг.; *параўн.* польск. *spełniać się* 'тж'.

СПЭ′ЦКАНЫ *дзеепрым.* Выпацканы. *У крыві спэцканы.* Лоск Валож.

СПЭ′ЦКАЦЬ *зак. перан.* Няякасна зрабіць. *Ён не зробіць, а спэцкаіць.* Ахрэмаўцы Брасл.

СПЯВА′К, СПІВА′К *м.*, СПЕВАКІ′, СПІВАКІ′ *мн.* 1. Спявак. *Быў спявак, ладне спаваў.* Паляцкішкі Воран. *Спевакі хадзілі, дзяўком спявалі.* Кудзялянцы Шальч. *Співакі на хорах спявалі.* Гемзы Шальч. 2. *перан.* Другі рой пчол. *Рой завём спявак, гэта втары рой спявак.* Быстрыца Астр.

СПЯВА′КА *м.* і *ж.* Тое ж, што і спява́к 1. *Песельнік, спявака ён.* Ністанішкі Смарг. *Добры спявака. Добра спявака.* Альхоўцы Лях.

СПЯВА′ЦЬ, СПІВА′ЦЬ, СПЫВА′ТЭ *незак.* 1. Пець. *Даўней вербу спявалі дзяўкам.* Парэчча Гродз. *У яго харошы голас, добра спявая.* Вялікія Баяры Шчуч. *Песні спяваюць.* Вострава Маст. *Спяваць любіла. Песні спявая па нябошчыку.* Жылі Іўеў. *Старыя спяваяць, бабы паджылыя.* Гемзы Шальч. *Буду спяваць, умею песняў.* Новыя Мацалі Варэн. *Ён на пахаронах спяваў.* Рагулішкі Даўг. *Я колькі спявала.* Барок Стаўб. *Співалі ўсілякія песні.* Гальшаны Ашм. *Тут співалі на васэлі. Песні спявалі вечарам.* Солы Смарг. *Спявайце, брацы, спявайце!* Ахрэмаўцы Брасл. *Пысні спываю.* Дзмітравічы Кам. 2. Абзывацца галасамі (пра птушак). *Пятухі будуць спяваць.* Кемялішкі Астр. *Пятух спявая.* Кіралі Шчуч. *Кураца спявая, яна прачувая сваю бяду.* Вялікія Баяры Шчуч. *Пятух спяваў, пакуль с плата не зваліўся.* Рагулішкі Даўг. *Салавейчык ладна спявая.* Кудзялянцы Шальч. 3. Муркаць. *Кот курну спявае.* Івашкаўцы Смарг. *Котка курну спяваіць.* Быстрыца Астр. 4. Звінець (пра насякомых). *Спявае ў вульве матка.* Мыто Лід.

СПЯКО'ТА *ж.* Гарачыня. *Якая сукенка лёхкая, добра ў спякоту надзець.* Галубы Маст. *Спякота на дварэ, жара.* Вострава Маст. *Спякота такая!* Багушэвічы Бярэз.

СПЯКЦІ', СПЯКЧЫ' *гл.* СПЯЧЫ'

СПЯРВА' *прысл.* Спачатку. *Спярва садзілася і мылася, а тады паралася.* Лоск Валож.

СПЯРША' *прысл.* Тое ж, што і с п я р в а́. *Спярша галавасцік, потым хвосцік адвальваецца.* Пацаўшчына Дзятл. *Наж жа ганялі, брат, па лесе спярша.* Гарэлец Пух.

СПЯРЭ'ДУЛЯ *прысл.* Спераду. *Спярэдуля хата стаяла, гуменца.* Навасёлкі Свісл.

СПЯРЭ'ЖЫЦЬ *зак.* Тое ж, што і с п а л і р ж а в а́ ц ь. *Вышаў на вецяр — і спярэжыла яго.* Ністанішкі Смарг.

СПЯЧА'ТАВАЦЬ *зак.* ◇ *Спячатаваць вочы* — заплюшчыць вочы. *Спячатаваць вочы мярцу трэба.* Кіралі Шчуч.

СПЯ'ЧЫ *прым.* Які спіць. *Я пакінула спячага, можа, устаў ужо.* Ёдупка Шальч.

СПЯЧЫ', СПЯКЧЫ', СПЯКЦІ' *зак.* 1. Спячы. *У блакаду назбірала лібяды, усыпала мукі, спякла блін, дзеці паелі — забалелі жываты, чуць адратавалі.* Вузла Мядз. *Трэба хлеп спякчы. Хлеп нада спякці.* Ніжын Люб. *З бульбы сухар спякуць.* Васілевічы Гродз. *Цяпер ест такая баба, кап хлеп спякла?* Дэгшні Шальч. 2. Падскварыць. *Спячы сала і засквар булёнчык.* Рыбчына Віл. *Спячы мне сала.* Ухвала Круп. *Сала спяку, сабірайцеся, будзіця есці.* Вецярэвічы Пух. 3. Сасмажыць. *Спёк яму яешню.* Саланое Віл. *Спякла пару яек.* Пацаўшчына Дзятл. 4. Знішчыць. ∇ *Ня спёк пярун тае жызні.* Вецярэвічы Пух.

СПЯЧЫ'СЯ *зак.* Запячыся (пра кроў). *Кроў спячэцца.* Старыя Смільгіні Воран.

СПЯША'ЦЦА, СПЯШЫ'ЦЦА *незак.* Спяшацца. *Спяшаесся дома і на рабоце, бегам ды бегам.* Мсцібава Ваўк. *Яшчэ нехта спяшаецца.* Чычалі Швянч. *Куды спяшаесся?* Старыя Трокі Трак. *Пачакай, не спяшыся, я дам смятаны густой.* Кіралі Шчуч. ∇ *Не спяшайся замуш, бо яшчэ нагаруешся.* Кудзялянцы Шальч.

СПЯШЫ'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і с п я ш а́ ц ц а. *Яна ўсё спяшыць і спяшыць рабіць.* Вузла Мядз. *Трэба спяшыць на машыну.* Граўжышкі Ашм.; *парайн.* руск. *спешить* 'тж'.

СРАДА' *ж.* Серада. *Сабяромся, сядзім срэдамі.* Месянцы Брасл.; *парайн.* руск. *среда* 'тж'.

СРАДЗІ' *прыназ.* з *род.* Сярод. *Срадзі лесу футар.* Валеўка Навагр.; *парайн.* руск. *среди* 'тж'.

СРАДЗІ'НА *ж.* Сярэдзіна. *Бручка жоўтая, а кузіка белая ў срадзіне.* Валеўка Навагр.; *парайн.* руск. *средина* 'тж'.

СРА'ЗУ *прысл.* Адразу. *Як узнаюць, што бабылка, і сразу*

*проч.* Буды В.-Дзв. *Сразу рубец паяўляіцца.* Вялікае Сяло В.-Дзв.; *парайн.* руск. *сразу* 'тж'.

СРА'КА *ж.* 1. анат. Ягадзіцы. *Голая срака відна.* Саланое Віл. ∇ *Тыя і к сраць нi вядуць* — пра тых, каго нішто не хвалюе. Груздава Паст. 2. Задняя частка тулава ў рака, насякомых. *У срацэ вочкі ў рака.* Ахрэмаўцы Брасл. *Яго (рака) ў срацэ вочы.* Курaполле Паст. *Якая в осы срака довга, в мухы і пчолы ны такая. Срака в осы од гузынького.* Сіманавічы Драг. 3. *перан.* Камель. *Сноп звязала, бальшую сраку пусціла.* Рыбчына Віл. *Надо павярнуць, кап сракі ў снапох прасхлі.* Малахоўцы Бар. *У снапе камель — срака і верх снапа.* Альхоўка Навагр. 4. *перан.* Ніжняя частка ступы. *В ступы срака роскололася. В ступы тая чясьць, шо стоіть, звалы срака.* Сіманавічы Драг.

СРАМАТЛІ'ВЫ *прым.* Сарамлівы. *Сраматлівы чалавек.* Каўняны Гродз.

СРАМІ'ЦЦА *незак.* Саромецца. *Яна ў баню не ідзе, сраміцца.* Гальшаны Ашм. *Я п срамілася, а яна не.* Вялікія Нястанавічы Лаг.; *парайн.* руск. *срамиться* 'сарамаціцца'.

СРА'МНА *прысл.* Сорамна. *Што я пайду — мне срамна.* Саланое Віл.

СРАСТВО' *н.* Радня. *Мо якоя сраство е?* Вецярэвічы Пух. *Сраство — кроўная радня.* Багушэвічы Бярэз.; *парайн.* руск. *сродство* 'роднасць'.

СРАЎНІ'ЦЬ *зак.* Параўнаць. *Ціперашняя жызь — ні сраўняіш, добрая!* Буды В.-Дзв.; *парайн.* руск. *сравнить* 'тж'.

СРА'ЧКА *ж. памянш. перан.* Частка бульбіны, якая не мае зародкаў парасткаў. *У срачкі нету вочкаў, яна пойдзе свіням.* Гемзы Шальч.

СРОДНІ'ЦЯ *ж.* Тое ж, што і с р а с т в о́. Дзмітравічы Кам.

СРО'ДСТВА, СРО'ТСТВА, СРО'СТВА *н.* Тое ж, што і с р а с т в о́. *Сродства сваіх прасілі памагчы.* Буды В.-Дзв. *Сродства ёсць.* Азяраны Раг. *Крэўная радня — сротства.* Рудня Астравітая Чэрв. *Мы дахадзіліся сроства.* Філіпаўцы Красл.

СРОК *м.* Тэрмін. *Срок, мусі, сашоў.* Саланое Віл.; *парайн.* руск. *срок* 'тж'.

СРО'СЦВЯНІК *м.* Сваяк. *Сросцвянік купіў мне коўдру. Сросцвянікі відзялі, што матка пакінула блазнату, але ні памагалі.* Дакудава Лід.; *парайн.* руск. *родственник* 'тж'.

СРЫ'БНІК, СРЭ'БНІК *м. бат.* Лапчатка гусіная. *Срыбнік індыком збіраюць.* Плябанцы Ашм. *Срэбнік ядуць куры і свіня, гусі і качкі — усе ядуць.* Кіралі Шчуч. *Срэбнік — трава, індыкам сабіраіць.* Рагулішкі Даўг.

СРЭ'ДНІ *прым.* Сярэдні. *У срэднім веку паўміралі людзі,*

*шчэ можна жыць ім.* Пацаўшчына Дзятл.; *парайн.* руск. *средний* 'тж'.

СРЭНЬ *ж. бат.* Бэз. *Срэнь, півоня цвіце.* Пасіене Лудз.; *парайн.* руск. *сирень* 'тж'.

ССАДЗІ'ЦЬ *зак. экспр.* Сапсаваць (зрок). *Ссадзіла вочы, кепска бачу.* Кудзялянцы Шальч.

ССАЦЬ, ССА'ЦІ *незак.* Ссаць. *Цыцку ссе.* Малахоўцы Бар. *Дзіця тры гады цыцку ссала.* Лоск Валож. *Шчэ грудзі ссе дзіця.* Дзяніскавічы Ганц. *Дунду ў рот — і ссе дзіця.* Навасёлкі Лід. *Парасята ссут свіню.* Ялова Пруж. *Ягня ссало.* Галавачы Гродз. *Рапуга, гавораць, малако ссе.* Чуркі Ашм. *Се карову рапушка.* Гемзы Шальч.

ССАЧЫ'ЦЬ *зак.* Высачыць. *Ссачыла курыцу, нашла яйкі.* Кураполле Паст.

ССЕ'ДЗІЦЬ, ССЕ'ДЗЯЦЬ *зак.* Адседзець. *Алі ш ногі сседзілі, аш коля ў ногу, не магу сці.* Кіралі Шчуч. *Ногу сседзяў.* Номікі Бабіц.

ССЕ'КАЦЬ *незак.* Ссякаць. *Капусту ссекаюць сякераю.* Дзяніскавічы Ганц.

ССЕ'СЦІ *зак.* 1. Адкіпець. *Можа, ссядзіць малако?* Валынцы В.-Дзв. 2. Асесці. *Хлеп ссядзіць, як ня ўкісніць, закаліц — на паліц.* Валынцы В.-Дзв.

ССЕ'СЦІСЯ *зак.* 1. Загусцець. *Краска сселася.* Солы Смарг. 2. Зляжацца. *Ссеўся снех, нясе паверху.* Альхоўцы Лях.

ССІВЕ'ЦЬ *зак.* Стаць сівым. ∇ *Ссівеў, як лунь.* Кураполле Паст.

ССІКА'ЦЬ *гл.* ССЯКА'ЦЬ

ССІНЕ'ЦЬ *зак.* Пасінець (ад холаду). ∇ *Ссінеў, як пуп гусіный.* Мішневічы Шум.

ССІНІ'ЦЬ *зак. экспр.* Збіць да сінякоў. *Ссініў яе ўсю, а за што?* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ССО'РА *ж.* Сварка. *Быць ня можыць, што не звяду да ссоры.* Ахрэмаўцы Брасл.; *парайн.* руск. *ссора* 'тж'.

ССО'ЎВАЦЬ *незак.* Зграбаць. *Потым звеяная ссоўваюць у кучу.* Альхоўка Навагр.

ССО'ХНУЦЬ *зак.* Засохнуць. *Ёлка апсыпалася, ссохла.* Солы Смарг.

ССУВА'ЦЦА *незак.* Ссоўвацца (пра кудзелю). *Шэрсць любіць ссувацца.* Магуны Паст.

ССУВО'РЫЦЬ *зак.* Злыгаць. *Ссуворыць коні.* Мсцібава Ваўк.; *парайн.* літ. *suvérti* 'нанізаць'.

ССУ'КАВАЦЬ *незак.* Ссукваць. *У дзве ніткі трысцілі, а тады ссукаваць.* Завельцы Астр.

ССУКА'ЦЬ *зак.* Ссукаць. *Трэбо ссукаць ніці.* Мсцібава Ваўк.

ССУЛО'ТАЦЦА *зак.* Запэцкацца. *Ссулоталіся дзеці па*

*гразі і ядучы. Ні сулотайся!* Кураполле Паст.; *парайн.* літ. *sulà* 'сок'.

ССУЛО'ТАЦЬ *зак.* Тое ж, што і с п л я́ ж ы ц ь 1. *Ссулоталі парасяты ежу, зтразілі, зблоцілі.* Кураполле Паст.; *парайн. літ. sulà* 'сок'.

ССУ'НУЦЦА *зак.* Зрушыцца. *Салома ссуніцца, у лошку дубам стаіць.* Вузла Мядз.

ССУ'ШКІ *мн.* Высахлы лес. *Ссушкі — сухі лес, караеды раз'ядаюць, і лес сохня.* Навасёлкі Свісл.

ССУШЫ'ЦЬ *зак. перан.* Змучыць. *Ссушыў яе муж.* Кухты Віл.

ССЫ'ПАНЫ *дзеепрым.* Пакрыты. *Водрыца была ў мяне, як макам ссыпана прышчычкамі.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ССЫ'ПАЦЦА *зак.* Ссунуцца. *Ссыпаецца часовачка с клупка.* Саланое Віл. *Як здзярэцца пража, клубок ссыпайся, цэла цісоўка сплуталася.* Мачаск Бярэз.

ССЫПА'ЦЬ *незак.* Засыпаць. *У нас камора, дзе картошку ссыпаць.* Чуркі Ашм. *У скрынь ссыпалі збожа.* Збляны Лід. *У наш свіран ссыпалі зярно.* Завельцы Астр. *У засякі жыта ссыпалі.* Старыя Трокі Трак.

ССЫ'ПАЦЬ *зак.* Дачасна нарадзіць. *Свіня парасят ссыпала.* Магуны Паст., Дакудава Лід.

ССЫ'ПКА *ж.* Насыпка. Беняконі Воран. *Ссыпка — пер'е ссыпаць.* Міратычы Карэл.

ССЮЛЬ *прысл.* Адсюль. *Ссюль до Гайновкі с пэтнацэть вёрст.* Курашэва Чыж.

ССЯДА'ЦЬ *незак.* Замярзаць. *Рэчка ссядаіць ужо.* Жодзішкі Смарг.

ССЯКА'ЦЬ, ССІКА'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і с с е́ к а ц ь. *Ссякаць капусту.* Рыбчына Віл., Рудня Астравітая Чэрв., Гемзы Шальч. *Нада ссікаць капусту.* Мярэцкія Глыб. *Ссікай капусту і знасі ў хату.* Беразіно Докш.

ССЯЧЫ' *зак.* 1. Перабіць. *Калыбая курыца, нагу зламала ці ссяклі.* Саланое Віл. 2. Ударыць. *Палачку быстра пусціш і ссячэш па назе.* Саланое Віл.

СТА *гл.* СТОЙ

СТАБАРО'К *м. бат.* Сцяблінка. *Стабаркі, як падарожнік квітніць.* Рагулішкі Даўг.; *парайн.* літ. *stiebas, stãbaras* 'сцябло'.

СТАБАРО'ЧАК *м. памянш.* да с т а б а р о́ к. *Буквіцы на 'дным стабарочку квітніць.* Рагулішкі Даўг.

СТАБУНО'ЧКІ *мн. бат.* Званочкі. *Стабуночкі, а хто і калакольчыкі завець.* Дзёрнавічы, Пярэкі В.-Дзв.

СТА'ВАК *м.* Сажалка. *Дзе ставак быў, там мокра.* Рагулішкі Даўг. *Пойдім на ставак ногі мыть.* Скрудалена Даўг.

СТАВАРУ'К *м.* Сухая галіна дрэва. *Два ставарука адрэзаў.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *steverỹs* 'тж'.

СТАВА'ЦЬ I *незак.* Хапаць. *Ні ставала сваей бульбы. Хлеба ні ставала. Усяго стае цяпер.* Гальшаны Ашм. *Ні стаець корму.* Ахрэмаўцы Брасл. *Не стае грошы.* Грыкені Вільн.; *парайн.* руск. *недоставать,* польск. *nie dostawać* 'не хапаць'.

СТАВА'ЦЬ II *незак.* З'яўляцца. *І зноў стае хмарка.* Дарава Лях.; *парайн.* польск. *stawiać się* 'тж'.

СТА'ВАЧАК *м. памянш.* да с т а́ в а к. *Ставачак — дзе запынілі ваду.* Збляны Лід.

СТА'ВАЧКІ *мн.* Бабкі (снапоў). *Дзўйна саставілі ставачкі. Іллёй жнуць, на поля глянеш — усё ў ставачках.* Рыбчына Віл.

СТАВЕ'НАЧКА *ж. памянш.* Дзежачка. *Ставеначка — што квасіць блінэ, на квас.* Новікі Гродз.

СТАВІНА' *ж.* Адна з апорных частак асновы красён. *Ставіна ў кроснах.* Валынцы В.-Дзв. *Адна ставіна, другая.* Рыбчына Віл.

СТА'ВІТІСЕ *зак.* З'явіцца па выкліку. *Прышла повіестка, коб ставівсе дваціятого на сут.* Курашэва Чыж.

СТА'ВІЦЦА *незак.* 1. Будавацца. *Гумно ставіцца длінной на тры тарпы.* Гальшаны Ашм. 2. Устанаўлівацца. *На капылох* [у санях] *ставілася каропка.* Судэрва Вільн. 3. Змяшчацца. *Раскалачваецца мука і ставіцца ў печ.* Чуркі Ашм.

СТА'ВІЦЬ, СТА'ВІЦІ, СТА'ВІТІ *незак.* 1. Будаваць. *Хату ставіць.* Мярэцкія Глыб. *Я дом стаўлю.* Ахрэмаўцы Брасл. *Сыном ставіў дамы.* Быстрыца Астр. *Раней хату ставілі на камяне.* Жодзішкі Смарг. *Ставяць хаты.* Дзяніскавічы Ганц. *Ставіць хату трэба.* Рыбчына Віл., Рудня Астравітая Чэрв. *Ставілі хату.* Вецярэвічы Пух. *Ставя хату каля нас.* Старыя Трокі Трак. *Ставілі касцёл.* Грыкені Вільн. *Ставілі хату, зруп паставілі.* Рагулішкі Даўг. *Весною сусіед думае нову хату ставіті, ужэ поставів клуню і хліві.* Курашэва Чыж. 2. Рабіць. *Давай кроквы ставяць.* Гальшаны Ашм. 3. Расстаўляць. *Тады, як высцеліцца* [лён], *падымаем, у лазні ставім.* Завельцы Астр. *Лён ставілі ў печ сушыць.* Падгаі Мін. *Багацейшыя ставілі лён сушыць у восяць, бяднейшыя ў печы высушвалі.* Слабада Мін. *На тройцу на дварэ перад вокнамі бяроскі ставілі.* Дарава Лях. 4. Складаць пэўным чынам. *Снапы жыта ставілі ў бапкі па дзесяць снапоў.* Перабродзе Міёр. *Сена ў копкі ставілі.* Беняконі Воран. *Лён ставілі ў копачкі.* Грыкені Вільн. *Ставіті снопы жыта в ляшкі, овса — в дэв'яткі.* Курашэва Чыж. 5. Устанаўліваць (помнікі). *Даўней памятнікі не ставілі.* Дарава Лях. 6. Змяшчаць на якое-н. месца. *На зэмлю стаўю.* Смаляніца Пруж. *Рагачы, што калыску ставіці.* Васілевічы Гродз. *Гладушку з молоком трэба ставіті в зімнуом міесті, коб нэ скісло.* Курашэва Чыж. 7. Гатаваць (ежу,

чай). *Шчэ трэба свіням ставіць.* Парэчча Гродз. *Пайду чай ставіць.* Солы Смарг. 8. Запрагаць. *Каня ставяц у алоблі.* Парэчча Гродз. 9. Прыстасоўваць. *На в'юной ставяц бучэ.* Парэчча Гродз. *Ставілі сеткі ў раку на рыбу.* Вузла Мядз. *Ставяць бучкі із лазы.* Збляны Лід. *Вабнікі называлі, ставілі на дрэва. Ставілі бучкі ракаў лавіць.* Мыто Лід. *Бучы вясной ставяць найболей, шчупакі ў іх ідуць.* Завельцы Астр. 10. Прызначаць. *Яе ставілі цялята пасвіць, а патом стала сторажам.* Альхоўка Навагр. *Ставяць людзей дзесяць — і расцілалі лён.* Падгаі Мін. 11. *мед.* Ставіць. *Чорныя п'яўкі пры ўдаўленні ставяць.* Завельцы Астр. *Калі запалення, ставяць п'яўкі.* Солы Смарг. *Як толькі тут сцісне, то завець банькі ставіць.* Завельцы Астр. *Гаршчок, што свіням картошку вараць, ставілі на жывот ат парушэння.* Дружба Мін. ◇ *Ставіць бутылку* — частаваць. *Каждьг ставіць бутылку водкі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ставіті карты* — варажыць на картах. *Ставіті когось за взуор* — браць з каго-н. прыклад. Курашэва Чыж.

СТАВО'К *м.* Тое ж, што і с т а́ в а к. *Ідзець ён на кавёлах, куляўся, улез у ставок — страшна.* Юркава В.-Дзв. *Ставок выйшаў з берагоў.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Стаўкі капалі і сажалкі.* Валынцы В.-Дзв. *Ставок выкапалі і рыбу напускалі.* Ёдлавічы Брасл. *Стаўкі на месцы, дзе торф капалі, ці наогул выкапаны.* Жодзішкі Смарг. *Ставок каля гэтай хаты маленькі, гэта прыродны.* Завельцы Астр. *Даўней стаўкі былі, рыба вадзілася.* Рагулішкі Даўг.

СТАВЫ' *мн.* Кросны. Жодзішкі Смарг., Беразіно Докш., Рудня Астравітая Чэрв., Рыбчына Віл. *Былі ставы, і ткалі.* Цяпінцы Віл. *Тады прыносім ставы і навівалі.* Кухты Віл.

СТАВЭ'НЬКА *ж. памянш.* Бочачка для мёду. *Ставэнька, чылі бочка, была на мьёд.* Калясное Міхал.

СТАГ *м.* Рад будынкаў, якія знаходзяцца пад адной страхой. *Колісь будынкі ставілі так, што в одном стагові была хата, хлівы, клуня.* Курашэва Чыж.

СТАГАВА'ЦЬ, СТАҐАВА'ЦЬ *незак.* Складаць у стог. Рыбчына Віл. *Да абеда стагавалі сена.* Груздава Паст. *Не ўсякі ўмее стагаваць сена.* Беразіно Докш. *Стагаваць сена.* Пасека Ст.-Дар. *Стаґавалі, стаґі дзелалі.* Пасіене Лудз.

СТАГАВІ'ШЧА *н.* Стажар'е. *Стаґавішча здзелаў для стага, камлямі наб'ют, макаўкі загібалі і жэрдзя клалі, хоць вада залівала, а сена было высока.* Пасіене Лудз.

СТАГА'Н I *м. заал.* Макрыца. *Стаґан бяжыць.* Масілавічы Сл. *Стаґанэ — сівыя прусаке ў сырым месцы.* Старое Сяло Зэльв. *Стаґаныэ калісь былі, як земля была ў хаці, сыров паветра.* Бaброўнікі Гарад.

СТАГА'Н II, СТАҐА'Н *м.* 1. Саган. *Стаґан — кацёл з ручкай, яго стаґаном звалі.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Шклянка

*Стаган пабіўся.* Мачаск Бярэз. *Налей у стаган вады, хай пастаяць у стагане.* Ахрэмаўцы Брасл.

СТАҐАНО'К *м. памянш.* да с т а ґ á н II, 1. *У стаґанку варылі есць, з гліны ён. Стаґанкі былі з ручкамі.* Ёдлавічы Брасл. *Стаґанок — па-гудаскі называлі чыгунок.* Малькуны Ігн. *Стаґанкі былі з гліны.* Рагулішкі Даўг.

СТАГНАТА' *м.* і *ж. экспр.* Хто стогне. *Стогня стагната.* Рыбчына Віл.

СТАГНА'ЦЬ *незак.* Стагнаць. *А як жа ён енчыць, стогніць, моліцца.* Кураполле Паст. *Стогня стагната.* Рыбчына Віл. *Усе бабы хворыя, усе стогнуць.* Збляны Лід. *Пачаў стагнаць. Стогніць, енчыць.* Малькуны Ігн. *Стогніць ён.* Чычалі Швянч. *Не стагні, ня больна.* Рагулішкі Даўг.

СТАГО'ВІШЧА *н.* Тое ж, што і с т а ґ а в í ш ч а. *Стог на статовішчу стаяў.* Мішневічы Шум.

СТА'ДА *н.* і *ж.*, СТА'ДО *н.* 1. Статак. *Стада кароў у нас. Стада коней.* Буды В.-Дзв. *Бальшая пагналі стада кароў.* Вялікае Сяло В.-Дзв. *Стада кароў, стада свіней, стада авечак — усяго стада.* Вузла Мядз. *Пусцілі ў стаду кароў.* Мярэцкія Глыб. *Мая стада тут пасецца.* Солы Смарг. *Велькая стада кароў.* Крэва Смарг. *Уся стада кароў ходзіць па жыце.* Ністанішкі Смарг. *Мая стада свіней, авечак. Калхозная стада кароў.* Магуны Паст. *Ён пасець цялят, стада вялікая.* Груздава Паст. *Коней стада, кароў.* Чуркі Ашм. *Стада кароў, авечак. Мая стада.* Быстрыца Астр. *Стаду пагналі быдла. Стада за стадаю ідуц.* Парэчча Гродз. *Платон стаду пагнаў.* Стральцы Гродз. *Стада скаціны пашла.* Саланое Віл. *Вялікая стада, гані ў стаду.* Рыбчына Віл. *Мая стада кароў.* Навасёлкі Свісл. *Две стады зганяюць у адну, а на том баку і тры стады зганяюць у адну.* Альхоўка Навагр. *Мая стада.* Рудня Астравітая Чэрв. *Там такая стада!* Пасека Ст.-Дар. *Стада бальшая.* Ракаўскія Швянч. *Стада бальшая кароў, каровы рыкаяць.* Руднікі Шальч. *Яна загоня карову да стады.* Гемзы Шальч. *Да стады падагнала карову.* Старыя Трокі Трак. *Сабака кругом стады абяжыць.* Рагулішкі Даўг. *Акруцілася карова і пашла ў стаду.* Малькуны Ігн. *Выгноў стаду кароў.* Вецярэвічы Пух. *Стаду авец пералічыў.* Азяраны Раг. *Пастыр жэне стадо. Нашэ стадо ідэ.* Смаляніца Пруж. *Стада кароў.* Сакаляны Сакол. *Мая карова ходзіць у стадзі. Стада авец ходзіць. Я сама бачыла, як воўк у стаду ўбех.* Баброўнікі Гарад. 2. Чарада. *Птушак стада якая.* Магуны Паст. *Іх стадай лётаіць — штук дзесяць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Шпакі збіраюцца ў стады і адлятаюць.* Жодзішкі Смарг. *Стада курэй, гусей. Уся стада гусей узнялася на скрылы.* Ністанішкі Смарг. *Уся стада курэй у гарадах.* Солы Смарг. *Во мая стада гусей.* Вялікія Баяры Шчуч. *Цэла стада гусей. Гэта мая стада паляцела.* Кіралі Шчуч. *Стада гусей, цэла стада, мая*

*стада.* Альхоўка Навагр. *Стада ўсё: стада кароў, стада птушак.* Дакудава Лід. *Стадо птушак паляцела.* Малахоўцы Бар. *Цэлу стаду курэй і гусей выгнаў з ячменю.* Старыя Трокі Трак. *Шпакі стадай лятаюць. Машыну на стаду гусей накіраваў.* Гемзы Шальч. 3. Зграя. *Стадам ходзюць ваўкі.* Лісна В.-Дзв. *Цэлай стадай ходзюць, ваўчыная краса, як круцюцца ваўчыцы.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Стадай ваўкі лятуць.* Малі Астр. *Стада ваўкоў.* Рыбчына Віл. *Ваўке цэлаю стадаю ходзяць.* Вялікія Баяры Шчуч. *Стада сабак пабегла.* Рагулішкі Даўг. 4. *перан. экспр.* Сям'я. *Дачка прыехала с сваей стадай.* Валынцы В.-Дзв. 5. *перан. экспр.* Натоўп. *Ідзём стадай.* Магуны Паст. *Стадай выпівалі, набраліся дап'яна п'янчугі.* Валынцы В.-Дзв. *Цэлай стадай на падворак прыляціць* [унук]. Крэва Смарг.; *параўн.* руск. *стадо* 'статак, пагалоўе'.

СТАДАВА'ЦЬ *незак.* 1. Збірацца разам (пра жывёлу, звяроў, птушак). *Пад восень птушкі стадуяць.* Лоск Валож. *Ваўкі стадуяць, выяць.* Малі Астр. 2. *біял.* Апладняцца. *Не стадуе — і перадойка.* Чуркі Ашм. 3. *біял.* Апладняць. *Бык-перазімак стадуя каровы.* Гемзы Шальч.

СТА'ДЗІЦЦА *незак.* Тое ж, што і с т а д а в а́ ц ь 1. *Стадзяцца вароны на дош, будзіць дош.* Ністанішкі Смарг. *Шпакі стадзюцца маладыі.* Якубова Рас.

СТАДО'ЛА, СТАДО'ЛЯ, СТУДО'ЛА *ж.* 1. Хлеў. *Стадола — як січас абора стадная. Скот стаіць у стадолі.* Яніна В.-Дзв. *Стадола — така сама, як сарай, с павоскамі заяжджалі.* Старыя Трокі Трак. *Стадоля была, у стадолях вос стаіць.* Бакшты Іўеў. 2. Адрына. *Па вёсках яўрэі скуплівалі лён і звозілі ў стадолы. У стадоле мо дзвесце чалавек абрабляллі лён — гэта цэла фабрыка.* Гальшаны Ашм. *Калісьці ў студоле спалі.* Руднікі Шальч. 3. Гумно. *Да стадолы ішлі, малацілі ў тых клюмпах.* Васілевічы Гродз. *Две стадолі былі.* Мсцібава Ваўк. *Сядзелі ў стадоля зачынены так што двоя сутак.* Асташына Навагр. *Ток у стадолі, дзе малацілі.* Старыя Трокі Трак. *У нас была стадола вельмі хароша.* Баброўнікі Гарад. 4. Канюшня. *Конь стаіць у стадолі, конь стаяў асобня ад кароў. Хлеў стаіць, да хлева прыроблена стадола для каня.* Кіралі Шчуч. 5. *перан. экспр.* Вялікі маёнтак. *Пані Ожэшкова паставіла стадолу.* Скідзель Гродз.

СТАЕ'ННЫ КОНЬ *м.* Выязны конь. *У іх стаенны конь быў, сівы, у яблыкі.* Вузла Мядз.

СТАЁНКА *ж.* Стойка. *У стаёнцы паставіць дзіця.* Саланое Віл. *Ваня ў стаёнца стаіць.* Лоск Валож. *У стаёнцы дзіця стаіць.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

СТАЁНЦЫ *дзеепрым.* Стаячы. *Стаёнцая вада.* Новікі Гродз. *Пайду кудру выкашу, ест там вада стаёнцая.* Жылі

Іўеў. *На стаёнцай вадзе расце трасняк.* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *stojący* 'тж'.

СТАЁЎКА *ж.* Тое ж, што і с т а ё н к а. *Стаёўка — чатыры ношкі, спот знізу, лавачка пры боку, кап сесці дзіцяці.* Солы Смарг.

СТА'ЖА *ж.* Стаж. *Я стажы не вырабіў.* Руднікі Шальч.

СТАЖА'Р'Е, СТАЖА'Р'Я, СТАЖА'РЬЯ *н.* 1. Месца, дзе стаяў стог. *Стажар'я.* Рыбчына Віл. *Стажар'е — месца, дзе стаяў стог.* Альба Нясв. *Стажарья — дзе стох быў.* Янова Рас. 2. Тое ж, што і с т а ґ а в і ш ч а. *Бярэзнік сякуць, як стажар'я нада зрабіць.* Груздава Паст.; *гл.* ДАБМ, карта № 287. 3. Жэрдка, якая ставілася для апоры ў сярэдзіне стога. *Пасярод стога колля — стажар'е.* Ухвала Круп.

СТАЖА'РКА *ж.* Стрэшка на чатырох слупах, пастаўленая над стогам. *Стажарка — чатыры сталбы і крыша, кладуць сена, бакі могуць апшыць.* Дзёрнавічы, Пярэкі В.-Дзв. *Стажарка над стогам.* Мярэцкія Глыб. *Стажарка на столбіках і крышка навярху с толі ілі саломкі (кагда вывазка сена плахая ілі аддалёнасць бальшая, стажарку дзелалі).* Месянцы Брасл.

СТАЖА'РНЯ *ж.* 1. Тое ж, што і с т а ж á р к а. *Стажарні робілі с дашком.* Ёдлавічы Брасл. *Стажарня на стаўбах с крышай, сена кладуць.* Валынцы В.-Дзв. *Стажарні строяць: ставяць жэрдзя доўгія і стрэшку на чатыры вуглы, стрэшку падымаюць і апускаюць.* Кураполле Паст. *Стажарня — крыша на стаўбах; сена пад стажарняй не замокнець.* Мішневічы Шум. *Стрэшка на чатырох стаўбах — стажарня.* Рагулішкі Даўг. 2. Тое ж, што і с т а ґ а в і ш ч а. *Заламляюць калы, стажарні пат стох рабілі.* Старыя Трокі Трак. *Стажарня — пат стох, насцелюць сукоў пад ніс і жэртку паставюць. Нада стажарню зрабіць.* Малі Астр. 3. Тое ж, што і с т а ж á р'е 1. *Стажарня — дзе стаяў стох.* Кіралі Шчуч. *Шчавель расце на стажарні.* Багушэвічы Бярэз. 4. Сціртa. *Стажарня длінная, а стох круглы. Злажылі салому ў стажарню.* Валынцы **В.-Дзв.**

СТАЖО'К *м. памянш.* 1. да с т о г 1. *Стажок сена, капа сена.* Гемзы Шальч. 2. Укладка дроў у выглядзе стажка. *Стажок дроў.* Мярэцкія Глыб. *Злажы дровы ў стажок!* Паляцкішкі Воран. *У круглы стажок наложуць дроў.* Ракаўскія Швянч. *У стажок мала складаюць дрова, больш — у клад.* Скрыпчына Лудз. 3. Бурт. *Стажок бульбы аткапаў.* Кураполле Паст. 4. у знач. *прысл. сташкóм.* Конусападобна. *Іх* [грыбоў] *два сарты: адны растуць сташком.* Рагулішкі Даўг.

СТАІ'ЦЬ *зак.* Утаіць. *Людзі відзелі, але стаілі, не выдалі яго.* Кіралі Шчуч.

СТАЙМА′ *прысл.* Уніз галавой. *Галавою стайма ўпаў у крыніцу.* Кіралі Шчуч.; *парайн.* руск. *стоймя* 'тж'.

СТАЙНО′ *н.* 1. Аснова калаўрота, куды ўстаўляецца кола. *У стайно ўкладаецца кола.* Вецярэвічы Пух. 2. Сядзенне ў прасніцы. *Прасніцы былі з стойнамі; стайно — дошчачка ў прасніцы, на якую садзіліся.* Азяраны Раг. *Стайно, стойны — дошчачка ў прасніцы, садзіліся ў стойны, як устанеш, дык прасніца ляціць. Пачураліся стойнаў.* Дзяніскавічы Ганц. 3. Прыстасаванне для трапання ільну. *На стайно наложаць лён і трэплюць, так выдзелаюць, што блесціт.* Навікі Лудз.

СТА′ЙНЯ *ж.* Тое ж, што і с т а д о́ л а 4. *Жарабок на стайні.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Стайня — дзе коні стаяць.* Кемялішкі Астр. *Пад стайню прытуліўся і стаіць.* Гемзы Шальч. *На стайні стаяў стаенны конь.* Вузла Мядз.

СТАКАЛЕ′ЦЬ *незак. экспр.* Хадзіць без справы. *І чаго ты стакалеў, аш нос пасінеў? Кажын дзень стакалея ў канцы* [вёскі]. Засецце Дзятл.

СТАКА′Н *м.* Шклянка. *Захіліў* [выпіў] *стакан водкі.* Завельцы Астр. *Стаканы стаяць не папратаныя.* Альхоўцы Лях.; *парайн.* руск. *стакан* 'тж'.

СТАКАНА′ *ж.* Клопат. *Стаканы многа.* Вялікія Баяры Шчуч. *На гэтыя дзеці стаканы много.* Навасёлкі Свісл.

СТАКАНІ′ЦЦА, СТОКОНЫ′ТЫСЬ *зак.; незак.* 1. Клапаціцца, даглядаць. *Я стаканілася, стаканілася, а парася прапала.* Навасёлкі Свісл. *Шмат ты стаканісся.* Мсцібава Ваўк. *Стаканіцца маці.* Дакудава Лід. *Я мушу стаканіцца аба ўсім.* Лука Нараўк. *Кылько вона стоконылась, коб до ладу діты довысты.* Сіманавічы Драг. *Стаканіцца аб усё.* Баброўнікі Гарад. *Стаканілася, даглядала карову, свіня, парасята.* Старыя Смільгіні Воран. *Карову дзяржаць — трэбо стаканіцца, бачыця, скольki мы робім.* Мсцібава Ваўк. *Стаканіцца, кап што было, стараецца.* Баброўнікі Гарад. 2. *экспр.* Стаміцца. *Эх ты, ужо стаканіўся! Як хто ляжа адыхаць, а хто прыдзя і скажа: «Ох, ты ўжо стаканіўся!»* Альхоўцы Лях.

СТАКАНО′ТА *ж.* Мітусня. *Такая стаканота!* Дакудава Лід.

СТАКАНЫ′ *мн.* Шклянкі. *Стаканы валяюцца ў вару.* Альхоўцы Лях.

СТАКВЕ′ЛЕ *прысл.* Столькі. *Стаквеле дай — кусочак, мы гаворым без жаднага паняцця.* Пацаўшчына Дзятл.; *парайн.* польск. *tak wiele* 'так многа'.

СТА′КЛА *ж.* Тое ж, што і с т а в і н а́. *Стаклы ў кроснах. Адна стакла.* Чычалі Швянч.; *парайн. літ. stãklės* 'станок'.

СТАЛАВА′ННЕ І, СТАЛАВА′НЕ *н.* Харчовае ўтрыман-

не. *Учыцялі былі на сталаванні.* Груздава Паст. *Ён плаціў трыцаць капеек у дзень, і яго сталаванне.* Швэды Вільн.

СТАЛАВА′ННЕ II *н.* Столь. Кемялішкі Астр.

СТАЛАВА′ЦЦА, СТОЛОВА′ТІСЕ *незак.* Харчавацца. *Там у той хаці шасцёх сталаваліся.* Альхоўцы Лях. *Ніхай сабе сталуецца.* Гемзы Шальч. *Як проводілі свіетло, то ў нас столовалісе.* Курашэва Чыж.

СТАЛАВА′ЦЬ *незак.* Тое ж, што і с т а л а в а́ ц ц а. *Там у той хаці шасцёх сталавалі.* Альхоўцы Лях.

СТАЛАВЕ′РЫ *мн.* Старaверы. *Сталаверы ў асобных вёсках былі.* Кураполле Паст. *У сталавераў прынята разам мыцца: маскоўкі і мушчыны мыюцца.* Замошша Брасл.

СТАЛАЖЫ′ *мн.* Памост. *Сталажы кругом дома делалі, ходят па сталажах.* Скрудалена Даўг.; *парайн.* руск. *стеллаж* 'рад полак у некалькі ярусаў'.

СТАЛАПО′К *м. памянш.* Слупок. *Сталапкі ставяцца.* Скрудалена Даўг.

СТАЛАЧЫ′ЦЬ *зак.* Стаптаць. *Куры сталочаць ячмень, усе каласэ да зямлі паскладаюць.* Бакшты Іўеў. *Усю картоплю сталачыў.* Дзяніскавічы Ганц.

СТА′ЛАЯ ДЗЕ′ЎКА (ДЗЕ′ВА) *ж.* Старая дзеўка. *Мая сястра сталая дзеўка, жывець адна. Дачка яе сталая дзева.* Магуны Паст. *Сталая дзеўка.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

СТАЛБУ′Н *гл.* СТАЎБУ′Н III

СТАЛБУНО′К *гл.* СТАЎБУНО′К II

СТАЛЁВЫ *прым.* 1. Жалезны, стальны. *Бердо сталёва.* Крынкі Крын. ∇ *Дрэва вымакшы, як сталёвая, рубай — тапор атскікія.* Руднікі Шальч. 2. Светла-шэры (пра колер). *Зялянкі зялёныя, падзялянкі сталёвыя.* Солы Смарг.; *парайн.* польск. *stalowy* 'тж'.

СТАЛІ′НА *ж.* Адна дошка столі. *Сталіна на сталі.* Рыбчына Віл. *Дзве сталіны ні заложаны былі.* Саланое Віл.

СТА′ЛКА *ж.* Столка. *У тры сталкі ці ў дзевяць сталак вяроўкі.* Дзяніскавічы Ганц. *Ніт зроблен із двох ніток моцна, кап была ні ў адну сталку.* Стары Свержань Стаўб. *Злажыла ў дзве сталклі і кроіць.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Вэровку плетут в двіе сталкі.* Курашэва Чыж.

СТА′ЛНЫ *прым.* Сталы. *Яна ўжо сталная дзеўка.* Парэчча Гродз.

СТАЛО′П *м.* Слуп. *Шула старінная, а тапер сталоп.* Скрудалена Даўг.; *парайн.* руск. *столб,* літ. *stulpas* 'тж'.

СТА′ЛЫ *прым.* 1. Тое ж, што і с т а́ л н ы. *Есць кавалер сталы. У сталым веку жаніўся.* Гальшаны Ашм. *Ён сталы. Чалавек сталы.* Магуны Паст. *Яна дзеўка сталая.* Крэва Смарг. *Я ўжо сталая замуш ішла, да бап стыдалася ісці і да дзяўчат ня ішла.* Азаркі-Пудавінка Мядз. *Стала дзеўка, ніхто ні хоча браць* [замуж]. Кіралі Шчуч. *Яна ўжо*

*дзеўка стала.* Дакудава Лід. *Сталы чалавек ужо.* Валеўка Навагр. *Я была сталай дзеўкай, калі гаці стала насіць.* Старыя Трокі Трак. *Яна сталая, у яе дзеці вялікія.* Ракаўскія Швянч. *Каб сталаму купіць — няма абутку, усё на абцасах.* Пацаўшчына Дзятл. *Сталыя парабкі былі.* Гемзы Шальч. *Два па льду ўтапіліся, і сталыя людзі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Маі залоўкі былі сталыя.* Саланое Віл. *Сталая дзеўка была, каса аш да схіленняў.* Завельцы Астр. *Ні чапае людзей, у яго дзяцюк вельмі, мусіць, сталы.* Альхоўка Навагр. *Сталыя людзі работалі і малыя.* Грускава Нясв. 2. Падгадаваны. *Дзве свіні сталыя.* Быстрыца Астр.

СТАЛЬВА'ГА, СТЭЛЬВА'ГА *ж.*, СТАЛЬВА'ГІ, СТАЛЬВА'ГІ *мн.* 1. Доўгі ворчык для параконнай запрэжкі. *Стальвага на двое коней.* Завельцы Астр. *За плух стальвага чаплялася, а за стальвагу — ворчыкі.* Вузла Мядз. *Да стальвагі чапляюць два ворчыкі і боляй, калі аруць.* Стральцы Гродз. *Стальвага больша за ворчык.* Сапоцкіна Гродз. *Да парнага плуга стальвага адна, два ворчыкі і два кані.* Саланое Віл. *У плугу стальвага на двое коні.* Вялікія Баяры Шчуч. *Стальвага — параконная паліца.* Вецярэвічы Пух. *Стальвага — адна палка, а да яе па канцох два бронцікі.* Гемзы Шальч. *До стэльвагі прымоцёваны воркі.* Курашэва Чыж. *Запрагаюца коні брунтай, а як двое—стальвагі надзяваюцца.* Чуркі Ашм. *Стальвагі — вялікія ворчыкі на пару коні.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Ярмо для вала. *Стальвагі на плечы наложаць валу.* Крэва Смарг.; *парайн.* ням. *Stellwage* 'тж'.

СТАЛЬЗА'К *м.* Нажоўка. Груздава Паст.; *парайн.* ням. *Stahl* 'сталь' + *Zacke* 'зубец'.

СТАЛЬМА'Х, СТЭ'ЛЬМАХ *м.* Калеснік. *Стальмах калёсы рабіў.* Быстрыца Астр., Малахоўцы Бар., Грыкені Вільн. *Стальмах калёса рабіў.* Стральцы Гродз. *Тэпэр в ціелуой околіці ані одного стэльмаха нэма.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *stelmach* < ням. *Stelmacher* 'тж'.

СТАЛЬНІ'ЦА *ж.* Дошка, на якой рэжуць што-н. *На стальніцы рэжуць мяса, і на яе могуць паставіць скварады.* Малахоўцы Бар. *На стальніцы сала рэзаў.* Глівін Барыс.

СТАЛЬНЫ' *прым.* Тое ж, што і с т а л ё в ы 1. *Берда было трасцявое, было і стальное.* Дзераўное Стаўб. *Трашчыны мусяць быці стальныя, не с простаго жалеза.* Баброўнікі Гарад.

СТАЛЮ'ГА *ж.* Сталюга. *Бярно на сталюгу клалі.* Рыбчына Віл. *Відна на сталюгу паднімая броўна.* Дакудава Лід. *Сталюгі ест пры будоўлях, пілуюць дрэва на іх.* Вялікія Баяры Шчуч. *Што доскі пілуюць, калода ляжыць на сталюзя.* Вецярэвічы Пух.

СТАЛЮ'ШКІ *мн. памянш.* Прыстасаванне для рэзання

сечкі. *Дайна сечку рэзалі касой, былі сталюшкі зроблены.* Саланое Віл.

СТАЛЯВА'ННЕ, СТАЛЯВА'НЕ, СТАЛЯВА'ННЯ, СТАЛЯВА'НЯ *н.* 1. Столь. *Вярхнік быў у сталяванні.* Крэва Смарг. *Кастрыцу клалі на сталяванне.* Стракішкі Трак. *Сталяванне ўжо старое, і маціцы тожа.* Опса Брасл. *Столь і сталявання. Нада ш сталявання пабяліць.* Груздава Паст. *Бэлька, ачэсаная для сталявання. Сталявання паклалі ў хацю.* Кураполле Паст. *Сталявання мыла.* Старыя Трокі Трак. *На канцах сталяваня прыбіваецца ліштва.* Стральцы Гродз. *Сталявання ўсцілаюць на бэльках.* Кіралі Шчуч. *Сталяваня выслана дошкамі.* Збляны Лід. *У горадзя гаворацць паталок, у нас — сталявання.* Малахоўцы Бар. *На бэлькі сталяваня.* Грыкені Вільн. *Сталяваня гразная.* Ракаўскія Швянч. *Хата гарэла, сталяваня ўпала на яго — і хлопяц спаліўся.* Кудзялянцы Шальч. *Сталяваня можа быць і ў хлевя.* Магуны Паст. *Сыны выраслі, да сталяваня дастаюць.* Руднікі Шальч. 2. Гара. *Залес на сталяваня.* Старыя Смільгіні Воран.

СТАЛЯ'Р *м.*, СТАЛЯРЫ' *мн.* Сталяр. *Брат быў сталяр.* Солы Смарг. *Сталяр — хто робіць сталы.* Кіралі Шчуч. *Сталяр ён добры.* Дакудава Лід. *Пайду за сталяра вучыца.* Збляны Лід. *Сталяр рабіў сталы, канапы. Сталяры робяць шафы.* Гемзы Шальч. *Сталяры збудавалі хату.* Талейкі Швянч.

СТАЛЯРАВА'ЦЬ *незак.* Выконваць сталярную работу. *Мой гаспадар усё ўмеў рабіць, сталяравоў і бандаравоў.* Вецярэвічы Пух. *Бондар і сталяруя, і калёса робіць.* Пасека Ст.-Дар.

СТАЛЯ'РКА *ж.* 1. Сталярныя вырабы. *Сталярку як робяць?* Беняконі Воран. *Я сталярку рабіў, усё абрабіў.* Збляны Лід. 2. Сталярная работа. *Ён і сталярку робіць, і плотніцкую работу.* Збляны Лід. *Сталярка ні кончэна.* Номікі Бабіц.

СТАМАЎКА' *прысл.* Вертыкальна. *Стамаўка ставілі калоду або зробяць крыжаванца і пакладуць.* Дакудава Лід.

СТАМБЫ' *мн.* Кветаносныя сцяблы. *У стамбы ідзе цыбуля.* Навасёлкі Лід.; *параўн.* літ. *stámbas* 'тж'.

СТАМТУ'ЛЬ, СТАМТУ'ОЛЬ *прысл.* Адтуль. *Стамтуль паехала.* Старыя Трокі Трак. *Воны стамтуоль нэ прыдут.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *stamtąd*, бел. *адтуль* 'тж'.

СТАН I *м.* 1. Фігура. *Станайкая баба, усяго хватаіць, стан красівы.* Ністанішкі Смарг. ▽ *Дзе стан, там і сіла.* Гемзы Шальч. ◇ *У стан чалавека* — у рост чалавека. *У стан чалавека мяхі з бульбай.* Магуны Паст. 2. Верхняя палавіна сукенкі. *У сукенцы задоўгі стан.* Ністанішкі Смарг. *Кароткі стан.* Малахоўцы Бар. 3. Кавалак тканіны. *Маладуха*

*падарыла маткай* [свякроўцы] *стан.* Ёдлавічы Брасл. *Даўгі стан палатна.* Мярэцкія Глыб. *Маладой нада было і свякроўку накрыць станам, і дзяжу накрывалі станам.* Кураполле Паст. *Стан палатна на кашулю. Дай ты стан на кашулю.* Паляцкішкі Воран. *Адрэзала стан палатна на кашулю.* Вялікія Баяры Шчуч. *Стан — кусок палатна. Пашый сабе кашулю с стана.* Кіралі Шчуч. *Адрэзала стан палатна.* Бакшты Іўеў.

СТАН II *м.* Productівішча. *У бедным станя людзі расол ад сялёткі елі.* Руднікі Шальч.

СТАН III *м.* Панарад. *Стан калёс — уся цялега гэта.* Магуны Паст. *Стан калёс.* Ністанішкі Смарг. *Стан — камплект для воза.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Стан калёс, два станы калёс.* Чычалі Швянч.

СТАН IV *м.* Пастаўнік. *На стану паляжалі каровы. На стані сталі каровы.* Рудня Астравітая Чэрв. *На стану каровы, туды абед нясуць пастуху.* Азяраны Раг.

СТАНАВІ'СКО *н.* Месца, дзе стаіць вулей. *Станавіско — улей стаіць. Дзе пчолы стаяць, называецца станавіско.* Дзяніскавічы Ганц.

СТАНАВІ'ЦЦА, СТАНАВІ'ЦА, СТАНАВІ'ЦІСА *незак.* 1. Спыняцца. *Каля нас не станавіцца, паехаў.* Парэчча Гродз. 2. Пераставаць дзейнічаць. *Станавяцца часы.* Лісна В.-Дзв. *Ён дух с сябе хватаіць: стала станавіцца сэрцэ.* Кураполле Паст. 3. Ставіць ногі на што-н. *На панажэ нагамі станавіліса.* Васілевічы Гродз. *Станавілісь на скамейцы.* Вулька Гродз. 4. Размяшчацца. *У два рады становяцца.* Ахрэмаўцы Брасл. 5. З'яўляцца. *На вадзе бурбалкі станавяцца — будзіць дошч вялікі.* Вузла Мядз. *Бурбалкі становяцца на дошч.* Гемзы Шальч. 6. Уладкоўвацца. *Станавісь толькі на работу, толькі не лянісь.* Ахрэмаўцы Брасл. 7. Прыступаць да работы. *Звенавой станавілася.* Слабада Мін.

СТАНАВІ'ЦЬ *незак.* 1. Ставіць. *Станавілі старыя людзі даўно снапок.* Пасека Ст.-Дар. 2. Устанаўліваць. *Мы становім крэст, старыя мы, неяк так ляпей.* Малахоўцы Бар. 3. Прызначаць. *Станавіў яе за даярку.* Старыя Смільгіні Воран.

СТАНАВІ'ШЧА *н.* Тое ж, што і с т а н IV. *Станавішча — дзе кароў на падзён ставяць.* Кураполле Паст.

СТА'НАК *м.* У выразе: *Да станку* — да канца (жыцця). *Як працівны чалавек, то і да станку.* Альхоўцы Лях.

СТАНАУКА' *прысл.* Старчма. *Дзяржаць ручку станаўка, могуць цябе ўпароць.* Кіралі Шчуч.

СТАНАЎКІ' *прым.* Статны. *Станаўкая баба, усяго хватаіць, стан красівы.* Ністанішкі Смарг.

СТАНАЎНІ'К *м. бат.* Талакнянка. *Трэба напарыць станаўніку.* Граўжышкі Ашм. *Станаўнік падобны да брушніц.*

Старыя Смільгіні Воран. *Станаўнік ад падніму, лісты, як у ягадніку.* Бакшты Іўеў. *Станаўнік — ягаднік такі, лякарства, у леся расце, лісточкі, як у брушнічніку, пахош.* Гемзы Шальч.

СТАНАЎНІ'СКА *н.* Тое ж, што і с т а н IV. *Станаўніска і пастаўнік — дзе каровы стаяць.* Быстрыца Астр.

СТАНЕ'ЦЬ I *зак.* Патанчэць. *Цяпер станелі.* Вялікія Баяры Шчуч.

СТАНЕ'ЦЬ II *зак.* Патаннець. *Пачакай купляць, станеюць памідоры.* Пацаўшчына Дзятл.

СТА'НІК *м.* 1. *устар.* Ліфчык. *Дзеўкі прынасілі да мамы шыць станікі.* Ёдлавічы Брасл. *Станік на кашулю надзявалі.* Магуны Паст. *Раней станікі насілі.* Груздава Паст. *Станік з матэрыялу шылі, жэншчыны насілі.* Кемялішкі Астр. *Станік на кашулю ўскладалі.* Завельцы Астр. *Станікі шылі накшыя, зашпіліныя і памаршчаныя станікі.* Крэва Смарг. *Станікі насілі, як бузгалцяры.* Солы Смарг. *Станік на сарочку накладалі.* Стральцы Гродз. *Станікі насілі, на кашулю станік накладалі.* Новікі Гродз. *Станік на кашулю надзявалі.* Старыя Смільгіні Воран. *Станік зложыш на сябе — цяплей зразу.* Дакудава Лід. *Бабы станікі насілі, шнуровалі, не шыюць цяпер.* Малькуны Ігн. *Станік бабы насілі.* Гемзы Шальч. *Станіка собіе нового купіла.* Курашэва Чыж. 2. Безрукаўка. *Станікі на ваце шылі, с кажуха шылі.* Парэчча Гродз.; *парайн.* польск. *stanik* 'ліфчык'.

СТАНІ'НА' *ж.* Тое ж, што і с т а н I, 3. *Гэта станіна на кашулю, а гэта на рукавы.* Магуны Паст. *Станіна́ — кусок палатна на кашулю.* Груздава Паст. *Станіну́ палатна нявестка дарыла свякроўцы — кусок мэтры два.* Вузла Мядз. *Нада станіну́ палатна даць мацца.* Мярэцкія Глыб. *Падарыла станіну́ палатна на кашулю.* Ністанішкі Смарг. *Даравалі станіну́ палатна, кап пашыць кашулю бабя ці мушчыня.* Ракаўскія Швянч. *Застрыгаюць маладую, акрыюць яе станіно́й.* Крэва Смарг. *Пакрываюць на труну станіну́.* Быстрыца Астр. *У час васэля хто сцеліць пасцель, адразая станіну́ і кладзе на ложак. І месяць хлеп першы рас, трэба на дзяжу станіну́ класці.* Завельцы Астр.

СТАНО'ВІЦЦА *незак.* 1. Ставіцца. *А ячмень становіўся ў рады, па два снапы адзін да аднаго.* Альхоўка Навагр. 2. Уладкоўвацца. *На работу не становіцца.* Дэгшні Шальч. 3. Прыступаць да работы. *На дзевяць становіўся на работу.* Дэгшні Шальч. ◇ *Становіцца ў вачох* — узнікаць у зрокавых уяўленнях. *Так і становіцца ў вачох.* Альхоўцы Лях.

СТАНО'ВІЦЬ *незак.* 1. Тое ж, што і с т а́ в і ц ь 1. *Нідаўна хату становіў.* Рыбчына Віл. 2. Наладжваць. *Буду кросна становіць і ткаць.* Навасёлкі Свісл. 3. Гадаваць, выхоўваць. *Становілі дзяцей.* Рыбчына Віл.

СТАНО'ГА *ж.* Тое ж, што і с т а г а́ н І. *У вільготнасці бываюць станогі.* Месянцы Брасл.

СТАНО'ЖКА, СТАНО'ШКА, СТОНО'ШКА *ж.* Тое ж, што і с т а г а́ н І. *Station станошка сіва і нох многа, нох нізлічона ў станошкі.* Кіралі Шчуч. *У станошкі многа нох.* Дакудава Лід. *Станошкі ест.* Новікі Гродз. *Станошкі ў мокрум водзяцца.* Івашкаўцы Смарг. *Станошкі ў мокрым мейсцы.* Солы Смарг. *Станошка вядзецца, дзе макрыня, яны, як жужалкі, ношкаў многа.* Граўжышкі Ашм. *Станошкі ў вільгоці плодзяцца.* Кудзялянцы Шальч.

СТАНО'К *м.* 1. Прыстасаванне для віцця вяровак. *Станок, укладае тры кручка жалезных, на кажду сталку кручок, адным кручком закрапляе ўсе тры сталкі.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Прыстасаванне для намотвання нітак. *Станок цэўкі сукаць.* Ністанішкі Смарг. 3. Прыстасаванне для падвешвання нітоў. *Ніт вісіць на таком станку, у ім, у ніце, чапелкі, кацёлачкі.* Дзераўное Стаўб. 4. Прыстасаванне для рэзання саломы. *Рэзалі салому касою на станку.* Валеўка Навагр.

СТАПА'К *м.* Тое ж, што і с т а й н о́ 3. *Стапак — падстаўка лён трапаць.* Жылі Іўеў.

СТАПНУ'ЦЬ *зак.* Адпачнуць. *Пайду стапну, а тады пайду сена грабіць.* Граўжышкі Ашм. *Хоць адну мінутку стапнуў?* Бакшты Іўеў.

СТАПТА'ЦЬ *зак.* 1. Затаптаць. *Баімося, кап ні стаптала.* Альхоўка Навагр. ▽ *Не за то біта, што хадзіла ў жыта, а за то біта, што стаптала жыта.* Збляны Лід. 2. Знасіць. ▽ *Чорт лапці стаптаў, пакуль у пару сабраў.* Вузла Мядз.

СТАПЯ'К *м.* Ступа. *Былі стапякі — калотка выпяляна, у іх велькі таўкач быў, і ступай называлі.* Дакудава Лід.

СТА'РАВАЦЦЯ *незак.* Дажываць старасць. *Ня будзя пры кім старавацця.* Кіралі Шчуч.

СТАРАВЕ'РЫ *мн.* Тое ж, што і с т а л а в е́ р ы. *Тым местам стараверы ёсь.* Валынцы В.-Дзв.

СТАРАВІ'НА *ж.* Першы ўкос травы. *Не будзе старавіны, то будзе атава. Летась старавіны накасілі меней, а атавы — болей.* Пацаўшчына Дзятл.

СТАРАДА'ЎНЕЙШЫ *прым. выш.* Старажытнейшы. *Старадаўнейшыя гісторыі.* Крэва Смарг. *Старадаўнейшыя песні.* Старыя Смільгіні Воран.

СТАРАДА'ЎНІ, СТАРАДА'ЎНЫ *прым.* Старажытны. *Старадаўняя байка.* Ністанішкі Смарг. *У нас найбольш старадаўні закон.* Завельцы Астр. *Даўнейшую старадаўнюю песеньку пелі.* Навікі Лудз. *Быдла — слова старадаўная.* Дакудава Лід.; *параўн.* руск. *стародавний* 'тж'.

СТАРАДА'ЎНЯ *прысл.* Здаўна. *Мо да мяне, старадаўня звалі так.* Дружба Мін.

СТАРАДРЭ́ЎНІ *прым.* Тое ж, што і с т а р а д а́ ў н і. *Кросна — старадрэўнія названія.* Дакудава Лід.; *параўн.* руск. *древний* 'тж'.

СТАРАЖАВА́ЦЬ *незак.* Вартаваць. *Валоўнік там, ён старажуе скот адкормачны.* Пацаўшчына Дзятл. *Старажаваў на ферме.* Мыто Лід. *Кажду ноч старажавала.* Багушэвічы Бярэз. *Сын старажаваў мельніцы, быў сторажам.* Гемзы Шальч.; *параўн.* руск. *сторожить* 'тж'.

СТАРАЖО́ЎКА *ж.* Старожка. *Старажоўка там ёсць, ім нада своткі даваць.* Пераброддзе Міёр.

СТАРАЖО́ЎСТВА *н.* Вартаванне. *Ён на старажоўстве быў, вырабляў ей пенсію.* Малі Астр.

СТАРАЖЫ́ХА *ж.* Вартаўніца. *А яна старажыха.* Гемзы Шальч.

СТАРАЖЫ́ЦЬ *незак.* Тое ж, што і с т а р а ж а в а́ ц ь. *Адзін сторож старожыць.* Буды В.-Дзв. *Я дагэтуль старажыў, скажы, што мне дух вон!* Груздава Паст.

СТАРАЛЕ́С *м.* Стары лес. *Сарцовая смалістая ёлка, як старалес дзе ёсць.* Кураполле Паст.

СТАРАНА́, СТОРОНА́ *ж.* 1. Правая ці левая частка тулава. *Ей адабраўшы левую старану.* Малі Астр. 2. Адзін з бакоў матэрыі. *Гэта добрая, а гэта благая старана* [у тканіне]. Малі Астр. 3. Мясцовасць, край. *Ець у любую старану.* Чапаеўскі В.-Дзв. *З какіх старон яны аказаўшыся?* Месянцы Брасл. *С цёплых старон на саракі прылятае сорак птушак.* Завельцы Астр. *Што старана — называюць інакш.* Дэгшні Шальч. ∇ *Што старана, то і барана* — у кожнага свае звычаі. Ахрэмаўцы Брасл. 4. Адзін з процілеглых бакоў. *Занемонцы с той стараны Нёмана.* Вулька Гродз. *На тую сторану Шчары рускія стаялі.* Літва Лях. *Мы былі на тую сторану Рудаміны.* Гемзы Шальч. 5. Застаронак. *Адну старану налажыў сена, другую — саломы.* Кураполле Паст. *У гумне старана: у адной старане жыто паклаў, у другой — пшаніцу.* Навасёлкі Свісл. *У адрыне старана. Сена кідаюць у старану.* Парэчча Гродз. *Наклалі старану жыта.* Пацаўшчына Дзятл. *Старана—бок у гумне.* Вострава Маст. *Наклоў сторану снапоў.* Галубы Маст. *Поўна старана жыта ў таку.* Мішневічы Шум. *У гумне ў старану складалі.* Ракаўскія Швянч. *Старана жыта ў клуні.* Лука Нараўк. *Старану жыта налажыў.* Пасека Ст.-Дар. *Сено ў клуні на сторону клалі.* Смаляніца Пруж. 6. Група асоб, супрацьлеглая іншай. *Адзінаццаць чалавек з нашай стараны і адзінаццаць з яго.* Пярэкі В.-Дзв. *Дружбанты і дружкі з яго стараны і з яе стараны.* Кудзялянцы Шальч. 7. у знач. *прысл.* *старана́мі.* Па баках. *Яны старанамі паехалі.* Малі Астр.

СТАРАНІ́ЦА *ж.*, СТАРАНІ́ЦЫ *мн.* Тое ж, што і с т а -

р а н а́ 5. *У гумне стараніцы: складалі сена, салому. Торп у гумне, а выбіты — ток, а па бакох стараніцы, кап зярно не ляцела.* Быстрыца Астр. *Стараніцы ў гумне дзелалі, зярно, салому складалі.* Старыя Трокі Трак. *Стараніца — пустая, а як заложаць—торп. Стараніцы ў гумне, куды складалі збожа.* Руднікі Шальч.

СТАРА′НЛІВЫ *прым.* Дбайны. *Старанлівы господар вэсною нэ купляе жыта і картохэль.* Курашэва Чыж.

СТА′РАНЬКІ *прым.* Старэнькі. *Старанька бапка і прымала дзіця.* Дакудава Лід.

СТАРАРЭ′ЧЧА, СТАРАРЭ′ЧА *н.* Старое рэчышча. *Старарэчча—старое русло рэчкі завём.* Палік Барыс. *Старарэча мы завём.* Лісна В.-Дзв.

СТАРАРЭ′ЧЫШЧА *н.* Тое ж, што і с т а р а р э́ ч ч а. Мярэцкія Глыб., Рыбчына Віл. *Букі пазарасталі, і сталі старарэчышчы.* Беразіно Докш.

СТАРАСВЕ′ЦКІ *прым.* Тое ж, што і с т а р а д а́ ў н і. *Гэта старасвецкая песня.* Пярэкі В.-Дзв.

СТА′РАСЦЬ *ж.* Старасць. *Пад старасці не будзіш маршчавы.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Пры кім я старасць пражыву: ні дачкі, ні сястры німа.* Вузла Мядз. *Паміраюць не ад старасці, а ад балезні.* Саланое Віл. *Скора нас старасць засцігне.* Валеўка Навагр. ∇ *Старасць—не радасць, а косці не гнуцца.* Вузла Мядз.

СТАРАТЛІ′ВЫ *прым.* Тое ж, што і с т а р а́ н л і в ы. *Мой зяць старатлівы, заботлівы.* Малахоўцы Бар.

СТАРАЎЛІ′ВЫ *прым.* Тое ж, што і с т а р а́ н л і в ы. *Ён стараўлівы сільна.* Старыя Смільгіні Воран.

СТАРА′ЦЕЛЬНЫ *прым.* Тое ж, што і с т а р а́ н л і в ы. *Старацельны чалавек быў.* Ністанішкі Смарг.

СТАРА′ЦЦА *незак.* 1. Рабіць са стараннем. *Я стараюса каля каровы.* Стральцы Гродз. *Нада старацца: хто стараіцца, той і маіць. Карова стараецца скупсці.* Саланое Віл. *Мяне не было, ён стараўся, упруўляўся.* Мачаск Бярэз. *Як не старацца, то мець не будзеш.* Новыя Мацалі Варэн. *Людзі, як мухі, стараюцца.* Паляцкішкі Воран. 2. Прыкладаць намаганні. *Стараюцца адна адну пагубіць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Стараюся рабіць, а ўсё на месця.* Навасёлкі Лід. *Староўся да цёмна ўправіцца.* Мачаск Бярэз. *Стараюся сыраквашы кісляванькай выпіць, у мяне няма кіслаты.* Слабада Мін.

СТАРА′Я ДАРО′ГА *ж.* Закінутая дарога. *Старая дарога зарасла травою.* Стральцы Гродз.

СТАРА′Я ДЗЕ′ЎКА (ДЗЕ′ВА) *ж.* Тое ж, што і с т а́ л а я д з е́ ў к а. *Старая дзеўка, ня вышла замуш.* Быстрыца Астр. *Ходзіць да Алімці, яна старая дзеўка.* Малахоўцы Бар. ∇ *Лепш астацца маладою ўдавою, чым старою дзеўкаю.* Бакшты Іўеў.; *параўн.* руск. *старая дева* 'тж'.

СТАРА'Я РЭ'ЧКА *ж.* Тое ж, што і с т а р а р э́ ч ч а. *Там старая рэчка.* Стральцы Гродз.

СТАР'Ё *зб. н.* Старыя рэчы. Рыбчына Віл. *У нас усё стар'ё адаюць цыганам.* Ёдлавічы Брасл.

СТАРКАВА'ЦЬ *зак.* 1. Садраць на тарцы. *Гэлечка, табе старкаваць бульбу?* Малі Астр. *Старкуеш бульбы і наліваеш кішкі.* Завельцы Астр. *Як старкуець бульбу сырую?* Чычалі Швянч. *Бульбу старкуем, выцяснім — гэта клёцкі.* Ракаўскія Швянч. *Буракі атпару з лускай, абяру, старкую.* Старыя Трокі Трак. 2. Параніць. *Тарка вострая, як пацісніш, можа руку старкаваць.* Малькуны Ігн.; *параўн.* польск. *tarkować* 'тж'.

СТАРЛЫ'БІНА *м. экспр.* Стары чалавек. *Старлыбіна гэты ўсё панімаіць.* Ёдлавічы Брасл.

СТАРМА' *прысл.* Тое ж, што і с т а н а ў к а́. *Старма стаіць страмяка.* Пацаўшчына Дзятл.

СТАРНАВА'ЦЬ *незак. плыт.* Накіроўваць. *Гартоль старнуіць да берага.* Кураполле Паст.; *параўн.* польск. *sterować*>ням. *steuern* 'кіраваць'.

СТАРО'НАЧКА *ж. памянш.* да с т а р а н а́ 5. *Старонач-ку ў таку пакінуць на мякіны.* Кураполле Паст.

СТАРО'НКА *ж. памянш.* да с т а р а н а́ 5. *У старонкі клалі жыта і ячмень.* Кураполле Паст.

СТАРО'СЦЬ *ж.* Тое ж, што і с т а́ р а с ц ь. *Ат старосці ён ні бачыць.* Быстрыца Астр.

СТАРО'Я *н.* Мінулае. *Варочаяцца староя: цяпер усё доўгія спадніцы, маршчатыя.* Навасёлкі Лід.

СТАРУО'ТЕ *зб. н.* Старыя, зношаныя рэчы. *Всіе лахманы, старуоте, онучнікові оддала. На горыэ всё старуоте лежыт.* Курашэва Чыж.

СТАРУ'СЕНЬКІ *прым.* Вельмі стары. *Яго маці старусенька.* Талейкі Швянч.

СТАРУ'ХА *ж.* Старая. *Што старуха казала, то не пішэце!* Парэчча Гродз.; *параўн.* руск. *старуха* 'тж'.

СТАРУ'ШКА *ж. памянш.-ласк.* да с т а р у́ х а. *Сідзяць дзве старушкі і плачаць, што як падгадавалі ўнукаў, то цяпер не нада мы.* Вузла Мядз. *Кап была старушка, яна п пашыла, дзяцей дагледзіла.* Пераброддзе Міёр.

СТАРЧА'К *м.* 1. Галоўны корань. *Галоўны корань — старчак — глыбока пашоў у землю.* Альхоўцы Лях. *Старчак хваёвы.* Дзяніскавічы Ганц. *Старчак у яблыні такі доўгі, чуць выкапалі.* Мішневічы Шум.; *гл.* м а́ ц і́ ц а. 2. Дрэўца са зламанай вершалінай. *Былі хвойкі пасеканы, то на том старчаку зязюля куе.* Альхоўцы Лях.

СТАРЧАКА' *прысл.* Тое ж, што і с т а н а ў к а́. *Палящеў старчака хлапчак.* Бакшты Іўеў.

СТАРЧАКО'М *прысл.* Тое ж, што і с т а н а ў к а́. *Паля-*

*цела старчаком.* Бакшты Іўеў. *Вулі ставілі старчаком і лежаком.* Старыя Трокі Трак.

СТАРЧКІ' *мн. бат.* Страчкі. *Старчкі — высокія, растуць старчком.* Ёдлавічы Брасл.

СТА'РШЫ *прым.* 1. Старэйшы. *Старшы арай, сярэдні строій усё ў хаце.* Завельцы Астр. *Старшая дачка замуш вышаўшы.* Рудня Астравітая Чэрв. *Старшага сына на вайну былі ўзяўшы, ранены быў у далонь.* Масішкі Красл. *А што Варка за Верку старшы?* Вялікае Сяло В.-Дзв. *Ён многа старшы за яе.* Пераброддзе Міёр. *Яна сама старша за ўсіх дзяцей. За міне восем лет старшы.* Парэчча Гродз. *Яна старая, старша ад нас.* Навасёлкі Лід. *Старшы мяне дзевяць гадоў. Узяў восім лет старшую.* Гальшаны Ашм. *«Старшая?»—«Не, не саўсім старшая, а старэйшая за яе».* Палік Барыс. *Ён старшы за мяне на дзевяць лет.* Малькуны Ігн. *Яна старша за міне.* Дэгшні Шальч. 2. Старшы па прафесіі. *Старшы плытнік, ён прадукты закупляў, у канторы ўсе дакументы падпісваў.* Вузла Мядз. *Малады браў два дружбанта, адзін быў старшы дружбант. У маладой старша друхна.* Васілевічы Гродз. 3. У выразе: *Старшая алава* — начальнік. *Ён старшая алава.* Старыя Смільгіні Воран. 4. у знач. *назоўніка.* Старшы па званню. *Старшы прышов і казав, коб солдаты поросходілісе.* Курашэва Чыж.

СТА'РЫ', СТА'РЫ'Й *прым.* 1. Які дасягнуў старасці. *Стары́ чалавек.* Ёдлавічы Брасл. *Баба стара́я.* Мярэцкія Глыб. *Асталася ўдавой ні стара́я, а замуш не хацела. Ёсць стары́х людзей, што зусім ляжаць. С старо́га можна смяяцца, бо сам будзіш стары́, з калекі няможна смяяцца.* Малі Астр. *Ідзіце до Курніцкой старо́й.* Кемялішкі Астр. *Стары́ я, скора развітаюся.* Стральцы Гродз. *Стары́ дзет.* Вялікія Баяры Шчуч. *Прэці магазіна стары́ чалавек жыве.* Навасёлкі Лід. *Старо́го ніхто не любіць. Сама благая, стара́я.* Валеўка Навагр. *Стары́я ваўкі, абжогненыя.* Цяпінцы Віл. *Стара́я матка ідзець з роям — гэта, што пяяла, выходзіць з пчаламі.* Груздава Паст. *Стары́ чалавек.* Рудня Астравітая Чэрв., Гемзы Шальч. *Іна очынь ста́рая.* Пасіене Лудз. ∇ *Стары́й конь баразны ня спорціць.* Лісна В.-Дзв. *Пры стары́м пні добра агонь класці: ён курыць і курыць* — пры бацьках добра дзецям. Малі Астр. *Старо́го вераб'я на мякіне не правядзеш. Ці стары́, ці малы — нараўні. Стары́ друх лучшы новых двух.* Вузла Мядз. 2. Паношаны. *Стара́я хустка рвецца.* Ёдлавічы Брасл. *Тынкавалі стары́я хаты.* Магуны Паст. *Хата стара́я, страха мохам парасла.* Солы Смарг. *Дом ста́рый быў.* Рагулішкі Даўг. 3. Былы. *Ста́рая сяліба. Пойдзім на ста́рую сялібу паглядзець, дзе жылі.* Ёдлавічы Брасл. *Ста́ру моду думае вярнуць.* Хатынічы

Ганц. ∇ *Старо́я дабро не забываецца.* Вузла Мядз. 4. Леташні. *Ста́рую бульбу абразаюць, але кажуць—скабліць бульбу.* Мярэцкія Глыб. *Ста́рая цыбуля.* Граўжышкі Ашм. *Сала з'ялчэла, бо старо́е.* Солы Смарг. *Яна па поўніцы есь староя сена.* Малі Астр. 5. у знач. *назоўніка.* Хто стары. *Стары́х і загара не бярэ.* Плябанцы Ашм. *Стары́ жыў, быў палукашак у яго.* Чуркі Ашм. *Два стары́я жылі.* Саланое Віл. *Стары́ за мною аж дохне.* Валеўка Навагр. *Стары́я расказвалі: былі курныя хаты бес каміноў.* Збляны Лід. *Стары́я дажываюць свой век.* Навасёлкі Лід. ∇ *Ста́рый хужы малага, як закапрызіць — не ўспакоіш.* Ахрэмаўцы Брасл. *Стары́ каля маладой, як медная манета каля залатой.* Навадворшчына Мін. *Старо́га і кроў ня грэіць.* Вузла Мядз. 6. у знач. *назоўніка.* Муж. *Мой стары́ прыехаўшы ад сына.* Магуны Паст. *Я казала і на старо́га, і на старыка.* Парэчча Гродз. *Мой стары́й не хацеў.* Баброўнікі Гарад. 7. у знач. *назоўніка ста́рая ж.* Тое ж, што і с т а р у́ х а. *Куды, ста́рая?* Гальшаны Ашм. 8. у знач. *назоўніка стара́я ж.* Жонка. *Стары жыў, быў палукашак у яго, пасадзіў стару́ю і паехаў.* Чуркі Ашм. 9. у знач. *назоўніка стары́я мн.* Бацькі. *Даўней стары́я пры дзіцях жылі, а цяпер дзеці ня хочаць жыць са стары́мі.* Вузла Мядз. *Добра, яе ёсць стары́я, не паўміраўшы.* Паляцкішкі Воран. ◇ *У старо́м веку* — даўней. *У старо́м веку шукалі вядзьмака, кап ён адрок, калі ўраклі.* Слабада Мін.

СТАРЫ́ ДЗЯЦЮ́К *м.* Стары халасцяк. *Стары дзяцюк астаецца, як ня жэніцца.* Солы Смарг.

СТАРЫ́ЗНА *зб. ж.* Тое ж, што і с т а р у о́ т е. Мярэцкія Глыб., Альба Нясв., Лапічы Асіп., Рудня Чэрв. *Пашукай якой старызны мне на анучы.* Ахрэмаўцы Брасл. *Дай мне якой старызны, я папраўлю порткі.* Кіралі Шчуч. *Назбірала старызны, трэба анучніку аддаць.* Старыя Смільгіні Воран. *Старызны панарэзвая і тчэ палавіке.* Малахоўцы Бар. *У мяне старызны багато.* Дзяніскавічы Ганц.; *парайн.* польск. *starzyzna* 'тж'.

СТАРЫ́ЗНІНА *зб. ж.* Тое ж, што і с т а р у о́ т е. *Старызніна — старое ўсё.* Пасека Ст.-Дар.

СТАРЫ́ЗНЬ *зб. ж.* Тое ж, што і с т а р у о́ т е. *Старызнь выкінула на шуметнік.* Мішнэвічы Шум.

СТАРЫ́К I *м.* 1. Тое ж, што і с т а́ р ы́ 5. *Старыкоў не дапускаюць да печы.* Месянцы Брасл. *І старыком нада работаць, вэсэлей на рабоці.* Новыя Мацалі Варэн. *Старыкі нашы лапочаць папросту.* Відаўцішкі Вільн. 2. Тое ж, што і с т а́ р ы́ 6. *Дзе мой старык? Хіба што зрабілася?* Парэчча Гродз.; *парайн.* руск. *старик* 'тж'.

СТАРЫ́К II *м.* Тое ж, што і с т а р ы́ м е́ с я ц. *Старык— гэта ўжо споўната, віташок, ён стары.* Рагулішкі Даўг.

СТАРЫ'К III *м.* Тое ж, што і с т а р а р э́ ч ч а. *Старык высах за лета, твань, ваніць.* Мачаск Бярэз. *На лугу старыкі ё.* Азяраны Раг.

СТАРЫ' КАВАЛЕ'Р *м.* Тое ж, што і с т а р ы́ д з я ц ю́ к. *Стары кавалер адзін жыў.* Гальшаны Ашм. *Стары кавалер ён.* Завельцы Астр.

СТАРЫКО'ВЫ *прым.* Старэчы. *Старыковыі лета. Я не дажыву старыковых лет.* Скрудалена Даўг.

СТАРЫ' МЕ'СЯЦ *м.* Ветах. Жодзішкі Смарг., Дзянііскавічы Ганц. *Стары месяц свеціць зраня да дня.* Стральцы Гродз. *Як адбывае — стары месяц.* Пацаўшчына Дзятл. *На стары месяц калоць нада.* Старыя Трокі Трак.

СТАРЫНА' *ж.* 1. Старадаўнасць. *У старыну мала было скрыняў, а кублы былі.* Мярэцкія Глыб. *У нас старына.* Курашэва Чыж. 2. Тое ж, што і с т а р а р э́ ч ч а. *У той старыне вада перасохла і рыбы маленькія падохлі.* Галубы Маст. 3. Нізкае, сырое месца. *Балота там і старына. Старына, дзе нізка, дзе арэшнік, клён, дуб расцець, там і сныткy знойдзеш.* Ухвала Круп.; *параўн.* руск. *старина* 'старадаўнасць'.

СТАРЫ'НЕЙШЫ *прым. найвыш.* Вельмі стары. *Яна скажа старынейшо слово.* Малахоўцы Бар.

СТАРЫ'ННЫ, СТАРЫ'НЫ *прым.* 1. Старадаўні. *Гэта старынная саха.* Кемялішкі Астр. *Яна са старыннага знае.* Пацаўшчына Дзятл. *Старынны сундукі тэпэр выкідают і купляют шафы.* Курашэва Чыж. *Старыная слова.* Кураполле Паст. *Гэта старыная пагаворка.* Саланое Віл. 2. Стары. *Удуха—старынная балезня.* Дэгшні Шальч.; *параўн.* руск. *старинный* 'старадаўні'.

СТАРЫ'ННЫ-РАССТАРЫ'ННЫ *прым.* Вельмі стары. *Старынны-расстарынны вабік — пшчол прываблівауь.* Месянцы Брасл.

СТАРЫ'НУШКА *ж. экспр.* Хто стары. *Мы ўжо, старынушка, па-другому называім.* Вялікае Сяло В.-Дзв.

СТАРЫ' ХЛО'ПЯЦ *м.* Тое ж, што і с т а р ы́ д з я ц ю́ к. *Жыве дзет адзін, стары хлопяц, ні жаніўся.* Малахоўцы Бар.

СТАРЫ'ЦА *ж.* Тое ж, што і с т а р а р э́ ч ч а. *Рыба ўцякае, дзе няма цячэння, у старыцу.* Валеўка Навагр.

СТА'РЫЦЦА *незак.* 1. Старэць. *І старыцца дзеўка, абідна, што бралі, і асталася дзеўкай.* Саланое Віл. 2. Тое ж, што і с т а́ р а в а ц ц я. *Німа за кім старыцца.* Саланое Віл. ∇ *Старыцца — вучыцца* — з гадамі прыходзіць пазнанне і вопыт. Лоск Валож.

СТАРЫ'Я ДНІ *мн.* Тое ж, што і с т а р ы́ м е́ с я ц. Жылі Іўеў., Кіралі Шчуч. *Ужэ старыя дні насталі.* Каменка Стара Сакол. *На старых днях сон несправядлівы.* Ялова Пруж.

СТАРЭ'Й *прым.* Старэйшы. *Старэй міне дзесяць гадоў.* Солы Смарг. *Яна сем гадоў мяне старэй.* Кузьмічы Люб.

СТАРЭ'ЙШЫ *прым.* 1. *выш.* да с т а́ р ы 1. *Ён стары, яна яшчэ старэйшая.* Палік Барыс. 2. Тое ж, што і с т а́ р ш ы 1. *Сястра старэйшая ў Польшчы.* Солы Смарг. *Старэйшая дачка мела харошу голаву.* Навасёлкі Лід. *Мая матка за Міколку старэйшая.* Ахрэмаўцы Брасл. *Я хадзіла ўжо бабай, старэйшае за яе.* Груздава Паст. *Старэйша за яе.* Гальшаны Ашм. *Тэкля гот старэйша за мяне, Зося два гады старэйша за мяне.* Вецярэвічы Пух. *Ён дзесяць лет старэйшы.* Ёдупка Шальч. 3. у знач. *назоўніка старэйшыя.* Дарослыя. *Старэйшыя насілі кашулю з рукаўцамі.* Завельцы Астр. *Калаўротам пралі, верацяном, старэйшыя хто пралі.* Слабада Мін.

СТАРЭ'НЬКІ *прым. памянш.-ласк.* Старэнькі. *Прыходзіць старычок старэнькі.* Гальшаны Ашм. *Старэнька баба ідзе.* Старыя Смільгіні Воран. *Бабушку білі старэнькую.* Паляцкішкі Воран. *І адна, і старэнькая, і як чыста!* Саланое Віл. *Старэнькі дзет.* Альхоўцы Лях.

СТАСАВА'ЦЦА *незак.* Адпавядаць. *Наш разгавор не стасуецца да Ашмянскай гаворкі.* Перабродзе Міёр.; *параўн.* польск. *stasować się* 'тж'.

СТАСУ'НАК *м.* Згода. *У добрым стасунку яны жывуць.* Барок Стаўб.; *параўн.* польск. *stosunek* 'тж'.

СТАТАВІ'НКА *ж. памянш.* Бакавая палавіна красён. Грыкені Вільн.

СТА'ТАК І, СТА'ТОК *м.* Статак. *Там мох бальшы, статак ходзіць, няма журавін.* Ёдупка Шальч. *Пастух погнаў статок.* Азарычы Пін. ▽ *Меўшы статак, трэба мець і ўпадак* — калі маеш жывёлу, непазбежны страты. Саланое Віл.

СТА'ТАК ІІ *м.* Пасудзіна. *У статак уліеш, гатуецца і дальеш вадэ.* Новікі Гродз.; *параўн.* польск. *statki* 'посуд'.

СТА'ТАЧАК *м. памянш.* да с т а́ т а к ІІ. *Пакрушым у статачку грыбэ на маленькія кусочкі.* Новікі Гродз.

СТА'ТІ *гл.* СТАЦЬ

СТА'ТНЫ *прым.* Стромы. *Статны берах.* Асавец Віл.; *параўн.* літ. *stãčias* 'тж'.

СТА'ТОК І *м.* Інструмент. *Коб міев статкі, то сам столярку зробів бы.* Курашэва Чыж.

СТА'ТОК ІІ *гл.* СТА'ТАК І

СТАТУ'Й *м.* 1. Статуя. *Статуй выліты з металу ці выбіты з камня. Яны рабілі статуя, у іх на дварэ стаяў, для іх ён уродзя быў святы.* Рыбчына Віл. ◇ *Як статуй* — нерухома. *Стаіць, як статуй.* Магуны Паст. 2. Манекен. *Статуй у вітрыне стаіць.* Мярэцкія Глыб.

СТАТУ'Я *ж.* 1. Тое ж, што і с т а т у́ й 1. ◇ *Што (як) статуя* — *гл.* с т а т у́ й. *Але ш ты стаіш, што статуя.* Кіралі

Шчуч. *Стаіць, як статуя.* Пацаўшчына Дзятл. 2. *перан. пагард.* Пра жывёлін, птушак, якія ў нерухомай позе чакаюць ежу. *Прыйшлі статуі* [кураняты], *а ты кармі іх, ненасытных.* Мішневічы Шум.

СТАЎ I *м.* 1. Сажалка. Мярэцкія Глыб. *Пан ставы капаў, карпы гадаваў.* Жодзішкі Смарг. *Стаў — вадаём, выкапаны на сухадоле.* Крэва Смарг. *Ставы — там рыбы, карпы ўсякія.* Асавец Віл. *Стаў выкапаюць, рыбу разводзяць.* Навасёлкі Лід. *Дзелалі ставы і гадавалі карпа.* Альхоўка Навагр. *Там быў стаў вялікі.* Гемзы Шальч. 2. Запруда. Мярэцкія Глыб., Рыбчына Віл. *У нас стаў у Петраполі. Стаў капаяцца, дзе працякая рэчка.* Быстрыца Астр. *Ставы для рыбы ў памешчыкаў былі.* Масілавічы Сл. *Стаў — дзе находзіліся мельніцы. Стаў застаўляюць, штоп застаўлена вада.* Дакудава Лід. *Вот возяра нібальшоя, яго запрудзяць — гэна і стаў.* Вязынка Маладз. *Стаў — дзе вадзяноя места, нізіны і трохі паткапаюць.* Індра Красл.

СТАЎ II *м.* Панарад. *Стаў — цялега бес калёс, а калёса надзенуць, то называюць вос.* Любішчыцы Івац.

СТАЎБУ'Н I, СТОЎБУ'Н *м.* 1. Кветаноснае сцябло. *У шчаўі стаўбуны, у цыбулі стаўбуны пашлі. Цыбуля ў стаўбуны ідзе.* Малі Астр. *Капуста пашла ў стаўбуны. Стаўбун — цвет у цыбулі.* Крэва Смарг. *Капуста ў стаўбунэ ідзе, у пужаке.* Парэчча Гродз. *Брушка пашла ў стаўбун. Палавіна буракоў пашла ў стаўбунэ.* Мсцібава Ваўк. *Ідзе цыбуля ў стаўбунэ, калі не выдыміш.* Збляны Лід. *Капуста пашла ў стаўбуны. Цыбуля пашла ў стаўбуны.* Гемзы Шальч. *Цыбуля пашла ў стаўбуны.* Бенякені Воран., Быстрыца Астр., Жылі Іўеў., Грыкені, Відаўцішкі Вільн. *У стаўбунэ цыбуля ідзе.* Пацаўшчына Дзятл. *Стаўбуны ў цыбулі.* Старыя Смільгіні Воран. *Шчаўя пашло ў стаўбунэ.* Вецярэвічы Пух. *Стаўбуны — у цыбулі цвяты.* Старыя Трокі Трак. *Стоўбуны ў цыбулі, з яго насенё выходзіт.* Лука Нараўк. 2. Сцябло. *Галоўку* [сланечніку] *зрэзаць, стаўбун — на дарогу.* Гемзы Шальч. ∇ *Стаіць, як стаўбун.* Пацаўшчына Дзятл. 3. Дуплаваты караняплод. *На дупло пойдзя бручка — стаўбун.* Крэва Смарг.; *параўн.* літ. *stúobas* 'сцябло'.

СТАЎБУ'Н II *м.* Кадаўб. *Стаўбун зробіш з дуплаватай сасны аба з альхі, з дуба, асіны.* Рыбчына Віл.

СТАЎБУ'Н III, СТАЛБУ'Н *м.* 1. Гарлач. *Стаўбун—гарлач на малако.* Мярэцкія Глыб. *Стаўбуны без ручак, малако ў іх лілі.* Ёдлавічы Брасл. *Стаўбун малака прынесла.* Кураполле Паст. *Гарлач з ручкай на малако, а цяпер завуць стаўбун.* Груздава Паст. *Гліняные стаўбуны. Стаўбун для малака (без ручак).* Індра Красл. *У тым стаўбуне не бяры — малодзіва.* Філіпаўцы Красл. *Сталбуны для малака былі з ручкам*

*і без ручкі.* Пасіене Лудз. 2. Гліняны гаршчок з ручкамі. *З ручкамі гліняныя гаршкі называлі ў нас стаўбун.* Ракаўскія Швянч.

СТАЎБУ'НІК I *м. памянш.* да с т а ў б у́ н I, 2. *Стаўбунік у званочку сакаўны.* Альхоўцы Лях.

СТАЎБУ'НІК II *м. памянш.* да с т а ў б у́ н III, 1. *Ладўшка без вуха — то стаўбунік.* Баброўнікі Гарад.

СТАЎБУНО'К I *м. памянш.* Кветаножка. *Саснулькі — невялікія краскі на стаўбунках.* Быстрыца Астр. *Стаўбунок у бапкі* [трыпутніку]. Галубы Маст.

СТАЎБУНО'К II, СТАЛБУНО'К *м. памянш.* да с т а ў б у́ н III, 1. *Стаўбунок — гліняны гарлач на малако.* Ахрэмаўцы Брасл. *Стаўбункі пад малако і малыя і вялікія.* Яніна В.-Дзв. *У стаўбунок мёт злівалі.* Валынцы В.-Дзв. *Сталбункі ў два літры, з ручкай і без ручкі.* Навікі Лудз.

СТАЎБУНО'ЎКА *ж.* Мужчынская шапка з аўчыны. *Стаўбуноўка — шапка ў мушчын з барашка.* Дакудава Лід. *Стаўбуноўка — шапка такая вострая.* Слабада Мін.

СТАЎБУНО'ЧАК *м. памянш.* да с т а ў б у́ н III, 1. *У стаўбуночках малако ставілі.* Рагулішкі Даўг.

СТАЎБУ'НЧЫК I, СТАЎБУ'НЬЧЫК *м. памянш.* да с т а ў б у́ н I, 1. *Стаўбунчык расце на малачаі.* Гемзы Шальч. *У чарнагалоўкі стаўбуньчык чорны.* Пацаўшчына Дзятл.

СТАЎБУ'НЧЫК II *м. памянш.* да с т а ў б у́ н III, 1. *Стаўбунчык з адным вушкам, высакаваценькі.* Солы Смарг.

СТАЎБУ'Р *м.* 1. Тое ж, што і с т а ў б у́ н I, 1. Відаўцішкі Вільн. 2. Тое ж, што і с т а р ч а́ к 2. *Стаіць у лесе стаўбур, верх бурай зломаны.* Кураполле Паст. *Стаўбур — зломаная бурай дрэва. Стаўбуроў напілаваў на дрова. Стаўбуры ад буры сільнай.* Руднікі Шальч.; *параўн.* літ. *stuobr̃ys* 'сцябло'.

СТА'ЎКА I *ж. пчал.* Невялікі вулей для прываблівання пчол. Рыбчына Віл., Мярэцкія Глыб., Рудня Астравітая Чэрв. *Стаўку паставяць, у пчолах есць разветка.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Стаўка — кусок выразаецца з дупляватага дзерава. У гэтай стаўца іск лётаіць, далжон рой прыйсці.* Груздава Паст. *Паставілі стаўку на пчолы на дрэва.* Саланое Віл. *Дзерава бальшое, нет дупла, пастаў стаўку — і яны налазяць* [пчолы]. Беразіно Докш.

СТА'ЎКА II *ж.* Малая ўкладка снапоў на полі, бабка. *Снапы ставілі ў стаўкі.* Рыбчына Віл.

СТА'ЎЛЕНЫ *дзеепрым.* Пабудаваны. *Яшчэ бэз пілы хата стаўлена.* Руднікі Шальч.

СТАЎЛЯ'ЦЬ I *незак.* 1. Тое ж, што і с т а́ в і ц ь 1. *Трэба дом кончыць стаўляць.* Саланое Віл. *Стаўлялі ток.* Груздава Паст. *Пад адну крышу некалі будынкі стаўлялі.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Тое ж, што і с т а́ в і ц ь 3. *Стаўляям чупкі лёну па пяць жмень.* Магуны Паст. *Нада ісці снапы*

*стаўляць*. Груздава Паст. *Буду заўтра лён стаўляць у лазню, кап пасох*. Рыбчына Віл. *Стаўлялі кулёў у лазні*. Ракаўскія Швянч. 3. Тое ж, што і с т а́ в і ц ь 6. *Дзеўкі шклянкі стаўляюць на стол*. Малахоўцы Бар. *Нада стаўляць малако ў цёплая места, каб адлучылася смятана*. Вялікія Нястанавічы Лаг. *У печы дровы палаюць, стаўляй чыгуны. Стаўляйця на воз пляцень, каб не сыпалася бульба*. Азяраны Раг. 4. Падкладаць пад што-н. *Дайней стаўляе крыжакі пад дзешку*. Ракаўскія Швянч.

СТАЎЛЯ'ЦЬ II *незак*. Пакідаць. *Гаварыў, што стаўляў у Гомялі, у сястры*. Дакудава Лід.; *парайн*. руск. *оставлять* 'тж'.

СТАЎНІ'ЦА *ж*. Вялікая бочка для захавання збожжа. *У стаўніцу сыпалі жыто, ячмень, авёс — усё зярно. Стаўніца — велька бочка*. Стральцы Гродз.

СТАЎНЯ' *ж*. 1. Бочка для квашанай капусты, буракоў і іншай агародніны. *Стаўня капусты. Ці злажыла стаўню бацвіння? І буракі складалі: рад буракоў і рад пучкоў бацвіня і так слаямі складалі. Стаўня для варыва*. Кураполле Паст. 2. Тое ж, што і с т а ў н і́ ц а. *Стаўня ў варайні стаіць, вялікая бочка, як цэбар, без вушэй, туды насыпаюць зярно альбо муку*. Ракаўскія Швянч.

СТАЎПЕ'Ц *м*. 1. Слуп. *Залез на стаўпец*. Альхоўцы Лях. *Стаўпец у варотах е, стаўпцэ ля варот*. Дзяніскавічы Ганц. 2. Дэталь у калаўроце. *У калаўроце два стаўпцы знізывающца і робіцца калаўрот*. Чуркі Ашм. 3. Палена, кругляк. *З тоўстай хвоі адрэзаў кавалак для лучыны — і стаўпец. Нарэзаў стаўпцоў на лучыну*. Кіралі Шчуч. 4. Стаўпец. *У стаўпец зубы ўстаўляюць*. Жодзішкі Смарг. *Стаўпец у граблях, зубы ўстаўлялі*. Стральцы Гродз. *Стаўпец — да грабляў галоўка, і туды зубы ўбіваюць*. Завельцы Астр. *Калодачка ў граблях— стаўпец*. Масілавічы Сл. *Стаўпец — што зубы ўстаўляюць*. Малахоўцы Бар. *У стаўпец зубэ ўстаўлялі*. Пацаўшчына Дзятл. *Стаўпец у граблях*. Збляны Лід., Кузьмічы Люб. *Стаўпец у граблях, дзе зубы забітыя*. Дзяніскавічы Ганц. *А вы й ня ведаяця?! Ручка — грабілна, а дзе зубы — стаўпец*. Вязынка Маладз. *Стаўпец — эта дзе зубцы ў граблях*. Глівін Барыс. *Стаўпец — калодачка ў граблях, куды набіваюць зубцы*. Палік Барыс. *Стаўпец у граблях, зубы ўбіваюцца*. Рудня Чэрв. *У стаўпец убіваюць зубы*. Пасека Ст.-Дар. *Стаўпец у граблях для насаткі зубоў*. Ісерна Слуц. 5. Падстаўка. *Стаўпец — патстаўкі пат вітуху для зматвання нітак. Пастаў вітуху ў стаўпец!* Рыбчына Віл. 6. Прыстасаванне для трапання ільну. *Стаўпец — калодка, на якой трэплюць лён*. Масілавічы Сл. *Стаўпец — на ём трапашкаю трэплям*. Міратычы Карэл. *Стаўпец е, што трапаць лён. Бывая шырокі стаўпец*

*на трох ношках.* Альхоўцы Лях. 7. Станок, на якім рабілі ніты. *Стаўпец — станок, што ніты рабілі.* Саланое Віл.

СТАЎПІ'ЦЦА, СТО'ЎПІЦЦА *зак.* 1. Стоўпіцца. *Стаўпілася многа людзей.* Ёдлавічы Брасл. *Народу куча стоўпіцца.* Чычалі Швянч. 2. Змясціцца. *Можна стоўпіцца ў адной хаці: і на пні многа людзей танцавалі.* Мсцібава Ваўк. *Дзе ш яно стоўпіцца? Ліпа была — у сярэдзіне чалавек бы стоўпіўся.* Саланое Віл.

СТАЎПІ'ЦЬ *незак.* Узнімацца ўверх слупам. *Пыл стаўпіць.* Дзяніскавічы Ганц.

СТАЎПО'К *м. памянш.* Слупок. *Даўней стаўпкі пад ізруп ставілі.* Янова Рас.

СТАЎПЯЧО'К *м.* 1. *памянш.* Невялікая тарпа. *Налажылі стаўпячок ярыне́.* Вялікія Баяры Шчуч. 2. Грубка. *Стаўпячок — печ у комнаце.* Дакудава Лід.

СТАЎЦЫ' *мн.* Аснова ткацкага станка. *У кроснах стаўцы і стацівы называяць.* Дэгшні Шальч.

СТАЎЧЫ' *зак.* 1. Патаўчы. *Стаўкла бульбу.* Старыя Смільгіні Воран. *Бульбу стаўкуць, туды яйка, малака — каша смачная.* Завельцы Астр. 2. Таўкучы ачысціць ад шалупіння. *Крупу ў ступе стаўчэм.* Саланое Віл. *Гушчу стаўчы с круп нада.* Вялікае Сяло В.-Дзв.

СТАЎЧЫ'СЯ *зак. экспр.* Сабрацца. *Усе работы стаўкліся разам — не магу справіцца.* Ёдлавічы Брасл.

СТАФА'НАЎКА *ж.* Стаханаўка. *Я хаджу ў калхос жаць і з'яўляюся стафанаўкай.* Макуці Іўеў.

СТАХІ'Р *м.* 1. Прыстасаванне з сукаватых тонкіх ялін, на якім сушылі сена і інш. *На стахіры паставілі канюшыну.* Жылі Іўеў. 2. Стажок. *Гарох складалі толькі ў стахір.* Жылі Іўеў.

СТАЦВІ'ННІ *мн.* Тое ж, што і с т а ў ц ы́. *Стацвінні стаяць, навой накладаюць на стацвінні.* Солы Смарг.

СТАЦЁВА *мн.* Тое ж, што і с т а ў ц ы́. *Стацёва не такія, як варстат.* Слабада Мін.

СТАЦІ'ВЫ', СТО'ЦІВЫ *мн.*, СТАЦІВА' *ж.* Тое ж, што і с т а ў ц ы́. *Стаціва ат красён.* Вострава Маст. *У кроснах дзве стаціве́.* Баброўнікі Гарад. *Стацівы з дзерава зроблены: ёсць ніты, бёрда купляліся густыя, навоі.* Падгаі Мін. *Стацівы — бакі ў кроснах.* Дакудава Лід., Масілавічы Сл. *Стацівы ў краснах.* Старыя Трокі Трак. *Стацівы ў краснах вялікія.* Гемзы Шальч. *У кроснах стацівы. Адна стаціва́ стаіць.* Руднікі Шальч. *У варстаце стоцівы. Прынясі адну стаціву, дзве стоцівы.* Кіралі Шчуч. *Даўней былі стацівы, а потым сталі варстаты.* Міратычы Карэл. *Стоцівы — бакі ў кроснах.* Лука Нараўк.

СТА'ЦЦА, СТА'ЦЦЯ *зак.* Здарыцца. *Сын кавалерам памёр, што яму сталася — не знаім.* Ахрэмаўцы Брасл. *Што ш*

*гэто сталосё дзе?* Мсцібава Ваўк. *Нешта яму ў дарозі сталася. Чакаем, а яго німа, што з ім зрабілася?!* Кіралі Шчуч.

СТА'ЦЫЯ *ж.* Станцыя. *На стацыі ест лазня.* Парэчча Гродз.; *параўн.* польск. *stacja* 'тж'.

СТАЦЬ, СТА'ТІ *зак.* 1. Спыніцца. *Ідзі, чаго стаў мне пад ногі, пад рукі?* Жылі Іўеў. *Тут стаў немец, а па тую сторану Шчары стаялі рускія.* Літва Лях. 2. Замерзнуць. *Возяра стала, зацягнула тонкім лятком.* Ёдлавічы Брасл. *Мядзельская возіра ні станіць, пакуль чалавек не ўтопіцца.* Вузла Мядз. *Нёман стаў.* Новікі Гродз. *Стала ўжо рэчка.* Солы Смарг. 3. Спыніць ход (пра механізм). *Зыгарак стаў, тэрас яка гадзіна?* Каменка Стара Сакол. 4. Стаць куды-н. *На пень стань, то дзік галавы не падымя, не паглядая.* Дэгшні Шальч. 5. Пачаць. *Я ўжо тут як стала са скатом хадзіць, дык вам было чуваць.* Чапаеўскі В.-Дзв. *Яшчэ хужа стаў відзець. Напаіла змяёй і стаў відзець. Мы сталі крычаць. Сталі яму пра гэта гаварыць. Сталі гулять сабе.* Ахрэмаўцы Брасл. *Як станіць ехаць, увідзіць агонь.* Кураполле Паст. *Стаў вучыць даіць.* Плябанцы Ашм. *Сталі будаваць хату.* Гальшаны Ашм. *Сталі даходзіць гэта дзела.* Сасноўка Смарг. *Паіла дзіця маслянкай, і яно папраўілася, стала расці.* Солы Смарг. *Сталі разбудоўвацца. Пўзьней раменем сталі абіваць абіякі.* Васілевічы Гродз. *Я стала худзець. Стала яна гаварыць. Стань іх* [пчол] *вадой ліць, яны падымяцца ўверх.* Саланое Віл. *Болі сталі сціхаць.* Мыто Лід. *Сталі ўдабрэння даваць.* Дзераўное Стаўб. *Стоў пасціць.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Як стане балець, то тады ўжэ ўсё.* Баброўнікі Гарад. *Я туолечкі став косіті, а дошч пачав іті.* Курашэва Чыж. 6. Пачацца. *Кагда рэвалюцыя стала, мы к рабочым прысаідзініліcь.* Ахрэмаўцы Брасл. 7. З'явіцца. *Сталі лужы, не высыхаюць доўго на дарозе.* Дзяніскавічы Ганц. *Калёсы на жалезным хаду сталі.* Латыгаль Віл. 8. Уладкавацца. *Нейдзя стала п на работу.* Крэва Смарг. *Стаў на рабоці.* Старое Сяло Зэльв. 9. Здарыцца. *Яйкам нічога ні станіць.* Буды В.-Дзв. 10. Зрабіцца. *Людзі сталі чартамі.* Жылі Іўеў. *Пажаніўся, быў люцеранін — стаў праваслаўны.* Дарава Лях. 11. Атрымаць пасаду, званне. *Быў яфрэйтарам, а стаў начальнікам дзівізіі.* Дарава Лях. 12. з адмоўем: *не (ні) стаць.* Знікнуць. *Меня не было — ні стала ні каня, ні каровы, і папробуй як жыць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ім каровы ні стала.* Руднікі Шальч. *Цяпер жаб не стала ў лугах.* Малі Астр. ◇ *Стать на меру* — стаць на месца. *Костка шалт-шалт, то стала на меру.* Малі Астр.

СТАЦЬВІ'НЫ' *мн.*, СТАЦЬВІ'НА' *ж.* Тое ж, што і с т а ў ц ы́. *Ставяць стацьвіны і кладуць навой.* Ёдлавічы Брасл. *У кроснах дзве стацьвіны.* Опса Брасл. *У краснах стацьвіны.* Магуны Паст. *Стацьвіны з боку кроснаў.* Жодзішкі Смарг.

*Стацьвіны ў кроснах две, у бакох у стацьвінáх дзюры.* Малі Астр. *Нясі стацьвіну!* Навікі Лудз.

СТАЦЬКО'М *прысл.* Стоячы. *Я паем стацьком, нада мне куды ісці.* Ёдлавічы Брасл.; *параўн.* літ. *stačiai* 'тж'.

СТАЦЬМА' *прысл.* Тое ж, што і с т а н а ў к á. *Стацьма ставілі па дзесяць снапоў — мэндлі.* Старыя Трокі Трак. ◇ *Стацьма стаяць.* Рыбчына Віл.; *параўн.* літ. *stačiai* 'тж'.

СТАЦЬЯ' *ж.*, СТАЦІ'І *мн.* Тое ж, што і с т а в і н á. *У кроснах стаціі. Стацья паламалася — не наўеш.* Кудзялянцы Шальч.

СТАЦЮ'К *м.* Тое ж, што і с т á ў к а II. *Бабы ставяць стацюкі — работы хватала: развярні стацюкі, перасушы іх. Стацюкі па дзесяць снапоў, ставілі ўсе збожжавыя культуры. Снапоў наложылі, і бабы самэя ставіць стацюкі.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* літ. *stačiùkas* 'тж'.

СТА'ЦЯКА *прысл.* Тое ж, што і с т а н а ў к á. *Стацяка дошкі ставяцца.* Гемзы Шальч.; *параўн.* літ. *stãčiai* 'тж'.

СТАЧЫ'ЦЬ *зак.* ◇ *Стачыць верацёны* — зматаць. *Нада стачыць верацёны.* Кураполле Паст. *Стачыць канцы* — ледзь укласціся ў наяўныя грашовыя сродкі. *Ён там мала палучаў дзеньгі, так што елі сточыш канцы.* Мішневічы Шум.

СТАШЧА'ЛЫ *прым.* Схуднелы. *Прышоў такі сташчалы, на вайне — ня ў хаця.* Магуны Паст.

СТАШЧА'НЫ *прым.* Тое ж, што і с т а ш ч á л ы. *Сташчаны ён саўсім.* Новіны Нясв.

СТАШЧА'ЦЬ *зак.* Схуднець. *Сташчала мая кароўка.* Магуны Паст.; *параўн.* руск. *отощать* 'тж'.

СТАЮ'ЧЫ *дзеепрым.* Стаячы. *Стаючая вада тут.* Солы Смарг.

СТА'Я I *ж.*, СТА'І *мн.* Загон. *Дайшоў да стаі і назат завярнуўся, стаі пагараў. Двоі стаі, яны могуць быць даўжэйшыя і карочшыя, заўсёды стаямі гаралі.* Жылі Іўеў. *Стая магла праз усе валокі і напалавіны. Жне праз двоя стаяў. Стая — шнур, кусок, палоска — сто мэтраў.* Старыя Трокі Трак. *Стаямі аралі. Адны стаі бульбы пасадзіў.* Старыя Смільгіні Воран. *Стаі — сто крокаў. Двоя стаяў пасеялі. Тэрас звяліся стаі.* Паляцкішкі Воран. *Пашла жаць і тры дні жала адны стаі.* Гемзы Шальч. *Пушов ораті, але двое стаюев прошов, і коні вэльмі помучылісе, мусів покінуті оране. Од нас нэдалеко до склепу, можэ, трое стайёв всёго.* Курашэва Чыж.

СТА'Я II *ж.* Чарада. *Стая гусей.* Альхоўцы Лях. *Стая варон.* Багушэвічы Бярэз.; *параўн.* руск. *стая* 'тж'.

СТАЯ'К I *м.* 1. *буд.* Апорны слуп. *У гумне ставілі стаяк. Мяне гадзілі ставіць стаяк.* Гальшаны Ашм. *Стаякі — слупы. Паставіў стаякі, зрабіў стрэшку і снапы можна класці.* Жылі Іўеў. *У гумне стаяк і шулы.* Ёдупка Шальч. 2. Комін. *Ста-*

*як — частка коміна, стаіць у кухні з боку печы, у верхнюю частку яго ідзе дым.* Кіралі Шчуч. *Труба можа быць і ляжак, і стаяк.* Мыто Лід. *Стаяк — прамы комян без лежака.* Рудня Астравітая Чэрв.

СТАЯ́К II *м.* Тое ж, што і с т а р ч а́ к 1. *У дрэве галоўны корань — стаяк.* Глівін Барыс.

СТАЯ́К III *м. пчал.* Стаячы калодачны вулей. *Стаяк хужэй да раёў.* Валынцы В.-Дзв. *Стаяк на пчол — круглы вуль на суку стаіць, прывязаваецца да дзерава.* Мярэцкія Глыб. *Улей стаяк і ляжак.* Старыя Смільгіні Воран. *Стаяк, калода.* Саланое Віл. *Стаякі стаяць, а ў лежаках мёду болей.* Багушэвічы Бярэз.

СТАЯ́К IV *м.* Тое ж, што і с т а ў п е́ ц 6. *Стаяк і трапачка — лён трапаць.* Жыдзевічы Іўеў. *Былі трапачкі, стаяк — і лён трэпуць.* Грыкені Вільн.

СТАЯ́К V *м.* Тое ж, што і с т а́ ў к а II. Бенякові Воран. *Стаяк — дзевяць снапоў, дзесяты — чапка.* Паляцкішкі Воран.

СТАЯ́К VI *м.* Стаячая калыска. *Дзіця ў стаяку ляжыць.* Ухвала Круп.

СТАЯ́К VII *м.* Тое ж, што і с т а ё н к а. *У стаяк ставілі дзяцей, якія яшчэ ня ходзяць. Збіты з досачак, як апракінутая табурэтка.* Ёдлавічы Брасл. *Стаяк — дзеці малыя стаяць.* Завельцы Астр.

СТАЯ́К VIII *м.* Апорная частка, аснова. *Стаяк у ступе.* Кураполле Паст.

СТАЯ́ЛЫ *прым.* Тое ж, што і с т а ю́ ч ы. *Стаялая вада не можа быць чыстай, няма атходу.* Гемзы Шальч.

СТА́ЯНКА *ж.* Тое ж, што і с т а к а н а́. *Маяш дзяцей, сям'ю, то стаянкі многа. Як маеш свіней, то і стаянкі многа каля іх: трэба і накрышыць, і наварыць, і накарміць.* Міратычы Карэл.

СТАЯ́НКА I *ж.* Тое ж, што і с т а́ ў к а II. *Сорак коп ржы нажыналі, каждая капа — шэсць стаянак, а ў каждай стаянкі па дзесяць снапоў.* Пасіене Лудз.

СТАЯ́НКА II *ж.* Тое ж, што і с т а ё н к а. *Стаянка для дзіцёнка з дзеріва, хто могіць сідзець, хто могіць стаяць.* Мішневічы Шум.

СТАЯ́ЦЬ *незак.* 1. Стаяць. *Стаі ціханька, ня піхайся.* Ёдлавічы Брасл. *Стаю бізвласна.* Гальшаны Ашм. *Чаго вы стаіця? Ты буць дома!* Альхоўка Навагр. *Мы стаём і баёмся.* Ахрэмаўцы Брасл. *Мы цішком стаём.* Кальнішкі Шальч. ▽ *Два стаяць, два ляжаць, адзін ходзя, за пуп водзя — гэта жорны.* Малі Астр. 2. Знаходзіцца ў якім-н. месцы. *Хоць ты стаі пад сасной.* Ёдлавічы Брасл. *Закуска на стале стаіць.* Чуркі Ашм. *Стаём у магазіні.* Лісна В.-Дзв. *На стайні стаяў стаенны конь.* Вузла Мядз. *Авечкі стаяцьмуць у хляве.* Ста-

рое Сяло Зэльв. *Там лух, вада там стаіць.* Стральцы Гродз. *Два тартакі* [лесапілкі] *стаялі, хадзілі на работу. Куфэр у гумне стаіць.* Судэрва Вільн. *Стаіць маленькі дамочак.* Паляцкішкі Воран. *Там наша хата стаяла.* Лоск Валож. *Там капліčка стаяла.* Руднікі Шальч. *Яшчэ гумна стаялі ў нас, як ён прыехаў і паставіў машыну.* Малі Астр. 3. Размяшчацца. *Мы стаялі ў казармах.* Ахрэмаўцы Брасл. *Салдаты стаялі ў Дакудаве, ды спяваюць раненько так хорашо.* Альхоўка Навагр. *Тут стаяў немец, а на тую сторану Шчары стаялі рускія.* Літва Лях. 4. Застацца на полі. *Морква стаяла на полі.* Солы Смарг. 5. Захоўвацца. *Дзелай так — будзіць лепей стаяць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Сцены ў касцёле стаяць, а крышы німа.* Дарава Лях. 6. Сябравацъ. *Мне мамаша гаварыла: «З п'яным хлопчыкам не стой».* Курополле Паст. 7. Рабіцца пышным. *Пад сукенку надзела спадніцу, глядзім — сукенка стаіць.* Старыя Трокі Трак. 8. Знаходзіцца на працы. *Суткі мы стаём, а два — дома.* Гемзы Шальч. *Ён стаяцьме зоўтры.* Малыя Аўцюкі Калінк. ◇ *Стаяць над гробам* — быць блізкім да смерці. *Над гробам стаіць, а яшчэ на дзевак пагладая.* Малі Астр. *Стаяць, як у вятрыня* — выстаўляць сябе напаказ. *Прыбярэцца, прыдзя — і стаіць, як у вятрыня лялька.* Малі Астр. *Як стаю, як стой* — нічога не мець. *Як стаю — усё багатства.* Ахрэмаўцы Брасл. *Як стой, астацца. Усё папалілі, забралі немцы, асталася, як стой.* Валеўка Навагр. *Стаі — ні стаі* — пра безвыніковае чаканне чаго-н. *Стаі — ні стаі — ня дам круп.* Дэгшні Шальч.

СТАЯ'ЧКА *ж.* Тое ж, што і с т а я́ к VI. *Стаячка крывулькай шатаецца (катаецца).* Мішневічы Шум.

СТАЯЧКІ' *мн.* Бабкі. *Жыта ў стаячкі стаўлялі.* Кудзялянцы Шальч.

СТАЯ'ЧЫ *дзеепрым.* Тое ж, што і с т а ю́ ч ы. *Смуга — дзе стаячая вада.* Саланое Віл.

СТАЯ'ЧЫ КАЎНЕ'Р *м.* Стойка. *У фрэнжах стаячы каўнер.* Старыя Трокі Трак.

СТВАЛАВЫ' КО'РАНЬ *м.* Тое ж, што і с т а р ч а́ к 1. Мярэцкія Глыб., Саланое Віл.

СТВАРЫ'ЦЦА *зак.* Арганізавацца. *Калхоз тут стварыўся.* Швэды Вільн.

СТВАРЭ'ННЯ, СТВАРЭ'НЯ *н.* Істота. *Воўк — стварэння разумная і хітрая: паткапаіцца пат хлеў, дзе авечкі, былі случаі, што камінь вывірніць і ўсіх перадушыць, галовы патразаіць.* Саланое Віл. *Піскуны ў нас ест, іх стварэня сюды прыходзяць на нэраст.* Быстрыца Астр. *Конь ест найчысцейшая стварэня.* Руднікі Шальч.

СТВОЛ *м.* 1. Ствол (дрэва). *Ствол — глатка дзерава, бес сукоў.* Кіралі Шчуч. *От росшы, росшы — і ў два ствалы.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Тое ж, што і с т а ў б у́ н І, 1. *Як холад-*

*на, цыбуля пойдзіцца ў ствол.* Ахрэмаўцы Брасл. *Буракі ў ствол пашлі.* Асавец Віл.

СТВО'ЛКА *ж.* Тое ж, што і с т а́ л к а. *Сувой круцім у дзве стволкі.* Стральцы Шальч.

СТЕ'ЖКА *ж. перан.* Прабор у валасах. Азарычы Пін.

СТІ'ЕБОМ *прысл.* Шыўком. *Стіебом шыті.* Курашэва Чыж.

СТІХ *м.* 1. Кароткі адрэзак часу. Курашэва Чыж. 2. у знач. *прысл. стіха́мі.* Часамі. *Стіхамі мніе голова боліт.* Курашэва Чыж.

СТІ'ШАНЫ *дзеепрым.* Прыцішаны (пра гук). *Нэхай радіво будэ стішанэ, то нікого нэ збудіт.* Курашэва Чыж.

СТЛЕЦЬ *зак.* Тое ж, што і с п р э ц ь 2. *Спалавіну льну стлела.* Мсцібава Ваўк.

СТО *ліч.* Сто. ◇ *На сто* — вельмі добра. *Цяпер людзі жывуць на сто.* Ахрэмаўцы Брасл.

СТОВЭ'Ц *м.* Тое ж, што і с т а́ ў к а II. *Ставілі стовэц — дзесяць снопоў.* Хатынічы Ганц.

СТОГ, СТОХ, СТЫГ *м.* 1. Стог. *Стох сена.* Мярэцкія Глыб. *У стазе нашлі іх.* Граўжышкі Ашм. *Сухоя сена возяць у стох.* Лоск Валож. *Селі кала стага і сядзім, за стагом каровы хадзілі.* Кіралі Шчуч. *Круглы — стох, а еслі прадаўгавато, то сцірда.* Альхоўцы Лях. *У стога налажыць сена ўмееш?* Глівін Барыс. *Сено на болоці ў стог складалі.* Смаляніца Пруж. *Стох сатохшы.* Гемзы Шальч. *Яна часта ў стагу ляжыць.* Рагулішкі Даўг. *Вялікі стог, с цэлай лонкі сабірают.* Лука Нараўк. *Крывэй стыг.* Дзмітравічы Кам. 2. Сціртa. *Ячмень у стагі складают.* Крэвені Даўг. 3. Капец. *Стох бульбы.* Мярэцкія Глыб. *Стох бульбы закапаў.* Лісна В.-Дзв. *Бульбу ў стагі хаваюць.* Валынцы В.-Дзв. 4. Укладка дроў. *Нада дровы злажыць у стагі, стог круглы, а клад доўгі.* Ёдлавічы Брасл. *Складаюць у стох дрова.* Міратычы Карэл. 5. *перан.* Стос. *Такія былі стагі кніх.* Саланое Віл.

СТОЖА'РЭСКО *н.* Тое ж, што і с т а ґ а в і́ ш ч а. *Стожарэско робыцця з голяччa.* Дзмітравічы Кам.

СТОЖО'К *м. памянш.* да с т о г 1. *Стожка зробілі.* Смаляніца Пруж.

СТО'ІЛКА *ж.* Тое ж, што і с т а ё н к а. *Дзе стаяў дзіцёнак — стоілка.* Ухвала Круп.

СТО'ІЦЬ *незак.* 1. Каштаваць. *Пальто стоіла дараго.* Паляцкішкі Воран. 2. *безас.* Варта. *На шолкавы* [халат] *грошы ня стоіць порціць.* Вялікае Сяло В.-Дзв. *Пры плоце не стоіць садзіць высаткі.* Мсцібава Ваўк.; *параўн.* руск. *стоить* 'тж'.

СТОЙ, СТА, СТЭ, СТЫ *займ.* Гэты, гэта, гэтыя. *Стой чоловікь. Ста дівчына. Стэ полэ. Сты людэ.* Радастаў Драг.

СТО'ЙКА I *ж.* Тое ж, што і с т а ё н к а. *Стаўляюць дзіця ў стойку, кап троху абмацнела.* Кіралі Шчуч. *Стойка для*

*дзяцей.* Збляны Лід. *Стойкі — што стаіць дзіця.* Лука Нараўк. *Як німа стойкі, то табурэтку перавернеш — і дзіця стаіць.* Баброўнікі Гарад.

СТО'ЙКА II *ж.* Тое ж, што і с т а я ч ы к а ў н е р. *Стойка — стаячы каўнер у аленгерцы, стойка, як у мундзіры.* Мсцібава Ваўк.

СТО'ЙКА III *ж.* Пасудзіна для адстойвання малака. *Ціпер жа стойкі — сміганку сняць.* Філіпаўцы Красл.

СТО'ЙКА IV *гл.* СТО'ЙКІ

СТО'ЙКА ПАТБА'ЛАШНАЯ *ж.* Тое ж, што і с т а я́ к I, 1. *У хлявѐ для баляк стойкі патбалашныя робяць.* Мачаск Бярэз.

СТО'ЙКА ХАДЗЯ'ЧА *ж.* Прыстасаванне, пры дапамозе якога дзеці вучацца хадзіць. *У стойку хадзячу дзіця ставілі.* Дакудава Лід.

СТО'ЙКІ *мн.*, СТО'ЙКА *ж.* Бярвёны, з якіх робяць апорныя слупы. *Стойкі ганілі моллю ў Дараганаў. Стойкі — дзерава танейшая, сплаўлялі ў шахты на патпоры. Стойка — танейшая бервяно, якім змацоўваюць лаўкі.* Вецярэвічы Пух.

СТО'ЙЛА I, СТО'ЙЛО, СТЫ'ЙЛО *н.* 1. Загон (для жывёлы). *Стойла — дзе заганяецца скот у загаратку.* Чуркі Ашм. *Коровы на стыйлы.* Сіманавічы Драг. 2. Больш глыбокае месца ў вадаёме, дзе зімуе рыба. *Натрапіў на стойла рыбы.* Мсцібава Ваўк. 3. Падмосткі пад вулей. *Было стойло для пчол вымошчоно высоко на хвоіне.* Хатынічы Ганц.

СТО'ЙЛА II *н.* Азярод. *Некалі снапы сушылі на стойлах.* Альхоўцы Лях.

СТО'ЙЛА III *н.* ◇ *На стойле* — на корані. *Дзерава на стойле ссохла.* Пацаўшчына Дзятл.

СТОК *м.* Сцёк. *Зрабіў прагон на сток воды.* Навадворцы Васільк.; *параўн.* руск. *сток* 'тж'.

СТОКОНЫ'ТЫСЬ *гл.* СТАКАНІ'ЦЦА

СТОЛ *м.* Стол. *На стале ляжыць.* Грыкені Вільн. *У нас было зямлі, як на гэты стол палоска.* Яніна В.-Дзв. ∇ *Пусці свінню пат стол, дык іна лезіць на стол.* Вузла Мядз. ◇ *Пазваць у стол* — запрасіць у госці. *Пазвалі ў стол.* Кураполле Паст. *Пайсці ў стол* — пайсці ў госці. *Пашлі ў стол ізноўка.* Кураполле Паст. *Быць у стале* — прымаць удзел у частаванні. *А я тады ў стале не была.* Кураполле Паст. *Быць на стале* — сталавацца. *На стале — на свой стол бяру.* Малахоўцы Бар. *У мяне пастух на стале.* Азяраны Раг. *На сваём сталे* — на сваіх харчах. *На сваём стале і на чужых харчах быў.* Рудня Астравітая Чэрв.

СТО'ЛАК *м.* Зэдлік. *Столак ёсць.* Магуны Паст. *На столку сяду і пліту палю.* Мсцібава Ваўк. *На столак сеў.* Нізок Уздз. *Ставят столкі, кладут віндаю браўно, падставят столкі, адзін канец прыкрапят салам (цяжолым браўном), после бе-*

*рут другі канец віндаю, кагда паднімут на ўрайні канца першого, падстаўляют столак.* Лука Нараўк.; *парайн.* польск. *stołek* 'табурэтка'.

СТО'ЛАЧКА *ж. памянш.* Пасмачка. *З трох столачак пляцецца каса.* Мсцібава Ваўк.

СТОЛІ'НДА *ж. экспр.* Худзізна. *Пашла столінда* [на кошку]. Кіралі Шчуч.; *парайн.* літ. *stuolȳs* 'корч'.

СТО'ЛКА, СТО'ЛЬКА *ж.* Тое ж, што і ста́лка. *У дзве столкі — злажыць удвоя палатно.* Старыя Смільгіні Воран. *Ніці трэба злажыць у дзве столкі.* Мсцібава Ваўк. *У дзве столкі злажыла.* Старое Сяло Зэльв. *Складваецца ў дзве столкі і скручваецца свой.* Малышы Лід. *У дзве столкі склаў.* Завельцы Астр. *Пляцёнка ў две столкі на караваі.* Дарава Лях. *У дзве столкі.* Рыбчына Віл. *Сшылі ў дзве столкі хвартух.* Кузьмічы Люб. *У дзве столкі, у тры, чатыры дратву сучуць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Кілька столяк аднаею скуйнóю памяло вязалі!* Новікі Гродз.

СТОЛОВА'ТІСЕ *гл.* СТАЛАВА'ЦЦА

СТОЛО'ВНІК *м.* Хто сталуецца. *Тэпэр нэ хочэмо столовнікуов міеті.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *stołownik* 'тж'.

СТОЛЬ І *ж.* Столь. *Столь выбіў* [вылажыў] *кастрой.* Ахрэмаўцы Брасл. *Падлажы ножніцы пат столь.* Саланое Віл. *Столь, на сталі мала пяску.* Дзяніскавічы Ганц. *На столі ў мяне лён ляжыць.* Малыя Аўцюкі Калінк.

СТОЛЬ ІІ *ж.* Тое ж, што і ста́лка. *Ніткі складаюць у дзве столі, адна столь парвалася.* Кіралі Шчуч.

СТО'ЛЬКА *гл.* СТО'ЛКА

СТО'ЛЬКІ, СТО'ЛЬКА *прысл.* Вельмі многа. *На заламанку зімой ідуць лавіць рыбу: прабіваюць лёт, ставяць сеткі і ловяць столькі рыбы!* Быстрыца Астр. *Столькі мне ня трэбо.* Стральцы Гродз. *Столькі людзей!* Збляны Лід. *На печы ў лучыні столькі прусакоў было!* Малышы Лід. *У некаторай рыбя столькі ікры!* Малахоўцы Бар. *На канюшыне маленькай пшчолаў столькі, гудуць, такі гук!* Швэды Вільн. *Столька адрэзала!* Рудня Астравітая Чэрв.

СТО'ЛЬНІК *м.* Шуфляда. Быстрыца Астр.

СТОЛЬНІ'ЦА *ж.* Тое ж, што і сто́льнік. Азарычы Пін.

СТО'ЛЯ *ж.* Тое ж, што і ста́лка. *Трэба нітку ў дзве столі, стуліў дзве столі і завёў у іголку.* Кіралі Шчуч.

СТО'ЛЯР *м.* Тое ж, што і сталя́р. *Столяр калёса рабіў.* Малахоўцы Бар. *Столяр рабіў сталы, лавы.* Рагулішкі Даўг. *Столяр.* Калясное Міхал. *Столяр вокна робіць.* Баброўнікі Гарад.

СТО'ЛЯРАЎ *прым.* Які належыць столяру. *Столярава жонка прыходзіла.* Номікі Бабіц.

СТОН, СТОНЬ *м.* Утварэнне лядовага покрыва на паверхні вады. *Стон — кагда астанавіцца рака, рыба са ўсей*

*полані ў кулдобы заходзіць.* Беразіно Докш. *Стонь была — вада пакрылася нітаўстым лёдам. Пры стоні, бывае, вада зачархае, бы палачкі, калі вада прымярзаецца палачкамі. Стонь — тонкі лядок, вада чэрхла ў цэбры, у вядрэ і ў ночвах.* Дзяніскавічы Ганц.

СТОНО'ШКА *гл.* СТАНО'ЖКА

СТО'ПКА *ж.* Варыўня. *Бульбу ссыпалі ў стопку, пад адной страхой.* Быстрыца Астр. *Стопка далёка ад хаты.* Ністанішкі Смарг. *Стопка каля хаты.* Пасека Ст.-Дар. *Грошы ў стопцы пад палом схавалі.* Пацаўшчына Дзятл. *Ні пограба німа, ні стопкі.* Сакаўшчына Валож. *У стопцы і картошка, і кадушка капусты.* Збляны Лід.

СТО'ПЭНЬ *м.* Адзнака. *Наш малы в школі добры стопні достае. Як достанэш добры стопэнь, то дам п'ять злоты.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *stopień* 'тж'.

СТО'РАЖ, СТО'РАШ *м.* 1. Вартаўнік. *Выходзіць стораш з брамы.* Гальшаны Ашм. *Адзін стораж старажыць кала кастра, кап іскры ні спалілі. Стаража́ ставяць, яна не старажыла да паўдня.* Груздава Паст. *У канторэ быў сторажам.* Саланое Віл. *Мой тата рабіў у школя сторажам.* Збляны Лід., Дзераўное Стаўб. *А патом стала сторажам.* Альхоўцы Лях. *Старажэ пастаўлялі.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Абходчык. *Стораш даўней на жалезнай дарозе пятнацаць рублей у месяц меў.* Мсцібава Ваўк. 3. *перан.* Колас, які застаўся на полі. *Стораш — колас на зжатай ніве. Старажы асталіся на іржышчы.* Рыбчына Віл.; *парайн.* руск. *сторож* 'вартаўнік'.

СТО'РГНУЦЬ *зак.* Сцягнуць (сутаргай). *Сторгнула яму жылы.* Дакудава Лід.

СТОРОНА' *гл.* СТАРАНА'

СТОРЧ *м.* 1. Тое ж, што і с т а р ч а́ к 1. *У грушэ пашоў натта велькі сторч, у землю пойдзе, як цвік.* Кіралі Шчуч. 2. Тое ж, што і с т а р ч а́ к 2. *Сторч стаіць, вецяр зламаў хвою. Пайду той сторч спілую.* Кіралі Шчуч.

СТОРЧА'ТІ *незак.* 1. Тарчаць. *Грабліе сторчат вбіты граблiском в зэмлю.* Курашэва Чыж. 2. *перан.* Знаходзіцца дзе-н. без справы. *Пушла до сусіеткі і сторчыт чогось там туолько часу.* Курашэва Чыж.

СТО'РЧМА *прысл.* 1. Тое ж, што і с т а н а ў к а́. *Упаў і сторчма стаіць у студні.* Кіралі Шчуч. *Ён сторчма ўпаў.* Кудзялянцы Шальч. 2. Тое ж, што і с т а й м а́. *Сторчма галавой ляцеў.* Кіралі Шчуч.

СТОС *м.* 1. Груда, стос. *Стос ксёнжак ляжыць.* Паляцкішкі Воран.; *парайн.* польск. *stos* 'тж'. 2. у знач. *прысл.* *сто́сам.* Гуртам. *Дзеці стосам ляцяць да мяне ад мацярок.* Вецярэвічы Пух.

СТО'СА *прысл.* Тое ж, што і с т а й м а́. *Стоса звалілася з драбіны.* Саланое Віл.

СТОСІ'Л *м. бат.* Дзівасіл. *Стосіл — дзівасіл, настаіваюць ат балезней.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

СТОЎБ, СТОЎП *м.* 1. *буд.* Апорны слуп. *У нас адрына на стаўбах, а хату ставілі на падрубы.* Стральцы Гродз. *Стоўп, стаўпы нада паставіць. Стаўпы ставяцца на сцяну.* Ахрэмаўцы Брасл. *Стоўп ставілі ля печы і прыкраплялі да яго біла, на якое падвешвалі калубель і прымацоўвалі другоя біла для палатак, дзе спалі.* Рудня Астравітая Чэрв. *На стаўбэві святло.* Лука Нараўк. ▽ *Высокі, як стоўп.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Тое ж, што і с т о с 1. *Напякла бліноў тры стаўбы, стоўб бліноў.* Азяраны Раг. *Стоўпы стаялі красівенных платкоў* [у магазіне]. Малыя Аўцюкі Калінк.; *параўн.* руск. *столб* 'слуп'.

СТОЎБУ'Н *гл.* СТАЎБУ'Н І

СТОЎП І *м.* 1. Тое ж, што і с т а р а н а́ 5. *Стаўпоў у гумне па два з кожнага боку.* Старыя Смільгіні Воран. 2. Запоўнены застаронак. *У адном стаўпе жыта, стоўп гароху, стоўп гаўса — усе стаўпэ ў гумне.* Кіралі Шчуч. *Як у гумне старана заложана, то кажуць: стоўп жыта, стоўп канюшыны, стоўп сена. Наклалі стоўп жыта ў гумне.* Вялікія Баяры Шчуч. *Наложаны астаронак называюць стоўп, стаўпамі.* Стральцы Шальч.

СТОЎП ІІ *м. устар.* Комін. *Стоўп быў у курной хаця — дым выходзя.* Малі Астр.

СТОЎП ІІІ *гл.* СТОЎБ

СТО'ЎПІЦЦА *гл.* СТАЎПІ'ЦЦА

СТО'ЎЧАНЫ *дзеепрым.* Патоўчаны. *Стоўчаныя калапні цёрлі.* Латыгаль Віл.

СТОХ *гл.* СТОГ

СТО'ЦЕВЫ *прым.* Стромы. *Стоцевы берах.* Ракаўскія Швянч.; *параўн.* літ. *stãčias* 'тж'.

СТО'ЦЕНЬКІ, СТО'ЦЕНЬКІЙ *прым.* 1. Высокі. *Белыя стоценькія цвяты.* Магуны Паст. 2. Стаячы. *Фрэнч с стоценькім каўнярком і два кручочкі — і звалі шваркі.* Рагулішкі Даўг.; *параўн.* літ. *stãčias* 'стаячы'.

СТО'ЦІ І *прым.* Тое ж, што і с т о́ ц е в ы. *Сласны берах і стоці, прамы такі.* Магуны Паст.; *параўн.* літ. *stãčias* 'тж'.

СТО'ЦІ ІІ *прысл.* 1. Строма. *Гэты дах стоці пастаўлены.* Ёдлавічы Брасл. 2. Тое ж, што і с т а н а ў к а́. *Стоці ставіліся ўпоры кладзяў.* Магуны Паст.; *параўн.* літ. *stačiai* 'тж'.

СТО'ЦІВЫ *гл.* СТАЦІ'ВЫ

СТО'ЦІНЬКІ *прым.* Прамы. *Вядро было драўляная, ручка была стоцінькая, грубаватая.* Магуны Паст.; *параўн.* літ. *stãčias* 'тж'.

СТО'ЦЫ *прысл.* Тое ж, што і с т а н а ў к а́. ◇ *Стоцы стаяць* — стаяць стойма. *Не сядзіцца, стоцы стаіць.* Чычалі Швянч.; *параўн.* літ. *stačiai* 'тж'.

СТОЦЬ І *прысл.* 1. Тое ж, што і с т а н а ў к а́. *Ложма*

*нёс саху, стоць саху паставіў.* Рыбчына Віл. *Стоць стаіць.* Асавец Віл. *Паляцеў стоць.* Саланое Віл. 2. Вертыкальна. *Стоць у зямлю расцець свалавы корань.* Лісна В.-Дзв. *Корань расцець стоць.* Кураполле Паст. 3. Тое ж, што і с т а й м á. *Заваліўся стоць галавой.* Пераброддзе Міёр., Лісна В.-Дзв. *Паляцеў стоць галавой.* Малі Астр. *Як с каня зваліўся, ды стоць галавой.* Груздава Паст. *Паляцеў стоць носам.* Рыбчына Віл. ◇ *Стоць глаза дзяржаць* — глядзець не мігаючы. *Глаза напары, стоць дзержыш, ні міргаюць.* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. *stãčias* 'прамы, стаячы'.

СТОЦЬ II *ж.* Беспарадак. *Такая стоць у хаце — непрыбрана, пасцелі раскіданы.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

СТО'ЦЬВЫ, СТО'ЦЬВА *мн.* Тое ж, што і с т а ў ц ы́. *Стоцьвы былі з дыляў.* Крэва Смарг. *Разаброў стоцьва.* Вязынка Маладз.

СТО'ЦЬМА *прысл.* Тое ж, што і с т а н а ў к á. *Шпілька расшпілілася — і стоцьма ў нагу.* Крэва Смарг. *Стоцьма стаяла заставінка* [дошка], *і я паабівала ногі.* Гемзы Шальч.; *параўн.* літ. *stačiaĩ* 'тж'.

СТО'ЦЬМЫ *прым.* Тое ж, што і с т ó ц е в ы. *Стоцьмая гара каля бэрага ракі. Стоцьмая страха.* Руднікі Шальч.; *параўн.* літ. *stãčias* 'тж'.

СТО'ЦЯ *прысл.* Тое ж, што і с т ó ц і II, 1. *Дзе стоця, там не ўлезям мыць* [бялізну]. Ракаўскія Швянч.; *параўн.* літ. *stačiaĩ* 'тж'.

СТО'ЧАВАЦЬ *незак.* Сшываць. *Сточвая кускі.* Лоск Валож.

СТО'ЧАНЫ *дзеепрым.* Паточаны. *Хацёна ўся сточана чырвякам.* Ахрэмаўцы Брасл.

СТО'ЧКІ *мн.* Месца злучэння дзвюх частак чаго-н. *Пастаў вядро пат сточкі даху, там найболяй ліецца.* Гемзы Шальч.

СТОЧЫ'ТІ *зак.* Патачыць. *Швэды* [шашаль] *сточылі дэрэво, робакі сточылі м'ясо.* Курашэва Чыж.

СТО'ЯЛКА *ж.* Тое ж, што і с т а ё н к а. *У стоялку малых дзяцей ставяць.* Вялікія Баяры Шчуч.

СТРАБІ'ЦІЛІ *мн.* Знішчальнікі. *Страбіцілі ліцяць — мы абратна ў лес.* Вялікае Сяло В.-Дзв.; *параўн.* руск. *истребители* 'тж'.

СТРАБО'К *м. памянш.* Ястраб. *Страбкé лавілі курчат.* Вострава Маст.

СТРА'ВА *ж.* 1. Вараная ежа. *Страва посная.* Ёдлавічы Брасл. *Во шмат стравы наварылі — яда ўсялякая.* Солы Смарг. *Сям'я была вялікая, страву варылі ў вялікіх саганах, у катлах.* Вузла Мядз. *Ласун мой зяць — стравы не есць.* Саланое Віл. *Многа стравы наварана.* Лоск Валож. *Зварыла страву, мушу з'есці.* Кнышэвічы Бáбіц. 2. Разнавіднасць стравы. *На дзяды рабілі сем страў: яешня, каша, чарка, ка-*

*пуста, малако, сыр і што мелі ячнэ.* Кухты Віл. *На дзяды выдаюць стравы: першая — капуста, другая — сяканка, трэцяя — з яёк.* Дакудава Лід. *Сем страў зварыла.* Саланое Віл.

СТРАВІ'ЦЬ I *зак.* Ператравіць. *Стары чалавек не можа стравіць, мала есь.* Гемзы Шальч.

СТРАВІ'ЦЬ II *зак.* Атруціць. *Чэцвера дзеці стравіла, двоя адратавалі.* Парэчча Гродз.

СТРА'ГНУЦЬ *незак.* Вязнуць. *Кално, ногі страгнуць.* Номікі Бабіц.

СТРАДА'ЦЬ, СТРАДА'ТЭ *незак.* Перажываць. *Ён страдаў — Ларыса круціцца.* Лісна В.-Дзв. *Я не страдала без сала, без каровы, усе свае мела.* Кузьмічы Люб. *Страдала трэ роке, ны лыжяла.* Дзмітравічы Кам.; *параўн.* руск. *страдать* 'тж'.

СТРАЖ *м.* Варта. *Поставілі страж нэдалеко, коб ніхто нічого нэ взяв.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *straż* 'тж'.

СТРА'ЖА *ж.* Тое ж, што і с т р а ж. *Мусілі пакінуць стражу.* Гальшаны Ашм.; *параўн.* руск. *стража* 'тж'.

СТРА'ЖАК *м.* Пажарнік. *З нашого сёла одін стражком служыт.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *strażak* 'тж'.

СТРА'ЖНІК *м.* Вартаўнік. *Стражнік быў, там уся пастройка была.* Дзяніскавічы Ганц. *Стражнік — раней, ляснік — пазней* [называлі]. Рудня Астравітая Чэрв. *Коло склепу стражніка поставілі.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *strażnik* 'тж'.

СТРА'ЖНІЦА *ж.* 1. Застава (на граніцы). *Стражніца была.* Саланое Віл. 2. Будынак для каравула. *Стражніца — бутка такая, дзе стаіць караульны на стражы.* Гемзы Шальч.; *параўн.* польск. *strażnica* 'тж'.

СТРАЖ ПОЖА'РНА *ж.* Пажарная каманда. *Як быв пожар, то п'ять стражуов пожарных прыіехало гасіті.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *straż ogniowa* 'тж'.

СТРАЙКАВА'ЦЬ *незак.* Баставаць. *Страйкавалі тады ў Каўнасе.* Чычалі Швянч.; *параўн.* польск. *strejkować,* ням. *streiken* 'тж'.

СТРАКА' *ж.*, СТРО'КІ *мн.* Пятля (вушка) у лапцях. *Лапці з лык, строкі — аборачкі ўцягнены.* Мярэцкія Глыб. *Спіцы ў строкі ўтыркнеш* [як лапці пляцеш]. Беразіно Докш. *Строкі ў лапцях — усуваць вяроўкі.* Груздава Паст. *У строкі ўцягвалі аборачкі і абуваліся ў лапці.* Кураполле Паст.

СТРАКАВА'ЦЬ *незак.* Гізаваць. *Стракуюць каровы, як страке кусаюць.* Парэчча Гродз. *Карова стракуя.* Сакаляны Сакол.

СТРАКАЗА', СТРЫКАЗА', СТРЫКОЗА' *ж.* 1. Страказа. Альба Нясв. *Страказа лятая каля рэчкі.* Дакудава Лід. *Стрыказа над вадой лётае.* Беразіно Докш. 2. Конік. *Страказа, яна шчыкіча, як пачынаюць касіць.* Кіралі Шчуч. *Страказа*

*па траве прыгаіць на пожнях, еслі есць барадаўкі, возьмеш за крылышкі — і прападае барадаўка.* Шкаўна Лудз. 3. *перан.* Шпілька. *Стрыкоза казалі на аграфку.* Азарычы Пін.

СТРАКАТА'ЦЬ *незак.* 1. Сакатаць. *Куры стракочуць.* Мішневічы Шум. 2. Стракатаць. *Чаго так сарока стракочыць?* Беразіно Докш. *Сарока стракоча.* Глівін Барыс. *Сарока стракочыць.* Пасіене Лудз. *Казялкі стракочуць.* Рагулішкі Даўг. 3. *перан.* Гаварыць хутка, без перапынку. *Вот стракоча, як трайда.* Малі Астр.

СТРАКА'ТЫ *прым.* Пярэсты. *Стракaта карова — бела і чорна, бела і чырвона.* Быстрыца Астр. *Мне не вяліся стракатыя каровы, а толькі рыжыя.* Кудзялянцы Шальч. *Такія стракатыя дзве казы.* Грыкені Вільн. *Адзін конь стракаты.* Швэды Вільн.

СТРАКАЦІ'ЗНА *зб. ж.* Вяснушкі. *Стракацізна на твары.* Паляцкішкі Воран. *На твары стракацізну мела. Стракацізны ў яе многа.* Кудзялянцы Шальч.

СТРАКА'ЦЦА *незак.* Апякаць крапівой. *Крапіва стракаіцца.* Мачаск Бярэз., Рагулішкі Даўг.

СТРАКІ'ВА *ж. бат.* Крапіва. *Страківа — бальшая крапіва.* Мішневічы Шум.

СТРАЛ *м.* Стрэл. ∇ *Адным стралам пяць зайцаў не заб'еш.* Малі Астр.

СТРАЛА' *ж.* Тое ж, што і с т р а к а з а́ 1. *Страла над вадой лятае.* Шкаўна Лудз.

СТРАЛЕ'Ц *м.* Паляўнічы. *Стральцы па зайцах ходзяць.* Быстрыца Астр. *Стралец па лесе ходзіць і б'е зайцаў, ліс.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Стралец ахотай займаўся.* Ракаўскія Швянч.

СТРАЛІ'ЦА *ж.* Тое ж, што і с л і с I. *Дзяды іх патпіраюць, а тады паверх гэтыя слупкі кладуць страліцу, а на страліцу вешаяць ключы.* Завельцы Астр.

СТРАЛЬЦЫ' *мн.* Стракозы. *Стральцы больш над вадой.* Быстрыца Астр.

СТРАЛЯВА'ЦЬ *незак.* Страляць. *Дзет хадзіў, стралявау па лесі.* Лайпушкі Ігн.

СТРАЛЯ'ЦЬ *незак.* 1. Страляць. *Пацiснулі* [курок] — *не страляіць.* Завельцы Астр. 2. Расстрэльваць. *Я сказала: «Будзіця яго страляць — і мяне страляйця!»* Перабродзе Міёр. *Стралялі вераб'е.* Дарава Лях. 3. Біць, паліць (пра пярун). *Паля і паля пярун. Рас-парас страляе.* Солы Смарг. *Пярун страляіць.* Магуны Паст. *Пярун страляя.* Жылі Іўеў. 4. *перан.* Гучна лопацца, трэскацца. *Гарох на скварадзе пражаць, ён страляя.* Дакудава Лід.

СТРАМАТА' *ж.* Сорам. *Якая страмата!* Лісна В.-Дзв.

*Кепска штосьці зрабіла, брытка, ой-ей, я зрабіла срамату.* Баброўнікі Гарад.; *параўн.* руск. *срам* 'тж'.

СТРАМБЕ'ЛЬ *м.* 1. Тое ж, што і с т а ў б у н І, 2. *Страмблі лўпіна, страмбель пусты.* Старыя Смільгіні Воран. 2. Рэшткі храпкі з коранем. *Страмбель — ад капусты корань.* Руднікі Шальч. 3. Адростак пяра пасля лінькі птушак. *Страмбель у курыцы, як пёры ліняюць.* Гемзы Шальч.; *параўн.* літ. *stramblỹs* 'сцябло'.

СТРАМБЯ'К *м.* Тое ж, што і с т р а м б е́ л ь 3. *Страмбякі растуць у кур.* Гемзы Шальч.; *параўн.* літ. *stramblỹs* 'сцябло'.

СТРАМБЯЛЁК *м. памянш.* да с т р а м б е́ л ь 3. *Страмбелькі астаюцца ў курэй чорненькія.* Гемзы Шальч.

СТРАМЗІ'ЦЦА *зак. экспр.* Збалавацца. *Зусім страмзілася яна.* Крэва Смарг.

СТРАМІ'ЦЦА, СТРАМІ'ЦА *незак.* 1. Тое ж, што і с р а м і́ ц ц а. *Ён у трусіках пілуе, а я страмлюся.* Гальшаны Ашм. *Страміца ён, не гаворыць да людзей.* Ракаўскія Швянч. 2. Сарамаціцца. *Ні страміцеся і ні хадзіця.* Быстрыца Астр.; *параўн.* руск. *срамиться* 'сарамаціцца'.

СТРАМІ'ЦЬ *незак.* Знеслаўляць. *Вас не хачу страміць.* Замошша Брасл.

СТРАМЛЯ'К *м.* Стрэмка. *Страмляк застраміць.* Жылі Іўеў. *Загнала страмляка ў ногу.* Міратычы Карэл.; *параўн.* літ. *stramlỹs* 'тж'.

СТРА'МНА *прысл.* Сорамна. *Як не стынна, як не страмна!* Ухвала Круп. *Яму страмна, стыдна.* Чычалі Швянч.

СТРАМНЫ' *прым.* Стромы. *Страмная страха.* Старыя Смільгіні Воран.

СТРАМЦІ'ЦЬ *незак. экспр.* Гаварыць недарэчнае. *Страмціць, што і слухаць няма чаго.* Крэва Смарг.

СТРАМЯ'К *м.* Тое ж, што і с т р а м л я́ к. *Страмяк застраміў.* Малахоўцы Бар. *Страмяк загнаў.* Стральцы Гродз. *Страмяка загноў у нагу.* Галубы Маст. *Страмяк загнала ў нагу.* Старыя Смільгіні Воран. *Страмяка загнала ў паляц.* Старое Сяло Зэльв., Малышы Лід.

СТРАМЯ'КА *ж.* Тое ж, што і с т р а м л я́ к. *Страмякі пазаганяюцца ат пожні ў лытку. У пальцы страмяка, зайчым жырам з божыдрэўкам нацёрці і прылажыць — выцягаваець страмяку.* Кіралі Шчуч. *Застраміў страмяку.* Вялікія Баяры Шчуч. *Лазіла ў гароччык, страмяку загнала. Страмяку голкай дастань.* Пацаўшчына Дзятл.

СТРАМЯ'КІ *мн.* Адросткі пер'яў пасля лінькі птушак. *У куры страмякі растуць.* Гемзы Шальч.

СТРАНА'ТКА гл. СТРЫНА'ТКА

СТРАПА' *ж. буд.* Кроквы. *У страпе* [пад крокваміі] *ластаўкі гнёзды ўюць.* Кураполле Паст.; *параўн.* руск. *стропило* 'тж'.

СТРАПА'ЦЬ *зак.* Стаптаць. *Ношкамі страпаюць тваражок* [кураняты]. Граўжышкі Ашм.; *парайн.* літ. *trỹpti* 'таптаць'.

СТРАСА'ЦЦА *незак.* Атрасацца. *Курыца пакупалася ў пяску і страсаецца.* Кураполле Паст.

СТРАСЕ'ННЕ *н. мед.* Страсенне. ◊ *Страсенне мозга, страсенне мазгоў* — страсенне мазгоў. *У яе было страсенне мозга.* Новіны Нясв. *На тройцу набіў яе — страсенне мазгоў было ёй.* Валеўка Навагр.; *парайн.* руск. *сотрясение* 'тж'.

СТРАСЦІ' *зак.* 1. Стрэсці (пра плады). *Вы страсеце гэту грушу, бо вэльмі падне з ее.* Вялікі Краснік Пруж. 2. Вытрасці. *Страсі мешка!* Номікі Бабіц. 3. Змяшаць. *Страсі трасянькі і дай каровам!* Кіралі Шчуч. *Страсуць трасянку і па пластку носяць.* Кудзялянцы Шальч. *Трэба страсці трасянкі.* Ліпнікі Вільн. 4. Пашкодзіць, везучы па дрогкай дарозе. *Ты як вязла мяне, то страсла.* Рагулішкі Даўг.

СТРАСЦІ'СЯ *зак.* Змяшацца. *Сена, салома і страсеца — гэта трасянка.* Чуркі Ашм.

СТРАСЯНУ'ЦЦЯ *зак.* Атрэсціся. *Вышла курыца з логвішча і страсянулася.* Кіралі Шчуч.

СТРАСЯНУ'ЦЬ *зак.* 1. *экспр.* Трасянуць. *Я яе страсяну, то з іе пóтрахі пасыплюцца.* Кіралі Шчуч. 2. *перан.* Скалануць. *Як пачула, мяне страсянула.* Лоск Валож.

СТРА'ТА *ж.* Згуба. *Страта, не тут спамінаючы, як падохня кабан, то вялікая страта.* Гемзы Шальч. *Велька страта — страцілася карова яму.* Кіралі Шчуч.; *парайн.* польск. *strata* 'тж'.

СТРАХ *м.* 1. Страх. *Крыгі рвалі і трактарамі, у тым страху свечку сціснула, і затохла. Са страху вылецеў с хаты.* Едлавічы Брасл. *Расказывалі страхі.* Ахрэмаўцы Брасл. *За вайной жылі ў страху.* Груздава Паст. *Сколькі мы мелі страху.* Лоск Валож. *І было тут страху!* Малышы Лід. *Шаг ступіць да вайка — я рукі апусціў са страху. Шапка паднімаецца са страху.* Вулька Гродз. ∇ *Еслі с тылу страх, то наперадзі німа.* Малі Астр. *У страху вочы вялікія.* Пераброддзе Міёр. 2. Пудзіла. *Паставілі страха ў агародзе, дзе трускаўкі.* Васілевічы Гродз. *Страха поставылы в городы, коб шворабы трускавок ны дзёвблы.* Сіманавічы Драг. 3. Здань. *Моргаўкі ў ваччу, страх паказаўся.* Вялікія Баяры Шчуч. *Страхі здаваліся.* Рыбчына Віл. *Страх не паказаўся ім. Вісельнік павесіцца — страхам здаецца.* Кудзялянцы Шальч. 4. *у знач. прысл.* Страшна. *На яго страх глядзець.* Ахрэмаўцы Брасл. *Страх перэдумаць, такі боль быў.* Крынкі Крын. 5. *у знач. прысл.* Вельмі. *Страх як люблю спяваць!* Ахрэмаўцы Брасл.

СТРАХА', СТРЭ'ХА *ж.* 1. Дах. *Зруб будуем, а страхе яшчэ няма.* Парэчча Гродз. *Страха новая.* Мярэцкія Глыб., Рыбчына Віл. *Кулямі крылі страху, шэсдзесят гот стаяла, халадок*

*летам дзяржала.* Вузла Мядз. *Страха старая, мохам парасла.* Солы Смарг. *Бывая стромая страха і шлапаватая.* Гальшаны Ашм. *Кулём крылі, стрэха гадоў пядзясят стаіць.* Пацаўшчына Дзятл. *Саломенна страха.* Дзяніскавічы Ганц. *Стрэха саломеная. Нет страхі, ні паталка.* Гемзы Шальч. *Пакрыў стрэху чарапіцай.* Вялікія Баяры Шчуч. *Страху крылі кулямі.* Лоск Валож. *Страху пакрылі саломай.* Міратычы Карэл. *Крыць стрэху.* Альхоўцы Лях. *Стрэхі пагнілі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Соплі замерзлі на стрэсі, ужэ с стрэхаў капае.* Баброўнікі Гарад. 2. Застрэшак. *Схавацца пад страху. Пад страхой дошч ні дастаня.* Жодзішкі Смарг. *Пад стрэху хавайся, дошч намочыць.* Малахоўцы Бар. *Страха — пад сценкай, а так — крыша.* Палік Барыс. *Крыша канчаецца, а страха дадолу звісая.* Азяраны Раг. 3. Навес, стрэшка. *Кап паклаў сена пат стрэху?* Альхоўка Навагр.

СТРАХА′ЛКА *гл.* СТРЫХА′ЛКА

СТРАХАНУ′ЦЦА *зак.* Страсануцца. *Ехаў з Баранавіч на ровары, ровар страхануўся — і я перакінуўся.* Дарава Лях.

СТРАХАПУ′ДЫ *мн. зневаж.* Пудзілы. *Што за хлопцы — страхапуды, цягаюць адзін аднаго, лазяць у гароды.* Кузьмічы Люб.

СТРАХАТА′ *ж.* 1. Жуда. *Вот страхата была, як ад халеры ўміралі!* Альхоўцы Лях. *Штось там зрабіласо, страхата!* Навасёлкі Свісл. 2. у знач. *прысл.* Вельмі. *Страхата як разросся жывасіл!* Вецярэвічы Пух.

СТРАХО′ЎКА *гл.* СТРЫХО′ЎКА

СТРАХО′ЦЦЕ, СТРАХАЦЦЁ *н.* Тое ж, што і с т р а х 1. *Страхоцце — гета вайна.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Страхоцце было.* Вялікі Краснік Пруж. *Страхаццё такое, як што гарыць.* Пярэкі В.-Дзв.

СТРА′ЦІЦЦА, СТРА′ЦІЦЦЯ *зак.* 1. Згубіцца. *Страціўся нош, німа чым адрэзаць.* Лоск Валож. 2. Загінуць. *Якое* [парася] — *і страціцца.* Завельцы Астр.

СТРА′ЦІЦЬ *зак.* 1. Згубіць. *Страцілі, во на вуліцы ляжала гэта звяска.* Солы Смарг. *«Чый гэта вяршок такі?» — «Можа, хто страціў?»* Крэва Смарг. *Стары пасадзіў старую і паехаў, а па дарозі страціў старую.* Чуркі Ашм. *Ішла дамоў і дзіця страціла.* Вецярэвічы Пух. *Страціў грошы, шукае цяпер.* Паляцкішкі Воран. *Курачка яйко страціла.* Кудзялянцы Шальч. 2. Пазбавіцца. *Яна страціла рупнасць.* Малі Астр. *Страціў здровя, да нас ездзячы. Карова страціла жуйку.* Гемзы Шальч. 3. Страціць. *Ен не мае руке, страціў на вайне.* Чорная Весь Касцельная Чорна-Беласт. 4. Знішчыць. *Немцы хлопчыка і яе страцілі.* Вецярэвічы Пух. 5. Растраціць. *Страціў — распусціў грошы.* Граўжышкі Ашм.; *параўн.* польск. *stracić* 'страціць, згубіць, панесці страту'.

СТРАЦЭ′НЯ, СТРАЦЭ′НЁ *н.* Знішчэнне. *Лес не дапу-*

*шчалі да страцэня. Нявесткам надаело, рабілі на страцэнё.* Альхоўцы Лях.; *параўн.* польск. *stracenie* 'страта, пакаранне смерцю'.

СТРАЧА'ЦЬ *незак.* Сустракаць. *Як страчаюць маладых, то цёшча пераймае ўсю свадзьбу.* Опса Брасл. *Прыехалі мы ў той калхос, дачка нас страчаіць.* Вузла Мядз. *Прыехалі позна, але нас страчалі.* Дакудава Лід. *Зоя два раза прыходзіла страчаць.* Пасека Ст.-Дар. *Ездзілі яго страчаць.* Пасіене Лудз. ∇ *Па адзежы страчаць, па розуму праважаць.* Вузла Мядз.; *параўн.* руск. *встречать* 'тж'.

СТРАЧО'К, СТРЫЧО'К *м. бат.* Страчок. *Вясной страчкі паяўляюцца.* Беразіно Докш. *Стрычкоў назбірала, звары іх, ці што.* Глівін Барыс.

СТРАЧЫ'ЦЦА, СТРАЧЫ'ЦА *незак.* Тое ж, што і с т р а к а в а́ ц ь. *Каравы строчацца, як утнуць іх бонкі, стракі.* Мсцібава Ваўк. *Строк, як пчала. Укусіць — каровы строчацца і конь.* Масілавічы Сл.

СТРАЧЫ'ЦЬ *незак.* Шыць уручную. *Даўней кудзелю пасцеліш на пасцілку, другой накрыеш і строчыш — так шылі коўдры.* Вузла Мядз.

СТРА'ШКА, СТРА'ШКІ *прысл.* Страшна. *Страшка ў вайну было.* Рудня Чэрв. *Страшкі аднаму ісці дарогаю.* Рудня Астравітая Чэрв.

СТРАШКО' *м., ж.* і *н.* Хто баязлівы. *А я такая страшко, ці мне да людзей бехчы?* Парэчча Гродз.

СТРА'ШНА, СТРА'ШНЕ *прысл.* 1. Тое ж, што і с т р а́ ш к а. *Страшна воткі, хоць ён і ня п'ець.* Чапаеўскі В.-Дзв. *Аднэй, канечна, страшна. Глаза пад лоб — глядзець страшна.* Ахрэмаўцы Брасл. *Аднаму ў лес ісці страшна, баюся, не пайду.* Гемзы Шальч. *У лесі аднэй страшна.* Мярэцкія Глыб., Малькуны Ігн. *Страшна глядзець.* Граўжышкі Ашм. *Страшна аднэй.* Рыбчына Віл. 2. Вельмі. *Страшна ганюся за малочным.* Пузыры Мядз. *Баліць галава страшне.* Гемзы Шальч. *Я страшне люблю, як я бачу, жэ баба ведзе машыну.* Баброўнікі Гарад.

СТРА'ШНЫ *прым.* 1. Страшны. *Нічога страшнога не было.* Лоск Валож. *Сава такая страшная, я відзіўшы.* Рагулішкі Даўг. 2. Агідны. *Страшная рыба была галавач.* Чуркі Ашм. *Рапуха страшная.* Навасёлкі Лід. 3. Які мае дрэнны выгляд. *Які ён страшны быў!* Лоск. Валож. *Была страшная, худая.* Кемялішкі Астр. *Як абярнуўся, во гэта шчака пабіта, чорная* [ён] *страшны.* Валеўка Навагр. 4. Вельмі цяжкі, небяспечны. *У яго страшная хвароба, ногі ў ранах.* Руднікі Шальч. 5. Жудасны. *Страшнымі словамі яго вызываіць.* Ракаўскія Швянч. 6. Чорны, навальнічны (пра хмару). *Туча страшная ідзець.* Валынцы В.-Дзв. *Страшная туча стаяла.* Скрудалена Даўг. 7. Вельмі моцны па ступені праяўлення.

*Страшная бура натходзя.* Завельцы Астр. *Крэпка страшны быў палом рукі.* Едлавічы Брасл. *Гэты гот зіма страшная была.* ◊ *Страшнае дзела* — жах. *А камароў! — вачэй ні разняць, страшнае дзела. Страшнае дзела было, думалі канец свету будзіць.* Чапаеўскі В.-Дзв.

СТРАШО'К *м.* Тое ж, што і страх 2. *Паставіў страшка, палохая пташок.* Вострава Маст.; *парайн.* польск. *straszak* 'жупел, пугач'.

СТРАШЧЫ'ЦЬ *зак.* Страсціць. *Трэба страшчыць ніці і ссукаць.* Каўняны Гродз. *Трэбо страшчыць ніці, у дзве злажыць столькі.* Мсцібава Ваўк.

СТРАШЫ'ДЛА *н.* 1. Тое ж, што і страх 2. *На двор зірну — страшыдла стаіць.* Вецярэвічы Пух. 2. *зневаж.* Хто неахайны, непрыгожы. *Ой, баба, яна такое страшыдла!* Саланое Віл. ∇ *Суконную сукенку злажыла і ходзіць, як страшыдла.* Кіралі Шчуч.; *парайн.* польск. *straszydło* 'пудзіла'.

СТРА'ШЫ'ЦЬ *незак.* Палохаць. *Ты нас страшыш, каб слушалі бацькоў.* Саланое Віл. *Цепер запрацілі — няможна стра́шыць людзей.* Збляны Лід. *Бацька давай нас стра́шыць.* Дарава Лях.

СТРАШЭ'ННА, СТРАШЭ'ННО *прысл.* 1. Вельмі страшна. *Страшэнна, як доў кола* [калом], *як улупіў кола.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Страшэнно было, як людэй білі* [немцы]. Смаляніца Пруж. 2. Тое ж, што і стра́шна 2. *Страшэнно тыпло.* Дзмітравічы Кам. *Падасінавікі ў нас растуць страшэнна.* Саланое Віл.

СТРАШЭ'ННЫ *прым.* Вельмі страшны. *Страшэнны такі буў.* Кузьмічы Люб.

СТРЕ'ЛКА *гл.* СТРЭ'ЛКА V

СТРІСА'НКА *ж.* Трасянка. *Стрісанкі карове дай.* Мішневічы Шум.

СТРО'ГА *прысл.* Строга. *Строга было, сноп украдзіш — і судзілі.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Строга за ліпу было: драць нельзя было, а з ліпы ж дзелалі ушкі, ліпа не рвецца, а лаза слабейшая.* Замошша Брасл.

СТРО'ГІ *прым.* Патрабавальны. *Я ў строгіх руках быў.* Ахрэмаўцы Брасл. *А тата быў строгі, прыдзя ў хату і крычыць: тое не так, тое не так.* Солы Смарг.

СТРО'ІК *м. абрад.* 1. Галаўны ўбор удавы, якая другі раз ідзе замуж. *Як другі раз ідзе ўдава замуш, то кладзе строік — такі быў зроблены каблучок, і прымацоўвалі кветкі, куплялі і клалі, як ішлі ў цэркву.* Міратычы Карэл. 2. Кветка, якая прымацоўвалася да вэлюма маладой. *Да валену клалі кветку, строік такі.* Бабpoўнікі Гарад. 3. Бант з кветкай на касцюме маладога. *Маладому прычаплялі красівы строік — белу кветку.* Баброўнікі Гарад.

СТРО'ІЦЦА *незак.* 1. Будавацца. *І самі строіліся.* Вялі-

кае Сяло В.-Дзв. *Строіцца цяшка было.* Пасіене Лудз. 2. Рыхтавацца. *Калі пойдзеш, нада строіцца. Стройся да нас прыехаць. Мы к свадзьбе строіліся.* Саланое Віл. *Я тожа строілась паласкаць, каб пагода.* Кураполле Паст. *Хазяін у лазні мыяцца, строіцца ў гадавоя свята.* Ракаўскія Швянч. 3. Прыбірацца. *Куды ты строісся?* Груздава Паст.; *парайн.* руск. *строиться* 'будаваць сабе дом', польск. *stroić się* 'прыбірацца'.

СТРО́ІЦЬ, СТРО́ІЦІ *незак.* 1. Будаваць. *Нада строіць хату.* Лісна В.-Дзв. *Строюць дом.* Ахрэмаўцы Брасл. *Яны строяць новы дом.* Груздава Паст. *Дом сам сабе строіць.* Саланое Віл. *У саму войну строілі хату.* Смаляніца Пруж. ▽ *Не бацька строіў, не сын глядзіць* — пра негаспадарлівыя адносіны да чаго-н. Ахрэмаўцы Брасл. *Не строй цэркву, а накармі сірату.* Азяраны Раг. 2. Рабіць. *Яе тата колы строіў.* Старыя Смільгіні Воран. *Трэба строіць вос.* Магуны Паст. *Пужалы строяць на дзікоў.* Пераброддзе Міёр. *Старшы араў, сярэдні строіў усё ў хаці.* Завельцы Астр. *Брама ўстроіна, накрыта, а цяпер строяць ніскія варота.* Палік Барыс. 3. Рамантаваць. *Строіць трэба калёса.* Завельцы Астр. 4. Гатаваць. *Паляніласа сама сабе есці строіць.* Кураполле Паст. *Мне нада строіць халаднік на абет.* Груздава Паст. *Бліны строю я. Сам сабе строіць яду.* Саланое Віл. 5. Спраўляць. *Накупляіць і строіць пасху.* Ахрэмаўцы Брасл. *Хто строіць будзіць тутака свадзьбу?* Саланое Віл. *Яна будзя ксціны строіць.* Ракаўскія Швянч. 6. Рыхтаваць. *Трэбо саганы строіць.* Мсцібава Ваўк. 7. Прыбіраць. *Дачку сваю, вот яны строяць яе.* Груздава Паст. *Купіла куртку, штаны, рубашку — стала строіць яго.* Пераброддзе Міёр. 8. Ставіць (пра спектаклі). *Строілі дайней піесы.* Магуны Паст. ◇ *Строіць смех — (смешку)* — абсмейваць. *Яна строіць смех.* Вецярэвічы Пух. *Ні трэба смешку строіць.* Навасёлкі Свісл. *Строіць кепікі* — кпіць з каго-н., чаго-н. *Яна кепікі строіць.* Вецярэвічы Пух. *Строіць дурня* — прыкідвацца дурнем. *Як яна робя, дурня строя з сябе.* Малі Астр. *Строіць стол* — накрываць на стол. *Я скора строіць стол буду.* Ракаўскія Швянч.; *парайн.* руск. *строить* 'будаваць', польск. *stroić* 'наладжваць, выстройваць'.

СТРО́ЙКА *ж.* Будоўля. *Егдзілі на стройку.* Вострава Маст.; *парайн.* руск. *стройка* 'тж'.

СТРО́ЙНА *прысл.* 1. Утульна. *У іх стройна ў хаці.* Ністанішкі Смарг. 2. Акуратна. *Стройна зроблена.* Груздава Паст. 3. Прыгожа. *А цяпер палядзі, як ходзяць людзі стройна.* Якшыцы Бярэз. 4. Добра. *Пашлі на гуляння, стройна гуляюць.* Ністанішкі Смарг.; *парайн.* польск. *strojnie* 'тж'.

СТРО́ЙНЫ *прым.* 1. Стройны. *Стройная была дзяўчына.* Ахрэмаўцы Брасл. *Дзяцюк быў стройны.* Вузла Мядз. *У яго дачка стройная.* Ністанішкі Смарг. *Дзеўкі былі стройныя.*

Груздава Паст. *Харошы* [хлопец], *красівы, стройны.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Спраўны. *Хаты ў другой вёсцы стройныя, відаць, людзі добра жывуць.* Мацясы Мядз. 3. Прыгожы. *Любата зубы, стройныя зубы. Стройныя фіранкі. Трэба так напаіць пятухоў, што пашлі ў магілу, такія стройныя два пятухі.* Ністанішкі Смарг.; *параўн.* руск. *стройный* 'прыгожы, прапарцыянальнага целаскладу'.

СТРОК I, СТРЭК *м. заал.* 1. Авадзень. *Мы іх* [аваднёў] *страке завем.* Парэчча Гродз. *Строк — гэто велька крылата муха, як укусіць жывіну, то ляціць, як можа.* Навасёлкі Свісл. *Строк садавіцца на каровы, крылы, як ераплан, а тулава долгая.* Кіралі Шчуч. *Строк, як пчала.* Масілавічы Сл. *Строк жаліць каню ў нос.* Малахоўцы Бар. *Строк коням у храпу залазіць.* Лапічы Асіп. *Пакусалі страке каровы.* Міратычы Карэл. *Строкі напалі на каровы.* Азарычы Пін. *Строк нападае на каровы, а на коні — мухі. Як строк кусае, то каровы бягуць невядомо дзе.* Баброўнікі Гарад. *Строкі напалі на коровы, стрэк як укусіт.* Азарычы Пін. 2. Тое ж, што і с т р а к а з а́ 1. *Страке над вадою летаюць.* Засецце Дзятл. *Строк, страке над вадой лётаюць.* Вялікія Баяры Шчуч.

СТРОК II *м.* Тэрмін. *Прыходіт строк, і трэба податок заплатіті.* Курашэва Чыж. ◇ *Строку нэма* — бестэрміновы. Курашэва Чыж.

СТРО'МАЧКА *ж. памянш.* да с т р о́ м к а. *Загнала стромачку ў паляц.* Міратычы Карэл.

СТРОМГАЛО'Ў *прысл.* Стрымгалоў. *Дзве дзяўчата стромгалоў панеслася.* Альхоўка Навагр.

СТРО'МКА *ж.* Тое ж, што і с т р а м л я́ к. *Загнала стромку.* Міратычы Карэл.

СТРО'МКІ *прым.* Тое ж, што і с т р а м н ы́. *Стромкая крыша.* Ахрэмаўцы Брасл. *Стромкая страха.* Магуны Паст., Завельцы Астр., Жодзішкі Смарг., Рудня Астравітая Чэрв. *Стромкая крыша.* Палік Барыс. *Страха стромкая і 'длеглая страха.* Малькуны Ігн. *Стромкі берах.* Быстрыца Астр.

СТРО'МЛЯТІ *незак.* Утыкаць. *Дівісе, грабліе тутака в зэмліе стромляю, як будэш іті назад, то возьмэш.* Курашэва Чыж.

СТРО'МНЫ *прым.* Тое ж, што і с т р а м н ы́. *Стромны і глыбокі берах.* Малькуны Ігн. *Стромны берах.* Старыя Трокі Трак.

СТРО'МЫ *прым.* Тое ж, што і с т р а м н ы́. *Стромая крыша.* Лісна В.-Дзв. *Канава строма, я хацеў апкасіць і пакаціўса.* Парэчча Гродз. *Там стромы берах.* Стральцы Гродз. *Стромая страха лепш, шлапаватая гніе.* Гальшаны Ашм. *На хаце строма страха.* Кіралі Шчуч. *У падоўжняй піле стромыя зубы. У нас робяць стромую страху.* Збляны Лід. *Строма страха.* Дакудава Лід. *Страха стромая. Стромы берах.* На-

васёлкі Лід. *Гара строма. Можа быць строма страха, уклон вялікі — значыць строма.* Дзяніскавічы Ганц. *Стромы дах, застромы.* Гемзы Шальч. *Стромы дах.* Номікі Бабіц. *Стромы берах рэчкі.* Старыя Смільгіні, Паляцкішкі Воран., Навасёлкі Свісл. *Берах як апсечаны — стромы.* Завельцы Астр. *Правы берах стромы.* Галубы Маст. *Стромы берах.* Тухавічы Лях. *Стромы берэх.* Навадворцы Васільк. *Берагі былі стромыя.* Едлавічы Брасл. *Стрэха бывая ніская і стромая. Стромы — як бальшая гара, плоха з'ехаць.* Малахоўцы Бар. *Стромы дах ліепшы, як пляскі, бо лепі вода стіекае.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *stromy* 'тж'.

СТРОНГ, СТРОНК *м. заал.* Фарэль. *Стронк — рыба.* Сапоцкіна Гродз. *Раней тут стронґі плавалі.* Вязынка Маладз. *Стронґі болі жывуць у рэчках, стронґ любіць жывую* [бягучую] *ваду, вырастая за гот да кіля.* Альхоўка Навагр. *Стронґі былі вялікія, раслі да трох кілаграм, белы аш палыскуецца, у длугі пасы.* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *pstrąg* 'тж'.

СТРО'НЦІЦЦА *зак.* Упасці. *Самалёт у Марачанку строніўся.* Руднікі Шальч.

СТРО'НЦІЦЬ *зак.* Пакалечыць. *Я баюся, кап ні стронціць нагу.* Жыдзевічы Іўеў. *Стронцій ґжыбетку.* Старыя Смільгіні Воран. *Руку стронціла.* Гемзы Шальч. *Курыца с курасадні саскакавала і нагу стронціла.* Кураполле Паст.; *парайн.* польск. *strącić* 'збіць'.

СТРОП *м. буд.* 1. Тое ж, што і с т р а п а́. *Аш у строп сена налажыла.* Кураполле Паст. 2. Вільчык. *Строп — верх.* Кураполле Паст. *Строп — верх крышы. Бацян заляцеў на сарай, на строп стаў.* Пасіене Лудз.; *парайн.* польск. *strop* 'скляпенне'.

СТРО'ПІК *м. буд.* Франтон. *Стропік — гэта франтон у хаце, сарае.* Пасіене Лудз.

СТРО'ПКІ *прым.* Тое ж, што і с т р а м н ы́. *Стропкая хата, страху сарвала.* Кураполле Паст.

СТРО'ПСТВА *ж. бат.* Бадзяк. *Стропства — калючая трава, як дзяды, падобна да малачая, ат каўтуна п'юць.* Рыбчына Віл.; *парайн.* літ. *strópti* 'цвярдзець, чарсцвець'.

СТРО'ЎБЕЛЬ *м. метэар.* Вясёлка. *Строўблём называюць тэнчу на небе.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *straublỹs* 'тж'.

СТРОЧЫ'ТІ *незак.* Страляць. *Як ніемці началі с пулім'етуов строчыті, то нэ было дэ подіетісе.* Курашэва Чыж.

СТРУГ, СТРУХ *м. цясл.* Струг. *Струх — кару ачысціць.* Вострава Маст. *Струг мае дзве ручкі.* Пацаўшчына Дзятл. *Струх — стругаць, габляваць гоблікам.* Навасёлкі Лід. *Гэтым стругам нада патачыць тапарыска або чарано да вілаў або да рыдлёўкі.* Гемзы Шальч. *Струх длугі.* Руднікі Шальч. *Дзежку с сярэдзіны чысціш скабёлкай, а зверху — стругам.*

Дзёрнавічы В.-Дзв. *Дзед нагнаў абручы на дзешку, стругам падчасаў троху — і як куплёна дзешка.* Опса Брасл. *Струх — што лыжкі рабілі дзеравяныя.* Жылі Іўеў. *Стругі былі зубы* [драўлянай] *бараны астрыць.* Гемзы Шальч.; *парайн.* руск. *струг* 'тж'.

СТРУ'ГА *ж.* 1. Затока. *У струзе чэрнім палатно.* Мачаск Бярэз. *Струга ад рэчкі атходзіць.* Вецярэвічы Пух. 2. Дрыгвяністае балота. *У струзе ўсё роўна конь увязне. Ня йдзі, тут струга, зямля калышацца.* Мачаск Бярэз. *Струга — грузкае балото, вулезці нельга, яма ў балоце, заплытая торфам.* Пасека Ст.-Дар.

СТРУ'ГАНЫ *дзеепрым.* Ачышчаны. *Струганую картошку добра на гэта.* Нізок Уздз.

СТРУГА'ТІ *незак.* ◇ *Дурня стругаті* — прыкідвацца дурнем. Курашэва Чыж.

СТРУГА'ТЭ *незак.* Крышыць. *Стругатэ картошку.* Дзмітравічы Кам.

СТРУГА'ЦЬ *незак.* Стругаць. *Ня трэба стругаць нажом.* Лоск Валож.; *парайн.* руск. *строгать, стругать* 'тж'.

СТРУДА'ЦЬ *зак.* Стаміцца. *Я так ужо струдала.* Магуны Паст.

СТРУДЗІ'ЦЦА *зак.* Стаміцца ад цяжкай працы. *Я струдзілася, згрызлася.* Граўжышкі Ашм.

СТРУДНІ'ЦЬ *зак. безас.* Знудзіць. *Мяне струдніць, аніколі ні рвала.* Саланое Віл.

СТРУ'ЖКА, СТРУ'ШКА *ж.* Стружка. *Струшка ў нас, што с-пат гобліка выходзіць.* Мыто Лід. *Мне струшкі пахнуць, так я люблю сталярнічаць.* Збляны Лід.

СТРУЖО'К *м. памянш.* да с т р у г. *Стружкі для плотніцкага дзела.* Мельнікі Лудз.

СТРУІ'ЦЬ *зак.* Атруціць. *Струілі ўсю рыбу.* Чуркі Ашм.; *парайн.* польск. *struć* 'тж'.

СТРУЙ *м.* Рэчышча. *Струй — русло ў рацэ.* Цяпінцы Віл.

СТРУК *м.* Струк. *Струк бобу, гароху.* Гемзы Шальч. *Струкі бабовыі.* Лісна В.-Дзв. *Лупілі струкі бобу.* Плябанцы Ашм. *Пашлі дзеці ў струкі; струк бобу, гароху.* Ністанішкі Смарг. *Боп смачны в струках.* Рагулішкі Даўг.

СТРУ'МАНТ, СТРУМЕ'НТ *м.* Інструмент. *Усякі струмант у мяне тут.* Збляны Лід. *Свае струманты аставілі.* Малышы Лід. *Струмантаў прывес.* Саланое Віл.

СТРУМА'ЦЬ *зак.* Стрымаць. ◇ *Струмаць горла* — замаўчаць. *Струмай ты сваё горла!* Паляцкішкі Воран.

СТРУ'МІК *м. памянш.* Струменьчык. *Плыве тоненькі, ціхенькі струмік вады.* Мсцібава Ваўк.; *парайн.* польск. *strumyk* 'ручай'.

СТРУ'МКА *ж.* Тое ж, што і с т р а м л я к. *Струмку выняла.* Валеўка Навагр.

СТРУМЯНЁМ *прысл.* Струменем. *Як велькі жарала ў каровы, малако цячэ струмянём.* Мсцібава Ваўк.

СТРУП *м.* 1. Струп. *Вушы апарылі ў лазні, струпы былі.* Ёдлавічы Брасл. *На назе струпы былі вялікія.* Груздава Паст. *Струп завядзецца і, бывала, вош у струпі.* Вострава Маст. *Ужо паліц прыгаіўся, толькі сядзіць струп.* Гемзы Шальч. 2. Коркі, якія ўтвараюцца пры захворванні залатухай. *Струпэ пойдуць па галаве; як скула ў дзіцяці.* Каўняны Гродз. *У дзіцяці на галаве струпы.* Паляцкішкі Воран. *Струп — як залатуха, вылівает галаву.* Рагулішкі Даўг. 3. Прышч. *Струп на руцэ.* Пацаўшчына Дзятл. *Струпы пашлі.* Гальшаны Ашм. *Натта многа ў галаве струпоў.* Кіралі Шчуч. *Струпэ на целе.* Галубы Маст. ∇ *Ана лезла, як вош пат струп.* Ахрэмаўцы Брасл.; *парайн.* руск. *струп* 'тж'.

СТРУПЛІ'ВЫ *прым.* Пакрыты струпамі. *Струплівыя рукі, на струпах усе.* Азяраны Раг.

СТРУПЛЯЧО'К *м. памянш.* да с т р у п 3. *Струплячкі па целе пашлі.* Альхоўцы Лях.

СТРУПО'К *м. памянш.* Верх чаго-н. *Ворон сів на гольшыну на самый струпок. Наклав сіна в клуні по самый струпок.* Сіманавічы Драг.

СТРУ'П'Я *зб. н.* Струпы. *Пазасыхала струп'я.* Рудня Астравітая Чэрв.

СТРУПЯНЕ'ЦЬ *зак.* Струхлець. *Дрэва струпянела.* Асавец Віл.; *парайн.* літ. *trupėti* 'трухлець'.

СТРУ'СІЦЬ *зак.* Пабаяцца. *Я не струсіла, а ён пабех хавацца.* Рагулішкі Даўг.; *парайн.* руск. *струсить* 'тж'.

СТРУСЦЬ *ж.* Трысцінка ў бёрдзе. *Струсць у бэрдах зламалася.* Ракаўскія Швянч.

СТРУХ *гл.* СТРУГ

СТРУХЛЕ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і с т р у п я н е́ ц ь. *Пень струхлеў.* Старыя Трокі Трак. *Струхлела калода.* Вецярэвічы Пух.

СТРУХНЕ'ЦЬ *зак.* 1. Тое ж, што і с т р у п я н е́ ц ь. *Шалаш увесь струхнеў.* Ахрэмаўцы Брасл. *Струхнеў пень, як порах.* Ністанішкі Смарг. 2. *перан. экспр.* Састарэць. *Струхнелая.* Старыя Трокі Трак.

СТРУ'ХНУЦЬ *зак.* Тое ж, што і с т р у п я н е́ ц ь. *Дрэво можэ струхнуць, парахно з яго сыплецца.* Баброўнікі Гарад.

СТРУХНЯ'ВЫ *прым.* Струхлелы. *Струхнявая дрэва анікуды не гадзіцца, усё струхнеўшы.* Гемзы Шальч.

СТРУЧНЫ' *прым.* Урадлівы. *Стручны боп — умалотны.* Саланое Віл. *Гуркі будуць стручныя, завязі многа.* Лапічы Асіп. *Многа картошкі пад карчом, стручны корч.* Багушэвічы Бярэз. *Стручная картопля.* Рудня Астравітая Чэрв.

СТРУ'ШАНКА *ж.* Тое ж, што і с т р і с а́ н к а. *Трэба*

*стрэсці струшанкі.* Саланое Віл. *Струшанку траслі.* Рыбчына Віл., Вялікія Нястанавічы Лаг.

СТРУ'ШКА *гл.* СТРУ'ЖКА

СТРУ'ШНЯ *ж.* Сумятня. *Як надышла такая струшня, як скінулі цара...* Баброўнікі Гарад.

СТРЫВА'ЦЬ *зак.* Вытрымаць. *Як галава стрывая, штодзень пішучы.* Граўжышкі Ашм.

СТРЫВО'ЖЫЦЦА *зак.* Устрывожыцца. *Я стрывожылася, што яе позна не было, сядзела, чакала, спаць не магла.*Руднікі Шальч.; *парайн.* руск. *встревожиться* 'тж'.

СТРЫВО'ЖЫЦЬ *зак.* Патурбаваць. *Я вас на мінютку стрывожу.* Дакудава Лід.; *парайн.* руск. *потревожить* 'тж'.

СТРЫГАВА'ЦЬ *незак.* Фастрыгаваць. *Буду плаценачку стрыгаваць.* Гайна Лаг.; *парайн.* польск. *fastrygować* 'тж'.

СТРЫ'ГЧЫ, СТРЫ'ХЧЫ, СТРЫ'КЧЫ, СТРЫ'ХЦІ *незак.* 1. Стрыгчы. *Некалі не стрыглі валасоў, калі ішла дзеўка замуш.* Гальшаны Ашм. *Сястра не дала валасы стрыхчы.* Рагулішкі Даўг. *Авечкі стрыгчы.* Грыкені Вільн. *Трэба мне стрыкчы гоўца.* Вострава Маст. *Ня ідзе авечак стрыхці.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Рэзаць што-н. нажніцамі. *Юра любіць стрыхчы паперу. Адай цёцяй ножніцы, не стрыжы штаны!* Ёдлавічы Брасл. 3. Кроіць. *Пакажу вам, як дайней стрыглі рукаў.* Рагулішкі Даўг. ◊ *Стрыгчы (стрыхчы) вушамі* — прыслухоўвацца. *Конь вушамі стаў стрыхчы.* Ёдлавічы Брасл. *Конь стрыжэць вушамі.* Лісна В.-Дзв. *Стрыжэць вушамы.* Мярэцкія Глыб. *Пачуе, дзе не па яго, конь толькі вушамі стрыжэ.* Чуркі Ашм. *Конь стрыжэць ушмі.* Быстрыца Астр. *Конь стрыжэць вушамі.* Магуны Паст. *Стрыжэ конь вушамі.* Пацаўшчына Дзятл. *Нешта конь вушамі стрыжэць, ці пачуў што?* Саланое, Рыбчына Віл. *Конь стрыжэ вушамі.* Навасёлкі Лід. *Конь стрыжэць вушамі.* Беразіно Докш., Мішневічы Шум. *Стрыжэ вушамі* [конь], *можа, чуе што, можа, воўк дзе ляжыць, конь чуткі.* Гемзы Шальч. *Стрыжэ вушамі конь.* Старыя Трокі Трак. *Жарабёнак ушам стрыгець.* Пасіене Лудз. *Стрыжэ вушамі конь.* Лука Нараўк. *Кошка вушымі стрыжэ.* Кіралі Шчуч.

СТРЫЕ'НКА *ж.* Жонка брата бацькі. *Зовіць стрыенка няродную цётку.* Ёдлавічы Брасл. *Майго бацькі брат мне прыходзіць стрый, а жонка яго — стрыенка.* Быстрыца Астр. *Бацькі брат — стрыяш, стрый. Жонка яго — стрыенка.* Жылі Іўеў. *Мамінага дваюраднага брата жонка стрыенка прыходзіцца мне.* Рагулішкі Даўг.; *парайн.* польск. *stryjenka* 'тж'.

СТРЫЕ'ЧНЫ *прым.* 1. Дваюрадны. *Сястра стрыечная. Ягоны брат стрыечны.* Магуны Паст. *Яна мая стрыечная сястра.* Быстрыца Астр. *Стрыечна сястра прыехала, васалей мне, як прыедзе хто. Брата стрыечнага сын прыехаў акрас.* Паляцкішкі Воран. *Мае дзве стрэчныя сястрычкі паехалі ў*

*бежанцы.* Збляны Лід. *Стрыечныя браты і сёстры. Стрыечныя ў другом пакаленні.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Стрыечныя браты памагаюць будавацца.* Старыя Трокі Трак. *Еслі вот мама і маміна сістра, а я і тэй цёткі дачка будзем стрыечныя сёстры.* Індра Красл. 2. Траюрадны. *Мы з Януком стрыечныя браты, а нашы бацькі дваюрадныя.* Чычалі Швянч.; *парайн.* польск. *stryjeczny* 'дваюрадны з боку бацькі'.

СТРЫЖ *м. заал.* Стрыж. *Стрыжы дзелаюць гнёзды ў берэгах, у абрывах, дзе кальер, меньшы хвосцік, чым у ластачкі.* Чарняўскія Лудз.

СТРЫ'ЖАВА *н.* Воўна, састрыжаная з авечкі (авечак) за адзін раз. *Стрыжава — с адной авечкі, з дзесяці авечак. Стрыжава дзесяць кілаграм! Адно стрыжава воўны шчасала. Вясеня стрыжава збітая.* Кураполле Паст.

СТРЫЖАКІ' *мн.* Распалка. *Стрыжакі — палачкі на растопку.* Пераброддзе Міёр.

СТРЫЖАНЁК *м. памянш.* да с т р ы́ ж а н ь 3. *Бакавіны з дзерава на стрыжанькі паб'еш, шчапаеш лучынай, грут высушыш.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *На стрыжанькі як тры пальцы паб'еш круглякі.* Пярэкі В.-Дзв.

СТРЫ'ЖАНЬ, СТРЫ'ЖЭНЬ *м.*, СТРЫЖІ'НЬ *ж.* 1. Стрыжань. *Стрыжань дрэва.* Саланое Віл. *У абалоністай хвоі стрыжань маленькі.* Азяраны Раг. *Стрыжэнь у сасне.* Мярэцкія Глыб. *Стрыжэнь у дзеравя.* Быстрыца Астр. *Стрыжэнь унутры дрэва.* Ракаўскія Швянч. 2. Шчыльная драўніна. *Стрыжінь — гэто такое твердэ, густэ дэрыво, літа* [гадавыя кольцы] *в ёму вэльмы густо. Добрэ дэрыво* [драўніна], *почті одна стрыжінь.* Сіманавічы Драг. 3. Палена. *Прывязуць чурбан з лесу, шчапаюць на стрыжані, а стрыжані шчапалі на лучыну і пплялі карзінкі, удоль шчапалі стрыжані, кап доўгая лучына была.* Ёдлавічы Брасл. *Стрыжэнь з абалоні шчапаюць, са стрыжня лучыну дзеруць. Абалонь сасны шчапалі на стрыжні, а стрыжні дралі на лучыну і пплялі кошыкі, і асвятлялі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Стрыжэнь — як на лучыну шчапалі з дзерава. Сасонку зваліць, разаб'ець кругляк, стрыжні падзелаеш, шчапаеш лучыну.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Стрыжэнь — палена, з яго лучыну дзеруць.* Валынцы В.-Дзв. 4. Асяродак. *Стрыжань у морквы.* Малахоўцы Бар. 5. Тое ж, што і с т р а м б е́ л ь 3. *Адны стрыжні паставаліся ў куры.* Малыя Аўцюкі Калінк. 6. Згустак малака. *Стрыжане падаюц з лымя.* Парэчча Гродз. 7. Цвёрды асяродак нарыва. *Нарыў, а ў ім стрыжэнь.* Завельцы Астр. *Стрыжэнь у скулі сядзеў, бываюць стрыжані.* Валынцы В.-Дзв. *Выдзір стрыжэнь.* Лісна В.-Дзв. *Стрыжэнь у скуле.* Мярэцкія Глыб., Дзёрнавічы В.-Дзв. *Стрыжэнь у скуле, яго добра ўгравацъ нада і выціскаць стрыжэнь.* Кіралі Шчуч. *Як гоіцца* [скула], *скурачкай пакрываецца ма-*

*лодзенькай, стрыжэнь вылазіць.* Дакудава Лід. *Стрыжэнь у нарыве.* Мыто Лід. *Як скула дзе сядзіць, у ёй стрыжэнь ест, трэба прыкладаць, кап ён перагніў, патом даставаць.* Жылі Іўеў. *Скула села, выцісні стрыжань.* Рыбчына Віл. *Чыр, а ўнутры стрыжань.* Малахоўцы Бар. *Скула нарвала і прарвала, толькі стрыжань застаўся.* Гемзы Шальч.

СТРЫЖІ'ННЫЙ, СТРЭЖІ'НЫ *прым.* Які мае шчыльную драўніну. *Добрав стрыжінного дэрыва на хату. Стрыжінна дырывына — густа, твэрда, а оболоныстэ дэрыво мняхкэ.* Сіманавічы Драг. *Стрэжіна сосна.* Радастаў Драг.

СТРЫЖНЁВЫ *прым.* Тое ж, што і стрыжі́нный. *Стрыжнёва хвоя, дзе смалы багато.* Кузьмічы Люб. *Хвоя стрыжнёвая.* Вецярэвічы Пух. *Стрыжнёвая сасна на лучыну.* Чычалі Швянч.

СТРЫЖНЯВА'ТЫ *прым.* Сукаваты. *Стрыжняватае дрэва.* Рыбчына Віл.

СТРЫ'ЖЭНЬ *гл.* СТРЫ'ЖАНЬ

СТРЫЙ *м.* Дзядзька. *Бацькі брат — стрыяшак, стрый.* Жылі Іўеў.; *параўн.* польск. *stryj* 'тж'.

СТРЫКАЗА' *гл.* СТРАКАЗА'

СТРЫКОЗА' *гл.* СТРАКАЗА'

СТРЫ'КЧЫ *гл.* СТРЫ'ГЧЫ

СТРЫМА'ЦЦА *зак.* Спыніцца. *Стрымайся каля нас.* Старыя Смільгіні Воран.

СТРЫМБ *м.* Расшчэп (у дрэве). *Стрымб такі там быў, вайчаня залезла ў той стрымб, і чалавек асвабадзіў тоя вайчаня.* Парэчча Гродз.; *параўн.* літ. *strim̃bas* 'корч'.

СТРЫМБУ'ЛЬ *м.* 1. Тое ж, што і стаўбу́н I, 1. *Стрымбуль вырас у бураках, капусці, цыбуля ў стрымбулі пашла.* Мсцібава Ваўк. 2. Тое ж, што і стаўбу́н I, 2. *Стрымбуль вырас велькі ў сланэчніку.* Вялікія Баяры Шчуч. *Стрымбуль у сланэчніку.* Мсцібава Ваўк. *Ліст адпаў з агурцоў, адні стрымбулі асталіся. Усе лясы, як стрымбулі, стаялі.* Ракаўскія Швянч. *Стрымбуле — расце што-небудзь, веткі велькія.* Пацаўшчына Дзятл. 3. Тое ж, што і страмбе́ль 3. *Пюры біс стрымбулёў мякінькія, чысценькія.* Лоск Валож. *Пёры саскубалі, а стрымбулі выбрасілі, падушка без стрымбулёў.* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. *strim̃bas* 'тж'.

СТРЫМІЕ'ТІ *незак.* Тарчаць. *Сохарыэ в гноёві стрым'ят.* Курашэва Чыж.

СТРЫ'МЛІВАЦЬ *незак.* Спыняць. *Ідзе машына — стрымліваю, не спыняецца.* Гальшаны Ашм. *Натта крываўнік стрымлівая кроў.* Кіралі Шчуч.

СТРЫНА'ТАЧКА *ж. памянш.* да стрына́тка. ▽ *Матка, як стрынатачка, цененькая, неўдаленькая.* Малі Астр.

СТРЫНА'ТКА, СТРАНА'ТКА *ж. заал.* Пліска. *Стрынатка пахожа на жаўранка.* Вязынка Маладз. *Сярод вараб'еў стра-*

*натка, як варабей, пабольшы, сера-жоўты, у карычневы цвет, а чыж краснаваты.* Глівін Барыс.

СТРЫНГЕ́ЛЬ *м. экспр.* Вельмі высокі чалавек. *Стрынгель — велькі чалавек, натта лішне велькі.* Кіралі Шчуч.

СТРЫПЫНІ́ТЫ *зак. экспр.* Аслупянець. *Вона стрыпыніла, ны знала, шо робыты.* Сіманавічы Драг.

СТРЫСЦІ́ЦЬ *зак.* Страсціць. *Стрысціць — у дзве ніткі злажыць.* Рыбчына Віл. *Стрысціць — злучыць дзве ніткі ў адну.* Альба Нясв.

СТРЫХ I *м.* Тое ж, што і страха́ 1. *На стрыху сядзіць птушка.* Кемялішкі Астр.

СТРЫХ II *м.* Тое ж, што і стры́жава. *Першы стрых — адно руно, другі стрых — другое руно.* Вялікія Баяры Шчуч.

СТРЫХАВА́ЦЬ *незак.* Раўняць салому на страсе пры крыцці страхі. *Стрыхуюць салому стрыхалкай.* Быстрыца Астр. *Латы прыбіваюць, саломай крыюць, паплецінкай прыціскаюць і стрыхалкай стрыхуем.* Вецярэвічы Пух.

СТРЫХА́ЛКА, СТРАХА́ЛКА *ж. буд.* Стрыхоўка. *Грабясціну прывяжуць лазінаю, падганяюць, падраўніваюць стрыхалкаю.* Пацаўшчына Дзятл. *Стрыхуюць салому стрыхалкай.* Быстрыца Астр. *Стрыхалка — патпраўлялі страху.* Дакудава Лід. *Расцілалі салому на страсе, страхалкаю падганялі салому.* Збляны Лід. *Стрыхалка — дошчачка раўнаваць салому.* Масілавічы Сл. *Страхалкай падбіваюць салому.* Багушэвічы Бярэз.

СТРЫ́ХАЎКА *ж.* Тое ж, што і стрыха́лка. *Стрыхаўка — як крылі стрэху, то падраўноўвалі салому.* Мсцібава Ваўк. *Стрыхаўкай раўнялі салому.* Лука Нараўк.

СТРЫХА́ЧКА *ж.* Тое ж, што і стрыха́лка. *Стрыхачка была — дошчачка, білі стрэху ёй, раўнавалі стрэху.* Міратычы Карэл.

СТРЫХО́ЎКА, СТРАХО́ЎКА *ж.* Тое ж, што і стрыха́лка. *Крыюць страху, салому стрыхоўкаю раўняюць.* Стральцы Гродз. *Стрыхоўка — страху крыць, яна на зупкох.* Старыя Смільгіні Воран. *Стрыхоўка — дошчачка з зубамі, браў за ручку і біў, падганяў салому.* Дзяніскавічы Ганц. *Саломай крылі страху, страхоўкай раўнавалі.* Гальшаны Ашм. *Страхоўка дзеравянная з ручкай, і падганяеш салому.* Завельцы Астр.

СТРЫ́ХЦІ, СТРЫ́ХЧЫ *гл.* СТРЫ́ГЧЫ

СТРЫЧО́К *гл.* СТРАЧО́К

СТРЫ́Я *ж.* У выразе: *У першай стрыі* — дваюрадныя. *Яны сёстры ў першай стрыі.* Мсцібава Ваўк.

СТРЫ́ЯК *м.* Тое ж, што і стрый. *Стрыяк наш там жыве.* Вялікія Баяры Шчуч.

СТРЫЯ́ШАК *м.* Тое ж, што і стрый. *Стрыяшак — бацькі брат.* Жылі Іўеў.

СТРЭЖІ'НЫ *гл.* СТРЫЖІ'ННЫЙ

СТРЭК *гл.* СТРОК I, 1

СТРЭЛ *м.* Стральба. *Як стрэл піраціх, пашлі далей.* Саланое Віл.

СТРЭ'ЛІЦЬ *зак.* 1. Забіць. *Міліцыя прыехаўшы, хтось лася стрэліў.* Месянцы Брасл. 2. Ударыць. *Стрэліў пярун у дрэва.* Кіралі Шчуч., Старыя Смільгіні Воран. 3. *безас. перан.* Успомніць. *А ні стрэліла нікому, што ў яго парушэня — і памёр.* ∇ *Ластаўка дзе вядзецца ў будове — там пярун ні стрэля.* Ёдупка Шальч.

СТРЭ'ЛКА I *ж.* Тое ж, што і с т р а к а з á 1. *Стрэлкі кала вады літаюць.* Валынцы В.-Дзв. *У стрэлкі дліннае тулава.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Стрэлка ёсць такая, скрылачкі доўганькія.* Солы Смарг. *Стрэлка лятая ўверх і ўніс.* Жодзішкі Смарг., Магуны Паст. *Стрэлкі лётаюць прад дажджом.* Лоск Валож. *Стрэлка паляцела.* Якубова Рас. *Стрэлка ўсё хвост макаіць у ваду.* Рагулішкі Даўг.

СТРЭ'ЛКА II *ж.* Тое ж, што і с т а ў б ý н I, 1. *Цыбуля пашла ў пукі — стрэлкі.* Ёдлавічы Брасл. *Цыбуля пашла ў стрэлкі.* Кіралі Шчуч., Рудня Астравітая Чэрв. *Так много стрэлак на цыбулі. Не задыміла цыбулю, і яна пашла ў стрэлкі.* Альба Нясв. *Цыбуля ў стрэлкі пайшла.* Пасека Ст.-Дар. *У стрэлкі цыбуля пойдзя.* Тухавічы Лях. *Цыбуля ў стрэлкі пашла.* Альхоўцы Лях.

СТРЭ'ЛКА III *ж.* Тое ж, што і с т р а м б é л ь 3. *Стрэлка, стрэлкі ў птушак.* Багушэвічы Бярэз.

СТРЭ'ЛКА IV *ж.* Лядзяш. *Вялікія стрэлкі павіслі на страсе, узяло дзіця стрэлку і смокча.* Альхоўцы Лях. *Стрэлкі вісяць са стрэх, не смокчыця стрэлак.* Малыя Аўцюкі Калінк.

СТРЭ'ЛКА V, СТРЕ'ЛКА *ж.* 1. Тыльны надкапытны сустаў у жывёл, косць гэтага сустава. *Макрэц у каня, у стрэлках ззадзі* [у капытах]. Лука Нараўк. 2. Прамежак у капытах жывёлы. *Стрелка ў каровы загнаілася.* Мішневічы Шум.

СТРЭ'ЛЬБА *ж.* Стрэльба. *Я меў стрэльбу.* Плябанцы Ашм. *У яго стрэльба ест. Пашоў с стрэльбай.* Гемзы Шальч.

СТРЭ'ЛЬНУЦЬ *зак. перан.* Ударыць. *Стрэльнула па мордзі рас.* Малі Астр.

СТРЭМБ *м.* Тое ж, што і с т а р ч á к 2. *Стрэмб — як хвоя зламаяцца, стрэмб стаіц, кажда дзерава як зламаецца — стрэмб.* Парэчча Гродз.; *параўн.* літ. *strimbas* 'корч'.

СТРЭ'МЕЦЬ *ж.* Страла. ∇ *Ак стрэмець, гравелька там ідзе.* Ванелевічы Кап.

СТРЭ'МЗІЦЬ *зак.* Сказаць абы-што. *Стрэмзя што недарэчнае.* Крэва Смарг.

СТРЭ'МКА *ж.* Тое ж, што і с т р а м л я́ к. *Загнала пад ногаць стрэмку.* Рыбчына Віл. *Стрэмку загнала.* Пасека Ст.-Дар. *Мо стрэмка якая ў пальцы?* Вецярэвічы Пух.

СТРЭ'ПАЧ *м.* 1. Мера ільну, роўная двум—чатыром жменям. *Стрэпач — дзве жмені пасля грэбня.* Міратычы Карэл. *Стрэпач — тры жмэні льну, а повесьмо будэ шэсць стрэпачоў.* Азарычы Пін. *Стрэпач бярэш, гэта чатыры жмені.* Тухавічы Лях. 2. Жменя ільну. *Стрэпач — ручэйка, якую трэпяць.* Малыя Аўцюкі Калінк.

СТРЭПЕ'НГЕЛЬ *м.* Тое ж, што і с т а ў б ý н I, 2. *Такой стрэпенгель у ванжайніка.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* літ. strepeñgelis 'тж'.

СТРЭСАНУ'ЦЦА *зак. экспр.* Перасяліцца. *Паставілі новую хату, трэба стрэсануцца на новае места.* Саланое Віл.

СТРЭХ *м.* Тое ж, што і с т р а х á 1. *Стрэх капае.* Альхоўка Навагр. *Стрэх цячэ.* Альхоўцы Лях.

СТРЭ'ХА *гл.* СТРАХА'

СТРЭ'ЦЦА *зак.* Сустрэцца. *Кап як з ім стрэцца.* Малахоўцы Бар. *Стрэнімся, знаюць, што я майстар, просяць, кап што зрабіў.* Збляны Лід.

СТРЭЦЬ *зак.* Сустрэць. *Кап цябе Соня стрэла ля кладбішча!* Малахоўцы Бар. *Кароўку пайду стрэну.* Кайшоўка Карэл. *Жынка яго не стрэла.* Збляны Лід. *Людзей стрэла, з людзьмі ідзе.* Дзяніскавічы Ганц. *Колісь былі воўкі, стрэня ў дарозе.* Малыя Аўцюкі Калінк.

СТРЭ'ЧА *ж.* 1. У выразе: *(У) першуй (первай) стрэчы* — дваюрадныя (браты, сёстры). *Яны дзеці першай стрэчы.* Паляцкішкі Воран. *Бацька і я первай стрэчы.* Альхоўцы Лях. *Браты і сёстры ў першуй стрэчы — дваяродныя.* Кіралі Шчуч. *У першуй стрэчы.* Вялікія Баяры Шчуч. *У першай стрэчы мы з ёй.* Пацаўшчына Дзятл. *Мы з ёй у першай стрэчы.* Хатынічы Ганц. *Мы родныя браты з яго бацькам, а нашыя дзеці ў першай стрэчы.* Гемзы Шальч. *Мы першуй стрэчы братэ.* Каменка Стара Сакол. *Браты первай стрэчы.* Жылі Іўеў. *Мы з ім у первай стрэчы.* Бакшты Іўеў. *У первай стрэчы браты, сёстры — братнія дзеці.* Альхоўка Навагр. 2. У выразе: *(У) другой стрэчы* — траюрадныя (браты, сёстры). *Другой стрэчы мая сястра.* Старыя Смільгіні Воран. *Як бацькі родныя, то дзеці ў первай стрэчы, а як бацькі ў первай стрэчы, то іх дзеці ў другой.* Кіралі Шчуч. *Яны браты ў другой стрэчы.* Альхоўцы Лях. *Пашчытай, у якой яны стрэчы? У другой стрэчы пажаніліся, бліска свае.* Вецярэвічы Пух. *Браты і сёстры ў другой стрэчы.* Гемзы Шальч. 3. У выразах: *У трэцяй стрэчы, у трэцюм стрэчы* — траюрадныя (браты, сёстры). *Дайней фамілію прызнавалі ў трэцяй стрэчы.* Кіралі Шчуч. *У трэцюм стрэчы.* Вецярэвічы Пух.

СТРЭ'ЧНЫ *прым.* Тое ж, што і с т р ы é ч н ы 1. *Майго бацькі стрэчныя браты.* Крэва Смарг. *Брат стрэчны.* Вялікія Баяры Шчуч. *Стрэчны брат прыходзіў.* Лоск Валож. *Яго брат стрэчны быў у Маскве.* Навасёлкі Лід. *Стрэчны брат,*

*сястра.* Паляцкішкі Воран. *Стрэчны брат.* Вострава Маст., Ванелевічы Кап. *Брат стрэчны служыў у Мінску.* Стральцы Шальч. *Стрэчныя браты.* Альхоўцы Лях. *Стрэчныя браты, сёстры.* Гемзы Шальч.

СТРЭ'ШКА *ж.* Тое ж, што і с т р а х á 3. *Рабілі стрэшку над сенам, ніяк ні называлася, толькі стрэшка.* Жодзішкі Смарг. *Стрэшка на чатырох слупкох. Стажар'я са стрэшкай.* Рыбчына Віл.

СТРЭ'ШНІЦА *ж.* Тое ж, што і с т р а х á 1. *Радзіва вынішшы, на стрэшніцы паставіўшы.* Вялікае Сяло В.-Дзв.

СТРЭ'ШЧАНЫ *дзеепрым.* Складзены. *Стрэшчаныя ніці сукаюць.* Мсцібава Ваўк.

СТУ'БЛО *н.* Вялікая гразь у час разводдзя. *Напровясні стубло робіцца на дарозе, на полі.* Стары Свержань Стаўб.

СТУГУ'Р *м. экспр.* Стог. *Зламжылі нейкі стугур сена кала дарогі.* Валынцы В.-Дзв.

СТУДЗЁНЫ *гл.* СЦЮДЗЁНЫ

СТУДЗІ'ЦЬ *незак.* 1. Халадзіць, марозіць. *Ехалі на сено, холат студзіць пат паху — скула вылязла.* Малахоўцы Бар. 2. Дзьмухаць (на гарачую страву, на апёк, балячку). *Няхай студзяць суп — вецяр маяць пад насом.* Малі Астр. *Як апарыш, то студзіш, студзіш тоя мейсца.* Малькуны Ігн. ∇ *Каму не баліць, той і ня студзя* — пра чужое гора. Гемзы Шальч.

СТУДЗЯНЕ'Ц *м.* Крыніца ў рэчцы. *Дзе студзянец, там рака не замярзае.* Пасека Ст.-Дар.

СТУ'ДЗЯНІЦА *ж. кулін.* Халадзец. *Студзяніцы навару з ножак свінячых.* Глівін Барыс. *Студзяніца — так даўней казалі.* Рудня Чэрв.

СТУДЗЯ'НКА *ж.* Крыніца. *Ідзі проста — знайдзяш студзянку і вады набяры! Студзянка тут бліска была, вада смачная, алі дзеці закапалі.* Кудзялянцы Шальч.

СТУ'ДЗЯНЬ *м.* Тое ж, што і с т ý д з я н і ц а. *Крышаныя лёхкія, печань, абрэскі разныя, вушы ішлі ў студзянь.* Слабада Мін.

СТУ'ДНЯ *ж.* Калодзеж. *Студня ест ваду браць.* Ракаўскія Шванч. *Студня цэментова, а раней драўляна была.* Кіралі Шчуч. *Пролубы прабівалі, пака не было студні, і па ваду хадзілі.* Солы Смарг. *У студні сверсць, слуп і зруп.* Кемялішкі Астр. *Ля студні вады брала.* Кураполле Паст. *У студню ўпала вядро.* Гемзы Шальч. *У студню ставім малако, усё шчасце, што вада бліска.* Малькуны Ігн. *У студні свіршня.* Старыя Трокі Трак. *Жыравель у студню вядро спускае.* Крынкі Крын. *У студні да сцябла прымацоўваюць ключ, а да яго вешаюць вядро.* Кнышэвічы Бабіц. *Нясём да студні палатно, пранікам пярылі і на слонцы бялілі.* Завельцы Астр. ∇ *Яна, як бык, у студню ідзе піць.* Граўжышкі Ашм.; *гл.* ДАБМ, карта № 241.

СТУДНЯВЫ' *прым.* Калодзежны. *У бачку вада студнявая*

*ў хаці стаіць. Студнявой вадой налівала агуркі, як саліла. Струкі нада студнявой вадой наліваць.* Кураполле Паст.

СТУДНЯКО'П *м.* Хто капае студні, землякоп. *Наняў бацька студнякопа і капаюць студню.* Гемзы Шальч.

СТУДО'ЛА *гл.* СТАДО'ЛА

СТУ'ЖА *ж.* Сцюжа. *Стужа была, а ён паехаў пад Буслаўскі мост.* Саланое Віл. ◇ *У стужу кінуць* — праняць, прабраць холадам. *Мяне ў стужу кініць — я знаю, што рожа.* Вузла Мядз.

СТУЖАВА'НКА *ж.* Коўдра, вытканая з рыззя. Пасека Ст.-Дар.

СТУ'ЖАЧКА *ж. памянш.* да с т у́ ж к а 1. *Прынясла стужачку, ружовенька.* Міратычы Карэл.

СТУ'ЖКА, СТУ'ШКА *ж.* 1. Стужка. *Стужка — гэта лента.* Грыкені Вільн. *Стушку якую дайней упляцець у валасы.* Завельцы Астр. 2. Вузкая палоска лазы, лыка. *Дайней плялі лапці із ліповае стужкі, дралі ліпу і разразана стужкі.* Альхоўка Навагр.

СТУЖЭ'ЦЬ *зак.* Зацвярдзець, падсохнуць (пра гразь). *Сягоння стужэла трохі.* Магуны Паст.

СТУЗЫ' *мн.* Прыстасаванне з жэрдак для падняцця чаго-н. *Дзве жэрткі звязваюцца, і стузамі падымаецца вярхнік с сохамі.* Гемзы Шальч.

СТУ'ЙКІ *мн.* Не запрошаныя людзі на вяселлі. *Стуйкам дайце па кілішку!* Баброўнікі Гарад.

СТУК *выкл.* у знач. *вык.* Пхнуць, штурхнуць. *Я яе стук у бок!* Мацясы Мядз.

СТУК-СТУК *выкл.* у знач. *вык.* Пульсаваць (пра сэрца). *Сэрца слабоя, то стук-стук, а потым нету.* Дружба Мін.

СТУКАЦЕ'НЬ *м.* 1. Бесперапынны моцны стукат. *Як танцуюць, то ажны стукацень ідзець.* Ёдлавічы Брасл. 2. Стралянiна. *Тут былі разрашыўшы вутак страляць — толькі стукацень быў.* Валынцы В.-Дзв.

СТУКАЦЕ'ЦЬ *незак.* 1. Стукаць. *Ты ўжо стукаціш у хату?* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Страляць. *А тут стукацяць кругом.* Альхоўка Навагр.

СТУ'КАЦЦА *незак.* 1. Стукаць у дзверы, акно з якой-н. мэтай. *Чуем — стукаецца нехта пад акно.* Завельцы Астр. 2. Чокацца. *Як п'юць, то стукаюцца чаркамі.* Саланое Віл.

СТУ'КАЦЬ *незак.* 1. Рабіць, утвараць стук. *Нешта стукая на дварэ.* Малі Астр. 2. Тое ж, што і с т у́ к а ц ц а 1. *Нехта стукае ў дзверы, ідзі адчыні!* Гальшаны Ашм.

СТУ'КНУЦЦА *зак.* Чокнуцца. *Як п'юць, стукнуцца, кажуць: «Будзь здароў!»* Ахрэмаўцы Брасл.

СТУ'КНУЦЬ *зак.* 1. Стукнуць. *Я стукну кіем у дзверы — ніхто не адчыніць.* Вузла Мядз. *Дзе што стукнець — яна глядзіць у акно.* Саланое Віл. 2. Выцяць. *Ён стукнуў крэпка*

*яму!* Ахрэмаўцы Брасл. *Стукнула ношкай у сук.* Дружба Мін.

СТУЛ *м.* Крэсла. *Ты стул ні ламай, так стая на ім!* Лісна В.-Дзв.; *парайн.* руск. *стул* 'тж'.

СТУ'ЛІВАЦЦА *незак.* Счэпліваცца. *Я стаяла там, дзе вагоны стуліваюцца.* Ванелевічы Кап.

СТУЛІ'НДА *ж.* і *м.* *зневаж.* Хто сутулаваты. *Стулінда — хто ходзя стуліўшыся. І гэта стулінда пашла ў ягады. Пашла стулінда!* (пра кошку). Кіралі Шчуч.; *парайн.* літ. *stuolỹs* 'сцябло'.

СТУЛІ'ЦЦА *зак.* 1. Ссутуліцца, згорбіцца. *Ціханька стуліўся і пашоў, грып наставіўшы.* Ахрэмаўцы Брасл. *Як яна сказала, так ёш стуліўся, згорбіўся.* Кузьмічы Люб. 2. Прытуліцца адзін да аднаго. *Яны ляглі, стуліліся — і саломка не пралезя міжы іх.* Граўжышкі Ашм. 3. Наблізіцца. ∇ *Пускаяць дзяўчаты на Яна вянкі: чый вянок с каторым стуліцца — за таго замуш пойдзе.* Завельцы Астр.

СТУЛІ'ЦЬ *зак.* 1. Скласці (рукі). *Рукі стуліць і будзе сядзець.* Баброўнікі Гарад. 2. *мед.* Шчыльна злучыць адно з адным (пра разрэз скуры). *Зрабілі яму апарацыю на галаве і стулілі гэта месца і не зашывалі.* Кіралі Шчуч.; *парайн.* польск. *przytulić* 'прытуліць'.

СТУЛЬ *прысл.* Адтуль. *І там так жылі, а стуль выходзілі.* Баброўнікі Гарад. ◇ *Ні стуль ні ссюль* — невядома адкуль, аднекуль. *Мы найкрух ішлі — ні стуль ні ссюль сабака паявіўся!* Мсцібава Ваўк.

СТУЛЬДУ'ПКА *ж.* *бат.* 1. Стрэлкі. *Стульдупка — зёлкі такія растуць.* Груздава Паст. 2. Настой з гэтай травы. *Стульдупка жывот здзержыць, як слабіць жывот.* Груздава Паст.

СТУ'ЛЬЦЫ *мн.* *кулін.* Бульбяныя перапечкі. *Стульцы рабілі так: патаўчы бульбу ў ступі, расплясказь, парэзаць і посным маслам пераліць і печ.* Мішневічы Шум. *Стульцы будзем есці, а я думала, якія гэта стульцы? А гэта бульба зваруная з лупінай, абяруць яе, посным алеям заправяць, пякуць—і елі.* Малькуны Ігн.

СТУЛЯ'ЦЦА *незак.* 1. Зрастацца. *Дрэвы, як растуць з аднаго корня, то стуляюцца вобак.* Ністанішкі Смарг. 2. Сутыкацца. *Галоблі не могуць стуляцца.* Гемзы Шальч. 3. Заплюшчвацца. *Уночы ня сплю, а днём очы стуляюцца.* Граўжышкі Ашм.

СТУЛЯ'ЦЬ *незак.* 1. Згортваць, складваць. *Грыку стулялі за вярхі і вязалі.* Беняконі Воран. 2. Злучаць, аб'ядноўваць. *Дзве баразёнкі стулялі.* Беняконі Воран.

СТУМБЕ'ЛЬ *м.* Цвёрдая частка сцябла. Чычалі Швянч.; *парайн.* літ. дыял. *stumbẽlis*, літар. *stambẽlis* 'тж'.

СТУ'ПА *ж.* Ступа. *Панцак таўклі ў ступі.* Васілевічы Гродз. *Ступа высокая, у ёй авёс аптаўкалі.* Збляны Лід. *Была выдаўбленая ступа і таўкач, бывала, таўчэш ячмень на панцак.*

Кіралі Шчуч. *Ступа зроблена з дрэва.* Саланое Віл. *У ступе мочаць ячмень.* Баброўнікі Гарад. *Авёс таўклі ў ступе.* Гальшаны Ашм. *Колісь в сенях, в кутковi стояла ступа. В ступу всыпалосе збуожэ і товкачом трэба было товчы. Тэпэр мало у кого іе ступа.* Курашэва Чыж. *І бульбу таўклі ў ступя.* Вузла Мядз. *Усё ў ступя таўклі.* Ракаўскія Швянч. *Ступа была таўчы крупу.* Навікі Лудз. *Былі такія ступы, што жыта таўклі.* Гемзы Шальч. *Крупы таўклі ў ступах.* Кудзялянцы Шальч. *І каменныя ступы былі.* Мсцібава Ваўк. ▽ *Баба, як ступа.* Курашэва Чыж. *Век прожыла, як у ступі протоўкла.* Маркоўскае Лельч.

СТУПА′ *ж.* Шаг. *Бывая ступа вуска і ступа шырока.* Жылі Іўеў. ◇ *Мець ступу* — быць быстрым, добрым бегуном. *Добры конь мая ступу, а гэты конь натта ступы ня мая, а калі ня мая ступы, то марудня ідзе.* Гемзы Шальч. *Ехаць, ісці ступою* — павольна рухацца, ісці шагам. *Конь ідзе ступой, коньскай ступой.* Рыбчына Віл. *Ехаў ступою, каня не падганяў.* Малахоўцы Бар. *Лягушка ідзе ступою.* Вецярэвічы Пух. *Знаць ступу* — рухацца ў пэўным рытме. *Як знаіш ступу, тады лёгка танцаваць.* Саланое Віл.

СТУПА′К *м.* 1. Ступня. *Ступак баліць.* Альхоўцы Лях. *Ступак нагі.* Кузьмічы Люб. *След ступака астаўся.* Міратычы Карэл. 2. Мера даўжыні, роўная адной ступні. *Садзяць буракі на весь ступак.* Старое Сяло Зэльв. 3. Частка панчохі, якая надзяваецца на ступню. *Спрадянойі вовны нэ хватіло на ступак.* Курашэва Чыж.

СТУПАНУ′ЦЬ *зак.* Ступіць. *Нага ніжэй забалела — announcement*

СТУПА′ТІ *незак.* Ступаць. *Помаленьку ступайтэ, то нэ впадэтэ.* Курашэва Чыж.

СТУ′ПАЦЬ *зак.* ◇ *Сту́паць ногі* — многа пахадзіць за сваё жыццё. *Мае дачушкі, я ўжо і зубы з'еў, і ногі ступаў, ходзючы за хвастамі* [пасучы быдла]. Оцкавічы Паст.

СТУПЕ′НЬ *м.* Тое ж, што і с т у п а́ к 1. *Во тут на назе ступень, тут падэшва.* Малахоўцы Бар. *Ступень так баліць, што не вытрываць.* Ухвала Круп., Дзёрнавічы В.-Дзв. *Ступень малы.* Рудня Астравітая Чэрв. *Наступіла мне на ступень.* Вузла Мядз.

СТУ′ПІЦА *ж.* 1. Тое ж, што і с т у́ п а. *Ступіца дзерэвяная, таўклі просо.* Вулька Гродз. *Таўкачом таўклі ў ступіцы.* Сонічы Гродз. 2. Калодка (у коле). *Ступіца ў калёсах.* Ухвала Круп. *Ступіца ў коле.* Жылі Іўеў. *Ступіца і ўтулка ў калясе.* Опса Брасл.

СТУПІ′ЦЬ *зак.* 1. Тое ж, што і с т у п а н у́ ц ь. *Дзе ні ступлю — там і змеі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Баліць нага — не магу ступіць.* Малькуны Ігн. *Шаг ступіць да ваўка.* Вулька Гродз. *Ступлю нагамі, а пад нагамі — трэсь!* Малышы Лід.

2. *перан.* Мала зрабіць. *Ты шах ступіў — і хочаш, каб табе заплацілі.* Азяраны Раг.

СТУ'ПКА *ж. памянш.* Невялікая драўляная ці металічная пасудзіна, у якой таўкуць якую-н. прыправу. *Была ступка з дубу калапні тайчы.* Рыбчына Віл. *Ступка з дрэва, а мажджэр мідзяны.* Солы Смарг. *Ступка з ракіціны.* Мярэцкія Глыб. *Ступка с таўкачыкам.* Рудня Астравітая Чэрв. *Ступка медная і таўкачык.* Завельцы Астр. *У ступцы жалуды на каву таўклі.* Магуны Паст. *Ступкі былі тайчы соль, нават і стаіць яна на стале.* Альхоўцы Лях.

СТУПНЯ' *ж.* Тое ж, што і с т у п а́ к 1. *Пад сподам ступні баліць.* Кіралі Шчуч. *Мае ступні парэпаліся, баляц.* Парэчча Гродз.

СТУРБАВА'ЦЬ *зак.* 1. Патрывожыць. *Я цябе, панічка, стурбаваць мушу.* Гемзы Шальч. *Стурбавала вас з места.* Валынцы В.-Дзв. 2. Спыніць, аклікнуць. *Хвароба такая бывая: сонны чалавек падойміцца на страху і ходзіць, яго стурбаваць няможна.* Ракаўскія Швянч.

СТУРГНУ'ЦЬ *зак.* Штурхнуць. *Стургнуў яго ў ваду.* Валынцы В.-Дзв.

СТУ'РЗАЦЬ *зак.* Замучыць. *Стары сабака маладога натта стурзаў, то Віця атмалаціў яго.* Кіралі Шчуч.

СТУТУ'ЛІСТЫ *прым.* Сутулаваты. *Наш бацька стутулісты.* Рыбчына Віл.

СТУ'ХНУЦЬ *зак.* Заплеснець. *Сена стухла, тухлявая стала.* Рагулішкі Даўг. *Сыроя склалі сена—стухла.* Лісна В.-Дзв. *Волкая сена стухла.* Парэчча Гродз. ▽ *Кап ты стухла!* Кураполле Паст.

СТУ'ШКА *гл.* СТУ'ЖКА

СТУШЫ'ЦЬ *зак.* Утушыць. *Як стушыш яжгурой, то акоты* [лускі] *на іх няма.* Рагулішкі Даўг.

СТЫ *гл.* СТОЙ

СТЫ'БРЫЦЬ *зак. экспр.* Украсці. *Глядзі, каб ня стыбрыў ён твой нош!* Валынцы В.-Дзв.

СТЫГ *гл.* СТОГ

СТЫ'ГНУЦЬ *незак.* Астываць. *Картошка будзя стыгнуць.* Гемзы Шальч. *Сала стыгня.* Магуны Паст.

СТЫД *м.* Сорам. *Ой, скольві я стыду працярпела!* Рыбчына Віл. *Са стыда мне дзецца нет дзе.* Ахрэмаўцы Брасл. *Даўней стыду баяліся, грэху і смеху.* Вузла Мядз. ▽ *Стыд не дым — ачу не есь.* Вострава Маст.; *парайн.* руск. *стыд* 'тж'.

СТЫДА'ЦЦА *незак.* Саромецца. *Я стыдаюся людзям сказаць. Людзей стыдаюся — усе пальцамі паказываюць. Стыдаюся ісці, дзе маладзяш якая там танцуя.* Крэва Смарг. *Я стыдаюся прасіць.* Магуны Паст. *Я не бяру — стыдаюся. Я стыдаюся так гаварыць.* Кудзялянцы Шальч. *Стыдаюся да іх хадзіць.* Лоск Валож. *Я стыдаюса, што глухая.* Парэчча

Гродз. *Вянка стыдаюся надзець.* Азаркі-Пудавінка Мядз. *Ужо ладная была, гліну ела. Бывала, стыдаюся, у кішэнь схаваю.* Завельцы Астр. *Ты стыдаісся ці баісся?* Малі Астр. *Ён стыдаецца, што так рабіў.* Ёдлавічы Брасл. *Ён стыдаецца, ні зойдзя.* Дакудава Лід. *Грошы стыдаецца браць.* Паляцкішкі Воран. *Ён натта стыдаўся і гаварыць, і танцаваць.* Саланое Віл. *Яна, каб ні стыдалася, так прышла п сюды.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Як была дзеўкай, стыдалася, што ногі таўстыя.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Матка была гарбатая, але добра танцавала, а сын кажыць «Стыдалася б ты сваім гарбом трасці».* Вузла Мядз.

СЛОВАРЬ БЕЛОРУССКИХ ГОВОРОВ СЕВЕРО-ЗАПАДНОЙ БЕЛОРУССИИ И ЕЕ ПОГРАНИЧЬЯ, т. 4

Издательство «Наука и техника». На белорусском языке

Загадчык рэдакцыі Г. Ф. Юрчанка. Рэдактар Н. М. Царова. Мастак В. В. Сіманенка. Мастацкі рэдактар В. Ф. Грынкевіч. Тэхнічны рэдактар І. В. Валахановіч. Карэктар З. А. Гусельцава

ІБ № 1936

Друкуецца па пастанове РВС АН БССР. Здадзена ў набор 20.02.84. Падпісана ў друк 26.07.84. АТ 15130. Фармат 60×90¹/₁₆. Папера друк. № 2. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 38,50. Ум. фарб.-адб. 38,56. Ул.-выд. арк. 40,3. Тыраж 1100 экз. Заказ № 288. Цана 2 р. 70 к. Выдавецтва «Навука і тэхніка» Акадэміі навук БССР і Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600. Мінск, Ленінскі праспект, 68. Друкарня імя Францыска (Георгія) Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка». 220600. Мінск, Ленінскі праспект, 68.

